# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

## BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

**ZAPISY 36**




**NEW YORK — MIENSK**

**2013**

Выдаецца пры фінансавай дапамозе Фундацыі
імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. З 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

**ADDRESS**
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A.
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

**Кніжная паліца**



**Хроніка**



**Кніга ў Запісах**

**Кастусь Езавітаў „Беларусы ў Латвіі й Літве“**

# АД РЭДАКЦЫІ

Цэнтральная тэма новага нумару альманаху „Беларусаведныя калекцыі“ мае на мэце рэпрэзэнтаваць чытачам разнастайнасьць і разнаплянавасьць эміграцыйнай спадчыны. У тэкстах Натальлі Гардзіенкі й Лявона Карповіча ўпершыню робіцца спроба сыстэматызацыі зьвестак пра беларускія маркі, паштоўкі, значкі, капэрты, ідэнтыфікацыйныя дакумэнты, блянкі, пячаткі й г.д., што прадукаваліся й выкарыстоўваліся на Захадзе для своеасаблівага пазначэньня беларускай прасторы, для папулярызацыі беларусаў і Беларусі. Унікальным дадаткам да тэкстаў выступае мультымэдыйнае выданьне „Беларускія эміграцыйныя калекцыі“, зьмешчанае на далучаным да альманаху дыску. У складзенай на падставе збораў БІНіМу, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны, а таксама беларускіх збораў у Бібліятэцы й архіве Канады базе зьвестак чытач знойдзе выявы й апісаньні 54 значкаў, 145 блянкаў, пячатак і штампаў, 72 ідэнтыфікацыйных дакументаў, 23 арыгінальных беларускіх капэртаў, 60 памятных картак, 68 марак і налепак, 51 значка, жэтона й мэдаля, 209 паштовак, 109 прыкладаў рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў, 81 візітоўкі, 20 твораў мастацтва й 42 рэчаў і іншага. І хаця ў мультымэдыйным даведніку прадстаўленая далёка ня ўся матэрыяльная спадчына беларускага замежжа, аналягаў такога выданьня на сёньня няма ня толькі ў эміграцыі, але і ў мэтраполіі.

Працягам тэмы нумару выступае рубрыка „Архівы й архіваліі“, надзвычай багатая сёлета. Тут прадстаўленыя агляды архіўных збораў зь беларускімі матэрыяламі ды некаторыя дакумэнты, што захоўваюцца ў розных інстытуцыях: Віскансійскім унівэрсытэце (калекцыя здымкаў Луізы Бойд), Інстытуце дасьледаваньняў гісторыі эміграцыі ў Мінэсоце (фонды эміграцыйных дзеячаў Раісы Жук-Грышкевіч, Вітаўта Кіпеля, Васіля Пунтуса, Вацлава Пануцэвіча), Гувэраўскім інстытуце Стэнфардзкага ўнівэрсытэту (архіў Кастуся Езавітава й беларускія ма-

тэрыялы ў фондзе Аляксандра Даліна), Згуртаваньні беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“ (архіў Дзьмітрыя Касмовіча), БІНіМе (рэцэнзія Станіслава Станкевіча). Таксама зьмешчаныя ў рубрыцы матэрыялы з архіву беларускай дасьледніцы ў Славакіі Людмілы Краскоўскай, частка якога захоўваецца ў прыватным зборы літаратуразнаўцы Міколы Труса. Тут можна знайсьці лісты Ўладзімера Жылкі, Міхася Каберца ды іншых, успаміны самой Людмілы пра яе бацькоў, а таксама рэдкія фотаздымкі.

Значная частка матэрыялаў нумару мае своеасаблівы юбілейны характар. Асобнымі тэкстамі ды архіўнымі матэрыяламі адзначаныя ўгодкі нараджэньня Хаіма Суціна, Міколы Абрамчыка, Лявона Рыдлеўскага, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Натальлі Арсеньневай, Масея Сяднёва. Але найбольш матэрыялаў зьвязана з 110-мі ўгодкамі нараджэньня вайсковага й грамадзкага дзеяча Кастуся Езавітава. У нумары публікуецца ўнікальны нядаўна знойдзены дзёньнік з апошніх месяцаў жыцьця дзеяча ў Нямеччыне, ягоная бібліяграфія, а таксама дзьве ці не найбольш значныя працы, якія можна лічыць аднымі зь першых эміграцыязнаўчых дасьледаваньняў „Беларусы ў Латвіі“ й „Беларусы ў Літве“. Апошнія дзьве публікацыі запачаткавалі новую рубрыку „Кніга ў „Запісах“, дзе плянуецца зьмяшчаць важныя эміграцыйныя тэксты, якія пакуль з розных прычынаў немагчыма выдрукаваць асобнымі выданьнямі.

З асобай Кастуся Езавітава зьвязаны й матэрыял у рубрыцы „Выданьні“, дзе публікуецца аповед пра рэдкі часопіс „На чужыне“ й асобныя тэксты зь яго, прысьвечаныя беларусам у Латвіі, Літве, Фінляндыі й Эстоніі. Пабачыўшы сьвет у 1920 г. у Рызе адзіны нумар часопісу ёсьць, бадай, першым беларускім эміграцыязнаўчым выданьнем.

У разьдзеле „Будучыя кнігі“ працягваецца публікацыя артыкулаў Тамаша Грыба. Гэтым разам тут тэкст, прысьвечаны рэлігійнай справе на Беларусі, што быў зьмешчаны на старонках праскага часопісу „Іскры Скарыны“ ў 1934 г.

Сёлетнія „Публікацыі“ зьмяшчаюць літаратуразнаўчыя тэксты Лявона Юрэвіча, у цэнтры ўвагі якіх аповесьць Юркі Віцьбіча „Лшоно Габоа Бійрушалаім“, а таксама погляды на творчасьць Уладзімера Караткевіча эміграцыйнага літаратуразнаўцы Станіслава Станкевіча ды брытанскага беларусіста Арнольда Макміліна. Яшчэ адзін тэкст таго ж аўтара ў рубрыцы прысьвечаны жанру эміграцыйных нэкралёгаў, выяўленьню ў іх вобразу „свайго“.

Надзвычай багатая ў гэтым выпуску альманаху й „Кніжная паліца“. Рэцэнзіі Натальлі Гардзіенкі, Макса Шчура, Ціхана Чарнякевіча, Ган-

ны Кісьліцынай, традыцыйны кніжны агляд зьвяртаюць увагу на найноўшыя кніжныя выданьні, прысьвечаныя эміграцыі або ёй выдадзеныя. Асобна зробленая спроба разгляду эміграцыйнай праблематыкі на старонках неспэцыялізаваных выданьняў.

У разьдзеле „Хроніка“ можна знайсьці інфармацыю пра выставы, прысьвечаныя эміграцыі, што адбываліся ў Менску ў ліпені 2013 г., а таксама пра першы Акт Удзячнасьці БІНіМу, што меў месца ў тым самым годзе й быў скіраваны на гісторыка, які шмат дапамог у падрыхтоўцы да выданьня ўспамінаў эміграцыйных дзеячаў, Аляксандра Пашкевіча.

Разнастайнасьць тэкстаў, аўтараў, ілюстрацыйнага матэрыялу — тое, што чытач знойдзе на старонках новага выпуску „Запісаў БІНіМ“ і што, спадзяемся, зацікавіць і спэцыялістаў, і аматараў эміграцыйнай і мэтрапольнай гісторыі й культуры.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: СУЧАСНЫ СТАН, ПРАБЛЕМЫ Й ПЭРСПЭКТЫВЫ

(даклад, прачытаны на Шостым зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску 23—24 ліпеня 2013 г.)

### Сучасны стан

Сучаснае замежжа зьяўляецца вынікам двух відаў працэсаў, што зьведала Беларусь у XX ст. Па-першае, гэта геапалітычныя працэсы, што прыводзілі да зьмены дзяржаўных межаў, а таксама справакавалі сытуацыю распаду СССР. У выніку ўсяго адзначанага сёньня мы маем беларусаў у Польшчы, Літве, Латвіі ды іншых краінах постсавецкай прасторы. Іх дыяспары налічваюць ужо дзесяцігодзьдзі гісторыі й адзначаюцца выразным патэнцыялам для далейшага разьвіцьця, прынамсі да часу, калі паўстане праблема зьмены пакаленьняў.

Другі від працэсаў, што паўплывалі на фармаваньне беларускага замежжа, — міграцыйныя. Шмат якія сёньняшнія дыяспары зьяўляюцца вынікам дзейнасьці прадстаўнікоў пераважна дзьвюх апошніх хваляў эміграцыі: *паваеннай* — што стварыла асноўныя асяродкі на Захадзе й чые арганізацыі маюць ужо больш як паўвекавую гісторыю, і *„незалежнай“* — эміграцыі з Рэспублікі Беларусь ад пачатку 1990-х і да сёньня. Гэтая апошняя хваля ня толькі стала ствараць уласныя структуры, але й паступова пераняла працу ў „старых“ арганізацыях, дзе старэйшае пакаленьне ўжо складае выразную меншасьць.

Можна казаць пра тое, што сёньня тыя ці іншыя беларускія арганізацыі ёсьць у 26 краінах сьвету: Аргентыне, Аўстраліі, Аўстрыі, Бэльгіі, Ватыкане, Вялікабрытаніі, Грузіі, ЗША, Ізраілі, Казахстане, Канадзе, Кітаі, Кыргызстане, Латвіі, Літве, Малдове, Нідэрляндах, Нямеччыне, Польшчы, Расеі, Узбэкістане, Украіне, Чэхіі, Швайцарыі, Швэцыі, Эстоніі.

Арганізацыі замежжа можна ўмоўна падзяліць на тры групы: „старыя“, „сталыя“ й „маладыя“. Да першай катэгорыі адносяцца тыя, што былі створаныя паваеннай эміграцыяй у заходніх краінах, а таксама асяродкі беларусаў у Польшчы. Гэтыя структуры прайшлі праверку часам. Сярод найбольш дзейных можна назваць Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне й беларускія асяродкі ў Нью-Ёрку, Саўт-Рывэры ды Кліўлэндзе (ЗША), Згуртаваньне беларусаў Канады ды Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі. Згаданыя арганізацыі перажылі балючы пэрыяд зьмены пакаленьняў і на сёньня працягваюць даволі актыўную дзейнасьць пры ўдзеле ўжо прадстаўнікоў „новай“ эміграцыі. Аднак далёка ня ўсе заснаваныя паваеннымі беларусамі арганізацыі дзейнічаюць цяпер. Фактычна, няма ўжо арганізаванай беларускай прысутнасьці ў Францыі, дзе ў сярэдзіне XX ст. быў даволі моцны беларускі асяродак. Выразна зьменшылася дзейнасьць беларусаў у Аўстраліі.

Да „сталых“ арганізацыяў, тых, што маюць ўжо каля двух дзесяцігодзьдзяў гісторыі, можна аднесьці асноўныя суполкі, што ўтварыліся у часе распаду СССР і на постсавецкай прасторы. Гэта Таварыства беларускай культуры Літвы, Латвійскае таварыства беларускай культуры „Сьвітанак“, Беларуска-эстонскае згуртаваньне, Беларуская абшчына ў Малдове, Новасыбірскі цэнтар беларускай культуры, Таварыства беларускай культуры імя Чэрскага ў Іркуцку, Беларускае грамадзка-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу, Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў Маскве, Цэнтар беларускай культуры — музэй М. Багдановіча ў Яраслаўлі ды іншыя. Да гэтай катэгорыі можна дадаць і розныя нацыянальна-культурныя аўтаноміі беларусаў у Расеі, а таксама суполкі ў Казахстане й Украіне. Пераважна гэтыя арганізацыі аб’ядноўваюць людзей, што маюць супольнае савецкае мінулае, і захаваньне беларускасьці для іх — гэта своеасаблівае вяртаньне да каранёў. Тут дзейнічае багата фальклёрных калектываў, праводзяцца фэстывалі, традыцыйныя беларускія сьвяткаваньні (Купальле, Каляды) — асабліва папулярныя ў беларусаў Сыбіры.

„Сталыя“ арганізацыі яшчэ не сутыкнуліся з праблемай зьмены пакаленьняў. Яны маюць пэўны імпульс дзейнасьці, што быў нададзены пры стварэньні й яшчэ ня вычарпаў сябе.

„Маладыя“ арганізацыі зьявіліся ў розных краінах цягам апошняга дзесяцігодзьдзя. Пераважнай большасьцю гэта структуры моладзевыя й часьцей створаныя палітычнай эміграцыяй зь незалежнай Беларусі. Яны вылучаюцца выразнай палітычнай пазыцыяй і імпульсіўнай актыўнасьцю. Сярод іх ёсьць менавіта палітычныя структуры: кампанія

„Разам для Беларусі“, групы „Грамадзянская Беларусь“ (Чэхія), „Трэці шлях“ (Эстонія), „Офіс беларускай палітычнай эміграцыі“ (Антвэрпэн), „Асацыяцыя за мадэрнізацыю“ (Прага) і інш. Ёсьць і грамадзка-культурныя арганізацыі, як, напрыклад, Беларуская нацыянальная памяць, што плённа дзейнічае ў напрамку вяртаньня зь нябыту беларускіх імёнаў і месцаў.

Маладыя арганізацыі не заўсёды вытрымліваюць выпрабаваньне часам. Так, за апошнія дзесяцігодзьдзі ненадоўга зьявіліся й спынілі існаваньне беларускія структуры ў Бразыліі, Баўгарыі, Гішпаніі. Затое цягам апошніх гадоў аформіліся арганізацыі ў новых краінах. Заснаваны Саюз беларусаў Грузіі „Беларускія сябры“, а ў Швайцарыі, дзе, бадай, ніколі не было беларускіх структураў, зьявілася Асацыяцыя беларусаў Швайцарыі. Ёсьць грэка-каталіцкая парафія ў Вэне (Аўстрыя). Грэка-каталіцкія набажэнствы сталі ладзіцца й для беларусаў Калінінграду.

Апошнім часам зьявіліся новыя навукова-адукацыйныя арганізацыі. У Кіеве пры Кіеўскім нацыянальным унівэрсытэце дзейнічае Цэнтар беларускай мовы й культуры імя У. Караткевіча, а ў Шанхаі пры Ўсходнекітайскім пэдагагічным унівэрсытэце распачаў працу Цэнтар вывучэньня Беларусі. Зьявіліся новыя пэрыёдыкі: з ініцыятывы канадыйскіх беларусаў у інтэрнэце можна пабачыць часопіс „Сакавік“, а брытанскія беларусы аднавілі пасьля дзесяцігодзьдзяў перапынку англамоўны *„The Journal of Belarusian Studies“*. Разам з тым дзейнічаюць і створаныя раней навуковыя цэнтры ў Нью-Ёрку, Вільні, Беластоку, Варшаве, Канзасе.

Беларуская дзейнасьць у замежжы набывае й новыя формы. Гэта, відавочна, зьвязана зь дзейнасьцю маладых структураў. Так, у Лёндане група *„Free Belarus Now“* праводзіла беларускі флэш-моб, у Маскве сталі папулярнымі спатканьні „Мова ці кава“. У Празе зьявіўся беларускі хостэл, а ў Кіеве — беларуска-ўкраінская кавярня. Ужо колькі гадоў запар канадыйскі беларускі гурт „Яваровыя людзі“ радуе суродзічаў у сьвеце калядным музычнымі віншаваньнямі. Папулярнымі апошнім часам сталі канцэрты беларускіх „апальных“ гуртоў і выканаўцаў у суседніх краінах...

Важная зьява грамадзтва эпохі глябалізацыі — пашырэньне інфармацыйнай прасторы беларускага замежжа. Сёньня створаныя дзясяткі сайтаў розных суполак. Для наладжваньня сувязі выкарыстоўваюцца сацыяльныя сеткі. У сеціва выкладваецца як інфармацыя пра сучасныя арганізацыі, гэтак і плён дзейнасьці ранейшых. Асабліва карысную

працу робіць інтэрнэт-бібліятэка „Камунікат“, дзе можна знайсьці кнігі й пэрыядычныя выданьні ня толькі сучасныя, але й паваенnай эміграцыі. У прыватнасьці, выстаўленыя амаль цалкам нумары мюнхэнскай газэты „Бацькаўшчына“, часопісу „Божым шляхам“ ды інш.

З аднаго боку, беларусы замежжа адгукаюцца на падзеі ў мэтраполіі, зь іншага — жывуць уласным жыцьцём, вырашаючы свае праблемы, захоўваючы сваю ідэнтычнасьць, папулярызуючы Беларусь у сьвеце.

## Праблемы замежжа

Традыцыйная праблема ўсіх эміграцыйных асяродкаў — асыміляцыя — асабліва актуальная для беларусаў. Дыяспары суседніх народаў: расейцаў, палякаў, украінцаў — уваходзяць у дзясятку найбольш колькасных у сьвеце. Аднак і для іх праблема асыміляцыі была й застаецца актуальнай. Разам з тым, згаданыя дыяспары зь іх разьвітай структурай заўсёды былі прыцягальнымі для нашых суродзічаў. Так, каталікі часта ішлі да палякаў, праваслаўныя — да расейцаў або ўкраінцаў.

Традыцыйна нізкі і ўзровень нацыянальнай самасьвядомасьці саміх мэтрапольных беларусаў, што пры эміграцыі часта прыводзіць да імклівага адрыву іх ад сваіх каранёў і зьнікненьня ў шматнацыянальным моры глябалізаванага грамадзтва. Менавіта таму толькі невялікі адсотак эмігрантаў далучаецца да беларускіх суполак на Захадзе. Вырашэньне праблемы разьвіцьця нацыянальнай самасьвядомасьці залежыць найперш і найбольш ад мэтраполіі, а вось стварэньне беларускіх школ, разьвітай структуры, здольнай прыцягваць „сваіх“ — задача менавіта дыяспараў.

Іншая істотная праблема — разьяднанасьць, падзеленасьць эмігрантаў. У паваенны час найбольш моцны быў палітычны падзел (зьвязаны зь дзейнасьцю палітычных цэнтраў эміграцыі — БНР і БЦР), а сьледам і рэлігійны падзел (БАПЦ — БПЦ). У 1990-х гг. „старая“ эміграцыя даволі насьцярожана ставілася да „новай“, часта нацыянальна маласьвядомай, што адштурхоўвала апошнюю ад тых арганізацый. Гэта быў своеасаблівы „ўзростава-культурны“ падзел.

Сёньня падзел у замежжы мае найперш палітычны характар — стаўленьне да беларускіх уладаў. Яго шмат у чым інсьпіруе сам афіцыйны Менск — і правакуючы палітычную эміграцыю, і абіраючы лаяльныя да сябе суполкі, каб паказаць падтрымку сваёй палітыкі з боку замежжа. Разам з тым, і эміграцыйныя дзеячы, пераймаючы тактыку

мэтраполіі, часта пачынаюць дзяліць эмігрантаў (і наогул беларусаў) на „чэсных“ і „нячэсных“, навешваючы цэтлікі „агентаў КДБ“ усім, хто не прытрымліваецца іх поглядаў або ўдзельнічае ў тых ці іншых варыянтах ўзаемадзеяньня з уладнымі структурамі.

Часта канфлікты ў беларускіх асяродках маюць і іншую аснову, зьвязаную з дачыненьнямі лідэраў, пытаньнямі маёмасьці, высьвятленьнем, „хто лепшы беларус“, і г.д. Якая б ні была прычына падзелу ў арганізацыі, вынікі ніколі ня ідуць на карысьць суполцы. Згадаць хаця б адносна нядаўнія падзеі ў Беларуска-амэрыканскім задзіночаньні, калі адзін з найбольш актыўных яго аддзелаў — нью-ёрскі — вымушаны быў выйсьці са складу арганізацыі й зьмяніць ня толькі назву, але й шукаць іншае месца для сваіх мерапрыемстваў. І гэта пры тым, што ў Нью-Ёрку ад пачатку 1960-х гг. ёсьць грамадзкая беларуская маёмасьць і месца для мерапрыемстваў. Сьледам і нью-ёрская газэта „Беларус“, што мае больш за 60 гадоў гісторыі, страціла сваю старонку „Весткі й паведамленьні“, што пачалі выходзіць асобным бюлетэнем. Здаецца, добра, бо замест аднаго беларускага выданьня маем два, аднак якасьць адной з найстарэйшых беларускіх газэтаў на эміграцыі ў выніку рэзка зьнізілася, а зь яе старонак амаль зьніклі арыгінальныя матэрыялы.

Праблемай застаецца само стаўленьне мэтраполіі да беларусаў у замежжы. Па-ранейшаму не распрацаваная нарматыўна-прававая база дачыненьняў з дыяспарамі, бадай ніхто ў сучаснай Беларусі не займаецца вывучэньнем ні таго, што ўяўляе сабой фэномэн беларускага замежжа, яго гісторыя й культура, ні таго, што адбываецца там сёньня. Не праводзіцца й аналіз рэальных міграцыйных працэсаў. Невядомая ні больш-менш дакладная колькасьць беларускіх суполак, ні сапраўдныя аб’ёмы эміграцыі.

Афіцыйная статыстыка выездаў беларусаў не супадае зь лічбамі іх уезду ў іншыя краіны. Напрыклад, паводле беларускіх зьвестак, у Канаду цягам 2000—2010 гг. выехалі 1046 чалавек[1], а паводле канадыйскай статыстыкі, туды на сталае жыцьцё прыехаў у той самы час 5601 беларус[2]. Аналягічна, паводле беларускіх зьвестак, у Канаду ў 2011 г. эмігравалі 59 чалавек, а паводле канадыйскай статыстыкі, у гэты год у краі-

[1] Падлікі зробленыя на падставе беларускіх статыстычных штогоднікаў.

[2] Падлікі зробленыя на падставе зьвестак, апублікаваных на сайце *Citizenship and Immigration Canada* http://www.cic.gc.ca/english/resources/statistics/index.asp.

ну перабраліся 355 беларусаў. І гэткая ж сытуацыя з іншымі краінамі. А можна яшчэ згадаць невымяральныя плыні працоўных на заробкі ў Расею. А колькі выпускнікоў айчынных ВНУ, асабліва тэхнічных, сёньня працуе ў замежжы? Выглядае, што праблема рэальнай эміграцыі застаецца ня толькі неадрэфлексаванай, але й наогул незаўважанай для афіцыйнага Менску.

Новая эміграцыя — патэнцыйная магчымасьць папаўненьня структураў беларускага замежжа. Аднак ёсьць і пытаньне, наколькі самі гэтыя структуры гатовыя прымаць новых сябраў і што яны ім могуць прапанаваць, якую рэальную дапамогу? Можа, таму й ствараецца багата новых групаў, што старыя не заўсёды гатовыя прымаць нэафітаў? У выніку ў пераважнай большасьці суполак колькасьць рэальных сябраў сёньня не перавышае некалькі дзясяткаў асобаў.

Непапулярнасьць і фактычная маргінальнасьць сучасных эміграцыйных дасьледаваньняў, якія існуюць пераважна ў выглядзе прыватных ініцыятываў асобных дасьледнікаў, што часам выконваюць працу, якой у іншых краінах займаюцца цэлыя інстытуты, — усё гэта прыводзіць да несфармаванасьці ў самім грамадзтве ўяўленьняў пра тое, чым ёсьць беларускае замежжа, які ўнёсак у агульную беларускую гісторыю й культуру яно рабіла й робіць.

Праўда, можна згадаць выхад на дзяржаўныя сродкі з ініцыятывы Міністэрства інфармацыі вялікага выданьня „Беларускае замежжа“ ў 2010 г.[3] Аднак яно, цэнзураванае й заснаванае зусім не на сыстэматычным навуковым вывучэньні дыяспараў, хутчэй сталася своеасаблівай маскіроўкай для жалю годнага стану айчыннага эміграцыязнаўства.

Сёньня няма аналітычных дасьледаваньняў і адносна працэсаў у дзейных беларускіх суполках замежжа. Як зьмяняецца склад удзельнікаў, характар суполак? Якія іх асноўныя праблемы? Няма аналізу — няма разуменьня, а адсюль і адэкватнай канцэпцыі ўзаемадзеяньня. Можа быць, часткова й з гэтай прычыны так шматпакутна каторы год нараджаецца новая праграма „Беларусы ў сьвеце“ ды адкладаецца прыняцьце закону „Аб беларусах за мяжой“.

Тэма эміграцыі й дыяспары на дзяржаўным узроўні сёньня застаецца непажаданай. Да яе ня ставяцца прыхільна ні палітычныя ўлады, ні навуковыя. Дый само грамадзтва да дзейнасьці замежных суайчыньнікаў ставіцца ў найлепшым выпадку абыякава. Раз на чатыры гады, у сувязі са Зьездам беларусаў сьвету, мэтраполія нібыта згадвае, што

[3] Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье. Мінск, 2010. — 479 с.

існуе фэномэн замежжа, але хутка забываецца на яго, як на нешта чужароднае, незразумелае. У выніку культура беларускага замежжа, яе адметнасьці ды здабыткі так і застаюцца малавядомай і неасэнсаванай часткай беларускай культуры, што існуе нібыта сама па сабе, а патэнцыял дыяспараў так і застаецца нявыкарыстаны...

## Пэрспэктывы замежжа

Патэнцыял дыяспараў для мэтраполіяў складана пераацаніць. Грамадзяне, што ў іншай краіне адчуваюць еднасьць з Бацькаўшчынай, — найлепшыя „агенты ўплыву“. Яны ствараюць у замежжы імідж Беларусі, дапамагаюць наладжваць сувязі, урэшце — укладаюць заробленыя сродкі ў разьвіцьцё роднай краіны. Аднак для гэтага суайчыньнікі ў замежжы павінныя адчуваць, што яны патрэбныя мэтраполіі, а ў беларускім варыянце гэтага няма. Дачыненьні з дыяспарай цікавяць афіцыйны Менск хутчэй з мэркантыльнага гледзішча — прыцягненьня сродкаў. Аднак без мэтанакіраванай палітыкі падтрымкі дыяспары ніякай аддачы ня будзе.

Без сыстэматычнага вывучэньня розных аспэктаў гісторыі й сучаснасьці замежжа немагчыма сфармаваць ня толькі дзяржаўную палітыку ў дачыненьні да дыяспараў, але й пачуцьцё еднасьці ў беларускім грамадзтве.

Вырашэньне ўсіх згаданых вышэй праблемаў у дачыненьнях мэтраполіі з дыяспарамі зьвязанае найперш зь неабходнасьцю іх вынясеньня ў пазаідэалягічную, непалітызаваную плашчыню. Нацыянальна-культурнае й іншае ўзаемадзеяньне структураў дыяспары й мэтраполіі маеісьці на падставе агульнага разуменьня нацыянальных каштоўнасьцяў, неабходнасьці стварэньня прывабнага вобразу Беларусі ў сьвеце. Прававы статус замежнага беларуса ня мае залежаць ад яго палітычных поглядаў, таксама як і падтрымка замежных суполак не павінная залежаць ад ляяльнасьці да ўладаў.

У пераадоленьні адчужэньня дыяспараў і мэтраполіі, а таксама разьяднанасьці ў саміх беларускіх асяродках і палягаюць далейшыя пэрспэктывы замежжа.

***Вітаўт Кіпель***
*Haworth*

# ДАСЬЛЕДАВАНЬНЕ ЭМІГРАЦЫІ/ІМІГРАЦЫІ ЯК ЧАСТКА ГІСТОРЫІ НАЦЫІ Й ДЗЯРЖАВЫ БЕЛАРУСЬ

## Развагі пра далейшыя напрамкі вывучэньня тэмы

Трэба сьцьвердзіць, што колькасьць друкаваных матэрыялаў пра эміграцыю/міграцыю зь Беларусі/у Беларусь за мінулую чвэрць стагодзьдзя ўзрасла амаль у геамэтрычнай прагрэсіі. Прыблізна да паловы 1990-х гг. у бібліятэчных каталёгах (кампутары й інтэрнэт яшчэ толькі ўваходзілі ў масавы ўжытак) пад тэматычнай рубрыкай „эміграцыя/іміграцыя“ (у блёку „Беларусіка“) было зь дзясятак пазыцыяў, пераважна эміgranцкага паходжаньня, і тое ў большых бібліятэках.

У цяперашнім жа часе пад тэмай „Беларусь — эміграцыя/іміграцыя“ ў бібліятэчных каталёгах дзясяткі й дзясяткі большых і меншых кнігаў-дасьледаваньняў, успамінаў, зборнікаў дакумэнтаў. Колькасьць артыкулаў у інтэрнэце налічваецца сотнямі. Зьяўляюцца зьвесткі пра беларускую эміграцыю і ў архіўных спадарожніках — зьява новая й вельмі пажаданая.

Тлумачэньне гэткаму стану — найперш тое, што зьнікла псэўдадзяржава БССР, а зь ёй і савецкая цэнзура, якая была асабліва пільная да таго, што беларусам можна вывучаць, а што нельга. Вывучэньне эміграцыі зь Беларусі было прадумана хітра — атаясамленае з падзеямі Другой сусьветнай вайны. А 200-гадовы пэрыяд беларускага жыцьця пад расейскай акупацыяй — пэрыяд, калі пачалася й ішла масавая эміграцыя з нашых земляў, — не дасьледаваўся наогул.

Праўда, як мы даведаліся пазьней з блізкіх кантактаў і супрацоўніцтва зь беларускімі навукоўцамі з Акадэміі навук, пасьля канца БССР у гэтай установе была распрацаваная праграма вывучэньня эміграцыі, ствараліся арганізацыйныя структуры, але наступныя палітычныя падзеі не далі магчымасьці гэтым ініцыятывам цалкам рэалізавацца.

Вывучэньне тэмы эміграцыі/іміграцыі зь Беларусі/у Беларусь значна ажывілася ад апошняга дзесяцігодзьдзя мінулага стагодзьдзя. У дадатак да артыкулаў у „Запісах БІНіМ“, дзе дасьледаваньні пра беларускае замежжа друкаваліся ад пачатку 1950-х гг., у Менску пачалі выходзіць такія сэрыйныя выданьні, як *„Albaruthenica“*, „Кантакты і дыялёгі“. Гэта былі друкі новаарганізаванага Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф. Скарыны — установы, дзе вялікая ўвага адводзілася дасьледаваньню эміграцыі зь Беларусі за мінулыя 250 гадоў. Бясспрэчна, зьяўленьне новай структуры, што абагульняла шырокае вывучэньне мінулага Беларусі, было падзеяй вельмі станоўчай. На жаль, радасьць была кароткатрывалая — установа зачыненая, зьнішчаная.

Сама сабой напрошваецца выснова: дасьледаваньне эміграцыі як фактару ўплыву на эканоміку, дэмаграфію, гісторыю краіны не талеравалася ні адміністрацыяй царскай Расеі, ні цэнзурай БССР, не ўспрымаецца і ўладамі Рэспублікі Беларусь.

І тым ня менш, вывучэньне эміграцыі не спыняецца. Матэрыялы накопліваюцца, будуць зьяўляцца новыя, будуць абагульняцца-сыстэматызавацца (артыкулы Галіны Сяргеевай[1] і Натальлі Гардзіенкі[2] — бясспрэчныя сьведкі прагрэсу ў вывучэньні эміграцыі). І гэткія працэсы, на маю думку, зусім абгрунтаваныя й лягічныя: вывучэньне, асабліва эміграцыі, на сёньня ёсьць імпэратывам у аналізе разьвіцьця нацыі.

Для цэласнага разуменьня сёньняшняга стану Беларусі — „кульгавай“, „сваёй“ эканомікі, зрусыфікаванасьці народу, няўпэўненасьці ў нацыянальным патэнцыяле, няведаньня гісторыі й г.д. і да т.п. — неабходна ў першую чаргу вывучаць русыфікацыйныя працэсы на беларускіх землях у Расейскай імпэрыі (адукацыю, адміністрацыю, ролю праваслаўнай царквы). Але гэтак жа вельмі патрэбна браць пад увагу эміграцыйныя працэсы: на эміграцыю выяжджаў вельмі „баявы“ пласт грамадзтва — змагары-паўстанцы, сяляне-гараджане: будучыя прадпрымальнікі, вынаходнікі, шырокія колы дзяржаўнікаў, як, прыкладам, пасьля Другой сусьветнай вайны. Выезд гэтых актыўных катэгорыяў насельніцтва пазбаўляў народ дынамічнага элемэнту, што ўплывала на далейшае разьвіцьцё нацыі.

[1] Сяргеева, Галіна. Беларуская дыяспара ў нацыянальнай гістарыяграфіі XX стагодзьдзя // Запісы БІНіМ. №25. Нью-Ёрк—Менск, 2001. С. 5—40.

[2] Гардзіенка, Натальля. Беларускія дыяспары: спроба сыстэмнага аналізу // Запісы БІНіМ. №30. Нью-Ёрк—Менск, 2006. С. 187—213.

Наўрад ці можна спадзявацца, што шырокае дасьледаваньне эміграцыі зь Беларусі (у пазьнейшых часах — і іміграцыі ў Беларусь) можа пачацца пры сёньняшняй уладзе на Бацькаўшчыне. Наогул, як выглядае, навукова-дасьледны патэнцыял краіны зьмяншаецца пры цяперашнім кіраўніцтве таксама ў геамэтрычнай прагрэсіі (прыкладам, растрыбушваньне ўсіх дзялянак дзейнасьці нацыянальнай Акадэміі навук).

Адначасова індывідуальныя дасьледаваньні эміграцыі, найчасьцей асацыяваныя ці зь меншымі недзяржаўнымі ўстановамі, ці з эміgranцкімі арганізацыямі, колькасна ўзрастаюць, што дае падставу марыць — пакуль што толькі марыць — аб стварэньні Беларускага дасьледчага цэнтру эміграцыі па-за межамі дзяржавы Беларусь (прыкладам, у Вільні, колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага). Выглядае, што сёньняшняя ўлада Летувіскай дзяржавы ставіцца досыць прыхільна да беларусаў, а ў Вільні дзейнічае й былы менскі Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт.

Разумею, што тэарэтычна-гіпатэтычна, але выкажу свае погляды на такі цэнтар эміграцыі.

Беларускі цэнтар дасьледаваньня эміграцыі (падкрэсьлю: гэта тэарэтычныя разважаньні) мог бы быць установай вельмі шырокадыяпазоннай, з вывучэньнем працэсаў эміграцыі/іміграцыі ад XV—XVI стст. да цяперашняга часу. Вывучэньне варта было б падзяліць на сэктары: эміграцыя ў Расею (прымусовыя вывазы рамесьнікаў), Сыбір, Заходнюю Эўропу, за акіян. У кожным з сэктараў акрэсьліць пэўныя храналягічныя межы, дасьледаваць прычыны эміграцыі, рэгулярнасьць і г.д.

У першую чаргу праца мае ісьці ў архівах былых губэрнскіх цэнтраў, Пецярбургу, Масквы. Варта наладжваць супрацоўніцтва з адпаведнымі суседзкімі ўстановамі й з дыяспарай. Дыяспара, у сваю чаргу, можа стаць пастаўшчыком матэрыялаў з архіваў розных краінаў. Прыкладам, у ЗША ёсьць шмат мясцовых штатных гістарычных таварыстваў, прыходы як праваслаўныя, так і каталіцкія, маюць ладна матэрыялаў (лісты, фотаздымкі, газэтныя выразкі й падобнае) пра беларускіх эмігрантаў розных хваляў.

У ЗША трэба перагледзець архівы тых эмігрантаў, што прыяжджалі ў 1831—1864 гг. Там могуць быць і разважаньні й нарысы пры лёсы тагачаснай Літвы-Беларусі, бо ж тыя эмігранты пакідалі Бацькаўшчыну перад наступам Масквы, як ліцьвіны. Магчыма, з эміграцкіх матэрыялаў прыйдзе больш літаратуры як бы злучальнага зьместу — ліцьвіны-беларусы.

Гэты пакуль што тэарэтычны цэнтар мусіў бы стацца „найвышэйшым“ пунктам у падборы літаратуры пра эміграцыю, уключна з палітычнай дзейнасьцю, як, прыкладам, дзейнасьць Рады БНР. Варта было б наладзіць выпуск шматмоўнага часопісу (гадавіка). Замежная мова, пажадана ангельская, павінная быць інфарматарам Захаду аб беларускай эміграцыі. Інфарматарам аб беларускай эміграцыі — падкрэсьліваю гэта паняцьце. Чаму падкрэсьліваю? А таму што Захад наогул мала ведае пра Беларусь, а тое, што Беларусь за мінулыя 250 гадоў дала сьвету дзясяткі навукоўцаў, інжынэраў, дактароў, заходні сьвет і не падазрае. Зь іншага боку, праз аўтарытэтна друкаванае слова мы змаглі б падаць нашаму народу для ягонага ж усьведамленьня, што эміграцыя была выкліканая расейскай акупацыяй, што эміграцыя значна зьбяднела нашую краіну інтэлектуальна й фізычна.

Цэнтар, а можа, і сёньняшнія маладыя дасьледнікі эміграцыі, павінныя апрацаваць курс і падручнік пад назвай „Беларуская эміграцыя“, якія змогуць ужывацца ў іншых навучальных установах. Гэта мае шанец стацца рэальнасьцю.

Вось такімі развагамі-меркаваньнямі я хацеў падзяліцца як з чытачамі „Запісаў“, так і з дасьледнікамі эміграцыі наогул.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ СПАДЧЫНА ЭМІГРАЦЫІ: АСНОЎНЫЯ КАЛЕКЦЫІ

Выяжджаючы на Захад у часе Другой сусьветнай вайны, уцекачы часам ратавалі каштоўныя для нацыянальнай культуры рэчы, паперы, кнігі, перахоўвалі іх у складаныя часы туляньня па паваеннай Нямеччыне ды ўрэшце забіралі з сабою ў краіны сталага жыхарства. Так на эміграцыі апынуліся рарытэты, якія невядома ці захаваліся б на савецкай радзіме. Можна толькі дзівіцца ахвярнасьці асобных дзеячаў, што замест адзеньня ці дадатковай пары абутку — таго, што цанілася ў бяздольным уцякацкім жыцьці, пранесьлі празь нягоды й захавалі асобнікі „Нашай долі“ й „Нашай нівы“, старадрукі ды нават Купалавы нож. Усё тое таксама можна залічыць да своеасаблівай спадчыны эмігрантаў. Хоць, безумоўна, большую частку згаданай спадчыны складае ўжо зробленае на чужыне.

Варта адзначыць, што на пачатку 1990-х гг. частка беларускай спадчыны, якая зьберагалася эмігрантамі, стала вяртацца ў Беларусь. Розныя рэчы й дакумэнты перадаваліся ў Цэнтар імя Ф. Скарыны, Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва ды іншыя ўстановы.

Апынуўшыся на Захадзе ў сярэдзіне ХХ ст., эмігранты пакідалі ў краінах сталага жыцьця розныя памяткі па сабе: ад будынкаў цэркваў, сьцягоў на галоўных плошчах гарадоў ды мястэчак у Дні беларускай незалежнасьці да квіткоў на нацыянальныя імпрэзы, прынагодных паштовак, марак, значкаў… Аздобленыя беларускай сымболікай рэчы й друкі сталі натуральнай часткай эміграцыйнага жыцьця ў Брытаніі й Францыі, Канадзе й ЗША, Аргентыне й Аўстраліі. Побытавыя дробязі, яны несьлі ў сабе неад’емныя знакі беларускасьці, у мове, сымбалях, зьмесьце, самім духу й выконвалі важную рэпрэзэнтацыйную функ-

цыю. Яны нібыта пазначалі прастору беларускай прысутнасьці, паведамляючы й чужым, і сваім: тут ёсьць беларусы.

Згаданыя рэчы для беларуса на эміграцыі былі часткай яго штодзённасьці. Звычайна іх не зьбіралі, не захоўвалі. Яны мелі практычны сэнс для інфармаваньня, для адзначэньня нейкіх падзеяў грамадзкага ці асабістага жыцьця й пасьля выкарыстаньня часта страчвалі вартасьць для спажыўца. Візытоўкі, абвесткі, квіткі ды іншае адмыслова не зьбіралі й не захоўвалі, бо ў побыце яно непатрэбнае.

З часам Беларускі інстытут навукі й мастацтва або Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны сталі зьбіраць розныя аб’екты матэрыяльнай культуры беларускіх эмігрантаў. Аднак відавочна, што частка тае спадчыны ўсё ж была згубленая.

Візытоўкі, мэдалі й значкі, паштоўкі й абвесткі, пасьведчаньні й пячаткі ды рознае іншае пераважна мела ўтылітарнае значэньне. І разам з тым усё гэта рознымі шляхамі й формамі рэпрэзэнтавала Беларусь і беларусаў на Захадзе.

Аб’екты матэрыяльнай спадчыны эмігрантаў сёньня можна знайсьці ў розных зборах. Найбуйнейшыя зь іх — БІНіМ, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны, а таксама, у некаторых выпадках, беларускія фонды ў Бібліятэцы й архіве Канады ў Атаве. Большасьць гэтых збораў несыстэматызаваная й адмыслова не вывучалася. Таму ў нашым нарысе мы паспрабуем зрабіць першы агульны агляд асноўных калекцыяў матэрыяльнай спадчыны эмігрантаў у сьвятле магчымасьцяў яе дасьледаваньня.

## Значкі, жэтоны, мэдалі

Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы сьцьвярджае, што *значак — гэта пласьцінка, кружок і падобнае зь якім-небудзь адбіткам, які носіцца на грудзях як упрыгожаньне, памятны знак, знак прыналежнасьці*[1]. Гэткія знакі, вядомыя ад старажытнасьці, адносна нядаўна (у XX ст.) сталі аб’ектамі вывучэньня й калекцыянаваньня. Акрамя значкаў выкарыстоўваюць яшчэ *жэтоны — мэталічныя пласьцінкі круглай формы, што выдаюцца ў якасьці прыза або ў памяць якойсьці падзеі*, а таксама *мэдалі — знакі ў выглядзе мэталічнай пласьцінкі зь якім-небудзь рэльефным адбіткам і надпісам, што выдаецца ва ўзнагароду або ў памяць аб якой-небудзь падзеі.*

[1] Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / Пад. Рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. Мінск, 2005. С. 247.

Фалерыстыка — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю сыстэмаў узнагародаў і самі ўзнагароды, што прызначаныя для публічнага нашэньня на шыі й на грудзях (ордэны, мэдалі, знакі адрозьненьня, значкі, жэтоны ды інш.). Адначасова фалерыстыкай называюць калекцыянаваньне значкаў, нагрудных знакаў і інш. Паняцьце зьявілася ў 1937 г. у Чэхіі, аднак шырокі распаўсюд набыло ўжо ў паваенны час[2].

Беларуская фалерыстыка як дысцыпліна знаходзіцца ў працэсе станаўленьня. Нягледзячы на тое, што яна ўваходзіць у праграму навучаньня спэцыяльнасьці „музэязнаўства“, адмысловых беларускіх дапаможнікаў дасёньня ня створана. Зразумела, што й тэма значкаў эміграцыі застаецца нераспрацаванай. Хоць праграма згаданага курсу прадугледжвае вывучэньне знакаў беларускай эміграцыі, у сьпісе прапанаванай літаратуры ніводнай публікацыі па гэтай тэме няма[3], як амаль няма такіх публікацыяў і ў рэальнасьці.

Значкі й мэдалі — важны элемэнт эміграцыйнай ня толькі матэрыяльнай, але й мэмарыяльнай культуры. Яны былі адным са сродкаў пазначэньня сябе ў чужым грамадзтве, дапамагалі рэпрэзэнтаваць Беларусь і беларускую культуру.

Вялікая калекцыя значкаў, жэтонаў і мэдалёў захоўваецца ў БІНіМе. Прадметы мэмарыяльнай культуры тут зьбіраліся ад 1950-х гг. і да пачатку XXI ст. Аднак гэтае зьбіраньне было несыстэматычным, наяўныя аб’екты не апісваліся, таму сёньня складана вызначыць паходжаньне шмат якіх значкаў і мэдалёў, падставы выданьня, гісторыю стварэньня, а таксама мастакоў, аўтараў праектаў. Не захавалася дадзеных і пра колькасьць вырабленых значкаў і мэдалёў. Зьвесткі пра зьяўленьне значкаў не публікаваліся на старонках эміграцыйнага друку, як, прыкладам, нататкі пра выданьне марак, таму аднаўляць іх цяпер надзвычай цяжка.

Маючы на мэце захаваньне ўсяго беларускага, у БІНіМе не засяроджваліся толькі на эміграцыйных аб’ектах. У выніку ў калекцыі ёсьць каля 40 значкаў, што паходзяць з мэтраполіі. Да таго ж можна знайсьці побач з эміграцыйнымі беларускімі і ўкраінскія значкі, што адлюстроўвае цесныя сувязі гэтых народаў на чужыне. Часта пры розных сустрэчах адбываліся абмены значкамі, асабліва гэта практыкавалі скаўты.

[2] Бурков, В. Фалеристика: Учебное пособие. Москва, 1999. С. 16—17.

[3] Фалерыстыка. Праграма для студэнтаў спецыялізацыі „музеязнаўства“. Мінск, 1998. — 27 с.

Менавіта эміграцыйных беларускіх значкаў, мэдалёў і жэтонаў у калекцыі БІНіМу захавалася больш за паўсотні. Зь іх 6 мэдалёў і адзін памятны знак, а рэшта — значкі й жэтоны. Мэдалі мы разгледзім асобна ніжэй, а пакуль засяродзімся на значках і жэтонах.


Значак беларускіх студэнтаў з Прагі. 1920-я гг.

Паводле тэарэтыкаў фалерыстыкі, усе значкі падзяляюцца на *ўзнагародныя, службовыя, акадэмічныя, сяброўскія, памятныя, юбілейныя, сувэнірныя*[4]. Аднак сярод эміграцыйных можна знайсьці ня ўсе згаданыя катэгорыі, а толькі чатыры апошнія. Так, да сяброўскіх адносяцца значкі прыналежнасьці да розных арганізацыяў: скаўцкіх, БАЗА, Рады БНР і інш., да памятных — значкі, што выдаваліся ў гонар розных падзеяў (прыкладам, сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі), да юбілейных — значкі для адзначэньня гадавінаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР або нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Багата зьяўлялася на эміграцыі сувэнірных значкаў, пераважна зь беларускімі нацыянальнымі сымбалямі. Да згаданых клясычных катэгорыяў трэба дадаць яшчэ адну спэцыфічную старую амэрыканскую — значкі-жэтоны перадвыбарчых кампаній.

Храналягічна сабранае ў калекцыі датычыць некалькіх пэрыядаў. Найбольш стары — значак студэнтаў з Прагі з 1920-х гг. На бел-чырвона-белым шчыце чырвоная выява сонца, на фоне якога — белая Пагоня. Наступны ў калекцыі, паводле храналёгіі, — значак у выглядзе бел-чырвона-белага сьцяжка, што паходзіць з пачатку 1940-х гг. з Бэрліну. Гэтыя асобныя аб’екты датычаць яшчэ папярэдняй хвалі эміграцыі. Значкі ж паваеннай эміграцыі пачынаюцца адметнай колькасьцю скаўцкіх адзнакаў другой паловы 1940-х гг. Удзельнікі міжнароднага скаўцкага руху зь лягераў *DP* насілі на адзеньні або ўнівэрсальныя скаўцкія лілеі, або зь беларускімі пазнакамі (прыкладам, надпісам „Напагатове!“), адрознымі ад пазнакаў іншых нацыянальнасьцяў. Гэтыя адрозьненьні добра відаць пры параўнаньні з наяўнымі ў калекцыі ўкраінскімі.

Ад 1950-х—1960-х гг. захавалася небагата значкаў. Пераважна яны датычаць дзейнасьці беларускіх арганізацый: Згуртаваньня беларускіх

[4] Ильинский, В. Значки и их коллекционирование. Москва, 1977. С. 8.

патрыётаў, Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня ды інш. Значна большая колькасьць аб’ектаў мэмарыяльнай культуры датычаць 1970-х—1980-х гг. Тут да сяброўскіх і памятных дадаўся згаданы вышэй адмысловы від — значкі выбарчых кампаній. Першыя з наяўных зьявіліся ў 1972 г. у часе прэзыдэнцкай кампаніі Рычарда Ніксана. У калекцыі БІНіМу захаваліся ня толькі ўласна значкі „Беларусы за Рычарда Ніксана“, але й поўны — вельмі рэдкі сёньня — набор з 26 падобных жэтонаў розных нацыянальнасьцяў (ад армянаў да сірыйцаў), прадстаўнікі якіх галасавалі за будучага прэзыдэнта. Значкі ў падтрымку Рычарда Ніксана былі выпушчаныя Галоўным штабам выбарчай кампаніі „За Ніксана“ накладам 25 тысячаў асобнікаў. Вітаўт Кіпель лічыць гэта вялікай сваёй перамогай, бо значкі рассылаліся ва ўсе штаты й былі ва ўсіх выбарчых кватэрах. Пазьней шмат беларускіх значкаў трапіла ў музэі. Др Аўген Вярбіцкі сьцьвярджаў, што бачыў згаданы значак у нейкім фільме і ў Музэі Ніксана. Набор жа жэтонаў быў падараваны Вітаўту Кіпелю пасьля кампаніі, падчас прыняцьця ў Белым Доме.

Надалей значкі падтрымкі беларусамі таго ці іншага палітыка зьяўляліся рэгулярна й датычылі ня толькі прэзыдэнцкіх выбараў, але й губэрнатарскіх ды сэнацкіх. Усяго захавалася 7 значкаў з выбарчых кампаніяў, у тым ліку Робэрта Тафта, Джэралда Форда, Дзіка Торнбурга, Роналда Рэйгана. Усе гэтыя значкі маюць падобны зьмест і англамоўны тэкст, які адрозьніваецца толькі імем палітыка. Зьяўленьне згаданых значкаў таксама зьвязанае з актыўнай дзейнасьцю Вітаўта Кіпеля як прадстаўніка беларусаў у рэспубліканскіх клюбах.

Акрамя выбарчых да 1970-х — 1980-х гг. належаць таксама памятны рэдкі значак Араў-Парка 1973 г., выдадзены не беларускай эміграцыйнай грамадой[5], юбілейныя значкі да стагодзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа (1982) ды сямідзесяцігодзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР (1988), а таксама значак, выдадзены да 18-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта (1988). Трэба зазначыць, што значак 1982 г., прысьвечаны стагодзьдзю ад нараджэньня клясыкаў беларускай літаратуры, — адзін зь нешматлікіх, што мае

[5] Беларуская грамада ў ЗША не асабліва прыхільна паставілася да зьяўленьня ў 1970 г. у Араў-Парку мястэчка Манро недалёка ад Нью-Ёрку помніка Янку Купалу (скульптара Анікейчыка) побач з помнікамі Тарасу Шаўчэнку, Аляксандру Пушкіну і Ўолту Ўітмэну. Цалкам мэмарыял мусіў сьведчыць пра цесныя культурныя сувязі чатырох народаў (беларусаў, украінцаў, расейцаў і амэрыканцаў). Выявы згаданых помнікаў і былі адлюстраваныя на памятным значку.




Набор жэтонаў зь перадвыбарчай кампаніі Рычарда Ніксана 1972 г.

больш-менш вядомую гісторыю. Выпушчаны ён быў Беларускім інстытутам навукі й мастацтва паводле праекту мастачкі Ірыны Рагалевіч-Дутко накладам 500 асобнікаў[6].

У 1990-х зьявілася больш памятных, юбілейных і сувэнірных значкаў. Памятныя зьвязаныя з сустрэчамі беларусаў Паўночнай Амэрыкі 1990 і 1994 гг. Юбілейныя значкі датычаць і традыцыйных угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР, і юбілеяў эміграцыйных арганізацыяў (БАЗА, ЗБК). Унікальны прыклад значка з гэтай катэгорыі — выдадзены ў Казахстане беларускай суполкай у Алма-Аты ў 1992 г. значак з выявай Тадэвуша Касьцюшкі, прысьвечаны 250-годзьдзю ад нараджэньня змагара. Аўтарам праекту быў заслужаны дзеяч мастацтваў Казахстана А. Гур’еў. Усяго было выраблена 300 значкаў, зь якіх 100 былі пранумараваныя й выкарыстоўваліся як памятныя знакі Казахстанскай асацыяцыі „Беларусь“, а рэшту падаравалі сябрам у розных краінах. Плянавалася таксама выдаць паштоўку, прысьвечаную Кась-

[6] Юрэвіч, Лявон. БІНІМаўская Купаліяна // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 432—438.

цюшку, сіламі Згуртаваньня беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“, аднак гэты праект так і ня быў рэалізаваны[7]. Значак жа стаўся адзіным вядомым прыкладам выданьня значкаў беларусамі з Казахстану. Яшчэ адзін значак з постсавецкай прасторы выдалі сябры Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя І. Чэрскага. Аднак гэты аб'ект хутчэй можна аднесьці да сяброўскіх ці сувэнірных.

Сувэнірныя значкі атрымалі распаўсюджаньне ў 1990-х і 2000-х гг. Гэта разнастайныя сьцяжкі й Пагоні, значкі фондаў і інш. Апошнія зь юбілейных значкаў у калекцыі прысьвечаныя ўгодкам дзейнасьці БАЗА й Беларускага аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

Геаграфічна наяўныя ў калекцыі БІНіМу значкі паходзяць зь сямі краінаў: Чэхіі, Нямеччыны, ЗША, Канады, Аўстраліі, Расіі ды Казахстану. Большасьць — менавіта амэрыканскія значкі. Ня выяўлена значкаў беларусаў зь Вялікабрытаніі ці Паўднёвай Амэрыкі. З улікам геаграфіі зразумела, што надпісы на значках або ў беларускай, або ў ангельскай мове, або адразу ў абедзьвюх.

Паводле матэрыялу, зь якога вырабляліся значкі, за выключэньнем аднаго плястыкавага сьцяжка, усе астатнія — мэталёвыя. Паводле спосабу мацаваньня можна вылучыць шрубы, што ўласьцівыя найчасьцей сяброўскім значкам, простыя іголкі — такіх толькі некалькі, зь іх дзьве — скаўцкія, і традыцыйныя шпількі, што выкарыстоўваюцца ў пераважнай большасьці значкаў.

Памеры наяўных значкаў розныя: ад зусім дробнай, вышынёй да 5 мм, скаўцкай лілеі да вялікага, каля 75 мм дыямэтрам, значка „Беларускага фонду Адраджэньня“. Паводле формы можна вылучыць круглыя (іх найбольш), прастакутныя, фігурныя (у выглядзе сьцяга, лілеі, шчыта з Пагоняю) і значкі-надпісы (значкі раднага БНР).

Выявы на значках адлюстроўваюць пэўныя аб'екты калектыўнай памяці эмігрантаў, ды найбольш зразумелыя для замежнікаў нацыянальныя сымбалі. Найбольш часта сустракаюцца выявы бел-чырвона-белага сьцягу (сярод іншых сьцягоў можна знайсьці амэрыканскі, канадыйскі й аўстралійскі) і Пагоні. З увагі на адметную колькасьць скаўцкіх значкаў, варта згадаць у якасьці важнага сымбалю й лілею. Нячастыя на значках выявы асобаў. Як і на іншых аб'ектах мэмарыяльнай культуры, гэта дзеячы-сымбалі: Янка Купала, Якуб Колас, Тадэвуш Касьцюшка, Іван Чэрскі.

---

[7] Майсейчык, Яўген. За вольнасьць нашу і вашу // Беларускі калекцыянер. №2 (9). Ліпень 1993.

Асобнае месца ў калекцыі займаюць мэдалі. Ідэю ганараваньня заслужаных беларусаў першай у паваеннай эміграцыі агучыла Рада БНР. Яе Прэзыдэнт сваім дэкрэтам ужо 1 верасьня 1949 г. увёў тры ордэны для ўзнагароджаньня за вайсковыя й цывільныя заслугі: ордэн Пагоні, ордэн „Зялезнага рыцара“ й ордэн Мэдаль Партызана. Для апрацоўкі статутаў была створаная камісія ў складзе Францішка Кушаля як старшыні, Станіслава Грынкевіча, Міхася Тулейкі (?), Леаніда Галяка ды мастака Пётры Мірановіча. Вынікі працы былі зацьверджаныя Міколам Абрамчыкам 5 жніўня 1951 г. і апублікаваныя ў 1952 г. на старонках газэты „Бацькаўшчына“ разам з праектамі выяваў узнагародаў.

Паводле статуту Ордэн Пагоні павінен быў стаць найвышэйшай беларускай узнагародай, якой маглі адзначаць як вайсковых, так і цывільных асобаў (у тым ліку і чужынцаў), *„якія выдатна спрычыніліся да здабыцьця незалежнасьці, задзіночаньня ўсіх беларускіх земляў, або ўзмацаваньня незалежнасьці і росквіту беларускай дзяржавы“*[8]. Ордэн меўся быць 5 клясаў. Кандыдатаў на ягонае атрыманьне мусіла вызначаць Капітула, а ганараваць — уласна Прэзыдэнт сваім дэкрэтам.

Апісаньне ўзнагароды наступнае:

*„Крыж Ордэру Пагоні васьміканцовы, пакрыты эмаліяй, берагі залатыя ці серабраныя. На сярэдзіне крыжа залатая ці серабраная Пагоня. Адваротная старана гладкая, з выбітым парадкавым нумарам ордэру“. Крыж бывае трох вялічыняў: Вялікі, Залаты і Сярэбраны.*

*Зорка Ордэру Пагоні сярэбраная, складаецца з 8 пукоў праменьняў. На сярэдзіне зоркі ўмешчаны крыж ордэру.*

*Ордэнская істужка — нацыянальных коляраў (бел-чырвона-белы)“*[9].

Ордэн „Зялезнага Рыцара“ быў прызначаны для адзначэньня ваенных ці вайсковых заслугаў. Ён таксама меў 5 клясаў і наступныя адзнакі: *„Крыж — чатырохканцовы, пасярэдзіне — дзьве скрыжаваныя шаблі. На раменьнях крыжа літары Б.Н.Р. Адваротны бок ордэну, як ліцавы, але бяз літараў і шабляў. З парадкавым нумарам. Стужка чырвонага (цёмнага) й зямельнага (бурага) колеру, зложаная трохкутнікам. На стужцы дзьве скрыжаваныя шаблі, як і на ордэне“*[10].

[8] Узнагароды для заслужаных Беларусаў // Бацькаўшчына. №7—8 (86—87). 24 лютага 1952.

[9] Узнагароды для заслужаных Беларусаў…

[10] Узнагароды для заслужаных Беларусаў…

Мэдаль Ордэну Партызана павінны быў надавацца Прэзыдэнтам БНР беларусам, што змагаліся ў беларускай нацыянальнай партызанцы, на прапанову камандзіра партызанскага штабу. Мэдаль Партызана прадугледжваўся дзьвюх ступеняў. *„Першай ступені ўся залатая, на ліцавым баку выбітыя дзьве скрыжаваныя стрэльбы і літары Б.Н.Р., на адваротным баку выбіты дэвіз „За Бацькаўшчыну“*[11]. Мэдаль другой ступені аналягічны, толькі срэбраны. Стужка ордэну з трох колераў: чырвона-зямельна-зялёная.

Да кожнага ордэну ў газэце былі пададзеныя выявы, а ў прадмове сярод іншага зазначаліся імёны тых, хто быў да таго часу ўжо ўганараваны:

*„1) Гэнэрал М. Вітушка: Ордэрам Пагоні 3-й клясы і Ордэрам Зялезнага Рыцара 3-й клясы.*

*2) Гэнэрал У[севалад]. Р[одзька].: Ордэрам Пагоні 3-й клясы і Ордэрам Зялезнага Рыцара 3-й клясы.*

*3) Маёр Саха: Ордэрам Зялезнага Рыцара 4-й клясы.*

*4) Маёр Іван Слуцкі: Ордэрам Зялезнага Рыцара 4-й клясы.*

*5) 3-ы Камандзіры асобных аддзелаў і адзін афіцэр сувязі:*

*Ордэрамі Зялезнага Рыцара 4-й клясы (усе на Бацькаўшчыне).*

*Нагароды ордэрам Мэдалю Партызана — будзе праводзіць Шэф Штабу беларускіх партызанаў“*[12].

Нягледзячы на наяўнасьць у тэксьце канкрэтных імёнаў, выглядае, што згаданыя ўзнагароды так і засталіся своеасаблівым праектам. На сёньня ў вядомых нам калекцыях не захавалася ніякіх іншых сьведчаньняў пра кавалераў гэтых ордэнаў, як і саміх крыжоў, зорак, стужак.

Затое пазьнейшая ініцыятыва палітычнага апанэнта — Прэзыдэнта Радаслава Астроўскага — знайшла сваё рэальнае ўвасабленьне. Маюцца на ўвазе тры ўзнагароды Беларускай краёвай абароны, зацьверджаныя Прэзыдэнтам БЦР 10 кастрычніка 1976 г. (за тыдзень да сваёй сьмерці). Першая зь іх — Срэбраны ордэн „Пагоня — Жыве Беларусь!“ — прызначаўся для ганараваньня за самаахвярную нацыянальна-грамадзкую працу[13]. Ён меў бел-чырвона-белую стужку, выяву Пагоні ў цэнтры мэдаля й словы *„Жыве Беларусь!“* па коле, а таксама надпіс: *„БЦР 27.6.1944“* на адваротным баку.

---

[11] Узнагароды для заслужаных Беларусаў...

[12] Узнагароды для заслужаных Беларусаў...

[13] Шнэк, Уладзімер. Беларуская Краёвая Абарона. Уніформа і адзнакі. Ілюстраваны альбом. Мэльбурн, 1984. С. 71.

Другім стаў бронзавы мэдаль „Крыж заслугі БКА“, што прызначаўся ў якасьці ўзнагароды кадрам БКА[14]. Ён меў зялёную стужку, крыж, у цэнтры якога выява Пагоні, а на канцах літары БКА і год *„1944“*. На адваротным баку замест Пагоні ў цэнтры надпіс *„БЦР“*.

Трэцяя ўзнагарода, зацьверджаная Прэзыдэнтам БЦР, мела юбілейны характар — бронзавы мэдаль „Беларускія вэтэраны на чужыне“, які прызначаўся *„ўдзельнікам збройнага змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларускай Рэспублікі“*[15]. Мэдаль меў жоўтую стужку, у цэнтры круглага знаку зьмяшчаўся шчыт з выявай шасьціканцовага крыжа й англамоўным надпісам *„B.V. in exile“*, а па канце — дзьве ляўравыя галінкі ды тры зоркі ўверсе. На адваротным баку надпіс *„Беларускія вэтэраны на чужыне БЦР“*.



Мэдаль „Беларускія вэтэраны на чужыне“. 1976 г.

Усе згаданыя ўзнагароды выкарыстоўваліся для ганараваньня беларусаў з шэрагу прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады на эміграцыі, і ў калекцыі БІНіМу захоўваюцца экзэмпляры гэтых мэдалёў. Разам з мэдалямі выдаваліся дыплёмы. Што праўда, у БЦР былі й іншыя праекты ўзнагародаў, якія так і засталіся нерэалізаванымі, як залатыя, сярэбраныя й жалезныя крыжы заслугі, што зьмешчаныя ў альбоме Ўладзімера Шнэка[16].

Згаданымі ўзнагародамі калекцыя не вычэрпваецца. Ёсьць яшчэ шэраг менавіта юбілейных выданьняў. Так, у 1978 г. зьявіўся мэдаль, прысьвечаны 60-й гадавіне абвяшчэньня незалежнасьці БНР. На аверсе яго ў цэнтры зьмешчаныя выява Пагоні й надпіс „БНР“ над дзьвюма галінкамі (дубовай і ляўравай), а па канце надпіс *„1978 — 60-ыя ўгодкі абвешчаньня“*. На адваротным баку надпіс *„25 сакавіка 1918 Менск“*.

Праз два гады — у 1980 г. — у ЗША быў выдадзены мэдаль, прысьвечаны тысячагодзьдзю беларускай дзяржаўнасьці. У цэнтры круглай пласьціны зьмяшчалася традыцыйная Пагоня й лічбы *980* і *1980*,

[14] Шнэк, Уладзімер. Беларуская Краёвая Абарона... С. 72.

[15] Шнэк, Уладзімер. Беларуская Краёвая Абарона... С. 73.

[16] Шнэк, Уладзімер. Беларуская Краёвая Абарона... С. 65—70.

а ўверсе і ўнізе — надпіс *„Тысячагодзьдзе Беларусі“*. На рэвэрсе ж выява старажытнага горада, над якім на стужцы слова *„Рагнеда“* й ніжэй — *„980“*.

Завяршыў юбілейную эпапэю ў 1984 г. мэдаль да саракавых угодкаў Другога Ўсебеларускага кангрэсу, выдадзены прыхільнікамі БЦР. На бронзавым мэдалі ў цэнтры выява Пагоні й дата *„27.6.1944“*, а вакол надпіс: *„1984 — 40-ыя ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу“*. На адваротным баку ў цэнтры партрэт Радаслава Астроўскага й гады ягонага жыцьця *„1887“* і *„1976“*, а ўверсе і ўнізе надпіс *„Радаслаў Астроўскі Прэзыдэнт БЦР“*. Варта адзначыць, што ў калекцыі БІНіМу захоўваецца й адмысловы вялікі памятны знак (дыямэтрам 180 мм), падобны да адваротнага боку папярэдняга мэдаля (але не ідэнтычны). Праўда, невядома, ці быў ён выраблены больш як у адным асобніку.

Акрамя ўласна беларускіх у калекцыі БІНіМу ёсьць яшчэ два іншыя мэдалі-знакі. Першы зь іх, відавочна, зьвязаны зь міжнародным скаўтынгам і паходзіць з Рэгенсбургу 1948 г., а другі — сяброўскі мэдаль, зьвязаны з адной з прэзыдэнцкіх кампаніяў кандыдатаў ад Дэмакратычнай партыі ЗША (*Democratic National Convention*).

Значкі, жэтоны й мэдалі важныя ня толькі як спосаб пазначэньня сябе ў іншакультурным асяродзьдзі ці ўласна ў беларускай грамадзе, але й як каштоўная крыніца інфармацыі пра беларускія арганізацыі, пра асаблівасьці ўяўленьняў беларусаў пра саміх сябе, адлюстраваньне культурных і палітычных стэрэатыпаў эміграцыі. Да таго ж, амэрыканскія выбарчыя жэтоны, што захоўваліся ў розных музэях у ЗША, аднachасова працавалі на папулярызацыю Беларусі.

## Паштоўкі

*Паштоўкі — асобы від паштовых адпраўленьняў з поўнафарматнай выявай з аднаго боку, прызначаны для адкрытага ліста (без капэрты).* Іх беларуская гісторыя пачынаецца ад канца XIX ст. Паштоўкі зьяўляюцца ня толькі адмысловым відам мастацтва, але й каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі. У эміграцыйных зборах захаваліся сотні беларускіх паштовак ад пачатку XX ст. да сучаснасьці. Найвялікшыя іх калекцыі можна знайсьці ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане й Беларускім інстытуце навукі й мастацтва, дзе яны адмыслова зьбіраліся. У прыватных фондах беларускіх эміграцыйных дзеячаў сярод разнастайнай карэспандэнцыі таксама захоўваюцца паштоўкі.

Гісторыя беларускіх паштовак наогул і эміграцыйных у прыватнасьці дасёньня маладасьледаваная. Ёсьць шэраг публікацыяў і альбомаў[17], згадкі пра канкрэтныя паштоўкі ці сэрыі[18]. Першай і, бадай, адзінай спробай сыстэматызацыі зьвестак пра эміграцыйныя паштоўкі зьяўляецца тэкст Юрыя Гарбінскага, заснаваны на асобных пазыцыях „Бібліяграфіі беларускага друку на Захадзе“ Зоры й Вітаўта Кіпеляў, а таксама вывучэньні некаторых прыватных збораў эмігрантаў. Аўтар разгледзеў асноўныя жанравыя асаблівасьці паштовак, падаў зьвесткі пра сэрыі й мастакоў, якія мелі да іх дачыненьне, пра наклады й тэхнічныя асаблівасьці друку, асобна вылучыў рэлігійныя паштоўкі[19]. Разам з тым, сур'ёзнае вывучэньне эміграцыйных паштовак, як і беларускіх паштовак наогул, яшчэ наперадзе.

У створанай намі базе, аснову якой склалі зборы БІНіМу й Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны, больш за дзьве сотні картак. Аднак ня ўсе іх, на жаль, магчыма дакладна лякалізаваць паводле месца й часу выданьня.

Найбольш раньнія беларускія паштоўкі, што захаваліся ў БІНіМе, паходзяць з пачатку XX ст. Гэта выявы беларускіх гарадоў: Пінску, Віцебску, Брэсту ды інш. Першая з дакладна датаваных адлюстроўвае Віцебскую вуліцу й Мікалаеўскі сабор у Полацку (1904). Акрамя часоў Расейскай імпэрыі ёсьць яшчэ нямецкія паштоўкі з выявамі гарадоў, выдадзеныя ў часы Першай сусьветнай вайны. Захаваліся таксама пазьнейшыя беларускія, прыкладам, выдадзеныя Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа. Некаторыя паштоўкі з выявамі беларускіх гарадоў пачатку XX ст. перадаў у БІНіМ вядомы калекцыянэр з Латвіі Вячка Целеш. Цікавая

---

17 Зубкоўскі, В. Нашыя паштоўкі на Захадзе // Беларускі калекцыянер. Ворша, 1990. — №1(8). С. 3; Суша, Алесь. Філакартыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Мінск, 2003. С. 32—34; Целеш, Вячка. Мінск на старых паштоўках (канец XIX — пачатак XX стст.). Мінск, 1984. — 127 с.; Целеш, Вячка. Гарады Беларусі на старых паштоўках. Мінск, 2005. — 255 с.; У пошуках страчанага: гісторыя Беларусі ў старых паштоўках. Мінск, 2007. — 239 с. ды інш.

18 Цярохін, Уладзімер. Рэдкая паштоўка // Беларускі калекцыянер. №2(9). Ворша, 1993. С. 4.; Цярохін, Уладзімер. Прысьвечаныя Максіму Багдановічу // Беларускі калекцыянер. №1—2 (14—15. Ворша, 1996. С. 12. Вераціла, М. Краявіды Беларусі — пражскія беларускія паштоўкі // Беларускі калекцыянер. №20. Ворша, 2000. С. 10—11.

19 Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005. Нью-Ёрк—Варшава, 2009. С. 483—534.




Паштоўка, выдадзеная ў Парыжы на пачатку XX ст.

паштовая картка з выявай беларускіх хлопчыка й дзяўчынкі ды надпісам *„Белоруссы“* выйшла на пачатку XX ст. у Парыжы. Абставіны яе выданьня пакуль нявысьветленыя, аднак само месца зьяўленьня ў зьвязку з тэматыкай робіць гэты друк унікальным.

Аснову эміграцыйных калекцыяў, безумоўна, складаюць паштоўкі, выдадзеныя па-за межамі сучаснай Беларусі рознымі нацыянальнымі грамадзкімі арганізацыямі. Тут зьвяртаюць на сябе ўвагу друкі, зьвязаныя зь дзейнасьцю ўраду БНР, як, прыкладам, фотапаштоўка са здымкам Першага складу кіраўніцтва беларускай дзяржавы, бэрлінская паштоўка з гербамі беларускіх гарадоў, паштоўкі з выявамі беларускіх дзеячаў (Алеся Гаруна, Цёткі, Івана Луцкевіча й інш.). Варта згадаць і выдадзеныя ў Коўне Беларускім таварыствам імя Ф. Скарыны паштоўкі з Нацыянальным беларускім штандарам. У Вільні выходзілі беларускія паштоўкі і ў 1930-х. У БІНіМе ёсьць друкі 1939 г. з творамі беларускіх мастакоў, у прыватнасьці, Пётры Мірановіча.

Выдаваліся ў міжваенны час паштоўкі й беларусамі Латвіі, як, напрыклад, паштовая картка з мапай, на якой адлюстраваны стан беларускай меншасьці ў Латгаліі. Ад 1920-х гг. зьяўляліся беларускія паштоўкі і ў Чэхаславаччыне. Адна з найбольш раньніх у калекцыі БІНіМу — „Беларускі сакол“ з надпісам *„Жылі раней і будзем жыць заўсёды“* — належыць да праскага выдавецтва. Варта згадаць, што ў часы Другой сусьветнай вайны ў Празе была выдадзеная цэлая сэрыя з 15 паштовак „Краявіды Беларусі“ з выкарыстаньнем здымкаў, зробленых Янам Булгакам[20]. Некаторыя зь іх, як „Двор у Наве каля Баранавіч“ або „Замкавы канал у Нясьвіжы“, таксама захаваліся ў зборах БІНіМу.

[20] Верацiла, М. Краявіды Беларусі — пражскія беларускія паштоўкі...

Нягледзячы на адносна шырокую геаграфію, у міжваенны й ваенны час беларускія паштоўкі на эміграцыі зьяўляліся даволі спарадычна, а справа іх зьбіраньня і ўліку ўскладняецца ня толькі фрагмэнтарнасьцю іх захаваньня, але й даволі абмежаванай інфармацыяй пра самі выданьні. Тыя міжваенныя й ваенныя паштоўкі выконвалі найчасьцей менавіта рэпрэзэнтацыйную функцыю, прадстаўляючы навакольнаму грамадзтву Беларусь і беларусаў.

Больш шырока паштоўкавыдавецкая дзейнасьць разгарнулася адразу пасьля Другой сусьветнай вайны, калі значная колькасьць беларускіх эмігрантаў апынулася на тэрыторыі саюзьніцкіх акупацыйных зонаў Нямеччыны. Ад гэтага часу паштоўкі выразна выконвалі некалькі найважнейшых функцыяў. Па-першае, яны былі сродкам камунікацыі паміж „сваімі“, іх скарыстоўвалі ня толькі для віншаваньняў з тым ці іншым сьвятам (хоць сьвяточных паштовак было багата), але й для пісаньняў кароткіх лістоў-паведамленьняў. У часы, калі ў лягерах *DP* узьнікалі праблемы з паперай або ў карэспандэнтаў не было дастаткова часу, для невялікіх пасланьняў скарыстоўвалі менавіта блянкі паштовак. Па-другое, паштоўкі, як і ў міжваенны час, былі знакамі беларускай прысутнасьці ў шматнацыянальным моры эмігрантаў, яны рэпрэзэнтавалі беларусаў, што абумовіла зьяўленьне адметнай колькасьці паштовак зь беларускімі краявідамі, з выявамі нацыянальных дзеячаў і сымбаляў, з эмблемамі нацыянальных арганізацыяў.

Выданьне паштовак у першыя пасьляваенныя часы было справай даволі складанай. З аднаго боку існавалі абмежаваньні на выдавецкую дзейнасьць у лягерах *DP*, зь іншага — часам не было мастакоў і сродкаў для якаснага друку, таму абыходзіліся наяўнымі сіламі, у тым ліку й мастацкімі здольнасьцямі навучэнцаў гімназій.

Вялікай актыўнасьцю ў выданьні паштовак у паваеннай Нямеччыне адзначыліся скаўцкія арганізацыі. У зборах БІНіМу ёсьць асобныя паштоўкі й сэрыі, выдадзеныя Першым сьцягам Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне ў Ватэнштэце. Сярод іх паштоўкі, прысьвечаныя другой гадавіне існаваньня самога Згуртаваньня (1945—1947), шэраг паштовак з выявамі скаўцкай дзейнасьці, віншавальныя паштоўкі „Вясёлых сьвятаў“. Аўтарам ватэнштэцкіх скаўцкіх паштовак быў Алег Махнюк[21]. Захаваліся выданьні Скаўцкага штандару „Гарц“, напрыклад, паштоўка ў гонар Кастуся Каліноўскага, а таксама скаўцкага

[21] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 494.



Паштоўка з сэрыі „Краявіды Беларусі“ з выявай Горадні.
Выдавецтва Янкі Сурвілы. Ватэнштэт, 1946 г.

выдавецтва „Крыніца“, дзе выходзілі сэрыі паштовак зь беларускімі краявідамі, з выявамі нацыянальных дзеячаў[22].

Яшчэ у 1946 г. у лягеры Ватэнштэт арганізаваў сваё выдавецтва Янка Сурвіла. Ён выдаў сэрыю паштовак зь беларускімі краявідамі, у тым ліку з выкарыстаньнем карцін мастака Пётры Мірановіча (у калекцыі БІНіМу захоўваецца 10 паштовак з гэтай сэрыі), а таксама паасобныя паштоўкі, прыкладам, „Жыве Беларусь!“.

Розныя выдавецтвы й выдаўцы ў паваеннай Нямеччыне працягвалі традыцыю друкаваньня паштовак з выявамі беларускіх дзеячаў, што была запачаткаваная яшчэ ў міжваенны час. Так, у другой палове 1940-х гг. пабачылі сьвет паштоўкі-партрэты Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы[23], Кастуся Каліноўскага, а таксама з своеасаблівымі галерэямі выяваў дзеячаў беларускага адраджэньня й Рады БНР.

Асобную групу нямецкіх беларускіх выданьняў складаюць разнастайныя віншавальныя паштоўкі, найперш велікодныя й калядныя.

[22] Kipel, V., Kipel, Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / Пад рэд. Юрася Гарбінскага й Лявона Юрэвіча. Нью-Ёрк—Варшава, 2006. С. 57—96.

[23] Аўтарам партрэтаў Францішка Багушэвіча й Янкі Купалы на паштоўках быў мастак Зьміцер Чайкоўскі.

Яны значна адрозьніваюцца паводле якасьці. Ёсьць прыклады даволі простых малюнкаў з адпаведнымі надпісамі, а ёсьць і выкшталцоная сэрыя зь дзевяці калядных паштовак зь зімовымі краявідамі й вершаванымі радкамі, што пабачыла сьвет у выдавецтве газэты „Бацькаўшчына“ ў Мюнхэне ў 1955 г.[24]. Ініцыятарам-адміністратарам выданьня быў Янка Запруднік.

Варта адзначыць і адмысловыя тры рэлігійныя паштоўкі з сэрыі, прысьвечанай беларускім цэрквам у Рэгенсбургу й Віндышбэргердорфе, выдадзеныя ў 1948 г. Жыровіцкім брацтвам Беларускай праваслаўнай царквы. Гэтыя паштоўкі суправаджаліся ёмістым апісаньнем выявы, зробленым лацінкаю на адваротным баку. Іншая сэрыя большага фармату, прысьвечаная выявам Божай Маці, была выдадзеная тады ж тым самым выдавецтвам.

Можна сьцьвярджаць, што ў паваеннай Нямеччыне ў выданьні паштовак прысутнічала ці не найбольшая жанравая разнастайнасьць. Пазьнейшыя выдавецкія ініцыятывы ў іншых краінах беларускай эміграцыі мелі больш спэцыялізаваны характар. Разам з тым, на новых месцах сталага жыхарства з разьвіцьцём тэхналёгіяў відавочна палепшылася якасьць саміх паштовак.

Што праўда, апошняе мала датычыць паштовак, якія выходзілі ў Аўстраліі. Тут асабліва актыўнае іх выданьне было зьвязанае зь дзейнасьцю беларускага асяродку ў Брысбэне й ягонага лідара Даната Яцкевіча. На пачатку 1950-х гг. ён ад імя Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў выдрукаваў некалькі сэрыяў паштовак: віншавальную велікодную, з выявамі князя Вітаўта (у розных колерах), з выявамі беларускіх краявідаў, а таксама дзьве вялікія паштоўкі: „Сьв. Прадслава Эўфрасіньня — Асьветніца Беларусі“ ды „Жыровіцкая Божая Маці — апякунка беларускага народу“. Пасьля спыненьня існаваньня беларускага асяродку ў Брысбэне ў Аўстраліі да канца 1980-х гг. не выходзілі беларускія паштоўкі. А тады ў 1988 г. пабачыла сьвет паштоўка, зьвязаная з асобай беларускага дысыдэнта Міхася Кукабакі. Апошнім жа на сёньня паштовым выданьнем беларускай тэматыкі ў Аўстраліі можна лічыць картку з выявай беларускага стэнду ў этнічным музэі Адэляйды. Аднак яе выдалі ў 1990-х гг. не самі беларусы, а музэй.

Іншым цікавым рэгіёнам паштоўкавыдавецкай дзейнасьці беларусаў стаў Мадрыд 1960-х гг. Менавіта ў час, калі тут дзейнічала беларус-

[24] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 495.



Паштоўка з выявай Наваградзкага замку, выдадзеная Івонкай Сурвілай. Мадрыд, 1966 г.

кая служба гішпанскага радыё, былі выдадзеныя некалькі сэрыяў паштовак зь беларускімі краявідамі, што рэпрадукавалі карціны адной з супрацоўніц згаданага радыё Івонкі Шыманец-Сурвілы. У БІНіМаўскай калекцыі захоўваюцца паштоўкі, выдадзеныя аўтаркай у 1966 г., а ў Скарынаўскай бібліятэцы захаваліся прыклады й паштовак 1962 г. Варта адзначыць, што выкарыстаньне сваіх карцін для непрамысловай вытворчасьці паштовак аўтарка працягнула й пазьней у Канадзе.

Калі ж зьвярнуцца да канадыйскага вопыту выданьня паштовак, дык ён мае свае асаблівасьці. Тут, па-за згаданымі вышэй выявамі краявідаў аўтарства Івонкі Сурвілы, больш за ўсё выдавалася паштовак з нацыянальна-грамадзянскай тэматыкай. Адной зь першых была выдадзеная ў 1952 г. паштоўка Згуртаваньня беларусаў Канады з малюнкам мастака Пётры Міpановіча „Уздымем яго высока — або ён пакрые нас!“ (З прысягі беларускіх партызанаў)“. Свае спэцыфічныя калядныя віншавальныя паштоўкі выдаваў у Таронта Сяргей Хмара (іх можна знайсьці як у зборах Скарынаўкі й БІНіМу, гэтак і ў беларускіх фондах Бібліятэкі й архіву Канады). Некаторыя паштоўкі з выявай „Пагоні“, што друкаваліся ў 1970—1980-х гг., выкарыстоўваліся канадыйскімі

беларусамі адначасова й як запрашальнікі на нацыянальныя імпрэзы. Пры канцы 1980-х гг. пабачыла таксама сьвет адмысловая паштоўка-здымак Крыжа-помніка тысячагодзьдзя хрысьціянства на Беларусі, пастаўленага беларусамі ў сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе (наклад паштоўкі складаў 5000 асобнікаў). У 1990-х гг. у Канадзе сталі зьяўляцца паштоўкі мясцовага беларускага Чарнобыльскага фонду, што прыцягвалі ўвагу да праблемы неабходнасьці дапамогі дзецям з пацярпелых ад аварыі раёнаў.

Пераважна рэлігійныя матывы першапачаткова дамінавалі на паштоўках беларусаў у Вялікабрытаніі. Гэта было вынікам выдавецкай актыўнасьці двух цэнтраў: Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ды Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Першая ўжо каля 1954 г. выдала сэрыю з 6 паштовак, якія адлюстроўвалі выявы з іканастасу капліцы ў лёнданскім Марыян Хаўзе. Пазьней зьявіліся таксама калядныя паштоўкі з выявамі старонак скарынаўскага выданьня й сьвяточным віншаваньнем унутры. Выдавецкім жа цэнтрам БАПЦ у Вялікабрытаніі стаў Брадфард, дзе намаганьнямі беларускага дзеяча Янкі Калбасы былі надрукаваныя некалькі калядных паштовак з выявай Жыровіцкай Божай Маці (у чырвоным і сінім колерах) ды вершаванымі віншаваньнямі.

Варта адзначыць, што й найбуйнейшая ў Вялікабрытаніі беларуская арганізацыя — Згуртаваньне беларусаў — паўдзельнічала ў паштоўкавыдавецкай дзейнасьці. У 1968 г. яно выдала вялікую паштоўку да юбілею Рады БНР, а ў 1980 г. яго намаганьнямі пабачылі сьвет дзьве паштоўкі самвыдатаўскага паходжаньня зь Беларусі, аўтарам якіх быў Аўген Кулік. Абедзьве паштоўкі былі прысьвечаныя тысячагодзьдзю беларускай дзяржаўнасьці.

Найбольш шырокая дзейнасьць па выданьні беларускіх паштовак пасьля Нямеччыны разгарнулася ў ЗША, што тлумачыцца найбольшай колькасьцю беларусаў, якія апынуліся ў гэтай краіне ў паваенны час.

Асаблівае разьвіцьцё атрымала тут выдавецтва віншавальных паштовак (велікодных і калядных), якім шмат займалася Згуртаваньне беларускай моладзі ў Кліўлэндзе. Варта адзначыць, што прадукаваныя тут паштоўкі прынцыпова адрозьніваліся ад віншавальных выданьняў у Нямеччыне. У іх скарыстоўваліся „інтэрнацыянальныя“ рэлігійныя ці сьвяточныя сюжэты, пазбаўленыя нацыянальнага каларыту, аднак унутры абавязкова падаваўся беларускі тэкст віншаваньня ў прыгожым аздабленьні. Часам для вытворчасьці такіх паштовак выкарыстоўваліся стандартныя лісты (кшталту фармату А4), але адмыслова складзеныя.




Паштоўка, выдадзеная БІНіМам да 450-х угодкаў беларускага друку. Нью-Ёрк, 1972 г.

Практыкавалася таксама ўжываньне аднолькавых клішэ-віншаваньняў для выданьня паштовак з рознымі выявамі, што значна павялічвала вонкавую разнастайнасьць прадукцыі. У 1960-х гг. такім чынам было выдадзена больш за 30 варыянтаў беларускіх паштовак[25].

Важным выдавецкім цэнтрам у ЗША быў і сам Беларускі інстытут навукі й мастацтва, які час ад часу выдаваў паштоўкі, зьвязаныя з тымі ці іншымі значнымі нацыянальнымі ўгодкамі. Прыкладам, у 1972 г. пабачыла сьвет паштоўка „Др Францішак Скарына (1485—1540)“, выдадзеная з нагоды 450-х угодкаў беларускага друку, а ў 1991 г. выйшла паштоўка з партрэтам, прысьвечаная Максіму Багдановічу (мастачка — Ірэна Рагалевіч-Дутко)[26].

Варта адзначыць, што у паваенны час пабачылі сьвет чатыры паштоўкі, прысьвечаныя Францыску Скарыну. Акрамя згаданай вышэй былі таксама: паштоўка Згуртаваньня беларускіх лекараў на чужыне, выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 1953 г., паштоўка выданьня Яна Пятроўскага 1949 г. з аўстрыйскага Лінцу ды паштоўка Міколы Прускага, выдадзеная ў 1990 г. Усе паштоўкі скарыстоўваюць адну й тую ж гравюру з выявай Францыска Скарыны, але з розным суправаджальным тэкстам.

Выданьнем паштовак займалася й газэта „Беларус“ — найбольш масавы й працяглы беларускі эміграцыйны пэрыёдык. Прыкладам, у 1980 г. пабачыла сьвет арыгінальнае выданьне, прысьвечанае беларускаму дысыдэнту Міхасю Кукабаку. На адвароце паштоўкі з партрэтам дзеяча быў зьмешчаны тэкст адмысловага звароту за яго вызваленьне (былі два варыянты выданьня, з тэкстам у ангельскай і беларускай

[25] Зубкоўскі, В. Нашыя паштоўкі на Захадзе…

[26] Зубкоўскі, В. Нашыя паштоўкі на Захадзе…

мовах) і адрас Генэральнага пракурора СССР. Іншы варыянт гэтай паштоўкі зьмяшчаў кароткую біяграфію Міхася Кукабакі, а таксама ягоную турэмную адрэсу, куды меркавалася дасылаць паштоўкі падтрымкі[27]. Ужо ў 1990-х—2000-х выдавецтва газэты „Беларус“ сумесна з БАЗА сіламі Марата Клакоцкага занялося друкам віншавальных паштовак, аўтарамі якіх былі Сяргей Капытка й Валянціна Якімовіч[28].

Асобнай увагі патрабуюць паштоўкі зь беларускай сымболікай (савецкай ды нацыянальнай), што выдаваліся Арганізацыяй аб'яднаных нацый у розныя часы, а таксама іншымі міжнароднымі структурамі, прыкладам, Антыбальшавіцкім блёкам народаў. Прынагодныя або тэматычныя выданьні паштовак, зьвязаных зь Беларусьсю, ажыцьцяўляла таксама й Нью-ёрская публічная бібліятэка ў сувязі з выставамі, як, напрыклад, да 450-годзьдзя беларускага друку й інш.

Сярод паштовак апошніх дзесяцігодзьдзяў варта адзначыць прысьвечаныя 25 сакавіка, беларускім цэрквам у ЗША й Канадзе, беларусам у Нью-Ёрку й іншыя. Своеасаблівым рарытэтам у калекцыі глядзіцца адна з апошніх — паштоўка з выявай дошкі з малітвай „Ойча наш“, што была ўсталяваная ў 2011 г. у храме „Патэр ностэр“ на Эліёнскай гары ў Ерусаліме. Паштоўка, што праўда, выдадзеная без удзелу беларусаў.

Сыстэматызуючы зьвесткі пра беларускія паштоўкі ў эміграцыйных калекцыях, трэба адзначыць, што калі зважаць на традыцыйны іх падзел на дакумэнтальныя (з фотавыявамі) і мастацкія, то пераважную большасьць складаюць менавіта апошнія. Да дакумэнтальных можна аднесьці паштоўкі з выявамі гарадоў пачатку XX ст. ды асобныя паштоўкі са здымкамі цэркваў ці асобаў з паваеннага часу. Цікавым прыкладам тут будзе фотапаштоўка „Беларускі мужчынскі хор „Жалейка“ з Манрэалю“.

Паводле тэматыкі найперш важна падзяліць паштоўкі на рэлігійныя й сьвецкія. Сярод першых, у сваю чаргу, можна вылучыць віншавальныя (калядныя й велікодныя), паштоўкі з выявамі сьвятых або абразоў, паштоўкі з выявамі цэркваў ці рэлігійных помнікаў, паштоўкі з царкоўнай атрыбутыкай. Да апошніх можна аднесьці картку са здымкам рэканструкцыі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай, выдадзеную ў 1966 г. Варта адзначыць пэўную поліфункцыянальнасьць рэлігійных паштовак. Тыя, што ўтрымлівалі выявы сьвятых, часам выкарыстоўваліся як

[27] Цярохін, Уладзімір. Рэдкая паштоўка // Беларускі калекцыянер. Орша, 1993. №2 (9). С. 4.

[28] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 509.




Велікодная паштоўка. Нямеччына, канец 1940-х гг.

своеасаблівыя іконкі. Акрамя таго, некаторыя рэлігійныя паштоўкі разпораз ужываліся як ілюстрацыі ў праваслаўных календарах[29].

Сьвецкія паштоўкі таксама вылучаюцца разнастайнасьцю тэматыкі. Тут ёсьць паштоўкі з выявамі гарадоў, асобных архітэктурных помнікаў і проста краявідаў Беларусі, а таксама з нацыянальнай сымболікай, з партрэтамі беларускіх дзеячаў і г.д.

Магчымы й іншы падзел паштовак паводле зьместу: на віншавальныя й інфармацыйна-рэпрэзэнтацыйныя. Пры гэтым віншавальныя складаюць амаль палову ўсіх эміграцыйных збораў. Найбольш сярод іх калядных паштовак (больш за паўсотні), якія вылучаюцца багацьцем сюжэтаў: ёсьць тут паштоўкі з выявамі сьвятых ці абразоў, а ёсьць і зусім сьвецкія матывы: беларускія краявіды, птушкі, Дзед Мароз і інш. А найменш сярод віншавальных паштовак — прысьвечаных Слуцкаму збройнаму чыну. З статыстыкі зьместу калекцыяў вынікае, што зь сьвецкіх нацыянальных сьвятаў найбольш адзначалі Дзень абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Паштоўкі з гэтай нагоды зьяўляліся на эміграцыі адносна рэгулярна.

[29] Напрыклад, гл. „Беларускі праваслаўны каляндар“ (1968), дзе ў якасьці ілюстрацыі наклееная паштоўка з выявай Крыжа Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.

Сярод інфармацыйна-рэпрэзэнтацыйных найбольш было своеасаблівых „геаграфічных“ паштовак, на якіх прадстаўленыя беларускія краявіды, архітэктурныя помнікі, гарады. Варта адзначыць цэлы шэраг „краявідных“ сэрыяў. Акрамя ўжо згаданых вышэй праскай 1943 г., ватэнштэцкай Янкі Сурвілы 1946 г. ды каляднай ад газэты „Бацькаўшчына“ 1955 г. ёсьць яшчэ сэрыя зь мінімум шасьці паштовак „Краявіды Беларусі“ з трохмоўнымі назвамі (беларуска-ангельска-францускімі), што мелі хаджэньне на тэрыторыі паваеннай Нямеччыны, а таксама сэрыя фотапаштовак зь беларускай прыродай з надпісам „Viasiolych sviatau“ (мінімум 5 відаў). Аднак ніякіх пазнакаў выдавецтва на згаданых паштоўках няма, і лякалізаваць іх надзвычай складана.

Сярод беларускіх дзеячаў, чые выявы зьмяшчаліся на паштоўках, найбольшай папулярнасьцю карыстаўся ў паваенны час Францыск Скарына. Як ужо згадвалася вышэй, яму былі прысьвечаныя ажно чатыры паштоўкі. Далей можна казаць пра Максіма Багдановіча (паштоўкі ў 1940-х і ў 1990-х гг.), Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, Кастуся Каліноўскага, Пётру Крэчэўскага. У 1940-х гг. былі выдадзеныя й дзьве паштоўкі з выявамі адразу некалькіх беларускіх дзеячаў: першая, зробленая Міколам Сільвановічам, — з маляванымі партрэтамі Кастуся Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага, Францішка Багушэвіча, Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі, а другая з фотаздымкамі двух апошніх і Міколы Абрамчыка як кіраўнікоў Рады БНР. Згаданыя паштоўкі-партрэты адлюстроўвалі ўяўленьні паваенных беларусаў пра нацыянальны пантэон.

Таксама да катэгорыі інфармацыйна-рэпрэзэнтацыйных можна аднесьці паштоўкі з нацыянальнай сымболікай, выявамі сьвятых ды інш.

Важнай асаблівасьцю беларускіх эміграцыйных паштовак, найперш віншавальных, зьяўляецца шырокае выкарыстаньне ў іх цытатаў з мастацкіх твораў: вершаў, песень. Гэта спрацоўвала, напэўна, на папулярызацыю беларускай літаратуры ў эміграцыйным асяродзьдзі. Сёньня ж гэткія паштоўкі для нас могуць стаць крыніцай каштоўнай інфармацыі пра літаратурныя прыярытэты суайчыньнікаў у замежжы.

Паводле тэхнікі вырабу трэба вылучыць асобную катэгорыю самаробных паштовак, якія маляваліся ці аздабляліся непрафэсійнымі мастакамі і ў невялікай колькасьці. Часам яны маглі друкавацца нават на звычайнай паперы, як, прыкладам, віншавальныя выданьні Вацлава Пануцэвіча ад імя Галоўнага кіраўніка Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне ў 1948 г. У пэўным сэнсе як своеасаблівыя самаробкі, але

больш высокай якасьці выступалі й пазьнейшыя паштоўкі Сяргея Хмары ды некаторыя іншыя. Самастойна прадукавала ўласныя паштоўкі, як ужо згадвалася вышэй, і мастачка Івонка Сурвіла.

Зразумела, што наклады паштовак у розныя часы і ў розных краінах не былі аднолькавыя. Адзінкавыя самаробкі былі, безумоўна, рарытэтамі, аднак і надзвычай вялікія наклады ў некалькі дзясяткаў тысяч асобнікаў былі, бадай, выключэньнем. Тым ня менш колькасны дыяпазон можна акрэсьліць прыблізна ад 100 да некалькіх тысячаў. Найбольшымі накладамі вылучаліся віншавальныя паштоўкі беларускай моладзі ў Кліўлэндзе, якія, паводле розных зьвестак, былі ад 5 да 30 тысяч асобнікаў[30].

Паштоўкі сталі неад'емным атрыбутам эміграцыйнага жыцьця. Яны былі й даступным сродкам сувязі для суайчыньнікаў, і магчымасьцю папулярызацыі беларусікі як унутры грамады, гэтак і звонку. Беларускія паштоўкі на эміграцыі ўяўляюць сабою надзвычай цікавы фэномэн, які адлюстроўваў абставіны жыцьця ды характар сьветаўспрыманьня замежных беларусаў. Гэтыя друкі зьяўляюцца каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі й чакаюць усебаковага й дэталёвага вывучэньня як з мастацкага, гэтак і з інфармацыйнага пункту гледжаньня.

## Памятныя карткі

Акрамя паштовак на эміграцыі выкарыстоўваліся таксама *памятныя карткі — графічныя друкі звычайна невялікага фармату, выдадзеныя з нагоды той ці іншай, часьцей рэлігійнай, падзеі.* Гэткія карткі можна знайсьці ў розных эміграцыйных зборах. Раней мы ўжо зьмяшчалі публікацыю невялікай калекцыі гэткіх картак са збораў БІНіМу[31]. Спробу сыстэматызацыі інфармацыі пра іх зрабіў таксама Юры Гарбінскі[32]. Аднак само зьбіраньне тых картак на сёньня яшчэ працягваецца, і сур'ёзная аналітычная праца чакае наперадзе. Тут жа прапануем агляд невялікай калекцыі прыкладна чатырох дзясяткаў картак, што пераважна захоўваюцца ў БІНіМе. Храналягічна яны ахопліваюць час ад 1940-х да 2000-х гг.

---

[30] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 530.

[31] Памінальныя карткі // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. Уклейка.

[32] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 520—521.



St. CYRIL



ER-12





EUGENE KACHANOVSKI
Age 77
Born March 5, 1910
Passed away May 25, 1987
Funeral Services
Friday, May 29, 1987
Mother of God of Zyrovicy
Byelorussian Autocephalic Church
at 10:00 a.m.
Interment
Riverside Cemetery

With the saints give rest O Christ to the soul of Thy servant Eugene where there is neither sickness nor sorrow nor sighing, but life everlasting.

— — —

Kolodiy-Sobczyk Funeral Home
3136 W. 14th St. 621-4449
Cleveland, Ohio



Памінальная картка Аўгена Каханоўскага

Усе памятныя карткі можна падзяліць на некалькі групаў. Першую складаюць юбілейныя — тыя, што выдаваліся з нагоды сьвяткаваньня найчасьцей угодкаў сьвятарства. На першай старонцы такой карткі зьмяшчалася выява іконы, а на адвароце тлумачылася падзея, магла быць таксама цытата зь Бібліі. Вядомыя такія карткі з нагоды 25-годзьдзя сьвятарства а. Пётры Татарыновіча (1946) або залатога юбілею а. Францішка Чарняўскага. Нагодаю для такой карткі магло стаць высьвячэньне на сьвятара ці біскупа або, прыкладам, першая камунія, як у выпадку зь Нінай Абрамчык.

Другая вялікая група памятных картак — памінальныя — чыё зьяўленьне зьвязанае з паховінамі таго ці іншага дзеяча. Памінальныя карткі адмыслова замаўлялі ў пахавальнай установе пасьля сьмерці пэўнага беларуса. Гэта былі своеасаблівыя апошнія памяткі па памерлых. Тут на першай старонцы таксама зьмяшчалася выява іконы, а на адвароце (ці на развароце) падаваліся імя й дата сьмерці (або й нараджэньня) чалавека, словы малітвы ці біблейская цытата, часам таксама месца пахаваньня або назва пахавальнага бюро. Адной з найбольш

раньніх вядомых памінальных картак можна лічыць выпушчаную з нагоды сьмерці Янкі Купалы і першай паніхіды па ім у Чыкага ў кастрычніку 1942 г., што зладзіў а. Ян Тарасэвіч[33]. Надалей памінальныя карткі прысьвячаліся пераважна эмігрантам.

Выгляд і памеры памінальных картак адрозьніваліся ў залежнасьці ад краіны. Найбольш раньнія эўрапейскія карткі былі некаляровыя, памерам блізкія да звычайнай паштоўкі. Аднабаковыя, з чорнай паласою па пэрымэтры й тэкстам пра нябожчыка ўсярэдзіне. Так выглядалі памінальныя карткі Лявона Рыдлеўскага, што памёр у Лёндане ў 1953 г., Пётры Сыча (1952) ды Барбары Вэржбаловіч (1967) зь Мюнхэну й г.д.

З Францыі паходзяць карткі вялікага памеру. Адна зь іх — з нагоды сьмерці Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка (1970) — мела тэкст у францускай і беларускай мовах на асобных старонках фармату А4. Вялікая памінальная картка, праўда, больш арыгінальна аформленая, была выдадзеная ў 1977 г. у сувязі са сьмерцю Ўладзімера Шыманца. Захавалася таксама й немалога памеру картка з нагоды сьмерці Міколы Равенскага (1953), якую можна было скласьці ў выглядзе жалобнай капэрты з чорнымі бакамі. Менавіта ў гэткіх адмысловых капэртах з тонкай чорнай стужкай па пэрымэтры й дасылалі звычайна на Захадзе сумныя весткі пра сьмерць чалавека або спачуваньні з гэтай нагоды.

У ЗША распаўсюджаныя памінальныя карткі стандартнага невялікага памеру (60x103 мм) з каляровай выявай іконы на першай старонцы й тэкстам у беларускай ці (часьцей) ангельскай мове на адвароце. Пры гэтым, калі на сьціплых эўрапейскіх картках часта зьмяшчалі хаця б мінімальныя зьвесткі пра самога памерлага й пахаваньне, дык на больш дасканалых амэрыканскіх, акрамя датаў жыцьця, амаль што ніякай біяграфічнай інфармацыі не пазначалі. Аўстралійскія памінальныя карткі часта рабіліся складныя, большага памеру й маглі зьмяшчаць партрэт памерлага, як у выпадку з карткай з нагоды сьмерці Алега Шнэка.

Памінальныя карткі выраблялiся пахавальным бюро, і мова надпісаў на іх часьцей ангельская. Што праўда, на эўрапейскіх картках часьцей сустракаўся дзьвюхмоўны варыянт, дзе на першым месцы стаяла беларуская. Таксама варта зазначыць, што нават зьвязаныя з адным чалавекам памінальныя карткі маглі мець розныя выявы на першай старонцы. Так, у калекцыі захоўваюцца дзьве розныя карткі з нагоды сьмерці Станіслава Станкевіча й цэлых сем варыянтаў картак Анто-

[33] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: Пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005... С. 521.

на Адамовіча. Пры гэтым тэкст на адваротным баку гэткіх друкаў быў аднолькавы.

Безумоўна, складана казаць пра вялікую інфармацыйную каштоўнасьць памінальных картак. Яны могуць дапамагчы ўдакладніць хіба што даты жыцьця ды, у некаторых выпадках, назву могілак, дзе чалавек пахаваны. Разам з тым яны сталі неад'емнай часткай эміграцыйнай пахавальнай культуры й менавіта таму вартыя адмысловай увагі. Да таго ж, часта гэткія карткі выкарыстоўваліся для падаваньня інфармацыі пра пахаваньне ў сродках масавай інфармацыі

Да памятных картак можна дадаць таксама малітоўныя. Яны маглі зьмяшчаць тэкст малітвы й выяву іконы (або толькі выяву іконы). Гэтая катэгорыя найбольш сьціпла прадстаўленая ў калекцыі карткай з „Малітвай айца сьвятога за перасьледваных", а таксама іншай — з выявай сьв. Эўфрасіньні Полацкай (што выйшла таксама ў выглядзе вялікай паштоўкі).

Усе згаданыя памятныя карткі, як і іншыя графічныя ды інфармацыйныя друкі, выконвалі ня толькі ролю носьбіта той ці іншай інфармацыі, але й своеасаблівым чынам пазначалі беларускую прастору на Захадзе, рэпрэзэнтавалі беларусаў прыблізна гэтаксама, як гэта робяць пахаваньні на могілках. Дзякуючы тым карткам суайчыньнікі ўпісваліся ў шматнацыянальны кантэкст жыцьця прымаючых краінаў, а таксама пашыралі неабходную інфармацыю сярод сваіх.

### Капэрты

*Капэрта — абалонка для ўкладаньня, захоўваньня й перасылкі папераў або плоскіх прадметаў, звычайна лістоў*. Першыя своеасаблівыя гліняныя капэрты вядомыя яшчэ з старажытнай Асырыі. На беларускіх землях нейкі час былі ў выкарыстаньні шаўковыя мяшэчкі з княскімі пячаткамі[34]. Першая ж папяровая капэрта была зробленая ў 1820 г. ангельцам Брэварам. Праз чвэрць стагодзьдзя ўласныя капэрты сталі выдавацца і ў Расеі[35], і прыйшлі на беларускія землі.

Зьбіраньне капэртаў з маркамі ці не, чыстых ці ўжываных зьяўляецца часткаю філятэліі. Што праўда, прысьвечанай гэтай тэме літаратуры значна меней, чым прысьвечанай зьбіраньню марак. Надзвычай

[34] Гл.: Гісторыя беларускай пошты http://archive.svaboda.org/programs/atlan/2002/12/20021212191047.asp.

[35] Якобс, В. Цельные вещи в филателии. Москва, 1980. С. 11.

мала публікацыяў, датычных і менавіта беларускіх капэртаў. Праўда, ёсьць каталёг капэртаў, што былі выдадзеныя ў незалежнай Беларусі[36], аднак абагульняльных тэкстаў па гісторыі беларускіх капэртаў, адметнасьцях іх выданьня й зьбіраньня вобмаль.

Яшчэ менш інфармацыі пра адметныя эміграцыйныя беларускія капэрты, што пачалі зьяўляцца ўжо ў 1950-х гг. У калекцыі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва захоўваецца некалькі дзясяткаў капэртаў з рознымі беларускімі адзнакамі. Усе яны зьяўляюцца немаркіраванымі (ня маюць адмыслова нанесенай пазнакі аплаты). Эміграцыйныя капэрты магчыма падзяліць на дзьве групы: капэрты з арыгінальным беларускім малюнкам (ілюстраваныя капэрты) і капэрты з надрукаванай беларускай адрэсай. Пры гэтым сярод апошніх вылучаюцца капэрты з адрэсамі арганізацыяў і прыватных асобаў.

Найбольшую каштоўнасьць уяўляюць арыгінальныя ілюстраваныя капэрты, якіх у БІНіМаўскай калекцыі захавалася дзевяць.

Самая раньняя вядомая нам была выробленая ў 1963 г. ня ўласна беларусамі, але, відавочна, з ініцыятывы суродзічаў-эмігрантаў, урадавымі структурамі ЗША. Яна адзначала 45-ю гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці БНР і той факт, што розныя сэнатары й кангрэсмэны выказваліся з гэтае нагоды. На капэрце была разьмешчаная чорная пячатка з адпаведным тэкставым паведамленьнем.

Празь пяць гадоў пасьля гэтае капэрты беларус з Брадфарду (Вялікабрытанія) Янка Калбаса ініцыяваў адмысловае ўшанаваньне „залатога“ юбілею БНР. Так зьявілася ўжо менавіта беларуская капэрта з выявай Пагоні на фоне бел-чырвона-белага сьцягу й англамоўным надпісам[37].

Да шэрагу юбілейных капэртаў у сьнежні 1987 г. дадалася выдадзеная парафіяй Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта да 1000-годзьдзя хрысьціянства. Малюнак эмблемы зрабіла беларуская мастачка Тамара Стагановіч-Кольба. Надпісы зробленыя ў беларускай і ангельскай мовах. У паведамленьні пра выхад капэртаў зазначалася: *„Канвэрты ў двух разьмерах — бюровым і звычайным — з чырвоным наддрукам эмблемы, іх трэба замаўляць у колькасьці ня меншай за 20 штук (цана за 20: тры даляры разам зь перасылкай)“*[38].

---

[36] Кудрин, В. Иллюстрированный каталог почтовых конвертов Беларуси. Минск, 2009.

[37] Юбілейныя канвэрты // Камунікат ЗБВБ. №64. 1967.

[38] Канвэрты да юбілею // Беларус. №338. Жнівень 1987. с. 8.




Капэрта, выдадзеная да 1000-годзьдзя хрысьціянства.
Аўтар Тамара Стагановіч. Таронта, 1987 г.

У 1990 г. пабачыла сьвет юбілейная капэрта да 500-годзьдзя Францыска Скарыны. Ініцыятарам яе выданьня стаў друкар з Мічыгану Мікола Прускі. На капэрце была зьмешчаная выява Ф. Скарыны ў профіль, выкананая карычневым колерам, зьлева ад яе — чырвоны беларускі арнамэнт, а ўнізе — дзьвюхмоўны (беларускі й ангельскі) надпіс: *„Ф. Скарына — беларускі першадрукар і асьветнік“*. Пры гэтым, Мікола Прускі прапаноўваў ахвотным зрабіць гэткія капэрты „індывідуалізаванымі“, г.зн. дадаць аддрукаваную адрэсу адпраўніка[39]. Аналягічным чынам Мікола Прускі выдаў на пачатку 1990-х гг. і капэрту, прысьвечаную Якубу Коласу. Тут таксама прысутнічала выява паэта, зробленая ў сінім колеры, ды беларускі арнамэнт зьлева. Надпіс гэтым разам быў толькі англамоўны *„Jakub Kolas — Byelorussian Literary Classic“*.

У 1994 г. зьявілася новая беларуская капэрта, гэтым разам прысьвечаная 200-м угодкам паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі. Выкананая сінім колерам выява бою паўстанцаў уверсе вянчалася Пагоняю, а зь левага боку — бел-чырвона-белай стужкаю. Дзьвюхмоўны надпіс паведамляў:

---

[39] Гл.: Беларус. №367. Люты 1990.




Капэрта, выдадзеная з ініцыятывы Багдана Павука. Чыкага, 1986 г.

*„Вызвольнае паўстаньне 1794 году на Беларусі“* (англамоўны надпіс прадубляваны таксама вэртыкальным надпісам справа). Магчыма, што й гэтую капэрту, і наступную, таксама прысьвечаную паўстанцкай тэматыцы — гэтым разам 75-м угодкам Слуцкага паўстаньня, — выдаў той самы Мікола Прускі. Апошняя мела чорную выяву паўстанцаў зь бел-чырвона-белым сьцягам і два надпісы: уверсе беларускі, унізе ангельскі.

Згаданыя юбілейныя капэрты адзначалі найважнейшыя даты беларускай гісторыі, шанаваныя эмігрантамі. Аднак акрамя іх былі яшчэ й іншыя арыгінальныя беларускія капэрты. Так, каля 1986 г. зьбіральнік-філятэліст Багдан Павук ініцыяваў выданьне ў Чыкага капэрты з выяваю Пагоні. Апошняя была ўзятая з адной зь першых марак яшчэ даваеннай БНР. Зьяўленьне капэрты было прымеркаванае да міжнароднай філятэлістычнай выставы *Ameripex*, што праходзіла ў Чыкага 22 траўня — 1 чэрвеня 1986 г. Пра апошняе сьведчыць і наклееная на капэрту арыгінальная марка выставы, і спэцыяльны штамп. Варта адзначыць, што выкарыстаная на гэтай капэрце выява Пагоні часта ўжывалася на звычайных капэртах у выглядзе налепкі.

Апошняя зь вядомых арыгінальных беларускіх капэртаў істотна адрозьніваецца ад згаданых вышэй. Яе выданьне было зьвязанае зь дзейнасьцю Парафіі Жыровіцкай Божай Маці (БАПЦ) у Кліўлэндзе. Капэрта мае назву „Вялікодны падарунак“ і была, відавочна, прызначаная для зьбіраньня ахвяраваньняў на царкву. Акрамя біблейскай выявы тут была пададзеная адрэса парафіі, а таксама пазначаныя мес-

цы для прозьвішча, адрэсы ды пазнакі сумы ў далярах, скіраванай ад адпраўніка. Час выданьня гэтай капэрты невядомы, таксама як і наклад. Зрэшты, зьвестак пра наклад няма ні па адной з прыведзеных вышэй капэртаў.

Акрамя арыгінальных ілюстраваных капэртаў на эміграцыі карысталіся папулярнасьцю й звычайныя, але з аддрукаванай адмысловым чынам зваротнай адрэсай, або „індывідуалізаваныя“. Як было пазначана вышэй, гэта маглі быць або адрэсы арганізацый, або прыватных асобаў. Сярод наяўных у калекцыі БІНіМу ёсьць „індывідуалізаваныя“ капэрты Згуртаваньня беларускіх скаўтаў (нават з выявай скаўцкай лілеі), газэты „Беларус“ (з 1953 і 1973 гг.), Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня й яго Нью-ёрскага аддзелу, Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту, Мюнхенскага інстытуту вывучэньня СССР, а таксама самога Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Сярод цікавых друкаваных прыватных адрэсаў можна адзначыць такія Аўгена Каханоўскага, Раісы Жук-Грышкевіч, біскупа Часлава Сіповіча ды Віктара Войтанкі-Васілеўскага. Згаданыя капэрты мы вылучаем у асобную групу ад тых, дзе зваротная адрэса выстаўлялася звычайным атрамантавым штампам.

У багатай калекцыі лістоў і капэртаў, што захоўваецца ў БІНіМе, ёсьць таксама шмат звычайных адмыслова „зьбеларушаных“ адзінак, зь беларускімі маркамі (часам колькасьць такіх марак, наклееных адначасова, была чатыры-шэсьць) або спэцыяльна выробленымі налепкамі. Асабліва шмат розных налепак выкарыстоўваў на капэртах сваіх лістоў у БІНіМ згаданы вышэй Багдан Павук. Тут можна знайсьці выявы Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Пагоні або адмысловую чорна-белую зьменшаную копію скаўцкай паштоўкі канца 1940-х гадоў.

Як відаць зь пералічанага, беларускія капэрты на эміграцыі маюць сваю гісторыю й выразныя адметнасьці. Як і іншыя паштовыя выданьні, яны, разам са сваёй непасрэднай функцыяй, выконвалі й рэпрэзэнтацыйную, выступаючы ў якасьці адмысловых, хоць і невялікіх, пазнакаў беларускай прысутнасьці на Захадзе.

### Візытоўкі

*Візытоўка (візытная картка) — невялікая картка з імем чалавека або арганізацыі, часта з пазначэньнем кантактнай інфармацыі.* Правобраз візытоўкі быў вядомы яшчэ ў старажытнасьці ў Кітаі, аднак уласна як папяровая картка з імем уладальніка яна зьявілася ў Францыі

ў часы Людовіка XIV. Тады такія карткі перадавалі госьці гаспадарам, каб паведаміць аб сваім прыбыцьці або атрымаць дазвол адведаць іх (адсюль і назва ад франц. „*visite*“ — наведваньне). Ад пачатку XVIII ст. візытоўкі сталі распаўсюджвацца ў арыстакратычных колах розных эўрапейскіх краінаў, стаўшы неад’емным элемэнтам сьвецкага жыцьця. На зьмену рукапісным паступова прыйшлі друкаваныя. Пры канцы XVIII ст. у Нямеччыне адчынілася першая друкарня візытных картак[40].

Цалкам магчыма, што на беларускіх землях візытоўкі таксама зьявіліся ў XVIII ст. пад уплывам моды на ўсё францускае ў магнацкім асяродзьдзі. Аднак спэцыяльных дасьледаваньняў на гэтую тэму ня знойдзена. У часы Кацярыны II візытоўкі прыйшлі і ў Расейскую імпэрыю й паступова набылі шырокі распаўсюд ня толькі ў колах арыстакратыі[41]. Выкарыстаньне й выгляд візытовак у XIX ст. рэглямэнтаваліся правіламі этыкету[42]. Існавалі асобна мужчынскія, жаночыя, сямейныя, дзіцячыя карткі.

На першых візытоўках пазначалася толькі імя або імя й тытул асобы (арыстакраты часта дадавалі выяву родавага гербу). Гэткія візытоўкі называліся асабістымі ці іменнымі. З часам і з пашырэньнем сфэры ўжываньня картак на іх сталі пазначаць кантактную інфармацыю: адрэсу асобы, пазьней — нумар тэлефону й г.д., а таксама род заняткаў, месца працы. Візытоўкі сталі неад’емнай часткай ня толькі сьвецкага жыцьця, але й дзелавых адносінаў. Пачалі зьяўляцца візытныя карткі ўжо не асобаў, а фірмаў, кампаніяў, арганізацыяў.

Уласна беларускія візытоўкі, выглядае, зьявіліся на пачатку XX ст. Прыкладам, у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва захоўваецца візытоўка Браніслава Эпімах-Шыпілы[43] (як найстарэйшая), а таксама Янкі Станкевіча, Антона Луцкевіча, Фабіяна Ярэміча, Аляксандра Ружанцова, Уладыслава Галубка, Аляксандра Ўласава ды іншых[44]. У зборах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёнда-

---

[40] Басманова, Э. Визитная карточка: История и современность. Москва, 2010. С. 11—15.

[41] Басманова, Э. Визитная карточка… С. 16—18.

[42] Гл.: Post, Emily. Cards and Visits // *Etiquette in Society, in Business, in Politics and at Home*. New York: Funk & Wagnalls Company, 1922. http://www.bartleby.com/95/10.html; Басманова, Э. Визитная карточка… С. С. 19—22.

[43] Беларускі Дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва (БДАМЛіМ). Фонд 401. Воп. 1. Спр. 15.

[44] БДАМЛіМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 94, 97, 256, 260, 261; Фонд 66. Воп. 1. Спр. 1500.

не ёсьць таксама карткі дзеячаў Рады БНР канца 1910-х — пачатку 1920-х гг.: Тамаша Грыба, Вацлава Ластоўскага, Леанарда Зайца ды іншых. У нядаўна знойдзеным фондзе Кастуся Езавітава ў Гувэраўскім інстытуце (ЗША) таксама зьбераглася калекцыя візытовак, сярод якіх ёсьць і прыналежныя беларускім дзеячам Янку Чарапуку, Клаўдыюшу Дуж-Душэўскаму, Станіславу Грынкевічу, Аляксандру Ружанцову, Андрэю Якубецкаму, Уладзіміру Пігулеўскаму.

Пасьля 1917 г. на савецкіх тэрыторыях візытныя карткі былі абвешчаныя буржуазным перажыткам і амаль зьніклі. Выключнай сфэрай ужываньня іх засталася дыпляматыя: кантакты з замежнікамі на найвышэйшым узроўні патрабавалі наяўнасьці візытовак[45] (як прыклад, візытоўка мітрапаліта Філарэта з канца 1970-х гг., пра якую будзе размова далей). І толькі ад пачатку 1990-х гг. візытныя карткі сталі вяртацца ў Беларусь, атрымліваючы ўсё больш шырокае распаўсюджаньне.

У той час, калі ў БССР візытовак не было, беларускія карткі даволі шырока ўжываліся ў асяродзьдзі эмігрантаў на Захадзе. Кантактуючы з навакольным грамадзтвам, пашыраючы інфармацыю пра сябе або свой бізнэс, беларусы карысталіся візытоўкамі. Мэтанакіраваным зьбіраньнем і вывучэньнем іх, наколькі вядома, ніхто не займаўся. Аднак на сёньня сфармаваліся два асноўныя зборы беларускіх візытных картак на Захадзе: у фондах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане і ў фондах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. У найвялікшай лёнданскай калекцыі — больш за паўсотні картак, у тым ліку й тыя, што належалі беларускім дзеячам даваеннага часу: Адаму Станкевічу, Вацлаву Ластоўскаму, Вінцэнту Гадлеўскаму, Васілю Захарку ды інш. У нью-ёрскай калекцыі — больш за дзясятак візытовак, пераважна амэрыканскіх беларусаў. Асобныя карткі можна знайсьці ў архіўных зборах беларусаў Канады.

На сёньня намі выяўлена 81 візытная картка ў эміграцыйных калекцыях, і менавіта пра іх пойдзе размова далей. Храналягічна яны ахопліваюць пэрыяд ад 1919 г. да 2011 г.: да найбольш раньніх (з тых, што магчыма больш-менш дакладна лякалізаваць у часе) трэба аднесьці візытоўку Тамаша Грыба, а да найбольш позьніх — уладыкі Сьвятаслава (Логіна). Ня ўсе выяўленыя карткі ўласна эміграцыйныя. З 81 візытовак тры належаць беларускім дзеячам, што жылі ў Вільні (той самы Тамаш Грыб, Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі), адна — пробашчу касьцёлу ў Тракелях на Гарадзеншчыне ў 1920-х гг. Міхалу

[45] Басманова, Э. Визитная карточка... С. 63—67.




Візытоўка Тамаша Грыба. 1919 г.

Шалкевічу (1891—1972). Ня быў эмігрантам і мітрапаліт Філарэт, патрыяршы экзарх Заходняй Эўропы ў 1978—1984 гг., на чыёй візытоўцы пазначаныя дзьве адрэсы: парыская й менская. Таксама сярод згаданых візытовак ёсьць і некалькі не беларускіх ў строгім сэнсе: Баляслава Слосканса, Апостальскага адміністратара Магілёўскага й Менскага, ды сябры Беларуска-бэльгійскага таварыства а. Робэрта ван Кавэлярта. Аднак з увагі на рэдкасьць і каштоўнасьць усіх згаданых картак, а таксама на тое, што яны захоўваліся менавіта ў беларускіх эміграцыйных зборах, мы ня выключылі іх з нашага разгляду.

Геаграфічна візытоўкі разьмеркаваныя ў пэўнай згодзе з асаблівасьцямі расьсяленьня беларускіх эмігрантаў на Захадзе і рэпрэзэнтуюць 13 краінаў. Найбольш картак (23) паходзіць з ЗША, на другім месцы паводле колькасьці — Вялікабрытанія (13), але тут варта ўлічваць, што найбагацейшая калекцыя захоўваецца менавіта ў гэтай краіне. Далей ідуць Францыя (9), Канада (8) і Італія—Ватыкан (9), але сярод апошніх — пяць запар візытовак а. Пётры Татарыновіча, які праз вялікую колькасьць кантактаў, відаць, меў багата картак рознага выгляду. Далей па колькасьці: 5 візытовак з Бэльгіі, 4 — зь Нямеччыны. Унікальныя карткі (па адной з краіны): Прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі з Чэхіі, на той час студэнта Ўладыслава Рыжага-Рыскага з Гішпаніі, прадпрымальніка Вацлава Мароза з Бразыліі, дзе ніколі не было беларускіх арганізацыяў, і пісьменьніка Сакрата Яновіча з Польшчы. Не ва ўсіх

выпадках можна дакладна вызначыць геаграфічную прыналежнасьць візытоўкі (напрыклад, візытоўкі Вацлава Ластоўскага й Леанарда Зайца). На некаторых пазначана адразу некалькі краінаў: прыкладам, на візытоўцы Баляслава Слосканса пазначаныя рымская й лювэнская адрэсы, ва ўладыкі Сьвятаслава (Логіна) — нью-ёрская й таронтаўская. А на картцы мастака з Італіі Мікалая Касака ад рукі напісаная адрэса Часлава Ханяўкі з амэрыканскага Саўт-Рывэру. Айцы Леў Гарошка ды Часлаў Сіповіч мелі візытоўкі з розных краінаў: першы з Францыі й Вялікабрытаніі, другі — з Ватыкану ды Вялікабрытаніі, што адлюстравала геаграфію іх дзейнасьці.

Маючы на мэце рэпрэзэнтацыю для замежнага грамадзтва, большасьць візытовак (за выняткам віленскіх) ужывае іншыя мовы апроч беларускай. Пераважна гэта ангельская, меней францускай, італьянскай, ёсьць нямецкая, гішпанская, партугальская, польская.

Візытоўкі адрозьніваюцца паводле памеру, што можа быць і адзнакай часу, і адлюстраваньнем варыянтаў стандартаў візытовак, якія дзейнічаюць у розных краінах. Найбольшы памер маюць старыя візытоўкі Вацлава Ластоўскага, Тамаша Грыба, Леанарда Зайца, Адама Станкевіча, найменшы — картка брадфардзкага беларускага выдавецтва „Крыніца“ зь ягоным кіраўніком Алесем Бутам.

Іншае вонкавае адрозьненьне картак зьвязанае з выкарыстаньнем колераў. Толькі пяць з выяўленых візытовак надрукаваныя з ужываньнем болей як аднаго колеру. Сярод іх дзьве належалі царкоўным герархам БАПЦ, а адна — беларусу з Рыё-дэ-Жанэйра, які меў бізнэс па фарбаваньні вырабаў са скуры й плястыку, што вымагала адметнага выгляду візытоўкі. На большасьці картак надпісы надрукаваныя клясычным чорным колерам. Аднак ёсьць і варыянты чырвонага, сіняга й нават залатога (на зялёным фоне). Шрыфты выкарыстоўваліся самыя разнастайныя: і імітацыі рукапісных надпісаў старых картак, і падобныя да літараў друкаркі, і кшталту шрыфтоў царкоўных кніг (у праваслаўных герархаў), і звычайныя простыя без засечак (найбольш частыя), і шмат іншых, нават гатычны. Малюнкі выкарыстоўваюцца мала: гэта або лягатыпы кампаніяў, або царкоўныя ці дзяржаўныя сымбалі (на візытоўцы Раісы Жук-Грышкевіч — сьцяг Канады, у Міколы Дзямідава — Пагоня), або малюнкі (прыкладам, у Міколы Прускага на візытоўцы ганаровага сябры мястэчка хлапцоў).

Часам візытоўкі выкарыстоўваліся ня толькі як носьбіт пэрсанальнай інфармацыі, але й для перадачы прывітаньняў ці пасланьняў ад імя ўладальніка. Так, на адной картцы Барыса Рагулі як старшыні Цэнтралі

беларускіх студэнцкіх арганізацыяў зроблены надпіс ад рукі *„з жонкай вітае Вас“*. А на візытоўцы Янкі Запрудніка — *„З прывітаньнем. Янка Запруднік. 19.IX.73“*. Часам такога кшталту надпісы адразу друкаваліся, як на картцы Брадфардзкага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі стаіць пазнака *„With compliments of...“*.

Паводле тыпу ўладальніка карткі можна падзяліць на дзьве групы: пэрсанальныя (візытоўкі асобаў) і карпаратыўныя (візытоўкі арганізацыяў без пазнакі асобаў). Апошніх у калекцыях было выяўлена няшмат: гэта карткі Брадфардзкага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, „Клясычнай дэнтыстычнай лябараторыі“ таго ж Згуртаваньня ды Беларуска-амэрыканскага рэспубліканскага клюбу. Усе іншыя візытоўкі можна аднесьці да пэрсанальных, якія ў сваю чаргу варта падзяліць на іменныя (у ангельскай мове яны яшчэ маюць назву *calling cards*), дзелавыя (*business cards*) і дыпляматычныя.

Іменныя візытныя карткі, што паводле старой традыцыі ўтрымлівалі толькі імёны, даволі рэдкія. Сярод выяўленых намі іх тры: адна — Раісы Жук-Грышкевіч і дзьве — Пётры Татарыновіча. Пры гэтым у абаіх ёсьць і іншыя візытоўкі з кантактнай інфармацыяй.

Асобнае месца займаюць франкамоўныя дыпляматычныя карткі Вацлава Ластоўскага й Леанарда Зайца. На іх акрамя імёнаў ёсьць толькі пазначэньне афіцыйнага статусу ўладальніка ў Беларускай Народнай Рэспубліцы, ад імя якой абое меліся выступаць.

Большасьць жа з выяўленых візытовак можна аднесьці да дзелавых. Варыянтаў прадстаўленьня на іх інфармацыі багата. Часам больш увагі аддаецца фірме ці арганізацыі, а асоба нібыта адыходзіць на другі плян, прыкладам, карткі Антона Маркевіча й Кастуся Акулы як сябраў беларускай выдавецкай суполкі „Пагоня“ ў Таронта. У іншых варыянтах дамінуе якраз асоба, а далей ідзе пазнака яе статусу й кантактная інфармацыя.

Дзелавыя візытоўкі зьяўляюцца найбольш каштоўнымі як гістарычныя крыніцы. Яны даюць магчымасьць спраўдзіць ня толькі напісаньне імя й адрэсы, па якой жыў той ці іншы дзеяч у пэўны час, але й ягоны статус, месца працы. Так, дзякуючы візытоўцы можна ўдакладніць месца службы ў Францыі ксяндза Францішка Чарняўскага — мястэчка Ізэр на паўднёвым усходзе краіны, у рэгіёне Рона—Альпы. На візытоўцы Тамаша Грыба пазначанае ягонае імя як Тумаш-Антон, а таксама ягоныя пасады: *„Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі / Сябра Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны / Загадчык Аддзелу „Нацыянальнае еднасьці“ пры Беларускім Урадзе — / Радзе Народных Міністраў / Рэдактар беларускіх газэт: „Гра-*




Візытоўка Міколы Абрамчыка

*мадзянін" у Вільні і „Родны Край" у Горадні"*. А на адной з картак Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка можна прачытаць *„Ing. econimiste, liciencie es letters"* (*„Інж[ынэр] эканаміст, бакаляўр філялёгіі"*), што выклікае пытаньні пра профіль ягонай адукацыі, атрыманай у Карлавым унівэрсытэце Прагі (традыцыйна лічыцца, што ён скончыў факультэт гісторыі й сацыялёгіі).

Як да любой крыніцы, да візытовак трэба ставіцца крытычна. Прыкладам, калі а. Пётра Татарыновіч, паводле адной з картак, рэпрэзэнтуецца як старшыня Беларускага цэнтру ў Рыме, то трэба ўлічваць, што гэтая структура ў рэальнасьці магла складацца з аднаго чалавека. Зрэшты, тое самае можна сказаць і пра Інстытут Льва Сапегі ў Мадрыдзе, генэральным сакратаром якога пазначаны на візытоўцы Ўладыслаў Рыжы-Рыскі.

У эміграцыйных сховішчах захавалася толькі невялікая частка беларускіх візытных картак. У прадстаўленай выбарцы ёсьць выразныя лякуны — напрыклад, ня выяўлена ніводнай карткі беларусаў з Аўстраліі ці Аргентыны, дзе ў пэўныя часы жыло багата нашых суайчыньнікаў. Разам з тым, нават на падставе параўнальна невялікага збору можна сьцьвярджаць, што візытоўкі — адметная крыніца гістарычнай інфармацыі, а таксама цікавы й варты ўвагі від друку.

## Аўтографы

*Аўтографы — уласнаручныя аўтарскія рукапісныя тэксты —* складаюць важную частку эміграцыйных архіўных збораў наогул і калекцыі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў прыватнасьці.

Нягледзячы на багацьце архіваў, эміграцыйныя аўтографы яшчэ не былі прадметам спэцыяльнай увагі дасьледнікаў. Можна адзначыць хіба што працу, прысьвечаную кніжным пазнакам у зборах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане Юрася Лаўрыка[46], а таксама апісаньне кніжных дарчых надпісаў у зборы Натальлі Арсеньневай, зробленае Янкам Запруднікам[47]. Іншыя віды аўтографаў на сёньня яшчэ ня сталі аб'ектам вывучэньня. І тут мы прапануем толькі агульнае акрэсьленьне зьместу калекцыі аўтарскіх рукапісаў БІНіМу, значная частка якіх захоўваецца ў адмысловай архіўнай калекцыі ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы[48].

Храналягічныя межы наяўных у БІНіМе аўтографаў складаюць ня меней за 90 гадоў. Найбольш раньнія датычаць 1920-х гг., найбольш позьнія — першага дзесяцігодзьдзя XXI ст., і калекцыя ўвесь час папаўняецца. Новыя аўтографы зьяўляюцца дзякуючы перадачы ў Інстытут прыватных архіваў розных дзеячаў іх сваякамі, нашчадкамі. Выяўляюцца рукапісы і ў працэсе апрацоўкі збораў.

Усе наяўныя ў Інстытуце аўтографы можна падзяліць на некалькі асноўных групаў: аўтографы твораў, эпісталярыі, надпісы на кнігах, анкеты.

Улічваючы спэцыфічную скіраванасьць установы на прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, аўтографы твораў займаюць важнае месца ў БІНіМаўскай калекцыі. Тут ёсьць як рукапісы Янкі Купалы (паэма „Безназоўнае“), Уладзімера Жылкі (захаваны сям'ёй Яўхіма Кіпеля „Тэстамэнт“ паэта), гэтак і багата твораў эміграцыйных аўтараў. Сярод апошніх варта адзначыць рукапісную кнігу Янкі Золка „Вершы 1945 год“, якую аўтар складаў у Бэрліне ад 16 студзеня да 2 сьнежня 1945 г. Цікавы таксама рукапісны варыянт рыхтаванай да друку кнігі Алеся

---

46 Лаўрык, Юрась. Беларускія кніжныя пазнакі ў зборах Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Лёндан: Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны, 2001. — 58 с.

47 Запруднік, Янка. Архіў Натальлі Арсеньневай // Запісы БІНіМ. №29. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 181—188.

48 Юрэвіч, Лявон. Беларускі цуд у Нью-ёрскай Публічнай Бібліятэцы: http://nn.by/?c=ar&i=25315.

Філістовіч Янка
2 rue du Parc Cheviron,
Sèvres (S. et O) France.

Сп. Старшыні БНУ
у Нямеччыне.

Спадар Старшыня,
Атрымаўшы Ваш ліст у якім Вы пішаце,
што БНУ вызначыла мяне сябрам Беларус-
кае Дэлегацыі на гарадзкі Кангрэс АБН, зьвяр-
таю да ведама, што назначэньне гэтае
я прыймаю і чакаю дальнейшае інструк-
цыі.
Ніжэй падаю мае персаналіі.
Filistovicz Janka (Jean) narodžany dnia
14. 1. 1926 h, u Michałowie pav. Vialejki.
Imia baćki Andrej maci Zosia dzia
kaje prožvišča Kuleš.
Numar maje karty -47-AB49815, vydanaj
13. IX. 1947 važnaja ad 13. 9. 1947 da 12.9.19.
Karta vydanaja Prefecturaj Palicyi ŭ Paryžy
Maja prafesyja: student (historyk) adres
2, rue du Parc Cheviron, Sèvres (Seine
et Oise) France.
З пашанай
Жыве Б.Н.Р.! Янка Філістовіч
Sèvres 3. 11. 1949 г.



Аўтограф Янкі Філістовіча. 1949 г.

Салаўя „Сіла гневу“ (1948), да якой аўтар сам і малюнкі рыхтаваў. Захоўваюцца рукапісы вершаў Натальлі Арсеньневай, Уладзімера Клішэвіча, Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, Уладзімера Дудзіцкага, Янкі Юхнаўца ды іншых. Акрамя таго, у зборах можна знайсьці рукапісы літмантажоў, зробленых Натальляй Арсеньневай у лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне, апавяданьняў Антося Галіны (Міхася Міцкевіча),

„Запісак эмігранта“ Лявона Савёнка й шмат іншых. Ёсьць і творы, што чакаюць сваёй адмысловай публікацыі, як, прыкладам, п’есы Аўгена Кавалеўскага. Часта можна спаткаць тэксты, набраныя на друкарцы, але падпісаныя ўласнаручна аўтарам.

Апошняе датычыць і шматлікіх эпісталярыяў у БІНіМаўскай калекцыі. Паводле спосабу напісаньня іх можна падзяліць на цалкам рукапісныя й машынапісныя з рукапіснымі подпісамі ці пазнакамі. Колькасьць апошніх стала актыўна павялічвацца ад пачатку 1990-х гг. У эпісталярных зборах можна вылучыць асобныя вялікія калекцыі Юркі Віцьбіча й Антона Адамовіча.

Паводле характару дзейнасьці аўтара ў эпісталярыях Інстытуту можна вылучыць лісты дзеячаў навукі й мастацтва, палітычных, рэлігійных, грамадзкіх дзеячаў з розных краін. Геаграфічна гэтыя аўтографы ахопліваюць усе краіны беларускай эміграцыі. Ёсьць тут, прыкладам, праскія лісты-звароты Васіля Захаркі (1939, 1942 гг.), лісты Міколы Абрамчыка й Радаслава Астроўскага, лісты япіскапаў Васіля (Тамашчыка), Андрэя (Крыта), Мікалая (Мацукевіча), біскупа Часлава Сіповіча, а. Язэпа Германовіча й шмат іншых. Ёсьць аўтографы Кастуся Акулы з Канады, Сяргея Шчэрбы й Хведара Кажаневіча зь Вялікабрытаніі, Міколы Скабея з Аўстраліі, а. Пётры Татарыновіча з Ватыкану, а. Льва Гарошкі з Францыі, Альбэрта Асоўскага са Швэцыі й шмат іншых.

Асобную групу эпісталярыяў складаюць лісты зь Беларусі. Яны належаць і Ларысе Геніюш, і Зосьцы Верас, і Язэпу Дылу, а таксама больш сучасным аўтарам Уладзімеру Арлову, Сержуку Сокалаву-Воюшу, Адаму Мальдзісу, Кастусю Цьвірку ды многім іншым.

Да эпісталярыяў можна далучыць і аўтографы на паштоўках, што дасылаліся на тыя ці іншыя сьвяты, або ў часе падарожжа. У зборах Інстытуту захаваліся дзясяткі гэткага кшталту ўласнаручных надпісаў розных дзеячаў.

Кніжныя пазнакі складаюць асобную цікавую групу аўтографаў у БІНіМаўскай калекцыі. Пераважная большасьць — гэта дэдыкацыйныя надпісы. Сярод найбольш раньніх — надпіс Язэпа Варонкі на ўласнай кнізе „Беларускі рух ад 1917 да 1920 году“ (Коўна, 1920): *„Сябру В. Ластоў[скаму] Аўта[р]. 22.IV.1920“*. Можна адзначыць аўтограф Алеся Салаўя на выдадзенай у 1944 г. у Менску кнізе „Мае песьні“: *„Вельмі паважанай Марыі Паплаўскай на доўгі й добры ўспамін аб нашым знаёмсцьве ў Вене. Алесь Салавей. Вена, 12. II. 1945 г.“*, а таксама вельмі прачулы дарчы надпіс Натальлі Арсеньневай на яе зборніку „Сягоньня“ (Менск, 1944), прысьвечаны Антону Адамовічу: *„Любаму сябры, на*




Надпіс на кнізе, зроблены Антонам Адамовічам. 1955 г.

*памяць аб супольна пражытых, у благім і добрым, днёх, адлюстраваных у гэтай сьціплай кнізе пад назваю „Сягоньня“. Аўтар. Абы давялося яшчэ пражыць іх нам побач шмат, стрэціцца і цешыцца, і працаваць разам. Н. Арсеньнева. Менск 5 траўня 1944 г.“*

Сярод больш позьніх можна адзначыць дарчы надпіс Натальлі Арсеньневай на ўласнай кнізе „Між берагамі“ (Нью-Ёрк—Таронта, 1979), адрасаваны Вітаўту Кіпелю: *„Даражэнькаму Вітаўту Кіпелю, лепшаму прадстаўніку нашага тут маладзейшага пакаленьня, у знак прызнаньня кніжку гэтую падпісвае аўтар Натальля Арсеньнева. Ню Ёрк, 22.5.79 г.“.*

Унікальным зьяўляецца асобнік кнігі Аляксандра Цьвікевіча „Западноруссизм“ (Менск, 1929), ня толькі праз рэдкасьць самога выданьня, але й праз адразу два аўтографы: Уладзімера Сядуры й Антона Ада-

мовіча. Апошні, безумоўна, важны сваім зьместам: *„Гэтую кніжку-унікум, ня выпушчаную цэнзураю на рынак, а падараваную мне самым аўтарам у 1935 г. у г. Вятцы, ды ў часе ваеннага розруху некім экспрапрыяваную ў мяне й прывезеную аж за акіян, цяпер-жа праўна набытую Уладзімерам Сядурам — зацьвярджаю за ім на вечнасьць (на ўспамін ды знак шчырай прыязьні. Ант. Адамовіч. 28 траўня 1955 г. Нью-Ёрк“*. І гэта толькі асобныя згадкі кніжных пазнакаў у зборах Інстытуту.

Спэцыфічны від аўтографаў у БІНіМаўскім зборы — анкеты, што запаўнялі сябры арганізацыі пры ўступленьні. Анкета ўяўляла сабою блянк са стандартнай заявай на прыняцьце ў сябры Інстытуту з паданьнем асабістых зьвестак: прозьвішча й імя, псэўданімаў, адрэсы, даты й месца нараджэньня, навуковага (творчага) стажу, ступені, асноўных публікацыяў. Ня ўсе анкеты запоўненыя ад рукі, ёсьць і машынапісныя, але ва ўсіх прысутнічае подпіс сябры. Сярод наяўных у калекцыі дзясяткаў анкетаў ёсьць анкеты Станіслава Станкевіча, Гіпаліта Паланевіча, Уладзімера Шыманца, Міколы Равенскага, Эміля Цяўлоўскага й шмат іншых. Гэтыя анкеты каштоўныя ня толькі як аўтографы, але й як крыніцы часам унікальнай інфармацыі пра беларускіх эміграцыйных дзеячаў.

У зборах БІНіМу ёсьць і некаторыя аўтографы, што немагчыма аднесьці да нейкай групы. Прыкладам, сярод папераў Антона Адамовіча былі выяўленыя сшыткавыя аркушы са сьпісамі. Сем зь іх пазначаныя як „Сьпіс прысутных на сэмінары аб беларускім фальклёры“, а чатыры — як „Сьпіс прысутных на лябараторных занятках паэтыкі“. Датуюцца яны кастрычнікам — сьнежнем 1928 г., часам навучаньня Антона Адамовіча ў Белпэдтэхнікуме. У кожным сьпісе ад 15 да 25 чалавек, прычым прозьвішчы запісаныя самімі ўдзельнікамі заняткаў. Фактычна, гэта аўтографы, і сярод іх прозьвішчы такіх асобаў, як Міхась Зарэцкі, Пятро Глебка, Паўлюк Трус, Тодар Кляшторны, Сяргей Серада (Дарожны) і г.д.

Аўтографы са збораў Інстытуту выкарыстоўваюцца пры падрыхтоўцы публікацыяў на старонках Запісаў БІНіМ, а таксама пры выданьні збораў твораў эміграцыйных аўтараў (прыкладам, Уладзімера Дудзіцкага, Янкі Юхнаўца, Лявона Савёнка[49]). Акрамя таго, рукапісы рэгулярна перадаюцца ў архівы й музэі мэтраполіі. Так, рукапісы вершаў Але-

[49] Гл., напрыклад: Дудзіцкі, Уладзімір. Творы. Мінск, 2010. — 398 с.; Юхнавец, Янка. Паэзія. Мінск, 2012. — 616 с.; Савёнак, Лявон. Творы. Мінск, 2012. — 350 с.

ся Салаўя ды Ўладзімера Дудзіцкага разам з рэдкімі эміграцыйнымі кніжнымі выданьнямі былі перададзеныя ў Музэй гісторыі беларускай літаратуры. Найбольш эміграцыйных аўтографаў са збораў Інстытуту перадаецца ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, дзе ёсьць ужо шэраг эміграцыйных калекцыяў. Такім чынам БІНіМ робіць свае калекцыі аўтографаў даступнымі для дасьледнікаў.

### Ідэнтыфікацыйныя дакумэнты (пашпарты, пасьведчаньні, даведкі, дыплёмы, граматы, сяброўскія карткі)

XX стагодзьдзе са зьяўленьнем новых дзяржаваў, з актывізацыяй міграцыйных працэсаў стварыла неабходнасьць у шматлікіх дакумэнтах, якія пацьвярджалі асобу. У ранейшыя часы, жывучы ў адной мясцовасьці, беларусу ня трэба было мець адмысловых папераў пра сябе. Пры жаданьні зьведаць сьвет у XIX — пачатку XX ст. трэба было мець пашпарт. Аднак з часам колькасьць дакумэнтаў, якія выдаваліся асобе living рознымі інстанцыямі, істотна павялічылася. Разнастайныя пасьведчаньні й даведкі суправаджалі беларуса ў БССР, былі вельмі важнымі ў часе акупацыі ды асаблівае значэньне набывалі пазьней, у паваеннай Нямеччыне й пры эміграцыі. Магчыма, таму ад 1940-х — пачатку 1950-х гг. захавалася ў эміграцыйных зборах вялікая колькасьць ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў.

У калекцыі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва налічваецца больш за сем дзясяткаў разнастайных пэрсанальных дакумэнтаў. Яны траплялі сюды найперш разам з прыватнымі архівамі асобных дзеячаў. Так, вялікая колькасьць дакумэнтаў у БІНіМаўскім зборы належыць Антону Адамовічу. Ёсьць цікавыя пасьведчаньні й даведкі, выдадзеныя Язэпу Гладкаму, Яўхіму, Марыі ды Вітаўту Кіпелям, Лявону Савёнку, Уладзімеру Сядуру, Міколу Панькову й іншым. Згаданыя дакумэнты часта выкарыстоўваюцца ў якасьці ілюстрацыяў для публікацыяў на старонках „Запісаў БІНіМ“ або ў асобных выданьнях, аднак адмысловым вывучэньнем іх, таксама як беларускіх ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў наогул, пакуль ніхто не займаўся.

Разнастайныя ідэнтыфікацыйныя дакумэнты можна знайсьці і ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Тут, прыкладам, захоўваюцца пэрсанальныя ідэнтыфікацыі беларускіх рэлігійных дзеячаў, а таксама сюды ж былі перададзеныя дакумэнты, знойдзеныя ў вопратцы трагічна загінулага ў 1954 г. журналіста Радыё „Вызваленьне“ Леаніда Кара-

ся. Нягледзячы на багацьце збораў Скарынаўкі, мы найперш засяродзімся на калекцыі БІНіМу.

Варта адзначыць, што ў зборах Інстытуту зьберагліся дакумэнты ня толькі эміграцыйныя, але й уласна мэтрапольныя ранейшых часоў, тыя, зь якімі беларусы траплялі на эміграцыю. Храналягічна яны ахопліваюць пэрыяд ад 1910-х да 1990-х гг. Сярод найстарэйшых варта адзначыць пашпарт, выдадзены ў Пружанскім уезьдзе Гродзенскай губэрні ў 1911 г. Дзям'яну Давідовічу, а таксама пропуск на акупаваную тэрыторыю ў Магілёў, выдадзены ў Воршы ў 1918 г. Найбольшая ж колькасьць разнастайных дакумэнтаў, даведак, пасьведчаньняў датуецца 1940 гг., асабліва часам пасьля Другой сусьветнай вайны.

Усе ідэнтыфікацыйныя дакумэнты ў зборах БІНіМу можна падзяліць на некалькі катэгорыяў. Да першай зь іх трэба аднесьці *пашпарты — дзяржаўныя дакумэнты, што сьведчаць пра асобу й яе грамадзянства*. Сярод захаваных у Інстытуце ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў пашпартоў каля дзясятка. Акрамя згаданага вышэй пашпарту 1911 г. ёсьць аналягічны, выдадзены ў Магілёўскай губэрні ў 1913 г. Да таго, ёсьць савецкі замежны пашпарт 1925 г., а таксама пашпарт Яўхіма Кіпеля 1940 г., атрыманы адразу па вызваленьні зь лягеру. Цікавы й нансэнаўскі пашпарт 1946 г. Варта дадаць, што ў зборах Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане захоўваюцца нансэнаўскія пашпарты, што належалі беларускім дзеячам Лявону Рыдлеўскаму, Льву Гарошку. Тамсама ёсьць і ўнікальны асобнік пашпарту БНР, выдадзенага на імя Янкі Чарапука-Змагара ў 1920 г. Сярод асабістых папераў Антона Адамовіча ў БІНіМе апынуліся й два ягоныя амэрыканскія пашпарты, што сьведчаць у тым ліку й пра вельмі актыўныя перасоўваньні ўладальніка ў зьвязку зь ягонай навуковай і грамадзкай дзейнасьцю. Да катэгорыі пашпартоў умоўна можна аднесьці й яшчэ адзін дакумэнт зь БІНіМаўскай калекцыі, што ня мае статусу дзяржаўнага, — пашпарт, што выдаваўся ўдзельнікам Міжнацыянальнага фэстывалю „Караван" у Таронта ў 1973 г. На гэтым мерапрыемстве былі прадстаўленыя розныя культуры, у кожнай нацыі быў свой павільён, пры адведваньні якога кожнаму госьцю ў згаданы адмыслова выдадзены „пашпарт" ставіўся спэцыяльны штамп-віза. Захаваўся гэткі дакумэнт, выпісаны на імя Раісы Жук-Грышкевіч, зь беларускаю візаю.

Асобную групу ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў у эміграцыйных зборах складаюць „*пасьведчаньні*" (каля двух дзясяткаў). Да іх мы аднесьлі *дакумэнтальныя сьведчаньні пра асобу, дадзеныя афіцыйнымі ўстановамі рознага кшталту*. Гэтыя дакумэнты часта мелі важ-


Беларуская Цэнтральная Рада
Weißruthenischer Zentralrat

Службовае пасьведчаньне
Beschäftigungsausweis
№ 59

„10“ Januar 1945 г.

BIHiM


1. Прозьвішча і імя HLADKI JOSEPH
Name und Vorname

2. Становішча Wachmann
Beruf

3. Год і месца нар. 4.10.1890 Michalkowitsc Kreis Minsk
Geburtsjahr u. Geburtsort

4. Пашпарт № 10552
Personalausweis Nr.

5. Адрыс Berlin Beusselstrasse 52
Adresse

Загадчык
Агульнага Аддзелу
Б. Ц. Р.
Leiter der Allg. Abteilung

M. S.

BIHiM

Пасьведчаньне Язэпа Гладкага, выдадзенае Беларускай Цэнтральнай Радай. Бэрлін, студзень 1945 г.

насьць, роўную пашпартам. Асабліва гэта датычыць разнастайных іміграцыйных картак і пасьведчаньняў пры канцы 1940-х — на пачатку 1950-х гг. З даваеннага часу захаваліся „Асабістая кніжка“ — своеасаблівы аналяг ваеннага білету, выдадзены Язэпу Гладкаму ў 1923 г., а таксама „працоўная кніжка“ Марыі Кіпель з 1932 г. Важныя й розныя адукацыйныя пасьведчаньні, кшталту пасьведчаньня аб сканчэньні сямігодкі Вітаўтам Кіпелем у Менску ў 1943 г. або пасьведчаньня сталасьці, выдадзенага ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу ў 1946 г. Аляксандры Заруцкай. Захаваліся цікавыя дакумэнты часоў Другой сусьветнай вайны, кшталту пасьведчаньня рэдактара газэты „Голас вёскі“ або папераў, выдаваных Беларускай Цэнтральнай Радай як у Беларусі, гэтак і ў Бэрліне. З паваеннай Нямеччыны паходзяць пасьведчаньні, выдадзеныя беларускімі арганізацыямі: Беларускім камітэтам у Рэгенсбургу, Беларускім Цэнтральным Прадстаўніцтвам і інш., а таксама рознымі акупацыйнымі ці міжнароднымі арганізацыямі (*IRO*, Сусьветнай царкоўнай арганізацыяй (*World Church Service*) ды інш.).

Пра тое, наколькі важна было для беларускага ўцекача ў паваеннай Нямеччыне мець розныя паперкі, гаворыць і колькасьць пасьведчань-

няў, што меў адзін чалавек, і іх характар. Пры гэтым часта яны мелі досыць фармальны характар. Так, сярод папераў згаданага Антона Адамовіча захаваліся два ягоныя прэсавыя пасьведчаньні як рэдактара газэты „Бацькаўшчына“. Пры гэтым першае, выдадзенае *IRO*, датуецца 1948 г., калі дзеяч сапраўды займаў згаданую пасаду, а другое дадзенае Асацыяцыяй вольнай прэсы ў 1950 г., калі газэту рэдагаваў ужо колькі гадоў Станіслаў Станкевіч. Верагодна, зь нейкіх прычынаў Антону Адамовічу ўжо пры пераезьдзе ў ЗША важна было мець пасьведчаньне рэдактара.

Вялікую важнасьць і ў даваенны, і ў ваенны, і ў паваенны час мелі таксама розныя афіцыйныя даведкі. Некаторыя маглі часам замяняць ідэнтыфікацыйныя дакумэнты, як, прыкладам, дадзеныя насельнікам *DP*-лягераў. З даваеннага часу захаваліся даведкі прыкладам, Яўхіма Кіпеля пра сяброўства ў прафсаюзе працаўнікоў асьветы ў 1930 г., або Язэпа Гладкага пра навучаньне на літаратуразнаўчым факультэце Менскага вячэрняга пэдынстытуту ў 1931—1935 гг. ды інш. З часоў лягераў для перамешчаных асобаў захаваўся шэраг даведак, выдадзеных настаўнікам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Да катэгорыі даведак мы аднесьлі й так званыя ашурансы, у якіх беларусам, што выяжджалі ў ЗША, запэўнівалася праца й утрыманьне. Прыклады гэткіх папераў таксама можна знайсьці ў зборах БІНіМу.

Асобна сярод ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў мы вылучылі дыплёмы й граматы. Часам яны маглі сьведчыць пра асобу даволі ўмоўна, як, напрыклад, віншавальныя дыплёмы ў гонар 25-годзьдзя творчай дзейнасьці Натальлі Арсеньневай, што падаравалі ёй выкладчыкі й вучні Беларускай гімназіі, а таксама (асобна) Беларускі акруговы камітэт у Рэгенсбургу ў 1946 г. Захаваліся й афіцыйныя дакумэнты такога кшталту, як дыплём Беларускага дзяржаўнага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту, дадзены Марыі Кіпель у 1935 г., або дыплём магістра права, дадзены Вацлаву Пануцэвічу ў Віленскім унівэрсытэце ў 1939 г. Ёсьць таксама дыплём Акадэміі навук аб наданьні ступені *„доктара філёлёгічных навук“* Уладзімеру Сядуру, выдадзены 5 чэрвеня 1941 г. Ён сьведчыць пра абарону аўтарам 15 траўня 1941 г. дысэртацыі на тэму „Горкі як гісторык рускай літаратуры“. Гэты дакумэнт тым больш унікальны, што на эміграцыі выказвалі сумневы ў праўнасьці навуковай ступені Ўладзімера Сядуры. Сярод іншых дыплёмаў можна згадаць паваенныя скаўцкія, што выдаваліся асобам ці цэлым арганізацыям за ўдзел у розных мерапрыемствах, а таксама шматлікія дыплёмы Беларускай Цэнтральнай Рады й Рады БНР аб наданьні чарговых вайсковых



Holy Spirit Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква Сьвятога Духа
14873 COLLINSON, EAST DETROIT, MICH. 48021

ГРАМАТА
ФУНДАТАРУ

З ЛАСКІ БОЖАЕ, дару і ўлады УСЕСЬВЯТОГА ДУХА дадзенае нам ад Самога Вялікага Архіярэя нашага ІСУСА ХРЫСТА праз сьв. Апосталаў і іх Наступнікаў і Спадкаемцаў мы надаем пабожным:

за шчодрую АХВЯРУ званьне ФУНДАТАРА Божага Храму Сьвятога Духа БАПЦ у Дэтроіце.

Гэтую нашую Архіярэйскую Грамату мы сьцьвярджаем нашым подпісам і пячаткаю.

27 лютага, 1972 году,
Дэтроіт, Міш. З.Ш.А.

Сакратар Храму Сьв. Духа БАПЦ у Дэтроіце

пакорны япіскап МІКАЛАЙ

Грамата фундатару. Дэтройт, 1972 г.

званьняў і ўзнагародах эміграцыйных дзеячаў. Адметнай таксама была „Грамата фундатару“, якой у 1972 г. было прапанавана ганараваць асобаў, што давалі шчодрыя ахвяры на царкву Сьвятога Духу БАПЦ у Дэтройце.

Найбольш колькаснай сярод ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў зьяўляецца катэгорыя сяброўскіх легітымацыяў (сяброўскіх картак — *membership cards*) — больш за тры дзясяткі. Амаль усе такія дакумэнты зьяўляюцца сьведчаньнем сяброўства ў беларускіх арганізацыях на чужыне. Найбольш раньняя такая сяброўская картка датычыць 1930-х гг. і дзейнасьці Хаўрусу беларусаў у Францыі. Наогул, геаграфія гэтых дакумэнтаў найбольш разнастайная. Тут прадстаўленыя краіны найбольш колькаснай беларускай эміграцыі: Аўстралія, Вялікабрытанія, ЗША, Канада, Нямеччына, Францыя. Найбольшая колькасьць сяброўскіх картак, як і іншых ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў, паходзіць зь Нямеччыны, што тлумачыцца разнастайнасьцю беларускіх арганізацыяў, створаных у другой палове 1940-х гг. у мясцовых лягерах *DP*. У асобную групу тут можна вылучыць скаўцкія легітымацыі, якія існавалі як у выглядзе звычайных пасьведчаньняў асобы, гэтак і ў выглядзе адмысловых „скаўцкіх кніжак“, дзе было каля дзясятка старонак і мела

фіксавацца разнастайная актыўнасьць ды посьпехі канкрэтных скаўтаў. Акрамя скаўтаў шматстаронкавыя сяброўскія кніжкі мелі пазьней удзельнікі Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага (1959), Беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры ў 1950-х гг. На пачатку 1950-х жа адмысловыя „Кніжачкі беларускага эмігранта“ былі распрацаваныя ў Радзе БНР і меліся быць уручаныя ўсім беларусам на чужыне (якія мусілі плаціць падатак на БНР).

Сярод іншых сяброўскіх легітымацыяў варта згадаць выдаваныя рознымі вайсковымі арганізацыямі (Згуртаваньнем беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі, Згуртаваньнем беларускіх вэтэранаў, Беларускім вызвольным фронтам), прафэсійнымі асацыяцыямі (Саюзам беларускіх журналістаў, Згуртаваньнем беларускіх лекараў на чужыне), царкоўнымі структурамі (праваслаўнымі таварыствамі, асобнымі парафіямі), БАЗА й яе аддзеламі, Згуртаваньнем беларусаў у Вялікабрытаніі й беларускімі клюбамі ў Манчэстэры ды Брадфардзе ды інш. Па сяброўскіх картках можна вывучаць геаграфію й зьмест беларускай дзейнасьці на эміграцыі.

Варта адзначыць, што ідэнтыфікацыйныя дакумэнты ў калекцыі БІНіМу зьберагліся як пэрсанальныя (з пазначанымі дадзенымі канкрэтных асобаў), гэтак і ў выглядзе незапоўненых блянкаў, па якіх не заўсёды можна зразумець, у які час яны выдадзеныя.

Згаданыя дакумэнты вылучаюцца сваім выглядам: ад невялічкіх картак кшталту амэрыканскай іміграцыйнай карткі да вялікага фармату аркушаў кшталту дыплёму магістра права Вацлава Пануцэвіча або дыплёму аб наданьні чарговай вайсковай рангі ад імя Рады БНР. Ёсьць тут і напісаныя ад рукі даведкі, і прыгожыя, выдадзеныя ў друкарні сяброўскія кніжкі, і якасна выдадзеныя пашпарты.

Усе разгледжаныя ідэнтыфікацыйныя дакумэнты зьяўляюцца важнымі крыніцамі інфармацыі пра канкрэтных асобаў, якім яны выдадзеныя, дазваляюць удакладніць пэўныя зьвесткі іх біяграфіяў. Разам з тым, тыя пасьведчаньні, дыплёмы, сяброўскія карткі распавядаюць пра эміграцыйныя арганізацыі й асяродкі. Агульная колькасьць і характар такіх дакумэнтаў у той ці іншы пэрыяд гавораць пра асаблівасьці жыцьця на чужыне. А захаваныя матэрыялы з даэміграцыйнага часу ёсьць цікавымі сьведчаньнямі агульнай беларускай гісторыі, яе сувязі з падзеямі выгнаньня.

Захаваныя ў эміграцыйных зборах ідэнтыфікацыйныя дакумэнты вартыя адмысловага вывучэньня як важныя гістарычныя крыніцы і ўнікальныя сьведчаньні часу й лёсаў.

## Блянкі, пячаткі, штампы

Наяўнасьць на эміграцыі вялікай колькасьці арганізацый, што кантактавалі паміж сабою, са сваімі сябрамі ды іншымі структурамі й асобамі, стала падставай для зьяўленьня саліднага дакумэнтазвароту. Неад'емнай часткай апошняга сталі разнастайныя блянкі, пячаткі ды штампы. Усе яны былі носьбітамі важнай інфармацыі пра арганізацыі й асобаў, утрымлівалі арыгінальную сымболіку, дзякуючы чаму й пазначалі частку своеасаблівай глябальнай „прасторы папераў“ як беларускую.

Пад *блянкам* мы будзем разумець *спэцыфічны від друкаванага дакумэнту, што ўяўляе сабою аркуш паперы пэўнага фармату са зьмешчанай на ім пастаяннай інфармацыяй і месцам для інфармацыі пераменнай*[50]. Акрамя блянкаў ідэнтыфікацыйных дакумэнтаў, пра якія ішла ўжо размова раней, у эміграцыйных архівах можна знайсьці багата афіцыйных дакумэнтаў, а таксама лістоў, напісаных на блянках. Чыстыя блянкі сустракаюцца нячаста, але ў асноўных эміграцыйных зборах: Беларускім інстытуце навукі й мастацтва, Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ды беларускіх калекцыях Бібліятэкі й архіву Канады — яны ёсьць. Прыкладам, сярод БІНіМаўскіх папераў можна знайсьці цэлы шэраг чыстых школьных пасьведчаньняў Беларускіх гімназіяў паваеннай Нямеччыны, пранумараваных як „залучнікі“. Гэтак зьбіраў ілюстрацыйныя матэрыялы для сваёй кнігі пра беларускую эміграцыю ў Нямеччыне Алесь Вініцкі[51]. Захоўваў блянкі арганізацыяў, што сам засноўваў, Сяргей Хмара. Сёньня іх можна знайсьці ў ягоным фондзе ў Бібліятэцы й архіве Канады.

Мэтанакіраванае вывучэньне блянкаў эміграцыйных дакумэнтаў яшчэ наперадзе. Тут жа мы прапануем першую спробу сыстэматызацыі інфармацыі на падставе згаданых вышэй збораў, дзе намі выяўлена больш за 120 эміграцыйных блянкаў, што ахопліваюць пэрыяд ад 1940-х да 2000-х гг. Усе іх можна падзяліць на дзьве групы: пэрсанальныя й арганізацыйныя. Першыя ўяўляюць сабою блянкі лістоў канкрэтных асобаў. На аркушы, звычайна фармату А4, тут нанесеныя ўверсе

---

[50] Параўнай: *Блянк — ліст паперы з друкаваным загалоўкам установы, прадпрыемства, або з часткова надрукаваным тэкстам, астатняя частка якога запаўняецца пры неабходнасьці* (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1996. С. 89).

[51] Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах. Лос-Анжэлес, 1968. Ч. 1. — 194 с.; Ч. 2. — 119 с.

Bielaruskaje
Centralnaje Pradstaunictva
Susvietnaj Emihracyi
Halounaja Uprava
Regensburg - U. S. Zone - Germany

**Apytalnik** Nr. ..........

1. Prozvisca i imia ..........
2. Miesca i data narodzannia ..........
3. Adras ..........
4. Paddanstva u 1939 h ..........
5. Asvieta ..........
6. Prafesja ..........
7. Vieda movau ..........
8. Stan radzinny ..........
9. Kolki dziaciej / imiony i daty narodzinau ..........

10. Adnosiny da vajskovaje sluzby / vajskovaja ranha ..........
11. Vieravyznannie ..........

Na vyzaj padadzienyje pytanni adkazau zhodna z praudaju i pryrakaju zausiody stajac na strazy interesau B. C. P. i pracavac dla dabra i na karysc darahoji Backauscyny Bielarusi.

1. Parucyciel ..........
2. Parucyciel ..........

.......... ulasnarucny podpis

.......... dnia ..........

Decyzja Halounaje Upravy B. C. P. albo Upaunavazanaho.

.......... Podpis

Блянк апытальніка Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва.
Нямеччына, канец 1940-х гг.

імя й прозьвішча ды адрэса асобы. Часам, у залежнасьці ад асобы, могуць быць зробленыя пазнакі ейнага прафэсійнага ці грамадзкага статусу, як, прыкладам, на блянках царкоўных герархаў. Звычайна гэткія паперы выкарыстоўваліся для лістоў, радзей — для афіцыйных распараджэньняў, прыкладам, ад імя Прэзыдэнтаў Беларускай Цэнтральнай Рады або Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеячы, што мелі актыўнае прыватнае ліставаньне, даволі шмат выкарыстоўвалі блянкі. Сярод часта сустраканых — лісты на блянках Вітаўта Тумаша, Раісы Жук-Грышкевіч, Барыса Рагулі, біскупа Чэслава Сіповіча ды іншых.

Выступаючы як афіцыйныя асобы, эміграцыйныя дзеячы карысталіся блянкамі арганізацыяў, што складаюць другую вялікую групу блянкаў. Разнастайнасьць напрамкаў дзейнасьці й геаграфіі беларускіх эміграцыйных інстытуцыяў абумовіла й багацьце іх блянкаў. У архівах можна знайсьці гэткія дакумэнты амаль з усіх краінаў беларускай паваеннай эміграцыі: ад Аўстраліі да Швэцыі. Вялікую колькасьць блянкаў (як і арганізацыяў) стваралі беларусы ў лягерах *DP* у паваеннай Нямеччыне. Сярод тагачасных блянкавых дакумэнтаў, акрамя згаданых вышэй школьных пасьведчаньняў, асобную катэгорыю складаюць анкеты й апытальнікі. Можна знайсьці створаныя Беларускім настаўніцкім згуртаваньнем на эміграцыі, Саюзам беларускіх вайскоўцаў, Беларускім цэнтральным прадстаўніцтвам ды Беларускім перасяленчым таварыствам пры Беларускім цэнтральным дапамаговым камітэце. У залежнасьці ад профілю арганізацыі карэктаваўся й набор пытаньняў ды іх фармулёўкі. Да стандартных пазнакаў асабістых і сямейных зьвестак у зьвязку з, напрыклад, пэрспэктывай перасяленьня дадаваліся пытаньні пра стан здароўя, веданьне моваў або *„У які край хацеў бы выехаць?“* ды *„Чым бы там хацеў заняцца?“* Настаўнікі для ўступленьня ў прафэсійную арганізацыю мусілі пазначаць ня толькі ў якіх школах працавалі ды што выкладалі, але й якія *„сродкі існаваньня“* яны маюць у Нямеччыне. А вайскоўцы падавалі зьвесткі пра тое, ці былі параненыя або кантужаныя на вайне. Безумоўна, цікавейшымі былі б тыя анкеты ды апытальнікі ў запоўненым выглядзе, але й чыстыя блянкі выглядаюць важнымі сьведчаньнямі часу.

У 1950-х гг. ад імя Згуртаваньня беларусаў у Канадзе ды некаторых іншых арганізацыяў час ад часу дасылаліся лісты на спэцыяльных блянках, у ніжнім левым куце якіх быў здымак аднаго з архітэктурных помнікаў (зь ягонай назвай па-ангельску) і надпісам *„Byelorussia“*. Вядомыя два варыянты такіх блянкаў: са здымкам Тэатру опэры й балету ў Менску ды з Катэдрай у Вільні. На жаль, невядома, хто быў ініцыятарам іх выданьня й ці былі іншыя варыянты.

Пераважная большасьць арганізацыйных блянкаў — гэта блянкі лістоў або афіцыйных распараджэньняў і пастановаў. Часта гэтыя віды блянкаў мелі аднолькавы выгляд. Традыцыйна згаданым дакумэнтам было ўласьцівае гарызантальнае разьмяшчэньне рэквізытаў, хоць сам склад апошніх меў вялікія адрозьненьні. Так, на некаторых блянках пазначалася толькі назва арганізацыі, прыкладам, Беларуская народная грамада, на іншых — назва й адрэса. Часам дадавалася таксама эмблема арганізацыі, што магла зьмяшчацца або па цэнтры, або ў ле-

вым куце дакумэнта. У асобных арганізацыях на блянкі выносілася інфармацыя пра кіраўніцтва, якая звычайна разьмяшчалася ўздоўж левага (або і левага, і правага) бакоў дакумэнта. Прыклады выкарыстаньня гэткіх звышінфармацыйных блянкаў можна знайсьці ў дзейнасьці Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня або Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

З пункту гледжаньня мовы блянкі можна падзяліць на аднамоўныя (маглі быць толькі па-беларуску або толькі па-ангельску ці па-француску), дзьвюхмоўныя (часьцей беларуска-ангельскія) і шматмоўныя. Апошні варыянт найчасьцей сустракаўся ў паваеннай Нямеччыне, калі надпісы на блянках, як і на пячатках ды нават на паштоўках, рабілі акрамя беларускай таксама ў нямецкай ды ангельскай, або і ў францускай мовах. У пазьнейшы час найбольш пашырыліся дзьвюхмоўныя або асобныя варыянты беларускамоўных і англамоўных рэквізытаў на блянках.

Найбольш распаўсюджаным колерам арганізацыйных рэквізытаў быў чорны. Хоць сустракаюцца й сіні ды нават зялёны, як на блянку Беларускага культурна-грамадзкага клюбу „Сакавік“ у Брадфардзе.

Адрозьніваліся колерамі й выглядам і эмблемы арганізацыяў. Побач з традыцыйнымі чорна-белымі выявамі сустракаюцца й чырвоныя, як на блянку Брадфардзкага аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

Часта ўласныя блянкі побач з галоўным кіраўніцтвам мелі й рэгіянальныя структуры арганізацыяў: аддзелы, краёвыя штабы, прадстаўніцтвы, а таксама асобныя царкоўныя прыходы. Свае спэцыфічныя блянкі для рэдакцыйнага ліставаньня мелі й найбольш значныя эміграцыйныя пэрыёдыкі: газэты „Бацькаўшчына“, „Беларус“, „Беларускі голас“, „Беларускі эмігрант“ і інш. Асобныя блянкі маглі мець і рэгіянальныя рэдакцыі, як, прыкладам, рэдакцыя канадыйскай старонкі газэты „Беларус“.

Варта заўважыць, што выгляд рэквізытаў у аднае структуры з часам мог зьмяняцца ня толькі за кошт карэктаваньня адрэсы або зьмены кіраўніцтва, але й празь зьяўленьне новых варыянтаў дызайну, дадаваньня ці прыбіраньня эмблемы.

Наяўнасьць на блянку арганізацыйных рэквізытаў сама па сабе надавала дакумэнту афіцыйны статус. Аднак часта для пацьверджаньня сапраўднасьці выкарыстоўваліся пячаткі.

*Пячатка — прадмет з выразанымі знакамі для адбітку іх на гліне, воску, паперы ды інш., а таксама адбітак гэтых знакаў на да-*

*кумэнтах для наданьня ім сапраўднасьці й юрыдычнай сілы*[52]. Шмат эміграцыйных структураў і нават асобныя дзеячы мелі свае пячаткі. Уласна саміх пячатак-прыстасаваньняў сёньня (асабліва ад нядзейных ужо арганізацыяў) захавалася няшмат. У зборах БІНіМу ёсьць каля дзясятка гэткіх прыладаў для прастаўленьня пячатак і штампаў ад імя Рады ды Ўраду БНР, Канцылярыі Рады БНР, Задзіночаньня беларускіх вайскоўцаў ды газэты „Беларус“. Аднак далейшая нашая размова будзе прысьвечаная ўласна пячаткам у другім значэньні гэтага слова, то бок іх адбіткам на дакумэнтах.



Пячатка Беларускай грамады ў Скандынавіі

Пячаткі-выявы можна знайсьці на дакумэнтах беларускіх арганізацыяў розных кірункаў, дый геаграфія й храналёгія іх аналягічная геаграфіі й храналёгіі блянкаў. Звычайна пячаткі маюць круглую форму, дзе па коле пазначаецца назва арганізацыі (часам у некалькіх мовах), а ў цэнтры зьмяшчаецца эмблема або нейкі дадатковы тэкст (прыкладам, пазнака гораду, у якім знаходзіцца арганізацыя, як у выпадку, напрыклад, з Кліўлэндзкім аддзелам БАЗА). Найбольш пашыранай эмблемай, што зьмяшчалася на пячатках, таксама як і на блянках (бо выявы паўтараліся), была Пагоня. Розныя яе варыянты можна знайсьці на афіцыйных дакумэнтах Рады й Ураду БНР, Беларускай Цэнтральнай Рады, Згуртаваньня беларусаў у Канадзе, Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай Рады ў Чыкага, Фэдэральнай Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі ды іншых грамадзкіх і палітычных інстытуцыяў. Часьцей за ўсё кожная са структураў выкарыстоўвала ўласны варыянт Пагоні, аднак ёсьць і прыклады аднолькавых выяваў. Так, суполкі на розных кантынэнтах: Беларуская грамада ў Скандынавіі, Аб’яднаньне беларусаў у Францыі „Хаўрус“, Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне ды выдавецкі клюб Пагоня й Манрэальскі аддзел Згуртаваньня беларусаў у Канадзе на сваіх пячатках і блянках ужывалі аднолькавую адметную выяву Пагоні.

Зь іншых эмблемаў, што выкарыстоўвалі сьвецкія арганізацыі, варта згадаць прыдуманую яшчэ ў паваенны час у Нямеччыне „Двупаго-

[52] Штыхаў, Георгі, Цішкін, Іван. Пячатка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 1. С. 24—25.

ню“, якую актыўна ўжываў Сяргей Хмара, у тым ліку як сымбаль для газэты „Беларускі голас“. Выяву шчыта, дзе на бел-чырвона-белай стужцы ляжыць меч, можна ўбачыць на пячатках ды блянках розных структураў Беларускага вызвольнага фронту. Традыцыйныя лілеі зьмяшчаліся на дакумэнтах скаўтаў, а Аб’еднаньне беларускіх лекараў на чужыне ўжывала шырокавядомую мэдыцынскую эмблему з чашай са зьмяёй. Спэцыяльны герб меў нядоўга праіснавалы Інстытут Льва Сапегі ў Мадрыдзе. Скрыжаваныя беларускі й амэрыканскі сьцягі можна знайсьці на эмблеме Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы. Найбуйнейшыя навукова-культурніцкія арганізацыі на блянках і пячатках ужывалі сымболіку са Скарынавых выданьняў (ад выявы самога першадрукара ў дакумэнтах БІНіМу да знакаў сонца й месяца на дакумэнтах Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны). У Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны — свая эмблема са стылізаванай літарай „С“ у вянку.

Прынцыповыя адрозьненьні ў зьмесьце пячатак мелі рэлігійныя арганізацыі. Тут найчасьцей у якасьці асноўнай эмблемы выкарыстоўваўся шасьціканцовы крыж. Зрэшты, еўфрасіньнеўскі крыж ужывалі ў сваіх пячатках ды блянках і некаторыя сьвецкія арганізацыі, прыкладам, Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі ў Францыі або Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Лювэне.

Акрамя пячатак арганізацыяў былі яшчэ й тыя, што належалі прыватным асобам, такім як Прэзыдэнт БЦР або герархі БАПЦ. Іншыя ж выкарыстоўвалі часьцей не пячаткі, а штампы.

*Штамп — тут: прыстасаваньне для перанясеньня на паперу нейкай пастаяннай інфармацыі, а таксама адбітак, зроблены гэтым прыстасаваньнем*. Адрозьненьне штампаў ад пячатак палягае ў іх неафіцыйным і больш утылітарным характары й зьмесьце. Найбольш пашыранымі на эміграцыі былі штампы з пазнакай паштовай адрэсы, што актыўна выкарыстоўваліся ў лістах і на капэртах. Гэтыя штампы маглі належаць як інстытуцыі, прыкладам, БАЗА, так і прыватнай асобе, прыкладам, Палікарпу Манькову. Захаваліся цікавыя штампы Канцылярыі Рады БНР або *„Толькі для сяброў Рады БНР“* ды іншыя.

І блянкі, і пячаткі са штампамі як носьбіты пэўнай інфармацыі пра тыя ці іншыя эміграцыйныя ўстановы ці асобаў зьяўляюцца каштоўнымі гістарычнымі крыніцамі. Яны фіксуюць дакладныя зьвесткі, актуальныя для канкрэтнага часу й краіны, што дазваляе ўдакладняць інфармацыю зь іншых крыніцаў. Пры часта фрагмэнтарнай захаванасьці эміграцыйных архіваў, блянкі й пячаткі могуць падаваць уні-

кальныя зьвесткі. Так, дзякуючы блянкам ды пячаткам са збору Міколы Сільвановіча можна даведацца пра існаваньне Беларускага лягеру *DP* у нямецкім Хэрэнбэргу, зьвесткі пра які не трапляюцца ў іншых крыніцах. Акрамя таго, вывучэньне адлюстраваных на блянках і пячатках эмблемаў можа дапамагчы зразумець адметнасьці й багацьце эміграцыйнай сымболікі, яе характар ды зьменлівасьць, адлюстраваньне ў ёй асаблівасьцяў сьветапогляду й эстэтычных прыярытэтаў эмігрантаў.

## Рэклямна-інфармацыйныя й рэпрэзэнтацыйныя матэрыялы (абвесткі, улёткі, праграмы, буклеты, запрашальнікі, квіткі)

Беларуская эміграцыя на Захадзе ў зьвязку з рознымі мерапрыемствамі, якія яна ладзіла, стварала вялікую колькасьць разнастайных рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў. Галоўнай іх мэтай было паведаміць сваім і чужынцам пра пэўныя падзеі або пра беларусаў і Беларусь наогул. Гэткія матэрыялы мелі найперш утылітарны характар. Іх рэдка адмыслова захоўвалі, спэцыяльна амаль не калекцыянавалі, хіба што ў БІНіМе разам з усімі беларускімі друкамі. У выніку і ў БІНіМе, і ў Скарынаўцы, і ў архіўных беларускіх зборах у розных заходніх інстытуцыях гэткія матэрыялы зьберагліся як бы між іншага, расьцярушаныя сярод іншых дакумэнтаў, лістоў, паштовак.

Тут мы паспрабуем зрабіць першую спробу сыстэматызацыі сабраных у розных зборах, і найперш у БІНіМе, рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў. Пры гэтым трэба ўлічваць, што згаданыя матэрыялы захаваліся даволі нераўнамерна, і на сёньня можна акрэсьліць толькі некаторыя агульныя рысы такой магчымай калекцыі.

Нагоды для зьяўленьня рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў былі самыя розныя. Найчасьцей і найболей яны былі зьвязаныя з традыцыйнымі беларускімі сьвятамі: Днём Незалежнасьці, угодкамі Слуцкага Паўстаньня, Калядамі/Новым годам. У асяродках прыхільнікаў БЦР традыцыйна сьвяткавалі і ўгодкі Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Час ад часу зьяўляліся іншыя падставы для сьвяткаваньняў і зьвязаных зь імі друкаў, прыкладам, угодкі беларускага друку, гадавіны пэўных дзеячаў. Акрамя сьвяткаваньняў беларусы ў розных краінах ладзілі звычайныя танцавальныя вечары, балі, з пачастункам, лятарэяй. Зьяўляліся інфармацыйныя матэрыялы й з нагоды паўстаньня той ці іншай беларускай арганізацыі, спэцыяльнай акцыі ці проста агульнага сходу беларусаў.




Абвестка-запрашэньне на Беларускі баль у Мэльбурне. 1959 г.

У вялікім комплексе рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў мы вылучым некалькі асноўных відаў. Найперш гэта *абвесткі*, пад якімі мы будзем мець на ўвазе *кароткія паведамленьні пра тыя ці іншыя падзеі, звычайна на адной ці дзьвюх старонках аркуша паперы*. Ад іх мы будзем адрозьніваць *улёткі — інфармацыйныя матэрыялы пра падзеі ці арганізацыі, якія адрозьніваюцца ад абвестак большай зьмястоўнасьцю, наяўнасьцю больш шырокай інфармацыі, чым уласна паведамленьне пра падзею*.

Асобным відам вылучым *праграмы* беларускіх мерапрыемстваў. Яны *ўтрымліваюць зьвесткі пра сам прабег і зьмест падзеі*. Найбольш інфармацыйна каштоўнымі будуць *буклеты — друкаваныя інфармацыйна-рэклямныя матэрыялы, зробленыя ў выглядзе адмыслова складзеных ці скрэпленых аркушаў паперы*. Значна больш утылітарнымі выглядаюць *запрашэньні — спэцыяльныя, часта адрасаваныя канкрэтнай асобе, паведамленьні пра мерапрыемствы з рэкамэндацыяй/просьбай іх наведаць*. І ў асобную невялікую групу мы вылучылі *квіткі* для наведваньня беларускіх мерапрыемстваў — *невялікія карткі з назвай і часам падзеі*.

Згаданыя віды рэклямна-інфармацыйных і рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў захаваліся неаднолькава. Найбольшую наяўную сёньня групу складаюць *абвесткі* — больш за паўсотні пазыцыяў. Геаграфічна яны ахопліваюць амаль усе краіны беларускай прысутнасьці на Захадзе, у тым ліку й такія, як Аўстралія, Аргентына, Бэльгія, Вялікабрытанія, ЗША, Канада, Нямеччына, Францыя, Швэцыя. Храналягічна — ад 1940-х да 1990-х. Захаваліся асобныя даволі рэпрэзэнтацыйныя калекцыі аўстралійскіх ды канадыйскіх абвестак. Найбольш рэдкія й каштоўныя абвесткі датычаць пачатку дзейнасьці Беларускай тэатральнай студыі ў Міхельсдорфе (1946), лекцыі Міколы Абрамчыка ў Лювэне (1948), стварэньня Аб’яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі або Грамады беларусаў у Скандынавіі. Унікальная таксама абвестка Згуртаваньня беларусаў у Аргентыне пра радыёперадачы, прысьвечаныя беларусам, што гучалі ў Буэнас-Айрэсе ў 1954 г. Цікавыя мерапрыемствы й абвесткі пра іх рабілі беларусы ў Вялікабрытаніі: выстава беларускай спадчыны, выступ беларускага студэнцкага хору, а таксама ў Канадзе: канфэрэнцыя прадстаўнікоў беларускага грамадзтва (1991), конкурс беларусаведы (1988), пікнік на фарме „Пагоня“ (1950-я гг.). З амэрыканскіх абвестак можна вылучыць нетрывіяльнае па нагодзе паведамленьне пра баль да 431-х угодкаў выданьня Ф. Скарынам першай беларускай кнігі (Рычманд, 1956), а таксама некалькі вельмі прыгожых і розных абвестак пра выставу, прысьвечаную 450-годзьдзю беларускага кнігадрукавання, ладжаную ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы (1967).

Наяўныя *ўлёткі* (колькасьцю каля двух дзясяткаў) храналягічна таксама ахопліваюць пэрыяд ад 1940-х да 1990-х, а геаграфічна найбольш прадстаўленыя брытанскімі й канадыйскімі, зь невялікай колькасьцю амэрыканскіх ды невялікім швэдзкім прэсавым камунікатам Беларускай грамады ў Скандынавіі. Сярод улётак зьвяртаюць на сябе

ўвагу інфармацыйныя друкі пра беларускія адпачынкавыя цэнтры: „Белэйр-Менск“ у ЗША й „Слуцак“ у Канадзе, шэраг інфармацыйных лістоў з нагоды тых ці іншых угодкаў Абвяшчэньня незалежнасьці БНР, інструкцыйныя матэрыялы для беларусаў у справе перапісу насельніцтва Канады 1971 г., матэрыялы, што распаўсюджваліся на выставе Экспа'67, і інш. Улёткі часта ўтрымліваюць унікальную інфармацыю пра падзеі й арганізацыі, аздабляюцца фотаздымкамі й малюнкамі.

Асобную групу складаюць *праграмы* беларускіх мерапрыемстваў. Зь некалькіх дзясяткаў захаваных асобнікаў значную частку складаюць апісаньні беларускіх канцэртаў з часоў лягераў *DP* у паваеннай Нямеччыне. Тут выступы Беларускага тэатру эстрады, Беларускага канцэртнага ансамблю, удзел беларусаў у шматнацыянальных мерапрыемствах. З пазьнейшых варта адзначыць праграмы канцэртаў хору „Каліна“ Ксавэрыя Барысаўца (1968), Беларускага студэнцкага хору (1953) або манрэальскага хору „Жалейка“ (1956), а таксама вядомай беларускай выканаўцы Эльзы Зубковіч (1965). З неканцэртных праграмаў можна згадаць інфармацыю пра зьмест Агульнага беларускага студэнцкага зьезду ў Марбургу ў 1947 г. або Другой сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта ў 1956 г. Варта адзначыць, што часам праграмы мерапрыемстваў выступалі часткаю абвестак або, радзей, запрашэньняў.

Яшчэ больш інфармацыйныя, хоць і значна менш колькасныя — *буклеты*. Выяўленыя намі пераважна датуюцца 1970—2000 гг. і паходзяць зь Вялікабрытаніі, ЗША й Канады. Некалькі зь іх прысьвечаныя таксама ўгодкам беларускай незалежнасьці, аднак адрозьніваюцца больш якасным друкам, чым раней згаданыя ўлёткі. Цікавыя буклеты прысьвечаныя выставам: прыкладам, выставе Івонкі Сурвілы ў Таронта ў 1972 г. або выставе Беларускай спадчыны ў Лёндане тады ж. Адзначаныя якаснымі друкамі таксама зьяўленьне Беларускага крыжа ў Сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе (1988), унікальная акцыя па аздараўленьні беларускіх дзяцей „Апэрацыя Беларусь“ (1990-я), дзейнасьць Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі (1990-я). Асобнае месца займае прынагодны буклет да 25-х угодкаў сьвятарства а. Уладзімера Тарасевіча (1974).

Вялікую цікавасьць выклікаюць *запрашэньні* на беларускія мерапрыемствы. Колькасна гэта другая пасьля абвестак група матэрыялаў. Найбольш раньняе тут датычыць яшчэ часоў Другой сусьветнай вайны — запрашэньне ад імя Беларускага культурнага згуртаваньня, адрасаванае Лявону Савёнку, з просьбай прыйсьці на нараду па стварэньні беларускай опэры „Тарас на Парнасе“, якая мела адбыцца ў Менску


ZHURTAVAŇNIE BIELARUSAŬ U ARHENTYNIE
Coronel Sayos 2981 V. Alsina

Maje honar zaprasić Sp ______________________ z siamjoju

NA

VIALIKI TRADYCYJNY KALADNI VIEČAR

(u prahramie: supolnaja viačera, tancy, śpievy, padarunki dla dziaciej i niespadzieŭki)

jaki adbudziacca dnia 9 studzienia 1954 hodu (sybota) a 19.30 hadzinie u Letuviskim Klubie pry vulicy Boedo 737, Buenos Aires.

USTUP DLA MUŽČYNY 20.-

USTUP DLA ŽANČYNY 10.-

Запрашэньне на Калядны вечар Згуртаваньня беларусаў у Аргентыне. Буэнас-Айрэс, 1954 г.

27 сакавіка 1944 г. Што праўда, гэткае менавіта беларускае ваенных часоў запрашэньне захавалася толькі адно. Іншыя вядомыя нам датычаць другой паловы 1940-х — 2000-х гг., і геаграфія іх амаль што адпаведная геаграфіі абвестак. Захаваліся цікавыя запрашэньні: ад імя Галоўнай кватэры Згуртаваньня крывіцкіх скаўтаў на чужыне на Агульны зьезд старэйшых скаўтаў і скаўцкіх кіраўнікоў 8—10 жніўня 1947 г. у Остэргофэне; ад Згуртаваньня беларусаў у Аргентыне на Вялікі традыцыйны Калядны вечар у Буэнас-Айрэсе 9 студзеня 1954 г.; ад імя Беларускага футбольнага клюбу БВФ „Зубр“ на Юбілейны баль з нагоды ўгодкаў Абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў Мэльбурне 7 сакавіка 1958 г.; ад імя Камітэту беларускіх арганізацыяў у Францыі на сьвяткаваньне 50-й гадавіны Абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў Парыжы 31 сакавіка 1968 г. і г.д. Некаторыя запрашэньні адрасаваныя канкрэтнай асобе, імя якой было адмыслова ўпісанае. Аднак захаваліся й незапоўненыя блянкі запрашальнікаў. Паводле формы гэтыя друкі адны з самых разнастайных. Тут можна спаткаць і звычайны аддрукаваны на друкарцы тэкст, і аздобленыя адмысловым друкам карткі, як запрашэньні ад імя лорда Эграмона й Згуртаваньня беларусаў у Вялі-

SCHOENHOFFEN HALL
Ashland Ave. cor. Milwaukee Ave.
GRAND PERFORMANCE, CONCERT & BALL
given by
WHITE-RUSSIAN AMERICAN NATIONAL ASSOCIATION
in Chicago, Illinois,
for the benefit of orphants
in West White-Russia
Tickets in advance 60c, at the door 75c

SUNDAY,
February
16,
1930
BEGINNING AT 4 P. M.

БІНіМ

Квіток на канцэрт, ладжаны Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай асацыяцыяй у Чыкага 16 лютага 1930 г.

кабрытаніі на прыняцьцё ў Палаце лордаў Брытанскага парлямэнту з нагоды 60-й гадавіны Абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, якое мела адбыцца 5 красавіка 1978 г. Часам у якасьці блянкаў для запрашэньняў выкарыстоўваліся паштоўкі з традыцыйнымі выявамі бел-чырвона-белага сьцягу й Пагоні.

У значна меншай колькасьці захаваліся ўласна *квіткі* на беларускія мерапрыемствы. Паходзяць яны пераважна з ЗША, Канады й Аўстраліі. Сярод іх ёсьць самы стары і ўнікальны экспанат ва ўсёй разглядаланай калекцыі — квіток на Вялікі канцэрт і баль, ладжаны Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай асацыяцыяй у Чыкага 16 лютага 1930 г. Іншыя адзінкі найбольш датычаць 1950-х—1970-х гг. Сярод іх: квіток на канцэрт Беларускага мужчынскага хору „Жалейка“ з Манрэалю, які адбываўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі) у 1956 г., што сьведчыць пра наяўную цесную ўзаемасувязь беларускіх асяродкаў у розных краінах; квіток-запрашальнік на Беларускі баль-маскарад, ладжаны Спартовым клюбам БВФ „Зубр“ у Мэльбурне ў 1958 г.; квіток на танцавальную вечарыну, ладжаную аддзелам БАЗА у Дэтройце ў 1966 г.; квіток-запрашальнік на банкет у гонар 90-годзьдзя Натальлі Арсеньневай (Нью-Ёрк, 1993) і інш. Асобна варта адзначыць квіток лятарэі, ладжанай Беларускім клюбам „Пагоня“ ў Таронта ў 1970 г.

Усе разгледжаныя рэклямна-інфармацыйныя й рэпрэзэнтацыйныя матэрыялы сур’ёзна адрозьніваюцца паводле формаў, якасьці, тэхнічнага выкананьня. Ёсьць сярод іх звычайныя самаробкі, прадукаваныя на друкарцы, а ёсьць якасныя паліграфічныя прадукты, кшталту буклетаў „Апэрацыя Беларусь“ (1990-х) або БНР (2008). Пры гэтым

цалкам зразумела, што з часам, ад 1940-х да 1990-х гг., якасьць друкаў паступова павышалася.

Паколькі значная частка матэрыялаў адрасавалася ня толькі беларусам, але й прадстаўнікам іншых нацыяў, мова друкаў вельмі часта ня толькі беларуская, але й ангельская. Пры чым з набліжэньнем да сучаснасьці колькасьць англамоўных абвестак, улётак і г.д. павялічваецца.

Безумоўна, наяўныя ў калекцыі рэклямна-інфармацыйныя матэрыялы ўяўляюць сабою толькі невялікую частку таго, што выраблялася беларускай паваеннай эміграцыяй. І зьбіраньне сапраўды рэпрэзэнтацыйнай калекцыі — надзвычай складаны працэс. Разам з тым, можна адзначыць, што згаданыя абвесткі, улёткі, запрашэньні й інш. уяўляюць сабою ня толькі прыклады разнастайных формаў сьведчаньняў беларусаў пра сябе ў заходнім сьвеце, але й зьяўляюцца каштоўнымі крыніцамі інфармацыі. Яны захоўваюць зьвесткі пра тыя ці іншыя падзеі ці ініцыятывы, пра якія няма дадзеных у іншых крыніцах. Тут можна згадаць і той канцэрт і баль у Чыкага ў 1930 г., або беларускае сьвяткаваньне ў Парыжы, дзе пры канцы 1960-х гг. беларускае жыцьцё ўжо не адзначалася вялікай актыўнасьцю, або абвестку пра радыёперадачы пра Беларусь у Буэнас-Айрэсе. А якія разнастайныя, як выявілася, былі беларускія мерапрыемствы ў аўстралійскім Мэльбурне ў 1950-х гг. Па згаданых праграмках можна вывучаць і рэпэртуар беларускіх канцэртаў, прыярытэты выканаўцаў і слухачоў.

І буклеты, і ўлёткі, і абвесткі, і праграмы, і запрашальнікі, і квіткі — усе гэтыя друкі зьяўляюцца каштоўнымі носьбітамі інфармацыі, што фіксуюць тыя ці іншыя падзеі ці зьявы эміграцыйнага жыцьця й дапамагаюць унесьці іх у агульную хроніку. Аналіз ня толькі зьместу, але й формы згаданых матэрыялаў дазволіць яшчэ больш глыбока зразумець тыя працэсы, што адбываліся ў беларускіх асяродках на Захадзе ў розныя часы.

## Творы мастацтва

Сярод беларусаў у паваеннай эміграцыі была адметная колькасьць мастакоў. Іх творы часам прэзэнтаваліся на тых ці іншых выставах, выявы публікаваліся на старонках пэрыёдыкаў. Лёс жа твораў пасьля сьмерці мастака складваўся па-рознаму. На жаль, адмысловы музэй эміграцыйнага мастацтва ня быў створаны. Мэтанакіраваным зьбіраньнем працаў амаль не займаліся. Бадай, адзінай установай, дзе




Эскіз вокладкі зборніка Алеся Салаўя „Сіла гневу“

творы эміграцыйных мастакоў знаходзілі прытулак найчасьцей, была Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны. Аднак абмежаваная плошча не дазваляла стварыць вялікую калекцыю. Тое ж, што захоўваецца, як і наогул фэномэн беларускага эміграцыйнага мастацтва, патрабуе спэцыяльнага сур'ёзнага вывучэньня.

Асобныя творы мастацтва, пераважна партрэты, у тым ліку аўтарства мастака Пётры Мірановіча, захоўваюцца ў Фундацыі П. Крэчэўскага. Сюды ж быў перададзены Лявонам Юрэвічам атрыманы ад Барыса Рагулі партрэт сэнатара Васіля Рагулі, напісаны мастаком Міхасём Саўкам.

Шмат твораў мастацтва захоўваецца ў прыватных калекцыях. Прыкладам, у зборы Лявона Юрэвіча захоўваюцца творы Янкі Юхнаўца, Аляксандра Ісачова, „Беларусачка“ Івонкі Сурвілы, „Сланечнікі“ Галіны Русак.

Беларускі інстытут навукі й мастацтва адмысловым зьбіраньнем твораў мастацтва не займаўся. Аднак некаторыя працы таго ці іншага

аўтара маглі трапіць туды разам зь нейкімі асабістымі архівамі, у працэсе ліставаньня з кіраўніцтвам інстытуту й г.д. Тут можна знайсьці, прыкладам, невядомыя шырокай публіцы арыгінальныя мастацкія працы Янкі Юхнаўца. Разам з паперамі Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч у зборах БІНіМу апынуліся малюнкі яе бацькі Аляксандра Сушчынскага. У якасьці ілюстрацыяў да альманаху „Конадні“ дасылаў свае малюнкі ў БІНіМ беларускі мастак, што жыў у Аўстраліі, Аляксандар Раманоўскі. Магчыма, яшчэ з часоў паваенных лягераў *DP* захоўваліся ў паперах Вітаўта Тумаша ці Антона Адамовіча дасланыя Алесем Салаўём зробленыя ім эскізы ілюстрацыяў да зборніку „Сіла гневу“. Дакладны шлях тых ці іншых мастацкіх твораў у зборы Інстытуту бывае складана прасачыць. Тым ня менш, і накіды Міхася Наўмовіча з Францыі тут трапляюцца, і эскізы беларускіх марак ды грошай, зробленыя Ўладзімерам Шыманцом.

БІНіМаўская калекцыя, не зьбіраная сыстэматычна, тым ня менш, мае сваю цікавасьць для дасьледнікаў гісторыі беларускага мастацтва на эміграцыі.

### Рэчы й іншае

Апынуўшыся на эміграцыі беларусы стварылі свой сьвет ня толькі дзякуючы друкарскаму станку. Яны аздаблялі прастору й сябе разнастайнымі рэчамі зь беларускай сымболікай. Натуральная частка штодзённага жыцьця — тыя рэчы ў некаторых сем’ях рабіліся элемэнтамі сямейнага побыту й гісторыі, перахоўваліся дзесяцігодзьдзямі. Менавіта дзякуючы гэткаму ашчаднаму стаўленьню захаваліся матэрыяльныя сьведкі эміграцыйнага існаваньня розных часоў. Пры гэтым вялікая калекцыя рэчаў, што паходзілі як з эміграцыі, гэтак яшчэ й з даваеннага жыцьця ў Беларусі, мэтанакіравана зьбіралася й захоўваецца ў музэі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Ягоныя зборы, багатыя й каштоўныя, ужо рабіліся аб’ектам калі не спэцыяльнага вывучэньня, дык хоць павярхоўнага апісаньня[53]. А вось калекцыя рэчаў, што захоўваюцца ў БІНіМе, дасюль яшчэ не трапляла ў поле зроку дасьледнікаў. Таму менавіта на ёй мы спынімся ў гэтым аповедзе.

Як і творы мастацтва, рэчы ў Інстытуце зьбіраліся спарадычна. Зьвярталася ўвага на ўсё беларускае паводле паходжаньня й зьместу.

---

[53] Гл. напрыклад: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 448—449.



Скаўцкі нож

Найбольш каштоўная рэч у калекцыі паходзіць не з эміграцыі, але зьберагласся менавіта дзякуючы ёй — гэта легендарны кніжны нож Янкі Купалы, якім, паводле адной з вэрсіяў, пісьменьнік рабіў спробу самагубства.

Уласна эміграцыйныя рарытэты паходзяць найперш з часоў лягераў *DP*. Дбайнасьцю сем'яў Савёнкаў—Кіпеляў захаваліся самаробныя карты ды шахматы, выробленыя Лявонам Савёнкам, у якія гулялі ўцекачы ў паваеннай Нямеччыне. Унікальнымі сьведчаньнямі часу зьяўляюцца й скаўцкія рэчы — сьвісток, пілётка, разнастайныя нашыўкі, а таксама вялікі нож з адпаведнай беларускай скаўцкай сымболікай, што належаў беларусу Дзьмітрыю Сямёнаву.

Асобную групу рэчаў складае нацыянальнае адзеньне. Яго шылі беларускі ў розных краінах эміграцыі для сябе, мужоў, дзяцей. Гэткае адзеньне было неад'емнай часткай нацыянальных мерапрыемстваў. У калекцыі БІНіМу ёсьць жаночыя й мужчынская кашулі, спадніца, камізэлька, фартух, паясы, перададзеныя Раісай Жук-Грышкевіч з Канады. Ёсьць таксама вышываная жаночая сукенка й мужчынская кашуля ды паясы, перададзеныя матушкай Вольгай Бурнос з Аўстраліі.

Захоўваецца ў БІНіМе таксама пярсьцёнак з выявай Пагоні ад Антона Маркевіча з Канады ды бірулька аўтарства Жоржа Навумчыка з ЗША. Варта згадаць, што эмігранты выраблялі сапраўды розныя рэчы для пазначэньня прасторы навокал як беларускай. Вядомыя ня толькі адмысловыя налепкі з Пагоняю, але й нумары для аўтамабіляў зь беларускімі надпісамі, а таксама падстаўкі пад піва з назваю Беларуска-амэрыканскага грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры.

---

[54] Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948—2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. С. 110, 116.

Некаторыя рэчы былі зьвязаныя зь мерапрыемствамі, што ладзілі эміграцыйныя арганізацыі. Так, з нагоды шостай Сустрэчы беларусаў Аўстраліі зьявіўся адмысловы кубак з сымболікай і надпісам. На Беларускіх фэстывалях у Нью-Джэрзі ў 1976, 1977 і 1979 гг., якія наведвалі да 5 тысяч чалавек, працавалі адмысловыя сувэнірныя камітэты, адказныя за выраб і продаж прадукцыі зь беларускай сымболікай[54]. Дзеля фэстываляў і іншых мерапрыемстваў адмыслова выраблялі беларускія лялькі, кніжныя закладкі, шпількі й кулоны, кубкі й абрусы зь беларускім арнамэнтам, цішоткі з Пагоняй, мапай Беларусі, асадкі зь беларускімі надпісамі ды шмат-шмат іншага. Памятная талерка з выявай царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай была выробленая ў 1988 г. у амэрыканскім Саўт-Рывэры. Акрамя таго, у сувязі са значнымі падзеямі ў жыцьці эміграцыйнай супольнасьці зьяўляліся спэцыяльныя стужкі. У калекцыі БІНіМу іх каля дзясятка, прысьвечаныя сустрэчам беларусаў Паўночнай Амэрыкі, угодкам Абвяшчэньня незалежнасьці БНР, Першай сусьветнай сустрэчы вэтэранаў, высьвячэньню царквы ў Дэтройце ды інш. Стужкі найчасьцей былі белага колеру з чырвонымі літарамі, аднак часам зьяўляліся й іншыя варыянты дызайну.

Безумоўна, прадстаўленыя ў БІНіМе рэчы — гэта невялікая частка выробленага эмігрантамі. Але й тое, што ёсьць, зьяўляецца сьведчаньнем разнастайнасьці й шматграннасьці матэрыяльнай спадчыны беларускай эміграцыі. Пры гэтым БІНіМ ня толькі зьбірае беларусіку матэрыяльную, але і ў меру магчымасьці дае экспанаты ў іншыя музэі, каб рэгістраваць беларускую прысутнасьць у ЗША. Так, Музэю гораду Ньюарк (Нью-Джэрзі) былі падараваныя беларускія лялькі. У Скаўцкі музэй у Тэхасе перададзеная беларуская скаўцкая адзнака, выразаная з дрэва лінейка. Лялькі былі таксама падараваныя ў іншыя музэі. У Фэдэральным музэі Эліс-Айлэнду дзякуючы БІНіМу прадстаўленая карціна „Беларускія эмігранты“ Пётры Мірановіча.

Акрамя згаданага ў зборах Інстытуту захоўваюцца й некалькі паўнавартасных альбомаў-калекцыяў. Першы зь іх, створаны сябрам Украінскай філятэлістычнай асацыяцыі ў ЗША Ўолтэрам Трэмбіцкім у Нью-Ёрку ў 1959 г., утрымлівае ўнікальную калекцыю беларускіх марак. Зьмест другога — вялікі збор запалкавых этыкетак, выробленых рознымі прадпрыемствамі ў БССР. Каштоўнасьць гэтых калекцыяў складана пераацаніць.

У зробленым тут агульны агляд калекцыяў матэрыяльнай спадчыны беларускай эміграцыі, безумоўна, уключана далёка ня ўсё. Засталіся

пакуль па-за ўвагай мапы ды календары. З увагі на наяўнасьць у сёлетніх „Запісах“ спэцыяльнага тэксту, прысьвечанага эміграцыйнай філятэліі, не разглядаліся тут і эміграцыйныя маркі.

Можна сьцьвярджаць, што вывучэньне матэрыяльнай спадчыны й беларускіх эміграцыйных калекцыяў толькі пачынаецца й можа прынесьці яшчэ багата важных адкрыцьцяў.

Больш поўная прэзэнтацыя калекцыяў зьмешчаная на мультымедыйным дыску ў дадатку да гэтага выпуску альманаху „Запісы БІНіМ“.

***Лявон Карповіч***
*Лунна (Беларусь)*

# БЕЛАРУСКАЯ ПАШТОВАЯ МАРКА: АД ВЫТОКАЎ ДА ЭМІГРАЦЫІ

## Узьнікненьне й разьвіцьцё беларускай пошты

Беларуская пошта зьяўляецца адной з найстарэйшых у Эўропе. Яна прайшла такі ж шлях, як і ў іншых краінах сьвету. Ужо пад 885 годам у „Аповесьці мінулых часоў“ гаворыцца, што князь Алег накіраваў пасланьне да радзімічаў. Пры раскопках археолягі знаходзяць многа віслых сьвінцовых пячатак, якімі запячатвалі гандлёвыя й паштовыя пасланьні. Знаходзяцца й „берасьцяныя граматы“ — лісты, запіскі, дакумэнты на бяросьце. У X ст. існаваў „павоз“— абавязак насельніцтва даваць коней з павозкамі для княжацкіх ганцоў *„ад стану да стану“*[1].

18 кастрычніка 1558 г. Жыгімонт II Аўгуст выдаў загад аб паштовай справе. Пошта Рэспублікі Польшча лічыць гэтую дату днём свайго заснаваньня. У 1562 г., калі начальнікам польскай пошты быў прызначаны Крыштаф Таксіс з славутага роду Турн-Таксісаў, была ўведзеная ў дзеяньне *„траса літоўская“* на лініі Кракаў — Вільня. Траса гэтая пераадольвалася за 7 дзён[2].

Зь іншага боку, Віктар Сянькевіч лічыў, што заснаваньне беларускай пошты трэба адлічваць ад 1563 г., *„калі пошта была ўзаконеная й былі ўведзеныя так званыя „паштовыя грошы“. Яны служылі для аплачваньня фурманак за перавоз пошты, ганцоў і дзяржаўных ураdoўцаў“*[3].

[1] Коласаў, Леў. Пошта // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 552.

[2] Goszczyński, Włodzimierz. Filatelistyka współczesna. Warszawa, 1990. S. 53.

[3] Сянькевіч, Віктар. Беларуская нацыянальная тэматыка на паштовых марках // Беларус. № 174. Кастрычнік 1971. № 175. Лістапад 1971.

Для спраўнага функцыянаваньня пошты будаваліся паштовыя дарогі, станцыі праз кожныя 3-7 вёрст і корчмы. У корчмах былі адпаведныя памяшканьні для адпачынку коней — стадолы — й памяшканьні для начлегу падарожных. Памер дарог агаворваўся ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1566 г.: *„Уставуем иж дороги звечные маюць быци водле стародавнего обычаю так широки, абы два воз форманиских разминулися...“*[4]

Лёс беларускай пошты быў зьнітаваны зь лёсам народу й дзяржавы. Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай разьвіцьцё паштовай справы на беларускіх землях ішло ў расійскім кантэксьце, і яна страчвала нацыянальныя рысы[5].

## Беларуская марка №1

1 траўня 1840 г. у сваім дзёньніку Ролянд Хіл запісаў: *„Падняўся а 8 раніцы. У першы раз маркі выпушчаны сёньня ў Лёндане для насельніцтва. Страшная мітусьня на паштамце“*[6]. Нягледзячы на мітусьню, прадбачыць, што вынаходніцтва Ролянда Хіла заваюе ўвесь сьвет, ніхто ня мог. Але марка пачала сваё трыюмфальнае шэсьце па краінах і кантынэнтах. На жаль, у сьпісе краінаў, што ўвялі ў абарачэньне паштовыя маркі ў XIX ст., ні Вялікага Княства Літоўскага, ні Беларусі не было.

Расея атрымала сваю марку ў 1858 г. Польшчы гэта ўдалося зрабіць, нягледзячы на акупацыю, у 1860 г.[7]

Для незаангажаванага чалавека такая падзея, як выданьне першай паштовай маркі краіны, выглядае нязначнай, бо ён ня ведае, што гэты маленькі кавалачак паперы — паштовая марка — уводзіць краіну ў каталёгі цэлага сьвету, становіцца сымбалем трываласьці народу, сьведчаньнем яго існаваньня. Таму зьяўленьне ў 1918 г. нават па-за межамі краіны першай беларускай маркі ёсьць сапраўды значнай падзеяй у складанай і трагічнай гісторыі нашага народу ў XX ст.

Паспрабуем высьветліць, якая ж марка стала беларускай паштовай маркай №1. Эміграцыйны дасьледнік Вітаўт Тумаш у лісьце да ўладыкі

---

[4] Цыт. паводле: Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 3. Мінск, 2010. С. 523.

[5] Карповіч, Лявон. Уводзіны ў філатэлію http://tbm-mova.by/belfilatelia3.html.

[6] Малов, В. Марка завоёвывает мир http://jtdigest.narod.ru/dig4_02/marka.htm.

[7] Goszczyński, Włodzimierz. Filatelistyka współczesna... S. 99.

Васіля (Тамашчыка) ад 10 траўня 1969 г. пісаў: *„Як вядома, першая паштовая марка з партрэтам Скарыны была выдадзена Ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ ў 1918 годзе, ці першым годзе паўстаньня БНР, у сэрыі марак рэспублікі з надпісам „Беларусь Почта“ (вылучэньне ма. — **Л. К.**). Паколькі мне ведама, дзеля наступу Чырвонае арміі, маркі гэтыя ня было часу пусьціць у практычны паштовы ўжытак. Ды іх усё ж рэгіструюць некаторыя паважныя філятэлістычныя каталёгі, як, для прыкладу, Michel Briefmarken Katalog 1953. Munchen, 1953.b. 61. Другую марку з партрэтам Скарыны, не паштовага ўжо характару, выдаў у 1942 (?) годзе ў Бэрліне Бэрлінскі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне“*[8].




Зубцовы й беззубцовы варыянты першых беларускіх марак


Private Machwerke:

Anfang November wurde die Post von der Lettischen Selbstverwaltung übernommen.

Так паказаныя дзьве з трох згаданых вышэй марак
у каталёгу Michel 2004—2005

Яшчэ адным доказам, што згаданыя вышэй тры маркі — першыя паштовыя маркі нашай краіны, зьяўляецца артыкул Б. С. „Паштовыя маркі БНР. Сэрыя 1918“, зьмешчаны ў газэце „Беларус“. Варта пры-

[8] Цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: Да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 509.

весьці вытрымку з гэтага артыкула яшчэ й таму, што ў ім даецца дакладнае апісаньне першых марак:

*„Даволі шырака знаныя й часта рэпрадукоўваныя ў філятэлістычных каталёгах сьвету паштовыя маркі Беларускае Народнае Рэспублікі сэрыі 1920 году з этнаграфічна-бытавым малюнкам ды з надпісам АСОБНЫ АТРАД БНР. Куды менш ведамая, затое, ня толькі чужым, але й сваім сэрыя першая паштовых марак БНР зь вясны 1918 году, адбіткі якіх тут памешчаныя. Сэрыю 1918 году складаюць тры маркі з трыма рознымі малюнкамі: аратага, гэрбу Пагоня й доктара Скарыны. На ўсіх надпісы: БЕЛАРУСЬ ПОЧТА. Усе тры маркі ведамыя ў двух варыянтах з зубцаванымі й незубцаванымі берагамі.*

*Марка найвышэйшае намінальнае вартасьці гэтае сэрыі — 5 рублёў — мае вобраз беларускага аратага, што скародзіць свой палетак. На кругавідзе ўсходзіць сонца. Марка ў двух колерах: рысунак выкананы колерам сінім, поле мае сьветлааранжавы колер.*

*Марка з Пагоняй таксама двукалёрная: рысунак сінім, а поле Пагоні й цыфра намінальнае вартасьці маркі — „3“ — чырвоным.*

*Марка з партрэтам доктара Скарыны друкаваная ў вадным, цёмна-рудым, колеры. Намінальная цана — 2 рублі. Вобраз доктара Скарыны ўзяты для яе з партрэту памешчанага ў Біблії ягонага выданьня. Пад узорным ручнікам, на якім Скарынаў гэрб — маладзік у сонцы — дададзены надпіс лацініцай: Франьцішак Скарына з Полацка, 1517—1917.*

*Калі маркі АСОБНЫ АТРАД БНР мелі абмежаваны засяг карыстаньня, бо служылі толькі для патрэбаў вайсковага „Асобнага атраду“ БНР, дык маркі першае сэрыі з надпісам БЕЛАРУСЬ ПОЧТА прызначаныя былі для агульнага ўжытку на тэрыторыі ўсяе рэспублікі. Лёгка зацеміць, што тэмы малюнкаў трох марак выбраныя прадумана й адбіваюць ідэйныя асновы, на якія клалі націск дзяржаўныя мужы пры будове новае дзяржаўнасьці Беларусі“*[9].

### Палявая пошта БНР

Прыняцьцем Акту 25 сакавіка 1918 г. быў завершаны доўгі гістарычны шлях нашага народу да адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці

[9] Б. С. Паштовыя маркі БНР. Сэрыя 1918 году // Беларус. №98. Травень 1965. С. 2.




Паштовая картка з калекцыі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Перасылка аплачаная маркамі Палявой пошты Асобнага Атраду БНР

й дэмакратычных свабодаў. Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчаная незалежнаю й вольнаю эўрапейскаю дзяржаваю. Утварэньне незалежнай беларускай дзяржавы мела вялікае гістарычнае значэньне. Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі прызналі Ўкраіна, Чэхаславаччына, Аўстрыя, Фінляндыя, Польшча, Турцыя, Літва, Латвія, Эстонія, Армэнія, Грузія. Былі арганізаваныя дыпляматычныя місіі, прадстаўніцтвы й консульствы ў Коўне, Бэрліне, Празе, Сафіі, Канстантынопалі, Бэрне, Кіеве, Адэсе, Рызе.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, зьвязаныя зь нямецкай акупацыяй, Рада і Ўрад БНР засяродзілі сваю ўвагу на арганізацыі беларускіх дзяржаўных інстытутаў па ўсім абшары рэспублікі. Сярод іншых была арганізаваная й Палявая пошта БНР.

На паштовай картцы з калекцыі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане[10] наклееныя дзьве маркі „Асобны Атрад Б.Н.Р.“ цаной

[10] А. Аляксандр Надсан: Скарынаўская бібліятэка павінна зрабіцца беларускім аналагам Гётэ-Інстытута. http://nn.by/?c=ar&i=58415#!nn.




Штэмпэль для гашэньня марак Палявой пошты Асобнага Атраду

10 і 15 капеек, пагашаныя штэмпэлем з тэкстам: *„ПАЛЕВАЯ КАНТОРА * АСОБН. БЕЛАРУСК. АТРАДА“*.

Гэта вельмі рэдкая паштовая цэлaстка (цэлая паштовая рэч). Трэба ўлічыць, што маркі „Асобны Атрад Б.Н.Р.“ былі ў паштовым звароце абмежаваны час, а захоўваць лісты, паштовыя карткі з гэтымі маркамі ў сямейных архівах у СССР было небясьпечна.

Найбольш мэтанакіравана й поўна гісторыю марак „Асобны Атрад Б.Н.Р.“ дасьледаваў Валянцін Бацієўскі. На падставе аналізу вялікай колькасьці архіўных дакумэнтаў і прыкладаў цэласткаў ён пераканаўча даказаў, што маркі „Асобны Атрад Б.Н.Р.“ зьяўляюцца паўнавартаснымі паштовымі маркамі[11].

Асобны Атрад БНР — дабравольны конны дывэрсійны аддзел, арганізаваны Станіславам Булак-Балаховічам падчас Першае сусьветнае вайны з дазволу начальства. Атрад складаўся выключна зь беларусаў і дзейнічаў у раёне Дзьвінску — у найбліжэйшым тыле немцаў.

14 лістапада 1919 г. генэрал Булак-Балаховіч падаў ліст на імя старшыні Рады Народных Міністраў БНР Антона Луцкевіча з просьбай залічыць ягонае вайсковае фармаваньне на Беларускую службу. Кастусь Езавітаў, не дачакаўшыся адказу ад Ураду БНР, узяў адказнасьць на сябе і ўжо 15 лістапада 1919 г. у адказ на заяву генэрала паведаміў Булак-Балаховічу: *„...з гэтаго часу Вы з Вашым войскам лічыцесь на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, як Камандзір Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстоніі“*[12].

Кастусь Езавітаў у 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі. Ён наладзіў дыпляматычныя стасункі беларускага ўраду з урадамі Ўкраіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі й Фінляндыі, зьвяртаўся з просьбай аб ваеннай дапамозе да ўраду ЗША. Праводзіў працу па арганізацыі беларускага войска, пошуку сродкаў

---

[11] Батиевский, В. Марки и Полевая почта „Асобнага Атрада БНР“ http://mirmarok.ru/prim/view_article/732/.

[12] Цыт. паводле: Батиевский, В. Марки и Полевая почта „Асобнага Атрада БНР“...

на яго ўзбраеньне. У траўні 1920 г. *„за выдатную працу на карысьць Беларускай Народнай Рэспублікі“* атрымаў званьне генэрал-маёра.

Як афіцэр Кастусь Езавітаў выдатна разумеў, што сувязь з роднымі й блізкімі падымае баявы дух жаўнераў. У часе Грамадзянскай вайны рэгулярная паштовая сувязь практычна адсутнічала. Таму ня дзіва, што супрацьстаялыя сілы арганізоўвалі ўласную пошту. Добра ведама, што Паўночна-заходняе войска (ОКСА), Кубанскае й Данское войскі, Добраахвотніцкая армія Дзянікіна, Армія Калчака, Узброеныя сілы Поўдня Расеі (генэрал Урангель), Польскі корпус Доўбар-Мусніцкага й інш. арганізоўвалі ўласныя паштовыя службы.

У часе разгляду пытаньня пра стварэньне Беларускай дывізіі на Балтыцы на аснове Асобнага Атраду Булак-Балаховіча Езавітаў прыняў рашэньне арганізаваць для гэтага вайсковага падразьдзяленьня ваенна-палявую пошту й вырабіць асобныя паштовыя маркі. Ён разьлічваў, што ад продажу часткі накладу марак можна будзе аплаціць выдаткі на іх выраб і атрымаць пэўны прыбытак. Папярэдне ўзгадніўшы пытаньне пра выданьне марак з генэралам Булак-Балаховічам, Кастусь Езавітаў дамовіўся адносна праекту марак з Рыхардам Зарыньшам, латвійскім мастаком, аўтарам многіх расейскіх марак і банкнотаў, дызайнэрам латвійскіх банкнотаў.

19 студзеня 1920 г. як шэф Ваенна-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі Езавітаў зьвярнуўся да Міністра фінансаў Латвіі зь лістом:

*„Асобны Атрад Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстоніі выпускае для сваіх патрэбаў нацыянальную паштовую марку.*

*Даводзячы пра гэта да Вашага ведама, пакорна прашу Вас, Спадар Міністр, дазволіць за належную плату вырабіць друкаваньне гэтай маркі ў Экспэдыцыі выробу дзяржаўных папераў Латвіі, якая знаходзіцца пад Вашым кіраўніцтвам.*

*Маркі пляннуецца выпусціць 5-ці вартасьцей 5 кап., 10 кап., 15 кап., 50 кап., 1 рубель, у колькасці 1000000 асобнікаў кожнай вартасьці, усяго 5000000 марак. Паперы, гуміарабіка. фарбаў і іншага матэрыялу Асобны Атрад Беларускай Народнай Рэспублікі ня мае й просіць адпусціць усё гэта з наяўных у Латвіі запасаў. З мэтай патаненьня выданьня Асобны Атрад БНР жадаў бы атрымаць па 500000 асобнікаў кожнай вартасьці марак не прарэзанымі па краях, а з іх палову (г.зн. 250000 не прарэзаных) яшчэ і без гуміарабіка.*

*Узор маркі ўжо выкананы й будзе неадкладна здадзены ў экспэдыцыю па атрыманьні Вашай ласкавай згоды на друк.*

Вайсковая дыпляматычная Місія Беларускай Народнай Рэспублікі.

La mission militaire-diplomatique de la République Démocratique Blanche-Ruthénienne.

въ Латвіи и Эстоніи

19. января 1920 г.

№ 69

Копія.

Господину

Министру Финансовъ Латвіи.

5.II.20

Особый Отрядъ Бѣлорусской Народной Республики въ Эстоніи выпускаетъ для своихъ надобностей національную почтовую марку.

Доводя объ этомъ до Вашего вѣдома, покорнейше прошу Васъ, Господинъ Министръ, разрѣшить за надлежащую плату произвести печатаніе этой марки въ состоящей подъ Вашимъ веденіемъ Экспедиціи Заготовленія Государственныхъ бумагъ Латвіи.

Марки предположено выпустить 5-ти достоинствъ 5 коп., 10 коп., 15 коп., 50 коп. и 1 рубль, въ количествѣ 1.000.000 экземпляровъ каждаго достоинства, всего 5.000.000 марокъ. Бумаги, гуммиарабика, красокъ и прочаго матеріала Особый Отрядъ Бѣлорусской Народной Республики не имѣетъ и проситъ отпустить все это изъ имѣющихся въ Латвіи запасовъ. Въ цѣляхъ удешевленія изданія Особый Отрядъ БНР хотѣлъ бы получить по 500.000 экземпляровъ каждаго достоинтсва марокъ не прорѣзанными по краямъ, а изъ нихъ половину /т.е. 250.000 непрорѣзанныхъ/ еще и безъ гуммиарабика.

Образецъ марки уже исполненъ и будетъ немедленно сданъ въ экспедицію по полученію Вашего любезнаго согласія на печатаніе.

Примите Господинъ Министръ завѣренія въ глубочайшемъ къ Вамъ почтеніи.

Подлинный подписали: Шефъ Миссіи полковникъ К. Езовитовъ и за секретаря Г. Казячій.



Съ подлиннымъ вѣрно:

Дѣлопроизводитель Миссіи

Копія ліста з рэзалюцыяй К. Езавітава

*Прыміце Спадар Міністр запэўненьні ў найглыбейшай да Вас павазе.*

*Сапраўдны падпісалі: Шэф Місіі палкоўнік К. Езавітаў*

*за сакратара Г. Казячы*“[13]



Гравюра У. дэ Гарнэна „Тыпы Магілёўскай губэрні“

Такім чынам, праект маркі быў выкананы мастаком Р. Зарыньшам. Паводле меркаваньня супрацоўнікаў Гістарычнага музэю Рэспублікі Беларусь, у якасьці прататыпу малюнку была скарыстаная гравюра У. дэ Гарнэна з выданьня „Живописная Россія. Западная и Южная Россія. Белорусское Полесье“ (Т. 3. Ч. 2. Санкт-Петербург — Москва, 1882. С. 255).

14 лютага 1920 г. у Ваенна-дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі з Экспэдыцыі вырабу дзяржаўных папераў Латвіі прыйшла першая партыя (500 тыс. экз.) 15 кап. марак „Асобны Атрад Б.Н.Р.“. На наступны дзень 15 лютага шэф місіі Кастусь Езавітаў зьвярнуўся з адмысловым лістом да Міністра транспарту Латвіі[14].

14 лютага 1920 г. Місіяй БНР была атрыманая першая партыя марак без зубцоў наміналам 15 кап. 15 лютага 1920 г. на распараджэньне Кастуся Езавітава два лісты такіх марак (224 ас.) былі перададзеныя ў канцылярыю Місіі БНР. Чатыры лісты (448 ас.) даручылі падпаручніку Ю. Гладкаму пераслаць Ураду БНР у Коўна.

Другая партыя марак 15 кап. была аддрукаваная пры канцы лютага 1920 г., пра што Кастусю Езавітаву паведаміў Р. Зарыньш. Апошні выконваў замову на выраб марак у два этапы. Першы — выпуск паштовай маркі наміналам 15 кап., а другі — выданьне марак астатніх вартасьцяў: 5 кап., 10 кап., 50 кап. і 1 руб.

[13] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 325. Воп. 1. Спр. 132. Арк. 1. Пераклад з расейскай — Л.К.

[14] НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 132. Арк. 10.

5.II.20.

Копія

АКТ.

3-го лютага 1920 году. Мы, ніжэйпадпісаныя злажылі гэты акт у тым, што у розысках грашовых срэдствау для патрэб Асобага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстіі і Беларускага Прэдстауніцтва у Балтыцэ, астанавіліся на выпуске паштовай маркі Асобага Атраду Беларускай народнай Рэспублікі і пастанавілі прасіць Шэфа Вайскова-Дыпламатычнай місьі Беларускай Народнай Рэспублікі у Латвіі і Эстіі, Гэнэрал-маера К. Езавітава, каб ен, карыстаючыся сваімі зьвязямі з Урадам Латвіі, зрабіу у Рызе выпуск памяненай маркі у тым ліку і відох, як гэта будзе магчыма. Што подпісамі сваімі сцьверджаемо .

Паунамоцные делегаты Асобнага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстіі:

Камандзер Коннага імені Генерала Булак-Балаховіча палка Палкоунік /подпіс Булак-Балаховіч/

Камандзер Артыллерыі Асобнага Атрада Б.Н.Р. у Эстіі палкоунік /подпіс С.Смірноу/

Прэдстаунік Асобага Атраду Беларускай Народнай Рэспублікі у Эстоніі пры Вайскова-Дыпламатычнай місьі у Латвіі і Эстоніі падпалкоунік /подпіс Мінгрэльскі/

Уласнаручные подпісы Палкоуніка Булак-Балаховіча палкоуніка Смірнова і падпалкоуніка Мінгрэльскага, прыкладам печаткі Вайскова-Дыпламатычнай місьі Беларускай Народнай Рэспублікі у Латвіі і Эстіі і сваімі подпісамі сьведчым.

За Сэкрэтара Місьі /подпіс Г.Казячы/

Дзелавод Місьі /подпіс Становіч/

Места печаткі.

3 лютага 1920 г.
м.Рыга.

З арыгіналам згодна.

Ліст К. Езавітава да Міністра транспарту Латвіі

На малюнку прыведзеныя ўсе маркі „Асобны Атрад Б.Н.Р.“, завераныя гербавай пячаткай Місіі[15]:



дящіеся у него в Берлинѣ марки "Асобны Атрад БНР" должны быть подсчитаны в присутствіи обѣих договаривающихся сторон или их уполномоченных и внесены в банк или сейф, откуда онѣ могут быть получены лишь с согласія обѣих договаривающихся сторон, при чем марки эти вносятся на срок договора.

Шеф Военно-Дипломатической Миссіи Бѣлорусской Народной Республики в Латвіи и Эстоніи Полковник

Секретарь Миссіи

Г. Рига.

Іюля 21 дня 1920 года.

Дѣлопроизводитель

Гражданин Аркадій Самуилович Лифшиц

Довѣренный Министерства Финансов Бѣлорусской Народной Республики.

Усе тыпы марак „Асобны Атрад Б.Н.Р.“, завераныя гербавай пячаткай Місіі

[15] Батиевский, В. Марки и Полевая почта „Асобнага Атрада БНР“...

Акт аб зьнішчэньні літаграфскіх камянёў,
што ўжываліся для друку марак Асобнага Атраду БНР[17]

| Намінал, колер | Зубцы 11,5 х 11,5 (дата) | Без зубцоў з клеем (дата) | Без зубцоў, бяз клею (дата) |
|---|---|---|---|
| 5 кап. сьв.-зялёны | 517328 (23.03.20.) 2795 (29.03.20.) | 249872 (23.03.20.) | 250000 (16.03.20.) 2912 (29.03.20.) |
| 10 кап. чырвоны | 520688 (25.03.20.) 2795 (29.03.20.) | 250320 (25.03.20.) | 250000 (16.03.20.) 2912 (29.03.20.) |
| 15 кап. сьв.-фіялетавы | 514896 (01.03.20.) 17243 (29.03.20.) | 250000 (14.02.20.) | 250000 (14.02.20.) 2912 (29.03.20.) |
| 50 кап. сіні | 516448 (25.03.20.) 2795 (29.03.20.) | 248864 (25.03.20.) | 250000 (16.03.20.) 2912 (29.03.20.) |
| 1 руб. сьв.-карычневы | 517904 (23.03.20.) 2795 (29.03.20.) | 249312 (25.03.20.) | 250000 (16.03.20.) 2912 (29.03.20.) |

Табліца 1. Колькасьць атрыманых Місіяй БНР марак
„Асобны Атрад БНР“[18] [17]

---

[17] НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 132. Арк. 42.

[18] Батиевский, В. Марки и Полевая почта „Асобнага Атрада БНР“…

29 сакавіка 1920 г. Ю. Гладкоў прысутнічаў пры зьнішчэньні літаграфскіх камянёў, што адлюстравана ў ягоным рапарце й пра што быў складзены адпаведны Акт:

*„Гэтым маю гонар паведаміць, што паводле Вашага распараджэньня, я адправіўся гэтай датай у Экспедыцыю вырабу дзяржаўных папераў Латвіі, дзе ў маёй прысутнасьці былі зьнішчаныя літаграфскія камяні й цынкавыя клішэ й арыгіналы друкаваных марак „Асобны Атрад БНР“, пра што складзены неабходны акт, копія якога да гэтага прыкладаецца“*[16].

16 сакавіка 1920 г. паштовая кантора ў Лібаве (Ліепая) прыняла (без даплаты латыскімі маркамі) заказны ліст у Рыгу з маркамі „Асобны Атрад БНР“ ад Рэгістрацыйна-пашпартнага аддзелу Ваенна-дыпляматычнай місіі БНР у Лібаве ў Ваенна-дыпляматычную місію БНР у Рызе:




Капэрта заказнога ліста ў Рыгу з маркамі „Асобны Атрад БНР“
ад Рэгістрацыйна-пашпартнага аддзелу Ваенна-дыпляматычнай місіі БНР
у Лібаве ў Ваенна-дыпляматычную місію БНР у Рызе

Гэтая капэрта захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь: (НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 132. Арк. 122). Важна адзначыць, што гэта менавіта службовы ліст.

[16] Цыт. паводле: Батиевский, В. Марки и Полевая почта „Асобнага Атрада БНР“... Пераклад з расейскай — Л.К.



АБВЕСТКА.

Гэтым абвешчаецца, што 18 гэтага красавіка Аддзел Палевой Паштовай Канторы пры І-шай Камісыі Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі зачыняецца і прыем каррэспандэнцы і спыняецца.

Падпалкоунік Мінгрэльскі.

15 красавіка 1920 г. м. Марiэнбург.
Бл. Азерная № 2.

Абвестка пра спыненьне дзейнасьці Палявой пошты Асобнага Атраду БНР

28 сакавіка 1920 г. у Марыенбургу было апублікаванае паведамленьне:

*„1-я Камісія Асобнага Атрада Б. Н. Р. аб’яўляе ўсім зацікаўленым асобам (параненым і змешчаным у шпіталях добраахвотнікам, скалечаным, якія пайшлі ў адстаўку па хваробе, жыхарам раёна разьмяшчэньня атрада, што маюць на руках неаплачаныя квітанцыі і інш.), што 28 сакавіка Камісія прыступіла да працы па прыёме заяў і просьбаў. Пры Камісіі адкрыта Аддзяленьне Палявой пошты Асобнага Атрада Б.Н.Р. для прыёму лістоў на радзіму. Лісты павінны быць аплачаны маркай Асобнага Атрада Б.Н.Р. Марыенбург, вул. Азёрная, 2.*

*Старшыня Камісіі Падпалкоўнік Мінгрэльскі“*[19].

У сувязі з усталяваньнем міру паміж Эстоніяй і Савецкай Расеяй, мірнымі перамовамі паміж Латвіяй і Савецкай Расеяй атрад Булак-Балаховіча перабазаваўся на тэрыторыю Брэст-Літоўску, а яго Палявая пошта ў Марыенбургу падлягала ліквідацыі. Таму 15 красавіка 1920 г. тут зьявілася паведамленьне аб спыненьні дзейнасьці Палявой пошты Асобнага Атраду БНР[20].

[19] Батиевский, В. Марки и полевая почта «асобнага атрада БНР» Ч. 2 http://mirmarok.ru/prim/view_article/733/.

[20] НАРБ. Ф. 325. Воп. 1. Спр. 132. Арк. 57.




Ліст з датай гашэньня 21.04.20, аплачаны маркамі „Асобны Атрад БНР“

Насамрэч, як паведаміў Кастусь Езавітаў у сваім лісьце да А. Ліўшыца, апошнім днём працы паштовай канторы Асобнага Атраду БНР у Марыенбургу быў дзень 22 красавіка 1920 г.

Палявая пошта атраду функцыянавала меней за месяц, таму паштовыя адпраўленьні, аплачаныя маркамі „Асобны Атрад БНР“, сустракаюцца вельмі рэдка. На малюнку прадстаўлены ліст з датай гашэньня 21 красавіка 1920 г.

З усёй колькасьці выдадзеных марак „Асобны Атрад БНР“ для выкарыстаньня ў Палявой пошце прызначаліся маркі з зубцамі. Маркі без зубцоў і бяз клею, паводле рашэньня Кастуся Езавітава, прызначаліся для выкарыстаньня з рэклямнымі й прадстаўніцкімі мэтамі.

Пастановай Рады Народных Міністраў БНР ад 12 ліпеня 1920 г. паштовыя маркі Асобнага Атраду БНР і дакумэнтацыю па іх Вайскова-дыпляматычная місія БНР у Латвіі й Эстоніі павінная была перадаць Міністэрству фінансаў БНР, што й было зроблена ў лістападзе 1920 г.

Можна сьцьвярджаць, што маркі „Асобны Атрад БНР“ зьяўляюцца афіцыйным выпускам (а не прыватным) Беларускай Народнай Рэспублікі, і іх неабходна ўключыць у каталёгі менавіта з гэткім статусам.




Беззубцовыя варыянты марак „Асобны Атрад БНР“

## Маркі слуцкіх паўстанцаў

*„27 лістапада 1920 году, распачаўся Слуцкі Збройны Чын.*

*Некалькі тысяч паўстанцаў на працягу месяца давалі адпор бальшавіцкай навале. Апошнія атрады сышлі з поля бітвы толькі ў студзені 1921 году. Партызанскія атрады прадаўжалі змаганьне яшчэ некалькі гадоў.*

*Свая Рэспубліка нараджалася ў крывавых муках, але наш беларускі родны дух, які тады ажыў, не згасаў. На поле бітвы ў след за случакамі выходзілі наступныя пакаленьні змагароў за Беларусь.*

*27 лістапада — іхны дзень: Дзень Герояў. Таму й заклікаем усіх, хто носіць імя беларуса, годна сьвяткаваць гэты Дзень, успамінаць нашых Герояў і штогод ставіць у акне сьвечку. Няхай яе агенчык сігналіць Змагарам, што ў гэтай хаце помняць іх Чын“*[21].

[21] Зварот з нагоды ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну http://represii-by.info/index.php?newsid=915.

Рада Случчыны праіснавала ад 15 лістапада 1920 г. да 20 студзеня 1921 г. Пра слуцкія маркі філятэлісты ведалі даўно. Пра іх пісалі розныя выданьні Польшчы, ЗША, у апошні час і Беларусі.

Упершыню слуцкія маркі зьявіліся ў нашай краіне дзякуючы намаганьням вядомага беларускага філятэліста Льва Коласава яшчэ ў канцы 1990-х гг. (набытыя ў Польшчы).

*„На жаль, гісторыкі, якія вывучаюць і апісваюць у апошнія гады тыя падзеі, факт існавання марак Надзвычайнай рады Случчыны не пацвердзілі ці ўпусцілі (адсутнасць дакументаў),* — пісаў Леў Коласаў. — *Беларускім філатэлістам (ва ўсякім разе многім з іх) факт існавання гэтых марак быў проста невядомы. Хаця ў філатэлістычным свеце пра гэтыя маркі вядома даўно. У 1921 годзе ў часопісе „Polski Filatelista“ быў змешчаны артыкул аб слуцкім выпуску, а ў 1935 годзе аб гэтым выданні паведамлялася ў манаграфіі „Польскія паштовыя знакі“(“Polskie znaki pocztowe“).*



Słuck.

Widzieliśmy znaczki polskie wydania Min. P. i T. wartości 5, 10, 15 hal. i 15 fen. z nadrukiem herbu białoruskiego oraz liter rosyjskich: „C. R. Sl“. (Czrezwyczajna Rada Słuczczyzny) i liczb „25“ lub „50“. Nadruk wykonano ręcznie w kolorze czarnym stempelkami kauczukowemi. Wszelkich bliższych szczegółów o pochodzeniu tych znaczków brak.

Запіс у выданьні „Polskie znaki pocztowe“ 1935 г.[22]

*У пасляваенны перыяд у 1966 годзе гэтая манаграфія была выдадзена зноў у дапоўненым і ўдакладненым выглядзе. У IV томе „ППЗ“ у раздзеле „Varia“ („Рознае“) пра слуцкі выпуск паведамлялася тое ж самае, што і ў 1935 годзе“*[23].

З архіўных дакумэнтаў Беларускай Народнай Рэспублікі вынікае, што маркі былі выпушчаныя 1 сьнежня 1920 г. Паводле ўспамінаў сяброў Рады, штаб брыгады, як і сама Рада Случчыны, знаходзіўся ў гэты час у вёсцы Грыцэвічы Слуцкага павету (да 15 сьнежня). Валянцін Бацыеўскі зрабіў выснову: гэты населены пункт і стаў месцам выпуску марак. Ён таксама супаставіў розныя дакумэнты, успаміны ўдзельнікаў падзеяў і прыйшоў да высновы, што з усіх сябраў Рады Случчыны, якая складалася з 17 чалавек, да іх выпуску маглі мець дачыненьне толькі

[22] Коласаў, Л. Таямніца Слуцкіх марак // Беларускі калекцыянер. №19. 1999. С. 2.

[23] Коласаў, Л. Таямніца Слуцкіх марак...

**SŁUCK**

**1921. Wydanie Nadzwyczajnej Rady Słuczczyzny. Nadruk ręczny stempelkiem gumowym, trzy-wierszowy, tuszem czarnym – Pogoń białoruska /rycerz na koniu z mieczem wzniesionym/ /Ч.Р.Сл./ 25 lub 50 na znaczkach opłaty nr 74–76 B. Ząbk. lin. 11½.**

25 kop./ 5 hal. (74a B x)
50 kop./10 hal. (75b B x)
50 kop./15 hal. (76a B x)

Według wypowiedzi jednego z członków Rady (Rada mieściła się w Warszawie w hotelu Saskim pokój nr 8) znaczki te były przygotowanę jako znaczki opłaty za doręczanie listów w Słucku.

Znane są wszystkie wartości z nadrukami odwróconymi. Znaczki te w obiegu nie były. Cały nakład został rozsprzedany w Warszawie przez członków Rady, a dochód przeznaczony na potrzeby Rady.

Запіс у выданьні „Polskie znaki pocztowe“ 1966 г.[24]

Васіль Русак і Юры Лістапад. З розных прычынаў Юры Лістапад 1 сьнежня быў у адʼезьдзе, а Васіль Русак хварэў і бязвыезна знаходзіўся ў Грыцэвічах. У яго, на думку Баціеўскага, было дастаткова часу, каб вырабіць гумовы штэмпэль наддрукоўкі й паставіць яго на наяўныя ў яго польскія стандартныя маркі выпуску 1919 г.[25]

Лічыцца, што ўсяго было надрукавана 200 слуцкіх марак наміналам 50 грошаў і каля 20 асобнікаў наміналам 25 грошаў. Тыя ж архіўныя дакумэнты паведамляюць, што на 1921 г. іх засталося толькі тры камплекты, астатнія згарэлі. Валянцін Бацієўскі пісаў, што мэтай выпуску марак, паводле сьведчаньня аднаго з сябраў Рады Случчыны, была аплата дастаўкі лістоў адрасатам у межах Слуцкага павету. На жаль, да гэтага часу ня знойдзена якіх-небудзь дакумэнтаў, што пацьвярджаюць выкарыстаньне гэтых марак з паштовымі мэтамі на Случчыне[26].

Тым ня менш, можна сьцьвярджаць, што падчас Слуцкага збройнага чыну 1 сьнежня 1920 г. штабам Беларускай слуцкай брыгады для сваіх паштовых патрэбаў былі выкарыстаныя польскія маркі, на якіх была зробленая ручная наддрукоўка наміналу, Пагоні й літараў „Ч. Р. Сл.“ (Часовая Рада Случчыны).

[24] Коласаў, Л. Таямніца Слуцкіх марак...

[25] Іваноў, Уладзімір. Загадкі слуцкіх марак http://www.arche.by/by/page/science/10274.

[26] Іваноў, Уладзімір. Загадкі слуцкіх марак...




Ручная наддрукоўка тып 1 і тып 2 на польскіх паштовых марках 1919 г.

Наддрукоўка тып 1:

1. 25/5 h — сьветла-зялёная, наддрукоўка цёмна-фіялетавая;
2. 50/10 h — памаранчавая, наддрукоўка чорная;
3. 50/10 h — чырвоная, наддрукоўка цёмна-фіялетавая;
4. 50/15 f — ружовая, наддрукоўка фіялетавая;
5. 50/15 f — чырвоная, наддрукоўка чорная[27].




Наддрукоўка тып 2

Вядомыя шматлікія варыянты марак і тыпу 1, і тыпу 2.




[27] Маркі „Временной Рады Слутчины“ http://bsfil.narod.ru/by/s/1918-1922/1918-1922.html.




Варыянты марак тыпаў 1 і 2

На польскім сайце http://stamps-pl.com прадавалася паштоўка з гашанымі маркамі Слуцкага паўстаньня, дасланая з Баранавіч у Варшаву. Цана яе складала 7500 злотых.

Дасюль вядомыя толькі два паштовыя адпраўленьні з маркамі Рады Случчыны:

1. Паштовая картка Баранавічы—Вільня ад 21 студзеня 1921 (2 маркі агулам на 75 грошай, ці, па польскім намінале, 20 грошаў).

2. Заказны ліст Баранавічы—Ляйпцыг ад 23 студзеня 1921 (4 польскія маркі і 2 з наддрукоўкаю на 75 грошаў; тут яны прысутнічаюць у выглядзе дадатковых налепак)[28].

На пачатку 1990-х гг. у Чыкага філятэлістам Багданам Павуком быў выдадзены каталёг „Беларусь“, дзе зьмешчаная інфармацыя пра слуцкія маркі[29].

---

[28] Маркі Слуцкага паўстання? http://antique-belarus.livejournal.com/6418.html.

[29] Pauk, Bohdan. Belarus. A catalog-checklist of national and lokal postage stamp issues, foreign administrative issues of 1916—1920 and 1941—1944. Westchester (Illinois), 1996. P. 33.




Паштоўка з гашанымі маркамі Слуцкага паўстаньня




Заказны ліст Баранавічы—Ляйпцыг ад 23 студзеня 1921 г.
(4 польскія маркі і 2 з наддрукоўкаю на 75 грошаў; тут яны прысутнічаюць у выглядзе дадатковых налепак)



Ч.Р.Сл

SLUCK ISSUE. 1921. Overprinted with rubber handstamp with Cyrillic "Ch.R.Sl" ("Chrezwychajna Rada Slucchyny" for the General Council of the Lands of Sluck), Arms of Belarus, and new value in black-water soluble ink on Polish issues of 1919. Unwatermarked. Perforated 11.5.

| | |
|---|---|
| P5 | 25/5 halerzy. *Yellow green.* |
| P6 | 50/10 halerzy. *Orange.* |
| P7 | 50/15 halerzy. *Vermilion.* |
| P8 | 50/15 fenigi. *Red rose.* |

Слуцкія маркі ў каталёгу Б. Павука




Пячатка
„Часовая Рада Случчыны“

І ў польскіх выданьнях, і ў каталёгу Б. Павука наддрукоўка „Ч.Р.Сл.“ расшыфроўваецца як *„Надзвычайная Рада Случчыны“* (*Nadzwyczajna, Chrezwychajna Rada Slucchyny*), што недакладна. Правільна: *„Часовая Рада Случчыны“*, што адпавядае надпісу на пячатцы Рады[30].

Слуцкія маркі — сьведкі і ўдзельнікі падзеяў Слуцкага збройнага чыну — павінныя заняць пачэснае месца сярод першых беларускіх марак.

## Мясцовыя выпускі й наддрукоўкі

У часе Першай сусьветнай вайны, рэвалюцыі, грамадзянскай вайны тэрыторыя Беларусі стала полем бою. Тут працавала палявая пошта (на акупаванай тэрыторыі Беларусі нямецкае камандаваньне стварыла „Паштовую вобласьць Вярхоўнага галоўнакамандуючага на Ўсходзе“ ў пэрыяд ад 1915 г. да 1918 г.), ажыцьцяўляліся выпускі замежных поштаў (мясцовыя наддрукоўкі ўкраінскага гербу ў 1918 г. у Гомелі й Навабеліцы ў пэрыяд іх знаходжаньня пад адміністрацыяй Украінскай дзяржавы; наддрукоўка ў 1919 г. на літоўскай і беларускай мовах слова „Літва“ й наміналу ў грошах у часе палітычнай нестабільнасьці ў раёне Гародні, на якія прэтэндавала адміністрацыя Літвы), праводзіліся мяс-

[30] Коласаў, Л. Таямніца Слуцкіх марак...

цовыя пераацэньваньні Беларускай ССР (у 1920 г. у Рагачове й Суражы, у 1921 г. у Менску)... Паштовыя маркі, якія выкарыстоўваліся для перасылкі паштовых адпраўленьняў таго часу, складаюць цэлую клясу. Часткова зьвесткі пра гэтыя маркі й наддрукоўкі разьмешчаны на сайце Беларускіх філятэлістаў: http://bsfil.narod.ru/ (мясцовыя выпускі паштовых кантораў у Рагачове, Суражы, Себежы, Менску й інш.).

Яшчэ больш поўна зьвесткі пададзеныя на 45 старонках каталёгу Багдана Павука, дзе зьмест уключае наступныя пазыцыі:

*Belarus National Republic (1-10)*
*Belarus Socialist Soviet Republic*
- *LitBel issue (11)*
- *Mhlin issue (12-14)*
- *Rohachev issue (15-24)*
- *Surazh issue (25)*
- *Nieviel issue (26)*
- *Kholmech issue (27)*
- *Miensk issue (28-33)*
- *Sebezh issue (34-40)*
- *Mahileu issue (41)*
- *Smaliensk (42)*

*German Administrative issues*
- *North-East Postal District issue (01-012)*
- *Bialystok issue (013A-015)*
- *Tenth Army issue (010-018)*

*Ukrainian Administrative issues*
- *Homiel issue (019-026)*
- *Klynci issue (027)*
- *First Navabielica issue (J528-031)*
- *Second Navabielica issue (032-044)*
- *Zlynka issue (045-048)*

*Polish Administrative issues*
- *First Polish Corps issue (040-059)*
- *Second Polish Corps issue (060-067)*
- *Second Grodno issue (068-073)*

*Lithuanian Administrative issues*
- *First Vilnius issue (074-075)*
- *Second Vilnius issue (076-081)*
- *First Kaunas issue (083-086)*
- *Second Kaunas issue (087-093)*

*Third Kaunas issue (094-097)*
*First Grodno issue (098-0108)*
*Central Lithuanian issues (0118-0213)*
*World War II German Occupational issues (0214-0253)*
*Russian Army of Liberation issues (0254-0258)*
*Private issues*
*Lunna Postmaster Provisionai issue (P1-P4)*
*Sluck issue (PS-P8)*
*Belarus Charity issue (P9-P14)*
*First Homiel-Townsend issue (P15-P96)*
*Second Homiel-Townsend issue (P97-P150)*
*Third Homiel-Townsend issue (PI5I-P204)*
*Red Army issue (P205-P207)*
*Warwiszki issue (P208-P21G)*[31]

Зьвяртаюць увагу зьвесткі пра паштовае выданьне мястэчка Лунна — *„Lunna Postmaster Provisionai issue (P1-P4)“*.

**PRIVATE ISSUES**

A Lithuanian post office opened in Lunna on February 1919; it used 31mm diameter double-ring circular, undated cancel reading LUNNENSKAJA POCHT.-TELEGR. KONTORA (Lunna Post-Telegraph Office). This cancellation also shows crossed post horns and *crossed thunder bolts in the center of the design* is known to have been applied to stamps of the Second Vilnius the Provisonal Issue; all such examples appear to be favor cancelled.




**LUNNA POSTMASTER PROVISONAL ISSUE. February 1919. Typographed at Kukta Print Shop, Vilnius, on *buff paper*. *Unwatermarked*. Line perforated 11.5.**

| | |
|---|---|
| P1 | 10 skatiku. *Black* (on No. O76). |
| P2 | 15 skatiku. *Black* (on No. O77). |
| P3 | 40 skatiku. *Black* (on No. O80). |
| P4 | 50 skatiku. *Black* (on No. O81). |

*NOTE: Office closed April 1919 due to Polish occupation.*

Зьмест запісу ў каталёгу Б. Павука аб мясцовым паштовым выданьні ў мястэчку Лунна

[31] Pauk, Bohdan. Belarus. A catalog-checklist…

## Беларускія маркі, выдадзеныя на эміграцыі

Ня так даўно ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь быў знойдзены дакумэнт, што мае дачыненьне да беларускай філятэліі. Дакумэнт датаваны пачаткам траўня 1926 г., і зь яго вынікае, што ў тыя гады НКУС у Беларусі цікавіўся дзейнасьцю філятэлістычнай арганізацыі. У запыце да *„грамадзяніна Байчера Якава Восіпавіча“*, чальца прэзыдыюму Таварыства філятэлістаў і баністаў, выказвалася цікавасьць, ці існуе ў Менску Таварыства філятэлістаў і баністаў. Тамсама, у запыце, падпісаным *„сакратаром НКВД Блізьнюком“*, даводзілася, што Таварыства было зарэгістраванае ў НКУС 13 сакавіка 1925 г.

За час ад 1922 да 1941 г. у Савецкай Беларусі не было арганізавана ніводнай буйной філятэлістычнай выставы (магчыма, мясцовыя праводзіліся, але пра іх няма ніякіх зьвестак), не адбылося ніводнага адмысловага гашэньня. Да канца 1930-х — пачатку 1940-х гг. філятэлістычны й наогул калекцыйны рух у Беларусі, як і ва ўсім СССР, быў практычна зьнішчаны. Шматлікія калекцыянэры былі расстраляныя, сядзелі па лягерах ГУЛАГу, іншыя былі сасланыя ў аддаленыя месцы Сыбіры. Лёс канфіскаваных калекцыяў застаўся невядомы[32].

У гады СССР толькі эпізадычна друкаваліся маркі беларускай тэматыкі. Паводле Каталёгу паштовых марак СССР Цэнтральнага філятэлістычнага агенцтва Саюздрук (які да 1991 г. працягваў выпускаць Выдавецка-гандлёвы цэнтар „Марка“), было выпушчана ў зварот 6380 паштовых марак (№№ 1—90 ад лістапада 1918 да траўня 1923 гг. — паштовыя маркі РСФСР; №№ 91—6380 ад жніўня 1923 да сьнежня 1991 гг. — паштовыя маркі СССР). Зь іх каля 90 марак СССР тэматычна былі зьвязаныя зь Беларусьсю (дзяржаўныя знакі, гарады й архітэктура, героі Вялікай Айчыннай вайны, выбітныя дзеячы, прырода, мастацтва, культура, прамысловасьць і інш.), якія, хоць і ўмоўна, можна аднесьці да беларускай філятэліі[33].

У гэты ж час за межамі Беларусі, хоць і эпізадычна, але друкаваліся і ўводзіліся ва ўжытак маркі й іншыя паштовыя выданьні беларускай тэматыкі.

Зь ліста Вітаўта Тумаша да Гая Пікарды ад 11 траўня 1971 г.:

*„Маю дублікаты скарынінскае маркі Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне, на жаль, толькі колераў рудога й зялёнага,*

---

[32] История филателии Беларуси http://philately.by/index.html.

[33] История филателии Беларуси http://www.clubatlantis.ru/stat-i/filateliya/istoriya-filatelii-belarusi.html.

*і тут іх Вам перасылаю. Былі яны надрукаваныя яшчэ ў колерах чырвоным, фіялетавым, сінім і сьветла-сінім. Як можна бачыць з дасланых тут фотастатаў, апрача марак з Скарынам былі выдадзены я й маркі з Пагоняй (сіняя), зь Віленскім замкам (рудыя), князем Альгердам (зялёныя), князем Вітаўтам (сінія) ды вобразам дзяўчыны з хлопцам (зялёныя й фіялетавыя). Ці гэтыя маркі, як і скарынінская, былі выдадзеныя і ў іншых колерах — гэтага ня помню. Дык было выдадзена сем, рознага колеру, марак. Яны выдаваліся як паквітаваньне за ўплачаную складку ці за дадзеную ахвяру. Фактычны ініцыятар выданьня — тагачасны старшыня Цэнтралі БКС інж. Мікола Абрамчык. Рысункі для марак былі выкананыя ў Лодзі тамашнім сябрам БКС Зэнанам Зянкевічам. Маркі былі надрукаваныя ў 1942 г. у Бэрліне. Нейкі іх запас павінен быць у архівах прэз. Абрамчыка. У каго маглі захавацца яны яшчэ — ня ведаю. […]*“[34].

Як бачна, маркі былі выдадзеныя й іншых колераў. Акрамя пералічаных на адной з марак — выява Цёткі. Гісторыя зьяўленьня згаданых марак наступная.

Улетку 1940 г. беларусы, што жылі ў Бэрліне, атрымалі дазвол на стварэньне пры Беларускім прадстаўніцтве ўласнай арганізацыі. Плянавалася назваць яе Беларускім нацыянальным камітэтам, аднак нямецкія ўлады не далі на гэта згоды. На чале Беларускага камітэту самапомачы (БКС) стаў Мікалай Шкялёнак, сакратаром — былы консул БНР у Бэрліне Андрэй Бароўскі. У склад Камітэту ўвайшлі таксама Мікола Абрамчык, Базыль Камароўскі, Аляксандар Крыт, Баляслаў Барткевіч. Неўзабаве паўсталі аддзяленьні ў Познані й Лодзі, пазьней — у Варшаве, Празе, Торуні, Вене, Ляйпцыгу, Мюнхэне, Гамбургу.

Асноўнай мэтай дзейнасьці была арганізацыя сацыяльнай дапамогі беларускаму насельніцтву, якое знаходзілася на акупаванай немцамі тэрыторыі, і культурна-асьветная дзейнасьць. Фінансаваньне адбывалася за кошт сяброўскіх складак і продажу беларускай літаратуры. Фармальна Камітэт быў незалежны, хоць фактычна знаходзіўся пад патранатам Міністэрства ўнутраных справаў Трэцяга Рэйху. Незадоўга да нападу Нямеччыны на СССР БКС стаў таксама асяродкам палітычнай дзейнасьці. На пачатку 1942 г. ён атрымаў дазвол на правядзеньне ў Бэрліне беларускіх курсаў. Іх скончыла каля 30 асобаў, ад-

[34] Цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі… С. 512.




Ліст сяброўскай легітымацыі сябра Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне за 1943 г. з наклеенымі маркамі, выдаванымі за аплату сяброўскіх складак

нак немцы забаранілі ім выехаць у Беларусь для працы ў акупацыйнай адміністрацыі.

За час сваёй дзейнасьці Камітэт выдаў шэраг беларускіх кніг, напрыклад, паэму „Сымон-музыка“ Якуба Коласа, зборнік вершаў „Ад родных ніў“ Ларысы Геніюш, „Падручнік нямецкае мовы для беларусаў“, „Гісторыю Беларусі ў картах“. Ладзіліся сустрэчы, сэмінары, канфэрэнцыі й да т.п. На пачатку 1944 г. Камітэт налічваў каля 13 тысяч сябраў. Са сканчэньнем вайны дзейнасьць яго была спыненая.

Менавіта гэты Камітэт і выдаў згаданыя вышэй маркі, што ўклейваліся ў легітымацыі за аплату сяброўскіх складак[35].

У студзені 1950 г. пачалі рассылацца маркі Рады БНР, ідэя выданьня якіх нарадзілася ў Парыжы, дзе жылі ў той час Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі, Уладзімер Шыманец. У ЗША гэтымі маркамі займаўся Віталь Кажан.




Маркі БНР (першая сэрыя)

Маркі выдалі ў двух сэрыях. На першай — Старшыні Рады БНР Пётра Крэчэўскі (марка фіялетавага колеру вартасьцю ў тры талеры) і Васіль Захарка (чырвонага колеру, адзін талер), Дом Рады БНР (зялёнага колеру, 50 грошаў). На другой сэрыі: Пагоня (чырвонага колеру, вартасьць 25 грошаў) і мапа Беларусі (сіняга колеру, 10 грошаў). Другая сэрыя надрукаваная па эскізах Уладзімера Шыманца. Аўтар першай застаўся невядомы[36].




Маркі БНР (другая сэрыя)

[35] Гардзіенка, Алег. Бэрлін як асяродак беларускага жыцьця першай паловы 40-х гг. XX стагодзьдзя // Запісы БІНіМ. №26. Нью-Ёрк—Менск, 2003. С. 90—97.

[36] Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі... С. 505.

Маркі гэтага зьместу былі выдадзеныя і ў іншых колерах. Пазьней, у 1971 г., яны выкарыстоўваліся Поштай ЗБВБ і ганараваныя ангельскімі паштовымі ўладамі.

Рыхтуючыся да 40-х угодкаў Слуцкага паўстаньня, што прыпадалі на лістапад 1960 г., Згуртаваньне беларускае моладзі Амэрыкі выдала адмысловыя юбілейныя маркі. Яны былі надрукаваныя ў чатырох колерах: чырвоным, сінім, зялёным і шэрым.




Юбілейная марка, прысьвечаная 40-м угодкам
Слуцкага паўстаньня й выдадзеная ў 1960 г. ЗБМА

Малюнак і кампазыцыя маркі выкананыя мастаком Генрыкам Архацкім. Цэнтар займае постаць дзецюка з узьнятым угору беларускім нацыянальным сьцягам з надпісам на ім: *„Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына“*. Дрэўка сьцягу мае форму паходні, на полымі якой (угары над сьцягам) надпіс па-ангельску: „Слуцкае Паўстаньне 1920—1960“ (*The Slucak Uprising 1920—1960*). Пад сьцягам (ніжні правы рог маркі), расьсякаючы змрок няволі, выгравіяваны кліч (таксама па-ангельску): „Волю Беларусі!“ (*Freedom for Byelorussia*). У левым ніжнім куце — літары „БНР“.

Маркі выдадзеныя на аркушах па дваццаць штук. Аркуш пачынаецца тэкстам (па-беларуску й па-ангельску): *„Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчьна — жывеце вы, каб Бацькаўшчына не памерла! Паможэце замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстаньня — злажэце ахвяру на выданьне Слуцкага Альманаху. Наклейвайце гэтыя маркі на лістох і пачках — пашырайце праўду аб Беларусі“*. І тут жа назоў ды адрас арганізацыі: *Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn 17, N. Y.*

У пятым нумары часопісу „Беларуская Моладзь“ (студзень—сакавік 1960 г.) кіраўніцтва ЗБМА зьвярнулася да беларускае моладзі на




Аркуш юбілейных марак, прысьвечаных 40-м угодкам Слуцкага паўстаньня

эміграцыі з заклікам памагчы распаўсюдзіць гэтыя маркі сярод сваіх і чужынцаў. Тут чытаем:

*„Помнік слуцкім паўстанцам... На прапанову й просьбу Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі на сьвяткаваньні 39-х угодкаў*

*Слуцкага Паўстаньня ў Нью-Ёрку час ад лістапада 1959 году да сьнежня 1960 году быў абвешчаны Годам Слуцкага Паўстаньня... ЗБМА, падтрымваючы свае словы канкрэтнай справай, выдала юбілейныя маркі да 40-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Галоўнае кіраўніцтва Згуртаваньня заклікае ўсю беларускую моладзь вольнага сьвету ўзяць на сябе адказнасьць за распаўсюджаньне гэтых марак сярод сваіх суродзічаў і сярод чужынцаў. За здабытыя пры гэтым грошы ЗБМА пляную выдаць Слуцкі Альманах, у якім будзе зьмешчана ўсё, што ёсьць у нашай літаратуры, мастацтве й музыцы пра Слуцкае Паўстаньне. Гэта будзе найлепшы й найтрывалейшы помнік Беларускім Гэроям, якія не пашкадавалі жыцьця свайго ў імя лепшае будучыні Беларусі.*

*Няхай-жа беларуская моладзь вольнага сьвету станецца будаўніком помніка Слуцкім Паўстанцам!*“[37]

У 1971 г. у гісторыі Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ) адбылася цікавая падзея, што добра сьведчыць пра грамадзкую руплівасьць арганізацыі, якая ўдала выкарыстала паштовы страйк дзеля нацыянальнай беларускай прапаганды.

Беларускі асяродак, зь якога паўстала ЗБВБ, пачаў гуртавацца падчас Другой сусьветнай вайны ў Італіі. Там разьмяшчаўся II Польскі корпус, які ўдзельнічаў у ваеннай кампаніі хаўрусьнікаў супраць Нямеччыны. У шэрагах корпусу было шмат беларусаў, што стваралі свае асяродкі, адным зь якіх стала група на чале з праф. Вінцэнтам Жук-Грышкевічам. Вялікую ролю ў гуртаваньні беларусаў з польскіх вайсковых аддзелаў адыгралі айцы Чеслаў Сіповіч і Леў Гарошка, што ў той час жылі ў Рыме. Іхная сядзіба сталася своеасаблівым цэнтрам беларускага жыцьця, гасьцінна прымала й інфармавала шмат якіх беларусаў. У 1946 г. корпус быў пераведзены у Вялікабрытанію, а вайскоўцы ў хуткім часе дэмабілізаваныя. Менавіта тут, у новай краіне, у студзені 1947 г. і паўстала Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі.

Унікальнай ініцыятывай беларусаў Вялікабрытаніі стала арганізацыя ў часе страйку паштовай службы краіны ў 1971 г. афіцыйнай інстытуцыі „Пошта ЗБВБ“. Ідэю стварэньня сваёй паштовай службы падаў біскуп Чеслаў Сіповіч, а яе ўвасабленьнем у жыцьцё актыўна заняўся

[37] Запруднік, Янка. Маркі да 40-годзьдзя Слуцкага паўстаньня // Бацькаўшчына. №15 (499). 1960. С. 4.

сакратар Англа-беларускага таварыства, брытанец Гай Пікарда. Дазвол арганізаваць „Пошту ЗБВБ“ быў дадзены вусна 16 лютага 1971 г., а на наступны дзень пацьверджаны пісьмова ад імя Паўночнае паштовае акругі Лёндану. Вось тэкст гэтага дазволу:

*„Сп. Г. Пікарда*
*Згуртаваньне Беларусаў*
*52 Пэнн Роўд*
*Лёндан Н. 7*
*Пав. Сп. Пікарда.*

*Гэтым сьветчыцца, што Вы маеце дазвол арганізаваць прыватную паштовую службу ад імя Згуртаваньня Беларусаў, што пад адрысам 52 Пэнн Роўд, Н. 7, да часу, калі нутраная перасылка лістоў першае клясы, а таксама заморская паветраная пошта будуць аднонаўленыя. — Д. А. Філіп, за Акругова паштмайстра“*[38].

Ужо на наступны дзень Згуртаваньне абвясьціла пра адкрыцьцё сваёй пошты, тры офісы якой разьмяшчаліся: у Беларускім доме на *52 Penn Road, N7,* у доме школы імя сьв. Кірылы ў Фінчлі на *39 Holden Road, N12* і ў прыватным клюбе на *230 Strand, WC2,* адкуль карэспандэнцыя дастаўлялася ў офіс Гая Пікарды ў Тамплі. Па гэтых адрэсах двойчы на тыдзень (у серады й суботы) магчыма было прынесьці свае лісты, каб іх даставілі ня толькі ў межах Лёндану, але таксама ў Брадфард, Бірмінгам, Манчэстэр і нават за мяжу. Апошняе ажыцьцяўлялася шляхам вывазу карэспандэнцыі ў Францыю й далейшай рассылкі праз мясцовую пошту ў іншыя краіны сьвету. Дзевяць лёнданскіх кур'ераў ЗБВБ на прыватных аўто, пешкі або грамадзкім транспартам развозілі карэспандэнцыю адрасатам. Першапачаткова „Пошта ЗБВБ“ была арыентаваная выключна на беларускі асяродак у Вялікабрытаніі. Аднак ад 24 лютага, калі пра яе дзейнасьць паведаміла газэта *Evening Standard*, сярод карыстальнікаў беларускай паштовай службы значна вырасла колькасьць брытанцаў. Паштовыя адпраўленьні можна было аплачваць з дапамогай адмысловых беларускіх паштовых марак[39].

Атрымаўшы дазвол, Гай Пікарда сам зрабіў эскізы й надрукаваў аж пяць сэрый марак.

[38] Я. З. Маркі БНР у афіцыйным ужытку ў Ангельшчыне // Беларус. №172. Жнівень 1971. С. 5.

[39] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 220.




Марка зь першай сэрыі „Пошты ЗБВБ“




Маркі з другой сэрыі, ужываныя „Поштай ЗБВБ“

Першая сэрыя. На марцы тэкст у тры радкі: *„З.Б.В.Б. (10 п. ці 20 п.) Пошта“*. 10 п. — чырвоная на сьветла-зялёнай паперы; 20 п. — сіняя на сьветла-зялёнай паперы. Наклад — 300 паасобнікаў.

Другая сэрыя. Маркі „Асобны Атрад БНР“ з 1920 г. з ручной наддрукоўкай ліловага колеру ў ніжнім правым кутку — *„10 п.“*, у левым — *„ZBVB Post“*, без зубцоў: 10 п. на 5 кап. — зялёная, 10 п. на 10 кап. — чырвоная, 10 п. на 15 кап. — ліловая, 10 п. на 1 руб. — карычневая. Наклад невядомы.

Трэцяя сэрыя. Віньеткі з 1950 г., выпушчаныя ў Заходняй Нямеччыне з наддрукоўкамі, як у другой сэрыі: 10 п. на 10 грошай — аранжавага колеру з выявай Пагоні; 10 п. на 50 грошай — зялёнага колеру з выявай Дому Рады БНР у Менску; 10 п. на талер — чырвонага колеру з партрэтам Васіля Захаркі й надпісам *„В. Захарка 1928—1934“*; 10 п. на 3 талеры — ліловага колеру з партрэтам Пётры Крэчэўскага й надпісам: *„П. Крэчэўскі 1919—1928“*. Наклад невядомы.

Чацьвертая сэрыя дублявала першую.

Пятая сэрыя. Маркі з выявамі гістарычных будынкаў: 1 п. — чорная на сьветла-жоўтай паперы „Полацк“— царква Хрыста Збаўцы й сьвятой Еўфрасіньні Полацкай XII ст., 5 п. — намінал чорны, сіняя выява на блакітнай паперы „Супрасьль“ — царква Дабравесьця XVI ст., 10 п. — намінал чорны, чырвоная выява на сьветла-зялёнай паперы „Ішкальдзь“ — касьцёл XV ст.; 15 п. — намінал чорны, зялёная выява на ружовай паперы „Магілёў“ — гарадзкая ратуша ў Віцебску XVIII ст. (памылкова пазначаная як магілёўская); 20 п. — намінал чорны, чырвоная выява на аранжавай паперы „Нясьвіж“ — дом XVIII ст. на рынкавым пляцы. Наклад — 1000 паасобнікаў, па 5 марак на адным аркушы. На ўсіх марках унізе надпіс *„Пошта ЗБВБ“* і зьлева зьнізу ўверх




Маркі з трэцяй сэрыі, ужываныя „Поштай ЗБВБ“




Пятая сэрыя марак „Пошты ЗБВБ“

*„Byelorussia“*. Гасіліся штэмпэлем ліловага, чорнага ці сіняга колеру *„ZBVB Post 4 Mar 1971 London N7“*[42].

Дзейнасьць „Пошты ЗБВБ“ працягвалася да 10 сакавіка 1971 г., калі была адноўленая праца звычайнай паштовай службы. За гэты невялікі час некалькі соцень лістоў зь беларускімі маркамі былі дастаўленыя ў розныя гарады Вялікабрытаніі й за мяжу.

Безумоўна, маленькая паштовая служба ў паўночным Лёндане, адна з больш чым 260 прыватных поштаў, арганізаваных у часе страй-




Так выглядалі лісты „Пошты ЗБВБ“ зь беларускімі паштовымі маркамі[40]

ку, не магла замяніць сабою дзяржаўную сыстэму дастаўкі паштовых адпраўленьняў, як не магла й паўплываць на вынікі забастоўкі. Гэтага й не было на мэце. „Пошта ЗБВБ“ стала выдатнай магчымасьцю рэпрэзэнтацыі беларусаў у брытанскім грамадзтве. Акрамя падзякі ад мясцовых уладаў за цікавую й карысную ініцыятыву Згуртаваньне атрымала ўнікальны шанец прапаганды беларускай культуры й гісторыі. Па сканчэньні паштовага страйку быў апублікаваны адмысловы каталёг усіх паштовых марак, што зьявіліся за гэты час у Брытаніі. Сярод іншых былі апісаныя ўсе выданьні „Пошты ЗБВБ“ і зьмешчаная выява маркі з малюнкам будынку ў Нясьвіжы. Акрамя таго, невялікую брашуру на ангельскай мове з выявамі ўсіх марак „Пошты ЗБВБ“ і апісаньнем падставы іх зьяўленьня выдалі ў 1971 г. нехта Ўільямсы[41]. Пасьля сканчэньня дзейнасьці паштовай службы ўсе дакумэнты адносна яе, а таксама нявыкарыстаныя маркі ЗБВБ передало ў Беларускую бібліятэку й музэй імя Францыска Скарыны ў Лёндане. Прыбытак ад продажу пазасталых камплектаў марак пайшоў на патрэбы бібліятэкі[42].

---

[40] Я. З. Маркі БНР у афіцыйным ужытку ў Ангельшчыне…

[41] Williams, L.N. and M. ZBVB Post. London, 1971.

[42] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі… С. 221.

У 1973 г. у газэце „Беларус“ зьявілася абвестка „Ўгодкі друку адзначаныя маркай“ наступнага зьместу:

*„Для ўшанаваньня 450-х угодкаў ад пачатку друку ў Беларусі Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку выдаў летась, у месяцы сьнежані, адмысловую юбілейную марку. Марка колеру вішнёвага, пасярэдзіне яе рэпрадукаваны патрэт Доктара Франьцішка Скарыны зь ягонае Біблії. Патрэт абведзены арнамэнтаванай рамкай з надпісамі: „450-я ЎГОДКІ ДРУКУ Ў БЕЛАРУСІ. Др. Фр. СКАРЫНА, 1485 ? — 1540. МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА. ВІЛЬНЯ. 1522—1972“. Графічнае афармленьне маркі мастака Барыса Данілюка. Марка выдадзеная лістамі, па 20 марак на кажным, з інфармацыйнымі даведкамі на лісьце пра ўгодкі друку ў Беларусі ў мовах ангельскай і беларускай. Тэкст даведкі:*

*„1522—1972. 450-я ЎГОДКІ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ. У 1522 годзе, у тагачаснай сталіцы Беларусі Вільні, з друку паявілася МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА. Гэта першая кніга, надрукаваная на тэрыторыі Беларусі й усяе Ўсходняе Эўропы. Выдаў яе ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА З ПОЛАЦКА (1485?—1540), доктар навукаў вызваленых і мэдыцыны, выдатны вучоны гуманісты, перакладнік і выдавец беларускае Біблії. Патрэт Доктара Скарыны на марцы рэпрадукаваны з дрэварыту ягонае Біблії“.*

*Выдадзеная цяпер марка гэта ўжо трэйцяя марка з патрэтам Доктара Скарыны. Марку першую, для паштовага ўжытку, у 1918 годзе выдаў у Менску ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі. Другую, у 1942 годзе. надрукаваў у Бэрліне Беларускі Камітэт Самапомачы ў Нямеччыне. Ніякіх скарынінскіх паштовых марак не выдавалася ў Беларускай ССР. „Сувэрэннасьць“ рэспублікі там гэткая, што выдаваць паштовыя маркі яна ня мае й права.*

*Цана за ліст, на якім 20 марак зь інфармацыйнай даведкай, 2.00 дал. За 4 маркі, зь перасылкай, 50 цэнтаў. Цана аднае маркі — 10 ц. Маркі можна мець, паводля жаданьня, лістамі дзіркаванымі (маркі з зубкаванымі берагамі) і не дзіркаванымі. Выпісваць на адрыс:*

*Whiteruthenian Institute of Arts and Sciences, Inc.*

*3441 Tibbett Avenue.*

*Bronx. N. Y. 10463“*[43]

[43] Угодкі друку адзначаныя маркай // Беларус. № 189. Студзень 1973. С. 3.

Аб скарынаўскіх марках, выдадзеных БІНіМам у 1972 г. да 450-х угодкаў пачатку друку на тэрыторыі Беларусі стараньнямі Вітаўта Тумаша, апошні пісаў у сваім лісьце да айца Лява Гарошкі ад 22 сьнежня 1972 г.:

*„Дарагі Войча!*

*Сёньня якраз пошта прынесла Ваш „калядны падарак“ — кніжку Гарэцкага. Вельмі за яе дзякую, а разам з падзякай шлю адразу сяньня ж надрукаваныя на Скарынавы ўгодкавы маркі. Паколькі за гэта не ўзяліся нашыя філятэлісты, давялося справу заініцыяваць і давесьці да друку самому. Пасьля розных нечаканых перашкодаў марка, якая мела быць гатоваю на час Сустрэчы ў Канадзе, надрукаваная была толькі сяньня.*

*Марка выдадзена лістамі, па 20 марак на лісьце, ды з інфармацыйнай даведкай уверсе ліста ў мовах ангельскай і беларускай. Усе маркі аднаго колеру; побач дзіркаваных будуць, для жадаючых, і недзіркаваныя. Цана за ліст — 2.0 дал., за адну марку — 10 цэнтаў. Яшчэ друкарня не пасьпела зрабіць дзіркаваньне. Як будуць гатовыя — вышлю колькі аркушаў для патрэбы вашага музэю.*

*З надпісаў на марцы лёгка зацеміць, што ўскладзена на яе колькі заданьняў. Першае і найважнейшае — адзначыць важныя культурна-гістарычныя ўгодкі. Рэч другая — адзначыць угодкі, дата якіх выяўленая працаю беларускіх навукоўцаў за межамі свайго краю. Трэцяе — прыгадаць, што дайшло да гэтага ў тагачаснай сталіцы Беларусі, у Вільні, ды што Вільня — беларускае места. Чацьвёртае — паказаць для „рэспублікі“, БССР, што маркі ў патрэбе можа выдаць і эміграцыя, хоць сама рэспубліка з сваёй „сувэрэннасьцю“ гэтага зрабіць ня мае й права, калі б і хацела б. Гэта мо змусіць дзеячоў БССР дамагацца ад Масквы, каб пры першай нагодзе Скарынаву марку ўсё ж выдалі б і ў СССР; Івану ж Фёдаравічу выдалі ўжо колькі. Пятае — на марцы даць рэпрадукцыю арыгіналу з партрэту Біблії, а не яго прарысоўкі, як гэта зроблена на скарынінскай марцы БНР 1918 году.*

*Дык на марку ўскладзены вялікі ідэйна-прапагандовы нацыянальны „багаж“. Тое-сёе з гэтага яна напэўна зробіць. Пра марку плянуецца перадача ў СССР праз радыё Свабода. Пра яе маюць друкавацца артыкулы ў чужамоўным, філятэлістычным і нефілятэлістычным друку.*

*У глыбокай пашане, Ваш“*[44].

[44] Цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі... С. 512—513.



1522-1972

**450th ANNIVERSARY of PRINTING in BYELORUSSIA**

In the year 1522, THE LITTLE TRAVELLERS BOOK was printed in Vilna, the capital of Byelorussia at that time. It was the first book printed on Byelorussian and East European soil. The book was edited by FRANCIŠAK SKARYNA FROM POLACAK (1485? - 1540), Doctor of Liberal Arts and Medicine, renowned Byelorussian scholar and printer, as well as translator and editor of the Byelorussian Bible. The portrait of Doctor Skaryna on the stamp is taken from the woodcut of his Bible.

1522-1972

**450-я УГОДКІ ДРУКУ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ**

У 1522 годзе, у тагачаснай сталіцы Беларусі Вільні, з друку пlivілася МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА. Гэта першая кніга надрукаваная на тэрыторыі Беларусі й усяе ўсходняе Эўропы. Выдаў яе ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА З ПОЛАЦКА (1485? - 1540), доктар навукаў вызваленых і мэдыцыны, выдатны вучоны гуманісты, перакладнік ды выдавец беларускае Бібліі. Партрэт доктара Скарыны на марцы рэпрадукаваны з дрэварыту ягонае Бібліі.

**WHITERUTHENIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc.**
**3441 Tibbett Avenue. Bronx, New York 10463, U.S.A.**



Аркуш марак з партрэтам Ф. Скарыны, выдадзеных БІНіМам у 1972 г. да 450-х угодкаў пачатку друку на тэрыторыі Беларусі

Наступны этап гісторыі беларускіх марак на эміграцыі зьвязаны са сьвяткаваньнем 60-х угодак абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У Вялікабрытаніі яны былі адзначаныя ўрачыстым прыняцьцем у Палаце лордаў ды арганізацыяй адмысловай „Юбілейнай Пошты БНР“ з галоў-

нымі яе паштовымі канторамі ў Лёндане (Вялікабрытанія), Парыжы (Францыя) і Дубліне (Ірляндыя). Беларуская замежная пошта выдала юбілейныя маркі чатырох дэнамінацыяў. Матывам марак стала Пагоня, надпіс „Беларусь“ ды адна зь лічбаў — 5, 10, 25 або 50. Колеры марак — чырвоны, сіні, жоўты й зялёны. Частка марак кожнай дэнамінацыі мае напіс: „Юбілейная Пошта Б.Н.Р. 1918—1978“. Беларуская замежная пошта была афіцыйна зарэгістраваная ў Лёндане пад нумарам РБН2305515.

Каб адзначыць 60-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, ганаровы грамадзянін БНР Гай Пікарда прапанаваў арганізаваць прыватную юбілейную пошту. Для адкрыцьця яе патрэбны быў яму дазвол ад Ураду БНР. У сваім лісьце да Старшыні Рады БНР Гай Пікарда між іншага пісаў:

*„60-гадовы юбілей Паштовая служба 1978.*

*У азнаменаваньне 60-годзьдзя БНР прапануецца зарганізаваць прыватную юбілейную паштовую службу на працягу аднаго або двух дзён з Лондана ў Парыж і з Лондана, скажам, у Манчэстэр. Існуючае англійскае заканадаўства дазваляе дзейнасць прыватных службаў дастаўкі такога роду, пры ўмове, што па тэрмінах і сферы яны не пасягаюць на манаполію паштовага аддзяленьня. Ці мог бы Урад БНР даць абмежаваную ліцэнзію на такую паштовую службу (якая ў рэчаіснасьці магла б быць падобнай пошце ZBVB) на дзейнасць „На чужыне“ на працягу, скажам, аднаго тыдня? Такая паслуга будзе працягваць беларускую традыцыю і будзе, акрамя прадастаўленьня цікавасці для філатэлістаў, карысным прадпрыемствам прапаганды. Калі ліцэнзія мажліва, то яна можа быць прадастаўлена спадару Міхалюку ў выглядзе ліста, падпісанага адпаведным органам, магчыма, у форме, якая прыкладаецца „*[45].

Ліцэнзію для арганізацыі „Юбілейнай пошты БНР 1918—1978“ Старшыня Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч выдаў 30 траўня 1978 г. Неўзабаве ён атрымаў ад Гая Пікарды праекты марак:

[45] Пераклад ліста з: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. С. 654—655.

*„СТАРШЫНЯ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ*
*President of the Rada of the Byelorussian Democratic Republic (in Exile)*

*54 Mary Street*
*Barrie, Ontario*
*Canada L4N 1T1*
*8 ліпеня, 1978.*

*Яго Міласьці Спадару Гай дэ Пікарда*
*The Cloisters, Temple*
*London EC4Y7AA*
*Great Britain*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Пікарда,*

*Шчыра ўдзячны Вам за лісты з 20-га й 22-га чэрвеня ды за надасланы праект юбілейных марак БНР.*

*З самой задумай тэмы, яе мастацкім афармленьнем ды добра абдуманым спосабам выданьня марак я ўсёцэла згодны й ахвотна даю Вам сваю апрабату.*

*Цешуся, што, дзякуючы Вам, дыямэнтавы юбілей Беларускай Народнай Рэспублікі будзе адзначаны ў шырэйшым засягу, бо ў пэўнай меры й філятэлістамі сьвету, што ў гэткі спосаб павялічыцца прапаганда БНР. Цешуся, што „Беларуская Замежная Пошта“ выдала й значкі „Лятунская Пошта“ — „For a Free Byelorussia“. Цешуся з актыўнасьці грамадзян БНР у Ангельшчыне.*

*Найлепшыя пажаданьні й сардэчныя прывітаньні ад нас абоіх*
*З глыбокай да Вас пашанай,*
*Ваш*
*Вінцэнт Жук-Грышкевіч*
*Старшыня“*[46].

Маркі прадаваліся па 20 цэнтаў кожная. Даход з продажу марак пайшоў у Скарб Рады БНР. Адзін аркуш меў 50 марак, цана яго была $8.00[47].

[46] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча... С. 658.

[47] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча... С. 666.




Ліст зь юбілейнымі маркамі чатырох дэнамінацыяў, выдадзенымі Беларускай замежнай поштай. На лісьце зьмешчаная налепка правізорый



Аркуш зь юбілейнай маркай Беларускай замежнай пошты




Газэтная марка Беларускай замежнай пошты




Налепка „Лятунская пошта“, выдадзеная Беларускай замежнай поштай

У 1983 г. украінскае філятэлістычнае таварыства ў ЗША (Бафала, штат Нью-Ёрк) з ініцыятывы вядомага філятэліста, найбуйнейшага калекцыянэра беларускіх марак у Амэрыцы Багдана Павука надрукавала марку з выяваю абраза Жыровіцкае Божае Маці.

Фірма ZAZZLE і сёньня прапануе на сваім сайце маркі з выяваю Жыровіцкае Божае Маці трох памераў па 20 асобнікаў на аркушы па цане $24,15 памерам 1,8" х 1,3", $26,15 памерам 2.1" х 1.3" і $27.15, калі памер маркі будзе 2,5" х 1,5"[48].

У 1985 г. дзякуючы супрацоўніцтву Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка (ідэя маркі) й Багдана Павука ў ЗША была выдрукаваная марка да тысячагодзьдзя навяртаньня беларусаў у хрысьціянства. Побач з надпісам стаялі даты: 988—1988. Марка ўяўляла сабой ахопленую полымем цёмна-чырвоную выяву Эўфрасіньнеўскага крыжа з датаю 988, а наўкола крыжа надпіс: *Bielarusia's Millennium Christianity*. Марку надрукавалі з пэрфарацыяй і безь яе — на тысячу асобнікаў[49].

---

[48] http://www.zazzle.com/zhirovitsy_icon_of_mother_of_god_postage_stamp-172250764245017391.

[49] Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі... С. 513.




Марка з выяваю Жыровіцкае Божае Маці




Аркуш з маркамі да тысячагодзьдзя навяртаньня беларусаў у хрысьціянства

У параўнаньні з афіцыйнымі маркамі (хоць некаторыя зь пералічаных вышэй і нельга цалкам аднесьці да гэтае катэгорыі) значна больш было выдадзена віньетак (ад франц. *vignettes*, ці, як звычайна іх называюць на Захадзе, *cinderellas*). Яны наклейваліся на капэрты побач з афіцыйнымі маркамі і ўяўлялі сабой або копіі старых беларускіх марак (прыкладам, „Асобны Атрад“), або былі адмыслова зробленыя да ўгодак ці адлюстроўвалі пэўныя сымбалі (Пагоня (1975, 1980), Вітаўт і дата 1430, „Гадавіна 1-га сьцягу ў Ватэнштэце, 1945—1947“, Анёл і словы „Раство“, „Беларусь“ (Чыкага, 1979), скаўцкі знак з словамі „Bielaruskija Skauty“ (1984)). Большасьць зь іх зрабілі згаданы вышэй Багдан Павук і Біл Леш з Каліфорніі, таксама зьбіральнік беларускай філятэліі. У справе выданьня яны кантактавалі з Аляксандрам Асіпчыкам, Сяргеем Хмарам, Аляксандрам Лашуком[50].




Налепкі з розных гадоў







Скаўцкія налепкі

[50] Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі... С. 514.

## Заканчэньне

Пачаткі марак Рэспублікі Беларусь заклала Пастанова Савету Міністраў ад 11 верасьня 1991 №351 „Аб выпуску паштовых марак Беларускай ССР“.

Першая марка незалежнай Беларусі з выяваю Крыжа сьвятой Эўфрасіньні Полацкай зьявілася 20 сакавіка 1992 г. Яе аформіў мастак Комлеў. Надрукаваная ў Маскве, як і бальшыня першых беларускіх марак. Наклад яе складаў 2 мільёны паасобнікаў. Вартасьць — адзін (напачатку зьбіраліся выдрукаваць рубель, але пасьля тое слова было зьнятае — дасюль беларускія маркі выдаюцца бяз назвы наміналу). Тым ня менш, Алесь Сярожкін з Воршы піша: *„Але ў маёй калекцыі на першым месцы стаіць марка СССР 1988 году, прысьвечаная 500-м угодкам з дня нараджэньня Францішка Скарыны з наддрукоўкай слова „Беларусь“*[51].




Марка СССР 1988 г., прысьвечаная 500-м угодкам з дня нараджэньня Францішка Скарыны, з наддрукоўкай слова „Беларусь“. Верасень 1991 г.

Дзяржава да гэтай наддрукоўкі ня мае ніякага дачыненьня. Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці чыноўнікі ад пошты амаль цэлы год карысталіся маркамі ўжо няіснай імпэрыі. Стаміўшыся чакаць беларускіх паштовых марак, у верасьні 1991 г. у Воршы вырашылі зрабіць наддрукоўку „Беларусь“ на марках СССР. Пасьля некалькіх пробных наддруковак на розных марках СССР было вырашана спыніцца на марцы з выявай Скарыны. Наддрукоўка рабілася ўручную чырвонай фарбай. Праз пошту прайшло ня больш за 300 паасобнікаў. А ўсяго было 50 аркушаў па 21 марцы на аркушы[52].

Трэба сказаць, што справа філятэліі ў Рэспубліцы Беларусь працягвае заставацца ў дрэнным стане. З выданьняў Белпошты немагчыма стварыць паўнавартасную філятэлістычную экспазыцыю, прысьвечаную гісторыі Беларусі. Лёсавырашальныя падзеі айчыннай гісторыі не адлюстроўваюцца на паштовых марках, як няма на іх выяваў многіх найвыбітнейшых дзеячаў айчыннай гісторыі й культуры. На нацыянальных выставах — адна-дзьве экспазыцыі на роднай мове. Праблемы, на нашую думку, будуць захоўвацца да той пары, пакуль у Рэспуб-

---

[51] Сярожкін, Алесь. Першая марка Рэспублікі Беларусь // Беларускі калекцыянер. №1 (6). Люты 1998.

[52] Сярожкін, Алесь. Першая марка Рэспублікі Беларусь…




Спэцгашэньне першай у гісторыі незалежнай Беларусі
філятэлістычнай выставы „Прырода й мы“. 26.03.1995. Скідзель




Спэцгашэньне другой і трэцяй у гісторыі незалежнай Беларусі
філятэлістычных выставаў „Мой родны кут“ — 06.07.1997,
в. Лунна, і „Наша спадчына“ — 19.12.1998, в. Гудзевічы

ліцы Беларусь ня зьявіцца свой нацыянальны Каталёг паштовых марак, які ахопліваў бы пэрыяд ад сярэдзіны XIX ст. дасёньня. Узорам можа стаць польскі *Katalog polskich znaczków pocztowych* (2006).

Разам з тым, нельга параўнаць сёньняшні стан айчыннай філятэліі са станам часоў СССР. Даволі сказаць, што рэгулярна, кожныя два гады, пачынаючы ад 1998 г. праводзяцца Нацыянальныя філятэлістычныя выставы. Першыя тры беларускія выставы былі арганізаваныя пад кіраўніцтвам вядомага філятэліста Фрэдэрыка Гушчы пры ўдзеле Аляксандра Сьцяпанчанкі зь Беластоку й Лявона Карповіча: першая — „Прырода й мы“ — адбылася 26 сакавіка 1995 г. у Скідзелі, другая — „Мой родны кут“ — 6 ліпеня 1997 г. у мястэчку Лунна, а трэцяя — „Наша спадчына“ — 19 сьнежня 1998 г. у Гудзевічах, у музэі Алеся Белакоза.

Хацелася б, каб новая хваля эміграцыі ў сучасных, больш спрыяльных умовах не пакідала справы выданьня беларускіх марак, паштовак, капэртаў і таксама ладзіла філятэлістычныя выставы. Прайшоў незаў-

важаным беларускай філятэліяй юбілей Бітвы на Сініх водах. У 2014 г. будзе адзначацца 500-годзьдзе Бітвы пад Воршай, у 2017 г. — 500-годзьдзе выданьня Скарынаўскай Бібліі... Застаецца пытаньнем, ці „заўважыць“ дзяржаўная Белпошта гэтыя юбілеі.

Важным крокам і пачаткам працы па складаньні Нацыянальнага каталёгу было б выданьне пад адной вокладкай усіх магчымых матэрыялаў па філятэліі Беларусі. Але ці знойдзецца той, хто мог бы арганізаваць такую працу?

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КАЛЕКЦЫЯ ЗДЫМКАЎ ЛУІЗЫ БОЙД ВА ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ ВІСКОНСІНУ

Імя гэтай амэрыканскай мастачкі мусіць быць на слыху ў беларускага чытача: адносна нядаўна Адам Мальдзіс надрукаваў пра яе два артыкулы: у „Советской Беларуси“ артыкул „Американка на Полесье“, а ў „Краязнаўчай газэце“ — „Палесьсе вачыма адважнай амэрыканкі“, да якіх і адсылаем зацікаўленых па біяграфічныя зьвесткі.

Што праўда, тэксты не пазбаўленыя недакладнасьцяў. У адным месцы першага артыкулу аўтар піша: *„Сначала итоги полесской экспедиции были описаны в большой, на 20 страниц, статье в журнале The Geographical Review („Географический обзор“. 1936. Т. 27), а потом вошли в отдельную книгу Polish Countrysides („Окраины Польской страны“. Нью-Йорк, 1937). [...] Кое-что полесское может оказаться в двух англоязычных публикациях, датируемых 1936 и 1937 годами (к сожалению, они для меня пока недоступны)“*[1].

Артыкул у *„Geographical Review“* быў надрукаваны сапраўды ў 1936 г, але ў томе 26, нумар 3 (ліпень).

Памыляецца аўтар і тады, калі піша ў другім артыкуле: *„Для нас, беларускіх краязнаўцаў, вельмі важнай акалічнасьцю зьяўляецца тое, што ўсю сваю навуковую спадчыну і прыватную рухомасьць Луі Арнер Бойд завяшчала Амэрыканскаму геаграфічнаму таварыству і Гістарычнаму таварыству Мэрын Каўнці ў Сэн-Рафаэль. Там трэба шукаць рэшту паляшуцкіх здымкаў падарожніцы — рэшту значную, сотні адзінак захаваньня“*[2].

---

[1] СБ — Беларусь сегодня. 25 верасня 2010.

[2] Краязнаўчая газета. №6 (311), люты 2010.

Насамрэч асноўная калекцыя Луізы Бойд захоўваецца ва ўнівэрсытэце Вісконсіну, горад Мілуокі — болей за 2000 здымкаў і нэгатываў, зробленых падчас падарожжа *„па Польшчы“*.

Сытуацыя ў амэрыканскіх бібліятэках і архівах сёньня такая, што сродкаў на стварэньне лічбавай калекцыі катастрафічна не стае, і нават на ўкладаньне простага вопісу калекцыі (*Finding Aid*) ідзе багата часу. Тым ня менш, супрацоўнікі ўнівэрсытэцкага архіву ласкава даслалі ўжо зробленае — сьпіс з амаль 300 пазыцыяў, які зьмяшчае памер здымку, дату, вельмі важны аўтарскі камэнтар, а таксама шыфр захаваньня, што робіць далейшую дасьледную працу значна прасьцейшаю для беларускіх краязнаўцаў, гісторыкаў, этнографаў, кнігавыдаўцоў.

| Accession Number | Атрымана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20502 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | 5 miles east of Kobryn en route to Pinsk. Road under construction. In left, foreground, L.A.B.'s Packard car. September 29, 1934. |
| 20512 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | 7.5 miles east of Antopol, en route to Pinsk. Oxen on the road pulling a wagon. Harnessed together with wooden yokes. September 29, 1934. |
| 20513 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | 7.5 miles east of Antopol en route to Pinsk. Oxen on the road pulling a wagon, harnessed together with wooden yokes. September 29, 1934. |
| 20514 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | The highway leading into Pinsk. The road becomes impassable for motors during bad weather. A good road is now under construction. September 20, 1934. |
| 20516 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | 7.5 miles east of Antopol en route to Pinsk. Oxen on the road pulling a wagon. Close-up view, showing type of wooden yokes used on the oxen, harnessed together with wooden yokes. September 29, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20517 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Hotel Europeski, Pinsk, with L.A.B.'s Packard car in front of the entrance. In foreground typical Polesian farm wagon. Pinsk is situated on a hill at a junction...September 30, 1934. |
| 20518 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hotel Europeski, with Miss Boyd's Packard car in front of the entrance and a typical Polesian farm wagon in the foreground of the picture... September 30, 1934. |
| 20519 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Close-up view of farm wagon in front of Hotel Europeski. September 30, 1934. |
| 20520 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Close-up rear view of farm wagon in front of Hotel Europeski. September 30, 1934. |
| 20521 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Waterfront, Pinsk. The steamers travel through the marshes as far as the Russian frontier. They are sometimes used for towing barges loaded with wood. |
| 20522 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barge. In background wagons loading hay and low one-story buildings facing the waterfront. September 30, 1934. |
| 20523 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barges at waterfront. In background, hay wagons loading hay. September 30, 1934. |
| 20524 | 1936 | 3.5 x 4.5 in. | Pinsk. Waterfront, showing the landing for hay barges. In foreground a barge paddling away. Note method of paddling the canoes... September 30, 1934. |
| 20525 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barge paddling away from dock. Note the method of paddling the canoes. September 20, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20526 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barge approaching dock. At right, a man paddling canoe from south side of landing. Right background, canal markers at the junction of two waterways. September 30, 1934. |
| 20527 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. On left is a side-wheel steamer used to carry freight and passengers on scheduled route through the marshes as far as the Russian frontier. September 30, 1934. |
| 20529 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Barge of birch wood approaching Pinsk landing. In background, steamer at junction of Strumien and Pina Rivers. September 30, 1934. |
| 20530 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Watefront, showing the landing for hay barges. In foreground large and small barges which brought hay to Pinsk from the Prypec River and its branches. September 30, 1934. |
| 20531 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay being unloaded from barges at watefront. September 30, 1934. |
| 20532 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Loading hay into wagons at waterfront from hay barges. Young lad with extremely large bundle of hay. One horse wagons with shafts and Droski yokes... September 30, 1934. |
| 20533 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Wagon leaving the hay whart with its load of hay. September 30, 1934. |
| 20534 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. A hay wagon at waterfront with peasant children sitting in the hay. September 30, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20535 | 1936 | 3 x 5.5 in. | Pinsk. Hay wagon at waterfront at hay landing. Peasant children in the wagon. September 30, 1934. |
| 20536 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barges off shore, at hay landing. September 30, 1934. |
| 20537 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barges off shore at waterfront. September 30, 1934. |
| 20538 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Hay barge approaching Pinsk waterfront. On left, a passenger river boat. September 30, 1934. |
| 20539 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Passenger boat at landing in foreground. This is the type of side-wheeler used throughout the Prypec River and its branches... September 30, 1934. |
| 20540 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Passenger steamer approaching the wharf. In the foreground, bows of the canoes at the hay landing. September 30, 1934. |
| 20541 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Passenger steamer approaching Pinsk. On right, a canal indicator at the junction of the Pina and Strumien Rivers at Pinsk. September 30, 1934. |
| 20542 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Timber wharf at the Pinsk waterfront. The wood is mostly birch and oak. In the background, Pinsk. September 30, 1934. |
| 20543 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Timber wharf at Pinsk waterfront. Men are seen pulling logs ashore from the rafts. September 30, 1934. |
| 20544 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Timber wharf at Pinsk waterfront. Men stacking logs from the rafts. September 30, 1934. |

| Accession Number | Атрымана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20545 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Timber wharf at the Pinsk waterfront, showing raft of birch logs. On right, a house at east end of Pinsk. September 30, 1934. |
| 20546 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Raft of birch logs at timber wharf at Pinsk waterfront. In background, eastern part of town. September 30, 1934. |
| 20547 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Raft of birch logs. In background, eastern part of the town east of the timber wharf. September, 1934. |
| 20548 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Raft of birch logs. In background part of town, just east of timber wharf. September 30, 1934. |
| 20549 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Raft of birch logs. In background, eastern part of town, just east of timber wharf. September 30, 1934. |
| 20550 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Raft of birch logs. In background, eastern part of the town, just east of timber wharf. September 30, 1934. |
| 20551 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Barge of wood approaching Pinsk. Man powered. Many of these barges come from near the Russian frontier… September 30, 1934. |
| 20552 | 1936 | 3.5 x 5.75 in. | Pinsk. Barge. Man powered. Many of the barges come from near Russian frontier. Two men, sometimes three or four are the crew. In the bow, the thatched lean-to used by the men and the long paddle… |
| 20553 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Artificial bank used as landing place for launches and small boats. Pina River, Pinsk. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20554 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Poling an empty wood barge from the landing at the waterfront to the market square below the church. The shade trees face the landing for small boats and launches. September 30, 1934. |
| 20555 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Poling empty wood barge from the landing at the waterfront to the market square below the church. The shade trees face the landing for launches and small boats. September 30, 1934. |
| 20556 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Poling an empty wood barge from the landing at the waterfront to the market square below the church. September 30, 1934. |
| 20557 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. The launch of the Harbor Commissioner, manned by a lieutenant and two blue jackets, which was put at the disposal of Miss Boyd during her stay at Pinsk... September 30, 1934. |
| 20560 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Stacks of marsh grass along the Jasiółda River east of Pinsk en route to Holodyszcze. September 30, 1934. |
| 20562 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Stack of marsh grass along the Jasiółda River east of Pinsk en route to Holodyszcze. September 30, 1934. |
| 20563 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Steamer in Jasiółda River east of Pinsk en route to Holodyszcze. September 30, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20564 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Steamer in the Jasiółda River east of Pinsk en route to Holodyszcze. September 30, 1934. |
| 20565 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Steamer in the Jaciółda River east of Pinsk en route to Holodyszcze. September 30, 1934. |
| 20566 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Steamer on the Jasiółda River, east of Pinsk. |
| 20568 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Passing a sidewheel steamer in the Jasiółda River east of Pinsk. These steamers carry passengers and freight on a regular schedule through the marshes as far as the Russian frontier. |
| 20583 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Settlement in Prypec Marshes, east of Pinsk, with flax drying in foreground and pumpkins on roof in background. |
| 20584 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Jaciółda River east of Pinsk. Settlement showing large stack of volunteer feed stacked on stilts in the barn enclosure... September 30, 1934. |
| 20585 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Jasiółda River east of Pinsk. On left, cabbages, beets, and root vegetables from home consumption. September 30, 1934. |
| 20586 | 1936 | 3.25 x 3 in. | Prypec Marshes. Jasiółda River east of Pinsk. Distant view of a canal boat passing through a narrow canal so that it appears to be on land. September 30, 1934. |
| 20587 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Dairy cows on canal's edge near Pinsk. September 30, 1934. |

| Accession Number | Атрымана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20670 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Farmer transporting horse and steel plow in large canoe from one part of his island property to another… Horses in the Pinsk country are heavy set and full of spirit. |
| 20703 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Distant view of a cemetery near the village of Kaczynowicze, 26 kilometers from Pinsk. October 1, 1934. |
| 20704 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Cows in marshes along Pina River near Pinsk. Note marsh reeds and low grass. In background the outskirts of Pinsk. October 2, 1934. |
| 20705 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Cows in the marshes along the Pina River near Pinsk. Note marsh reeds and low grass. In background, the outskirts of Pinsk. October 2, 1934. |
| 20706 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Cows in the marshes along the Pina River near Pinsk. Note the marsh reeds and low grass typical of this area. In the background, the outskirts of Pinsk. October 2, 1934. |
| 20707 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. In foreground, women in canoe in the Pina River each of Pinsk. In background, others paddling out of the marshes. October 2, 1934. |
| 20708 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. In foreground, women in canoes in the Pina River east of Pinsk. In background others paddling out of the marshes. October 2, 1934. |
| 20709 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Prypec Marshes. Women in canoe in the Pina River east of Pinsk. October 2, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20710 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Woman in Pina River east of Pinsk paddling canoe. October 2, 1934. |
| 20798 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Strumien River off shore from Grande Pinkowiecze. Steamer "Jagiello." Passenger sidewheeler towing raft of birch logs to Pinsk from near the Russian frontier. Distant view. October 2, 1934. |
| 20799 | 1936 | 3.25 x 5.5 in. | Strumien River off shore from Grande Pinkowiecze. Steamer "Jagiello." Passenger sidewheeler towing raft of birch logs to Pinsk from near the Russian Frontier. Distant view. October 2, 1934. |
| 20807 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. View from the southeast. Left background, large Baroque church of the Jesuits. Founded 1631. The Russians transformed it into an Orthodox Greek Catholic Church. October 2, 1934. |
| 20808 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. View from southeast. On left large Baroque church of the Jesuits. This church was founded in 1631 and later transformed by the Russians into an Orthodox Greek Catholic Church. October 2, 1934. |
| 20809 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. View from southeast. On left large Baroque church of the Jesuits. This church was founded in 1631 and later transformed by the Russians into an Orthodox Greek Catholic Church. October 2, 1934. |
| 20810 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Men puling and poling a freight barge upstream in the Pina River southeast of Pinsk. October 2, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20811 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Men puling and poling a freight barge upstream in the Pina River southeast of Pinsk. October 2, 1934. |
| 20812 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Men pulling freight barge upstream southeast of Pinsk. October 2, 1934. |
| 20813 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Southeast of Pinsk. Men pulling freight barge upstream. On left, canoe with fisherman going to Pinsk with chickens for the market. In distance, a third canoe. October 2, 1934. |
| 20814 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Southeast of Pinsk. Men pulling freigh barge upstream. Close-up, showing inside of barge. One man in boat, another on bank with tow rope. October 2, 1934. |
| 20815 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Southeast of Pinsk. Men pulling freight barge upstream. October 2, 1934. |
| 20816 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two women and a man paddling to Pinsk in a canoe loaded with birch wood logs. Note that these canoes can travel very close to the banks... |
| 20817 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Man and women paddling to Pinsk standing in canoe. Load of birch logs which are 2.5-3 feet long. October 2, 1934. |
| 20818 | 1936 | 3.5 x 5.5 in. | Man and woman paddling to Pinsk standing in canoe. Load of birch logs which are 2 1/2 to 3 feet long. October 2, 1934. |
| 20819 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Man and women paddling to Pinsk standing in canoe. Close-up view of the load of birch logs from 2 1/2 to 3 feet long. October 2, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20820 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Knubowo. About 14 km. southeast of Pinsk. This is one of the few villages with road communication to Pinsk. Logs in the slough. October 2, 1934. |
| 20838 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Unloading sand near the slough at Knubowo. From here it is taken in barges to Pinsk. October 2, 1934. |
| 20839 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Taking birch logs - 2.5 to 3 feet - to market in Pinsk via the Pina River. Close-up view from the bow. October 2, 1934. |
| 20840 | 1936 | 4 x 5.5 in. | Taking birch logs - 2 1/2 to 3 feet - to market in Pinsk via the Pina River. October 2, 1934. |
| 20841 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Taking birch logs - 2.5 to 3 feet - to market in Pinsk via the Pina River. Side view, showing supports for the logs. October 2, 1934. |
| 20842 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two men along the east bank of the Pina River paddling birch logs to the market at Pinsk. October 2, 1934. |
| 20843 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two men on the east bank of the Pina River paddling birch logs to the market in Pinsk. October 2, 1934. |
| 20844 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two men along the east bank of the Pina River paddling birch logs to the market at Pinsk. Shows both sides of the river looking north, towards Pinsk. October 2, 1934. |
| 20845 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two men along the east bank of the Pina River paddling birch logs to the market at Pinsk. Note the way the logs are supported in the canoe and the type of paddle the men use. October 2, 1934. |

| Accession Number | Атры-мана | Памер здымку | Аўтарскае апісаньне |
|---|---|---|---|
| 20846 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Both sides of the river looking north, towards Pinsk. In background, church of the Jesuits above the market square in Pinsk. October 2, 1934. |
| 20847 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Two men along the east bank of the Pina River paddling birch logs to the market at Pinsk. Prypec Marshes. October 2, 1934. |
| 20849 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Monthly market at Pinsk. Along the waterfront stacks of split birch for firewood. The logs average 2.5 to 3 feet in length and sold for 7 zl. per sq. meter… October 3, 1934. |
| 20850 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Big monthly market, held below the church. Along the waterfront stacks of split birch for firewood. This is sol by the meter for 7 zl. per one square meter… October 2, 1934. |
| 20851 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Monthly market. Birch logs for firewood. October 3, 1934. |
| 20852 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Monthly market. Birch logs for firewood. In background barge with people landing, aided by improvised sail. October 3, 1934. |
| 20853 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk. Monthly market. Birch logs for firewood. October 3, 1934. |
| 20855 | 1936 | 3.25 x 4.5 in. | Pinsk monthly market. Birch logs for firewood. In foreground two men in barges having breakfast. October 2, 1934. |

цай напярэдадні яе 95-годзьдзя, яно стала важнай прыступкай да цэласнай падачы жыцьцяпісу й абагульненьня навуковай спадчыны шматгадовага вядучага супрацоўніка Славацкага нацыянальнага музэю. Артыкулы беларускіх дасьледнікаў С. Панізьніка[5], В. Маслоўскага[6], І. Мышкавец[7], М. Труса[8] ды іншых, прысьвечаныя асобе Людмілы Краскоўскай і апублікаваныя за апошнія паўтара дзясятка гадоў, пазначаны аўрай навізны й адкрыцьця.

Плён шматгадовага ліставаньня з Уладзімерам Калесьнікам, а таксама зь Сяргеем Панізьнікам знайшоў адлюстраваньне ў літаратуразнаўчых дасьледаваньнях; апублікаваныя й "жменькі" ўспамінаў самой Людмілы Краскоўскай[9]. Адзначым, што аўтарка праз шмат гадоў не забыла беларускую мову, яе допісы прасякнутыя моўнай стыхіяй першых гадоў працы нацыянальных школ зь нязначным дамешкам уплыву славацкай мовы. У адным зь лістоў да Натальлі Лазаравай, зь якой у паважанага навукоўца з Браціславы склаліся даверлівыя адносіны, "славацкая Нестарка" пісала (на рускай мове): *"Добра, што мой ліст з успамінамі Вы атрымалі. Цяпер пасылаю другую палову гэтых успамінаў. Ведаю сама, што трэба пісаць інакш, больш "лірычна", але я ня*

---

[5] Панізнік, Сяргей. З невядомасці // Голас Радзімы. 21 снежня 1995. С. 1; Ён жа. Славацкая Нестарка // ЛіМ. 13 жніўня 1999. С. 15.

[6] Маслоўскі, В. "Славацкая Нестарка" — новыя знаходкі // ЛіМ. 12 ліпеня 2002. С. 14.

[7] Мышкавец, Ірына. Асоба, гісторыя, час — яднаюць нас // ЛіМ. 11 лютага 2005. С. 4; Яна ж. "Будзем помніць мы — будуць помніць пра нас" // Голас Радзімы. 27 студзеня 2005. С. 13.

[8] Трус, Мікола. Людміла Краскоўская: жыццё і дзейнасць на беларуска-ўкраінска-славацкім культурным памежжы // Slovensko-bieloruské jazykové, literárne a kultúrne vzťahy: Zborník príspevkov z medzinárodného vedeckého seminára, 20—21 Septembra 2000 = Acta facultatis philosophicae universitatis prešoviensis : Literárnovedný zborník 15. Prešov, 2003. S. 84—89; Ён жа. 100-я ўгодкі "Славацкай Нестаркі" // Беларусы ў свеце. № 7. 2004. С. 8; Ён жа. Беларуская прысутнасць у міжваеннай Чэхаславакіі праз прызму аднаго лёсу (да 100-годдзя з дня нараджэння Людмілы Краскоўскай) // Беларусіка=Albaruthenika. Кн. 28. Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя: матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін" (Мінск, 6–9 чэрвеня 2005 г.) / пад рэд. А. Мальдзіса, А. Смаленчука. Мінск, 2006. С. 63—67.

[9] Краскоўская, Л. З успамінаў пра паэта // ЛіМ. 15 чэрвеня 1990. С. 6; Яна ж. Аб беларускай гімназіі ў Вільні // Голас Радзімы. 26 студзеня 1995. С. 4; Яна ж. Жыццёвы шлях Івана Краскоўскага // Голас Радзімы. 21 снежня 1995.

*ўмею. Прывыкла пісаць археалягічныя артыкулы, а там лірыкі не павінна быць"*[10].

Завочнае знаёмства зь Людмілай Краскоўскай аўтара гэтых радкоў пачыналася зь Літаратурнага музэю М. Багдановіча ў Менску. Паводле задумы супрацоўнікаў, на першым паверсе музэйнага будынку плянавалася стварыць экспазыцыю "Багдановіч і сучаснасьць". Як вядома, адно зь першых месцаў у шэрагу творчых спадкаемцаў песьняра чыстай красы займае Ўладзімер Жылка. Музэйшчыкі зьбіралі матэрыялы пра жыцьцё й творчасьць паэта, Уладзімер Калесьнік падказаў рэальную магчымасьць знайсьці што-небудзь новае пра Жылку, атрымаць каштоўныя кансультацыі. Перададзены дасьледнікам адрас Людмілы Краскоўскай пашырыў геаграфію пошукаў на Славакію. Завязалася ліставаньне, якое з музэйнага боку падтрымлівала ў асноўным Паліна Качаткова. Калега з Браціславы дасылала супрацоўнікам музэю новыя матэрыялы, дапамагала атрыбутаваць фатаздымкі, асьвятляла абставіны студэнцкага жыцьця ў Празе, рупілася пра тое, каб Літаратурны музэй М. Багдановіча наладзіў стасункі з профільнымі музэямі Славакіі.

Нарадзілася Людміла Краскоўская 26 чэрвеня 1904 г. у Вільні, горадзе, што ў пачатку XX ст., не ў апошнюю чаргу з удзелам яе бацькі, стаў калыскай новай хвалі беларускага адраджэньня, *"крывіцкай Мэккай"* (У. Жылка). У аўтабіяграфіях, якія за жыцьцё пісаліся не адзін раз, Людміле Краскоўскай даводзілася "карэктаваць" палітычную геаграфію й прадстаўляць горад свайго маленства як частку Беларусі, Расеі, Польшчы, Літвы.

Будучая знакамітая дасьледніца вучылася ў гімназіях у розных гарадах былой Расейскай імпэрыі. У час Першай сусьветнай вайны і ў пасьляваенныя гады навучаньне праходзіла пераважна похапкам, бо сям'я вымушаная была пераяжджаць зь месца на месца, то ратуючыся ад вайны, то суправаджаючы бацьку, Івана Краскоўскага, на новыя адрасы яго службовага прызначэньня. Экзамэны за курс чарговай клясы трэба было трымаць у гімназіях Пушчы-Водзіцы (каля Кіева), Адэсы, Тыфлісу, дзе ў гэты час навучаньне хутка пераводзілася на нацыянальныя рэйкі. Вільня, куды сям'я Краскоўскіх вярнулася ў 1921 г. пасьля доўгіх гадоў вандроўнага жыцьця, паклікала на навучаньне ў беларускую гімназію. Сярод настаўнікаў Людмілы Краскоўскай, вучаніцы 7-й клясы, былі слынныя дзеячы нацыянальнай культуры: Антон Луц-

[10] Ліст Людмілы Краскоўскай да Натальлі Лазаравай ад 25.08.1989...

Атэстат Людмілы Краскоўскай аб заканчэньні
Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. 1923 г.

кевіч, Адам Станкевіч, Ільдэфонс Бобіч (Пётра Просты). Некаторыя з аднаклясьнікаў з часам папоўнілі шэрагі беларускага студэнцтва ў Чэхаславаччыне: Яўген Дыліс, Лявон Мэнке, Мікола Ільляшэвіч, Лявон Рыдлеўскі, Любоў Вернікоўская.

Поўная сярэдняя адукацыя была завершаная ў 1923 г. у арганізаванай Іванам Краскоўскім Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. У многім дзякуючы Паўліне Мядзёлцы ў гэтай установе вялікае значэньне надавалася эстэтычнаму выхаваньню: пасьпяхова працавалі хор і драматычны гурток. Людміла Краскоўская была запатрабаваная як афармляльнік, а таксама перакладчык: першай спробай асваеньня іншанацыянальных твораў стала чэская фрашка (апэрэта) Карла Фожта “З чэскіх млыноў” (*“Z ueskэch mlэпщ”*; у перакладзе — “У чырвоным млыне”). Паводле сьведчаньня акадэміка Міколы Мушынкі са Славакіі, песенныя тэксты гэтага твору дапамагаў перакладаць Уладзімер Жылка, які непрацяглы час вучыўся ў Дзьвінскай гімназіі й карыстаўся гасьціннасьцю дому Краскоўскіх. Як успамінала сама перакладніца, гэта было яе першае знаёмства з чэскай мовай, яно паспрыяла больш хуткай моўнай акліматызацыі зь пераездам на навучаньне ў Прагу.



UNIVERSITA KARLOVA
V PRAZE

Legitimace
řádného posluchače

**Připomenutí.** Posluchač mějž legitimaci tuto vždy při sobě, aby se jí k vyzvání úřadů a jich orgánů mohl prokázati. Byt posluchačův budiž v legitimaci vždy správně a určitě vypsán, veliká změna bytu hned naznačena **a do tří dnů** oznámeno kvestuře.

Legitimace tato budiž při odchodu posluchače z university odevzdána rektorátu.

Чэская легітымацыя Людмілы Краскоўскай

У 1923 г. Людміла Краскоўская — студэнтка філязофскага факультэту Карлава ўнівэрсытэту — прыступае да спасьціжэньня таямніцаў археалёгіі й гісторыі мастацтва. Сярод невялікай групкі моладзі, што абрала сабе такую спэцыялізацыю, быў і сябар дзяцінства, палымяны паэт Алег Ольжыч (Алег Кандыба), сын вядомага пісьменьніка А. Алеся. Дактарат па філязофіі “Заходнія ўплывы ў архітэктуры X—XIII стагодзьдзяў ва ўсходніх славянаў” пасьпяхова быў абаронены ў 1931 г. Праца, заўважым, напісаная са значным прыцягненьнем беларускага матэрыялу.

Адначасова праходзіла навучаньне на гістарычна-літаратурным аддзяленьні Ўкраінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя Міхайлы Драгаманава ў Празе (1924—1927). Як запісана ў дыплёме, Людміла Краскоўская атрымала званьне *“пэдагога сярэдніх школ з правам выкладаць гісторыю, гісторыю мастацтва й археалёгію ва ўсіх клясах сярэдняшкольнага тыпу з украінскай і беларускай мовай навучаньня”*.

Дыплямаваная настаўніца зь цягам часу рэалізавала выкладчыцкі патэнцыял у лекцыях ва Ўнівэрсытэце імя Я. А. Коменскага. Але гіста-

рычныя навукі патрабавалі сваёй даніны, сваім парадкам уладкоўвалася сталая праца: навуковы супрацоўнік у археалягічным аддзеле Нацыянальнага музэю ў Празе (1929—1931); у 1931 г. — кустодка[11] ў Славацкім краязнаўчым музэі ў Браціславе (цяпер Славацкі нацыянальны музэй), дзе й прайшло ўсё працоўнае жыцьцё (1931—1988).

У 1930-х гг. Людміла Краскоўская, адарваная ад роднага краю й ад родных, ступіла на маладасьледаваны цалік навукі, на якім да яе й пры ёй шчыравалі толькі мужчыны. Яна стала першай у Чэхаславаччыне жанчынай — кандыдатам гістарычных навук (1961).

За час дзейнай працы Людмілы Краскоўскай было праведзена больш за 50 археалягічных раскопак, напісана каля 300 артыкулаў у галіне археалёгіі й нумізматыкі, 2 кнігі па археалёгіі, якія выйшлі ў Славакіі, 2 кнігі былі выдадзеныя на ангельскай мове Оксфардзкім унівэрсытэтам. Прызнаная дасьледніца ўваходзіла ў шэраг навуковых і рэдакцыйных радаў, камісіяў, брала ўдзел практычна ва ўсіх археалягічных і нумізматычных канфэрэнцыях у Чэхаславаччыне, у міжнародных археалягічных форумах у Польшчы, Вугоршчыне, Нямеччыне, Югаславіі, Румыніі. Сярод узнагародаў, якімі ўганаравала Славакія нястомную руплівіцу навукі, — срэбны мэдаль Славацкага нацыянальнага музэю (1968), іменныя галіновыя прэміі імя Андрэя Кмета (1969) і Войцеха Будзінскага-Крычкі (1996), ганаровыя званьні “Будаўнік Брацішлавы” (1975) і “Заслужаны работнік культуры” (1996).

Багаты эпісталярый — вынік шматгадовых кантактаў зь дзеячамі навукі й культуры славянскага сьвету, асабліва актыўных у 1920–1930-я гг., — стаў асновай асабістага архіву Людмілы Краскоўскай, які да пары зьберагаўся на яе кватэры.

Многае было разьмеркавана яшчэ пры жыцьці захавальніцы: у 1976 г. архіў і бібліятэка Івана Краскоўскага былі перададзеныя ў Фундамэнтальную бібліятэку АН БССР імя Я. Коласа пад апякунства Лідзіі Збралевіч; два дзясяткі скрыняў з архіўнымі матэрыяламі — перададзеныя ў Архіў Славацкага нацыянальнага музэю; у 1993 г. архіў Аляксандра Кандыбы пры пасярэдніцтве надзвычайнага й паўнамоцнага пасла Ўкраіны ў Чэскай Рэспубліцы й Славацкай Рэспубліцы Рамана Лубкіўскага быў урачыста перададзены дырэктару Інстытута ўкраінскай літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі НАН Украіны, акадэміку Міколу Жулінскаму, й дасьледніцы Міхайліне Кацюбінскай.

Частка архіву Людмілы Краскоўскай цяпер знаходзіцца на захаваньні ў прыватным зборы акадэміка Міколы Мушынкі ў Прэшаве (Славакія).

Намаганьнямі аўтара гэтых радкоў частка неразьмеркаванага архіву была выяўленая ў прыватных зборах блізкіх Людмілы Краскоўскай у Браціславе. Гэта каля 300 адзінак, якія можна разьмеркаваць па наступных тэматычных блёках:

- Кнігі зь бібліятэкі Івана Краскоўскага і Людмілы Краскоўскай: слоўнікі; выданьні, зьвязаныя з прафэсійнай сфэрай уладальнікаў; беларускія выданьні 1920-х гг. — другой паловы XX ст. (некаторыя з дарчымі аўтографамі).
- Матэрыялы да радаводу Краскоўскіх, лісты родных і блізкіх Людмілы Краскоўскай.
- Матэрыялы, зьвязаныя зь Віленскай і Дзьвінскай беларускімі гімназіямі: фатаздымкі навучэнцаў і выкладчыкаў, лісты, афішы тэатральных і музычных прадстаўленьняў.
- Матэрыялы, зьвязаныя з Уладзімерам Жылкам і пошукамі яго спадчыны: аўтографы асобных твораў і перакладаў; кнігі паэта; лісты Ўладзімера Жылкі канца 1920-х гг., а таксама Ўладзімера Калесьніка, Барыса Жылкі (брата паэта), Натальлі Лазаравай (дачкі паэта) 1960—1990-х гг.
- Студэнцкае жыцьцё (беларускае і ўкраінскае) у Чэхаславаччыне міжваеннага пэрыяду: фатаздымкі, паштоўкі, лісты да Людмілы Краскоўскай.
- Беларускі рух у Латвіі міжваеннага часу: фотаздымкі, пэрыядычны друк, выразкі з газэтаў.
- Лісты да Людмілы Краскоўскай сям'і Дыліс 1920—1980-х гг.
- Лісты, паштоўкі да Людмілы Краскоўскай прадстаўнікоў беларускай і ўкраінскай дыяспараў (другая палова XX ст.; ЗША, Канада, Аргентына, Польшча).

Толькі некаторыя з гэтых матэрыялаў нам удалося апублікаваць на старонках навуковага-мэтадычнага часопіса “Роднае слова” (2009. №№ 3, 5—7, 9—12).

Ніжэй мы прыводзім найбольш паказальныя матэрыялы з мэмуарнай і эпісталярнай спадчыны Людмілы Краскоўскай, якія ўтрымліваюць жывую пульсацыю асабістых і нацыянальных клопатаў 1920—1930-х гг.

***Людміла Краскоўская***

# З ДАЎНІХ ЧАСОЎ[1]
## (урывак з успамінаў)

Наша сям'я жыла ў губэрнскім горадзе Вільні. Там нарадзіліся я й двое малодшых братоў. Сям'я была досыць шматлікая: складалася з бацькі Івана Ігнатавіча Краскоўскага, яго жонкі Валянціны Сямёнаўны й траіх дзяцей — дачкі Людмілы, сыноў Сяргея й Мсьціслава. З намі жыла й бабуля — цётка мамы Амалія Францаўна. Калі ў 1910 г. памёр дзед, татаў бацька, да нас прыехала жыць другая бабуля — яго маці Алена.

Тата Іван Краскоўскі нарадзіўся ў 1880 г. у вёсцы Дубічы Гродзенскай губэрні, дзе яго бацька быў сьвятаром. Таму ён скончыў у Вільні духоўную сэмінарыю. У 1903—1905 гг. бацька вучыўся ва ўнівэрсытэце ў Варшаве на гістарычна-філялягічным факультэце. Яшчэ ў Вільні ён пазнаёміўся з Валянцінай Сакальскай і ажаніўся зь ёй у 1903 г. За ўдзел у студэнцкім руху ў 1905 г. бацьку арыштавалі й выкінулі з Варшаўскага ўнівэрсытэту. Скончыў унівэрсытэт ён у Пецярбургу — як гісторык-эканаміст.

Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту бацька пасяліўся ў Вільні й працаваў настаўнікам у гімназіях. Маці нідзе не працавала, займалася гаспадаркай і выхоўвала дзяцей. Яна нарадзілася ў 1883 г. у Камянец-Падольску на Ўкраіне. У Вільні яна скончыла „*Институт благородных девиц*". Маці не была шляхцянкай, але паступіла ў гэтую школу, бо дзед быў вайскоўцам. Ён служыў у войску вэтэрынарам і браў удзел у дзьвюх войнах. Маці вельмі хацела вучыцца далей ва ўнівэрсытэце, каб быць

[1] Красковська Людмила. З давніх часів. Prešov, 1999. — 85 с. Перакладзены на беларускую мову ўрывак успамінаў узяты з разьдзелу „Мандрівне життя" („Вандроўнае жыцьцё").

лекарам, але хутка пасьля шлюбу займела дзяцей і ўжо не магла працягваць навучаньне. Калі бацьку арыштавалі ў 1905 г., маці ўзяла мяне малую, і разам з бабуляй мы паехалі ў Варшаву. Крымінальных злачынцаў утрымлівала дзяржава, але арыштаваныя студэнты павінныя былі самі здабываць сабе ежу. Маці й бабуля варылі, а мама штодня адносіла ежу ў вязьніцу, даглядала ня толькі мужа, але й некалькіх ягоных таварышаў. Студэнтаў досыць хутка выпусьцілі зь вязьніцы, і нашая сям'я вярнулася ў Вільню.

Я ўжо ня памятаю, якім было найстарэйшае нашае жытло й на якой вуліцы яно знаходзілася. На старых фатаздымках відно, што там быў вялікі двор, дзе забаўляліся дзеці. Першая падзея, якая засталася ў маёй памяці, — нараджэньне малодшага брата Слаўкі. Тады жанчыны нараджалі дома, а не ў бальніцы. Мне ўжо было дзесьці шэсьць гадоў. Усе былі чымсьці занятыя й не зьвярталі на мяне ўвагі. У перадпакоі была вялікая драўляная скрыня, у якой захоўвалі зімовае адзеньне. Я неяк залезла ў гэтую скрыню й доўга плакала, бо не магла зразумець, чаму пра мяне ўсе забылі.

У Вільні былі дзьве прыватныя мужчынскія гімназіі: Паўлоўскага й Вінаградава. Бацька быў гісторыкам, ён выкладаў гісторыю ў гэтых гімназіях, а яшчэ быў там намесьнікам дырэктара. Для дзяўчат былі асобныя дзяржаўныя школы. *„Епархиальная школа“* была для дзяўчат зь сем'яў духавенства, там вучыліся дзяўчаты з радні бацькавай мамы. *„Институт благородных девиц“* быў школай для шляхцянак, дзе вучылася мама. Бацька арганізаваў у гімназіях дзьве футбольныя каманды, якія гулялі паміж сабой. Гэта былі першыя футбалісты ў Вільні й, магчыма, ва ўсім „Паўночна-Заходнім краі“.

Пару разоў бацька браў мяне з сабой на трэніроўкі гэтых хлопцаў. Яны ня мелі асобнага футбольнага поля. На ўскрайку гораду наймалі ў кагосьці пустку, дзе трохі выроўнівалі паверхню. Памятаю, што на гэтым полі часам пасьвіўся асёл гаспадара, які вельмі неахвотна выходзіў у кут, каб вызваліць поле футбалістам.

Праз гэтыя футбольныя каманды бацька меў непрыемнасьці. Якіясьці *„мамаши“* паскардзіліся ў школьную ўправу, што іх дзеці замест навучаньня бегаюць па полі, і ўвогуле ня можа быць пэдагогам такі несур'ёзны чалавек, які гуляе ў футбол. Але са скаргі нічога не атрымалася. Школьнае начальства зразумела, што няхай лепш вучні гуляюць у футбол, чым п'юць гарэлку й робяць рэвалюцыю. Вучні ў старэйшых клясах сапраўды многа пілі, і ў гэтым пляне футбалісты былі выключэньнем.

У Вільні перад вайной, дзесьці ў 1912—1913 гг., я ўбачыла першы аэраплян. Першы раз гэта былі чужыя летуны: Блэрыё на манапляне й Фарман на біпляне. Гэтыя аэрапляны былі зробленыя з дрэва й палатна. У манапляна былі два простыя крылы, а біплян меў крылы падвойныя. Лятун лятаў адзін. У ваколіцы горада, дакладна на месцы, дзе трэніраваліся вайскоўцы, зрабілі драўляную агароджу, за якой стаяла публіка. Аэрапляны знаходзіліся пасярэдзіне пляцоўкі, там яны ўзьляталі й кружлялі над галовамі гледачоў на вышыні дваццаці-трыццаці мэтраў. Пазьней прыляцеў расейскі лятун, здаецца, Несьцераў[2], які таксама на гэтай плошчы паказваў свае мастацтва. Гэта было нешта казачнае: чалавек лятаў у паветры, рабіў розныя віражы, і дзіўная машына яго слухалася! За час аднаго чалавечага жыцьця ад такіх аэрапланаў людзі дапрацаваліся да цяжкіх бамбавозаў, лятучых вагонаў з пасажырамі, аж да палётаў на месяц.

Пакуль жыў дзед (бацькаў тата) мы езьдзілі ўлетку да яго ў сяло Дубічы паблізу вядомай Белавескай пушчы. Дзед памёр недзе ў 1910 г., ад таго часу мы там больш не былі. Дзед Ігнацій Краскоўскі яшчэ быў шляхцічам (дваранінам), але майго бацьку ён ужо не запісаў у „дваранскую кнігу“. Дзед вучыўся ва ўнівэрсытэце ў Маскве, які пасьпяхова скончыў. Пасьля гэтага працаваў у рэдакцыі перадавога часопісу ў Маскве.

Калі пачалася палітычная рэакцыя ў сямідзясятых гадах XIX ст. у Расеі, дзед пайшоў у сьвятары. Тады быў заклік *„хождения в народ“*. Таго, хто меў вышэйшую адукацыю, унівэрсытэт, маглі высьвяціць у сьвятары без заканчэньня духоўнай сэмінарыі, калі ён ажаніўся з дачкой сьвятара. Прагрэсіўныя людзі лічылі, што гэта была адзіная магчымасьць працаваць сярод народу, прасьвятляць яго. Гэта быў рух народнікаў. Дзед таксама ажаніўся зь дзяўчынай зь сям’і сьвятара, і яго прызначылі сьвятаром у Дубічы. Гэта было вялікае сяло, там была школа й пошта. У гэтым сяле дзед пражыў усё жыцьцё, тут памёр і быў пахаваны.

Бацька ўспамінаў, што дзед у маладосьці быў вельмі таварыскім, любіў танцаваць, заляцацца да дзяўчат. Адмовіўшыся ад кар’еры, жыцьця ў Маскве, ён пражыў усё жыцьцё ў вёсцы далёка ад чыгункі. Бацька быў адзінакам. Сястра памерла зусім малой.

Бацька апавядаў, як летам яны ўсёй сям’ёй езьдзілі на вазах у Белавескую пушчу ў грыбы. Грыбоў было шмат. Назьбіралі вялікія кошыкі: баравікі, рыжыкі, горшых ніколі не бралі. У ваколіцах Белавескай пушчы яшчэ былі курныя хаты, бяз комінаў. У хатах трымалі вужоў, як да-

[2] Маецца на ўвазе **Пётр Несьцераў** (1887—1914), расейскі ваенны лётчык.

машніх. На земляной падлозе яны пілі зь міскі малако разам зь дзецьмі.

Памятаю, як раз мы езьдзілі летам да дзеда ў Дубічы — мне было тады недзе шэсьць гадоў. Дзед ужо не працаваў, бо яго разьбіў параліюш, але яны яшчэ жылі ў доме сьвятара. Увечары, калі яшчэ было добрае надвор'е, дзеда выносілі на двор каля хаты, там былі складзеныя дровы. Звычайна ўвечары туды сыходзіліся сяляне, прыходзіў настаўнік, усе сядзелі на дровах і размаўлялі зь дзедам. Відаць было, што сяляне яго любілі й паважалі. Дзед у белым „падрасьніку" сядзеў ці напаўляжаў у фатэлі, а каля яго звычайна зьбіраліся старэйшыя дзядзькі.

Ня памятаю ўжо, якая была царква ў Дубічах, але каля яе стаяла драўляная званіца, ужо старая, якая не выкарыстоўвалася. Мы, дзеці, бегалі хавацца ў званіцу, хоць нам гэта забаранялі, каб раптам старая пабудова не завалілася. Зь сям'і Краскоўскіх я ні з кім больш не сустракалася.

Бабуля (бацькава маці) мела большую радню: дзьве яе сястры мелі таксама мужоў-сьвятароў. Адна сястра, здаецца, Марыя, жыла ў сяле Дзярэчынак над Нёманам. Выйшла замуж за сьвятара Давідовіча. Яны мелі дарослых дзяцей: сына Леаніда й дачку Таню. Пан айцец Давідовіч быў ужо сівы з барадою, выглядаў як апостал. Гэта быў разумны й сумленны чалавек, у сяле яго ўсе паважалі. Леанід быў студэнтам, ён любіў дзяцей і ўмеў зь імі паразумецца. Таму й дзеці яго любілі, страшэнна выкарыстоўвалі й перашкаджалі яму вучыцца.

У Дзярэчынак мы езьдзілі аднаго разу перад вайной на лета. Дзярэчынак быў вялікім сялом. Сям'я сьвятара жыла ў сядзібе ў досыць вялікім доме, дзе разьмясьцілася й нашая сям'я. Была там вялікая гаспадарка: коні, каровы, шмат рознага птаства. Зусім блізка каля сядзібы працякаў Нёман, там гэта вялікая рака. Дзеці любілі хадзіць на раку, глядзець, як купалі коней ці паілі кароваў. Нёман чысьціла землечарпалка, якая выцягвала з вады цэлыя ствалы дрэў, іх потым складалі на беразе. Дрэва было вельмі моцным, яго называлі чорны дуб. Ня ведаю, куды вывозілі гэтае дрэва й для чаго выкарыстоўвалі.

Я памятаю такое спакойнае жыцьцё ў Дзярэчынку, але далейшы лёс гэтай сям'і быў трагічны. Падчас вайны Давідовічы ўцякалі ад немцаў і апынуліся ў Белай Царкве на Ўкраіне. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. стары Давідовіч як сьвятар ня меў пасады. Здаецца, Таня працавала сястрой міласэрнасьці. Падчас эпідэміі тыфу яна заразілася, ад яе заразіўся Леанід, і абое памерлі. Пра іх бацькоў мы ўжо больш нічога ня чулі.

Другая сястра бацькавай мамы таксама выйшла замуж за сьвятара, яна мела пяць дачок. Старэйшая дачка Зіна, прыгожая дзяўчына, не-

калькі разоў была ў нас у гасьцях у Вільні. Дзьве малодшыя сястры Зіны вучыліся ў епархіяльнай школе ў той жа Вільні. Мы ніколі ня езьдзілі да гэтых сваякоў, і я ня ведаю, дзе яны жылі ў вёсцы. Дочкі сьвятароў мелі нешчасьлівы лёс. Адзіны быў ратунак — выйсьці замуж за сьвятара, але такіх нарачоных было менш, чым дзяўчат. Потым такія дзяўчаты ішлі ў сям'ю брата ці замужняй сястры й дапамагалі ім па гаспадарцы.

Зіна звычайна прывозіла „баўмкухэн", гэта была салодкая булка, выглядала як кавалак дрэва, а ўсярэдзіне была пустой. Баўмкухэн пяклі так, што драўляны валец з бугорыстаю паверхняю памалу абгортвалі, палівалі цестам, пяклі і зноў палівалі. Гатовым гэта выглядала як гады на зрэзаным дрэве. Гэта было дарагое цеста й марудная праца, таму ў нас у хаце не пяклі баўмкухэн.

Перад Першай сусьветнай вайной наша сям'я жыла ў Вільні ў прадмесьці Антокаль на Вясеньняй вуліцы. Гэта была кароткая, але стромкая вуліца, якая выходзіла на плошчу перад касьцёлам Пятра й Паўла. Два разы на тыдзень на гэтай плошчы быў кірмаш, куды зьяжджаліся й сыходзіліся сяляне са сваімі прадуктамі, іншым часам гэтая плошча была пустая.

За плошчай каля касьцёлу праходзіла вуліца, дзе езьдзіла конка. Гэта быў тагачасны трамвай, але вагоны па рэйках цягнулі два коні. Зімой былі закрытыя вагоны, а летам езьдзілі адкрытыя плятформы з дахам. Конка мела свае прыпынкі, але рухалася так павольна, што студэнты й гімназісты ўскоквалі ў вагоны падчас язды. Адна траса конкі вяла да цэнтру гораду каля катэдральнага сабору, пад руінамі замку. Другая траса ішла з цэнтру гораду да другога прадмесьця — Зьвярынец, за рэчку Вілія. Іншым спосабам перамяшчэньня ў горадзе былі рамізьнікі, якія мелі павозкі з адным канём, гэта быў дарагі панскі спосаб.

Мы пераехалі на Вясеньнюю вуліцу дзесьці ў 1912 г. Жылі ў доме, які стаяў у канцы вялікага саду. Нашая сям'я знаходзілася на першым паверсе ў досыць вялікай кватэры, якая складалася зь пяці пакояў, кухні й прасторнага перадпакою.

Над намі на другім паверсе жыла сям'я Ўсевалада Макаравіча Ігнатоўскага[3]. Як і мой бацька, ён быў гісторыкам і настаўнікам гімназіі.

---

[3] **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), гісторык, грамадзка-палітычны дзеяч. Скончыў Юр'еўскі (Тартускі) унівэрсытэт. Народны камісар асьветы БССР. Старшыня, першы прэзыдэнт Інстытуту беларускай культуры. Дырэктар Інстытуту гісторыі, першы прэзыдэнт БелАН (ад 1928 г.). Ахвяра палітычных рэпрэсій. Скончыў жыцьцё самагубствам.

Гэта быў стары татаў сябра яшчэ па ўнівэрсытэце. У яго былі два сыны, але мы, дзеці, не трымаліся разам.

У пачатку саду каля брамы быў меншы дом, дзе жыў яшчэ адзін гісторык, настаўнік і бацькаў сябра Васіль Друшчыц[4].

Узімку дзеці выкарыстоўвалі Вясеньнюю вуліцу для катаньня на санках. У нас былі большыя санкі, я сядала сьпераду й кіравала, а браты сядзелі за маёй сьпінай. Санкі выдатна сьлізгалі па стромкай вуліцы. Мама нам дазваляла катацца на санках толькі на гэтай вуліцы, але я часта не пасьпявала затармазіць санкі й яны вылятаі на плошчу перад касьцёлам.

Летам мы бегалі й гулялі ў вялікім садзе разам з нашым любімым сабакам Арго. Гэта быў прыгожы сэтэр чорнай масьці. Арго дазваляў дзецям рабіць зь ім усё, што яны хацелі. Гэта быў добры вартаўнік, толькі ён не любіў паштароў і камінароў.

У беспасярэдняй блізкасьці ад Вільні пачыналіся разлогія лясы з высокімі старымі дрэвамі, разматымі кустамі, дзе расьлі грыбы і ўсялякія ягады. Гэта былі прыродныя лясы, не пашкоджаныя цывілізацыяй. Бацька, які вырас у суседзтве са знакамітай Белавескай пушчай, любіў лес, разумеў яго багацьці, ён добра ведаў гатункі грыбоў і лясных расьлінаў.

Улетку бацька хадзіў зь дзецьмі цэлымі днямі па лесе. Ён браў брата Сяргея на плечы, мне ўжо было 8-9 гадоў і я ўмела сама добра хадзіць. Памятаю велічэзныя дрэвы, пад якімі мы праходзілі. На пні такога дрэва, амаль мэтар у разрэзе, мы раскладвалі ежу й яшчэ нават самі маглі сесьці. У цэнтры Вільні каля катэдральнага сабору расло некалькі магутных старых дубоў. Казалі, што гэта рэшткі лясоў Пяркунаса з паганскіх часоў, што там было яго сьвяцілішча.

Летам 1914 г. мы выехалі на вакацыі ў Пушкарню, недалёка ад Вільні. Там мы пасяліліся ў асобным доме. Блізка ад дому з аднаго боку быў ставок, з другога цякла рэчка, а з трэцяга быў лес. Ад гэтай празьмернай колькасьці вады вакол з нашай сям'ёй здарылася некалькі непрыемных падзей. Ставок быў параўнальна плыткі, зарослы аерам і

[4] **Васіль Друшчыц (Дружчыц)** (1886—1937), гісторык. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча (1901), Літоўскую духоўную сэмінарыю (Вільня, 1907), Юр'еўскі (Тартускі) унівэрсытэт (1911). Выкладчык (ад 1922 г.), прафэсар катэдры гісторыі Беларусі БДУ (ад 1927 г.). Правадзейны сябра Інбелкульту (ад 1924 г.). Ад 1933 г. — супрацоўнік Інстытуту гісторыі БелАН, прафэсар катэдры гісторыі народаў СССР Літаратурнага інстытуту імя Герцана (Масква). Прысуджаны да расстрэлу.

чаротам. Там быў невялікі човен зь вёсламі, які дазвалялі выкарыстоўваць дзецям. Акрамя мяне й брата Сяргея (малодшага брата Слаўку яшчэ не пускалі на ставок) з намі езьдзілі дзеці з суседняга двара.

Я сама навучылася плаваць у Пушкарні, але брат яшчэ ня ўмеў. Аднойчы, калі Сяргей вылазіў з чоўну на бераг, ён пасьлізнуўся і ўпаў у ваду. На шчасьце, на беразе стаяла цётка, якая тады прыехала да нас, яна выцягнула брата. Другі раз бацькі разам з намі, дзецьмі, пайшлі чагосьці купіць у суседні двор. Трэба было ісьці проста каля рэчкі па драўляным ходніку. Я ішла сьпераду з бацькам. Раптам я пачула нейкі ўсплёск, за ім адразу другі. Гэта малодшы брат Слаўка чагосьці нагнуўся над вадой і ўпаў у рэчку. За ім адразу скочыла ў ваду мама (яна добра плавала) і схапіла хлопца. Бацька іх абаіх выцягнуў з вады, але мы мусілі вярнуцца дадому.

У двары за рэчкай былі каровы, і гэты статак кожны дзень пераганялі праз рэчку на наш бераг пасьвіцца ў лесе. Лес быў нікчэмны, мокры: асака, вольха, кусты, травы там было мала. Звычайна я пільнавала статак і адганяла кароў, якія набліжаліся да нашага дому, бо там былі кветкі. Аднаго разу я загнала карову далёка ў лес і раптам убачыла перад сабою быка. Гэта быў вялікі чорны бык, вельмі злосны. Я скамянела й баялася зварухнуцца, а бык перада мной фыркаў і гроб зямлю. На маё шчасьце, гэта ўбачыў пастух. Ён закрычаў на быка й адагнаў яго бізуном.

Найгоршая прыгода здарылася з нашым сабакам Арго. Уся сям’я выбіралася на рэчку Вілейку, якая цякла непадалёк, каб пакатацца на чоўне. Арго замкнулі ў доме, дзе было гарышча з адчыненым акном. Арго вылез па сходах на гарышча, а калі ўбачыў, што ўсе мы адыходзім, скочыў уніз. Бацька нібы адчуў, што нешта здарылася, вярнуўся дадому й знайшоў Арго, які ляжаў на зямлі. На возе, які пазычылі ў двары, бацька адвёз сабаку да вэтэрынара. Арго зламаў пярэднія лапы. Пару тыдняў ён ня мог рухацца. Кожны дзень бацька й я выносілі яго на кіліме з дому на вуліцу і ўвечары заносілі назад. Лапы добра зрасьліся, і калі мы ад’яжджалі з Пушкарні, Арго ўжо бегаў.

У Пушкарні мы засьпелі рэдкую прыродную зьяву — зацьменьне сонца. Было гэта дзесьці папоўдні. Мы падрыхтавалі закапцелыя сажай шкельцы, каб глядзець на сонца. Цікава было назіраць, як паводзілі сябе падчас зацьменьня розныя жывёлы. Калі сонца пачало хавацца й стала напаўцёмна, сабака Арго залез пад сходы й там схаваўся, куры кудахталі й бегалі як дурныя па двары, нейкія пташкі мітусіліся ў паветры. Толькі калі сонца засьвяціла, скончыўся гэты перапалох.

У Пушкарні мы сьвяткавалі Купалу — 24 чэрвеня, калі ў бацькі быў дзень народзінаў і імяніны. Сабралася шмат бацькавых сяброў: сем'і лекара П. Кесарава, настаўніка А. Шведава й іншыя сем'і зь дзецьмі. Увечары на крутым беразе рэчкі Вілейкі расклалі вялікі агонь, дарослыя сьпявалі й скакалі праз вогнішча, а дзеці дзівіліся з такога незвычайнага відовішча.

А праз некалькі дзён пасьля Купалы пачалася Першая сусьветная вайна[5]. Яшчэ да канца вакацый мы вярнуліся ў Вільню. Скончылася бестурботнае й бясхмарнае дзяцінства, пачалося наша вандроўнае жыцьцё.

*Пераклад з украінскай мовы й камэнтары Міколы Труса*

[5] Маецца на ўвазе забойства 28 чэрвеня 1914 г. у Сараеве аўстрыйскага эрцгерцага Франца Фэрдынанда, што стала падставай для разьвязваньня вайны. Уласна ж Першая сусьветная вайна пачалася 28 ліпеня 1914 г.

*Тэма нумару: Беларусаведныя калекцыі*
*Архівы й архіваліі*

# З АРХІВАЎ ЛЮДМІЛЫ КРАСКОЎСКАЙ

## Лісты Ўладзімера Жылкі

*Уладзімер Жылка (1900—1933), паэт, празаік, перакладчык, літаратурны крытык, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі „Ўяўленьне“ (Вільня, 1923), „На ростані“ (Вільня, 1924), „З палёў Заходняй Беларусі“ (Менск, 1927). У гісторыі дасьледаваньня творчай спадчыны Ўладзімера Жылкі вылучаюцца праскі й менскі пэрыяды. Вельмі плённы праскі пэрыяд жыцьця й творчасьці паэта, што ахоплівае 1923—1926 гг., даволі добра прадстаўлены ў дакумэнтальных сьведчаньнях. Гэта час навучаньня на філязофскім факультэце Карлава ўнівэрсытэту да ад'езду Жылкі ў статусе рэдактара часопісу „Перавясла“ на Акадэмічную канфэрэнцыю па рэформе беларускага правапісу й азбукі, якая праходзіла ў Менску ў 1926 г. з удзелам прадстаўнікоў дыяспары. Паэт не вярнуўся ў Прагу, падкуплены энтузіязмам нацыянальнага будаўніцтва 1920-х гг., застаўся на сталае жыхарства ў БССР, прыняў савецкае грамадзянства. Працаваў у газэце „Зьвязда“, Менскім музычным тэхнікуме, Белдзяржкіно; быў сябрам літаратурнага аб'яднаньня „Маладняк“, потым — „Узвышша“. Першы раз быў арыштаваны ў пачатку 1930 г. У 1931 г. быў асуджаны на пяць гадоў высылкі ва Ўржум Кіраўскай вобласьці РСФСР, адкуль ужо не вярнуўся.*

*Пра архіў менскага пэрыяду (1926—1930), завершанага рэпрэсіямі й высылкай, дасьледнік Уладзімер Калесьнік пісаў як пра цалкам і незваротна страчаны. Зь невядомых прычынаў Людміла Краскоўская пры жыцьці не пажадала пазнаёміць з гэтымі ўнікальнымі дакумэнтамі ні родных паэта, ні дасьледнікаў-літаратуразнаўцаў, тым больш не вялася гаворка пра іх перадачу ў Беларусь.*





Уладзімер Жылка. Дарчы надпіс Людміле Краскоўскай на адвароце здымка

*

Любая дзяўчатка[1]! Дзякую табе за ліст і вітаю на новым месьце. Ліст я атрымаў яшчэ ўваўторак і ніяк ня мог улучыць вольную хвілінку, каб чыркануць табе. Да душы — тут ня было злое волі, а адсутнасьць часу, а цяпер вось зараз давай трохі пазюкаем (гэта значыць тое самае, што ўукраінскае — балакаты). Клопаты твае аб тым, каб я не правароніў кватэры, мяне ўзрушылі і былі мне прыемны, але гэта ня значыць, што я ўжо маю кватэру. І на далей — усё ў тым жа пакоі — далёка і абрыдла хадзіць. Мы без цябе тут усе раскісьлі — у тым ліку і я. А ўсе ж ты мусела яшчэ застацца тут на нейкі час — гэта б магчыма і не пашкодзіла б тваім унівэрсытэцкім заняткам. Але ёсьць як ёсьць! Начай ужо ня зробіш.

Фатаграфіі, што мы здымаліся, яшчэ ня сысканы. Мама мае пробную. Ты вышла зусім добра, хоць мама даводзіць, што ты лепей выпадаеш на фатаграфіі, дзе мама, ты, бацька і хлопцы. Мне ты падабаешся і там, і там, а я падобен на нейкага Кашчэя...

Зараз ідзем разам з Мамай да Юл.[ьяна][2] у госьці, таму канчаю так раптоўна.

---

[1] Усе апублікаваныя ў гэтым матэрыяле лісты адрасаваныя Людміле Краскоўскай.

[2] **Юльян Дрэйзін** (1879—1942), музыказнаўца, пэдагог, перакладчык, публіцыст. Выкладчык Менскага музычнага тэхнікуму.

Працяг заўтра.
Моцна моцна цалую маю любую і родную
Валодзя.
P.S. Чыркні. Згадвай. Мусіць хутка заявіцца ў сьвет мой зборнік.
Заўтра дакладней і падрабязьней.

*

1927 г.

Даражэнькая і родная мая!

Учора напісаў табе ліст, але не пасьпеў кінуць. Сама ведаеш, што добра разумею, што ты чакаеш весткі, а не зрабіў патрэбнага: гэта (ты пазнаеш!) так на мяне падобна. Сёння толькі атрымалі нашы картачкі. Перасылаю адну табе, і разам карыстаюся — прычына зусім адпаведная — каб перакінуцца слаўцом.

Да твайго ліста — аб якім хачу гаварыць — можна было б узяць эпіграфам: *„усё к лепшаму“* і тыя месцы, дзе развагі аб спробе *„да чэрвеня“* (ты гэта месца памятаеш?) такія разумовыя. Бацькі, каб прачыталі, былі б задаволены „благоразумием“ доні. На абум нельга нічога зрабіць, прапісная ісьціна — *„сем раз адмер...“*. Толькі яна па плячу; здаровы сэнс не дазволіць зрабіць глупства, а ён твой адзіны дарадца і правадыр. Няхай сэрца, вусны і ўся істота пратэстуюць — дарма! Я ня буду праклінаць паганы і нялюбы для мяне зьбег абставін. Ці трэба парушаць спакой і маестат яго сьветласьці найвышэйшага гаспадара майго *„Благоразумия“*. Нават у самых патаемных куточках душы мае не набяжыць і цені абурэньня ці, лепей, нездавальненьня. Ці не так разважае Людуся? Што граха таіць: вядома ж — так!

А я на падобнае дасадую. Нават згадзіўшыся што факты, абставіны — жорсткая рэч, прымушаюць лічыцца. Але... але блаславіць гэтыя самыя абставіны, блаславіць да канца, гэта ёсьць... Падбірай сама слова, я яго скажу калі-небудзь.

Ведаеш, бацька такое псіхалёгіі — „человечек“ Бальмонта. Прыгадваеш — *„человечек современный — нискорослый, слабосильный... это — можно, это — нет...“*[3] Твайму духоваму абліку зусім чужая рэвалюцыйная стыхія. Мне здаецца, што ты ніколі ня здолееш быць рэвалюцыянэрам. Нават, каб здарылася, не адважылася б ну хоць бы на якую-небудзь дробную рэвалюцыйку ў побыце.

[3] Радкі зь верша *„Человечки“* расейскага паэта Канстанціна Бальмонта (1867—1942).

А дух заўсёды рэвалюцыянэр дзейны і вечны. Ён робіць людзей людзьмі і людзьмі прыгожымі і вялікімі. Як жа быць і чым аздобіцца тым, хто бяз Духа?

Даруй мне, любая, — можа гэта толькі адны падазрэньні, дурныя філіпікі, якія табе могуць зрабіць балюча, але *„проба чэрвенем“* мяне крыху ўсхвалявала. Пачуцьці, нават калі яны тысяча тысячны раз завядуць і заблудзяць, маюць большыя правы на чалавека: з імі сьвет Лёгаса, асьвятляе жыцьцё. Твой каханак, цьвярозы сэнс, толькі чадзіць і курыць; яго прытулак — курныя душы. Далоў яго.

Цяпер крыху аб сваім жыцьці-быцьці. Працую на старым мейсцы. У нас, ды ня толькі ў нас, але і ў месьце, і па усім СССР ідзе падрыхтоўка да Кастрычніка. Ёсьць вялікі энтузіязм. Сьвята ня будуць насіць казённага характару. Мы, безумоўна, перажываем прыгожыя дні рэвалюцыйнага пад’ёму і пафасу. Я поўны роспачы, што мне не ўдаюцца грамадзкія матывы: столькі ёсьць у галаве такога, што мусяла б выліцца у песьні. Ведаеш, як бы цяжка не даваліся перамогі, мы ўсе, увесь наш век крочыць да таго, што ня будзе ні багатых, ні бедных.

Слухай, ты не зразумей, што лаюся з табой, калі пісаў з прычыны *„чэрвеня“*. Ня праўда, я вельмі ўсьцешаны твайму лісту і ўдзячны табе за яго, удзячны за тваю нежнасьць, шчырасьць, даверлівасьць. Мая прыдзірлівасьць, вер, не ад злога сэрца.

Пішы часьцей нават калі не заўсёды будзе ў час адказана. Хацеў бы атрымваць ад цябе часта часта. Як твае здароўе і самапачуцьцё? Шануй сябе.

Бывай да другога ліста. Моцна цісну цябе і горача цалую.

Твой Валодзя.

P.S. Вельмі прасіў бы, калі льга, зараз жа прыслаць, даць па нумару часопісаў *„Uřtdni čeština“* (здаецца, так пішацца) і *„Naša řeč“*, што выдае Акад. Навук. Трэба да зарэзу.\

Цябе зьдзівіць, што так многа накрэйзаў. Бачыш, здараецца. Знача, я не безнадзейна няпісьменны.

Слаўка на адвароце картачкі напісаў дурніцы. Маме і мне вельмі падабаецца як ты вышла і наогул ты нам болей падабаешся. Цалую. В.

*

Даражэнькая Люда!

Даруй мне сьвінскае маё маўчанне — нечем хваліцца, а плакацца ў камізэльку ня ўмею. Але аб гэтым можна шмат гаварыць... Адложым таму да другога разу. А покі што — даруй!



Любая дзяўчатка! Дзякую табе
за ліст [illegible] на новым месцы.
Ліст я атрымаў яшчэ [illegible] і ніяк
не мог улучыць вольную хвілінку, каб
чыркануць табе. [illegible] — тут
было [illegible] часу, а
цяпер [illegible] трохі [illegible]
[illegible], што [illegible]
[illegible]). [illegible] аб тым,
каб я не [illegible] кватэры, [illegible]
[illegible], але [illegible], што я ўжо
маю кватэру. І на [illegible] — усё [illegible]
[illegible] і [illegible]
[illegible].

Мы [illegible] —
[illegible]. А [illegible]
яшчэ [illegible] тут на некі час —
[illegible] і не [illegible]
[illegible] універсытэцкім [illegible].

Старонка ліста Ўладзімера Жылкі да Людмілы Краскоўскай.
Менск, 1927 г. (?).

Добра было б, каб знайшла матуру[4] — яна, калі ня здраджае памяць, была разам з *Collegialnymi vysvědčen*’ямі[5]: я яе перадаў табе. Пашукай яшчэ раз у маіх пісьмах. А калі — не, вазьмі копію разам з Жэнькам[6]. Трэба было б мець якую-небудзь паперку з унівэрсытэту.

[4] **Матура —**– атэстат сталасьці.

[5] Калегіяльныя пасьведчаньні (чэск.).

[6] Магчыма, маецца на ўвазе Аўген Дыліс.

Вось што — пішы мне, ня злуйся. Я хутка напішу зь вёскі вялікі ліст — трэба пагутарыць.

Ведаеш — я закахаўся ўжэ месяцаў са тры і, здаецца, па самюськія вушы. Яна маленькая, рыжая і злюшчая, язычлівая. Мяне кахае.

Здароўе мае паганае. Мо' ўжо к канцу ідзе, а мо... чорт яго знае, але настрой псуе хвароба.

Пішы аб сабе і сваіх справах.

Высылаю табі свае *„стишки“* — іх лаюць.

Цалуй моцна ўсіх хлопцаў.

Каберца згадваю кожны дзень — як я яго люблю і як шкада яго[7]. Жыцьцё не справядліва да сваіх лепшых, а такіх як Міхась мала — вельмі мала. Напішы яму і прывітай ад мяне[8]. Ведаеш, каб разказаць, колькі ў мяне любові і нежнасьці да ўсіх вас... Долі толькі ня маем.

Вітай Жэньку, Лізу[9], Гіляра[10], Міхася[11].

Моцна ўсіх вас цалую.

Ваш няўдзячны і нячулы і ўсе ж любячы Уладзік

12/VI 1928

*

Даражэнькая Люда!

Ня пісаў табе і ўсім вам цэлую адвечнасьць. Прычыны? Хутчэй усяго, калі пашло на шчырасьць, духовае гультайства. Чорт яго ведае, і часу маю ня так мала і тады так хочацца перакінуцца весткаю і пачуць аб вас усіх, а вось як дойдзе да пісання, — усе адкладаю з дня на дзень і так праходзяць тыдні і месяцы. А да таго ж, калі ў дні мае ўплятуцца розныя непрыемнасьці (а іх не бракуе!), то і зусім губіцца настрой і жаданьне што-небудзь рабіць, а ня толькі пісаць. Прымеце ўсё гэта пад увагу, добрыя мае і харошыя, і не асабліва лайцеся.

Ты, магчыма, ужо ведаеш, што два месяцы назад я зрабіў важнае ў маім жыцці глупства. Покі што ня каюся — мая баба (ей толькі 19 год!)

---

[7] Магчыма, маецца на ўвазе хвароба Міхася Каберца й ягоны ад'езд у санаторый. Меней як праз тры гады (14 студзеня 1931 г.) ён памёр ад сухотаў.

[8] Згадку пра Міхася Каберца ў лісьце Ўладзімера Жылкі цытаваў у сваім „Праскім эпісталярыі“ Ўладзімер Калесьнік. Гл.: Калеснік, Уладзімір. Пражскі эпісталярый... С. 312.

[9] Маецца на ўвазе Ліза Булаўская (потым Дыліс).

[10] Пад імем Гіляр у лістах маецца на ўвазе брат Ігната Дварчаніна.

[11] Маецца на ўвазе Міхась Каберац.

добры і ня дурны чалавек — а гэта ў нашы часы шмат — характарамі здаецца сходзімся і жывём ня кепска. Між іншым, яна не беларуска, а... як думаеш?.. жыдоўка! Антысэмітызмам я не хварэю і таму да гэтага часу нішто не давала чуць, што мы розных нацыянальнасцяй.

Аб Міхасі я не забываюся. Гаварыў аб яго павароце з адказнымі працаўнікамі[12]. Яны абяцалі зрабіць што-небудзь. Думаю праз нейкі месяц ён будзе мець рэальныя вынікі. Хацеў бы ведаць, як яго здароўе. Думаю, што ў яго ня так з лёгкімі кепска, як з нэрвамі — нэврастэнія, мусіць, у яго жахлівая. Хто яму піша і каму ён адказвае? Напішы яму ад мяне і перадай найлепшыя пажаданьні.

Што думае рабіць Жэнька, Лёўка[13], дзе Гіляр і што з тымі хлопцамі што паехалі ў Польшчу. Пішы дакладна. Я рад аб іх пачуць і буду табе ўдзячны за вестку.

Пішы аб сабе. Як маешся і як працуеш. Мы будзем рады пабачыць цябе ў Менску. Пазнаёмішся з жонкаю і пабачыш яе. Я вельмі рад быў бы, калі б вы былі дружны і знайшлі адна ў другой што-небудзь цікавае для сябе.

Бывай здарова і згадвай.

Моцна цісну руку.

Прывітаньне ад жонкі

Твой Уладзімер.

P.S. Калі захочаш чыркануць — мой адрас: Чычэрынская д. № 5, кв 4.

Вітай усіх, хто яшчэ згадвае мяне і ў першую чаргу Жэньку, Міхася, Гіляра, Леўку, Любу[14] (што яна робіць і куды едзе?), Лізу і іншых каго я любіў.

Ул.

## Лісты Міхася Каберца

*Міхась Каберац (1902—1931), настаўнік, актывіст моладзевага руху ў Беларусі й за мяжой. Удзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня. Уваходзіў у склад кіраўніцтва беларускіх грамадзка-палітычных арганізацый у Чэхаславаччыне ў 1920-х гг.: Беларускай грамады ў Празе, Аб'еднаньня беларускага паступовага студэнцтва (АБПС) і інш.*

---

[12] Уладзімер Жылка рабіў захады па вяртаньні Міхася Каберца ў БССР.

[13] Маецца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі.

[14] Маецца на ўвазе Любоў Вернікоўская.



Міхась Каберац, Людміла Краскоўская, Лявон Рыдлеўскі.
Чэхаславаччына, канец 1920-х гг.

*Уладзімер Жылка ў лістах да Антона Луцкевіча называў Міхася Каберца ў ліку найлепшых беларускіх студэнтаў Прагі 1920-х гг., пра яго ж цёпла пісаў у карэспандэнцыі да Людмілы Краскоўскай. Ухвальна выказваліся пра гэтага чалавека Натальля Арсеньнева й Адольф Клімовіч. Пры жыцьці ўладальніца лістоў Людміла Краскоўская не палічыла патрэбным перадаць іх беларускім дасьледнікам, толькі адзін з дакумэнтаў (ад 7.IX.1930) разам з архівам Івана Краскоўскага трапіў у аддзел рэдкай кнігі й рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа НАН Беларусі (фонд 16. І. І. Краскоўскі). Астатнія выяўленыя аўтарам гэтых радкоў у час архіўных пошукаў у Славакіі й захоўваюцца ў яго прыватным зборы. У ліставаньні называюцца імёны беларускіх студэнтаў Лізы Булаўскай, Лявона Рыдлеўскага, Любові Вернікоўскай, Міколы Шыманкі.*

*

30.XII.1929.

Даражэнькая Людка!

Ізноў я Вам доўга ня пісаў. Мне проста сорамна робіцца, што я амаль ня ў кожным лісьце ўсё выбачаюся, але толку з гэтага ніякага. Як

ранней, так і цяпер пішу рэдка і мала. Я адчуваю, што Вы на мяне за гэта злуецеся, але-ж я ўжо столькі разоў Вам абяцаў паправіцца і пісаць часьцей, што зараз проста ня ведаю, чым Вас пацешыць і задобрыць. Санаторыя мяне так зьмяніла, што часам і сам сябе не пазнаеш. Адвык я здорава ад якое-кольвек сыстэматычнае працы і нават ліста напісаць у свой час не магу. І настрой маю задавальняючы, і час мінае хутка, але ўсё-ж мне чагосьці не хапае. Нават сам ужо пачынаю заўважваць, як пачынае псавацца мой характар. К вялікаму майму зьдзіўленьню і незадавальненьню, стаў я зараз надта нядбалым, няўважлівым і нейкім нячулым да ўсяго акружаючага. Вынікі, як бачыце, ня вельмі пацешаючыя, але што парадзіш іначай. Лепшым усё роўна мабыць не стану, пакуль буду ў санаторыі. У далейшым усё будзе залежаць выключна ад здароўя. Калі папраўлюся, тады магчыма стану больш энэргічным, акуратным і працавітым. Час гэты пакуль што яшчэ ня прыйшоў і калі прыдзе — сказаць цяжка.

І яшчэ прашу Вас, Людка, выбачыць мне, што я Вас у першую чаргу не павіншаваў з доктаратам, не абыйшоўшыся без прадмовы ў сваім лісьце. Шчыра віншую і жадаю Вам на далейшай навуковай дарозе яшчэ большых посьпехаў і ўдачаў. Відаць, што Вы нямала працавалі! Гэта-ж ня жарт, напісаць працу, яна адна столькі дасьць клопату, ну а тут яшчэ і вялікі [нечытэльна] у прыдачу! Калі-ж гэта будзе Ваша промоцыя? Усёй душой жадаў-бы быць у той дзень у Празе і пабачыць Вас „тытулованай“ асобай. Але здаецца, што мне гэта ня ўдасца! Абавязкова напішэце мне, калі будзе Ваша промоцыя і якія пляны ў зьвязку з ёю маеце на будучыну. Як доўга яшчэ будзеце ў Празе? Бо з Вашага апошняга ліста відаць, што нібы Вы ў Празе ўжо доўга ня будзеце, вось я затым і пытаюся.

Таксама вітаю Вас шчыра з надыходзячым Новым Годам і жадаю Вам, каб усе Вашы пажаданьні ў Новым Годзе поўнасьцю збыліся. Але што фактычна прынясе Новы Год, угадаць цяжка, усё-ж я спадзяюся, што ў маім жыцьці ў новым 1930 годзе, можа таксама настане зьмена к лепшаму. Зрэштаю, я ў сваіх пажаданьнях і надалей застаюся вельмі скромным, каб пазьней быць як найменьш разчараваным, калі штонебудзь ня збудзецца.

Я жыву па-старому. У нас зараз усё па-зімнему, але гэта ня мае ніякага ўплыву на жыцьцё санаторыі. Рэжым застаецца той самы. Гэта значыць ад 8—10 і ад 2—4 гадзіны, трэба абавязкова ляжаць на дварэ не зважаючы ні на мароз, ні на дождж і т.п. прыродныя зьявішчы. Паміж 10—1 г. хаджу ў лес гуляць. Гуляю найчасьцей адзін, бо прывык

я ўжо да адзіноты і апрача таго ёсьць яшчэ пэўныя выгады. Ня трэба вясьці ні з кім ніякае размовы, можна ісцьці хутчэй ці памалей (зараз я напрыклад хаджу хутка, бо холадна) ну і можна зьвярнуць больш увагі да прыроды. Прырода тут зараз цудоўная, асабліва лес. Сьнег усюды, ну а што датычыць воздуху, дык з Прагай раўняць ня прыходзіцца! Апрача таго ў лесе я знаходжу сабе яшчэ адно заняцьце, а іменна: кармлю дзьве вавёркі. Яны да мяне здорава прывыклі і калі да іх ня прыду, усякі раз іх пабачу. Яны такія пацешныя і вясёлыя, што можна прастаяць каля іх цэлымі гадзінамі, і глядзець, як яны скачуць па дрэвах, або бегаюць па зямлі. Птушак у лесе ня корміць ніхто. Яны проста прылятаюць самі на *„lekárnu“*[15] і знайходзяць сабе даволі спажывы у 2-х, спэцыяльна дзеля гэтае мэты зробленых, кармушках. З птушак найчасьцейшыя госьці — сінічкі і зяблікі, іншых я яшчэ не заўважваў. Па 4-ай г. прыходзіцца сядзець у пакоі, або ў *„столовой“*. Выйсьці нікуды нельга, бо на дварэ цёмна і холадна. У гэты час я звычайна чытаю часопісі і кнігі, або слухаю радыё. Менск таксама чутно больш меньш добра, толькі рэдка прыходзіцца яго слухаць. З беларусаў я тут адзін, ну а радыё-аппарат мусіць іграць для ўсіх. Затое вельмі часта даводзіцца слухаць „Москву-матушку“ і меньш Харкiв.

Нядаўна закончыў я перагляд часопісі „Савецкая Беларусь“, за час ад 1.I.1929, да канца кастрычніка г.г. (Гэтую часопісь пераслаў мне сюды ў свой час Шыман[ка]). Гэта дало мне магчымасьць больш меньш дакладна пазнаёміцца з агульным палажэньнем у Сав. Беларусі. Уражаньняў шмат, што і казаць! Ёсьць там шмат чаго цікавага, пазытыўнага, але і нэгатыўных зьявішчаў таксама хоць адбаўляй! Адны гэтыя „чысткі“ і „самакрытыкі“ чаго варты. Ці не лепш-бы было ўсё гэта назваць проста праследаваньнем сумленных людзей, большасьць якіх хоча дабра Сав. Беларусі. З дому я дастаў нядаўна ліста. „Вялікія рэформы“ захапілі і нашы вёскі. Швагер піша, што іх вёска ўжо ператварылася ў „калгас“ — кольлектыўную гаспадарку. Наша вёска, у якой жывуць мае бацькі, дасюль яшчэ не землеўпарадкавана, але здаецца, што гэтаю вясною прыйдзе чарга і на яе. Дома ўсе здаровы і чакаюць з вялікаю нецярплівасьцю майго прыезду. Я сваіх пацяшаю, што раней, ці пазней усё-ж вярнуся да дому, але й сам у гэта штосьці слаба веру. Здаецца мне чамусьці, што я дастану адмоўную адповедзь і тым самым змушаны буду застацца ў „гнілой“ Эўропе. Вось чаму я вырашыў прабыць як найдаўжэй у санаторыі і добра падлячыцца. Тым болей што з санаторыі мяне

[15] ***Lekárne*** (чэск.) — аптэка.

ніхто ня гоніць і я, з свайго боку, часта жартую аб тым, як гэта „мы“ (некалькі старых пацієнтаў!) будзем ліквідаваць санаторыю і што да поўнае ліквідацыі з нас адсюль ніхто дабравольна ня пойдзе. Звычайна, што ўсё гэта жарты і больш нічога, але каб была хоць найменьшая магчымасьць, уцёк-бы я адсюль як найхутчэй і найдалей. За працу я яшчэ ня браўся. Пачакаю месяц-другі, прыблізна да вясны, а там пабачым. Тымчасам пачуваю сябе зусім добра, але ня гледзячы на гэта, да Прагі завітаць не адважуся. Вось калі пацяплее, тады магчыма Прага для мяне ня будзе такой далёкай і няпрыступнай.

Што Вы, Людка, зараз робіце? Адпачылі ўжо пасьля [нечытэльна]? Як Вам там у Празе, ня надта сумна? Нашых беларусаў засталося там зусім мала, дзяўчат-жа здаецца ніводнае? Між іншым, я так і ня ведаю, што сталася з п. Рогач? Яна ўжо скончыла, ці не, і ці ў Празе зараз знаходзіцца? Хто яшчэ скончыў з нашых хлопцаў? Так, здаецца, што калі я прыеду да Прагі, дык нікога з беларусаў там не спаткаю. А было нас там многа і кампанія наша была такая дружная! Рассыпаліся ўсе па белу-сьвету і патрохі пазабываюць сябе наўзаем. Што парадзіш іначай, такое ўжо наша жыцьцё! Пішэце, Людка, калі будзе што новага! Можа пабачыце выпадкова п. Крэчэўскую, дык перадайце ёй прывет ад мяне. Яна мне некалькі разоў перадавала прывет, праз нашага доктара. Вітайце сваіх і ўсіх Менскіх! Вельмі Вам удзячны, Людка, за Вашу прапазыцыю, што да перасланьня ліста п. Альжбеце ў Менск. З ахвотаю ёй напішу і перашлю Вам усё ў чародным лісьце, дзеля далейшага перасланьня. Ці не пісалі Вам апошнімі днямі Ліза, Лёўка, Люба? Нарэшце прывет усім і бывайце!

Усяго найлепшага

Міхась К.

P. S. Выбачце што так намазаў. Спяшаў трохі, і сам не заўважыў што гэтак расьцягнуў ліста.

Міхась К.

*

25.V.1930.

Людка, харошанькая!

Апошні Ваш ліст атрымаў і шчыра дзякую. Хацеў Вам адказаць адразу, але трохі затрымаўся. Бачыце я хацеў Вас трохі *překvapit*[16], як кажуць чэхі, спадзяючыся, што разам з гэтым лістом змагу Вам выслаць сваю апошнюю фотографію: з вусамі і вялізарнай барадзішчай. Я-ж цэлых 4 месяцы не галіўся і можаце сабе ўявіць, як я зараз выглядаю. Але, на жаль, тутэйшы фотограф аказаўся такім мастаком, што ня здолеў нават добра праявіць нэгатыў і ўсё сапсаваў. Прыдзецца мне зараз яшчэ сфотографавацца, магчыма гэтым разам больш удала, і тады ўжо пабачым, які гэта зьвер з мяне выйдзе! Барада і вусы мне ўжо страшэнна абрыдлі, буду рады калі ўжо нарэшце змагу ад іх пазбавіцца. Ды й ня толькі я, але й *„общественное мнение“* санаторыі гэтага патрабуюць, прыдзецца падпарадкавацца, бо-ж самі ведаеце, што *„глас народа“* усё роўна як *„божы“*.

Я жыву па-старому. У здароўі змен вялікіх няма. Вось толькі *„ledové muši“* мяне трохі падхаладзілі і я прыблізна з паловы мая пачуваю сябе горш. Паскольки гэтае апошняе горшаньне працягнецца яшчэ й па чэрвень, дык зусім магчыма, што ў канцы чэрвеня мне пабываць у Празе не давядзецца. Па-першае, мяне можа ня пусьціць доктар, а па-другое, і сам я рызыкаваць са сваім здароўем бадай што не адважуся. Вось якія справы, Людка, хай яго чорт возьме з такім здароўем, як я маю. А я ўжо з пачатку мая гэтулькі пацяшаў сябе думкай, што недзе ў чэрвені напэўна пабываю ў Празе, а тут ізноў мой плян пад *„пагрозай зрыву“* кажучы мовай савецкіх часопісаў. Вы ўсё працуеце, а я апошні час зусім перастаў падчытваць свой прадмет. Кідаю ўсё на восень. Улетку-ж пастараюся працаваць больш сыстэматычна, ня так як гэта рабіў дасюль.

Навін у мяне таксама ніякіх. Тутэйшае жыцьцё такое шэрае і аднастайнае, што проста жах бярэ. У Празе ўсё такі цікавей і навін там час ад часу таксама здараецца больш.

Я і дасюль сабе не магу ўявіць, што гэта такое сталася з Любай[17]. Ня ведаю, чым гэта назваць, гэройствам ці глупствам, але ў кожным разе з яе боку гэта вялікая неразважнасьць і граічыць амаль што са злачынам. Такое маё перакананьне, але магчыма, што ўсе мы памыляемся. І

---

[16] ***Překvapit*** (чэск.) — тут: зьдзівіць.

[17] Маецца на ўвазе Любоў Вернікоўская.

што толькі ў Брэмэн Любу пацягло, і што яе там увесь час стрымлівае? Што-ж не магла яна ехаць у Вільню, пасьля таго як ёй адмовілі ў звароце да С.С.С.Р.? Дзіўна ды й годзе, мімаволі прыходзіць на думку адна старая мудрасьць, што жанчына падобна да сфінксу, тайну якога адгадаць цяжка, ці проста немагчыма (Так неяк здаецца!). Выбачце, Людка, я і сам не заўважыў, як ударыўся ў розныя разважаньні. Разважаць яно ня цяжка, але мець з чым-небудзь падобным дачыненьне, справа куды складнейшая. Так яно і ў даным выпадку.

Пытаецеся ў мяне, Людка, ці пісаў я да дому, г.зн. швагру. Нядаўна ім напісаў ліста і зараз з кожным днём чакаю адказу. Ліста напісаў простага і зразумелага — без палітыкі, і думаю, што яны яго там напэўна атрымаюць. Адносна лёсу сваіх бацькоў, я апошні час значна непакоюся. Сны мне пачалі сьніцца цяжкія, кошмарныя. Прачнешся ўначы, і аж самому няпрыемна робіцца. Так я стараюся быць спакойным і лішне сябе не разстройваю, але гэта памагае толькі часткова. Нэрвы ўсё такі даюць сябе адчуваць!

Ад рэшты знаёмых усё чакаю якіх-кольвек вестак, авось хто небудзь напіша! Бяда толькі ў тым, што пакуль дачакаешся нечага падобнага, дык і валасы на галаве могуць пасівець, або і проста зусім вылезьці. (У даным выпадку, Людка, я на сябе пальцам не паказваю!) Жарт-жартам, а старэе чалавек з дня ў дзень. Бязумоўна, гады маладосьці — найлепшыя гады — тыя ўжо за намі. Перад намі застаюцца гады жыцьця — самое жыцьцё, якое, як ведама, па галоўцы не гладзіць. Прыходзіцца жыць, Людка, добра яно ці дрэнна, а *doufejme*[18] што ня ўсё-ж кепска будзе — у будучыне шмат чаго можа зьмяніцца. Неяк яно пражыць можна будзе, а галоўнае вось што: *„што з людзьмі так жыві, як і людзі“*[19]. Здаецца што гэта з Я. Купалы, ну, вось, маеце і літаратуру. „Узвышша“[20] я Вам паслаў у суботу і спадзяюся, што Вы яго атрымалі ў поўным парадку. Між іншым, Людка, сярод гэтых кніжак ёсьць здаецца 2 (добра ня памятаю), якія належаць М. Шыманку. Будзьце ласкавы, Людка, разьбярэцеся там, і лішнія (якія Вы мне не пасылалі!) перадайце Шыманку. Пішэце, Людка, „сакрэтаў“ па-магчымасьці як найбольш, аб іх я нікому ані мук! Лісты Вашы

---

[18] ***Doufejme*** (чэск.) — з надзеяй.

[19] Маецца на ўвазе верш Янкі Купалы „Ўвесь да дна“, дзе ёсьць радок: *„І зь людзьмі так жыві, як і людзі“*.

[20] Часопіс „Узвышша“ выдаваўся ў Менску ў 1927—1931 гг. як орган аднайменнага літаратурнага аб'яднаньня.



Аўген і Ліза Дылісы, Людміла Краскоўская, Лявон Рыдлеўскі.
Чэхаславаччына. Канец 1920-х гг.

акуратна атрымліваю, у тым ліку і той, аб якім Вы ўспаміналі у мінулым лісьце. Затым бывайце!

Усяго найлепшага! Міхась.

P. S. Прывет усім!

P. P. S. Грошы мне пакуль што не патрэбны! Можаце імі, Людка, распараджацца па *„своему усмотрению“*!

Бывайце!
Міхась.

*

*P. G.*
*Ludmila Kraskovskaja*
*p. Řevnice u Prahy.*
*Žižkova ul. Č. 434.*
*U pí. Nedvěďové.*

22.VIII.1930(?)

Дарагая Людка! Ліст Ваш атрымаў у поўным парадку і ўсё зрабіў паводле Вашага жаданьня. Выбачце, што тымчасам адказваю толькі

паштоўкай. Баюся што ліста зараз напісаць не змагу: у зьвязку з такімі навінамі і падзеямі проста пяро ў руцэ ня трымаецца: столькі крыўды на сьвеце. Але як-бы там ня было, Людка, у такія цяжкія хвіліны усякая паніка і сум не на мейсцы. Будзем чакаць церпяліва, што прынясе найбліжшая будучына, захоўваючы цьвёрдую надзею, што гэта нічым сур'ёзным не пагражае. Усяго найлепшага, Людка! Хутка Вам напішу ліста! Бывайце! Прывет Марысі!

Міхась.

P. S. У мяне нічога новага. Са здароўем было адзін час горш, а зараз ізноў усё выраўнялася.

М.

*

*Ludmila Kraskovska*
*p. Řevnice u Prahy, Žižkova ul., č. 434*
*u pí. Nedvedové*
*p.p. Cirkovce u Úhl. Janovic, Sanatorium na Budoch*
*M. Kaberac*

7.IX.1930

Дарагая Людка!

Нарэшце сабраўся Вам чыркануць пару слоў. Раней ніяк ня мог, бо меў такі паганы настрой, што нідачога ў мяне ня было ахвоты, хоць я і стараўся ўсякімі спосабамі ўзяць сябе ў рукі, адагнаць свой пэсымізм к чорту. За гэты час, што я Вам ня пісаў, быў у маім здароўі адзін момант, ад якога я сапраўды быў у паніцы. Паказалася была ў мяне кроў, але зараз-жа і перастала, і ніякіх пасьледкаў, апрача панікі, у мяне не пакінула. Добра, што хоць яно і так вышла, бо ў праціўным выпадку, са мной магло-б быць зусім пагана. Зараз я ўжо зусім супакоіўся, настрой трохі падняўся, ды й гумар таксама патрохі мяне навяшчае, думаю, што й надалей яно ўсё будзе добра.

Людка, родненькая! У момант, калі пішу гэтыя радкі, цешу сябе думкай, што за гэты час, як Вы мне ня пісалі, Вы ўжо маеце ад мамы больш пэўныя і больш спрыяючыя весткі аб лёсе Вашага папб. І што гэта толькі за *„новое вредительство"*?! Нядаўна ў часопісях чытаў я, што ў Маскве ГПУ арыштавала цэлы рад выдатных вучоных, галоў-

ным чынам экономістаў. Няўжо-ж бы да гэтага прыплялі і Івана Ігнатавіча[21]?! Але-ж арышты іншых беларусаў, ды ў такіх яшчэ вялікіх лічбах, пасьведчуюць здаецца, што гэта будзе нешта ў беларускім масштабе, нейкі процэс, накшталт нядаўняга ўкраінскага[22]. Так, Людка, усе іх бальшавіцкія пляны правальваюцца або праваліліся, ну, вось, трэба-ж на нейчыю галаву зьвярнуць, трэба найці вінавайцаў. Бяда толькі ў тым, што шукаюць іх ня там дзе трэба, сапраўдныя-ж вінавайцы застаюцца непакаранымі, бо хто-ж урэшце сам сябе будзе караць, калі ён сам-жа вінаваты! Эх, і часы-ж мы перажываем, з кожным днём усё што-небудзь новага, але найчасцей сумнага і жахлівага. Мы з Вамі, Людка, у гэтым сэнсе, здаецца, маем роўнае шчасьце-няшчасьце! І калі гэта ўсё толькі кончыцца, калі ўжо нарэшце пяройдзем гэты цярністы шлях і выйдзем да лепшае і сьвятлейшае будучыні?! Няўжо-ж гэта яшчэ так далёка, што і думкаю сябе пацешыць нельга?! Не, ня хочацца верыць, што гэты кошмар патрывае яшчэ доўга! Прыйдзе дзень нечакана-негадана і *„загляне сонца і ў нашае ваконца“*, мы да гэтага дажывем і дачакаемся! Вось толькі лішне сумаваць ня прыходзіцца, бо гэтым мы нікому не паможам: ні нашым, ні самі сабе. Праўда, яно сказаць так *„не сумаваць“* вельмі лёгка, але перажываць гэта куды цяжэй. Ну, але што можна іначай парадзіць у нашым становішчы? Роўна нічога! Або вельмі і вельмі мала. Аб сваіх бацькох я таксама нічога ня ведаю. Швагер мне ня пісаў ужо цэлае лета. Чакаю ад яго весткі з дня на дзень і ніяк не магу дачакацца. Між іншым, швагер з сястрою і з іх дачкою а маёю племяньніцай, зьбіраліся сфотографавацца і прыслаць мне сваю картачку. Цікава будзе паглядзець, як яны выглядаюць! Іляр Д[23]. мне стуль таксама нічога ня піша, не ведаю, як яму там зараз жывецца. Ці пішуць Вам, Людка, Мікола з Лёўкай[24]? Дзе яны і што з імі? Калі маеце адрэсу Лёўкі, дык прышліце мне яе. Пашлю яму хоць паштоўку і палаю яго трошку, што аба мне ён ніколі ня ўспомніць. Хоць-бы адкрытачку калі-небудзь паслаў з дарогі, а то ні слуху ні духу! Адначасна з Вашым лістом, пішу яшчэ ліста Жэнь-

[21] Іван Краскоўскі быў арыштаваны ўвосень 1930 г. па справе „Саюзу вызваленьня Беларусі“.

[22] Маецца на ўвазе сфабрыкаваны АДПУ працэс „Саюзу вызваленьня Ўкраіны“. У 1930 г. па гэтай справе былі рэпрэсаваныя 474 чалавекі.

[23] Магчыма, маецца на ўвазе брат Ігната Дварчаніна Гіляр.

[24] Магчыма, маюцца на ўвазе Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі, якія ў 1930 г. пайшлі з Прагі пешкі праз Эўропу і ўрэшце спыніліся ў Парыжы, дзе й аселі на сталае жыцьцё.

ку[25]. Бачыце, які я акуратны, так доўга цягнуў з адказам! Больш нічога новага, а калі што будзе дык напішу Вам пазьней. А пакуль што бывайце здаровы! Так дзесьці ў палове *října*[26] пабачымся ў Празе, я прыеду туды на клініку. Вось тады аб усім пагаворым. Усяго найлепшага!

Міхась К.

P. S. Выбачце, Людка, што так нескладна ды нястройна напісаў. Думкі ў мяне зараз, як дзікія птушкі, цяжка іх злавіць у стройным парадку, а тым болей яшчэ запісаць іх.

Бавайце!

Міхась.

P. P. S. А, нарэшце, прамакаючы размазаў нават сваё імя! Па!

М.

*

*P. G.*
*Ludmila Kraskovskaja*
*p. Řevnice u Prahy.*
*Žižkova ul. Č. 434.*
*U pí. Nedvěďové.*

Дарагая Людка! Выбачце, што так доўга ня пісаў — усё ніяк ня мог сабрацца. Ведаеце, я апошні час стаў такім нерашучым у зьвязку з паездкаю да Прагі, што проста жах. Але нарэшце ўсё такі вырашыў і Вам напісаць і да Прагі паехаць. Вось-жа, Людка, такая справа. Да Прагі я прыеду ў панядзелак 20.X. г.г., так недзе каля 8 гадзіны ўвечары. Думаю, што спынюся найхутчэй у Шыманкі, або ў каго-небудзь з іншых хлопцаў, у найкрайнейшым выпадку якую-кольвек *„трущобу“* у Празе знайсьці будзе можна. Ці бываеце Вы, Людка, зараз у Празе? Я хачу страшэнна пабачыцца з Вамі і аб усім пагутарыць. Галоўнаю мэтаю мае паездкі зьяўляецца клініка. Хачу, каб мяне там праглядзелі добра, парбдзілі што і як, і зрабілі магчыма якія-кольвек рашучыя захады ў лячэнні мае хваробы. У Празе затрымаюся прыблізна дні са 3-4, а калі мяне на клініцы прызнаюць *„chodným“* мэдыцынскім матэр'ялам, дык магчыма і болей. Думаю, што большую частку свайго дзелавога прас-

[25] Магчыма, маецца на ўвазе Аўген Дыліс.

[26] ***Října*** (чэск.) — кастрычнік.

кага дня буду праводзіць у Ст.[удэнцкім] Доме, а што абедаць, дык напэўна там буду. Людка, калі зможаце, дык прыедзьце да Прагі. Я Вас буду чакаць у Ст. Д. Падчас абеду з аўторка пачынаючы. Добра?! Ну, затым усяго найлепшага! Аб рэшце пагутарым болей, калі спаткаемся! Да скорага пабачаньня! Прывет Марысі!

Міхась.

P. S. Выбачце, Людка што пішу паштоўку, спадзяюся, што на мяне за гэта злаваць ня будзеце. Усяго найлепшага!

М.

*16/X-30 ǎ.*
*Budy.*

*M. Kaberac.*
*p.p. Církvice v Úhl. Janov.*
*Sanatorium na Budoch.*

## Ліст Любові Вернікоўскай

Брэмен
7.II.30

Мілая Людачка!

Хоць і сьвінтус ты, але лепей позна, чым ніколі. Я ўжо даўно зьбіраюся табе напісаць, але мне гэта ня так лёгка зрабіць. Ты мабыць ад Ж. і В. чы Барыса ведаеш, што я працую на фабрыцы. Устаю ў 5ць гадз. раніцы, s 6 выходжу з дому. Ад 6 працую да 12, потым бягу да дому паабедаць (абед варыць Жэнька). Ня ўспею аглянуцца і трохі адпачыць, як ужо ізноў трэба бегчы на фабрыку, каб адстаяць каля машыны яшчэ тры гадз. Каля пятай вяртаю да дому змораная і лісты пісаць няздольная.

Жыццё маё зараз цячэ дужа аднаманітна. Час ляціць, я не шкадую аб гэтым. Можа будучыня прынясе штось лепшае. Паміж іншым, (пішу табе па сакрэту) у маім асабістым жыцьці ёсьць навіна: у красавіку чакаю сына. У зьвязку з гэтым маю да цябе вялікую просьбу: абавязкова дастань мне якую-небудзь добрую кнігу аб тым, як жанчына мае захоўвацца ў час „*беременности*“ і першы час пасьля народжаньня маленькай істоты. Знаю, Людачка, што ў цябе не мала сваіх спраў, таму, раней чым турбаваць цябе, я зьвярнулася з гэтай самай просьбай да Жэні В. Але да гэтага часу яна — сьвінтус ні слова. Скажы ёй, што я і Ж. на яе



Людміла Краскоўская й Любоў Вернікоўская. Прага, 1923 г.

вельмі гневаемся. Людачка, ня йдзі па яе прыкладу. Даю слова, што з кніжкамі цябе не падвяду і па першай вымозе вышлю ў цэласьці і сахраннасьці назад. Але помні, што аб гэтым нікому ня можна гаварыць, асабліва Леўцы і Міколе[27].

Як складзецца мае жыцьце ў самым блізкім будучым невядома. Справы складаюцца так, што укр. школы тут будуць зачынены і Ж. мусіць шукаць сабе іншую працу. Працу ж тут знайсці амаль што немагчыма. На другім тыжні Ж. едзе ў Бэрлін, там аканчальна вырашыцца наша палажэньня. У кожным разе я, нават калі Ж. будзе мусіць пераехаць у Бэрлін, зьвязана з Брэменам фабрыкай і галоўным чынам *nemocensk*aé *pokladn*oé[28] *minimum* до народж. малога, а то і болей.

Ну але досыць аб сабе. Як жа ты маешся, дзе жывеш? Ці атрымоўваеш якія колечы часопісі з Менску? Мне, паміж іншым, дзякуючы аднаму укр. пісьменніку (Івану М.), удалося выпісаць „Полымя“ і „Узвышша“, але чамусь, хоць часопісі ўжо больш як месяц перадплачаны, на

[27] Магчыма, маюцца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі й Мікола Абрамчык.

[28] ***Nemocenska pokladno*** (чэск.) — шпітальная каса. Магчыма, Любоў Вернікоўская атрымлівала нейкія грашовыя выплаты ад шпіталю ў часе цяжарнасьці.

імя Ж. я яшчэ не атрымала аніводнага нумара. Што з Лізкай? Ці праўда, што „яны“ ўжо пажаніліся[29]. Як маецца Міхась Каберац? Вітай яго, скажы яму, што я хоць ня пішу, але не забываю яго. Што робіцца ў Праскіх бел. арганізац.? Як маецца Ляцкі[30]? Штоб не забыць, дзе Ільяшэвіч[31]? Ён у мяне пазычыў две фото-картачкі Жылкі і Цьвяткова[32]. Забяры іх у яго і перашлі мне. Не забудзь, а то ён скруціць. Агулам пішы аб усім і ўсіх, асабліва аб сабе. Я не зразумела чаму пасьля аканчаньня унівэрсітэту ты зьбіраешся не да дому, а ў Францыю? Маеш якія небудзь данныя там улаштавацца па сваей спецыяльнасьці, ці хочаш пасмакаваць фабрычнага хлеба? Скажу табе па сакрэту: ён ня дужа салодкі. У каго ты ўзяла дысэртацыю? Не вазіся з ёю так доўга.

Што да Барыса, то ў нас з ім старыя рахункі, але ўсе ж такі ён добры хлопец. Перадай яму ад мяне прывітаньне і скажы, што б напісаў ліста. Цікава, хто з беларусаў выехаў з Прагі? Я усе ж такі ня гублю надзеі вярнуцца да Беларусаў і на Беларусь.

Ну, будзь здарова, Людка. Цалую моцна і чакаю вялікага ліста і кніжку. Вітай добрых знаёмых. Як маецца Марыська?

Люба.

### Ліст Антона Луцкевіча

Паненачка!

Толькі цяпер прачытаў я Вашую адкрытку, бо прыйшла яна якраз пасьля майго выезду на вёску і ляжала на маім пісьменным стале ў горадзе па сягоньняшні дзень. Даўно я дапытваўся аб Ваш адрас, бо хацеў пераслаць Вам 6$ за трюмо, якое прадаў пры ліквідаваньні сваей ква-

---

29 Магчыма, маюцца на ўвазе Ліза Булаўская й Аўген Дыліс.

30 **Аўген Ляцкі** (1868—1942), гісторык літаратуры, крытык, зьбіральнік беларускага фальклёру. Ад 1922 г. жыў у Празе. Узначальваў катэдру ў Карлавым унівэрсытэце.

31 **Мікола Ільляшэвіч** (1903—1934), грамадзкі дзеяч, гісторык. Вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Быў старшынём Беларускага культурнага таварыства імя Францішка Скарыны. Па сканчэньні навучаньня ў 1928 г. вярнуўся ў Вільню, дзе працаваў у Віленскай беларускай гімназіі й Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі. Памёр ад сухотаў.

32 Магчыма, маецца на ўвазе **Леў Цьвяткоў** (1881—1937), мовазнаўца, літаратуразнаўца, пэдагог. Да 1927 г. працаваў на катэдры параўнальнага мовазнаўства БДУ. Пазьней настаўнічаў. Рэпрэсаваны.

тэры на Віленскай вул. Трюмо гэтае пакінуў у мяне на перахоў Ваш бацька, але я ўжо ня меў дзе далей хавяць, бо займаю цяпер з маімі хлопцамі адзін пакой, дык і свае мэблі мусіў распрадаць. Выбачайце, што ня шмат удалося выручыць, але аправу паеў шашэль, дык мела варстасьць толькі адно шкло. Думаю, што і гэтая дробязь прыдасцца Вам ці Вашым.

Усё чакаю вестак аб лёсе Ів.[ана] Ігн.[атавіча] і іншых, ды іх няма. Буду вельмі Вас прасіць, калі даведаецеся што новага, чыркніце мне пару слоў.

У справе арышту Ів. Ігн. і др. маю я ведамасьці ад вельмі пэўнага чалавека. Іх усіх „пасадзіў“ Ластоўскі[33], які, прыехаўшы ў Менск, заявіў — на подставе інсьпірацыі ведамага Зузэміля[34], — што хутка мае быць ваенная інтэрвэнцыя ў СССР, і дзеля гэтага нацыянальна сьведамыя беларусы мусяць стварыць свой тайны цэнтр, які будзе прызнаны „белымі“ за ўладу „вызволенае“ Беларусі. На гэту вудачку і пайшоў цэлы рад людзей. „Амбасадарам“ групы быў Езавітаў[35], „камунізуючы“ і жанаты з партыйнай камуністкай. Ну, і вынік акцыі быў ясны: усё сталася ведамым ГПУ, каторае ўчыніла разгром беларускіх культурных сіл, так ці інакш зьвязаных з Ластоўскім. Асоба майго інфарматара не выклікае сумніву ў праўдзівасьці яго апавяданьня. Усё гэта — зусім магчыма і не прадстаўляецца дзіўным для таго, хто бліжэй знае Ластоўскага. Бальшавікі вельмі хочуць зьвязаць гэту акцыю Ласт. з польскім урадам, бо ведама, што перад „пакаяньнем“ і выездам у Менск Л-га прыязджаў ад яго імя ў Варшаву да міністэрства ўнутраных спраў (да п. Сухэнка) той самы Зузэміль. Аб чым там вяліся перагаворы, — няма ведама. Але магчыма, што з гэтага і завязалася ўся гісторыя.

Пішу Вам гэта, бо можа ведамасьць аб гэтым будзе Вам неяк патрэбна.

Шчыра Вас вітаю.

Ант.

Вільня, 15.VII.31.

---

[33] Вацлаў Ластоўскі (1883—1938) перабраўся ў БССР у красавіку 1927 г.

[34] Магчыма, маецца на ўвазе Эдмунд Зузэміль.

[35] Кастусь Езавітаў (1893—1946) ад 1921 г. жыў у Латвіі.



Паненачка!

Толькі цяпер прачытаў я Вашую адкрытку, бо прыйшла яна якраз пасьля майго выезду на вёску і ляжала на маім пісьмовым стале ў горадзе па сягонняшні дзень. Дарма я дапытываўся аб Ваш адрас, бо хацеў пераслаць Вам 6 $ за трюмо, якое прадаў пры ліквідаваньні сваей кватэры на Віленскай вул. Трюмо гэтае пакінуў у мяне на перахоў Ваш бацька, але я ўжо не меў дзе далей хаваць, бо займаю цяпер з маімі хлопцамі адзін пакой, дзе і свае мэблі мусіў распрадаць. Выбачайце, што не шмат удалося выручыць, але справу псуе шашаль, дзе мала вартасьці толькі адно шкло. Думаю, што і гэтыя грошы прыдасца Вам ці Вашым.

Усё чакаю вестак аб лёсе Ів. Ігн. і іншых, дык іх няма. Буду вельмі Вас прасіць, калі даведаецеся што новага, чыркніце мне пару слоў.

У справе арышту Ів. Ігн. і др. маю я ведамасьці ад вельмі пэўнага чалавека. Іх усіх „пасадзіў" Ластоўскі, які, прыехаўшы ў Менск, заявіў — на падставе інфармацыі ведамага Зузэміля, — што хутка мае быць ваенная інтэрвэнцыя ў СССР, і дзеля гэтага

Старонка ліста Антона Луцкевіча да Людмілы Краскоўскай.
Вільня, 15 ліпеня 1931 г.

## Лісты Дзьмітра Дарашэнкі

*Дзьмітро Дарашэнка (укр. Дмитро Дорошенко; 1882—1951), украінскі грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, бібліёграф. Нарадзіўся ў Вільні ў сям'і вайсковага вэ-*

*тэрынара. Вучыўся ў Варшаўскім, Пецярбурскім і Кіеўскім унівэрсытэтах. У час Першай сусьветнай вайны займаў шэраг адказных пасадаў: упаўнаважаны Ўсерасейскага саюзу гарадоў на Паўднёва-заходнім фронце (ад 1915 г.), сябра Ўкраінскай Цэнтральнай Рады, камісар Галіччыны й Букавіны з правамі генэрал-губэрнатара (1917). У 1918 г. Дзьмітро Дарашэнка ўзначаліў Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі. Ад канца 1919 г. — у эміграцыі, цалкам прысьвяціў сябе выкладчыцкай і навуковай працы: прафэсар катэдры Ўкраінскага вольнага ўнівэрсытэту ў Вэне, Празе й Мюнхэне (1921—1951), кіраўнік Украінскага навуковага інстытуту ў Бэрліне (1926—1931), Украінскай вольнай акадэміі навук (1945—1951). За мяжой выйшлі ягоныя клясычныя працы: „Агляд украінскай гістарыяграфіі“ (1923), „Нарыс гісторыі Ўкраіны“ (ч. 1—2, 1932—1933), „Гісторыя Ўкраіны 1917—1923“ (ч. 1—2, 1930, 1932), „Праваслаўная царква ў мінулым і сучасным жыцьці ўкраінскага народа“ (1940), манаграфіі пра М. Кастамарава, П. Куліша, гетмана Пятра Дарашэнку й інш. Адзін зь першых аўтараў, які пісаў пра беларускае адраджэньне пачатку XX ст., беларускі нацыянальны рух разглядаў у кантэксьце агульнаславянскага.*

*У 1908 г. убачыла сьвет брашура „Беларусы й іх нацыянальнае адраджэньне“ Дзьмітра Дарашэнкі ў Кіеве. Выданьне ўяўляе сабою кароткі нарыс гісторыі беларускага народу і асьвятляе прычыны й абставіны новай хвалі нацыянальнага адраджэньня, падае невялікі агляд творчасьці В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага, Я. Купалы. Беларускія справы сталі ня толькі аб’ектам увагі публіцыстыкі Дарашэнкі, але й неад’емным складнікам ягоных грунтоўных дасьледаваньняў. Прыклад таму — трохтамовая праца „Славянскі сьвет у яго мінулым і сучасным“ (Бэрлін, 1922).*

*Дзьмітро Дарашэнка пакінуў мэмуарныя запісы пра Францішка Багушэвіча й Антона Буйло, бацьку паэткі Канстанцыі Буйло. Два лісты Дарашэнкі, што прыводзяцца ў гэтай публікацыі, абмалёўваюць невялікі аскепак жыцьця самога вучонага, сьведчаць пра тое, што ў 1920—1930-х гг. ён падтрымліваў кантакты зь дзеячамі беларускай культуры ў Вільні й Менску, быў у курсе беларускіх справаў. Гэта той рэдкі выпадак у літаратуразнаўстве, калі беларуская публікацыя ў перакладзе апярэджвае прадстаўленасць матэрыялаў ва ўкраінскіх навуковых выданьнях.*

*

*24.X.1927*
*Berlin NW 87*
*Levetzowstr 17*

Дарагая Людачка!

Дасылаю Вам ліст для бацькі, перашліце яго, калі ласка, разам з Вашым лістом, а калі будзе адказ, то прышліце мне на вышэйпададзеную адрэсу. Зразумела, пра гэтую нашу з Іванам Ігн.[атавічам] перапіску я прасіў бы Вас нікому не гаварыць, ды гэта Вы й самі ведаеце!

Я Вам казаў, здаецца, яшчэ ў Празе, што пасьля Новага году я буду кожны тыдзень езьдзіць у Прагу зь лекцыямі, як ва Ўкраінскім, так і ў Карлавым ун-це. Тады будзем сустракацца часьцей.

Натальля Міхайлаўна[36] [3] паступіла ў Інстытут для чужынцаў (*Institut für Ausländer*) пры Бэрлінскім ун-це, дзе будзе вывучаць галоўным чынам нямецкую мову. Яна страшэнна радая, што будзе мець хоць нейкі занятак і не сумавацьме ў адзіноце, — і я рады за яе! Там вучыцца інтэрнацыянальная публіка з усіх частак сьвету, і гэта таксама цікава — бачыць людзей усіх расаў усё роўна як на этнаграфічнай выставе. Гэтая публіка кожны тыдзень наладжвае свае сустрэчы (нешта накшталт клюбу), і там сьпяваюць, дэклямуюць на ўсіх мовах, кожны паказвае сваё нацыянальнае мастацтва.

Як жа Вашыя посьпехі ў навуках? На тое лета ўжо паедзеце назусім дадому?

Натальля Міх.[айлаўна] вітае Вас і цалуе.

Ваш Д. Дарашэнка.

*Warszawa 12*
*Narbutta 40, m 29*
*30.XII.1937*

Дарагая Людачка,

Вы сабе ўяўляеце, што я заехаў у Канаду дый прапаў бязь вестак! А я прабыў у Канадзе роўна 50 дзён, вяртаючыся, затрымаўся на 6 дзён — у Парыжы, на 8 — у Нямеччыне, 19 вер.[асьня] ужо быў у Варшаве. Маё падарожжа было вельмі цікавым. Землякі мяне прымалі як рэдкага й

[36] **Натальля Васільчанка**, жонка Дзьмітра Дарашэнкі, драматычная актрыса. Ахвяравала тэатральнай кар'ерай, стала памочніцай мужа ў яго грамадзкай і культурна-асьветнніцкай дзейнасьці.

дарагога госьця, і гэта — бяз розьніцы абрадаў (а іх там тры: правасл., грэка-каталіцкі й пратэстанцкі) і партый. Я пражыў месяц у Эдмантане, на самым захадзе Канады, ужо блізка да Ціхага акіяну, і прачытаў там 60-гадзінны курс украінскай гісторыі, маючы 77 платных слухачоў. Акрамя таго, я прачытаў каля 20 публічных лекцыяў у розных гарадах Канады, вялікіх і малых: у Рыдмайне, Вініпэгу, Саскатуні, Таронта, Манрэалі й інш. Наогул не было ніводнага дня, каб я не выступаў. Акрамя лекцыяў адбыў бясконцы лік банкетаў, канфэрэнцыяў, інтэрвію, так што, можна сказаць, як грамафон, гаварыў з ранку да вечару, думаў, што зусім страчу голас. Адпачываў толькі тады, калі ехаў у цягніку, а прасторы там велізарныя: ад Квэбэку, дзе я сышоў з параходу, да Эдмантану 4S сутак ехаць экспрэсам. Але дарога вельмі прыемная: вагоны цудоўныя, штучна ахалоджаныя, зручныя; там клясаў няма, усе едуць аднолькава, толькі на ноч, хто хоча, бярэ месца ў спальным вагоне, дзе абслугоўваюць нэгры, і трэба сказаць — абслугоўваюць цудоўна, ходзяць за пасажырамі, як нянька за дзецьмі. Увогуле ў Канадзе праца падзеленая паміж рознымі расамі: нэгры служаць у цягніках і чысьцяць на вуліцах боты, кітайцы служаць прачкамі; японцы — насільшчыкамі на вакзалах і прадаюць садавіну; рэшту функцыяў выконваюць белыя розных нацый; адныя чырванаскурыя аўтахтоны-індзейцы нічога ня робяць, бо няздатныя ні да якай працы; дзяржава адвяла для іх велізарныя рэзэрвацыі лесу й азёраў, дзе яны бавяцца паляваньнем і рыбалоўствам, атрымліваючы ад дзяржавы *„půdporu“*[37], накшталт украінскіх эмігрантаў у Чэхіі, і выходзяць на станцыі трансакіянскай чыгункі й таропяць вочы на пасажыраў, а пасажыры глядзяць на іх.

Канада — край хлебаробны, ціхі. Насельніцтва ў ёй 11 млн, зь іх 4 млн французаў, 6 млн ангельцаў (разам з ірляндцамі), S млн украінцаў, далей ідуць чэхі, палякі, яўрэі, немцы і ўсялякія якія хочаце народы. У Вініпэгу на 150 тыс. жыхароў 40 тыс. украінцаў, на вуліцах скрозь чуеш укр. мову й бачыш украінскія шыльды. У Эдмантане я пражыў месяц і ня меў справы ні з адным ангельцам: зубы мне лячыў дантыст-украінец, адзеньне перашываў укр. кравец, падэшвы на абутак рабіў укр. шавец, абедаў ва ўкр. рэстаране, жыў на кватэры ўкраінца-лекара; паперу, газэты, лёзы для брытваў купляў на ўкр. „базары“, лекі купляў ва ўкр. аптэцы; толькі бялізну аддаваў для праньня кітайцу, а абутак мне чысьціў нэгр. Такім чынам, я ня меў зусім практыкі ангельскай мовы.

---

[37] ***Půdpora*** (чэск., сучаснае *podpora*) — дапамога, падтрымка.

Мучылі мяне тым, што кожны дзень запрашалі на званы абед або вячэру, дзе прымушалі есьці, а часам бывала, што й па два або тры абеды на дзень. Маё шчасьце, што я адразу заявіў, што я абстынэнт і ні кроплі алькаголю ня ўжываю, а то прапаў бы зусім. А што да ежы, то я ня ведаю, як мая пячонка вытрымала. Фатаграфавалі мяне бясконцую колькасьць разоў пры ўсякай нагодзе, выдалі некалькі тысячаў маіх фатаздымкаў, і я падпісваў іх ахвотным направа й налева. Насылалі на мяне газэтных інтэрвіюераў з англ. і франц. газэтаў, а ў сваіх пісалі пра мяне такія рэчы, што мне было сорамна добрым людзям у вочы глядзець; надавалі мне падарункаў: чамадан, партфэль, бювар, пішучае пяро, для Нат. Міх. рыдыкюль, так што я вяртаўся, нібы якісьці заваёўнік са здабычай. Але відаць, што ўсё гэта рабілася ад чыстага сэрца, і таму гэта было прыемна.

Мне пашанцавала: звычайна ў ліпені—жніўні ў Канадзе невыносная сьпёка, 45-50 С. Але гэтым разам ішлі дажджы (а перад маім прыездам стаяла страшэнная засуха), і можна было трываць. Я толькі адзін раз зазнаў страшэнную сьпёку: у Таронта; я прамаўляў перад 500 душамі ў вялікай зале, усе сядзелі безь пінжакоў і камізэлек і елі марожанае, а я крычаў, абліваючыся потам, дзьве гадзіны й думаў, што вось-вось самлею ды звалюся. А справа была паміж 10—12 веч., падумайце: што ж гэта было днём!

Украінцы ў Канадзе моцна трымаюцца сваёй народнасьці, але маладое пакаленьне ўжо ангельшчыцца патроху. Я бачыў, як мае слухачы, студэнты, студэнткі й народныя настаўнікі, паміж сабою размаўлялі па-ангельску. Дый цяжка ўстаяць супраць такой магутнай культуры, як ангельская.

У Парыжы я ледзь не звар'яцеў ад шуму, галасу, смуроду ад бэнзіну. За 6 дзён ні разу ня выспаўся. На выставе быў усяго два разы, бо ўвесь час аддаваць мусіў сваім людзям. Адпачыў трохі толькі ў Цюбінгене, у Вюртэмбэргу, але там ад пачатку й да канца ліў дождж, як і належыць у добрай Нямеччыне.

Нат.[алля] Міх.[айлаўна] цэлае лета прасядзела ў душнай Варшаве. Усё зьбіралася кудысьці выехаць, ды так і ня выехала. Калі я ад'яжджаў, у яе была цяжкая грыпа, якая перакінулася на сэрца, і яна цэлы месяц зь ёй правазілася. Цяпер ужо адышла, але ўсё-такі добрым здароўем пахваліцца ня можа, на жаль. Я ў сакавіку хачу прыехаць у Прагу й адтуль у Карлавы Вары, прапаласкаць пячонку ў час Велікодных фэерыяў. Можа, сустрэнемся ў Празе, калі Вы часам зьбіраецеся туды на Велікодныя фэерыі, але пра гэта ў нас яшчэ будзе час дамовіцца.

Калі вярнуўся ў Варшаву, то адразу акунуўся ў звычайную жыцьцёвую прозу, у шэрыя будні, якія мне здаліся яшчэ больш шэрымі па кантрасьце з шумна пражытым летам. Нікога з Вашых беларусаў зь Вільні ня бачыў, чуў толькі, што беднаму Антону Іванавічу[38] цяжка жывецца і што наогул у іх там вельмі нявесела. Здаецца мне, што яны ўжо занадта паддаюцца пэсымістычным настроям.

У нас цяпер служыць за наймічку дзяўчына-беларуска з Гродзеншчыны, пакуль што ў нашай хаце пануе якісьці беларуска-польска-ўкраінскі жаргон, тым больш што ў нашых суседзяў служыць старэйшая па ўзросьце наймічка, таксама беларуска з паўночнай Чарнігаўшчыны, і беларуская мова, здаецца, бярэ верх над іншымі.

Вельмі рады, што ўжо маеце падданства[39], „шчасьце“ невялікае, але з гэтым і на службе замацавацца лягчэй, і паехаць, куды Вам трэба, лягчэй. Трэба на ўсё глядзець з практычнага погляду, бо з нашым ідэалізмам мы далёка не заедзем. А што чуваць пра Вашых? Ці маеце ад іх весткі? Напішыце нам.

Нат.[альля] Міх.[айлаўна] цалуе Вас, і мы разам шлем Вам сардэчнае прывітаньне. Не забывайце нас, пішыце.

Ваш Д. Дарашэнка.

*Пераклад з украінскай мовы,*
*падрыхтоўка тэкстаў лістоў і камэнтары*
*Міколы Труса*

---

[38] Маецца на ўвазе Антон Луцкевіч (1884—1946?).

[39] Маецца на ўвазе падданства (грамадзянства) Чэхаславацкай Рэспублікі.

*Тэма нумару: Беларусаведныя калекцыі*
*Архівы й архівалії*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*
***Эрык Екабсонс***
*Рыга*

# КАСТУСЬ ЕЗАВІТАЎ І ЯГОНЫ „БЭРЛІНСКІ“ ДЗЁНЬНІК

Архіў Інстытуту Гувэра Стэнфардзкага ўнівэрсытэту (ЗША) набыў унікальную калекцыю дакумэнтаў, якая цяпер знаходзіцца ў археаграфічнай апрацоўцы, але ў хуткім часе будзе даступная навукоўцам. Гаворка ідзе пра зборы дзеяча нацыянальнага руху першай паловы ХХ ст. Кастуся Езавітава. Набытыя матэрыялы, несумнеўна, паходзяць з дакумэнтальнай часткі асабістых рэчаў дзеяча, што ён меў пры сабе ў момант затрыманьня супрацоўнікамі СМЕРШ пры канцы красавіка 1945 г.[1] Яскрава сьведчыць пра тое характар знойдзеных папераў. Калекцыя складаецца з наступных групаў матэрыялаў:

- афіцыйныя дакумэнты (пасьведчаньне аб нараджэньні, атэстаты сталасьці й даведкі аб заканчэньні асноўных вучэльняў у Дзьвінску й Грыве, пасьведчаньні расейскіх вайсковых уладаў (сакавік 1917 г.), даведкі аб заканчэньні лячэньня ў вайсковым

[1] Магчыма, што дакумэнты паходзяць з прыватных збораў Кастуся Езавітава, якія ўдалося выратаваць перад надыходам Чырвонай Арміі. У кастрычніку 1944 г. два афіцэры спэцыяльнага парашутнага батальёну „Дальвіц“ Мікалай Рулінскі й Філіп Давідчык, паводле даручэньня Езавітава, здолелі вывезьці зь ягонай кватэры ў Рызе значную частку архіву. Паводле сьведчаньняў Мікалая Рулінскага, жаўнеры прывезьлі ў Бэрлін тры скрыні з дакумэнтамі, кнігамі й асабістымі рэчамі дзеяча. Больш падрабязна пра гэтую акцыю гл.: Рулінскі, Мікалай. Мы павінны былі падрыхтаваць народ // Беларускі Рэзыстанс. №1. 2004. С. 42—44.

шпіталі (красавік 1918 г.), пасьведчаньне літоўскіх уладаў аб тым, што Езавітаў быў начальнікам канцылярыі Міністэрства беларускіх справаў (красавік 1919 г.), розныя легітымацыі, сяброўскія пасьведчаньні й г.д.);
- асабістая й афіцыйная карэспандэнцыя: лісты да Езавітава й ягонай жонкі ад сваякоў і сяброў па беларускім руху ў Эстоніі, Латвіі, Літве й ЗША (напрыклад, лісты ад Сяргея Сахарава, аднаго зь беларускіх дзеячаў у Латвіі);
- запрашэньні на выставы й іншыя мерапрыемствы;
- прыватныя запісы Кастуся Езавітава (пераважна службовыя запісы, сьпісы вучняў і чальцоў розных таварыстваў);
- візытоўкі;
- фатаздымкі з жыцьця беларускага школьніцтва ў міжваенны час;
- некаторыя дакумэнты й прапагандовыя матэрыялы вайскова-дыпляматычнае місіі БНР у Рызе;
- некалькі брашураў, выдадзеных у Вільні (па-беларуску лацінкаю), і г.д.



Кастусь Езавітаў (сядзіць) і Ўладзімер Сядура (стаіць). Рыга, жнівень 1942 г.

Сярод дакумэнтаў знаходзяцца таксама паперы зь дзейнасьці Кастуся Езавітава падчас нямецкай акупацыі (1941—1945 г.). Гэта пераважна прапагандовыя матэрыялы (нямецкія й савецкія), ліставаньне, мандат дэлегата Другога Ўсебеларускага кангрэсу Сьвятаслава Каўша, працоўная кніжка Езавітава (1943 г.), пасьведчаньне Аддзелу прапаганды Міністэрства ўсходніх абшараў ад 26 ліпеня 1944 г. аб тым, што Езавітаў зьяўляецца *„вельмі каштоўным супрацоўнікам і сябрам нямецкага народу“*, што патрэбны ў працы беларускага прапагандовага аддзелу сувязі „Вінэта“. Асаблівую каштоўнасьць сярод матэрыялаў ваеннага пэрыяду ўяўляе дзёньнік Кастуся Езавітава, што быў напісаны ў пэрыяд ад студзеня да красавіка 1945 г. падчас знаходжаньня аўтара на тэрыторыі Нямеччыны.

Постаць вайсковага й грамадзка-палітычнага дзеяча Кастуся Езавітава досыць добра вядомая дасьледнікам гісторыі беларускай эміграцыі. Нарадзіўся ён 17 лістапада 1893 г. у Дынабургу (сёньня Даўгаўпілс, Латвія) у сям'і Барыса й Сцепаніды. Ягоны бацька быў прафэсійным падафіцэрам Расейскай арміі. У званьні фэльдфэбэля (пазьней заўрадпрапаршчык) служыў у 100-м астроўскім пяхотным палку. Сям'я Езавітавых была шматдзетная, акрамя Кастуся былі й іншыя дзеці: Барыс, Мікалай, Міхась і Зінаіда. Бацькі валодалі нерухомасьцю ў раёне г.зв. новай забудовы, на вуліцы Вялікай Садовай (*Dârza iela*), 43. Хату пабудаваў бацька Езавітава, і яна належала сям'і яшчэ ў 1920-х гг.[2]

У часе ад 5 лістапада 1911 г. да 31 жніўня 1913 г. Кастусь Езавітаў працаваў вясковым настаўнікам у ліксьненскай школе (*Loksna*) каля Даўгаўпілсу, дзе й жыў. У сувязі з набліжэньнем фронту ў 1915 г. сям'я Езавітавых была эвакуяваная ўглыб Расеі, а Кастусь у гэтым жа годзе мабілізаваны ў войска. У чэрвені 1916 г. скончыў скарочаны афіцэрскі курс[3]. Пасьля заканчэньня Паўлаўскай вайсковай вучэльні ў Петраградзе як малады афіцэр Кастусь Езавітаў браў удзел у ваенных дзеяньнях. Як жаўнер праявіў сябе перадусім у вайсковым руху.

Сваю кар'еру на беларускай ніве пачынаў яшчэ падчас Першай сусьветнай як арганізатар беларускіх вайсковых фармаваньняў у складзе Расейскай арміі. Будучы падпаручнікам 151-га пяцігорскага пяхотнага палка, Кастусь Езавітаў заснаваў беларускую арганізацыю сярод жаўнераў 5-й арміі. У верасьні 1917 г. у Даўгаўпілсе адбыўся зьезд беларусаў — жаўнераў 5-й арміі, дзе быў абраны Беларускі нацыянальны камітэт[4].

У 1917 г. Езавітаў чынна дзейнічаў у Цэнтральнай беларускай вайсковай радзе. Ягонымі намаганьнямі ствараліся беларускі ўланскі полк каля Пскову й 1-ы беларускі пяхотны полк у Менску. Ад моманту стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі Кастусь Езавітаў закладаў падмурак пад узброеныя сілы БНР. Як вайсковы камэндант Менску ён кіраваў беларускімі аддзеламі, якія ў лютым 1918 г. супольна зь мясцовай польскай самаабаронай ачысьцілі горад ад бальшавікоў, што ўця-

---

[2] Latvijas Valsts vēstures arhīvs (Дзяржаўны архіў Латвіі, далей — LVVA). F. 3235. Apr. 2. L. 3437. Lp. 1—32.

[3] LVVA. F. 5213. Apr. 16. L. 16514. Lp. 3.

[4] LVVA. F. 2125. Apr. 5. L. 430. Lp. 16; Езавітаў, К. Становішча беларускай школы ў Латвіі // Спадчына. №6. 1997. С. 91—99; Latyszonek, O. Bialoruskie formacje wojskowe 1917—1923. Bialystok, 1995. S. 46—47, 99—100.

калі перад нямецкім наступам. У створаным у сакавіку 1918 г. урадзе (Народным сакратарыяце) БНР займаў пасаду міністра (народнага сакратара) вайсковых справаў. Потым быў старшынём Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Балтыі, якая ў значнай ступені займалася арганізацыяй вайскоўцаў-беларусаў па-за межамі краіны. Менавіта асабістае заангажаваньне Кастуся Езавітава спрычынілася да пераходу на службу ўраду БНР аддзелу Станіслава Булак-Балаховіча (Асобны атрад БНР) увосень 1919 г.[5]

Архіўныя дакумэнты дазваляюць уявіць дзейнасьць місіі Езавітава на тэрыторыі Латвійскай рэспублікі. 1 кастрычніка 1919 г. Вайскова-дыпляматычная місія БНР прыбыла да Рыгі, а ўжо на наступны дзень ейны кіраўнік удзельнічаў у нарадзе Беларускай рады Латвіі. Ад імя ўраду БНР Кастусь Езавітаў абяцаў родзічам дапамогу. 3 кастрычніка місія наведала міністра замежных справаў Латвіі Зігфрыдса Меероўічса, складаючы акрэдытацыйныя дакумэнты. Падчас размовы абодва бакі цалкам падтрымалі ідэю хаўрусу балтыйскіх дзяржаваў і задэклявалі гатоўнасьць удзелу ў ім[6]. Менавіта пасьля гэтай сустрэчы кіраўнік МЗС Латвіі ў звароце да Народнай рады 6 кастрычніка 1919 г. згадаў БНР, падкрэсьліваючы, што гэтая краіна прыхільна ставіцца да латвійскай дзяржавы[7]. 8 кастрычніка, калі пачаўся наступ на Рыгу нямецка-расейскіх аддзелаў пад камандаваньнем Паўла Бэрмонта-Авалава, місія БНР працягвала сваю працу ў сталіцы Латвіі. Нягледзячы на артылерыйскі абстрэл гораду, місія надалей разьмяшчалася на вуліцы Мікалая (сёньня — К. Вальдэмара), 20. Першапачаткова кантакт місіі з латвійскім урадам быў сталы. Напрыклад, 15 кастрычніка Кастусь Езавітаў інфармаваў міністра Меероўічса пра пэрсанальныя зьмены ў консульскім аддзеле БНР у Рызе[8].

На пачатку кастрычніка 1919 г. Езавітаў меў намер узяць удзел у канфэрэнцыі балтыйскіх краінаў у Дорпаце (сёньня Тарту, Эстонія),

---

[5] Łatyszonek, O. Białoruskie formacje wojskowe 1917—1923... S. 147—148; Jēkabsons, Ē. Stosunki między Łotwą i Białoruską Republiką Ludową w latach 1919—1921 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №7. 1997. S. 49–62; Jēkabsons, Ē. Латвия и Белоруссия. Начало отношений (1919—1920) // Берасцейскі хранограф. Вып. 2. 1999. С. 142—157; Jēkabsons, Ē. Łotysze w oddziale Stanisława Bułak-Bałachowicza w latach 1918—1919 i pobyt oddziału na Łotwie w latach 1919—1920 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. №35. 2011. S. 158—172.

[6] Сегодня. 4, 5, 7 октября 1919.

[7] Latvijas Sargs. 7 okt. 1919.

[8] LVVA. F. 1313. Apr. 1. L. 24. Lp. 62, 65.

аднак з прычыны спазьненьня гэта зрабіць не ўдалося. Аднак у лістападзе кіраўнік місіі прыбыў у Дорпат, каб растлумачыць прысутным *„бальшавіцкія мірныя ўмовы“* і ўмовы пераходу аддзелу Станіслава Булак-Балаховіча на бок БНР. У сярэдзіне лістапада 1919 г. Кастусь Езавітаў, прамаўляючы на вышэйзгаданай канфэрэнцыі, адзначыў, што Дорпат павінен стацца для малых народаў другім Парыжам. 15 лістапада дзеяч даслаў тэлеграму да ўраду Латвіі, дзе ад імя ўладаў БНР віншаваў латыскі бок зь перамогай над войскамі Бэрмонта. У адказ міністар Мееровічс 20 лістапада выказаў кіраўніку беларускай місіі падзяку[9].

17 сьнежня 1919 г. Кастусь Езавітаў у вялікім інтэрвію расейскамоўнаму часопісу „Сегодня“ выказаў наступнае аптымістычнае меркаваньне: *„Я браў удзел у якасьці дэлегата ва Ўсебеларускім зьезьдзе, другую гадавіну якога мы, беларусы, сьвяткуем. Я браў самы чынны ўдзел у працы зьезду. Пэўна не памылюся, калі скажу, што зьезд быў найбольш удалым сярод усіх іншых, якія адбыліся на тэрыторыі Расеі пасьля рэвалюцыі. Удзельнічала ў ім 1872 дэлегаты, што прадстаўлялі кожную беларускую вясковую гміну, кожны павет і губэрню... Шумныя паседжаньні Ўсебеларускага зьезду нагадвалі мне старажытнабеларускае веча. Гэты зьезд несумнеўна цалкам паказаў дэмакратычнае аблічча беларускага народу. Зьезд адразу ж знайшоў супольную мову й прыняў шэраг істотных для беларускага народу рашэньняў, абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку й абраў першы парлямэнт (Раду рэспублікі), а таксама першую Раду міністраў. Рада міністраў мусіла зрабіць вялікую працу дзеля арганізацыі змаганьня з бальшавіцкімі й польскімі закусамі. На працягу двух гадоў барацьбы мы дайшлі да той хвіліны, калі маладое беларускае войска здолее ачысьціць сваю тэрыторыю ад бальшавікоў. Немалая заслуга ў гэтай барацьбе належыць польскаму Вярхоўнаму камандаваньню, якое на польскай тэрыторыі за ракою Нараў стварыла зь беларускіх грамадзянаў беларуска-літоўскі корпус, які браў галоўны ўдзел у вызваленьні нашай тэрыторыі. На жаль, мушу зазначыць, што іншыя польскія адзінкі й частка польскага камандаваньня не заўсёды добра разумела, што вызваляе Беларусь, ператвараючы значэньне гэтага паходу ў імкненьне далучыць Беларусь да Польшчы. Дадзеная тэндэнцыя ў першы пэрыяд страшна ўскладняла беларускую нацыянальную працу й выклікала сутыкненьні паміж беларускімі сялянамі*

[9] Сегодня. 14, 20 ноября 1919; На чужыне. Сакавік, 1920.



У рэдакцыі газэты „Голас Беларуса“. Трэці справа сядзіць Кастусь Езавітаў. Рыга, 1927 г. *Здымак з калекцыі Сяргея Панізьніка*

*й польскімі легіяністамі. У дадзены момант канфлікт страціў сваю вастрыню; Рада міністраў працуе ў Менску; там жа 12 лістапада сабралася рада БНР, якая на першым паседжаньні прыняла пастанову цьвёрда трымацца прынцыпаў незалежнасьці Беларусі*“[10].

Пасьля Рыскага міру Кастусь Езавітаў застаўся ў Латвіі. У міжваенны пэрыяд латвійская дзяржава была адным з галоўных асяродкаў беларускага нацыянальнага руху ў Эўропе. Праўда, пасьля аўтарытарнага перавароту 1934 г. дзейнасьць нацыянальных меншасьцяў была значна абмежаваная. Беларусы адчулі зьмены ў найбольшай ступені. Іх колькасьць у Латвійскай рэспубліцы ў 1920 г. складала 75 тыс., тым часам як у 1935 г. ужо толькі 27 тыс. латвійскіх грамадзянаў падавала беларускую нацыянальнасьць. У адрозьненьне ад іншых „нацменаў“ (немцаў, палякаў, літоўцаў) беларусы належалі да тых нелатышоў, што былі пазбаўленыя г.зв. дыпляматычнай аховы (не было беларускіх дыпляматычных прадстаўніцтваў). Тым ня менш, беларусы складалі адну з найбольш колькасных нацыянальных групаў Латвіі. Беларуская

[10] Горев, А. Шеф военно-дипломатической миссии в Латвии о годовщине Бел. Нар. Респ. // Сегодня. 17 декабря 1919.

меншасьць мела свае школы, а ў Міністэрстве адукацыі дзейнічала Беларуская ўправа. Апрача таго, актыўна працавалі розныя грамадзскія таварыствы, сетка асноўных школаў і гімназіяў, сельскагаспадарчая школа, выходзіла каля 10 пэрыядычных выданьняў. З пэўных прычынаў латвійскія беларусы мелі досыць складаныя адносіны з польскай і расейскай меншасьцямі. У 1924—1925 гг. назіраўся крызіс у стасунках з латвійскімі ўладамі. У згаданы час можна казаць пра пэўныя рэпрэсіі ў дачыненьні да беларусаў: у акруговым судзе Латгаліі адбыўся г.зв. „беларускі працэс". Шэраг беларускіх дзеячаў на чале з Кастусём Езавітавым абвінавачваўся ў сэпаратызьме. У выніку, аднак, усе былі апраўданыя.

Кастусь Езавітаў побач з Уладзімерам Пігулеўскім, Сяргеем Сахаравым, Мікалаем Дзямідавым і іншымі дзеячамі належаў да асноўных кіраўнікоў беларускага жыцьця Латвіі. Ён узначальваў і чынна працаваў у некалькіх беларускіх арганізацыях (напрыклад, таварыства „Бацькаўшчына", Таварыства беларускіх выбаршчыкаў Сойму й самакіраваньня гарадоў, паветаў і валасьцей (ад 1925 г.), Беларускае тэатральнае таварыства, Таварыства беларускіх настаўнікаў і інш.). Быў таксама дырэктарам беларускай гімназіі, настаўнікам у беларускіх пачатковых школах, дзейнічаў у беларускай сэкцыі Партыі незалежных сацыялістаў аж да моманту ейнай дэлегалізацыі. Пачынаючы ад сярэдзіны 1920-х гг. можна назіраць зьяўленьне ў Езавітава амаль непрыхаваных прасавецкіх настрояў. У гэты час ён быў супрацоўнікам выданьня *„Советская Белоруссия"*, што выходзіла ў Менску, а ягоная першая жонка, латышка Матыльда Лехман, мела савецкае грамадзянства. Вядома, што ў 1920-х Кастусь Езавітаў (інфарматар „Озол") утрымліваў сувязь з савецкім прадстаўніцтвам у Рызе. Магчыма, гэта ўратавала яму жыцьцё пасьля таго, як балтыйскія рэспублікі былі інкарпараваныя ў склад СССР. Паводле паведамленьняў латыскай палітычнай паліцыі, пасьля перавароту 1934 г. Езавітаў працягваў прасавецкую нелегальную дзейнасьць[11].

Пасьля страты Латвіяй палітычнай самастойнасьці ў чэрвені 1940 г. пэўны час частка латвійскіх беларусаў мела летуценьні, што ў новых умовах будзе магчымым адраджэньне нацыянальнай дзейнасьці. У ліпені 1940 г. улады нават дазволілі адкрыцьцё дзьвюх беларускіх па-

[11] Гл.: Jēkabsons, Ē. Белорусы в Латвии в 1918—1940 годах // Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Мінск, 2001. С. 47—71.

чатковых школаў, а Кастусь Езавітаў стаў іх кіраўніком. Аднак ужо ў жніўні 1940 г. Латвія была анэксаваная СССР і ўсе навучальныя ўстановы, фармальна працягваючы працу, трапілі пад ціск русыфікацыі й саветызацыі. У гэты час Езавітаў чынна супрацоўнічаў з савецкімі ўладамі. У якасьці грамадзкага работніка настаўніцкага прафсаюзу ўвесну 1941 г. дзеяч быў нават запрошаны ў Маскву. Магчыма, менавіта тады ён усталяваў сувязь з НКУС (паводле зьвестак самога Езавітава, атрыманых падчас знаходжаньня ў турме ў 1946 г.).

Падчас нямецкай акупацыі Кастусь Езавітаў надалей знаходзіўся на тэрыторыі Латвіі, дзе працягваў працу ў тамтэйшым беларускім асяродзьдзі. Акупацыйныя ўлады ахвотна падтрымалі беларускую дзейнасьць, хоць і ў абмежаваным фармаце. Беларусы разглядаліся перадусім як супрацьвага для польскіх уплываў у Латгаліі. У гэты час лік беларусаў у Латвіі зноўку павялічыўся і ў 1943 г. складаў 48 601 чал.[12] Варта адцеміць, што Езавітаў, які з самага пачатку нямецкай акупацыі заангажаваўся ў беларускую грамадзска-палітычную дзейнасьць і пачаў супрацоўнічаць з аддзелам прапаганды Міністэрства ўсходніх абшараў, зрабіў спробу значна павялічыць колькасьць беларусаў у Латвіі (да 200 тыс.), разьлічваючы на згоду зьмяніць нацыянальнасьць з боку мясцовых старавераў. Апошнія разглядаліся Езавітавым як нашчадкі крывічоў. У гэтай справе ўвосень 1941 г. дзеяч актыўна карэспандаваў з прадстаўніцай латвійскіх старавераў Марыяй Фаміной[13].

Кастусь Езавітаў ачольваў Беларускі камітэт (ад сакавіка 1942 г. — Беларускае аб’яднаньне), створаны ў Рызе ў жніўні 1941 г. са згоды нямецкіх акупацыйных уладаў. Як старшыня беларускай арганізацыі ў Генэральнай акрузе „Латвія“ ў сярэдзіне 1942 г. спрычыніўся да заснаваньня выдавецкага фонду[14]. Езавітаў часта наведваў Менск, Вільню й Бэрлін, падтрымліваў актыўныя лістоўныя кантакты з кіраўнікамі нацыянальнага руху ў Менску, Празе й Бэрліне. У канцы 1942 г. Езавітаў адзначаў, што яму шматразова прапаноўвалі перайсьці на адказную працу ў Генэральнай акрузе „Беларусь“, але ён мусіў адмовіцца, бо *„рыжане і беларусы Латгаліі прасілі іх не кідаць“*[15].

Шматбаковасьць дзейнасьці Езавітава ў 1941—1944 гг. можа нават выклікаць зьдзіўленьне. У 1943 г. у Рызе быў зноўку выдадзены ягоны

[12] LVVA. F. P-813. Apr. 2. L. 28. Lp. 63.

[13] LVVA, F. P-712. Apr. 1. L. 5. Lp. 1.; L. 6. Lp. 3.

[14] Екабсонс, Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940—1945) // Беларускі гістарычны агляд. Т. 13. 2006. С. 207.

[15] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 79. Л. 29, 62; Спр. 91. Арк. 11—15.





Выпуск Беларускай 7-гадовай школы ў Бальбінава (Індра) Латвія.

Вельмі прашу даць клішэ школы ў „Раніцу“, бо яна ўздымае дух вуч-няў і настаўнікаў

К. Езавітаў

Gebr. Radetzki
Berlin S.W.

Здымак выпуску сямігадовай школы ў Бальбінаве (Індра) у Латвіі, дасланы Кастусём Езавітавым у рэдакцыю газэты „Раніца“. На адвароце аўтограф Езавітава. 1940-я гг.

падручнік-чытанка „Беларуская школа“, ён сам падрыхтаваў і выдрукаваў 12 выпускаў беларускіх песьняў з нотамі, а ў 1944 г. выйшаў першы ў гісторыі беларускай літаратуры ілюстраваны зборнік народных песьняў[16]. Шмат увагі Езавітаў надаваў пытаньням арганізацыі й дзейнасьці беларускага школьніцтва. У прыватнасьці, дапамагаў вырашаць канфлікты зь мясцовымі латвійскімі ўладамі й прадстаўнікамі расейскай нацменшасьці. Абодвум бакам не падабаліся захады беларусаў па арганізацыі школаў. З увагі на недахоп часу й сілаў Кастусь Езавітаў у 1943 г., аднак, быў вымушаны адмовіцца ад пасады дырэктара гімназіі ў Даўгаўпілсе, што мелася паўстаць неўзабаве. У выніку гімназія так і не была створаная[17].

У 1942—1944 гг. Кастусь Езавітаў неаднаразова спрабаваў атрымаць дазвол ад нямецкіх уладаў на фармаваньне беларускіх узброеных адзінак на тэрыторыі Латвіі. Аднак гэта не знайшло водгуку ў немцаў, а беларускую моладзь надалей уключалі ў Латыскі легіён СС[18]. У ліпені 1942 г. Езавітаў ліставаўся з былым камандзірам Беларускага асобнага батальёну ў складзе літоўскага войска Аляксандрам Ружанцовым, які распавядаў яму пра спробы стварэньня беларускіх аддзелаў самааховы ў Вільні ўлетку 1941 г. У жніўні 1942 г. Езавітаў быў запрошаны як *„вядомы беларускі патрыёт“* у Менск дзеля ўдзелу ў фармаваньні беларускай самааховы[19]. У сваю чаргу, адразу пасьля стварэньня Латыскага легіёну СС 27 траўня 1943 г. Езавітаў у лісьце да кіраўніка Беларускага аб’яднаньня ў Латгаліі прасіў рабіць захады па стварэньні беларускіх фармаваньняў, бо многія беларусы ўжо пачалі заклікацца ў латвійскія паліцыйныя батальёны, а мясцовае расейскае насельніцтва атрымала дазвол на фармаваньне ўласных батальёнаў. Ён сам выдаў распараджэньне высьветліць, ці ёсьць сярод латгальскіх беларусаў камандзіры на выпадак стварэньня вайсковых частак. Дзеяч прапаноўваў перадухіліць сытуацыю, у якой *„у нашых валасьцях парадак будуць наводзіць пабочныя людзі“*[20].

Архіўныя дакумэнты сьведчаць, што нягледзячы на супрацоўніцтва зь немцамі, Кастусь Езавітаў ня быў сьлепа адданы інтарэсам Трэцяга

---

[16] Герасімаў, В. Да праўды светлай, братка, ідзі // Полымя. 1994. № 4. С. 186.

[17] LVVA. F. P-951. Apr. 1. L. 93. Lp. 27; НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 86. Арк. 4, 10.

[18] Соловьев, А. Белорусская центральная рада: создание, деятельность, крах. Минск, 1995. С. 155.

[19] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 87. Арк. 21, 30.

[20] LVVA. F. P-712. Apr. 1. L. 4. Lp. 32.

Рэйху. Ён належаў да той часткі палітыкаў, што лічылі стаўку на Нямеччыну часовым тактычным крокам. Доказам гэтага можа быць факт, што Езавітаў разам з шэрагам іншых дзеячаў намагаўся ўсталяваць сувязь з заходнімі хаўрусьнікамі. Паводле яго самога, у студзені 1942 г. у Менску ў кватэры бурмістра Вацлава Іваноўскага адбылася патаемная сустрэча беларускіх дзеячаў (Кастусь Езавітаў, Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч, Антон Адамовіч, Яўхім Кіпель), мэтай якой было абмеркаваньне магчымасьці стварэньня нелегальнай „Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі“[21]. Праўда, гэтыя зьвесткі цяжка сёньня пацьвердзіць.

Жывучы ў Рызе, Кастусь Езавітаў утрымліваў сталыя кантакты зь беларускім актывам у Беларусі й па-за ейнымі межамі. Супрацоўнічаў з шэрагам беларускамоўных газэтаў і выданьняў, што выходзілі ў Рэйхскамісарыяце „Остлянд“. Вядома, што Кастусь Езавітаў грашова падтрымліваў выдавецкі фонд „Новы шлях“ у Рызе. Апрача таго, ад лета 1942 г. ён рэдагаваў беларускія кінахронікі, што рыхтаваліся студыяй *„Ostland Film G.m.b.H.“* у латвійскай сталіцы[22].

У чэрвені 1944 г. Кастусь Езавітаў быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу ў Менску[23]. З адыходам нямецкіх войскаў зь Беларусі, як шэраг іншых дзеячаў, быў вымушаны эвакуявацца на Захад. 26 ліпеня 1944 г. аддзел прапаганды Рэйхскамісарыяту „Остлянд“ хадайнічаў перад адпаведнымі ўладамі Трэцяга Рэйху ў справе дазволу на выезд Кастуся Езавітава з Рыгі ў Нямеччыну. З дадзенага дакумэнту вынікае, што меркавалася выкарыстаньне беларускага дзеяча ў працы ў беларускім прапагандовым аддзеле сувязі „Вінэта“, што падпарадкоўваўся Міністэрству асьветы й прапаганды. Вядома, што ўжо 8 жніўня 1944 г. Езавітаў прыбыў у Бэрлін і на працягу верасьня 1944 г. працаваў у вышэйзгаданай „Вінэце“[24]. У гэты ж час увайшоў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, дзе, з увагі на стан здароўя Юр’я Сабалеўскага, цягам шасьці тыдняў выконваў функцыі другога віцэ-прэзыдэнта[25].

Па ўзгадненьні з Прэзыдэнтам БЦР Радаславам Астроўскім на пераломе 1944—1945 гг. Кастусь Езавітаў вёў перамовы з прадстаўнікамі

---

[21] Езовитов, К. Воспоминания // Неман. №3. 1993. С. 150.

[22] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 91. Арк. 1.

[23] З латвійскіх беларусаў акрамя Кастуся Езавітава на гэты Кангрэс быў дэлегаваны таксама Пётра Мірановіч.

[24] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 14—15.

[25] Раніца. 10 верасьня 1944.

прыбалтыйскіх эмігрантаў, мэтай якіх было стварэньне т.зв. Блёку народаў Усходняй Эўропы. Адбыўся шэраг размоваў з Рудольфсам Бангерскісам, генэральным інспэктарам Латыскага легіёну СС. Калі верыць Езавітаву, то з латышамі было дасягнутае вуснае пагадненьне, што ў будучыні Беларусь увойдзе ў Балтыйскі блёк з атрыманьнем вольнага доступу да марскіх партоў[26].

У згаданых сытуацыях Кастусь Езавітаў, безумоўна, выступаў у якасьці палітыка, што меў нядрэнныя кантакты з балтамі. Аднак узьнікла запатрабаваньне й вайсковых здольнасьцяў дзеяча. Жаўнерскае мінулае й пэўны досьвед у справе арганізацыі вайсковых адзінак хутка былі заўважаныя кіраўніцтвам БЦР. Пасьля эвакуацыі зь Беларусі й аднаўленьня дзейнасьці ў Нямеччыне БЦР плянавала стварэньне беларускіх узброеных сілаў. Дзеля гэтага, паводле распараджэньня Прэзыдыюму БЦР ад 13 верасьня 1944 г., было пакліканае Кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР (ад 5 кастрычніка 1944 г. — Галоўнае кіраўніцтва вайсковых справаў (ГКВС) БЦР (*Weissruthenische Zentralrad — Hauptmilitërverwaltung*)), кіраваньне якім было даручана менавіта Кастусю Езавітаву. ГКВС падпарадкоўваўся Штаб беларускіх фармаваньняў (аддзелы: пэрсанальны, мабілізацыйны, статутная камісія). Першапачаткова агулам у штаце было прадугледжана 12 асобаў. ГКВС мела сядзібу ў Бэрліне па адрасе: Гумбінэр-штрасэ, 28[27].

У гэты час Кастусь Езавітаў разгарнуў актыўную дзейнасьць па арганізацыі належнай палітычнай і сацыяльнай апекі для беларусаў-вайскоўцаў, што апынуліся ў Нямеччыне. 8 кастрычніка 1944 г. кіраўнік ГКВС выдаў загад аб фармаваньні Асобнай групы рэзэрвы беларускіх

---

[26] Раніца. 10 верасьня 1944.

[27] Склад ГКВС БЦР быў наступны: 1) кіраўнік (на працягу ўсяго пэрыяду існаваньня функцыі кіраўніка выконваў палкоўнік Кастусь Езавітаў) і яго ад'ютант (старшы лейтэнант Аўген Ніканюк); 2) агульная канцылярыя (капітан Аляксей Васіленя); 3) мабілізацыйны аддзел (маёр Антон Сокал-Кутылоўскі, ад 8 студзеня 1945 г. — маёр Аляксандр Ружанцаў); 4) пэрсанальны аддзел (старшы лейтэнант Эмануіл Сангайла-Станевіч, затым маёр Аляксандар Ружанцаў); 5) статутная камісія, санітарны аддзел (ад 25 студзеня 1945 г. др Мікалай Мінкевіч), 6) аддзел справаў апекі над сем'ямі беларускіх вайскоўцаў (капітан Мікалай Дзямідаў). У склад ГУВС БЦР уваходзіў фэльдфэбэль Барыс Данілюк (перакладчык), капітан Усевалад Радзевіч (ад'ютант Прэзыдэнта БЦР), капітан Канстанцін Вадэйка (аддзел забясьпечаньня), а таксама супрацоўнікі гэтага аддзелу — лейтэнант Яўген Герман і фэльдфэбэль Браніслаў Юрэвіч (НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 49).

вайскоўцаў. У яе залічаліся ўсе афіцэры й падафіцэры БКА, беларускай паліцыі, чыгуначнай аховы, адзінак СС і СД[28].

Падчас знаходжаньня ў Бэрліне Кастусь Езавітаў ня мог наракаць на недахоп працы. Праз ягоныя рукі праходзіла ўся найважнейшая дакумэнтацыя па вайсковых справах. Як адказны за арганізацыю беларускіх вайсковых частак ён выдаваў загады аб новых вайсковых адзнаках для вайскоўцаў-беларусаў на чужыне, ствараў новыя пасады ў вайсковым ведамстве БЦР, разглядаў асабістыя справы жаўнераў, клапаціўся пра іх матэрыяльны стан, рэгуляваў справу надаваньня чарговых вайсковых званьняў, рупіўся пра вайсковую падрыхтоўку ў аддзелах і г.д. 16 кастрычніка 1944 г. паўстала Статутная камісія ГКВС БЦР, якую ачоліў Езавітаў[29]. Кіраўнік ГКВС увайшоў у склад створанай 11 лістапада 1944 г. Вайсковай камісіі, што займалася разглядам пільных справаў і вырашэньнем праблемаў арганізацыі беларускага войска[30].

Паводле загаду Кастуся Езавітава №22 ад 10 студзеня 1945 г., Вайсковая камісія БЦР атрымала статус Найвышэйшага вайсковага суду, які павінен быў выносіць прысуды за самыя сур'ёзныя парушэньні й злачынствы[31]. Кіраўніку ГКВС падпарадкоўваўся 1-ы кадравы батальён БКА ў Бэрліне, які пачаў фармавацца паводле ягонага загаду №5 ад 19 кастрычніка 1944 г. Да канца студзеня 1945 г. на імя Езавітава было пададзена 950 заяваў ад ахвочых служыць у батальёне, але ў выніку ў распараджэньне адзінкі прыбыло 369 чалавек. Пры батальёне дзейнічалі афіцэрская й падафіцэрская школы. Беларускім жаўнерам прызначалася такая ж сацыяльная апека, як і нямецкім вайскоўцам. Па сутнасьці, батальён быў прытулкам для сотняў беларускіх вайскоўцаў і іх сем'яў, што пасьля драматычнага адступленьня зь Беларусі знайшлі адносна спакойны побыт у Бэрліне[32].

---

[28] Першапачаткова ў рэзэрвы трапіла 13 афіцэраў і падафіцэраў. Гэта былі: палкоўнік Кастусь Езавітаў, маёр Аляксандар Ружанцаў, капітан Канстанцін Вадэйка, капітан Аляксей Васіленя, штаб-ротмістар Мікалай Шчаглоў, старшыя лейтэнанты Павал Сьвірыд, Эмануіл Сайгайла-Станевіч, Усевалад Радзевіч, Дзьмітры Касмовіч, Анатоль Плескачэўскі, Аляксандар Орса, Мікалай Шкялёнак, прапаршчык Сымон Кандыбовіч (За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лёндан, 1960. С. 169).

[29] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 131.

[30] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 57.

[31] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 171.

[32] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 169—170.

З пачаткам 1945 г. кіраўніку ГКВС БЦР значна прыбыло службовых справаў у зьвязку з тым, што 15 студзеня нямецкае камандаваньне дало дазвол на фармаваньне 1-й беларускай грэнадэрскай брыгады СС (*Waffen Grenadier-Brigade der SS (Weissruthenische nr 1)*). У паразуменьні з прадстаўнікамі СС оберштурмбанфюрэрам Гансам Зіглінгам і гаўптштурмфюрэрам Дэпэ Кастусь Езавітаў распачаў працу па падрыхтоўцы да стварэньня брыгады. 24 студзеня 1945 г. кіраўнік ГКВС БЦР меў спатканьне са згаданымі нямецкімі вайскоўцамі. Было дасягнутае наступнае пагадненьне: 1) фармаваньне беларускай брыгады мусіла пачынацца ад стварэньня двух батальёнаў пад камандаваньнем нямецкіх афіцэраў і аднаго зь беларускім камандным складам; 2) адначасна з фармаваньнем брыгады павінен быць створаны полк з цалкам беларускім камандаваньнем; 3) усе беларускія адзінкі СС маюць быць падпарадкаваныя оберштурмбанфюрэру СС Зіглінгу; 4) пры батальёнах зь нямецкім камандным складам прадугледжвалася прысутнасьць трох беларускіх афіцэраў сувязі; 5) пры брыгадзе мелі быць створаныя афіцэрская й падафіцэрская школы, што папаўняліся вайскоўцамі 1-га кадравага батальёну БКА; 6) беларускія афіцэры павінныя былі разьмеркавацца наступным чынам: 4 накіраваныя ў штаб дывізіі, 17 — у „беларускі батальён“, 6 павінныя былі стаць сувязнымі афіцэрамі пры „нямецкіх“ батальёнах, адзін афіцэр меўся адказваць за кантакты зь Зіглінгам; 7) у палках і батальёне зь беларускім камандаваньнем павінна выкарыстоўвацца беларуская мова; 8) перадугледжвалася стварэньне супольнага нямецка-беларускага вайсковага суду; 9) у склад штабу дывізіі павінныя былі ўваходзіць як нямецкія, так і беларускія афіцэры; 10) стваралася пасада для вайсковага капэляна беларускай нацыянальнасьці; 11) кіраўнік ГКВС БЦР мусіў атрымліваць штотыднёвыя рапарты пра сытуацыю ў адзінцы. У якасьці месца пастою адзінкі абраны палігон Графэнвёр у Баварыі[33].

Пасьля ўзгадненьня з уладамі СС 25 студзеня 1945 г. кіраўнік ГКВС БЦР выдаў загад №28 у справе фармаваньня згаданай брыгады. У адпаведнасьці з гэтым загадам, з мэтай папаўненьня беларускай брыгады з Бэрліну да месца фармаваньня часткі было скіравана 19 афіцэраў і 200 жаўнераў[34]. Дзеячы БЦР лічылі, што на абшары Нямеччыны знаходзілася ня менш як 78 тысяч беларусаў, здольных да вайсковай службы. 28 студзеня Кастусь Езавітаў выдаў таксама адозву „Браты-Белару-

---

[33] НАРБ. Ф. 383. Воп. 1. Спр. 11а. Арк. 7, 45.

[34] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 179.

сы!“, дзе заклікаў добраахвотнікаў да рэгістрацыі і ўступленьня ў брыгаду. Гэты зварот быў зьмешчаны ў бэрлінскай „Раніцы“. Ад гэтага моманту на адрас Кастуся Езавітава ў Бэрліне з розных куткоў Нямеччыны прыходзілі лісты ад добраахвотнікаў-беларусаў, што жадалі быць жаўнерамі „беларускага легіёну СС“. Уступленьне ў брыгаду нярэдка было своеасаблівай палёгкай і збавеньнем для пазбаўленых надзеі на лепшую будучыню „остарбайтэраў“, былых польскіх ваеннапалонных ды колішніх паліцыянтаў, якія апынуліся ў непрыхільным да іх асяродзьдзі на чужыне.

Ані час, ані матэрыяльныя сродкі не спрыялі стварэньню беларускай адзінкі пад шыльдай БЦР. Спачатку брыгада складалася з 1-га беларускага грэнадэрскага палка СС (*Waffen-Grenadier-Regiment der SS nr 1 (weissruthenische)*), аснову якога складалі вайскоўцы з колішніх 75-га і 76-га палкоў 30-й грэнадэрскай дывізіі СС (2-й расейскай)[35]. Загадам камандаваньня СС ад 15 студзеня 1945 г. з 75-га палка былой 30-й дывізіі быў сфармаваны зборны 3-і батальён, а з 76-га палка — 1-ы й 2-і батальёны[36]. 9 сакавіка 1945 г. брыгаду разгарнулі ў 30-ю грэнадэрскую дывізію СС (1-ю беларускую, *30 Waffen-Grenadier Division der SS (wiessruthenische nr 1*), што да канца красавіка 1945 г. налічвала толькі 1094 вайскоўцы[37].

У навуковай і навукова-папулярнай літаратуры можна знайсьці зьвесткі, што герой гэтага артыкулу быў генэралам. Гэтае пытаньне патрабуе, аднак, дадатковага тлумачэньня. Насамрэч сваё першае афіцэрскае званьне (падпаручніка) Кастусь Езавітаў атрымаў у Расейскай арміі. На момант дэмабілізацыі з гэтай арміі ён меў званьне паручніка, якое, дарэчы, было яму нададзенае датэрмінова з увагі на пасьпяховую службу на фронце. Наступныя вайсковыя годнасьці — ад капітана да генэрала — Кастусь Езавітаў атрымаў на службе ў БНР. Прычым усе званьні былі яму нададзеныя цягам аднаго дня. Апошняе званьне генэрал-маёра было зацьверджанае Радай міністраў БНР 17 траўня 1920 г. Падчас Другой сусьветнай вайны, згодна з пастановай прэзыдэнта БЦР 12 студзеня 1945 г., гэтае ж званьне было яшчэ раз пацьверджанае[38].

[35] Bundesarchiv-Militärarchiv (BA-MA). T. 756/98a.

[36] Gdański, J. Zapomniani żołnierze Hitlera. Warszawa, 2005. S. 210.

[37] BA-MA. T. 756/98a; Grzybowski, J. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939—1956. Warszawa, 2011. S. 369—370.

[38] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі... С. 172.




Старонкі дзёньніка Кастуся Езавітава

Варта адцеміць, што сапраўднасьць нададзеных БНР і БЦР званьняў нярэдка ставілася пад сумнеў уладамі іншаземных дзяржаваў, зь якімі Езавітаў меў дачыненьні як вайсковец.

Дасёньня найбольш вядомым архіўным дакумэнтаў, што дапамагаў дасьледнікам больш-менш падрабязна прасачыць дзейнасьць Кастуся Езавітава ў гады Другой сусьветнай вайны, былі „ўспаміны“ дзеяча, якія, па сутнасьці, зьяўляюцца сьведчаньнямі падчас допытаў у сьледчай турме МУС БССР. У сувязі са знаходкаю ў Архіве Інстытуту Гувэра згаданага вышэй дзёньніка, магчымасьці вывучэньня апошніх месяцаў дзейнасьці Езавітава пашыраюцца.

Дзёньнік ахоплівае больш як палову „бэрлінскага“ пэрыяду чыннасьці кіраўніка ГКВС БЦР. Першы запіс датуецца 31 сьнежня 1944 г. Увесь дакумэнт ня надта вялікі, мае выгляд каляндарных нататак: складаецца з караценькіх зьвестак пра тое, што рабіў і чым займаўся аўтар. Пераважна гэта паасобныя выразы й сказы. Разам з тым у спалучэньні з архіўнымі дакумэнтамі гэтыя „сьціплыя“ нататкі могуць аказацца каштоўнай крыніцай інфармацыі.

У сваім дзёньніку Кастусь Езавітаў натаваў зьвесткі рознага кшталту. Часамі запісы маюць больш асабісты характар і згадваюць, здавала-

ся б, малаістотныя падзеі. Так, напрыклад, першы запіс — гэта інфармацыя пра сьвяткаваньне Новага году беларускімі дзеячамі ў Бэрліне. З упэўненасьцю дакумэнт можна назваць дзёньнікам, *„пісаным пад бомбамі“*. У згаданы час Бэрлін практычна быў штодзённа моцна бамбардаваны савецкай авіяцыяй і сіламі заходніх хаўрусьнікаў, што не магло не знайсьці сваё адлюстраваньне ў нататках. Прыкладам, сярод запісаў ёсьць згадка трагічнай сьмерці аднаго зь беларускіх афіцэраў.

На падставе аналізу тэксту дзёньніка можна ўявіць, якая атмасфэра панавала ў беларускім актыве ў нямецкай сталіцы незадоўга да капітуляцыі. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, Кастусь Езавітаў, бадай, да апошняга часу актыўна працаваў як асоба, заангажаваная ў справу стварэньня беларускага войска. Па вайне Франц Кушаль, які ў „бэрлінскі“ пэрыяд быў падначаленым Езавітава, нават скардзіўся, што апошні вызначаўся непатрэбнай бюракратыяй і канцылярызмам. Аднак дзякуючы гэтым уласьцівасьцям і паўстаў згаданы дзёньнік, які мае шанец значна ўзбагаціць нашыя веды пра дзейнасьць такіх беларускіх фармаваньняў, вайсковых і цывільных установаў у Нямеччыне, як 1-ы кадравы батальён БКА, 30-я грэнадэрская дывізія СС (1-я беларуская), Галоўнае кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР, Беларуская Цэнтральная Рада.

У часе напісаньня дзёньніка ўвага кіраўніка ГКВС БЦР пераважна засяроджвалася на фармаваньні беларускай брыгады СС у Баварыі. З запісаў бачна, што ў справе вярбунку добраахвотнікаў высылаліся афіцэры 1-га кадравага батальёну БКА. З навуковай літаратуры вядома, што сярод дзеячаў БЦР у Нямеччыне не было згоды. І гэты момант таксама знаходзіць ускоснае пацьверджаньне ў нататках.

Апошні запіс дзеяча адносіцца да 21 красавіка 1945 г. Беручы пад увагу факт, што 24 красавіка Езавітаў трапіў у савецкі палон[39], можна з упэўненасьцю сьцьвердзіць, што дзёньнік кідае пэўнае сьвятло на апошнія дні знаходжаньня аўтара на волі. Адсюль можна даведацца, у якім стане быў Езавітаў напярэдадні затрыманьня СМЕРШам 1-га Украінскага фронту. Апошнія запісы яскрава сьведчаць, што ён сапраўды пачуваўся вельмі кепска фізычна й псыхалягічна.

---

[39] Савецкая выведка працяглы час палявала на Кастуся Езавітава. У жніўні 1944 г. задачу затрымаць яго даверылі савецкаму агенту, якому ў сьнежні 1944 г. удалося ўбіцца ў давер да дзеяча й трапіць у ягонае асяродзьдзе. 24 красавіка 1945 г. выведнік перадаў цяжка хворага Езавітава СМЕРШу 1-га Украінскага фронту. Гл.: Соловьев, А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Мінск, 1995. С. 137—142.

Дзёньнік захаваўся ў ня надта добрым стане. Некаторыя запісы вельмі невыразныя, а іншыя, на жаль, зусім не атрымалася расчытаць. Спадзяемся, аднак, што азнаямленьне зь зьмешчаным далей дакумэнтам будзе надзвычай карысным для дасьледнікаў і аматараў айчыннай гісторыі.

***Кастусь Езавітаў***

# ДЗЁНЬНІК
# (1944—1945)

*31 сьнежня*

Навагодняя Куцьця ў Кадравым Батальёне[1].

Архіерэйскае набажэнства ў 15 гадзін 30 хвілін.

Куцьця навагодняя а 18-й гадзіне.

Спатканьне Новага Году з Галякамі[2] і Якубоў.[3]

Налёт.

Пабіты вокны ў кватэрах.

*1 студзеня*

Ураньні чуць не разьбіўся едучы аўтамабілем, але прайшло шчасьліва.

*7 студзеня*

Набажэнства архіерэйскае ў кашарах Кадравага Батальёну[4] а 9-й гадзіне.

---

[1] Пры публікацыі захоўваецца парадковая разьбіўка арыгіналу.

[2] Маюцца на ўвазе Леанід Галяк (1910—1980) і ягоная жонка Раіса.

[3] Ва „Ўспамінах“ Леаніда Галяка чытаем: *„Новы 1945 год спатыкалі ў памешканьні працаўнічкі БЦР Ніны Якубовіч. Апрача нас быў К. Езавітаў, Кунцэвіч і Тонік Шантыр. Езавітаў выказаў думку, што ніякага дабра ад заходніх аліянтаў ён не спадзяецца, бо камандаваць парадкам у Эўропе будуць не яны, а Саветы. Налёту ў навагоднюю ноч ня было й вярталіся да хаты пехатою ў марозную й трохі сьнежную ноч“* (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2. ЗША, 1983. С. 20).

[4] Кашары 1-га кадравага батальёну БКА ў Бэрліне знаходзіліся на Ліхэнэрштрасэ, 55.

Прыехаў *obersturmbahnfuhrer Siegling*[5].

Адбыў з ім і нашым штабам нараду ў БЦР.

*8 студзеня*

Падрыхтоўка кашарнага сьпісу афіцэраў для 1-е нашае Беларускае Брыгады[6].

Сьвяткавалі ўвесь дзень і усю ноч напралёт да 7 гадзінаў зрана. Ня спаў ні хвілінкі.

*9 студзеня*

А 10-й гадзіне здаў сьпісы ў *SS-Hauptamt* сп. *Deppe*[7]. Адбылі нараду.

Кап. Малькін перадал справы *Hauptstuhrmfürer*'у *Deppe*. На нарадзе былі прысутны: я, палк. Кушаль[8], др Люббэ[9], кап. Малькін, *hsbf Deppe* ł *Müller*.

*10 студзеня*

Сход Рады БЦР.

Прыехаў маёр Ружанцоў[10].

---

5 У пэрыяд ад лета да сьнежня 1944 г. Ганс Зіглінг быў камандзірам 30-й грэнадэрскай дывізіі СС (2-я расейская), а з пачаткам фармаваньня беларускай брыгады СС быў прызначаны ейным камандзірам.

6 У гэты дзень Езавітаў падпісаў загад №21 аб стварэньні Асобнай групы рэзэрвы беларускіх вайскоўцаў і залічэньні ў ейны склад афіцэраў, што знаходзіліся ў Бэрліне.

7 Гаўптштурмфюрэр Дыпэ быў упаўнаважаны з боку камандаваньня войскаў СС да размоваў з БЦР у справе фармаваньня беларускай брыгады СС.

8 Франц Кушаль (1895—1968) знаходзіўся ў Бэрліне як кіраўнік БКА.

9 Ва ўспамінах Франца Кушаля фігуруе кіраўнік „Ляйтштэльле“ пры Міністэрстве ўсходніх абшараў др Люббэ, што прыхільна ставіўся да арганізацыі беларускага легіёну (Кушаль, Франц. Спробы арганізацыі беларускага войска. Менск, 1999. С. 103).

10 Маёр **Аляксандар Ружанцоў** (1893—1966), вайсковы дзеяч. У 1919—1923 камандаваў Беларускім асобным батальёнам у Летувіскім войску. У 1944—1945 гг. быў супрацоўнікам ГВКС БЦР і афіцэрам 1-га кадравага батальёну БКА. Загадам №24 ад 13 студзеня 1945 г. кіраўнік ГКВС БЦР надаў Ружанцову званьне падпалкоўніка.

Гутарка з арцыб.[іскупам] Філафеем[11].

*12 студзеня*
Нарада ў SS-Hauptamt аб беларускім легіёне. Прысутнічалі: сп. Шкялёнак[12], я, сп. Калубовіч[13], Рагуля[14], др Люббэ, *Haupt stuhrmfürer Deppe* і *Müller*.

*13 студзеня*
Нарада Рады БЦР ад 10 г.[адзіны] зрана.
Набажэнства ў кірсе Лукі адслужыў біскуп Філафей.
Канцэрт Забэйды Суміцкага[15] ў зале.

*14 студзеня*
Набажэнства ў кірхе Ап. Лукі.
Папы малілі даць сілу і падпору.
Замёрз страшэнна.
Алярм і бамбёжка ўдзень.
Нарада БЦР пленуму ад 14 да 24.
Два начныя налёты і бамбёжкі. Сход пераносілі ў склеп, але не перарвалі.
Астаўся спаць у БЦР.

*15 студзеня*
Без сьняданьня працаваў да 12 дня.
Сьняданьне.
Зноў налёт.
Падрыхтаваныя справы Філ.[афей] перадае [?] і адбылася нарада.

*16 студзеня*
Адозва прэзыдэнта БЦР.

[11] Архіяпіскап **Філафей** (сьвецк. **Уладзімер Нарко**, 1905—1986), адзін з герархаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.
[12] Мікола Шкялёнак (1899—1946) быў на той час віцэ-прэзыдэнтам БЦР.
[13] Аўген Калубовіч (1912—1987) быў на той час радным БЦР.
[14] Маецца на ўвазе Барыс Рагуля (1920—2005).
[15] **Міхась Забэйда-Суміцкі** (1900—1981), сьпявак, пэдагог.

Камунікат ад імя БЦР.
Нарада з *Hauptsturmführer Deppe* 15-17 S.
2 алярмы днём і 1 увечары.
Працаваў да 23 г. 15 хв.

*17 студзеня*
Пахаваньне Андрэя Бароўскага[16] ў 14 гадзін.
Сход БЦР (пленуму)[17] а 16 да 19 г.[адзінаў] 30.
Праца ў ГВК БЦР да 23 г.[адзінаў]

*28 студзеня*[18]
Адпраўлены 1-шы эшалён беларускіх вайскоўцаў у брыгаду „Беларусь“ з Ангальтэрскага[19] вакзалу[20].

*2 лютага*
<u>Загад №33</u>

*3 лютага*
<u>Загад №34</u>
А 11-й гадзіне пачалася вялікая бамбарды-
роўка Бэрліну. Шмат пашкоджаньняў.
Усё гарыць. Прынамсі ўражаньне ўзьнікла, што
„гарыць увесь Бэрлін“. Згарэла кватэра Рапіцкага.

[16] **Андрэй Бароўскі** (1873—1945), палітычны дзеяч. У 1921—1925 гг. быў кіраўніком дыпляматычнай місіі БНР у Бэрліне. У гады Другой сусьветнай вайны дзейнічаў у Беларускім прадстаўніцтве і Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне. Супрацоўнічаў з БЦР. Памёр 15 студзеня 1945 г.

[17] Гаворка ідзе пра адно з паседжаньняў пленуму БЦР, якое адбывалася 14, 15 і 17 студзеня і дзе быў прыняты абноўлены Статут арганізацыі.

[18] Працяглы перапынак ад 17 да 28 студзеня мог быць вынікам шпаркай працы па стварэньні беларускай грэнадэрскай брыгады СС. Як кіраўнік ГКВС БЦР Кастусь Езавітаў быў надта заняты: выдаваў адозвы, вёў перамовы зь нямецкім бокам і г.д.

[19] Маецца на ўвазе **Ангальцкі вакзал** у Бэрліне.

[20] Вядома, што агулам у гэты дзень у месца кватараваньня 1-й грэнадэрскай штурмовай брыгады „Беларусь“ выехала 19 афіцэраў і 200 шарагоўцаў. У гэтай лічбе знаходзілася 11 афіцэраў кадравага батальёну, 4 афіцэры й 77 курсантаў афіцэрскай і 4 афіцэры й 101 курсант падафіцэрскай школаў, а таксама стралецкі зьвяз у ліку 2 падафіцэраў і 20 стральцоў.

Быў засьцігнуты на Аляксандрпляцу. Я схаваўся
ў Грунд-бане (*U-Bahn*). Пайшлі праз дым і па-
жары, прайшоў пехатой на *Gumbinner str* 28
у Бел. Ц. Раду. Спаў у Радзе. Усе ўсхвалёваны.

*4 лютага*
Дзень трывогі. Пасьля бамбар.[дыроўкі]
Бабы і „ўсходнікі“ б’юць трывогу.
Могуць хутчэй выехаць з Бэрліну. Будзе гэта
ня кепска.
Хадзіў да хаты. Даехаў да *„Putlizsh“*,
а потым пехатой на *„Bulw str“*[21]. Хата — цэлая.
Усе беларускія ўстановы — цэлыя. Загінула 3-е бела-
русаў з сямейкі Касьпяровічаў[22].

*5 лютага*
Загад №35

*6 лютага*
Выехала 36 асобаў з складу БЦР
і іхнія сямейкі ў *Wurzburg*[23]. У тым
ліку нач. [???] палк. Гуцько Язэп[24] і Шкуткаў[25].

*7 лютага*
Загад №36
Увесь вечар і ўсю ноч на 8-га да са-
мага раньня ішло пакаваньне архіву
і рэчаў Гал. Кір. Вайск. Спраў БЦР, а таксама
і іншых аддзелах. Хаця-ж тамака

---

[21] Магчыма, маецца на ўвазе *Вьlowstrasse* (станцыя мэтро).

[22] Магчыма, што гаворка ідзе пра сям’ю лейтэнанта Ўладзімера Касьпяровіча, які на пачатку 1945 г. выконваў функцыю гаспадарчага афіцэра 1-га батальёну 30-й грэнадэрскай дывізіі СС (1-й беларускай).

[23] **Вюрцбург** — горад на поўдні Нямеччыны, у Баварыі.

[24] **Язэп Гуцька** (1883—1956), вайсковы дзеяч, палкоўнік. Афіцэр Расейскай арміі. У 1942 г. быў прызначаны шэфам штабу Беларускай самааховы. У 1944—1945 г. служыў у 1-м кадравым батальёне БКА.

[25] Магчыма, маецца на ўвазе **Анатоль Шкутка** (1908—?), адзін са стваральнікаў Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне.

не было адказных асобаў, бо яны выехалі ўжо ўчора. Я сваіх пэрсанальных рэчаў ня меў часу спакаваць.

*8 лютага*
Накіраваны ў Вэстфалію архівы БЦР і частка супрацоўнікаў для ўтварэньня філіі БЦР у Вэстфаліі.

*9 лютага*
Паехаў у камандзіроўку

*10 лютага*
Загад №37 па ГКВС.

*11 лютага*
Загад № 38 ГКВС.

*13 лютага*
Нарада ў *Hauptstuhrfuhrera Deppe*.

*15 лютага*
Наведаў дра Моббэ. Пазнаёміўся з драм праф. Мэндэ.
Загад №39 ГКВСпр[26].

*17 лютага*
Прыбыў з Вэстфаліі кап. Радзевіч[27], ад'ютант сп. Прэзыдэнта для дакладу аб становішчы ў філіі БЦР.

*26 лютага*
Вялікая бамбардзіроўка Бэрліну.
У будынку БЦР разьбіты сьцены, вокны.

---

[26] Загад №39 датычыў 1-га кадравага батальёну БКА, а менавіта ўліку зброі й інвэнтару, гаспадарчых справаў, парадку прыняцьця добраахвотнікаў, унутранай дысцыпліны й рэарганізацыі адзінкі.

[27] Маецца на ўвазе старшы лейтэнант **Усевалад Радзевіч** (1916—1998), ад'ютант прэзыдэнта БЦР.

1 чалавек забіты і 1 ранены ў нутры.
У будынак 4 бомбы і 9 бомбаў у ваколіцах.

*1 сакавіка*
Загад №42

*3 сакавіка*
Загад №43 ад 3. III. 45

*6 сакавіка*
Загад №44

*10 сакавіка*
Загад №45

*11 сакавіка*
Я зноў прыехаў да хаты.

*12 сакавіка*
Вялікая бамбардзіроўка ўночы.
Разьбіты кашары Бел. Кадрав. Батальёну.
Сьмяротна ранены кап. Станевіч-Сангайла[28] і
ягоная жонка. Ранены Васіленя[29] і Герман[30].

*13 сакавіка*
Загад №43[31]
Памёр кап. Сангайла-Станевіч.

---

[28] Старшы лейтэнант Эмануіл Сангайла-Станевіч быў намесьнікам кіраўніка пэрсанальнага аддзелу ГКВС БЦР.

[29] Маецца на ўвазе капітан **Аляксей Васіленя** (1899—1978), кіраўнік канцылярыі ГКВС БЦР.

[30] Маецца на ўвазе старшы лейтэнант **Аўген Герман**, супрацоўнік ГКВС БЦР.

[31] Загад №43 датаваны днём 3 (а не 13, як у дзёньніку) сакавіка, датычыў зацьвярджэньня нацыянальных адзнакаў уніформы беларускіх вайскоўцаў на чужыне, пераносу канцылярыі ГКВС з моцна пашкоджанага ў выніку бамбардаваньняў будынку БЦР у кашары 1-га кадравага батальёну БКА, а таксама пэрсанальных справаў.

*14 сакавіка*
Памёрла жонка кап. Сангайла-Станевіча.

*20 сакавіка*
Павінны былі пахаваць кап. Станевіча. Зьявіліся з вянкамі на могільнік вайсковы, але цела не прывязьлі. Усклалі вянкі на агульны могільнік.

*22 сакавіка*
Прэзыдэнт, др Люббэ і [?] выехалі ў брыгаду[32]. Было месца ў аўто і для мяне, але я ня меў шынелі, дык паехаў палк. Шувалаў[33].
У мяне ўражаньне ўзьнікае, што ўсе яны дужа задаволены, што я не паехаў.

*25 сакавіка*
У 4 гадзіны быў сход на Штрам штр. у памешканьні Беларускай Самапомачы. Прамаўляў віцэ-прэзыдэнт М. Шкялёнак, я і інж. Тамашчык[34]. Сьвяткаваньне было дужа скромнае і кароткае. Аднак на вячэру ўсё-ж-ткі ўсе спазьніліся і з повады сьвята асталіся галоднымі, бо рэстараны ўжо пазакрываліся.

*26 сакавіка*
Многа і добра працаваў увесь дзень і аж да 2 гадзін ўночы. Не зашкодзілі

[32] Маецца на ўвазе месца кватараваньня 30-й грэнадэрскай дывізіі СС (1-й беларускай) у Баварыі.

[33] Ва ўспамінах Франца Кушаля былы афіцэр расейскай арміі Шувалаў выступае своеасаблівым супернікам Кастуся Езавітава: „*Палкоўнік Шувалаў быў вызначаны Астроўскім міністрам вайсковых справаў пры БЦР на месца ген. Езавітава. Факт гэты быў вялікім маральным ударам па ген. Езавітаву. Ён перажываў яго вельмі цяжка*“ (Ліст Ф. Кушаля да К. Акулы ад 18.09.1958 // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум... С. 166).

[34] Гаворка ідзе пра **Ўладзімера Тамашчыка** (пазьней уладыка Васіль, 1900—1970), грамадзкага і рэлігійнага дзеяча, на той час раднага БЦР.

і тры алярмы. Падагнаў шмат работы.
Заўтра будзе праца канцылярыі.

*27 сакавіка*
Спаў усяго 5 гадзінаў, але чуюся
дужа добра. Шмат працаў. Прымаў
афіцэраў і паслаў іх на вярбоўку.
Дзямідаў[35] паехаў у Гокстэр[36]. Кіслы[37] прыехаў з
вярбоўкі.
Увечары ўпала бомба на вуліцу супраць
майго спаньня. Усе вокны выбітыя зноў.

*6 красавіка*
Рада БЦР атрымала паведамленьне,
што 8 красавіка астаткі спраў працаўнікі *Ostministerium*
і *Weissruthenische Zeitstelle* пераяж-
джаюць у в. *Eineborn* (*Thur*.[38])

*20 красавіка*
Уночы раптоўна др Шчорс[39] запрапанаваў
мне аўтамабілем выехаць з *Furstenwalde* у *Schone*...
Там яго [мела] чакаць у знаёмай студ. мэдыцыны. Аднак, пратрымаўшы машыну ў дзьвярэй 3 гадзіны (нас зноў дагналі ўцекачы, якіх мы пераганялі), студэнтка нават ня выйшла да
нас. Паехалі далей у *Liebenwerde Bad*[40] і далей. Пасьля зьвярнулі

[35] Мікалай Дзямідаў (1888—1967) быў тады капітанам 1-га кадравага батальёну БКА, часова прыкамандзіраваным да ГКВС БЦР на працу ў якасьці ўпаўнаважанага па справах апекі над сем'ямі беларускіх вайскоўцаў.

[36] Маецца на ўвазе мясцовасьць Гёкстэр (Цюрынгія), куды ў красавіку 1945 г. накіравалася большасьць супрацоўнікаў БЦР.

[37] Магчыма, маецца на ўвазе **Кастусь Кіслы** (1898—1980).

[38] **Айнэборн** (ням. *Eineborn*) — камуна ў Цюрынгіі, апошняя чыгуначная станцыя ў напрамку Мюнхэну. Туды былі перакінутыя з Бэрліну архіў Міністэрства па ўсходніх справах і БЦР.

[39] Др Мікалай Шчорс (1913—1995) быў прызначаны на пасаду палкавога лекара 30-й грэнадэрскай дывізіі СС „Беларусь“, а таксама рабіў апэрацыю грыжы самому Кастусю Езавітаву.

[40] **Бад-Лібэнвэрда** (ням. *Bad Liebenwerda*) — горад-курорт у Нямеччыне, у зямлі Брандэнбург.

ў *Liebenwerde Bad* і, пасьля адмовы лазарэта ўзяць мяне да сябе, з вялікімі высілкамі атрымалі праз *NSFam*[41] нумэр у гатэлю, а праз Чырвоны Крыж сястру, якая зрабіла перавязку[42].

*21 красавіка*[43]
Днём сьніў Галіну Ўладзіміраўну[44] ўсю ў чорным у новай шыкоўнай кватэры. Бачыў яе толькі з сьпіны. Сыну кажу: „Маці памерла!“ Быў пры гэтым хамуйла Сядура. Хадзіў і жаваў нейкі хлеб. Спаў каля 10 хвілін.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Юрыя Грыбоўскага*

[41] Магчыма, маецца на ўвазе **Нацыянал-сацыялістычная народная дабрачыннасьць** (*Nationalsozialistische Volkswohlfahrt, NSV*) — грамадзкая жаночая дабрачынная арганізацыя, заснаваная ў 1933 г.

[42] У другой палове красавіка 1945 г. Езавітаў меў апэрацыю на грыжу.

[43] Праз тры дні пасьля апошняга запісу ў дзёньніку хворы Езавітаў быў перавезены з Бад-Лібэнвэрды ў мясцовасьць Заган і перададзены ў распараджэньне контравыведкі 1-га Украінскага фронту. Паводле рапарту савецкага разьведчыка, які выканаў заданьне перадачы, у момант уваходжаньня Чырвонай Арміі ў Бад-Лібэнвэрду Езавітаў спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам.

[44] Галіна Езавітава, жонка.

***Ігар Лабацэвіч***
*Мінэапаліс*

# БЕЛАРУСКІЯ АРХІВЫ Ў ШТАЦЕ МІНЭСОТА

За час свайго быцьця на амэрыканскім кантынэнце беларуская дыяспара здолела пакінуць па сабе досыць значны культурны й матэрыяльны сьлед у выглядзе цэркваў, культурніцкіх цэнтраў, выдавецкай дзейнасьці й іншых праяваў грамадзкага й палітычнага жыцьця. Са зьменай пакаленьняў, праз якую праходзіць цяпер беларуская эміграцыя, усё больш матэрыялаў, што сьведчаць пра шматгадовую актыўнасьць беларусаў, знаходзіць сваё месца ў амэрыканскіх архіўных установах. Большасьць беларускіх калекцыяў у Амэрыцы знаходзяцца у Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы, Ратгераўскім унівэрсытэце ў Нью-Джэрзі, у некаторых установах штатаў Каліфорнія ды Індыяна. Невялікая, але ўнікальная ў сваім родзе калекцыя захоўваецца й працягвае расьці ў Цэнтры дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі (*Immigration History Research Center*, скарочана *IHRC*) пры Мінэсоцкім унівэрсытэце ў горадзе Мінэапаліс[1].

## Цэнтар дасьледаваньняў гісторыі эміграцыі (IHRC)

Бадай адзін з найбольшых на сёньня ў сьвеце спэцыялізаваных архіваў гісторыі іміграцыі, гэты Цэнтар быў заснаваны ў 1965 г. стараньнямі яго шматгадовага дырэктара, прафэсара Рудольфа Вэколі, дасьледніка этнічнай гісторыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

Гэтая ўстанова зьбірае, захоўвае й робіць даступнымі для навукоўцаў і шырокай публікі архіўныя ды друкаваныя матэрыялы (кнігі й пэрыядычныя выданьні) у галіне іміграцыі й дзейнасьці розных этніч-

[1] University of Minnesota: The Immigration History Research Center http://www.ihrc.umn.edu/.

ных групаў у ЗША й Канадзе. Цэнтар асабліва вядомы фондамі, прысьвечанымі працэсам іміграцыі й пасьляэміграцыйнай дзейнасьці этнічных групаў, якія паходзяць з Усходняй, Цэнтральнай й Паўднёвай Эўропы ды Блізкага Ўсходу, тых, хто прыбыў у Новы сьвет падчас „Вялікай міграцыі“ (1880—1920).

Цэнтар складаецца зь дзьвюх частак: *IHRC*-Дасьледнага цэнтру й *IHRC*-Архіву. Дасьледны цэнтар зьяўляецца часткаю Каледжу вольных навукаў (*College of Liberal Arts*) і вядзе акадэмічную ды выдавецкую дзейнасьць, арганізоўвае сэмінары, канфэрэнцыі й лекцыі, прысьвечаныя праблемам міграцыі й міжнацыянальных адносінаў. Можна сказаць, што *IHRC*-Дасьледны цэнтар канцэнтруецца больш на нядаўніх хвалях іміграцыі ў ЗША. Да прыкладу, адной з дасьледных ініцыятываў цэнтру стаўся праект *Minnesota 2.0*[2], які задакумэнтаваў сьведчаньні таго, як маладыя імігранты з Мэксыкі, Самалі ды азіяцкіх краінаў выкарыстоўваюць сучасныя тэхналёгіі сацыяльных сетак у вызначэньні сваёй асабістай і групавой саматоеснасьці ў дачыненьні да іх бацькоў, амэрыканскага грамадзтва й краінаў паходжаньня іх сем’яў. Цэнтар штогадова прапануе стыпэндыі для дасьледнікаў тэмы іміграцыі як з ЗША, так і зь іншых краінаў сьвету.

*IHRC*-Архіў уваходзіць у бібліятэчна-архіўную сыстэму ўнівэрсытэту Мінэсоты. Архіў захоўвае бібліятэчныя матэрыялы (кнігі, часопісы й газэты) ды каля дзьвюх тысячаў асобных архіўных калекцыяў пэрсанальных і арганізацыйных матэрыялаў, датычных гісторыі іміграцыі ў Злучаныя Штаты ад другой паловы XIX ст. дасёньня. Пераважная большасьць калекцыяў адкрытая для дасьледнікаў, якія могуць карыстацца імі ў чытальных залях бібліятэкі Андэрсэна пры ўнівэрсытэце Мінэсоты, папярэдне замовіўшы іх у архівістаў. Найбольшымі калекцыямі цэнтру зьяўляюцца ўкраінская, польская, эстонская й фінская. Беларуская частка складаецца пакуль толькі зь пяці прыватных фондаў: Багдана Андрусішына, Раісы Жук-Грышкевіч, Вітаўта Кіпеля, Васіля Пунтуса й Вацлава Пануцэвіча. Магчыма, што неўзабаве да гэтага будзе дададзеная таксама калекцыя Мацея Рэпкі-Смаршчка (Анатоля Бярозкі).

[2] Minnesota 2.0 Project Collection (Digital Archive) http://www.ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/ma/ihrc3908.html.

## Беларускія матэрыялы ў IHRC-Архіве

Калекцыя Багдана Андрусішына[3] дакумэнтуе толькі адзін пэрыяд жыцьця сьпевака й журналіста, вядомага як Данчык, — ягоныя прыезды ў Беларусь з гастролямі напрыканцы 1980-х гг., адлюстраваныя ў прэсе Беларусі й беларускага замежжа.

Большасьць матэрыялаў архіву доктара Раісы Жук-Грышкевіч[4] складаюць дакумэнты, запрашэньні й праграмы беларускіх мерапрыемстваў ды пэрыядычныя выданьні Згуртаваньня беларусаў Канады (Камунікат ЗБК) і Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, Рады БНР на выгнаньні й іншых беларускіх арганізацыяў Канады. Цікавым для гісторыкаў можа быць тэчка зь ліставаньнем Вінцэнта Жук-Грышкевіча з доктарам *V. J. Kaye* (Уладзімерам Кісялеўскім), канадыйска-ўкраінскім гісторыкам і чыноўнікам Канадыйскага аддзелу нацыянальнасьцяў і іміграцыі, першым прэзыдэнтам Канадыйскай асацыяцыі славістаў, які ў 1950—1960-х працаваў над манаграфіяй, прысьвечанай беларусам Канады.

Асаблівай увагі заслугоўвае калекцыя доктара Вітаўта Кіпеля[5]. Асноўную частку яе складаюць манускрыпты беларускай (1993) і ангельскай (1999) вэрсіяў кнігі „Беларусы ў ЗША“ ды матэрыялы, якія зьбіраў і апрацоўваў аўтар падчас дасьледнае працы. Некаторыя запісы й знаходкі, зробленыя Вітаўтам Кіпелем, з розных прычынаў не ўвайшлі ні ў беларускі, ні ў ангельскі варыянты кнігі, але могуць быць карыснай крыніцай для дасьледнікаў беларускага жыцьця ў Амэрыцы.

Калекцыя доктара Кіпеля ўтрымлівае таксама багата матэрыялаў адносна дзейнасьці розных беларускіх эміграцыйных установаў і арганізацый, такіх як Радыё „Вызваленьне“ (пазьней Радыё „Свабода“), Беларускі інстытут навукі й мастацтваў (БІНіМ), Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларуская Цэнтральная Рада. Шырока прадстаўленыя ў фондзе дакумэнты й друкі з беларускіх мерапрыемстваў у межах амэрыканскіх этнічных фэстываляў, шматлікіх выставаў, арганізаваных Нью-ёрскай публічнай бібліятэкай. Уражвае геаграфічны дыяпазон матэрыялаў, сабраных Вітаўтам Кіпелем, што здолеў знайсьці беларускія сьляды як у розных закутках ЗША, гэтак і ў іншых краінах і нават кантынэнтах. Прадстаўленыя тут амаль усе арганізацыі, што былі

[3] Andrusyshyn, Bohdan, Papers http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/am/ihrc207.html.

[4] Zuk-Hryskievic, Raisa, Papers http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/z/ihrc2932.html.

створаныя імігрантамі беларускага паходжаньня ў заходнім сьвеце на момант перадачы гэтай калекцыі ў *IHRC*-Архіў.

Каштоўныя і матэрыялы, прысьвечаныя беларускаму рэлігійнаму жыцьцю ў замежжы. Сярод іх варта адзначыць ліставаньне Вітаўта Кіпеля са сьвятарамі й сьвецкімі актывістамі розных канфэсіяў: айцамі Францішкам Чарняўскім, Апанасам Рэшацем, Пётрам Татарыновічам, архімандрытам Язэпам Строкам, айцом Карпам Старам, Уладзіславам Рыжым-Рыскім, Міколам Сенькам, Вацлавам Пануцэвічам, Антонам Шукелойцем і іншымі.

Недасяжным да апошняга часу для дасьледнікаў скарбам ёсьць невялікая паводле памеру (толькі адна архіўная скрынка), але вельмі зьмястоўная калекцыя грамадзкага й царкоўнага актывіста з Чыкага Васіля Пунтуса[6]. Чаго вартая перапіска з такімі асобамі, як а. Мікалай Лапіцкі зь Нью-Джэрзі, а. Міхась Іскрыцкі з Манчэстэру, архіяпіскап Апанас Мартас, Дзьмітры Касмовіч, Аляксандар Асіповіч-Асіпчык. Дасьледнікам беларускага царкоўнага жыцьця ў замежжы цікава будзе пазнаёміцца з матэрыяламі Чыкагскай праваслаўнай парафіі Сьв. Юр'я й кадравымі пытаньнямі, што ўзьніклі ў гэтай грамадзе ў 1960-х гг. Некаторыя дакумэнты гэтага фонду асьвятляюць сытуацыю зь пераходам беларускіх праваслаўных япіскапаў зь беларускае да расейскае праваслаўнае царквы й рэакцыю на гэта з боку нацыянальна сьведамых беларусаў. Нутранае жыцьцё беларускіх арганізацыяў Чыкага добра ілюструецца паперамі мясцовага Беларускага каардынацыйнага камітэту, пратаколамі паседжаньняў і ліставаньнем Васіля Пунтуса зь іншымі дзеячамі беларускага замежжа. Манускрыпты беларускай радыёпраграмы „Нёман“, што працавала пад кіраўніцтвам Нікадыма Жызьнеўскага ў 1960-х—1980-х гг. у Чыкага, чарнавікі сьвяточных прамоваў, розныя запрашэньні й абвесткі сьведчаць пра насычанасьць і багацьце культурнага й грамадзкага жыцьця беларускай дыяспары ў 1950—1980-х гг.

Прыватны архіў Вацлава Пануцэвіча[7] мае ў сабе дзьве групы матэрыялаў: непасрэдна самога Пануцэвіча й брата ягонай жонкі Клары (Ірэны) Часлава Будзькі. Унікальныя рукапісы перакладаў літургічных

---

[5] Kipel, Vitaut, Papers http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/ka/ihrc1210.html.

[6] Puntus, Vasil (William), Papers http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/po/ihrc2206.html.

[7] Panucevich, Vaclau, Papers http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/pa/ihrc2035.html.

тэкстаў як рымскае, гэтак і бізантыйскае традыцыі, зробленыя Пануцэвічам, яшчэ чакаюць сваіх дасьледнікаў-багасловаў. Царкоўныя гісторыкі знойдуць у гэтай калекцыі мноства крыніцаў з жыцьця адзінага ў Паўночнай Амэрыцы беларускага ўніяцкага прыходу Хрыста Збаўцы, які дзейнічаў да 2004 г. у Чыкага. Зьвяртае на сябе ўвагу кранальнае ліставаньне Вацлава й Клары Пануцэвічаў з Эдвардам і Чаславам Будзькамі, якое яны мелі падчас пераезду зь Нямеччыны ў ЗША ў 1951 г. Карэспандэнцыя Часлава Будзькі й Вацлава Пануцэвіча зь беларускімі нацыянальнымі й царкоўнымі дзеячамі, такімі як а. Язэп (Апанас) Рэшаць, Янка Чарапук-Змагар, дакумэнты перадваеннага заходнебеларускага пэрыяду й часоў быцьця ў лягеры для перамешчаных асобаў у Нямеччыне, чарнавікі гістарычных працаў — усе гэтыя скарбы яшчэ чакаюць ўважлівага вока дасьледнікаў гісторыі беларускага жыцьця ў замежжы.

У дадатак да беларускіх архіўных матэрыялаў *IHRC*-Архіў мае таксама калекцыю раньніх (1940—1960) беларускіх эміграцыйных пэрыядычных выданьняў з ЗША ды іншых краінаў. На вялікі жаль, друкі больш позьняга пэрыяду цяпер не зьбіраюцца праз недахоп месца ў памяшканьнях Цэнтру.

Не зважаючы на сьціплую колькасьць беларускіх калекцыяў у Мінэсоце, нельга не адзначыць іх важнасьць для дасьледаваньняў гісторыі эміграцыі. На жаль, праз геаграфічную аддаленасьць штату Мінэсота ад буйных эўрапейскіх і амэрыканскіх акадэмічных цэнтраў да апошняга часу гэтыя фонды заставаліся па-за ўвагай навукоўцаў Беларусі й дыяспары. Але ў сёньняшнім глябальным сьвеце, калі абмен інфармацыяй на адлегласьці робіцца з кожным годам усё прасьцейшы, атрыманьне належных матэрыялаў з архіваў Цэнтру ня ёсьць нечым немагчымым. Супрацоўнікі з радасьцю дапамогуць тым, хто зьвернецца да іх праз электронную пошту ці тэлефон. Дэталёвую кантактную інфармацыю можна знайсьці на старонцы Цэнтру http://ihrc.umn.edu/.

**Калекцыя Раісы Жук-Грышкевіч**

*Даты: 1948—2003*
*Памер: 1 лінейны фут (30,48 см)*
*Мовы матэрыялаў: ангельская й беларуская*
*Парадкавы нумар калекцыі: IHRC2932*
*Калекцыя была атрыманая ад Раісы Жук-Грышкевіч цягам 2003—2007 гг. і апрацаваная Ігарам Лабацэвічам у 2010 г.*

**Сэрыя 1. Беларускія арганізацыі Канады: Згуртаваньне беларусаў Канады, Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, Задзіночаньне беларускіх жанчын Канады**

***Скрыня 1***

Тэчка 1. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1948—1964.

Тэчка 2. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1965—1969, разнастайныя дакумэнты (запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі), зьвязаныя з гісторыяй Згуртаваньня беларусаў Канады 1965—1969 гг.

Тэчка 3. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1970—1975, разнастайныя дакумэнты (запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі), зьвязаныя з гісторыяй Згуртаваньня беларусаў Канады 1970—1975 гг.

Тэчка 4. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1976—1979, разнастайныя дакумэнты (запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі), зьвязаныя з гісторыяй Згуртаваньня беларусаў Канады 1976—1979 гг. Афіцыйная карэспандэнцыя розных беларускіх арганізацыяў і дзеячаў з урадам Канады адносна прапановы канадыйскага аддзелу статыстыкі лічыць беларускую мову дыялектам расейскай.

Тэчка 5. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1980—1989, разнастайныя дакумэнты (запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі) зьвязаныя з гісторыяй Згуртаваньня беларусаў Канады й Задзіночаньня беларускіх жанчын Канады 1980—1989 гг.

Тэчка 6. Камунікат Згуртаваньня беларусаў Канады, 1990—1991, разнастайныя дакумэнты (запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі) зьвязаныя з гісторыяй Згуртаваньня беларусаў Канады й Задзіночаньня беларускіх жанчын Канады, Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі 1990—1991 гг.

Тэчка 7. Камунікат Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, 1992. Выданьне Апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы, мітрафорнага пратаярэя Аляксандра Надсана *„Belarusian Radiation Appeal Newsletter“*. Карэспандэнцыя зь Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў. Запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі й выразкі з газэтаў і часопісаў, зьвязаныя з культурным і рэлігійным жыцьцём беларускай дыяспары ў Канадзе й наступствамі Чарнобыльскай катастрофы.

Тэчка 8. Камунікаты Згуртаваньня беларусаў Канады, 1994. Карэспандэнцыя з рознымі канадыйскімі й міжнароднымі арганізацыямі ў

справах дапамогі ахвярам Чарнобылю, запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, паштовыя карткі, зьвязаныя зь дзейнасьцю Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады 1994 г.

***Скрыня 2***

Тэчка 1. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1995.

Частка 1 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1995) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе.

Тэчка 2. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1995.

Частка 2 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1995) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі пасьля парлямэнцкіх выбараў 1995 г. Карэспандэнцыя Раісы Жук-Грышкевіч з арганізацыйным камітэтам Міжнароднай матэматычнай алімпіяды ў Таронта (1995).

Тэчка 3. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1996.

Частка 1 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1996) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе, палітычнай сытуацыі ў Беларусі й дзейнасьці Рады БНР.

Тэчка 4. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1996.

Частка 2 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1996) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 5. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1997.

Частка 1 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1997) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 6. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, 1997.

Частка 2 Камунікатаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (1997) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі. Копія артыкулу аўтарства Вінцэнта Жук-Грышкевіча з часопісу „Крыніца“.

***Скрыня 3***

Тэчка 1. Дакумэнты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2000) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 2. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2000) і розная карэспандэнцыя, датычная дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 3. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2001) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 4. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2001), артыкулы з газэтаў і часопісаў і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 5. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2002) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 6. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2002) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

Тэчка 7. Камунікаты Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады (2003) і розная карэспандэнцыя адносна дзейнасьці беларускай дыяспары ў Канадзе й палітычнай сытуацыі ў Беларусі.

**Сэрыя 2. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні**

Бюлетэні й пэрыядычныя выданьні Рады БНР. Утрымлівае брашуру Вінцэнта Жук-Грышкевіча „25 Сакавіка“.

***Скрыня 4***

Тэчка 1. Бюлетэні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні (1957—1962: №1 — 1957 і №№2, 3 — 1962).

Тэчка 2. Бюлетэні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні (1970—1982).

**Сэрыя 3. Карэспандэнцыя Др Вінцэнта Жук-Грышкевіча з Др Уладзімерам Кае з канадыйскага аддзелу грамадзянства й іміграцыі**

***Скрыня 4 (працяг)***

Тэчка 3. Карэспандэнцыя Др Вінцэнта Жук-Грышкевіча з Др Уладзімерам Кае з канадыйскага аддзелу грамадзянства й іміграцыі, 1958—1964.

Др Уладзімер Кае (сапраўднае імя — Уладзімер Кісялеўскі, 1896—1976) быў украінскім канадыйскім гісторыкам і дзяржаўным дзеячам,

першым прэзыдэнтам Канадыйскай асацыяцыі славістаў, адказным за сувязі Канадыйскага аддзелу па справах грамадзянства й іміграцыі, які на момант ліставаньня зь Вінцэнтам Жук-Грышкевічам працаваў над напісаньнем тэксту пра беларускую дыяспару ў Канадзе.

Тэчка 4. „25-га Сакавіка: Успаміны зь Менску, Будслава, Вільні, Прагі, савецкай турмы. Выдавецкі фонд успамінаў зь беларускага жыцьця, Таронта, 1978.

**Калекцыя Вітаўта Кіпеля**

*Даты: 1950—2000*
*Памер: 20 лінейных футаў*
*Мовы калекцыі: беларуская і ангельская.*
*Парадкавы нумар калекцыі: IHRC1210*
*Калекцыя была атрыманая ад Др Вітаўта Кіпеля ў 2004 г. і апрацаваная Ігарам Лабацэвічам у 2010 г.*

**Сэрыя 1. Асабістыя й біяграфічныя матэрыялы сям'і Кіпеляў**

Артыкулы й публікацыі Вітаўта, Зоры й Алесі Кіпель, якія ня зьвязаныя з кнігай „Беларусы ў ЗША“. Газэтныя й часопісныя артыкулы, кніжныя рэцэнзіі, зьвязаныя зь сям'ёй Кіпеляў.

***Скрыня 1***

Тэчка 1. Лісты, фатаздымкі, копіі ганаровага дыплёму *Doctor honoris causa*, атрыманага доктарам Кіпелем ад Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, школьны нататнік Вітаўта Кіпеля. Пасьведчаньні аб настаўніцкіх кваліфікацыях Марыі Кіпель, яе дыплём, сяброўскае пасьведчаньне Згуртаваньня беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў, іншыя матэрыялы.

Тэчка 2. Артыкулы й газэтныя выразкі з амэрыканскай, беларускай, польскай і ўкраінскай прэсы, якія асьвятляюць навуковую й грамадзкую дзейнасьць Др Вітаўта Кіпеля. (*„Herald News“*, *„South Bergenite“, „Daily news“, „The Record“, „Ukrainian weekly“,* „Магілёўская праўда“, „Навіны“, „Крыніца“, „Гомельскі ўніверсітэт“). Праграмы міжнароднай канфэрэнцыі „Рым-IV (Гродна, 1993) і „Беларуска-амэрыканскія гісторыка-культурныя адносіны“ (Менск, 1994), Міжнароднага кангрэсу беларусістаў (Менск, 1991).

Тэчка 3. Артыкулы й паперы канфэрэнцыяў аўтарства Др Вітаўта Кіпеля. Уключае працу *„Les Lĭpidolites de la Pegmatite de Manono*

*(Katanga)"* (1956) аўтарства *J. Thoreau*, *M. Van Meerssche* й Вітаўта Кіпеля (*Bullitin de la Classe des Sciences, Acadŭmie royale de Belgique*), тэксты праграмаў радыёперадачаў, нататкі.

Тэчка 4. Матэрыялы да кнігі: *Belarusian Statehood. Reader and Bibliography / Ed.: Vitaut Kipel and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.*

Тэчка 5. Публікацыі, манускрыпты, артыкулы, прэзэнтацыі й нататкі Зоры Кіпель.

*„Folk Dances, Annotated list of Audio-Visual Materials"*, *„Molly-Penelope"* (прэзэнтацыя для сэмінару па параўнальным літаратуразнаўстве), *„Belarusian Art Literature Collections"*, матэрыялы выставы *„Christmas traditions in Byelorussia"* (частка *Holiday heritage program*), тэкст беларускай вясельнай тэатральнай п'есы, „Повязі Рэчыцы з Амэрыкай на пачатку XVII ст.", „Праблемы распаўсюджваньня беларускай інфармацыі", *„Local Ethnic Elements in the 16th Century Byelorussian Tristan"*, *„Two unique 16th Century Byelorussian povesti: Tristan and Tundal"*, *„Image of Tristan in a 16th Century Byelorussian Tristan"*.

Тэчка 6. Два рэфэраты аўтарства Алесі Кіпель.

**Сэрыя 2. *„Belarusans in the United States"* (1999)**

Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля *„Belarusans in the United States"*, 1999.

***Скрыня 2***

Тэчкі 1—7. Матэрыялы да разьдзелу *„Conceptualizing Belarus"*.

Тэчкі 8—14. Матэрыялы да разьдзелу *„Research, Publications, and Pertinent Statistics on Belarusan Emigration/Immigration"*.

***Скрыня 3***

Тэчка 1. Матэрыялы да разьдзелу *„Research, Publications, and Pertinent Statistics on Belarusan Emigration/Immigration"*.

Тэчкі 2—6. Матэрыялы да разьдзелу *„Some Ethnic Characteristics of Belarusans"*.

Тэчкі 7—13. Матэрыялы да разьдзелу *„Waves and causes of Emigration from Belarus"*.

Тэчкі 14—17. Матэрыялы да разьдзелу *„Distribution. First Jobs"*.

***Скрыня 4***

Тэчкі 1—7. Матэрыялы да разьдзелу *„Initial contacts with Organizations and the Beginning of Ethnic Awareness"*.

Тэчкі 8—12. Матэрыялы да разьдзелу *„Origins and Development of Belarusan Organizations“*.

***Скрыня 5***

Тэчкі 1—10. Матэрыялы да разьдзелу *„The Belarusan Masses Prior to World War II, and the War Years“*.

***Скрыня 6***

Тэчкі 1—6. Матэрыялы да разьдзелу *„The Post-World War II Wave of Belarusan Immigration“*.

Тэчкі 7—11. Матэрыялы да разьдзелу *„Religious Structures“*.

***Скрыня 7***

Тэчкі 1—6. Матэрыялы да разьдзелу *„Activities“*.

Тэчкі 7—11. Матэрыялы да разьдзелу *„Publishing, Belarusica in Print media, Readership, Records, Radio, and TV Coverage“*.

***Скрыня 8***

Тэчкі 1—10. Матэрыялы да разьдзелу *„Belarusian-American Heritage and Relations“*.

Тэчкі 11—14. Матэрыялы да разьдзелу *„Acquired characteristics of Belarusan-Americans“*.

Тэчка 15. Матэрыялы да разьдзелу *„Conclusion“*.

**Сэрыя 3. „Беларусы ў ЗША“ (1993)**

Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993).

***Скрыня 9***

Тэчка 1. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993). Копіі артыкулаў з *Slavonic Encyclopaedia, NY* 1949, копіі артыкулу *„Russia“* аўтарства *Hans von Eckardt* (*NY,* 1932).

Тэчка 2. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993). Копіі старонак газэтаў „Раніца“, „Крывіч“, „Беларуская трыбуна“, копіі пасьведчаньняў, выдадзеных Радай БНР Янку Чарапуку, ліст Старшыні Рады БНР Пётры Крэчэўскага да Янкі Чарапука.

Тэчка 3. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993).

Пастановы Рады Народных Камісараў БССР у справах эміграцыі (1925), нэкралёгі актывістаў беларускай дыяспары (1920—1965).

Тэчка 4. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993). Копіі артыкулаў з часопісу *„Новый мир“* (1935).

Тэчкі 5—6. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія).

Тэчкі 7—13. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія). Аўтарскія нататкі, артыкулы з замежнай прэсы (украінска-амэрыканская газэта „Амэрыка“), беларускай эміграцыйнай прэсы, афіцыйнага выданьня Кангрэсу ЗША *„Congressional record“*, два спэцыяльныя даклады Камітэту ў справах камуністычнай агрэсіі Палаты прадстаўнікоў ЗША (*the Select Committee on Communist Aggression of the House of Representatives*) ды камітэту па антыамэрыканскіх дзеяньнях (*the Committee on the Un-American Activities*) і іншыя матэрыялы, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія).

Тэчка 14—16. Бібліяграфічныя матэрыялы, манускрыпты й іншыя дакумэнты, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія). Матэрыялы пра рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі ды сярод беларусаў ЗША. Таксама ўтрымлівае копію матэрыялаў канфэрэнцыі маладых навукоўцаў Беларусі, сэрыя „Гісторыя, лінгвістыка і літаратура“ (1963); фрагмэнты *American Eclectic magazine* (травень 1841), копіі старонак „Беларускага календара Нашай Нівы“ (1913), копіі артыкулаў з часопіса *„Новый Мир“*, артыкулы і іншыя матэрыялы.

**Сэрыя 4. Крыніцы кнігі „Беларусы ў ЗША“**

Выразкі з газэтаў, артыкулы і іншыя матэрыялы, зьвязаныя з кнігай Вітаўта Кіпеля „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія)

***Скрыня 10***

Тэчка 1. Аўтарскія нататкі Вітаўта Кіпеля, выразкі з розных амэрыканскіх, польскіх і беларускіх газэтаў і часопісаў.

Тэчка 2. Аўтарскія нататкі Вітаўта Кіпеля, копія інтэрв’ю Язэпа Варонкі газэце *„Рассвет“*, 26 лютага 1936 г., іншыя матэрыялы да кнігі „Беларусы ў ЗША“.

Тэчка 3. Аўтарскія нататкі, выразкі з газэтаў і часопісаў, іншыя матэрыялы, датычныя гісторыі эміграцыі ў ЗША розных славянскіх групаў; афіцыйныя публікацыі зьвестак перапісаў насельніцтва ЗША, іншыя матэрыялы да кнігі „Беларусы ў ЗША“.

Тэчка 4. Аўтарскія бібліяграфічныя нататкі, выразкі з часопісу *„Новый мир“* і іншыя матэрыялы да кнігі „Беларусы ў ЗША“.

Тэчкі 5—7. Аўтарскія бібліяграфічныя нататкі, дэмаграфічная інфармацыя пра беларускую дыяспару, выразкі з газэты „Наша Ніва“, артыкулы й іншыя матэрыялы да кнігі „Беларусы ў ЗША“.

Тэчкі 8—10. Копіі дакумэнту *„Summary of DP Population“* Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (*International Refugee Organization*), іншыя матэрыялы да кнігі „Беларусы ў ЗША“.

***Скрыня 11***

Тэчка 1. Беларускія й замежныя артыкулы пра эканамічную гісторыю Беларусі.

Тэчка 2. Артыкулы з амэрыканскіх і іншых замежных крыніцаў па гісторыі эміграцыі розных славянскіх групаў у Амэрыку.

Тэчка 3. Артыкулы з газэты *„Русский вестник“* і іншых расейскамоўных амэрыканскіх крыніцаў, што асьвятляюць беларускую прысутнасьць у ЗША й сярод амэрыканскіх анархістаў.

Тэчка 4. Артыкулы з чыкагскай газэты *„Русское обозрение“* й бібліяграфічыя нататкі Вітаўта Кіпеля.

Тэчка 5. Артыкулы з амэрыканскіх пэрыядычных выданьняў, якія асьвятляюць дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у ЗША.

Тэчкі 6—7. Артыкулы з часопісу „Хрысьціянская думка“ й газэты „Беларуская крыніца“, бібліяграфічныя нататкі Вітаўта Кіпеля да гісторыі эміграцыі беларусаў з Заходняй Беларусі ў ЗША.

Тэчка 8. Артыкулы з розных амэрыканскіх выданьняў, якія асьвятляюць навуковыя й культурныя дасягненьні беларусаў Амэрыкі й іх культурна-палітычную дзейнасьць (сярод згаданых у тэкстах асобаў — У. Сядура, Ф. Кушаль і інш.).

Тэчкі 9—10. Артыкулы з амэрыканскай, грузінскай, літоўскай, польскай і ўкраінскай прэсы, зьвязаныя зь беларускімі справамі, бібліяграфічныя нататкі Вітаўта Кіпеля.

***Скрыня 12***

Тэчка 1. Артыкулы з газэты *„Ethnic American News“* адносна беларускага палітычнага й культурнага жыцьця ў ЗША.

Тэчка 2. Артыкулы з розных выданьняў, што асьвятляюць беларускія культурныя й палітычныя справы. Кніга М. Мушынскага „Літара-

тура і ідэалагічная барацьба“ (Мінск, 1987), фрагмэнты кнігі *„The New Eastern Europe“* Р. Батлера (*R. Butler, London, 1919*); „Политические партии в Польше, Западной Белоруссии и Западной Украине“ (Мінск, 1935).

Тэчка 3. Розныя артыкулы на тэмы беларускага палітычнага й культурнага жыцьця.

**Сэрыя 5. Розныя лісты, зьвязаныя з кнігай „Беларусы ў ЗША“ (1993, беларуская вэрсія й 1999, ангельская вэрсія)**

***Скрыня 12 (працяг)***

Тэчка 4. Лісты Міхася Сенькі, Генадзя Кахаюўскага, Вінцэнта Мерляка, Сяргея Шупы, Алега Латышонка, Барыса Кіта, Васіля Пунтуса, Часлава Найдзюка, Ванкарэма Нікіфаровіча, Веслава Харужага, праф. Адама Мальдзіса й іншых.

Тэчка 5. Лісты М. Дэбека (*M. Debeck*) да Вітаўта Кіпеля.

Тэчка 6—7. Лісты Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка, падборка нумароў газэты *„The Russian Herald“*.

Тэчка 8. Ліставаньне зь Янам Чарапуком.

**Сэрыя 6. Розныя матэрыялы, зьвязаныя зь беларускім культурным і палітычным жыцьцём на Захадзе**

***Скрыня 13***

Тэчкі 1—10. Агульная інфармацыя пра беларускія арганізацыі: статутныя дакумэнты, бляндкі, лісты, запрашэньні. Матэрыялы, што датычаць беларускіх радыёпраграмаў на Захадзе: Радыё „Вызваленьне“/„Свабода“. Матэрыялы зь дзейнасьці беларускіх арганізацыяў для ўцекачоў у лягерах перамешчаных асобаў. Афіцыйныя дакумэнты Беларуска-амэрыканскай дапамогі (*Belarusian (Whiteruthenian) American Relief, Inc*).

Матэрыялы зьездаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі: праграмы, запрашэньні, артыкулы з газэтаў і часопісаў.

Дакумэнты Рускага аб’яднанага таварыства узаемадапамогі (рас. Русское объединённое общество взаимопомощи в Америке (РООВА)), што сьведчаць пра ўдзел беларусаў у гэтай арганізацыі: матэрыялы да гісторыі адкрыцьця помніка Янку Купалу.

Фінансавыя дакумэнты, статуты, ліставаньне з гісторыі беларускага рэсорту *„Bel-Air“* у Глен-Спэй (штат Нью-Ёрк).

Газэтныя артыкулы й іншыя матэрыялы да гісторыі ўдзелу беларусаў у амэрыканскім анархісцкім руху.

***Скрыня 14***

<u>Тэчкі 1—6.</u> Матэрыялы да гісторыі дзейнасьці Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускага вызвольнага фронту і Аб’яднаньня беларускіх вайскоўцаў у Амэрыцы. Афіцыйная карэспандэнцыя, пэрыядычныя выданьні й іншыя дакумэнты Аб’еднаньня беларускіх лекараў на чужыне, Беларускага студэнцкага саюзу (1920—1930).

Афіцыйная карэспандэнцыя, пратаколы паседжаньняў, выданьні, статуты, праграмы мерапрыемстваў і іншыя матэрыялы Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы. Ліставаньне й дакумэнты Беларуска-індзейскага таварыства (Гомель).

Карэспандэнцыя, пратаколы паседжаньняў, блянкі, праграмы мерапрыемстваў, запрашэньні, статуты, сьпісы публікацыяў, памятныя паштовыя значкі на 450-ю гадавіну кнігадрукаваньня ў Беларусі (1972) і іншыя матэрыялы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

**Сэрыя 7. Культурныя, навуковыя і палітычныя падзеі ў ЗША, зьвязаныя зь беларусамі**

Матэрыялы да гісторыі культурных, навуковых і палітычных падзеяў і мерапрыемстваў у ЗША, зьвязаных зь Беларусьсю: канфэрэнцыя ў Інстытуце Кенана, беларускія калекцыі ў амэрыканскіх бібліятэках і іншых арганізацыях.

***Скрыня 14 (працяг)***

<u>Тэчкі 7—11.</u> Даклад 1988 г. Інстытута Кенана, беларускія праграмы й запрашэньні на Сусьветную выставу ЭКСПО 1964 г. у Нью-Ёрку, матэрыялы да беларускага ўдзелу ў Тыдні паняволеных народаў, у 200-гадовым юбілеі ЗША, дзейнасьці беларусаў у дэмакратычнай і рэспубліканскай партыях ЗША.

***Скрыня 15***

<u>Тэчкі 1—11.</u> Ліставаньне, артыкулы, нататкі й іншыя матэрыялы адносна беларускіх калекцыяў у амэрыканскіх бібліятэках. Рукапісы артыкулаў Вітаўта Кіпеля *„Byelorussia at the New York Public Library“* і *„Resources of Byelorussian Materials in American Libraries“*.

Матэрыялы па выставах *„Landmarks of Byelorussian Literature“* (1957), *„450 years of Belarusian printing“* (1967), *„Bards of Byelorussian Literature“* (1982), *„Byelorussian Evening in Commemoration of the 500th Anniversary of the Birth of Frantsysk Skaryna“* (1990) і іншых мерапрыемстваў у Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы (*NYPL*). Запрашэньні, по-

стэры, нататкі, праграмы мерапрыемстваў, газэты, лісты й іншыя матэрыялы з гэтых падзеяў.

**Сэрыя 8. Матэрыялы адносна культурнай і палітычнай дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у розных рэгіёнах ЗША**

***Скрыня 16***

Тэчкі 1—3. Матэрыялы да гісторыі беларускіх арганізацыяў у Чыкага. Копіі лістоў Ігната Лабача, а. Янкі Тарасэвіча, Янкі Чарапука. Нататкі й рукапісы Вітаўта Кіпеля, афіцыйныя публікацыі Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага, Арганізацыі беларуска-амэрыканскай моладзі штату Ілінойс і іншых беларускіх арганізацыяў.

Тэчка 4. Матэрыялы да гісторыі беларускіх арганізацыяў у Каліфорніі. Газэтныя артыкулы, постэры, праграмы мерапрыемстваў, артыкулы, лісты Часлава Найдзюка й фатаздымкі з розных падзеяў.

Тэчка 5. Ліст Вітаўта Кіпеля пра гісторыю беларусаў у Каларада.

Тэчка 6. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Канэктыкут.

Тэчка 7. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Мэрылэнд. Лісты Зоры Кіпель, Васіля Мельяновіча, ліставаньне Вітаўта Кіпеля з П. Фенчакам, артыкулы й іншыя матэрыялы.

Тэчка 8. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Масачусэтс.

***Скрыня 17***

Тэчка 1. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Мічыган. Статут „Асацыяцыі беларусаў і маларосаў у Гранд Рапідз“ (1914), лісты Язэпа Сажыча, Др Дж. Сыманса (унівэрсытэт Дэтройту), а. Янкі Бруцкага (пазьней мітрапаліта БАПЦ Ізяслава), Міколы Прускага, пратаколы першага паседжаньня беларусаў Дэтройту, артыкул Вітаўта Кіпеля *„Belarusians in Detroit“*.

Тэчка 2. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Нью-Ёрк. Лісты Пола Нэдвэла (*Paul Nedwell*), украінскага празаіка й паэта, да Галіны Тумаш. Афіцыйны ліст Згуртаваньня беларускіх камбатантаў, нататкі Вітаўта Кіпеля, іншыя матэрыялы да гісторыі беларусаў Нью-Ёрку.

Тэчка 3. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Пэнсыльванія. Праграмы славянскіх фальклёрных фэстываляў у Пэнсыльваніі (*Penn State Slavic Folk Festivals*), ліставаньне з Чэстэрам Кулешам (*Chester Kulesa*), куратарам калекцыяў у Антрацыт-музэі культурнае

спадчыны ў Скрэнтане (*Anthracite Heritage Museum*), артыкулы на тэму славянскае прысутнасьці ў Пэнсыльваніі.

Тэчка 4. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Агаё. Нататкі Вітаўта Кіпеля, матэрыялы зь дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Рэспубліканскай партыі ЗША, ліставаньне зь Сяргеем Карніловічам і В. Дунцом.

***Скрыня 18***

Тэчкі 1—4. Матэрыялы да гісторыі беларускага жыцьця ў штаце Нью-Джэрзі: ліставаньне, газэтныя артыкулы, запрашэньні на мерапрыемствы, постэры, нататкі Вітаўта Кіпеля, іншыя матэрыялы да гісторыі беларускіх фэстываляў і іншых мерапрыемстваў зь беларускім удзелам у Нью-Джэрзі.

***Скрыня 19***

Тэчкі 1—4. Лісты, нататкі, газэтныя артыкулы, постэры да гісторыі ўдзелу беларусаў у мерапрыемствах Дарадчага камітэту па справах нацыянальнасьцяў штату Нью-Джэрзі (*Ethnic Advisory Committee*), фонду *Garden State Arts Center Cultural Fund* і іншых падзеяў зь беларускага жыцьця ў штаце Нью-Джэрзі.

Тэчка 5. Біяграфіі, постэры, газэтныя артыкулы, праграмы выставаў і канфэрэнцыяў з удзелам беларускіх музыкаў, мастакоў і літаратараў. Матэрыялы канфэрэнцыяў: *„450th Anniversary of the Statute of the Grand Duchy of Lithuania“* (унівэрсытэт у Кліўлэндзе, 1980), *„Book Studies in the Soviet Union and Eastern Europe“* (бібліятэка Кангрэсу ЗША й Амэрыканская асацыяцыя славянскіх студыяў, 1985), „Фармаваньне і разьвіцьцё беларускай нацыянальнай сьвядомасьці“ (Маладзечна, 1992), *„An Evening with Byelorussian Writers“* (Квінс-каледж у Флашынгу (Нью-Ёрк), 1976—1986) і іншыя.

Выставы: штогадовыя выставы беларускіх рамёстваў і мастацтваў розных гадоў, выстава новых мастацкіх працаў беларускіх дзяцей, пацярпелых ад Чарнобыльскае катастрофы „Дзеці Чарнобылю“ (Чыкага, 1994).

Канцэрты: Пётры Конюха (Нью-Ёрк, 1957), ансамблю беларускіх студэнтаў (Лёндан, 1954); Надзеі Градэ й Пётры Конюха з праф. Міколам Куліковічам. Матэрыялы пра мастакоў: Тамару Стагановіч, Ірэну Рагалевіч, Віктара Жаўняровіча, Пётру Мірановіча, Анатоля Каплана.

**Сэрыя 9. Матэрыялы культурна-палітычнай дзейнасьці беларускіх арганізацыяў Канады, Эўропы, Паўднёвай Амэрыкі й Аўстраліі**

***Скрыня 19 (працяг)***

Тэчка 6. Матэрыялы пра культурна-палітычную дзейнасьць беларускіх арганізацыяў Аўстраліі: газэтныя артыкулы, ліставаньне, запрашэньні, ліст падрыхтоўчага камітэту 7-й сустрэчы беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне.

Тэчка 7. Матэрыялы пра культурна-палітычную дзейнасьць беларускіх арганізацыяў Канады: газэтныя артыкулы, ліставаньне, праграмы мерапрыемстваў і запрашэньні, пэрыядычныя выданьні Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, Фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю, ліставаньне Раісы Жук-Грышкевіч з канадыйскімі ўладамі ў справе перапісу насельніцтва 1981 г., іншыя дакумэнты зь беларускага жыцьця ў Канадзе.

***Скрыня 20***

Тэчка 1. Матэрыялы пра культурна-палітычную дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у Аргентыне.

Тэчка 2. Матэрыялы пра культурна-палітычную дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у краінах Заходняй і Цэнтральнай Эўропы: Чэхіі, Францыі й Швэцыі.

Тэчка 3. Артыкулы й іншыя крыніцы да гісторыі беларускай іміграцыі ў ЗША: копіі разьдзелаў кнігі „Маладая Беларусь“ (Санкт-Пецярбург, 1912), „Беларуская мова ў школах Беларусі“ кс. Адама Станкевіча, „Рады для эмігрантаў, каторыя едуць у Амэрыку, а такжэ размовы беларуска-англіцкіе“ Я. Акаловіча (Вільня, 1912).

**Сэрыя 10. Матэрыялы да гісторыі, палітыкі, дэмаграфічных і этнічных дасьледаваньняў Беларусі**

***Скрыня 20 (працяг)***

Тэчка 4. Агульныя матэрыялы па гісторыі Беларусі й пра гістарычныя зьмены ў саманазьве краіны.

Тэчка 5. Матэрыялы адносна дэмаграфічнай сытуацыі ў Беларусі. Артыкулы й лісты ў ангельскай, беларускай і расейскай мовах.

Тэчка 6. Матэрыялы да гісторыі эміграцыі зь Беларусі. Ліставаньне, газэтныя артыкулы, статыстычная інфармацыя. Транскрыпты дакумэнтаў з розных архіваў па тэме беларускай іміграцыі ў Амэрыку.

Тэчка 7. Матэрыялы, прысьвечаныя моўнай сытуацыі ў Беларусі, палітыцы русыфікацыі й палянізацыі беларускага насельніцтва.

Тэчка 8. Мапы Беларусі.

Тэчка 9. Матэрыялы да гісторыі Беларусі да 1917 г. *„Rosyjskie Rządy na Białej Rusi“* др. Т. С. Грабоўскага, іншыя артыкулы.

***Скрыня 21***

Тэчка 1. Матэрыялы да гісторыі савецка-польскай і расейскай грамадзянскай войнаў на тэрыторыі Беларусі й наступстваў Рыскай і Брэст-Літоўскай дамоваў для Беларусі. Копіі газэты „Беларускі звон“ (1921—1922), *„Struggling Russia“* (Нью-Ёрк, 1919—1920).

Тэчка 2. Матэрыялы да гісторыі стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі й Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Артыкулы, нататкі, копіі афіцыйных лістоў Ураду БНР.

Тэчка 3. Матэрыялы да гісторыі Слуцкага паўстаньня 1920 г.

Тэчка 4. Артыкулы па гісторыі Беларусі ў 1920—1940. Лятарэйныя квіткі СССР (1949), брашура Антона Луцкевіча „За 25-ць гадоў“.

Тэчка 5. Нататкі, газэтныя артыкулы й іншыя матэрыялы да гісторыі Беларусі ў Другой сусьветнай вайне.

Тэчка 6. Матэрыялы адносна публікацыі кнігі Джона Лофтуса „Беларускі сакрэт“ (*„Belarus Secret“, NY, 1982*).

Тэчка 7. Беларусь пасьля Другой сусьветнай вайны да 1989 г. Матэрыялы да гісторыі абароны правоў чалавека ў Беларусі, артыкулы, паштоўкі.

Тэчка 8. Матэрыялы да гісторыі барацьбы за незалежнасьць Беларусі ў 1988—1991 гг.

***Скрыня 22***

Тэчка 1. Матэрыялы да гісторыі палітычнага й культурнага жыцьця Беларусі ў 1991—1999 гг.

Тэчка 2. Матэрыялы да гісторыі сталінскага генацыду на Беларусі, масавых забойстваў у Курапатах пад Менскам.

Тэчка 3. Матэрыялы да гісторыі Чарнобыльскай катастрофы й яе наступстваў для Беларусі.

Тэчка 4—8. Матэрыялы да гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні. Фатаздымкі, артыкулы, іншыя матэрыялы сьвяткаваньня 75-й гадавіны абвяшчэньня БНР. Матэрыялы 14-й,15-й, 16-й і 20-й сэсіяў Рады БНР.

***Скрыня 23***

Тэчка 1. Матэрыялы да гісторыі ўзаемадачыненьняў беларуска-амэрыканскай супольнасьці з рознымі дзяржаўнымі й недзяржаўнымі арганізацыямі Беларусі. Лісты й фінансавыя справаздачы амэрыканскага аддзелу Таварыства беларускай мовы, лісты Таварыства беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“, артыкулы, брашуры.

Тэчка 2—3. Матэрыялы да гісторыі міжнацыянальных дачыненьняў у Беларусі. Газэтныя артыкулы, часткі манаграфіі „Аспэкты сучаснай Беларусі“ *(Aspects of Contemporary Belorussia. University of Chicago, 1955*); праца С. М. Горака „Нерасейскія нацыянальнасьці СССР у амэрыканскіх дасьледаваньнях“ (*Horak, S. M. Non-Russian Nationalities of the USSR in American Studies*); праца В. Чартарыскага й Р. Мардасевіча „Беларусы ў Амэрыцы“ (*Czartorysky, V., Mardarewich, R. Byelorussians in America*), разьдзел з кнігі В. М. Мандэля „Савецкі, але ня рускі“ (*Mandel, W. M. Soviet but not Russian*); артыкул Р. Шпарлюка „Нацыянальная гісторыя як палітычнае поле бітвы: прыклад Украіны й Беларусі“ (*Szporluk, R. National History as a Political Battleground: the Case of Ukraine and Belorussia*).

Тэчка 4. Матэрыялы да гісторыі беларускага габрэйства й беларуска-габрэйскіх дачыненьняў. Артыкулы з Габрэйскай энцыкляпэдыі (*Encyclopaedia Judaica*); розныя артыкулы на тэмы габрэйскай літаратуры й жыцьця ў Беларусі. Артыкулы Морыса Гіндуса (*Maurice Hindus*), габрэйска-амэрыканскага пісьменьніка, журналіста й спэцыяліста па савецкіх і цэнтральнаэўрапейскіх пытаньнях. Брашура Зьмітрака Бядулі „Жыды на Беларусі“.

Тэчка 5. Матэрыялы да гісторыі беларуска-літоўскіх дачыненьняў: газэтныя артыкулы, артыкулы зь літоўскай энцыкляпэдыі (*Encyclopedia Lituanica*); праграма канфэрэнцыі „Вялікае Княства Літоўскае й ягоная спадчына“ („Lietuvos Didzoi Kunigaikstyste ir jos Palkimas“, Трокі, 1994); кнігі: *„Gudu klausimas Versales Taikos Konferencijos metu“* і *„Белорусский вопрос к моменту версальской мирной конференции“* аўтарства Язэпа Варонкі, „Міністэрства беларускіх спраў за 10 месяцаў існаваньня“ М. Засецкага, і *„Protocoles officiels des conférences polono-lithuaniennes à Souwalki; aide mémoire concernant les négociations de Souwalki depuis le 30 septembre jusqu'à au 5 octobre 1920“*.

Тэчка 6. Матэрыялы да гісторыі беларуска-польскіх і беларуска-ўкраінскіх дачыненьняў і польскай прысутнасьці ў Амэрыцы. Газэтныя й часопісныя артыкулы, нататкі Вітаўта Кіпеля, кніга Кастуся Езавіта-

ва *„Белоруссы і поляки: документы и факты из истории оккупации Белорусии поляками в 1918—1919 годах“* (1919).

Тэчка 7. Беларуска-амэрыканскія дачыненьні ў сучасны пэрыяд.

Тэчка 8. Матэрыялы да гісторыі польска-беларускай і літоўскай прысутнасьці ў раньнія пэрыяды амэрыканскае гісторыі. Нумар парыскага часопісу „Культура“, эсэ Артура Л. Ўолда (*Arthur L. Waldo*) „Першыя палякі ў Амэрыцы, 1608—1958“ (*„First Poles in America 1608—1958“*); артыкулы на тэму ўдзелу грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага ў амэрыканскай Вайне за незалежнасьць.

**Сэрыя 11. Этнічныя і дэмаграфічныя дасьледаваньні гісторыі іміграцыі ў ЗША**

***Скрыня 24***

Тэчкі 1—3. Матэрыялы да гісторыі міжнацыянальных дачыненьняў у ЗША: статут Амэрыканскай канфэрэнцыі славянскіх навуковых таварыстваў (*Constitution of the American Conference of Slavic Learned Societies*), Беларуска-амэрыканскага выбарчага камітэту (*Belarusian-American election committee*), праграмы фэстываляў і канфэрэнцыяў, дакумэнты Нацыянальнай канфэдэрацыі амэрыканскіх этнічных групаў (*National Confederation of American Ethnic groups*), Камісіі па іміграцыі (*Immigration Commission, 1911*), іншых арганізацыяў.

***Скрыня 25***

Тэчка 1. Матэрыялы амэрыканскіх перапісаў насельніцтва. Даклады дэпартамэнту камэрцыі ЗША, артыкулы прафэсара П. Р. Магочы (*P. R. Magosci*).

Тэчка 2. Дакумэнты Фонду Эліс-Айлэнду (*Ellis Island Foundation*).

**Сэрыя 12. Беларускае рэлігійнае жыцьцё**

Матэрыялы да гісторыі рэлігійнага жыцьця ў Беларусі, Беларускай праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у замежжы, а таксама іншых канфэсіяў.

***Скрыня 25 (працяг)***

Тэчка 3. Матэрыялы да гісторыі беларускіх манахаў-езуітаў у Амэрыцы ў XIX ст. Нататкі Вітаўта Кіпеля, копіі лістоў а. Рамуальда Сушынскага да а. Францішка Дзяружынскага (1835), артыкул В. Б. Фаэрты „Кацярына II і езуіты“ (*Faherty, W.B. Catherine of Russia and the Jesuits*).

Тэчка 4. Рэлігійная сытуацыя ў Беларусі ў часы савецкай акупацыі і ў першыя гады незалежнасьці. Артыкулы Гая Пікарды й Веры Рыч,

надрукаваныя ў каталіцкім часопісе *„The Tablet“* і ў выданьнях Кестанскага інстытуту (*Keston Institute*).

Тэчка 5. Артыкулы, ліставаньне й іншыя матэрыялы зь беларускага каталіцкага жыцьця ў ЗША. Матэрыялы пра беларускіх каталіцкіх сьвятароў а. Францішка Чарняўскага, а. Апанаса Рэшаця, а. Янку Тарасэвіча, лісты старшыні Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады Язэпа Варонкі да розных беларускіх сьвятароў. Лісты а. Францішка Чарняўскага, Янкі Станкевіча, Юркі Віцьбіча, Антона Шукелойця да а. Пётры Татарыновіча.

Тэчка 6. Беларуская грэка-каталіцкая парафія Хрыста Збаўцы ў Чыкага (Ілінойс). Матэрыялы да гісторыі сьвяткаваньня тысячагодзьдзя хрышчэньня Беларусі ў гэтай парафіі ў чэрвені 1988 г., сувэніры са сьвяткаваньня 25-годзьдзя япіскапскай хіратоніі ўладыкі Ўладзімера Тарасэвіча.

***Скрыня 26***

Тэчка 1. Літургічныя пераклады Вацлава Пануцэвіча.

Тэчка 2. Беларуская каталіцкая дзейнасьць у ЗША й Канадзе.

Падборка артыкулаў аўтарства беларускіх сьвятароў-бэнэдыктынцаў з абацтва Сьв. Пракопа ў Лайл (Ілінойс). Артыкулы зь беларускага каталіцкага часопісу „Зьніч“ („Znič“); запрашэньні й праграмы мерапрыемстваў беларускай пілігрымкі да Беларускага крыжа ў Сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе (Антарыё), фатаздымкі мэмарыялу, памятныя карткі-іконкі.

Тэчка 3. Рэлігійна-палітычная дзейнасьць Уладыслава Рыжага-Рыскага й яго пасьлядоўнікаў. Копіі дыплёмаў, выдадзеных Уладыславам Рыжым-Рыскім розным асобам, лісты Людвіка Галубовіча, дакумэнты й газэтныя артыкулы адносна пастановы пракурора штату Нью-Ёрк аб забароне У. Рыжаму-Рыскаму й ягонай арганізацыі „Катэдра навукі“ (*„Cathedral of Learning“*) выдаваць унівэрсытэцкія дыплёмы й навуковыя ступені. Дакумэнты Спэцыяльнага камітэту прэсьвітэрыянскае царквы ў Пітсбургу ў справе пастарскіх кваліфікацыяў Уладыслава Рыжага-Рыскага.

Тэчка 4. Беларускія пратэстанты. Артыкул „Баптысты ў Беларусі“, ліст Амэрыканскага біблійнага таварыства ў справе беларускага біблійнага праекту.

Тэчка 5. Пачаткі праваслаўя ў Амэрыцы, дакумэнты, што адлюстроўваюць беларускую прысутнасьць у амэрыканскіх праваслаўных цэрквах.

Тэчка 6. Дакумэнты да гісторыі беларускага праваслаўя ў Амэрыцы. Артыкул *„Belarusian Orthodox Church in Emigration“*, папяровыя іконкі з рукапіснымі нататкамі архімандрыта Язэпа Строка, нататкі Вітаўта Кіпеля, лісты а. Карпа Стара, беларускія царкоўныя календары.

Тэчка 7. Матэрыялы да гісторыі беларускай царквы ў Мічыгане.

Тэчка 8. Матэрыялы да гісторыі царквы Сьв. Кірыла Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью-Ёрк).

Тэчка 9. Матэрыялы да гісторыі царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Лісты Міхася Сенькі.

Тэчка 10. Матэрыялы да гісторыі царквы Маці Божай Жыровіцкай і беларускай суботняй школы ў Кліўлэндзе (Агаё).

Тэчка 11. Матэрыялы да гісторыі царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага. Царкоўныя газэты, брашуры, запрашэньні, фатаздымкі, лісты Міколы Латушкіна, сакратара царкоўнага камітэту, пратаколы паседжаньняў царкоўнай рады.

Тэчка 12. Матэрыялы да гісторыі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта (Антарыё).

Тэчка 13. Матэрыялы, што адлюстроўваюць гісторыю беларускага праваслаўнага жыцьця ў дыяспары. Лісты, газэтныя выразкі, матэрыялы судовай справы а. Васіля Кендыша супраць царквы ў Гайлэнд Парк (Нью-Джэрзі), справы катэдры Сьв. Кірылы Тураўскага супраць Майкла Томаса (*Michael Tomas*).

**Сэрыя 13. Пэрсаналіі**

Значныя асобы беларусаў на Захадзе.

***Скрыня 27***

Тэчка 1. Матэрыялы з жыцьця й дзейнасьці Барыса Кіта, беларуска-амэрыканскага матэматыка й канструктара амэрыканскай ракетнай тэхнікі.

Тэчка 2. Газэтныя артыкулы, лісты й іншыя матэрыялы пра вядомых беларусаў замежжа й Беларусі: Валянціну Церашкову, Вольгу Корбут, Галіну Русак, генэрала Міколу Дзямідава, Яна Станкевіча.

Тэчка 3. Матэрыялы з жыцьця й дзейнасьці Мацея Смаршчка.

Тэчка 4. Матэрыялы з жыцьця й дзейнасьці Леаніда Грэбеня, яго рэзюмэ й навуковыя публікацыі.

Тэчка 5. Матэрыялы пра навуковую дзейнасьць Яна Пятроўскага, Аўгена Вярбіцкага, Аляксандры Валюшкі, Кастуся Мерляка й інж. Васіля Русака.

Тэчка 6. Матэрыялы да біяграфіі Мікалая Судзілоўскага-Руселя.

Тэчка 7. Паперы й дакумэнты наконт эміграцыі Вацлава Пануцэвіча ў ЗША, лісты чыноўнікаў лягераў перамешчаных асобаў, Польскага эміграцыйнага камітэту, спонсарскія лісты, ліст маёмасьці сям'і Пануцэвічаў, багажная дэклярацыя, пасьведчаньні аб нараджэньні, хросьце й шлюбе.

Тэчка 8. Гай Пікарда, артыкул „*The Allegorical Heraldry of Francis Skaryna*" й ліст да Зоры Кіпель.

**Сэрыя 14. Беларускія паштоўкі, маркі, фатаздымкі**
***Скрыня 28***

Тэчкі 1—3. Паштоўкі, маркі й іншыя матэрыялы беларускай філятэліі. Фатаздымкі, што былі выкарыстаныя ў кнізе „*Belarusans in the United States*" (1999), здымкі розных беларускіх падзеяў у ЗША. Памятныя значкі: капэрта са значкам, выпушчаным на 75-ю гадавіну БНР і 50-ю гадавіну Беларускай Краёвай Абароны (Менск, 1944).

## Калекцыя Вацлава Пануцэвіча

*Даты: 1930—1990*
*Памер: 2 лінейныя футы*
*Мовы: беларуская, ангельская, нямецкая*
*Парадкавы нумар: IHRC2035*
*Калекцыя была атрыманая ад Ірыны Пануцэвіч з Чыкага (Ілінойс) у 1994 г. і апрацаваная Ігарам Лабацэвічам у 2012 г.*

**Сэрыя 1. Лісты й сямейныя дакумэнты**

Ліставаньне Часлава й Эдварда Будзькаў, Клары Пануцэвіч, Вацлава Пануцэвіча, розныя прыватныя сямейныя дакумэнты.

***Скрыня 1***

Тэчка 1. Лісты Часлава й Эдварда Будзькаў да Клары й Вацлава Пануцэвічаў, 1946—1950.

Тэчка 2. Ліставаньне сем'яў Пануцэвічаў і Будзькаў з Нікадымам Жызьнеўскім, Др Янкам Станкевічам, Міхасём Пашкевічам, Чаславам Найдзюком, 1954—1990.

Тэчка 3. Дакумэнты сям'і Будзькаў зь лягеру перамешчаных асобаў (пасьведчаньні асобы, мэдычныя запісы), дакумэнты сацыяльнага забесьпячэньня з ЗША, банкаўскія й страхавыя дакумэнты міжваеннага пэрыяду з Будслава, царкоўныя пасьведчаньні аб нараджэньні й шлюбе, 1920—1960.

Тэчка 4. Ліставаньне Часлава Будзькі, зьвязанае зь ягонай акадэмічнай дзейнасьцю ў беларускай дыяспары, 1950—1990. Ліставаньне з Алесяй, Зорай і Вітаўтам Кіпелямі, а. Аляксандрам Надсанам.

**Сэрыя 2. Гістарычныя дасьледаваньні й літаратурныя працы Часлава Будзькі**

Нататкі, мапы, выразкі, ксэракопіі, зьвязаныя з дасьледаваньнямі Часлава Будзькі па гісторыі Беларусі, ягоныя літаратурныя творы.

***Скрыня 1***

Тэчка 5. Справаздача Часлава Будзькі па мясцовай прэсе ў Савецкай Беларусі. Выразкі з газэтаў, рукапісныя нататкі.

Тэчка 6. Ліставаньне з Др Янкам Запруднікам: лісты й працы Янкі Запрудніка *„Napoleon and Polish Question“* („Напалеон і польскае пытаньне“), *„Russians and American Civil War“* („Расейцы й Грамадзянская вайна ў Амэрыцы“), *„American-Russian and American-Soviet relations“* („Амэрыканска-расейскія й амэрыканска-савецкія адносіны“), *„Western Influendce upon Russia in the 17th Century“* („Заходнія ўплывы на Расею ў XVII стагодзьдзі“).

***Скрыня 2***

Тэчка 1. Мапы Беларусі, Нямеччыны, Скандынавіі й Рэчы Паспалітай.

Тэчка 2. Нататкі Часлава Будзькі пра паходжаньне назвы „Беларусь“. Улёткі Віктара Астроўскага пра слушнае выкарыстаньне назвы „Беларусь“ у заходніх СМІ (апублікавана ў Лёндане, Вялікабрытанія).

Тэчка 3. Разнастайныя газэтныя выразкі й ксэракопіі, зьвязаныя з гісторыяй Беларусі.

Тэчка 4. Рукапісныя нататкі й пераклады сярэднявечных хронікаў і іншых дакумэнтаў, зьвязаных з гісторыяй Беларусі.

Тэчка 5. Нататкі й артыкулы, зьвязаныя з паўстаньнем Кастуся Каліноўскага.

Тэчка 6. Рукапіс раману (аўтарства невядомае, магчыма, Часлава Будзькі).

Тэчка 7. Рукапіс артыкулу „Гісторыя й мэдыцына“.

Тэчка 8. Артыкул Часлава Будзькі „Да гісторыі этнічнай самасьвядомасьці“ (1942), рукапіс „Дарога да Парнас“, нататкі пра беларускую літаратуру.

Тэчка 9. Артыкулы й выразкі з газэтаў, зьвязаныя з жыцьцём і творчасьцю Хведара Ільляшэвіча.

<u>Тэчка 10.</u> Артыкул Генадзя Кісялёва „Гімназічныя і студэнцкія гады Францішка Багушэвіча“.

<u>Тэчка 11.</u> *„Pjata“* — гістарычны раман Ф. Бернатовіча: тэкст і заўвагі Часлава Будзькі.

***Скрыня 3***

<u>Тэчка 1.</u> Гістарычныя нататкі Часлава Будзькі, 1940—1980: чатыры нататнікі, што зьмяшчаюць цытаты з польскіх, нямецкіх і расейскіх гістарычных кнігаў.

**Сэрыя 3. Гістарычныя дасьледаваньні Вацлава Пануцэвіча**

Нататкі, мапы, выразкі з газэтаў, ксэракопіі, зьвязаныя з дасьледаваньнямі Вацлава Пануцэвіча па гісторыі Беларусі.

***Скрыня 3 (працяг)***

<u>Тэчка 2.</u> Нататкі аб Гарадзельскім прывілеі, 1950—1990.

<u>Тэчка 3.</u> Рукапісныя нататкі па гісторыі Беларусі, 1950—1990; артыкулы з газэтаў.

<u>Тэчка 4.</u> Нататкі па гісторыі Беларусі й рукапісы артыкула Вацлава Пануцэвіча „Аб назьве сучаснай Беларусі“, 1950—1990.

<u>Тэчка 5.</u> Нататнікі Вацлава Пануцэвіча й ягоная рукапісная копія кнігі па гісторыі Беларусі (1936).

**Сэрыя 4. Беларускае жыцьцё ў Злучаных Штатах**

Ліставаньне й інфармацыйныя бюлетэні, зьвязаныя зь беларуска-амэрыканскай супольнасьцю, розныя паштоўкі й фатаграфіі, нумары газэты „За волю“.

***Скрыня 4***

<u>Тэчка 1.</u> Беларусы ў Чыкага, 1985—1987: ліставаньне, юбілей праграмы, артыкулы, зьвязаныя з жыцьцём беларускай грамады ў Чыкага.

<u>Тэчка 2.</u> Ліставаньне з газэтай „Беларус“, 1968—1980: ліставаньне Часлава Будзькі й Вацлава Пануцэвіча з газэтай „Беларус“.

<u>Тэчка 3.</u> Асобныя нумары (1991—1993) беларускага бюлетэня „Весткі й паведамленьні“.

<u>Тэчка 4.</u> Паштоўкі й фатаздымкі, 1960—1980: розныя паштоўкі й фатаздымкі, зьвязаныя з удзелам сем’яў Будзькаў і Пануцэвічаў у беларускім жыцьці ў ЗША.

<u>Тэчка 5.</u> Газэта „За волю“, 1940—1950.

**Сэрыя 5. Рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі й беларускай дыяспары**

Матэрыялы, зьвязаныя з гісторыяй беларускага рэлігійнага жыцьця, літургічныя пераклады, лісты.

***Скрыня 4 (працяг)***

Тэчка 6. Беларуская грэка-каталіцкая царква Хрыста Збаўцы ў Чыкага (Ілінойс), 1955—2003: ноты царкоўных сьпеваў, бюлетэні прыходу, артыкулы.

Тэчка 7. Літургічныя пераклады Вацлава Пануцэвіча: 8 нядзельных пракімэнаў, рукапіс тэксту вячэрні, зьменныя часткі Боскай літургіі, рымска-каталіцкая імша ў беларускай мове.

Тэчка 8. А. Язэп (Апанас) Рэшаць, 1940—1958: лісты а. Рэшаця да Часлава Будзькі, Янкі Чарапука-Змагара, паштоўкі, інфармацыйныя бюлетэні, артыкулы.

Тэчка 9. Газэтныя выразкі, нататкі, якія датычаць рэлігійнага жыцьця ў Беларусі.

## Калекцыя Васіля Пунтуса

*Даты: 1950—1990*

*Памер: 0,5 лінейнага фута*

*Мова калекцыі: дакумэнты пераважна ў беларускай і ангельскай зь некаторымі дадатковымі матэрыяламі ў польскай і ўкраінскай мовах*

*Парадкавы нумар калекцыі: IHRC2206*

*Калекцыя была атрыманая ад Кацярыны Пунтус са штату Індыяна ў 1994 г. і апрацаваная ў красавіку 2013 г. Ігарам Лабацэвічам.*

**Сэрыя 1. Беларускія арганізацыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі**

***Скрыня 1***

Тэчка 1. Беларуская праваслаўная царква 1960-х гг.: розная карэспандэнцыя, зьвязаная са справамі Беларускай праваслаўнай царквы. Утрымлівае лісты ад архімандрыта Вісарыёна (Васькова), Уладзімера Фінькоўскага (япіскапа Ўладзімера), камітэта Сьвята-Эўфрасінеўскай беларускай праваслаўнай царквы (Саўт-Рывэр, Нью-Джэрзі), Аляксандра Асіпчыка (Асіповіча), архіяпіскапа Апанаса (Мартаса) з Буэнас-Айрэсу, Міхала Іскрыцкага (пазьней а. Міхаіла Іскрыцкага), япіскапа

Мацьвея (Сямашкі) зь Лёндану, мітрапаліта Мікалая Карсунскага, Экзархата Маскоўскага Патрыярхату ў Францыі, лісты мітрафорнага протаярэя Мікалая Лапіцкага.

Тэчка 2. Беларускія арганізацыі у Чыкага, 1970—1980. Дакумэнты, што сьведчаць пра дзейнасьць беларускіх арганізацый у Чыкага: запрашэньні, праграмы мерапрыемстваў, пратаколы, віншавальныя лісты з розных арганізацый, сьпіс беларусаў Чыкага (сярэдзіна 1970-х гг.), карэспандэнцыя беларускіх арганізацый з урадам ЗША, артыкулы Яўхіма Кіпеля, Радаслава Астроўскага, Івана Касяка; матэрыялы зь дзейнасьці беларускай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага (Ілінойс).

Тэчка 3. Ліставаньне, зьвязанае зь дзейнасьцю Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады, Беларуска-амэрыканскага кангрэсавага камітэту й іншых беларускіх арганізацый, 1959—1980: лісты генэрала Міколы Дзямідава, Івана Касяка, Дзьмітрыя Касмовіча, А. Харэўкі.

Тэчка 4. Нататкі, прамовы, тэксты радыёперадачаў аўтарства Васіля Пунтуса, 1960—1980.

Тэчка 5. Матэрыялы, зьвязаныя зь Беларуска-амэрыканскім кангрэсавым камітэтам і Камітэтам па абароне вязьняў сумленьня ў Беларусі, 1970—1983.

Тэчка 6. Матэрыялы па гісторыі й культуры Беларусі, 1960—1980. Фэстываль беларускай спадчыны ў Нью-Джэрзі (1976), Сусьветны фэстываль у Чыкага (1988), плякаты, улёткі, беларускія пэрыядычныя выданьні *„The World“* (*„S'viet“*), копіі пратаколу кангрэсу (№30, 37, 39).

Таксама ў сэрыі 1 (дадатак 1) знаходзіцца штамп Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады (Чыкага, Ілінойс).

### Сэрыя 2. Сямейная карэспандэнцыя й іншыя матэрыялы

***Скрыня 1***

Тэчка 7. Карэспандэнцыя Васіля Пунтуса са сваякамі ў Беларусі і ў замежжы, 1970—1978.

Тэчка 8. Іншыя матэрыялы: тэксты нямецкіх застольных песьняў і расейскіх прымавак.

*Тэма нумару: Беларусаведныя калекцыі*
*Архівы й архівалії*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# БЕЛАРУСКІЯ МАТЭРЫЯЛЫ Ў ФОНДЗЕ АЛЯКСАНДРА ДАЛІНА Ў ГУВЭРАЎСКІМ АРХІВЕ

Дасьледаваньне савецкай праблематыкі ў часы „халоднай вайны“ на Захадзе было патрэбай часу й геапалітыкі. Ужо ад канца 1940-х сталі распрацоўвацца розныя праекты зьбіраньня матэрыялаў па жыцьцё ў СССР, у тым ліку з прыцягненьнем сьведчаньняў паваенных уцекачоў — людзей, што рабіліся каштоўнай, часам адзінай крыніцай інфармацыі як для заходніх спэцслужбаў, гэтак і для навукоўцаў. Так зьявіўся знакаміты „Гарвардзкі праект інтэрвію ўцекачоў“ (*The Harvard Refugee Interview Project*, пазьней — *The Harvard Project on the Soviet Social System*), што меў на мэце запісы інтэрвію з выхадцамі з СССР, раскіданымі па лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне й Аўстрыі, а таксама прыбылымі на тэрыторыю ЗША. Цягам 1950—1953 гг. амэрыканскія навукоўцы запісалі сотні інтэрвію як біяграфічнага, гэтак і тэматычнага характару[1]. Сабраныя ў тыя часы матэрыялы сталі асновай шмат якіх дасьледаваньняў амэрыканскіх саветолягаў.

Адным з тых, хто працаваў на „Гарвардзкім праекце“, быў пазьнейшы прэзыдэнт Міжнароднай рады па вывучэньні СССР і краінаў Усходняй Эўропы, кансультант Ураду ЗША па пытаньнях замежнай палітыкі, аўтар шэрагу навуковых прац Аляксандар Далін (1924—2004). Ягоная маці Лілія Грынцбэрг (1898—1981) паходзіла зь Ліепая (сучасная Латвія), вывучала права ў Маскве, была сябрам меншавіцкай партыі, а ў 1923 г. эмігравала ў Бэрлін, дзе пабралася шлюбам зь іншым меншавіком, Самуэлем Эстрыным. У 1924 г. Лілія нарадзіла сына Аляксандра.

[1] Частку запісаных у часе „Гарвардзкага праекту“ інтэрвію можна знайсьці на сайце: http://hcl.harvard.edu/collections/hpsss/index.html.

Пасьля прыходу да ўлады нацыстаў сям'я выехала ў Парыж. Тут Лілія знайшла працу сакратара ў вядомага дзеяча расейскай эміграцыі Барыса Нікалаеўскага (1887—1966) у Міжнародным інстытуце сацыяльнай гісторыі, а таксама цесна супрацоўнічала з сынам Троцкага Львом Сядовым (1906—1938) у выданьні часопісу „Бюлетэнь апазыцыі". З пачаткам Другой сусьветнай вайны яна з сынам выехала ў ЗША, дзе пабралася шлюбам з народжаным у беларускім Рагачове сябрам меншавіцкай партыі Давідам Даліным (1889—1962). Апошні таксама на пачатку 1920-х гг. зьехаў з Савецкай Расеі ў эміграцыю, спачатку ў Нямеччыну, потым у Польшчу, а ад пачатку Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Магчыма, сямейная гісторыя й стала асновай для навуковых зацікаўленьняў Аляксандра Даліна.

Будучы знакаміты саветоляг скончыў гарадзкі каледж у Нью-Ёрку, актыўна працаваў на „Гарвардзкім праекце", пасьля чаго ў 1953 г. абараніў у Калюмбійскім унівэрсытэце дысэртацыю, прысьвечаную нямецкай акупацыі СССР (*„German policy and the occupation of the Soviet Union, 1941—1944"*). У 1957 г. ён апублікаваў сваю першую навуковую працу (на падставе дысэртацыйнага дасьледаваньня) „Нямецкая ўлада ў Расіі, 1941—1945" (*„German Rule in Russia, 1941—1945"),* якая стала адным з найбольш поўных на Захадзе дасьледаваньняў падзеяў Другой сусьветнай вайны на тэрыторыі СССР. І адзін з разьдзелаў працы быў прысьвечаны нямецкай акупацыі Беларусі. Паводле словаў Вітаўта Кіпеля, гэтая частка ўяўляла сабою грунтоўную працу, і БІНіМ нават рабіў зь яе асобныя адбіткі й дасылаў дасьледнікам[2].

Пазьней у Аляксандра Даліна было шмат іншых прац саветалягічнай тэматыкі. У 1970-х ён пачаў выкладаць у Стэнфардзе (Каліфорнія) і меў пасаду старшага дасьледніка ў Гувэраўскім інстытуце. Апошні ў 1979 г. і атрымаў частку архіву саветоляга, дзе сярод папераў былі й тыя, на падставе якіх была напісаная згаданая першая навуковая праца й беларуская частка ў ёй.

Беларускія матэрыялы разьмеркаваныя па розных тэматычных скрынях і тэкстах у межах фонду Аляксандра Даліна. Так, у ***тэчцы 2-7***, прысьвечанай нацыянальнаму пытаньню ў СССР на прыкладзе Беларусі, можна знайсьці асобнікі эміграцыйнага часопіса „Дакуманты і факты" (№1. Сакавік 1953; №1. Жнівень 1952), а таксама менскае акупацыйнае выданьне „*Amtsblatt Des General Komissars in Minsk*" („Афі-

[2] Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York—Warsaw, 2006. P. 194.

цыйны часопіс Генэральнага Камісара ў Менску“ (№11. 20.10.1942). У ***тэчцы 4-16*** пазначанай як „Нацысцкая палітыка і практыка ў СССР — Сельская гаспадарка — Беларусь“ захоўваюцца англамоўныя машынапісы інтэрвію, запісаных у часе „Гарвардзкага праекту“. Напрыклад, тэкст інтэрвію, запісанага 23 кастрычніка 1950 г. і падпісанага як *„Byelor. agronomist“* (4 с.), тэкст інтэрвію, запісанага 25 лістапада 1950 г. і падпісанага *„Byel. student“* (3 с.). У ***тэчцы 7-2*** „Расея — Нацысцкая палітыка і практыка ў СССР — Нацыянальнае пытаньне — Беларусь“ можна знайсьці фрагмэнты англамоўнага машынапісу зь нямецкімі цытатамі, што датычаць падзеяў у Беларусі ў 1941—1942 гг., машынапіс *„Byelorussia“* — англамоўны варыянт вытрымак з справаздачаў Айнзацгрупы за ліпень—жнівень 1941 г. (1 стар.)

У ***тэчцы 6-12*** „Расея — Нацысцкая палітыка і практыка ў СССР — Калябарацыя — Мясцовыя ўрады і арганізацыі — Беларусь“ сярод іншага зьвяртае на сябе ўвагу нямецкамоўны сьпіс беларускай інтэлігенцыі Менску часоў акупацыі, дзе можна знайсьці прозьвішчы 90 асобаў з пазнакаю іх роду заняткаў (сярод іх — „літаратар“ Калубовіч, Яўхім і Марыя Кіпелі (настаўнікі), журналіст Гуцька, моладзевыя лідэры Ганько й Абрамава, царкоўныя герархі (Панцеляймон, Філафей і інш.), Сямёнаў, Найдзюк, Казлоўскі, Янка Станкевіч ды іншыя), а ў асобным дадатку — яшчэ 8 прозьвішчаў тых, што, магчыма, мелі сувязь з партызанамі (першы ў тым сьпісе — гісторык, прафэсар Мікалай Нікольскі).

Асобныя зборы матэрыялаў у фондзе датычаць брыгады Камінскага. Беларускія матэрыялы захоўваюцца ня толькі ў тэчках, назва якіх мае пазнаку *„Byelorussia“*, але і ў іншых агульных. Так, у ***тэчцы 2-12*** у разьдзеле „Нацысцкая палітыка і практыка ў СССР — Агульнае“ сярод інтэрвію „расейскіх рэспандэнтаў 1950—1951 гг.“ можна знайсьці рускамоўны тэкст „Немецкая оккупация Белоруссии в 1941—1944 годах“, а ў ***тэчцы 6-10*** разьдзелу „Мясцовая адміністрацыя й арганізацыі“ сярод інтэрвію й мэмарандумаў захоўваецца тэкст *„Общественный инстинкт и попытка государственного строительства в условиях немецкой оккупации западных областей России“*, дзе аповед ідзе пра тэрыторыю Беларусі. Калі папярэднія тэксты не былі падпісаныя, дык сшытак з рускамоўнымі ўспамінамі *„Три года под немецкой оккупацией в Белоруссии (Жизнь Полоцкого округа 1941—1944 гг.)“* у ***тэчцы 2-16*** належыць прафэсару й мастацтвазнаўцу Паўлу Ільінскаму[3].

---

[3] Згаданыя тры тэксты былі апублікаваныя ў кнізе: Александров, К. Под немцами: Воспоминания, свидетельства, документы. СПб, 2011. — 608 с.

Асаблівую каштоўнасьць сярод беларускіх матэрыялаў фонду Аляксандра Даліна ўяўляюць машынапісныя тэксты, прысьвечаныя некалькім наступным аспэктам беларускага жыцьця пад акупацыяй: *„Белорусские коллаборационные вооруженные силы“* (***Т. 6-3***), *„Оккупация Белоруссии немецкой армией и коллаборация местного населения“* (***Т. 6-12***), *„Организация советского партизанского движения в Белоруссии в 1941—1944 гг. Подпольная политическая деятельность“* ды *„Возникновение, жизнь и гибель партизанского отряда Соколова (Средний участок восточного фронта войны 1941—1945 гг.)“* (***Т. 8-16***). Аўтарства апошніх двух не пазначанае, аб'ём жа даволі салідны — 99 і 20 старонак машынапісу адпаведна. А вось на тытульных лістах першых двух тэкстаў асадкаю пазначанае прозьвішча аўтара *„[Golubovich]“*. На паходжаньні й зьмесьце гэтых машынапісаў хацелася б спыніцца адмыслова.

Відавочна, што аўтарам згаданых тэкстаў быў Людвік Галубовіч (на эмігр. Зарэчны, 1915—1964), вядомы на эміграцыі грамадзкі й вайсковы дзеяч, які ў часе нямецкай акупацыі працаваў у структуры Вэрмахту, займаў становішча інспэктара пры 9-й Арміі па наглядзе за дзейнасьцю мясцовых аддзелаў паліцыі, а таксама працаваў на іншых пасадах. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ён больш за два гады знаходзіўся пад арыштам, аднак па вызваленьні завязаў кантакты з Брытанскай адміністрацыяй у Нямеччыне і ў 1949—1953 гг. працаваў у сыстэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадчыка па пытаньнях савецкай сыстэмы й яе органаў. Здолеў зацікавіць Брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучаньне дывэрсійных групаў.

Напісаныя Галубовічам тэксты, як і іншыя машынапісы, відавочна, трапілі да Даліна ў часе ягонай працы па „Гарвардзкім праекце“ ў Нямеччыне. Пры гэтым яны маглі быць напісаныя або непасрэдна на замову дасьледніка, або дзеля нейкіх іншых структураў, а адтуль перайсьці ў рукі Даліна. Згадкі пра працу над гэтымі тэкстамі можна знайсьці ў лістах Людвіка Галубовіча да Дзьмітрыя Касмовіча, які выступаў для першага ў якасьці важнай крыніцай інфармацыі.

Так, у лісьце ад 24 лютага 1951 г. чытаем:

*„...Мае прыяцелі па рабоце (ангельцы) зараз вельмі зацікаўлены Беларускім пытаньнем, асабліва пытаньнем збройнае сілы Беларусі ў часе акупацыі. Пад гэтым пытаньнем разумеецца БКА і батальёны О.Д. Адносна БКА справа больш-менш высьветлена, а вось О.Д. — мне хоць і знаёма, але ёсьць пэўныя непаразуменьні. І мне трэба па-*

*радзіцца зь людзьмі, якія гэта пытаньне больш-менш ведаюць. Радаслаў К.*[4] *з гэтай справай не знаём, да і к таму ж яго няма зараз у Эўропе — ён выехаў да сваёй дачкі ў Аргентыну, выехаў яшчэ перад Калядамі, і Ваш апошні ліст я скіраваў да яго ў Аргентыну. Выехаў, можна сказаць, зусім неспадзявана, і калі выяжджаў, дык прасіў мяне, каб я асабліва не распаўсюджваў ягоны выезд з Эўропы, бо для эміграцкіх кругоў ён лічыцца ў Эўропе. І таму прашу Вас, каб Вы гэта таксама трымалі ў сакрэце.*

*Вярнуся ж зноў да цікавячага пытаньня. Напэўна ў наступным тыдні я атрымаю заданьне паехаць у Мюнхэн і па дарозе буду ў Штутгарце. Дык ці не былі б Вы настолькі ветлівы і ці зрабілі б так, каб я мог заехаць да Вас у Эсьлінген? Я буду ехаць цягнікам і толькі сам адзін. Буду таксама прасіць, калі часам пытаньне, аб якім буду з Вамі гутарыць, будзе больш-менш аб'ёмістае, то ці не згадзіліся б Вы распрацаваць яго тэхнічна? Гэта справа будзе не за дзякуй, безумоўна. Вось, усё тое аб чым хацелася з Вамі падзяліцца!*"[5]

Далей у лісьце ад 22 сакавіка 1951 г. Людвік Галубовіч прысьпешваў Дзьмітрыя Касмовіча: „*Вельмі прашу Вас, прышлеце як найхутчэй матар'ял пра ОД. Пішэце як найкарацей, каб маглі хутчэй скончыць*"[6]. І нарэшце 4 чэрвеня 1951 г. было паведамлена: „*Па справе „ОД" прышлося арыентавацца Вашымі расказамі. Апісаў так, як падсказывала памяць, аб чым мы гутарылі. Работа палучылася салідная, яна заняла больш за 60 старонак. Я прасядзеў над гэтым пытаньнем амаль два тыдні. БКА і брыгада „Зіглінг" яшчэ чакаюць чаргі. Зараз займаюся іншымі справамі*"[7].

Тэкст пра ОД, які згадвае Людвік Галубовіч у лістах, меўся стаць першай часткай машынапісу „*Белорусские коллаборационные вооруженные силы*", які мы знаходзім у фондзе Аляксандра Даліна. Агульны зьмест гэтае працы наступны:

*„1. Противопартизанские батальоны ОД.*

*2. Белорусская Краёвая Оборона (БКА).*

*3. Батальоны «Шума» при С/С командах.*

---

[4] Тут маецца на ўвазе Радаслаў (Казіміравіч) Астроўскі.

[5] Гардзіенка, Наталья. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951—1953 гг. // Запісы БІНіМ. №34. Нью-Ёрк—Менск, 2011. С. 276.

[6] Гардзіенка, Наталья. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951—1953 гг... С. 279.

[7] Гардзіенка, Наталья. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951—1953 гг... С. 280.

*4. Штурмовые бригады С/С.*

*5. Освободительная партизанская бригада генерала Витушко, действующая в тылу СССР*“.

Побач са зьместам пазначана: „*Источник: Личные знания автора, а также информация лиц, ранее служивших в белорусских вооруженных силах*“. Далей ва ўводзінах пры пераліку асобаў, што выступалі для аўтара як крыніцы інфармацыі, на першым месцы стаіць імя Дзьмітрыя Касмовіча. У архіве Аляксандра Даліна захавалася першая частка згаданай працы пад назвай „*Противопартизанские батальоны ОД*“, якая займае 42 старонкі машынапісу й мае наступныя разьдзелы:

„*1. Кадры, из которых рекрутировались противопартизанские батальоны ОД.*

*2. Политическая идея, вдохновлявшая на борьбу с большевизмом.*

*3. Административное устройство органов ОД.*

*4. Офицерский состав батальонов ОД.*

*5. Военное обучение и переподготовка личного состава ОД.*

*6. Вооружение, снаряжение, снабжение, отличия и национальная свастика.*

*7. Оперативное подчинение и взаимодействие.*

*8. Разведка и охрана безопасности.*

*9. Внутренний распорядок и дисциплинарное право.*

*10. Вопросы отпусков и отдыха.*

*11. Медицинская помощь и медицинские кадры.*

*12. Конфессиональное обслуживание ОД.*

*13. Пропагандно-массовая работа.*

*14. Случаи дезертирства и их причины.*

*15. Ликвидация ОД*“.

У тэксьце ёсьць таксама схема арганізацыі ОД у акрузе ды колькі здымкаў. Безумоўна, улічваючы асобу аўтара, а таксама й асноўнага інфарматара, якія на эміграцыі сваёй дзейнасьцю ды публікацыямі зарабілі сабе імідж авантурнікаў, чые аповеды даволі часта разыходзіліся з рэчаіснасьцю[8], да зьместу згаданага рукапісу варта ставіцца даволі крытычна. Аднак нельга не заўважыць і таго, што менавіта гэткія крыніцы на Захадзе (і архіў Даліна пра гэта выразна сьведчыць) даволі часта былі асновай для навуковых дасьледаваньняў. Можна згадаць і сумнавядомы „Беларускі сакрэт“ Джона Лофтуса, што таксама абапі-

[8] Гл., напрыклад, кнігу Дзьмітрыя Касмовіча „За вольную й сувэрэнную Беларусь“ (Вільня, 2006) і камэнтары да яе.

раўся нібыта на крыніцы спэцслужбаў, якія, у сваю чаргу, выкарыстоўвалі ў якасьці інфарматараў гэткіх жа ўцекачоў, як Людвік Галубовіч ды Дзьмітры Касмовіч. Для апошніх гэта была ня толькі магчымасьць зарабіць (Галубовіч у лісьце згадваў, што праца тая небясплатная), але й магчымасьць зацікавіць сабою, сваёй асобай заходнія спэцслужбы, часам распавесьці ня столькі тое, што было, але што хацелі пачуць. І тым ня менш, гэткія аповеды мелі пэўную прывязку да рэчаіснасьці, якую й варта адмыслова вывучаць ды ацэньваць.

Апошняе паспрабаваў зрабіць расейскі спэцыяліст Канстанцін Аляксандраў ва ўкладзенай ім кнізе *„Под немцами: Воспоминания, свидетельства, документы“* (СПб, 2011). Тут ёсьць асобны разьдзел, прысьвечаны Беларусі й складзены з матэрыялаў у тым ліку й фонду Аляксандра Даліна. Так, у зборніку публікуецца тэкст *„Оккупация Белоруссии немецкой армией и коллаборация местного населения“*, асноўная структура якога наступная:

*„1. Подготовительный период на территории оккупированной Польши.*

*2. Оккупация немецкой армией Западной Белоруссии и отношение местного населения к оккупанту.*

*3. Первая фаза оккупации.*

*4. Вторая фаза оккупации.*

*5. Отношение немцев к колхозам и колхозникам.*

*6. Структура и способ организации административно-самоуправленческого аппарата во время немецкой оккупации Белоруссии.*

*7. Образование Белорусской Центральной Рады и статут БЦР — изданный Генеральным комиссаром Белоруссии — генералом фон Готтбергом.*

*8. Административное устройство БЦРады.*

*9. Статут БЦР, принятый 2-м Всебелорусским Конгрессом“.*

Арыгінальны тэкст машынапісу займае 23 старонкі. Напісаны ён тым самым Людвікам Галубовічам, аднак у згаданым зборніку прыпісаны іншаму дзеячу — Аўгену Калубовічу, відавочна, больш вядомаму расейскаму дасьледніку. Зрэшты, і камэнтаваньне беларускіх тэкстаў у зборніку К. Аляксандрава пакідае жадаць лепшага. Разам з тым, само памкненьне ўводзіць у навуковы ўжытак тыя матэрыялы, вартае пераймання й беларускімі спэцыялістамі.

Напісаныя на замову розных заходніх структураў тэксты сустракаюцца і ў іншых эміграцыйных архівах. Так, у паперах Дзьмітрыя Касмовіча захаваўся рускамоўны рукапіс пад назвай *„Партизанское движе-*

*ние и Самооборона в Смолевичском округе*“, якія, відавочна, быў напісаны таксама на замову нейкай зацікаўленай заходняй службы. Вывучэньне, публікацыя, камэнтаваньне й асэнсаваньне зьместу гэткіх матэрыялаў, як і тых беларускіх інтэрвію, запісаных у межах „Гарвардзкага праекту“, што таксама можна знайсьці ў фондзе Аляксандра Даліна, важнае ня толькі дзеля пашырэньня кола гістарычных крыніцаў, але й для разуменьня таго ўяўленьня пра Беларусь, якое складвалася ў навуковых колах заходняга сьвету.

*Тэма нумару: Беларусаведныя калекцыі*
*Архівы й архіваліі*

***Сьвятлана Буель***
*Менск*

# АРХІЎ ДЗЬМІТРЫЯ КАСМОВІЧА (1909—1991)

Дзьмітры Касмовіч (псэўданімы — Янка Кузьня, Каршун) нарадзіўся 21 верасьня 1909 г. у Нясьвіжы ў сялянскай сям'і Дзяніса Касмовіча й Юстыны з Крукоўскіх. У 1920—1927 гг. вучыўся ў Нясьвіскай, Наваградзкай, Радашковіцкай гімназіях. У 1928 г. выехаў у Бэльгію, дзе жыў да 1934 г. У 1934 г. пераехаў у Югаславію, паступіў на багаслоўскі факультэт Бялградзкага ўнівэрсытэту. У гэтым жа годзе вярнуўся на радзіму й паступіў у Менскі палітэхнічны інстытут. З пачаткам нямецкай акупацыі Дзьмітры Касмовіч стаў супрацоўнічаць з новай уладай. Узначаліў аддзел грамадзкага забесьпячэньня Менскай управы, а таксама мясцовую паліцыю. У канцы кастрычніка 1941 г. разам зь Міхасём Вітушкам выехаў у зону франтавога камандаваньня, дзе Касмовіч узначальваў паліцыю ОД. Акрамя вайсковай справы ён актыўна ўдзельнічаў у грамадзка-палітычным жыцьці акупаванай Беларусі. Браў удзел у абвяшчэньні аўтакефаліі беларускай праваслаўнай царквы на Ўсебеларускім царкоўным саборы ў жніўні 1942 г. Удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе. У 1939—1944 гг. быў адным з арганізатараў і сябрам Цэнтральнага камітэту Беларускай незалежнай партыі (БНП). Пасьля адступленьня нямецкіх войскаў з тэрыторыі Беларусі ў складзе батальёну Дальвіца апынуўся ва Ўсходняй Прусіі. Ад 1944 г. Дз. Касмовіч знаходзіўся ў эміграцыі й жыў у ФРГ, дзе працягваў актыўна змагацца супраць камунізму. Так, ён узначаліў замежны сэктар БНП, дэлегатуру Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) у Заходняй Нямеччыне, а ад 1954 г. узначальваў Галоўны штаб Беларускага вызвольнага фронту (БВФ)[1].

Дзьмітры Касмовіч быў сябрам Цэнтральнага камітэту Антыбальшавіцкага блёку народаў (*Antibolschewistischer block der Nationen,*

[1] Гл: Ёрш, Сяргей. Генэрал вызвольнага фронту. Менск, 2002. — 38 с.

*ABN*), адным з заснавальнікаў Эўрапейскай рады свабоды (*European Freedom Council, EFC*), ад 1956 г. актыўна ліставаўся й выконваў прадстаўнічыя функцыі ў Азіяцкай антыкамуністычнай лізе (*Asian Peoples' Anti-Communist League, APACL*), быў старшынём беларускага аддзяленьня Сусьветнай антыкамуністычнай лігі (*World Anti-Communist League, WACL*)[2].

Памёр 23 красавіка 1991 г. у Штутгарце, дзе й пахаваны.

Дакумэнты Дзьмітрыя Касмовіча паступілі ў МГА „ЗБС „Бацькаўшчына“ ў 2005 г.[3] У выніку навукова-тэхнічнай апрацоўкі фонду быў складзены вопіс №1 у колькасьці 73 справаў (4433 дакумэнты) за 1944—1991 гг. Значная частка справаў фонду прадстаўленая дакумэнтамі ў ангельскай і нямецкай мовах.

Вопіс складаецца з 4 разьдзелаў.

1. Разьдзел „Рукапісы Дзьмітрыя Касмовіча“, які сыстэматызаваны паводле значнасьці жанраў і зьмяшчае зборнікі, падрыхтаваныя Дз. Касмовічам да друку: „За вольную і сувэрэнную Беларусь. 1945—1974 гг.“ (1974), пра міжнародную дзейнасьць БВФ у 1970-х—1980-х гг. (1989), „Кароткі храналягічны нарыс працы Беларускага вызвольнага фронту на міжнародных форумах 1977—1979 гг., 1981—1987 гг.“ (1975, 1987), „Кароткі храналягічны нарыс працы Беларускага вызвольнага фронту й гаспадара Дз. Касмовіча, начальніка Галоўнага штаба БВФ на міжнародным форуме (пэрыяд пасьляваенны да 1986 г. уключна)“ (1986), даклады, прамовы, выступленьні на розных канфэрэнцыях, артыкулы й інш. (1950-я гг. — 1988). Храналягічныя межы разьдзелу — 1950—1989 гг.

2. Разьдзел „Ліставаньне“ ўтвараюць два падразьдзелы: „Лісты Дз. Касмовіча“ (1951—1989) і „Лісты да Дз. Касмовіча“ (1951—1991).

2.1 Падразьдзел „Лісты Дз. Касмовіча“ складаецца зь дзьвюх тэматычных групаў дакумэнтаў. Сюды ўвайшлі лісты Дз. Касмовіча да дзеячаў беларускай эміграцыі (2.1.1): К. Акулы, А. Алехніка, А. Арэхвы, Р. Астроўскага, В. Басяцкага, А. Бедрыя, Я. Будзіча-Бунчука, К. Глінскага, С. Гоха, У. Гуцькі, П. Вялікага, А. Дарафейчыка, М. Залогі, Я. Запрудніка, М. Зуя, В. Кіпеля, І. Касяка, Б. Кіта, С. Каўша, М. Маеўскага, Р. Маньковіча, К. Мерляка, М. Мінкевіча, Н. Мядзейкі, П. Нягоды, Ю. Попкі,

[2] Фонд Дз. Касмовіча. Воп.1. Спр. 42. С. 3.

[3] Зьвесткі пра перадачу дакумэнтаў Дз. Касмовіча ў МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"; гл.: Гардзіенка, Натальля. Архіў Дзьмітрыя Касмовіча // Запісы БІНіМ. №32. Нью-Ёрк—Менск, 2009. С. 482—497.

Я. Пітушкі, А. Плескачэўскага, М. Пратасевіча, Я. Пятроўскага, Я. Сажыча, В. Сапігі, М. Саўкі, В. Селях-Качанскага, У. Сенькі, У. Сідлярэвіча, С. Розмысла, А. Русака, В. Тумаша, В. Цярпіцкага, У. Шнэка, Б. Шчорса, Я. Шымчыка, П. Юнаха ды іншых. Падразьдзел сыстэматызаваны паводле альфабэту прозьвішчаў адрасатаў. Наступны падразьдзел (2.1.2) уключае лісты ў грамадзка-палітычныя, адміністрацыйныя, культурна-адукацыйныя, эміграцыйныя й іншыя ўстановы краінаў сьвету, да дзеячаў міжнароднага руху Рэспублікі Бразылія, Віетнаму, ЗША, Рэспублікі Карэя, ФРГ і іншых, прэзыдэнтаў і старшыняў віетнамскага, інданэзійскага, карэйскага, тайваньскага, тайляндзкага, філіпінскага, швайцарскага аддзяленьняў *APACL/ WACL*. Падразьдзел сыстэматызаваныя паводле храналёгіі.

2.2. Падразьдзел „Лісты да Дз. Касмовіча“ ўтвараюць наступныя групы дакумэнтаў: лісты ад кіраўнікоў грамадзкіх арганізацый і дзеячаў беларускай эміграцыі (2.2.1): К. Акулы, А. Алехніка, Р. Астроўскага, В. Басяцкага, Я. Будзіча-Бунчука, Ю. Віцьбіча, Я. Гавенчыка, Л. Галубовіча, К. Глінскага, У. Гуцькі, А. Дарафейчыка, М. Залогі, Я. Запрудніка, М. Зуя, М. Кавыля, І. Касяка, В. Кіпеля, М. Кухарчыка, М. Маеўскага, П. Маркоўскага, К. Мерляка, Н. Мядзейкі, А. Надсана, Ю. Попкі, Я. і А. Пятроўскіх, С. Розмысла, Я. Сажыча, І. Сапігі, В. Селях-Качанскага, М. Сенькі, У. Сенькі, У. Сідлярэвіча, Я. Шымчыка, С. Хмары, В. Чайкі, У. Шнэка, В. Шчэцькі, П. Юнаха, Э. Ясюка ды іншых. Падразьдзел сыстэматызаваныя паводле альфабэту карэспандэнтаў. Падразьдзел (2.2.2) сыстэматызаваныя паводле храналёгіі і ўключае лісты Дз. Касмовічу ад грамадзка-палітычных, адміністрацыйных установаў краінаў сьвету, ад прэзыдэнтаў і старшыняў рэгіянальных аддзяленьняў *APACL/WACL*. Пры канцы падразьдзелу зьмешчаная справа з капэртамі ад лістоў да Дз. Касмовіча розных установаў і асобаў.

Храналягічныя межы разьдзелу „Ліставанне“ — 1951—1991 гг.

<u>3. Разьдзел „Дакумэнты да біяграфіі Дз. Касмовіча“</u> складаецца з 3-х падразьдзелаў. Справы ў падразьдзелах сыстэматызаваныя паводле аднародных групаў дакумэнтаў і паводле храналёгіі.

3.1. У падразьдзеле „Асабістыя дакумэнты“ захоўваюцца адрасная й запісная кніжкі Дз. Касмовіча, біяграфія Дз. Касмовіча й ягонай жонкі, артыкул пра Дз. Касмовіча „Палкоўнік“ трызьніць“ — ксэракопія ([1960-я гг.]—1983); запрашэньні на зьезды, канфэрэнцыі, сьвяточныя мерапрыемствы, выставы, лекцыі (1951—1990).

3.2. У падразьдзел „Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча ў БВФ“ увайшлі звароты, прамовы, прывітальныя словы, напісаныя Дз. Касмо-

вічам, начальнікам Галоўнага штабу БВФ, Прэзыдэнтам БЦР Р. Астроўскім, сябрамі БВФ А. Алехнікам, І. Касяком, К. Мерляком, В. Шчэцькам і іншымі для публікацыі, выступленьняў на мерапрыемствах, прысьвечаных сьвяткаваньню гадавін абвяшчэньня БНР, Слуцкага паўстаньня, Другога Ўсебеларускага кангрэсу й іншых сьвятаў і падзеяў (1954—1990); справаздачы Галоўнага штабу, рэгіянальных аддзяленьняў БВФ па асноўнай дзейнасьці і ўдзеле ў міжнародных форумах і канфэрэнцыях, страявы вайсковы статут, канстытуцыя, эмблема, загады, запрашэньні, мэмарандумы БВФ, ліставаньне, пэрыядычныя выданьні БВФ і іншае (1955—1989).

3.3. У падразьдзеле „Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча ў БНП, БЦР, *ABN, APACL/WACL, EFC*“ дакумэнты разьмешчаныя паводле грамадзкіх аб’яднаньняў: статут, бюлетэнь, ліставаньне, пасьведчаньні на імя М. Зуя, Дз. Касмовіча, М. Маеўскага, звароты, прамовы Каршуна (сапр. Дз. Касмовіч) — дакумэнты ўдзелу Дз. Касмовіча ў БНП (1944—1958); пратакол пленуму БЦР, выступленьне Прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага, ліставаньне, касавая справаздача — дакумэнты з удзелу Дз. Касмовіча ў БЦР (1952—1977); даклады, ліставаньне, сьпісы, справаздачы сяброў БВФ і Дз. Касмовіча як удзельніка канфэрэнцыяў *APACL/WACL* (1958—1989); улёткі, рэзалюцыі, друкаваныя выданьні, выступленьні, ліставаньне й іншае — дакумэнты з удзелу Дз. Касмовіча ў працы *ABN* (1955—1990); статут *EFC*, ліставаньне, справаздачы, даклады — дакумэнты з удзелу Дз. Касмовіча ў працы *EFC* (1967—1990).

Храналягічныя межы разьдзелу — 1944—1990 гг.

4. Разьдзел „Дакумэнты, сабраныя Дз. Касмовічам па цікавых для яго тэмах“ складаецца зь некалькіх групаў дакумэнтаў, сыстэматызаваных паводле храналёгіі. Гэта дакумэнты, сабраныя па беларускай тэматыцы: дэклярацыя беларускіх арганізацый аб утварэньні Беларускага нацыянальнага дэмакратычнага фронту, спэцыяльны даклад №9 Выбранага камітэту па барацьбе супраць камуністычнай агрэсіі *„Communist takeover and occupation of Byelorussia?“*, дакумэнты дзейнасьці Згуртаваньня беларускіх патрыётаў (ЗБП) у Вялікабрытаніі, Беларускага аб’яднаньня ў Аўстраліі, газэта „Беларускае слова“ №6 за кастрычнік 1954 г., выданьне прысьвечанае сьвяткаваньню 41—46-х угодкаў абвяшчэньня БНР, карта *„Distribution of people and tribes in Soviet union“*, нарысы В. Астроўскага *„Polski unijacki kaściół dla Biełarusau abo „Ubrał się diabeł w komźę i ogonem na mszę dzwoni“* („Апрануўся чорт у рызы і хвастом абедню звоніць“), K. Podlaski *„Białorusini — Litwini — Ukraińcy. Nasy wrogowie — czy bracia?“*; дакумэнты, саб-

раныя па тэмах барацьбы супраць камунізму, друкаванае выданьне „Лісты да Гарбачова“, *„Letters to Gorbachev“*, і іншыя дакумэнты. У канцы разьдзелу зьмешчаная справа з копіямі фатаздымкаў Дз. Касмовіча, індывідуальных і ў групе з жонкай Н. Касмовіч, Прэзыдэнтам БЦР Р. Астроўскім, сябрамі БВФ і іншымі падчас выступаў на канфэрэнцыях. Храналягічныя межы разьдзелу — 1946—1989 г.

**Вопіс №1**
**1. Рукапісы Дз. Касмовіча**

Спр. 1

„За вольную і сувэрэнную Беларусь. 1945—1974 гг.“. Зборнік. Частка І. Варыянт. Машынапіс, фатакопіі. [1974]. 128 арк. 1 д.

Спр. 2

„За вольную і сувэрэнную Беларусь. 1945—1974 гг.“ Частка ІІ. Варыянт. Машынапіс з праўкамі Дз. Касмовіча, фатакопіі. [1989]. 129 арк. 1 д.

Спр. 3

Зборнік матэрыялаў пра міжнародную дзейнасьць БВФ (1970-я — 1980-я гг.), падрыхтаваны Дз. Касмовічам. Варыянт. Машынапіс, фатакопіі, ксэракопіі. [Канец 1980-х гг.]. 161 арк. 1 д.

Спр. 4

Зборнік матэрыялаў пра міжнародную дзейнасьць БВФ (1970-я — 1980-я гг.), падрыхтаваны Дз. Касмовічам. Варыянт. Машынапіс, ксэракопіі. [Канец 1980-х гг.]. 115 арк. 1 д.

Спр. 5

„Кароткі храналягічны нарыс працы Беларускага вызвольнага фронту на міжнародных форумах 1977—1979 гг., 1981—1987 гг.“. Нарыс. Урыўкі. Фатакопіі з праўкамі Дз. Касмовіча [1975, 1987]. 67 арк. 1 д.

Спр. 6

„Кароткі храналягічны нарыс працы Беларускага вызвольнага фронту і гаспадара Дз. Касмовіча, начальніка Галоўнага штаба Беларускага вызвольнага фронту на міжнародным форуме (пэрыяд пасьляваенны да 1986 г. уключна)“. Нарыс. Варыянт. Машынапіс з праўкамі Дз. Касмовіча. [1980]. 92 арк. 1 д.

Спр. 7

„Кароткі храналягічны нарыс працы Беларускага вызвольнага фронту на міжнародных форумах 1945—1980 гг.“. Нарыс. Варыянт. На лл. 26, 36 — копіі фатаздымкаў Дз. Касмовіча, А. Алехніка, айца П. Вялікага й іншых асобаў падчас розных мерапрыемстваў. Машынапіс. [1980]. 80 арк. 1 д.

Спр. 8

„Партизанское движение и самооборона в Смоленском округе“. Даклад. Варыянт. Аўтограф. [1950-я гг.]. 30 арк. 1 д.

Спр. 9

„Арганізацыя Беларускай незалежніцкай партыі“. Артыкул. Варыянт. Разрозьненыя старонкі. Машынапіс з праўкамі Дз. Касмовіча, машынапіс. [1975]. 29 арк. 1 д.

Спр. 10

Прамова да прадстаўнікоў Эўрапейскага парлямэнту ў г. Страсбургу, артыкулы „Барацьба беларускага народу за сваю незалежнасьць у сучаснасьці“, „Узмацненьне сталінізму“, эсэ, нататкі, напісаныя для выступаў на XIII пленуме БЦР, IV канфэрэнцыі *APACL*, іншых мерапрыемствах, публікацыі ў пэрыядычных выданьнях. Варыянты. У анг., бел., ням., франц. мовах. Аўтограф, машынапіс з праўкамі Дз. Касмовіча, машынапіс. 1950—1979. 210 арк. 50 д.

Спр. 11

Прамова на юбілейным сьвяткаваньні 450-годзьдзя *Confessio augustana*, эсэ, даклад „Удзел беларускай дэлегацыі ў гістарычнай міжнароднай канфэрэнцыі *WACL* у г. Жэневе, Швайцарыя“, нэкралёг К. Глінскага, артыкулы, напісаныя для выступаў на розных мерапрыемствах, публікацыі ў пэрыядычных выданьнях. Варыянты. У анг., бел., ням. мовах. Аўтограф, машынапіс з праўкамі Дз. Касмовіча, машынапіс. 1980—1988. 198 арк. 47 д.

## 2. Ліставаньне

### 2.1. Лісты Дз. Касмовіча

#### 2.1.1 Лісты Дз. Касмовіча да дзеячаў беларускай і ўкраінскай эміграцыяў

Спр. 12

Лісты Дз. Касмовіча да К. Акулы, А. Алехніка, А. Арэхвы, В. Астроўскага, Р. Астроўскага, А. Адамовіча. 1954—1987. 176 арк. 149 д.

Спр. 13

Лісты Дз. Касмовіча да В. Барта, В. Басяцкага, А. Бедрыя, Гаховіча, С. Гоха, У. Гуцькі, айца П. Вялікага, А. Дарафейчыка, А. Жданковіча, М. Залогі, Я. Запрудніка ды іншых. 1954—1989. 106 арк. 92 д.

Спр. 14

Лісты Дз. Касмовіча да Я. Будзіча-Бунчука. 24 жніўня 1956 г. — 17 чэрвеня 1985 г. 156 арк. 129 д.

Спр. 15

Лісты Дз. Касмовіча да К. Глінскага. 9 верасьня 1968 г. — 20 сакавіка 1987 г. 110 арк. 101 д.

Спр. 16

Лісты Дз. Касмовіча да М. Зуя. 18 верасьня 1954 г. — 14 кастрычніка 1987 г. 102 арк. 72 д.

Спр. 17

Лісты Дз. Касмовіча да А. Карповіча, В. Кіпеля, Б. Кіта, С. Каўша, М. Маеўскага, Р. Маньковіча, К. Мерляка, М. Мінкевіча ды іншых. 1953—1989. 107 арк. 98 д.

Спр. 18

Лісты Дз. Касмовіча да І. Касяка. 20 мая 1954 г. — [1980-я гг.]. 92 арк. 73 д.

Спр. 19

Лісты Дз. Касмовіча да А. Надсана, Новіка, П. Нягоды, Я. Пітушкі, А. Плескачэўскага, М. Пратасевіча, Я. Пятроўскага, С. Розмысла, А. Русака, В. Тумаша, В. Цярпіцкага, П. Юнаха ды іншых.1952—1989. 148 арк. 137 д.

Спр. 20

Лісты Дз. Касмовіча да Н. Мядзейкі. 18 лістапада 1957 г. — 9 чэрвеня 1987 г. 78 арк. 47 д.

Спр. 21

Лісты Дз. Касмовіча да Ю. Попкі. 17 жніўня 1954 г. — 23 лютага 1977 г. 160 арк. 132 д.

Спр. 22

Лісты Дз. Касмовіча да Я. Сажыча, В. Сапігі, М. Саўкі, В. Сэлях-Качанскага, У. Сенькі, У. Сідлярэвіча, Я. і С. Стэцько ды іншых. 1952—1989. 171 арк. 150 д.

Спр. 23

Лісты Дз. Касмовіча да У. Шнэка, Б. Шчорса, Л. Шыманскай, Я. Шымчыка, М. Шэкі ды іншых. 1953—1989. 181 арк. 148 д.

Спр. 24

Лісты Дз. Касмовіча ў рэдакцыю часопісаў „Беларуская думка“, „Беларус“, Управе Амэрыканска-беларускага культурна-дапамогавага камітэту ды іншым. 1966—1989. 5 арк. 5 д.

**2.1.2 Лісты Дз. Касмовіча ў грамадзка-палітычныя, адміністрацыйныя й іншыя ўстановы краінаў сьвету**

Спр. 25

Лісты Дз. Касмовіча да Прэзыдэнтаў ЗША Д. Эйзэнхаўэра, Дж. Кэнэдзі, віцэ-прэзыдэнта Фэдэральнага рэзэрвовага банку (Мінэапаліс), сэнатараў ЗША, канцлера ФРГ К. Адэнаўэра, Нью-ёрскую публічную бібліятэку ды іншыя адміністрацыйныя, муніцыпальныя ўстановы краінаў сьвету. 1951—1975. 143 арк. 126 д.

Спр. 26

Лісты Дз. Касмовіча да прадстаўнікоў літоўскай, славацкай, украінскай дыяспараў у г. Штутгарце (ФРГ), Прэзыдэнта *Paneuropa Union* і іншых адміністрацыйных, муніцыпальных установаў краінаў сьвету. 1976—1989. 71 арк. 58 д.

Спр. 27

Лісты Дз. Касмовіча да Прэзыдэнтаў і старшыняў рэгіянальных аддзяленьняў *APACL/WACL*. 9 сакавіка 1957 г. — 10 жніўня 1989 г. 116 арк. 98 д.

### 2.2 Лісты да Дз. Касмовіча

#### 2.2.1 Лісты да Дз. Касмовіча ад кіраўнікоў грамадзкіх арганізацыяў і дзеячаў беларускай і ўкраінскай эміграцыяў

Спр. 28

Лісты да Дз. Касмовіча ад К. Акулы, А. Алехніка, Р. Астроўскага, В. Басяцкага, Ю. Віцьбіча, айца П. Вялікага ды іншых. 1954—1987. 198 арк. 135 д.

Спр. 29

Лісты да Дз. Касмовіча ад Я. Будзіча-Бунчука. 6 жніўня 1956 г. — [1980-я гг.]. 177 арк. 139 д.

Спр. 30

Лісты да Дз. Касмовіча ад Я. Гавенчыка, Л. Галубовіча (Зарэчнага), К. Глінскага, У. Гуцькі, А. Дарафейчыка, М. Залогі, Я. Запрудніка ды іншых. 1951—1985. 220 арк. 123 д.

Спр. 31

Лісты да Дз. Касмовіча ад М. Зуя. 5 верасьня 1954 г. — 4 кастрычніка 1987 г. 187 арк. 73 д.

Спр. 32

Лісты да Дз. Касмовіча ад М. Кавыля, І. Касяка, В. Кіпеля, С. Каўша, М. Кухарчыка ды іншых. 1953—1987. 132 арк. 80 д.

Спр. 33

Лісты да Дз. Касмовіча ад М. Маеўскага, П. Маркоўскага, К. Мерляка, Н. Мядзейкі, А. Надсана, Я. і А. Пятроўскіх, С. Розмысла. 1951—1988. 187 арк. 141 д.

Спр. 34

Лісты да Дз. Касмовіча ад Ю. Попкі. 10 сакавіка 1955 г. — 16 сьнежня 1980 г. 171 арк. 120 д.

Спр. 35

Лісты да Дз. Касмовіча ад Я. Сажыча, І. Сапігі, В. Сэлях-Качанскага, М. Сенькі, У. Сенькі, У. Сідлярэвіча, С. і Я. Стэцько ды іншых. 1952—1989. 128 арк. 88 д.

Спр. 36

Лісты да Дз. Касмовіча ад палкоўніка Я. Шымчыка. На арк. 108 — артыкул пра Р. Астроўскага. У анг. мове. Копія. На арк. 114 — праект мэдалёў БВФ. 23 верасьня 1956 г. — 17 сакавіка 1980 г. 119 арк. 90 д.

Спр. 37

Лісты да Дз. Касмовіча ад С. Хмары, В. Чайкі, У. Шнэка, Б. Шчорса, В. Шчэцькі, П. Юнаха, Э. Ясюка ды іншых. 9 траўня 1953 г. — 29 студзеня 1991 г. 124 арк. 76 д.

#### 2.2.2 Лісты да Дз. Касмовіча ад грамадзка-палітычных, адміністрацыйных і іншых установаў краінаў сьвету

Спр. 38

Лісты, тэлеграмы, паштоўкі да Дз. Касмовіча ад адміністрацыі зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг (ФРГ), Баўгарскай лігі барацьбы за правы чалавека, Савету па сусьветнай свабодзе (ЗША), арганізацый украінскіх нацыяналістаў, выдавецтва *„The Byelorussian Times“* і іншых афіцыйных установаў, грамадзкіх арганізацыяў. 1951—1988. 235 арк. 159 д.

Спр. 39

Лісты да Дз. Касмовіча й сябраў БВФ ад Прэзыдэнтаў і старшыняў рэгіянальных аддзяленьняў *APACL/WACL*. 27 кастрычніка 1961 г. — 1 чэрвеня 1990 г. 166 арк. 72 д.

Спр. 40

Капэрты ад лістоў, дасланых Дз. Касмовічу. 1954 — [канец 1980-х гг.]. 80 арк. 40 д.

### 3. Дакумэнты да біяграфіі Дз. Касмовіча

#### 3.1 Асабістыя дакумэнты

Спр. 41

Адрасная й запісная кніжкі Дз. Касмовіча. Аўтограф, машынапіс. [1960-я гг.], [1980-я гг.]. 33 арк. 2 д.

Спр. 42

Біяграфія Дз. Касмовіча й ягонай жонкі Н. Касмовіч. Машынапіс. В. Мацкевіч. „Спадар „Палкоўнік“ трызьніць“. Артыкул пра Дз. Касмовіча. Ксэракопія. 1970, лістапад 1983. 8 арк. 2 д.

Спр. 43

Запрашэньні на зьезды, канфэрэнцыі, сьвяточныя мерапрыемствы, выставы, лекцыі. 1951—1990. 202 арк. 179 д.

### 3.2. Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча ў БВФ

Спр. 44

Звароты, прамовы начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча, прысьвечаныя сьвяткаваньню гадавінаў абвяшчэньня БНР, УНР, Слуцкага паўстаньня, Другога Ўсебеларускага кангрэсу ды іншых сьвятаў. 1954—1989. 224 арк. 132 д.

Спр. 45

Звароты, прамовы Прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага, сябраў БВФ А. Алехніка, І. Касяка, К. Мерляка, В. Шчэцькі ды іншых, прысьвечаныя сьвяткаваньню гадавінаў абвяшчэньня БНР, Слуцкага паўстаньня, Другога Ўсебеларускага кангрэсу й іншых сьвятаў. 1957—1990. 79 арк. 64 д.

Спр. 46

Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча начальнікам Галоўнага штабу БВФ (справаздачы рэгіянальных аддзяленьняў БВФ, мэмарандумы, ліставаньне, запрашэньні, артыкулы, дасланыя для публікацыі, ды іншае). У анг., бел., ням. мовах. 1955 — [1960-я гг.]. 120 арк. 54 д.

Спр. 47

Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча начальнікам Галоўнага штабу БВФ (справаздачы рэгіянальных аддзяленьняў БВФ, мэмарандумы, ліставаньне, запрашэньні, артыкулы, дасланыя для публікацыі, ды іншае). У анг., бел., ням., расейск. мовах. 1970 — [канец 1970-х гг.]. 171 арк. 60 д.

Спр. 48

Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча начальнікам Галоўнага штабу БВФ (справаздачы рэгіянальных аддзяленьняў БВФ, мэмарандумы, ліставаньне, запрашэньні, артыкулы, дасланыя для публікацыі, ды іншае). У анг., бел., ням., расейск., франц. мовах. 1979 — [канец 1980-х гг.]. 178 арк. 76 д.

Спр. 49

Пэрыядычныя выданьні Галоўнага штабу БВФ, Беларускага сэктару Эўрапейскай Рады Свабоды: Інфармацыйны бюлетэнь, „Абежнік

Галоўнага штабу БВФ“, „Барацьба“, Камунікат. Машынапіс, друкаваныя выданьні. 1953 — [1989]. 144 арк. 47 д.

Спр. 50

Арганізацыйныя дакумэнты БВФ: Страявы вайсковы статут, канстытуцыя, загады, гімн, эмблема ды інш. 1955 — [1950-я — 1960-я гг.]. 46 арк. 15 д.

Спр. 51

Справаздачы з ўдзелу сябраў БВФ у міжнародных форумах і канфэрэнцыях. У анг., бел. мовах. 1963—1987. 69 арк. 10 д.

Спр. 52

Лісты В. Астроўскага, А. Алехніка, Я. Будзіча-Бунчука, К. Глінскага, І. Касяка, У. Шнэка ды іншых сябраў БВФ да Прэзыдэнтаў ЗША Дж. Кэнэдзі, Р. Ніксана, старшыняў рэгіянальных аддзяленьняў *APACL/WACL*, дасланыя ў Галоўны штаб БВФ да ведама. 1961—1989. 47 арк. 25 д.

### 3.3. Дакумэнты зь дзейнасьці Дз. Касмовіча ў Беларускай незалежніцкай партыі, Беларускай Цэнтральнай Радзе, *ABN, APACL/WACL, EFC*

Спр. 53

Дакумэнты зь дзейнасьці Беларускай незалежніцкай партыі: Статут, бюлетэнь, ліставаньне, звароты, прамовы Каршуна [Дз. Касмовіча], пасьведчаньні на імя М. Зуя, Дз. Касмовіча, М. Маеўскага й іншых, артыкулы, ліставаньне. Аўтограф Дз. Касмовіча, машынапіс, друк. выданьні. 1944—1958. 141 арк. 74 д.

Спр. 54

Дакумэнты з удзелу Дз. Касмовіча ў пленумах БЦР: пратакол пленуму, выступленьне Прэзыдэнта БЦР Р. Астроўскага, ліставаньне, касавая справаздача дэлегатуры БЦР і інш. 1952—1977. 29 арк. 17 д.

Спр. 55

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча й сябраў БВФ у канфэрэнцыях *APACL/WACL*: даклады, ліставаньне, справаздачы, сьпісы ды інш. У анг., ням. мовах. 1958—1982. 226 арк. 19 д.

Спр. 56

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча й сябраў БВФ у канфэрэнцыях *APACL/WACL*: даклады, ліставаньне, справаздачы, сьпісы ды інш. У анг. мове. 1983—1986. 212 арк. 8 д.

Спр. 57

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмо-

віча й сяброў БВФ у канфэрэнцыях *APACL/WACL*: даклады, ліставаньне, справаздачы, сьпісы ды інш. У анг., ням. мовах. 1987—1989. 66 арк. 3 д.

Спр. 58

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча й сяброў БВФ у дзейнасьці *ABN*: друк. выданьні, рэзалюцыі, улёткі, мэмарандумы, выступленьні, ліставаньне ды інш. У анг., ням., франц., укр. мовах. 1955 — [1960-я гг.]. 237 арк. 63 д.

Спр. 59

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча й сяброў БВФ у дзейнасьці *ABN*: друк. выданьні, рэзалюцыі, улёткі, мэмарандумы, выступленьні, ліставаньне ды інш. У анг., ням., франц., укр. мовах. 1970—1979. 148 арк. 72 д.

Спр. 60

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча й сяброў БВФ у дзейнасьці *ABN*: друк. выданьні, рэзалюцыі, улёткі, мэмарандумы, выступленьні, ліставаньне ды інш. У анг., ням., франц., укр. мовах. 1980—1990. 173 арк. 83 д.

Спр. 61

Дакумэнты з удзелу начальніка Галоўнага штабу БВФ Дз. Касмовіча ў пасяджэньнях і канфэрэнцыях *EFC*: статут *EFC*, ліставаньне, справаздачы ды інш. У анг., ням., франц. мовах. 1967—1990. 106 арк. 47 д.

## 4. Дакумэнты, сабраныя Дз. Касмовічам па цікавых для яго тэмах

Спр. 62

Дакумэнты, сабраныя па беларускай тэматыцы: Дэклярацыя беларускіх арганізацыяў аб утварэньні Беларускага нацыянальнага дэмакратычнага фронту, спэцыяльны даклад №9 Выбранага камітэта па барацьбе супраць камуністычнай агрэсіі *„Communist takeover and occupation of Byelorussia?“*, выразкі з газэтаў „Голас Радзімы“, *„Daily telegraph“*, *„Evening News“*, улётка пра Ф. Скарыну й іншыя дакумэнты. 1946—1989. 119 арк. 65 д.

Спр. 63

Дакумэнты зь дзейнасьці Згуртаваньня беларускіх патрыётаў (ЗБП) у Вялікабрытаніі, Беларускага аб’яднаньня ў Аўстраліі ды інш.: праграма, статут ЗБП, Камунікаты, прывітальныя словы, віншаваньні ды інш. 1951—1988. 58 арк. 36 д.

Спр. 64

Газэта „Беларускае слова“ №6 за кастрычнік 1954 г. 2 арк. 1 д.

Спр. 65

*„Congressional Records“*. Выданьне, прысьвечанае сьвяткаваньню 41—46-х, 50-х угодкаў абвяшчэньня БНР. У анг. мове. Друк. выданьне. 1959—1968. 46 арк. 13 д.

Спр. 66

В. Астроўскі. *„Polski unijacki kaściół dla Biełarusau abo „Ubrał się diabeł w komźę i ogonem na mszę dzwoni“* („Апрануўся чорт у рызы і хвастом абедню звоніць“). Нарыс. У бел. мове. Друк. выданьне. 1966. 13 арк. 1 д.

Спр. 67

Карта *„Distribution of people and tribes in Soviet Union“*. У анг. мове. [1970-я — 1980-я гг.]. 1 арк. 1 д.

Спр. 68

*K. Podlaski. „Białorusini — Litwini — Ukraińcy. Nasy wrogowie — czy bracia?“*. Нарыс. У польск. мове.Друк. выданьне. 1984. 51 арк. 2 д.

Спр. 69

Дакумэнты, сабраныя Дз. Касмовічам па тэме барацьбы супраць камунізму ў СССР: даклады, нарысы, артыкулы, выразкі з газэтаў ды інш. У анг., ням., франц. мовах. 1951—1979. 170 арк. 54 д.

Спр. 70

Дакумэнты, сабраныя Дз. Касмовічам па тэме барацьбы супраць камунізму ў СССР: даклады, нарысы, артыкулы, выразкі з газэтаў ды інш. У анг., ням., польск., франц. мовах. 1980 — [канец 1980-х гг.]. 242 арк. 75 д.

Спр. 71

Дакумэнты, сабраныя Дз. Касмовічам па тэме барацьбы ўкраінскай дыяспары супраць камунізму ў СССР: бюлетэнь Украінскага інфармацыйнага бюро, артыкулы, нататкі, улёткі, выразкі з газэтаў і інш. На арк. 29—30 — газэта „Шлях Перемоги“. 1961 — [канец 1980-х гг.]. 36 арк. 15 д.

Спр. 72

„Лісты да Гарбачова“, *„Letters to Gorbachev“*, артыкулы, нататкі пра Расею. У анг., ням., расейск. мовах. Друк. выданьне, выразкі з газэтаў, часопісаў. 1963—1987. 53 арк. 12 д.

Спр. 73

Фатаздымкі Дз. Касмовіча, індывідуальныя і ў групе з жонкай Н. Касмовіч, Прэзыдэнтам БЦР Р. Астроўскім і іншымі ў часе выступаў на канфэрэнцыях, сустрэчаў з грамадзка-палітычнымі дзеячамі краінаў сьвету. Копіі. 1948—1987. 18 арк. 49 д.

# „НУТРАНАЯ“ РЭЦЭНЗІЯ СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

*Мюнхэнскае выдавецтва „Бацькаўшчына“ ў пачатку 1950-х гг. заплянавала падрыхтаваць і выдаць поўны збор вершаў Янкі Купалы. Прадмову да кнігі згадзіўся зрабіць Янка Ліманоўскі.*

*Вядома, што напісаная прадмова была адкінутая, што паміж „Бацькаўшчынаю“ й Ліманоўскім адбылася сварка, што тэкст, скарочаны, зьявіўся ва ўкраінскім друку, але якія канкрэтныя закіды былі зробленыя аўтару — заставалася таямніцаю. Зьмешчаная ніжэй рэцэнзія, захаваная ў архіве БІНіМу, адказвае на гэтае пытаньне.*

## Рэцэнзія артыкулу М. Равіча[1] „Янка Купала. Жыцьцё й творчасьць“

Артыкул пад вышэйшым загалоўкам, прызначаны як уступны да „Выбару паэзіі“ Купалы, мае ў сабе наступныя заганы:

1. У васнаўным артыкул амаль выключна абмяжоўваецца да біяграфічных дадзеных аб Купале, што ёсьць бясспрэчна важным і неабходным, але не найбольш істотным. Найважнейшым момэнтам у такіх агульных уводных артыкулах, а ў артыкуле аб Купале ў васаблівасьці, павінна быць ідэалягічная і артыстычная аналіза творчасьці паэты. З гэтага заданьня аўтар ня вывязаўся.

2. Праўда, ідэалягічны аспэкт Купалавае творчасьці аўтар час ад часу разглядае, але недастаткова й няпоўна. Гэта скарэй прыпадковыя й не заўсёды найважнейшыя заўвагі й сьцьверджаньні, якія ня могуць прэтэндаваць да цэласьці. Такім чынам артыкул не дае поўнага й закругленага прадстаўленьня ўсяго многагранная ідэалягічнага аспэкту Купалавае літаратурнае спадчыны.

---

[1] М. Равіч — псэўданім Янкі Ліманоўскага.

3. Паколькі ідэалягічны бок творчасьці Купалы разгледжаны няпоўна й павярхоўна, пастолькі артыстычная аналіза творчасьці, у прынцыпе ня менш важная за ідэалягічную, у артыкуле поўнасьцю адсутнічае. Тое, што аўтар дае як эстэтычную аналізу творчасьці Купалы, гэта толькі абстрактныя й банальныя фразы, не падпёртыя ані канкрэтнымі прыкладамі, якія не прадстаўляюць ніякае цэласьці і ня вычэрпваюць, хоць-бы і агульна, гэтага пытаньня. З артыкулу чытач не даведаецца, у чым мастацкая сіла Купалавае творчасьці, яе арыгінальнасьць і спэцыфічнасьць. Адсутнасьць эстэтычнае аналізы творчасьці Купалы ў такім вялізарным артыкуле зьяўляецца найбольшай заганай артыкулу.

4. Аўтар зусім не задаў сабе цяжкасьці вычарпаць даступную яму ў Нью Ёрку паважнейшую навуковую літаратуру аб Купале. Ён галоўна абапёрся на тэндэнцыйныя працы Мазалькова[2], Клейнбарта[3], зь беларускіх аўтараў паклікаўся пару разоў на Цішку Гартнага й Багдановіча, затое пакінуў усе іншыя, навет цэнныя, працы беларускіх і небеларускіх вучоных з часоў „нацдэмаўшчыны“.

5. Без найменшае патрэбы, затое із шкодай для артыкулу, аўтар уставіў палемічную частку ў разьмеры 18 балонаў (ад 23 да 40 балоны ўключна) пры 62 балонах цэласьці, частку, якая нічога ня мае супольнага з Купалам, затое палітычна нявыдзержаная, часамі навет шкодная, а некаторыя ў ёй факты выразна тэндэнцыйныя й не адказваюць сапраўднасьці. Тут ёсьць, між іншымі, такія неадпаведныя мамэнты:

А. Аўтар цьвердзіць, што сярод беларусаў наагул ня было нацыяналкамуністых, а ўсе былі тымі-самымі „нацдэмамі“, бо ў гэтым і бальшавікі іх усіх абвінавачвалі. Бальшавіцкія абвінавачваньні для нас ніякі аргумэнт. Нельга бо ставіць знаку роўнасьці між Жылуновічам і Чарвяковым з аднаго боку, а Гарэцкім, Лёсікам і Ластоўскім — з другога. Паколькі першыя ўважалі сябе за камуністых, веручы, што ўдасца пагадзіць камунізм зь беларускімі нацыянальнымі ідэямі, патолькі другія яго нэгавалі поўнасьцю.

Б. Аўтар даказвае, што ўзвышэнцы, трымаючыся прынцыпу ісьці „напралом сілаю“, прынесьлі меншыя заслугі для нацыянальнае справы, чымся маладнякоўцы й белапаўцы[4], якія быццам толькі маскава-

---

[2] Мозольков, Евгений. Янка Купала: жизнь и творчество. Москва, 1949. — 181 с.

[3] Клейнборт, Лев. Молодая Белоруссия: очерк современной белорусской литературы: 1905—1928 гг. Москва, 1928. — 508 с.

[4] **Белапаўцы** — сябры Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП).

ліся саветафільствам, а ў запраўднасьці праводзілі вялікую нацыянальную работу. На пацьверджаньне гэтае тэзы аўтар прыводзіць зусім непераконлівы аргумэнт, што быццам падчас чыстак маладнякоўцы й белапаўцы пацярпелі болей, чымся ўзвышэнцы. Ці яно ўзапраўды было так, не бяруся судзіць. Але калі і ўзапраўды ўзвышэнцы пацярпелі меней, дык гэта можна вытлумачыць наступным:

а. чыстка ўзвышэнцаў адбылася раней, у часе лагаднейшага антыбеларускага курсу, а чыстка белапаўцаў пазьней, калі курс быў значна завостраны.

б. бальшавікі заўсёды больш бязьлітасныя да тых, якія пад іх падшываюцца, чымся да тых, якія адкрыта не прыймаюць іхнае ідэалёгіі. Прыкладам, у Заходняй Беларусі ў 1939—1941 гг. у першую чаргу папалі пад удар былыя сябры КПЗБ і ейныя спадарожнікі, а тыя, што зусім ня былі зьвязаныя з камуністычным рухам, часткова ўцалелі, як і аўтар гэтых радкоў.

Ёсьць проста шкодным дэградаваць „ўзвышэнства“, якое з гледзішча ідэалягічнага было наскрозь нацыянальна беларускім, а з гледзішча мастацкага стварыла, хоць і не завяршыла не із свае віны, новы пэрыяд у нашай літаратуры.

В. Аўтар захопліваецца РАПП-ам (Расейская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў) і яе сябрамі, якія быццам шчыра вызнавалі і абаранялі прынцып нацыянальнае незалежнасьці нерасейскіх народаў *„вплоть до отделения“*, і цьвердзіць, што асаблівай сымпатыяй яны абдарылі Беларусаў, за што былі потым ня менш разгромленыя, чымся й сябры БЕЛАПП-у. На гэтай падставе ён вылазіць із зусім непатрэбным і неадказваючым запраўднасьці цьверджаньнем, што нацыянальны шавінізм чужы расейцам як народу, а зьяўляецца толькі асаблівасьцю расейскае рэакцыйнае інтэлігенцыі. Калі-б было й так, мы зусім не патрабуем абараняць расейцаў, бо ня горай зробяць яны гэта самі. Каліб і ўзапраўды сябры РАПП-у так сымпатычна ставіліся да беларусаў, дык гэта маглі быць адзінкі, чаго нельга абагульняць на ўсю арганізацыю.

6. Хаця ў васнаўным аўтар абапёрся на біяграфічным матарыяле аб Купале, аднак і такі палітычна важны мамэнт, як спроба ягонага гаракіры ў 1930 г., прадстаўлены зусім бледна. Яго неабходна асабліва ўвыпукліць.

7. У зборніку зьмешчаная паэтычная парафраза Купалы „Слова аб палку Ігаравым“, у якой часта апоэтэзуецца „Русская зямля“, якую чытач можа ўспрыняць як „расейскую зямлю“. У артыкуле М. Равіча не пададзеныя ніякія камэнтары, у якім сэньсе гэтую „Рускую зямлю“ трэба разумець, як і наагул ніводным словам ня ўспомнена аб гэтым вы-

датным Купалавым творы, які, апрача чужога зьместу, зьяўляецца творам арыгінальным.

Вывады:

Артыкул М. Равіча не зьяўляецца навуковым артыкулам, але публіцыстычным, пры гэтым не дае, навет у публіцыстычным апрацаваньні, поўнага абраза Купалавае творчасьці ў ніводным зь ейных аспэктаў. Да такога саліднага зборніка Купалы, які выдаецца цяпер, ён, на жаль, ня можа служыць як уводным артыкулам, бо гэтым значна абніжыць вартасьць зборніка. Але ўсе Купалавыя тэксты ўжо надрукаваныя, і кніжка ня можа быць закончана толькі з прычыны ўводнага артыкулу. З гледзішча на тое, што эвэнтуальнае прыгатаваньне іншага артыкулу іншым аўтарам зацягнула-б выхад зборніка, мы пастаўленыя перад канечнасьцю, што менаваны артыкул М. Равіча трэба зьмясьціць, але пад наступнымі ўмовамі:

1. Зусім выкінуць успомненыя 18 балонаў машынапісу (ад 23 да 40 балоны ўключна). Калі-ж аўтар будзе гэтаму пярэчыць, можна запрапанаваць яму гэтую частку аформіць як асобны артыкул і надрукаваць яго, прыкладам, у „Бацькаўшчыне“, хаця Рэдакцыя апошняй можа яго зьмясьціць толькі з засьцярогай, што з вывадамі аўтара не пагаджаецца. У Купалавым-жа зборніку гэтая частка артыкулу ў ніякім выпадку пайсьці ня можа.

2. Пашырыць і папоўніць дадзеныя аб спробе самагубства Купалы ў 1930 г.

3. Даць успомненыя камэнтары аб словах „Руская зямля“ ў Купалавай парафразе „Слове аб палку Ігаравым“.

Розэнгайм, 3.5.1954 г.

Др. Станіслаў Станкевіч.

П. С. Біяграфічная частка артыкулу М. Равіча не зьяўляецца таксама ягонай арыгінальнай, але ўкладзеная паводля біяграфіі Купалы, апрацаванай спэцыяльна для гэтай мэты В. Тумашам (копію яе я маю). Апрача гэтага, артыкул М. Равіча зьяўляецца ў вялікай меры паўтарэньнем, навет у цэлых абзацах і сказах, ягонага артыкулу „Янка Купала“, друкаванага ў „Запісах“, 1952, Нр. 2[5], што зьяўляецца недапушчальным таксама.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

---

[5] Маецца на ўвазе тэкст: Равіч, Антон. Янка Купала // Запісы БІНіМ. №2. Нью-Ёрк, 1952. С. 65—76.

***Тамаш Грыб***

# РЭЛІГІЙНАЯ СПРАВА НА БЕЛАРУСІ[1]

*Нашай вялікай мэтаю ня ёсьць тое,*
*што мігаціць у імглістай далі,*
*а рабіць тое, што маем ясна перад сабой.*

Тамаш Карлейль[2]

***1. Да пастаноўкі пытаньня***

Мусімо шчыра прызнацца: рэлігійная справа на Беларусі ёсьць надта складаная й вельмі заблытаная. Патрэбна яснасьць. Тым больш, калі мы ставімо перад сабой зусім яснае й выразнае заданьне: мы хочамо пабудаваць вольную й незалежную беларускую дзяржаву.

На Беларусі існуе шэраг розных плыняў рэлігійнага самаўсьведамленьня, якія адрозьніваюцца між сябе ня толькі аснаўнымі падвалінамі свайго навучаньне, але — і гэта мае для нас асаблівае значаньне — адрозьніваюцца між сябе таксама формаю арганізацыі свайго рэлігійнага культу.

Перад кожным беларускім незалежнікам рубам ставіцца пытаньне: як мае быць вырашана рэлігійнае пытаньне ў вольнай і незалежнай беларускай дзяржаве? Якой плыні хрысьціянскага веравызнаньня — каталіцызму, праваслаўю, вуніяцтву, баптызму, мэтадызму ці мо якой-небудзь іншай рэлігійнай плыні адвесьці першае мейсца, ці мо ўсе павінны заняць аднолькавае становішча? Якое мае быць adношаньне рэлігіі да незалежнае беларускае дзяржавы і, наадварот, якое адношаньне мае быць установлена незалежнай беларускай дзяржавы да

[1] Друкуецца паводле першапублікацыі: Iskry Skaryny. №4. Traven 1934. S. 55—65. Моўныя асаблівасьці аўтарскага тэксту захаваныя. Рэдактарскія камэнтары адмыслова пазначаныя.

[2] **Томас Карлайл** (*Thomas Carlyle*, 1795—1881), брытанскі гісторык, філёзаф, пісьменьнік. — ***Рэд***.

рэлігіі? Узьнікае шэраг іншых пытаньняў. Напрыклад: кожны беларускі незалежнік уяўляе сабе так, што незалежная беларуская дзяржава будзе вольная народная рэспубліка; гэта будзе рэспубліка беларускага народу. У вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы, як гэта сабе ўяўляе кожны ўзапраўдны беларускі незалежнік, беларуская культура зойме належнае ёй пачэснае мейсца. А як быць з рэлігіяй? Хіба ў беларускага народу няма свае народнае рэлігіі? Ясна, калі беларускі народ мае сваю нацыянальную культуру, то, пэўна-ж, павінен мець і сваю нацыянальную рэлігію, бо рэлігія, побач з навукай, літаратурай і мастацтвам, зьяўляецца адным з тых элемэнтаў, зь якіх складаецца самабытная культура кожнае нацыі. У апошні час шмат гаворыцца і пішацца аб самабытнай беларускай культуры. Але не чуваць нешта нічога аб самабытнай беларускай рэлігіі. Ці мо і ўзапраўды беларускі народ ня мае свае самабытнае рэлігіі?

Усе гэтыя пытаньні вымагаюць дакладнага і ўсебаковага вывучэньня, каб у той час, калі на ўсім абшары беларускае зямлі ад Ловаці аж да Махаўца пранясецца бураломная вестка — жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка — быць усім і кожнаму прыгатаванымі прыступіць ад словаў да чыну ў практычным вырашэньні складанага і заблытанага рэлігійнага пытаньня на Беларусі.

З гэтай мэтаю ставімо рэлігійнае пытаньне на шырокае абсуджаньне ўсіх беларускіх незалежнікаў. Хай кожны зойме сваё пэўнае становішча.

У гэтым кароткім артыкуле падамо толькі галоўныя рысы сучаснага становішча рэлігійнае справы на Беларусі.

***2. Шчырае прызнаньне***

Каталіцкі ксёндз Д. Анісько[3], адзін з выдатнейшых супрацоўнікаў беларускае каталіцкае часопісі „Хрысьціянская думка“, якая выходзе ў

[3] Тамаш Грыб памыляецца: **Дамінік Аніська** (1888—1971) ня быў сьвятаром. Ён нарадзіўся ў в. Слойнікі Сакольскага павету Гарадзенскай губэрні (сёньня Падляскае ваяводзтва, Польшча). У 1906 г. скончыў школу ў Саколцы, увосень 1907 г. быў прыняты на вайсковую службу. Служыў у Гародні да 1909 г. У часе Першай сусьветнай вайны — у войску, быў на фронце на тэрыторыі Беларусі. Пасьля рэвалюцыі вярнуўся дахаты. Ад 1920 г. — у польскім войску. Пасьля сканчэньня курсаў падхарунжых у Быдгашчы адпраўлены на фронт у ваколіцы Львова. У 1923 г. звольнены ў рэзэрвы, працаваў у банку. Друкаваўся ў беларускім часопісе „Хрысьціянская думка“. У часе Другой сусьветнай вайны прызваны ў польскае войска, трапіў у савецкі⇨

Вільні з 8 лютага 1928 г. пад рэдакцыяй каталіцкага ксяндза Адама Станкевіча[4], ідэйнага правадыра беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай партыі, што зь вялікім захапленьнем узіраецца на буйны ўздым беларускага нацыянальнага адраджэньня. Але разам з тым ён з трывогаю ўзіраецца на яго будучыню, на будучыню беларускага народу. Ставіць запытаньне: а што-ж мы, беларускія каталіцкія ксяндзы, што мы робімо ці што зрабілі, каб прыняць чынны ўдзел у беларускім адраджэнскім руху; што мы робімо ці што мы зрабілі, каб пакіраваць гэны рух на добрую дарогу, на дарогу Хрыста?[5].

У гэтым рыторычным пытаньні ксяндза Д. Анісько хаваецца шчырае прызнаньне: беларускі адраджэнскі рух узьнік, буйна ўзрастае й пашыраецца паміма ўдзелу ў ім каталіцкага касьцёлу. Тое-ж самае можна сказаць і аб праваслаўнай царкве на Беларусі. Як праваслаўныя папы, так і каталіцкія ксяндзы не прымалі й не прымаюць ніякага чыннага ўдзелу ў беларускім адраджэнскім руху; як праваслаўная царква, так і каталіцкі касьцёл ня маюць ніякага ўплыву на буйны ўзрост і пашырэньне беларускага нацыянальнага адраджэньня. Так было, прынамсе, аж да 1928 г.!

### *3. Беларускія рэлігійныя часопісі*

Аб сучасным становішчы рэлігійнае справы на Беларусі, аб тым ці іншым удзеле каталіцкага касьцёлу і праваслаўнае царквы ў беларускім адраджэнцкім руху, знаходзімо шмат надта цікавых і вельмі каштоўных вестак у беларускіх рэлігійных часопісях — каталіцкіх, праваслаўных і вуніяцкіх — якія за апошнія некалькі гадоў пачалі выходзіць у Вільні. Гэтыя часопісі: „Хрысьціянская думка“ — беларуская рэлігійная часопісь, „Сьветач Беларусі“ — царкоўна-нацыянальны орган праваслаўных беларусаў, „Царква і народ“ — беларуская праваслаўная часопісь, „Голас праваслаўнага беларуса“, „Да злучэньня“ — беларуская рэлігійная часопісь. Апрача таго, дзеякія весткі знаходзімо у наступных

⇨ палон, знаходзіўся ў Гразоўцы Валагодзкай вобласьці (Расея). З 1942 г. служыў у Арміі Андэрса. Да 1946 г. знаходзіўся ў Палестыне, дзе сярод іншага дапамагаў у выданьні польскамоўнага часопіса *„Tygodnik Katolicki“*. Пазьней правёў яшчэ год у Эгіпце, адкуль у 1947 г. перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 1949 г. асеў у Лёндане. Жыў у Беларускім доме, дапамагаў ім апекавацца. Памёр у Лёндане. — ***Рэд.***

[4] **Адам Станкевіч** (1891(1892)—1949), каталіцкі сьвятар, выбітны грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст. — ***Рэд.***

[5] Хрысьціянская думка. №14. Жнівень 1928. С. 1—2.

часопісях: „Праваслаўны беларус“, „Беларуская крыніца“, „Шлях моладзі“ ды ў іншых беларускіх выданьнях і публікацыях, што выходзяць у Вільні (напрыклад, календары).

### *4. Узрост нацыянальнае сьвядомасьці і пашырэньне рэлігійнага індэфэрэнтызму ў народзе*

Першае і аснаўное, што аднагалосна сьцьвярджаюць усе беларускія рэлігійныя часопісі — гэта бязупынны занепад рэлігійнасьці ў народзе, пашырэньне індэфэрэнтызму ў адношаньні да рэлігійнае справы.

У часопісі „Сьветач Беларусі“, напрыклад, знаходзімо наступнае прызнаньне: на кожным эпархіяльным зьездзе ад сельскага духавенства ідуць скаргі, што рэлігійнасьць у народзе ўпадае, што бязбожніцтва ўсё больш і больш апановывае народныя масы[6]. — У апошні час сьведамасьць беларускага народа моцна ўзрасла, але разам узрасла і рэлігійная індэфэрэнтнасьць[7]. А далей гэна часопісь сьцьверджае, што на Беларусі ўсьцяж адбываецца няўпынны занепад жыцьця рэлігійнага[8], — *„сталы занепад рэлігійнасьці ў народзе“*[9], — *„маральная распушчанасьць і зьдзічэласьць вёскі“*[10], — *„індэфэрэнтызм і бязбожжа запанавалі сярод шырокіх масаў“*[11]. „Сьветач Беларусі“ рашуча падкрэсьлівае, што ўсе гэтыя сьцьверджаньні зьяўляюцца наяўным выяўленьнем праўды жывой рэчаістасьці. Выражаючы шчырыя пажаданьні свае, мы, аднак, ліцамерыць фарысейскі ня можам. Ліцамерыць і маніць лёгка, але горкую праўду гаварыць у вочы цяжка і то вельмі цяжка. Аднак, мы выбіраем гэтае апошняе, бо гэтага вымагае трагічная сапраўднасьць...[12], — трагічнае палажэньне жыцьця царкоўнага на Беларусі[13], — *„Нідзе большага развалу рэлігійнага жыцьця, як у нас, на Віленскай епархіі, няма“*[14]. І далей: *„Калі ж сяньня і гаворыцца аб праваслаўным народзе, то трэба ведаць, што народ гэты — гэта бадай толькі і будуць адны старыкі, 10—20% усяго праваслаўнага насельніцтва, злучаныя з царквой толькі традыцыйным фармалізмам. Мо-*

[6] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 22.

[7] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 5.

[8] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 22.

[9] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 19.

[10] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 17.

[11] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 10.

[12] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 12.

[13] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 21.

[14] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 11.

*ладзь-жа ня толькі індэфэрэнтна адносіцца да царквы, але большасьць яе часта супраць царквы настроена варожа“*[15]. — *„На Беларусі сяньня па цэрквах падчас службы спатыкаем толькі па некалькі чалавек“* – сцьвярджае часопіс „Царква і Народ“[16], — *„у нашай вёсцы так застрашываюча шырыцца атэізм і маральны заняпад“*[17]. — *„Усходняя Беларусь стаптана ботам чырвонага атэізму. Маладое пакаленьне там ужо ня ведае цяплыні і жыватворчых сілаў царквы. Праваслаўная Зах. Беларусь свае царквы яшчэ мае, але вернікі яе з кожным днём таяць, як сьнег на вясьне. Наша вёска сяньня знае і вітае ўсялякія камунізмы, анархізмы, нігілізмы, атэізмы… і толькі праваслаўны сьвяшчэньнік тут адзін бязрадны“*[18]. — *„Нашая моладзь чамусьці да малітвы адносіцца няпрыхільна“*[19] — *„Масы народныя, дзякуючы шматлікім і рознаякім уплывам, пераважна варожым царкве, адносяцца ад духавенства з засьцярогамі, а нават часта зусім беспадстаўна, і ня прыхільна“*[20]. — Беларускі народ ня толькі стаў індэфэрэнтны ў адношаньні да рэлігійнае справы, але больш таго — да ўсялякае царкоўнае акцыі адносіцца з засьцярогаю, а то і варожа[21]. — *„Людзі цяпер ня маюць ніякіх сьвятасьцяў і ўстояў“*[22]. — *„Нарастаючая і магутнеючая дэмаралізацыя можа выліцца ў формы больш вострыя, небясьпечныя ня толькі для царквы, але і для публічнага супакою. Гэты пагляд наш ня ёсьць адасобляным тэндэнцыйным маляваньнем сітуацыі на чорна, але гэта зусім трэзвае і аб’ектыўнае сканстатаваньне фактаў“*[23].

Гэткія ёсьць сумныя вынікі, як сьцьверджае „Сьветач Беларусі“, амаль тысячагадовае дзейнасьці праваслаўнае царквы на Беларусі[24].

У аналёгічным становішчы знаходзіцца і каталіцкі касьцёл на Беларусі.

У часопісі „Хрысьціянская думка“, напрыклад, знаходзімо гэткія-ж самыя прызнаньні фактаў жывой рэчаістасьці. — *„Цяпер, пасьля вай-*

[15] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 17.

[16] Царква і народ. №1 (2). 1933. С. 5.

[17] Царква і народ. №1 (2). 1933. С. 5.

[18] Царква і народ. №1 (2). 1933. С. 11.

[19] Сьветач Беларусі. №3 (6). 1931. С. 10.

[20] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 6.

[21] Сьветач Беларусі. №1 (8). 1933. С. 30.

[22] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 5.

[23] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 17.

[24] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 4—6.

*ны, людзей агарнула нейкая рэлігійная роўнадушнасьць. Перад вайной, здаецца, гэтак ня было. Другі лічыцца каталіком, а таго каталіцызму ў яго як ў якога дзікуна. Людзі жывуць, можна сказаць, выключна толькі дачаснасьцю“*[25]. — *„На нашай рэлігійнай ніве з кожным годам усё больш і больш распаўсюджваецца ды ўсё глыбей закараняецца бязьверра ня толькі сярод малодшага пакаленьня, але нават сярод тых, каторым ужо больш трэба думаць аб жыцьці загробным, чымся аб дачасным“*[26]. — У рэлігійным жыцьці беларускага народу даецца заўважыць індэфэрэнтызм, ці іначай сказаць: рэлігійная роўнадушнасьць. Другі ёсьць каталіком толькі з прызвычаяньня, ён верыць толькі павярхоўна, там няма сталага і цьвёрдага перакананьня рэлігійнага[27]. — *„На правінцыі ёсьць ужо многа, якія пабачыўшы ў беларускіх часопісях артыкул, маючы штось супольнае з рэлігійным хрысьціянствам, ня чытаючы касуюць яго, або вырываюць зусім тыя карткі, на якіх ён надрукаваны“*[28].

Ня іначай піша і вуніяцкая часопісь „Да злучэньня“, якая на руінах праваслаўя і каталіцызму на Беларусі імкнецца пабудаваць нешта новае, аб’еднанае і злучанае, вунійнае. Але таксама ня можа пахваліцца сваімі посьпяхамі. З трывогаю пытае: *„Чаму цяпер адносна да вуніі паўстаў цэлы хаос розных паглядаў, няма яснасьці і праўды?“* — Дае такі адказ: *„Бо людзі паставілі на першым мейсцы ня Бога, а стварэньне, інтарэс земскі. Загубілі людзі паняцьце аб царкве Хрыстовай“*[29].

### *5. Узрост і пашырэньне рэлігійнага сэктанства*

Амаль усе беларускія рэлігійныя часопісі — праваслаўныя, каталіцкія і вуніяцкія — аднагалосна сьцьвярджаюць сталы і няўпынны заняпад рэлігійнасьці ў народзе, узрост індэфэрэнтызму і навет поўнага атэізму, пашырэньня бязбожніцтва. Але разам з тым прызнаюць і сьцьвярджаюць, што няўпынна ўзрастае і пашыраецца ў народзе рэлігійнае сэктанства. Напрыклад: шмат адкуль з нашага краю надыходзяць весткі, а такжа спатыкаем часта ў газэтах, што сярод беларусаў шмат дзе праводзяць сваю работу розныя рэлігійныя сэкты, як баптыс-

[25] Хрысьціянская думка. №2. 1932. С. 4—5.

[26] Хрысьціянская думка. №10. 1933. С. 4.

[27] Хрысьціянская думка. № 1 (92). 1934. С. 4.

[28] Шлях моладзі. №13 (60). 1933. С. 1.

[29] Да злучэньня. №3. 1932. С. 15.

ты, мэтадысты і інш. і што сэкты гэныя сярод нашага народу сям-там маюць сякі-такі посьпех. Галоўнымі асяродкамі працы гэных сэктаў зьяўляецца Берасьцейшчына, Ваўкавышчына, Баранавіччына, Валожыншчына і часткова апошнім часам Дзісеншчына. Праўда, сэктанства больш пранікае да беларусаў праваслаўных, аднак, паводле апошніх вестак, хоць куды ў меншай меры, але пранікае і да беларусаў-каталікоў, асабліва там, дзе гэытя апошнія жывуць у перамешку з праваслаўнымі[30]. — А часопісь „Сьветач Беларусі“ сьцьвярджае, што нават *„па ўсей Беларусі, у кожнай вёсцы маем гнёзды сэктанства, народ яго ўсё больш не баіцца, у сэктанства пачынаюць пераходзіць псаломшчыкі і царкоўныя старасты“*[31].

Рэлігійнае сэктанства на Беларусі, паводле Хр. Д. — *„гэта сумная і шкодная для нас зьява — пустошыць касьцёл і наш народ, шкодзячы ягонаму правідловаму разьвіцьцю“*[32]. — *„І вось, паўстае пытаньне нашае будучыні“*, — чытаемо ў часопісі „Царква і Народ“. — *„Хіба трэ быць хворым оптымістам, каб бачыць яе яснай“*[33].

### *6. Хіба ўзрост і пашырэньне сэктанства азначае заняпад рэлігійнасьці ў народзе?*

На тэрыторыі Савецкай Беларусі, напрыклад, ёсьць гэткія рэлігійныя сэкты: эвангелісты, баптысты, адвэнтысты, шарсьцінцы і багамолы. Апошнія дзьве — шарсьцінцы і багамолы — чыста беларускія. Першую з іх заснаваў у 1923 г. былы праваслаўны аўтарнік Хвёдар Рафановіч[34]; цэнтр яе знаходзіцца ў Шарсьціне, Гомельскай акругі, скуль паходзіць і назва сэкты. Асноваю навучаньня гэтае сэкты зьяўляецца вера ў канец сьвету і ў новы прыход Хрыста-Спасіцеля. З боку маральна-этычнага прапануе частыя пасты і аскетызм, а гэта дзеля таго, каб ачысьціцца ад грахоўнасьці сьвецкага жыцьця. Другая сэкта — багамолы — узьнікла ў 1919 г. у адным з найбольш глухіх куткоў Беларусі, сярод балот і лясоў, у вёсцы Багучычы, Каралінскага раёну, Мазырскае акругі. Багамолы рашуча адмаўляюцца ад папа, уважаючы яго за служку антыхрыста; яны уважаюць, што ня мае права адпускаць грахі той, хто сам ня менш грэшны, чымся ўсе іншыя людзі. Кожны сам, дзеля

---

[30] Хрысьціянская думка. №9. 1932. С. 1.

[31] Сьветач Беларусі. №1 (8). С. 14.

[32] Хрысьціянская думка. №9. 1932. С. 1.

[33] Царква і народ. №1 (2). 1932. С. 6.

[34] **Хведар Рафановіч** (1883—1975), сьвятар Расейскай ісцінна-праваслаўнай царквы. — ***Рэд.***

гэтага, няхай зьвяртаецца да Бога з сваімі просьбамі і жаданьнямі. Згэтуль і назва сэкты — Багамолы: самі моляцца да Бога[35].

*„Цяпер на Беларусі сэктантаў трохі развялося“* — сьцьвярджаюць дасьледчыкі рэлігійнае справы. — *„Сэктанцкі рух расьце. — Праўда, павялічваецца не на ўсе сэкты, і не ва ўсіх сэктах аднолькавая колькасьць сэктантаў, бо тут справа залежыць і ад самой сэкты, наколькі яе веравызнаньне прыстасавана да сучасных умоў, ад пастаноўкі рэлігійнай прапаганды сэктантаў і, галоўнае, ад пастаноўкі антырэлігійнай прапаганды“*[36].

Гэта самае сьцьверджае і А. Агіенка. Ён кажа аб вялікіх уплывах сэктанскае прапаганды ў работніцкім асяродзьдзі. Аказваецца, што сярод работнікаў ёсьць нават такія, якія *„пад уплывам пропавядзі сектантаў думаюць, што бяз веры ў Бога нельга пабудаваць сацыялізм. Веруючым хрысьціянам здаецца пры гэтым, што сацыялізм можна пабудаваць, кіруючыся Евангеллем“*. — А некаторыя, таксама галоўным чынам пад уплывам сэктанскіх прапаведнікаў, кажуць, што бяз веры ў Бога нельга пражыць, што з рэлігіяй трэба не змагацца, а, наадварот, падтрымліваць яе, таму што толькі рэлігія вучыць дабру і добраму жыцьцю[37].

### *7. Заняпад праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі*

Сьцьверджаныя факты ўзросту і пашырэньня рэлігійнага сэктанства на Беларусі ні ў якім разе нельга ўважаць за прыкмету ўзросту рэлігійнага індэфэрэнтызму ў народзе, ні атэізму, а тым больш нельга ўважаць за прыкмету пашырэньня „маральнага зьдзічэньня“, як гэта сьцьвярджаюць беларускія праваслаўныя, каталіцкія і вуніяцкія часопісі. Гэта наяўна сьведчыць аб нечым іншым — аб тым, што распадаецца і занепадае на Беларусі праваслаўе, каталіцызм і вуніяцтва, якія аж да апошняга часу былі афіцыяльным веравызнаньнем беларускага народу.

### *8. Дзьве веры ў народзе: адна — традыцыйная, а другая — афіцыйная*

*„У беларускага сяляніна“,* — кажа М. Р. — *„ёсьць дзьве веры: вера прашчураў, — пераходзячая дарогай традыцыі з пакаленьня ў пака-*

---

[35] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі. Менск, 1929. С. 7—31.

[36] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі...

[37] Агіенка. А. Сацыялістычнае будаўніцтва і рэлігія. Менск, 1931. С. 4.

*леньня — і вера новая — хрысьціянская, якая зьяўляецца ў яго паняцьці афіцыяльнай, мала дзеючый на яго маральна-псыхічнае жыцьцё. Хрысьціянская этыка для беларуса з'яўляецца „кодэксам карным“ інстытуцыі боскай. Беларус ня робіць зла, бо баіцца пекла. А калі-б ня было пекла і „кодэксаў“, то таксама не рабіў-бы зла, бо яму не дазваляла-б на гэта этыка народная — традыцыйная. Глыбокага зразуменьня хрысьціянскай навукі ў беларуса няма (хіба ўчуццёвасьць толькі); ён яе разумець ня можа, бо яна сяньня плыве да яго ў незразумелай форме, у чужой мове. Словам, беларус не з свае віны, мае сяньня дзьве веры“*[38].

Ды пэўна-ж, якая можа быць віна беларускага сяляніна ў тым, што ён моцна трымаецца свае народна-традыцыйнае этыкі і не зьвяртае ніякае ўвагі на тое, што кажа яму з амбоны каталіцкі ксёндз ці-то праваслаўны поп: жыве сваім розумам; а тое, што кажуць ксяндзы і папы — вось дзіва, на тое вучыліся яны ў сэмінарыях, каб так казаць...

Далей аўтар прыводзіць вельмі характэрны прыклад, як на беларускае вёсцы адбываюцца калядныя сьвяты. Адзначае, пры гэтым, што *„калядныя сьвяты цалкам перанесяны з далёкага сьвету паганскага ў сучаснасьць; праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл стараліся афарбаваць іх у хрысьціянскі колар і ўлажыць хрысьціянскі зьмест, але народныя традыцыі, асабліва духовыя перажываньні, глыбока закараніліся ў душу паасобных адзінак, а таксама і ў душу цэлага народу“. — „Паганскі элемэнт калядных сьвят“*, — ён кажа, — *„міма ўсёцэлага схрыстыянізаваньня народу нашага, launched перетрываў да сяньня, хоць з імглістымі фірмамі, але за тое з зместам вельмі выразным. Касьцёл і царква, як установы на нашых землях з чужым кіраўнічым элемэнтам, а таксама чужыя цывілізацыя, за чатыры-пяць апошніх вякоў не патрапілі вырваць з душы народу таго, што было сьвятым і неабходным у жыцьці духовым беларуса. Усе традыцыі з жыцьця духовага, міма ўсялякага глуму, захаваліся да сяньня“*[39].

Гэтак выглядае справа рэлігійнага жыцьця беларускага народу ў рэальнай сапраўднасьці. Беларускі народ, нягледзячы на ўзмоцненае прышчапленьне яму ў цягу стагодзьдзяў каталіцка-праваслаўнага хрысьціянства, аж па сяньняшні дзень захаваў сваю народна-традыцыйную веру, веру сваіх продкаў, сваю самабытную форму рэлігійнага культу. Беларускі народ мае сваю народна-традыцыйную этыку, якая

---

[38] Шлях моладзі. №1 (61). Студзень 1934. С. 3—5.

[39] Шлях моладзі. №1 (61). Студзень 1934. С. 3—5.

нічога супольнага не мае з афіцыйным касьцёльна-царкоўным навучаньнем на Беларусі.

Праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі, такім чынам, зьяўляюцца культурна і псыхалёгічна чужымі для беларускага народу — гэта ёсьць чужая беларускаму народу цывілізацыя, з чужой мовай і каталіцка-праваслаўным аўтарніцтвам: няма між імі ні супольнага разуменьня, ні супольнага паразуменьня. Гэта сьцьвярджаюць аднагалосна ўсе беларускія рэлігійныя часопісі.

### *9. Рэлігія і палітыка*

Ёсьць людзі, а такіх ёсьць нямала, якія ўважаюць, што рэлігія нічога супольнага не мае з палітыкай.

І ўзапраўды: што, здавалася б, можа быць супольнае з палітыкай вера ў Бога, ў несьмяротнасьць душы, у вечнае загробнае жыцьцё. Асабліва хрысьціянская рэлігія, у аснове якой ляжыць навучаньне аб тым, што ўсе вечныя і сьвятыя праўды — зьяўляныя Богам праўды — паходзяць *„не от міра сего“*; што гэта рэлігія не можа мець супольнае з усім тым тленным і дачасным, аб чым клапоціцца палітыка, чым займаецца дзяржаўная ўлада? Хіба-ж гэта няясна кожнаму, што для ўзапраўднага хрысьціяніна адзіная ёсьць толькі ўлада на сьвеце — гэта ўлада Бога? Як гэта магчыма, каб хрысьціянскі аўтарнік, каб праваслаўны поп ці-то каталіцкі ксёндз, каб слуга Богу ў адзін і той самы час быў слугою палітычнае ўлады, слугою дзяржавы?

Аднак, хто ўважліва прыглядаецца да рэлігійнага жыцьця на Беларусі, той ня можа ня бачыць, што ўсё гэта, здавалася б зусім немагчымае, зьяўляецца ня толькі магчымым, але нават больш таго: усё гэта ўжо з даўнейшых часаў існуе ў жывой рэчаістасьці. Рэлігія і палітыка на Беларусі — гэта ёсьць дзьве пасудзіны, якія маюць супольнае дно: узаемна сябе працінаюць і дапаўняюць.

З сацыяфонічнага гледзішча інакш і быць ня можа. Паколькі рэлігійная справа зьяўляецца адным з элемэнтаў суспольнага жыцьця, то ні ў якім разе ня можа быць выдзялена з усяго складанага комплексу суспольнае дзейнасьці.

Уся сутнасьць рэлігійнае справы на Беларусі палягае ў тым, якую палітыку зьдзяйсьняе, напрыклад, праваслаўная царква і якую палітыку зьдзяйсьняе каталіцкі касьцёл — беларускую ці антыбеларускую?

Сяньня беларуская нацыянальная палітыка выяўляецца ў тым, што беларускі народ вядзе змаганьне за сваё нацыянальнае адраджэньне і

сацыяльна-палітычнае вызваленьне; вядзе змаганьне за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Як адносяцца да беларускае нацыянальнае палітыкі праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі: мо' ідуць яны разам зь беларускім народам і зьдзяйсьняюць яго нацыянальную палітыку?

Ніхто ня стане цьвердзіць, што праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі праводзяць беларускую нацыянальную палітыку. Кожнаму ясна і зразумела: праваслаўная царква праводзіць рускую нацыянальную палітыку на Беларусі. І ўсё гэта адбываецца ў той час, калі беларускі народ — бяз розьніцы веравызнаньняў, — выставіўшы баёўны покліч волі і дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, вядзе напружанае змаганьне на два фронты: проці Польшчы і проці Расеі, каб скінуць зь сябе ярмо іх гвалтоўнага панаваньня.

Зусім зразумела, дзеля гэтага, што праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі, зьяўляючыся палітычнымі экспазытурамі Польшчы і Расеі, ня могуць карыстацца пашанаю з боку беларускага народу: яны самі сябе ставяць пад удары беларускага вызвольна-адраджэнскага руху. І кожны сьвядомы беларус, кожны ўзапраўдны беларускі незалежнік, ня можа іначай адносіцца да праваслаўнага папа ці-то да каталіцкага ксяндза, як толькі з пэўнай засьцярогаю; а ў тым прыпадку, калі ўбачыць іх актыўную дзейнасьць на карысьць Расеі або на карысьць Польшчы, ня можа не ўважаць іх за сваіх ворагаў, за ворагаў беларускага народу.

Вядома, гэта яшчэ не азначае таго, што беларускі народ ужо гэтым самым нібы-то выступае проці рэлігіі. Індэфэрэнтызм або нават варожасьць беларускага народу ў дачыненьні да праваслаўнае царквы і да каталіцкага касьцёлу на Беларусі, — гэта яшчэ не азначае ні рэлігійнага індэфэрэнтызму ў народзе, ні яго бязбожніцтва. Мусімо адрозніваць рэлігію ад конфэсіі. Рэлігія ёсьць нешта больш глыбокае і шырокае, чымся конфэсія. Гэта можа пацьвердзіць кожны, хто ўзапраўды мае рэлігійную сьвядомасьць. Рэлігія — гэта вера ў Бога, а конфэсія — гэта арганізацыя культу.

Для сацыёляга, які займаецца навуковым досьледам і вывучэньнем людзкога супольства, як і для грамадзка-палітычнага дзеяча, які тэорэтычныя здабыткі сацыялёгічнага веданьня рэдукуе на практычную дзейнасьць, вагу і значаньне мае пэўна-ж не рэлігія, а конфэсія. У абставінах беларускае рэчаістасьці гэта азначае: вагу і значаньне мае той факт жывой рэчаістасьці, хто і як арганізуе рэлігійны культ на Беларусі.

### *10. Каталіцкі касьцёл і праваслаўная царква на Беларусі — башты[40] асыміляцыі беларускага народу*

Беларускі народ мае здэфармаваную сацыяльную структуру; зьяўляецца няпоўным супольствам. Гэта ёсьць вынік мінуўшчыны: шматгадовага панаваньня Польшчы і Расеі, гнёту і паняволяньня, калёніяльнага становішча Беларусі.

Усе вышэйшыя функцыі культурнага, гаспадарчага і палітычнага жыцьця беларускага народу выконваюцца не беларусамі, а чужанцамі — рускімі, палякамі, жыдамі; калі інады і сустрачаецца між імі беларус, то гэта, як звычайна ўжо так бывае, — *„тоже белорус“* і *„тэж бялорусін“*: родам беларус, а культурна і псыхалёгічна — рускі або паляк. Гэта ёсьць беларускія рэнэгаты. Яны зьяўляюцца сьляпым аружжам у руках польскіх і рускіх вялікадзяржаўнікаў на Беларусі; найбольшыя ворагі беларускага народу: праз іх польска-расейскія гнабіцялі зьдзяйсьняюць на Беларусі свае вялікадзяржаўніцкія імкненьні, раскладаюць, дэмаралізуюць і асымілююць беларускае народнае супольства.

З усёя яскравасьцю гэта выяўляецца і ў справе арганізацыі рэлігійнага культу на Беларусі: каталіцкі касьцёл і праваслаўная царква зьяўляюцца ўжо з даўнейшых часаў найбольш умацаванамі баштамі польскага і расійскага вялікадзяржаўніцтва; служаць іх мэтам асыміляцыі беларускага народу. Гэта-ж праз каталіцкі касьцёл дапялі польскія імпэрыялісты таго, што беларус католік пачаў уважаць сябе паляком; гэта-ж праз праваслаўную царкву польскія імпэрыялісты дапялі таго, што беларус праваслаўны пачаў уважаць сябе рускім. Дык што яшчэ болей?

Аж па сяньняшні дзень арганізацыя рэлігійнага культу знаходзіцца на Беларусі ў руках чужынцаў, знаходзіцца ў руках польска-расейскіх вялікадзяржаўнікаў. Гэта аднагалосна сьцьвярджаюць усе беларускія рэлігійныя часопісі[41].

### *11. Тры галоўныя прычыны заняпаду праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі*

Праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі, як сьцьвярджаюць беларускія рэлігійныя часопісі, перажываюць востры крызыс; знаходзяцца ў становішчы поўнага заняпаду

[40] **Башты** — магчыма, ад „бастыёны“. — ***Рэд.***

[41] Хрысьціянская думка. №1 (32). 1933. С. 5; №11. 1932. С. 1; №10. 1933. С. 4—5; Сьветач Беларусі. №1. 1931. С. 1—5; №1. 1932. С. 5—7, 16—22.

Галоўныя прычыны гэтае зьявы ёсьць тры:

I. Супярэчнасьць паміж народна-традыцыйным сьветапоглядам і касьцельна-царкоўным навучаньнем.

II. Праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл на Беларусі — з іх чужой моваю і чужым рэлігійным культам — зьяўляюцца культурна і псыхалёгічна чужымі для беларускага народу, у выніку чаго існуе адчужанасьць паміж праваслаўна-каталіцкім аўтарніцтвам і беларускім народам.

III. Залежнасьць вышэйшай гіерархіі праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі ад чужых уладаў, якія абярнулі праваслаўную царкву і каталіцкі касьцёл у зброю іх нацыянальна-палітычнае экспансіі на Беларусі ў выніку чаго істнуючая адчужанасьць паміж праваслаўна-каталіцкім аўтарніцтвам і беларускім народам абяртаецца ў няпрыхільнасьць і адкрытую варажнечу; з узростам і пашырэньнем беларускае нацыянальнае сьвядомасьці гэта адчужанасьць, гэта непрыхільнасьць, гэта варожае адношаньне беларускага народу да праваслаўна-каталіцкага аўтарніцтва пашыраецца на царкву, на касьцёл, як на палітычныя экспазытуры гнабіцельскіх урадаў на Беларусі.

Гэткая ёсьць лёгіка фактаў жывой рэчаістасьці.

### *12. Прычыны ўзросту і пашырэньня рэлігійнага сэктанства на Беларусі*

Вельмі цікавая і характэрная зьява: праваслаўныя, каталіцкія і вуніяцкія беларускія часопісі ўважаюць, што ўзрост і пашырэньне рэлігійнага сэктанства на Беларусі зьяўляецца вынікам пашырэньня маральнага заняпаду ў народзе, бязбожніцтва, матэрыялізму і нават бальшавізму[42].

Але інакш узіраюцца на гэту справу бальшавікі: яны ўважаюць, што рэлігійнае сэктанства, як і кожная праява рэлігійнае сьвядомасьці, зьяўляецца найвялікшай шкодаю. Гэта *„опіум для народа“*.

Рэлігійнае сэктанства на Беларусі існавала з даўнейшых часаў. Але ніколі не дасягала такога посьпеху, як у сучаснасьці.

Д. Хайтун і П. Капаевіч, якія наўмысна ўзяліся за навуковае вывучэньне сэктанства на Беларусі, прыходзяць да выснаўку, што ўсясьветная вайна прабудзіла ў народзе пачуцьцё імкненьня да вышэйшае моцы, да ўсемагутнага Бога. Яны кажуць: *„У выніку імпэрыялістычнай*

[42] Хрысьціянская думка. №9. 1932. С. 1; Царква і народ. №1 (2). 1932. С. 3—5, 11; Сьветач Беларусі. №1. 1933. С. 4—5, 22; №1. 1932. С. 4.

*вайны, голаду, разрухі, выкліканых вайной, сярод самай адсталай часткі насельніцтва зьяўляецца містычны настрой, думка, што пры моцнай веры ў Бога, Бог, калі яму добра памаліцца, супакоіць край, спыніць вайну, паможа зьнішчыць разруху“*[43]. — *„Мы стаімо цяпер перад фактам росту сэктанскіх арганізацый“*[44].

Пэўна-ж, выходзячы з тэй аснаўной засады, што ў абставінах бальшавіцкае дыктатуры сэктанства зьяўляецца контр-рэвалюцыйнай зьяваю, Д. Хайтун і П. Капаевіч уважаюць, што павінен быць і той клясавы вораг, які ўжывае рэлігійнае сэктанства для сваіх буржуазна-капіталістычных мэтаў. Яны кажуць: *„Сусьветная буржуазія, а таксама нэпманаўскія і кулацкія элемэнты ў СССР скарыстоўваюць усе труднасьці нашага сацыялістычнага будаўніцтва для ўцягненьня ў свае шэрагі ўсіх ворагаў савецкае ўлады і няўстойлівых элемэнтаў для ўзмацненьня сэкт — штабаў контрэвалюцыйнай дзейнасьці“*[45] . — *„Адначасова з гэтым мы маем і шэраг іншых прычын росту сэктанства: эканамічны ўплыў кулакоў на беднату, скурніцтва, нашу слабую пастаноўку палітыка-асьветнай работы і ў прыватнасьці антырэлігійнай прапаганды, а таксама добрую арганізацыю сэктантамі рэлігійнай агітацыі і прапаганды“*[46].

Але што найбольш абурвае бальшавікоў супраць сэктантаў, дык гэта тое, што сэктанты, уцягваючы ў свае шэрагі сялянства (у сэктанскіх арганізацыях пераважаюць серадняківі, якіх налічваецца 55%, і беднякі, якіх налічываецца 28,6%, а так-званых кулакоў усяго толькі 16%), спыняюць усялякія ўплывы бальшавікоў на бядняцка-сярэдняцкія элемэнты вёскі. Нават больш таго: *„сэктанты самі сябе лічаць настаўнікамі, якія выбаўляюць заблудшых авец, настаўляюць іх на ісьцінны шлях“*[47].

Вось-жа: *„Каб спыніць рост сэктанскага руху, трэба вясьці належную антырэлігійную прапаганду сярод працоўнага насельніцтва, асабліва сярод сялянства“*[48]. — *„А дзеля таго каб лягчэй вясьці наступ на сэктанства, ды наогул на рэлігію, трэба яднаць усе нашы сілы, усіх бязбожнікаў, у адну арганізацыю — саюз бязбожнікаў, і ячэйкі*

[43] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 12.
[44] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 40.
[45] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 40.
[46] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 41.
[47] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 67.
[48] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі… С. 69.

*гэтага саюзу трэба арганізоўваць, пры кожным прадпрыемстве, у кожнай вёсцы, усюды, дзе ёсьць групы бязбожнікаў*“[49].

Як бачымо з гэтага, рэлігійнае сэктанства на Беларусі ня ёсьць такая ўжо простая зьява, як гэта мо’ спачатку здаецца. Патрабуе дакладнага і ўсебаковага вывучэньня, каб можна было вынясьці тое ці іншае канчатковае суджаньне.

Трэба мець на ўвазе, пры гэтым, што і бальшавізм, як своеасаблівае прыстасаваньне сацыяльна-палітычнага навучаньня Маркса і Энгельса да рускіх нацыянальна-палітычных абставін, як ператварэньне марксізму ў ленінізм і сталінізм, — мае ў сабе нешта спэцыфічна рускае: зьяўляецца своеасаблівай рэлігійнай сэктай. З усей яскравасьцю аб гэтым сьведчыць арганізацыя культу: іх рэлігійны піетызм перад маўзалеем Леніна ў Маскве, іх ленінскія чырвоныя куткі ва ўсіх дзяржаўных установах, дзе калісьці былі праваслаўныя часоўні з іконамі сьвятых угоднікаў; а іх маніфэстацыі хіба не прыпамінаюць нам царкоўна-касьцёльныя працэсіі з харугвамі ды вобразамі; а іх догматызм і аўтарытарызм у навучанні, у іх дзейнасьці: усё мае быць так, як сказана ў прароках бальшавіцкага веравызнаньня!

Рускі бальшавізм — гэта своеасаблівая руская рэлігійная сэкта; мае сваю гіерархію, якая на Беларусі зьяўляецца ня менш чужой для беларускага народу, чымся касьцельна-царкоўная гіерархія. Уся розьніца палягае толькі ў тым, што бальшавіцкая гіерархія, каб дасягнуць свае мэты і найбольшага посьпеху ў пашырэньні сваіх уплываў сярод народных гушчаў, прызнае роўнапраўнасьць моваў: на Беларусі ўжывае беларускую мову, на Украіне — украінскую, а ў Грузіі, напрыклад, — грузінскую. На беларускую мову перакладзены ўжо амаль усе творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. На тэрыторыі Вялікай Беларусі (БССР і так званая Западная обласьць) узмоцненым тэмпам адбываецца беларусізацыя ўсіх праяваў беларускага культурнага жыцьця; гэна бальшавізацыя адбываецца пад сьцягам беларусізацыі.

Аснаўная і галоўная сутнасьць бальшавіцкае беларусізацыі ўсім добра ўжо вядома і палягае ў тым, што беларуская мова абернута ў спосаб ці то ў прыладу замацаваньня бальшавіцкае ўлады на Беларусі; мова — беларуская, а зьмест — усерасейскі, вялікадзяржаўніцкі.

### *13. Беларусізацыя, як спосаб здабыцьця народу*

Дзеля вырашэньня існуючага крызісу праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі, дзеля актывізацыі іх дзейнасьці і на-

[49] Хайтун, Д., Капаевіч, П. Сучаснае сектанцтва на Беларусі... С. 69.

бліжэньня царкоўна-касьцёльнага аўтарніцтва да народу, ёсьць адзін вельмі добры спосаб, як запэўняюць беларускія рэлігійныя часопісі, гэта — беларусізацыя[50].

„Беларуская крыніца", орган беларускае хрысьціянска-дэмакратычнае партыі, у кіраўніцтва якой уваходзяць беларусы каталіцкага і праваслаўнага веравызнаньняў, уважае, што *„праваслаўная царква і каталіцкі касьцёл, якія зьяўляюцца сяньня параванам маскоўшчыны і польшчыны, — ня могуць і не павінны быць так-жа якім параванам, ці прыладаю беларускасьці, бо яны маюць свае асаблівыя мэты — служэньне ў народзе справе хрысьціянскай веры і маральнасьці.Ісьці-ж да гэтых высокіх мэтаў як царква, так і касьцёл павінны пры помачы мовы і культуры таго народу, сярод якога яны працуюць"*[51].

Беларуская мова і беларуская культура, як бачымо з гэтага сьцьверджаньня „Бел. крыніцы", зьяўляюцца толькі спосабам ці-то прыладаю, каб ажывіць заняпаўшую дзейнасьць праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі. А ў часопісі „Царква і народ" знаходзімо яшчэ больш выразнае прызнаньне: *„беларусізацыя царквы і касьцёла — гэта спосаб здабыцьця народу"*[52]!

Беларусізацыя праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі мае выявіцца ў наступных формах:

1. Ужываньне беларускае мовы ў дадатковым набажэнстве, але захоўваецца пры гэтым стара-баўгарская мова ў праваслаўнай царкве і латынская мова ў каталіцкім касьцёле, як мовы галоўнае багаслужбы.

2. Навучаньне рэлігіі ў школе для беларускіх дзяцей мае адбывацца ў беларускай мове.

3. Выдаваньне ў беларускай мове адпаведнае касьцёльна-царкоўнае літаратуры.

4. Усё каталіцка-праваслаўнае аўтарніцтва на Беларусі павінна складацца з людзей, якія паходзяць зь беларускага народу.

5. Беларусізацыя каталіцкіх і праваслаўных сэмінарыяў на Беларусі.

Рэшта ўсё застаецца па-старому: захоўваюцца ў поўнай ненарушальнай суцэльнасьці ўсе догматы касьцёльна-царкоўнага навучаньня

[50] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 5—7; Хрысьціянская думка. №9. 1932. С. 1; Царква і народ. №1. 1933. С. 5; Беларуская крыніца. №9. 1934. С. 1; №14. 1934. С. 1.

[51] Беларуская крыніца. №9. 1934. С. 1.

[52] Царква і народ. №1 (2). 1933. С. 5.

і ўся іх вонкавая абраднасьць. Існуючае канонічнае права каталіцкага касьцёлу і праваслаўнае царквы і надалей застаюцца абавязковым для беларускага аўтарніцтва.

І ў гэткі спосаб яны хочаць здабыць сабе розум і сэрца беларускага народу!

***14. А далей што?***

„Сьветач Беларусі" ўважае, што праваслаўная царква на Беларусі павінна стаць сымбалем беларускасьці[53].

Але інакш узіраецца на справу „Хрысьціянская думка": уважае, што еднасьць беларускае мовы ў праваслаўнай царкве і каталіцкім касьцёле прывядзе з часам да поўнае касьцельна-царкоўнае еднасьці, да вуніі[54].

Узьнікае пытаньне: ці беларусізацыя праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на Беларусі зьяўляецца толькі першым крокам на шляху да стварэньня беларускага нацыянальнага веравызнаньня?

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[53] Сьветач Беларусі. №1. 1932. С. 1—2.

[54] Хрысьціянская думка. №14. 1931. С. 1—2.

## „НА ЧУЖЫНЕ“

*У сакавіку 1920 г. у Рызе пабачыў сьвет першы нумар літаратурна-грамадзянскага штомесячніку „На чужыне“. У выходных зьвестках была пададзеная адрэса рэдакцыі: „м. Рыга, Бульвар Тотлебена 7, кв. 3“ — і імя рэдактара: „Грыгор Казячы“. Таксама пазначалася, што выдаўцом выступае „Рыжэскі аддзел Беларускага культурна-прасьветнага таварыства „Бацькаўшчына“. Паводле зьместу часопісу, выглядае, што гэта быў аддзел таварыства, заснаванага яшчэ ў Менску ў жніўні 1918 г., а ініцыятарам стварэньня аддзелу стаў Кастусь Езавітаў. А паколькі адрэса рэдакцыі супадае з адрэсай консульства БНР у Рызе, можна меркаваць, што пад псэўданімам Грыгор Казячы таксама хаваецца кіраўнік Вайскова-дыпляматычнай місіі ў Латвіі.*

*На першай старонцы выданьня быў зьмешчаны рэдакцыйны артыкул, які акрэсьліваў ня толькі ўласна ягоныя мэты, але й задачы ўсёй беларускай грамады на чужыне. Аўтар акрэсьлівае складанасьці апошніх гадоў для сусьветнай гісторыі і для беларусаў, зважаючы, што на Бацькаўшчыне ідзе змаганьне за родную зямлю. Далей з аднačасовым тлумачэньнем назову часопісу падаецца:*

*„З трэпетам сэрца слядзім мы, апынуўшыяся на чужыне, за гэтай барацьбой, цешымся з кожнай самай маленечкай удачы і горка сумуем, калі бачым няўсьпехі нашых братоў.*

*Але ў гэтай барацьбе мы не павінны астацца толькі сьведкамі.*

*У гэтым цяжкім змаганьні мы павінны дапамагчы нашым братом усім, чым толькі можам: і маральным падтрыманьнем, і грашмі, і аружнай сілай.*

*Першыя крокі ў гэтым кірунку ўжо зроблены. Ужо мы не раскіданы па ўсяму сьвету асобнымі, адарванымі друг ад друга адзінкамі, ужо мы згуртаваліся на чужыне ў Калёніі, ужо маем сваі нацыянальныя ўстановы, але гэта толькі пер-*

*шы крок. За ім павінна ісьці аб’яднаньне ўсіх зарубежных беларусаў, каб агульнымі сіламі ратаваць Бацькаўшчыну.*

*Каб пасабіць гэтаму аб’еднаньню, каб выявіць усе беларускія сілы, працуючыя на чужыне, каб злучыць іх у моцны зьвязак і працягнуць руку помачы нашым змучаным братом на Бацькаўшчыне — выпускаем гэты штомесячнік.*

*Крэпка гуртуйцеся каля яго, беларусы!*

*Хай будзе ён нашым маяком, і нашым звонам на чужыне. Хай сьвет і гул яго моцных ударaў, аб’яднае нас тутака, ляціць на Бацькаўшчыну і дае сілы тым, хто часамі апускае ў цяжкай барацьбе рукі“*[1].




Вокладка часопісу „На чужыне“

*На жаль, часопіс ня змог цалкам рэалізаваць пастаўленыя мэты. Пабачыў сьвет толькі адзін ягоны нумар. Але стаўся ён надзвычай каштоўным паводле свайго зьместу:*



[1] На чужыне. Рыга, 1920. №1 (сакавік). С. 1.

*Асноўную частку нумару займаюць тэксты, прысьвечаныя беларускай прысутнасьці ў краінах балтыйскага рэгіёну. Гэтыя тэксты тым больш важныя, што адлюстроўваюць самыя пачаткі арганізаванага беларускага жыцьця ў Літве, Латвіі, Фінляндыі і Эстоніі. Напісаныя, відаць, на мяжы 1919—1920 гг., яны рэпрэзэнтуюць першыя крокі па арганізацыі беларускіх грамадаў. Згаданыя артыкулы не падпісаныя, але, з увагі на прыведзеныя ў іх падрабязнасьці дзейнасьці й дакумэнты, можна меркаваць, што аўтарам быў кіраўнік Вайскова-дыпляматычнай місіі ў Латвіі й Эстоніі Кастусь Езавітаў.*

*Безумоўную цікавасьць выклікаюць ня толькі зьмешчаныя ў часопісе тэматычныя артыкулы, але й агляд тагачаснага беларускага друку, дзе згадваюцца такія выданьні, як: газэта „Беларусь“ (Менск), бюлетэнь „Абвесткі Беларускага Дзяржаўнага Прэс-Бюро“ (Бэрлін і Прага), ілюстраваны штомесячнік „Часопісь“ (Коўна), ілюстраваны тыднёвік „Беларускае жыцьцё“ (Вільня), незалежная палітычна-грамадзянская тыднёвая газэта „Думка“ (Вільня), тыднёвік „Бацькаўшчына“ (Горадня), газэта „Родны край“ (Горадня), вайсковая газэта „Варта Бацькаўчшыны“, газэты „Звон“ і „Незалежная Беларусь“ (Беларусь), штомесячнік „Чырвоны шлях“ (Петраград), газэта „Дзяньніца“ (Масква), орган Беларускай хрысьціянскай злучнасьці „Кrупіса“ (Вільня). Пры гэтым кожнаму выданьню дадзеныя характарыстыкі ды пазначана, ці яны яшчэ выходзяць.*

*У „Вестках з Бацькаўшчыны“ падаецца інфармацыя пра падзеі польскай акупацыі, што сёньня выглядаюць каштоўнымі зьвесткамі і па палітычнай гісторыі, і па гісторыі штодзённасьці.*

*Акрамя тэкстаў у часопісе ёсьць здымкі, малюнкі, мапы й ноты, а таксама рэкляма друкаў беларускіх выдавецтваў: Таварыства імя Ф. Скарыны ў Коўне, Беларускага выдавецкага таварыства „Веда“ ў Вільні, Беларускага выдавецкага таварыства „Крыніца“ ў Вільні, Беларускага выдавецтва „Зорка“ ў Кіеве, Менскага асьветнага выдавецтва ды ўласна Беларускага культурна-прасьветнага таварыства „Бацькаўшчына“.*

*Прыцягвае ўвагу й зьмешчаны пры канцы нумару меркаваны зьмест наступнага красавіцкага выданьня часопісу, дзе плянавалася зьмясьціць тэксты: „Беларусы ў Францыі“, „Беларусы ў Чэхіі“, „Беларусы ў Польшчы“, „Беларусы на Украіне“, „Беларусы на Дану“, „Беларусы на Каўказе“, „Беларусы ў Нямеччыне“. Застаецца толькі шка-*

*даваць, што гэты нумар так і не пабачыў сьвет, бо зьвесткі пра арганізацыю беларускіх грамадаў у згаданых краінах і рэгіёнах мелі б сёньня надзвычайную каштоўнасьць.*

*З увагі на важнасьць артыкулаў, прысьвечаных беларускай прысутнасьці ў балтыйскіх краінах, а таксама на меркаванае аўтарства Кастуся Езавітава, ніжэй падаюцца гэтыя тэксты цалкам. Пры публікацыі захаваныя асноўныя асаблівасьці мовы, арыгінальныя аўтарскія спасылкі-камэнтары, а таксама частка ілюстрацыяў (тыя, што магчыма было аднавіць у прымальнай якасьці).*



Пашырайце беларускую кнігу,
куплайце
выданьня Беларускаго Культурна-Прасьветнаго Таварыства
„БАЦЬКАЎШЧЫНА“
і запісывайцесь ў гэта Таварыства, каб яно магло рабіць новыя выданьня.

„Таварыства імя Ф. Скарыны“
выдала вось якія новыя кнігі:
ЯЗЭП ВАРОНКО.
„Беларуская Справа да Міравой Нарады у Вэрсалі.“
К. ЕЗАВІТАЎ.
Беларусы і палякі.
М. ЗАСЕЦКІ.
Міністэрства Беларускіх Спраў

Беларускае Выдавецкае Т-ства
„КРЫНІЦА“
выдала і прадае вось якія новыя кнігі:
Л. ГАРЭЦКАЯ. „Родны Край.“
Л. ЧАРНЯЎСКАЯ.
„Дзяцінныя Гульні.“
МАКСІМ ГАРЭЦКІ.
Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік.

„Менскае Асьветнае Выдавецтва“
выдала новую кнігу:
Л. ЧАРНЯЎШЧЫНКА.
„Родны Край.“
Беларускага Навуковага Таварыства
Кошт 3 руб. 50 кап.

Беларускае Выдавецкае Таварыства
„ВЕДА“
(Вільня)
выдала новую кнігу:
А. СМОЛІЧ
„Географія Беларусі“.
Рэдакцыя Школьнае Камісыі Беларускага Навуковага Таварыства.
Кошт 10 марак.

„ЗОРКА“ Беларускае Выдавецтва „ЗОРКА“
(ў КІЕВІ)
ВЫДАЛА НОВУЮ КНІГУ:
„Дыямэнты Беларускаго прыгожаго пісьменства“.

Рэклямная старонка часопісу „На чужыне“

## Беларусы ў Латвіі

Балтыцкае мора, Заходняя Дзьвіна і так званая Рыга-Арлоўская чугунка зрабілі тое, што беларусы і латышы ня толькі добра ведаюць друг-друга, як суседзі, ня толькі часта па ўсякім справам гасьцілі адзін у другога, але з даўных часоў цэлымі сямействамі перасяляліся друг да друга на вечнае жыцьцё. Латышы сяліліся у Беларусі, як арэндатары іменьняў, як кіраўнікі рожных майстарскіх і ўстаноў на чугунцы; беларусы ганялі ў Рыгу платы зь лесам, вазілі лён і іншыя рэчы.

Вось чаму, як у нас на Беларусі ёсьць шмат латышоў, ды таксама шмат беларусаў жыве ў Латвіі.

Гэта супольнае жыцьцё і агульныя інтэрэсы абодвух народаў прывялі да таго, што паміж імі ні ў мінуўшыя часы, ні ў сучасны мамэнт, ня было ніякіх непаразуменьняў, або сталкнавеньняў, і трэба спадзявацца, што гэтак будзе і ў будучыне.

Беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Латвіі пачалося ўжо даўно. Гадоў 75 таму назад утварылася ў Рызе Беларуская іудзейская абшчына; кожны год з адчыненьнем навігацыі наяжджала ў Латвію шмат

беларусаў; у часе вайны існаваў у Рызе Беларускі вайсковы камітэт 12-ай арміі, — але толькі ў сярэдзіне мінулага 1919 году пачынаецца ў Латвіі шырокае аб'еднаньне ўсіх беларусаў і праўдзіва нацыянальны рух паміж іх, прывёўшы да стварэньня ў Латвіі Беларускай калёніі.

### *Беларуская калёнія ў Латвіі*

Беларуская калёнія ў Латвіі, налічывае, у сваім складзе некалькі тысяч беларускіх грамадзян.

Арганізацыя яе пачалася ў жнівені с прыездам у Рыгу некаторых беларускіх дзеячоў, павінных у той мамэнт уцякаць з Гарадзеншчыны, дзе палякі пачалі арыштоўваць кіраўнікоў беларускага руху.

7 верасьня, у м. Рызе, адбыўся І-шы Агульны сход Беларускай калёніі. Гэты сход насіў вельмі таржэсьцьвенны і паважны характар, сабраў больш 500 чалавек беларускіх грамадзян, знаходзіўшыхся ў той мамэнт у Рызе, і закончыўся стварэньнем Рады Беларускай калёніі ў Латвіі. У Раду Калёніі з чысла прысутных былі выбраны 9 грамадзян, якія са свайго боку выбралі Прэзыдыюм Рады Беларускай калёніі ў Латвіі ў складзе: Я. Данілюк — старшыня Рады Калёніі, А. Сьцяпура — намесьнік старшыні, П. Цьвяткоў — сакратар.

Рада Калёніі праявіла добрую здольнасьць да працы і, карыстаючыся з дапамогі Дыплёматычнага Прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі, здолела ў хуткім часе, нягледзячы на цяжкае становішча грамадзянскага жыцьця ў бамбардзіруемай Бэрмантоўскімі вайскамі Рызе, зрабіць рэгістрацыю беларускіх грамадзян, сабраць добры лік грошай, прыступіць да грашовай дапамогі бяднейшым членам Калёніі, сарганізаваць добры вечар ў дзень Вялікага беларускага сьвята 17 сьнежня і перакінуць арганізацыю беларусаў у правінцыю. Цяперака Рада прыступае да Культарна-прасьветнай працы і асыгнавала грошы на выдавецтва і клюб, якія перадае Рыжскаму аддзелу Беларускага культурна-прасьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“.

### *Беларускае прадстаўніцтва ў Латвіі*

Першым Урадавым Прадстаўнікам Беларускай Народнай Рэспублікі зьявіўся ў Латвію кіраўнік Міністэрства ўнутранных спраў грамадзянін К. Тэрэшчэнка, якому было даручана аб'ехаць Латвію, Эстыю і Фінляндзію і завязаць добрыя зносіны з Урадамі Балтыкі. Грамадзянін Тэрэшчэнка, маючы гэтую спэцыяльную місыю, прабыў у Латвіі вельмі кароткі

час і , зрабіўшы належныя крокі і адчыніўшы ў м. Рызе Консульства Б. Н. Р.[2], з паручыкам Шымковічам на чале, — выехаў.

Сьледам за ім, празь некаторы час, прыбыла ў Латвію Вайскова-дыплёматычная місыя Б.Н.Р. у складзе: шэфа Місіі палкоўніка К. Езавітава, Вайсковага райцы падпалкоўніка Р. Шоўкавага і сакратара Я. Чарапука.



Палкоўнік К. ЕЗАВІТАЎ.
Шэф Вайскова—Дыплёматычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстіі.

Місыя гэтая 3 кастрычніка 1919 г. уручыла Міністру міжнарадовых спраў Латвіі сваі граматы і таго-ж чысла была акрэдытована пры Урадзе Латвіі. З гэтаго мамэнту беларусы маюць у Латвіі свае дыплёматычнае прадстаўніцтва[3]. Лік Місіі, з адзывам падпалкоўніка Шоўкавага, зьменшыўся, але праца яе ня спыняецца да гэтага часу і ўсе больш і больш пашыраецца атрыманьнем ад Ураду Рэспублікі новых паўнамоцтваў і адчыненьнем рожных аддзелаў Місіі на мейсцы ў Рызе і ў іншых мейсцах. З аддзелаў Місіі ў Латвіі трэба адмеціць Рэгістрацыйна-пашпартны аддзел у м. Лібаве[4], працуючы пад кіраўніцтвам грамадзяніна П. Цьвяткова. У хуткім часе маюць быць адчынены гэткія-ж аддзелы ў Дзьвінску і Мітаве.

### *Адносіны паміж латышамі і беларусамі ў Латвіі*

Як ужо гаварылося, адносіны паміж латышамі і беларусамі ніколі ў гісторыі абодвух гэтых народаў не амрачаліся ніякімі прыкрасьцямі. Не зрабіліся яны варожымі і ў гэты мамэнт, нягледзячы на тое, што некаторыя з нашых суседзяў вельмі хацелі нас, тым ці іншым чынам, пасварыць. Прыхільнасьць абодвух нацыяў друг да друга явілася с пер-

[2] Беларускае Консульства спачатку памяшчалася на М. Замкавай 3, а цяперака перабралася ў новы будынак — Бульвар Тотлебена 7, кв. 3.

[3] Рыга, Мікалаеўская 20, кв. 1.

[4] Лібава, Розовая вул. 31.

шых-жа крокаў у Латвіі Рады Беларускай калёніі, Беларускага консульства і Вайскова-дыплёматычнай місіі.

Каб падкрэсліць шчырасьць гэтых адносін, тутака друкуюцца некаторыя афіцыяльныя паперы, пасланыя беларусамі і латышамі друг да друга ў Латвіі.

**I.**

*Тэлеграмма I-го Устаноўчага сходу Беларускай калёніі да Ураду Латвіі*

*„Ураду Латвійскай Рэспублікі праз Міністра-Прэзыдэнта Ульманіса:*

*Першы нацыянальны сход беларускага грамадзянства шчыра спагадае Дэмакратычнай Латвіі ў яе барацьбе за нацыянальна-народную вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць. Беларусы моцна верацьь, што ў супольнай працы на Вэрсальскай канфэрэнцыі Латвія і Беларусь дабьюцца прызнаньня сваіх дзяржаваў і дабудуць сабе належнае сярод іх мейсца.*

*Нацыянальны Беларускі Сход“*

**II.**

*Тэлеграмма Шэфа Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. Латвійскаму Ураду з паздраўленьнем па случаю пабеды латышоў над Бэрмонтам*

*„Пану Міністру міжнарадовых спраў Латвіі.*

*Накануне слаўнай для Латышскага народу гадаўшчыны доблестная Латвійская Армія адзержала слаўную пабеду. Ад імені Беларускаго народу і Ураду прашу перадаць народу і Ураду Латвіі самыя шчырыя па поваду абодвух сабыціяў паздраўленьні і пажаданьні далейшых усьпехаў.*

*Шэф Вайскова-дыплёматычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Палкоўнік ЕЗАВІТАЎ.*
*За сакратара Г. Казячы.*
*Дорпат.*
*15 лістапада 1919 г.“*

## III.

*Адказ Міністра міжнарадовых спраў Латвіі на тэлеграму Шэфа Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі*

*ЛАТВІЙСКІ ЧАСОВЫ ЎРАД.*
*Міністэрства міжнарадовых спраў.*
*20 Лістападу 1919 г.*
*№ 4549.*
*м. Рыга.*

*„Пан Палкоўнік,*

*Ад імені Латвійскага народу і Часоваго Ураду Латвіі маю гонар выразіць Вам сваю самую шчырую падзяку за паздраўленьне і жаданьне ўспеха, якое Вы нам прыслалі па случаю гадаўшчыны маладой Латвійскай Рэспублікі і пабеды нашай храбрай Арміі над дзёрзкім ворагам.*

*Я карыстаюся гэтым выпадкам, каб выразіць Вам чуўства жывой сымпатыі і шчырай дружбы, якія Латвійскі народ і яго Урад чуўствуюць да Беларускаго народу ў яго барацьбе за свабоду і незалежнасьць страны.*

*Прыміце, Пан Палкоўнік, заверэньня у чуўствах маей найвысшай пашаны.*

*Z. A. MEJEROWIC.*
*Міністар міжнарадовых спраў“*

## *Дзень 17-го сьнежэня ў Рызе*

Дзень 17 сьнежня — вялікае Беларускае нацыянальнае сьвята.

У гэты дзень беларусы, 2 гады таму назад[5], сабраўшыся на І-шы Устаноўчы Усебеларускі Кангрэс[6], — пракламіравалі Беларускую Народную Рэспубліку.

---

[5] У ноч з 17 на 18 сьнежня 1917 года па стараму стылю.

[6] Першы Усебеларускі Устаноўчы Кангрэс адбыўся ў м. Менску 5—18 сьнежня 1917 году. На ім было прысутнае 1872 дэлегата з усіх куткоў Беларусі. Кангрэс па поўнасьці выяўленьня народнай волі не мае сабе прыкладаў сярод іншых паўстаўшых на тэрыторыі былай Расеі народаў.

Дзе-б ня зьбіраліся беларускія дзеячы, яны заўсёды належным чынам сьвяткавалі гэты дзень.

Быў ён добра падкрэсьлены і ў Латвіі.



Падпалкоўнік Р. ШОЛКОЎ.
Вайсковы Райца пры Вайскова — Дыплематычнай Місыі Беларускай Народнай Рэспублікі Латвіі і Эстіі.

Рада Беларускай калёніі зрабіла ў дзень 17 сьнежня вялікі канцэрт-баль, на які сабралося каля 1500 грамадзян-беларусаў з пражываючых у Рызе. Баль пасецілі Прадстаўнікі Латвійскаго Ураду, з Міністрам-Прэзыдэнтам грамадзянінам Ульманісам на чале, шмат членаў Народнаго Савету Латвіі са сваім Старшынёю грамадзянінам Чакстэ, амаль што ня ўсе Місіі Антанты і іншых дзяржаваў.

Уся латвійская прэса адазвалася на сьвята вельмі цёплымі і шчырымі стацьцямі, падкрэсьліваючымі гістарычную вартасьць гэтага дня для беларусаў і ў кароткіх абглядах малюючымі гісторыю беларускага дзяржаўнаго жыцьця за два апошніх гады. Некатарыя газэты, як напрыклад *„Latwijas Şargs“*, *„Jaunakas Siņas“* прысьвяцілі беларусам па некалькі вялікіх стаўбцоў.

Не абыйшла дня 17 сьнежня і расейская прэса. Рыжская газэта „Сегодня“ памясьціла перадавую стацьцю і інтэрв’ю з шэфам Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі палкоўнікам Езавітавым.

### *Аддзел Беларускага культурна-прасьветнаго т-ва „Бацькаўшчына“ у Рызе*

З ініцыятывы Старшыні Цэнтральнаго праўленьня Беларускага культарна-прасьветнага т-ва „Бацькаўшчына“ палкоўніка К. Езавітава ў Рызе адчыняецца аддзел гэтага Таварыства.

Група членаў Калёніі, на чале зь некаторымі членамі Рады, шчыра ўзялася за гэтую справу, апрацавала устаў, падыскала добрае памешканьне, увайшла ў зносіны з Латвійскім Урадам і ў хуткім часе адчыняе аддзел і клюб аддзела на адной зь лепшых вуліц м. Рыгі.

Каб грамадзяне ведалі, якую вялікую вартасьць мае гэтае Таварыства ў беларускім нацыянальным жыцьці, ніжэй друкуюцца аснаўныя параграфы гэтага Таварыства:

*„Аснаўныя параграфы Устава*
*Беларускага культарна-прасьветнага т-ва „БАЦЬКАЎШЧЫНА“*
*(Устаў зацьверджаны Менскім акружным судом 17 жніўня 1918 г.)*

*§ 1.*

*Беларускае культарна-прасьветнае т-ва „Бацькаўшчына“ мае мэтай:*

*1) правадзіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэньня ў массы беларускага народу і яго суседзяў праз выданьне кніг, брашур і газэт на беларускай, расейскай, літоўскай, жыдоўскай, польскай і іншых мовах;*

*2) дапамагаць прасьвеце беларускаго народу:*

*а) адкрыцьцем школ, чытален, бібліятэк і тэатраў,*

*б) падтрыманьнем нуждаючыхся вучняў, вучоных паэтаў, артыстаў і пісьменьнікаў.*

*§ 8.*

*Таварыства „Бацькаўшчына“ распраcтраняе сваю працу ня толькі на беларускую тэррыторыю (губэрніі: Віцебская, Магілеўская, Смаленская, Менская, Гарадзенская і часьць Віленскай і Чарнігаўскай), але і на тыя мяйсцовасьці, — дзе заўсёды, ці часова існуюць беларускія калёніі.*

*§ 10.*

*Аддзелы Таварыства павінны ў сваёй працы кіравацца палажэньнямі, вылажэннымі ў §1 і §8, у сэнсе кіраўнічых.*

*Для прылажэньня жа сваей працы да мяйсцовых варункаў, аддзелы маюць права апрацовываць „Уставы аддзелаў“ Таварыства.*

*Праўленьне Таварыства*

*м. Менск. 15 верасеня 1918 года“*

Азнаёмлівая наша грамадзянства з гэтымі параграфамі, лежачымі ў аснове ўсіх аддзелаў Т-ва „Бацькаўшчына“, існуючых ня толькі на Беларусі, але і на чужыне, мы шчыра верым у тое, што ў Беларускай калёніі ў Латвіі ня будзе ніводнага грамадзяніна, які-б не пасьпяшыў

запісацца ў Таварыства і ня ўжыў бы ўсіх спосабаў да таго, каб падняць працу яго на належную высату.

## Беларусы ў Эстыі

Да 1916 году беларусам вельмі рэдка прыходзілася спатыкацца з эстамі. Рэвель, Дорпат і Нарва ляжалі ўбаку ад пратораных беларускім лапцем шляхоў. На Амур і, агулам на Сыбір, беларусы езьдзілі праз Маскву, у Туркестан праз Каўказ, у Паўночную Амэрыку і Канаду — праз Рыгу і Лібаву.

Таксама і эсты былі ў нас зусім выпадковымі гасьцьмі.

З пачатку эвакуацыі Беларусі пацягнуліся гаротныя беларусы на Поўнач і папалі, між іншым, невялічкай часткай, у Эстыю. Асабліва многа апынулася тамака чыгуншчыкаў.

У 1917 і 1918 гадах лік гэтых уцекачоў павялічыўся новымі беларускімі уцекачамі з галоднага Петраграду і Фінляндыі; а ў 1919 гаду сюдой праз Нарву, Гдоў і Пскоў хлынулі ў вялікім ліку зусім асобныя уцекачы — уцекачы з Чырвонай арміі, сілком у яе навярбованныя бальшавікамі на занятай імі частке Беларусі.

З прыходам апошніх, агульны лік беларускіх уцекачоў у Эстыі павялічыўся да некалькіх тысячаў. Частка іх, ня маючы працы, павінна была ўвайсьці ў Паўночна-заходнюю армію, другая частка згуртавалася каля гэнэрала-беларуса Булак-Балаховіча[7].

Выпадковы прыезд, або прыход, у Эстыю, чужая мова, адсутнасьць працы, усё гэта прымушае большасьць беларусаў зь нецярплівасьцьцю рвацца на Бацькаўшчыну, але цяжкія варункі пуці, адсутнасьць да самага апошняга часу добрай зьвязі зь Беларусьсю чыгункай, — крэпка трымае іх на мейсцы і застаўляе ўжываць усіх спосабаў, каб як-небудзь пратрымацца да вясны 1920 году, калі ўсе яны маюць надзею абавязкова папасьць на Бацькаўшчыну.

[7] Гэнэрал Булак-Балаховіч працаваў адзін час супольна с Камандаваньнем Паўночна-заходняй вялікарускай арміі, але потым разыйшоўся з ім па некаторым пытаньням і арганізаваў, карыстаючыся з дапамогі эстаў, Асобны, незалежны ад Паўночна-заходняй арміі, атрад, набраўшы ў яго глаўным чынам беларусаў.

### *Беларускае прадстаўніцтва ў Эстыі*

Як вышэй ужо гаварылася, перагаворы з Урадамі Балтыкі былі даручаны кіраўніку Міністэрства ўнутрэнніх спраў грамадзяніну Тэрэшчэнке. З гэтай мэтай, ён, закончыўшы справы ў Латвіі, выехаў у Эстыю, але варункі злажыліся так, што ў мамэнт яго прыезда ў Рэвель Міністар міжнарадовых спраў Эстыі выехаў на тыдзень у Гэльсінгфорс. Ня маючы часу яго чакаць, грамадзянін Тэрэшчэнка вярнуўся на Бацькаўшчыну, і перагаворы фармальна закончыліся нічым.

Каб давесьці гэту справу да канца, мандат на перагаворы з Урадам Эстыі быў дадзены Вайскова-дыплёматычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі, акрэдытаванай у Латвіі.

18 кастрычніка 1919 году Шэф Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі палкоўнік Езавітаў уручыў грамату Урада Беларускай Народнай Рэспублікі Міністру міжнарадовых спраў Эстыі і быў акрэдытован пры Эстыйскім Урадзе.

Таго-ж дня Місія пачала рэгістрацыю і выдачу нацыянальных пашпартоў, дзеля якой мэты у Рэвелі быў адчынены Рэгістрацыйна-пашпартны аддзел Місіі[8].

Шэфу Місіі і кіраўніку Рэгістрацыйна-пашпартнага аддзелу ў Рэвелі прыйшлося вытрымаць вельмі цяжкую і вялікую працу. З усіх бакоў да іх паляцелі лісты, заявы і просьбы, глаўным чынам аб грашовай дапамозе і аб звароце на Бацькаўчшыну. Частка грамадзян была адпраўлена, але большасць прыйшлося, па некаторым варункам, затрымаць у Эстыі. Каб дапамагчы тым з іх, якія абсалютна нічога ня мелі і, згуртаваўшысь пасьля распаду Паўночна-заходняй вялікарасейскай арміі ў м. Нарве і Еўе, цярпелі вялікую нужду, голад і холад, — у Нарву і Еўе быў пасланы асобны Прадстаўнік Місіі па справам уцекачоў грамадзянін Л. Міхэльсон, які залажыў у Нарве Беларускі бежанскі камітэт, увайшоў у зьвязак з Амэрыканскай місіяй Чырвонага Крыжа і, зь яе дапамогі, наладзіў пітаньне уцекачоў і распрэдзяленьне іх па імяньням увакруг м. Еўе.

### *Беларускі нацыянальны камітэт у Рэвелі*

Калі выяснілося, што ў м. Рэвелі згуртавалася шмат беларусаў, зарэгістраваўшыхся ў Рэвельскім аддзеле Місіі, — найбольш вядомыя і

[8] Отель „Залаты Леў“.

энэргічныя з гэтых грамадзян былі склiканы Шэфам Місіі ў памешканьні аддзела і ім было прапанована арганізавацца ў Эстыі, па прыкладу Латвіі, у цесна згуртаваную Беларускую калёнію.

Думка Шэфа Місіі найшла жывейшы адгалосак. Сабраўшыяся грамадзяне пастанавілі ўтварыць Ініцыятыўны камітэт, якому далучылі спачатку зрабіць у м. Рэвелі агульны сход беларусаў, на гэтым сходзе стварыць Беларускі нацыянальны камітэт, а потым праз гэты Камітэт і аддзел Місіі зарэгістрыраваць усіх грамадзян, пражываючых у Эстыі, зьяднаць іх у Калёнію і, зрабіўшы зьезд, выбраць Раду Беларускай калёніі ў Эстыі.

Заява ад 10 сьнежня 1919 года паведамляе Місыю аб тым, што Беларускі нацыянальны камітэт у Рэвелі ўжэ прыступіў да працы.

### *Асобны атрад Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстыі*

Асоба гэнэрала Булак-Балаховіча яшчэ з восені 1918 году вельмі цікавіла Урад і шырокія грамадзянскія кругі Беларусі, але адсутнасьць афіцыяльнага Беларускага Прадстаўніцтва ў Эстыі не давала магчымасьці сабраць аб ім пэўных вестак[9]. Вось чаму Вайскова-дыплёматычная місія Б.Н.Р, як толькі яна была акрэдытавана ў Эстыі, адразу жа ўвайшла ў зьвязь з гэнэралам Булак-Балаховічам і, выясьніўшы пытаньне аб яго нацыянальнасьці і палітычных паглядах, прыступіла да перагавораў аб пераходзе яго на беларускую службу.

Хутка выясьнілася, што гэнэрал Булак-Балаховіч, ня толькі не паляк, або літвін, ня толькі самы праўдзівы беларус, але яшчэ і добра сьвядомы ў беларускім пытаньні грамадзянін, добра ведае беларускую літаратуру і мову, і навет сам піша вершы па-беларуску[10].

Пачуўшы аб прыездзе ў Эстыю Беларускаго вайскова-дыплёматычнага прадстаўніцтва, ён адразу-ж зьявіўся да Шэфа Місіі палкоўніка Езавітава і ўручыў яму заяву гэткага зьместу:

---

[9] Літвіны распускалі весткі аб тым, што ён — літвін, палякі лічылі, што ён паляк, а расейцы — расеец.

[10] Па прафэсіі гэнэрал Булак-Балаховіч — аграном, і, як гэтакі, добра вядомы з 1905 году беларускаму сялянству Дзісьненскага павету, дзе яму прыйшлося быць, паміма волі, рэвалюцыйным судзьдзёй паміж сялянамі і памешчыкамі і дзе ён атрымаў, яшчэ ў тыя часы, сваю арыгінальную клічку — „БАЦЬКА“. На вайсковым шляху ён выдвінуўся ў апошнюю вайну зь немцамі, як на рэдкасьць адважны конны партызан.

*„АТАМАН*
*Добровольческаго Народнаго Отряда*
*14 ноября 1919 года.*
*№ 734.*
*Действ. Армія.*

*Старшыне Рады Народных Міністраў*
*Беларускай Народнай Рэспублікі*
*праз*
*Шэфа Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі*
*палкоўніка Езавітава*

*Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для забароны цэльнасьці і недзялімасьці маёй Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую службу.*

*Гэнэрал-Маёр Булак-Балаховіч“*

Шэфам Вайскова-дыплёматычнай місіі Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі заява гэтая была прынята і пераслана Ураду. У адказ жа на яе гэнэрал Булак-Балаховіч быў залічаны на беларускую службу і атрымаў ад Шэфа Місіі гэткі рэскрыпт.

*„ВАЙСКОВА-ДЫПЛЁМАТЫЧНАЯ МІСІЯ*
*БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*
*ў Латвіі і Эстіі*
*16 Лістапада 1919 года.*
*№ 62.*
*м. Юрьеў.*

*Атаману Дабравольчэскаго Народнаго Атрада Гэнэрал-Маёру*
*Станіславу Нікадзімавічу Булак-Балаховічу*

*Грамадзянін Гэнэрал,*

*Сёнека мною атрымана ад Вас для перадачы Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі заява аб тым, што Вы, як грамадзянін Беларусі, лічыце патрэбным стаць на забарону сваей*

*Бацькаўшчыны, каб забясьпечыць ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Арміі Беларускай Народнай Рэспубліці.*

*Глыбока тронуты і ўсьцешаны Вашай заявай, я срочным чынам напраўляю яе майму Ураду, які, я ў гэтым пэўны, будзе вельмі задаволены ёю і, ў самым хуткім часе, прышле да Вас паведамленьне аб задаволеньні Вашай просьбы і падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.*



Гэнэрал-Маёр БУЛАК-БАЛАХОВІЧ.
Камандзер Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстіі.

*Да гэта-ж часу, на моцы дадзеных мне Радай Міністраў паўнамоцтваў, я выражаю Вам, Грамадзянін Гэнэрал, вялікую падзяку ад імені нашай многапакутнай Бацькаўшчыны і паведамляю Вас, што з гэтага часу Вы з Вашым войскам лічыцесь на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі, як Камандзер Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстыі.*

*Шэф Місіі*
*Палкоўнік Езавітаў“*

Адначасна зь перагаворамі з гэнэралам Булак-Балаховічам Вайскова-дыплёматычная місія Б.Н.Р. зьвярнулася да Ураду Эстыі з прапановай прэдаставіць Асобнаму атраду Б.Н.Р. магчымасьць, пад камандаваньнем гэнэрала Булак-Балаховіча, часова, астацца на тэрыторыі Эстыі, каб закончыць тутака фармаваньне і потым перайсьці на Бацькаўшчыну. Згода Урадам Эстыі была дадзена, і Асобны атрад Б.Н.Р. часова астаўся ў Эстыі, заняўшы кавалак праціўбальшавіцкага эстыйскага фронту, на правым фланге Эстыйскай арміі.

Цяперака фармаваньне скончана і Атрад чакае стварэньня варункаў, у якіх для яго магчыма-б было перайсьці на Бацькаўшчыну.

### *Адносіны паміж беларусамі і эстамі*

Хаця беларусы, паміма сваей волі, і зьявіліся для эстаў у эканамічным сэнсе некаторай абузай, але супольныя інтарэсы абодвух народаў

і забарона беларускімі ваякамі эстыйскіх зямель, зрабілі тое, што паміж беларускімі ўцекачамі і эстамі устанавіліся досіць добрыя адносіны. Асабліва-ж узаёмна падкрэсьлены яны былі з прыездам у Эстыю Вайскова-дыплёматычнай місіі. Урад і грамадзянства цёпла спаткалі беларускае прадстаўніцтва. Газэты памесьцілі вялікія інтэрвью з Шэфам Місіі. Прамова-ж Шэфа Місіі палкоўніка Езавітава на абедзе ў чэсьць прадстаўнікоў, зьявіўшыхся на канфэрэнцыю ў Юрьеве, мела такі вялікі усьпех, што камэнціравалася потым у працягу некалькіх тыдняў усей эстыйскай прэссай.

## Беларусы ў Фінляндыі

Сумныя скалы, безьзямельле і адсутнасьць працы для прыезжых — не маглі цягнуць беларусаў у Фінляндыю. І не цягнулі. Тутака найменьш, чым у якой-небудзь іншай частке былой Расеі, апынулася беларусаў. Большасьць з іх — вайсковыя, апынуўшыяся тутака не па сваей уласнай волі, а па волі расейскага вайсковага начальства. У часу рэвалюцыі тутака ўтварыліся беларускія вайсковыя камітэты, якія існавалі да мамэнту развала расейскай арміі, а потым распаліся. Найбольш вялікі Беларускі вайсковы камітэт, працаваўшы пад кіраўніцтвам гэнэрала-беларуса Аляксееўскага быў у Выборзе. Цяперака адзінока раскіданы беларусы па ўсёй Фінляндыі і да гэтага часу не згуртаваліся ні ў які нацыянальны гурток.

Першым прадстаўнікам Беларускага Ураду ў гэтай староньцы быў Шэф Вайскова-дыплёматычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстыі палкоўнік К. Езавітаў, зьявіўшыйся сюды з консулам м. Рыгі штабс-капітанам Б. Шымковічам дзеля ўручэньня Ураду Фінляндыі мэмарыяла. Зрабіўшы належныя крокі прад Урадам Фінляндыі і адчыніўшы ў м. Таммерфорсе Рэгістрацыйна-пашпартны аддзел Місіі з грамадзянінам Чарвяковым на чале, гэтыя прадстаўнікі Беларускаго Ураду выехалі ў месца сваей заўсегдашняй працы[11].

Роўна праз месяц, 29 лістапада, сюды прыехаў Надзвычайны прадстаўнік Беларускай Народнай Рэспублікі ў Балтыцы грамадзянін Душэўскі. Ён быў надта цёпла спатканы Урадам, прэссай і грамадзянскімі кругамі Фінляндыі, якія вельмі былі зацікаўлены беларускімі справамі і беларускім жыцьцём, зрабіў шмат дыплёматычнай працы і дабіўся прызнаньня Фінляндыяй незалежнасьці Беларусі.

[11] Візыт гэты цягнуўся ўсяго 4 дні: з 25 да 28 кастрычніка 1919 г.

Беларуская нацыянальная праца ў Фінляндыі пачынаецца зноў, лік і грамадзянскае становішча асобных беларусаў выясьняецца, і трэба спадзявацца, што ў хуткім часе мы будзем мець і ў Фінляндыі невялічкую, але цесна згуртаваную Беларускую калёнію.

## Беларусы ў Літве

Літоўцы і беларусы ня толькі блізкія суседзі, але і грамадзяне адной супольнай у мінуўшчыне дзяржавы: Беларуска-Літоўскага Вялікага Княжства. Таму абоіх народаў злучае ня толькі агульная дзяржаўная мяжа, што цягнецца паміж імі ў працягу 400 кіламэтраў, але і агульная гістарычная прошласьць, агульная культура, агульныя эканамічныя інтарэсы і агульныя ворагі, як у мінуўшчыне, так і ў сучаснасьці. У былым Вялікім Княжстве Беларуска-Літоўскім панавала беларуская мова, на якой пісаліся ўсе Статуты[12], гаварылі вышэйшыя кругі і Княжскі двор, пісалася літаратура, царкоўныя кнігі[13] і вяліся афіцыяльныя зносіны паміж большасьцю ўстаноў Княжства. Сам дзяржаўны гэрб беларускі — Пагоня — які маюць усе беларускія гарады[14], быў дзяржаўным гэрбам Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага і прыняты цяперака абедзьвымі паўстаўшымі дзяржавамі[15].

Да самага апошняга даваеннага часу беларускае і літоўскае нацыянальнае жыцьцё йшло разам, апіраючыся друг на друга і дапамагая адно другому.

[12] Статут Каз. Ягэллона ў 1492 гаду; Статут Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага ў 1588 гаду і інш.

[13] Беларуская Біблія Д-ра Францішка Скарыны, выданая ў 1517 гаду, зьяўляецца трэцьцяй па даўнасьці Бібліяй у сьвеце.

[14] Полацк мае на белым палатнішчы штандара белага каня з чырвоным чапраком і коньнікам у сярэбраных латах; Вітэбск мае на зялёным палатнішчы штандара белаго каня з чырвоным чапраком і коньнікам у сярэбраных латах; Мсьцьслаўль мае на жоўтым палатнішчы штандара белаго каня з чырвоным чапраком і коньнікам у сярэбраных латах; Брэст мае на чырвоным палатнішчы штандара сіняга каня зь сінім чапраком і коньнікам у стальных (сініх) латах; Менск мае на жоўтым палатнішчы штандара чырвоны круг, а ў ім — белага каня з жоўтым чапраком і коннікам у залатых латах; Навагрудак мае на чырвоным палатнішчы штандара белага каня з чырвоным чапраком і коньнікам у сярэбраных латах і белага ангела зь мечом, і г.д.

[15] Літвіны (Жмудзь) мелі ў Вялікім Княжстве Беларуска-Літоўскім асобны гэрб: чорнага мядзьведзя з абелым ашэйнікам, стаячаго на задніх лапах і павернутага налева — але пры адбудове сваёй дзяржаўнасьці літвіны не захацелі ўзяць гэты гэрб і прынялі агульны гэрб зь беларусамі.

Вільня была цэнтрам гэтай нацыянальна-адрадзіцельнай фэдэрацыі. Тутака мацней, чым ў іншых беларускіх цэнтрах, жыла думка і вялася праца над адраджэннем Беларуска-Літоўскай дзяржавы.



П. КРЭЧЭЎСКІ.
Сэкрэтар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Надзвычайны Прадстаўнік Беларусі пры Літоўскім Урадзе

Вайна ў 1915 гаду разрэзала Беларусь на дзьве часткі: Вільня-Гарадзенскую і Полацка-Менска-Смаленска-Магілёўскую. Першая цягнула далей супольную беларуска-літоўскую працу і, на моцы бальшавіцка-нямецкай умовы ў Берасьце, была злучана, па нямецкім настаяньням, зь Літвой[16]. Другая-ж працавала за нямецка-расейскім фронтам над стварэньнем Беларускай Народнай Рэспублікі.

У 1918 гаду абедзьве беларускія часткі злучыліся, выраўнялі лінію сваёй палітыкі і прапанавалі літвінам, апіраючыся на гістарычную традыцыю, пачаць працу над стварэньнем Фэдэратыўнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы. З гэтай мэтай восеньню 1918 году Рада і Кабінэт Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі паслалі да Літоўскай Тарыбы[17] асобную дэлегацыю з членаў Рады. Гэта дэлегацыя прабыла ў Літве цэлы тыдзень, але ні да якай умовы не дайшла. Бо літвіны баяліся фэдэрацыі з усёй Беларусьсю[18], і прапанавалі, каб беларусы згадзіліся на

[16] Прадстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі наМіравой нарадзе ў Берасьці — С. Рак-Міхалоўскі і А. Цьвікевіч у сваім часе апратэставалі гэты падзел, але таму, што немцам вельмі была патрэбна калея чыгункі, праходзячая праз Кёнігсбэрг, Просткен, Беласток і Берасьце на Украіну, а таксама таму, што беларусы ня прыймалі, дзякуючы бальшавіцкім перашкодам, афіцыяльнага ўчасьця ў Берасьцейскай Міравой нарадзе, — на іх пратэсты ўвагі ня было зьвернута, і Беларусь была падзелена паміж літвінамі, бальшавікамі і ўкраінцамі.

[17] Літва ў той час яшчэ ня мела свайго Кабінэту Міністраў.

[18] Літвіноў 3000000, а беларусаў 12000000. Літвіны баяліся, каб гэтая лічэбная перавага не зрабіла, як і ў мінуўшчыне, перавагі культурнай і эканамічнай.



Падпаручык МАЦЫЕЛЛІ.
ʼ'ютант адной з асобных Беларускіх частак у Літве.
ідомы беларусам па арганізацыі паўстаньня ў Слуцку.

падзел сваей Бацькаўшчыны і дазволілі Гарадзеншчыне і Віленшчыне фэдэрыраваць зь Літвой, а Меншчыне, Полаччыне, Віцебшчыне, Смаленшчыне і Магілёўшчыне — або ўтварыць незалежную Беларускую дзяржаву, або фэдэрыраваць зь Вялікарасеяй. Гэта прапазыцыя вельмі абразіла беларусаў і яны адразу-ж акончылі перагаворы і выехалі ў Менск.

Празь некаторы час пачалося бальшавіцкае наступленьне, і варункі злажыліся для Беларусі так кепска, што Рада Рэспублікі і Кабінэт Міністраў павінны былі пакінуць Бацькаўшчыну і выехаць у Прагу-Чэшскую.

Прад ліцом бальшавіцкай небясьпекі і пад націскам немцаў некаторыя Віленскія і Гарадзенскія беларускія ўстановы павінны былі згадзіцца на супольную зь літвінамі працу, пакінуўшы развязаньне Берасьцейскай умовы — Мірнаму кангрэсу ў Вэрсалі.

Пачынаючы супольную зь літвінамі працу, беларусы, як і яўрэі, выгаварылі сабе ў Літве нацыянальную аўтаномію, нацыянальнае міністэрства, мейсца ў Літоўскай Дзяржаўнай Радзе (Тарыбе), асобнае беларускае войска, адміністрацыю, школу, друк і іншае.

Міравая нарада ў Вэрсалю анулíравала Берасьцейскую ўмову і тым самым звольніла беларусаў Гарадзеншчыны і Віленшчыны ад літоўскай апекі. Беларусы-ж, раскіданыя вялікімі астраўкамі на ўсёй Літве[19] і прыняўшыя літоўскае падданства, маюць да гэтага часу, як і яўрэі, нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, сваё Міністэрства беларускіх спраў с Язэпам Варонка на чале, сваіх членаў у Тарыбе і сваё войска, якое ўвесь час білася ў першых радох пры наступленьню на Дзьвінск.

Нацыянальнае беларускае жыцьцё ў Літве ўвесь час узмацняецца. У Коўні выходзіць беларускі іллюстраваны штомесячнік „Часопісь“, працуе „Беларускае выдавецкае Таварыства імені Д-ра Францішка Скарыны“ і выходзіць іллюстраваная вайсковая газэтка „Варта Бацькаўшчыны“.

[19] Найбольш беларусаў у Літве знаходзім ў Россіенах, Паневежы і Вількаміры, дзе яны жывуць цэльнымі вёскамі.

### *Беларускае прадстаўніцтва ў Літве*

Як вышэй ужо гаварылася, першы крок да паразуменьня зь літвінамі быў зроблены восеньню 1918 году беларусамі праз пасылку Асобнай дэлегацыі з членаў Рады. Гэта дэлегацыя была першым Беларускім прадстаўніцтвам на Літве. З ад'ездам яе, аж да сярэдзіны 1919 году, Беларускі Урад ня лічыў патрэбным мець сваё прадстаўніцтва пры Урадзе Літоўскім.

У ліпеню 1919 году Літву пасеціў Міністэр земляробства Беларускай Народнай Рэспублікі Аркадзь Смоліч, які меў некалькі нарад са Старшынёй Рады Міністраў і Міністрам міжнародных спраў Літвы грам. Сліжэвічам, і хутка зноў выехаў на Бацькаўшчыну, умовіўшыся, што для дэтальнага разьвязаньня паднятых ім пытаньняў у Літву будзе пасланы Асобны надзвычайны прадстаўнік Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэты Надзвычайны прадстаўнік Беларусі ў асобе сакратара Рады Рэспублікі Петрука Крэчэўскага ў тым-жа месяцы прыбыў на Літву. Ён, завязаўшы патрэбныя зносіны і зрабіўшы належныя крокі, дабіўся з боку Літоўскага Ураду прызнаньня незалежнасьці Беларусі[20], устанавіў добрасуседзкія адносіны паміж абедзьвюма Рэспублікамі і, скончыўшы некаторыя яшчэ даручаныя яму справы і пакінуўшы ў Коўні сваю канцэлярыю, у кастрычніку 1919 году выехаў на Бацькаўшчыну, каб зрабіць справаздачу сваей працы.

Якія будуць адносіны паміж беларусамі і літвінамі ў будучыні — цалкам залежыць ад таго, якой палітыкі адносна да Беларусі будуць трымацца літвіны[21]; з боку-ж беларускага народу Літва мае старога і шчырага прыяцеля.

*Падрыхтоўка да друку й прадмова Натальлі Гардзіенкі*

---

[20] Папера Міністэрства міжнарадовых спраў Літвы ад 21 ліпеня 1919 году за № 1298.

[21] На жаль, трэба падкрэсьліць, што ня ўсе літоўскія палітычныя дзеячы разумеюць, якое вялікае значэньне для Літвы маюць добрасуседзкія адносіны зь Беларусьсю. І ёсьць некаторая літоўская палітычная групка з Праф. Вальдэмарасам на чале, якая вельмі варожа косіць на Беларусь вока, працягвае лапу на некаторыя беларускія абшары і ўсюды шкодзіць беларусам. Але трэба спадзявацца, што Літва ня пойдзе за гэтай шавіністычнай групай.

# БІБЛІЯГРАФІЯ КАСТУСЯ ЕЗАВІТАВА

*У аснову гэтага сьпісу пакладзеныя матэрыялы, сабраныя Сяргеем Панізьнікам, а таксама выданьні, што захоўваюцца ў Прэзыдэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Разам з тым, прадстаўленая тут бібліяграфія далёка ня поўная. Застаюцца сур'ёзныя лякуны па гадах і асобных маладаступных сёньня выданьнях. Публікацыі Кастуся Езавітава й 1920-х, і 1930-х, і 1940-х яшчэ патрабуюць дадатковага ўліку. Цалкам магчыма, што не ідэнтыфікаваныя яшчэ і ўсе псэўданімы аўтара.*

*У гэтай бібліяграфіі ўлічаныя публікацыі, падпісаныя псэўданімамі й крыптанімамі: Адр-ц, Адраджэнец, Дзьвінчук, К-нак, К. Адраджэнец, К. Е., К. Ез., Кангрэсавец, Кастусёнак. Раднік.*

### Паасобныя выданьні

**Езовитовъ, К. Бѣлоруссы и поляки: Документы и факты изъ исторіи оккупаціи Бѣлоруссіи поляками въ 1918 и 1919 годахъ.** Ковна, 1919. — 124 с.

Рэцэнзія: Яременко, А. // Пролетарская революция. 1923. №4. С. 329—332.

**Езавітаў, К. Становішча Беларускае школы ў Латвіі.** Вільня, 1923. — 28 с.

Рэцэнзія: Полымя. 1923. №3—4. С. 120.

**Езавітаў, К. Беларуская школа: Першая пасьля лемантара кніга для чытаньня ў беларускай аснаўной школе ў Латвіі.** Рыга, 1926. — 160 с.; 3-е выд. Рыга, 1943. — 159 с.

Передрук першага выданьня: ЗША, 1961. — 156 с.

**Езавітаў, К. Беларуская школа: Трэцяя пасьля лемантара кніга для чытаньня ў беларускай асноўнай школе ў Латвіі**. Рыга, 1926.

**Езавітаў, К. Бярыцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу.** Рыга, 1926. — 15 с.

**Езавітаў, К. Беларусы ў Латвіі.** Рыга, 1927. — 116 с.

Рэцэнзія: Fr. Hr[yškevič] // Slovanski přehled. T. 23. 1931.

**Езавітаў, К. Беларусь у мінулым і сучасным** (Канспект пазашкольнаму працаўніку для лекцыяў з чароўным ліхтаром). Рыга, 1927. — 40 с.

Перадрук: Чырвоная змена. 3—9 жніўня 1992. С. 6—7.

**Езавітаў, К. Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ ў Латвіі.** Рыга, 1932. — 25с.

Перадрук: Крыніца. 1997. №7. С. 96—103.

**Езавітаў, К. Беларусы ў Літве.** Рыга, 1932. — 16 с.

**Езавітаў, К. 2-гі Усебеларускі Кангрэс у Менску.** Бэрлін, 25 жніўня 1944. — 15 с.

Тое самае па-нямецку: Jesowitow, K. Der 2 Weissruthenische Kongress in Minsk am 27.06.1944. Riga, 10.VII.1944. — 12 s.

**Езавітаў, К. Беларуская Цэнтральная Рада — адзіны правамоцны прадстаўнік беларускага народу.** Бэрлін: Выданьне Беларускага Інфармацыйнага Бюро, 1944. — 12 с.

**Езавітаў, К. Слуцкае народнае змаганьне. Гістарычныя матар’ялы пра Слуцкае змаганьне.** [Бэрлін, 1944]. — 3 с.

Даклад, што чытаўся беларускім жаўнерам. Наклад 10 ас.
Перадрук: Беларус. №408. 1993.

### Публікацыі ў зборніках і пэрыёдыках

*1918*

**Езовитов, Е. Освобождение Минска: Записки коменданта** // Варта. №1. 1918. С. 36—38.

*1919*

**[Інтэрв’ю з Шэфам Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б.Н.Р. у Латвіі і Эсціі палкоўнікам Езавітавым]** // Сегодня. 17 декабря 1919.

*1920*

**Езавітаў, К. Тэлеграмма Шэфа Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б.Н.Р. Латвійскаму Ураду с паздраўленьнем па**

**случаю пабеды латышоў над Бэрмонтам** // На чужыне. №1. 1920. С. 4.

*1923*

**Езавітаў, К. Становішча беларускай школы ў Латвіі** // Новае жыцьцё. №10. 15 сакавіка 1923.

*1924*

**Езавітаў, К. Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада. 25.11.1917—25.11.1924** // Крывіч. №1. 1924. С. 37—45; №9. 1925. С. 80—93.
**Езавітаў, К. Працаўнікам, чытачам і прыхільнікам „Ластаўкі“** // Ластаўка: Зборнік вучнёўскіх твораў Дзяржаўнай Люцынскай Беларускай Гімназіі ў Латвіі. За 1923—1924 вучэбны год. Люцын, 1924. С. 5.
**Кастусёнак. Беларусы ў Латвіі** // Сын беларуса. 22, 25 мая; 8, 26, 28 чэрвеня 1924.
**Кастусёнак. Беларускі канцэрт у Рызе** // Голас беларуса. №14. 1924.

*1925*

**Езавітаў, К. Беларусы і Крывія** // Голас беларуса. 20 лістапада 1925.
**Езавітаў, К. Малітва Пяруну [Верш]** // Крывіч. №9. 1925. С. 18.
**Кастусёнак. Адгукі [Верш]** // Голас беларуса. 10 лістапада 1925.

*1926*

**Езавітаў, К. „Уяўленьне! Уяўленьне...“ (Уладзіміру Жылцы) [Верш]** // Голас беларуса. 20 красавіка 1926.
**Езавітаў, К. Аб беларускім нацыянальным тэатру ў Латвіі** // Голас беларуса. №42 (24). 27 кастрычніка 1926.
**Езавітаў, К. Аб беларускіх прыватных школах у Латвіі** // Голас беларуса. №38 (20). 1926.

Перадрук: Асьвета. 1926. №7. С. 112—115.

**Езавітаў, К. Апошняе слова падсуднага К. Езавітава** // Беларускі працэс у Латвіі. Рыга, 1926. С. 75—78.

**Езавітаў, К. Беларусу-эмігранту [Верш]** // Голас беларуса. 1 чэрвеня 1926.

**Езавітаў, К. Беларусы, моцна трымайцеся адзін аднаго!** // Голас беларуса. 21 ліпеня 1926.

**Езавітаў, К. Беларусы, час ужо ўзяцца за эканамічную працу!** // Голас беларуса. 18 жніўня 1926.

**Езавітаў, К. Брату; Марш Адраджэнца; Малітва Пяруну; Ня ный! — Ня плач!; Уладзіміру Жылцы; Сонцу ў нядзелю; Вясной у турме; У куце больш ня маю бажніц!; Заходняму беларусу; Беларусу-Эмігранту; На лясных складах у Рызе; Даўгая-Даўгава [Вершы]** // Першы крок: Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі. Рыга, 1926. С. 28—39.

**Езавітаў, К. Бярыцеся ўсе за навукова-дасьледчую працу** // Голас беларуса. 1 чэрвеня 1926.

**Езавітаў, К. Віленскае пытаньне** // Голас беларуса. 1 чэрвеня 1926.

**Езавітаў, К. Да арганізацыі беларускае нацыянальнае меншасьці ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі** // Голас беларуса. 1 мая 1926.

**Езавітаў, К. Да арганізацыі беларускае нацыянальнае меншасьці ў сучаснай Літве** // Голас беларуса. 20 мая 1926.

**Езавітаў, К. Да беларускіх настаўнікаў, артыстаў, пісьменьнікаў, мастакоў і фатографаў у Латвіі** // Голас беларуса. 1 мая 1926.

**Езавітаў, К. Да працы, моладзь!** // Голас беларуса. 20 красавіка 1926.

**Езавітаў, К. Дзесяцігодзьдзе Беларускай Нацыянальнай школы** // Голас беларуса. 25 сакавіка 1926.

**Езавітаў, К. Дзьве неадкладныя задачы Беларускага аддзелу** // Голас беларуса. 25 жніўня 1926.

**Езавітаў. К. Жыве наша мова! [Верш]** // Голас беларуса. 1 ліпеня 1926.

**Езавітаў, К. Заходняму беларусу [Верш]** // Голас беларуса. 25 сакавіка 1926.

**Езавітаў, К. На лясных складах у Рызе [Верш]** // Голас беларуса. 20 мая 1926.

**Езавітаў, К. Паведамленьне Цэнтральнага Праўленьня „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“** // Беларуская школа ў Латвіі. №2. Лістапад 1926. С. 21—22.

**Езавітаў, К. Прадмова** // Галынец, Ал. Вялікае апрашчэньне ці вялікае ўдасканаленьне? Рыга, 1926. С. 5—7.

**Езавітаў, К. Праўленьне „Латвійскага Вучыцельскага Хаўрусу“** // Беларуская школа ў Латвіі. №2. Лістапад 1926. С. 13.

**Езавітаў, К. Ратуйце, беларусы, сваю моладзь!** // Голас беларуса. 10 чэрвеня 1926.

**Езавітаў, К. Сонцу ў нядзелю [Верш]** // Голас беларуса. 10 чэрвеня 1926.

**Езавітаў, К. У летні дождж [Верш]** // Голас беларуса. 7 ліпеня 1926.

**Кастусёнак. Беларуская пачатковая школа ў Люцыну** // Беларуская школа ў Латвіі. №1. Кастрычнік 1926. С. 7.

**Кастусёнак. Кракадзілавы сьлёзы** // Голас беларуса. 18 жніўня 1926.

**Кастусёнак. На лясной палянцы [Верш]** // Голас беларуса. 20 мая 1926.

**Кастусёнак. Яна прыйшла; Ня веру!; У турму яго!; Бунт крыві; Маёй матулі; На лясной палянцы; На вясеннім ветрыку; Ну, дык што-ж? [Вершы]** // Першы крок: Зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі. Рыга, 1926. С. 40—48.

*1927*

**Адраджэнец. Калі-ж гэтая цяганіна скончыцца!** // Голас беларуса. №4 (51). 16 лютага 1927. С. 4.

**Дзьвінчук. Культурна-прасьветная беларуская праца ў Дзьвінску** // Голас беларуса. №4 (51). 16 лютага 1927. С. 4.

**Езавітаў, К. 30 год вучыцельскае працы С.П. Сахарава** // Голас беларуса. №5 (52). 23 лютага 1927.

**Езавітаў, К. „Адгукі Сяродкі“ — М. Талеркі** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (4).1927. С. 53.

**Езавітаў, К. Асьветныя патрэбы беларусаў у Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (3). Студзень 1927. С. 25—26.

**Езавітаў, К. Беларусы ў Сібіры і на Далёкім Усходзе** // Голас беларуса. №5 (52). 23 лютага 1927. С. 3.

**Езавітаў, К. Беларусь у мінулым і сучасным** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7). Травень 1927. С. 104—106; Голас беларуса. 13 ліпеня 1927.

**Езавітаў, К. Благаславеньне на бойку [Верш]** // Голас беларуса. №5 (52). 23 лютага 1927. С. 3.

**Езавітаў, К. „На акне маім чорныя тоўстыя краты“ [Верш]** // Голас беларуса. 10 чэрвеня 1927.

**Езавітаў, К. Наша бліжэйшая нацыянальная задача** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (4). Люты 1927. С. 46—47.

**Езавітаў, К. Наша бліжэйшая нацыянальная задача [Прадмова перакладчыка]** // Пажытноў, К. Папулярныя вочаркі па тэорыі каапэрацыі. Рыга, 1927. С. 5—13.

**Езавітаў, К. Першая Беларуская Акадэмічная Канфэрэнцыя** // Голас беларуса. №4 (51). 16 лютага 1927. С. 2—3; №5 (52). 23 лютага 1927. С. 2—3.

**Езавітаў, К. Прадмова** // Статут Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі. Рыга, 1927. С. 3—4.

**Езавітаў, К. „Птушка шчасьця“** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (3). Люты 1927. С. 53—54.

**Езавітаў, К. Сход Рады Беларускага Аддзелу** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7). 1927. С. 91—92.

**Езавітаў, К. У беларускай моладзі не павінна быць настрояў роспачы** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (4). Люты 1927. С. 41—42.

**Езавітаў, К. Цяжкое гора нашых школ і вучняў** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7). 1927. С. 90—91.

**Езавітаў, К. Чарговы шарлатанскі абман** // Голас беларуса. 16 сакавіка 1927.

**Езавітаў, К. Экзаменацыйная праграма мэтодыкі гісторыі для слухачоў Беларускіх Настаўніцкіх Аднагадовых Курсаў у Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (6). 1927. С. 87—88.

**Езавітаў, К. Яшчэ адна даўно насьпеўшая патрэба** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (6). 1927. С. 78—79.

**К. Е. Практычныя лекцыі на Рыскіх Беларускіх Настаўніцкіх Курсах** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7).1927. С. 108.

**Кастусёнак. Дзьвінская беларуская гімназія зьбірае сродкі на дапамогу бяднейшым вучням** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (3). Студзень 1927. С. 26—27.

**Кастусёнак. Забытая жменька беларусаў** // Голас беларуса. №4 (51). 16 лютага 1927. С. 4.
**Кастусёнак. Зацьверджаньне новае беларускае школы** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (4). Люты 1927. С. 42.
**Кастусёнак. Як абмаскаліваюцца беларускія дзеці ў расійскіх школах** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7).1927. С. 107.
**Кастусёнак. Як змагаюцца з нашай школай (З Дзьвінскіх спатканьняў)** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (7).1927. С. 92—93.

*1928*

**Езавітаў, К. Беларусы ў Латвіі** // Беларускі календар: 1928: Kalendar bielaruski. Латвія, [1928]. С.50—56.
**Езавітаў, К. Латвійскі пясьняр змаганьня, сонца, каханьня** // Полымя. №1 (8). 1928. С. 143—146.
**Кастусёнак. Беларускі народны тэатр у Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (8). 1928. С. 119—123.

Перадрук: Савецкая Беларусь. Літаратурны дадатак. №7. 1928. С. 7.

*1929*

**[Езавітаў, К.] Беларускі Навукова-Краязнаўчы гурток у Латвіі** // Наш край. №6—7 (45—46). 1929. С. 79—81.
**Езавітаў, К. Беларусы ў Латвіі** // Latvijas Republika desmit pastavesanas gados. Riga, 1929.

Юбілейны зборнік да 10-х угодкаў незалежнасці Латвіі. Паводле зьвестак з: Беларуская школа ў Латвіі. №1(9).1929. С. 3.

**Езавітаў, К. Буйнейшыя пісьменнікі Латвіі [Ян Райніс, Андрэй Упіт, Лінард Лайцэн, Андрэй Курці, Кароль Дзельзіт]** // Голас беларуса. 22 ліпеня 1929.
**Езавітаў, К. Прадмова** // Сакол, П. На сьвітаньні. Першы зборнік вершаў. Рыга, 1929. С. 5—6.
**Езавітаў, К. Праграма іспытаў з гісторыі Беларускае літаратуры для другога выпуску 2-й Рыскай Беларускай асnаўной мястовай школы ў 1928–29 навучальным годзе** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (10). 1929. С. [144].
**Езавітаў, К. Пясьняр змаганьня, сонца і каханьня** // Голас беларуса. 29 красавіка 1929.

**Езавітаў, К. Чатыры буйнейшыя пісьменьнікі сучаснае Латвіі [Ян Райніс, Андрэй Упіт, Лінард Лайцэн, Андрэй Курці]** // Полымя. №4. 1929. С. 198—200.

**Кастусёнак. Аб зборніку вершаў Пятра Сакола „На сьвітаньні“** // Голас беларуса. 29 красавіка 1929.

**К-нак. Ад мора да мора [Верш]** // Голас беларуса. №60. 29 красавіка 1929.

*1930*

**Езавітаў, К. Беларусь у мінулым і сучасным** // Vseslavenski zbornik. Spomenica o tisućugodišnjici hrvatskoga kraljevstva. Zagreb, 1930.

*1932*

**Адраджэнец, К. Водгукі ў беларускім грамадзтве з поваду замаху на Дзьвінскую гімназію** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (15). 1932. С. 214.

**Адраджэнец, К. Выпускны Акт на Беларускіх Дзяржаўных Вучыцельскіх Курсах** // Беларуская школа ў Латвіі. №3 (13). 1932. С. 182—183.

**Адраджэнец, К. Замах на Дзьвінскую Беларускую Дзяржаўн. гімназію** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (14). 1932. С. 195—196.

**Адраджэнец, К. Сьвяткаваньне 50-тых угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №6 (16). 1932. С. 230—231.

**Адраджэнец, К. Удзел беларусаў ва „Усеславянскім Зборніку“** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (11). 1932. С. 155—156.

**Адраджэнец, К. Ці літоўцы ўжо адмаўляюцца ад Вільні?** // Беларуская школа ў Латвіі. №7 (17). 1932. С. 254—255.

**Езавітаў, К. Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ ў Латгаліі і ягоная роля ў справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі** // Беларуская школа ў Латвіі. № 1 (11). 1932. С. 147—151; №2 (12). 1932. С. 165—169; №3 (13). 1932. С. 177—180; №4 (14). 1932. С. 200—202.

Тое самае: Дзесяць год Беларускае Школы ў Латвіі: 1921—1931. Рыга, 1932. С. 5—16.

**Езавітаў, К. Беларуская меншасьць у Латвіі ніколі не забудзе Яна Райніса!** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (14). 1932. С. 193—194.

**Езавітаў, К. Беларусы ў Літве** // Беларуская школа ў Латвіі. № 1 (11). 1932. С.158—160; №2 (12). 1932. С. 171—173; №3 (13). 1932. С. 189—191.

**Езавітаў, К. Віктар Бэнэдыктавіч Вальтар** // Беларуская школа ў Латвіі. №7 (17). 1932. С. 241—243.

**Езавітаў, К. Віктар Бэнэдыктавіч Вальтар** // Вальтар, В. Лясьнікова сена: Апавяданьне. Рыга, 1932. С. 5—8.

**Езавітаў, К. Выдатнага беларускага драматурга і артысту грамадзяніна Уладыслава Галубка вітаемо з 50-тымі ўгодкамі!** // Беларуская школа ў Латвіі. №6 (16). 1932. С. 225—226.

**Езавітаў, К. Вялікага беларускага паэту і барацьбіта за лепшую долю працоўных, грамадзяніна Янку Купалу, вітаемо з 50-тымі ўгодкамі!** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (12). 1932. С. 161—162.

**Езавітаў, К. Вялікага беларускага пісьменьніка і працаўніка на ніве беларускае школы, грамадзяніна Якуба Коласа, вітаемо з 50-тымі ўгодкамі!** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (15). 1932. С. 209—211.

**Езавітаў, К. Што чытаць беларускаму вучню** // Беларуская школа ў Латвіі. №5 (15). 1932. С. 222—224.

**Езавітаў, К. Ян Восіпавіч Харлап — першы старшыня Цэнтральнага Праўленьня Беларускага культурна-прасьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“ ў Латгаліі (Да дзесяцігодзьдзя Беларускае школы ў Латвіі. Успамін)** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (11). 1932. С. 145—146.

**К. Ез. Беларускае жыццё ў Літве** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (18). 1933. С. 236—237.

**Раднік. Сход Рады Беларускага Адзелу пры Міністэрстве Асьветы** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (12). 1932. С. 174.

*1933*

**Адр-ц. Беларускі пратэст у Лігу Нацый** // Беларуская школа ў Латвіі. №3 (20). 1933. С. 292.

**Адраджэнец. Лекцыя праф. М. Біржышкі ў Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (21). 1933. С. 313.

**Адраджэнец. Беларуская меншасць у Літве ўсё яшчэ не атрымала ніводнай беларускай школы** // Беларуская школа ў Латвіі. №7 (24). 1933. С. 360—362.
**Адраджэнец, К. Латыскі гісторык аб беларускай меншасьці ў Латвіі // Беларуская школа ў Латвіі.** №1 (18). 1933. С. 261—262.
**Дзьвінчук. Канфэрэнцыя беларускіх вучыцялёў Дзьвіншчыны** // Беларуская школа ў Латвіі. №3 (20). 1933. С. 292.
**Езавітаў, К. 3-ці Надзвычайны Агульны Сход Таварыства Беларускіх вучыцялёў у Латвіі** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (18). 1933. С. 259—260.
**Езавітаў, К. 25 вучыцельскае працы С.Л. Сіцько** // Беларуская школа ў Латвіі. №4 (21). 1933. С. 317.
**Езавітаў, К. 30 год вучыцельскае працы С.П. Сахарава** // Беларуская школа ў Латвіі. №3 (29). 1933. С. 298—299.
**Езавітаў, К. 37 год вучыцельскае працы М.І. Іванова** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (19). 1933. С. 277.
**Езавітаў, К. 40 год вучыцельскае працы А.Я. Хруцкага** / / Беларуская школа ў Латвіі. №4 (21). 1933. С. 316.
**Езавітаў, К. Акадэміку Браніславу Тарашкевічу, беларускаму вучонаму і змагальніку-адраджэнцу, выказваемо наша сяброўскае спачуваньне!** // Беларуская школа ў Латвіі. №1. 1933. С. 258—259.
**Езавітаў, К. Андрэй Упіт** // Упіт, А. Фракеец Кілон. Рыга, 1933. С. 4—6.
**Езавітаў, К. Беларускія школы ў Латвіі ў 1933—1934 навуч. годзе** // Беларуская школа ў Латвіі. №7 (24). 1933. С. 362—366.
**Езавітаў, К. Беларусы ў Літве дамагаюцца сваіх школ** // Беларуская школа ў Латвіі. №6 (23). 1933. С. 351—352.
**Езавітаў, К. Да гісторыі зьбіраньня і гарманізацыі беларускай народнай песьні** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (19). 1933. С. 280—281; №4 (21). 1933. С. 314—315; №6 (23). 1933. С. 340—341.
**Езавітаў, К. Дзесяцігодзьдзе 1-е Беларускае школы ў Рызе** // Беларуская школа ў Латвіі. №6 (23). 1933. С. 337.
**Езавітаў, К. Латыскага пісьменьніка Андрэя Курці вітаемо з 25-ымі ўгодкамі літарацкае працы!** // Беларуская шко-

ла ў Латвіі. №4 (21). 1933. С. 305—306.
**Езавітаў, К. Прадмова** // Даўгяло, З. Літоўская метрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі. Рыга, 1933. С. 3—5.
**Езавітаў, К. Ці інжанер-архітэктар К. Душэўскі хоча зрыву працы беларускае меньшасьці ў Літве?** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (19). 1933. С. 285—286.
**К. Ез. Беларускае жыццё ў Літве** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (18). 1933. С. 270; №2 (19). 1933. С. 286—287.
**Кангрэсавец. 15-тыя ўгодкі 1-га Усебеларускага Кангрэсу** // Беларуская школа ў Латвіі. №1 (18). 1933. С. 257—258.
**Кангрэсавец. 15-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі** // Беларуская школа ў Латвіі. №3 (20). 1933. С. 289—291.
**Кангрэсавец. Да гісторыі распаду Беларускае Народнае Рэспублікі** // Беларуская школа ў Латвіі. №7 (24). 1933. С. 353—356.

*1934*

**Езавітаў, К. Беларусы ў Рызе** // Сіцько, С. Дзесяцігодзьдзе 1-ае Рыскае Беларускае аснаўное школы. Рыга, 1934. С. [3—6].

*1938*

**Стары Сябра. 20 год на беларускай сцэне ў Латвіі** // Kryniсa. №39. 1938.

*1942*

**Езавітаў, К. Беларуская нацыянальная вопратка** // Новы шлях. №2. 1942.
**Езавітаў, К. Беларускі мастак — Пётра Мірановіч** // Новы шлях. №3. 1942.
**Езавітаў, К. Напярэдадні 100-годдзя беларускага паэта** // Новы шлях. №9. 1942.
**Езавітаў, К. Ненадрукаваныя вершы Максіма Багдановіча** // Новы шлях. №3.
1942.

**Езавітаў, К. Сяргей Палуян і ягоная пара** // Раніца. №25. 1942; Беларуская газэта. 19—20, 22 жніўня 1942.
**Езавітаў, К. Сяргей Сахараў. Да саракавых угодкаў асьветнае працы** // Новы шлях. №3. 1942.
**Jesowitov, K. Die Weissruthenische volkstracht** // Ostland. №5. 1942. P. 15—19.

*1943*

**Езавітаў, К. Беларускія прыпеўкі** // Новы шлях. №21. 1943.
**Езавітаў, К. Вацлав Ластоўскі** // Беларускі голас. 26 лістапада 1943.
**Езавітаў, К. Вацлаў Ластоўскі [Да 60-годзьдзя зь дня нараджэньня]** // Новы шлях. №20. 1943.
Перадрук: Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 3. Мінск, 1997. С. 26—31.
**Езавітаў, К. Вітаю цябе, Навагрудская моладзь!** // Новы шлях. №24. 1943.
**Езавітаў, К. Гарманізацыя беларускай народнай песні ў XIX стагоддзі** // Раніца. №15. 1943.
**Езавітаў, К. Купалле** // Раніца. №26—27. 1943.
**Езавітаў, К. Некалькі словаў да беларускае маткі і выхавацелькі** // Ei, im Walde, bei dem Tale. Weissruthenisches Volkslied / Hereusgegeben von K. Jesawitau. Riga, 1944.
**Езавітаў, К. Памяці Вольгі Сахаравай** // Беларускі голас. 2 красавіка 1943.
Тое самае: Езавітаў, К. Памяці Вольгі Сахаравай // Раніца. №14. 1943.
**Езавітаў, К. Паэма „Тарас на Парнасе“** // Беларускі голас. 19 лістапад 1943.
Тое самае: К. Е. „Тарас на Парнасе“ // Новы шлях. №19. 1943.
**Езавітаў, К. Песьня — выразьнік народнага сьветапагляду** // Новы шлях. 1943.
**Езавітаў, К. Сьвята Купалы** // Новы шлях. №11. 1943
**К. Ез. Васіль Захарка — змагар за беларускую дзяржаўнасьць. Успаміны** // Раніца. №38. 1943.
**К. Ез. Каляды ў Дзвінску сорак год таму** // Новы шлях. №24. 1943.

*1944*

**Езавітаў, К. 25 год грамадскай працы** // Новы шлях. №4. 1944.
**Езавітаў, К. Ненадрукаваныя вершы Максіма Багдановіча** // Новы шлях. №1. 1944.
**Езавітаў, К. Сяргей Сахараў** // Новы шлях. №1. 1944.
**Езавітаў, К. Францішак Алекна-Аляхновіч — сам аб сабе** // Новы шлях. №6. 1944.
**К. Ез. Мастацкае рукадзелле беларускіх жанчынаў** // Новы шлях. №3. 1944.

*1946*

**Езавітаў, К. Беларуская нацыянальная вопратка** // Беларуская народная культура. Ватэнштэт, 1946. С. 3—7.
**Езавітаў, К. Беларускія народныя прыпеўкі** // Беларуская народная культура. Ватэнштэт, 1946. С. 26—30.

*1948*

**Кастусёнак. Не ный!; Малітва Пяруну [Вершы]** // Шыпшына. №6. 1948. С. 53—54.

1950

**Палкоўнік К. Езавітаў. Слуцкае народнае змаганьне** // Моладзь. №20. 1950.

Перадрук: Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса „Моладзь“ 1948—1954. Мінск, 2004. С. 82—87.

*1973*

**Езавітаў, К. [Вершы]** // Баявая Ўскалось. №13. 1973.

*1992*

**Аўтабіяграфія Канстантына Барысавіча Езавітава** // Полацак. №5 (15). 1992. С. 16—23.

**Езавітаў, К. Вершы** / Публікацыя А. Бяляцкага // Спадчына. №2. 1992. С. 18—22.

**Езавітаў, К. Першы Усебеларускі кангрэс** // Згода. №1. 1992. С. 7; №2. С. 7; №3. С. 8.

**Уласнаручныя паказанні Езавітава Канстантына Барысавіча** // Полацак. №6 (16). 1992. С. 37—40; №7 (17). С. 22—25; №8 (18). С. 45—49; №9 (19). С. 27—31; №10 (20). С. 34—39; 1993. №1 (21). С. 34—38. №2 (22). С. 43—48; №3 (23). С. 34—38; №4 (24). С. 27—31.

*1993*

**Езавітаў, К. Першы Усебеларускі кангрэс** // Беларуская мінуўшчына. №1. 1993. С. 25—29.

**Езовитов, К. Воспоминания** // Нёман. №3. 1993. С. 132—162.

*1999*

**Езавітаў, Канстанцін. Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы** // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 261—270.

**Станкевіч, Я. Лісты Янкі Станкевіча да Кастуся Езавітава (1939—1942)** // Спадчына. 1999. №5—6. С. 55—68.

*2003*

**Езавітаў, Кастусь. [Вершы, Публіцыстыка]** // Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі / Уклад. С. Панізніка. Мінск, 2003. С. 78—108.

2008

**Езавітаў, Кастусь. Абвяшчэньне БНР** // Наша слова. №12 (851). 19 сакавіка 2008.

**Пераклады**

**Дзэльзыт, К. Вечны вандроўнік [Апавяданне]** / Пер. з лат. // Полымя. №4. 1929.

**Курці [Куршынскі], А. Пракурор Нат [Апавяданне]** / Пер. з лат. // Полымя. №9. 1928.
**Лайцэн, Л. Жах штандару [Апавяданне]** / Пер. з лат. // Полымя. №10. 1928. С. 46—49.
**Лайцэн, Л. Хлеб і плечы [Верш]** / Пер. з лат. // Голас беларуса. 25 мая 1927.
**Упіт, А. Фракеец Кілон [Апавяданне]** / Пер. з лат. // Полымя. №3. 1929.
**Упіт, А. Фракеец Кілон: Апавяданьне.** З прадмовай К. Езавітава і партрэтам аўтара / Пер. з лат. Рыга,1933. — 15 с.
**Упіт, А. Фракеец Кілон** // Беларуская школа ў Латвіі. №2 (19). 1933. С. 282—284; №3 (20). 1933. С. 300—303.

## Рэдагаваньне

**Галынец, Ал. Вялікае апрашчэньне ці вялікае ўдасканаленьне?** / Пад рэд. К. Езавітава. Рыга, 1926. — 44 с.
**Лёсік, Я. Наша крыніца. Чытаньне для беларускіх школ у Латвіі** / Пад рэд. К. Езавітава. 3 выд. Рыга, 1927. — 130 с.
**Пажытноў, К. Папулярныя вочаркі па тэорыі каапэрацыі** / Пад рэд. К. Езавітава. Рыга, 1927. — 88 с.
**Ei, im Walde, bei dem Tale. Weissruthenisches Volkslied** / Hereusgegeben von K. Jesawitau. Riga, 1944. — 21 s.

## Публікацыі пра Кастуся Езавітава

**Ажгірэй, Зьмітро. Які няўклюдак зможа зрачыся яе? Дзяцінства К. Езавітава** // Шыпшына. №6. 1948. С. 54—56.
**Арабей, Лявон. Адчуць сябе беларусам** // Голас Радзімы. 13 студзеня 1994.
**Арлоў, Уладзімер. Кастусь Езавітаў** // Імёны свабоды. 2007. С. 198—199.
**Багдановіч, І. Кастусь Езавітаў** // Беларускія пісьменнікі: У 6 т. Біябібліяграфічны слоўнік. Мінск. Т. 6. 1995. С. 584—585.
**Багдановіч, І. Кастусь Езавітаў** // Хто ёсць хто сярод беларусаў свету: Энцыкл. Даведнік. Мінск, 2000. С. 177—178.
**Брылеўскі, У. Незабыўны дзень у маім жыцьці** // Беларус. №242. 1977.
**Брылеўскі, Уладзімер. Сустрэча з Канстантынам Езавітавым** // Полацак. №6. 1993.

**Бяляцкі, Алесь. Кастусь Езавітаў** // Спадчына. №2. 1992. С. 18—22.

**Вабішчэвіч, А. „Але ж шлях да свабоды старонка праложа!“** // Сыны і пасынкі Беларусі. Мінск, 1996. С. 313—347.

**Герасімаў, В. „Да праўды сьветлай, братка, йдзі!“** // Полымя. №8. 1994. С. 170—189.

**Герасімаў, В. „На Беларусі можа быць толькі беларуская ўлада“ [Творчая спадчына нац.-дэмакратаў]** // Літаратура і мастацтва. 13 снежня 1991. С. 14—15.

**Герасімаў, В. Бібліятэка К. Езавітава** // Матэрыялы міжнар. навук.-практычнай канферэнцыі „Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі. Гісторыя і сучаснасць“, 3—4 кастрычніка 1996 г. Мінск, 1997. С. 27—28.

**Герасімаў, В. Дачыненні між двума волатамі [Аб тэатральнай дзейнасці К. Езавітава]** // Тэатральная Беларусь. №4. 1995. С. 23—26.

**Герасімаў, В. Хто такі Кастусь Езавітаў?** // Народная воля. 11 красавіка 1997. С. 3.

**Дзьвінчук, С. Канстантын Езавітаў [Да 50-годзьдзя нарадзінаў]** // Новы шлях. №22. 1943. С. 14.

**Каўка, А. Кнігі генерала [З бібліятэкі Кастуся Езавітава]** // Чырвоная змена. 18 лістапада 1999. С. 3.

**Каўка, А. Па сьлядох бібліятэкі Кастуся Езавітава** // Каўка, А. Будам жыць! Менск—Масква, 1998. С. 57—66.

**Каўка, А. Пакліканы краінай Беларусь [З эпісталярнай спадчыны К. Езавітава]** // Голас Радзімы. 4 лістапада 1993. С. 1, 4; 11 лістапада. С. 5; 18 лістапада. С. 4.

**Кошалеў, В. А ўсё ж бандыт ці герой? [Аб успамінах генерала дывізіі „Беларусь“ К. Езавітава ў дачыненні да С. Булак-Балаховіча]** // Звязда. 19 жніўня 1992. С. 3.

**Мальдзіс, А. Лёс архіва К. Езавітава** // Кантакты і дыялогі. №7—8. 1996. С. 45—48.

**Мальдзіс, А. Пра лёс архіва Канстанціна Езавітава** // Вяртанне-3. Зборнік артыкулаў і дакументаў / Склад. А. Тоўсцік, М. Яніцкая, Рэд. А. Мальдзіс. Мінск, 1996. С. 244—247.

**Марціновіч, А. „...Беларусь. Ей адной я цяперака малюсь“ [Да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага ваеннага і палітычнага дзеяча, літаратара Кастуся Езавітава]** // Добры вечар. 17 лістапада 1993. С. 3.

**Марціновіч, А. Герой і пакутнік свайго часу К. Езавітаў** // Марціновіч, А. Хто мы, адкуль мы...: Гіст. эсэ, нарысы: У 2 кн. Кн. 2. Мінск, 1998. С. 445—460.
**Мілаш, Л. Вечар памяці К. Езавітава** // Голас Радзімы. 21 снежня 1995. С. 3.
**Мірановіч, П. Канстанцін Езавітаў** // Беларус. №166. 1971.
**Міхнюк, У. Езавітаў Канстанцін Барысавіч** // Беларуская энцыклапедыя ў 18 т. Т.6. Мінск, 1998. С. 382—383.
**Міхнюк, У. Езавітаў Канстанцін Барысавіч** // Беларусь: Энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 301.
**Міхнюк, У. Езавітаў Канстанцін Барысавіч** // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. 1996. С. 346—347.
**Міхнюк, У., Паўлаў, Я. Канстанцін Езавітаў: матэрыялы да біяграфіі [дадатак — стэнаграма арыштаванага Езавітава К. ад 29-30 студзеня 1946]** // Маладосць. №1. 1995. С. 219—240.
**Наумук, Святлана. Канстанцін Езавітаў: жыццёвы шлях і дзейнасць. Аўтарэферат дыс. на суісканне вуч. ступ. канд. гіст. навук.** Мінск, 2003. — 22 с.
**Панізнік, С. Канстанцін Езавітаў (1893—1946)** // Роднае слова. 1993. №11. С. 76—78.
**Панізнік, Сяргей. Кастусь Езавітаў** // Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі. Мінск, 2003. С. 75—77.
**Півуноў, Ю. Беларускі генерал** // Ратуша. 11—17 лістапада 1993. С. 3.
**Пярвышына, Т. „Мабілізаваны на ўсё жыццё“ [Матэрыялы з БДА]** // Літаратура і мастацтва. 14 красавіка 1995. С. 14—15.
**Раўнейка, С. Адзін фрагмент з гісторыі Беларусі ў кантэксце беларуска-польскіх адносін (Паводле Канстанціна Езавітава)** // Край. — Kraj (Polonica — Albaruthenica — Lithuanica). №3—4 (6—7). 2002. С. 72—76.
**Раўнейка, С. Беларуская дыяспара ў Прыбалтыцы ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя (па матэрыялах даследаванняў К. Езавітава)** // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. №2 (33). 2003. С. 62—70.
**Раўнейка, С. Беларуская дыяспара ў Рызе ў пачатку XX ст. (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Айчынная і сусветная гісторыя: сучасныя погляды і метады даследавання. Зборнік навуковых прац: У 2 ч. Ч. 2. Актуальныя пытанні

ўсеагульнай гісторыі і гісторыі Беларусі. Мінск, 2003. С. 202—207.

**Раўнейка, С. Беларуская меншасць у Латвіі ў XIX — пачатку XX ст. (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Айчынная і сусветная гісторыя: сучасныя погляды і метады даследавання. Зборнік навуковых прац: У 2 ч. Ч. 1. Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі. Мінск, 2002. С. 125—130.

**Раўнейка, С. Беларуская меншасць у Літве ў 20-х — пачатку 30-х гг. XX ст. (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Айчынная і сусветная гісторыя: сучасныя погляды і метады даследавання. Зборнік навуковых прац: У 2 ч. Ч. 1. Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі. Мінск, 2002. С. 185—195.

**Раўнейка, С. Вялікая Айчынная вайна ў лёсе Канстанціна Езавітава** // IV межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (15—17 мая 2002 г.). Сборник материалов. Брест, 2002. С. 85—86.

**Раўнейка, С. Гісторыя беларуска-польскіх адносін (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Славянскі свет і славянскія культуры ў Еўропе і свеце: месца і значнасць у развіцці цывілізацый і культур (гісторыя, урокі, вопыт, сучаснасць). Зборнік матэрыялаў міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, 31 кастрычніка — 1 лістапада 2002 г. У 2 ч. Ч. 1. Віцебск, 2002. С. 161—164.

**Раўнейка, С. Канстанцін Езавітаў: імя, якое вяртаецца ў гісторыю** // III межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (13—15 июня 2001 г.). Сборник материалов. Брест, 2001. С. 62—63.

**Раўнейка, С. Канстанцін Езавітаў: надышоў час вяртання ў гісторыю** // Пагоня. 25 кастрычніка 2001.

**Раўнейка, С. Канстанцін Езавітаў: педагог, публіцыст і асветнік** // Гісторыя: праблемы выкладання. №3. 2002. С. 118—122.

**Раўнейка, С. Канстанцін Езавітаў: праблема ацэнкі асобы ў гісторыі** // VI рэспубліканская навуковая канферэнцыя студэнтаў і аспірантаў Беларусі „НДРС — 2001“, 16—19 кастрычніка 2001 г. Зборнік матэрыялаў. У 2 ч. Ч. 2. Віцебск, 2002. С. 29—31.

**Раўнейка, С. Канстанцін Езавітаў: Праблема дзяржаўнага станаўлення Беларусі ў кантэксце беларуска-польскіх адносін** // Государственность на Беларуси: генезис и перспективы. Сборник материалов республиканской научно-практической

канферэнцыі, 30 января 2002 г. В 2 ч. Ч. 1. Брест, 2002. С. 138—139.

**Раўнейка, С. Лёс бібліятэкі Канстанціна Езавітава** // IV межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (15—17 мая 2002 г.). Сборник материалов. Брест, 2002. С. 87—88.

**Раўнейка, С. Палітыка Польшчы ў дачыненні да Беларусі (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Славянскі свет: міжэтнічныя адносіны на мяжы трэцяга тысячагоддзя. Зборнік матэрыялаў міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі студэнтаў і аспірантаў ВНУ, 16—17 лістапада 2002 г. Брэст, 2002. С. 259—263.

**Раўнейка, С. Педагагічна-асветніцкая дзейнасць К. Езавітава** // III межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (13—15 мая 2001 г.). Сборник материалов. Брест, 2001. С. 64—65.

**Раўнейка, С. Праблема крыніц у вывучэнні лёсу К. Езавітава** // V межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (29—30 мая 2003 г.). Сборник материалов. В 2 ч. Ч. 1. Брест, 2003. С. 192.

**Раўнейка, С. Праблема культурнага развіцця беларускай меншасці ў Літве ў пачатку XX ст. (па матэрыялах даследавання К. Езавітава)** // Славянскі свет і славянскія культуры ў Еўропе і свеце: месца і значнасць у развіцці цывілізацый і культур (гісторыя, урокі, вопыт, сучаснасць). Зборнік матэрыялаў міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, 31 кастычніка — 1 лістапада 2002 г. У 2 ч. Ч. 1. Віцебск, 2002. С. 215—218.

**Раўнейка, С. Тайна гібелі К. Езавітава** // V межвузовская научно-методическая конференция молодых ученых (29—30 мая 2003 г.). Сборник материалов. В. 2 ч. Ч. 1. Брест, 2003. С. 191.

**Сахарава, В. Змагару-адраджэнцу (Прысьвячаецца К. Б. Езавітаву) [Верш]** // Беларуская школа ў Латвіі. №6 (16). 1932. С. 238.

**Саловьев, А. В смерти тысяч белорусов виновен** // Во славу Родины. 24 марта 1994. С. 3.

**Сядура, У. Генэрал Канстантын Езавітаў** // Раніца. 31 студзеня 1945. С. 3.

**Хацкевич, А. Загадка Константина Езовитова** // 7 дней. 1 июля 1995. С. 3.

**Хацкевич, А. Распятая судьба [Из архивов КГБ]** // Фемида. 3—9 мая 1993. С. 4; 10—16 мая. С. 2; 17—23 мая. С. 4.
**Хацкевіч, А. Генерал Езавітаў: здраднік ці агент КДБ?** // Звязда. 19 жніўня 1992. С. 3.
**Чыгрын, С. „Уласным натугам да долі ідзі...“ [Пра К. Езавітава і яго невядомы верш „Марш Адраджэнца“]** // Пагоня. 19—25 лістапада 1993. С. 8.
**Яновіч, М. Кастусь Езавітаў [Вінаваты, што Беларусь любіў]** // Народная воля. 18 верасня 2001. С. 3.
**Dren, I. Belorusih in beloruskem slovistvu** // Luč. №9. 1933.
**Pregled novejšega beloruskega slovstva** // Dom in svet. [Б. м.]. 1928.

*Падрыхтоўка да друку*
*Натальлі Гардзіенкі й Валера Герасімава*
*з выкарыстаньнем збораў Сяргея Панізьніка*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# МЯСТЭЧКАВАЯ АПОВЕСЬЦЬ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

У назове артыкулу няма й ценю таго зьняважліва-пагардлівага стаўленьня, што ўкладаецца ў выразы кшталту *местачковая літаратура* ці, прыкладам, *местачковы палітык*: правінцыйны, ніжэйшага гатунку.

Бо гэты нэгатыўны сэнс азначэньня ня можа належаць беларусу; ён, накінуты, прыйшоў зь іншае мовы, дзе й *жыд* — абраза. У беларускай жа літаратуры побач з тэрмінамі *горадзкая проза*, *вясковая проза* мусіць існаваць і такі: *мястэчкавая проза*.

Мястэчка — гэта зусім іншы, не падобны ні да чога іншага, сьвет. У „Маім мястэчку“, нібыта ўспамінах, але разам з тым адным з найбольш сакавітых, цікавых — па тым самым гамбурскім рахунку — мастацкіх твораў, напісаных на эміграцыі, у Васіля Стомы-Сініцы чытаем:

*„Што датычыць Рынку, то ён меў столькі асаблівасьцяў, аб якіх я пастараюся расказаць абшырней, але крыху пазьней; цяпер жа я перайду да апісаньня агульнага выгляду майго мястэчка.*

*Вось жа яно называлася Лужкі і ляжала амаль у цэнтры Дзісьненскага павету, на ўзвышшы, так што з якога б боку да яго ні пад'язджаў, то трэба было падымацца на гару. З трох бакоў яго, нібы поясам, абвівала невялікая, але месцамі даволі глыбокая і прыгожая рэчка Мнюта.*

*У самым цэнтры мястэчка, на Рынку, стаяла даволі прыгожая, зь зялёным дахам і агромным купалам царква, быццам перабудаваная з вуніяцкай, але ніхто ня ведаў, як там было ў сапраўднасьці. На ўскраіне-ж мястэчка знаходзіўся вялікі, прыгожы касьцёл з высачэзнымі гатыцкімі вежамі і стромкім спадзістым дахам, пабудаваны продкамі графаў Плятэраў, маёнткі якіх Гарадзец, Фаб'янова і Ілоўка ляжалі ў ваколіцах мястэчка. І былі ў Лужках таксама некалькі сінагогаў, польская і жыдоўская пачатковыя школы, жыдоўскі банк,*

*паліцыя, суд, гміна і невялічкі, на якіх ложкаў 25, шпіталь, зачынены польскімі ўладамі ў 1930-х гадах. Апрача гэтых установаў, у Лужках было больш за 20 крамаў, рэстаран z wyszynkiem napojów alkoholowych*[1]*, са тры піўныя і цукерня Фукса, якога, між іншым, дражнілі мянушкай Што-Маеш-Прадаць. Крамы былі пераважна жыдоўскія, і толькі тры ці чатыры зь іх належалі хрысьціянам. Што праўда, у пачатку 1920-х гадоў была заснаваная каапэратыва, якая чамусьці з расейскай [мовы] называлася кооперативная лавка, або, карацей, кооператив. Памятаю, нашая суседка Хайка Альтман, якая ганарылася тым, што нібы калісьці скончыла гімназію ў Шклове, — цьвердзіла, што трэба гаварыць компратив. Сяляне-ж з суседніх вёсак чамусьці называлі яго праціўная лаўка. Вось гэтая праціўная лаўка, не праіснаваўшы і пару год, ня вытрымала жыдоўскай канкурэнцыі і зачынілася. Праўда, некалькі год пазьней была адчынена так званая спулдзельня*[2]*, але яе пайшчыкамі ды пакупнікамі былі пераважна вайскоўцы зь недалёка ад мястэчка пабудаваных нядаўна казармаў. Для нашых людзей не падыходзілі там ані цэны, ані асартымент тавараў“*[3].

Меў сваё замілаваньне да мястэчка й народжаны ў Веліжы Юрка Віцьбіч. Вось ён піша да Вітаўта Тумаша:

*„Не пашанцавала таксама й маёй табліцы для календару БАПЦ — „Век гарадоў Беларусі“, якую даслаў Вам для ласкавага азнаямленьня. Вам нават з гэтае прычыны згадаліся радкі Францішка Багушэвіча: „Ня люблю я места, па-расейску горад“.*

*А Горадня, Гарадок Саламярэцкі, Гарадок Астрашыцкі, Давід-Гарадок, Гарадок, Гарадзея ды нязьлічоныя на Беларусі гарадзішчы? Няўжо Вам здаецца, што гэта расейцы іх гэтак ахрысьцілі, а ня крывічы, дрыгавічы й радзімічы? Потым, як на сёньня, пры шалёным наступе абмаскаленьня, дык нам лепш ужо абараняць ня „места“, а „мястэчка“, што там зьінаначанае на „городской поселок“*[4].

І праз два дні — зноў: *„Дазвольце цяпер перайсьці да тэрміну „горад“ і „места“. Мне здаецца, што гэта сынонімы нашае багатае мовы, якія маюць аднолькавае права на сумеснае існаваньне. Я толькі*

[1] З продажам алькаголю (польск.).

[2] Спулдзельня (ад польск. *spółdzłelnła*) — тут: каапэратыўная крама.

[3] Стома, Васіль. Маё мястэчка // Полымя. №9. 1998. С. 182—183.

[4] Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 06.11.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

*рашуча супрацьставіўся накідваньню апошняга тэрміну, што прапануе др. Я. Ст[анкевіч]. Тут маем з аднаго боку з Багушэвіча „Ня люблю я места, па-расейску горад“, а з другога — назоў цудоўнага вершу Янкі Лучыны (Няслухоўскага): „Што думае Янка, вязучы дровы ў горад“.*

*Вось затое аніяк ня ў стане пагадзіцца з др. Я. Ст., што трэба адкінуць „мястэчка“, а ўжываць „мЕстачка“. Між тым адразу згадваецца з народнае: „У мястэчку Берастэчку каманда стаяла“ (Шэйн, „Жаўнерскія песьні“), а з літаратурнае:*

*Дзядзька Тодар, два Праньцішкі,*
*Сват Гілёрык, кум Тамаш*
*У мястэчку Зацьвілішкі*
*Насьмяшылі ўвесь кірмаш (Алесь Гарун, „Спрэчка“).*

*Грэшны чалавек, запытаўся я ў др. Я. Ст., а можа й ад каровы нам трэба адмовіцца з прычыны ейнага, нібы, польскага націску? Відаць пакрыўдзіўся, нічога не адказаў“*[5].

От жа Віцьбічава аповесьць „Лшоно Габоо Бійрушалайм“, як і твор Васіля Стомы, належыць да тае самае *мястэчкавае прозы*.

Назоў, відаць, меў для аўтара падвойны сэнс, бо нават праз гады з амэрыканскага гарадку Саўт-Рывэр дасылаў віншаваньні наступнага зьместу:

*„Ветліва прашу Вас і Вашую сям'ю прыняць маё павіншаваньне і самыя найлепшыя пажаданьні зь Вялікім Сьвятам Раства Хрыстовага і з Новым Годам. Калі жыды штогод у сынагогах канчалі свае сьвята Ём Кіпур пад гукі рогу-шыфора і ўрачысты вокліч: „Лшоно Габоо Бійрушалайм!“ — У наступным годзе ў Ярусаліме! — і Бог зьвярнуў ім Ізраіль, дык ня можа таксама стацца, каб Ён не прыслухаўся нарэшце да нашых малітваў і не зьвярнуў нам Беларусь. У наступным годзе ў Менску!“*[6].

Адно што назоў такі быў дадзены аповесьці, надрукаванай у часопісе „Полымя рэвалюцыі“ ў 1933 г. Куды хацеў вяртацца Віцьбіч у той час?!

---

[5] Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 08.11.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

[6] Віншавальны ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 17.12.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

Напэўна, такія пытаньні паўсталі адразу пасьля друку, і адпаведныя адказы былі знойдзеныя, бо ў кнізе „Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы“ чытаем Андрэя Александровіча:

*„Сродкамі архаічнай штучнай мовы, ад якое нясе пахам сярэднявечных палацаў, працягваецца выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасьць у творчасьці Віцьбіча.*

*У аповесьці „Лшоно Габоо Бійрушалайм“ („Полымя Рэволюцыі“, 1933 г.“), зробленай на яўрэйскім „матэрыяле“, асабліва выразна працягваюцца ад пачатка да канца густа, слова за словам, нацыяналістычныя, сіяністкія, клерыкальна-містычныя ідэі. Сълёзы па яўрэйскай „патрыярхальнай самабытнасьці“ і беспрасьветнасьці разьліты па ўсіх старонках аповесьці, але Віцьбіч абнадзейвае, дае перспектыву (лозунгам клярыкалаў і раз'юшаных яўрэйскіх нацыяналістаў), якая выказана ў самім загалоўку „Лшоно Габоо Бійрушалайм“, што на дрэўне-яўрэйскай мове адзначае „У будучым годзе ў Ерусалім“*[7].

За Александровічам у той самай кнізе сьледам паўтаралі Ізі Харык, Аркадзь Куляшоў, Пятрусь Броўка, Міхась Клімковіч[8].

Як сьвяточная хала сплеценая зь некалькіх жгутоў, гэтак і Віцьбічава аповесьць складаецца з трох узаемапераплеценых гісторый, што разгортваюцца на вулках і ў ваколіцах Грайронку.

Адна — гэта жыцьцё самога мястэчка, яго мінакоў, іх характары і ўзаемаадносіны: ваданоша Гэрцька Віфэл Аззйгэр, балагол Эел-Бэр, гандлярка Пэся-Брайна, гарадавы Скрабка, ногід Баранбаўм, калбейнік Хацэ Камар, пратапоп Фаворскі з сынам-гімназыстам, ксёндз Яранім Вайноўскі, шавец Мэер Мойжас і ягоныя дзеці, Янкель, Блюма й Геня, Станіслаў Галькевіч.

І мелі рацыю пісьменьнікі ў сваіх закідах аўтару: і мова надта ж своеасаблівая, дый *„раз'юшаныя яўрэйскія нацыяналісты“* маюцца як той самы балагол Эел-Бэр: *„І ўсё-ж я, пан Станіслаў, люблю гэту краіну, і калі-б мне параілі пераехаць у Ханаан, я ніколі не паеду. Я люблю Віцебск, і Грайронак, і Дзвіну, і гэты шлях. Гэта мая бацькаўшчына, і чаму людзі кажуць, што я чужынец, калі мой прадзед Лейба Гарэлік, таксама балагол, пахаваны на могліцах у Грайронку, калі ўсё вакол мне знаёма ад калыскі. Чаму?“*[9].

---

[7] Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы. Менск: Выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук, 1934. С. 19.

[8] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Даваенны Віцьбіч // Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза. Мінск, 2011. С. 5—6.

[9] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 65

Незадоўга да сваёй сьмерці беларускі нацыяналіст Віцьбіч пісаў штосьці блізкае ў лісьце да Вітаўта Тумаша:

*„[...] Дагэтуль ня ведаю, хто аўтар вершу, зьмешчанага ў „Беларусе“ і прысьвечанага мне. Ну, што-ж, верш ня благі, і за яго я ўдзячны, але... Перадусім, вельмі далёкія ад мяне нейкія нашаніўскія — Ах! Ох! — а, па-другое, хоць вочы мае ў старасьці, ёсьць такі грэх, і сталіся нейкімі сьлязьлівымі, аднак у ранейшым сваім жыцьці я ніколі ня плакаў. Меліся ў гэтым жыцьці й проста жудасныя падзеі й здарэньні, ад якіх пазбаўляўся або — аквэ вітэ, або, што найчасьцей, падарожжамі ў старадаўніну ці проста ў бліжэйшы лес па кветкі, грыбы ды ягады. Але ніколі ня румзаў. Затое адпавядае праўдзе, што ў 20-30-ыя гады Дзьвіна са сваймі парогамі й плытнікамі зьяўлялася маёй галоўнай гэраіняй, аб чым сьветчаць нават назвы твораў, як „Ціхая Руба“, „Грыміць Перакгрыж“ і г.д. Ды сьню яе й цяпер“*[10].

Калі й хто нацыяналіст у аповесьці, дык гэта ксёндз, што, уважаючы на час напісаньня твору, і ня дзіўна. Ён кажа да Стася:

*„— Гісторыя — гэта прыплывы і адплывы культур. Яшчэ прыйдзе рэнесанс Рэчы Паспалітай, бо*

*Nigdy Polska nie stanie się Rosją,*
*Tego nigdy nie będze! Nigdy!*

*Вялізны зрух ускалыхне ўсю краіну. Зашамацяць на яе шляхох зноў сутанамі жаўнеры пана Езуса, рыцары Ватыкану, і ты тады не пазнаеш Грайронку.*

*Ксёндз, гаворачы, нават пастукваў кулаком па стале, нібы жадаў падкрэсліць тое, што казаў. Але Стась заўважыў:*

*— Якая-ж гэта Польшча, пан Ярамір? У Грайронку жывуць выключна яўрэі, вакол у вёсках — выключна беларусы, а палякі — вы, я, панна Малгажата, арганісты, сухотны аптэкар ды дзясяткі са тры шляхціцаў у павеце. Я больш як самога сябе люблю маці Польшчу, але няма ў мяне сталай веры ў яе рэстаўрацыю.*

*— Больш шляхціцаў і не трэба, бо іх роля панаваць, бо шляхціц на загродзе роўны ваяводзе. Беларусы — гэта ўчорашнія бяз пяці хвілін палякі, і з дапамогаю вуніі яны канчаткова перакінуцца зь беларусоў у чорнапалякаў, у палякоў другога гатунку, для чорнай працы. Роля*

---

[10] Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 28.04.1974. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

*ж яўрэяў — дробны гандаль і саматужніцтва. Кожны чалавек мае выконваць прызначаную яму небам працу. Місія ксяндза Яраніма Вайноўскага — каланізаваць беларусоў. Місія Хаці Камара — біць у барабан. Місія Гэрцыка Віфэл Азэйгэр — цягаць ваду. Місія Мэера Мойжаса — шыць сутаны*“[11].

Другі *жгут* аповесьці — гэта бацька Нілёнак.

Пра яго, удзельніка Вяліскага паўстаньня, як і сам Віцьбіч, пісьменьнік будзе ня раз яшчэ пазьней пісаць, і ў працы „Антыбальшавіцкія паўстаньні“, і ў артыкуле „Не чарнілам, а крывёю“. Ня ў тым, аднайменным, з кароткімі згадкамі пра зьнішчаных ці ўкратаваных А. Александровіча, С. Баранавых, Я. Бранштэйна, М. Шалая[12], а ў іншай кніжцы — выдадзенай у „Народнай Бібліятэцы“ ў Бэрліне ў 1944 г. пад назовам „Вяліскія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары“.

Вось што расказвае там Віцьбіч:

*„Жылі два браты Ніляты — Іван і Паўлюк. Прыгожыя, рослыя дзяцюкі, яны адрозьніваліся ад сваіх аднагодкаў хіба толькі тым, што яшчэ мацней за іх працавалі на ральлі, а таму дужэй за іншых узьненавідзелі бальшавікоў. Пасьля паўстаньня Ніляты пайшлі ў лес, дзе арганізавалі аддзел. Іван неўзабаве быў забіты, але Паўлюк змагаўся яшчэ сем год. І байцоў гэтага аддзелу яднала такое сардэчнае сяброўства, што народ усіх іх пяшчотна называў Нілятамі.*

*Бадай ніхто з паўстанцаў не выдзяляўся такой рухавасьцю, як Нілёнак. Калі раніцой ён спальваў камуну пад Вяліжам, дык увечары руйнаваў валасны камітэт ужо ў 40 вярстах ад Вяліжу пад Усьвятамі, а на другі дзень, пакрыўшы адлегласьць яшчэ ў 40 вёрст, зьнішчаў сураскіх камуністых. Сяляне папярэджвалі яго аб небясьпеках і забясьпечвалі хлебам. Часам чэкістыя, трапляючы ў тую ці іншую вёску, зь якой ён толькі што выехаў, пыталіся ў першай сустрэчнай бабуні, куды ён накіраваўся. А тая, паказваючы кіём у зусім процілеглы бок, адказвала:*

*— Ву-унь туды, дабрадзей ты мой, — і шэптам дадавала: Каб цябе пярун пабіў, такога дабрадзея.*

*І блакітнавокія Марылі ды Ганулі ў паўголас сьпявалі песьню аб ім, складзеную народам яшчэ за ягонага жыцьця:*

*У Вяліжы дождж ідзе,*
*А ў Віцебску сьліжа,*

---

[11] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 69—70.

[12] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 150—159.

*Хавайцеся, бальшавікі,*
*Бо Нілёнак блізка.*

*Толькі ў ліпню 1925 г. пашэньціла катам спаймаць Нілёнка. Спакойна трымаўся ён на судзе, а потым таксама-ж спакойна ішоў на расстрэл. Сьвітала ў той час, і ён заўважыў свайму сябру, які ішоў побач:*

*— Э-эх, братка ты мой, пакасіць-бы цяпер па расы.*

*Закапалі яго гады на крутым берагу ручаю Канеўца. Увясну шумны Каневец выкапаў труп і працягнуў некалькі кілямэтраў. нават мёртвы не супакоіўся Паўлюк Нілёнак і зрабіў яшчэ адзін імпэтны рэйс“*[13].

Зразумела, што ў аповесьці вобразы Нілёнка й ягоных паплечнікаў намаляваныя кардынальна інакшымі, хоць тыя ці іншыя дэталі там агучаныя: і хуткасьць перамяшчэньняў атрада бацькі Нілёнка, і праспяваная песьня:

*„І па дарогах і па бездарожжы павету вей-ветрам шпацыраваў з воўчай зграяй сваіх трохсот коннікаў і дзясяткаў кулямётных тачанак „бацька“ Нілёнак. На выпешчаных шляхецкіх конях імкнуўся „бацька“ навослеп па павеце — на світанні руйнаваў камуну пад Зацвілішкамі, а шэраю гадзінаю пад коннікамі енчыў ужо брук мястэчка Янавічаў, што за восемьдзесят кіламетраў ад Зацвілішак“*[14].

Зь сьмерцю ў аповесьці Нілёнка лучыцца трэці *жгут* твору — гісторыя Станіслава Галькевіча. І вось тут вымалёўваецца даволі нечаканая паралель.

У 1918—1919 гг. у газэце „Беларуская думка“ друкавалася, а ў 1920 г. у Вільні асобным выданьнем выйшла аповесьць Максіма Гарэцкага „Дзьве душы“ — твор, які Станіслаў Станкевіч ахарактарызаваў як *„найвышэйшае ідэйна-нацыянальнае й мастацкае дасягненьне ўсяе творчасьці Максіма Гарэцкага й вузлавы пункт у гісторыі новае беларускае літаратуры“*[15].

---

[13] Віцьбіч, Юрка. Вяліскія паўстанцы. Гэньдзікаўскія змагары. Бэрлін, 1944. С. 6—7.

[14] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 97.

[15] Станкевіч, Станіслаў. „Шматпакутныя творы“ Максіма Гарэцкага // Гарэцкі, Максім. Том трэйці. Апавяданьні і аповесьць „Дзьве душы“. Нью Ёрк: Выданьне газэты „Беларус“, 1975. С. 14.

Тэма *дзьвюх душаў* у той час значна болей валодала галовамі, чым мы сабе ўяўляем, і ня толькі беларускімі. Прыкладам, Максім Горкі пісаў:

*„У нас, русских, две души: одна — от кочевника-монгола, мечтателя, мистика, лентяя, убежденного в том, что „Судьба — всем делам судья“, „Ты на земле, а Судьба на тебе““, „Против Судьбы не пойдешь“, а рядом с этой бессильной душою живет душа славянина, она может вспыхнуть красиво и ярко, но недолго горит, быстро угасая, и мало способна к самозащите от ядов, привитых ей, отравляющих ее силы“*[16].

Бясспрэчна, Віцьбіч ня мог прамінуць „Дзьвюх душ“. Але тут нават няма патрэбы дапушчэньняў, бо пра чытаньне твораў Гарэцкага, і чытаньне ўважлівае, ёсьць у наступным лісьце:

*„Згаджаюся з Вамі, што Максім Гарэцкі добры пісьменьнік, навуковец ды вялікі беларус увогуле. Прынамсі, яшчэ ў сваёй Віцебскай кніжніцы меў ягоныя кніжкі „Рунь“, „Дзьве душы“, „На імпэрыялістычнай вайне“, „Ціхая плынь“ ды іншыя. Потым зусім ня выпадкова перадрукаваў у „Шыпшыне“ (№4) ягоныя-ж „Лірныя сьпевы“. Нават у сваёй цяперашняе кніжніцы маю Максіма Гарэцкага: Гісторыя беларускае літаратуры, 1924 г., Вільня, Выд. Б. Клецкіна; „Маладняк“ за пяць гадоў. Менск, 1928 г.; Беларуска-расійскі слоўнічак. Менск, 1925 г.*

*Аднак, разам з тым, я не зьяўляюся асаблівым сымпатыкам мовы Максіма Гарэцкага. [...] Мова Максіма Гарэцкага ні да параўнаньня з запраўды багатай мовай Кузьмы Чорнага й Лукаша Калюгі, Крапівы й Бядулі, Лынькова й Галавача, Васіля Каваля і Янкі Брыля, Янкі Скрыгана і Івана Пташнікава і г.д.“*[17].

Моўныя пытаньні тут цікавяць у найменшай ступені, але галоўнае: Гарэцкага Віцьбіч чытаў бадай што з алавікам.

Ня выключана, хоць таму няма сьведчаньняў, што чытаў Юрка Віцьбіч і рэцэнзію на „Дзьве душы“ за аўтарствам Антона Луцкевіча, апублікаваную ў 1920 г., дзе крытык, сярод іншага, пісаў:

*„Самая завязка повесьці — гэта ўжо ёсьць дужа цікаўная праблема, хоць наагул у літаратуры ня новая. Мамка-сялянка, кормячы ў двары панскае дзіця, хоча даць свайму роднаму сыну „шчасьлівую“*

[16] Упершыню: Летопись. Декабрь 1915.

[17] Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 08.09.1969. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

*будучыну, замяняе ў калысцы дзяцей, і гэтак сялянскі сын узгадоўваецца на „пана“, пад той час як паніч расьце на „мужыка“. Якая цікаўная і ўдзячная задача для аўтара: прасачыць, як адаб’ецца на душах абодвых дзяцей перамена іх сацыяльнага палажэньня, якія плады дадуць асаблівыя зачаткі іх духовага ўкладу на чужой глебе? Аднак, гэтую праблему М. Гарэцкі разьвязвае толькі напалавіну: ён аналізуе і абрысоўвае больш выразнымі штрыхамі толькі „мужыка ў панох“, Абдзіраловіча, прапускаючы гэткую добрую магчымасьць разьвінуць псыхалёгію Васіля — „пана ў мужыкох“, і абмежаваецца адно некалькімі мамэнтамі“*[18].

Дык вось жа Станіслаў Галькевіч з „Лшоно Габоо Бійрушалайм“ і ёсьць той нескарыстаны Гарэцкім шанец, той Васіль Маланьнін сын, „пан у мужыкох“, сьвядома ці несьвядома створаны Віцьбічам!

Гісторыя Стася ня менш мэлядраматычная за гісторыю Ігната: *„Падняўшыся па сходах, Стась спыніўся ля вобразу Вастрабрамскай Богамаці. Пад гэтым вобразам дзевятнаццаць гадоў таму знайшлі дзіцянё з прышпіленай да коўдрачкі паперкай: „Шляхціц Станіслаў Галькевіч. Людзі добрыя, дзеля пана Езуса, не дакарайце. Нельга інакш. Хай Маці Боская пільнуе маё дзіцянё. Маці“ [...] Глухі сум па маці адчуваў з маленства Стась, аб ёй ён ведаў толькі тое, што ў тую ноч, калі яго знайшлі, праз Гайронак праязджалі дзве вельмі добра апранутыя жанчыны, і адна з іх на заезным двары амаль што наўзрыг увесь час плакала. Калі Стась падрос, пайшоў на заезны двор, але там быў ужо новы гаспадар, які нічога не ведаў пра тую жанчыну. Потым пан Ярамір, з мэтай дасведчыць шляхецкае паходжанне Стася, звярнуўся з просьбай да арцыбіскупа, каб ксянзды дыяцэзіі зрабілі даведкі ў метрычных кнігах касцёлаў. Неўзабаве адзін з ксяндзоў сумежнай губерні, дасылаючы метрычны выпіс, паведаміў пана Яраміра, што ў тым годзе, калі было знойдзена ў касцёле Марыі Магдалены дзіцянё, у яго значыцца — Станіслаў Казіміравіч Галькевіч. Бацькі — шляхціцы, буйныя земляўласнікі, але яны, прадаўшы маёнтак, даўно выехалі з губерні невядома куды“*[19].

Так, выхаваны ў доме ксяндза паннай Малгажатай — гэта ня тое каб мужык, але паніжэньне ў статусе відавочнае. На пачатку аповесьці Стась — студэнт імпэратарскага ўнівэрсытэту, пазьней працуе докта-

[18] Луцкевіч, Антон. Выбраныя творы. Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. Мінск, 2006. С. 76.

[19] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 68.

рам, што зусім не адпаведнік спадчыньніку буйных землеўладальнікаў, а бліжэй да канца твору й наагул мабілізаваны ў „атрад Чэка“, сярод чорнай косткі, ачоленай Янкелем.

У Віцьбічавай аповесьці з творам Гарэцкага, таксама некалі зьвінавачаным Зьмітраком Бядулем у місьцыцызьме[20], ёсьць і іншая сымэтрыя герояў: Ірына Сакавічанка — Блюма Мойжас, Сухавей — Янкель.

Для Сухавея Абдзіраловіч — змаскалены пан, рэнэгат; Янкель жа, зьвяртаючыся да сваёй сястры, кажа:

*„Чула, Геня, як ювэліры адрозніваюць штучныя дарагія камені ад натуральных? Яны абліваюць іх азотнай кіслатой, і дыяменты, смарагды, рубіны застаюцца цэлымі, а мізэрныя бліскаўкі рассыпаюцца на дробны пыл. Стась не вытрымаў гэтай суровай спробы, а грошы Гедыміна, Ягайлы і Альгерда сёньня не катыруюцца. Ён спазніўся на век“*[21].

Невялікае адрозьненьне і ў рамантычных адносінах: у Абдзіраловіча *„каханьне да яе зьнікла, прытулілася ў куточку. А можа зусім яго ня было. І зусім яго няма“*[22]. У „Лшона...“ — наадварот: Блюма пачала адчуваць, *„што вялізарная сіла, расплыўчата вядомая з маленства і зразумелая і асэнсованая пасля знаёмства з таямніцай капліцы (дзе захоўвалася падпольная рэвалюцыйная літаратура —* ***Л. Ю.****), захоплівае яе паступова ўсё больш і больш, спакідаючы ўсё менш і менш месца для кахання“*[23].

У аповесьці Юркі Віцьбіча няма, дый не магло быць, тых нацыянальных пытаньняў, якія ўздымаюцца ў „Дзьвюх душах“: скуль ім узяцца ў мястэчку? Тут моцныя пытаньні сацыяльныя — у Грайронку адбываецца рэвалюцыя, што падзяліла людзей на белае й чорнае, не пакінуўшы месца адценьням. І дарма было б думаць, што такое спрашчэньне — даніна часу, 1930-м гадам, савецкаму Менску.

Бо нават у вольнай Празе чэскай, цытуючы паэму Ўладзімера Жылкі „Ўяўленьне“, радкі:

*З будняў блядых*
*Чорная косьць*
*Разьдзьмухала рух*

---

[20] Беларусь. 28, 30 траўня 1920.

[21] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 124.

[22] Гарэцкі, Максім. Том трэйці. Апавяданьні і аповесьць „Дзьве душы“... С. 82.

[23] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 88.

*Стараны*
*Вёсак і сёлаў, —*

Тамаш Грыб пісаў: *„Мо хто спыніцца над гэтым і спытае: няўжо ёсьць так, няўжо адна толькі „чорная косьць“ сама без дапамогі „белай“ „разьдзьмухала рух стараны“? Адказ на гэта запытаньне дужа ясны й просты: так, толькі ў „чорнай косьці“ захаваўся той дух, які „разьдзьмухаў рух стараны“ — „белая“-ж косьць была поплеч з ворагамі“*[24].

Тры *жгуты* аповесьці нарэшце сыходзяцца ў адное: зямлянка, дзе хаваецца бацька Нілёнак, акружаная атрадам местачкоўцаў, сярод якіх знаходзіцца й Стась:

*„Не заўважыўшы нават, што ён паранены, Стась рынуўся разам з усім атрадам наўсторч да зямлянкі. Нілёнак яшчэ цёплы ляжаў на ўбітай падлозе зямлянкі, засыпанай гільзамі, з заціснутым у руцэ рэвальверам. Побач з „бацькам“ ляжаў, неяк дзіўна падагнуўшы пад сябе нагу, Скрабка, і, даўно ўжо халодны, ён усё яшчэ трымаўся акрываўленымі рукамі за жывот. Над ім схіліўся, нібы дзівячыся чамусьці, Фаворскі. Моцна абдымаў здранцвелымі рукамі кулямёт Бурдыка, пазіраючы незвычайнымі для яго нерухомымі вачыма. Каля яго ляжаў хтосьці ў вельмі добрым паліто з мяккімі рысамі твару. Стась пачаў абшукваць незнаёмага і, выцягнуўшы з кішэні некалькі папер, пачаў разглядаць. Ён нават пахіснуўся ўбок, адчуваючы, як кроў прыліла да твару і вачэй. Выразлівыя літары дакуманту паведамлялі, што гаспадар яго быў:*

*КАЗИМИР ЭДУАРДОВИЧ ГАЛЬКЕВИЧ*

*Стась пачаў ужо невядома ад чаго хістацца — ці ад раны, якую нарэшце заўважыў, ці ад вялікага хвалявання, — калі, разглядаючы іншыя паперы, выцягнуў раптам залітую крывёю фотакартку. Вачыма, поўнымі ціхага смутку, глядзела з яе жанчына, вельмі падобная рысамі твару да Стася, і надпіс на фатаграфіі казаў:*

[24] Грыб, Тамаш. „Уяўленьне“, поэма У. Жылкі // Перавясла. №1. Лістапад 1923. С. 55.

*ЯНИНА СИГИЗМУНДОВНА ГАЛЬКЕВИЧ*



*Sit terra tibi leuis*[25] *15.VI.1905 г.*

*— Вось калі я знайшоў бацьку, — шаптаў Стась. — Магчыма, гэта я забіў бацьку і яго крывёю абмыў матчына аблічча.*

*Боль быў такі моцны, што яго не заглушала рана, пакуль, самлеўшы, не ўпаў“*[26].

Адсюль ужо недалёка да канца. Забітая Блюма пахаваная пад гранітнай плітаю зь пяцікутнай зоркай і надпісам *„Сакратар павятовага рэвалюцыйнага камітэту. Цагліна сацыялістычнага будаваньня“*. Стась кінуў пасаду доктара, жыве ў Гайронку, багата чытае (Эвангельле, Шапэнгаўэра, Шпэнглера), не мінае ніводнай імшы, звоніць па душах памерлых і грае на аргане. Местачкоўцы ж пад кіраўніцтвам Янкеля пачынаюць руйнаваць касьцёл Марыі Магдалены, бо цэглы патрэбна болей — на пабудову фабрыкі.

З пачаткам руйнаваньня касьцёлу, калі зьнялі шпілі, жалеза з страхі й пачалі разьбіраць скляпеньне, аднае раніцы Стась забівае сябе. Гул стрэлу зьліваецца зь вялізным гулам на вуліцы: рухнула скляпеньне. На стале застаецца ліст:

*„Ліст самазабойцы да сэрцам чулых.*

*Шляхціц па паходжанні і інтэлігент па становішчы, я радзіўся ўчора, мадзею сёння і не бачу заўтра, не належачы да тых людзей, якія а дзявятай гадзіне раніцы да апошняй клеткі свае істоты ненавідзяць сучаснасць, а ў дзевяць гадзін вечару захапляюцца ёю. Ува мне самім змагаюцца два пачаткі, выклікаючы боль, мацней ад болю ўсіх забітых пад Вердэнам, і адзіная матэматычна абгрунтаваная раўнадзейная, адзіны лагічны вынік гэтых двух пачаткаў — самазабойства. Фізічную гангрэну лячылі распаленым жалезам, псіхічную трэба лячыць браўнінгам. Праз некалькі хвілін я буду трупам, і, пакуль пульсуе сэрца і асацыіруюцца думкі, трэба зірнуць у мінулае. Зірнуць, каб, згодна з мудрай радай Піфагора, не пакінуць пасля сябе пылу.*

[25] ***Sit terra tibi leuis*** (лац.) — Хай пухам будзе табе зямля.

[26] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза... С. 109—110.

*Нікога блізкага ў мяне не было, акрамя адной дзяўчыны, якую закатаваў Нілёнак. Я адпомсціў Нілёнку і забіў яго. Забіў яго не таму, што ён вораг савецкай улады і тых, якія клічуць сябе пралетарамі, а толькі таму, што ён забіў маю каханку, маю і больш нікога. Да забойства Нілёнка я прыйшоў праз забойства свайго бацькі, апырскаўшы ягонаю крывёю картку мае маці, вобраз якой убачыў тады ўпершыню. Але не гэтае штурхае мяне на самазабойства.*

*Пачуццё суму па каханай, калісьці вялізнае і бязмежнае, даўно прытупілася і зрабілася звычайным і будзённым, як пратэзы для інваліда. Боль, які я адчуваў, адшукаўшы сярод забітых бандытаў бацьку, даўно мінуў, а ад фотакарткі маці я нічога не атрымаў, бо ўяўляў яе сабе з маленства зусім інакш. Не гэтае штурхае мяне на самазабойства.*

*Вобраз Вастрабрамскай Богамаці, пад якім мяне знайшлі і ў выглядзе якой я ўяўляў сабе маці, валяецца на бруку. Арганы, якія калісьці раджалі ў касцёле мелодыі Баха і Бетховена, цяпер заскуголяць джыгу і лявоніху. Званы з візарункамі Mater Dolorosa з мелодыкамі, поўнымі радасці па душах жывых, поўнымі смутку па душах змарлых, разбіты ўшчэнт. Засценкі панцырнай шляхты, якія з’яўляліся культурнымі аазісамі ў пустэльні хворых на каўтун і каросту, знішчаны.*

*„Как потускло золото наилучшее. Камни святилища раскиданы по всем перекресткам“, — так плакаў калісьці натхнёны Ерамія над крушнямі Ерусаліму, так плачу сёння я над крушнямі ўчарашняга. Была прыгожая раніца, быў сонечны поўдзень і хмуры Götzen-Dämmerung*[27].

*„Твой попел грукоча мне ў сэрца, Клас“.*

*Але ж я не агністы юнак Уленшпігель, а патрыцый часоў заняпаду, і над зняважанай Фландрыяй маёй навісла несмяротная ноч. Загублены компас, і хмары зацягваюць віткі зор. Жахліва і холадна.*

*Прыйшлі новыя людзі, і над імі ўзыходзіць новае сонца. Яны па-свойму развязалі ўсе праклятыя пытанні і па-свойму ўзважылі ўсе святыя каштоўнасці. Яны імкліваць, поўныя жыцця, да будучыні, вымятаючы непатрэбны ім пыл мінулага. І, здаецца, я ёсць гэты пыл.*

*Калі б у мяне цяпер была граната, я б шврганаў яе ў тых, што разбіраюць касцёл Марыі Магдалены, але ж я інтэлігент з вялікай га-*

[27] ***Götzen-Dämmerung*** (ням.) — Змрок багоў, сьмерць багоў — загаловак кніжкі Фрыдрыха Ніцшэ.

*лавой, трухлявым асяродкам і нікчэмнымі мускуламі. Боль, які вялікі боль! Праз момант я пачну ўжо халадзець, і як добра аднойчы забіць сябе, як усё жыццё пакутаваць ад бяссільнай сваёй нянавісці.*

*Станіслаў Галькевіч*“[28].

Ці забіў бы, ці заб’е сябе па-за старонкамі „Дзьвюх душ“ Васіль у Максіма Гарэцкага — невядома. Віцьбіч даў свой адказ. Ён ня раз паўтараў, што тых герояў, якіх моцна любіў — Ірму Лайцінг, Станіслава Галькевіча, — забіваў, бо ня бачыў для іх будучыні ў тым сьвеце.

[28] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Даваенная проза… С. 120—121.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# РЭЦЭПЦЫЯ ТВОРЧАСЬЦІ ЎЛАДЗІМЕРА КАРАТКЕВІЧА: СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ *VS* АРНОЛЬД МАКМІЛІН

Чытацкія сымпатыі й прыхільнасьці эмігрантаў прасачыць няпроста, але магчыма: імёны, назвы твораў, кароткія водгукі-ацэнкі сустракаюцца ў ліставаньні. Асабліва на гэта быў шчодрым Юрка Віцьбіч. Прыкладам, у лісьце да Янкі Запрудніка ад 1 лістапада 1966 г. ён піша: *„[...] Вялікае ўражаньне спакідае „Балада каменя“ Ўладзімера Караткевіча ў зборніку „Дзень паэзіі“. Цудоўная рэч, пад якой хочацца расьпісацца аберуч. Добра было-б пазнаёміць зь ёю шырокія колы эміграцыі, перадрукаваўшы яе на старонках „Беларуса“ або якоганебудзь іншага нашага выданьня, накшталт „Беларускае Моладзі“. Перадрукавала-ж „НРСлово“ Васіля Быкава „Мёртвым не баліць“. І, між іншага, характэрна, што няма подпісу Ўладзімера Караткевіча пад „Не вам беларусамі звацца!“*[1]

На старонках газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ зьяўляліся як рэцэнзіі на паасобныя кнігі, так і панарамныя агляды сучаснай падсавецкай літаратуры (тут найперш шчыраваў Станіслаў Станкевіч, прыдумаўшы нават адмысловую рубрыку — „Даляглядыˮ). Творы пісьменьнікаў — пераважна паэтычныя — рэгулярна, не радзей за творы эміграцыйных калегаў, друкаваліся на старонках гэтых выданьняў.

Ня будзе, бадай, вялікага адкрыцьця, калі сказаць, што ўвагу й станоўчую ацэнку здабывалі тыя аўтары, якія й сёньня чытаюцца й перачытваюцца. Значна цікавей паглядзець, чым менавіта вабіла эміграцы-

[1] Цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя ідэй і людзей на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 105.

цыйных крытыкаў творчасьць таго ці іншага аўтара, чым прыцягальным і цікавым быў твор.

Тэма гэтая — рэцэпцыя творчасьці — параўнаўча новая для нас, таму для пачатку абмяжуемся адным імем, Уладзімера Караткевіча, 30-я ўгодкі ад сьмерці якога прыпадаюць налета.

Шырэйшаму колу чытачоў-падпісчыкаў „Беларуса“ Караткевіч быў найперш знаёмы як паэт[2], што цалкам зразумела; зрэшты, публікавалася й публіцыстыка, і ўрыўкі прозы[3]. Тыя, хто адмыслова зьбіраў уласную бібліятэку — Вітаўт Тумаш, Юрка Віцьбіч, Антон Адамовіч, Вітаўт і Зора Кіпелі ды іншыя, — або грамадзкую (як Скарынаўская бібліятэка ў Лёндане), на сваіх паліцах, натуральна, мелі кніжныя выданьні, якія траплялі туды пераважна двума шляхамі: або праз прыватную кнігагандлёвую фірму лёнданца Аляксандра Лашука, або празь ньюёрскія кнігарні Віктара Камкіна ці *„Four Continents“* (і тая, і другая спэцыялізаваліся на кнігах з СССР).

Прыхільнікам творчасьці Ўладзімера Караткевіча быў і рэдактар „Беларуса“, купалазнаўца, напэўна, найлепшы знаўца сярод эмігрантаў беларускай падсавецкай літаратуры Станіслаў Станкевіч. Менавіта ў ягонай кнізе й быў зроблены першы (у тым ліку й для Беларусі) аналіз выдрукаваных на той час твораў[4].

Агляд твораў пісьменьніка ў кнізе ішоў сьледам за разьдзелам пра творчасьць Івана Мележа й пачынаўся наступным цьверджаньнем: *„Сілаю таленту, творчага размаху й вынятковым месцам у беларускай сучаснай літаратуры ня толькі не саступае, але бадай перавы-*

---

[2] Караткевіч, Уладзімер. Беларуская песьня // Беларус. №192. Красавік 1973. С. 5; Ён жа. „На Беларусі Бог жыве“ // Беларус. №331. Кастрычнік—лістапад 1986. С. 2; Ён жа. Нізка вершаў: 1. Маленьне за бога рэк; 2. „Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...“; 3. У векавечнай бацькаўшчыне // Беларус. №135—136. Ліпень—жнівень 1968. С. 6; Ён жа. Старайся... // Беларус. №338. Жнівень 1987. С. 3.

[3] Караткевіч, Уладзімер. Гэта было 10-га сакавіка 1864 году... (Да 100-годзьдзя з дня сьмерці Кастуся Каліноўскага) // Бацькаўшчына. №5—6 (619—620). Травень 1964. С. 5. Перадрук з: Беларусь. 1964. №3. С. 25; Ён жа. Званы ў прадоньнях азёр // Беларус. №156. Красавік 1970. С. 4—5; Ён жа. З шалёнай вышыні. Песьня аб далечах // Беларус. №167. Сакавік 1971. С. 4—5; Ён жа. Каласы пад сярпом тваім. З разьдзелу 22 // Беларус. №135—136. Ліпень—жнівень 1968. С. 6.

[4] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў. Нью Ёрк—Мюнхэн, 1967. — 169 с.

*шае Івана Мележа прыблізна на дзесяць год малодшы за яго й нагэтулькі-ж малодшы ў літаратурнай дзейнасьці Ўладзімер Караткевіч“*[5]. І крыху далей канкрэтызуе гэтае месца: *„Ён адзіны ў сяньняшней беларускай літаратуры пісьменьнік, што, з малымі выняткамі, працуе ў жанры гістарычнае прозы, апрацоўваючы ў сваіх апавяданьнях, аповесьцях і раманах тэмы зь гісторыі Беларусі XIX стагодзьдзя і ранейшых стагодзьдзяў, перш-наперш часоў рэвалюцыйнай дзейнасьці й паўстаньня Кастуся Каліноўскага“*[6].

Станкевіч дэманструе неблагое веданьне сытуацыі, што склалася вакол Уладзімера Караткевіча: цытуе й станоўчыя, і адмоўныя водгукі; згадвае, што раман „Нельга забыць“ і аповесьць „Дзікае паляваньне караля Стаха“, нягледзячы на абвесткі, кнігамі так і ня былі выдадзеныя, як і „Каласы пад сярпом тваім“, дый наогул, *„з прычыны сваіх гістарычных зацікаўленьняў і нацыянальнага аспэкту ў васэнсаваньні мінуўшчыны Беларусі... наогул ня мае ласкі ў афіцыйных колах“*[7]. І гэта — гістарычная тэма ў еднасьці з нацыянальным поглядам — для аўтара агляду зьяўляюцца асноўнымі станоўчымі рысамі твораў Караткевіча.

Гаворачы пра першы такі твор, „Раман Ракута“, Станкевіч піша: *„У ваповесьці гэтай ужо з асаблівай выразнасьцяй зарысавалась шырэй распрацоўваная ў пазьнейшых гістарычных творах Караткевіча канцэпцыя, калі пачуцьцё ўзвышанага рыцарскага каханьня праваднра паўстаньня двараніна Рамана Ракуты да прыгожай мужычкі Ірыны неразлучна зьвязанае зь ідэяй волі“*[8]. Адзначае й такую важную, але, відаць, надта рэдкую для беларускай літаратуры таго часу рысу Рамана, як шляхотнасьць — рыса, якая будзе належаць усім галоўным героям прозы Караткевіча.

Раман „Нельга забыць“ адметны ўжо тым, што *„гэта бадайшто першы ў беларускай падсавецкай літаратуры твор паваеннага часу, што атрымаў вельмі супярэчлівыя водгукі“*[9]. Станкевіч падрабязна

---

[5] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 91.

[6] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 91—92.

[7] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 92—93.

[8] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 93.

[9] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 95.

пераказвае зьмест твору з асаблівым акцэнтам на пралёгу, на кульце Каліноўскага й пачуцьці беларускага патрыятызму, што жывуць у сям'і Грынкевічаў, цытуе гутарку Андрэя з маці пра Чэхію й дадае ад сябе: *„Ня можа быць сумлеву ў тым, што гэты гістарычны выпадак із схвальшаванымі рукапісамі Ганкі ў часе нацыянальнага адраджэньня Чэхіі прыведзены аўтарам дзеля паказаньня аналёгіі зь Беларусяй. Наогул-жа гэтая дэталь мае асабліва глыбокую нацыянальную вымову ў Караткевічавым рамане“*[10].

Разам з тым, прыводзячы словы Дзьмітрыя Бугаёва пра непрыязнасьць Грынкевіча да няпраўды й фальшу, пра антываенны патас як адну з галоўных ідэяў раману, сугучную сучаснай савецкай кампаніі за мір, Станкевіч піша: *„Прызнаючы правільнасьць аргумэнтацыі Бугаёва, трэба яшчэ дадаць сюды й гарачы патрыятызм Андрэя і ягонай маці, які можа быць разгляданы ня йнакш, як адзін з грамадзкіх элемэнтаў твору, тым больш, што нацыянальнай вылучнасьці і абмежаванасьці, супраць якіх змагаецца камуністычная праграма, у рамане няма й званьня. [...] Таму прычынай адмоўнае ацэны раману дагматычнай крытыкай, трэба думаць, сталася ўжо сама ягоная гістарычнасьць ды й тое, што спасярод усіх ягоных грамадзянскіх элемэнтаў наймацней заакцэнтаваны элемэнт патрыятычны“*[11].

Гэтая думка — адрознасьць нацыяналізму ад патрыятызму — вельмі важная для Станкевіча. Ён паўтарае яе зноў, калі гаворыць пра нарыс „Казкі янтарнай краіны“: *„З азнаямленьнем з латыскімі народнымі легэндамі ды з назіраньня руплівай дбайнасьці Латышоў, каб свае нацыянальныя традыцыі, помнікі свае мінуўшчыны, сваю родную мову перахаваць як сымбаль нацыянальнае моцы ды перадаць будучым пакаленьням, родзіцца ў душы пісьменьніка глыбокі роздум над нацыянальнай доляй свае собскае бацькаўшчыны. Пад уплывам гэтых уражаньняў пісьменьнік разважае: „Дзіўна, але ніякая гістарычная зьява ня зьнікае, не пакінуўшы сьлядоў і моцнага, часьцей за ўсё жыцьцяздольнага, насеньня. Вы можаце зьнішчыць народ, прышчапіць яму чужыя вераваньні й чужую мову, і ўсё-ж насеньне, накананава і ўпарта, дасьць свой парастак, ды яшчэ часам і на вашым трупе“. А што аўтаравы сэнтэнцыі далёкія ад тэй-жа нацыяналь-*

[10] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 94.

[11] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 95—96.

*най абмежаванасьці й вылучнасьці, найлепш сьветчаць наступныя ягоныя словы: „Людзі варты шчасьця, дзе-б яны ні жылі: на Ацэ, у Прыдняпроўі, ці на берагох сініх латыскіх азёраў“*“[12].

„Дзікае паляваньне караля Стаха“ Станкевіч вызначыў як легендарна-гістарычную аповесьць, пра дэтэктыў ці прыгодніцкі жанр ня згадваецца наогул. Магчыма, таму, што ў вобразах Беларэцкага й Сьвеціловіча крытык бачыў значна большае, чым мог дазволіць сабе тое несур'ёзны жанр: *„Постаць Беларэцкага ўспрыймаецца як літаратурны прататып беларускіх фальклярыстаў і этнографаў канца мінулага стагодзьдзя, што сваім культам народнае творчасьці будзілі цікавасьць і пашану да простага беларускага народу. А постаць Сьвяціловіча асацыюецца зь першымі сьведамымі пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэньня на чале з Праньцішкам Багушэвічам“*[13].

Іншы цікавы момант — гэта ў пэўнай ступені нечаканая згода крытыка з пісьменьнікам у ацэнцы шляхты. Сёньня на тых абзацах запавольваецца вока чытача, хочацца запярэчыць аўтару, і шукаюцца тлумачэньні — у часе, абставінах — якія б маглі апраўдаць Караткевіча. Станкевіч жа піша наступнае: *„Перш-наперш аўтар пуката й рэалістычна паказаў у ёй [аповесьці] багатую галерэю найбольш тыповых прадстаўнікоў тагачаснае, культурна спалянізаванае, а ідэйна скасмапалітызаванае шляхты, бадайшто адзінае ў гэным часе сацыяльнае сфэры, зь якой выходзіла мясцовая інтэлігэнцыя. Гэтая шляхта апынулася ўжо на дне маральнага раскладу і ідэйнага звырадненьня“*[14].

Асноўную ж ідэю гэтага ўнікальнага, паводле вызначэньня Станіслава Станкевіча, твору ў нашай літаратуры крытык бачыў падобна як і ў рамане „Нельга забыць“ — у патрыятызьме, і тым тлумачыў адсутнасьць якіх-колечы водгукаў на яе на час напісаньня ўласнай працы — праз паўтара году пасьля друку ў часопісе „Маладосьць“.

Найбольш увагі, зразумелым чынам, было аддадзена раману „Каласы пад сярпом тваім“, названым Станкевічам *„падзеяй вялікай важ-*

[12] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 96.

[13] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 97.

[14] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 97.

*насьці ня толькі ў творчасьці Ўладзімера Караткевіча, але й ува ўсёй сучаснай беларускай літаратуры*“[15].

Характарызуючы раман як першую спробу ў беларускай літаратуры стварыць нацыянальную эпапэю, адлюстраваць змаганьне за нацыянальнае вызваленьне, адзначаючы ўвагу аўтара да дакумэнтаў, веданьне рэдкіх крыніцаў і найноўшай гістарычнай літаратуры, Станкевіч піша: *„У ранейшай гістарычнай, а сьледам за ёй і ў мастацкай літаратуры, і асабліва за часамі ўсяўладнага сталінізму паказваліся адно сацыяльныя прычыны, што прывялі да паўстаньня Кастуся Каліноўскага. За гэтыя прычыны падаваліся сацыяльная крыўда сялянства і ягонае расчараваньне царскай рэформай пра скасаваньне прыгону. У рамане Караткевіча, апрача гэтых сацыяльных прычынаў, упяршыню ў нашай літаратуры паказаныя й ня менш важныя іншыя прычыны: агульнапалітычныя й нацыянальныя*“[16]. І далей: *„Асабліва шырака адлюстраваў Караткевіч нацыянальны падклад і дынамічную сілу нацыянальнага мамэнту ў насьпяваньні паўстаньня Кастуся Каліноўскага. З прычыны свае няпісьменнасьці й матар'яльнае галіты сялянскія масы ў сэньсе нацыянальным былі нясьведамыя й пасыўныя. Працэс нацыянальнага ўсьведамленьня мог зарадзіцца ўзноў-жа адно сярод прагрэсыўнае і ідэйнае дваранскае інтэлігэнцыі*“[17].

Пра мастацкія якасьці як гэтага раману, так і наогул твораў пісьменьніка Станіслаў Станкевіч амаль ня піша, толькі адзначае *„сакавітую, эмацыянальную, наскрозь мэтафарычную й вобразную“* мову „Каласоў...“[18].

Самае істотнае для яго — ідэя.

Вядомыя яшчэ тры артыкулы Станіслава Станкевіча, прысьвечаныя Ўладзімеру Караткевічу й надрукаваныя ў газэце „Беларус“.

Першы прысьвячаўся „другому нараджэньню“ аповесьці „Дзікае паляваньне караля Стаха“[19]. Тут аўтар зноў не пагаджаецца з вызна-

[15] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 98.

[16] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 98.

[17] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 99.

[18] Станкевіч, Станіслаў. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў... С. 100.

[19] Сяліба, Андрэй. Другое нараджэньне Караткевічавай аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха“ // Беларус. №222. Кастрычнік 1975. С. 4.

чэньнем жанру, дадзеным у кніжным выданьні: *„У анатацыі ад выдавецтва „Мастацкая Літаратура“, якое выдала летась выбраныя Караткевічавы апавяданьні, аповесьць „Дзікае паляваньне Караля Стаха“ названая гістарычным дэтэктывам. У запраўднасьці-ж гэны гістарычны дэтэктыў гэта легэндарна-гістарычны стрыжэнь усяе аповесьці, кампазыцыйна зьвязаны з усёй ейнай дзеяй і асэнсоўвае аўтараў пагляд на гістарычную мінуўшчыну Беларусі як арганічную нацыянальную ідэю ня толькі ўва ўсёй мінуўшчыне, але і ў праэкцыі на будучыню“*[20].

Але пра твор, як і пра сам зборнік (Вока тайфуна: апавяданні і аповесці. Мінск, 1974) гаворыцца небагата (*„[Творы] даволі цікавыя з боку мастацкага й з гледзішча ў іх на асэнсаваньне адлюстроўванае ў іх рэчаіснасьці ды належаць да лепшых дасягненьняў сучаснае беларускае літаратуры“*[21]); асноўны зьмест і патас артыкулу аддаецца раману „Каласы пад сярпом тваім“, нявыдадзенаму ягонаму працягу й, што самае важнае для Станкевіча, — повязі Кастуся Каліноўскага з спадкаемцамі-наступнікамі: *„Інакш кажучы, нацыянальныя ідэі, за якія змагаўся й загінуў на шыбеніцы Кастусь Каліноўскі, якія працягвалі ў сваёй дзейнасьці беларускія адраджэнцы, маюць перад сабой далячынь і сонца, гэта значыць — будучыню!“*[22].

Два астатнія артыкулы маюць падобныя назвы: „Уладзімер Караткевіч і ягоны культ Кастуся Каліноўскага“[23] ды „Ўладзімер Караткевіч у вабароне нацыянальнай годнасьці Кастуся Каліноўскага“[24]. Фактычна, карыстаючы з нагоды кожнага новага выданьня пісьменьніка — „Зь вякоў мінулых“, „Зямля пад белымі крыламі“, расейскага перакладу „Каласоў...“ ці п’есы „Кастусь Каліноўскі“, — Станіслаў Станкевіч паўтарае ўжо выказаныя ва ўласнай кнізе ідэі, часам толькі канкрэтызуючы асобныя тэзы. Так, гаворачы пра „Нельга забыць“, ён зазначае: *„Інакш кажучы, Караткевічавы творы на сучасныя тэмы становяцца для*

[20] Сяліба, Андрэй. Другое нараджэньне Караткевічавай аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха“...

[21] Сяліба, Андрэй. Другое нараджэньне Караткевічавай аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха“...

[22] Сяліба, Андрэй. Другое нараджэньне Караткевічавай аповесьці „Дзікае паляваньне Караля Стаха“...

[23] Станкевіч, Ст. Уладзімер Караткевіч і ягоны культ Кастуся Каліноўскага // Беларус. №268. Жнівень 1979. С. 6.

[24] Станкевіч, Ст. Уладзімер Караткевіч у вабароне нацыянальнай годнасьці Кастуся Каліноўскага // Беларус. №280—281. Жнівень—верасень 1980. С. 4.

*партыйнай палітыкі больш непрыймальнымі, чымся творы на гістарычныя нацыянальныя тэмы, заміж, як трэба было-б спадзявацца, наадварот*“[25]. І тлумачыць, спасылаючыся на словы Мальдзіса, што раман абуджае багатыя думкі й пачуцьці: *„[...] Згадваючы пра культуру пачуцьцяў, Адам Мальдзіс меў на думцы ня толькі й ня гэтулькі пачуцьці каханьня між маладымі пэрсанажамі раману, колькі нацыянальныя й патрыятычныя пачуцьці, глыбокую любасьць да Беларусі, любасьць, якой у рамане падпарадкаванае ўсё іншае. Вось гэта аказалася для партыйнай палітыкі больш няпрыймальным, чымся навет нацыянальны аспэкт далёкай мінуўшчыны Беларусі*“[26].

Арнольд Макмілін пісаў сваю працу (1999[27], беларускі пераклад — 2001[28]), ня толькі прачытаўшы Станіслава Станкевіча (кніга ёсьць у сьпісе літаратуры), але й па выхадзе некалькіх манаграфій, прысьвечаных асобе й творчасьці Ўладзімера Караткевіча[29]. Брытанскі літаратуразнаўца, у адрозьненьне ад эміграцыйнага крытыка, меў і паўнейшае ўяўленьне пра спадчыну пісьменьніка.

Нягледзячы на тое, што аўтарская назва быццам абмяжоўвае аналізаваныя творы часавым прамежкам 1950—1960-х гг., творчасьць Караткевіча, як і некаторых іншых „цэнтральных“ постацяў літаратуры, ахопленая ў кнізе цалкам.

У сваіх аглядах Станіслаў Станкевіч багата цытаваў і пераказваў зьмест твораў, чаго вымагалі тагачасныя ўмовы: далёка ня ўсе на эміграцыі былі азнаёмленыя з тэкстамі Караткевіча. Нямала аддае месца

25 Станкевіч, Ст. Уладзімер Караткевіч і ягоны культ Кастуся Каліноўскага...

26 Станкевіч, Ст. Уладзімер Караткевіч і ягоны культ Кастуся Каліноўскага...

27 McMillin, Arnold. Belarusian Literature in the 1950s and 1960s: Release and Renewal. Köln—Weimar—Wien, 1999. — 315 p.

28 Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя. Мінск, 2001. — 331 с. Далей у тэксьце спасылкі на гэтае выданьне.

29 Верабей, А. Жывая повязь часоў: нарыс творчасці Уладзіміра Караткевіча. Мінск, „Навука і тэхніка“, 1985; Мальдзіс, Адам. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: партрэт пісьменніка і чалавека. Мінск, „Мастацкая літаратура“, 1990; Русецкі, Аркадзь. Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць: нататкі літаратурнай творчасці. Мінск, „Мастацкая літаратура“, 1991; Шынкарэнка, Вольга. Пад ветразем дабра і прыгажосці: жанрава-стылістычныя асаблівасці прозы Уладзіміра Караткевіча. Мінск, „Навука і тэхніка“, 1995; Верабей, А. Абуджаная памяць: нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Мінск, „Мастацкая літаратура“, 1997.

пераказу й Арнольд Макмілін, ахвяруючы аналізам: ягоная праца была разьлічаная на англамоўнага чытача.

Разьдзел называецца „Ўладзімер Караткевіч — рамантычнае перастварэньне гісторыі“, і гэтым ужо анансуецца разуменьне аўтарам творчасьці пісьменьніка.

Агляд празаічных твораў Макмілін пачынае з раману „Нельга забыць“ і выказваецца пра яго значна прахалодней за Станкевіча, прызнаючы толькі адно: *„Ён усё ж зрабіў значны ўнёсак у беларускую раманістыку, у першую чаргу сваім падрабязным апісаннем прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі“*[30]. Гэтай акалічнасьцю спрабуе ён і вытлумачыць адметнасьці сюжэту, але чамусьці не канкрэтызуе, якія: *„Адукаваны чытач можа западозрыць, што ўсе надзеі і памкненні папярэднікаў сённяшніх маладых людзей здзейсняцца стандартызаваным чынам (? — **Л. Ю.**). Аднак у рамане ёсць шэраг арыгінальных момантаў, дасюль не ўласцівых беларускай літаратуры: Грынкевіч, па сутнасці, ці не першы герой — патомны інтэлігент“*[31]. Грынкевіч, зразумелы ў ацэнцы Станкевіча, у Макміліна як бы недагавораны ці непрагавораны: *„Гэты раман — больш чым проста ўражлівая і трагічная любоўная гісторыя, у першую чаргу, дзякуючы ідэалістычнай ролі Андрэя ў савецкім грамадстве, якая адбіваецца амаль на ўсіх тых, хто сустракаецца на ягоным шляху“*[32]. Якая ж менавіта гэтая роля, так і не ўдакладняецца.

Прачытаньне „Дзікага паляваньня...“, якое Арнольд Макмілін называе то аповесьцю, то раманам, складана назваць арыгінальным; яно слушнае, хоць мо й не ўсёахопнае: *„Раман, квазігатычны па жанры (апавядальнік нават узгадвае мадам Радкліф, адмаўляючы яе ўплыў), мае не толькі моцны дэтэктыўны і прыгодніцкі пачатак, але прыпраўлены і моцнай доляй сацыяльных каментароў (некаторыя з іх, магчыма, з улікам савецкай цэнзуры), якія даваў свабодамысны апавядальнік“*[33]; *„Аповесць „Дзікае паляванне караля Стаха“ працуе на ўсіх узроўнях: як гатычны аповед, поўны жахаў, як дэтэктыў, як*

[30] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 265.

[31] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 267.

[32] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 267.

[33] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 268.

*любоўная гісторыя, як апісанне старой культуры і сумнага яе заняпаду, часткова ад нанесеных самой сабе ранаў, і апрача ўсяго, як сцвярджэнне жыццяздольнасці Беларусі, хоць і богам забытай („О, якая жахлівая, якая вечная і нязмерная твая туга, Беларусь!“), — але, тым не менш, цудоўнай краіны“*[34].

Толькі ў гаворцы пра „Каласы пад сярпом тваім“ Арнольд Макмілін закранае мастацкі бок: *„[Твор] — найбольш багаты і дасканалы ў стылёвых адносінах празаічны твор. Апрача шматлікіх метафар аўтар выкарыстоўвае багатую палітру фарбаў, атрымліваючы асалоду ад візуальных і гукавых эфектаў: мова ягоная ўяўляе сабой неверагоднае змяшэнне дыялектных магілёўскіх, прастамоўных, літаратурных і кніжных беларускіх элементаў, часам нават узнікае пачуццё празмернасці, выкліканае мноствам лірычных адступленняў і ўлюбёных вобразаў. У рамане безліч чароўных пейзажных замалёвак, што дэманструюць магутнае візуальнае майстэрства Караткевіча“*[35].

Але гаворачы пра зьмест раману й згаджаючыся з думкаю Генадзя Кісялёва, што гэта ня проста сацыяльна-гістарычны раман, а раман філязофскі, літаратуразнаўца адно канстатуе багацьце тэмаў, не раскрываючы, тым ня менш, уласнае іх бачаньне й разуменьне ды абмяжоўваючыся наступным: *„У той час, як яго (раману — **Л. Ю.**) цэнтральнай тэмай з'яўляецца рост нацыянальнай свядомасці Беларусі напярэдадні паўстання пад кіраўніцтвам Каліноўскага, абсалютна справядліва заўважана, што ў ім значна болей тэмаў, чым толькі гісторыя і палітыка“*[36].

Станіслаў Станкевіч нічога не напісаў ні пра „Хрыстос прызямліўся ў Гародні“, ні, зразумела, пра „Чорны замак Альшанскі“. Але на два моманты ў Макміліна хацелася б зьвярнуць увагу.

Так, называючы першы раман адным з самых багатых філязофскіх і гістарычных твораў беларускай літаратуры[37], што праўда, зноў без аніякай канкрэтызацыі, крытык працягвае: *„Мова, якой апісваюцца*

---

[34] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 272.

[35] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 275.

[36] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 276.

[37] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 281.

*ягоныя (Братчыка —* ***Л. Ю.****) прыгоды, вельмі розная, ад архаічнага стылю хронік і жывой, часам дыялектнай гаворкі простага народу да ўзнёслай мовы трагедыі, сентыментальнасці і высокіх пачуццяў. Але яна ў значнай ступені і асучасненая, дзякуючы рэху савецкіх лозунгаў. Застаецца не зусім ясным, ці ўключаў Караткевіч гэтыя відавочныя анахранізмы свядома, ці яны з'явіліся проста ў сувязі з універсальным характарам таго, што ён апісваў"*[38]. Сапраўды, сёньня застаецца толькі выказваць розныя вэрсіі адносна анахранізмаў у прозе Караткевіча, улучна з пасьпешнасьцю або няўважлівасьцю, але ня варта забывацца на тую ролю, якую яны адыгрываюць у гістарычных раманах Фэйхтвангера.

І толькі ў разглядзе апошняга раману літаратуразнаўца зь Лёндану бачыць тое, што для эміграцыйнага крытыка было самым істотным ад першых радкоў пісьменьніка: *„Па сваім жанры гэты твор блізкі да „Дзікага палявання караля Стаха", аднак элемент гістарычнага дэтэктыўнага апавядання ў ім яшчэ больш моцны (сам аўтар называў яго філасофскім дэтэктывам), хоць гэта адначасна і глыбокі філасофскі раман, які спалучае надзвычайную эрудыцыю аўтара з пастаянным клопатам пра захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны Беларусі"*[39]; *„Раскрыццё сапраўднай сутнасці Беларусі заўсёды з'яўляецца найважнейшай мэтай не толькі Косміча, аднак і самога Караткевіча"*[40].

Макмілін таксама бачыць падабенства ўсіх галоўных герояў Караткевіча, але называе гэта *„служэннем людзям і процідзеяннем злу"*[41].

Натуральна, кожны, а тым больш прафэсійны крытык мае права на ўласнае разуменьне твору, калі яно аргумэнтаванае, не галаслоўнае. І аўтар гэтых радкоў, які таксама мае свой угляд, менш за ўсё хацеў бы браць на сябе ролю трацейскага судзьдзі ў завочным, ім самім жа й зарганізаваным, дыялёгу эміграцыйнага крытыка з брытанскім літаратуразнаўцам. Тым больш што прыведзеныя цытаты даволі гаваркія, і

[38] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 281.

[39] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 282.

[40] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 283.

[41] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50-60-я гады XX стагоддзя... С. 284.

чытач у стане зрабіць высновы самастойна. Аднак дзеля нейкай завершанасьці тэксту трэба сказаць прынамсі наступнае.

Станіслаў Станкевіч і Арнольд Макмілін разважаюць у розных сыстэмах каардынатаў. Для першага творчасьць Уладзімера Караткевіча — у адным шэрагу з Скарынам, Багушэвічам, Каліноўскім (імёны, якія згадваюцца ў артыкулах), для другога — з Рабле, Тылем Уленшпігелем і Радкліф. Для Макміліна гэта дэтэктыўна-філязофскія творы, для Станкевіча — нацыянальна-патрыятычныя. Літаратуразнаўца з Туманнага Альбіёну піша пра служэньне людзям і процідзеяньне злу, крытык-эмігрант — пра нацыянальную ідэю.

Зрэшты, цалкам магчыма, што яны гавораць пра адно й тое ж, толькі называюць па-рознаму.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# НЭКРАЛЁГ: ВОБРАЗ *СВАЙГО*

Праблема вобразу *іншага, другога, чужога* для дасьледнікаў[1] чамусьці больш вабная за вобраз *свайго*, хоць, здавалася б, гэта менавіта той прыпечак, ад якога й трэба скакаць: ад спробы зразумець і спазнаць найперш сябе.

Крыніцаю для пошукаў характарыстык *свайго* маглі б стацца ўспаміны, дзёньнікі, эпісталярыі, але ў іх, па-першае, адлюстроўваліся б галоўным чынам погляды аднаго чалавека — аўтара, а па-другое, для выяўленьня агульных характарыстык спатрэбілася б апрацоўка дастаткова вялікага аб'ёму, чаго ў дачыненьні да эміграцыі — а пойдзе менавіта пра эміграцыйны вобраз *свайго* — у дасьледнікаў тым часам няма: недастаткова іх напісана/выдрукавана.

Бадай, ідэальным жанрам, найлепшай крыніцай для гэтага зьяўляюцца нэкралёгі — магчыма, найбольш чытаная сэкцыя ў газэтах, дзе ў кароткай форме, часам у дакладна вызначаных тэрмінах пералічваюцца каштоўнасьці, якасьці, якія грамада лічыць важнымі характарыстыкамі для апісаньня чалавечага жыцьця. Таксама істотна, што, нягледзячы на сумную прычыну напісаньня тэксту (сьмерць чалавека), нэкралёгі ёсьць гімнам гэтаму жыцьцю (працам, учынкам, паводзінам), а таму бясспрэчна маюць пазытыўны характар.

Нэкралёг як жанр — рэч няпростая, хітрая. Ведамы літаратурны анэкдот савецкага часу:

---

[1] Назавем хоць бы такія працы з розных галінаў гуманітарыстыкі, як: Марзалюк, Ігар. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII стст.). Магілёў, 2003. — 322 с.; Даніленка, Сяргей. Спецыфіка адлюстравання сацыяльных стэрэатыпаў у творах пісьменнікаў Беларусі XIX—XX стст. Магілёў, 2007. — 256 с.; Чернявская, Юлия. Белорусы. От „тутэйшых“ — к нации. Минск, 2010. — 510 с.; Смалянчук, Алесь. Беларуская гісторыя: знайсці чалавека. Мінск, 2013.— 155 с.

*„В гостиную Дома литераторов входит видный литературный деятель. В руке у него газета „Вечерняя Москва“.*

*— Смотри, — говорит он, обращаясь к Светлову, — хороший был актер Володин, а умер как-то незаметно, в „Вечерке“.*

*— Стоит ли тебе волноваться, — ответил Светлов, — ты-то умрешь по крайней мере в „Известиях“*[2].

Бясспрэчна, нэкралёг вельмі чулы да зьменаў у сыстэме грамадзкіх каштоўнасьцяў, іхнай герархіі. Вызначэньне нэкралёгу ў „Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі“ (1987), напрыклад, наступнае: *„Артыкул або нататка з выпадку сьмерці грамадзкага, навуковага, мастацкага дзеяча, спосаб ушанаваньня яго памяці“*[3]. А ў „Беларускай Энцыкляпэдыі“ (2000) зьмяшчаецца ўжо больш дэмакратычнае вызначэньне, напісанае, дарэчы, тым самым аўтарам, што й папярэдняе: *„Артыкул або нататка з выпадку сьмерці каго-небудзь, спосаб ушанаваньня нябожчыка“*[4].

Ва ўмовах эміграцыі ці, прынамсі, беларускае эміграцыі сытуацыя была адрознаю. Як кажа шматгадовы рэдактар Янка Запруднік, *„нэкралёгі ў „Беларуса“ пісаліся безь ніякіх канонаў. Для мяне асабіста галоўным канонам (маральным абавязкам) было зафіксаваць памяць пра памерлых на чужыне землякоў, кожны зь якіх у той ці іншай меры быў носьбітам Беларусі. Я глядзеў на газэту як на віртуальны могільнік. Нэкралёг быў свайго роду актам ушанаваньня нябожчыка, „адпускной граматай“ на той сьвет, пахавальным рытуалам і адначасна слоўным помнікам. „Карэспандэнты“ газэты пісалі нэкралёгі, як маглі і як умелі, безь ніякіх інструкцыяў, найчасьцей з памяці пра чалавека, зь якім прайшлі пэўную частку жыцьцёвага шляху. Рэдактар часамі адно зьвяртаўся да таго ці іншага з просьбай аб напісаньні“*[5].

Такім чынам, нэкралёг як дакумэнт адбівае адначасна ўяўленьні пра сыстэму культурных каштоўнасьцяў ня толькі аўтара ці аўтараў, але таксама й чытачоў, да якіх зьвернуты тэкст, і такім чынам апошні робіцца своеасаблівым акенцам, праз якое можна пабачыць культуру гэтае грамады. Бо ў падобным калектыўным партрэце ідэальнага (ці, як казаў Уладзімер Караткевіч, тыповага) беларуса, згодна са слушнай

[2] Ты помнишь, товарищ… Воспоминания о Михаиле Светлове. Москва, 1973. С. 59.

[3] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 4. Мінск, 1987. С. 63.

[4] Беларуская Энцыклапедыя: У 18 т. Т. 11. Мінск, 2000. С. 278.

[5] Электронны ліст Янкі Запрудніка ад 2.04.2013.

заўвагай Ігара Кона, *„те черты, которые воспринимаются как специфические особенности национального характера, определяются не природными способностями, а различием ценностных ориентаций, сформировавшихся вследствие определенных исторических условий и культурных влияний, как производные от истории и изменяющиеся вместе с нею“*[6].

У адрозьненьне ад сытуацыі ў БССР, дзе нэкралёгі былі адлюстраваньнем герархічных адносінаў, нэкралёгі ў такіх газэтах, як „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ падкрэсьлівалі значнасьць кожнага асобнага сябра грамады; праз такую публікацыю індывідуальнае жыцьцё, жыцьцё аднаго эмігранта рабілася часткаю калектыўнай думкі, часткаю таго, *што* беларуская эміграцыя як цэлае рахуе істотным у чалавечым жыцьці.

Нэкралёг аб'ядноўвае мінулае й сучаснае, публічнае й прыватнае, зьвязвае публічную памяць ня толькі з індывідуальнай памяцьцю, але й памяцьцю ўсяго пакаленьня. Такім чынам, адбываецца яднаньне гісторыі аднае сям'і з нацыянальнай гісторыяй: вялікай — Беларусі, ці малой — эміграцыйнай. Праз гэта ў нэкралёгах прысутнічае багата агульных месцаў: удзел у тых самых падзеях, прыналежнасьць да адных і тых жа арганізацыяў.

Тут трэба сказаць пра наступную асаблівасьць. Нэкралёг у газэтах „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ ніколі ня быў стандартызаваны: ён адрозьніваўся ня толькі памерам, але й стылем напісаньня: калі адныя былі кароткімі паведамленьнямі пра сьмерць, то іншыя нагадвалі пасьмяротныя ўспаміны (пры тым, што часта каля звычайнага нэкралёгу выдрукоўваўся сапраўдны ўспамін пра нябожчыка). Не было стандартнага назову для гэтага газэтнага жанру; такім магло быць імя памерлага, „Сьвятой памяці“ (ці, што часьцей, скарочанае „Сьв. пам.“) або нават адмысловыя загалоўкі („Балючая страта“).

Для вылучэньня канкрэтных якасьцяў *свайго* былі адвольна выбраныя нэкралёгі як зь першых гадоў выхаду газэтаў, гэтак і з нумароў XXI ст.; не рабілася розьніца на карысьць больш вядомых дзеячаў (ці наадварот). Гэткі ж падыход датычыць і гендэрнага ракурсу.

Далёка ня ўсе нэкралёгі ўтрымліваюць такія складнікі, як, напрыклад, прафэсія памерлага, прычына сьмерці ці паведамленьні пра месца й час пахаваньня або памінальнай службы (што тлумачыцца выхадам газэты раз на месяц; для такой інфармацыі карысталіся адмысловымі пахавальнымі карткамі).

---

[6] Кон, Игорь. Социологическая психология. Воронеж, 1999. С. 312.

Нэкралёг мог быць ананімным, падпісаным ад імя пэўнай палітычнай, грамадзкай ці царкоўнай арганізацыі або імем аўтара.

Біяграфічная частка нэкралёгу мае вялізныя варыяцыі: ад адзінай даты й месца нараджэньня да поўнага нарысу. У першае дзесяцігодзьдзе часта згадвалася дзейнасьць падчас вайны, побыт у лягерах *DP*. Пазьней пра гэта пісалася значна радзей. Асабліва націск рабіўся на злыбедах даваеннага жыцьця, незалежна ад таго, жыў чалавек у Заходняй Беларусі ці Ўсходняй, а таксама на спробах, далёка не заўсёды ўдалых, здабыць асьвету.

Галоўнымі тэмамі эміграцыйных нэкралёгаў ёсьць: грамадзкая праца, патрыятызм (любоў да Бацькаўшчыны) і настальгія.

У „мужчынскіх“ нэкралёгах абавязкова пералічваліся арганізацыі, сябрамі (*„доўгагадовы“, „дзейны“*) якіх былі памерлыя, пасады, якія яны займалі. Характарыстыкі: *„шчыры змагар“, „няўтомны змагар“, „шчыры патрыёт і змагар за беларускую справу“, „змагаўся за Незалежнасьць“, „змагаўся за лепшую будучыню Беларускага Народу“, „адданы беларускі патрыёт“, „гарачы патрыёт свайго народу“, „працавіты грамадзкі актывіст“, „шчыры й сьведамы беларус“, „грамадзкі працаўнік і арганізатар“, „аддаў сілы і энэргію нацыянальнай беларускай справе“, „дзейны“, „браў чынны ўдзел у адраджэньні свае роднае Бацькаўшчыны“, „даволі актыўны“.*

Чалавечыя якасьці, што адзначаліся ў нэкралёгах, былі гэткімі: сьціплы, сумленны, ахвярны, жыцьцярадасны, зраўнаважаны, спакойны, лагодны, працавіты, ветлівы, добры, прыкладны сем'янін, далікатны, ціхі, *„чалавек лагоднай натуры, ветлівага падыходу й пашаны да людзей“, „пабожны“.*

„Жаночых“ нэкралёгаў, прынамсі, у гэтым выпадковым адборы, атрымалася меней. Тут таксама згадваліся арганізацыі, але пераважна царкоўныя: БАПЦ, сястрыцтвы. Адзначалася дапамога мужу (*„няўтомная супрацоўніца сямейнага жыцьця“*). Характарыстыкі: *„вялікая рукадзельніца“, „старалася працаваць для дабра свайго народу“, „удзельніца беларускіх праграмаў“, „ахвярная грамадзкая актывістка й прыкладная патрыётка“, „дзейны, руплівы працаўнік“.*

Чалавечыя якасьці: працавітая, ашчадная, дабрадзейная, гасьцінная, *„любіла чыстае й сумленнае жыцьцё“.*

Бадай заўсёды згадвалася мара памерлага вярнуцца на бацькаўшчыну, таму нэкралёг заканчваўся парафразам Купалавага *„Хай сьняцца сны пра Беларусь“.*

Такім пры першым набліжэньні выглядае вобраз свайго ў эміграцыйных нэкралёгах.

Але ён быў бы няпоўным, калі не адзначыць наступнае: у газэтах „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ друкаваліся нэкралёгі амэрыканскіх прэзыдэнтаў, буйных дзеячаў украінскай эміграцыі або *„прыяцеляў беларускага народу“* (якія тым самым умоўна залічваліся да *сваіх*); аднак у гэтых выданьнях нельга знайсьці згадак пра сьмерць немалой часткі беларусаў-эмігрантаў, якіх праз палітычныя ці царкоўныя разыходжаньні, сваркі, закалоты лічылі *чужымі*.

І гэта таксама неад’емная частка партрэту *свайго*.

### *Аляксандар Акановіч*

(8.2.1902—30.6.1948)[7]

*Наш народ-пакутнік на працягу свае шматвяковае гісторыі нарадзіў ці мала сьціплых, сумленных, з гарачым сэрцам энтузіястых найцяжкой і часам няўдзячнай, чорнай працы, якая не дае ніякіх доўга- ці кароткатрывалых выгодаў ды ілюзорнае славы й гонару.*

*Да гэткіх сьціплых гэрояў працы й змаганьня належаў сьвятой памяці настаўнік Беларускае гімназыі імя Я. Купалы сябра Аляксандар Акановіч.*

*Сьв. п. с. Акановіч нарадзіўся 8.2.1902 у сялянскай сям’і на Меншчыне. Ад самага маленства ён зьвязаны з працай на роднай зямельцы, з народам. Перамагаючы ўсялякія матар’яльныя цяжкасьці, здабывае сярэднюю й сярэднюю[8] пэдагагічную асьвету (у 1925 г.). Тады-ж пачынае й сваю настаўніцкую дзейнасьць у пачаткавай народнай школе.*

*Аднак энэргічны малады настаўнік сьв. п. с. Акановіч разумее, што ён патрапіць даць больш карысьці, калі здабудзе вышэйшую асьвету. Тады ён падаецца ў унівэрсытэт, які й канчае на фізычна-матэматычным факультэце. Пасьля ўнівэрсытэту мы зноў бачым яго ў беларускім школьніцтве.*

*Усё сваё жыцьцё сьв. п. с. Акановіч быў запраўдным настаўнікам-бацькам сваіх гадунцоў, яго не цягнула да выгодных, цёплых і шумных пасадаў — ідэалам ягонага жыцьця была школа — дзеці.*

*Гэтак і ў часе ваеннае завірухі мы бачым яго, напаўгалоднага, але самаахвярна адданага арганізацыйна-пэдагагічнай працы ў якасьці дырэктара Беларускае Гімназіі.*

---

[7] Тэксты нэкралёгаў публікуюцца з захаваньнем асаблівасьцяў мовы арыгіналаў.

[8] Так у тэксьце.

*На эміграцыі сьв. п. с Акановіч да прыходу Амэрыканцаў змушаны быў цяжка, па 12 гадзінаў на дзень, працаваць звычайным фізычным работнікам на аднэй зь нямецкіх хвабрыкаў у Судэтах.*

*Перабраўшыся ў 1948 г. у беларускі лягер ДП, сьв. п. с. Акановіч ізноў стае ў рады пэдагогаў Беларускае Гімназіі імя Я. Купалы, дзе аддаецца працы зь няменшай энэргіяй, як на Бацькаўшчыне.*

*Аднак, нялюдзкае напружаньне нэрваў і гарачага сэрца апошнім дзесяцігодзьдзем падарвала здароўе няўтомнага працаўніка.*

*І вось 30 чэрвеня сёлета, а 9-й гадзіне ўвечары, нечакана гэтае сэрца дарагога нашага сябры Алеся перастала біцца...*

*Адыйшоў ад нас у вечнасьць, не пабачыўшы роднай зямелькі, якую ён так горача кахаў і сумаваў па ёй, яшчэ адзін шчыры змагар ды зьменшыў і так неграмадныя рады безьінтэрасоўных ідэйных сьціплых працаўнікоў на эміграцыі.*

*Ты адыйшоў ад нас, сябра Алесь, але памяць аб Табе застанецца ў нашых сэрцах і ў сэрцах тваіх-жа вучняў і вучаніцаў, аб якіх Ты запраўды па-бацькоўску рупіўся і як бацька журыў іх.*

*Хай-жа лёгкай будзе Табе чужая Баварская зямля!*

*Вечная памяць*[9]*!*

*Сьв. пам.* ***Алесь Алехнік***
*(31.07.1929 — 03.12.2006)*

*Зь вялікім болем і сумам паведамляем, што 3 сьнежня 2006 года памёр сябра й доўгагадовы сакратар Беларускага Аб’яднаньня ў Аўстраліі, шматгадовы (1969—1982 гг.) кіраўнік Краёвага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі Алесь Алехнік. Пахаваньне адбылося 5 сьнежня 2006 году на беларускай частцы сыднэйскіх могілак Руквуд.*

*Алесь Алехнік нарадзіўся 31 ліпеня 1929 году на бацькоўскім хутары ва ўрочышчы Перунова каля вёскі Лахвы Лунінецкага раёну.*

*Дзе-б ён ня жыў: з юнацкіх гадоў у Беларусі, потым у Нямеччыне (1944—1950 гг.) і Аўстраліі (1950—2006) — заўсёды заставаўся беларусам, думаў пра Бацькаўшчыну, працаваў на яе карысьць і змагаўся за яе Незалежнасьць. Усё ягонае жыцьцё прайшло пад бел-чырвона-белым сьцягам.*

*Вечная яму памяць*[10]*!*

---

[9] Бацькаўшчына. №24 (27). 11 ліпеня 1948. С. 2. Подпіс: Мясцовая Група Міхельсдорф Беларускага Настаўніцкага Згуртаваньня на Эміграцыі.

[10] Беларус. №528. Студзень 2007. С. 15. Подпіс: Сябры.

### *Сьв. п.* ***Лідзія Альшэўская-Самайловіч***

*Пасьля цяжкое хваробы ў нядзелю 13 кастрычніка 1963 г. адыйшла ад нас назаўсёды сьв. памяці настаўніца Лідзія Альшэўская-Самайловіч. Нябошчыца нарадзілася ў мястэчку Карэлічах на Наваградчыне. Скончыла настаўніцкую сэмінарыю ў Нясьвіжы й працавала настаўніцай пачатных школаў на Бацькаўшчыне.*

*У 1944 г. Нябошчыца апынулася на прымусовай працы ў Нямеччыне. У часе лягернага жыцьця Беларусаў-уцекачоў працавала настаўніцай у беларускай пачатковай школе ў лягеры Віндзішбергердорг у 1947/8 навучальным годзе, а пазьней у школе лягеру Міхельсдорф (Баварыя). Дык свой настаўніцкі талент і патрыятызм Нябошчыца прысьвяціла ўзгадаваньню й навучэньню беларускіх дзетак на выгнаньні, прышчапленьню ім любові да свае роднае мовы й пакінутае імі дарагой Бацькаўшчыне.*

*У 1950 г. Л. Альшэўская-Самайловіч разам з хваляю Беларусаў-уцекачоў прыехала з мужам а. Паўлам у ЗША і пасялілася ў Сан-Францыска. Там працавала й марыла аж да сьмерці аб павароце на Бацькаўшчыну.*

*Хай-жа лёгкай будзе Табе чужая зямелька, Дарагая Ліда Іванаўна[11]!*

### *Сьв. пам.* ***Аляксандар Асіповіч-Асіпчык***
### *(1.IV.1909—14.III.1990)*

*Ад атакі сэрца ў гарадку Джэксан у штаце Нью-Джэрзы, у доме пэньсіянераў памёр Аляксандар Асіповіч-Асіпчык. Памёр у чаканьні на падарожжа ў кліўлендзкі Полацак, каб адзначыць там разам з усімі парафіяльнае сьвята царквы Жыровіцкае Божае Маці, а пасьля — узяць удзел у сёлетняй сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.*

*Не памылімся, калі скажам, што А. Асіпчыка добра ведала беларуская эміграцыя. Ад 1945 году ў Нямеччыне закладаў ён не адну арганізацыю, пачынаў выдаваць ці адзін часапіс. Быў ён дзейны ў шмат якіх грамадзкіх групах, але сэрца ягонае было найбліжэй да арганізацыяў царкоўных, да Жыровіцкага брацтва, закладчыкам якога ён і быў. Некаторыя Беларусы працавалі зь ім вельмі згодна й памысна, зь некаторымі ён быў не ў ладах. Шмат ён пісаў. Найчасьцей аб Слоніме, адкуль паходзіў, але й на рэлігійныя тэмы меў ён нямала артыкулаў.*

[11] Беларус. №83. Люты 1964. С. 6. Подпіс: Калега.

*Пры дапамозе й чынным удзеле А. Асіпчыка была збудаваная ці адна беларуская царква на эміграцыі, пачынаючы ад Сьвята-Эўфрасіньнеўскае царквы ў Рэгенсбургу (Зах. Нямеччына).*

*У Злучаных Штатах А. Асіпчык быў і жыў і ў Чыкага, і ў Саўт-Рывэры, і ў Кліўленьдзе, і ў Нью-Брансьвіку. Аднак найбольш характэрная рыса А. Асіпчыка была — ахвярнасьць. Ён даваў грошы і на скаўтаў (дарэчы, ён ахвяраваў першы сьцяг беларускім скаўтам у Рэгенсбургу ў 1946 годзе), і на студэнтаў, і на грамадзкія арганізацыі. Сёлета ўзімку, захварэўшы й будучы ў шпіталі, ён выйшаў са шпіталю, каб мець магчымасьць даць ахвяру на Фонд Адраджэньня Беларусі.*

*Найболей аднак А. Асіпчык клапаціўся, каб збудаваць залю на Полацку — праект, якому ён ахвяраваў і сваю працу, і дапамагаў матар’яльна. Часта даваў ён ахвяры і на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, дапамагаў таксама ўладзіцца новым імігрантам-беластаччанам. Апошнім часам А. Асіпчык завёў шырокую перапіску з суродзічамі на Беласточчыне і ў БССР ды чым мог дапамагаў таксама. У адным із сваіх апошніх лістоў да сяброў А. Асіпчык пісаў: „Дзякаваць Богу, што жывучы тут, у Амэрыцы, маю сувязь з Беларусамі ўсюды. На днях атрымаў „Ніву“, прыйшоў „Беларус“ зь цікавымі весткамі... Наведвае мяне й спадар Тулейка... Я ў курсе ўсіх падзеяў. Надыходзіць 25-га сакавіка, дык жадаю ўсім Беларусам адзначыць яго шчасьліва“.*

*Тым, хто наведваў яго, была відавочная ягоная жыцьцярадаснасьць. І вось, раптоўна, ягоны жыцьцёвы шлях скончыўся.*

*На жаданьне нябожчыка хаваў яго малады сьвятар зь Беласточчыны а. Ян Пракапюк, а дапамагалі айцу а. Юры Шурбак ды сп. Міхась Тулейка. Сьвятары таксама зладзілі й памінальны абед, за што ім належыць шчыры беларускі дзякуй.*

*І хоць меў нябожчык закупленую магілку на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, зажадаў ён быць пахаваным на магілках фармы РООВА, бо там, як казаў нябожчык, „мой па-беларуску напісаны помнік, з нашым беларускім „Хрыстос Уваскрос“ ды іконай Жыровіцкай Божай Маці, будзе помнікам усім тым Беларусам, якія спачываюць у гэтым кутку амэрыканскае зямлі“.*

*Усё было зроблена паводле волі нябожчыка.*

*Вечная памяць шчыраму, дзейнаму і вельмі ахвярнаму Беларусу*[12]*!*

[12] Беларус. №369. Красавік 1990. С. 8. Подпіс: Сябры.

*Сьв. пам.* ***Уладзімер Бакуновіч***

*23 травеня ў Дэтройце, пасьля працяглае хваробы, памёр др. Уладзімер Бакуновіч, аддадзены беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч.*

*Нарадзіўся У. Бакуновіч 10 сьнежня 1926 году ў в. Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага павету. У часы Польшчы закончыў 5 клясаў пачатковай школы, потым 2 гады вучыўся ў часе савецкай акупацыі. У гэты пэрыяд сям'і даводзілася цяжка, бо быў арыштаваны бацька й пасаджаны ў Берасьцейскую крэпасьць. У пачатку вайны 1941 году саветы ўцяклі зь Берасьця, і бацька змог вярнуцца да сям'і. У 1944 годзе сям'я падалася ў Нямеччыну, дзе працавалі ў розных мясцох.*

*Па заканчэньні вайны сям'я восеньню 1945 году перабіраецца ў беларускі лягер у Рэгенсбургу, і Уладзімер паступае ў гімназію. Далучаецца таксама да працы ў скаўтынгу. Матуральны экзамен Уладзімер здаў у 1949 годзе ды разам з сям'ёй эмігруе ў Аўстралію. У 1954 годзе Бакуновіч варочаецца ў Эўропу ды залічваецца на ўнівэрсытэт ў Лювэне, Бэльгія. У 1963 годзе заканчвае ўнівэрсытэт з тытулам доктара эканамічных навукаў. Жэніцца з Людай Войтэнка ды перабіраецца ў Амэрыку. Большую частку жыцьця ў Амэрыцы пражыў у Дэтройце.*

*Др. Бакуновіч быў цесна зьвязаны з беларускім рухам: быў сябрам ды старшынём колькіх беларускіх арганізацыяў, сябрам Рады БНР, БІНІМу. Супрацоўнічаў у друку (пісаў пераважна пад псэўданімам Сьцяблевіч). Шмат працы ўклаў у разбудову парафіі БАПЦ у Дэтройце. Пахаваны нябожчык на беларускім магільніку ў г. Іст Браўнсуіку, шт. Нью Джэрзі.*

*Рэдкалегія газэты „Беларус“, сябры-лювэнцы ды выпускнікі гімназіі імя Янкі Купалы выказваюць шчырыя спачуваньні Людзе й дзецям ды сям'і ў Аўстраліі з нагоды сьмерці Уладзімера*[13].

*Сьв. пам.* ***Магі Барысік***

*Зусім нечакана памерла 12 лютага 1988 г. у 64-гадовым веку, па 35-гадовым супольным жыцьці ў найлепшай згодзе, жонка беларускага грамадзкага працаўніка сп. Пётры Барысіка. З паходжаньня валёнская Бэльгійка, Нябожчыца пакінула ў вялікім смутку мужа, замужнюю дачку й двое ўнукаў. Сп. П. Барысіку і сям'і выказваем шчырыя й глыбокія спачуваньні*[14].

[13] Беларус. №391. Чэрвень 1992. С. 8. Подпіс: Сябры.

[14] Беларус. №346. Красавік 1988. С. 7. Подпіс: Сябры.

*8-га кастрычніка 1959 г. памёр сьв. пам.* ***Фёдар Баслык***

*Пакойны радзіўся на Вялейшчыне ў вёсцы Выгалавічы. Быў сумленным Беларусам, належаў да ЗБК. Пахароны адслужыў настаяцель БАПЦ а. Міхаіл з Таронта пры ўдзеле знаёмых і сяброў. Было зложана шмат вянкоў, як ад ЗБК, так і ад знаёмых.*

*Сьпі, наш Сябра й Калега, хай канадыйская зямля Табе будзе лёгкай*[15].

*Сьв. пам.* ***Уладзімер Бортнік***

*Нарадзіўся 15.I.1910 г. у фальварку Мікалаёва каля Шаркаўшчыны — настаўнік, выдавец газэты „Бацькаўшчына“, нязьменны старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Заходняй Нямеччыне, заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу, беларускі прадстаўнік у кіраўніцтве Эўрапейскае Рады Правоў Чалавека й Самавызначэньня (зь сядзібай у Швайцарыі) — памёр 16 чэрвеня 1988 г. у гор. Мюнхэне, дзе й пахаваны.*

*Сваяком і прыяцелям Нябожчыка выказваем глыбокія спачуваньні.*

*Вечная памяць*[16].

*Сьвятой памяці* ***Язэп Варонка***

*У пятніцу 7 чырвеня Нью-Ёрская прэса падала вестку з Чыкага аб сьмерці Язэпа Варонкі, былога першага прэм’ер-міністра Ураду Незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе.*

*У часох Расейскае Рэвалюцыі між 1917—1918 гг. Язэп Варонка стаяў у першых радох змагароў за незалежнасьць Беларусі проці шматлікіх сваіх і чужых ворагаў. Пасьля-ж абвешчаньня незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, Варонка стаў на чале Ураду БНР. У канцы гэтага-ж году, калі бальшавіцкая Чырвоная Армія пачала заліваць Беларусь, Урад БНР, а зь ім і Варонка, быў прымушаны пайсьці на эміграцыю. Тут, у Заходняй Эўропе, Варонка пражыў колькі год, і ўрэшце рэштаў выехаў у Амэрыку ў ЗША. Першыя гады за акіянам былі для яго вельмі цяжкія. Былы прэм’ер Беларускага ўраду, ён прабаваў на-*

[15] Бацькаўшчына. №38—39 (474—475). 18 кастрычніка 1959. С. 8. Подпіс: Управа Садбурскага аддзелу ЗБК.

[16] Беларус. №348. Чэрвень 1988. С. 8. Подпіс: Рэдакцыя газэты „Беларус“.

*ладзіць і тут беларускае жыцьцё, хапаўся тае ці іншае фізычнае працы і прыняў шмат пакутаў, асабліва маральных.*

*Як у жыцьці блізу кажнага чалавека, так і ў жыцьці Язэпа Варонкі здаралася featuresрознае. Жывучы доўгія гады ў Чыкага, далёка ад бацькаўшчыны й гаркіх і крывавых падзеяў, што давёлося ёй перажыць пад бальшавіцкім панаваньнем, ён заламаўся, а нават трапляў пад уплыў шырака разгорнутае бальшавіцкае прапаганды аб „шчасьлівым“ жыцьці ў БССР. Аднак, зразумеўшы ўсю ману гэтае прапаганды, ён урэшце ізноў непахісна стаў на баку БНР і прызнаў сяньняшнюю Раду БНР на эміграцыі за адзіна праўнага й справядлівага спадкаемцу традыцыяў змаганьня за незалежнасьць Беларусі з 1918 году. Аб гэтым прызнаньні сьветчыць зьмешчаная свайго часу на балонках прэсы кароткая дэкларацыя, падпісаная нябожчыкам Варонкаю і іншым былым міністрам першага Ураду БНР Янкам Чарапуком-Змагаром.*

*Роля Язэпа Варонкі за часоў ягонае палітычнае дзейнасьці на Бацькаўшчыне ў пэрыяд крысталізаваньня ідэі незалежнасьці Беларусі і ў першым годзе незалежнага жыцьця маладое Беларускае Рэспублікі — вельмі цікавая, і мы пэўныя, будзе неўзабаве яшчэ ці раз належна асьветленая на балонках беларускае прэсы*[17].

*Сьв. пам.* ***Анна Ганэцкая***

*Нарадзілася 24.IX.1910 г. у Забалоцьці на Дзісеншчыне, памерла 29.IV.1990 г. у Каліфорніі. Сем'ям Ганэцкіх і Протасаў выказваюць найшчырэйшыя спачуваньні*[18].

*Сьв. пам.* ***Ян Гралеўскі***

*Народжаны 1 сакавіка 1912 г. у вёсцы Туркі на Віленшчыне. Нябожчык быў сябрам ЗБВБ і актыўным братам БАПЦ у горадзе Кембрыджы. Жыў у адзіноцтве.*

*Паховіны адбыліся 8 верасьня 1989 г. у Кембрыджы на Нью-маркет Роўд магільніку. Паніхіду адправіў а. Ян Пякарскі. На паховінах ад ЗБВБ былі Я. Міхалюк — старшыня, А. Занковіч — заст. старшыні і Я. Сяўковіч — сакратар*[19].

---

[17] Бацькаўшчына. №29 (108). 20 ліпеня 1952. С. 2.

[18] Беларус. №371. Чэрвень—ліпень 1990. С. 12. Подпіс: Сябры.

[19] Беларус. №363. Кастрычнік 1989. С. 8. Подпіс: Паведамляе Галоўная Ўправа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

### ***Памяцi настаўнiка й беларуса***

*20-га лістапада сёлета пасьля цяжкое хваробы памёр* ***Аляксандр Груша****.*

*Нябожчык нарадзіўся ў 1883 годзе ў в. Вялікая Вобрына над Нёмнам (Наваградчына). Скончыўшы настаўніцкую сэмінарыю, сьв. п. А. Груша працаваў настаўнікам пачаткавых школаў пад рознымі акупантамі на працягу блізу сарака год.*

*Зраўнаважаны, спакойны, лагодны й працавіты, ён блізу ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў узгадаваньню беларускае моладзі.*

*Нябожчык вельмі кахаў беларускую вёску і быў для сваіх суродзічаў ня толькі ўзгадавальнікам і настаўнікам іхных дзетак, але й дарадцаю і сябрам старэйшых. За часоў польскае акупацыі Заходняе Беларусі сьв. п. А. Груша працаваў у гэт. зв. утраквістычнай (двумоўнай) школе ў Загоры, каля Турца. Калі беларуская мова загадам польскіх школьных уладаў была забароненая і ў гэтых двумоўных школах А. Груша пачаў вучыць дзяцей па-беларуску неафіцыйна, прышчапляючы ім каханьне да свае роднае краіны праз родную песьню, якую добра знаў і вельмі любіў.*

*Сьв. п. Аляксандар Груша непахісна верыў, што ягоная трэцяя эміграцыя, гэтым разам у ЗША, ня будзе апошняй, і што ён вернецца яшчэ дахаты, у сваю Беларусь. Сталася, аднак, іначай. Не давялося яму скончыць свой жыцьцёвы шлях на роднай зямельцы.*

*22-га лістапада сёлета ладная грамада беларускіх эмігрантаў правяла сьв. п. А. Грушу на месца апошняга супачынку — на магілкі „Маўнт Алівэт“ у Мэсьпеце-Квінс.*

*Хаваў нябожчыка Яго Прэасьвяшчэнства япіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладыка Васіль пры ўдзеле хору БАПЦ.*

*Хай-жа будзе яму пухам і чужая зямелька[20]!*

Сьв. пам. **Варвара Грыцук**
(17.XII.1905—1.I.1990)

*1 студзеня сёлета адыйшла ў вечнасьць сьв. пам. Варвара Грыцук з дому Смалян, пакінуўшы ў глыбокім смутку сыноў Паўла з жонкай Тоняй, Аляксандра з жонкай Тамарай ды трох унукаў і адну ўнучку, чатырох праўнукаў, двух братоў, дзьве сястры на Бацькаўшчыне ды сына Мікалая, якога так моцна любіла, але якога згубіла ў часе вай-*

[20] Беларус. №16 (22). 27 лістапада 1952. С. 4.

*ны, калі яму было толькі няпоўных 17 год. Пакойная марыла пабачыцца зь ім хоць на старасьці год, але надыйшла вестка ў 1988 годзе, што яго ня стала. Яна гэта вельмі перажывала, што прывяло да вялікага душэўнага болю. У Амэрыцы пакінула двух братоў, маму пахавала ў Аўстрыі ў 1948 годзе. Бацька выехаў у Амэрыку і спачывае ў Філядэльфіі. Пакінула дзьве сястры на Бацькаўшчыне й сваякоў.*

*Нябожчыца нарадзілася ў Беларускім Палесьсі ў сям'і селяніна. Прыехаўшы ў Аўстралію ў 1949 годзе, яна ўключылася ўсёй душой у помач сваім сынам Паўлу і Аляксандру, і гэтая ахвярная матчына дапамога паставіла сям'ю на скорае аздараўленьне.*

*Узгадавала чатырох унукаў і ўлажыла ім беларускую душу, а асабліва мову нашу родную, якою яны гавораць, як усёроўна народжаныя на Бацькаўшчыне. Пакойная была вялікаю рукадзельніцай, вышывала розныя беларуска-палескія ўзоры. Так што ўся сям'я мае вялікія ўспаміны аб маме, бабцы, прабабцы. Яна была вялікаю патрыёткай свае Бацькаўшчыны, увесь час належала да Беларускага Цэнтральнага Камітэту.*

*Паховіны адбыліся 4 студзеня. Абрад пахаваньня выканаў а. протапр. Аляксандар з БАПЦарквы. Пахаваная нябожчыца на Беларускім магільніку ў Фоўкнары ў Мэльбурне сярод сваіх Беларусаў, чаго яна жадала, заўсёды кажучы: „Хочу сярод сваіх, бо маё горкае жыцьцё было адзінокім“.*

*Уся беларуская грамада Мэльбурну і ваколіц праводзіла дарагую нашу незабыўную маму ў вечнасьць.*

*Сьпі, дарагая мама, бабка й прабабка!*

*Няхай табе будзе пухам Аўстралійская зямелька і сьняцца сны аб тваім родным Палесьсі і каханай Беларусі*[21].

*Дня 6 студзеня 1957 г. памерла ў г. Равэн дэпарт. Ардэны ў Францыі* ***Параскева Данільчык****, нар. Бардакова ў веку 68 гадоў. Пахаваньне адбылося 8 студзеня на мясцовым магільніку. Аб чым з сумам паведамляюць родных з Лунінца і ўсіх знаёмых*

*Яе сыны.*

*Хай ёй будзе пухам чужая зямелька!*[22]

[21] Беларус. №369. Красавік 1990. С. 8. Подпіс: Сям'я пакойнай: сыны Паўла, Аляксандар і іх дзеткі, сёстры на Бацькаўшчыне й браты ў Амэрыцы.

[22] Бацькаўшчына. №4 (338). 27 студзеня 1957. С. 4.

*Сьв. пам.* ***Дзьмітры Дзядовіч***

*Нарадзіўся 1 кастрычніка 1920 г. у вёсцы Стайкі Баранавіцкага раёну. Памёр 17 ліпеня 1988 г. у Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., пакінуў у жалобе жонку Яніну, сястру Наташу й пляменьнікаў на Беларусі, аб чым з сумам паведамляе ды глыбокае спачуваньне сям'і нябожчыка выказвае*

*Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў*[23].

*Сьв. пам.* ***Браніслаў Дубоўскі***
*(19.VIII.1905—1.VI.1990).*

*Рэдакцыя газэты „Беларус“ атрымала сумную вестку аб сьмерці ў гор. Лінкальне ў штаце Нэбраска сьв. пам. Браніслава Дубоўскага, нараджэнца Случчыны, якога некаторыя з нашых чытачоў ведалі асабіста як добрага чалавека й Беларуса, прыкладнага сем'яніна й працавітага грамадзкага актывіста, калі ён жыў у Зах. Нямеччыне ў ДП-лягеры Шлясгайм каля Мюнхэну. Там сьв. пам. Б. Дубоўскі быў актыўным сябрам беларускае грамады, браў удзел як дыктар у беларускіх радыяперадачах. Ён быў сталым падпішчыкам газэты „Беларус“, на выдавецтва якое запісаў у сваім тэстамэньце тысячу даляраў ахвяры.*

*Для сям'і нябожчыка ягоная сьмерць была неспадзяванай і сталася балючай стратай. Ягоныя дзеці, сын Аляксандар і дачка Людміла, якая жыве ў гор. Мантысэла, штат Індыяна, памятаюць бацьку як чалавека, жыцьцё якога было прыкладам мужнасьці ў абліччы жыцьцёвых цяжкасьцяў, перашкодаў і трагедыі. Дзеці сьв. пам. Дубоўскага вельмі гордыя за свайго бацьку, які адзначаўся адначасна багатай і чульлівай натурай.*

*Нябожчык пакінуў у глыбокім смутку сваю сям'ю: дачку Людмілу з мужам Мэртам Джэйкабам, сына Аляксандра з жонкаю Барбараю і ўнука Паўліка. Пакінуў ён па сабе таксама рукапіс свае біяграфіі, якую закончыў пісаць у лютым сёлета.*

*Вечная яму памяць.*

*Калі-б хто-небудзь зь ягоных прыяцеляў ці знаёмых хацеў падзяліцца ўспамінамі аб ім на старонках „Беларуса“, рэдакцыя ахвоча гэткі ўспамін зьмесьціць*[24].

[23] Беларус. №349. Ліпень 1988. С. 8.

[24] Беларус. №371. Чэрвень—ліпень 1990. С. 12.

*Сьв.пам.* ***Мікола Дубяга***

*Дня 10 лютага 1959 году памёр неспадзявана ў Нью-Брансьвіку ў веку 61 год сьв. пам. Мікола Дубяга. Нябожчык паходзіў з Крывіцкага раёну, Вялейшчына. Асіраціў жонку, сына і ўнукаў. Паховіны адбыліся ў сыботу 14 лютага ў Саўт-Рывэры, дзе нябожчык стала пражываў. На апошняе разьвітаньне сабралося столькі народу, што рэдка бывае.*

*Сьв. пам. Мікола Дубяга адзначаўся рэдкімі ў наш час уласьцівасьцямі характару: спакоем, зраўнаважанасьцяй, ветлівасьцяй і дабратой. Ніколі нікога ня скрыўдзіў.*

*Паніхіду па нябожчыку служылі япіскап і трох сьвятароў. На апошняй Службе ў царкве сьв. Пятра й Паўлы ў Саўт-Рывэр прыгожае разьвітальнае слова сказаў а. пратаярэй І. Жарскі, сваяк пакойніка.*

*Сьв. пам. Мікола Дубяга належаў да С-Рывэрскага аддзелу БАЗА й парахвіі БАПЦ у Нью-Брансьвіку. Лятуценьнем ягоным было вярнуцца на вольную Бацькаўшчыну і злажыць свае косьці ў роднай зямельцы. Ня суджана было. Няхай-жа пухам яму будзе гасьцінная амэрыканская зямля*[25].

*Сьв. пам.* ***Софія Дубяга***

*3-га сьнежня 1989 г. адыйшла ў лепшы сьвет сьв. пам. Софія Дубяга з дому Семянковіч, пакінуўшы ў глыбокім жалі сына Алега з жонкай Жэняй, двух унукаў, Юльляна й Тамаша, і ладную грамаду прыяцеляў і сувернікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд Парку, штат Нью Джэрзі.*

*Нябожчыца нарадзілася 11.XI.1903 г. у мястэчку Куранец каля Вілейкі ў сям'і мешчаніна-земляроба. Пачатковую асьвету здабыла ў родным Куранцы, а пасьля вучылася ў вялейскай няпоўна-сярэдняй школе. Навуку перапынілі рэвалюцыйныя падзеі. У канцы 20-х гадоў выйшла замуж за сына заможных бацькоў, уласьніка фальварку Асінаўка Нікодыма Дубягу.*

*Усё сваё жыцьцё нябожчыца старалася працаваць для дабра свайго народу. Прыкладам, у 1942—1943 гг. яна дзейна дапамагала свайму дзеверу, прафэсійнаму настаўніку Юльляну Дубягу весьці працу ў адчыненай ім школе. Школа зачынілася толькі пасьля таго,*

[25] Бацькаўшчына. №9 (445). 1 сакавіка 1959. С. 4. Подпіс: Стары Сябра.

*калі сталінскія партызаны пачалі гразіць ім абаім сьмерцяй. Пазьней, ужо на выгнаньні ў Нямеччыне, працавала ўва ўцякацкім лягеры Алендорф у адчыненай інж. Чаславам Ханяўкам беларускай школе, а перад самым выездам у Амэрыку — у Беларускай пачатковай школе ў ДП лягеры ў Розэнгайме.*

*У ЗША нябожчыца была заўсёды дзейнай ў царкоўным жыцьці, клапацілася аб зборы ахвяраў на дапамогу епіскапату БАПЦ, аб упрыгожаньні царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку, у якой была аднэй зь першых старшыняў сястрыцтва.*

*Паховіны адбыліся 5 сьнежня. Абрад адпяваньня выканаў а. прат. Васіль Андрэюк. Пахаваная нябожчыца на могільніку ў Іст-Брансьвіку побач свайго мужа сьв. пам. Нікодыма.*

*На памінальным абедзе прамаўлялі а. Васіль, сп. В. Стома як адзін з найстарэйшых знаёмых памерлае, сп. М. Тулейка, старшыня мясцовага адзьдзелу БАЗА, сп. В. Русак ад парафіяльнае рады і сп. П. Кажура як даўны прыяцель сям'і.*

*Сьпі, Дарагая Сястра! Няхай Табе сьняцца родныя Куранец і Асінаўка*[26]*.*

## ***Балючая страта***

*У панядзелак 16-га сакавіка сёлета неспадзявана й перадчасна адыйшла ў вечнасьць сьв. пам.* ***Каця Ермін****, сталая шматгадовая ўдзельніца беларускіх праграмаў у Лёс Анджэлесе. Паходзіла яна зь беларускай праваслаўнай сьвятарскай сям'і зь Беларусі, нарадзілася ў Кажан гарадку 20-га ліпеня 1925 году. Дзявочае прозьвішча Талюш. Ейных бацькоў замучылі партызаны. Была настаўніцай у Фразыйнгу. Пражыла ў сужэнстве 34 гады. Якісь час жыла ў Чыкага. Працавала на цукровай хвабрыцы й пераплётніцай кнігаў. Была вельмі працавітая, ашчадная, дабрадзейная, гасьцінная і любіла чыстае, прыгожае й сумленнае жыцьцё. Моцна верыла ў Бога, шмат дапамагала матар'яльна сваёй царкве ў Лёс Анджэлесе. У гэтай-жа царкве адбыліся паніхіды па ёй, на якіх прысутнічала шмат прыяцеляў, але найбольш Беларусаў, зь якімі яна сябравала, у згодзе й зразуменьні падтрымоўваючы шмат каго з нас у патрэбе. Дзеля таго беларуская грамада ў Лёс Анджэлесе асабліва цяжка смуткуе з прычыны сьмерці дарагой, паважанай і любімай сваёй сяброўкі сьв. пам. Каці Ермін.*

[26] Беларус. №366. Студзень 1990. С. 8. Подпіс: В. С[тома].

*Жалоба па ёй моцна прыгнятае блізкіх да яе асобаў, асабліва ейнага мужа сп-ра Пётры Ерміна, які вельмі ўдзячны беларускай грамадзе за чулыя спачуваньні ў ягоным сучасным адзіноцтве. Як адзін з найбліжэйшых ягоных прыяцеляў, прысьвячаю гэтыя ўспаміны сьв. пам. Каці Ермін з пажаданьнем вечнага супакою ейнай душы, а мужуўдаўцу шмат духовай і маральнай вытрываласьці ў далейшым жыцьці ды захаваньні нашай шчырай і глыбокай прыязьні*[27].

*У сыботу 10-га кастрычніка пасьля паважнай апэрацыі й цяжкіх пакутаў памёр* ***Балеслаў Жабік****. Нар. 4.12.1925 г. у Пашкоўцы, Баранавіцкага павету. Нябожчык быў шчырым і сьведамым беларусам, якому давялося перанесьці напрацягу нядоўгага жыцьця шмат злыбядаў. Зусім маладым хлапцом ён вывезены ў 1943 г. немцамі на цяжкую працу ў Нямеччыну. У ЗША прыехаў у верасьні 1950 г. Быў добрым і ахвярным сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў.*

*Хай-жа лёгкай будзе яму чужая зямелька*[28]*!*

### *Сьв. пам.* ***Вінцэнт Жук-Грышкевіч***

*Былы Старшыня Рады БНР, актыўны сьветка Сакавіковых (1918 г.) падзеяў, пэдагог і грамадзка-культурны дзеяч часоў Заходняй Беларусі, палітычны вязень савецкіх турмаў і канцлягероў, удзельнік збройнага змаганьня на баку заходніх аліянтаў у гадох Другое сусьветнае вайны (армія ген. Андэрса), арганізатар беларускага грамадзкага жыцьця на эміграцыі (Ангельшчына й Канада), ініцыятар многіх грамадзка-нацыянальных праектаў, пахаваны на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, Н.-Дж, ЗША, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць і ўдаве нябожчыка, др. Раісе Жук-Грышкевіч, глыбокае спачуваньне выказваюць*[29].

### *Сьв. пам.* ***Мікола Заморскі***

*Пасьля году хваробы й складанае апэрацыі (рак), адыйшоў у вечнасьць на 65-м годзе жыцьця 18 чэрвеня сёлета сьв. пам. Міколай За-*

[27] Беларус. №288. Сакавік 1981. С. 5. Подпіс: Чэслаў Найдзюк.

[28] Беларус. №19 (43). 17 кастрычніка 1953. С. 4. У кляпсыдры.

[29] Беларус. №357. Люты 1989. С. 8. Подпіс: Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР.

*морскі. Боль страты адчула ня толькі сям’я нябожчыка, ягоныя сваякі, але і ўсе суродзічы, якія ведалі яго. Мікалай Заморскі быў тым чалавекам, які выклікаў да сябе, у моц свае прыроджанае сьціпласьці й далікатнасьці, глыбокую сымпатыю й пашану. У ягонай спакойнай натуры таілася трывалкае пастаянства й глыбінная эмацыянальнасьць, прывязанасьць да радзімых вартасьцяў і ідэалаў. Ён быў заўсёды там, дзе ішла грамадзкая праца, дзе рабілася беларуская нацыянальная справа. Узгадаваны ў сьведамай і набожнай беларускай сям’і, ён з самае раньняе маладосьці трымаўся свае грамады, сваіх людзей, свае царквы, сваіх арганізацыяў. І заўсёды быў каля канкрэтных заданьняў, сумленна выконваў узятыя на сябе абавязкі.*

*Мікалай Заморскі быў таксама чалавекам вялікіх прадпрыймальніцкіх здольнасьцяў, дзякуючы якім меў добра пастаўлнае сьлясарнае прадпрыёмства. Нябожчык шчодра падтрымваў розныя грамадзкія й дабрадзейныя ініцыятывы, у тым ліку й справу будаўніцтва Беларускага музэю ў Гайнаўцы й набыцьця друкарні для яго.*

*Паховіны адбыліся ў сераду 21 чэрвеня. У царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку была адслужаная Сьв. Літургія й паніхіда па нябожчыку. Як і на паніхідзе ў Мангасэце дзень перад тым, у царкве разам зь сям’ёй нябожчыка было шмат ягоных сяброў і знаёмых, што прыйшлі аддаць яму апошнюю пашану. Акт пахаваньня выканаў а. Васіль Андрэюк. Над магілаю і за памінальнымі сталамі ў падцаркоўнай залі падзяліліся ўспамінамі пра Колю Заморскага ды глыбокія спачуваньні выказалі жонцы Веры, дочкам Тані й Ніне, сястры Любе і ўсім родным: сп. сп. Уладзімер Русак, Пётра Кажура, Кастусь Мерляк, Янка Запруднік, Міхась Тулейка.*

*Вечная памяць добраму Чалавеку й шчыраму Беларусу Мікалаю Заморскаму*[30].

*Сьвятой памяці* ***Рыгор Захарэвіч***

*народжаны ў 1905 годзе ў сяле Карэліна Бягомельскага павету Меншчыны, памёр пасьля апэрацыі галавы 14 кастрычніка 1954 году і пахаваны на могілках Сьв. Чарльз у Крэзот у Францыі, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць*[31].

[30] Беларус. №360. Ліпень 1989. С. 7. Подпіс: Я. З[апруднік].

[31] Бацькаўшчына. №42 (224). 14 лістапада 1954. С. 2. Подпіс: Арганізацыя Беларускіх Работнікаў у Францыі, Сэкцыя А. Б. Р. Б. у Крэзот і ўсе сябры.

*Сьв. пам.* ***Гэлена Здановіч***

*Нарадзілася 13 жнійўня 1901 г. у вёсцы Касьцюкі Шаркаўскага раёну. Адыйшла на вечны супачынак 2 ліпеня 1989 г. у Лёндане. Пахаваная ў Грынфорд Парк магільніку, пра што з глыбокім сумам паведамляюць*[32]*.*

*Сьв. пам.* ***Гэлена Здановіч***

*Пасьля цяжкой хваробы адыйшла ў вечнасьць 2 ліпеня 1989 г. сьв. пам. Гэлена Здановіч (нар. 13.VIII.1901 г. у в. Касьцюкі Шаркаўскага раёну). Паходзіла зь сялянскай сям'і, а таму жыцьцё ня было салодкім.*

*Хоць асьветы школьнай амаль што ня мела, аднак адчувала неадрыўную патрэбу кніжкі і выпрацавала здольнасьць карыстацца ёю, якую выкарыстала пасьля для чытаньня сьв. Біблії.*

*Расказвала свае цяжкія перажываньні зь Першае сусьветнае вайны. Пасьля, выйшаўшы замуж, мела лягчэйшае жыцьцё. Выгадавала сына Аляксандра й дачку Сарафіну, і абдарыла іх тым, чым яна жыла праз свой гаротны век, а менавіта перадала ім сваю любоў да Бога, да бліжняга, а панад усё да свайго краю Беларусі. Была вельмі гордая за сваіх дзяцей, што выйшлі ў сьвет.*

*Знала мноства народных песень, звычаяў і пагаворак, прыказак, і таму часта была запрошаная на вясельлі, хрэсьбіны, паховіны і да т. п. казала, што на пачатку Другой сусьветнай вайны малады беларускі фальклярыст Хвашчынскі прыяжджаў з Шаркаўшчыны й запісаў некалькі старынных беларускіх песень.*

*Вайна разлучыла з сынам і дачкой, і толькі пад канец 1946 году бацькі даведваюцца, што сын Аляксандар жыве ў Вялікай Брытаніі, а пад канец 1947 году дачка Сарафіна паведамляе бацьком, што і яна жыве ў В. Брытаніі, і ўвесну 1948 году ў Лёндане спатыкаюцца брат зь сястрою.*

*У 1962 годзе памірае муж Юстын у веку 74 гадоў і пакідае ў пажылым веку ўдаву. Перад сьмерцяй муж выказаў прарочыя словы: „Ты яшчэ можа дажывеш і ўбачышся зь дзецьмі“.*

*Па сьмерці мужа ў 1962 годзе, пасьля доўгіх стараньняў праз сына й дачку ў Англіі — найцяжэй было са здабыцьцём дазволу на выезд у мясцовых уладаў там на Бацькаўшчыне — дастала дазвол на*

[32] Беларус. №361. Жнівень 1989. С. 6. Подпіс: сын Алесь і дачка Сарафіна.

*выезд і ў студзені 1964 году прыбыла ў Англію. Бог дазволіў ёй спалучыцца зь дзецьмі. Адчувала сябе вельмі шчасьлівай, толькі часта выказвала сум па блізкіх і знаёмых, якія засталіся ў краі.*

*Паховіны адбыліся 11 ліпеня на могільніку ў Грынфорд-Парку ў прысутнасьці вялікай колькасьці суродзічаў і прыяцеляў іншых нацыянальнасьцяў. Паніхіду адправіў а. Янка Пякарскі, а. А. Надсон прачытаў Апостала.*

*Хаўтурная бяседа адбылася ў доме дачкі й зяця сп-ва Грэмякаў, у часе якое дзеці пакойнай выказалі падзяку ўсім за ўдзел у паховінах і спачуваньні.*

Ад сябе й сяброў ЗБВБ гэтым выказваю самае глыбокае спачуваньне сябру Алесю й ягонай сястры Сарафіне[33].

*Сьв. Пам.* ***Паўліна Івашкевіч*** *з дому Адамовіч, народжаная ў Вільні 4 верасьня 1874 г., памерла 18 кастрычніка 1959 г. у Нью Ёрку. Пахаваная на могілках „Кальварыя“ ў Нью Ёрку — Кўінс*[34].

## *Сьвятой памяці*

*Беларускі паэт* ***Хведар Ільляшэвіч*** *7 лістапада сёлета перадчасна загінуў на далёкай чужыне, аб чым із глыбокім сумам падаём да публічнага ведама.*

*Чэсьць Ягонай памяці!*

*(Дзеля нястачы дакладных дадзеных аб Ягонай сьмерці абмяжоўваемся пакуль што толькі гэтай кароткай зацемкай)*[35].

## *Хведар Ільяшэвіч*

*У вапошнім нумары „Бацькаўшчыны“ мы падалі вестку аб сьмерці беларускага паэта Хведара Ільяшэвіча, які трагічна загінуў 7 лістапада сёлета.*

*Ільяшэвіч быў ведамым беларускім паэтам, які перад вайной выдаў некалькі зборнікаў сваіх вершаў, што адзначаліся няштодзённым мастацкім узроўнем. Таксама пісаў ён апавяданьні й займаўся публіцыстычнай і пэдагагічнай працай. Апрача гэтага перад вайною й падчас вайны браў ён жывы ўдзел у беларускай грамадзкай працы.*

---

[33] Беларус. №361. Жнівень 1989. С. 6. Подпіс: Янка Сяўковіч.

[34] Бацькаўшчына. №42 (478). 15 лістапада 1959. С. 4.

[35] Бацькаўшчына. №36 (39). 14 лістапада 1948. С. 3. Подпіс: Рэдакцыя.

*Асаблівай ягонай заслугай было ажыўленьне беларускага нацыянальнага руху ў Беласточчыне за часоў нямецкай акупацыі. Стоячы на чале Згуртаваньня Беларусаў Беласточчыны, як старшыня ягоны, і актыўна працуючы ў Беластоцкай беларускай газэце „Новая Дарога“, Ільяшэвіч у вялікай меры прычыніўся да зактывізаваньня ўсяго беларускага сьведамага элемэнту на найбольш заходняй ускраіне нашае Бацькаўшчыны і да абароны беларускага насельніцтва Беласточчыны перад палянізацыйнай акцыяй, моцна праводжанай у той час.*

*На працягу апошніх пару год Ільяшэвіч, на жаль, дзякуючы цяжкаму палажэньню, сямейнай трагэдыі й слабасьцям свайго характару, стаўся ахвярай варожых беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху дзейнікаў, якія бессаромліва выкарыстоўвалі ягоныя здольнасьці для сваіх антыбеларускіх мэтаў. Гэта быў нязвычайна трагічны пэрыяд у жыцьці Ільяшэвіча, ня менш трагічны, чымсьці і ягоная сьмерць.*

*Таму на гэтым месцы ўшаноўваем памяць Ільяшэвіча як паэта й грамадзяніна ў мінуласьці, калі ён ахвярна й непахісна змагаўся за беларускія нацыянальныя ідэалы*[36].

*Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з жалем паведамляюць аб перадучаснай сьмерці сябры Рады БНР сьв. пам.* ***Уладзімера Кабушкі****, які памёр 21-га ліпеня 1959 году ў Нью-Брансьвіку ў ЗША на 49-ым годзе жыцьця, і выказвае шчырае спачуваньне асірочанай сям’і — жонцы й дачушкам*[37].

### *Уладзімер Кабушка*

*Сьв. пам. Уладзімер Кабушка нарадзіўся 13-га сьнежня 1910 году ў вёсцы Малахоўцы Слонімскага павету.*

*Жыцьцё ягонае ня было багата радасьцямі ці ўдачамі. Яшчэ зусім малым хлапчуком ён, дзеля ваенных падзеяў Першае Сусьветнае вайны, мусіў пакінуць з бацькамі родную хату ды ўцякаць на ўсход. Там на чужыне памерла ягоная маці. Пасьля павароту зь сям’ёю на Бацькаўшчыну малы Ўладзімер як сірата гадаваўся пры манастыры, дзе й вучыўся ў пачатковай школе, а пасьлей — дапамагаў у працы баць-*

[36] Бацькаўшчына. №37 (40). 21 лістапада 1948. С. 3.

[37] Бацькаўшчына. №31 (467). 9 жніўня 1959. С. 4. Подпіс: Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР.

*ку ды рыхтаваўся ў вольныя ад працы часіны да працягваньня свае асьветы.*

*У 1926 годзе Ўладзімеру ўдалося дастацца ў Віленскую Беларускую Гімназію. Як вучань гімназіі падчас прыездаў дахаты на вакацыі ён пільна працаваў з моладзяй і старэйшымі свае ваколіцы, усьведамляў іх нацыянальна, дапамагаў арганізаваць гурткі беларускае мастацкае самадзейнасьці, распаўсюджваў беларускія газэты ды кніжкі.*

*У 1928 годзе разам зь іншымі вучнямі Віленскай Беларускай Гімназіі Ўладзімер Кабушка быў арыштаваны і засуджаны на 8 год цяжкага зьняволеньня. Пасьля звальненьня з Грудзёнскага вастрогу па амністыі ён вярнуўся на бацькаўшчыну, але жыць спакойна ня мог дзеля перасьледаў польскае паліцыі. Гэта змусіла яго да пераходу мяжы ў Менск, дзе, адылі, ён апынуўся неўзабаве ў той-жа вязьніцы, куды трапілі сотні даверлівых энтузіястаў з Заходняе Беларусі, якія спадзяваліся знайсьці ў БССР „Беларускі Дом“.*

*Толькі ў часе Другое Сусьветнае вайны Ўладзімеру Кабушку ўдалося пазбыцца астрогаў ды перасьледаў пераменных „усходніх“ ды „заходніх“ апякуноў Беларусі. І ён адразу-ж узноў улучыўся ў беларускую нацыянальна-грамадзкую працу. Далейшы лёс ягоны быў лёсам усяе сёньняшняе беларускае эміграцыі: нямецкія лягеры, нярадаснае жыцьцё ДП, а нарэшце — пераезд у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Тут Уладзімер Кабушка, будучы сябрам Рады БНР, сябрам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША ды іншых беларускіх арганізацыяў, праз усе апошнія гады быў адданым грамадзкім працаўнікам і арганізатарам, ахвярным настаўнікам і заўсёдным дараднікам ды апякуном беларускае моладзі.*

*Нечаканая сьмерць спыніла працавітае, адданае нацыянальнай справе жыцьцё Ўладзімера Кабушкі перадчасна, зусім нечакана для асірочанае сям'і і ўсіх сяброў ды супрацоўнікаў. Хай-жа будзе яму лёгкаю вольная амэрыканская зямля[38]!*

*Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з вялікім сумам паведамляе аб неспадзяванай перадчаснай сьмерці 20 сакавіка г.г. ахвярнай грамадзкай працаўніцы і прыкладной патрыёткі* ***Аўгені Кажан****, роджанай 25 сакавіка 1917 году, і выказвае сваю глыбокую спагаду сям'і нябошчыцы[39].*

[38] Бацькаўшчына. №31 (467). 9 жнівеня 1959. С. 4.

[39] Беларус. №1 (7). 25 сакавіка 1952. С. 4.

*Сьвятой памяці **Аўгеня Кажан***

*20-га сакавіка сёлета а 16:15 гадз. адыйшла ад нас назаўсёды нашая дарагая патрыётка й добрая хрысьціянка Аўгеня Кажан зараз пасьля нараджэньня другога дзіцятка.*

*Сьвядомае беларускае грамадзянства Стамфорду, Нью Ёрку й ваколіцаў зь вялікім жалем і сумам прыняло гэтую вестку, бо Аўгеня Кажан карысталася вялікаю пашанаю й праўдзіваю любоўю сярод нас усіх.*

*Нарадзіўшыся 25 сакавіка 1917 г. у Растове на Дану, пасьля бурных завірухаў таго часу Аўгеня Кажан разам з бацькамі вярнулася назад у Беласток. Бацькі яе былі добрымі хрысьціянамі й беларускімі патрыётамі, таму й дачка іхная расла, гадавалася й вучылася на добрую хрысьціянку й патрыётку. Цяжкое было тады жыцьцё для нашых патрыётаў пад Польшчаю, але бацькі яе не заламаліся, таму не заламалася і яна: любоў да свайго народу й бацькаўшчыны толькі ўзмоцнілася.*

*Нямецкі тэрор падчас другой сусьветнай вайны не абмінуў і яе: у 1942 г. яна была прымусова вывезена на працу ў Кэнігзбэрг. Але й тут, цяжка працуючы ў прымусовых умовах, Яна выкарыстоўвала кажную хвіліну для беларускае культурнае працы. У 1944 г. Яна апынулася ў Бэрліне, дзе таксама самааддана працавала ў нашых культурных установах. У 1945 г. Яна, будучы ўжо ў Гэкстары, пазнаёмілася там зь ведамым нашым грамадзкім працаўніком, Віталем Кажанам, і 1 сакавіка таго-ж году выйшла за яго замуж.*

*Пасьля заканчэньня вайны Аўгеня Кажан, будучы ў розных лягерах ДП, заўсёды прыймала ахвотны ўдзел у беларускай працы. Тут патрэбна падчыркнуць ейны запал у працы на карысьць Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, якой Яна аддалася ўсёй душою і якой Яна моцна прыслужылася сваім чароўным голасам як удзельніца хору і як сястра Жыровіцкага Брацтва ў лягеры ў Шлясгайме, а пасьля ў Остэргофэне й Розэнгайме.*

*За Яе самаахвярную працу ў гэтым кірунку Яна была ўзнагароджана Пахвальным Лістом ад Уладыкі Архіяпіскапа Сяргея й Благаслаўленнаю Граматаю ад Уладыкі Япіскапа Васіля.*

*Таму на ейных паховінах 23 сакавіка прынялі ўдзел ня толькі Ўладыка япіскап Васіль і пратярэй а. Хведар Данілюк, ня толькі шмат Ейных супрацоўніцаў-харыстак БАПЦ, але й шмат нашых суродзічаў з Сайт-Рывэру.*

*Усе шматлікія прысутныя з глыбокім жалем і смуткам разьвіталіся з Аўгеняй Кажан, і кажны, ізь сьлязамі на вачох, у сэрцы сваім меў адну думку: „Мы ніколі не забудзем Цябе, Дарагая Наша Сястра!“.*

*Вечная Табе Памяць[40]!*

*Сьв. пам.* ***Пётра Кажура***

20.VI.1913—15.VIII.1992

*Сьв. Пам. Пётра Кажура нар. у вёсцы Карповічы Вялейскага Павету. Быў ён змабілізаваны ў польскую армію; у 1939-ым годзе трапіў у нямецкі палон. Пасьля вайны П. Кажура адразу ўлучаецца ў беларускае грамадзкае жыцьцё: ён змагаецца за вылучэньне беларускіх нацыянальных групаў у лягерох перамешчаных асобаў, навязвае сувязь і супрацоўніцтва з беларускаю студэнцкаю арганізацыяю ў Марбургу. П. Кажура высока цаніў адукацыю ды заахвочваў і памагаў маладым беларусам паступаць у вышэйшыя школы.*

*У Злучаныя Штаты сям'я Кажураў прыехала ў 1949-м годзе й пасялілася сьпярша ў Саўт-Рывэры, а пасьля ў Нью Брансьвіку і Гайленд Парку, Нью Джэрзі. Перад тымі, што першыя прыехалі ў Амэрыку, ясна стаяла заданьне: павялічыць колькасьць імігрантаў-беларусаў, заснаваць свае парафіі й грамадзка-палітычныя арганізацыі. І тут Пётра Кажура поўнасьцю пасьвяціўся гэтай мэце. Ён дапамог шматлікім сем'ям прыехаць у Амэрыку, быў удзельнікам заснаваньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, парахвіяў БАПЦ, вэтэранскіх ды палітычных арганізацыяў. Ён быў праз доўгія гады старшынёю Парахвіяльнае Рады Парахвіі БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай, Старшынёю Аддзелу БАЗА, быў сябрам Амэрыканскага Легіёну ў Гайленд Парку. Асабліва вялікім дасягненьнем Пётры Кажуры была купля царкоўнай маёмасьці ў Гайленд Парку, што ёсьць сяньня цэнтрам нашай дзейнасьці.*

*Зацікаўленьне Пётры Кажуры беларускімі справамі і справамі Беларускай Праваслаўнай Царквы ня было абмежавана да Злучаных Штатаў Амэрыкі, яно ахапляла ўсю Беларусь і краіны пасяленьня беларусаў. І так: ён дапамагаў у будове і адбудове спаленых цэркваў на Беласточчыне, ён падтрымліваў усе выдавецкія пачыны як царкоўнага, так і сьвецкага характару; ён быў асабліва зацікаўлены ў друкаваньні царкоўных кнігаў. Пётра не прапусьціў ніводнага пада-*

[40] Бацькаўшчына. №14 (93). 6 красавіка 1952. С. 2.

*рожніка, што ехаў на Бацькаўшчыну ці краіну, дзе жывуць Беларусы, каб не паслаць праз ь яго „Беларускі Малітоўнік“ суродзічам.*

*Пётра і яго жонка Марыя добра ўзгадавалі сваіх дзяцей: Аню, Альгерда і Галіну, і далі ім добрую асьвету.*

*На паховіны с. п. Пётры, што мелі месца ў сераду, дня 19-га жнівня, [сабралося] шмат прыяцеляў і знаёмых. Разьвітальнае слова на могільніку сказаў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. А. Шукелойць. „Сьпі пад Курганам Герояў“ была заслужаная песьня для с. п. Пётры. На памінальным абедзе пасьля паховін, Настаяцель Парафіі а. прат. Васіль, сп. Васіль Русак і сп. М. Тулейка падзяліліся з прысутнымі аб с. п. Пётру Кажуру як царкоўнаму дзеячу, грамадзкаму арганізатару і дзеячу, што ніколі свае працы не спыніў, ды асобе, зь якой мы павінны браць прыклад[41].*

### *Сьв. пам.* ***Мэвіс Калбаса***
### *(30.V.1936—16.XII.1989)*

*Зь вялікім смуткам паведамляецца аб сьмерці сьв. пам. Мэвіс Калбаса, жонкі й няўтомнай супрацоўніцы сямейнага жыцьця Янкі Калбасы з Брадфарду ў Ангельшчыне. Нябожчыца цяжка хварэла на працягу дзесяцёх гадоў, апошнія два гады правяла больш у шпіталі, чымся ў роднай хаце. Сьв. пам. Мэвіс памерла ў шпіталі 16 сьнежня 1989 г., пакінуўшы ў вялікім смутку мужа Янку, трох сыноў, Пятруся, Міхася й Сьцяпана, дочак Гэлену і Юльляну ды чацьвёра ўнукаў. Абрад пахаваньня выканаў 22 сьнежня мітр. прат. а. Міхаіл Гуторны ў царкве сьв. Пакрову ў Брадфардзе, куды прыбыла вялікая колькасьць сваякоў, прыяцеляў і знаёмых Беларусаў, Ангельцаў, Украінцаў. Айцец Міхаіл сказаў прачулую казань. Пахаваная нябожчыца на могілках Ундэркліф Сэмэтэры.*

*Спачывай у роднай зямельцы, дарагая Мэвіс, асвабоджаная ад болю жахлівай хваробы. Сьпі, Дарагая, пад апекай Госпада Бога. Вечная памяць[42].*

### *Сьв. пам.* ***Аляксандар Калько***

*Народжаны ў вёсцы Яновічы Клецкага раёну 11 лютага 1917 г., памёр 30 верасьня 1991 году. Быў дзейным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ад самага пачатку — 1946 г.*

---

[41] Беларус. №393. Верасень 1992. С. 8. Подпіс: В. Русак.

[42] Беларус. №366. Студзень 1989. С. 7. Подпіс: Сям’я.

*Нябожчык зьяўляўся беларускім прадстаўніком у Брадфардскім Камітэце Паняволеных Народаў і празь нейкі час кіраваў грамадзкім клюбам „Сакавік“ у Брадфордзе. Пахавальны абрад выканаў а. Прат. Ян Абабурка. ЗБВБ рэпрэзэнтавалі старшыня Я. Міхалюк, ад Манчэстэрскага аддзелу В. Міхалюк і ад Брадфардскага аддзелу Хв. Лемяшонак. У смутку засталіся: жонка Марыяна, сын Аляксандар і сваякі ў Беларусі. Выказваем ім глыбокія спачуваньні*[43].

*Сьв. пам.* ***Мечыслаў Кананові́ч***
*(2.VIII.1932—26.VIII.1989)*

*Мечыслаў Кананові́ч, сын сьв. пам. Язэпа і Фані (з дому Сак), нарадзіўся ў гор. Навагрaдку, дзе атрымаў пачатковую асьвету. Сярэднюю беларускую школу закончыў у беларускім лягеры Ватэнштэце ў Зах. Нямеччыне. Там-жа належаў да беларускага скаўтынгу.*

*У 1949 г. сям’я Кананові́чаў выехала ў ЗША, дзе Мечыслаў адбыў амэрыканскую вайсковую службу. Пасьля сям’я пасялілася ў Каліфорніі. У Лёс-Анджэлесе Мечыслаў закончыў на ўнівэрсытэце факультэт электронікі.*

*Працаваў як інжынер-электронік. Належаў да беларускай танцавальнай групы, якая выступала на беларускіх сьвяточных урачыстасьцях і міжнацыянальных паказах. Быў ён сталым падпішчыкам „Беларуса“.*

*Сьмерць настала прадчасна. Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Клер, дачок Ніну й Кацю, матку Фаню, сёстраў Ірэну й Сабіну ды родных тут і на Бацькаўшчыне.*

*Пахаваны на каталіцкім магільніку ў Лёс-Анджэлесе.*

*Суродзічы выказваюць сардэчнае спачуваньне ўсім родным і блізкім сьв. пам. Мечыслава. Няхай будзе яму пухам амэрыканская зямля*[44].

*Сьв. пам.* ***Флярыян Каранеўскі***

*Нарадзіўся 13 лістапада 1895 г. у Коцяўшчыне каля Вішнева на Беларусі. Памёр 24 верасьня 1980 г. у Нью Джэрзі. Пахаваны 27 верасьня 1980 г. на Беларускім магільніку ў Іст Брансўіку, Нью Джэрзі.*

[43] Беларус. №384. Лістапад 1991. С. 8. Подпіс: Галоўная Ўправа ЗБВБ.

[44] Беларус. №363. Кастрычнік 1989. С. 8. Подпіс: Ч. Н.

*Шчырыя й глыбокія спачуваньні жонцы Стэфаніі, сястры Яніне Маркевіч ізь сям'ёй, сыну Ўладзімеру ізь сям'ёй, сыну Міхасю ізь сям'ёй і швагру Ўладзімеру Сьліўку*[45].

*Сьвятой памяці **Леанід Карась***

*народжаны 20.11.1923 г. у сяле Дзямідзінкі Дзісьненскага павету, памёр трагічнай сьмерцяй 7 верасьня 1954 году й пахаваны на могілках Perlacher Forst у Мюнхэне аб чым з глыбокім сумам паведамляюць*

*Беларуская рэдакцыя радыя „Вызваленьне“, Сябры 12-ткі,*
*Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне,*
*Цэнтраля Беларускіх Акадэмічных Арганізацыяў,*
*Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Бэльгіі,*
*Саюз Беларусаў у Бэльгіі*
*і Беларускі Праваслаўны Прыход у Бэльгіі*[46].

*Сьв. пам. **Іван Касяк***

*13-га сакавіка 1989 г. памёр у Чыкага на 80-м годзе жыцьця сьв. пам. Іван Касяк, ведамы беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, шматгадовы старшыня Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі, аўтар колькіх кніжак з навейшай гісторыі Беларусі ды шматлікіх мэмарандумаў у абароне правоў беларускага народу. Інжынер-архітэктар з прафэсіі, нябожчык пісаў таксама аб беларускай архітэктуры ды праектаваў царкоўныя будынкі.*

*Пахаваны сьв. пам. І. Касяк 18 сакавіка на Беларускім могільніку імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, штат Нью Джэрзы*[47].

*Сьв. пам. **Мікола Кумэйша***

*15 кастрычніка 1992 г. адыйшоў на вечны супачынак Мікола Кумэйша, пакінуўшы ў вялікім смутку жонку Кляру і двух сыноў, Мірослава і Яўгена, а на Бацькаўшчыне — брата і сястру.*

---

[45] Беларус. №283—284. Лістапад—сьнежань 1980. С. 3. Подпіс: Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі.

[46] Бацькаўшчына. №35 (217). 26 верасьня 1954. С. 4.

[47] Беларус. №357а. Сакавік 1989. С. 7.

*Сьв. пам. Мікола Кумэйша нарадзіўся 15 лістапада 1920 г. у вёсцы Вялікае Падлесьсе каля Ляхавічаў, недалёка ад Баранавічаў, у сям'і працавітага й нацыянальна сьведамага селяніна.*

*Па сканчэньні сямігодкі ў Ляхавічах вучыўся ў ніжэйшай аграрнай школе ў Дубоі каля Пінска, а пасьля — у лясной школе ў Жыровічах, атрымаўшы там дыплём агранома. Працаваў па прафэсіі каля Жыровічаў. Калі прыйшлі Саветы, вярнуўся дадому з думкай працягваць асьвету. Паехаў у Беласток вучыцца ў настаўніцкім інстытуце, па заканчэньні якога вярнуўся ў Ляхавічы. Там працаваў настаўнікам фізыкі й матэматыкі ў няпоўнай сярэдняй школе.*

*7 лістапада 1942 г. Мікола ажаніўся з Кляраю Таранда. Не дачакаліся яны, на жаль, вялікага моманту ў сваім жыцьці — залатога юбілею шлюбу.*

*Умовы настаўніцкай працы ў часе нямецкае акупацыі былі цяжкія. За частую крытыку „вышэйшай расы“ настаўнік Мікола Кумэйша быў арыштаваны і разам з жонкаю вывезены на прымусовую працу ў Нямеччыну. Працаваў там Мікола перад канцом вайны на самалётнай фабрыцы „Мэсэршміт“.*

*Па вайне паехаў працаваць у вугальныя шахты ў Бэльгію, дзе трымаў сувязь зь беларускімі студэнтамі ў Лювэне. Прабыўшы ў Бэльгіі чатыры з палавінаю гады, выехаў зь сям'ёй у Канаду, а адтуль у 1956 годзе — у Злучаныя Штаты, у горад Дэтройт. Спонсарам ягонага пераезду ў Амэрыку быў ведамы беларускі дзеяч у ЗША сп. Мікола Прускі.*

*У Дэтройце Мікола Кумэйша адразу-ж уступіў у вельмі дзейны тады аддзел БАЗА ды актыўна заняўся грамадзкай працай. Пасьля некалькіх гадоў стаўся старшынём аддзелу БАЗА. Шмат стараньняў прыклаў, каб зарганізаваць у Дэтройце парафію БАПЦ. Мроі ягоныя і многіх ягоных сяброў збыліся ў 1971 годзе, калі быў куплены будынак царквы ў Іст-Дэтройце. Тут Мікола энэргічна ўзяўся за рамонт і ўпрыгожваньне царквы, аддаючы на гэта шмат часу, хоць быў моцна заняты сваёй прафэсыйнай кантрактарскай работай. Ягонымі стараньнямі, пры дапамозе сп. Андрэя Стрэчаня з клійлендзкай парафіі Жыровіцкай Божай Маці, быў пастаўлены прыгожы іканастас. Сам Мікола з жонкай сьпявалі ўвесь час у вельмі мілагучным царкоўным хоры. Мікола быў амаль „жалезным“ царкоўным старастам істдэтройцкай царквы Сьвятога Духа.*

*Паніхіду па нябожчыку адслужыў сьвятар Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы прат. Андрэй Варановіч з парафіі Сьвятой Тройцы ў Дэтройце пры ўдзеле многіх сяброў памёрлага і ягонай сям'і.*

*Паховіны адбыліся 19 кастрычніка. З царквы Сьв. Тройцы цела было перавезена на могільнік Уайт Чапэл у гор. Трой. На хаўтурным абедзе ў Украінскім Культурным Цэнтры ў гор. Уорэне было шмат беларускіх і амэрыканскіх прыяцеляў сям'і нябожчыка. Разьвітальнае слова сказаў па-ангельску й беларуску мгр. Васіль Пляскач. Прамаўляў таксама былы старшыня парафіі Сьв. Духа БАПЦ др. Язэп Сажыч, выказаўшы спачуваньне ад імя ўсіх сяброў, якім давялося працаваць зь нябожчыкам для дабра беларускай справы й нацыянальна-рэлігійнага адраджэньня нашай Бацькаўшчыны*[48].

### *Сьв. пам.* ***Ефрасіньня Літвіненка***

*23 сакавіка 1988 г. пасьля цяжкой хваробы адыйшла на вечны спачынак Ефрасіньня (з дому Грабоўская) Літвіненка.*

*Нябожчыца нарадзілася 11.XI.1914 г. у Віньніцы на Ўкраіне. Асіраціла мужа Івана, замужніх дачок Раісу і Люсю, унукаў ды пакінула шчыры жаль па сабе ў сэрцах парафіянаў царквы Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж. Ад 1952 г. яна была парафіянкаю гэтае царквы, у якой ейны муж Іван Літвіненка шмат гадоў аддана й спраўна выконвае абавязкі царкоўнага старасты.*

*Напрыканцы II-й сусьветнай вайны Літвіненкі зь дзьвюмя немаўляткамі-дачушкамі апынуліся ў ваколіцах Марбургу, далучыліся там да гэткіх-жа выгнанцаў-Беларусаў. Ня здолеўшы адразу выехаць у Амэрыку, Іван Літвіненка зь сям'ёй падаўся на заработкі ў бэльгійскія шахты. З Бэльгіі-ж Літвіненкі перабраліся ў Амэрыку, у штат Нью Джэрзы, дзе неўзабаве далучыліся да парафіі Жыровіцкае Маці Божае, калі парафія яшчэ ня мела свайго царкоўнага будынку. Ад таго часу парафіяне й памятаюць Нябожчыцу як асобу добрае душы, якая заўсёды мела для кожнага лагоднае слова й ветлую ўсьмешку. Сьветлай памяці Ефрасіньня заўсёды загадзя прыяжджала з мужам-царкоўным старастам у царкву, рупліва даглядала ўсё й наводзіла парадкі. Таму ў царкве ў часе паніхіды, адслужанае а. Пратаерэем Васілём Андрэюком, як і ў залі пахавальнага бюро Малішэўскага было шмат тых, што прыйшлі разьвітацца зь Нябожчыцай. Назаўтра-ж, незважаючы на праліўны дождж, усе прыехалі на могілкі, каб аддаць ёй апошнюю пашану.*

[48] Беларус. №395. Лістапад 1992. С. 8. Подпіс: В. П. [Васіль Пляскач].

*На жалобным абедзе глыбокія й прачулыя словы спачуваньня сям'і Нябожчыцы выказалі Ўладыка Мікалай, сп. сп. В. Русак, М. Тулейка, Я. Місюль, П. Кажура і В. Стома.*

*На лапіку беларускай зямлі ў Іст-Брансьвіку сьпі спакойна, Дарагая Сястра. Няхай Табе, чарнабровай Украінцы, прысьняцца пшанічна-вішнёвыя прасторы Украіны, так як тым сінявокім Сёстрам, якія спачываюць каля Цябе, напэўна сьняцца ўквечаныя валошкамі-васількамі нівы з-пад Дзьвіны, Вяльлі, Нёману й Прыпяці*[49].

### *Сьв. пам.* ***Базыль Логач***

*Група Беларусаў у Ле Крэзо й ваколіцы з сумам паведамляе, што 14 красавіка 1981 г., па кароткай хваробе памёр адзін зь ейных даўгагадовых сяброў, Базыль Логач, пакінуўшы ў жалобе жонку й двух сыноў.*

*Сьвятой памяці Базыль Логач нарадзіўся на Палтаўшчыне ў украінска-беларускай сям'і. Уважаў сябе заўсёды за Беларуса.*

*Падзеі апошняе вайны закінулі яго ў Нямеччыну зусім яшчэ маладым. Пасьля службы ў Францускім Чужаземным Легіёне цяжка працаваў у сталяварні ў Ле Крэзо. Тут адразу далучыўся да беларускае групы, увесь час быў ейным дзейным сябрам, браў актыўны ўдзел у беларускай дзейнасьці да апошняга дня свайго жыцьця, перамагаючы ўсе жыцьцёвыя перашкоды.*

*Няхай яму будзе лёгкай француская гасьцінная зямелька ды вечны супакой ягонай сьветлай душы*[50].

### *Сьв. пам.* ***Віктар Лукашэвіч***

*Нарадзіўся ў Беларусі на Палесьсі ў вёсцы Красная Воля 10 жніўня 1931 году. Пасьля вайны сям'я затрымалася ў Нямеччыне, дзе ён наведваў беларускія школы, а таксама пачаў прымаць удзел у беларускім руху, мастацкіх выступах, спартовых дружынах, галоўна ў футболе.*

*У 1951 годзе сям'я прыехала ў ЗША і затрымалася ў Кліўленьдзе, Агаё. Тут пакойны крыху працаваў на фабрыцы, а тады быў узяты ў амэрыканскае войска, у 1952 годзе браў актыўны ўдзел у Карэйскай вайне. Вярнуўшыся з войска, паступіў на працу. У 1959 годзе ажані-*

[49] Беларус. №346. Красавік 1988. С. 7. Подпіс: Парафіянін.

[50] Беларус. №289. Травень 1981. С. 5. Подпіс: Б. Н.

*ўся з Оляй Літвінчук з Ракфорду, Іліной, нарадзілі трох сыноў: Віктара, Колю й Сьцяпана, якія ў мамэнт сьмерці бацькі яшчэканчалі навуку ў каледжах.*

*Пакойны Віктар, як і ягоны бацька Іван, з самага пачатку і ўвесь час быў даволі актыўны ў жыцьці беларускае калёніі. Браў удзел у розных гуртках: танцавальным, драматычным. Быў адным зь лепшых ігракоў у футбольнай дружыне, што займала вышэйшае месца ў Кліўленьдзе. Таксама належаў і актыўна працаваў у Арганізацыі Беларускае Моладзі, адзьдзеле БАЗА, Задзіночаньні Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Аднак гэтая актыўнасьць пачала зьмяншацца пасьля аўтамабільнага выпадку ў 1970-х гадох, пасьля якога ён ня змог поўнасьцю паправіцца. Памёр раптоўна дома 10 травеня 1990 г.*

*Беларуская калёнія вялікаю колькасьцю ўдзельнікаў ушанавала яго ў дзень паховінаў у часе службаў у царкве Жыровіцкае Божае Маці і на беларускай сэкцыі гарадзкога магільніка, адсьпяваўшы жалобны марш „Сьпі пад курганам гэрояў“.*

*Адыход Віктара на вечны супачынак — гэта вялікая страта і жонцы з сынамі, і матцы Марыі, і беларускай грамадзе.*

*Хай-жа будзе яму лёгкай амэрыканская зямля і хай сьняцца краявіды беларускага Палесься, пра якія ён часамі расказваў, жывучы там маладым*[51].

*Сьв. пам.* ***Мікола Лысуха*** *адыйшоў на вечны супачын на 54-м годзе жыцьця 5 сакавіка 1981 г. у Жувісы-сюр-Орж (Францыя). Нябожчык быў перасьледаваны Саветамі за тое, што змагаўся за лепшую будучыню Беларускага Народу, у сувязі з чым па вайне мусіў пакінуць сваю Бацькаўшчыну*[52].

*Сьв. пам.* ***Янка Мазура***

*Народжаны ў в. Ракава каля Маладэчна 7 студзеня 1923 г., па доўгай хваробе памёр 1 чэрвеня 1990 году. Быў дзейным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ад самага пачатку — 1946 г. Пахавальны абрад выканаў а. прат. Ян Абабурка. Паховіны адбыліся на Скунтроп могільніку. ЗБВБ рэпрэзэнтавалі старшыня Я. Міха-*

[51] Беларус. №374. Кастрычнік 1990. С. 8. Подпіс: К. П.

[52] Беларус. №288. Сакавік 1981. С. 5.

*люк і сп-ня Л. Міхалюк. У смутку засталіся: жонка Брыгіда, тры сыны, дзьве дачкі і трое ўнукаў. Выказваем ім глыбокія спачуваньні*[53].

*Сьв. пам.* ***Рыгор Макарчук***

*13.6.1956 г., у веку 39 год, памёр у Альбуры ў Водонга (Вікторыя) Рыгор Макарчук, народжаны ў вёсцы Цешаўле каля Баранавіч.*

*У сваім асяродзьдзі ў Аўстраліі Нябожчык браў даволі актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці. Маёмасьць ягоная тымчасам перанятая аўстралійскім урадам, паколькі ня быў зроблены тэстамэнт*[54].

*Сьв. пам.* ***Алесь Мароз***

*Нарадзіўся 16 жніўвеня 1918 г. у в. Кацяўшчына на Валожыншчыне, па вайне жыў у Зах. Аўстраліі, дзе быў прадстаўніком газэты „Беларус“; адыйшоў на вечны супачын 8 лістапада 1989 г.; пахаваны на Пінару могілках 11-га лістапада. Акт пахаваньня выканаў сьвятар УАПЦ а. Анатоль Сітнік. Нябожчыка праводзіла вялікая колькасьць сяброў і знаёмых.*

*Вечная яму памяць*[55].

*Сьв. пам.* ***Дорын Мацкевіч***

*Пасьля апэрацыі, неспадзявана, 22-га травеня сёлета адыйшла на вечны супачынак, не дачакаўшы 60-ці годзьдзя, жонка нашага сябры Эдуарда Мацкевіча. Дорын Мацкевіч — англічанка — у маладзейшых гадох брала актыўны ўдзел у наладжваньнях беларускіх нацыянальных і рэлігійных сьвяткаваньняў у гарадох Брадфард і Лідс. Была зацікаўлена ў гісторыі Беларусі і даволі добра яе ведала. Ня раз можна было чуць, як яна тлумачыла субяседнікам-англічанам, што такое Беларусь. Дорын была вельмі ветлівая асоба і была папулярная ня толькі сярод беларускага грамадзтва, але і іх дзяцей. Дзеля гэтага і яны, разам з бацькамі, прыехалі ў горад Брадфорд, каб разьвітацца назаўсёды са сваёй сяброўкай, якая аставіла ў суме мужа Эдуарда і дачку Джулію.*

*Няхай будзе пухам ёй родная зямелька*[56].

---

[53] Беларус. №371. Чэрвень—ліпень 1990. С. 12. Подпіс: Галоўная Ўправа ЗБВБ.

[54] Бацькаўшчына. №4 (338). 27 студзеня 1957. С. 4. Подпіс: Беларусы ў Альбуры.

[55] Беларус. №364. Лістапад 1989. С. 8. Подпіс: Суродзічы.

[56] Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12. Подпіс: А. Гатковіч.

*Памяці **Марылькі Мікуліч-Каладзейскае***

*Памерла Марылька Каладзейская, сьвет зьбяднеў адной сьветлай асобай, беларускае грамадзтва, асабліва ваколіц Бэры, страціла дзейнага, руплівага працаўніка, а мы — вечна пагодную, вечна гатовую дапамагчы — сяброўку. Марылька брала ўдзел ва ўсіх беларускіх імпрэзах і падзеях, што адбываліся якіх 150 км напоўнач ад Таронта. Яна ўдзельнік высьвячэньня Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідляндзе; яна сяброўка Арганізацыйных Камітэтаў усіх чатырох паломніцтваў да Беларускага Крыжа; яна суарганізатар беларускай выстаўкі на фэстывалі „Шматкультуралізм у Сімко Каўнты“. Яна заслужыла на пашану й любоў канадыйцаў — прыяцеляў беларусаў у Бэры. Яна ня толькі ўдзельнік Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Беларускага Грамадзтва Канады, але й памагатар знайсьці адрасы беларусаў, разсеяных па Канадзе. Ціхая й сьціплая, скрозь дапаможная. Калі Уладыка Мікалай езьдзіў са сьвятой вадой, дом Каладзейскіх быў гасьцінным пераходным пунктам між Тарантам і поўначчу Канады ды гасьцінным пунктам для ўсіх беларускаў-любіцеляў прыроды, рыбалоўства, паляваньня й добрага таварыства.*

*Пазнала я Марыльку Мікуліч у Таронта на пераломе 1949 і 1950 гадоў. Сустракалі мы разам зь ёю й зь беларускай сямейкай Таронта 1950-ы год. Сустракалі яго не абы як, бо аж у кватэры сына Вінцэнта Масэй, які ў свой час быў Говэрнор Жэнэрал Канады, у свой час — рэктарам Тарантанскага ўнівэрсытэту. Помню Марыльку й перад вялікаднямі, як мы — беларусы Таронта — ладзілі супольныя разгаўленьні. Яна была адной з тых, што пяклі й прыносілі на супольны банкет вялікодныя бабкі. Помню Марыльку на багаслужбах, на сьвяткаваньнях 25 Сакавіка, на першай і іншых Сустрэчах Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, на вечарынах, на памінках. Марылька жыла, працавала, цярпела й радавалася, сумавала й цешылася, і сяньня 18 ліпеня 1992 г. каля 5-ай гадзіны вечара перастала існаваць... і то толькі 13 дзён пасьля таго, як яна прыгожа й разумна расказвала наведнікам беларускай выстаўкі ў музэі Сімко Каўнты, што напоўнач ад Бэры, пра беларускае прыкладное мастацтва, была прыемным правадніком.*

*Няма Цябе, Марылька, на гэтым сьвеце. ... Хто заступіць Цябе пры арганізацыі паломніцтва да Беларускага Крыжа, пры арганізацыі беларускіх выставак у Бэры?*

*Пражыла Марылька Мікуліч-Каладзейская 71 год і ня цэлы месяц.*

*Нарадзілася 26 чэрвеня 1921 году ў Падлесьсі на Наваградчыне, закончыла сярэднюю школу ў Вільні. У Канаду прыехала ў 1949. У 1952 годзе выйшла замуж за Міколу Каладзейскага. Мела чэцьвера дзяцей і шасьцёх унукаў. Пражыла некароткае й карыснае жыцьцё.*

*Пакінула ў глыбокім суме мужа Міколу, дачок — Ірэну, Лінду, Валерыю, сына Аляксандра, тры ўнучкі і трох унукаў.*

*Успамяні Яе, Госпадзі, у валадарстве сваім.*

*А між намі хай жыве сьветлая й вечная Ёй памяць*[57].

*Пасьля доўгай і цяжкой хваробы, 8-га траўня сёлета ў парыскім шпіталі Hotel Dieu закончыў свой жыцьцёвы шлях сьв. пам.* ***Базыль Міхан*** *у веку 48 год, пакідаючы жонку Надзею й дачку Кіру. Пахаваньне адбылося на могільніку Thias 14 траўня.*

*Беларуская калёнія ў Парыжы страціла ў асобе пакойнага шчырага Беларуса, які горача любіў сваю Бацькаўшчыну Беларусь. Зь вялікім жалем паведамляем аб гэтай цяжкой страце ўсіх ягоных блізкіх, родных і знаёмых.*

*Няхай будзе яму лёгкай чужая зямля*[58].

### *Сьв. памяці* ***Міхась Міцкевіч***

*Постаць сьв. памяці Міхася Міцкевіча нязвыклая, характэрная шматлікімі добрымі якасьцямі. Хаця ён ніколі не выпучваўся ў жыцьці й грамадзкай дзейнасьці, амаль усе яго ведалі й паважалі, бо бачылі нясупынна дзейным чалавекам, які заўсёды імкнуўся штось рабіць для сваіх людзей і для беларускай нацыянальнай справы. Напаказ ён ніколі нічога не рабіў. Усё рабіў на дабро, каб усё тое, да чаго ён меў дачыненьне, было добрым, чыстым, справядлівым і разумным. Ня любіў абману й насільля, а найбольш куцельства. Таму, пры вельмі добрых сваіх якасьцях, ня ўсіх хваліў.*

*Нарадзіўся Міхась Міцкевіч у Мікалаеўшчыне 13 ліпеня 1897 году ў сям'і Міхаіла й Ганны Міцкевічаў — быў іхным наймалодшым сынам. Пачатковую асьвету атрымаў у в. Мікалаеўшчына. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў у 1917 годзе.*

*Я асабіста ведаў сьв. пам. Міхася Міцкевіча досыць добра, бо й паходзілі мы з блізкіх мясьцін, а на эміграцыі ня толькі часта спаты-*

[57] Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12. Подпіс: Раіса Жук-Грышкевіч.

[58] Бацькаўшчына. №22 (458). 31 травеня 1959. С. 4. Подпіс: Сям'я і сябры.

*каліся, але й цесна супрацоўнічалі на грамацка-нацыянальнай і рэлігійнай ніве. На бацькаўшчыне ён быў школьным інспэктарам. Пакінуў свой родны край у 1944 годзе й стаўся, як амаль усе мы, беларускім эмігрантам-уцекачом.*

*Усё жыцьцё сваё за межамі Бацькаўшчыны быў дзейны й вельмі ахвярны. Меў ён настаўніцкую адукацыю і немалы пісьменьніцкі талент. Быў адным з арганізатараў Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне адразу пасьля II-ой сусьветнай вайны, быў арганізатарам беларускага лягеру ДП у Рэгэнсбургу, вучыў дзяцей у беларускіх школах у Нямеччыне, а пазьней у Нью Ёрку. Апрацаваў некалькі чытанак для дзяцей першых клясаў.*

*Калі выдаваньне газэты „Беларус“ было пад пагрозай спыненьня, дзеля розных няладаў і адмовы рэдактара Л. Галяка, Міхась Міцкевіч пераняў газэту й на працягу пару гадоў выдаваў яе амаль на свой кошт, аж да прыезду ў Амэрыку др. Станіслава Станкевіча, які стаў рэдактарам „Беларуса“.*

*Міхась Міцкевіч быў сябрам галоўнай Управы БАЗА, апякуном Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку й быў пры ім, аж покуль ня змог больш езьдзіць на Атлянтык Авэню ў Брукліне. Цяжка пераэкываў ён раскол у нашай Царкве, але ня мог ужо яго зьмяніць. Пасьля сьмерці сьв. памяці Архіепіскапа Васіля пераняў выдаваньне часопісу БАПЦарквы.*

*Гэта вельмі агульны агляд дзейнасьці сьв. памяці Міхася Міцкевіча. Сёньня бадай немагчыма пералічыць усё тое, што ён зрабіў у сваім жыцьці. Яго канчына заскочыла нас неспадзявана, хаця мы ведалі, што сілы астаўлялі яго. Дзейнасьць Міхася Міцкевіча мусіць быць дасьледжаная і апублікаваная, бо была прыкладнай.*

*Быў ён братам нашага слаўнага пісьменьніка-паэты Якуба Коласа, аднак пра Міхася Міцкевіча так мала ведама ў Беларусі. Толькі цяпер гэта заўважаюць і шукаюць спосабу папоўніць нястачу належнай інфармацыяй. Вось што піша пра гэта ўнучка Якуба Коласа, Марыя Міцкевіч, што працуе ў Акадэміі навук Беларусі: „Дзеля маёй працы вельмі-б хацела мець вашыя ўспаміны й меркаваньні пра лёс, жыцьцё й дзейнасьць Міхася Міцкевіча“.*

*На мяне асабіста, скажу шчыра, ніхто не зрабіў большага ўражаньня, як сьв. памяці Міхась Міцкевіч. Я яго шанаваў і любіў за ягоную дзейнасьць, ахвярнасьць, справядлівасьць і развагу. Таму вельмі шкадую, што яго ўжо ня стала сярод нас.*

*Памёр Міхась Міцкевіч 25 кастрычніка 1991 году й пахаваны на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку ў штаце Нью Джэрзі.*

*Выказваю глыбокае спачуваньне пляменьнікам пакойнага братом Аляксандру й Валентыну ды ўсёй радні Міхася Міцкевіча. Няхай-жа будзе лёгкая зямля Амэрыкі, хаця ён так марыў аб сваёй старонцы Беларусі, якую любіў панад усё.*

*Вечная яму памяць*[59]*!*

*Сьвятой памяці* ***Юстын Мурашка***

*Дня 30 кастрычніка сёлета ў Канадзе памёр на 62-м годзе жыцьця сьв. памяці Юстын Мурашка, і 1 лістапада сёлета Яго пахавалі на каталіцкім магільніку ў Эдмантан.*

*Адыйшоў ад нас дарагі сябра, шчыры патрыёт і змагар за беларускую справу. Нябошчык усё сваё жыцьцё марыў аб Вольнай і Незалежнай Бацькаўшчыне. Ён вельмі любіў сваю Радзіму й надта цяжка перажываў сваё прымусовае выгнаньне. Нябошчык быў вельмі добрым чалавекам. Нават на эміграцыі, сам ня маючы дастаткаў, Ён шмат дапамагаў у бядзе сваім суродзічам. Ён спадзяваўся хуткага вызваленьня нашае Бацькаўшчыны. Яшчэ на пачатку гэтага году Ён пісаў: „Калі пачнецца вайна, дык я, дарма што стары й хворы, вазьму ў рукі кольт і пайду біць ворагаў нашае Бацькаўшчыны!“.*

*Але Бог не судзіў Яму дажыць да радаснае хвіліны Вызваленьня — ня вытрымала кволае сэрца.*

*Няхай-жа чужая зямелька будзе Яму лёгкай! Сьпі спакойна, дарагі сябра, і няхай прысьніцца Табе Вольная Бацькаўшчына*[60]*!*

***Павал Ніжнік***

*26.7.49 г. трагічна памёр Павал Ніжнік. Няўмольная сьмерць бясчасна вырвала з нашых радоў чалавека, які гэтак многа аддаў сілаў і энэргіі нацыянальнай беларускай справе. Сілаю лёсу адарваны ад Бацькаўшчыны, ён заўсёды марыў аб ёй, аб незалежнасьці і свабодзе свайго народу. Ён адным зь першых у лягеры ў Гановэры з уласьцівай яму настойлівасьцю й воляй узяўся за арганізацыю беларускага жыцьця, за згуртаваньне беларусаў у вадну зьнітаваную грамаду. Павал Ніжнік, які меў вышэйшую пэдагагічную асьвету, арганізаваў у лягеры беларускую пачатковую школу і праз доўгі час быў за ды-*

[59] Беларус. №384. Лістапад 1991. С. 8. Подпіс: Міхась Тулейка.

[60] Бацькаўшчына. №49 (128). 7 сьнежаня 1953. С. 4. Подпіс: Я. К.

*рэктара й настаўніка ў гэтай школе. Нябожчык аддаў многа стараньняў справе арганізацыі ў лягеры БАПЦ.*

*Адыход ад нас П. Ніжніка зьяўляецца цяжкай і балючай утратай.*

*Прыяцелі й знаёмыя нябожчыка выказваюць глыбокі жаль і сардэчнае спачуваньне ягонай сям'і*[61].

*Сьв. пам.* ***Анатоль Новік***

*Адыйшоў у вечнасьць пасьля доўгай і цяжкой хваробы на рака 3-га кастрычніка 1992 г. Адчуваючы блізкі канец, 30-га верасьня пры поўнай памяці прыняў ад а. Міраслава прычасьце, а 5-га кастрычніка цела пакойніка было перавезена ў Беларускую праваслаўную царкву Сьв. Юрыя для адпяваньня. У апошнюю дарогу цела пакойніка суправаджала калёна родзічаў і прыяцеляў на Элмвудзкі магільнік у Рывэр-Груве, дзе й было пахавана.*

*Сьв. пам. А. Новік нарадзіўся 18 красавіка 1924 г. у вёсцы Даманкавічы блізка Баранавічаў. У часе вайны трапіў у Нямеччыну, а ў 1954 г. — у ЗША. Быў надзіва добрага і ўжыўчывага характару, любіў свой народ і царкву, у якой праслужыў скарбнікам прыходу ад 1967 г. да 26 мая 1992 г.*

*У вялікім смутку пакінуў жонку Элеанору, чатыры дачкі зь сем'ямі: Галіну, Ірэну, Аляксандру, Глорыю і сына Тоні, пятнаццаць унукаў і трое праўнукаў.*

*Сьпі спакойна, наш дарагі супрацоўнік, муж і бацька. Твой многалікі род па волі Божай шчодра ўнасьледваў удзячную зямлю Амэрыкі і з пашанай заўсёды будзе памятаць зямлю сваіх продкаў — Табе дарагую Беларусь*[62].

*Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з глыбокім жалем паведамляюць аб неспадзяванай сьмерці сябры Рады БНР, б. старшыні Амэрыканскага сэктару Рады БНР і Міністра Асьветы, сьв. пам. др.* ***Аляксандра Орсы****, які памёр у Нью Ёрку 2-га лістапада 1959 году, пражыўшы 63 гады, і выказваюць шчырыя спачуваньні асірацелай сям'і Нябожчыка*[63].

---

[61] Бацькаўшчына. №15 (59). 18 жніўня 1949. С. 4. Подпіс: Гановэр.

[62] Беларус. №395. Лістапад 1992. С. 8. Подпіс: Прыяцелі.

[63] Бацькаўшчына. №43—44 (479—480). 29 лістапада 1959. С. 8. Подпіс: Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

*Сьв. памяці* ***Іван Падгайскі***

*Прэзыдыюм і сакратарыят Рады БНР з глыбокім сумам паведамляюць аб трагічнай сьмерці Сябры Рады БНР сьв. памяці Івана Падгайскага.*

*Сьв. пам. Іван Падгайскі, дзейны й шчыры сябра шматлікіх беларускіх эміграцыйных арганізацыяў, як Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды інш., зьгінуў, зваліўшыся зь дзевятага паверху будынку на Ўол Стрыт у Нью Ёрку, дзе ён працаваў як работнік пры разборцы дамоў.*

*На Бацькаўшчыне Іван Падгайскі быў гаспадаром-земляробам. Нарадзіўся ён 15 сакавіка 1908 году ў сяле Жарава, Грудаўскае валасьці, Пастаўскага павету на Віленшчыне. Свае зямлі меў мала й таму ўсьцяж, аж па дзень сьмерці, летуцеў сабраць цяжкой працай крыху грошы, а калі давядзецца вярнуцца дахаты, купіць сабе крыху зямелькі. Лёс ня судзіў яму адылі зьдзейсьніць ягоныя найсьвяцейшыя лятуценьні.*

*Хай-жа будзе яму лёгкая чужая зямля Бруклінскіх могілкаў Эвэргрын, дзе ён быў пахаваны, праводжаны на вечны супачынак вялізманай грамадой сваякоў, знаёмых ды сябраў-Беларусаў.*

*Сям'і-ж Нябожчыка Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР складаюць свае найшчырэйшыя спачуваньні*[64].

*Сьв. пам.* ***Язэп Пазьняк (Вайніловіч)***
*(25.I.1925—10.XII.1989)*

*10 сьнежня 1989 году памёр неспадзявана ў штаце Флярыда на 65-м годзе жыцьця сьв. пам. Язэп Пазьняк. Ягоны бацька Ігнат Вайніловіч быў нашчадкам беларускай магнацкай сям'і на Случчыне, а маці, Апалёнія, паходзіла з дому Пазьнякоў. Вайніловічы ў мінуўшчыне былі беларускімі патрыётамі. Язэпаў дзед Эдвард Вайніловіч пабудаваў за свой кошт Чырвоны Касьцёл сьв. сьв. Сымона і Алены ў Менску, у якім цяпер знаходзіцца Дом кіно. Язэпаў бацька загінуў у часе сталінскіх рэпрэсіяў (цяпер рэгабілітаваны), і сям'я жыла ў цяжкіх абставінах.*

*У часе Другое сусьветнае вайны Язэпа прымусова вывезьлі на працу ў Нямеччыну. Па вайне служыў у польскіх узброеных сілах пад*

[64] Бацькаўшчына. №13 (347). 31 сакавіка 1957. С. 4. Подпіс: Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР.

*брытанскім камандаваньнем. На пачатку 1950-х гадоў быў студэнтам інжынерыі на Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Ажаніўся ў Лёндане з Эвэлінай Брадшо і разам з жонкай эміграваў у Злучаныя Штаты. У Нью Ёрку меў невялікую мэханічную майстроўню, у якой зарабляў на жыцьцё, браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці, у 1958—1959 гадох быў старшынём ньюёрскага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Як аматар-фатограф, зрабіў колькі ўдалых фота-сэрыяў з жыцьця беларускае грамады Нью Ёрку: беларускай школы, удзелу Беларусаў у міжнароднай выстаўцы ў 1964 годзе; рабіў насьценную фотагазэту; у сваёй фоталябараторыі зрабіў зь фільму, падараванага сп. А. Еўцу мітрапалітам Аляксандрам Пінскім, адбіткі царкоўных напеваў, якімі карыстаюцца ў беларускіх праваслаўных цэрквах на эміграцыі.*

*Нябожчык перажыў два ўдары сэрца. Пасьля першага давялося рабіць апэрацыю.*

*Паховіны адбыліся ў мясцовай каталіцкай царкве. На пахаваньні былі Беларусы і Амэрыканцы, ягоныя сябры й знаёмыя. На памінальнай бяседзе разьвітальнае слова сказаў па-ангельску сп. Уладзімер Курыла, а на могілках па-беларуску прамаўляў др. Лявон Трусэвіч. На пахаваньні быў др. Б. Грабінскі з жонкай, а др. Б. Рагуля з Канады выказаў тэлефанічна спачуваньні жонцы Эвэліне, да якое зь Лёндану з Ангельшчыны прыбыла сваячка.*

*Пахаваны сьв. пам. Язэп Пазьняк на могільніку ў Галідэй-Лэйк-Эстэйтс у штаце Флярыда, дзе жыў ад 1972 году*[65].

### *Сьв. пам.* ***Вінцэнт Паланевіч***

*23 лютага 1989 г. у Флярыдзе, у выніку неспадзяванага сардэчнага прыпадку, адыйшоў на вечны супачынак, пра што з глыбокім сумам паведамляюць*

*Сям'я і крэўныя нябожчыка*[66].

### *Сьв. пам.* ***Аўген Пілецкі***

*Усіх родных і знаёмых паведамляем, што раптоўна, з Волі Ўсявышняга Бога, адыйшоў у вечнасьць Аўген Пілецкі.*

[65] Беларус. №366. Студзень 1989. С. 7.

[66] Беларус. №357. Люты 1989. С. 8.

*Радзіўся нябожчык 25-га жніўня 1920 году ў горадзе Клецку ў Беларусі.*

*Памёр 11-га траўня 1992 у Чыкага, ЗША. Пахаваны на магільніку Эльмвуд. У смутку пакінуў дзьве дачкі Таісу і Зою з сем'ямі, двух сыноў Ігара й Фёдара з сем'ямі, брата Лявона і сястру Ірэну з сем'ямі.*

*Няхай лёгкай будзе яму зямля Вашынгтона і няхай сьніцца яму Беларусь*[67].

*Сьв. пам.* ***Васіль Пунтус***

*народжаны 29 сакавіка 1920 году ў в. Асташкавічы на Гомельшчыне, беларускі патрыёт і добры чалавек, спонсар майго прыезду ў ЗША, перадчасна адыйшоў з гэтага сьвету 7 ліпеня 1989 г. у гор. Сыракузах у штаце Індыяна, з прычыны чаго выказваю найсардэчнейшыя спачуваньні сям'і нябожчыка і ягоным шматлікім прыяцелям*[68].

*Сьв. пам.* ***Васіль Пунтус***

*Сумная вестка аб сьмерці 7 ліпеня сёлета ў Сыракузах у штаце Індыяна на 69-м годзе жыцьця сьв. пам. Васіля Пунтуса была балючай для беларускага грамадзтва. Стойка змагаўся ён зь лютай хваробай рака да канца, ня трацячы нават гумару ў гутарках зь іншымі. На небасьхіле свайго жыцьця ў травені месяцы сёлета, прадчуваючы, што набліжаецца наканаваны канец, прасіў, каб напісаў пасьмяротнае слова.*

*Сьв. пам. Васіль Пунтус нарадзіўся 29 сакавіка 1920 году ў вёсцы Асташкавічы на Гомельшчыне. Меў скончаную 10-годку й два гады вайсковай школы.*

*На эміграцыі браў актыўны ўдзел у беларускім жыцьці. Быў адным з закладчыкаў беларускага праваслаўнага прыходу сьв. Юр'я ў 1959 годзе ў Чыкага, а таксама Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага ды настойліва падтрымваў ужываньне арыгінальнага назову Беларусі ў ангельскай мове.*

*Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Кацю, чацьвёра дзяцей, чацьвёра ўнукаў, а на Беларусі — чатырох сясьцёр, двух братоў і шмат пляменьнікаў і пляменьніц.*

---

[67] Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12. Подпіс: Сям'я.

[68] Беларус. №362. Верасень 1989. С. 5. Подпіс: Мікалай Клімюк.

*У панядзелак 10-га ліпеня ў праваслаўнай украінскай царкве ў Гошане (Індыяна) сербскі сьвятар адслужыў паніхіду. Прыгожа пяяў хор журлівыя хаўтурныя песьні. Сьвятар у прынагоднай казані па-ангельску гаварыў пра вартасьці хрысьціянскага жыцьця ды стойкасьць характару нябожчыка.*

*Вялікі цуг аўтамабіляў прыяцеляў сьв. пам. В. Пунтуса суправаджаў дамавіну да магільніка ў Сыракузах. Прыгожыя вянкі ад сям'і й прыяцеляў, а сярод іх і вялізны кошык кветак ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, ляжалі ля дамавіны.*

*Разьвітальнае слова пасьля малітвы сказаў па-беларуску др. Вітаўт Рамук, выказаўшы спачуваньні сям'і й сваякам памерлага. Прамоўца нагадаў выслоўе славутага нямецкага паэта Гетэ: „Толькі чалавек, які ўсё жыцьцё працаваў, мае права сказаць: „Я жыў!“. Сьв. пам. Васіль Пунтус аддана працаваў для беларускае справы. У часе свайго старшынства ў Беларускім Каардынацыйным Камітэце ад 1973 да 1983 году ён праявіў зацікаўленьне беларускай справай і сваю ахвярнасьць. Быў ён спагадлівым чалавекам і патрапіў зыйсьціся з кожным.*

*Сп-ня Рамук прамаўляла па-ангельску, выказаўшы спачуваньне сям'і ды падкрэсьліўшы высокія маральныя й нацыянальныя якасьці нябожчыка.*

*Разьвітаўшыся кіданьнем кветак на дамавіну, грамада паехала на памінальную пачостку, дзе прамаўляла сп-ня Гулевіч.*

*Вечная памяць шчыраму Беларусу Васілю Пунтусу*[69].

*Доктар Таццяна Руткоўская — пляменьніца,*

*Беларускі Студэнцкі Ансамбль у Любэне,*

*Уладыка Васіль, Сакратар Сьв. Сыноду Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы,*

*Старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі на Выгнаньні,*

*Цэнтраля Беларускіх Унівэрсытэцкіх арганізацыяў у Замежжы,*

*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва,*

*Згуртаваньне Беларусаў у Бэльгіі,*

*Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Бэльгіі*

*з глыбокім жалем паведамляюць, што* ***Мікола Равенскі****,*

*Кампазытар і дырыгент Беларускага Студэнцкага Ансамблю ў Любэне,*

[69] Беларус. №361. Жнівень 1989. С. 6. Подпіс: Др. Вітаўт Рамук.

*Б. Выкладчык Менскае Кансэрваторыі,*

*Сябра Рады Беларускае Народнае Рэспублікі,*

*Сябра Беларускага Інстытута Навукі й мастацтва,*

*Сябра Інтэрнацыянальнае Вольнае Акадэміі Навукі й Літаратуры,*

*народжаны ў в. Засулі (Беларусь) 6-га сьнежня 1886 г., памёр у Лювэне 9 сакавіка 1953 году, адбыўшы сьв. Споведзь і прыняўшы сьв. Прычасьце.*

*Паховіны адбыліся пасьля ўрачыстае паніхіды ў Доме Беларускіх Студэнтаў 19, пляц Гэрбэрта Гувэра ў Лювэне, у чацьвер 12-га сакавіка у 13:30 пап.*[70]

*Пасьля кароткае хваробы, на 82-м годзе жыцьця, адыйшоў на вечны супакой наш дарагі муж, бацька, дзед і прадзед*

*сьв. пам.* ***Пётра Ракуць***

*пакінуўшы ў суме жонку Ядзю, сыноў Валодзю й Колю, дачку Марусю, васьмёх унукаў і аднаго праўнука.*

*Нарадзіўся ён 5 кастрычніка 1907 г. у вёсцы Яруцічы Слонімскага павету, сын Васіля й Паўліны (Шастак) Ракуць. Памёр 19 сьнежня 1988 году*[71].

*Сьв. пам.*

*Прэзыдыюм Рады БНР зь вялікім сумам паведамляе беларускае грамадзтва аб перадчаснай сьмерці свайго дарагога сябры інж.* ***Лявона Рыдлеўскага****, доўгагадовага сакратара Прэзыдыюму Рады й сябры Рады БНР з 1936 году, былога міністра Працы Ураду БНР у 1948—1950 гг.*

*Паніхіда па Нябожчыку адбудзецца ў нядзелю, 15-га лістапада ў царкве Сьв. Тройцы, на 4-ай Іст вуліцы ў Нью Ёрку.*

*Вечная яму памяць*[72].

*Галоўная Управа Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў і камбатантаў із запраўдным жалем паведамляе аб прадчаснай сьмерці сябры Задзіночаньня, слуцкага паўстанца інж.* ***Лявона Рыдлеўскага****.*

[70] Беларус. №6 (30). 25 сакавіка 1953. С. 4.

[71] Беларус. №355. Студзень 1989. С. 7.

[72] Беларус. №20 (44). 7 лістапада 1953. С. 1. Подпіс: Прэзыдыюм Рады БНР.

*Вечная памяць няўтомнаму змагару за Незалежнасьць Беларусі[73]!*

*Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Вялікабрытаніі паведамляе з сумам аб сьмерці інж. **Лявона Рыдлеўскага**, заслужанага дзеяча беларускага адраджэнскага руху, сябры Рады БНР і сябры шматлікіх беларускіх і міжнародных арганізацыяў, якая наступіла пасьля цяжкой хваробы і пасьля прыняцьця Сьвятых Тайнаў дня 24 кастрычніка 1953 г. у шпіталі сьв. Каломба ў Лёндане.*

*Паховіны адбыліся ў панядзелак 2-га лістапада.*[74]

*24 кастрычніка 1953 г. памёр у Лёндане інж. **Лявон Рыдлеўскі**, народжаны 2.X.1903 г. у м. Ульянавіча, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, аб чым з глыбокім сумам паведамляе*

*Управа Інстытуту*[75].

*Сьв. пам. **Міхась Саўка***

*У панядзелак 10 верасьня г.г. у бруксэльскім шпіталі Бругмана адыйшоў на вечны супакой наш сябра й прыяцель Міхась Саўка.*

*Нарадзіўся Міхась 19 ліпеня 1927 году ў вёсцы Загор'е на Наваградчыне. У часе нямецкае акупацыі браў актыўны ўдзел у моладзёжным руху, належаў да Саюзу Беларускай Моладзі, у якім быў адным з кіраўнікоў. Эвакуяваўшыся ў палавіне 1944 году ў Нямеччыну, прабыў там да 1947 году, а тады паехаў на працу ў Бэльгію, якая пасьля вайны патрабавала шмат працоўных рук. Працаваў спачатку вуглякопам. Па некаторым часе, маючы вялікія мастацкія здольнасьці, пачаў наведваць вячорныя курсы ў мастацкай Акадэміі. У міжчасе, у 1948 годзе, арганізуецца пры Лювэнскім унівэрсытэце беларускае студэнцкае жыцьцё, паўстала Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў. Даведаўшыся аб гэтым, Міхась наладжвае лучнасьць і ў 1951 годзе залічваецца на факультэт археалёгіі й гісторыі мастацтва Лювэнскага ў-ту. Навуку скончыў у 1955 г. і, з тытулам магістра, уладзіўся на працу ў Каралеўскім Інстытуце Мастацкае Спадчыны. Інсты-*

---

[73] Беларус. №20 (44). 7 лістапада 1953. С. 4. Подпіс: Галоўная Управа Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў і Камбатантаў.

[74] Беларус. №20 (44). 7 лістапада 1953. С. 4.

[75] Беларус. №20 (44). 7 лістапада 1953. С. 4.

*тут быў падпарадкаваны Міністэрству культуры, каб працаваць у ім, трэба было бэльгійскае грамадзянства. Ня маючы яго, Міхась спачатку працуе як часовы рэстаўратар абразоў і статуяў, спэцыялізуецца ў рэстаўраваньні касьцёльных фрэскаў.*

*У 1963 г., дастаўшы грамадзянства, залічваецца ў склад сталых супрацоўнікаў Інстытуту, у 1969 г., пасьля адпаведных экзаменаў, займае становішча адміністрацыйнага сакратара, а ў 1982 г. — кіраўніка працаў (Chef des Travaux).*

*У галіне рэстаўрацыі, у якой ён працаваў аж да занядужаньня ў 1985 г., Міхась Саўка дасягнуў вялікіх удачаў, распрацаваў спэцыяльную тэхніку рэстаўраваньня, аб якой шмат публікаваў у прафэсійных часапісах. Прыйшло прызнаньне заслугаў: бэльгійскае Міністэрства Францускае Культуры на падставе прапановы спэцыяльнае камісіі, у склад якое ўваходзілі прафэсары розных бэльгійскіх унівэрсытэтаў, прызнала Міхасю тытул доктара навук і мастацтва. Гэткі тытул без публічнае абароны спэцыяльнае тэзы — вялікая рэдкасьць. Дзякуючы ягоным вялікім мастацкім здольнасьцям, ён быў пакліканы ў каралеўскі палац, дзе даваў каралеве практычныя лекцыі маляваньня.*

*На жаль, доктару Саўку не давялося папрацаваць да пэнсійнага веку, бо ў 1985 г. у выніку частковага паралічу страціў працаздольнасьць. Апошнія гады свайго жыцьця Міхась правёў часткова ў шпіталі, часткова ў доме для спараліжаваных.*

*Паніхіду па нябожчыку адслужыў а. Канавалаў у нядзелю 16 верасьня. На багаслужбу зьехаліся Беларусы Бэльгіі, было таксама троху суродзічаў зь Беларусі: два пляменьнікі др. Аляксея Арэшкі і жонка аднаго зь іх. Прыйшлі таксама знаёмыя Бэльгійцы, Міхасёвы знаёмыя.*

*Жонка пакойнага з дачкой Ірэнай запрасілі ўсіх на багаты пачастунак. Хоць у сумных абставінах, але ў вельмі цёплай сяброўскай атмасфэры адбылося гэтае наша спатканьне, падчас якога шмат успаміналі аб адышоўшым Міхасю. Апошняе ягонае жаданьне было, каб яго пахавалі ў Лёндане побач з сынам Маркам, які некалькі год таму трагічна памёр і там спачывае. Жаданьне гэта было споўнена: др. Іна з дачкой перавезьлі цела нябожчыка 23 верасьня ў Лёндан. Было выканана і іншае ягонае пажаданьне: замік кветак на магілу грошы былі перададзеныя а. Надсону на дапамогу ахвярам Чарнобыля.*

*На заканчэньне гэтага кароткага ўспаміну, дарагі сябра й прыяцель Міхась, жадаю Табе супакою разам з Тваім дарагім сынам на*

*далёкай лёнданскай зямельцы. Хай яна будзе пухам вам абодвум, а Беларусь, якую Ты так любіў і жадаў перад сьмерцю хоць раз яшчэ пабачыць, хай прыемна прадстаўляецца Табе ў Тваім вечным сьне*[76].

### *Сьв. пам.* ***Міхаіл Сільвановіч***
### *10.VII.1902—24.IV.1992*

*Сьв. пам. Міхаіл Сільвановіч нарадзіўся ў в. Цынцавічы Вялейскага павету. У сям'і яго быў брат і дзьве сястры. Праз жонку, сьв. пам. Вольгу, ён спароднены зь вялікім беларускім мастаком Нікадымам Сілівановічам. М. Сільвановіч быў чалавекам моцным духова й фізычна, быў вельмі працавітым. Прыкметы гэтыя, аднак, не заўсёды яму памагалі. Меў ён добрую гаспадарку ды займаўся гандлем. Цяжкія часы перажыла сям'я Сільвановічаў за савецкай уладай у пачатку саракавых гадоў, калі чатырох яго шваграў, таксама Сільвановічаў, вывезьлі ў Сібір. Не вязло Сільвановічу й за нямецкіх часоў, ён быў арыштаваны ў 1943-м годзе. У 1944-м годзе выехаў ён зь сям'ёй у Нямеччыну; жыў у лягерох, працаваў на чыгунцы.*

*Пасьля вайны ізноў лягеры, цяпер ужо „перамешчаных асобаў“. Міхаіл Сільвановіч актыўна ўдзельнічаў у стварэньні паасобных беларускіх групаў у гэтых лягерох. Нарэшце ён апынуўся з сям'ёю ў беларускім лягеры Розэнгайм. Тут Міхаіл улажыў шмат свайго высілку ў пабудову Царквы Божай Маці Жыровіцкай. Быў узнагароджаны Ўладыкам Васілём граматай за свае заслугі.*

*У 1950-м годзе сям'я Сільвановічаў выехала ў Злучаныя Штаты. Пасьля кароткага побыту ў Бостане, яны пераехалі ў 1951-м годзе ў Саўт-Рывэр, Нью Джэрзі. Тут Міхаіл з сям'ёю адразу актыўна ўключыўся ў беларускае царкоўнае й грамадзкае жыцьцё. Працы тут было шмат для жадаючых, а такім быў заўсёды Міхаіл. Парахвія Божай Маці Жыровіцкай заснавалася ў 1951-ым годзе; у 1950-м годзе быў куплены магільнік, у 1963-м годзе — Царква й парахвіяльны дом у Гайленд Парк. Трэба было аднаўляць будынкі. Працы хапала для ўсіх, але Міхаіл браў на сябе заўсёды больш за іншых. Прыпамінаюцца часы, калі праводзіўся рамонт царкоўнай салі, калі сын яго прывозіў яго ў царкву, едучы рана на працу ды забіраў яго дамоў, гадзін дзесяць пазьней, едучы з працы дамоў. Шмат злажыў цэнных ахвяраў для царквы:*

[76] Беларус. №374. Кастрычнік 1990. С. 8. Подпіс: Твой сябра й прыяцель Янка Ж[учка].

*ікону Сьв. Ольгі, ікону Сьв. Кірылы Тураўскага і яшчэ ня так даўно „рызы“ для настольнага Евангельля з Грэцыі. Міхаіл быў чалавекам высокага палёту; быў адным з тых, хто хацеў скупіць маёмасьць навокал царкоўнага цэнтру. На жаль, у гэтым пачынаньні не знайшлося дастаткова падтрымкі. Няхай памяць аб ім будзе вечнай*[77].

*Сьв. пам.* ***Леанід Сісой***

*Народжаны 10 чэрвеня 1909 году ў Бабруйску, адыйшоў на вечны супакой 13 кастрычніка 1989 году. У жалобе пакінуў жонку, дзьве дачкі, восем унукаў, дзьве праўнучкі. Паховіны былі зь беларускае каталіцкае царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага.*

*Сьпі, дарагі, — хай пухам будзе Табе амэрыканская зямля*[78].

*Сьв. пам.* ***Аляксандар Смаль***

*19-га сакавіка сёлета неспадзявана адыйшоў ад нас сьв. пам. Аляксандар Смаль. Выйшаў а пятай гадзіне ўвечары купіць газэту й на скрыжаваньні дарог яго ўдарыў аўтамабіль, спрычыняючы сьмерць.*

*Нябожчык пражыў 77 гадоў, пражыў іх дастойна й сумленна. А. Смаль быў яркім прыкладам беларускага інтэлігента, выхадца зь сялянскай гушчы. У даваеннай Польшчы сыну малазямельнага селяніна здабыць вышэйшую асьвету раўнялася цуду, а памерлы дасягнуў гэтую мэту, напорыста працуючы. Унівэрсытэцкая вучоба была перапыненая дзеля недахопу сродкаў, але ўсё-ж Смаль закончыў настаўніцкія курсы ў Вільні. Ад 1939 да 1944 году працаваў настаўнікам у роднай Наваградчыне. Выехаўшы ў Нямеччыну, у лягерох перасяленцаў таксама выкладаў беларускую мову ў гімназіі.*

*Ад травеня 1948 году жыў у Аўстраліі, і тут не пакінуў сваёй пэдагагічнай і грамадзкай дзейнасьці. Памерлы быў сябрам-заснавальнікам Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі й першым рэдактарам часапісу „Новае Жыцьцё“. На працягу многіх гадоў даваў гістарычныя даклады ў Беларускім клюбе.*

*Чалавек лагоднай натуры, ветлівага падыходу й пашаны да людзей, А. Смаль ня меў ворагаў. У жалобе і смутку пакінуў жонку Ізабэлю, дачку Марыю (др. хімічных навук), шваграў і швагерак зь сем'ямі і сотні прыяцеляў.*

[77] Беларус. №391. Чэрвень 1992. С. 8. Подпіс: В. Русак.

[78] Беларус. №364. Лістапад 1989. С. 8. Подпіс: Прыяцелі й знаёмыя.

*Няхай сьніцца Табе родная Наваградчына й лёгкай будзе аўстралійская зямля*[79].

*Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР з глыбокім сумам паведамляюць пра сьмерць у горадзе Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., у Злучаных Штатах*

*сьв. пам.* ***Аляксандара Стагановіча***

*былога заступніка Старшыні Рады БНР М. Абрамчыка, былога пасла ад Беларусаў у сойме міжваеннае Польшчы, шматгадовага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча, гарачага беларускага патрыёта, чалавека вялікай душы й сьветлага розуму.*

*Вечная яму памяць, а сям'і Нябожчыка найглыбейшыя спачуваньні*[80].

*Сьв. пам.* ***Зіна Станкевіч***

*Яшчэ адну цяжкую страту панесла ньюёрская беларуская калёнія: 13 лістапада 1988 г. на 78-м годзе жыцьця адыйшла ў вечнасьць сьветлай памяці Зіна Станкевіч, настаўніца беларускіх школаў на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, журналістка, супрацоўніца беларускіх газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, рэдактар дзіцячага часапісу „Каласкі“, які выдаваўся пры „Бацькаўшчыне“, і „Жаночай Старонкі“ пры „Беларусе“, актыўная грамадзкая працаўніца, сяброўка галоўнай управы БАЗА і старшыня жаноцкай арганізацыі.*

*Сьв. пам. Зіна Станкевіч нарадзілася 2 сьнежня 1909 г. у Магілёве, дзе ейны бацька Якуб Сініцын быў афіцэрам царскае арміі. У 1918 г. пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі сям'я Сініцыных перабралася ў Нясьвіж на радзіму маці пакойніцы, Марыі Батура.*

*Вучыцца с. п. Зіна пачала ў 1919 г. спачатку ў нясьвіжскай прыватнай расейскай гімназіі, а пасьля ейнай ліквідацыі перайшла ў дзяржаўную польскую гімназію, якую скончыла ў 1930 г. і паступіла на матэматычна-прыродаведны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1935 г. скончыла ўнівэрсытэт з тытулам магістра філязофіі ў галіне батанікі. Ейная дыплёмная праца „Сем'і расьлінаў на тарфяніках пад Нясьвіжам“ атрымала вельмі добрую ацэнку і была выдрукаваная ў прыродаведнай сэрыі працаў унівэрсытэту.*

---

[79] Беларус. №371. Чэрвень—ліпень 1990. С. 12. Подпіс: М.

[80] Беларус. №355. Студзень 1989. С. 7.

*Па сканчэньні вышэйшай асьветы нябожчыца працавала пэўны час асыстэнткай пры катэдры батанікі, а пасьля — настаўнісай у польскіх гімназіях у Нясьвіжы, Шчучыне ды ў Наваградку.*

*У 1939 г. выйшла замуж за др Станіслава Станкевіча. Сужэнства было ўдалае й для грамадзкай справы: др. Станкевіч ня змог-бы дасягнуць такіх вынікаў у сваёй грамадзкай працы без дапамогі жонкі.*

*Гады вайны нябожчыца працавала выкладчыцай у Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы.*

*У 1944 г. перад наступам савецкай арміі сям'я Станкевічаў перабралася ў Нямеччыну, дзе, па вайне ўжо, сьв. пам. Зіна працавала настаўнісай у гімназіі імя Янкі Купалы, а таксама дапамагала мужу пры выдаваньні газэты „Бацькаўшчына“.*

*Ад 1952 г. яна рэдагуе месячны дадатак для дзяцей „Каласкі“. Часапіс гэты, багата ілюстраваны, цікавы зьместам, быў лучнікам беларускай дзятвы ў розных краінах Захаду. У 1957 г. у выдавецтве „Бацькаўшчына“ выйшаў, дзякуючы стараньням і рэдакцыйнай працы нябожчыцы, зборнік беларускіх казак, які меў служыць дапаможнікам пры вывучэньні беларускай мовы на чужыне.*

*Пераехаўшы настала ў ЗША ў 1962 г., нябожчыца ўлучаецца ў арганізацыйнае жыцьцё беларускай калёніі ў Нью Ёрку, выконваючы розныя функцыі ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, беларускай сыботняй школе для дзяцей, выконвае функцыі старшыні жаноцкай арганізацыі ды шмат дапамагае мужу пры выдаваньні „Беларуса“, рэдагуе „Жаночую Старонку“ гэтай газэты.*

*Сваёй адданай і бязьінтэрэсоўнай працай на грамадзкай ніве нябожчыца заслужыла ўдзячнасьць нашчадкаў і вечную сярод іх памяць.*[81]

### *Сьв. пам.* ***Кастусь Станкевіч***
### *(1.X.1925—27.XI.1989)*

*Адыйшоў на вечны супакой, пакінуўшы ў смутку жонку Эмілію, дачку Хрысьціну, сына Міхася і шасьцёра ўнукаў.*

*Нябожчык нарадзіўся ў мястэчку Турэц Карэліцкага раёну, меў амаль сярэднюю асьвету, браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім і царкоўным жыцьці.*

[81] Беларус. №355. Студзень 1989. С. 7. Подпіс: Антон Шукелайць.

*Сьмерць Кастуся Станкевіча — незаменная страта для царквы, парафіі й беларускай грамады ў Адэляйдзе. Абрад паховін выканаў а. Міхась, нябожчык пахаваны на магільніку Чэнтальгайм у Адэляйдзе.*

*З глыбіні сэрца выказваем наша найшчырэйшае спачуваньне асірацелай сям'і нябожчыка: жонцы, дзецям і ўнукам.*

*Вечная табе памяць, дарагі Кастусь, хай будзе Табе пухам Аўстралійская зямелька. Спачывай там, дзе ўсе праведныя спачываюць*[82].

*Сьв. пам.* ***Кастусь Станкевіч***

*Сьв. пам. Кастусь Станкевіч нарадзіўся ў 1925 годзе ў мястэчку Турэц Карэліцкага раёну ў сям'і селяніна. Бацькі ўсімі сіламі стараліся даць здольнаму хлапчуку адукацыю, але здабыць поўную асьвету перашкодзілі ваенныя падзеі, а ў 1943 г. Кастуся вывезьлі на працу ў Нямеччыну як „остарбайтэра“.*

*Канец вайны застаў яго ў Баварыі, дзе ён жыў пэўны час у ДП-лягеры ў Легендорфе. У 1946 г. у Рэгенсбургу Кастусь спаткаў сваю нарачоную Эмілію, зь якой і ажаніўся ў наступным годзе. У 1949 г. прыехаў у Аўстралію ў г. Адэляйду, дзе далучыўся да беларускае грамады, што была ў стадыі арганізацыі.*

*Працаваў на розных фірмах звычайным рабочым. Але ўвесь час мроіў здабыць спэцыяльнасьць. Пайшоў у школу радыё- і тэлемэханікі. Спачатку бязь веданьня ангельскае мовы было цяжка, але моцнае жаданьне памагло перамагчы цяжкасьці, дастаў дыплём майстра радыё й тэлебачаньня. Пэўны час працаваў у фірме Філіпса, а пасьля адчыніў сваю майстэрню й магазын, дзе займаўся рамонтам ды прадаваў радыёпрыймальнікі й тэлекамэры. Быў кваліфікаваным спэцыялістам, і яго ведаў амаль кожны жыхар ягонага раёну.*

*Незважаючы на вялікую занятасьць, цікавіўся беларускімі справамі, грамада яго вабіла, і ён ахвотна дапамагаў у арганізацыі й будове беларускае царквы. Ад 1966 г. займаў розныя пасады ў парафіяльнай радзе: быў скарбнікам і сябрам рады, а ў 1974 г. — старшынём. На гэтым становішчы прабыў 14 гадоў. Зь ягонае ініцыятывы і пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам пабудавалася прыцаркоўная заля, якая цяпер служыць цэнтрам беларускай грамады. Таксама паводля ягонай канструкцыі і пры асабістым удзеле былі пабудаваныя чаты-*

[82] Беларус. №366. Студзень 1989. С. 7. Подпіс: Парафія Сьв. Ап. Пятра і Паўла, Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі.

*ры дадатковыя купалы, што так упрыгожваюць вонкавы выгляд нашай царквы.*

*Нябожчык быў аматарам фатаграфіі й выдатным мастаком. Ён намаляваў надзвычайныя партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа, што красуюцца сёньня на сьценах нашай залі. Пакойны заўсёды ў крытычным мамэньце быў гатовы дапамагчы. Так было ў 1984 г., калі ён на 4-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне дабраахвотна ўзяў на сябе абавязкі старшыні Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі, прабыўшы на гэтым становішчы роўна год. На пачатку 1987 г. узяў на сябе функцыю псаломшчыка. А неўзабаве пасьля гэтага, калі стаўся старшынём парафіяльнай рады, захварэў на сэрца („грудная жаба“). Меў цяжкую апэрацыю, але й далей працаваў на карысьць царквы, прабыўшы на становішчы старшыні парафіяльнай рады да канца 1988 году.*

*У жніўні 1989 г. на перавыбарчым сходзе Аб’еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі ўзяў дадатковую працу сакратара Аб’еднаньня. На гэтым становішчы сьмерць і забрала яго ад нас 27 лістапада 1989 году. Нябожчык да апошняй хвіліны свайго жыцьця свае сілы, свой вольны час аддаваў на царкоўна-грамадзкія справы. Як беларускі патрыёт пакойны заслужыў на вечную пашану сярод парафіянаў і сяброў нашае грамады.*

*Дык вечная памяць Табе, дарагі сябра Кастусь, спачывай пад Курганам Гэрояў. Хай будзе пухам Табе Аўстралійская зямелька*[83].

### *Др.* ***Станіслаў Станкевіч***

*„Як і вялізарная колькасьць маіх суродзічаў на Бацькаўшчыне, я ня больш і ня менш як глыбака перакананы беларускі патрыёт і, як гэткі, сьмяротны вораг штучна творанага гэтак званага савецкага патрыятызму, што на самой рэчы не становіць сабою нічога іншага, як выяў традыцыйнага расейскага нацыяналізму й каляніялізму, адно захварбаванага ў вабставінах Беларусі некаторымі лякальнымі беларускімі рысамі“. Станіслаў Станкевіч. Мой адказ ЦК КПБ. „Беларус“, №137, верасень 1968 г.*

*Шостага лістапада 1980 году памёр неспадзявана ў сьне ў сваім ньюёркаўскім памешканьні др. Станіслаў Станкевіч, выдатны бела-*

[83] Беларус. №366. Студзень 1989. С. 7. Подпіс: Янка Ролсан.

*рускі дзеяч апошняга паўстагодзьдзя, галоўны рэдактар газэты „Беларус“.*

*Др. Ст. Станкевіч нарадзіўся 23-га лютага 1907 году ў Арлянятах (па-старому Урлянятах) каля Барунаў (Крэўскае воласьці, Ашмянскага павету Віленскае губэрні). Бацькі нябожчыка Язэп і Эмілья (з дому Станкевічанка, родная сястра др. Янкі Станкевіча) працавалі на собскай гаспадарцы.*

*Станіслаў Станкевіч вучыўся ў Віленскай Беларускай гімназіі. І толькі на апошні перад матурай год пераехаў у Вялейскую дзяржаўную польскую гімназію ймя Г. Сянкевіча, дзе дырэктарам быў Беларус Станіслаў Любіч-Маеўскі, і там атрымаў матуру ў 1927 годзе (Віленская Беларуская гімназія ў гэным часе ня мела яшчэ дзяржаўных правоў і не давала магчымасьцяў па ейным заканчэньні залічацца на ўнівэрсытэт).*

*Вышэйшую асьвету здабываў будучы літаратуравед Станіслаў Станкевіч на гуманістычным факультэце Віленскага польскага ўнівэрсытэту ім. С. Баторага, які й скончыў у 1933 г. з тытулам магістра філязофіі ў галіне польскае й славянскае філялёгіі (тэма магістэрскае працы „Żywioł białoruski w utworach Elizy Orzeszkowej“).*

*Скончыўшы ўнівэрсытэт, мгр. Станіслаў Станкевіч заняўся далейшым вывучэньнем польскае рамантычнае літаратуры на Беларусі. У 1936 годзе выйшла друкам вялікая ягоная праца ў польскай мове „Perwiastki białoruskie w polskiej poezji romantycznej“ Część I. Do roku 1830“. За яе, пасьля зданьня экзаменаў увесну 1936 г., Віленскі ўнівэрсытэт прызнаў Станіславу Станкевічу тытул доктара філязофіі ў галіне польскае й славянскае літаратуры.*

*У студэнцкія гады малады Станіслаў Станкевіч выявіў сябе на арганізацыйнай і журналістычнай ніве. Ён быў актыўным сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацыяў: Беларускага Студэнцкага Саюзу й рэдактарам ягонага органу „Студэнцкая Думка“ ды адным з заснавальнікаў і старшынём Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы, а таксама лектарам з нагоды розных юбілеяў і ўрачыстасьцяў. У гэтым самым часе ён супрацоўнічаў у выдаваных у Вільні літаратурных часапісах „Нёман“, „Калосьсе“ й „Маладая Беларусь“.*

*У 1937 годзе др. Ст. Станкевіч дастаў стыпэндыю на вывучэньне паўдзённа-славянскіх моваў і літаратураў ды цэлы школьны 1937/38 год прабыў у Югаславіі й Баўгарыі. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, ён працаваў настаўнікам Дзісенскай польскай гімназіі, а пасьля*

*далучэньня Заходняе Беларусі да БССР у 1939 годзе — выкладчыкам Беларускага Настаўніцкага Інстытуту ў Наваградку.*

*Другая сусьветная вайна й нямецкая акупацыя Беларусі стварылі некаторыя магчымасьці працы на карысьць беларускае справы: для аднаўленьня беларускае адміністрацыі, адраджэньня рэлігійнага жыцьця, арганізацыі школьніцтва, дзейнасьці вайсковых і грамадзкіх арганізацыяў. І др. Ст. Станкевіч пакідае навуковую й пэдагагічную працу ды пераходзіць у адміністрасыю: спачатку на становішча старшыні Барысаўскае акругі ў зоне нямецкае вайсковае адміністрацыі, а пасьля ўтварэньня Беларускае Цэнтральнае Рады — намесьніка Прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. На гэтых становішчах гэнай цяжкой ваеннай парой Нябожчык выдатна спраўляўся з вымогамі адміністратара, годна рэпрэзэнтаваў беларускае імя, здабываючы прызнаньне й пашану мясцовага беларускага жыхарства й чужынцаў.*

*Вось для прыкладу. На пісьмовым стале д-ра Ст. Станкевіча ляжыць кніжка сьветчаньняў і ўспамінаў Габрэяў, што перажылі зьнішчэньні іх на Беларусі за гітлерскімі часамі. Згадваецца ў ёй таксама Барысаў і др. Ст. Станкевіч, які, на просьбу гэбрэйскае дэлегацыі, рабіў захады перад нямецкім генэралам, каб адкласьці ліквідацыю гета, аргумэнтуючы ляяльнасьцяй гэбрэйскага жыхарства да ўладаў ды ўзорным выконваньнем ускладзеных на іх абавязкаў. А калі стараньні не далі пажаданых вынікаў, др. Станкевіч, даведаўшыся пра нямецкія пляны ліквідацыі гета, загадзя паведаміў аб гэтым гэбрэйскі актыў, а сам выехаў з Барысава.*

*Другі прыклад. На просьбу й паруку д-ра Станкевіча быў звольнены ад пакараньня ведамы беларускі пісьменьнік Міхась Клімковіч, старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР, якога Немцы захапілі ў сутычцы з бальшавіцкімі партызанамі на Барысаўшчыне. М. Клімковіч нейкі час працаваў для менскага Беларускага Тэатру, а з набліжэньнем Чырвонай арміі падаўся йзноў у партызаны. Па вайне М. Клімковіч напісаў тэкст гімну БССР.*

*Аб шмат якіх падобных прыкладах дапамогі часта згадваў Нябожчык.*

*У выніку далейшых ваенных падзеяў улетку 1944 г. др. Ст. Станкевіч быў прымушаны назаўсёды пакінуць Беларусь і нястомна працаваў на эміграцыі для вызваленьня роднага краю.*

*Выехаўшы зь Беларусі, ён спачатку спыняецца ў Бэрліне, дзе ад палавіны 1944-га да пачатку 1945-га году рэдагуе газэту „Раніца“, а пасьля перабраўся ў Баварыю. Там і дачакаўся канца вайны.*

*Амэрыканская зона акупацыі Нямеччыны, у тым ліку й Баварыя, сталася прыпынкам тысячаў беларускіх эмігрантаў і тэрэнам бурнае шматбаковае дзейнасьці. Др. Ст. Станкевіч супрацоўнічае з Прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам у справе аднаўленьня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, бярэ ўдзел у працы Беларускага Нацыянальнага Цэнтру й Беларускага Нацыянальнага Камітэту — цэнтральнай рэпрэзэнтацыі беларускае эміграцыі ў Нямеччыне, рэдагуе часапіс „Рух“, ад 1948-га да выезду ў Амэрыку ў 1962 годзе рэдагуе газэту „Бацькаўшчына“. Быў ён арганізатарам філіі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нямеччыне, рэдактарам тых нумароў органу БІНіМ „Запісы“, якія выходзілі ў Нямеччыне. Працаваў таксама ад 1946 году настаўнікам Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгэнзбурзе, а пасьля ў Міхэльсдорфе, выкладаючы там беларускую літаратуру, а скончыўшы настаўніцкі курс ангельскае мовы пры Саюзе Цэркваў у Ульме, выкладае пачаткі ангельскае мовы для беларускіх жыхароў перасяленскага лягеру ў Родзэнгайме.*

*У заснаваным у Мюнхэне Інстытуце вывучэньня СССР выконваў функцыі навуковага сакратара, віцэ-старшыні й старшыні Навуковай Рады Інстытуту, рэдактара „Беларускага Зборніка“ па-ангельску й па-беларуску ды беларусаведных манаграфіяў Інстытуту.*

*У 1962 годзе др Ст. Станкевіч пераехаў да сям’і ў ЗША й пасяліўся настала ў Нью Ёрку, увайшоў адразу-ж у працу беларускае грамады. Улетку 1963 году быў абраны за старшыню галоўнае ўправы БАЗА і ў канцы гэнага году пераняў рэдактарства газэты „Беларус“, якой запэўніў сваёй адданай і бязьінтэрэсоўнай працай незалежную матар’яльную базу ды рэгулярны выхад.*

*Ад часу пераезду ў Амэрыку й блізу да мамэнту сьмерці Нябожчык быў сталым супрацоўнікам Беларускае сэкцыі радыё „Свабода“, аўтарам перадачаў на тэмы беларускае літаратуры й культуры, у выніку чаго стаўся аб’ектам бязупынных атакаў на яго з боку партыйнага савецкага друку й самога ЦК кампартыі Беларусі (гл. Ст. Станкевіч. Мой адказ ЦК КПБ, „Беларус“, №137, верасень 1968 г.).*

*У гэтым часе др. Ст. Станкевіч напісаў таксама дзьве літаратураведныя працы: „Беларуская падсавецкая літаратура першае палавіны 1960-ых гадоў“, што выйшла асобнай кнігай у 1967 годзе, ды „Янка Купала. На 100-я ўгодкі ад нараджэньня“, што выйдзе з друку ў 1981 годзе.*

*Усю гэтую валатоўскую працу др. Станіслаў Станкевіч здолеў зрабіць ня толькі дзякуючы сваім асабістым якасьцям і здольнасьцям, але й дзякуючы тэй дбайлівай апецы й спрыяльнай атмасфэры, якую забясьпечылі яму жонка Зінаіда, ведамая беларуская дзячка, і дачка Раіса, якая сталася годнай прадаўжальніцай сямейнае традыцыі ў працы на грамадзкай і журналістычнай ніве.*

*У васобе сьветлай памяці д-ра Станіслава Станкевіча адыйшоў у вечнасьць беларускі дзеяч шырокіх зацікаўленьняў, нязвычайнае працавітасьці, які жыў працай для дабра Беларускага Народу, ды якога нялёгка будзе замяніць у дзейнасьці беларускае эміграцыі*[84].

### *Сьв. пам.* ***Васіль Стома-Сініца***

*Нарадзіўся 4-га сакавіка 1911 году ў мястэчку Лужкі, Дзісьненскага павету, з бацькоў Івана і Сьцефаніды Стома.*

*Скончыў сяміклясавую школу ў Лужках. У далейшай навуцы перашкодзіла тое, што ён скалечыў нагу і ня мог нармальна наведваць школу. Мэдыцына ў гэным часе не стаяла высака, а да гэтага яшчэ вайна, так што ён быў вымушаны некалькі гадоў заставацца ў ложку. Але гэта не перашкодзіла яму цікавіцца друкаваным словам. Ён чытаў, што толькі мог дастаць, ня гледзячы, у якой мове. Прыносілі яму кніжкі з бібліятэкаў, публічных і прыватных, а да гэтага настаўнікі дабраахвотна памагалі пашыраць ягоныя веды. Меў добры голас і стараўся не адставаць ад другіх.*

*Калі пачаў трошкі хадзіць, зацікавіўся беларускімі арганізацыямі (нелегальнымі). Скончыў польскую школу, але з малых гадоў усе яго звалі „беларусам“.*

*Прыехаў у ЗША ў 1949 годзе. Удзельнічаў у заснаваньні Аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзі ў 1950 годзе — быў сакратаром, а пазьней старшынёю Аддзелу. Быў адным з заснавальнікаў Парахвіі Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Брансьвіку ў 1951 годзе ды яе першым скарбнікам. Быў гэтаксама старшынём Сэктару Рады БНР.*

*Васіль Стома быў усячасна актыўным у жыцьці асяродку. Працаваў у суботняй беларускай школцы, шмат аддаваў часу моладзі — ладзіў зь імі п’ескі, пастаноўкі.*

*Шырака супрацоўнічаў у беларускім эміграцкім друку: газэце „Беларус“, „Беларускі Сьвет“ і іншых выданьнях.*

---

[84] Беларус. №283—284. Лістапад—сьнежань 1980. С. 1, 3. Подпіс: Антон Шукелайць.

*Памёр сьв. пам. Васіль Стома 31-га траўня 1992 году. Пахаваны на беларускім магільніку ў Іст-Брансьвіку.*

*Сьпі, працаўнік і змагар*[85]*!*

*Сьвятой памяці **Павал Сьвірыд**, ведамы беларускі юрысты, пасьля доўгай хваробы й цяжкой апэрацыі, памёр у шпіталі ў Равэнзбургу (Француская зона) 1-га лістапада сёлета, аб чым толькі цяпер дайшла да нас гэтая сумная вестка.*

*Нябожчык нарадзіўся 15 кастрычніка 1886 г., на Бацькаўшчыне доўгі час працаваў адвакатам у Наваградку, а потым прэзыдэнтам Акруговага Суду ў Баранавічах, адначасна аддаючы свае вольныя хвіліны й беларускай грамадзкай працы*[86].

### *Сьв. пам.* ***Мікола Субач***

*21 верасьня 1990 г. памёр у Мэльбурне ў Аўстраліі сьв. пам. Мікола Субач, пакінуўшы ў жалобе двух сыноў зь сем'ямі. Вельмі ўрачыстыя паховіны адбыліся 26 верасьня, была амаль поўная царква вернікаў. Багаслужбу і акт пахаваньня выканаў а. А. Кулакоўскі. Пражыўшы 85 гадоў, нябожчык спачыў на могільніку Фокнэр побач пакойнай жонкі.*

*Вечная памяць*[87].

### *Сьв. пам.* ***Аляксандр Сухаверка***

*3-га ліпеня 1992 году памёр добры парафіянін Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Аляксандр Сухаверка.*

*Нарадзіўся 22-га верасьня 1931 году ў мястэчку Бялынічы Магілёўскай вобласьці.*

*Заставіў у жалобе жонку Зіну і сына Анатоля. Пахаваны быў настаяцелем Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы а. Міхасём Бурносам на магілках Дадліпарк у Адэляйдзе.*

*Парафіяльная Рада выказвае глыбокія спачуваньні жонцы Зіне і сыну Анатолю.*

*Вечная памяць табе, дарагі дружа!*

*Няхай будзе табе лёгкая аўстралійская зямля*[88].

---

[85] Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12. Подпіс: Сябры.

[86] Бацькаўшчына. №39 (42). 12 сьнежня 1948. С. 3.

[87] Беларус. №374. Кастрычнік 1990. С. 8. Подпіс: М. Н.

[88] Беларус. №393. Верасень 1992. С. 8. Подпіс: Царкоўная Управа.

*Съв. пам.* ***Ян Сяўковіч***

*Народжаны ў пасёлку Хажоўшчына, Баранавіцкай акругі 1 красавіка 1920 г. Памёр 3-га ліпеня 1922 г. Пакойны быў актыўным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ад самага яго заснаваньня. Пахаваны на Гуннэрсбуры могільніку. Глыбокія спачуваньні дачкам Ірыне, Джэніфэр і іх сем'ям выказвае Галоўная Управа ЗБВБ*[89].

*Съв. пам.* ***Ксеня Тумаш***

*адыйшла на вечны супачын у Нью Ёрку 25 верасьня 1989 году, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць і сям'і др Вітаўта Тумаша найшчырэйшае спачуваньне выказваюць*

*Сябры ўправаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва,*
*Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*й рэдкалегіі газэты „Беларус“*[90].

*Памяці* ***Ксені Грыгарчук-Тумаш***
*(5.VIII.1913—25.IX.1989)*

*Памерла Ксеня Грыгарчук, палеская кагарка з-над ракі Лясной. Назваў яе так у Вільні недзе ў палове 30-х гадоў студэнт мэдыцыны, пазьнейшы ейны муж і бацька ейных трох дзяцей Вітаўт Тумаш. Чаму кагарка? Ксеніны ініцыялы: К. Г. — Ксеня Грыгарчук. Кагаркамі называў Максім Танк нарачанскіх кнігавак. І Ксеня была тады студэнткай мэдыцыны Віленскага Ўнівэрсытэту, і, як Вітаўт Тумаш, — сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.*

*Ды пакуль трапіць у Вільню, Ксеня Грыгарчук, родам зь Берасьцейшчыны, вёскі Стойлы, вучылася й закончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах. У тым часе, дзякуючы блаславёным уплывам беларускае дзеячкі Кацярыны Стаўбнік, даволі шмат моладзі з Пружаншчыны вучылася ў Вільні ў Беларускай гімназіі, а пасьля на Віленскім Унівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры, і належала да Беларускага Студэнцкага Саюзу. І гэтак, Ксеня разам са сваёй сяброўкай Валяй Жукоўскай, а пазьней і аўтаркай гэтых радкоў, па заканчэньні Пружанскай гімназіі паехалі ў Вільню на ўнівэрсытэт. Ксеня паступала на мэдыцыну, і ёй удалося за першым разам здаць*

[89] Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12.

[90] Беларус. №362. Верасень 1989. С. 5.

*конкурсны ўступны экзамен. Было гэта не абы-якім дасягненьнем. Шмат хто, ня здаўшы першы раз на мэдыцыну, ішоў на хімію, каб за год ізноў прабаваць трапіць на мэдыцыну.*

*Віленскія часы, а ў іх і сьветлай памяці Ксеня Тумаш, успамінаюцца сяньня як рамантычная казка. Заўсёды неяк сонечна, чароўна было: „'у Саюзе на Завальнай' ... назавем паэму гэту. Старшыня ў шахматы грае, скарбнік 'дай, — крычыць, — манэту'...".*

*У Саюзе на Завальнай... І цяпер чую вясёлы й такі характэрны сьмех Ксені... У Пружанскай гімназіі Ксенька, як яе звалі, нічым асаблівым, здавалася, не адзначалася, а ў Вільні пасьля такіх пасьпяховых экзаменаў, удачаў у навуцы расьцьвіла, як кветка-прыгажуня. Вясёлая, праменная, цешылася папулярнасьцяй у калегаў палеская Ка-Гарка.*

*Улетку едзем да Ксені на раку Лясную. Стойлы, вёска, дзе жыла Ксеня, мо таму, што ў лесе, выдавалася нам нязвычайнай, таемнай. Папалуднаваўшы ўсе, выходзім на раку. „Замкні-ж дзьверы, Ксеня", напамінаем. „У нас не замыкаюць, нат няма замкоў", быў адказ. „Бо ў нас ня кралі", як кажа Ларыса Геніюш. На Лясной сядаем у пласкадонкі. І ня вёсламі, а доўгімі каламі, упіраючыся аб дно ракі, плывем уперад. Павучае й перасьцерагае перад небясьпекай нас Ксеня. Перасьцярогі не памаглі. І не агледзіліся, як суседняя лодка скалыхнулася, і адна з нас апынулася пад вадой... Ды прыгода закончылася шчасьліва, і Лясная, зялёны луг, жытні палетак, і ты, Ксеня, як сонечны ўспамін, застанецеся ў памяці назаўсёды.*

*Перад самай вайной адбыўся зьлёт беларускіх студэнтаў на Палесьсі, і з намі ізноў была Ксеня.*

*Пачалася вайна. Ужо на эміграцыі Ксеня выходзіць замуж за др. Вітаўта Тумаша. У Бэрліне яна працягвае вывучаць мэдыцыну, а пазьней і гадуе дачку Яру. Зь Ярай на руках, прытуліўшы яе як найбольшы скарб да грудзёў, у часе налёту бяжыць у сховішчы ад бомбаў. Па вайне сям'я Тумашаў — у беларускім лягеры Ватэнштаце, што ў Ангельскай зоне Нямеччыны. Др. Вітаўт працуе лекарам, а Ксеня гадуе Яру й малога сынка Вітаўта. Вайна й малыя дзеці перашкодзілі ёй закончыць мэдыцыну, а фактычна здаць апошнія экзамены, каб атрымаць дыплём доктара мэдыцыны.*

*Апошні этап жыцьця Ксені Тумаш у Нью Ёрку. Тут яна ўзгадавала яшчэ адну дачку, Галіну. Брала ўдзел у беларускім жыцьці, займалася мастацтвам — малявала. Экспанавала свае працы на выстаў-*

*ках беларускіх мастакоў у Нью Ёрку і Нью Джэрзы. Ценем пала хвароба на апошнія гады калярытнага Ксенінага жыцьця, што абарвалася 25 верасьня 1989 году ў Нью Ёрку.*

*Астанкі Ксені Тумаш спачываюць на беларускім могільніку Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, а дух Яе... можа, над ракой Лясной, дзе ка-гаркі пяюць сваё адвечнае Ка-Га, Ка-Га, Ксеня Грыгарчук, Ксеня Тумаш, вечная табе памяць!*

*Сьветлая і вечная Табе памяць, Сяброўка раньніх дзён, Сяброўка маладосьці*[91]*!*

### *Сьв. пам.* ***Часлаў Ханяўка***

*2-га ліпеня гг. адыйшоў у лепшы й спакайнейшы сьвет сьв. пам. Часлаў Ханяўка, гарачы патрыёт свайго народу, вялікай душы чалавек.*

*Нябожчык нарадзіўся 26 травеня 1909 г. у Рызе, дзе ягоны бацька працаваў на чыгунцы. Маці Часлава Галена паходзіла з дому Карэнькаў. Па лініі маці нябожчык даводзіўся дваюрадным братам б. Старшыні Рады БНР др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу.*

*Хутка па рэвалюцыі 1917 году сям'я Ханяўкаў вярнулася ў родны Будслаў, дзе Часлаў пачаў навуку ў пачатковай школе, аднак праз пару год бацькі адправілі яго на навуку ў Вільню, дзе ён скончыў Віленскую Беларускую Гімназію і агранамічны факультэт Віленскага Ўнівэрсытэту з тытулам інжынера аграноміі. У часе навукі ён быў дзейны ў беларускіх студэнцкіх арганізацыях: Беларускім Студэнцкім Саюзе і карпарацыі „Скарынія". І напэўна з гэтае прычыны па заканчэньні навукі ён меў труднасьці з атрыманьнем працы, бо тагачасны польскі ўрад ня мог яму дараваць ягонае беларускасьці.*

*Падзеі другое сусьветнае вайны закінулі Часлава Ханяўку на тэрыторыю тагачаснага Гэнэральнага Губэрнатарства, дзе ён адразу ўключыўся ў працу варшаўскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, а пазьней займаўся дапамогаю Беларусам, якія апынуліся ў нямецкім палоне. Калі з пачаткам нямецка-савецкае вайны гэтая акцыя Немцамі была спыненая, ён ізноў вярнуўся да працы ў БНК, дзе працаваў аж да сярэдзіны 1944 году.*

*Па сканчэньні вайны Часлаў Ханяўка, ужо з жонкай Марыяй (з дому Паўлоўская) і дачушкай Рагнедай, апынуўся разам з тысячамі*

[91] Беларус. №363. Кастрычнік 1989. С. 5. Подпіс: Валя і Раіса Жукоўскія.

*іншых у лягерох для ўцекачоў у амэрыканскай зоне Нямеччыны. Ён і тутака не сядзеў, злажыўшы рукі, і сьпярша ў ДП лягеры Кассэль, а пазьней у Мэнхэгоф вёў грамадзкую працу. У лягеры Мэнхэгоф выключна ягонымі стараньнямі была адчыненая беларуская школа, якая праіснавала аж да пераезду беларускай групы ў іншыя лягеры.*

*Апынуўшыся на пачатку 50-х гадоў у ЗША, а дакладней у Саўт-Рывэры, Н.-Дж., нябожчык узяўся за працу, якую яшчэ й сёньня добра памятае старэйшае пакаленьне. Рэч у тым, што яшчэ перад выездам за акіян ён быў даволі добра апанаваўшы ангельскую мову, тады як мы, за малымі хіба вынятками, чуліся ў гэтай галіне бездапаможнымі. Дык вось гэнай парой па дапамогу да „Чэся“ ў ягоную гасподу на Ўайтгэд Эвэню ішлі ўсе, а ён яе даваў, нічога не жадаючы ўзамен.*

*А хто быў ініцыятарам, а пазьней колькіразовым старшынём, сакратаром і скарбнікам аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, або хто дапамагаў аформіць куплю гэтага „лапіка“ зямлі ў Іст-Брансьвіку, як мы звыклі называць свой могільнік, на якім ён лёг на вечны адпачынак? Усё той-жа Чэсь.*

*Ад доўгіх год зьняможаны, але не пераможаны страшной хваробай, нябожчык да апошніх тыдняў перад сьмерцяй спрабаваў давесьці да канца свой намер: закончыць „Слоўнік моўных асаблівасьцяў Вялейшчыны й Браслаўшчыны“.*

*Сьв. пам. Часлаў Ханяўка асіраціў жонку, дачку, унука й шматлікую грамаду прыяцеляў, якія змаглі зь ім разьвітацца ў пахавальным бюро, у каталіцкім касьцёле Сьв. Язэпа ды ў канцы на „лапіку беларускай зямлі“ ў Іст-Брансьвіку.*

*Сьпі спакойна, Дарагі Чэсь, і няхай табе сьніцца далёкая Беларусь, верным сынам якое ты быў да канца*[92].

### *Сьв. пам.* ***Уладзімер Хмель***

*13-га ліпеня 1992 году пасьля цяжкой хваробы адыйшоў у вечнасьць Уладзімер Хмель, пражыўшы 73 гады. Памёр на парозе свайго дому.*

*Паходзіў Валодзя Хмель з вёскі Бярозавец Карэліцкага раёну ў Наваградчыне.*

*Пратаерэй а. Сяргей выканаў адпяваньне ў Пахавальным доме з дапамогаю пеўчых. Паховіны адбыліся 16-га ліпеня на сямейным учас-*

[92] Беларус. №349. Ліпень 1988. С. 7. Подпіс: Твой прыяцель В. С.

*тку Элмуд Парк могілкаў у Чыкага. Праводзілі нябожчыка Уладзімера а. Сяргей, родныя й прыяцелі.*

*Уладзімер Хмель быў актыўным беларусам, браў чынны ўдзел у адраджэньні свае роднае Бацькаўшчыны Беларусі. Любіў свае беларускія песьні і часта пяяў іх.*

*Нябожчык пакінуў у жалю і смутку родных: жонку Анну, дачку Нэлю з мужам Ангелё з сынам Юрыям і дачку Аналі Наталю з мужам Ленс і трое праўнукаў; сястру Людмілу з мужам Пётрам і з сынам Барысам Негода, сястру Веру Крэзол, сына Івана і жонку Тоні і дачку Эву Крэзол, радню ў Беларусі ды прыяцеляў і знаёмых.*

*Сьпі спакойным сном, дарагі муж, дарагі браток, бацька, дзед і прадзед. Хай табе сьніцца родная зямелька Бацькаўшчыны Беларусі, а зямля вольнай Амэрыкі няхай будзе табе пухам.*

*Памяць па табе застанецца навекі ў нашых сэрцах*[93].

*Да нас дайшла сумная вестка, што 16 лістапада сёлета памёр у Чыкага выдатны змагар за дзяржаўную незалежнасьць Беларускага народу, міністр надзвычайных справаў Беларускае Народнае Рэспублікі й Старшыня Сэктару Рады БНР у Чыкага сьвятой памяці* ***Янка Чарапук-Змагар****.*

*Спэцыяльны артыкул аб жыцьці й дзейнасьці сьв. пам. Чарапука будзе зьмешчаны ў наступным нумары нашае газэты*[94].

*Сьв. пам.* ***Аўген Чэрнік****, лейтэнант беларускіх войскаў, народжаны 16.2.1904 г. у с. Поўшава, Наваградзкага павету, памёр трагічнай сьмерцяй 26 лютага 1955 г.*[95]

*Сьв. пам.* ***Эдвард Шабуня***
*(23.I.1915—24.V.1990)*

*Ні ўлеўны дождж, ні працоўны дзень 29 траўня 1990 году не перашкодзілі Беларусам зь Нью Ёрку і ваколіцаў зьехацца на парафіяльныя могілкі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, каб аддаць апошнюю пашану сьв. пам. Эдварду Шабуні. Пахавальныя абрады,*

93 Беларус. №392. Ліпень—жнівень 1992. С. 12. Подпіс: Пётр Негода.

94 Бацькаўшчына. №50 (384). 15 сьнежня 1957. С. 3. Артыкул „Янка Чарапук-Змагар“ за подпісам В. П. быў зьмешчаны ў нумары №51—52 (385—386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 3—6.

95 Беларус. №5 (51). 20 сакавіка 1955. С. 5.

*паніхіду ў ньюёркскім пахавальным бюро, а пасьля паховіны на могілках адправіў а. Васіль Андрэюк з праваслаўнай царквы ў Гайленд-Парку. Пасьля паховінаў сям'я нябожчыка зладзіла памінальны абед у царкоўнай залі.*

*Спаткацца ўпяршыню з Эдвардам Шабунем, якога ў сям'і і ў кругу прыяцеляў называлі Дзюнікам, давялося мне летам 1941 году ў разбураным Менску пры працы ў Беларускім Гістарычным Музэі. На заклік гарадзкой управы група маладых аматараў старыны пад мастацтва пад кіраўніцтвам мастака Габрыеля Віера сабралася ў Гістарычным музэі, што знаходзіўся ў Юбілейным Доме (каля Дому Чырвонай Арміі), каб захаваць ад зьнішчэньня тыя прадметы старыны, абразы і кнігі, якія яшчэ ня былі разрабаваныя нямецкімі жаўнерамі і мясцовымі хуліганамі ды валяліся па падлогах заляў і ў двары музэю. У ліку гэтых аматараў-дабраахвотнікаў быў і Дзюнік.*

*Сьв. пам. Эдвард Шабуня паходзіў са старой беларускай шляхоцкай сям'і. Яго бацька Аляксандар Шабуня, інжынер-механік, быў прафэсарам Беларускага Палітэхнічнага Інстытуту, маці Эмілія была роднай сястрой Антона й Івана Луцкевічаў. Відаць, ад дзядзькі Івана былі ў Дзюніка аматарскія зацікаўленьні да калекцыяваньня старых манэтаў, паштовых марак і інш.*

*Жылі Шабуні ў Менску ў доме Луцкевічаў пры Садовай вуліцы №2. Гэты дом пры апошняй перабудове гораду, ужо пасьля вайны, быў разбураны. Там цяпер парк імя Янкі Купалы. Эдвард любіў расказваць, як ён, застаўшыся адзін у часе пажару Менску, ратаваў свой дом, абкладаючы мокрымі посьцілкамі плот, які ўжо быў у агні. Як памятка сядзібы Луцкевічаў, засталася толькі таполя, саджанец якое Дзюнік вылавіў са Сьвіслачы яшчэ хлапчуком.*

*Вучыцца й працаваць адначасова выпала Эдварду ў самыя цяжкія часы ў іхнай сям'і: арыштаваныя й сасланыя былі ў канцлягеры далёкай поўначы маці Эмілія з дачкою й родны дзядзька доктар Сьцяпан Луцкевіч з жонкай.*

*Дзюнік скончыў Архітэктурна-будаўляны тэхнікум і працаваў пры будовах розных новых праектаў, а між імі, пад кіраўніцтвам свайго прафэсара архітэктара Лаўрова, пры будове клінічнага гарадка.*

*Сьв. пам. Эдвард у сваёй прафэсіі быў добрым спэцыялістам і ў сваім фаху працаваў на эміграцыі ў Нямеччыне і ў Амэрыцы да выхаду на пэнсію.*

*Нябожчык пакінуў у цяжкім суме жонку Бланьдзіну, дачок Ліду й Мілю, унукаў ды праўнукаў і сёстраў зь сем'ямі.*

*Вечная памяць*[96].

*Сьв. пам.* ***Уладзімер Шагун****, сын Пятра й Марыі, памёр на 25-м годзе свайго жыцьця 27-га красавіка гг. у Штэтэнгофэне ля Аўгсбургу. Хай будзе лёгкай яму чужая зямля*[97].

*Сьв. пам.* ***Сава Швэдзюк*** *памёр у красавіку 1980 г. па кароткай, але цяжкой хваробе.*

*Нябожчык нарадзіўся ў 1893 г. у Патапавічах на Піншчыне, дзе й жыў зь сям'ёй да мінулае вайны. У лютым 1940 г. сьв. пан. Сава Швэдзюк быў арыштаваны савецкай уладай ды разам зь сям'ёй вывезены ў Архангельскую вобласьць як „спэцыяльна перасялены". У 1942 г., па амнэстыі для былых польскіх грамадзянаў, пераехаў (з усёй сям'ёй) у Іран. Тут сьв. пам. Саву Швэдзюка ўзялі ў польскую армію гэн. Андэрса, зь якою цераз Іран, Палястыну, Эгіпет ды Італію прыехаў у Ангельшчыну, дзе да яго далучылася сям'я. Быў нябожчык сябрам праваслаўных прыходаў.*

*Сьв. пам. Сава пахаваны ў Манчэстары. Пахавальны абрад выканалі аа. Арсені, Міхаіл і Кірыла.*

*Сьв. пам. Сава Швэдзюк пакінуў у вялікім смутку жонку Марыю, дзяцей, унукаў і праўнукаў у Ангельшчыне ды сёстраў і радню на Беларусі.*

*Няхай ангельская зямелька будзе яму пухам*[98].

*13 сакавіка сёлета ў Англіі адыйшоў на вечнасьць Сьв. Пам.* ***Гальляш Шклянік****.*

*Сьмерць на атаку сэрца заўчасу прыпыніла Ягонае жыцьцё ў веку 55 гадоў.*

*Памерлы быў ня толькі сьведамым, але й шчырым змагаром і патрыётам. Належаў да беларускае арганізацыі й быў адным з найахвярнейшых вернікаў БАПЦ у Вялікабрытаніі. Адзначаўся пабожнасьцяй, ветлівасьцяй, шчырасьцяй, развагаю й дабратою. Жывучы ў іншанацыянальным лягеры, заўсёды годна рэпрэзэнтаваў Беларусаў.*

---

96 Беларус. №371. Чэрвень—ліпень 1990. С. 12. Подпіс: Ант. Шукелайць.

97 Бацькаўшчына. №19 (353). 12 травеня 1957. С. 4.

98 Беларус. №285. Студзень 1981. С. 5. Подпіс: М. Ш.

*Паховіны, пры лічным удзеле Беларусаў з Манчэстэр і жыхароў лягеру, дзе нябошчык стала пражываў, адбыліся 17 сакавіка на ангельскім могільніку Грэт Будворч каля Нартвіч.*

*Паніхіду па нябошчыку адправіў а. пратаярэй Аляксандар. Апрача пачуцьцёвага разьвітальнага слова а. Аляксандра, прыгожае патрыятычнага зьместу слова сказаў сп. Кажаневіч.*

*Найбольшым лятуценьнем Сьв. Пам. Шкляніка было вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб пабачыць сям'ю, аднак ня суджана было яму гэта зьдзейсьніць.*

*Няхай-жа Яму будзе лёгкай гасьцінная ангельская зямелька, а Госпад Бог упакоіць Ягоную душу, дзе супачываюць усе праведнікі*[99].

### *Сьв. пам.* ***Ігар Шчорс***
### *(1918—12.X.1992)*

*Менск у часе нямецкай акупацыі. Восень 1941 году. Першая нелегальная нарада беларускага актыву. У ліку ўдзельнікаў малады працаўнік гарадзкой управы Ігар Шчорс. З таго часу нашае знаёмства й супрацоўніцтва.*

*Сьв. пам. Ігар працаваў на розных становішчах у гарадзкой управе, дзе вымагалася веданьне нямецкае мовы й беларускае разуменьне справы.*

*З нашага супрацоўніцтва ў Менску хачу ўспомніць тры выпадкі дапамогі Ігара гэбрэям пры здабываньні так званых арыйскіх папераў ды вывазы зь Менску гэбрэйскай дзетвары абозамі „Самапомачы“.*

*Нейкі час Ігар працаваў у аддзеле выдачы дакумэнтаў гарадзкой управы. Жонка аднаго зь беларускіх журналістаў, гэбрэйка, баялася выходзіць з хаты, каб не забралі ў гета. Сябры параілі зьвярнуцца да Ігара па параду. Ігар папрасіў ейнага мужа прыйсьці з двума сьветкамі бяз жонкі. У канцылярыі гутарка ішла на розныя актуальныя тэмы, аб „арыйскіх паперах“ ніхто й неўспамінаў. Назаўтра жанчына атрымала патрэбныя дакумэнты, і пасьля нейкага часу сям'я выехала зь Менску.*

*Другі выпадак, у якім прыйшлося быць сьветкам. Праф. Іваноўскі, старшыня гарадзкое ўправы, прыслаў у Менскі музэй (у якім я тады працаваў загадчыкам) на працу перакладчыцу-гэбрэйку, жонку за-*

[99] Бацькаўшчына. №15—16 (451—452). 19 красавіка 1959. С. 8. Подпіс: Вікарыяльная Управа БАПЦ і сябры Аддзелу ЗБВБ Манчэстэр.

*гадчыка электраэнэргіяй гораду (які, дарэчы, таксама гэбрэй зь Вільні), каб, папрацаваўшы ў Менску вымаганы нямецкімі ўладамі час, атрымаць дакумэнты сталай жыхаркі гораду. Гэтую справу таксама аформіў Ігар. Сям'я гэтых гэбрэяў была добра замаскаваная, часта разам зь Ігарам мы бывалі ў іх у гасьцях.*

*І трэці падобны выпадак быў з маладым, здольным гэбрэем, які, атрымаўшы дакумэнты, працаваў у аддзеле інфармацыі нямецкага ведамства.*

*Беларуская Народная Самапомач займалася ня толькі забясьпечваньнем Менску прадуктамі. Абозы акруговых і раённых аддзелаў „Самапомачы" вярталіся зь Менску пераважна наладаваныя дзетварой з гарадзкіх прытулкаў, якія папаўняліся дзяцьмі з гета. І ўзноў Ігар афармляў гэтыя абозы належнымі дакумэнтамі, якія дазвалялі свабодна пераехаць нямецкія вартавыя заставы пры выезьдзе з гораду.*

*Сьв. пам. Ігар Шчорс быў вельмі сьціплым чалавекам. Людзі з падобнымі заслугамі пры ратаваньні гэбрэяў садзяць дрэўцы ў ізраільскіх спэцыяльных садах.*

*Няхай гэты мой кароткі ўспамін будзе вянком на магілу сьціплага й багатага духам чалавека*[100].

### *Сьвятой памяці*

***Васіль Шэўчук**, жыхар беларускага лягеру ў Остэргофэне, 15 лістапада 1948 г. у веку 57 год адыйшоў на вечны супакой, пакінуўшы жонку, двух малых сыноў і ўзрослую дачку, а 18 лістапада быў урачыста пахаваны з удзелам усяго лягернага насельніцтва на нямецкіх могілках у Остэргофэне.*

*Васіль Шэўчук — гэта ціхі й сумленны беларускі селянін з Косаўшчыны, злая доля якога, як і бальшыні беларускіх сялянаў, была заўсёднай спадарожніцай ягонага жыцьця. Будучы яшчэ ў роднай вёсцы, страціў трох сваіх сыноў і бліжэйшых сваякоў, якія былі замардаваныя камуністычнымі бандамі, а таксама й ён сам быў імі перасьледаваны. Потым той-жа злы лёс кінуў яго ізь сям'ёй на чужыну, дзе таксама змушаны быў зносіць голад, зьдзек і паняверку. Перад двума гэтымі гадамі апынуўся ў беларускім лягеры ў Остэргофэне сярод сваіх суродзічаў. Але й тут апошнімі месяцамі не знайшоў зразуменьня й патрэбнага яму падтрыманьня ад тых, ад каго гэта выключна залежала.*

[100] Беларус. №396. Сьнежань 1992. С. 6. Подпіс: А. Шукелайць.

*Няхай тады гэтая чужая, хоць ня родная зямля, будзе яму пухам*[101]*!*

*Памёр* ***М. Шыла***

*Як падаюць з ангельскае зоны, там 6.4.48 памёр знаны калісь беларускі нацыянальны дзеяч Мікола Шыла. Побач із Т. Грыбам, таксама ўжо нябожчыкам, і Я. Мамонькам, доля якога дакладна ня ведамая, М. Шыла быў адным з заснавальнікаў і перадавых актывістаў Партыі Беларускіх Сацылістых-Рэвалюцыянэраў („эсэраў“). Апроч таго, нябожчык быў удзельнікам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і Акту 25 Сакавіка (ягоныя ўспаміны аб апошнім, між іншага, цытаваныя ў артыкуле Н. Недасека „1918—1948“, друкаваным у нашай газэце і асобнай брашуркаю). Адыйшоўшы пасьля на некаторы час ад актыўнае працы, апошнімі гадамі М. Шыла зноў быў актывізаваўся і ўзяў дзейны ўдзел у пазытыўнай нацыянальнай рабоце ў школьніцтве, зарытатыўных арганізацыях і ін.*

*На жаль, знайшліся такія дзейнікі, якія патрапілі эксплёатаваць некаторыя слабасьці натуры нябожчыка і выкарыстоўваць ягонае імя для палітычных спэкуляцыяў. Перказваюць, што калі гэтае імя з даволі дзіўным тытулам „сябры БНР“ зьяўлялася пад некаторымі адозвамі, М. Шыла быў ужо ў такім стане хваробы, што ані сьведама паставіцца да зьместу такіх адозваў, ані навет проста паставіць свой подпіс пад імі ўжо ня мог. А тым часам зьяўляліся, кажуць, ня толькі адозвы, але навет і нейкія „выясьненьні“ ці праклямацыі, быццам-бы аж напісаныя самым Шылам і толькі ім адным... Дык ня будзе дзіва, калі й „пасьмяротныя творы“ тыпу ведамых элябаратарай „Інстытуту Маркса-Энгельса-Леніна“ зьявяцца з часам...*

*Абмінаючы аднак гэтыя ўсе наліпласьці, мы таксама схіляем галаву над магілай чалавека, у васабістай шчырай адданасьці якога Бацькаўшчыне ніхто ня можа мець няпэўнасьці, чалавека, сваім часам вельмі вартаснага й заслужонага, хоць пры гэтым і глыбака няшчаснага, зло пакалечанага жыцьцём, ягонымі сацыяльнымі злыднямі, што ў тэй або іншай сваёй форме ці аднаго ў нас заломвалі дый заломваюць...*[102]

[101] Бацькаўшчына. №37 (40). 21 лістапада 1948. С. 3.

[102] Бацькаўшчына. №12 (15). 18 красавіка 1948. С. 4.

***Сьвятой памяці***

*Барон **Эўген фон Энгельгардт**, аўтар ведамай працы аб Беларусі ў нямецкай мове („Вайстурэніен“), перакладаў зь беларускіх паэтаў, вялікі сымпатык і прыяцель нашага народу — 7 лістапада сёлета адыйшоў на вечны супакой.*

*Чэсьць Ягонай памяці[103]!*

*Сьв. пам. др **Алена Юрэвіч***
*(22.10.1928—02.12.2006)*

*Зь днём нараджэньня нашу незабыўную Алену Казіміраўну мы заўсёды віншавалі восеньню, напрыканцы кастрычніка. І там — у Беларусі, і тут — у Нью Ёрку. Адны — цёплым, сардэчным лістом, другія — сьвяточнай паштоўкай ці тэлеграмай, іншыя — тэлефанічна. Віншавалі яе калегі-навукоўцы, выкладчыкі, але часьцей — былыя студэнты. З роднай Беларусі, з Расеі, з Прыбалтыкі, з Польшчы, з Амэрыкі. Віншавалі і ў гэтую восень. А яшчэ дамаўляліся на спатканьні, тэлефоны і чарговыя лісты, якія цяпер ужо ніколі не напішуцца.*

*Др. Алена Юрэвіч нарадзілася 22 кастрычніка 1928 году ў Менску. Сярэднюю адукацыю атрымала ў адной зь менскіх школ на Старажоўцы. Зь дзяцінства спазнала „клопат пра маладое пакаленьне“ савецкіх уладаў, якія напрыканцы 30-х гадоў арыштавалі яе бацьку, пакінуўшы на доўгія пятнаццаць гадоў сям'ю на волю лёсу. Потым былі цяжкія і галодныя гады вайны, а яшчэ агеньчык надзеі, што ўсё ліхое аднойчы закончыцца.*

*Напрыканцы 40-х гадоў Алена Юрэвіч паступіла на філялягічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, які пасьпяхова закончыла ў 1954 годзе. Там была адной з актыўных студэнтак, няўрымсьлівых і дапытлівых. Потым вучылася ў асьпірантуры пры Інстытуце Мовазнаўства Акадэміі Навук Беларусі, дзе з посьпехам абараніла доктарскую дысэртацыю ў галіне мовазнаўства. Там, у Інстытуце Мовазнаўства АН Беларусі, на пачатку 60-х гадоў, др. Алена Юрэвіч прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы фундамэнтальнага дасьледаваньня „Гісторыя беларускай літаратурнай мовы“. Яна — адна з сааўтараў 2-га тому гэтага дасьледаваньня. У гэтай працы, нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя ўмовы і цэн-*

103 Бацькаўшчына. №36 (39). 14 лістапада 1948. С. 3. Подпіс: Рэдакцыя.

*зуру ў падсавецкай Беларусі, др. Алена Юрэвіч увяла ва ўжытак шмат новага матар'ялу, у тым ліку зьвязанага з „нацдэмамі“ і працамі Камісіі па рэформе беларускага правапісу 1926 году. Яна была адной зь нямногіх, хто ў тых нялёгкіх варунках меў мужнасьць і грамадзянскую адвагу захоўваць у навуцы навуковасьць, аб'ектыўнасьць і беларускасьць. Не зьгіналася й не крывіла душой. Ні ў жыцьці, ні ў працы.*

*З 1968 г. др. Алена Юрэвіч пачала працаваць на катэдры беларускай мовы Менскага Пэдагагічнага Інстытуту. Чытала лекцыі, вяла практычныя і сэмінарскія заняткі. Поруч з пэдагагічнай дзейнасьцю праводзіла актыўную навукова-дасьледчую працу. Упершыню ў беларускім мовазнаўстве распрацавала праблему „Прадмет і задачы курса „Лінгвістычны аналіз мастацкіх тэкстаў“. Адной зь першых у Беларусі др. Алена Юрэвіч падрыхтавала для студэнтаў вучэбны дапаможнік па стылістыцы беларускай мовы.*

*Чалавек энцыкляпэдычных ведаў, яна карысталася калясальным аўтарытэтам і сярод выкладчыкаў, і сярод студэнтаў. Незвычайная лёгіка мысьленьня, пэдантычнасьць і дакладнасьць др. Алены Юрэвіч не аднойчы ўражвалі яе калег-навукоўцаў і нас, студэнтаў. Але і пры ўсім гэтым яна заставалася сьціплай асобай.*

*У штодзённым жыцьці была чалавекам, якому можна было даверыцца, зь якім кожны з нас мог падзяліцца і вялікімі радасьцямі, і вялікімі клопатамі. Да нашай дарагой Алены Казіміраўны кожны ішоў па мудрую параду і спагаду. І яна заўсёды гатовая была прыйсьці і прыходзіла на дапамогу. Са сваёй кампэтэнтнасьцю, ведамі, эрудыцыяй, шчырасьцю і добрым словам.*

*Так, яе паважалі і любілі выкладчыкі, а яшчэ больш — студэнты.*

*Др. Алена Юрэвіч была вельмі адказным чалавекам. І ў працы, і ў жыцьці, і ў сяброўстве. Як згадвае др. Эвеліна Блінава, яе блізкая сяброўка зь Менску, др. Алена Юрэвіч і ў сяброўстве была адданая да апошніх сваіх дзён, нягледзячы на адлегласьці, ніколі не забывалася павіншаваць зь днём нараджэньня ці прыслаць прынагодную сьвяточную паштоўку.*

*Выключная жонка, адданая маці, клапатлівая бабуля, яна была стрыжнем для ўсёй сваёй сям'і — і на Бацькаўшчыне, і ў далёкай Амэрыцы.*

*У лютым 1993 г. др. Алена Юрэвіч настала выехала ў ЗША. Але і за акіянам, у Нью Ёрку, яна не парывала сувязяў з беларушчынай. Разам зь сям'ёй прымала актыўны ўдзел у навуковай дзейнасьці Бе-*

*ларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку. І на эміграцыі служыла сваімі ведамі і навуковым досьведам. Прымала чынны ўдзел у падрыхтоўцы да друку творчай спадчыны беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў. Кансультавала рэдактараў „Ангельска-беларускага слоўніка“. Разам з мужам і сынам ахвярна працавала пры падрыхтоўцы да друку фундамэнтальнай бібліяграфіі Зоры й Вітаўта Кіпеляў „Belarusian Publishing in the West“.*

*Яна не адыйшла, яна па-ранейшаму з намі. Бо чалавек не памірае, пакуль жыве ў памяці іншых і ў тым, што пакінуў пасьля сябе*[104].

*Сьв. пам.* ***Аўген Якубовіч***

*18.7.57 г. раптоўна ад атаку сэрца памёр у Лёндане на 34 годзе свайго жыцьця. Пакойны быў ня толькі сьведамым Беларусам, але і актыўным змагаром у беларускім вызвольным змаганьні. Будучы яшчэ юнаком, працаваў у Лідчыне настаўнікам, не баючыся шалеючага там польскага тэрору супраць Беларусаў. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ўступіў у Вартаўнічую роту, дзе таксама не зьмяніў свайго нацыянальнага аблічча, за што быў моцна скрыўджаны Палякамі. Адразу пасьля прыезду ў Ангельшчыну стаўся дзейным сябрам Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ды прыймаў удзел у арганізаваньні парафіяў БАПЦарквы. Належаў таксама да Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ды быў сумленным і актыўным супрацоўнікам гэтае арганізацыі.*

*Паховіны, з удзелам амаль усіх сяброў Лёнданскага аддзелу ЗБВБ, адбыліся 27.7.1957 г. у Лёндане на могілках Эслінгтон. Чын пахаваньня выканаў сьвятар БАПЦарквы а. Аляксандар, які над магілаю сказаў чулае разьвітальнае слова.*

*Няхай лёгкай будзе яму чужая зямля*[105].

[104] Беларус. №528. Студзень 2007. С. 15. Подпіс: Выпускнікі філялягічнага факультэту Менскага пэдінстытуту (1984 году).

[105] Бацькаўшчына. №31—32 (365—366). С. 8. Подпіс: Управа Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў Вялікабрытаніі.

***Сяргей Харэўскі***
*Менск*

# ЛЕТУЦЕНЬНІК З-НАД ВОЛМЫ
## Хаім Суцін

*Вялікія лічбы круглых датаў — заўжды добрая нагода згадаць пра чалавека. Пагатоў калі гэтым чалавекам быў геніяльны мастак. Сёлета споўнілася 120 гадоў з дня нараджэньня Хаіма Суціна ды 70 гадоў, як яго ня стала. Гэтыя юбілеі свайго земляка ў Беларусі адзначылі надзвычай сьціпла, хоць і кранальна — выставаю дзіцячых малюнкаў на радзіме мастака, у Сьмілавіцкім музэі, што сёлета, дарэчы, адзначыў пяць гадоў ад свайго стварэньня. Музэй „Прастора Хаіма Суціна“ быў створаны ў будынку тамтэйшага дому дзіцячае творчасьці пры спрыяньні ЮНЭСКА. Такім чынам, і гэтае, адзінае месца ў Беларусі, што сьведчыць пра Хаіма Суціна, было створанае не за беларускія грошы... Але сьціплая музэйная экспазыцыя, створаная зь любоўю й вялікім густам, стала ўнікальным для нашае краіны асяродкам, дзе перахоўваецца жывая памяць і сьветлае пачуцьцё смутку. Смутку ад таго, што геній ня быў належным чынам ацэнены і ўслаўлены ў свой час, што ягоная творчасьць так і засталася недаступнай і незразумелай для беларусаў сёньняшніх. І гэтыя залі ў Сьмілавічах — шчымлівае й шчырае сьведчаньне таго, наколькі мы сёньня смуткуем па тым, што страцілі, чаго недарабілі, чаго не сказалі...*

*Толькі пазалетась у Беларусі зьявілася першае палатно Хаіма Суціна — „Вялікія сенажаці ў Шартры“. Набытая „Белгазпрамбанкам“ карціна, што стала першым творам аўтара, які трапіў па гэты бок „жалезнае заслоны“, экспанавалася ў Нацыянальным мастацкім музэі Беларусі на выставе „Мастакі Парыскае школы“. Для гэтага спатрэбілася цэлае стагодзьдзе...*

Напрыканцы 1910-х гг. на Захад хлынула шматтысячная хваля мігрантаў з Усходняе Эўропы. Распад імпэрыяў, рэвалюцыі, войны,

нацыяналізм маладых нацыяў пагнаў іх у сьвет. Іхны досьвед з Усходу праліўся дабратворным дажджом там, дзе іх гатовыя былі прыняць. Яны перахавалі на Захадзе тое, што не змагло б ацалець на іх Бацькаўшчыне.

У Парыжы ў 1913 г. зьявіўся яшчэ адзін наш зямляк, які прыехаў сюды ўжо мастаком — Хаім Суцін, родам з гарадка Сьмілавічы, што пад Менскам. Тут, у мястэчку над чыстай рэчкаю Волмаю, стаялі палацы з музэямі, бібліятэкамі, архівамі. Гэтыя цуды зьбіраліся цягам трох стагодзьдзяў Сапегамі, Завішамі, Агінскімі, Ваньковічамі, Манюшкамі — былымі ўладальнікамі мястэчка. Насупраць палацаў на беразе возера ўзвышаўся лёгкі сьпічасты старасьвецкі касьцёл Сьвятога Вінцэнта пры вялікім кляштары місіянэраў, карункавае ўбраньне й безьліч каштоўных абразоў якога зрабілі яго вядомай сьвятыняю ў краі. Тутсама быў і татарскі квартал зь мячэтам і старадаўнімі могілкамі — мізарам. Мініятурны Ерусалім панад Волмаю.



Рэклямны плякат выставы Хаіма Суціна ў Парыжы. 2012 г.

Сям'я Суцінаў належала да найбяднейшае часткі сьмілавіцкага кагалу. Іхная хата стаяла на Менскай вуліцы (сёньня — Рэспубліканская) недалёка ад вялікае сьмілавіцкае сынагогі, што згарэла падчас Другое сусьветнае вайны. Бацька Хаіма зарабляў на жыцьцё тым, што латаў заплаты. Маці, якая пусьціла на сьвет адзінаццаць дзяцей, састарэла заўчасна й, паводле сьведчаньня аднаго зь сяброў Суціна, ня надта даглядала сваіх дзяцей. Хаім быў перадапошнім, дзясятым.

З маленства Хаім прыносіў шмат амбарасу сваёй сям'і. Праз ягоную прагу маляваць усё навокал ніхто ў Сьмілавічах ня мог пачувацца спакойна. Ён краў хатнія рэчы, выменьваў іх у мясцовага чарцёжніка на танны малявальны вугаль і маляваў ім усё запар: людзей, кароваў, са-

бак. Хаіма выхоўвалі ў рэлігійным духу: ён сам пазьней успамінаў, якое магутнае містычнае ўражаньне рабіла на яго ў дзяцінстве сьвяткаваньне суботы. Але сваім неўтаймоўным жаданьнем маляваць людзей Хаім парушаў юдэйскае табу, якое катэгарычна забараняла выяўляць людзкія постаці. Аднойчы ён рызыкнуў папрасіць у самога рабіна дазволу на тое, каб намаляваць ягоны партрэт. Разьюшаныя такім нахабствам дзеці рабіна, помсьцячы за абразу бацькі, зьбілі падлетка да паўсьмерці...

Не знаходзіў Хаім разуменьня і ў сям'і... Бацька як мог замінаў яму, а сёстры зьдзекаваліся на ўсе лады. Але малы Суцін быў упарты й яму шанцавала. Нават гісторыя са зьбіцьцём перавярнулася на ягоную ж карысьць: дзякуючы кампэнсацыі, атрыманай за калецтва, яму ўдалося зьехаць вучыцца ў Менск.

Тут Суцін нейкі час працаваў рэтушорам у фотаатэльe. Пэўную пратэкцыю яму склалі заможныя сваякі, якім належаў вялікі гатэль з рэстаранам на вуліцы Праабражэнскай (колішняй Зборавай, а сёньня Інтэрнацыянальнай, дом №11). На жаль, цяперашняму гатэлю, у тым доме, не вярнулі ягонага гучнага сапраўднага імя Беркі Нахімавіча Суціна — дзядзькі геніяльнага мастака. Зрэшты, ад таго дзядзькі Хаім мала што атрымаў.

Тутсама разам зь сябрам Міхаілам Кікоіным Хаім пачаў займацца ў студыі мастака Якава Кругера. Так у Менску ў 1907 г. распачалася мастацкая адукацыя Хаіма Суціна. Ведама таксама, што ён рэгулярна наведваў сынагогу.

Пасьля менскае вучобы Суцін зьведаў большы сьвет у Вільні, дзе капіяваў эўрапейскую клясыку са школьных рэпрадукцыяў у дзяржаўнай малявальнай школе.

Паралельна з прафэсійным сталеньнем мастак гартаваўся як асоба. Сьвет па-за мястэчкам быў вабны, але жорсткі. У віленскі пэрыяд ён малюе тое, пра што ўжо баліць, — фантасмагорыю жыцьця габрэйскіх абшчынаў. У гэты час ягоную душу разьдзіралі жарсьці й духоўныя пошукі. Пакутліва перажываючы разрыў з родным яму асяродзьдзем, ён то пісаў суродзічаў, то, баючыся Бога, зьнішчаў свае працы. Плёну тых гадоў, бадай, не засталося.

У 1913 г. Хаім Суцін назаўсёды пакінуў сваю Беларусь. Зьмяніць нешта на радзіме было не ў ягоных сілах. З гэтага часу й да скону ягоным прытулкам стала Францыя. Аднак тэма Бацькаўшчыны, што стрэмкаю сядзела ў ягоным сэрцы, што злучала ў адно роспач і надзею, замілаваньне й нянавісьць, засталася ва ўсёй ягонай далейшай твор-

часьці. Адзін з дасьледнікаў, Марыс, піша, што Суцін шукаў у тэме былых суайчыньнікаў ноты, якія б у іх саміх выклікалі пачуцьцё непаразуменьня й крыўды. Ягоныя мадэлі — хатняя прыслуга, лёкай альбо пасыльны — ахвярныя казлы й сымбалі самапрыніжэньня.

Закамплексаванасьць Суціна, што вынікала зь бясконцых няўдачаў, нелюбові, нястачы са школьнае лавы, зайшла так далёка, што нават у Францыі, abласканы й накормлены, ён пачуваўся паўгалодным бедаком, чакаючы ад людзкага сьвету адно зьнявагі. Нават там, на берагах Сэны, ён выхоплівае самыя брутальныя рысы штодзённасьці, сцэнкі вулічнага жыцьця Парыжу, постаці ляжачых і жанчын — пераклад на францускую свайго беларускага досьведу, неадступнай боязі горшага. Але ўжо ў іх прысутнічала тое, што стане адметнаю рысаю ягонае далейшае творчасьці: лямант фарбаў, скасавураная, як у крывым люстэрку, рэчаіснасьць, ня сьмешная, але вусьцішная, шырокі вольны рух пэндзьлю.

Калі Хаім Суцін дабраўся да Парыжу, тут ужо быў Шагал, зь якім ён жыў напачатку разам у зьбяднелым пансіёне мастацкага салёну *„La Pacille“*[1]. Тут жа жылі й Цадкін, і Архіпенка, і многія іншыя маладыя мастакі. Адным з самых блізкіх сяброў Хаіма Суціна ў першы час знаходжаньня ў Парыжы стала Марэўна — Марыя Браніславаўна Вераб'ёва-Сцябельская, у якую мастак быў глыбока закаханы. А яна, у сваю чаргу, была захопленая ягонай геніяльнасьцю. Шмат пазьней Марэўна, славутая гераіня эўрапейскае культуры, пісала: *„Мы былі маладыя, глыбока адданыя мастацтву, верылі ў наш дар і нашыя сілы, у нас была энэргія, каб выжываць, працаваць і, вядома, кахаць“*[2].

Літаральна пару дзясяткаў гадоў таму пра Хаіма Суціна ў Беларусі мала што было вядома. У савецкай гісторыі мастацтва ягонае імя амаль ня згадвалася. Дый у найноўшай нашай мастацтвазнаўчай гістарыяграфіі ягонае імя калі і ўспаміналі, дык толькі ў шэрагу мастакоў-эмігрантаў так званай „Парыскай школы“. А тым часам гэтае імя было здаўна добра вядомае ня толькі ў Заходняй Эўропе й ЗША, але ўжо й па той бок Бугу: і польская, і чэская публіка, прынамсі, ведала Суціна ў кантэксьце культуры XX ст. Яго як асобу й творцу вельмі шанавалі сябры Кіконін і Мадыльяні, Лежэ й Пікаса, Цадкін і Маціс, Мешчанінаў ды

[1] Счастный, В. Художники Парижской школы из Беларуси: эссе, биографии, путеводитель. Минск, 2010. С. 17.

[2] Воробьёва-Стебельская, М. Моя жизнь с художниками «Улья». Москва, 2004. С. 19.

Ліпшыц. Ад 1916 г. працы Суціна па рэкамэндацыі Амэдэа Мадыльяні ўзяўся прадаваць Леапольд Збароўскі[3]. Так лёс зьвёў гэтых розных людзей надоўга. Дарэчы, партрэты Збароўскага й Суціна — клясычная спадчына Мадыльяні. Партрэты Суціна пісалі таксама Кікоін, Мешчанінаў, Церашковіч ды іншыя.

Калярытная зьнешнасьць Хаіма Суціна дарыла ўдзячную глебу як партрэтыстам, так і мэмуарыстам: *„Выразныя, глыбока пасаджаныя вочы пад набрынялымі, пачырванелымі павекамі глядзелі з-пад ілба. Ён меў тоўсты нос з вузкім пераносьсем і пульхныя вусны, якімі прыцмокваў падчас гаворкі, і ў кутах вялікага рота зьяўляліся белыя пузыркі. Цудоўная, шчырая ўсьмешка, што настройвала да яго прыхільна, агаляла пацямнелыя, з жоўтым налётам, хворыя зубы, што так і хацелася яго ўпікнуць „Суцін, вы ж зубы ня чысьцілі!“ Але болей за ўсё ўражвалі ягоныя невялікія, пекныя й далікатныя, нібы ў дзіцяці, пальцы рук. Здавалася невераемным, што такія рукі могуць пісаць такія магутныя палотны“*[4].

Дзякуючы сябру, усё таму ж Амэдэа Мадыльяні, Суцін адкрыў для сябе французскую правінцыю. Яны часьцяком, разам альбо паасобку, выпраўляліся на Пірэнэі, на Міжземнамор’е. Сьвет, убачаны Суцінам, просты й гарманічны, трывала ўсталяваны сярод эпічных краявідаў, пераломваўся ў ягонай сьвядомасьці і ператвараўся ў апакаліптычны хаос. Гожы сьвет распаўзаўся, плавіўся, скаланаўся. Сінія лясы па небакраі нібыта ахопленыя ўраганам, дрэвы, нібы паходні, сьціскалі дамы. Дэманічная сіла прыроды імкнулася ўзарваць законы сьветабудовы.

Мастацтвазнаўцы адзначаюць блізкасьць твораў Суціна тых часоў да нямецкага *„штурмавога экспрэсіянізму“*, адносячы яго да мастакоў *„чыстага інстынкту“*, які праз разьвіцьцё імпрэсіяністычных прыёмаў дасягнуў экспрэсіянізму.

Менавіта творы тае пары, партрэты „маленькіх людзей“, уважаюцца сёньня за вяршыню ягонае творчасьці. Невыпадкова сёлета, у юбілейны год Суціна, ягонае палатно „Маленькі кандытар“ на аўкцыёне *Christie’s* усталявала сусьветны рэкорд цаны на твор мастацтва — 18 мільёнаў даляраў!

Імітуючы ахвяру, габрэі вызваляліся ад яе, яе вызваляючы. Вызваленьне як закланьне й закланьне як вызваленьне — неад’емная частка

[3] Courthion, Pierre. Soutine: peintre du déchirant. Lausanne—Paris, 1972. P. 8—9.

[4] Воробьёва-Стебельская, М. Моя жизнь с художниками „Улья“... С. 29—31.

юдэйскага сьветапогляду. У часы Абрагама габрэі сымбалічна грузілі ахвярнага казла сваімі грахамі ды адпускалі ў пустэльню. Там ён непазьбежна канаў, але канаў свабодным. У нашых мястэчках такой жывёлаю стала кура. Пасьля адпаведнага рытуалу з чытаньнем модлаў такую куру выганялі са двара, каб атрымаць адпуст і збавеньне ад граху. Гэтая акалічнасьць адбілася ў творах Суціна, у цікавасьці да драматургіі твору, што чытаецца даволі ясна. Для Суціна ягоныя „Кандытары“, „Пажы“, „Гарсоны“ — ахвяры...

Каза, зарэзаная, павешаная, памерлая — таксама тыповы матыў Суціна. Дэпэрсаніфікуючы свае мадэлі, ён дарыў ім свабоду, за якой ужо не было людзей. Ахвяры сваёй убогай штодзённасьці, яны рабіліся ахвярамі свабоды, якой ім ніколі не дастаць на зямлі. Можа, Суцін і праўда адпускаў пэрсанажаў сваіх палотнаў з малітваю?

Слава мастака яшчэ доўга каціласяўгару. Праз дзевяць гадоў пасьля свайго ад'езду зь Беларусі Суцін разьвітаўся й са сваімі фінансавымі праблемамі. У 1923 г., роўна 90 гадоў таму, прайшла ягоная першая пэрсанальная выстава ў Парыжы. Буйны амэрыканскі калекцыянэр Альшто купіў адразу больш за 200 ягоных палотнаў[5]. Гэта быў трыюмф. Зь ім, чалавекам няпростага характару, дзіваком-самотнікам, хацелі пазнаёміцца цяпер людзі заможныя. Ягонага таварыства шукалі й багемныя прайдзісьветы. Тым часам ён прыдбаў сабе ўласную студыю на плошчы Клема, з вокнаў якое адкрываўся цудоўны від на Сэну[6].

Маштаб таленту Суціна стаў відавочны, ягоны жывапіс ад таго часу й назаўсёды сталі абмяркоўваць у тым самым шэрагу, што й жывапіс Ван Гога, Мунка, Пікаса. Больш за чвэрць стагодзьдзя ён працаваў асобна ад сучаснага яму мастацтва, што безь яго, паміж іншым, не стала б такім, якім стала[7]. Суцін не ўвайшоў ні ў адну „нацыянальную гісторыю мастацтва“, застаючыся прыхаднем у Францыі й захоўваючы сувязь са сьветам Беларусі толькі ў патаемнай глыбіні сваёй творчасьці, што больш належала вялікай эўрапейскай эпосе мадэрнізму, чым канкрэтнаму пункту на мапе, адкуль яна зьявілася й дзе сам творца пасталеў, сфармаваўся як асоба гэткім, а ня іншым...

У 1920-х гг. справядліва, але й нечакана да Суціна прыйшоў раптоўны, імклівы й поўны посьпех. Але нават стаўшы незалежным ня толькі духоўна, але й матэрыяльна, здабыўшы папулярнасьць і трывалае

[5] Nicoïdski, Clarisse. Soutine ou la profanation. Paris, 1993. P. 17—23.

[6] Счастный, В. Художники Парижской школы из Беларуси.... С. 17.

[7] Leinz, Gottlieb. Malířství 20 století. Praha, 1996. S. 46, 48, 70.

становішча ў грамадзтве, мастак надалей заставаўся ў душы гаротным самотнікам, дзясятым дзіцем у беднай мястэчковай сям'і, дзе нікому да яго не было справы. Робэрт Фальк, які ведаў яго асабіста, зацеміў, што калі ўбачыў ягоныя незвычайныя вочы, стала зразумела, чаму Суцін творыць менавіта гэтак, а няйначай[8].

Мастак працягваў насычаць зьместам адну з галоўных тэндэнцыяў мастацтва XX ст., што вядзе свой пачатак ад Бадлера: эстэтызацыя не залежыць ад прадмету, а нават можа ствараць насуперак яму. Вычуваньне існасьці як пакуты, а жывапісу — як спосабу пераадоленьня яе было дамінантай ягонае творчасьці[9]. Кажуць, што, паміраючы, Амэдэа Мадыльяні сказаў: *„Не хвалюйцеся, у асобе Суціна я пакідаю вам генія“*. Ягоная першая біяграфія, складзеная Вальдэмарам Георгам, выйшла ў 1928 г., у 1935-м зь вялікім посьпехам прайшла ягоная пэрсанальная выстава ў чыкагскім Арт-Клюбе, упершыню ў Амэрыцы...

У 1937 г. Суцін пасябраваў з Гердаю Грох, немкаю, што ўцякла з фашыстоўскае Нямеччыны. Гэты самы значны раман у жыцьці мастака скончыўся праз тры гады: Герда Грох была закатаваная ў канцлягеры ў Пірэнэях. Сам Хаім Суцін мусіў хавацца ў правінцыі. Нязбыўны страх і нястача абвастрылі застарэлыя хваробы страўніка, што не адпускалі яго ўжо даўно. У 1943 г. у яго здарыўся прыступ язвы страўніка... Сябры таемна пераправілі яго ў акупаваны нацыстамі Парыж, але было запозна. Хаім Суцін памёр ад кровазьліцьця падчас апэрацыі.

Сёньня ў Парыжы на бульвары Манпарнас стаіць яму помнік — адзінаму зь вялікае пляяды мастакоў Парыскае школы. Гэта той самы Суцін, пра якога калісь хадзілі тут показкі, якога шанавалі й шкадавалі. Помнік мастаку вырабіў ягоны сябра, літоўскі мастак Арбітас Блатас, што неаднаразова ляпіў і маляваў яго да вайны... Ані ў Сьмілавічах, што сёньня ўжо мала чым нагадваюць тое пастаральнае мястэчка, зь якога зьехаў будучы мастак, ані ў Менску, дзе ён пачаў сваё дарослае жыцьцё й далучыўся да сьвету мастацтва, помнікаў яму пакуль няма. Але сёлетні юбілейны год усё ж падарыў нам яшчэ адзін сюрпрыз: той самы „Белгазпрамбанк“ набыў для Беларусі яшчэ адно палатно Суціна „Эва“, створанае ў так званы позьні пэрыяд ягонае творчасьці. Справа ў тым, што мастак пазьней перарабляў ці зьнішчаў свае раньнія працы. І, урэшце, амаль нічога не маляваў пасьля 1930. Такім чынам, мы сёлета

[8] Фальк, Роберт. Беседы об искусстве. Письма. Воспоминания о художнике. Москва, 1981. С. 61.

[9] Герман, Михаил. Хаим Сутин, 1893—1943. Москва, 2009. С. 12—23.

маем прынамсі два творы Суціна, што ўнесеныя ў рэестар рухомых гістарычна-культурных каштоўнасьцяў Беларусі.

Сёлета ж заканчваецца й тэрмін дзеяньня так званых аўтарскіх правоў на спадчыну мастака, што да гэтага году належала ягоным 20 пляменьнікам у ЗША й іншых краінах, бо ён ня меў уласных прамых нашчадкаў. Лішне казаць, што пры жыцьці ён нават ня ведаў пра іх існаваньне. Аднак менавіта ягоныя сёстры й пляменьнікі, калі ён раптоўна памёр у акупаваным Парыжы ў 1943 г., сталі законнымі спадкаемцамі мастака адно праз факт сваяцтва. Яны мелі законныя падставы да 2013 г. атрымліваць адлічэньні з прыбытку пры продажы твораў Суціна ды іх рэпрадукаваньні.



Магіла Хаіма Суціна
на могілках Манпарнас у Парыжы

Цяпер справа папулярызацыі ягонага творчага даробку, увядзеньня ў навуковы ўжытак эпісталярнае й мэмуарнае спадчыны набудзе іншы маштаб. Урэшце стала магчымым выданьне альбому ягоных твораў і ў Беларусі. Можа, праз колькі гадоў дзеці, якія сёлета прысьвячалі свае творы геніяльнаму земляку-летуценьніку, змогуць прайсьціся па залях адноўленых палацаў у Сьмілавічах ды ўскласьці кветкі да помніка Суціну ў старым парку. А мо і ў якім завулку Менску паўстане годны помнік, варты памяці чалавека, які адкрыў для сябе чароўны ўсясьвет мастацтва менавіта тут…

## ДА 110-ГОДЗЬДЗЯ МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА



Мікола Абрамчык. 1969 г.

***Мікола Абрамчык*** *(16.08.1903, в. Сычавічы Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёньня Маладзечанскі р-н Менскай вобл.) — 29.05.1970, Парыж, Францыя), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, прэзідэнт Рады БНР (1947—1970). Вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе. Актывіст Аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацый у Чэхаславаччыне. У 1932 г. у Францыі заснаваў арганізацыю беларускіх эмігрантаў „Хаўрус“. У 1941–1943 гг. дзеяч Беларускага камітэту самапомачы (БКС) у Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай „Раніца“. Паводле тэстамэнту Васіля Захарку узначаліў адноўленую ў паваенны час Раду БНР. Жыў у Парыжы, займаўся актыўнай грамадскай дзейнасьцю. Адзін з ініцыятараў стварэньня й доўгагадовы кіраўнік міжнароднай Лігі вызваленьня народаў СССР (Парыскага блёку).*

*На знак адзначэньня 110-х угодкаў Міколы Абрамчыка ў 2013 г. пабачыла сьвет кніга Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча „Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“. Выданьне рэпрэзэнтуе менавіта той пэрыяд у гісторыі беларускага экзыльнага ўраду, калі на чале яго стаяў Мікола Абрамчык.*




Вокладка кнігі Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча
„Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“ (Менск, 2013)



Натальля Гардзіенка й Альгерд Абрамчык (сын Міколы). Парыж, 2012 г.

## ДА 110-ГОДЗЬДЗЯ ЛЯВОНА РЫДЛЕЎСКАГА (з архіўных тэчак БІНіМу)



Лявон Рыдлеўскі. Травень 1945 г.

***Лявон Рыдлеўскі*** *(02.10.1903, в. Ульянавічы Магілёўскай губ. — 24.10.1953, Лёндан, Вялікабрытанія), грамадзкі дзеяч. Каля 1908 г. пераехаў з бацькамі ў Слуцк. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасьля разбраеньня паўстанцаў на польскай тэрыторыі ў 1921 г. жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу, дзе вучыўся ў Політэхнічным інстытуце. У 1928 г. атрымаў дыплём інжынэра, а ў наступным годзе разам зь Міколам Абрамчыкам пайшоў пешкі праз усю Эўропу. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у шэрагах французскага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэньні Аб'еднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, выданьні „Беларускіх навінаў", быў сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР, старшынём Управы Сусьветнага аб'еднаньня беларускай эміграцыі. У сувязі з рэзкім пагаршэньнем здароўя (рак) і цяжкім матэрыяльным становішчам пераехаў у Лёндан пад апеку а. Часлава Сіповіча, дзе неўзабаве памёр.*

*Асоба гэтага дзеяча яшчэ чакае ўвагі дасьледнікаў. Тут жа дзеля адзначэньня 110-х угодкаў з дня ягонага нараджэньня мы публікуем адзін з падпісаных ім дакумэнтаў, што захоўваецца ў зборах БІНіМу.*

## Сусьветнае Аб’еднаньне Беларускай Эміграцыі[1]

Фінансавы рэфэрат
Нр. II.3./27-50

Парыж, 15 ліпеня 1950 г.

Усім Спадаром фінансавым агэнтам С.А.Б.Э.
У справе выданьня „Кніжачак Беларускага Эміграната“.

Адначасна з гэтым Управа С.А.Б.Э. высылае Вам 25 экз. „Кніжачак беларускага эміграната“. На колькасьць, якая Вам неабходная для выдачы ўсім беларусом „Кніжачак“, просіцца прыслаць запатрабаваньне, аб чым ужо пісалася ў нашым пісьме Нр. II.3/26 з дня 1 ліпеня 1950 году.

Згодна з пастановай Ураду БНР з дня 29.4.1950 „Кніжачку беларускага эміграната“ павінен пасядаць[2] кожны беларус на чужыне. Дзеля гэтага трэба далажыць усялякіх зусільляў, каб мэту, пастаўленую Урадам БНР, асягнуць. Трэба давесьці да таго, каб кожны беларус на чужыне прыняў удзел у будаваньні Незалежнай Беларусі праз сваю штомесячную грашовую дапамогу. Ні якія адмовы, што мо хто ўжо плаціў складкі ў якія арганізацыі ці мо што ён бедны, не могуць брацца пад увагу, а гэта дзеля таго, што дзейнасьць нашага Ураду на чужыне ў сучасны мамэнт ёсьць адзінай дзейнасьцю, якая вядзе да вызваленьня нашай бацькаўшчыны, і за гэтым павінна трактавацца найважнейшай справаю. Разьмер месячнай стаўкі спадаткаваньня не ўстанаўляецца, і гэта дае магчымасьць даць для Ураду гэтулькі, колькі данаму беларусу ў даным месяцы магчыма, не даць жа ня мае права ніхто.

Тыя асобы, якія не падпарадкваюцца пастанове Рады БНР аб агульным ападаткаваньні зь дня 10.10.1949, ня могуць мець прэтэнсыяў, каб іх далей лічылі барацьбітамі за Незалежную Беларусь. Гэтыя словы трэба было сказаць дзеля таго, што з боку некаторых фінансавых агэнтаў ужо рабіліся ілюзіі аб немагчымасьці ападаткаваньня беларусоў у пэўных краінах з увагі пераладаванасьці мясцовымі патрэбамі.

[1] **Сусьветнае аб’еднаньне беларускай эміграцыі** (САБЭ) — арганізацыя, створаная на Першым сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі ў Парыжы ў сьнежні 1948 г. для каардынацыі дзейнасьці беларускіх асяродкаў у сьвеце. Стварэньне арганізацыі было ініцыятывай Міколы Абрамчыка. Старшынём Управы стаў Лявон Рыдлеўскі.

[2] **Пасядаць** (ад польск. *posiadać*) — мець.

Пастанова Рады БНР з дня 10.10.1949 ня прадбачвае ніякіх выняткаў ані звальненьнем ад гэтага элемэнтарнага абавязку.

Тэхнічна выдаваньне кніжачак адбываецца фінансавым агэнтам ад імя С.А.Б.Э. Дзеля гэтага кожны фін. агэнт С.А.Б.Э. павінен сам выпаўніць адпаведныя рубрыкі кніжачкі і расьпісацца вышэй подпісу Старшыні Управы С.А.Б.Э., як гэта падана ў залучаным узорным экзэмпляры. Адначасна трэба сабе заснаваць кніжку, у якую трэба ўпісваць па чарзе кожную асобу, якой выдана кніжачка, і выпіску з гэтай кнігі прасылаць пры кожнай фінансавай справаздачы ў Управу С.А.Б.Э. Узор кнігі эвідэнцыі выдачы „Кніжачак беларускага эмігранта“, ён-жа і ўзор выпіскі, як справаздачы ў Управу С.А.Б.Э., залучаецца.

Неабходна зьвярнуць увагу на беларусоў, раськіданых па краіне Вашага прабываньня. Там, дзе знаходзіцца колькі беларусоў, неабходна выбраць аднаго адказнога, які-б дбаў аб тое, каб кніжачкі былі своечасова заклеяныя маркамі. Гэтакі прадстаўнік зьбіраў-бы кніжачкі і перасылаў іх Вам да ўклеяньня й скасаваньня марак і запісаньня ў кнігу. Маркі трэба касаваць празь пастаўленьне праз марку подпісу Ф. А. Ці ініцыялаў і даты скасаваньня. Высылаць марак на правінцыю не прадбачаецца з увагі на ўтрудненаю кантролю.

Пачынаць збор падатку з уклейваньнем марак трэба ад 1 ліпеня.

Да квітаваньня агульнаграмадзкага падатку (наклейваньне ў кніжыцу) трэба па магчымасьці карыстацца маркамі па 3 і 1 Т.[3], а таксама па 50 гр., а 10 і 25 гр.[4], прызначаныя на наклейваньне на лісты. Адхіленьні ад гэтага прынцыпу могуць быць толькі ў выпадку, калі ходзе аб студэнтаў, малалетніх ці безработных, або непрацуючых сяброў сям'і. Аднак гэта ў выпадках вымагаючых узглядненьня.

На заканчэньне Управа С.А.Б.Э. яшчэ раз просіць і то катэгарычна аб своечасовым надасыланьні справаздачаў за дзейнасьць да дня 30 чэрвеня г.г. Наступную справаздачу, з увагі на шмат працы, якую будуць мець Спадары фінансавыя агэнты ў найбліжэйшым часе (выданьня „Кніжачак беларускага эмігранта“) наступныя справаздачы павінны быць прысланыя за трэйці квартал г.г. не пазьней 15 кастрычніка. Гэта не звальняе тых Ф. А., якія яшчэ не прыслалі справаздачы за II квартал ад прысланьня іх у якнайкаротшым тэрміне.

---

[3] Пры канцы 1949 г. былі выдадзеныя маркі Рады БНР, сярод якіх былі: цаной 1 талер (з выявай Васіля Захаркі) і цаной 3 талеры (з выявай Пётры Крэчэўскага).

[4] Марка БНР на 50 грошаў мела выяву Дому Рады БНР, марка на 25 грошаў — выяву Пагоні, а марка на 10 грошаў — выяву мапы Беларусі.

Зазначаецца, што рэгулярнасьць у надсыланьні справаздачаў таксама важная, як чэснасьць у выконваньні ўсіх прынятых на сябе забавязаньняў.

На заканчэньне шлём пажаданьне:

Спары Божа ў працы!

Фінансавы рэфэрэнт С.А.Б.Э. Ул. Шыманец[5]

Старшыня Управы С.А.Б.Э. Інж. Лявон Рыдлеўскі

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[5] **Уладзімер Шыманец** (1911—1977), грамадзкі дзеяч. Скончыў Віленскую тэхнічную школу (1932). Працаваў у Стоўпцах. Ад лета 1944 г. разам зь сям'ёй — на эміграцыі. Спачатку жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю, дзе стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцьця. У САБЭ ён выконваў функцыі рэфэрэнта фінансаў, а ад 1950 г. стаў міністрам фінансаў БНР.

# ДА 110-ГОДЗЬДЗЯ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА (з архіўных тэчак БІНіМу)



Вінцэнт Жук-Грышкевіч

***Вінцэнт Жук-Грышкевіч*** *(23.02.1903, м. Будслаў (сёньня Мядзельскі р-н Менскай вобл.) — 14.02.1989, Бэры, Канада), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Скончыў факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. Выкладаў беларускую мову й гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі й Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. У 1939—1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945—1948 гг. выкладаў гісторыю й псыхалёгію ў вайсковых польскіх школах у Італіі й Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі й першым старшынём гэтай арганізацыі (1947—1948). Пры канцы 1947 г. увайшоў у кіраўніцтва Рады БНР. Заснавальнік Беларускага хрысьціянскага акадэміцкага аб’яднаньня „Жыцьцё“. У студзені 1950 г. выехаў у Канаду. У Атаўскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю „Лірыка Янкі Купалы“. У 1954—1956 гг. — першы кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“. Вярнуўся ў Канаду, разам з жонкай Раісай Жук-Грышкевіч пасяліўся ў Бэры (Антарыё). Стаў адным з заснавальнікаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады.*

*У 1970—1982 гг. — старшыня Рады БНР. Пахаваны на могілках Іст-Брансьвіку (Нью-Джэрзі, ЗША).*

*Пададзеныя ніжэй лісты Вінцэнта Жук-Грышкевіча, што захоўваюцца ў архіўных зборах БІНіМу, датычаць канадыйскага пэрыяду ягонага жыцьця, часу напярэдадні сьмерці Міколы Абрамчыка й пераняцьця пасады старшыні Рады БНР.*

30 лістапада 1967 г.

Др-у В. Тумашу,
Др-у С. Станкевічу
й сп. Я. Запрудніку.

Дарагія сябры,

У гэтым лісьце дазваляю сабе закрануць толькі адну найбольш актуальную справу, справу выданьня брашуры пра БНР, якая быццам ужо пахавана.

У „Беларусе" за №119 за сакавік г.г. была зьмешчана шмат абяцаючая зацемка „Кніга да 50-х угодкаў БНР". Паводле гэтай зацемкі для справы выданьня кнігі, аб якой мова, была намечана камісія ды былі пакліканы аўтары паасобных разьдзелаў[1]. Паколькі ўжо ходзяць чуткі, што кніга ня выйдзе, людзі дапытваюцца, хто ўвайшоў у камісію й хто меўся быць аўтарамі кнігі. Мяне асабіста таксама цікавяць гэтыя пытаньні, каб ведаць, да каго зьвярнуцца й дзе й што пераставіць, каб, калі ня кніга, дык брашура ўсё-ж выйшла. Да сакавіка йшчэ шмат часу, дык напісаць і выдаць кароткую брашуру можна было-б.

Нельга дапусьціць, каб гэтая брашура ня выйшла, гэта быў-бы страшэнны скандал і сорам для ініцыятараў — асабліва пасьля грамагласнага сьвяткаваньня юбілею „кастрычніцкай рэвалюцыі". Не даруе гэтага нам ні наша грамадзтва, ні гісторыя, а чужынцы будуць сьмяяцца з нас. Да мяне ўжо зьвярнуліся з Англіі з запытаньнем, калі і ў каго можна дастаць кнігу пра БНР. Што ім адказаць?

Сталася недапушчальная справа: яшчэ ў сакавіку надрукавалі рэкляму пра кнігу аб БНР, а як прыйшлося да справы, дык аказалася, што

[1] У згаданай зацемцы ў газэце „Беларус" ішлося пра неабходнасьць ушанаваньня ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР выданьнем англамоўнай кнігі *„пра Беларусь і ейнае змаганьне за сваю незалежнасьць на фоне ўсяе гісторыі Беларусі"*. Аднак прозьвішчы канкрэтных асобаў, адказных за разьдзелы кнігі, не падаваліся (Кніга да 50-ых угодкаў БНР // Беларус. №119. Сакавік 1967. С. 6).

няма каму нават напісаць кароткай інфармацыйнай брашуры. Гэта выглядае на звычайнае ашуканства грамадзтва й можа мець неаблічальныя кансэквэнцыі для ўсіх, як „палітыкаў“, так „непалітыкаў“ і навукоўцаў. Бо й сапраўды, што варта наша ўся дзейнасьць і пісаніна, калі мы ня выконваем сваіх забавязаньняў, калі мы няздольныя сказаць сьвету праўду пра БНР нават на 50-ці гадовы юбілей яе?

Думаеце можа, што справа гэтая збудзецца маўчаньнем? Не, даражэнькія, такія рэчы маўчаньнем ня збудзеш. А можа будзем апраўдывацца ды шукаць вінаватых? Не, у такіх справах апраўданьня няма. Адзіным лёгічным крокам ёсьць скліканьне сходкі прадстаўнікоў БІНіМу й БАЗы[2], або камісіі й аўтараў цяпер, неадкладна. На гэтай сходцы трэба падзяліць працу й прыступіць да яе зараз-жа, пакуль ня позна. Калі што прыпадзе на маю долю, я ахвотна прыму, калі буду мець матэрыял[3].

Прашу вас вельмі, дарагія сябры, узяць пад развагу ўсё тут сказанае й не адступаць ад так добра запраектаванай справы.

З глыбокай пашанай В. Жук-Грышкевіч.

9.7.69.

Дарагі Вітаўт,

Дзякуй табе вялікі за здабыцьцё для мяне й перасылку Салаўёва[4]. Кнігі ў в. добрым стане, і спадзяюся, што пацеху зь іх мець буду. На вялікі жаль, ня так хутка змагу карыстацца імі, бо паважны стан хваробы Абрамчыка[5] павялічвае мае абавязкі ў Радзе БНР і прыносіць шмат непрадбачаных клопатаў.

Урыўкамі чытаю актуальныя выданьні аб Беларусі. Прачытаў „Беларусы“ Грынблята[6] і, паміма падпарадкаваньня гэтай кніжкі афіцый-

[2] Маецца на ўвазе Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне (БАЗА).

[3] Англамоўнае выданьне да „залатога юбілею“ БНР так і не зьявілася. Сам жа Вінцэнт Жук-Грышкевіч апрацаваў беларускамоўную брашуру „БНР ці БССР?“ (11 с.), што была выдадзеная ад імя Рады БНР у Нью-Ёрку ў 1968 г.

[4] Дакладна невядома, які менавіта аўтар маецца на ўвазе, **Уладзімер Салаўёў** (1853—1900), расейскі філёзаф, багаслоў, публіцыст, літаратурны крытык, або **Сяргей Салаўёў** (1829—1879), расейскі гісторык, аўтар працы „История России с древнейших времён“.

[5] Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык атрымаў траўму ў часе будоўлі яшчэ ў 1968 г. Стан палепшыўся пасьля апэрацыі, але ў 1969 г. выявілася іншая хвароба — рак, ад якога ён і памёр у 1970 г.

[6] Маецца на ўвазе выданьне: Гринблат, Моисей. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Минск, 1968. — 285 с.

ным савецкім установкам, знайшоў у ёй шмат цікавага й пацяшаючага, як, напр., прызнаваньне беларускімі трох паветаў калішняй Віцебшчыны, зах. Смаленшчыны й паўночнай Чарнігаўшчыны. Цяпер чытаю ўрыўкамі зборнік артыкулаў „Полесье“[7]. Крыху напсуў мне нэрваў артыкул аб археалёгіі Палесься Коваленкі, які даводзіць, што на тэрыторыі ад Ясёлды да Буга жылі валыняне. За тое прыемна зьдзівіў мяне сваёй аб'ектыўнасьцяй артыкул Антановіча[8] аб Аль Кітабах, у якім аўтар успамінае бяз ніякіх засьцярог пра Івана Луцкевіча[9], музэй яго імені ў „Вільнюсе“, Белар. Навук. Т-ва ў Вільні[10] і Янку Станкевіча[11]. Прыемна, што яны маюць нашы выданьні й карыстаюць зь іх.

Прачытаў таксама брашуру Абэцэдарскага „У сьвятле неабвержных фактаў“[12]. Хоць гэта й прапагандовая брашура „Голасу радзімы“, але, з прычыны яе паважнага і аргумэнтаванага гістарычнага зьместу й вялікага тыражу (50.000), брашура гэта робіць нам паважны вызаў. Гэта не Акулевічава агітка пра БССР[13]. Адказаць на яе мусім паважнейшай кніжкай ці брашурай. Маю надзею, што ты прачытаў гэтую брашуру, бо чуў, што нашы ў А. К.[14] таксама ёю зацікаўлены.

Я асабіста можа-б і ўзяўся за гэту справу адказу, каб меў тыя матар'ялы, што вы маеце ў Н. Ё., і больш часу. А так мусіць трэба будзе

---

[7] Маецца на ўвазе выданьне: Полесье: Лингвистика, археология, топонимика. Москва, 1968. — 301 с.

[8] Маецца на ўвазе Антон Антановіч (1910—1980), які займаўся дасьледаваньнем кітабаў і быў аўтарам кнігі: Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. — 419 с.

[9] Іван Луцкевіч (1881—1919) быў адным зь першых дасьледнікаў кітабаў, аўтарам публікацыяў: Ай-Кітаб // Зборнік „Наша ніва“. Вільня, 1920; Ай-Кітаб-Кіцёп // Беларускае жыцьцё. 11 сакавіка 1920.

[10] Беларускае навуковае таварыства — арганізацыя, што дзейнічала ў Вільні ў 1918—1939 гг. Сярод ягоных заснавальнікаў былі Вацлаў Ластоўскі, Антон й Іван Луцкевічы, Янка Станкевіч і іншыя.

[11] Янка Станкевіч (1891—1976) быў аўтарам працы: Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Вільня, 1933. — 34 с.

[12] Маецца на ўвазе кніга: Абэцэдарскі, Лаўрэнцій. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. — 111 с.

[13] Маецца на ўвазе брашура: Окулевич, Григорий. 50 лет Белорусской Республики. Торонто, 1968.

[14] Маецца на ўвазе **Амэрыканскі камітэт вызваленьня** (у беларускіх дакумэнтах часта скарачаўся як АК)— арганізацыя, што апекавалася працай у тым ліку і беларускіх аддзелаў у Радыё „Вызваленьне“ й мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР.

адказаць калектыўна, падзяліўшы між сабой розныя аспэкты, як гістарычныя, этнічныя, літаратурныя й палітычныя. Маю на думцы цябе, Адамовіча, Запрудніка і эвэнтуальна сябе. На маю думку, трэба было-б апрацаваць зборнік артыкулаў на 50 год БССР, у якім прадставіць фактычны стан БССР, адказаць на аргумэнты Абэцэдарскага, выкпіць Акулевіча (брашуру) і сьвяткаваньні 50 год БССР дома й заграніцай. Пазьней, дастасаваўшы зьмест да англасакскага чытача, гэты зборнік можна было-б выдаць і па-ангельску. Было-б добра, каб ты прадыскутаваў гэту справу з А. і З[15]. Цікава, што яны думаюць аб гэтым?

Твой адказ украінцам быў вельмі добры, ён падабаўся ўсім нашым. Я чуюся забавязаным адказаць на артыкул украінцаў аб Палесьсі ў „Гомін Украіны“[16], але ніяк не магу прыступіць да гэтага, розныя бягучыя справы забіраюць мой час і энэргію. Я хацеў-бы напісаць „нявінны“ адказ у „Г. У.“, а калі-б яны не зьмясьцілі — напісаць шырэй у „Беларусе“. Ня ведаю толькі, калі я змагу за гэта ўзяцца.

Шкада, што ты ня прыехаў да нас з Русакамі[17], спадзяёмся ўсё-ж, што некалі-ж цябе ў нас пабачым.

Прывітаньні табе й сям’і ад нас абаіх.

Твой Вінцук.

5.9.69.

Дарагі Вітаўт,

Даруй, што доўга не адпісваў. Па вакацыях сабралася шмат розных справаў мясцовых і агульных, а сілы і энэргіі ў мяне ўжо ня тыя, што былі. Часта прыхворваю.

Вяртаючыся да Абэцэдарскага: я пісаў табе ў папярэднім лісьце, што адказ яму трэба было-б даць некалькімі аўтарамі, разьмеркаваўшы і ўзгодніўшы між сабой дзялянкі. Тымчасам, як відаць, пачалі адказваць Запруднік[18] і Пануцэвіч кожны на сваю руку, хапаючыся за што папала. Такім спосабам цяжка ўнікнуць паўтарэньняў і недаця-

---

[15] Тут маюцца на ўвазе Антон Адамовіч і Янка Запруднік.

[16] **„Гомін України“** — украінская тыднёвая газэта, што выходзіць у Канадзе ад 1948 г.

[17] Магчыма, маюцца на ўвазе Галіна (1928—2000) і Ўладзімер (1913—2009) Русакі.

[18] Маецца на ўвазе артыкул: Запруднік, Я. Праф. Л. Абэцэдарскі пра „неабвержаныя факты“ // Беларус. №147—148. Ліпень—жнівень 1969. С. 2.

жак[19]. Хоць-бы вы ў Нью Ёрку — ты, Запруднік, Адамовіч і Станкевіч дамовіліся, хто аб чым будзе пісаць, ужо было-б лягчэй зарыентавацца для тых, што далей ад вас. У мяне свае цяжкасьці, бо цяжка знайсьці патрэбныя матар'ялы, але калі-б і знайшоў што, дык заўсёды няпэўнасьць, ці хто іншы аб гэтым ужо ня піша. Другая цяжкасьць — недахоп часу. Увесь мой час забіраюць розныя грамадзкія (мясцовыя і агульныя) справы. Сытуацыя тым больш скамплікавалася з хваробай Абрамчыка. Мару аб тым, каб кіруючыя становішчы ў грамадзкім і палітычным жыцьці занялі маладзейшыя, але ня ведаю, калі і як гэтага дабіцца. А ў цяперашняй сытуацыі заняцца пісаньнем чагосьці паважнейшага ніяк немагчыма.

Нікан[20] прывёз нам усім цікавыя весткі, маю надзею, што ён выканае свой плян адведаць нашы асяродкі ў Дэтройце, Кліўляндзе, Чыкаго і Лёс Анджэлес. Залаты чалавек, больш-бы нам такіх.

Томы Салаўёва глядзяць на мяне й дэнэрвуюць, што не магу да іх дабрацца. Абяцаю сабе, што па новым годзе сытуацыя паправіцца.

З прывітаньнямі твой Вінцук.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

---

[19] Адказ на кнігу Лаўрэнція Абэцэдарскага таксама зьмясьціў у газэце „Беларус" Юрка Віцьбіч: Выкрунтасы фэльчара Абэвэгэдарава. Заміж рэцэньзіі // Беларус. №147—148. Ліпень—жнівень 1969. С. 8. Але найбольш сур'ёзным адказам стала кніга: Урбан, Паўла. У сьвятле гістарычных фактаў. (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага.) Мюнхэн—Нью Ёрк, 1972. — 132 с.

[20] Аўстралійскі беларус **Мікола Нікан** (1908—1999) у 1969 г. зьдзейсьніў своеасаблівае кругасьветнае падарожжа, адведаўшы Беларусь і найбуйнейшыя беларускія асяродкі ў сьвеце. Справаздача з гэтага падарожжа друкавалася пазьней на старонках газэты „Беларус": М. Н. З падарожжа вакол сьвету // Беларус. №160. Жнівень 1970. С. 5; №161. Верасень 1970. С. 4; №162. Кастрычнік 1970. С. 4; №163. Лістапад 1970. С. 5; №165. Студзень 1971. С. 5; №166. Люты 1971. С. 4; №167. Сакавік 1971. С. 4; №169. Травень 1971. С. 4.

# З АРХІВУ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ (да 110-годзьдзя паэткі)

***Натальля Арсеньнева*** *(20.09.1903, Баку, Азэрбайджан — 25.07.1997, Рочэстэр, ЗША), паэтка, грамадзкая дзяячка. Нарадзілася ў рускай дваранскай сям'і. Ад 1905 г., за выняткам 1915—1919 гг., жыла ў Вільні. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем. У 1940—1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Ўладзімерам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстану. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. Працавала ў „Беларускай газэце" (1942—1944), перакладала лібрэта для Мінскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцьці ў лягерах DP, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952—1954 гг. рэдагавала газэту „Беларус", потым працавала ў нью-ёрскім офісе беларускай рэдакцыі радыё „Свабода". Была сябрам Галоўнай управы БАЗА, Управы БІНіМу. У 1967 г. пасьля сьмерці нявесткі, Натальлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Ўладзімера ў Рочэстэр.*

*110-я ўгодкі з дня нараджэньня Натальлі Арсеньневай былі адзначаныя і ў Беларусі, і ў замежжы даволі сьціпла. У кастрычніку 2013 г. у Нью-Ёрку ў грамадзкай залі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Брукліне адбылася імпрэза да юбілею паэткі, дзе ўспамінамі пра яе дзяліўся дырэктар БІНіМу Вітаўт Кіпель. У Беларусі яшчэ ўвесну 2013 г. як прыватная ініцыятыва дасьледніцы пабачыла сьвет кніга Алы Петрушкевіч „Наталля Арсеннева: шлях да Беларусі". Гэтым ушанаваньне адной з найбольш вядомых беларускіх эміграцыйных творцаў, аўтаркі славутага гімну „Магутны Божа", і абмежавалася.*

*Тым часам і ў біяграфіі, і ў творчасьці Натальлі Арсеньневай яшчэ багата тэмаў для дасьледаваньня. У зборах БІНіМу захоўваюцца вартыя ўвагі матэрыялы з жыцьця й дзейнасьці паэткі. Некаторыя зь іх і публікуюцца ніжэй.*

Но.

Да
Ураду Беларускага Інстытуту
Навукі і Мастацтва
Нью Ёрк, З.Г.А.

Прашу залічыць мяне ў лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя і дадзеныя пра мой навуковы /літаратурны, мастацкі/ стаж падаю ніжэй.

Дня 10 Лютага 1952 г.

Натальля Арсеньнева
/подпіс/

Прозьвішча і імя Натальля Кушаль (Арсеньнева)

Літаратурны /мастацкі/ псэўдонім/ы/ Н. Арсеньнева

Адрэс 435 New Jersey Ave, Brooklyn 7, N. Y.

Дата і месца нараджэньня 20 верасьня 1903 ў Вільні

Асьвета і эвэнтуальны навуковы /мастацкі/ стаж
Нескончаная вышэйшая, стаж – 30 год

Навуковая ступень /калі ёсьць/ — Паэт і літаратар.

У якой галіне навукі /літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць
у Інстытуце Паэзія й літаратура

Публікаваныя навуковыя /літаратурныя, мастацкія/ творы:
1. „Пад сінім небам“, „Жоўтая восень“,
2. „Сягоньня“, пераклады: „Затонуты звон“ Гаўптмана, „Разьбіты кубак“ Кляйста,
Арыгінальныя лібрэты да опэраў: „Лясное возера“, „Усяслаў-Чарадзей“ і шмат іншых

Прыгатаваныя да публікацыі творы
4ы зборнік вершаў „Не астынь нам“

БІНіМ

Анкета-заява Натальлі Арсеньневай у БІНіМ. 1952 г.

## 1. 21 год літаратурнае творчасьці Натальлі Арсеньневай

*Натальля Арсеньнева пра сябе*[1]

Хаця я й нарадзілася выпадкова ў г. Баку, але месцам майго нараджаньня лічыцца ўлюбёная мая Вільня, дзе я фактычна расла й гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцьця.

У Вільні я пачала й вучыцца, перш у хаце, з маткай, якая была настаўніцай, а пасьля, перад самай вайной 1914 г., у Віленскай гімназіі. Бацька мой быў расейскім урадаўцам, і таму, у 1915 г. улетку, калі нямецкая армія падыходзіла пад Вільню, уся нашая сям'я была эвакуяваная ўглыб Расеі, у г. Яраслаўль пад Волгай. У Яраслаўлі мы прабылі 4 гады, пераажылі рэвалюцыю і ўсе ейныя сумныя наступствы. У Яраслаўскай гімназіі, пад уплывам нашае настаўніцы літаратуры, я пачала прабаваць пісаць вершы, чаго мне страшэнна хацелася ўжо вельмі даўно, але неяк ня выходзіла. З гэтым вялікім хаценьнем я вярнулася ў Вільню ў 1919 г. Тут жыцьцёвыя абставіны нашае сям'і ўлажыліся неяк дрэнна. Памерла сястра, захварэў бацька, маці… Мне як найстарэйшай (а мне было тады 16 год) трэ было памагаць сям'і зарабляць. Увесь вольны час я й зарабляла: давала лекцыі францускае й нямецкае мовы вучням віленскіх школаў. У 1920 г. я паступіла ў сёмую клясу 1-ае Віленскае беларускае гімназіі. Гэтае здарэньне было вялікай падзеяй у маім жыцьці, яно заважыла на ўсёй маёй будучыні. У Віленскай беларускай гімназіі я ўпяршыню сустрэлася зь беларускаю справай і захапілася ёю. Раньняю восеньню 1921 г. я напісала тут, у любых старых Базыльянскіх мурох, свае першыя беларускія вершы, якія і ад гэтага часу друкаваліся ў беларускіх часапісах і газэтах. Першым маім крытыкам і суровым настаўнікам быў мой настаўнік літаратуры Максім Гарэцкі. Ён із вялікай увагай праглядаў мае першыя вершы, ганіў, што было блага, і заахвочваў мяне да лепшага пісаньня. Ягонае сьветлае імя я й дагэтуль заўсёды ўспамінаю зь вялікай удзячнасьцю й любасьцю.

У 1921 г. я скончыла Віленскую беларускую гімназію аднэй зь першых і паступіла на гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Але правучылася я тут нядоўга. У 1922 г., увосені, я выйшла замуж і выехала зь Вільні на вельмі доўга… Больш як пятнаццаць год мне давя-

[1] Беларуская газэта“, 29 кастрычніка 1942 г. №80 (100). У нумары таксама друкаваліся: „Натальля Арсеньнева. Спроба літаратурнае „пяцімінуткі“ Д. Забранскага (Ант. Адамовіча), „Паэтка-музыка“ М. Шчаглова, а таксама вершы Н. Арсеньневай („Ня хочацца“, „Асеньняя дарога“). Тэксты ў разьдзеле публікуюцца з захаваньнем асаблівасьцяў мовы арыгіналаў.

лося жыць на чужыне, у Польшчы, але хоць раз на год я прыязджала на Беларусь, у сваю родную Вільню, або да мужавых бацькоў у Валожыншчыну.

Гэтая сувязь з Бацькаўшчынай хіба й была прычынаю таго, што наўсуперак усім, вельмі няспрыяльным, абставінам я ня кінула пісаць, і першы зборнік маіх вершаў — „Пад сінім небам“ — выйшаў з друку ў 1927 г., а ў 1935—1936 гг. быў падрыхтаваны да друку й другі — „Жоўтая восень“, які, аднак, дагэтуль не надрукаваны[2]...

1939 год палажыў канец майму спакойнаму, але аднастайнаму жыцьцю. Муж пайшоў на вайну, і я даўгі час аб ім нічога ня ведала. Яж із сынамі, пасьля match розныя цяганіны, апынулася ў г. Вялейцы, адкуль мы й былі вывезеныя бальшавікамі ў Казахстан напачатку 1940 г.

Аб Казахстане пісаць вельмі няма чаго. Кажны ведае, што гэта такое...

Шчасьлівы выпадак хацеў, каб мы, худыя да непазнаньня, апаленыя начорна сухімі казахстанскімі вятрамі, вярнуліся на Бацькаўшчыну перад самай вайной у траўні 1941 г. Не пасьпелі мы разглядзецца добра навокал, як пачалася вайна, якая ледзьве не каштавала мне жыцьця, але затое й штурханула мяне да новае творчасьці. І хоць і цяпер жывецца мне ня надта салодка, але я маю гэтулькі працы, і мне так хочацца працаваць, што я зусім не наракаю на ваенныя цяжкасьці, а наадварот, чуюся шчасьліваю, што магу нарэшце жыць і пісаць гэтулькі, колькі мне толькі хочацца, і то дома, на Беларусі!

Натальля Арсеньнева

## 2. Лісты Янкі Станкевіча

У Празе, 21.X.44.

Вельмішаважаная Спадарыня, <u>нікому зьместу гэтага лісту не кажыце</u>.

Зварочуюся да Вашэці ў ваднэй важнай і пасьпешнай справе. Надоечы адно саліднае нямецкае выдавецтва ўстанавіла мяне сваім паўнамачнікам да зьбіраньня й рэдагаваньня крывіцкіх рукапісаў. Ідзе яму галоўна аб кніжкі, каторыя можна было-б выкарыстаць дзеля шырокай антыбальшавіцкай пропаганды сярод крывіцкіх масаў. Антыбальша-

[2] Зборнік „Жоўтая восень“ так і ня быў надрукаваны. Вершы, што яго складалі, увайшлі асобным разьдзелам у збор твораў Натальлі Арсеньневай „Між берагамі“ (Нью Ёрк—Таронта, 1979).

віцкая пропаганда можа розна выглядаць, можа мець розны характар. Найлепшая пропаганда тая, каторая апіраецца на праўду і выходзіць ад шчырага сэрца. Дзеля таго ўважаю, што ўсе Вашыя вершы з грамадзкім зьместам годзяцца ў такую кніжку. Дзеля таго да Вас просьба: улажэце зборнік Вашых вершых і прышлеце мне, а я перадам выдавецтву. Ці ў Нямеччыне ё даволі Вашае кніжкі „Сягоньня“[3]? Калі не, дык можаце і зь яе браць вершы да гэткага Вашага зборніка. Сьпяшайцеся, калі ласка, з гэтай работай!

Калі маеце магчымасьць у Бэрліне борзда напісаць свае вершы на пішучай машынцы, дык прысылайце напісаныя на пішучай машынцы ды, пажадана, у двух экзэмплярах, а калі не, дык напішам на машынцы тутака. Гонорар будзе 10% ад продажнай цаны. Выдавацца будзе ня меней 10.000 экз.

Калі ласка адразу дайце поўны адказ на мой гэты ліст. Нікому аб зьмесьце гэтага лісту не кажэце, значыцца не кажэце, што ёсьць такое выдавецтва і што я ягоны паўнамачнік, бо маглі-б знайсьціся людзі, што шкодзілі-бы, дзеля таго я не падаю тут назову выдавецкае фірмы. Калі ведаеце, дзе цяпер поэта Лебяда[4], дык калі ласка прышлеце мне ягоны адрыс; хочу і да яго зьвярнуцца ў гэтай справе. Прывітаньне мужу й сыну. Жыве Крывія!

З шчырай пашанаю Я. Станкевіч.

P. S. рукапіс пасылайце ўпісаным (заказным) лістом або пачкам.

У Празе, 29.X.44

Паважаная Спадарыня,

Ліст Ваш із 25.X. дастаў. Дзякуй за згоду. Ізь „Сягоньня“ вершаў не перапісуйця, а толькі падайце назоў вершаў і на якой бачыне.

Адначасна зь лістом да Вашэці я напісаў падобны Адамовічу[5], але ён яго, прынамся да 26.X не прачытаў, відавочна, дзеля таго, што ў гэным часе быў у Бэрліне.

---

[3] Зборнік Натальлі Арсеньневай „Сягоньня“ пабачыў сьвет у Менску ў чэрвені 1944 г.

[4] **Тодар Лебяда** (сапр. **Пятро Шырокаў,** 1914, Віцебск — 1970, Разанская вобл., Расея), паэт, драматург, журналіст. У 1930-х гг. рэпрэсаваны савецкімі ўладамі. У 1943 г. ягоная драма „Загубленае жыцьцё“ была пастаўленая на сцэне менскага гарадзкога тэатру й карысталася вялікім посьпехам. Ад лета 1944 г. быў у Нямеччыне. У 1945 г. вярнуўся ў Беларусь, арыштаваны органамі МДБ і асуджаны на 25 год канцлягераў.

[5] Антон Адамовіч (1909—1998) знаходзіўся ў Нямеччыне яшчэ ад восені 1943 г.

Дзякуй за адрысы. Прывітаньне радзіме (мужу й сыну) і А. Салаўю[6]. Калі можаце, перадайце прывітаньне Адварду Будзьку[7] і лісток яму.

Чакаю рукапісу.

Жыве Крывія!

Я. Станкевіч.

P. S. Калі ліст Будзьку будзеце перадаваць праз каго, то заклейце. Але ліст мой Будзьку Ваша сама і муж прачытайце і такжа прымеце гэтую справу да сэрца.

25.XI.44.

Вельмі Паважаная Спадарыня Сяброўка,

Наказую, што выдавецтва згадзілася выдаць зборнік Вашых вершаў і 23.XI я яго пераслаў выдавецтву напісаны на машынцы ў 2-х экз. Цяпер залежыць толькі ад цэнзуры. Цэнзуравацца, хіба, будзе ў Бэрліне, бо выдавецтва ў старым райху[8]. Ці Ваша адзержала мой папярэдні ліст, у каторы я пісаў, што мой ліст да Лебяды зьвярнуўся мне назад із надпісам, што адрысат ня ведамы? У зборнічак увайшлі ўсе вершы даныя Вамі.

Жыве Крывія!

Ваш Я. Станкевіч.

### 3. Інтэрвію зь Янкам Запруднікам на Радыё Свабода[9]

*Цяпер слухайце інтэрв'ю нашага карэспандэнта ў Нью Ёрку зь ведамай беларускай паэткай Натальляй Арсеньневай.*

*Сярод шматлікае беларускае эміграцыі ў заходнім сьвеце апынулася таксама цімала паэтаў і пісьменьнікаў, што пайшлі ў выгнаньне, каб там захаваць, узбагаціць і перадаць наступным пакаленьням*

---

[6] Алесь Салавей (1922—1978) кароткі час пасьля выезду ўлетку 1944 г. з Рыгі быў у Бэрліне, дзе працаваў бібліятэкарам пры Беларускай Цэнтральнай Радзе. Але ўжо пры канцы 1944 г. ён перабраўся ў Аўстрыю.

[7] Эдвард (Адварды) Будзька (1882—1958) разам з сям'ёй ад лета 1944 г. знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры ў Рэгенсбургу. Пазьней выехаў у ЗША.

[8] Падрыхтаваны зборнік так і ня быў выдадзены.

[9] Машынапіс недатаваны.

*самабытныя традыцыі беларускае нацыянальнае літаратуры. На Захадзе — у Нямеччыне, Францыі, Амэрыцы, Англіі і іншых краёх — выходзяць беларускія часапісы, выдаюцца беларускія кніжкі, друкуюцца беларускія газэты. Сталымі і найбольш актыўнымі супрацоўнікамі бадай усіх беларускіх выданьняў на эміграцыі сталіся пісьменьнікі й паэты.*

*Сёлета прыпадаюць 35-я ўгодкі літаратурнае дзейнасьці шыроказедамае ў нашым беларускім грамадзтве — і тут, і на бацькаўшчыне — паэткі Натальлі Арсеньневай, якая ўжо сёмы год жыве й працуе ў Нью Ёрку. З гэтае нагоды мы запрасілі сёньня нашую паважаную паэтку на кароткую гутарку, якая — мы верым — зацікавіць нашых слухачоў.*

**Пытаньне 1: Спадарыня Арсеньнева, на бацькаўшчыне ў мірныя часы Вы вельмі шмат пісалі. Скажэце, калі ласка, як адбіліся на Вашай творчай энэргіі цяжкія гады вайны і, пэўна-ж, нялёгкая ростань з родным краем?**

Адказ: Вайна?.. Яна сьпярша аглушыла мяне... Бо сутыкнулася я зь ейнай жудой тварам у твар. Зь першых дзён згубіла свой кут... Разлучылася на гады зь сям’ёй. Але столькі было бяды навокал, столькі крыўды рабілася нашаму народу, што я не магла маўчаць... І я пісала... шмат пісала...

**Пытаньне 2. Апынуўшыся на Захадзе, якія магчымасьці знайшлі Вы публікаваць свае творы?**

Адказ: О, друкаваць свае творы я маю дзе! Абы пісаць! Вы-ж ведаеце, што тутака, у вольным сьвеце, паволі выходзяць беларускія газэты і часапісы. Апошнімі гадамі ў Нью Ёрку выдаецца і адмысловы літаратурны беларускі часапіс „Конадні“[10], які задзіночвае ўсіх нашых паэтаў і пісьменьнікаў бяз розьніцы, дзе яны сяньня апынуліся — у Амэрыцы, Эўропе ці ў Аўстраліі.

**Пытаньне 3: Як Вы хібашто ведаеце, савецкая прапаганда прадстаўляе творчасьць паэты ў заходнім сьвеце як зьявішча, кантраляванае нейкімі палітычнымі дзейнікамі, зьявішча зманапалізаванае, паднявольнае. Ну, і пэўна-ж, у яшчэ больш чорных хварбах малююць бальшавікі жыцьцё паэтыэмігранта. Ці Вам асабіста давялося калі-небудзь сустрэцца з тым, што Вам накідалі тэму, перапраўлялі Вашыя радкі або наагул не дазвалялі публікаваць таго ці іншага твору?**

[10] Часопіс „Конадні“ быў выданьнем Беларускага інстытуту навукі й мастацтва й выходзіў у 1954—1963 гг.

Адказ: Хто-ж можа мне тут забараніць пісаць ды друкаваць або накідаць тэмы ці думкі! Той, хто гэта кажа, відаць, зусім ня ведае, не разумее, як жывуць людзі на Захадзе, або сьведама перакручвае праўду.

**Пытаньне 4: Скажэце, калі ласка, якія тэмы Вас як паэтку найбольш цікавяць, захапляюць?**

Адказ: Я, калі можна так сказаць, паэта жыцьця. Усе жыцьцёвыя праявы, прырода, людзі, людзкія перажываньні — хвалююць мяне. На ўсё я адгукаюся. А людзі-ж — яны ўсюды адны, адчуваньні іхныя — скрозь тыя-ж. Ды чамусьці, праймаючыся ўсім, кахаючы жыцьцё і на чужыне, я ўсьцяж нясупынна, балюча кахаю Бацькаўшчыну. Найлепшую, адзіную. Тую, што сёньня ў няволі.

**Пытаньне 5: Спадарыня Арсеньнева, якія пачуцьці выклікаюць у Вас Вашыя сябры па пяру ў Беларусі, што змушаныя пісаць у ўмовах савецкае партыйнае літаратуры?**

Адказ: Я шчыра перажываю іхную нядолю, спачуваю ім, бо ўяўляю, як ім парою цяжка. Яны-ж усе кахаюць Беларусь таксама, як мы тут, бачаць тую вялізманую крыўду, што ёй сяньня дзеіцца... і мусяць маўчаць, або пісаць тое, з чым не пагаджаюцца, у што ня вераць... Напішуць, а пасьля.. А, ды што казаць, хто-ж з нас ня ведае ўмовы, у якіх жывуць там і нашыя пісьменьнікі, і людзі наагул.

**Пытаньне 6: Вы, пэўна-ж, ня траціце надзеі, што прыйдзе час, калі і ў нас, у вольнай Беларусі, паэта зможа выказаць тое, што яму на сэрцы ляжыць, а ня тое, што хочацца партыі?**

Адказ: Калі-б я ў гэта ня верыла, навошта былі-б усе духовыя пакуты выгнаньня, пашто было-б жыць наагул?

*Вельмі дзякую Вам, спадарыня Арсеньнева. Чытаючы Вашыя вершы, сапраўды хочацца верыць, што ўсе пакуты, якія пераносіць цяпер наша бацькаўшчына, ня будуць дарэмнымі, што наш народ дасягне таго, за што ўжо столькі часу змагаецца, што Беларусь станецца ўрэшце рэштаў вольнай свабоднай дзяржавай.*

*Яшчэ раз шчыра дзякую Вам, спадарыня Арсеньнева.*

## 4. Ліст Масея Сяднёва

3.8.1962 г.

Даражэнькая Натальля,

Як і кажнаму лісту, абрадуешся й майму, пакуль ня возьмешся чытаць. Прачытаўшы-ж, пабачыш, што ў ім нічога такога радаснага

няма й расчаруешся. Выбачай, што ў гэтым сэньсе падманіў цябе. Зрэшты, гэта я ўжо, магчыма, занадта „аналізую“.

Вось захацелася чыркануць да Цябе гэтых колькі словаў. Прост захацеў зачапіць Цябе, балазе маю якраз пару тыдняў вакацыяў тых, дык свабодны ад „хамута“, і міжволі засумуеш па сваіх, сядзячы тут на водшыбе. Пра сябе? Гэта гіронія — вучыш іншых тэй мове, якая павяртаецца грознай зброяй супраць цябе самога-ж[11]. Прымірыцца з такой супярэчнасьцяй ня лёгкая рэч. Чаго толькі ня зробіць чалавек дзеля хлеба? Слыву тут „закоренелым“ беларусам, асабліва посьле таго, як выступіў у славянскім клюбе на вечары, прысьвечаным славянскай паэзіі, і заваяваўшы аўдыторыю сваім выступленьнем. Але што гэта я хвалюся!

Часам зайздрошчу там вам, хоць ведаю, няма чаму асабліва зайздросьціць. Як сама? Здароўе? Што робіш, што пішаш? Гэтак хацеў прачытаць ў „Бацькаўшчыне“ пра Твой юбілей і не прачытаў — якраз ня прыслалі юбілейнага нумару, як, зрэшты, і шмат іншых. Можа, Ты-б прыслала гэты нумар, я зьвярну, калі ён Табе патрэбны, калі ён ў Цябе адзіны. І яшчэ — можа выслала-б „Конадні“ з маёй там штучкай „Сустрэча зь мёртвымі“. Я хацеў-бы працаваць над сваім „Карзючком“[12], але не хапае вонкавых штурхачоў — друку, прынамсі. Але-ж гэта ўжо наша спрадвечная бяда. Між іншага, чаму-б ня выдаць „Бацькаўшчыне“ Тваёй кнігі? Прывітаньне Спадару Кушалю, скажы мужу, што я закаханы ў ягоныя гістарычныя артыкулы.

Выбачай, калі ласка, за мазаніну.

Твой М. Сяднёў.

### 5. Н. Арсеньнева. „Толькі гэткім, як Ты...“[13]

#### *Дарагой сп-ні Э. Зубковіч[14] на 80-я ўгодкі жыцьця*

*Шмат мэлёдыяў звонкіх жыве на зямлі,*
*Бездань песьняў лясное стварэньне*

[11] Масей Сяднёў выкладаў расейскую мову ва ўнівэрсытэце Індыяны.

[12] Маецца на ўвазе твор Масея Сяднёва „Раман Корзюк“.

[13] (Машынапіс, люты 1976 г.)

[14] **Эльза Зубковіч** (дзяв. **Пілеман**, 1895—1983), сьпявачка, піяністка, кампазытар, пэдагог. Нарадзілася ў Менску ў сям’і мэдыка. У 1914 г. скончыла⇨

*Шлець а шлець ізь вятрамі на пушчы, палі,*
*Ажно ў сэрцах запусьцяць карэньне.*

*І ня знойдуць такія спакою нідзе,*
*Будуць біцца, крывавячы крылы,*
*І ўзьлятаць, і зрывацца, у шчасьці, ў бядзе*
*Па няўцямным тужыць, па забылым.*

*Каму собіць мець гэткае сэрца ў грудзёх,*
*Пражыве з намі век свой да скону*
*Быццам тутка й ня жыў, быццам нашых дарог*
*Не таптаў,*

⇨ Менскую музычную школу, навучаньню ў кансэрваторыі перашкодзіў пачатак Першай сусьветнай вайны. Засталася працаваць у Менскім шпіталі, дзе бацька займаў пасаду галоўнага лекара. Пазнаёміўшыся з прафэсарам Варшаўскае кансэрваторыі Георгіем Жураўлёвым, прыватна за чатыры гады прайшла зь ім поўны курс кансэрваторыі для фартэпіяна, адначасна беручы ўдзел у канцэртах. Працягвала канцэртную дзейнасьць і ў 1920 г., пад польскай акупацыяй. Адзін з арганізатараў, польскі лекар Урштэйн, параіў ехаць навучацца ў Бэрлін да вядучага прафэсара-тэарэтыка тамтэйшае кансэрваторыі, кампазытара Паўля Юона. З дапамогаю Ўрштэйна Эльза дамаглася ад польскіх уладаў дазволу на выезд і ў тым самым 1920 г. прыехала ў Бэрлін, захапіўшы з сабою ўласныя фартэпіянныя творы. Прафэсар Юон, швайцарац па паходжаньні, расеец паводле месца нараджэньня (Масква, 1872) і музычнае асьветы, ён у маладосьці быў пэдагогам у клясе скрыпкі й кампазыцыі ў Баку, а ў 1897 г. пераехаў у Бэрлін, дзе пражыў амаль усё жыцьцё, перад сьмерцю, якая надышла ў 1940 г., вярнуўшыся ў Швайцарыю. У ягоную клясу й была прынятая — з прызначэньнем стыпэндыі — Эльза. Але ў той час у Менск вярнуліся бальшавікі, памёр бацька, і трэба было ехаць да маці. Па рэкамэндацыі праф. Юона Эльза датэрмінова здала экзамэны ў Штутгарцкай кансэрваторыі (у Бэрлінскай не існавала экстэрнаў) і ў 1922 г. з дыплёмам піяністкі вярнулася ў Менск, дзе працавала ў музычнай школе, а пасьля ў тэхнікуме й кансэрваторыі. Выйшла замуж, нарадзіліся дзьве дачкі. Па вайне апынулася зь сям'ёй у Нямеччыне, пахавала мужа, а адтуль эмігравала ў ЗША, дзе працягвала пэдагагічную дзейнасьць. У 1972 г. выйшаў зборнік рамансаў *„Осенние падают листья“*, напісаны на вершы эміграцыйнай расейскамоўнай паэткі Ірыны Сабуравай, таксама народжанай на Беларусі. У 1972 г. выйшаў новы зборнік рамансаў „Край мой васільковы“ — на вершы Я. Коласа, А. Гаруна, М. Кавыля, Н. Арсеньневай. Памерла Эльза Зубковіч у Нью-Ёрку. ⇨

*ад калыскі бо звоніць*
*яму песьняю лётнай навокал усё,*
*песьню гэткі пачуе і ў плачы,*
*як нікому, шасьціць дзіваку каласьсё,*
*і ўсё чыста вітае іначай.*

*Дні ў пустой мітусьні, у пакуце, нудзьбе*
*Не, ня гнуць у дугу, не нявечаць музыкі,*
*Ці-ж ня гэткі і Твой,*
*Юбілярка,*
*надзел,*
*Лёс няшчасны мо', але вялікі?*

*Гэта-ж Ты, пакуль захад зыркі не астыў,*
*Рассыпаеш па клявішах вечару гукі,*
*Паўтараеш бярэзьнікаў рэчытатыў,*
*Грэеш песьняю новаю рукі.*

*Гэта-ж Ты ймкнешся ў музыку выліць і зьзяць*
*Чалавечых узьлётаў,*
*І стынь адцьвітаньняў,*
*Песьняй душы людзкія над багнай узьняць,*
*Памагчы нам піць радасьць і гора дазваньня...*
*Дык жыві!*

---

⇨ Гл. таксама: К. Заслужаны юбілей [Эльза Зубковіч] // Беларус. №103. Кастрычнік 1965. С. 3; Зь юбілейнага вечару Э. Зубковіч // Беларус. №104—105. Лістапад—сьнежань 1965. С. 5; Я. З. Канцэрт музычнае школы праф. Э. Зубковіч [Нью Ёрк] // Беларус. №122. Чырвень 1967. С. 8; Кампазытар Эльза Зубковіч (Да 50-годзьдзя музычнае творчасьці) // Беларус. №167. Сакавік 1971. С. 3; Карповіч, Алесь. Кампазытар Эльза Зубковіч. З нагоды 80-годзьдзя жыцьця // Беларус. №223—224. Лістапад—сьнежань 1975. С. 4; Віншаваньне кампазытаркі Эльзы Зубковіч з нагоды 80-годзьдзя жыцьця // Беларус. №223—224. Лістапад—сьнежань 1975. С. 4; Артыкул Міхаіла Гольдштэйна пра музыку кампазытара Эльзы Зубковіч [Што чуваць?] // Беларус. №226—227. Люты—сакавік 1976. С. 8; „Край мой васільковы“. Зборнік песьняў Э. Зубковіч // Беларус. №185. Верасень 1972. С. 2; Сьв. Памяці Э. Зубковіч (памерла ў Нью Ёрку 4 чырвеня 1983 г. на 88 годзе жыцьця) // Беларус. №311. Чырвень—ліпень 1983. С. 8; Жыцьцё, аддадзенае музыцы. (Эльзе Зубковіч — замест нэкралёгу) // Беларус. №312. Жнівень—верасень 1983. С. 4; №313. Кастрычнік 1983. С. 4.

*Дык твары!*
*Ня губляй, ідучы*
*Побач з намі таго, што ня кожны з нас мае.*
*Толькі-ж гэткім, як Ты,*
*хай няўзнак,*
*а ручыць*
*неспазнаная доля зямная!*

## 6. Ліст Леаніда Палтавы[15]

25.4.1979 г.

Вельмишановна і дорога Поетесо,

Ще раз дякую Вам за переслані ориґінальні й цікаві Ваші поезії, які постараюсь перекладати на українську мову в міру можливости (найбільша біда — брак часу).

Тут пересилаю сторінку з журналу „Вісник“, ч. 4/1979, що виходить у Нью Йорку (місячник), із коротким вступним словом та перекладом Вашої прекрасної поезії „У васкресні“. Д-р Тумаш одержав уже той журнал, коли був у друкарні св. Софіїі в Нью-Йорку.

У ґазеті „Беларус“ ч.264/1979 є повідомлення про вихід з друку книги „Між берагамі“ — але не подано адреси, куди писати, щоб її купити. Це шкода, бо я і сам купив би, а що ще важливіше — подав би вістку з адресою до української преси. Хоч і наші „братки“ не дуже то купують тепер книжку, а все таки хтось може і знайшовся б. Може в наступному числі „Б.“ подадуть адресу?

З дружнім привітом від моєї дружини-помічниці Галі, бажаю щиро Вам, Дорога Пані Наталю, і Вашим міцного здоров“я і високого поетичного лету!

Міцно тисну руку,
Ваш брат по перу

Леонід Полтава

П.С. Прикладаю, для інформації, копію моєї вістки для укр. преси в Америці. Бодай час до часу стараюсь щось подати про життя Білоруської Спільноти, щоб і українці трохи орієнтувались.

---

[15] **Леанід Палтава** (сапр. Пархамовіч, 1921—1990), украінскі паэт, празаік, драматург.

Мій прапредок — швед. Втікаючи на Україні від московського переслідування, та укр.-шведська родина мусіла помандрувати яких 100 рр. тому на Білорусь, до Бобруйска, і десь у тім районі жили півстоліття, а може якось були й поєднані кровно з білорусами. Потім повернулись на Україну, на Полтавщину. Ледве пригадую розповідь мами, що ще прадід і прабабуся жили в Білорусі у Бобруйську та в районі Могільова. Можливо звідси в мене своєрідна любов до Білорусі, а може тому, що я жив кілька років у м. Любеч над Дніпром, а через ріку вже була Білорусь (на жаль, лише БССР), але люди там були білорусами і душею, і мовно, і поведінкою, ми гарно дружили (от тільки інколи за дівчат бились та рибу крали з сіток-ятерів: білоруси у нас часом, а ми у них, але то була більше розвага, козакування, ніж злочин).

Був би дуже вдячний Вам за фото!

## 7. Ліст Уладыкі Мікалая (Мацукевіча)[16]

Таронта, 20 сакавіка 1980 г.

Вашай Міласьці Паэтэса Натальля Арсеньнева!

Вельмі й вельмі моцна дзякую Вам за перапрацоўку артыкула. „Ліст да Маці“[17] ўжо перапісаў, каб не адцягвацца. Копію яго залучаю. Залучаю таксама й копію ліста да рэдактара газэты „Беларус“.

Выбачце, што нагліў Вашую Міласьць як раз у той час, калі Вы запраўды мелі цяжкасьці. Няхай Усемагутны Бог ахоўвае Вас добрым здароўем. Ня можна Вам хварэць, ані аслябляцца, Вы патрэбныя нам, у залежы многа працы чакае.

Крыху хачу сказаць пра маці ў артыкуле „Ліст да Маці“. Маці ў артыкуле ўяўленая. Маці для мяне гэта ёсьць нешта тайнае, сьвятое. Вашыя нацякі *„Яшчэ адна вясна здалёк ад Цябе, без Цябе“*, *„Ты не далёка, Ты — з намі“* і *„Мая гэткая далёкая ды блізкая сэрцу майму Маці“*, калі я правільна іх разумею, суляць мне думку, што Вы гэтым маеце на ўвазе недзе пакінуўшую маці. Наадварот, у мяне гэтага няма. Мая родная маці памерла, як мне было шэсьць месяцаў. Бацька не жаніўся другі раз. У хаце жанчыны ня было, ажно мой найстарэйшы брат ажаніўся. Тады мне было трынаццаць гадоў.

[16] **Мікалай** (сьвецк. **Міхась Мацукевіч,** 1917—2002), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар, ярарх БАПЦ.

[17] Тваё Дзіця. Ліст да Маці (На сёлетні Дзень Маткі) // Беларус. №276. Красавік 1980. С. 3.

Нават я ня пэўны, ці ў артыкуле адбілася запраўдная маці, ці толькі я ў уяўленьні высока ў хмарах плаваю далёка ад запраўднасьці. Ці хоць адна маці можа пазнаць сябе ў „Ліст да Маці“? А гэтага хацелася асягнуць.

Жадаю Вам, Дарагая Паэтэса, добрага здароўя, рухлівасьці й шмат задаволеньня з жыцьця.

Няхай Госпад і Збаўца наш Уваскросшы Ісус Хрыстос мае Вас і Вашую сямейку ў Сваей апецы і ахіне ўсіх Вас Сваей Ласкай, Любоўю і Міласэрдзем.

Хрыстос Уваскрос!

† Мікалай.

## 8. Ліст Міхася Верацілы[18]

23.11.1990 г.

Даражэнькая спадарыня Наталля,

Хай дасць Вам Бог сілаў і здароўя да 2018 года (да 100-годдзя Новай Беларускай Дзяржаўнасці)!.

Ваша імя пад цудоўнымі мілагучнымі вершамі я ўпершыню прачытаў у часопісах „Шлях моладзі“[19] (якія захоўваюцца ў маім архіве), потым даведаўся, што Вы ў эміграцыі, што Вы „вораг народа“, і ў роспачы зразумеў, што Вашага аўтографа мне не ўбачыць ніколі (акрамя калекцыі манет і папяровых грошай, што хадзілі на тэрыторыі Беларусі, гістарычных і этнаграфічных каштоўнасцяў... я збіраю калекцыю аўтографаў Вялікіх Беларусаў. Сярод іх подпісы паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў. Дарэчы, у гэтым зборы ёсць амаль 60 дакументаў XVI і XVII стагоддзяў з подпісамі каралёў і беларускіх магнатаў Сапегаў, Радзівілаў, Агінскіх...).

Настала восень 1972 года. Шчаслівы лёс пазнаёміў мяне з Ларысай Антонаўнай Геніюш. Мы з жонкай Любай часта наведвалі яе ў Зэльве, перапісваліся. Яна падпісала мне ўсе свае кніжкі (акрамя пражскай[20], якую пакуль што мне не ўдалося дастаць). Ад яе я пачуў колькі добрых слоў і пра Вас.

[18] **Міхась Вераціла** (нар. 1937), краязнаўца, калекцыянэр з Гарадзеншчыны.

[19] **„Шлях моладзі“** — моладзевы грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, што выдаваўся ў Вільні ў 1929—1939 гг.

[20] Маецца на ўвазе першы зборнік Ларысы Геніюш „Ад родных ніў“ (1942).

На вялікі жаль, Ларыса Антонаўна не дажыла да перабудовы — зьвялі яе ў магілу[21]. Ад зэльванскай царквы і да жоўтага дому я нёс яе на сваіх плячах. Пахавалі яе побач з Іванам Пятровічам[22] і ў хустцы, што падарыў ёй Максім Танк (так яна прасіла)…

Сёлета я дапамагаў ставіць на магіле яе вялікі камень, што прывязлі мінскія сябры. Ледзь паспелі да дня нараджэння Ларысы Антонаўны…

Але што гэта я збіўся на мінорную нотку? Спачывае яна ў роднай зямлі, а мы памятаем яе — і гэта ўжо ня блага.

А яшчэ я — краязнаўца (член Рады БКТ — Беларускага краязнаўчага таварыства, якое адрадзілі мы год таму назад), крыху мастак, крыху паэт (друкаваўся ў „Голасе Радзімы“, у зборніку „Дзень паэзіі-80“. А найбольш я ганаруся тым, што Беларус, што *„з роду-племені Скарыны“*.

Нарадзіўся я 11 студзеня 1937 г. пад Ваўкавыскам (на Гродзеншчыне). Адукацыя мая: 10 класаў сярэдняй школы. Працую маляром у будаўнічай арганізацыі. Жанаты. Маю сына — 28 год і дачку — 21 год, і ўнучку (дачкі) — 4 месяцы. Ужо дзед. Беспартыйны.

Ну, вось, здаецца, я і адрэкамендаваўся, хоць крыху і сумбурна.

Усё цячэ, усё мяняецца.

Неўзабаве ў „Маладосці“ з'явілася публікацыя пра беларускую эміграцыю. Прыемна мяне яна ўразіла.

Яшчэ казалі, што пра Вас нешта было надрукавана ў часопісе „Политический собеседник“, але я здрадніцкія выданні не купляю і не чытаю і ніводнаму слову іх ня веру.

А сёлета з „Рэанімовы“[23], што выдавала наша Гродзенская паэтка Данута Бічэль-Загнетава я вычытаў пра Вашую зь ёю перапіску. Вымаліў у Дануты Іванаўны Ваш адрас і, набраўшыся нахабства, трывожу Вас сваім лістом. Цяплю надзею атрымаць калі не кніжку з аўтографам, дык хоць лісток паперы з Вашым подпісам.

Можа, Вам патрэбны якія кніжкі беларускіх выдавецтваў, сувеніры ці што іншае? Пішыце, я з вялікім задавальненнем выканаю Ваша жаданне.

---

[21] Ларыса Геніюш памерла 7 красавіка 1983 г.

[22] Маецца на ўвазе **Янка Геніюш** (1902—1979), грамадзкі дзеяч, муж Ларысы Геніюш.

[23] **„Рэанімова“** — культурна-асьветніцкае выданьне, друкаваны орган суполкі імя Максіма Багдановіча. Выходзіла ў Гародні ад 1989 г. Адным з рэдактараў была Данута Бічэль-Загнетава (нар. 1938).

Здароўя Вам і доўгіх гадоў жыцьця зычыць Міхась Вераціла з сямейкай.

P. S. У Мінску быў Масей Сяднёў, але я позна даведаўся аб гэтым і не паспеў пазнаёміцца з ім.

## 9. Юры Трачук.<br>„У справе друкаванага пачатку Н. Арсенневай“[24]

Мне толькі нядаўна давялося пазнёміцца са зместам публікацыі Сяргея Шупы „Друкаваны пачатак Н. Арсеньневай“ („Беларус“, нумар 370 ад траўня 1990 г.).

Пішучы ў ім пра паэтычны дэбют Наталлі Арсенневай, аўтар, між іншым, сцвердзіў у ёй: *„А тым часам ужо 16 лістапада 1920 году адноўленая стараньнямі Антона Луцкевіча віленская газэта „Наша Ніва“ надрукавала ў сваім №4 верш Арсеньневай „Восень“. Зь вялікаю доляй верагоднасьці можна меркаваць, што гэта і быў першы выступ паэткі, тады яшчэ вучаніцы Віленскай беларускай гімназіі, у пэрыядычным друку“.*

Добра, што Сяргей Шупа дазволіў сабе на характэрную даследчыкам пэўную дозу няпэўнасці, таму што ягоная канстатацыя сапраўды не з’яўляецца дакладнай. Магчыма, што захаваліся не ўсе нумары „Нашай Нівы“ ад 1920 г., і Аўтару не давялося бачыць першага з іх. Таму, што якраз у ім („Наша Ніва“, нумар 1 ад 28 кастрычніка 1920 г.) і надрукаваны, відаць, паэтычны дэбют Наталлі Арсенневай „Мой родны край“. Верша гэтага я не знайшоў у найпаўнейшым зборніку паэзіі Наталлі Арсенневай „Між берагамі“ (Нью-Ёрк[25], 1979).

Пра факт гэты мне не было яшчэ вядома тады, калі я пісаў навуковы артыкул, між іншым, пра творчасць Наталлі Арсенневай, „Эстэтызм у беларускай паэзіі“, публікаваны на старонках часопіса „Родныя гоні“ (на польскай мове). Змешчаны ў часопісе *„Studia ł Materiały. Filologia Rosyjska“* (Zielona Góra, 1988, t. XXVIII, z. 7, ss. 107—109), або я проста дакладна не зверыў фактаў, таму што якраз у гэты час корпаўся я ў сотнях заходнебеларускіх перыядычных выданняў 1918—1939 гг., якія ў 1988 г. склалі і дагэтуль не апублікаваную маю кніжку „Беларуская прэса ў II Рэчы Паспалітай (1918—1939)“ (машынапіс на польскай мове, сс. 277).

[24] Недатаваны машынапіс.

[25] Месца выданьня збору насамрэч пазначанае як „Нью-Ёрк—Таронта“.

Побач паэтычнага дэбюту Наталлі Арсенневай, у першым нумары ўзноўленай Антонам Луцкевічам „Нашай Нівы“[26], друкавалася апавяданне Максіма Гарэцкага, якое напісаў ён у Гжацку[27], „Прысяга“; у другім нумары, ад 1 лістапада 1920 г. — працяг успомненага апавядання і вершы Казіміра Сваяка[28] „На восень“, *„***Задушкі йдуць, самлела ўжо прырода“. „***А на Дзяды я заўтра возьму воску...“*

Усіх зацікаўленых радаслоўнай роду Арсенневых інфармую, што ў цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва СССР у Маскве (фонд Салагубы, нумар фонда 453, воп. I, спр. 1736) знаходзіцца генеалагічная табліца гэтай старой славутай сям'і пад загалоўкам „Род дворян Арсеньевых“ (на расійскай мове), машынапіс якой быў закончаны 31 студзеня 1911 г. Вынікае з яе, што радаслоўную гэтага роду запачаткаваў нейкі азербайджанец.

Канчаючы, трэба згадзіцца з Сяргеем Шупай, што сапраўды ў 1990 г. прыпадае 70-годдзе літаратурнай дзейнасці Натальлі Арсеньневай.

### 10. Ліст да Янкі Запрудніка[29]

4 красавіка 1991 г.

Даражэнькі Янка, празь якія колькі тыдняў надыйдзе сумная гадавіна чарнобыльскае трагэдыі. Даўно хацела прысьвяціць ёй хоць пару радкоў, але ўсё то адкладала, то губляла ўжо напісанае. На жаль, запраўды добры верш пра Чарнобыль напісаць цяжка, калі наагул магчыма, занадта гэта для нас, беларусаў, вялікая трагэдыя, дык пасылаю, што патрапіла напісаць маё пяро, ці варта-ж гэты „твор“ друкаваць, рашай сам.

Чаму-ж я ўпляла ў верш хлопчыка, гэта крыху дзіўна. Справа ў тым, што якраз, калі ў Чарнобылі здарылася бяда, мне прысьніўся дзіўнава-

---

[26] Выданьне газэты „Наша ніва“ было адноўленае ў 1920 г., аднак пратрывала нядоўга. Цягам кастрычніка—сьнежня пабачылі сьвет толькі 9 нумароў газэты, пасьля чаго яна была забароненая.

[27] **Гжацк** (сёньня Гагарын) — адміністрацыйны цэнтар у Смаленскай вобласьці. Максім Гарэцкі служыў там у часе Першай сусьветнай вайны.

[28] **Казімір Сваяк** (сапр. Канстанты Стэповіч, 1890—1926), каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

[29] У часе напісаньня Натальляй Арсеньневай ліста Янка Запруднік быў рэдактарам газэты „Беларус“, і менавіта яму як рэдактару, відаць, быў адрасаваны гэты ліст.

ты сон — сьнілася сенажаць, мокрая, але ўжо зялёная, і босы хлопчык, пастушок, які адганяў пужкай худую чорную кароўку із адламаным рогам. Я ў сьне хацела крыкнуць, каб ён кароўку ня біў, але тут зрабілася цёмна, і я прачнулася. Нараньні я расказала сон маёй унучцы, мы дзівіліся, якія глупствы могуць прысьніцца чалавеку, прычым тут кароўка, пастушок? Але пасьля, калі ўжо пра Чарнобыль пачалі пісаць дзень па дні ўсе газэты, я доўга не забывалася пра майго „пастушка“ і чорную кароўку, таму і ўпляла гэта ў верш.

Ну, а пакуль што бывай, прывітаньні.

Твая Н. Арсеньнева.

### 11. Ліст Сяргея Новіка-Пеюна[30]

16 верасьня 1992 г.

Глыбокапаважаная, дарагая Спадарыня Наталля!

Пасылаю да Вас сардэчнае прывітанне з Беларусі. Ад усяе душы дзякую Вам за падараваную мне Вашую кнігу „Між берагамі“.

Перада мною ляжыць першая Вашая кніга „Пад сінім небам“, якую Вы мне падаравалі 15-га лютага 1928 г. у Хэлмне[31], калі я наведваў Вас. Таксама перада мною ляжыць Ваш верш *„У тонкім прадзіве сонечных ясных праменьняў“*, які Вы мне ўпісалі ў альбом у Хэлмне 4-га чэрвеня 1928 г. Усё гэта збярог мой Друг і Настаўнік археолаг Стаброўскі Іосіф Іосіфавіч[32], заснавальнік Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музею, бо я не мог бы зберагчы.

Пасля сустрэчы з Вамі, Вашым мужам і сынам Уладзімірам у Слоніме ў 1943 г., 25 лістапада 1943 г. я быў арыштаваны гестапаўцамі і асуджаны на кару смерці. 4 ліпеня 1944 г. падчас расстрэлу на 9 кіламетры за Слонімам мяне, параненага, выратавалі партызаны. А 14 снежня 1944 г. мяне арыштавалі супрацоўнікі *KGB*. (Па даносе Анатоля Іверса, Міско Івана Дарафеевіча[33]). Трыбунал мяне асудзіў. 16 гадоў я прабыў на катарзе ў запалярнай Якуціі. У гестапаўскай камеры я сустрэўся з жонкай Анатоля Іверса Верай, якую ён выдаў гестапаўцам. Веру расстралялі.

[30] **Сяргей Новік-Пяюн** (1906—1994), паэт, празаік.

[31] Натальля Арсеньнева жыла ў Хэлмне (Польшча) разам зь сям’ёй у часе службы Франца Кушаля ў польскім войску.

[32] **Іосіф Стаброўскі** (1869—1968), археоляг і краязнавец.

[33] **Анатоль Івэрс** (сапр. **Іван Міско**, 1912—1999), паэт.

Пасля вайны ён напісаў 189 даносаў, з якіх застаўся ў жывых толькі я адзін. А. Іверс казаў мне, што яшчэ [ў] 1939 г. хацеў згубіць мяне. З лета 1960 г. я жыву ў Менску адзін, бо мая сям'я загінула ў гітлераўскі[м] лагеры смерці Калдычава каля Баранавічаў. Мелася выйсці з друку ў 1991 г. кніга маіх вершаў „Песьні з-за кратаў", але дагэтуль не выйшла[34].

На мінулым тыдні па беларускім тэлебачаньні я бачыў Вас, калі Вы гутарылі з міністрам замежных справаў Рэспублікі Беларусь сп. Краўчанкам П. К.[35] Быў вельмі рады.

У 1989 г. у Менску быў Данчык[36] са сваёй мамай спадарыняй Юляй[37]. 4-10-89 году яны наведалі мяне. Данчык цудоўна пяе мае „Зорачкі"[38] і іншыя мае песні.

Тое, што Вашага мужа ня стала, чуў, а дзе Ваш сын Уладзімір?

Ад усяе душы зычу Вам добрага здароўя і новых выдатных поспехаў у Вашай цудоўнай творчасці. Нядаўна ў Менску выйшла факсімільнае выданне Вашае кнігі „Пад сінім небам".

З глыбокай пашанай і ўдзячнасцю

Усім сэрцам Ваш

Сяргей Новік-Пяюн.

## 12. Ліст Уладзімера Васілевіча[39]

15 жніўня 1996 г.

Шаноўная спадарыня Наталля Арсеннева!

Да Вас звяртаецца зусім не знаёмы Вам чалавек — Уладзімір Васілевіч, навуковец, выкладчык фальклору і этнаграфіі Беларускага педа-

---

34 Кніга Сяргея Новіка-Пеюна „Песьні з-за кратаў: Вершы, песені, паэмы" пабачыла сьвет у Менску ў 1993 г.

35 **Пётра Краўчанка** (нар. 1950) займаў пасаду міністра замежных спраў БССР і РБ у 1990—1994 гг.

36 Сьпявак **Багдан Андрусішын** (**Данчык**, нар. 1958) у 1989 г. упершыню адведаў Беларусь, дзе выступаў з канцэртамі.

37 **Юлія Андрусішына** (дзяв. **Каханоўская**) — дачка Аўгена й Яніны Каханоўскіх, грамадзкая дзяячка. Ад 1944 г. — разам з бацькамі на эміграцыі. У 1945—1950 гг. вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. Ад 1950 г. жыве ў Нью-Ёрку. Маці Багдана Андрусішына (Данчыка).

38 **„Зорачкі"** — адна з найбольш вядомых песень Сяргея Новіка-Пяюна, вельмі шанаваная на эміграцыі.

39 **Уладзімір Васілевіч** (нар. 1952), фальклярыст, этнограф.

гагічнага універсітэта. Пры гэтым з прыемнасцю магу дадаць — даўні і адданы прыхільнік Вашага паэтычнага дару, якім захапляюся яшчэ з тых часоў, калі Ваш славуты том (па сённяшні дзень зайздрошчу тым, хто ім валодае!) патаемна давалі мне чытаць на 2-3 ночы. Тады ж з асалодаю паспешліва перадрукоўваў для сябе творы, што асабліва ўражвалі і craналі душу. Перапісваў Вашы вершы, паэмы і калі гартаў у бібліятэках (пераважна віленскіх, бо ў нас гэта было недаступна) старую перыёдыку.

Аднак узяцца за гэты ліст падштурхнула мяне не толькі шчырая ўлюблёнасць у Вашу паэзію, але і яшчэ адна акалічнасць, якая, мне здаецца, можа аказацца Вам цікавай і нечаканай. Працуючы ў камандзіроўцы ў рукапісным аддзеле Віленскага універсітэта па сваіх фальклярыстычных справах, я натрапіў у каталозе на картку, дзе значылася: „Фонд Сяргея Аляксеевіча Арсеньнева“. Вядома, я адразу ж заказаў усе справы гэтага фонда, якія належаў Вашаму брату. Сярод разнастайных дакументаў выявіўся невядомы аўтограф Максіма Гарэцкага — водгук на сачыненне Сяргея. Пра яго я ў свой час напісаў артыкул — доўга яго не адважваліся друкаваць нават самыя смелыя выданні, паколькі і Ваша імя тады ў нас замоўчвалася, і далейшы лёс Вашага брата нікому, у тым ліку і мне, не быў вядомы. (Дасылаю Вам даўні нумар „Маладосці“ з тым артыкулам.) Знаходзіліся ў фондзе і змястоўны дзённік Сяргея, які змяшчае цікавыя бытавыя падрабязнасці прыезду Вашай сям'і ў Вільню і няпростае пражыванне ў ёй у той складаны час. (Калі на тое будзе Ваша жаданне, я мог бы Вам даслаць выпісаныя фрагменты дзённіка). У пераліку матэрыялаў фонда можна вылучыць прамову С. Арсеньнева „Аб незалежнасці Беларусі і сусветным прагрэсе“, яго сачыненні і рэферат па рускай літаратуры. Ёсць там і салідны том „La noblesse de Russie“, прысвечаны роду Арсенневых — пасядзеўшы над ім, я ўстанавіў, што Вы з'яўляецеся дзесяціроднаю (калі можна так сказаць) сястрою Міхаіла Юр'евіча Лермантава. Зрэшты — пра ўсё гэта сказана ў згаданым вышэй артыкуле.

Але, бадай, найбольшую цікавасць у гэтым фондзе ўяўляюць 3 падоўжаныя ў палатняных вокладках альбомчыкі *„детей Арсеньевых“*. На адным пазначана: *„Устье. Лето 1918“*. У гэтым альбоме, які належаў Сяргею, захаваўся цудоўны акварэльны малюнак залацiста-жоўтых люцікаў, а таксама пейзажы, замалёўкі вясковага інтэр'еру, прыслугі, дзяцей і яшчэ, як удакладнена, *„стихотворение, написанное рукою Наташи“* — *„Угасал алый луч“*.

Другі альбом належаў Вам. Тут можна ўбачыць замалёўку вугалем „У вагоне“, малюнкі „Вадапой“, „Сенакос бацюшкі“, пейзажы. На некаторых з іх паметка *„Н. А.“* — значыць, іх малявалі Вы? Каля верша

*„Ночь“* — малюнак ночы. Акрамя Вашых вершаў *„Кувшинка“, „Среди трав, среди осоки“, „Весь залив заснул до утра“* запісаныя таксама вершы В. Камаровай (напэўна, Вашай сяброўкі?).

Напачатку трэцяга альбома — акварэль „Расія, Англія і Францыя“ (алегорыя) — *„Н. А.“*. І далей — Вашы вершы *„Незабудка“, „Осень“, „Звезда“, „Осыпались жёлтые листья“, „Цветы“, „Татарка“, „Огни“, „С яблони цветущей“, „Средь скал“, „Осень“, „Ночь морозная сияет“, „Розы нежныя, розы белыя“, „Как жарко и душно“*.

І вось, калі ласка, праз столькі дзесяцігоддзяў гэтыя вершы зноў перад Вашымі вачыма. Перапісаўшы іх даслоўна, з усімі паметкамі, я рады вярнуць знойдзеныя тэксты іх аўтару. Ці думалася Вам, шаноўная спадарыня Наталля Арсеннева, што тыя старыя альбомы, якіх краналася Ваша яшчэ амаль дзіцячая рука, не загінулі ў пажарышчах войнаў, а спакойна спачывалі доўгія гады на паліцах аднаго з дзяржаўных архіваў Літвы? Не ведаю, якія пачуцці абудзіць у Вашай душы перачытванне гэтых ранніх, яшчэ наіўных і, напэўна, не зусім умелых, але такіх чыстых вершаў. Аднак, калі яны па-добраму разварушаць Вашу памяць, дазволяць ясней згадаць заімглёныя далеччу гады, выклічуць дзе-нідзе паблажлівую ўсмешку Майстра-Паэта над уласнымі пачатковымі спробамі — то можна лічыць, што Час нездарма ўбярог тую крыштальную крынічку (нікім з даследчыкаў яшчэ не знойдзеную!), з якой пачыналася паэзія вялікай Наталлі Арсенневай!

Прызнаюся, мне даўно хацелася пераслаць Вам гэтыя архіўныя знаходкі. І вось зручны выпадак: сп. Уладзімір Арлоў, зноў ад’язджаючы ў Амерыку, выявіў гатоўнасць перадаць падрыхтаваны мною канверт калі не прама Вам у рукі, дык хоць праз каго-небудзь, за што я яму вельмі ўдзячны. Буду ўсцешаны, калі дасланае хоць крышачку парадуе Вас[40].

У знак асаблівай пашаны да Вас асмельваюся прыкласці і адну са сваіх кніжачак. На ўсялякі выпадак падаю і свой хатні адрас [...].

Шчыра жадаю Вам, шаноўная спадарыня Наталля Арсеннева, моцнага здароўя і шчаслівага паэтычнага натхнення!

З глыбокай павагай

Уладзімір Васілевіч

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[40] Машынапісы рускамоўных вершаў Натальлі Арсеньневай захоўваюцца ў архіве БІНіМу.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# „МУГІЛЁЎСКІ МУЖЫЧОК“[1]

Стасункі паміж творчымі людзьмі заўсёды няпростыя, а ў дыяспары — удевая. Тут няма магчымасьці адысьці ці сысьці, бо проста няма куды; пісьменьнік мусіць хоцькі-няхоцькі працягваць камунікаваць з тымі, хто разам зь ім апынуўся на эміграцыі. Выбар тут яшчэ меншы, чым паміж царквой і касьцёлам.

Гэтым вытлумачваецца не адна тутэйшая гісторыя творчага сяброўства-варажнечы, а пасярод іх — і Масея Сяднёва з Юркам Віцьбічам. Яна пачалася ў паваеннай Нямеччыне з братэрства ў літаратурным згуртаваньні „Шыпшына“, зьведала халоднае ігнараваньне, непрыхаваную нянавісьць і скончылася заявай грамадзяніна ЗША Юрыя Стукаліча на Радыё „Свабода“ аб спыненьні ўсякага супрацоўніцтва празь дзейнасьць дырэктара беларускага аддзелу Масея Сяднёва.

Тады, у 1971 г., Віцьбіч адбіў на сваёй друкарцы з тры дзясяткі копіяў і распаўсюджваў *„апошнюю кроплю“*:

*Нашая спадчына прамаўляе*[2] *— 79*
*Вуліца Маскоўская й завулак Янкі Купалы*

*Дата перадачы: 13.6.1971*

*Падкрэсьленае рэдактарам (Масей Сяднёў) у аўтарскім (Юрка Віцьбіч) тэксьце:*

*„Міжволі паўстае пытаньне — няўжо кроў нашых прашчураў, якой у змаганьні з ворагамі радзімы яны густа палілі імі-ж накапа-*

[1] Тэкст быў падрыхтаваны для выступу на XIII Архіўных чытаньнях у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва (4 кастрычніка 2013 г., Менск).

[2] Назва сэрыі перадачаў Юркі Віцьбіча.

Но.

Да
Ураду Беларускага Інстытуту
Навукі і Мастацтва
Нью Ёрк.З.Г.А.

Прашу залічыць мяне ў лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя і дадзеныя пра мой навуковы /літаратурны, мастацкі/ стаж падаю ніжэй.

Дня 5 Сакавіка 1952 г.

М. Сяднёў
/подпіс/

Прозьвішча і імя Сяднёў Масей

Літаратурны /мастацкі/ псэўдонім/ы/ —

Адрыс 26 Charles St., South River, New Jersey

Дата і месца нараджэньня 1.9.1915. в. Мокрае, БССР

Асьвета і эвэнтуальны навуковы /мастацкі/ стаж Вышэйшая, стаж (літаратурны) – 15 год.

Навуковая ступень /калі ёсьць/ —

У якой галіне навукі /літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце У галіне літаратуры

Публікаваныя навуковыя /літаратурныя, мастацкія/ творы: вершы —
„У акіяне ночы" (1947)
„Спадзяваньні" (1948)

Прыгатаваныя да публікацыі творы
Зборнік вершаў і проза аб нашаніўцтве.

Анкета-заява Масея Сяднёва ў БІНіМ. 1952 г.

*ныя валы, менш каштоўная й пачэсная, чымся крой гэроя Другое сусьветнае вайны, каб у гонар апошняга перайменаваць Завальную вуліцу, скапаўшы пры гэтым і сам вал?“.*

*Рэзалюцыя рэдактара:*

*„Юры Аляксандравіч,*

*тэма, закранутая Вамі, не такая ўжо й простая, каб яе было льга разглядаць просталінейна. Адзін толькі прыклад: захоўваць нашыя нацыянальныя гістарычныя назовы, называць нашыя вуліцы, плошчы і г.д. імёнамі нашых выдатных людзей — гэта нармальна й добра; мець-жа нешта няпрыязнае, скажам, да гэроя 2-ой сусьветнай вайны, імём якога названая вуліца, — нядобра, выступаць супраць гэтага не выпадае. Мае ў сабе гэтая тэма і іншыя нюансы, ня браць на ўвагу якіх нельга. Ну і яшчэ адно: „излишества“ ў Вашых скрыптах. Яны ўсёткі залішнія. Можа перагледзілі гэты скрыпт?*

*З прывітаньнямі Масей Сяднёў“*[3].

Трэба прызнаць, што дзейнасьць Масея Сяднёва на „Свабодзе“ не задавальняла ня толькі Віцьбіча. Да ранейшых, даволі пашыраных, але агульных абвінавачваньняў у русафільстве, дадаліся канкрэтныя. Так, менавіта за ягоным дырэктарствам замест *Менск* пачалі ўжываць *Мінск*.

Юрка Сяньκоўскі, не называючы канкрэтных імёнаў, пісаў да Вітаўта Тумаша:

*„Мы тут у Мюнхэне неяк „дабілі“ стары год да канца. За ўвесь час майго быцьця ў Мюнхэне ён быў найбольш цяжкі й трагічны. У ім нам давялося пахаваць (без пары) трох нашых чалавек. На нашую „колькасьць“ — гэта страшэнна вялікі працэнт на адзін год. Для мяне асабіста гэта быў год суцэльных няўдачаў і глыбокіх расчараваньняў. Спыніла выхад „Бацькаўшчына“. У нашых грамадзкіх справах, калі пра такія яшчэ можна гаварыць, стварылася й трывае атмасфэра канстэрнацыі і разброду; пад ціскам варожых нашай справе сілаў сярод нашых людзей бярэ верх апартунізм, які мяжуе із здрадай нацыянальных інтарэсаў. Гэта датычыцца, у першую чаргу, таго кола людзей, што супрацоўнічаюць з установай, у якой працую я. Тут пачынаюць задаваць тон людзі, якія стаяць на сумлеўных ідэйных пазыцыях або на ніякіх пазыцыях. Запанавала палітычнае бязгалоўе, русыфікацыя мовы, падхалімства. Я прадбачыў гэтую тэндэн-*

[3] Тут і далей цытуюцца дакумэнты з архіву БІНіМу.

*цыю, стараюся ёй супрацьдзеіць, але, заміж разуменьня й падтрымкі, здабыў толькі ворагаў.*

*Прыкра пісаць пра гэтыя рэчы, але я думаю, што магу й мушу Вам даверыцца, бо ведаю Вас як пасьлядоўнага грамадзкага дзеяча. Пры гэтым хачу Вас прасіць ня прыгадваць у сувязі з вышэйнапісаным майго прозьвішча, бо, апрача хваробаў, расквітнела ў нас і даношчыцтва, ад якога мне ўжо давялося пацярпець*“[4].

Было б няпраўдаю сцьвярджаць, што выключна рэдактарскай, хай і надта сумнеўнай — з погляду большасьці — дзейнасьцю можна вытлумачыць стаўленьне эмігранцкай грамадзкасьці да Масея Сяднёва. Хоць бы таму, што пачалося ўсё нашмат раней.

У 1964 г. у газэце „Беларус“ быў надрукаваны артыкул Масея Сяднёва „Перачытваючы Якуба Коласа“ (№83. Люты 1964. С. 2). Тэма, закранутая ў ім аўтарам, час ад часу паўстае й сёньня на старонках ці хвалях беларускіх мэдыяў з даволі прагназаванай рэакцыяй.

Але ж у гэтым выпадку палемікі ў газэце не адбылося; на непалітычныя тэмы наогул палеміка ў „Бацькаўшчыне“ ці „Беларусе“ здаралася надзвычайна рэдка. Толькі тое ня значыць, што не было абмеркаваньня прыватнага. Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша — зь ліку такіх.

*„29.2.64 г.*
*Саўт Рывер*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Вельмі й вельмі ўдзячны за ветліва дасланыя Вамі №№ „Беларуса“. Прашу прабачэньня, што гэтак спозьніўся з адказам на Ваш добры ліст —ператраўляў сваю крыўду (ці „крыўду“?). Значыцца патрабаваўся нейкі час, каб знайсьці часова згубленую душэўную раўнавагу, а тым самым аднавіць калішняе пачуцьцё аб’ектыўнасьці. Дык дазвольце цяпер, у апошнім пляне, выказацца аб адным твору, зьмешчаным у №83 „Беларуса“.*

*Маю на ўвазе артыкул Масея Сяднёва „Перачытваючы Якуба Коласа“. Мяне бадай ня дзівіць, што ўласьне гэткі артыкул напісаў здаўна мне знаны Масей Сяднёў, але затое мяне дужа зьдзівіла, што яго зьмясьціў на сваіх старонках „Беларус“. Бо справа ў тым, што гэты артыкул зьневажае наш народ ды ягоную эміграцыю, абурае кожнага больш-менш добрага беларускага патрыёта.*

[4] Ліст Юркі Сянькоўскага да Вітаўта Тумаша ад 28.01.1968.

*Перадусім, абстрагуючыся ад асабістае якасьці Масея Сяднёва — ад занадта высокага падыходу да свае ўласнае асобы. Запраўды, аб сабе ён выказваецца — мы — („Мы, Николай Второй“?) і далей скрозь ужывае аж празьмерна „Я“. Ну няхай ён сам для сябе й Вялікі*[5]*, але гэтае не дае яму аніякага права на тое, каб спрабаваць накінуць нашаму народу, а значыцца ўсім нам, нейкі камплекс ніжэйшасьці.*

*Параўноўваючы Янку Купалу і Якуба Коласа з Гётэ, Дантэ, Байранам, Міцкевічам, Пушкіным і г.д., Масей Сяднёў прышоў да сумнага выснаву, што яны замалыя, убогія, месьцячковыя. Ці хіба гэта праўда? Для запраўднага беларуса Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун, Зьмітрок Бядуля, Максім Багдановіч і г.д і г.д. ні з чым няпараўнальныя, няпаўторныя, ніколі нязабытныя.*

*Ня падлягае сумлеву, што Амазонка больш велічная за Нёман, але толькі Нёман дарагі. Бяз сумніву Манблян вышэйшы за Сьвятую гару, але толькі яна для нас сьвятая. Пэўне-ж, прыкладам, Ню Ёрк большы за мястэчка Зацьвілішкі (Алесь Гарун), але затое апошняе больш утульнае для сэрца. Таму й згадваюцца тут радкі з цудоўнага Ўладзімера Хадыкі:*

*І цяпер мне ня верыцца ў моц гаманін, —*
*Што пякней Беларусі Швайцарыя!*

*На думку Масея Сяднёва, усё-ж Янка Купала і Якуб Колас ня вінаватыя ў сваёй „ніжэйшасьці“, бо яны ня ў стане былі ўзьняцца над сваім беларускім народам — убогім, усімі пагарджаным, увогуле — нейкім смаркатым у параўнаньні зь немцамі ці французамі. Хлусьня! Ён зусім ня ведае нашае старое дый новае гісторыі. Як і ня ведае надзвычай багатага беларускага фальклёру, які стаіць значна вышэй за расейскі ды польскі. Як і ня разумее ён з гэтае прычыны вялікіх магчымасьцяў нашага народу.*

*І мне тады Масей Сяднёй нагадвае Максіма Горкага, які ў сваім лісьце да Кацюбінскага пісаў: „В Белоруссии есть два поэта: Якуб Колас і Янка Купала. Очень интересные ребята“.*

*Усё-ж колькі вялікадзяржаўнае, тыповае расейскае пагарды ў гэтым тэрміне — „ребята“. Ці хіба-ж калі-небудзь Максім Горкі ўжыў-бы выраз „ребята“ да сваіх расейскіх сучасьнікаў — Талстога, Чэхава, Караленкі, Буніна, Купрына, Андрэява і г.д.?*

---

[5] *„Я сам сабе адзін вялікі“* — радок зь вершу Масея Сяднёва.

*Мне здаецца, я крыху разумею, хоць і зусім не апраўдываю прычыны лёгкадумнага падыходу Сяднёва да Коласа й Купалы. Нарадзіўся Сяднёў у беларускай сялянскай сям'і і змалку гаварыў вылучна пабеларуску, потым пайшоў у беларускія ніжэйшую й вышэйшую школы. Усё гэтае для яго з калыскі натуральнае, а між тым яно зусім не звалілася зь неба. Дзякуй Янку Купалу і Якубу Коласу, што, нягледзячы на самыя няспрыяльныя ўмовы, яны пракладалі шлях да гэтага. Не кажу ўжо пра іхнюю ролю ў стварэньні беларускае літаратурнае мовы й літаратуры. І таму ўрэшце рэштаў ня варта нагадываць вядомую хатнюю жывёлу пад дубам.*

*А вось, прабачце за вузка асабістае, нешта зусім іншае мелася ў мяне. Выйшаў я з абмаскалянага беларускага асяродзьдзя, пачаў пісаць па-беларуску, жывучы ў... Маскве, на заводах якое бяз малага 10 год зарабляў сабе права на жыцьцё й вышэйшую асьвету. Пры наяве самых благіх умоваў для гэтага, я знайшоў сваю Беларусь, а таму ў мяне зусім іншы падыход да Яе. Яе ня было, дык можа ня варта было-б жыць!*

*Абстрагуюся нават ад выказваньня Якуба Коласа ў лісьце ад 8.9.42 г. да майго колішняга сябра па „Ўзвышшы" Пятра Глебкі: „За Вашу газэту дзякую. Яна дае шмат беларускіх матэрыялаў. Калі абложым Гітлера, дык пабачым, што будуць казаць адамовічы, віцьбічы і іншая погань. На іх мордах павыпякаем кляймо: „нямецкі паслугач". Болей для іх нічога ня трэба" („Полымя", 1962, №8, стар. 122).*

*З ранейшымі цяплынёю й павагаю стаўлюся да Дзядзькі Якуба Коласа. Вось, напрыклад, мушу напісаць для „Беларускае Моладзі" нарыс „Зь Якубам Коласам па грыбы", дзе хочацца паказаць жывога, запраўднага, не падробленага, не падбітага Якуба Коласа.*

*А наразе хочацца напісаць артыкул „Чытаючы Масея Сяднёва". Мне здаецца, што Сяднёў аж занадта Вялікі ў параўнаньні зь нейкімі дробнымі Янкам Купалам і Якубам Коласам. Хочацца, але часу няма. Іншае трэба напісаць у першую чаргу ў нялічаныя пазафабрычныя вольныя гадзіны.*

*Аднак даруйце — завялікі ліст атрымаўся — злоўжываю Вашым часам.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч*"[6].

[6] Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 29.02.1964.

І гэты ліст, як дзясяткі іншых Віцьбіча, разыходзіўся у копіях і, натуральна, чытаўся самім Сяднёвым, які, у сваю чаргу, не маўчаў:

*„Вельмі Паважаны Спадару Станкевіч*[7]*,*

*[...] Прыемна мне, што ўспомнілі мяне й маё 50-цідзесяцігодзьдзе й хацелі-б гэны мой юбілей адзначыць у „Беларусе“. Ад душы дзякую за памяць і ўважлівасьць. Гэтым выказваю сваю згоду што да адзначэньня ў друку гэтай даты. Высылаю Вам фото (калі ласка, зьменшыце яго), біяграфію і восем вершаў Выбачаюся, што ня выслаў гэтага матэрыялу адразу — „Бацькаўшчына“ дагнала мяне з „Корзюкам“*[8]*, і я адрабляўся.*

*З агідаю пісаў пра сябе — першы раз у жыцьці. Калі што не падабаецца, выпраўце, калі ласка. Што тычыцца „сугэстыі“, дык Пану і ўсе карты ў рукі. Пэўне-ж, юбілянта ня крыўдзяць! Адна толькі ў мяне просьба — не рабеце, калі ласка, зь мяне дужа вялікай „ахвяры бальшавізму“, гэта было-б ужо занадта па-газэтнаму. Віцьбіч гэта любіць (я пазнаў адразу, што пісаў біяграфію ён сам). Рабеце, калі ласка, зь мяне песьняра, а не „ахвяру“*[9]*.*

У Масея Сяднёва за вонкавай сьціпласьцю й непатрабавальнасьцю хаваліся вялікія амбіцыі. Усё гэта разам рабіла супрацоўніцтва зь ім даволі няпростым ня толькі для рэдактара „Шыпшыны“ й „Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі“. Троху пра тое — у лістах Сяднёва да дырэктара Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Вітаўта Тумаша.

*South River, 3.5.52.*

*Паважаны Спадар Тумаш,*

*Даруйце — усё шукаў Вашага адрысу: мне хацелася напісаць Вам не праз „трэція рукі“, а непасрэдна. Сягоньня, нарэшце, знайшоўся Ваш „нешпітальны“ адрыс, і я ахвоча адказваю на Вашыя ветлівыя й сапраўды спакусьлівыя для мяне прапановы.*

*Мая даўно сьвярбіць ручка напісаць (хоць-бы і ў форме нейкіх там „Зацемкаў“) пра нашу сучасную літаратуру наагул і пра яе паасобных прадстаўнікоў, напісаць так, як-бы мне хацелася — сьмела, свабодна і шчыра. Гэта былі-б хутчэй зацемкі ня крытыка, а зацемкі*

[7] Станіслаў Станкевіч на той час быў рэдактарам газэты „Беларус“.

[8] **„Раман Карзюк“** — празаічны твор Масея Сяднёва.

[9] Ліст Масея Сяднёва да Станіслава Станкевіча ад 08.08.1964.

*самога „вінаваўцы“. На жаль, зрабіць гэтага цяпер я не змагу: ня маю часу і не хачу таго „ажыўленьня“ на літаратурным фроньце, якое можа адбыцца пасьля маіх такіх зацемак. Я асабіста вельмі цаню Вашую ініцыятыву ў гэтым кірунку, але, Спадар Тумаш, дазвольце мне, улічыўшы ўсё, адкласьці гэны рэфэрат на будучыню.*

*Што тычыцца майго вечару, дык з прыемнасьцяй-бы, але таго „найнавейшага“, якога Вы, відавочна, хацелі-б пачуць ад мяне, я і сам яшчэ ня маю. Пачакайце — ня так яно лёгка прыходзіць, асабліва пры маёй паэтычнай скупасьці.*

*І Купала, я упэўнены, ня будзе пакрыўджаны — усё, што трэба (і нават болей) скажуць „спэцы“ ад літаратуры, як слушна зазначылі Вы. Пра Купалу я, праўда, пісаў, але гэта ня больш, як дысэртацыя.*

*Дык вось і ўсё тымчасам.*

*Ваш Сяднёў.*

*South River, 23.8.54.*

*Паважаны Спадар д-р Тумаш!*

*Наколькі мне ведама, Бел. Інст. Навукі і Мастацтва рэдагуе ці ўжо зрэдагаваў альманах*[10] *у выдавецтве „Бацькаўшчыны“. Гэтым хачу давесьці да ведама, што на ўдзел у альманаху я не магу згадзіцца. Таму ветліва прашу выключыць мяне з гэтага выданьня, калі толькі наагул у ім прадбачана месца для мяне.*

*Няпрыняцьцё гэтай маёй просьбы будзе разгледжана мною як няпрыхільны акт у адносінах да мяне.*

*З пашанай М. Сяднёў.*

*South River, 21.10.54.*

*Вельмі Паважаны д-р Тумаш!*

*Вельмі і вельмі шкадую, што напісаў да Вас (і яшчэ да д-ра Я. Станкевіча) такі непатрэбна катэгарычны ліст — „джэнтэльмэн“ зь Нью Ёрку (а не „джэнтэльмэны“), наш агульны знаёмы, выклаў мне ўсю справу з рэдагаваньнем альманаху так, што я, даруйце мне, ня мог зрабіць іншага высnaву адносна майго ўдзелу ў тым альманаху. Вы асабіста (падкрэсьліваю гэта) не абвінавачваліся. Але я напісаў мяноўна да Вас, спадзяючыся, што Вы ўсё гэта найлепш зра-*

[10] Ідзецца пра альманах „Ля чужых берагоў“ (Мюнхэн, 1955).

*зумееце. І калі я такім сваім зваротам можа выклікаў у Вас не зусім прыемныя эмоцыі — даруйце. Адным словам, я асабіста хацеў-бы гэтую прыкрую рэч лічыць скончанай, дакладней — сваю заяву аб выхадзе з альманаху я адклікаю як неабгрунтаваную.*

*Крушына Рыгор... нагаварыў Вам ужо шмат горшага. Дзіўлюся, як гэта можна так! Ніхто мне не перадаваў, што Вы напісалі да Я. Станкевіча ліст з патрабаваньнем выкінуць з альманаху ўсе мае вершы за выняткам трох. Таксама як ніхто не гаварыў, што Вы гэта зрабілі на „загад Арсеньневай“. Значыць, я ня мог гэтага гаварыць Рыгору Крушыне. Нашто гэтую і так нецікавую гісторыю рабіць яшчэ больш няцікавай? Цэлая бяда ў нас з аматарамі папляткарыць. Кажны мае нейкую сваю мэту і дзеля яе гатовы плесьці-снаваць нямаведама што. Я паўтару яшчэ раз: адна асоба здолела пераканаць мяне ў праўдзівасьці вэрсіі „трох вершаў“. Я палічыў гэта за зьняважаньне адносна да мяне як да аўтара і напісаў тое, што напісаў, нічога іншага ня маючы на мэце. Пасьля таго, як выясьнілася, што ўсё гэта мана, я абураны, думаю, ня менш Вас такой (і я назаву ўсьлед за Вамі) правакацыяй. Я занадта даражу сваімі адносінамі з Вамі, з Арсеньневай і іншымі, занадта сьвядомы значэньня кажнага нашага выданьня, каб лёгкадумна ставіцца да ўсяго таго, у чым я і сам асабіста кроўна заінтэрасаваны. Спадзяюся, што вы мне даеце веры. І калі я пісаў да Вас той ліст, дык я пісаў яго з болем у сэрцы. Хочацца паставіць у гэтай справе кропку і папрасіць Вас спыніць тое дасьледаваньне, якое Вы прапануеце ў сваім лісьце*[11].

*Шчыра дзякую за дасланы мне польскі пераклад майго вершу — вельмі цікава й цешыць мяне. Спадзяюся ў далейшым наладзіць кантакт з нашым Інстытутам і літаратурнай браціяй сам, а не праз маіх „апякуноў“. Будзьце ветлівы, інфармуйце мяне, запрашайце мяне на ўсе зборкі Інстытуту — рады буду пабачыцца з Вамі.*

*Што тычыцца майго літаратурнага вечару — падумаю й напішу асобна пра гэта. Стрымлівае мяне адно — мала напісаў новага.*

*Выслаў Вам учора праз Крушыну ў „Конадні“ некалькі рэчаў сваіх.*

*Тымчасам, усяго найлепшага.*

*Ваш Сяднёў.*

[11] Вітаўт Тумаш хацеў высьветліць, ад каго Масей Сяднёў пачуў вэрсію „трох вершаў“.

*South River, 16..11.54*

*Вельмі Паважаны Спадар Тумаш,*

*Адказваю згодай на Вашу прапанову, хоць мая згода і не такая ўжо ахвочая — вельмі-ж я заняты цяпер чалавек, а ў другой палавіне сьнежня не змагу зусім нікуды адлучыцца, так што найпазьнейшы тэрмін, у якім-бы мог адбыцца мой літаратурны вечар — гэта 11 сьнежня, калі толькі нельга для Вас вызначыць яшчэ больш ранейшай даты.*

*Цікава — якая гэта можа быць публіка на такім літаратурным вечары: „абслужаная“ ўжо мною ў свой час нашая (лягерная) публіка ці сьвежая (нашая і ня нашая)? Можа-б Вы хацелі надаць гэтаму літ. вечару які-небудзь спэцыяльны характар, ці вечар як вечар — і ўсё? Чырканіце, калі ласка. А не надзьмуцца некаторыя паэты — чаму гэта літ. вечар менавіта Сяднёва, а не каго іншага? Я настолькі цяпер „богобаязненный“ чалавек, што ўсяго баюся і менш за ўсё хварэю на аўтарскую амбіцыю, хоць і маю яе (І яе канечне трэба мець). Ну дык гэта вось і ўсё было-б тымчасам. Пры сустрэчы хацелася-б пагаварыць шмат аб чым іншым.*

*З пашанай М. Сяднёў.*

*Усе нашыя вітаюць усіх Вашых.*

*М. С.*

*Даруйце за мазьню.*

*М. С.*

*South River,*
*29.11.54.*

*Паважаны Спадар Тумаш,*

*Можа, я крышку інакш уяўляю ідэю майго літаратурнага вечару, але нічога — няхай будзе, як будзе. У мяне толькі адно жаданьне — болей публікі, прытым — новай, сьвежай і нават чужой (іншанацыянальнай). Гэта не таму, што мне хочацца нечага нязвычайнага. Не, — у мяне мала рэчаў, напісаных цяпер, і „не абслужаная“ публіка была-б вельмі пажаданай. Бо сустрэча з старымі знаёмымі, як нехта сказаў, падобна да сустрэчы з нябожчыкамі. Як-бы там ня было, паспрабуем і з „старымі знаёмымі“ сустрэцца зноў па-новаму. Праўда, калі-б гэта магчыма было, вельмі пажадана, апрача асабістых запросінаў, падаць некалькі абвестак у іншанацыянальную прэсу, як гэта робіць, напрыклад, і д-р Я. Станкевіч. Я ўпэўнены, што газэтныя абвесткі далі-б добрыя вынікі.*

*25 год маёй творчасьці хіба будзе значна пазьней, а ніяк ня ў гэтым годзе, як Вам гавораць — нехта недакладна падлічыў. Зрэшты, гэта ня мае ніякага дачыненьня да запраектаванага літаратурнага вечару — ніякай юбілейнай даты я не зьбіраюся адзначаць.*

*Што тычыцца дыскусыяй, дык я, напрыклад, ня ведаю, чаму так баяцца у нас дыскусыяў. Я прывітаў-бы і цяпер такую дыскусыю, калі-б яна была магчымай у межах майго літаратурнага вечару. Гэта вельмі цікава было-б. Вось гэта і ўсё было-б тымчасам, прынамсі, з майго боку. Прыеду на вечар на колькі гадзінаў раней вызначанага часу. Рады сустрэцца з усіма.*

*З прывітаньнямі Ваш М. Сяднёў.*

*1.12.54.*

*Паважаны Спадар Тумаш,*

*Ці не зашмат клопату для Вас з маім літаратурным вечарам — баюся, каб у Вас не адпала ахвота: што ні ліст, то і нешта нечаканае, новае, дзіўнае можа нават часамі. Дык даруйце, калі мо й сапраўды чым-небудзь я не патрапіў Вам, калі маё асабістае не супадае з Вашым у паглядзе на гэты літаратурны вечар. Адно я хачу тут зацеміць — маю ўдзячнасьць Вам за тое, што ўспомнілі й мяне. Цяпер адносна „юбілею“. Мушу засмуціць Вас — я не хацеў-бы, каб мой літ. вечар меў яшчэ нейкую надбудоўку-аншляг — 20 гадавы юбілей, скажам, маёй творчасьці. Юбілей — гэта ёсьць юбілей, і яго адзначаюць менавіта як юбілей (калі нехта на яго заслужыў), а не як юбілей у сувязі з літаратурным вечарам, ці наадварот. Так сапраўды выходзіць. Тут ёсьць нейкі абніжальны момант самога літаратурнага вечару адначасна. Дык хай гэта будзе, калі можна, літаратурны вечар і ўсё, без „з нагоды 20-цігодзьдзя літаратурнай творчасьці“. Можа, як дасьць Бог, да нейкай маёй юбілейнай даты мне пашэньціць выступіць зь „вялікім“ творам, які-б і заваяваў якое-небудзь права на юбілей. Што тычыцца майго літаратурнага „ўзросту“, дык Адамовіч блізка да сапраўднага. Праўда, гэты „ўзрост“ ладне перапыняўся, і таму мае хіба толькі ўмоўнае значаньне.*

*З пашанай М. Сяднёў.*

*На правялікі жаль, жонка прыехаць разам ня зможа — ня мае для такога грацыёзнага вечару таліі.*

*М. С.“*

Магчыма, менавіта гэтая гісторыя з ладжаньнем літаратурнага вечару змусіла Тумаша назваць Масея Сяднёва (сьведкам быў прысутны Антон Шукелойць, ад якога й сталася тое ведама) *„хітранькім магілёўскім мужычком“*. Але вечар зладжаны быў. Нічога не паробіш: як той казаў, людзёў жа няма.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЭМІГРАЦЫЯ Ў „ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ“

*Гісторыя Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: М. Касцюк (галоўны рэдактар) і інш. Т. 1—6. Мінск: Экаперспектыва, 2000—2011.*

Выхад акадэмічнай абагульняльнай працы па гісторыі краіны — знакавая падзея для разьвіцьця нацыянальнай гістарычнай навукі. Такое выданьне звычайна адлюстроўвае стан айчыннай гістарыяграфіі, сучаснае бачаньне мінулага нацыі. Абагульняльныя акадэмічныя працы па гісторыі Беларусі зьяўляюцца вельмі рэдка. Калі ня ўлічваць аўтарскіх распрацовак першай чвэрці XX ст. В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага ды М. Доўнар-Запольскага, што закладалі канцэптуальныя асновы нацыянальнай гістарыяграфіі, то папярэднікамі сучаснага выданьня можна лічыць двухтамовую „Историю Белорусской ССР“ (1954—1958, 1961 — другое выданьне), пяцітамовую „Гісторыю Беларускай ССР“ (1972—1975) ды „Нарысы гісторыі Беларусі“ ў дзьвюх частках (1994—1995). Першыя два са згаданых шматтамовікаў выкладалі беларускую гісторыю з пункту гледжаньня клясавага падыходу й адпаведных савецкіх установак адносна нацыянальнай дзяржаўнасьці. „Нарысы гісторыі Беларусі“ былі першай спробай фармуляваньня адраджэнскай канцэпцыі беларускай гісторыі, аднак занадта фрагмэнтарнай. Патрэба новага, больш цэласнага выданьня на пачатку XXI ст. была відавочнаю й рэалізавалася намаганьнямі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Стваральнікі калектыўнай манаграфіі так акрэсьлілі канцэптуальную аснову сваёй працы: *„У дадзенай новай абагульняючай працы па гісторыі Беларусі зроблена спроба сістэматызаванага і паслядоўнага яе выкладання са старажытных часоў да канца XX ст.“*[1] І далей:

[1] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / Рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. — Мінск: Экаперспектыва, 2000. С. 7.

*„Дадзенае выданне выканана на аснове нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Гэта значыць, што аўтары і рэдактары разглядаюць беларускі этнас як самабытны суб'ект гістарычнага развіцця і самастойны аб'ект гістарычнага даследавання. Зразумела, што пры гэтым беларускі этнас выступае як асноўная, кансалідуючая частка ўсяго беларускага народа“*[2].

Як вядома, прадстаўнікі беларускага народу ў выніку разнастайных міграцыйных і геапалітычных працэсаў сёньня жывуць у тым ліку й паза межамі нацыянальнай дзяржавы. Сыстэматызаванае выкладаньне беларускай гісторыі ня можа абмінуць гэтае акалічнасьці, і працэсы, зьвязаныя з эміграцыяй і зьяўленьнем беларускіх дыяспараў у розных краінах, ёсьць часткай мінулага беларусаў і павінныя знайсьці адлюстраваньне ў акадэмічнай абагульняльнай працы. Гэта тым больш заканамерна, што пытаньні дзейнасьці беларускай дыяспары ўжо закраналіся ў „Нарысах гісторыі Беларусі“ 1994—1995 гг., а пасьля іх выданьня зьявіліся новыя дасьледаваньні, вынікі якіх мусяць улічвацца ў працах такога ўзроўню, як сучасная „Гісторыя Беларусі“.

Такім чынам, у фокусе нашага агляду будзе адлюстраваньне праблемаў беларускай эміграцыі на старонках шасьцітамовага выданьня „Гісторыі Беларусі“.

У адрозьненьне ад папярэдніх „Нарысаў гісторыі Беларусі“, дзе быў спэцыяльны разьдзел „Беларуская дыяспара: гісторыя і сучаснасьць“[3], у новым акадэмічным шматтамовіку эміграцыязнаўчыя матэрыялы раскіданыя па розных тамах, нібыта ўплятаючыся ў канву гістарычных падзеяў адпаведных пэрыядаў. Пры гэтым міграцыйныя працэсы да канца XIX ст. у „Гісторыі Беларусі“ амаль не закранаюцца. У трэцім томе выданьня згадваюцца масавыя вывазы беларусаў у Маскоўскую дзяржаву цягам вайны яе з Рэччу Паспалітай у 1654—1667 гг. і невяртаньне значнай часткі тых вывезеных на радзіму. У выніку каля 10% пасадзкага насельніцтва Масквы ў 1670-х гг. складалі выхадцы зь беларускіх земляў[4]. Аднак у наступных тамах згадак пра выезды нашых продкаў няма нават у зьвязку з паўстаньнямі 1794 г., 1830—1831 гг. і 1863—1864 гг., хоць у „Нарысах...“ усе згаданыя падзеі падаваліся як

[2] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1... С. 10.

[3] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Ч. 2 / М.П. Касцюк, І.М. Ігнаценка, У. І. Вышынскі і інш. Мінск: Беларусь, 1995. С. 488—511.

[4] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII—XVIII стст.) / Ю. Бохан, В. Голубеў, У. Емяльянчык і інш.; Рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск, Экаперспектыва, 2007. С. 93.

падставы для палітычнай эміграцыі[5]. Такім чынам, дзейнасьць выхадцаў зь беларускіх губэрняў у XIX ст. у Эўропе, лёсы вядомых эмігрантаў Ігната Дамейкі, Зыгмунта Мінейкі ды іншых засталіся па-за межамі акадэмічнай калектыўнай манаграфіі.

Разгляд гісторыі беларускай эміграцыі пачынаецца ад першай масавай хвалі канца XIX ст. Гэтаму фэномэну прысьвечаны спэцыяльны падразьдзел „Масавая эміграцыя зь Беларусі. Пачатак фарміраваньня беларускай дыяспары“ аўтарства А. Ціхамірава ў разьдзеле „Сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё“ разьдзелу „Беларусь у пачатку XX ст.“. Аўтар гаворыць пра паралельныя зьявы габрэйскай і ўласна беларускай эміграцыі з Паўночна-заходніх губэрняў, выводзячы ў якасьці дакладнага году пачатку габрэйскай эміграцыі 1880 г.[6] Падставамі для эміграцыі гэтай нацыянальнай групы пазначаюцца ня толькі незадаволенасьць эканамічнымі й палітычнымі абмежаваньнямі, дзейнасьцю царскай адміністрацыі ды жаданьне палепшыць свой дабрабыт, але й абвастрэньне нацыянальных супярэчнасьцяў, шэраг габрэйскіх пагромаў пачатку XX ст. У адрозьненьне ад габрэяў, беларусы-сяляне выяжджалі пераважна з прычыны малазямельля, скіроўваючыся ў далёкія заакіянскія краіны паасобна з ідэяй зарабіць грошы й вярнуцца на радзіму (габрэі выяжджалі сем’ямі на сталае жыцьцё)[7].

Першымі сталі выбірацца ў сьвет беларусы з Ашмянскага й Вілейскага паветаў Віленскай губэрні, пазьней далучыліся жыхары Гродзенскай і Менскай губэрняў, менш у заходнім кірунку ехалі зь Віцебскай і Магілёўскай. Трэба заўважыць, што, прыводзячы шматлікія статыстычныя зьвесткі па выездах з розных губэрняў, А. Ціхаміраў сярод іншага спасылаецца на зьвесткі з архіваў Літвы, Расіі й Беларусі. Пры гэтым некалькі разоў у спасылках фігуруе „ДГА РБ“[8], хоць установы з гэткай назвай ужо даўно не існуе. З кантэксту вынікае, што маецца на ўвазе Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна, які нейкі час у 1990-х гг. сапраўды меў назву „Дзяржаўны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна“. Аднак для выданьня, што пабачыла сьвет у 2007 г., гэткая спасылка, тым больш без пазнакі знаходжаньня архіву ў Гродне, неактуальная й недакладная.

---

[5] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Ч. 2... С. 488.

[6] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII — пачатак XX ст. / М. Біч, В. Яноўская, С. Рудовіч і інш. Рэдкал.: М. Касцюк (галоўны рэдактар) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2007. С. 376.

[7] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 378.

[8] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 377, 384.

На пачатку XX ст. эміграцыйны рух беларусаў набыў масавы характар, нягледзячы на разнастайныя перашкоды з боку расейскіх уладаў. А. Ціхамізаў прыводзіць зьвесткі расійскай статыстыкі эміграцыі зь беларускіх губерняў, аднак зазначае, што каля 75% беларусаў выяжджалі за мяжу нелегальна, і статыстыка не магла іх улічыць. Пры гэтым выхадцы з паўночна-заходніх губэрняў складалі значную частку ўсёй расейскай эміграцыі ў ЗША й Паўднёвай Амэрыцы (у апошняй — да 25—30%)[9].

Першая масавая эміграцыя зь беларускіх земляў мела пераважна заакіянскі характар. Значная колькасьць суайчыньнікаў накіроўвалася ў ЗША, Аргентыну, Бразылію й Канаду. Праўда, А. Ціхаміраў не зусім мае рацыю, калі адзначае, што, прыкладам, урад Канады намагаўся выкарыстоўваць беларусаў для калянізацыі неапрацаваных зямель[10]. Найноўшыя дасьледаваньні сьведчаць, што пераважная большасьць беларусаў у гэтай краіне ўладкоўвалася на чыгунцы (для будаўніцтва якой і запрашаліся імігранты) або на прамысловых прадпрыемствах, таксама як і ў ЗША[11]. Калянізацыяй жа неабжытых канадыйскіх абшараў больш займаліся ўкраінцы, а не беларусы. На эўрапейскім кантынэнце перад Першай сусьветнай вайной асабліва прывабнымі для сэзоннай эміграцыі беларусаў былі Нямеччына й Данія[12].

Міграцыйны рух беларусаў мяжы XIX — XX стст. меў, у адрозьненьне ад габрэйскай эміграцыі, пераважна стыхійны характар. Праўда, зроблены ў пункце „Сацыяльна-эканамічнае становішча эмігрантаў“ значны акцэнт на неабароненасьці правоў беларусаў у новых краінах[13] падаецца ў пэўнай ступені перабольшаным. Па-першае, з абаронай правоў працоўных аналягічныя праблемы былі і ў тагачаснай Расеі, таму казаць пра сур’ёзнае пагаршэньне становішча суайчыньнікаў наўрад ці выпадае. Зь іншага боку, эмігранты зараблялі за акіянам дастаткова значныя паводле расейскіх стандартаў грошы, што рабіла эміграцыю даволі прывабнай нават нягледзячы на не асабліва спрыяльныя ўмовы працы.

---

[9] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 381.

[10] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 380.

[11] Vadim Kukushkin. From Peasants to Labourers: Ukrainian and Belarusan Emigration from the Russian Empire to Canada. Montreal&Kingston—London—Ithaca: McGill University Press, 2007. P. 82—98.

[12] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 378—379.

[13] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 380—381.

Істотным аспэктам першай масавай хвалі эміграцыі стала грамадзка-палітычнае жыцьцё яе прадстаўнікоў. Аднак, ня маючы дастаткова разьвітай нацыянальнай самасьвядомасьці, выхадцы зь беларускіх губэрняў рэдка стваралі ўласныя арганізацыі, пераважна далучаючыся да польскіх або расейскіх. Асобныя згадкі ёсьць пра спробы арганізацыі землякоў зь Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Меншчыны ў Чыкага, а паза ЗША такія прыклады наогул невядомыя[14]. Мала зьвязаныя былі эмігранты й з адраджэнскім рухам у Беларусі, хоць на старонках „Нашай нівы“ ў 1906—1915 гг. ішла паляміка адносна ацэнкі самой зьявы эміграцыі й яе ўплыву на беларусаў. Выказваліся на гэтую тэму, прыкладам, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандар Уласаў[15]. Аднак практычная праца па арганізацыі беларускіх структураў, як заўважае А. Ціхаміраў, пачалася ў замежжы ўжо пасьля 1917 г.[16].

Варта адзначыць, што на пачатку XX ст. беларусы выяжджалі ня толькі ў Заходнім кірунку. Перасяленьні ў іншыя рэгіёны Расейскай імпэрыі, што набылі масавы характар з прычыны Сталыпінскай аграрнай рэформы, закранаюцца ў адмысловым пункце „Міграцыі ў гарады і іншыя месцы імпэрыі“[17] падразьдзелу „Дэмаграфічныя працэсы. Ахова здароўя“ ў тым самым чацьвертым томе „Гісторыі Беларусі“. Аўтар тэксту Я. Насытка акрэсьлівае асаблівасьці выезду сялянаў зь беларускіх тэрыторыяў ва ўсходнім кірунку, падае статыстыку, згодна зь якой цягам 1907—1914 гг. за Ўралам апынулася больш за 335 тысяч беларусаў, найбольш (каля 159 тысяч) з Магілёўскай губэрні[18]. Праўда, каля 10% перасяленцаў, незадаволеныя ўмовамі жыцьця на новых месцах, у хуткім часе вярнуліся на радзіму[19]. Сама па сабе гэтая хваля эміграцыі была адной з самых масавых у беларускай гісторыі. Колькасна яна пасьпяхова канкуравала з выездамі ў заходнім кірунку. Вынікам яе сталі вялікія пасяленьні беларусаў, прыкладам, на тэрыторыі сучаснай Іркуцкай ды Новасыбірскай абласьцей Расеі. На жаль, Я. Насытка не падаў зьвестак па месцах расьсяленьня беларускіх сялянаў, абставінах іх жыцьця й інш. Зрэшты, сама тэма перасяленчага руху ў часы Расейскай імпэрыі ў айчыннай гістарыяграфіі застаецца амаль нераспра-

[14] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 383—384.
[15] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 384.
[16] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 385.
[17] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 372—374.
[18] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 373.
[19] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 4... С. 374.

цаванай, і зьмешчаная ў акадэмічнай калектыўнай манаграфіі сьціплая згадка толькі пацьвярджае гэта.

Працяг эміграцыйных працэсаў быў зьвязаны з падзеямі канца Першай сусьветнай вайны і ў наступным, пятым, томе „Гісторыі Беларусі“ ёсьць адмысловы падразьдзел „Рэвалюцыйная хваля беларускай эміграцыі“ ў разьдзеле „Ўзьдзеяньне рэвалюцыйных падзей на жыцьцё народу“. Аўтар тэксту С. Трацьцяк спыняецца на двух аспэктах праблемы: асноўных напрамках эміграцыі й дзейнасьці беларускай палітычнай эміграцыі.

Паводле прыведзеных тут зьвестак, цягам 1918—1920 гг. 122 тысячы жыхароў Беларусі выехалі ў Літву, Латвію, Эстонію, Чэхаславакію, Фінляндыю, Турцыю, Нямеччыну[20]. Таксама згадваецца эміграцыя ўдзельнікаў белагвардзейскага руху ў Францыю, Кітай, балканскія краіны. Гэтая хваля ўцекачоў зь беларускіх земляў, у адрозьненьне ад папярэдняй, была палітычнай, але й тут колькасна пераважалі габрэі. *„Асноўную частку эмігрантаў складалі прадстаўнікі маёмасных пластоў насельніцтва, кіраўнікі і ўдзельнікі антысавецкіх палітычных партый і арганізацый, урадоўцы звергнутых рэжымаў, ранейшыя вайскоўцы“*[21].

Важным аспэктам беларускай рэвалюцыйнай эміграцыі стала прысутнасьць у ёй інтэлігенцыі й сувязь зь дзейнасьцю структураў Рады БНР у выгнаньні. Уласна, менавіта праца вайскова-дыпляматычных місіяў БНР у розных краінах і выступала своеасаблівым арганізавальным фактарам для нацыянальнай эміграцыі. Разнастайныя палітычныя арганізацыі, што апынуліся ў замежжы, намагаліся, атрымаўшы падтрымку пэўнай краіны-саюзьніка, прасоўваць беларускія інтарэсы на рэгіянальным і эўрапейскім узроўнях. У выніку беларускія структуры паўсталі ў Варшаве, Коўне, Рызе, Рэвелі, Празе. Крыху болей увагі, чым іншым асяродкам, С. Трацьцяк аддаў дзейнасьці ў 1919—1920 гг. беларусаў у Латвіі, дзе было створанае консульства БНР, вайскова-дыпляматычная місія, Беларускае культурна-асьветнае таварыства „Бацькаўшчына“, адкрытыя курсы беларусазнаўства, выйшаў першы (і адзіны) нумар часопісу „На чужыне“[22].

---

[20] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917—1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]: рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2007. С. 133.

[21] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 133.

[22] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 135.

Актыўная палітычная дзейнасьць Рады БНР на міжнароднай арэне ў 1919—1922 гг., тым ня менш, ня мела істотных вынікаў для самой Беларусі, падзеленай паводле Рыскай дамовы паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. А Рада і ўрад БНР *„апынуліся ў цяжкім маральным і матэрыяльным становішчы“*[23].

Палітычная эміграцыя паўплывала на стварэньне структураў беларускай дыяспары ў ЗША. Тут у 1921 г. пачаў дзейнічаць Беларускі нацыянальны камітэт у Нью-Ёрку, а ў 1923 г. у Чыкага была заснаваная Беларуска-амэрыканская нацыянальная асацыяцыя на чале зь Язэпам Варонкам.

Дзейнасьць беларусаў у замежжы зьвярнула на сябе ўвагу кіраўніцтва БССР, дзе ў 1923 г. была прынятая пастанова аб амністыі для ўдзельнікаў антысавецкіх фармаваньняў, а таксама палітычных і культурніцкіх дзеячаў. Надалей савецкія службы вялі актыўную працу *„па разлажэнні і драбленні беларускай палітычнай эміграцыі, схіленні на бок савецкай улады асобных лідэраў, партый і груп, па „развіцці беларускага руху савецкай арыентацыі“*[24].

Далейшыя падзеі ў гісторыі беларускай міжваеннай эміграцыі прадстаўленыя ў калектыўнай манаграфіі вельмі каротка. Ёсьць толькі невялічкі пункт „Эміграцыя“ ў падразьдзеле „Палітычнае бяспраўе, нацыянальны прыгнёт“ главы „Эканамічнае і сацыяльна-палітычнае становішча народа“ разьдзелу „Заходняя Беларусь пад уладай Польшчы“. Немагчыма вызначыць, хто менавіта з трох аўтараў падразьдзелу — А. Вабішчэвіч, У. Палуян ці А. Пашкевіч — спрычыніліся да апісаньня на дзьвюх з паловай старонках міграцыйных працэсаў у Заходняй Беларусі. Аднак сюжэт атрымаўся даволі сьціплым.

Эміграцыя з заходнебеларускіх тэрыторыяў (бо выезды з БССР абмяжоўваліся) была сапраўды пераважна сялянскай і мела эканамічны характар. Асноўныя масы шукальнікаў лепшай долі скіроўваліся, як і эканамічная хваля пачатку XX ст., за акіян: у ЗША, Бразылію, Аргентыну, Канаду. Пры гэтым наогул у міжваеннай Польшчы пазаэўрапейская эміграцыя складала каля 30%, а зь беларускіх тэрыторыяў у Паўночную й Паўднёвую Амэрыку выяжджала ад 60 да 80% эмігрантаў[25]. Асабліва характэрная гэтая сытуацыя для 1920-х гг. З эўрапейскіх краінаў лідэрам сэзоннай эміграцыі беларусаў ад пачатку 1930-х гг. стала

[23] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 136.

[24] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 137.

[25] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 377.

Латвія, куды актыўна езьдзілі на заробкі сяляне зь Віленшчыны (цягам 1927—1938 гг. — больш за 68 тыс. чалавек)[26].

Зь іншых кірункаў эміграцыі ў выданьні згадваюцца некалькімі словамі Францыя, Чэхаславаччына й Нямеччына. Багатае грамадзкае жыцьцё беларускіх асяродкаў у міжваенны час, на жаль, засталося па-за ўвагай аўтараў канкрэтнага тэксту і ўсяе калектыўнае манаграфіі. Тут толькі паўтараецца інфармацыя пра ўжо згадваныя раней беларускія арганізацыі ў Нью-Ёрку й Чыкага, гаворыцца пра ўзьнікненьне некалькіх арганізацый пры канцы 1930-х гг. у Аргентыне, стварэньне Хаўрусу беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі, а таксама што *„некалькі нацыянальных арганізацый заснавалі беларускія студэнты ў Празе“*[27]. Гэтым вычэрпваецца гісторыя міжваеннай беларускай эміграцыі, і тое тым больш дзіўна, што нават у „Нарысах гісторыі Беларусі“ міжваенным беларускім асяродкам аддадзена болей увагі[28].

У „Гісторыі Беларусі“ забытымі засталіся шматлікія сюжэты, зьвязаныя з жыцьцём беларускай грамады ў Латвіі, арганізацыяй у гэтай краіне беларускіх школ, выданьнем кніг і пэрыёдыкаў, актыўнасьцю беларускіх студэнтаў і палітычных структураў у Празе, а таксама цікавымі іх выдавецкімі праектамі, фармаваньнем беларускай грамады ў Аргентыне й г.д. Відавочна, больш пільнай увагі патрабавала й дзейнасьць беларусаў Францыі ды ЗША. Зусім не згаданыя засталіся беларусы ў Канадзе, што сталі заснавальнікамі „Расейскіх рабочых клюбаў імя М. Горкага“ ды выдавалі газэту „Канадзкі гудок“, дзе ў першых нумарах быў і адмысловы „Беларускі куток“[29].

У выніку выпадзеньня вялікага пласту матэрыялаў пра міжваенныя асяродкі парушылася разуменьне лёгікі разьвіцьця дыяспараў у агульнай беларускай гісторыі, што прымушае ставіць багата пытаньняў з гледзішча пераемнасьці да наступнага „эміграцыйнага“ разьдзелу калектыўнай манаграфіі, прысьвечанага падзеям Другой сусьветнай вайны.

Аўтарам падразьдзелу „Беларуская дыяспара ў гады Другой сусьветнай вайны“ зьяўляецца, бадай, найбольшы акадэмічны спэцыяліст

[26] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 378.

[27] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5... С. 378.

[28] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Ч. 2... С. 490—494.

[29] Юрэвіч, Лявон. Беларусы ў Канадзе // Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2010. С. 336—344.

па пытаньнях беларускай эміграцыі ў 1990-х гг. Галіна Сяргеева, што ад пачатку 2000-х жыве ў Канадзе й не займаецца навуковай дзейнасьцю. Відавочна, тэкст быў напісаны яшчэ ў часе працы аўтаркі ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, аднак пры гэтым ён не выглядае неактуальным. Цікава адзначыць, што праз нераўнамернасьць і нераўназначнасьць разьмеркаваньня матэрыялаў пра эміграцыю часоў Другой сусьветнай вайны ў калектыўнай манаграфіі аказалася напісана ўдвая болей, чым пра дваццацігодзьдзе міжваеннай эміграцыі.

Дыяспару ў часе вайны Г. Сяргеева разглядае ў дынаміцы, характарызуючы пасьлядоўна яе стан у 1939—1940 гг., зьмены пасьля нямецкай акупацыі Беларусі ды новую хвалю эміграцыі на апошнім этапе вайны.

Падзеі беларускага замежжа пачатку Другой сусьветнай вайны зьвязаныя найперш зь Нямеччынай, дзейнасьцю Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне, газэтай „Раніца“ ды працай Беларускага камітэту самапомачы, якое было заснаванае ў сталіцы Трэцяга Рэйху ў 1940 г. ды мела свае аддзяленьні ў Мюнхэне, Ляйпцыгу, Вэне, Празе, Лодзі, Торуні й іншых гарадах[30].

Ваенныя падзеі выклікалі палітычнае разьмежаваньне ў колах эмігрантаў дый наогул беларускіх нацыянальных дзеячаў па пытаньні стаўленьня да нямецкай палітыкі. Частка айчыннай інтэлігенцыі намагалася скарыстаць Нямеччыну для стварэньня нацыянальных структураў, аднаўленьня дзяржаўнасьці, іншыя намагаліся адмежавацца ад падтрымкі чарговага агрэсара. У эміграцыйных асяродках, асабліва заакіянскіх, некаторыя беларускія суполкі (у Аргентыне, Канадзе, ЗША і іншых краінах) адкрыта сымпатызавалі СССР[31]. Праўда, пры адсутнасьці ў выданьні агляду папярэдняй міжваеннай дзейнасьці дыяспараў не зусім зразумелымі выглядаюць гэтыя сымпатыі й іх паходжаньне.

Выкліканая самой вайной эміграцыя была непасрэдна зьвязаная зь дзейнасьцю нацыянальнай адміністрацыі часоў акупацыі, вайсковых фармаваньняў, грамадзкіх арганізацыяў. Важным чыньнікам выездаў стала Беларуская Цэнтральная Рада, што на апошнім этапе вайны намагалася выконваць ролю прадстаўніка беларускіх інтарэсаў і ў Нямеччыне, і ў вачах саюзьнікаў[32].

[30] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5… С. 563.

[31] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5… С. 565.

[32] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5… С. 566—567.

Былі ў ліку новых эмігрантаў і вывезеныя на прымусовыя працы, і звычайныя сяляне, што баяліся новых рэпрэсіяў ад савецкай улады, а таксама ўдзельнікі Арміі Андэрса, якія склалі асобную групу выхадцаў зь Беларусі на Захадзе ў часе вайны. Усе згаданыя катэгорыі сталі асноўнымі жыхарамі беларускіх асяродкаў у заходніх краінах у другой палове XX ст.

Жыцьцё беларускіх дыяспараў пасьля Другой сусьветнай вайны вылучалася асаблівым багацьцем падзеяў і стала вызначальным для сучаснай прысутнасьці беларусаў у сьвеце. Таму цалкам заканамерна, што найбольшы з усіх „эміграцыйных“ тэкстаў калектыўнай манаграфіі прысьвечаны менавіта паваеннай гісторыі замежжа. Аўтары падразьдзелу „Жыцьцё беларускай дыяспары“ ў главе „Міжнародныя стасункі“ разьдзелу „БССР у пэрыяд нарастаньня крызісу і заканчэньня існаваньня савецкай сыстэмы (1971—1991 гг.)“ Анфіса Ляднёва і Ларыса Языковіч адмыслова спыніліся на найважнейшых аспэктах жыцьця беларусаў на Захадзе: палітычным падзеле беларускай эміграцыі пасьля Другой сусьветнай вайны, беларускіх арганізацыях у замежных краінах, дзейнасьці беларусаў у Польшчы, навуковай дзейнасьці, выдавецкай справе і сродках масавай інфармацыі, грамадзка-культурнай працы й рэлігійна-царкоўным жыцьці.

З папярэдняга тэксту Галіны Сяргеевай мы ўжо ведаем, што ў паваеннай Нямеччыне й Аўстрыі апынулася ад 400 тыс. да 1 млн беларусаў, зь якіх каля 260 тысяч не пажадалі вярнуцца на радзіму. Праўда, аўтары новага тэксту апошняй лічбы не прыводзяць, канстатуючы проста пра „частку“ беларусаў, што засталіся на Захадзе[33]. Іх лёсам у паваеннай Нямеччыне, як і лёсам соцень тысяч іншых „перамешчаных асобаў“, апекаваліся міжнародныя арганізацыі: ЮНРРА (*UNRRA*), што дзейнічала ў 1943—1947 гг. у галіне забеспячэньня уцекачоў усім неабходным, і ІРО (*IRO*), што працавала ў 1946—1952 гг. (а ня ў 1947—1951, як пазначана ў тэксьце[34]), арганізоўваючы выезды эмігрантаў зь Нямеччыны й Аўстрыі ў іншыя краіны на сталае жыхарства.

Менавіта ў паваеннай Нямеччыне закладаліся асновы грамадзкага жыцьця беларускай эміграцыі. Тут былі заснаваныя арганізацыі, што выступалі як прадстаўнікі інтарэсаў беларусаў перад саюзнай адміністрацыяй (прыкладам, Беларускі нацыянальны цэнтар у Рэгенс-

[33] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6. Беларусь у 1946—2009 гг. / Л. Лыч [і інш.]; рэдкалегія: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2011. С. 530.

[34] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 530.

бургу), а пазьней і перад усім заходнім сьветам (адноўленыя Рада БНР, БЦР), тут дзейнічалі беларускія лягеры, працавалі навучальныя ўстановы, выдаваліся пэрыёдыкі. Што праўда, у пераліку заснаваных беларусамі ў Нямеччыне арганізацый аўтары робяць багата памылак. Так, не было ў Нямеччыне структуры з назвай „Таварыства вэтэранаў вайны“, а дзейнічала заснаванае сапраўды ў 1947 г. Задзіночаньне беларускіх вэтэранаў; Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў на чужыне паўстала ўжо на зьлёце ў Ватэнштэце ў 1946 г., а ў 1947 г. толькі зьмяніла назву на Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне, а не было заснаванае, як падаецца ў тэксьце; Беларускае студэнцкае згуртаваньне было заснаванае ня ў 1948 г.[35], а яшчэ ў 1945 г. у Мюнхэне, дзе тады ж пачало выдаваць свой пэрыёдык „Студэнцкія весткі“[36]. Багата недакладнасьцяў у назвах і датах заснаваньня арганізацыяў сустракаецца ў разгляданым падразьдзеле й далей.

У паваеннай Нямеччыне аформіўся палітычны раскол беларускай эміграцыі на прыхільнікаў адноўленых Рады БНР і БЦР. Далей ён быў перанесены ў краіны, дзе беларусы пасяліліся на сталае жыцьцё. Праўда, калі пералік старшыняў Рады БНР аўтары падаюць адэкватна, то з кіраўнікоў БЦР згадваюцца толькі Радаслаў Астроўскі й Міхась Зуй, што займаў кіраўнічую пасаду да 1995 г.[37] Пры гэтым ня згадваецца, што пасьля сьмерці Р. Астроўскага ў 1977—1987 гг. Прэзыдэнтам БЦР быў Нікандар Мядзейка, і толькі пасьля яго пасаду заняў М. Зуй.

Сапраўды, антыкамуністычная скіраванасьць была агульнай і для Рады БНР, і для БЦР, аднак сустракаць у акадэмічным выданьні фармулёўкі кшталту: *„Рознагалоссі па палітычных матывах паміж прыхільнікамі БНР і БЦР не мелі прынцыповых разыходжаньняў“*[38], — даволі дзіўна. Тым больш што ня толькі па форме, але й па зьмесьце гэта выклікае пытаньні. Прыкладам, Рада БНР не прызнавала паўнамоцтваў Другога Ўсебеларускага кангрэсу й, адпаведна, БЦР як рэпрэзэнтанта беларускага народу, а апошняя, у сваю чаргу, не прызнавала пераемнасьці даваеннай і паваеннай Рады БНР і тэстамэнту Васіля Захаркі. Ці гэта не выглядае на прынцыповае палітычнае разыходжаньне ў вачах дасьледніц?

---

35 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 531.

36 Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. P. 630.

37 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 532.

38 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 532.

Зроблены А. Ляднёвай і Л. Языковіч агляд арганізацый беларускіх асяродкаў па краінах таксама мае шэраг недакладнасьцяў. Так, Беларускі вызвольны фронт ня быў арганізацыяй, якая далучылася да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі[39], і наогул ня быў амэрыканскай арганізацыяй. Яго кіраўнік Дзьмітры Касмовіч жыў у Штутгарце, а сама структура мела агульнаэміграцыйны характар, не прывязаны да канкрэтнай краіны. Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі было афіцыйна заснаванае ў 1947 г., а ня ў 1946 г., калі зьявілася толькі ініцыятыўная група, і аддзелы ЗБВБ дзейнічалі акрамя Манчэстэра, Брадфарда і Бірмінгема таксама ў Ковэнтры, Кэмбрыджы і ўласна Лёндане[40]. Неадпаведна пададзеная храналёгія беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі. Так, першай арганізацыяй тут стала Беларускае аб'еднаньне ў Новай Паўднёвай Валіі, заснаванае ў 1950 г. у Сыднэі[41] (а не Беларускае аб'еднаньне ў Сіднэі — арганізацыі з такой назвай наогул не існавала), а найбуйнейшая структура — Фэдэральная рада беларускіх арганізацый у Аўстраліі — паўстала ня ў 1969, а ў 1976 г.[42]

Чамусьці сярод краінаў зь невялікімі групамі беларусаў без сваіх арганізацый аўтары падаюць Швэцыю, дзе яшчэ ў 1948 г. была заснаваная Беларуская грамада ў Скандынавіі, што аб'ядноўвала беларусаў у Швэцыі, Даніі й Нарвэгіі[43]. Таксама пазначанымі як тыя, што ня маюць сваіх арганізацый, усе беларусы Паўднёвай Амэрыкі, пры тым, што ў паваенны час у Аргентыне працягвалі дзейнасьць і некаторыя ранейшыя беларускія клюбы, і было створанае ўжо новай эміграцыяй Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне на чале з Канстанцінам Мерляком[44]. Некаторы час была беларуская арганізацыя таксама ў Вэнэсуэле. Дзейнасьць беларускай дыяспары ў гэтых краінах наогул не закранаецца ў тэксьце, прысьвечаным паваеннай гісторыі эміграцыі.

Трэба заўважыць і пэўныя супярэчнасьці ў колькасных ацэнках беларускай прысутнасьці ў розных краінах. Безумоўна, пытаньні эмі-

---

39 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 533.

40 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 76—238.

41 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск, 2004. С. 446.

42 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі... С. 453.

43 Каханоўскі, Аўген. Фактычныя дадзеныя аб стане беларускае эміграцыі // Запісы БІНіМ. №28. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 273—284.

44 Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргентыне: грамадзкая дзейнасьць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.): Зборнік дакумэнтаў і ўспамінаў. Менск: Медысонт, 2009. — 368 с.

грацыйнай статыстыкі надзвычай складаныя, і лічбы падаюцца заўсёды даволі ўмоўныя. Тым ня менш, у акадэмічнай працы апублікаваныя зьвесткі павінныя быць як мінімум абгрунтаваныя. Так, колькасьць беларусаў, прыбылых пасьля Другой сусьветнай вайны ў ЗША, аўтары падаюць як 50-60 тысяч чалавек[45], і гэта (хоць і пры адсутнасьці спасылак на крыніцу) адпавядае колькасьці 50-55 тысяч, на якую абапіраецца ў сваёй працы найбуйнейшы дасьледнік гэтай тэмы Вітаўт Кіпель[46]. Адносна Канады ў акадэмічным тэксьце згадваецца, што *„каля 60 тыс. беларусаў аселі ў правінцыях Антарыё, Квебек, Саскачаван, Альберта“*[47]. Пры гэтым крыніца гэтай лічбы не падаецца, як і дакладны пэрыяд, што маецца на ўвазе. Справа ў тым, што ў паваенны час дасьледнікі багата спрачаліся адносна колькасьці беларусаў у Канадзе наогул і тых, што прыехалі пасьля Другой сусьветнай вайны. Так, прафэсар Кае казаў пра прыкладна 30 тысяч беларусаў у Канадзе наогул[48], Вінцэнт Жук-Грышкевіч настойваў на ліку каля 65-70 тысяч[49], а праф. Янка Садоўскі казаў пра больш за 100 тысяч беларусаў у краіне, прычым каля 45 тысяч зь іх, на ягоную думку, прыбылі ў паваенны час[50]. Улічваючы гэткія разьбежнасьці ў лічбах, прапанаваная аўтарамі акадэмічнага тэксту выклікае пытаньні што да абгрунтаванасьці.

Яшчэ больш дзіўна выглядаюць зьвесткі пра колькасьць беларусаў у Аўстраліі. А. Ляднёва і Л. Языковіч сьцьвярджаюць, што пры канцы 1950-х у гэтай краіне налічвалася каля 6 тыс., а на пачатку 1990-х — 9-10 тысяч беларусаў[51]. І гэта пры тым, што рэальна колькасьць беларусаў у іншых краінах цягам паваенных дзесяцігодзьдзяў натуральна зьмяншалася. Дадзеныя спасылкі на публікацыі ў газэтах „Бацькаўшчына“ і „Беларус“ выклікаюць пэўныя перасьцярогі, бо сёньня вядомыя публікацыі, што падаюць іншыя зьвесткі (прыкладам, артыкул Вольгі Качан[52] або нашая кніга „Беларусы ў Аўстраліі“, што пабачыла

[45] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 532.

[46] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 40.

[47] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 533.

[48] Kaye, V. Canadians of Belorussian Origin. Ottawa, 1960. — 14 p.

[49] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. С. 225—226.

[50] Sadouski, John. A History of the Byelorussians in Canada. Belleville, 1981. P. 39—54.

[51] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 533/

[52] Katchan, O. Byelorussians // Australian People: an Encyclopedia of the Nation, its People and Their Origins. Sydney, 1988.

сьвет яшчэ ў 2004 г.[53] і ў публікацыі 2011 г. мае быць як мінімум улічаная ў сьпісе літаратуры). Больш адпаведным падаецца лік каля 10 тысяч беларусаў, што прыбылі пасьля Другой сусьветнай вайны ў Аўстралію й чыя колькасьць да 1990-х скарацілася амаль напалову.

Варта адзначыць і тое, што зроблены агляд беларускіх арганізацыяў па краінах ня ўлічвае дынамікі разьвіцьця асяродкаў. Так, актыўнасьць беларусаў Францыі істотна зьменшала да пачатку 1960-х, а праз дзесяцігодзьдзе амаль што спынілася. Таксама актыўнасьць студэнтаў у Бэльгіі ці Італіі закранула толькі 1950-я гг. У той жа час структурна зьмяняліся ў 1960-х — 1970-х беларускія асяродкі ў Вялікабрытаніі, Канадзе, Аўстраліі, ЗША. Згаданыя працэсы засталіся незаўважанымі ў тэксьце.

Безумоўна, важнай сфэрай дзейнасьці паваеннай эміграцыі, частку якой складала інтэлігенцыя, была навука. Найбуйнейшай арганізацыяй, што гуртавала навукоўцаў, ёсьць Беларускі інстытут навукі й мастацтва, заснаваны ў Нью-Ёрку ў 1951 г. Гэтая ўстанова аб'ядноўвала беларускіх інтэлектуалаў з розных краінаў, ладзіла навуковыя канфэрэнцыі, займалася выдавецкай справай. Сапраўды, у 1950-х гг. быў створаны аддзел БІНіМу ў Мюнхэне[54], хоць казаць пра нейкі цалкам самастойны ягоны статус, як адзначана ў тэксьце, не выпадае. Аддзел быў патрэбны найперш праз лепшыя магчымасьці для выданьня альманаху „Запісы БІНіМ", што існавалі ў Нямеччыне.

Мюнхэнскія сябры БІНіМу актыўна супрацоўнічалі з Інстытутам вывучэньня СССР, склаўшы там адмысловы беларускі аддзел, пра што, на жаль, ня згадваецца ў калектыўнай манаграфіі. У межах інстытуту выдаваліся беларускія пэрыёдыкі („Беларускі зборнік" і *„Belorusian Review"*) і навуковыя працы беларусазнаўчай тэматыкі, а таксама ладзіліся штогадовыя канфэрэнцыі з удзелам беларусаў[55].

У Вялікабрытаніі навуковая дзейнасьць была зьвязаная з працай Англа-беларускага таварыства ды Беларускай бібліятэкі й музэю імя Ф. Скарыны. АБТ выдавала ў 1965—1988 гг. часопіс „*The Journal of Byelorussian Studies*", ладзіла ад 1966 г. штогадовыя курсы беларусаведы, разам зь Бібліятэкай праводзіла навуковыя канфэрэнцыі й сэмінары. Выдавецкую дзейнасьць АБТ сапраўды фінансавала Згуртаваньне

[53] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі… С. 33.

[54] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6… С. 536.

[55] Гардзіенка, Натальля. Да гісторыі беларусаў у Мюнхэнскім Інстытуце вывучэньня СССР // Запісы БІНіМ. №34. Нью-Ёрк—Менск, 2011. С. 422—438.

беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак сярод кніг, што пабачылі сьвет дзякуючы супрацоўніцтву гэтых арганізацый, няма зборнікаў вершаў М. Багдановіча, А. Гаруна, З. Бядулі[56]. Іх творы ўваходзілі ў анталёгіі перакладаў, зробленых Верай Рыч і выдадзеных сапраўды ў Вялікабрытаніі. Прыкладам, такі зборнік *„The Image Swarm Free“* пад шыльдай АБТ пабачыў сьвет у Лёндане ў 1982 г.

Навуковай і выдавецкай дзейнасьцю на эміграцыі займаліся розныя структуры: і тыя, што аб'ядноўвалі дзясяткі й нават сотні сябраў, і тыя, што складаліся з аднаго чалавека (адначасова й заснавальніка, і кіраўніка, і супрацоўніка). Да апошняй катэгорыі якраз належыць згаданы ў тэксьце Інстытут беларусаведы (не беларусазнаўства, як пададзена[57]) у нямецкім Ляймэне. Яго „заснаваў“ адзіны беларус у тым невялікім мястэчку Юры Попка, які выдаваў пад гэтай шыльдай кнігі й нават пэрыёдык „Весткі Інстытута беларусаведы“ (1986—1993). Сярод аналягічных структураў можна згадаць Інстытут Льва Сапегі, ад імя якога дзейнічаў у 1950-х гг. у Мадрыдзе Ўладыслаў Рыжы-Рыскі, або Беларускі дасьледчы інстытут імя К. Каліноўскага ў Таронта, ініцыяваны С. Хмарам. Гэтыя арганізацыі складана ацэньваць як навуковыя структуры, аднак калі адна зь іх згадваецца ў акадэмічнай манаграфіі, то ўсё ж варта даваць адмысловае тлумачэньне пра спэцыфіку такой прыватнай выдавецкай шыльды.

Безумоўна, выдавецкая дзейнасьць ёсьць найлепшым адлюстраваньнем актыўнасьці беларускіх асяродкаў у розных краінах. Яна шырока разгарнулася яшчэ ў паваеннай Нямеччыне, дзе, паводле бібліяграфіі Зоры й Вітаўта Кіпеляў, выдавалася на пачатку 1947 г. значна больш, чым 20 беларускіх выданьняў, а ў 1945—1949 гг. пабачылі сьвет дакладна больш, чым 67 газэт і часопісаў, пазначаных у калектыўнай манаграфіі[58].

Варта адзначыць, што ў зьвестках пра выдавецкую дзейнасьць надзвычай шмат недакладнасьцяў. Так, з пададзенага ў тэксьце вынікае, што газэта „Беларускі голас“, выдаваная Сяргеем Хмарам у Таронта ад 1952 г., выходзіць і сёньня[59], хоць апошні яе нумар пабачыў сьвет у 1992 г. Таксама як і часопіс „Царкоўны сьветач“ у Саўт-Рывэры не выходзіць ужо ад 1988 г. (а ў тэксьце пададзены як дзейны й сёньня[60]).

---

[56] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 536.

[57] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 536.

[58] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 537.

[59] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 537.

[60] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 541.

Паводле калектыўнай манаграфіі аказваецца, што ў беларускім лягеры Ватэнштэт *„дзейнічалі выдавецтва „Крыніца“ і выдавецкая суполка „Заранка“, душою якіх былі А. Марговіч і А. Бута“*[61]. Насамрэч выдавецтва „Крыніца“, душою якога сапраўды маглі быць пазначаныя маладзёны, знаходзілася ў лягеры Міхэльсдорф, што ў зусім іншай зоне акупацыі Нямеччыны[62].

Не зусім зразумела, чаму зьвесткі пра беларускае радыё ў тэксьце пададзеныя ня ў пункце „Выдавецкая дзейнасьць і сродкі масавай інфармацыі“[63], а ў наступнай „Грамадзка-культурнай працы“. Пры гэтым радыёперадачы ў Сыднэі выходзілі не ад 1970, а ад 1976 г., а радыёпраграмы ў Мэльбурне ішлі толькі крыху болей за год (1976—1977)[64], таму казаць пра тое, што яны *„значны час выходзілі ў эфір“*, не выпадае, у адрозьненьне ад беларускіх перадачаў на Гішпанскім радыё ў Мадрыдзе.

Грамадзка-культурнае жыцьцё паваенных беларускіх асяродкаў на Захадзе было даволі разнастайным. Ладзіліся выставы, фэстывалі, сустрэчы. Найбольш значныя асяродкі з часам прыдбалі свае ўласныя беларускія дамы, адпачынкавыя цэнтры, пабудавалі цэрквы. Аналіз асноўных кірункаў грамадзка-культурнай дзейнасьці беларусаў на Захадзе мог бы быць у манаграфіі значна больш глыбокім, не заснаваным выключна на пералічэньнях дзясяткаў падзеяў і імёнаў. У жаданьні паказаць працу суайчыньнікаў як мага шырэй аўтары тэксту не заўсёды падаюць дакладную інфармацыю. Прыкладам, нельга казаць, што *„беларускія музеі і музейныя аддзелы існуюць у ЗША, Англіі, Германіі, Аўстраліі“*[65]. У Аўстраліі беларускіх музэяў і нават аддзелаў ніколі не было, ладзіліся асобныя выставы-стэнды ў межах вялікіх шматкультурных мерапрыемстваў, аднак сталых экспазыцыяў не існавала. Адзіны беларускі музэй у нямецкім Ляймэне, створаны некалі Юрыем Попкам, на сёньня фактычна ня дзейнічае. Затое варты згадкі ў гэтым кантэксьце Беларускі музэй у Гайнаўцы (Польшча).

Рэлігійнае жыцьцё паваеннай эміграцыі мела на сабе адбітак расколу, што адбыўся ў Нямеччыне пры канцы 1940-х гг. Ад 1948 г.

---

[61] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 537.

[62] Гл.: Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography...

[63] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 540.

[64] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі... С. 449.

[65] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 540.

прыхільнікі Рады БНР аднавілі Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву й падтрымлівалі яе прыходы, што дзейнічалі ў розных краінах сталага жыхарства беларусаў. Пэрыяд актыўнай структурнай разбудовы БАПЦ прыпаў на 1950—1960-я гг., калі яе прыходы зьяўляліся й дзейнічалі ў Вялікабрытаніі, ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Казаць пра тое, што галоўная дзейнасьць БАПЦ на пачатку 1950-х перамясьцілася ў ЗША (як гэта пазначана ў тэксьце[66]) не выпадае, тым больш што й галава БАПЦ архіяпіскап Сяргей на той час якраз выехаў у Аўстралію, дзе вельмі актыўна арганізоўваліся прыходы гэтай царквы. Сумненьні выклікаюць і пададзеныя далей лічбы прыходаў БАПЦ. У 1950—1960-х гг. на Захадзе дзейнічала відавочна болей, чым 6 прыходаў гэтай царквы (як пададзена ў калектыўнай манаграфіі[67]), бо толькі ў Вялікабрытаніі такія структуры ў той час існавалі ў Лёндане, Манчэстэры, Брадфардзе, Кэмбрыджы, Бірмінгеме ды Нотынгеме[68], а былі ж прыходы і ў іншых краінах.

Багатае рэгігійна-царкоўнае жыцьцё беларускай эміграцыі сёньня значна зьменшала, як зьніклі й шмат якія асяродкі. Тым ня менш, у тэксьце А. Ляднёвай і Л. Языковіч падаюцца як існыя сёньня прыходы БАПЦ у Нотынгеме, Манчэстэры, Брадфардзе, Брысбэне, Сыднэі[69]. Аднак дзейнасьць прыходаў і існаваньне беларускіх грамад у згаданых брытанскіх гарадах спынілася цягам 1990-х, у Брысбэне беларусы не выяўлялі актыўнасьці ўжо ў 1960-х, а ў Сыднэі наогул ніколі не існавала прыходу БАПЦ, ініцыятывы яго стварэньня так і не рэалізаваліся яшчэ ў 1950-х.

Згадваючы наяўнасьць праваслаўных структураў, што не падтрымлівалі БАПЦ, аўтары тэксту спыняюцца толькі на Беларускай праваслаўнай царкве Паўночнай Амэрыкі й Канады[70]. Аднак беларускія прыходы ў юрысдыкцыі Канстынтынопальскага патрыярха дзейнічалі ў пэўны час і ў Вялікабрытаніі, і ў Аўстраліі. Прычым у Манчэстэры й Лёндане багаслужбы такіх прыходаў адбываюцца й сёньня. Але ў манаграфіі пра гэты аспэкт царкоўнай гісторыі ня згадваецца.

Затое фігуруе ў тэксьце Беларуская старакаталіцкая артадаксальная субожня, якая нібыта дзейнічала ў ЗША, Канадзе, Нямеччыне,

---

[66] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 540.

[67] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 540.

[68] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі... С. 358—370.

[69] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 540.

[70] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 541.

Бразыліі й Аргентыне й чые суполкі на пачатку 1990-х засталіся ў Паўднёвай Амэрыцы[71]. Аднак згаданая штучная структура была ініцыятывай некалькіх асобаў і ня мела рэальнага ўплыву на жыцьцё беларускай эміграцыі. А вось беларускія пратэстанты мелі свае структуры ў розных краінах яшчэ ад канца 1940-х гг., а ня толькі ад 1973 г.

Рэлігійнае жыцьцё беларусаў у тэксьце пададзенае даволі фрагмэнтарна. Да таго ж выклікаюць зьдзіўленьне выразы кшталту *„ўніяцка-каталіцкая парафія“*, і наогул у вызначэньні беларускіх каталіцкіх структураў заходняга і ўсходняга абрадаў на Захадзе А. Ляднёва й Л. Языковіч надзвычай недакладныя.

Тэкст, прысьвечаны паваенным беларускім асяродкам на Захадзе, атрымаўся структурна, стылёва й зьмястоўна вельмі слабым. Ён адлюстроўвае веды пра паваенную эміграцыю гістарыяграфіі пачатку 1990-х гг. і ня ўлічвае шэрагу значных публікацыяў апошняга дзесяцігодзьдзя. Больш за тое, гэты тэкст амаль цалкам паўтарае частку, прысьвечаную адпаведнаму пэрыяду ў артыкуле „Эміграцыя“ ў шостым томе Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі, што пабачыў сьвет яшчэ ў 2003 г.[72] Зразумела, што й А. Ляднёва, і Л. Языковіч удзельнічалі ў напісаньні энцыкляпэдычнага артыкулу, аднак перадрукоўваць яго ў акадэмічнай манаграфіі праз 8 гадоў не выглядае мэтазгодным, бо такі тэкст абсалютна не адлюстроўвае сучаснага стану айчыннай гістарыяграфіі ў галіне эміграцыязнаўства.

Зрэшты, не адлюстроўваюць яго й апошнія „эміграцыйныя“ сюжэты ў „Гісторыі Беларусі“. Пункт „Міграцыйныя працэсы“ (аўтар Л. Лыч) у падразьдзеле „Нарастаньне нэгатыўных тэндэнцый у сацыяльнай і дэмаграфічнай сфэрах“ главы „Парлямэнцкая форма кіраваньня“ разьдзелу „Беларусь ва ўмовах дзяржаўнага сувэрэнітэту (1991—2009)“ падае толькі сьціплую характарыстыку працэсаў міграцыі беларусаў на мяжы 1980-х—1990-х гг.[73] Прычым праз адсутнасьць спасылак на крыніцы ацаніць верагоднасьць і паходжаньне прыведзеных лічбаў практычна немагчыма. Тэкст жа „Дыяспара“ (таксама Л. Лыча) у падразьдзеле „Культура як галоўны сродак нацыянальнай самабытнасьці“ главы „Прэзыдэнцкае праўленьне“ таго самага разьдзелу наогул складана назваць навуковым[74]. І справа ня толькі ў адсутнасьці спасылак на кры-

[71] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 542.

[72] Эміграцыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. Мінск, 2003. С. 256—262.

[73] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 606—607.

[74] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 668—669.

ніцы, але ў тым, што ён не адлюстроўвае тых працэсаў й праблемаў, што існуюць у сучасным беларускім замежжы. Прыгожая згадка пра наяўнасьць асяродкаў, *„дзе не затухае дух беларускасці“*, на Віленшчыне, у Сыбіры, Санкт-Пецярбургу ды Маскве[75] не раскрывае тэндэнцыяў разьвіцьця беларускіх дыяспараў на постсавецкай прасторы. А гэтыя асяродкі сталі абсалютна новай зьявай у найноўшай гісторыі беларускага замежжа. Нічога ня вартае й адзначэньне *„прыкладаў жывучасці беларускасці сярод нашых суайчыннікаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі, Швецыі, Германіі, Францыі, Чэхіі, іншых краінах“*[76]. Тым больш што гэтую „жывучасьць“ складана прадэманстраваць беларусам Францыі й Нямеччыны, дзе трывалых беларускіх арганізацыяў фактычна не існуе. Значна скарацілася й актыўнасьць беларусаў Аўстраліі, Канады, Вялікабрытаніі. Прывядзеньне ў якасьці прыкладу сувязі паміж Беларусьсю й дыяспарай адкрыцьця ў Навагрудку музэя Барыса Кіта не зусім адпаведнае, улічваючы, колькі праблемаў стваралася з боку мэтраполіі й колькі часу заняла справа арганізацыі гэтага музэю. Рэальныя ж адносіны паміж Беларусьсю й дыяспарамі сёньня зусім не такія добрыя, як вынікае з тэксту Л. Лыча.

Калі ацэньваць тую гісторыю беларускай эміграцыі, што атрымалася ўключанай у кантэкст агульнай гісторыі Беларусі ў калектыўнай манаграфіі, то трэба яе акрэсьліць як вельмі няроўную, няпоўную й, галоўнае, не адпаведную сучаснаму ўзроўню айчыннага эміграцыязнаўства. Тэксты, прысьвечаныя розным пэрыядам эміграцыі, не складаюцца ў агульную канцэпцыю станаўленьня й разьвіцьця беларускага замежжа. Значэньне асобных даволі якасных тэкстаў А. Ціхамірава й Г. Сяргеевай побач з слабымі іншымі зьмяншаецца. У гісторыі беларускай прысутнасьці ў сьвеце калектыўная манаграфія прамінула важныя аспэкты й сюжэты, зьвязаныя зь міжваенным пэрыядам, асобнымі асяродкамі паваеннай эміграцыі й разьвіцьцём новых маладых дыяспараў на постсавецкай прасторы. Няўлічанымі засталіся шматлікія грунтоўныя публікацыі апошняга дзесяцігодзьдзя, прысьвечаныя беларусам Аўстраліі, Аргентыны, ЗША, Вялікабрытаніі. Можна сказаць, што ў асьвятленьні эміграцыйных працэсаў акадэмічная „Гісторыя Беларусі“ мала дадала, а ў некаторых момантах нават зрабіла крок назад у параўнаньні з „Нарысамі гісторыі Беларусі“.

---

[75] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 668.

[76] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 6... С. 669.

Апошні том акадэмічнага выданьня пабачыў сьвет у 2011 г. За год да таго ў выдавецтве „Беларуская энцыклапедыя“ зьявілася дзьвюхмоўнае „Беларускае замежжа“[77], што пры ўсіх хібах і навукова-папулярным характары канцэптуальна й зьместава пераўзыходзіць тэксты, прысьвечаныя эміграцыі ў акадэмічнай калектыўнай манаграфіі. У дачыненьні да апошняй, на жаль, нельга нават сказаць дзяжурнай фразы пра тое, што яна адлюстроўвае стан айчыннай гістарыяграфіі ў дадзенай галіне. Хутчэй гэтае выданьне сьведчыць, што акадэмічная навука ў Беларусі ня толькі не вызначае разьвіцьця гістарычных дасьледаваньняў у краіне, але і ў сфэры эміграцыязнаўства знаходзіцца далёка на ўзбоччы гэтага працэсу.

77 Беларускае замежжа=Белорусское зарубежье…

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ПРА СКЛАДАНАСЬЦІ ВЫВУЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў МІЖВАЕННЫ ПЭРЫЯД

*Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд. Мінск: РІВШ, 2012. — 314 с. — (Наклад 100 ас.)*




Фэномэн беларускага замежжа ў міжваенны час, надзіва, дасёньня застаецца маладасьледаваным у айчыннай навуцы. Нягледзячы на адносную геаграфічную блізкасьць асноўных асяродкаў, наяўнасьць адносна даступнай базы крыніцаў, сёньня беларускія асяродкі ў Літве, Латвіі, Нямеччыне, Францыі дасьледуюцца надзвычай мала. Тым цікавейшай выглядае ініцыятыва напісаньня абагуленай працы, прысьвечанай пэрыяду цалкам. З такой ідэяй выступіла дасьледніца Вольга Коваль у сваёй кнізе „Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд“. Навуковае выданьне, аформленае згодна з усімі патрабаваньнямі Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, выглядае як заяўка на атрыманьне чарговай навуковай ступені ці званьня.

Мэту свайго дасьледаваньня Вольга Коваль фармулюе надзвычай грунтоўна: *„...вызначыць асаблівасці развіцця палітычных, адукацыйных, культурных, эканамічных узаемасувязяў беларускай і ўкраінскай дыяспар на аснове комплекснага аналізу апублікаваных навуковых работ і шырокага спісу новых айчынных і замежных матэрыялаў*“[1]. Дасягненьне такой амбіцыйнай мэты патрабуе ад аўтара вельмі добрага веданьня крыніцаў і гістарыяграфіі ды фактычных зьвестак, а таксама валоданьня мэтадалягічным інструмэнтарыем. На жаль, ня ўсе са згаданых вышэй якасьцяў аўтар кнігі аказалася здольная прадэманстраваць.

Найперш і аўтарка, і мы разам зь ёй спынімся на праблеме крыніцаў і гістарыяграфіі. Ужо на пачатку адпаведнага разьдзелу Вольга Коваль робіць слушную выснову пра недастатковую распрацаванасьць праблемы разьвіцьця працоўнай і палітычнай эміграцыяў у міжваенны пэрыяд. *„Шэраг матэрыялаў па гісторыі беларускай эміграцыі захоўваецца ў замежных архівах, цэнтрах і бібліятэках і не выкарыстоўваецца гісторыкамі ў поўнай ступені*“[2]. Гэтую заўвагу, на жаль, можна аднесьці й да працы самой Вольгі Коваль. Шмат гадоў вывучаючы беларускую эміграцыю, аўтар абапіраецца пераважна на архівы й бібліятэкі Беларусі, у той час як багатыя калекцыі каштоўных матэрыялаў захаваліся якраз у замежжы, і сама Вольга Коваль пра гэта згадвае. Але ня бачыўшы ні збораў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане (дзе ёсьць даволі значная колькасьць беларускіх міжваенных выданьняў), ні калекцыі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы, ні іншых архіўных збораў, дасьледніца робіць безапэляцыйныя высновы, што *„значная частка прэсы не захавалася нават у Злучаных Штатах Амерыкі і Вялікабрытаніі*“[3]. Наогул вывучэньне гісторыі беларускага замежжа любога пэрыяду выглядае дзіўным без выкарыстаньня архіўных збораў самой эміграцыі.

Ня менш безапэляцыйныя заўвагі робіць аўтарка і ў акрэсьленьні гістарыяграфіі пытаньня. Яе высновы гучаць наступным чынам:

*„Сярод беларускіх матэрыялаў сучасных даследчыкаў вылучаюцца навуковыя работы, падрыхтаваныя беларусамі замежжа. Для большасьці гэтых прац характэрна аднабаковасць ацэнак. Самі бела-*

---

[1] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд. Мінск, 2012. С. 4.

[2] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 8.

[3] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 19.

*рускія эмігранты сваю дзейнасьць і работу папярэднікаў характарызуюць выключна станоўча, часта перабольшваючы яе значэнне і маштабы“*[4].

*„У большасці навуковых работ беларускіх аўтараў 90-х гг. падкрэсліваюцца выключна станоўчыя моманты ў мінулым замежжа“*[5].

*„На сённяшні дзень некаторыя беларускія эмігранты ЗША і Канады імкнуцца завысіць ролю палітычнай дзейнасці беларускага грамадства за мяжой, аднак іх пазіцыі і меркаванні не пацвярджаюцца матэрыяламі гістарычных крыніц па дадзеным перыядзе“*[6].

*„Большасць навуковых даследаванняў канца 90-х гг. XX ст. адрозніваюцца ідэалагічнай заангажаванасцю, шматлікія публікацыі па дадзенай тэматыцы неабходна аднесці да публіцыстыкі. Асноўнай праблемай для даследчыкаў гісторыі эміграцыі з’яўляецца слабая крыніцазнаўчая база, таму многія навукоўцы ў сваіх публікацыях выкарыстоўваюць успаміны і мемуары беларускіх эмігрантаў, што прыводзіць іх да памылковых высноў“*[7].

*„Разглядаючы гісторыю беларускай дыяспары міжваеннага часу, большасць вучоных засяроджваюць сваю ўвагу выключна на палітычнай эміграцыі“*[8].

*„Некаторыя эмігранты наўмысна абяляюць свае ўчынкі, апраўдваюць уласны маральны выбар у пэўны гістарычны момант. Многія сучасныя дзеячы эміграцыі ў сваіх публікацыях выкарыстоўваюць выключна ўспаміны, што прымушае іх рабіць памылковыя высновы. Прыкладам такіх публікацый могуць быць часопісы і зборнікі Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку“*[9].

Гэткія цытаты з кнігі можна яшчэ працягваць. Выклікае пярэчаньні тут нават не безапэляцыйнасьць фармулёвак, але найбольш тое, што

[4] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 9.

[5] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 9.

[6] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 64.

[7] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 89.

[8] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 90.

[9] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд… С. 191.

НІВОДНАЯ зь іх не падмацаваная НІЯКІМІ прыкладамі. Аўтарка не прыводзіць ніводнай працы, якая можа пацьвердзіць выказаныя ёй нараканьні, і адсюль незразумела, хто менавіта складае тую *„большасьць вучоных“* або катэгорыю *„многіх сучасных дзеячаў эміграцыі“*, супраць якіх Вольга Коваль змагаецца на працягу ўсёй сваёй кнігі.

Наогул, пры ацэнцы гістарыяграфіі дасьледніца паказвае далёкі ад прафэсіяналізму падыход. Так, яна згадвае вельмі грунтоўную бібліяграфію беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе Вітаўта і Зоры Кіпеляў, аднак робіць заўвагу, што *„пры яе выкарыстаньні трэба памятаць, што частка выданьняў у ёй прапушчана“*[10]. І пры гэтым зноў жа не прыводзіцца ніводнага прыкладу прапушчанага ў бібліяграфіі выданьня, якое было б вядомае аўтарцы. Далей згадваецца знойдзеная ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі *„Ŕdnotowana bibliografia czasopism białoruskich z lat 1918—1939 ukazujących się na Białorusi Zachodniej i emigracji“ Jerzy Traczuka* і робіцца надзвычай незразумелая заўвага: *„На жаль, пачатак кнігі адсутнічае, таму немагчыма ўдакладніць месца і час яе выдання“* (с. 10). Але гэтая публікацыя не зьяўляецца нейкім унікальным архіўным дакумэнтам, што існуе ў адзіным асобніку, і яе выходныя зьвесткі можна даволі лёгка спраўдзіць самымі рознымі шляхамі. Напрыклад, з дапамогай інтэрнэту высьвятляецца, што размова ідзе пра артыкул польскага дасьледніка Ежы Трачука *„Prasa białoruska w II Rzeczypospolitej (1918—1939). Bibliografia“*, апублікаваны ў пэрыёдыку *„Studia Polono-Slavica-Orientalia“* (T. 13. 1992. S. 185—373), часткай якога й зьяўляецца скарыстаная Вольгай Коваль бібліяграфія.

Безумоўна важныя сёньня праблемы, зьвязаныя з мэтадалёгіяй эміграцыйных дасьледаваньняў, іх паняційным апаратам. І зварот аўтаркі да гэтай тэмы можна толькі вітаць. Але ёсьць адна істотная заўвага: нельга сьцьвярджаць, што ў Беларусі ніхто раней не зьвяртаўся да тэарэтычных аспэктаў фармаваньня й разьвіцьця дыяспары, як робіць гэта Вольга Коваль. Яшчэ ў 2006 г. у альманаху „Запісы БІНіМ“ быў надрукаваны наш артыкул „Беларускія дыяспары: спроба сыстэмнага аналізу“[11], дзе мы намагаліся спалучыць тэарэтычныя схемы разьвіцьця дыяспары з эмпірычным беларускім матэрыялам. Там жа была

[10] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 10.

[11] Гардзіенка, Натальля. Беларускія дыяспары: спроба сыстэмнага аналізу // Запісы БІНіМ. №30. Нью-Ёрк—Менск, 2006. С. 187—213.

зробленая чарговая спроба (першая была ў кнізе „Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары“) вызначэньня паняцьцяў „дыяспара“, „эміграцыя“, „замежжа“, што ў сваю чаргу ва ўласнай працы зноў робіць Вольга Коваль, ня ўлічваючы ўжо наяўных напрацовак. Аўтарка з выкарыстаньнем напрацовак расійскіх і ўкраінскіх дасьледнікаў агучвае адносна новыя паняцьці „краіны-рэцыпіента“, „адаптацыі“, „акультурацыі“. Аднак у выніку шырокіх тэрміналягічных развагаў у кнізе застаецца так і ня вызначаным, якога менавіта вызначэньня дыяспары прытрымліваецца сама Вольга Коваль. Так, яна зазначае: *„Сучасныя тэарэтычныя распрацоўкі сведчаць, што дыяспара — гэта, па-першае, этнічная меншасць, па-другое, перасеrange этнічная меншасць, па-трэцяе, у адпаведнасці з калектыўным волевыяўленнем сваіх членаў яна жадае заставацца такой і захоўваць сваю этнакультурную самабытнасць“*[12]. Але пад гэтае вызначэньне дыяспары ніякім чынам не падыходзіць, прыкладам, беларуская супольнасьць у міжваеннай Латвіі, што ўтварылася наперш геапалітычным чынам. Наогул, аўтарка пэрыядычна выкарыстоўвае паняцьці „дыяспара“ й „эміграцыя“ як сынонімы[13], таму можна казаць, што прыведзеныя ў асобным разьдзеле тлумачэньні паняцьцяў у рамках цэлай кнігі не заўсёды выкарыстоўваюцца адпаведна з гэтымі вызначэньнямі.

Асноўны зьмест кнігі Вольгі Коваль разьмеркаваны па дзьвюх вялікіх частках: „Агульныя асаблівасці фарміравання беларускай і ўкраінскай эміграцыі (1918—1939)“ і „Асноўныя кірункі беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей дыяспар міжваеннага перыяду“. Першая частка пачынаецца з разгляду „Асноўных тэндэнцый эміграцыйных працэсаў у гісторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны“, дзе аўтарка засяроджваецца на разглядзе найперш міграцыйнай палітыкі Другой Рэчы Паспалітай, мэханізмаў стымуляваньня беларускай і ўкраінскай эміграцыяў і іх агульных праблемах. Заснаваны на цікавых польскіх, украінскіх і беларускіх архіўных крыніцах аповед стварае адэкватнае ўяўленьне пра спэцыфіку міграцыйных працэсаў. Праўда, Вольга Коваль чамусьці ня згадвае, што кірункі эміграцыі ў беларусаў і ўкраінцаў у міжваенны час былі амаль тыя самыя, што і ў пачатку XX ст. Таму выезды 1920-х мож-

[12] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 26.

[13] Гл., напрыклад, с. 164, калі паралельна ў суседніх абзацах аўтарка піша пра *„газеты і часопісы беларускай эміграцыі“* і *„перыядычныя выданні беларускай дыяспары“*, і такіх прыкладаў у кнізе багата.

на разглядаць як своеасаблівае перайманьне шляхоў ад папярэдняй, таксама эканамічнай, хвалі эміграцыі.

Далей у кнізе аўтарка намагаецца ахарактарызаваць спэцыфіку беларускай эміграцыі, асобна разглядаючы яе эканамічную і палітычную хвалі. Назва падразьдзелу „Фарміраванне эканамічнай хвалі беларускай эміграцыі“ не зусім карэктнае, бо ў тэксьце гаворыцца ня ўласна пра „фарміраванне“, але пра характарыстыкі й кірункі. Хоць часам складваецца ўражаньне, што аўтарка мае нейкае сваё, арыгінальнае ўяўленьне пра сутнасьць паняцьця „фарміраваньне“. Так, яна піша: *„Гісторыю фарміравання эканамічнай хвалі беларускай эміграцыі ў міжваенны час неабходна падзяліць на шэраг кірункаў: паўночнаамерыканскі, паўднёваамерыканскі і эміграцыя ў еўрапейскія краіны (кантынентальная)“*[14]. Нібыта эміграцыя ў розных кірунках адрозьнівалася яшчэ і пэрыядамі, а не ішла адначасова.

У якасьці краінаў эканамічнай эміграцыі ў кнізе разглядаюцца ЗША, Канада, Аргентына, Парагвай, Уругвай, Бразылія, Францыя, Нямеччына й Аўстрыя. У дачыненьні да кожнай краіны Вольга Коваль зьвяртае ўвагу найперш на асаблівасьці яе міграцыйнай палітыкі, а ў сувязі з гэтым — і на спэцыфіку беларускай іміграцыі. Так, у дачыненьні да ЗША згадваюцца ўведзеныя ў 1920-х гг. абмежаваньні іміграцыі, што зьмяншалі магчымасьці беларусаў па эміграцыі ў гэтую краіну. Аўтарка згадвае складанасьці вызначэньня колькасных характарыстык беларускай эміграцыі ў ЗША, сьцьвярджае пра цяжкасьці адаптацыі яе прадстаўнікоў, аднак сур’ёзнае вывучэньне працэсу адаптацыі застаецца, зразумела, па-за ўвагай працы, хоць высновы пра яго Вольга Коваль усё ж наважваецца рабіць зноў жа без прывядзеньня доказаў сваіх думак: *„Пэўную складанасць уяўляў індывідуалістычны спосаб жыцця, які не заўсёды правільна ўспрымаўся эмігрантамі. [...] у асяродку эмігрантаў у ЗША існавала праблема алкагалізму, выкліканая немагчымасцю асобы знайсці сваё месца ў прымаючым грамадстве, а таксама складаным унутрыасабовым канфліктам і расчараваннем“*[15].

Зьвесткі пра беларусаў у Канадзе, прыведзеныя Вольгай Коваль, выглядаюць вельмі фрагмэнтарнымі. Яна на падставе ўкраінскіх пуб-

---

[14] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 53.

[15] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 60.

лікацыяў акрэсьлівае асаблівасьці міграцыйнай палітыкі Канады, зноў дэкляруе складанасьці сацыяльнай адаптацыі, зьвязаныя з тым, што *„новым жыхарам дзяржавы неабходна было засвоіць канадскую сістэму маральных каштоўнасцей, іншыя нормы паводзін у грамадстве і ўвесь час імкнуцца дамагчыся роўнасці ў сацыяльна-эканамічных правах“*[16]. Аднак з чаго складалася спэцыфіка канадыйскай сыстэмы каштоўнасьцяў і нормаў паводзінаў і як беларусы змагаліся за свае правы, аўтарка традыцыйна не ўдакладняе. На жаль, Вольга Коваль прамінула важныя публікацыі, прысьвечаныя беларускай прысутнасьці ў міжваеннай Канадзе, праз што яе аповед і высновы не выглядаюць пераканаўчымі. Першая публікацыя — кніга беларуса Рыгора Акулевіча „Расейцы ў Канадзе“, дзе аўтар падрабязна распавядае пра арганізацыйныя структуры — рускія рабочыя клюбы ў Канадзе, — у стварэньні якіх актыўны ўдзел бралі менавіта беларусы[17]. Другая праца, безумоўна карысная, асабліва з увагі на статыстычныя зьвесткі адносна беларускай прысутнасьці ў краіне, — англамоўнае дасьледаваньне Янкі Садоўскага „Гісторыя беларусаў у Канадзе[18]. Цікавая палеміка адносна статыстыкі прыведзеная таксама ў кнізе Раісы Жук-Грышкевіч. Без увагі на згаданыя выданьні даволі дзіўнай выглядае характарыстыка беларускай эміграцыі ў гэтай паўночнаамэрыканскай краіне.

Зьвесткі пра беларусаў у Аргентыне ў кнізе Вольгі Коваль грунтуюцца на дысэртацыі Сяргея Шабельцава, а таксама публікацыях міжваенных пэрыёдыкаў і матэрыялах польскіх эміграцыйных структураў. Цікавай выглядае інфармацыя пра беларусаў у міжваеннай Бразыліі. Аднак паходжаньне зьвестак пра прыкладна 5 тысячаў беларускіх эмігрантаў у гэтай краіне ў азначаны час Вольга Коваль так і не пазначыла. На падставе публікацыяў В. Мартынава і Вольгі Мярчук распавядаецца пра беларускую прысутнасьць у Парагваі, асобна фрагмэнтарна згадваецца беларуская прысутнасьць ва Ўругваі. Што праўда, выснова Вольгі Коваль выглядае не зусім зразумелай: *„Адсутнасць буйных палітычных цэнтраў беларускай і ўкраінскай дыяспар у Парагваі і Уругваі не дазволіла эмігрантам стварыць шырокую крыніцазнаў-*

---

[16] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 63.

[17] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде: История Русских рабоче-фермерских клубов имени М. Горького (1930—1940) и Федерации русских канадцев (1941—1952). Торонто, 1952. — 328 с.

[18] Sadouski, John. A History of the Byelorussians in Canada. Belleville, 1981. — 148 p.

*чую базу міжнародных узаемадачыненняў*“[19]. Пытаньне пра тое, якую менавіта крыніцазнаўчую базу павінныя былі ствараць эмігранты, застаецца адкрытым.

Шкада, што адной з найбуйнейшых у міжваенны пэрыяд — беларускай эміграцыі ў Францыі — аўтарка аддала няшмат сваёй увагі, таксама як і эміграцыі ў Нямеччыне, дзе больш згадваюцца якраз прадстаўнікі не эканамічнай, а палітычнай эміграцыі. Агульная характарыстыка эміграцыі беларусаў у Латвію чамусьці не абапіраецца на публікацыі саміх тамтэйшых беларусаў.

Прапанаваны Вольгай Коваль падзел на эканамічную й палітычную эміграцыі выклікаў у кнізе пэўныя супярэчнасьці. Наогул палітычная эміграцыя зь Беларусі ў міжваенны час была колькасна невялікая. Яна была зьвязаная з структурамі Рады БНР ды палітычных арганізацыяў у Заходняй Беларусі, і яе складана назваць масавай. Вызначэньне Вольгі Коваль, што *„ў першай чвэрці XX ст. па палітычных прычынах за мяжу выехалі ўсе тыя, хто не мог пагадзіцца з канфіскацыяй прыватнай маёмасці і нацыяналізацыяй прамысловасці*“[20], выглядае не зусім адпаведным, бо не адлюстроўвае рэальнай палітычнай сутнасьці эміграцыі.

Безумоўна, асноўным асяродкам беларускай палітычнай эміграцыі ў міжваенны пэрыяд стала Чэхаславаччына, і ў кнізе Вольгі Коваль ёй аддадзена багата ўвагі. Праўда, аўтарка засяроджвае ўвагу на падзеях першай паловы 1920-х гг., зазначаючы, што *„пасля ІІ Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі 1925 г. частка прадстаўнікоў беларускага замежжа засталася праціўнікам савецкай краіны, а некаторыя эмігранты пачалі актыўнае супрацоўніцтва з прадстаўнікамі БССР і нават вярнуліся на Радзіму*“[21]. Такім чынам, сутнасьць таго, што адбывалася ў беларускім асяродку ў Чэхаславаччыне ў другой палове 1920-х — 1930-х гг., засталася па-за ўвагай дасьледаваньня.

Зьвяртаецца аўтарка кнігі й да дзейнасьці палітычнай эміграцыі ў Літве ды Латвіі. Пры гэтым, акрэсьліваючы разнастайную, напрыклад, адукацыйную дзейнасьць беларускай грамады ў Латвіі, Вольга Коваль не гаворыць пра тое, што, хоць і арганізаваная прадстаўнікамі палітычнай эміграцыі, яна абапіралася на наяўнасьць у краіне рэгіёнаў з карэн-

[19] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 73.

[20] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 91.

[21] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 111.

ным беларускім насельніцтвам і менавіта таму мела такі шырокі абсяг. Цікава, што пры аповедзе пра беларусаў у балтыйскіх краінах Вольга Коваль ня згадвае прысьвечаныя гэтай тэме адмысловыя працы Кастуся Езавітава, прыкладам, „Беларусы ў Літве“ й „Беларусы ў Латвіі“, што зьяўляюцца важнымі крыніцамі інфармацыі пра беларускую дзейнасьць у міжваенны пэрыяд.

Прадстаўнікоў палітычнай беларускай эміграцыі ў Францыі былі адзінкі. Найбольш актыўнымі былі прыбылыя з Прагі Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі. Менавіта яны сталі стваральнікамі грамадзкіх арганізацый, якія аб’ядналі прадстаўнікоў тае эканамічнае эміграцыі, што была даволі колькаснай у тагачаснай Францыі.

Багата ўвагі ў кнізе аддадзена дзейнасьці палітычнай эміграцыі ў ЗША, асноўны асяродак якой быў створаны ў Чыкага. Абапіраючыся ў сваім аповедзе на працы найперш Вітаўта Кіпеля, найбуйнейшага спэцыяліста па гісторыі эміграцыі ў Амэрыцы, Вольга Коваль дае зноў даволі дзіўную характарыстыку й самому дзеячу, і ягоным дасьледаваньням: *„Адным з актыўных дзеячаў сучаснай беларускай эміграцыі з’яўляецца беларус у ЗША Вітаўт Кіпель. Ён называе свае кнігі і артыкулы навуковымі працамі, аднак часта кіруецца асабістымі поглядамі і эмоцыямі, абапіраецца на ўласныя ўспаміны, а не на дакументальныя крыніцы, таму большасць яго работ варта аднесці да публіцыстыкі“*[22]. Цікава гэта гучыць, асабліва калі браць пад увагу, што крыніцазнаўчая база кніг Вітаўта Кіпеля, прысьвечаных беларусам у ЗША (і ангельскай, і беларускай вэрсіяў) выглядае больш сур’ёзна, чым база крыніцаў самой Вольгі Коваль, а ягоныя высновы значна больш аргумэнтаваныя. Тым больш калі размова ідзе пра падзеі міжваеннай гісторыі, дык Вітаўт Кіпель, народжаны ў 1928 г., ня мог пра іх нешта наогул згадваць па памяці, бо прыехаў у ЗША толькі пасьля Другой сусьветнай вайны, і менавіта ў дачыненьні да гэтага пэрыяду ягоныя працы (зрэшты, як і да іншых) маюць характар выключна дасьледны. І сама ж Вольга Коваль іх шырока цытуе ў сваёй кнізе.

Кур’ёз з разуменьнем паняцьцяў „палітычнай эміграцыі“ й „палітычнай дзейнасьці эміграцыі“ зьвязаны найперш з аповедам пра беларускія арганізацыі ў Аргентыне. У папярэдніх разьдзелах Вольга Коваль даводзіла эканамічны характар беларускай эміграцыі ў гэтую краіну, а цяпер гаворыць пра тое, што менавіта тут быў асноўны цэнтар палітычнай міжваеннай эміграцыі ў Паўднёвай Амэрыцы. Пры гэтым яна

[22] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 118.

засяроджваецца на дзейнасьці пракамуністычных беларускіх і ўкраінскіх арганізацыяў, нават не задумваючыся над тым, што яны маглі быць (і былі) створаныя менавіта эканамічнай эміграцыяй, а таму гэты сюжэт да разьдзелу „Роля беларускай палітычнай эміграцыі ў жыцці дыяспары“ ня мае ніякага дачыненьня.

Цікавым, але не зусім апраўданым выглядае вылучаны асобна разьдзел кнігі „Роля мараплаўных кампаній у арганізацыі эміграцыйнага руху з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны“, тым больш разьмешчаны ўжо пасьля характарыстык розных хваляў і напрамкаў эміграцыі. Пададзеная тут інфармацыя выразна перагукаецца зь першым разьдзелам „Асноўных тэндэнцый эміграцыйных працэсаў з гісторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны“ й цалкам натуральна глядзелася б менавіта там.

У першай частцы кнігі Вольгі Коваль ёсьць два разьдзелы, прысьвечаныя ўласна ўкраінскай эміграцыі, яе кірункам і характарыстыкам. Яны створаныя на падставе працаў украінскіх дасьледнікаў, і іх ацэнку мы пакідаем паўднёвым калегам.

Другая вялікая частка кнігі Вольгі Коваль прысьвечаная ўласна беларуска-ўкраінскім дачыненьням у замежжы ў міжваенны пэрыяд. І найбольшая ўвага тут аддадзеная адлюстраваньню кантактаў прадстаўнікоў дзьвюх нацыяў на старонках пэрыядычнага друку. Тут зноў паўтараюцца тэзы пра адсутнасьць у Бібліяграфіі Кіпеляў нейкіх выданьняў (праўда, не пазначаецца, якіх), зноў згадваецца праца Трачука й гаворыцца пра нядбайнае стаўленьне беларускіх эмігрантаў да захаваньня сваіх пэрыёдыкаў. Найбольш карысная інфармацыя Вольгі Коваль датычыць наяўнасьці тых ці іншых беларускіх замежных выданьняў у бібліятэках і архівах Беларусі. Праўда, аўтарка абмінула ўвагай цікавую Прэзыдэнцкую бібліятэку, дзе таксама ёсьць некаторыя выданьні міжваенных беларускіх асяродкаў.

Трэба адзначыць, што пры характарыстыцы асобных выданьняў дасьледніца робіць прыкрыя памылкі. Так, яна чамусьці называе газэту „Канадскі гудок“ украінскай, хоць гэта быў орган Рускага працоўнага клюбу імя М. Горкага, які выдаваўся беларусамі. І з ўвагі на гэта зьяўленьне ў першых нумарах яго адмысловага „Беларускага кутка“ выглядае цалкам натуральнай зьявай, а ня прыкладам дабрачыннасьці сяброў-украінцаў, як гэта падаецца ў кнізе[23].

---

[23] Коваль, Вольга. Узаемасувязі беларускай і ўкраінскай дыяспар у міжваенны перыяд... С. 173.

У разьдзеле, прысьвечаным пэрыядычным выданьням, Вольга Коваль згадвае таксама мэмуары як крыніцу інфармацыі пра беларуска-ўкраінскія дачыненьні. Аднак пералік згаданых аўтаркай мэмуараў мог быць паўнейшы за кошт найперш успамінаў дзеячаў паваеннай эміграцыі на Захадзе. Так, прыкладам, свае ўспаміны пра жыцьцё ў міжваеннай Чэхаславаччыне публікавала на старонках газэты „Беларус“ Натальля Орса[24].

Безумоўна, важным сюжэтам беларуска-ўкраінскага супрацоўніцтва ў міжваенны час зьяўляюцца студэнцкія кантакты ў Чэхаславаччыне. Значная колькасьць беларускіх студэнтаў навучалася ва ўкраінскіх навучальных установах, удзельнічала ў супольных арганізацыях і мерапрыемствах. Дзякуючы сур'ёзным распрацоўкам у гэтай галіне ўкраінскіх дасьледнікаў, а таксама наяўнасьці дакумэнтаў у беларускіх архівах, Вольга Коваль аддае гэтай галіне дачыненьняў эміграцыяў багата месца. Праўда, і тут найбольшы акцэнт зроблены на падзеях першай паловы 1920-х гг.

Разьдзел „Культурныя і асабістыя сувязі беларусаў і ўкраінцаў замежжа“ падае разнастайныя прыклады адпаведных беларуска-ўкраінскіх кантактаў найперш і найбольш на прыкладах Чэхаславаччыны й Аргентыны.

Праца Вольгі Коваль грунтуецца на сьпісе з 563 архіўных дакумэнтаў і публікацыяў, аднак пакінула па-за ўвагай цэлы шэраг важных напрацовак як паваеннай эміграцыі, так і сучасных дасьледнікаў. Да ўжо адзначанага варта дадаць: даведачнае абагульняльнае выданьне „Беларускае замежжа“ (Мінск, 2010), дзе ўтрымліваецца інфармацыя й пра розныя пэрыяды ў гісторыі беларускай прысутнасьці ў сьвеце, і пра канкрэтныя краіны; акадэмічную шасьцітамовую „Гісторыю Беларусі“[25], дзе карыснай інфармацыі значна больш, чым у шырока цытаваным аўтаркай навучальным дапаможніку „Беларуская дыяспара: нарысы гісторыі і сучаснага стану“; апошнюю працу Сяргея Шабельцава[26] ды іншыя публікацыі.

[24] Орса, Натальля. Успаміны: Вайна й паездка ў Янавічы й Маскву. Павестка. Паварот на Бацькаўшчыну. Прага // Беларус. №411. Сакавік 1994. С. 4—5; №415. Жнівень 1994. С. 4—5; №418. Лістапад 1994. С. 4—5.

[25] Гісторыя Беларусі: У 6 т. / Рэдкал.: М. Касцюк (галоўны рэдактар) і інш. Т. 1—6. Мінск, 2000—2011.

[26] Шабельцев, Сергей. Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев. Минск, 2011. — 94 с.

Дадаткам да асноўнага зьместу кнігі выступаюць 12 табліц, складзеных на падставе матэрыялаў неапублікаванай працы польскага чыноўніка Апалёна Зарыхты „Два дзесяцігодзьдзі эміграцыі з Польшчы 1918—1939“.

Ацэньваючы працу Вольгі Коваль цалкам, можна вылучыць некалькі агульных праблемаў у вывучэньні асяродкаў беларускага замежжа ў міжваенны час. Першая праблема датычыць недастатковай распрацаванасьці крыніцаў. Вывучэньне гэтага пэрыяду ў айчынным эміграцыязнаўстве знаходзіцца яшчэ на пачатковай стадыі. Пільнай увагі патрабуюць эміграцыйныя архівы, а таксама зборы дакумэнтаў у дзяржаўных архівах Літвы, Латвіі, Чэхіі, Францыі, ЗША, Канады ды інш. Другая праблема, зьвязаная зь першай, — нераўнамернасьць дасьледаваньня асобных асяродкаў. Калі беларускаму жыцьцю ў ЗША, Чэхаславаччыне ці Аргентыне надаецца больш-менш стабільная ўвага, дык іншыя асяродкі застаюцца малавывучанымі, што не дазваляе выходзіць на ўзровень абагульненьняў у дачыненьні да ўсіх беларускіх дыяспараў міжваеннага пэрыяду. Апошняе якраз і прадэманстравала праца Вольгі Коваль, дзе зроблена занадта шмат бяздоказных высноваў.

У кнізе „Узаемасувязі беларускай і украінскай дыяспар у міжваенны перыяд“, безумоўна, ёсьць каштоўныя зьвесткі, цікавыя абагульненьні. Аднак яе структура, пэўная непасьлядоўнасьць у выкарыстаньні паняцьцяў, цьмянасьць фармулёвак, няўвага да працы калегаў, безапэляцыйнасьць і бяздоказнасьць шмат якіх высноваў (прынамсі, у беларускай частцы) вымушае да асьцярожнага стаўленьня. Адзначаючы безумоўную сьмеласьць аўтаркі ў звароце да надзвычай шырокай тэмы, варта зазначыць, што з пастаўленай мэтай яна наўрад ці пасьпяхова справілася, бо зроблены ёй аналіз гістарычных крыніц і публікацый нельга назваць комплексным, дый выразныя асаблівасьці палітычных, эканамічных, культурных і іншых узаемасувязяў беларускай і ўкраінскай дыяспараў аўтарка выявіла даволі павярхоўна.

***Макс Шчур***
*Прага*

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: МІЖ БНР І ГУЛАГАМ

*Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu. Iluze nebo realita? Praha: Nakladatelství Lidové noviny, 2012. — 261 s. (Маркава, Алена. Савецкая беларусізацыя як шлях да нацыі. Ілюзія ці рэальнасьць?)*




З розных прычынаў чэскі кніжны рынак не завалены кніжкамі, напісанымі беларусамі, пра беларусаў ці Беларусь, пагатоў навуковымі. З выключэньняў, што пацьвярджаюць правіла, варта згадаць перадусім перакладную „Гісторыю Беларусі“ Генадзя Сагановіча й Захара Шыбекі (2006), нізку эсэ беларускіх філёзафаў „Невядомая Беларусь“ (2005), кароткі гістарычны даведнік „Беларусь“ чэскага аўтара Мілаша Ржэзьніка (2003), і вось цяпер — дасьледаваньне маладой беларускай навукоўкі Алены Маркавай, прысьвечанае праблеме беларусізацыі.

Сваёй інфармацыйнасьцю й досыць вузкай тэматычнай скіраванасьцю кніга далёка перасягае запыты шараговага чэскага чытача што да асьвятленьня беларускага пытаньня, якое аўтарка імпліцытна фармулюе ва ўводзінах: *„Для чэскага назіральніка сёньняшняя сытуацыя ў Беларусі выглядае тым больш незразумелай, калі ён даведваецца, што пераважная бальшыня беларусаў не гаворыць па-беларуску, не*

*карыстаецца сваімі традыцыйнымі нацыянальнымі сымбалямі... і не атаясамліваецца зь беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьцю, заснаванай на беларускай культурнай і гістарычнай спадчыне ды на беларускай мове як агульнанацыянальнай“*[1].

Уласна кажучы: а ці сапраўды толькі для чэскага назіральніка? На гэтае самае пытаньне нам, самім беларусам, нібыта ўжо адказвалі прынамсі двойчы: як на маёй памяці, першы раз у канцы 1980-х — пачатку 1990-х, калі былі адкрытыя Курапаты і ў моўны абарот увайшлі хлёсткія словы кшталту „этнацыд“, „манкурты“, „русыфікацыя“, — а потым другі раз, пасьля 1995 г., калі нам патлумачылі, што ў сьвеце, аказваецца, існуюць толькі дзьве вялікія мовы, што Скарына працаваў у Піцеры, што расейская мова — гэта й нашая мова, адмаўляцца ад якой стаў бы толькі вар’ят, і што беларусы — гэта ўсяго толькі расейцы са знакам якасьці.

У кнізе Алены Маркавай такіх простых, адназначных і прадыктаваных палітычнай кан’юнктурай адказаў вы, на шчасьце, ня знойдзеце — дый у ейную задачу гэта апрыёры не ўваходзіць. Вядома, кніга не была б навукова „ўзважанай“, калі б не наводзіла на думку, што праўда (калі казаць пра праўду не суб’ектыўную, а, так бы мовіць, „сярэднестатыстычную“, а з статыстыкаю аўтарка працуе шмат) і ў гэтым выпадку знаходзіцца недзе пасярэдзіне. Таму вельмі лягічны і ўдалы выбар — шукаць яе менавіта ў 1920-х гг., у гэтым „прамежкавым“ (паводле аўтаркі — цэнтральным і лёсавызначальным) пэрыядзе беларускай гісторыі, які мы ў назове акрэсьлілі як своеасаблівы перакідны масток „між БНР і ГУЛАГам“ і які сама аўтарка, кажучы пра гледзішча тагачасных беларускіх бальшавікоў, апісвае як знаходжаньне між *„Сцылай вялікарускага шавінізму й Харыбдай падрыўнога ўплыву дробнабуржуазнага нацыяналізму“*[2]. Зрэшты, хістаньне між молатам і кавадлам ёсьць ці не адзінай канстантай беларускай гісторыі дый сучаснасьці, магчыма нават, сынонімам беларускасьці як такой.

Аўтарчына выснова наконт беларусізацыі перагукаецца зь першапачатнай фармулёўкай беларускага пытаньня, якое ўжо само ўтрымлівае ў сабе адказ, а праз гэта зусім не здаецца нечаканай (прынамсі, для тых, хто знаёмы зь беларускаю рэчаіснасьцю): *„Калі вызначаць народ праз культуру й мову, то ў гэтым кантэксьце беларусізацыя*

[1] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu. Iluze nebo realita? Praha: Nakladatelství Lidové noviny, 2012. S. 5.

[2] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 36.

*ёсьць правалам. Калі ж вызначаць народ праз дзяржаўнасьць (nation), то можна сьцьвярджаць, што тут фармуецца дзяржаўная нацыя з расейскай мовай у якасьці афіцыйнай“*[3]. Аднак галоўная вартасьць кнігі, паўтаруся, не ў гатовых адказах: на падставе багатага архіўнага матэрыялу (партыйныя дакумэнты, пэрыёдыка, школьныя праграмы, падручнікі й г.д.) тагачаснай БССР і найноўшых крыніцаў Алена Маркава спрабуе патлумачыць перадусім глыбінныя прычыны такога становішча.

З тых прычынаў, што нам (прынамсі, „сьвядомым“ — г.зн. духоўным спадкаемцам беларусізацыі) меней-болей добра вядомыя й здаюцца асноўнымі, аўтарка называе непрацягласьць афіцыйнай палітыкі *„беларусізацыі згары“* (1924—1929 гг.) і ейную *„штучна выкліканую няўдачу“*[4] — зноў-такі, згары — у выніку перамены савецкай нацыянальнай (і не ў апошнюю, калі ня ў першую, чаргу таксама эканамічнай) палітыкі й наступу сталінскага таталітарызму. Кажучы менш сухой і эўфэмістычнай мовай, вядзецца пра варыянт адказу „А“ — „Курапаты“, г.зн. менавіта пра плянаванае вынішчэньне беларускай інтэлігенцыі й сялянства ў 1930-х гг., якое было часткай сталінскай транснацыянальнай праграмы пазбаўленьня ад эксплюататарскіх клясаў і ўмацаваньня савецкай ідэнтычнасьці. Гэтай тэме прысьвечаны апошні, восьмы разьдзел кнігі — „Канец палітыкі беларусізацыі й прычыны яе згортваньня“, які нібыта абрываецца на словах „перасьледаваныя й рэпрэсаваныя“ — далейшае ясна меней-болей усім. Беларусізацыя як працэс нацыятварэньня папросту не атрымала шансаў (то бок партыйнага дазволу) перайсьці з стадыі „B“ (агітацыйнай) у стадыю „C“ — масавага руху (тут аўтарка карыстаецца мадэльлю свайго настаўніка, вядомага беларускім навукоўцам чэскага прафэсара Міраслава Гроха)[5]. Аднак з папярэдніх разьдзелаў выплывае, што гэтая прычына — славесны адум найвышэйшага партыйнага кіраўніцтва — была не адзінай і зьяўляецца толькі часткай праўды пра гістарычны, мякка кажучы, няпосьпех беларусізацыі.

Прычынай з гістарычнага гледзішча больш важкай ёсьць эканамічныя й сацыяльныя перадумовы, якія дасталіся ў спадчыну беларускім дзеячам пасьля больш як стогадовага панаваньня Расейскай імпэрыі. Перадусім, на пачатак беларусізацыі беларускі этнас быў ня-

[3] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu… S. 186.
[4] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu… S. 188.
[5] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu… S.181.

поўны паводле свайго сацыяльнага складу. Паводле перапісу 1897 г. 71% гарадзкога насельніцтва стваралі габрэі й расейцы, у той час як беларусы — ня больш за 17%[6]. Нягледзячы на тое, што сялянства складала пераважную большасьць насельніцтва, яму бракавала сьведамасьці, якую яно магло супрацьпаставіць дамінацыі гораду. *„У выніку неспрыяльнага гістарычнага разьвіцьця, а перадусім папярэдніх русыфікацыйных і палянізацыйных уплываў беларускія сяляне не лічылі сваю мову чымсьці каштоўным, чымсьці, што адрозьнівае іх ад іншых этнасаў або зьяўляецца прадметам нацыянальнага гонару. Але перадусім яны не лічылі беларускую мову мовай, якая можа прыдацца ім у дагэтуль русыфікаваным/палянізаваным вакольным сьвеце сацыяльнага ўзыходжаньня, прэстыжу, камунікацыі з уладамі, сацыяльнай мабільнасьці й г.д. Яшчэ адзін парадокс палягаў у тым, што этнічна беларускія сяляне часам зусім ня ведалі, што іх мовай ёсьць беларуская й што мова, на якой яны звычайна размаўляюць, ня ёсьць нейкай „тутэйшай“, ганебнай, нізкай мовай прыслугі... Вядома, гэтая сытуацыя была выкліканая, так бы мовіць, „нешацункам“ папярэдняга гістарычнага разьвіцьця, калі ў выніку адсутнасьці адукацыі ў матчынай мове, масавай непісьменнасьці, забароны выданьня й распаўсюду беларускага друку, забароны ўжываць беларускую мову ў грамадзкім дыскурсе, невялікай колькасьці нацыянальнай інтэлігенцыі й да т.п. сяляне не маглі ведаць, што іхная тутэйшая гаворка ёсьць у сапраўднасьці беларускай мовай (наагул адной з моваў)“*[7]. Бліскучая зацемка ў дужках. Ажно ня верыцца, што сапраўды вядзецца пра сытуацыю пачатку 1920-х гг. Асабліва складанай была сытуацыя ў раёнах, далучаных да Беларусі ў выніку ўзбуйненьня БССР. Аўтарка прыводзіць цытату зь ліста жыхароў Гомельскага павету: *„Сяляне вельмі незадаволеныя школьнай адукацыяй і навучаньнем па-беларуску, глядзяць на школу з пагардай. Калі пра яе заходзіць гаворка, то яны кажуць: „Хай яе лепш зачыняць, чым такая навука“*[8]. Маўляў, *„дзеці па-беларуску ўжо гавораць, замест гэтага ў школе яны павінны навучыцца „панскай“ ці „гарадзкой“ мове, то бок расейскай“*[9].

Што да пралетарыяту, то тут сытуацыя была яшчэ больш складанай: *„...гарадзкія рабочыя ніяк асабліва не падтрымлівалі беларусіза-*

[6] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 26.
[7] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 63.
[8] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 63.
[9] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 63.

*цыю, нягледзячы на іхнае сацыяльнае й этнічнае паходжаньне (збольшага гэта былі беларусы й габрэі). Часьцяком яны не хацелі „вяртацца“ да сваёй матчынай мовы — ані да ідыш, ані да беларускай... Гэтую сытуацыю можна лепш зразумець, калі зыходзіць з дапушчэньня, што вызначальным фактарам таго, ці прымуць рабочыя слаі нацыянальную тоеснасьць і патрабаваньні нацыянальнага руху, ёсьць час станаўленьня нацыянальнага руху. Калі рабочая кляса ўзьнікала паралельна з разьвіцьцём масавага нацыянальнага руху (тыпова для Чэхіі), рабочыя мусілі прыняць нацыянальную тоеснасьць... Русыфікацыя рабочай клясы ў Беларусі была выкліканая тым, што працэсы індустрыялізацыі тут пачаліся раней за нацыянальную агітацыю ў выглядзе беларусізацыі. Таму фармаваны пралетарыят прыняў перадусім клясавую, а не нацыянальную ідэнтычнасьць“*[10]. Беларусізацыя была ня проста закароткай — яна, да ўсяго, яшчэ й распачалася запозна. Прыкметна, што адным з вогнішчаў найбольш трывалага супраціву беларусізацыі была чыгунка — клясычны сымбаль індустрыялізацыі, цывілізацыі й калянізацыі[11]. Усё гэта стварала перашкоды для замацаваньня беларускай мовы ў гарадах, праз што на працягу ўсяго XX ст. яна асацыявалася перадусім зь „дзярэўняй“ — прычым як у выхадцаў, так і ў саміх насельнікаў гэтай „дзярэўні“: *„Паводле дадзеных унутраных інспэкцыйных матэрыялаў пра ажыцьцяўленьне беларусізацыі ў Камуністычным унівэрсытэце, у 1925/26 гг. студэнты карысталіся ў звычайнай камунікацыі беларускай мовай толькі ў 10% выпадкаў“*[12]. Ажно ў 10! — сказалі б мы сёньня, нягледзячы на ўсе дадзеныя апошняга афіцыйнага перапісу...

Другой прычынай няўдачы было тое, што беларусізацыя праводзілася ў рамках дзяржавы, для якой з прычыны ейнай камуністычнай ідэалёгіі не магла быць мэтай, а толькі сродкам. Той, хто гэтага ня бачыў і пагадзіўся на супрацу з гэтай дзяржавай, быў ёю скарыстаны й ёю ж пазьней ліквідаваны, „сьпісаны з рахункаў“ праз далейшую непатрэбнасьць. Беларусізацыя й так званая „каранізацыя“ (ад слова „карані“) стала важным этапам ці інструмэнтам умацаваньня савецкай улады на беларускай (хай сабе тады яшчэ абмежаванай Усходняю Беларусьсю) тэрыторыі, таму тыя, хто ў ёй удзельнічаў у наіўным спадзеве, што народ ім за гэта аддзячыць, з самага першага дня капалі сабе

[10] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 185.

[11] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 72.

[12] Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu... S. 82.

яму ўласнымі рукамі. Трагедыя нацыянальнай інтэлігенцыі палягала ў тым, што яна была нацыянальнай і ляяльнай — плаўны пераход „з БНР у ГУЛАГ“ адпачатна ўваходзіў у пляны савецкага кіраўніцтва. Іншымі словамі, ня мела й ня мае сэнсу змагацца за культуру без рэальнага змаганьня за ўладу й без уліку актуальнай сацыяльнай і моўнай сытуацыі, аднымі толькі згадкамі пра „слаўную мінуўшчыну“: нельга трапіць з ГУЛАГу адразу ў мітычнае ВКЛ ці там „незалежную рэспубліку Мроя“. Без сумневу, спроба стварэньня беларускай нацыянальнай сьвядомасьці практычна „з нуля“ была шмат у чым гераічнай — перадусім у тым, што ейныя творцы ахвяравалі ёй свае жыцьці. З другога боку, цяжка было не спакусіцца пэрспэктывай „сваёй хаты“, дзеля якой можна было нейкі час заплюшчваць вочы на закратаваныя вокны. З гэтага, здавалася б, мусіць выплываць своеасаблівая навука для сучасных беларускіх дзеячаў: зважайце на вокны, спадары! Змагайцеся супраць кратаў, а ня толькі за страху над галавою! Але ж неяк не выплывае...

У 1980—1990-х гг. беларуская інтэлігенцыя паспрабавала аднавіць беларусізацыю на хвалі агульнаграмадзкіх і палітычных пераўтварэньняў у Савецкім Саюзе, то бок перабудовы — і зноў, паводле няўмольнага гістарычнага закону, апынулася ў стадыі „B“, агітацыйнай, дзе застаецца да сёньняшняга дня. Быў упушчаны шанец правесьці дыхтоўную дэсаветызацыю грамадзтва й кансалідаваць яго (стадыя „C“) на больш агульных дэмакратычных (а не этнакратычных) каштоўнасьцях — замест гэтага акцэнт змаганьня быў перанесены на барацьбу з русыфікацыяй, за ліпавую „незалежнасьць“ у рамках усё яшчэ дзейнай посткамуністычнай сыстэмы, што дазволіла прасавецкім, так бы мовіць, постбеларусізацыйным сілам праз некалькі гадоў узяць параўнальна лёгкі рэванш, падтрыманы, як ні круці, бальшынёю насельніцтва. Праз гэта цяпер фактычным фармаваньнем нацыі на стадыі „C“ займаецца ня хто іншы, як афіцыйная беларуская ўлада, якая стварае яе ў духу ўсё тых жа савецкіх паводле сутнасьці каштоўнасьцяў, дзе нацыянальная мова й культура як такія традыцыйна стаяць на апошнім месцы. З гэтага гледзішча на вокладцы кнігі нездарма красуе партрэт Сталіна: дастаткова, напрыклад, параўнаць ягоную прамову на зьезьдзе кампартыі 1939 г. з стылем і структурай штогадовых дакладаў дзейнага беларускага прэзыдэнта, каб зразумець усю глыбіню духоўнай і ідэйнай пераемнасьці між двума рэжымамі. Дарэчы, сама ілюзія таго, што Лукашэнка аднойчы дасьць загад да павальнай беларусізацыі, выплывае з атаясамленьня двух правадыроў: ня хто ж іншы, як сам Сталін санкцыянаваў беларусізацыю папярэднюю... Ці ня гэтай вечнай і неапраў-

данай надзеяй на дзяржаву тлумачыцца тая лёгкасьць, зь якою былыя культурныя функцыянэры, „народныя й заслужаныя“, перайшлі з шэрагаў апалягетаў савецкай сыстэмы спачатку ў катэгорыю няўгодных новаму рэжыму, а пасьля й яго палымяных апанэнтаў? Адным словам, хацелася б верыць, што шараговы беларускі інтэлігент, так бы мовіць, „культурны працаўнік“, прачытаўшы кнігу (а яна празь нейкі час павінная зьявіцца і ў Беларусі — дачакаймася), задумаецца прынамсі над тым, з кім і дзеля чаго ён супрацоўнічае ў імя беларушчыны, якая бачыцца яму самому як абсалютная каштоўнасьць.

З пажаданьняў да аўтаркі кнігі можна выказаць перадусім надзею, што ейная дасьледніцкая дзейнасьць ня спыніцца на гэтым і будзе дапоўненая вывучэньнем фармаваньня беларускай сьвядомасьці (нацыятворчага дыскурсу) па-за межамі БССР і непасрэднага ўплыву савецкай улады — у Заходняй Беларусі пад „дэмакратычнай“ Польшчай, у іншых тагачасных сумежных краінах, у дыяспары, і не ў апошнюю чаргу пад нямецкай акупацыяй, калі ацалелыя пасьля сталінскіх рэпрэсіяў удзельнікі беларусізацыі паспрабавалі ўзяць рэванш над савецкаю ўладай — чым, мімаходзь кажучы, значна дыскрэдытавалі саму яе ідэю ў вачах савецкага паспалітага люду й праз што ўрэшце апынуліся ў эміграцыі. Аднак ужо цяпер відавочна, што з гледзішча тлумачэньня гістарычных прычынаў фармаваньня ідэнтычнасьці сучаснага беларускага грамадзтва аўтаркаю зробленая грунтоўная й патрэбная праца.

***Макс Шчур***
*Прага*

# БЕЛАРУСКАЕ ПОЛЕ ЭКСПЭРЫМЭНТАЎ

*České vědomí Bělarusi / Чэшскае ўсведамленне Беларусі. Ed. Věra Lendělová, Jiří Marvan, Michal Vašíček. Praha: Karolinum, 2013. — 428 s.*




За шматабяцальнай назвай выданьня хаваецца зборнік працаў чэскіх і беларускіх навукоўцаў (і ня толькі навукоўцаў), скампанаваны й выдадзены клопатам славістаў з праскага Карлава ўнівэрсытэту пры ўдзеле іхных калегаў з Усьці-на-Лабе, Менску й Берасьця. То бок унівэрсытэту, дзе беларусістыка як самастойны напрамак не выкладаецца (хаця ўжо некалькі гадоў ёсьць магчымасьць запісацца на факультатыў па беларускай мове), але па-ранейшаму вывучаецца ў межах славістыкі. Зрэшты, і само выданьне зьявілася акурат напярэдадні XV Міжнароднага зьезду славістаў, які кагадзе адбыўся ў Менску і ў рамках якога 24 жніўня адбылася прэзэнтацыя кнігі (у праграме зьезду — пад назвай „Чэшскае ўспрыманне Беларусі“).

Няма дзіва, што добрую (і лепшую) палову кнігі складаюць працы па мовазнаўстве (агулам блізу 190 с.), з асаблівай увагай да вывучэньня беларускіх (збольшага палескіх) дыялектаў і мікрамоваў, пера-

дусім — заходнепалескай, ці падляскай (І. Каліта, Ф. Клімчук, Я. Максімюк), на якой напісаны ў тым ліку шэраг артыкулаў.

Значна меней уражвае ўсё тое, што да вузкаспэцыяльнай тэматыкі мікрамовазнаўства не належыць: разьдзелы „Літаратура, культура й грамадзтва“ (76 с.), „Скарыніяна“ (58 с.), „Асобы“ (56 с.), „Паведамленьні й водгукі“ (22 с.). Вялікую частку гэтых разьдзелаў складаюць своеасаблівыя інфармацыйныя даведкі пра беларуска-чэскія ўзаеміны ў мінуўшчыне й сучаснасьці, якія збольшага пакліканыя пацьвердзіць сам факт існаваньня такіх узаемінаў. Беларускі чытач (а пагатоў адмысловец) наўрад ці даведаецца зь іх нешта новае, скажам, пра беларускіх дзеячаў у Празе, затое можа бліжэй пазнаёміцца з постацямі чэскіх дасьледнікаў беларускай мовы й культуры зь нядаўняй мінуўшчыны — В. Жыдліцкага, М. Затаўканюка, Л. Кубы, — а таксама ўведае, што ў польскім канцлягеры ў Бярозе-Картускай цягам трох месяцаў сядзеў адзін чэх. Апрача гэтага факту да дробных навуковых адкрыцьцяў рэдактараў кнігі належаць імёны „*Іван* Дварчанін“[1] і „Віктар *Валтар*“[2], але гэта, упоравень з многімі абдрукоўкамі ў беларускамоўных тэкстах, насамрэч дробязі.

Некаторыя артыкулы, як, напрыклад, „Берасьцейшчына — плённая глеба для засваеньня традыцый М. Багдановіча“ Н. Борсук, наогул трапілі ў зборнік нібы выпадкова, так бы мовіць, дзеля аб'ёму (па-мойму, вывучэньнем глебы павінная займацца зусім іншая навука). Гэтаксама й зробленае А. Мікалаенкай амаль журналісцкае дасьледаваньне фондаў Гарадзенскай абласной бібліятэкі на прадмет наяўнасьці там беларускіх перакладаў чэскіх аўтараў мае да навукі дачыненьне такое ж плыткае, як і самі згаданыя фонды. Іншымі словамі, літаратуразнаўства й гісторыя, якія ня могуць ня быць часткамі „ўсьведамленьня“ ці „ўспрыманьня“ Беларусі, прадстаўленыя ў кнізе надзвычай слаба — пры тым, што ў Празе (праўда, у іншых ВНУ ці на іншых факультэтах) працуе цэлы шэраг маладых беларускіх гісторыкаў. Пра паліталёгію наогул сьціпла прамаўчу, бо прычыны яе красамоўнай адсутнасьці сярод тэмаў кнігі, на маю думку, менавіта палітычныя (хаця не бракуе артыкулу пра сучасны ледзьве ня росквіт беларуска-чэскіх эканамічных адносінаў).

Казаць пра нейкую канцэптуальнасьць, усёабдымнасьць ці прынамсі шматплянавасьць адлюстраваньня (а пагатоў пра нейкую глы-

[1] České vědomí Bělarusi / Чэшскае ўсведамленне Беларусі. Ed. Věra Lendělová, Jiří Marvan, Michal Vašíček. Praha: Karolinum, 2013. S. 355.

[2] České vědomí Bělarusi… S. 362.

бейшую рэфлексію) „чэскага ўспрыманьня Беларусі“ ў гэтым эклектычным зборніку, насуперак яго назьве, не даводзіцца. Але ёсьць у кнізе адзін пасаж аўтарства знакамітага чэскага славіста й ініцыятара выданьня Іржы Марвана, які мімаходзь меней-болей раскрывае назву й „звышідэю“ зборніку: *„Насамрэч у беларускай сітуацыі можам канстатаваць факт моўнай дэвастацыі (якая нагадвае Халакост аўстралійскага мацерыка, за які мясцовыя ўлады ўжо паспелі папрасіць прабачэння ў карэнных народаў); але для лінгвіста гэта ўнікальная тэма — лабараторыя, якая забяспечвае прастору для знаходак не толькі фактычных і метадалагічных, але і тэарэтычных“*[3]. Менавіта так: Беларусь цікавіць чэскіх навукоўцаў (але й энтузіястаў) пераважна ня як гістарычна, культурна ці моўна блізкая краіна (як памылкова лічаць некаторыя беларусы), а як экзатычны куток, дзе адбываюцца ўсякія моўныя й палітычныя „дзівосы“, назіраць за якімі ў мікраскоп для аматара інтэлектуальнага адрэналіну — чыстая асалода, штосьці накшталт падарожжа ў часе ці вандроўкі ў паралельны сусьвет, якія заканчваюцца абавязковым уздыхам: *„Všude dobře, doma nejlíp!“*; у вольным перакладзе: *„Дзякуй табе, Божа, што мы не беларусы!“* То бок не аўстралійскія абарыгены. Для эўрапейца настолькі ж цяжка з гэтым не пагадзіцца, як для беларуса — атаясаміцца.

[3] České vědomí Bělarusi … S. 384.

***Макс Шчур***
*Прага*

# У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ ІДЭНТЫЧНАСЬЦІ

*Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus. Saarbrüken: Lambert Academic Publishing, 2013. — 190 p.*




Што ўтварае падмурак сучаснай беларускай эканамічнай мадэлі, наколькі яна трывалая, якія магчымасьці яе далейшых пераўтварэньняў? Выпускніца праскай Найвышэйшай эканамічнай школы (*Vysoká Škola Ekonomická*) Вольга Дудко ў сваёй кнізе спрабуе даць адказ на гэтыя й многія іншыя складаныя пытаньні.

Кніга разьлічаная перадусім на заходняга (ці папросту замежнага) чытача, для якога будзе ня проста вельмі цікавай, як для мяне, а яшчэ й вельмі карыснай дзякуючы сваёй інфармацыйнай насычанасьці. У першай частцы кнігі аўтарка разглядае фэномэн „пераходнай эканомікі“, ад тэарэтычных падмуркаў гэтага тэрміну да яго практычных увасабленьняў у постсацыялістычных і постсавецкіх краінах. Хаця чытачу-неспэцыялісту гэтая частка можа здацца найбольш абстрактнай, без аналізу сутнасьці савецкай эканамічнай мадэлі нельга зразумець усіх аспэктаў спробы яе рэанімацыі ў Беларусі, якая разглядаецца ў другой частцы

кнігі. Тут праводзіцца ўсебаковы аналіз сучаснай эканамічнай сытуацыі, у тым ліку з гледзішча яе „разьвіцьця“ ад пачатку 1990-х да 2010 г. з асаблівай увагай да асобных этапаў (пачатак прыватызацыі, згортваньне прыватызацыі, крызіс 1998 г., пэрыяд „стабільнасьці“ да 2008 г., вымушаныя спробы непасьлядоўных і „касмэтычных“ рэформаў, новы паварот задам да Эўропы пасьля 2010 г.), а таксама да асобных эканамічных сфэраў (прамысловасьць, сельская гаспадарка, гандаль, энэргетыка, манэтарная й фіскальная палітыка дзяржавы).

На падставе разгледжанага ў кнізе фактаграфічнага матэрыялу (ілюстраванага дыяграмамі, табліцамі й графікамі, безь якіх у навуковай публікацыі не абысьціся) можна зрабіць выснову пра шматлікія пераемнасьці між абедзьвюма эканамічнымі сыстэмамі, савецкай і беларускай. Яны ня проста кідаюцца ў вочы, а яшчэ й выстаўляюцца беларускім кіраўніцтвам напаказ, ці то ў якасьці палітычных лёзунгаўмэтаў, ці то ў якасьці сваіх заслугаў перад народам (захаваньне „стабільнасьці“, сацыяльнай палітыкі й г. д.) Пры гэтым дзяржаўная палітыка вядзецца без уліку відавочных недахопаў, якія ў свой час прывялі савецкую эканоміку да краху: адміністратыўна-камандная сыстэма, нізкая матывацыя да працы, нізкі ўзровень навукова-тэхнічных інавацый і г.д. Беларуская эканоміка, кіраваная падобным спосабам як савецкая, без глыбокіх і сыстэмных рынкавых пераўтварэньняў можа, паводле аўтаркі, *„праіснаваць яшчэ які дзясятак гадоў“*[1], дый тое хіба дзякуючы вонкавай падтрымцы, то бок замежным крэдытам. Гістарычны каляпс савецкай сыстэмы праз яе няздольнасьць канкураваць з заходнімі капіталістычнымі дзяржавамі ў тэмпах вытворчасьці, а як вынік — і ва ўзроўні жыцьця, выглядае з аўтарчыных пазыцыяў як ясны доказ таго, што й падобна арганізаваная беларуская мадэль у доўгатэрміновай пэрспэктыве нежыцьцяздольная. Аднак варта адзначыць, што ёсьць між дзьвюма сыстэмамі й значныя адрозьненьні: па-першае, беларуская дзяржава ня мае якойсьці „ўнівэрсальнай“ ідэалёгіі, якая б змушала яе канкураваць з Захадам „любой цаной“ (дый наогул зважаць на яго); па-другое, узровень жыцьця ў былых краінах „другога сьвету“ застаецца ў параўнаньні з „трэцім сьветам“ усё яшчэ даволі высокім; ну й па-трэцяе, беларуская мадэль, магчыма, і не разьлічаная на доўгатэрміновае, пагатоў самастойнае існаваньне. Здаецца, што яе „звышідэяй“ ёсьць будучая інкарпарацыя ў якую-небудзь больш жыцьцяздольную

[1] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus. Saarbrüken: Lambert Academic Publishing, 2013. P. 172 (тут і далей пераклад мой. — **М. Шч.**).

эканоміку, напрыклад, расейскую (зрэшты, тое самае зь меншым ці большым посьпехам адбылося ў выпадку „пераходных эканомік“ іншых постсацыялістычных краінаў Эўропы, якія з часам „арганічна ўпісаліся“ ў геапалітычна бліжэйшы да іх Эўразьвяз). Можна, вядома, крытыкаваць нестабільнасьць ці непрадказальнасьць беларускай эканомікі (перадусім з гледзішча патэнцыйных заходніх інвэстараў), як гэта й робіць аўтарка, але казаць пра яе непазьбежны каляпс усё-ткі яшчэ ранавата.

Найбольш цікавай (перадусім для мяне як гуманітарыя) зьяўляецца сфармуляваная Вольгай Дудко на пачатку кнігі гіпотэза наконт узаемаабумоўленасьці пасьпяховых эканамічных рэформаў і нацыянальнай самасьвядомасьці насельніцтва краіны: *„Выйсьце з эканамічных цяжкасьцяў Беларусі варта шукаць не ў эканамічнай сфэры, а ў сфэры новага палітычнага ўпарадкаваньня й адраджэньня нацыянальнай культуры, якая прынясе каштоўнасьці, неабходныя для пабудовы новай інстытуцыйнай базы й вызначэньня кірунку разьвіцьця краіны“*[2]. На жаль, гэтая гіпотэза ў кнізе не да канца раскрытая й пацьверджаная, застаючыся (нават паводле прызнаньня самой аўтаркі) хутчэй схаваным пажаданьнем, калі ня марай. На карысьць рацыі гэтага меркаваньня прыводзіцца прыклад суседніх зь Беларусьсю краінаў: *„Постсацыялістычная трансфармацыя ў такіх краінах, як Польшча, Чэская рэспубліка ці балтыйскія дзяржавы адбылася ня толькі ў межах эканамічнай сыстэмы, але суправаджалася й глыбокімі рэформамі ў самім грамадзтве. Пераходны пэрыяд ва ўсіх постсавецкіх краінах характарызаваўся вяртаньнем да нацыянальных каранёў, адраджэньнем культуры й апэляваньнем да традыцыйных каштоўнасьцяў. Супольная нацыянальная культура ёсьць чымсьці, што дапамагае людзям зьядноцца перад балючымі зьменамі й эканамічнымі цяжкасьцямі“*[3]. Менавіта слабасьць нацыянальнай сьвядомасьці й глыбейшая, чым у суседзяў, саветызацыя беларусаў ёсьць, паводле Вольгі Дудко, адным з фактараў, якія не спрыялі правядзеньню рынкавых рэформаў у Беларусі[4]. Мне асабіста, аднак, не да канца ясна, што дзеля чаго: ці эканамічныя рэформы патрэбныя дзеля пасьпяховага будаваньня нацыянальнай сьвядомасьці, ці, наадварот, ужо наяўная нацыянальная сьвядомасьць патрэбная дзеля меншай „балючасьці“ як быццам непазьбежных і „самамэтных“ эканамічных рэформаў (у якасьці гэткай

[2] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 7.

[3] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 174.

[4] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 179.

анэстэзіі, ці, па-марксісцку кажучы, „опіюму для народу“)? У адрозьненьне ад аўтаркі, я схіляюся да першага варыянту адказу, чым, уласна, хачу сказаць, што не да канца згаджаюся зь ейнай гіпотэзай, прынамсі ў дачыненьні да Беларусі. На маю думку, каб зразумець *эканамічныя* прычыны нізкай нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, варта было б больш усебакова (то бок ня толькі з эканамічнага гледзішча) апісаць фэномэн іхнай саветызацыі. Гэта, вядома, у задачы кнігі не ўваходзіла — і тым ня менш у ёй імпліцытна ўтрыманы адказ на пытаньне, што азначала саветызацыя для грамадзтва ў цэлым.

На старонках 88—89 зьмешчаная дыяграма, якая апісвае сучасную *„эканамічна-палітычную ідэнтычнасьць Беларусі“*: *„1) дзяржаўны кантроль за сродкамі вытворчасьці, 2) панаваньне традыцыйнай эканамічнай структуры (успадкаванай з савецкіх часоў), 3) захаваньне традыцыйных гандлёвых стасункаў з постсавецкімі краінамі (Расеяй), 4) малое разьвіцьцё прыватнага сэктару“*[5]. Калі з гледзішча прыхільніка рынкавых рэформаў усе гэтыя рысы зьяўляюцца адмоўнымі ці прынамсі неадназначнымі, то з „савецкага“ гледзішча яны выглядаюць як „плюсы“. Недаразьвітасьць прыватнага сэктару — гэта перадусім абмежаваньне ролі сярэдняй клясы, якая традыцыйна характарызуецца тым, што сама вызначае ўласныя каштоўнасьці й таму менш схільная да ідэйнай залежнасьці ад дзяржавы[6]. Ёю, як адзначае аўтарка, сапраўды цяжэй кіраваць; наадварот, з часоў Француcкай рэвалюцыі яна сама імкнецца да гегемоніі ў дзяржаве, у тым ліку змушае дзяржаву гаварыць сваёй мовай, прыдумляе ўсякія лёзунгі кшталту *no taxation without representation* і г.д. Таму з гледзішча аўтарытарна кіраванай дзяржавы малалікая сярэдняя кляса — натуральна, толькі плюс. (Як, мімаходзь заўважым, і захаваньне традыцыйных гандлёвых стасункаў у сытуацыі, калі эканоміка краіны яўна неканкурэнтаздольная ў параўнаньні з заходнімі краінамі). Як бачым, дзяржава зацікаўленая ў такім становішчы ня столькі эканамічна, колькі перадусім *палітычна*. Гэтак жа ёй палітычна выгадная й арыентацыя на буйную прамысловасьць, што ў сацыяльным сэнсе азначае захаваньне пралетарыяту ў якасьці найбуйнейшай грамадзкай клясы, на якой тэарэтычна грунтуецца як „улада саветаў“ ці там „дыктатура пралетарыяту“, так і сучасная беларуская палітычная сыстэма: *„Празьмерная колькасьць працоўнай*

[5] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus… P. 88.

[6] Гл. напрыклад: Gaspar Miklos Tamás. The Double Myth of the Middle Class (Zagreb lecture). Відэазапіс даступны на www.youtube.com.

*сілы існуе ў дзяржаўных і прыватызаваных кампаніях, а таксама ў малых і сярэдніх фірмах... Беларускі ўрад ніколі асабліва не падтрымліваў прыватнага сэктару. Перавага заўжды аддавалася буйным індустрыяльным прадпрыемствам, якія лічыліся асноўнымі чыньнікамі эканамічнага росту“*[7].

Вядома ж, дыму без агню не бывае: пралетарызацыя беларускага сялянскага насельніцтва бярэ пачатак яшчэ ў другой палове XIX ст.; за савецкімі часамі цягам сталінскай індустрыялізацыі й калектывізацыі ейныя тэмпы значна паскорыліся. Урэшце, гегемоніі ў краіне пралетарыят дасягнуў на пачатку 1970-х гг., за часамі кіраўніцтва Машэрава, калі гарадзкое насельніцтва Беларусі ўпершыню пераважыла насельніцтва вясковае. Натуральна, што без існаваньня буйных прамысловых прадпрыемстваў, арыентаваных на ўсесаюзны экспарт (*„Беларусь — зборачны цэх СССР“*) гэта было б немагчыма. Пры гэтым яшчэ Маркс пісаў, што пралетарыі „ня маюць радзімы“: як мы ўжо адзначылі ў разглядзе кнігі Алены Маркавай пра савецкую беларусізацыю, менавіта рабочыя найбольш актыўна супрацiўляліся беларусізацыі ў 1920-х гг. Вядома, калі б індустрыялізацыя грамадзтва адбывалася паралельна з будаваньнем нацыянальнай дзяржавы (выпадак Польшчы, Чэхіі, балтыйскіх краінаў), беларуская рабочая кляса мела б іншую, а не савецка-інтэрнацыянальна-ўсерасейскую сьвядомасьць. Тым ня менш, так не адбылося, таму нараканьні на нізкую нацыянальную сьвядомасьць беларусаў, перадусім з боку адраджэнцаў 1980—1990-х гг., заўжды здаваліся мне крыху наіўнымі, як і параўнаньні сучаснай Беларусі з вышэйзгаданымі постсацыялістычнымі краінамі Эўропы: у іх нават у найгоршыя часы „нармалізацыі“ камуністычныя рабочыя партыі былі, шмат у чым наперакор уласнай ідэалёгіі, адначасова й выразнікамі нацыянальных інтарэсаў — тым часам як у Беларусі такога не існавала з часоў згортваньня беларусізацыі.

Можа здацца, што дзяржаўны кантроль за сродкамі вытворчасьці ажыцьцяўляецца як быццам *у інтарэсах* (прынамсі, паводле афіцыйнай ідэалёгіі) дэнацыяналізаванага беларускага пралетарыяту. Пытаньне, аднак, у тым, якімі сапраўды ёсьць гэтыя „інтарэсы“. Адзначу, што я далёкі ад Марксавага разуменьня пралетарыяту як „прагрэсіўнай“ ці „рэвалюцыйнай“ клясы — зусім наадварот. На сёньняшні дзень пралетарыят — гэта самая пасіўная, некультурная й апалітычная частка беларускага грамадзтва, якую выпадае называць не рабочай, а ўжо

[7] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 129—131.

проста рабскай, і якая ня мае папраўдзе ніякіх клясавых інтарэсаў, ня кажучы пра якуюсьці клясавую (а пагатоў нацыянальную!) сьвядомасьць. Гэта й ёсьць прычынай таго, што адной з асноўных характарыстык беларускай мадэлі „сацыяльна арыентаванай эканомікі“ зьяўляецца *штучнае захаваньне колькаснай гегемоніі рабочай клясы як асноўнага апірышча дзейнай улады* за кошт 1) дзяржаўнай падтрымкі прамысловасьці, у тым ліку стратнай; 2) далейшай пралетарызацыі некалі беларускай вёскі, у духу сталінскай калектывізацыі — калгасы, саўгасы, аграгарадкі; 3) такога ж штучнага стрымліваньня росту сярэдняй клясы (прыватны сэктар, „вашывыя блохі“); 4) захаваньня „бясьпечнай дыстанцыі“ паміж рабочымі й інтэлігенцыяй, каб мінімізаваць ідэйны ўплыў апошняй (маргіналізацыя палітычнай апазыцыі).

Вядома, можна сказаць, што ўсё гэта існавала й за савецкім часам, і сьпісаць гэтыя заганы на ўтапічнасьць любой сацыялістычнай мадэлі. Аднак існуе й іншы погляд на савецкую сыстэму, паводле якога тая была ня чым іншым, як *дзяржаўным капіталізмам* — менавіта ў выпадку Беларусі гэты тэрмін, на маю думку, найбольш раскрывае сваё значэньне. У кнізе Вольгі Дудко можна знайсьці важкія довады на карысьць такой інтэрпрэтацыі беларускай „эканамічнай ідэнтычнасьці“: гэтак, у адрозьненьне ад балтыйскіх краінаў, на пачатку 1990-х гг. *„дырэктары буйных прадпрыемстваў здолелі абараніць свае інтарэсы і ўплываць на палітыку цяпер ужо незалежнай Беларусі, бо большыня зь іх уваходзіла ва ўрад і ў заканадаўчыя органы“*[8]. Іншымі словамі, эканамічная палітыка Беларусі кіравалася перадусім *клясавымі* інтарэсамі буйных постсавецкіх прамыслоўцаў, якія з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі ўтварылі вакол яго свайго кшталту алігархічную касту: *„Увесь буйны бізнэс у Беларусі характарызуецца значнай дзяржаўнай падтрымкай. Ён кіруецца пераважна блізкімі да дзяржаўнай улады людзьмі ці сваякамі наменклатурных кіраўнікоў. Людзі, занятыя ў буйным бізнэсе, пераважна зацікаўленыя ў захаваньні статус-кво“*[9].

Сёньняшняя Беларусь, на маю думку, мае хутчэй рысы буйной капіталістычнай фірмы-манапаліста (а ніводны манапаліст добраахвотна ня пусьціць на свой рынак канкурэнтаў), чым нацыянальнай дзяржавы ў звычайным сэнсе слова: яе „працаўнікі“ ня маюць на рашэньні кіраўніцтва абсалютна ніякага ўплыву, тым часам як у дзяржаве такі ўплыў *гарантуецца* (хай сабе часта толькі на паперы) шэрагам мэха-

[8] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 61.

[9] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 124.

нізмаў (нават у Савецкім Саюзе іхную ролю адыгрывалі спачатку саветы, пасьля — парткамы, прафкамы й іншыя арганізацыі). У Беларусі няма нават *бачнасьці* такой „зваротнай сувязі“ (калі не лічыць „усенародных сходак“ беларускай эліты). Да сёньняшняга дня не існуе нават сапраўднай, то бок структурнай партыі ўлады, якая стварыла б ілюзію кантролю нізоў за вярхамі й прынамсі тэарэтычна паставіла б уладу на адзін палітычны ўзровень зь ейнымі апанэнтамі. Таму казаць пра тое, што ўлада мала дбае пра ўласную легітымнасьць[10], нават не выпадае — навошта аднаасобнаму ўласьніку даказваць свае правы перад наёмнымі работнікамі? Дзяржаўная ідэалёгія ў Беларусі выконвае ролю не аб'яднаўчай „нацыянальнай ідэі“, а разьлічанага перадусім на блізкае (цяпер ужо й далёкае „антыкапіталістычнае“) замежжа рэклямнага брэнду. У гэтым (не)разуменьні дзяржавы як дырэктарату трэба шукаць крыніцу зьдзіўленага абурэньня кіраўніка Беларусі на адрас заходніх палітыкаў: хіба ў вас *у прынцыпе* (то бок з такімі „дробнымі“ й эканамічна неістотнымі адрозьненьнямі, як дэмакратычныя выбары, свабода слова, партыйная сыстэма, незалежныя прафсаюзы, правы чалавека й г.д.) не адбываецца тое самае?

Адваротным бокам так званага беларускага „сацыяльнага кантракту“ ёсьць абаронча-рэпрэсіўны мэханізм кантрактнай сыстэмы, які ставіць працаўніка ў поўную залежнасьць ад дзяржавы-працадаўцы (калі яму нешта не даспадобы, ён можа самае большае „звольніцца“). Тым часам алігархічны „мэнэджмэнт“ кампаніі на чале з Лукашэнкам займаецца тым, што гуляе ў „пасьпяховую“ прыватную карпарацыю (што ўрэшце зразумелі і ў Эўропе, забараніўшы ўезд у Эўразьвяз шэрагу буйных беларускіх бізнэсоўцаў), то бок „круціцца“ на замежных эканамічных і ідэалягічных рынках у пошуках магчымых партнэраў і інвэстыцый у свой праект. Такая гульня, адзначым, больш бясьпечная за звычайны клясычны бізнэс, бо ў выпадку эканамічнай няўдачы дазваляе заўжды сьпісаць яе на зьнешнія, збольшага палітычныя прычыны (злая Расея, дыктат ЗША, крызіс, падтрымліваная Захадам апазыцыя, „падман“ Эўразьвязу й г.д.) — хаця насамрэч безь несупыннага *палітычнага* гандлю існаваньне такой сыстэмы было б немагчымым: *„Магчымасьць браць пазыкі — адзіная рэч, што ўтрымлівае беларускую эканоміку ад каляпсу й дапамагае А. Лукашэнку заставацца ва ўладзе“*[11]. Тым часам практычна неабмежаваны інструмэнтар палітыч-

[10] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus… P. 173.

[11] Словы Д. Зайца, цытаваныя аўтаркай: Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus… P. 172.

ных захадаў дазваляе (да часу) змушаць насельніцтва краіны падпарадкоўвацца правілам і патрэбам гэтай гульні. Менавіта гэтай кіроўнай клясе патрэбная штучна завышаная маса пасіўнага беларускага пралетарыяту. Як піша Вольга Дудко: *„Беларускі прэзыдэнт інстынктыўна разумее, што людзьмі, якія ведаюць і клапоцяцца пра мінуўшчыну сваёй краіны, гавораць на сваёй мове й ведаюць гісторыю ды традыцыі сваёй краіны, больш складана кіраваць*“[12]. Але ж пытаньне: хто гэтыя людзі? Інтэлігенцыя? Не, інтэлігенцыяй, ужо праз ейную малую долю ў складзе насельніцтва й практычна бясконцую здольнасьць да кампрамісаў, кіраваць зусім не складана, дастаткова разгалінаванага рэпрэсіўнага апарату. Гаворка насамрэч тут вядзецца пра ідэальную сярэднюю клясу (калі заўгодна, буржуазію), якая хаця й расьце (дагэтуль яе ў гісторыі Беларусі ў прынцыпе не было), але да гегемоніі ў краіне ёй яшчэ далёка.

З другога боку, варта зацеміць, што калі эканамічныя пераўтварэньні ў Беларусі з 20-гадовым ці 30-гадовым спазьненьнем усё-ткі адбудуцца, гэта ня будзе аўтаматычна азначаць „адраджэньня нацыянальнай культуры“ ў выніку ўсталяваньня гегемоніі сярэдняй клясы прыватных уласьнікаў. Праблема тут у тым, што сярэдняя кляса ў Беларусі памалу фармуецца на базе пераважна гарадзкога, а не вясковага ці местачковага насельніцтва, а тое паводле свайго нацыянальнага складу й каштоўнасьцяў цягам апошніх стагодзьдзяў не было пераважна беларускім. У гэтым сэнсе беларусам таксама асабліва няма куды вяртацца ў мінуўшчыну, каб забясьпечыць сабе сьветлую будучыню, гэтак жа як няма куды вяртацца ў сэнсе „аднаўленьня“ дэмакратычных традыцыяў: за ўсё XX ст. беларусы ўдзельнічалі ў дэмакратычных выбарах усяго некалькі разоў — у польскі сойм і сэнат у 1920—1930-х гг. і ў прэзыдэнцкіх 1994 г. Прыкметна, што асобныя прадстаўнікі нацыянальна сьведамай інтэлігенцыі гэта ўсё адчуваюць, таму, пакідаючы права „беларусамі звацца“ пераважнай масе пралетарызаванага насельніцтва, імкнуцца адрадзіць нацыянальную сьвядомасьць на базе сьвядомасьці вясковай — вось толькі ўжо не сялянскай, а шляхецкай („ліцьвінскай“, „сармацкай“ ці якой заўгодна). У сапраўднасьці, аднак, вядзецца пра спробу штучнага ўваскрашэньня „вяскова-местачковай сярэдняй клясы“ (раз ужо няма фэрмэраў і буйных земляўласьнікаў), якая стаяла за посьпехам нацыянальных адраджэньняў у Эўропе XIX ст., калі эканамічная вага вёскі ў грамадзтве была зусім іншай. Сёньня ж адраджэнцам-інтэлігентам даводзіцца хаўрусавацца або зь

[12] Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus... P. 173.

яшчэ кволай сярэдняй клясай, або з усё тым жа пралетарыятам — пры гэтым паразумецца з апошнім для інтэлігентаў (прычым як правых, так і левых) па-ранейшаму складана.

Такім чынам, можна канстатаваць, што палітычны посьпех беларускага кіраўніка Аляксандра Лукашэнкі (як і той парадаксальны факт, што беларуская эканамічная мадэль, пры ўсіх сваіх недахопах, усё яшчэ дзейнічае) пабудаваны як на ягоным разуменьні інтарэсаў беларускіх прамыслоўцаў, так і на ўменьні выкарыстоўваць палітычную неакрэсьленасьць („несьвядомасьць“) беларускай працоўнай клясы з мэтай ідэалягічнай маніпуляцыі. (Хто ў Эўропе быў ягоным найбольш здатным папярэднікам на гэтай ніве, здагадацца няцяжка.) Менавіта гэта адрозьнівае Лукашэнку ад мноства колішніх і сучасных апазыцыйных палітыкаў, якія бачаць у беларускім народзе толькі наўмысна „русыфікаваную“ й „саветызаваную“ масу, якая дагэтуль сьпіць і сьніць выключна пра нацыянальнае адраджэньне й рынкавыя рэформы (якія ў пэўным сэнсе — перадусім у сэнсе прыхватызацыі беларускай дзяржавы алігархічнай кастай з маўклівай згоды бальшыні насельніцтва — ужо адбыліся). Такое бачаньне, магчыма, паходзіць з ідэалаў часоў дысыдэнцтва й перабудовы, калі некаторым інтэлектуалам (у тым ліку расейскім) хацелася бачыць у беларусах „іншых, заходніх рускіх“, як той казаў, „са знакам якасьці“ — уласнай нярускай мовай, уласнай нярускай гісторыяй, уласнымі „заходнімі“, „эўрапейскімі“ (то бок не „азіяцкімі“) традыцыямі, якія яны спрабавалі ў гэтым народзе задняю датаю абудзіць. Аднак зрабіць з сапраўдных беларусаў тых ідэальных Бела-Русаў ня выйшла — затое цяпер, наадварот, існуе даволі вялікая верагоднасьць, што „сапраўдных беларусаў“ (зь іхным „знакам якасьці“, то бок пасіўнасьцю, атамізаванасьцю й „талерантнасьцю“) хутка зробяць з расейцаў... У такім няшчасным выпадку беларуская эканамічная мадэль саюзна-дзяржаўнага капіталізму можа выжыць ня тое што дзесяцігодзьдзе, а перажыць і самога яе архітэктара. Ужо толькі з гэтай прычыны сапраўды варта дамагацца абуджэньня палітычнай і дэмакратычнай (а ня толькі нацыянальнай) сьвядомасьці беларусаў (і не ў апошнюю чаргу расейцаў) і намагацца спрыяць эканамічным і палітычным рэформам у краіне, не ідэалізуючы пры гэтым вынікі падобных рэформаў у суседніх краінах Эўропы (а пагатоў у Расеі) і будучы гатовымі да іхнага творчага дастасаваньня да беларускай сытуацыі з улікам ранейшага досьведу. Крытычны аналіз сучаснай эканамічнай сытуацыі, зроблены Вольгай Дудко, ёсьць несумненна карысным унёскам у гэтую будучую справу.

***Ціхан Чарнякевіч***
*Менск*

# ЛІСТ ДА ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА[1]

*Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя ідэй і людзей на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012. — 660 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 20)*




Добры дзень, пане Лявон!

Нарэшце прачытаў Вашую кнігу й маю колькі думак, што ўзьніклі пры чытаньні.

У Вас вельмі класна ўсё атрымалася, многа сьвежай фактуры, няхай яна й раскіданая па лістах у даволі хаатычным выглядзе (але ў эпісталярыі па-іншаму, відаць, немагчыма?). Вось гэтую фактуру эксплікаваць і згрупаваць трэба. З пункту гледжаньня тэарэтычна-мэтадалягічнага ў мяне пытаньні, канечне, ёсьць. Але ў той жа час эпісталярная тэма ў навуковай тэорыі (балазе беларускай) дагэтуль вельмі слаба аналізуецца, толькі хіба ў рэцэптыўнай эстэтыцы (якая, зрэшты, сёньня ў Беларусі таксама выглядае нечым экзатычным (буржуазным?)). А вось Вы даяце пласт літаратурных фактаў, якія пасьля, магчыма, кімсьці будуць

[1] Тэкст быў апублікаваны на: http://bookster.by/reviews/list-da-lyavona-yurevicha.

пераасэнсоўвацца ў рэчышчы рэцэптыўнай эстэтыкі, у нейкіх абагульняльных працах. Таму, я лічу, кніга, безумоўна, вартая.

Адразу прабачаюся, будуць пісаць як умею. А наконт ацэначных суджэньняў, тут ужо богведама як атрымаецца, ці надта для аўтара прыемна, ці ня вельмі... Не хвалю, ня ганю, пішу, што ў галаву стукне, „рамантую прымус“. Папросту ў нас тут пануе кісялёўска-скалабанаўская школа, калі прапаноўваецца фактура, з апісаньнем пытаньняў гісторыі тэксту, усялякімі падрабязнымі тэксталягічнымі штукамі („*закрэсьлена чырвоным атрамантам, надпісана алоўкам над радком*“) і рэальнымі камэнтарамі. А ў Вас крыху іншы падыход, сынтэтычны. Вы імкняцеся яшчэ разабрацца ў пытаньнях асабістага характару, матывах. Гэта хутчэй для культурна-гістарычнай школы XIX ст. характэрна. Карацей, каб зразумець усё як мае быць, трэба яшчэ ў дадатак пэрсанальна пра Вас манаграфію напісаць і дысэртацыю абараніць: усе кнігі Вашыя аналізаваць, выбудоўваць герархіі, прыводзіць у „шчыльныя рады“, маляваць схемы etc.

Штука ў тым, што беларуская літаратурная навука не прайшла фазы культурна-гістарычнай школы. Эмпірычны матэрыял, які мусіць быць падставовым для стварэньня гісторыі літаратуры XX ст., ня ўводзіўся ва ўжытак на працягу ўсяго гэтага самага стагодзьдзя. Усе ўспаміны дагэтуль не апублікаваныя ў бесцэнзурным арыгінальным выглядзе, з навуковым апаратам. Ні чорта не вывучаецца. Тут сур’ёзныя рэчы. Ніякіх кепікаў.

Спачатку падумаў, што ўсе гэтыя артыкулы ўжо бачыў і чытаў у „Запісах БІНІМ“, аднак не. Папросту імёны, як кажуць, на слыху, а тэксты былі апублікаваныя ня толькі там, але і ў „АРХЭ“. Праўда, не магу даўмецца, ці аб’яўляўся раней у друку артыкул (ці кніга, як тут сказаць, бо 230 старонак жа займае?) пра Кастуся Акулу і ягоныя эпісталярныя „рэляцыі“. Можа, адкажаце мне на гэтае пытаньне?

Тэксты збольшага ўсе паводле структуры аднолькавыя. Зрэшты, Ваш чытач ужо напэўна ведае, як будзе выглядаць артыкул, бо Вы яго да гэтага рыхтуеце ня першы год. На пачатку — прадмова, загружаная спасылкамі, заўвагамі, гістарычнымі экскурсамі, часам настолькі адхіленымі „ўбок“, што ледзь пасьпяваеш выраўнаць амплітуду, калі аўтар нарэшце вяртаецца да асноўнага прадмету гаворкі. Пасьля прадмовы — самыя дакумэнты, з камэнтарамі, заўвагамі, тымі ж экскурсамі ў спэцыяльныя тэмы. Цікава глядзяцца ў камэнтарах заместа ўласных суб’ектыўных тэзаў новыя дакумэнты, якія перагукваюцца з асноўнымі тэкстамі публікацыі. Яно й лягічна: матэрыялу ў Вас там, у „Вялікім яб-

лыку“, — проста мора (неапублікаванага і цяжкадаступнага для нас, „папіццотнікаў“), і грэх было б ім не карыстацца.

Для мяне, канечне, галоўная вартасьць кнігі ў тым, што выбітныя эмігранты ў асноўнай масе — былыя ўдзельнікі культурнага руху 1920-х і пра гады сваёй маладосьці актыўна ўспамінаюць у лістах зь вельмі каштоўнымі падрабязнасьцямі. Зрэшты, рэтраспэкцыя, відаць, была галоўным іх мэтадам. Нават сучаснасьць праціналася для іх рэтраспэкцыяй: той жа Юрка Віцьбіч, ствараючы літаб’яднаньне „Шыпшына“, па сутнасьці, капіяваў устаноўкі „Ўзвышша“, хоць і па-свойму іх інтэрпрэтуючы. Вось гэтае адчайнае чапляньне за тое, што засталося ў мінулым, якраз шмат каго зь іх і характарызуе. А можа, толькі Віцьбіча й Адамовіча? Бо яны сапраўды выглядалі як тыя мухі ў бурштыне — горда застылыя фрагмэнты мінулага, адзіныя па ім спэцыялісты,ісьціны ў апошняй інстанцыі. Зрэшты, гэта ня толькі да літаратуры адносіцца. Усе выбрыкі й скажэньні савецкай гістарыяграфіі эмігранты ўспрымалі ў штыкі і альбо публічна абмяркоўвалі ў якой газэце „Бацькаўшчына“, альбо непублічна, у лістах. З прычыны „цяжкой спадчыны“ савецкай эпохі меркаваньням іхным хочацца давяраць на ўсе 100%, хаця часам гэтага якраз і ня варта рабіць. Тады даводзіцца разьбірацца, дзе й каму можна верыць, а гэта, зноў жа, можна адсачыць па тых асаблівасьцях стваральнікаў эпісталы — бо дзе, як не ў лісьце, праяўляецца ўвесь суб’ектыўны партрэт скрыптара?

Можа, недзе гэтая суб’ектыўнасьць цікавейшая за самую багатую фактуру. Хто ж ня любіць падглядваць, зазіраць праз плячо альбо ў шчыліну замка? Бог ведае, можа, і варта было сякія-такія шчыліны замазаць растворам, але, зноў жа, ува мне гаворыць суб’ектыўнае: *„хозяин — барин“*, што палічылі ў кнігу патрэбным уключыць, тое і ўключылі, безь ніякіх скаротаў.

Прыкольна было пабачыць сярод камэнтатараў акулаўскага архіву й Антона Рудака, які, па адчуваньні, усіх жаўнераў 30-й грэнадэрскай дывізіі СС ведаў у твар. Што да паказальніка ўсіх імёнаў і біяграфічнага даведніка агульным аб’ёмам ці не на 80 старонак (пякельная праца!), то я ня ведаю, Натальлі Гардзіенцы трэба было б помнік пры жыцьці паставіць за гэта зь двума мэдалямі імя Францішка Багушэвіча ў прыдачу.

Карацей, кніжка добрая й працы туды ўкладзена да халеры. Ня ведаю, як там чытачы, ці зноў пакладуць болт на эта дзела, а можа, і раскупяць — хрэн іх разьбярэш, што ім трэба.

З тым разьвітаюся й жадаю Вам усяго найлепшага…

# *Кніжная паліца*

***Ганна Кісьліцына***
*Менск*

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА ЯК ВАНДРОЎКА[1]

*Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 528 с.*




Новая кніга архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча, прысьвечаная беларускай літаратуры на эміграцыі, безумоўна, выклікае эмоцыяў значна больш, чым звычайна кнігі па гісторыі й тэорыі літаратуры.

Больш за тое, ня будзе перабольшаньнем сказаць, што Юрэвіч — гэта наогул адзін зь нямногіх сучасных беларускамоўных літаратуразнаўцаў, чые тэксты чытаеш з той зацікаўленасьцю, зь якой часьцей падыходзіш да мастацкай літаратуры. Гэта ні ў якай меры не зьмяншае ўласна навукова-тэарэтычную вартасьць кнігі, бо ўзровень, на якім дасьледнік распрацоўвае гісторыю такіх жанраў, як гістарычна-міталягічная проза, мэмуарыстыка, травэлёг, пераклад, эпісталярыюм, нэкралёг як пасьмяротны ўспамін, фэльетон, біяграфія, ня можа ня ўразіць.

Уражвае сур'ёзным грунтоўным падыходам да вывучэньня матэрыялу, тым больш што гаворка ідзе выключна пра *terra incognita*

---

[1] Тэкст рэцэнзіі быў апублікаваны ў: Acta Albaruthenica. Т. 13. Warszawa, 2013. S. 372—375.

беларусістыкі: матэрыялы, на якіх Лявон Юрэвіч будуе свае дасьледаваньні, часьцяком ня толькі не вывучаліся раней, але іншым разам нават не былі апісаныя ці хоць нейкім чынам зарэгістраваныя ў беларускім літаратуразнаўстве. Ці былі ідэнтыфікаваныя з такімі памылкамі, якія наогул маглі б быць прыведзеныя ў якасьці спэцыфічнага навуковага анэкдоту (так, напрыклад, нарыс „На Сьвятой Зямлі“ Ўладзімера Сядуры быў ахарактарызаваны адным славутым дасьледнікам як аповед пра падарожжа Эўфрасіньні Полацкай у Палестыну ў XII ст.).

Вярнуць бляск жанрам, якія цяпер успрымаюцца як маргінальныя, і разам з тым удыхнуць — праз зварот да твораў гэтых жанраў — жыцьцё ў гістарычныя постаці, якія іншым разам вядомыя нашчадкам толькі па папяровых старонках дзёньнікаў, чужых далёкіх успамінах, лістах і пажаўцелых фатаздымках, — задача ў пэўнай меры ўтапічная, але ўхвальная ўжо ў сілу сваёй высакароднасьці. І, варта адзначыць, аўтару ўдаецца ня зьбіцца на патас, ня ўдарыцца ў сэнтымэнтальнасьць, не пайсьці па шляху дадумваньня й дапісваньня даволі хаатычных дакумэнтаў і сьведчаньняў, а заставацца на рацыянальным шляху навукоўца. У той час як калегі на радзіме робяць першыя, даволі няўпэўненыя крокі да вывучэньня некаторых маладасьледаваных жанраў, Лявон Юрэвіч разьбіраецца ў такіх тонкасьцях праблемы, як каноны біяграфіі беларускіх дзеячаў („Мікрагісторыя й макрагісторыя біяграфіі“). Але што цікава: калі дасьледнік з ЗША дэманструе добрае знаёмства з працамі сваіх беларускіх калег, якія працуюць у гэтай жа галіне літаратуразнаўства (іх імёны ёсьць і ў агляднай літаратуры, і пэрыядычна цытуюцца ў навуковых тэкстах), то, да сораму трэба прызнацца, імя самога Лявона Юрэвіча, па сутнасьці, адсутнічае ў беларускіх літаратуразнаўчых тэкстах, акрамя хіба тых, малалікіх, прысьвечаных гісторыі эміграцыі. Між тым, апошняя кніга сьведчыць пра тое, што аўтар ня толькі выдатны архівіст, гісторык, але й мае выключныя аналітычныя здольнасьці, якія былі напоўніцу рэалізаваныя ў тэкстах, прысьвечаных жанрам літаратуры.

Кніга „Жанры“, якая займае пяцьсот дваццаць восем старонак, уяўляе сабой зборнік навуковых тэкстаў, аб’яднаных адной скразной тэмай. Калі б яе аўтар жыў на Беларусі, то хутчэй за ўсё выдаў бы некалькі асобных манаграфій, матэрыялу ў кнізе мінімум на чатыры кнігі звыклага для сёньняшняй беларускай гуманітарыстыкі аб’ёму. Сярод іх былі б даведачныя матэрыялы (напрыклад, „Слоўнік псэўданімаў і крыптанімаў эміграцыйных дзеячаў“ і „Літаратуразнаўства, крытыка на старонках газэт „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ і інш.), тэксты, прысьвеча-

ныя літаратурным жанрам („Моваю травэлёга“, „Танальнасьць біяграфіі як энцыкляпэдычнага жанру“, „Мікрагісторыя й макрагісторыя біяграфіі“ ды інш.), і кніга, дзе асьвятлялася б дзейнасьць выбітных постацяў беларускай культуры на эміграцыі („Літаратурны жаўнер Юрка Віцьбіч“, „Жыцьцяпіс Сяргея Малевіча ў ліставаньні эмігрантаў“, „Вітаўт Тумаш як біёграф сучасьнікаў“, „Чалавек, які трымаў у руках месяц“ і інш.), і выданьне, прысьвечанае гумару й сатыры („Гумарыстычна-сатырычныя творы на старонках „Бацькаўшчыны“ й „Беларуса“, „Аўтапартрэт у стылі *grotesque*: Сатырычныя друкі й творы паваеннай эміграцыі ў Канадзе“ ды інш.).

Відавочна, беларускія дасьледнікі апошнім часам прызвычаіліся пры адносна невялікім працаўкладаньні абвяшчаць пра максымальную колькасьць навуковых івэнтаў... Аднак дастаткова зірнуць на плён двух апошніх гадоў Лявона Юрэвіча, каб зразумець, як насамрэч ідуць справы: „Жанры“, выдадзеныя ў 2013 г., налічваюць, як ужо заўважалася, каля пяцісот старонак дробным шрыфтам, пры тым, што папярэдняя яго кніга „Шматгалосы эпісталярыюм: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставаньні“, якая выйшла ўсяго толькі ў мінулым годзе, мае больш за шэсцьсот старонак тэксту! Можна было б патлумачыць такую пладавітасьць вялікай колькасьцю цытаваных архіўных матэрыялаў і фатаздымкаў. Аднак відавочна, што нават улічваючы гэтую асаблівасьць прац Юрэвіча, аб’ём і глыбіня аналізаванага матэрыялу ўсё роўна пераўзыходзяць хоць і дастаткова ўмоўныя, але ўяўленьні пра тое, колькі можа зрабіць навуковец, апантаны любімай тэмай.

Адной зь вялікіх перавагаў, якія маюць навуковыя тэксты гэтага архівіста й дасьледніка, можна назваць нетаропкасьць у падачы матэрыялу, калі аўтар, як добры сьледчы, не ўпускае ніводнай дэталі, якая б магла паўплываць на разуменьне той ці іншай літаратурнай зьявы або факту. Асабліва пераканаўча дзякуючы такой дэтальнай прапрацоўцы выглядае артыкул „Што хавае „Табакерка“. У ім ня толькі зводзяцца ўсе больш-менш вядомыя меркаваньні айчынных і замежных (тых, што жылі на эміграцыі) навукоўцаў пра жанр і зьмест гэтага загадкавага твору Зьмітрака Бядулі, але й робіцца даволі нечаканая выснова пра яго генэзіс і філязофскі мэсыдж. Сыстэма аргумэнтаў, прадстаўленых Лявонам Юрэвічам, вымушае пагадзіцца зь яго дастаткова незвычайнай — калі не сказаць, парадаксальнай! — высновай пра тое, што ў „Срэбранай табакерцы“ агучваюцца эвангельскія ісьціны.

*„Гэта цвердзіць хрысціянства: смерць ёсць апошняе пераканаўчае сведчанне любові. Неўміручасць — пакаранне, што спазнаў на*

*сабе Агасфер, Вечны Жыд, адмовіўшы Ісусу ў спагадзе. Вось у гэтым я бачу нутраны супраціў Бядулі ў СТ: не ў стварэнні алегорый на сталінскія рэпрэсіі, якія б імгненна вылічылі рэцэнзенты-цэнзары ды знішчылі — рукапіс казкі ці жыццё аўтара, а ў сцверджанні евангельскай ісціны: баяцца Бога, а не злога, ды не ісці супраць свайго сумлення. „І не бойцеся тых, што забіваюць цела, але ж душы забіць не могуць; а бойцеся болей Таго, Хто можа і душу, і цела загубіць у геене“ (Мацв., 10, 28). Мо і невялікая знаходка ў табакерцы, але ж добрую табаку трэба браць ашчадна — на адзін нюх“*[2], — падагульняе Лявон Юрэвіч — і ў пэўнай ступені дэманструе ня толькі сваё разуменьне бядулеўскага твору, але й сваё навуковае *credo*.

Дасьледнік аддае перавагу не выбудове абстрактных прыгожых канцэпцый, а ўважліваму пакрокаваму пасьлядоўнаму чытаньню тэксту, дэтальная прапрацоўка якога кладзецца ў падмурак тэарэтычных заўвагаў. Гэты прынцып, дарэчы, таксама моцна вылучае яго на тле беларускіх навукоўцаў, якія апошнім часам імкнуцца „нацягнуць“ чужую прыгожую тэорыю на свой мясцовы матэрыял, ня моцна пераймаючыся тым, што іншаземная „апранаха“ часам трашчыць па швах.

Аднак ці ня самай заўважнай асаблівасцю кнігі „Жанры“ ёсьць яе гуманізм — зьява даволі рэдкая для сёньняшняй гуманітарыстыкі. Узьнікае пачуцьцё, што праца з архівамі — матэрыяльнымі сьведчаньнямі пра людзей, якіх у большасьці ўжо няма на сьвеце, — прымусіла Лявона Юрэвіча адчуць нейкую пэрсанальную адказнасьць як носьбіта й захавальніка інфармацыі пра іх. Таму, нават пішучы пра такую „сухую костку“ літаратуры, як жанр, дасьледнік застаецца апавядальнікам, які спрабуе данесьці да патэнцыйнага чытача акалічнасьці біяграфіі тых ці іншых асобаў, вызначыць ключавыя моманты іх жыцьця, падкрэсьліць трагізм тых ці іншых абставінаў. Гэта выглядала б неверагодным, калі б гаворка ішла пра нейкія іншыя жанры, але, нагадаем, у кнізе разглядаюцца якраз тыя, што даюць падставу для такога біяцэнтрычнага разгляду: мэмуарыстыка, травэлёг, эпісталярыюм, нэкралёг, фэльетон, біяграфія й інш.

У гэтым пляне варта адзначыць матэрыял пра этнаграфічную кнігу Станфарда Нэйла Гэрбэра („*Russkoe celo*, альбо Падарожжа амэрыканца ў мінулым стагодзьдзі да загадкавых людзей, пераказанае на нашу мову ларнікам вучоным у стагодзьдзі цяперашнім“). Цікава, што, пачынаючы тэкст цалкам у духу й традыцыі навуковых прац — з разгляду

[2] Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2013. С. 404.

думак калегі-папярэдніка й закідаў-заўваг да самога Гэрбэра, — Лявон Юрэвіч паступова пераходзіць на мову, больш прыдатную для мастацкай літаратуры. Сама манэра аповеду неяк няўлоўна нагадвае пушкінскую „Гісторыю сяла Гарухіна“, прычым сам загадкавы Гэрбэр здаецца ледзь не прыдуманым „Белкіным“. І каб не спасылка на Вітаўта Кіпеля, можна было б запытаць сябе: ці не містыфікацыя гэта? Аднак, відавочна, справа не ў жаданьні дасьледніка стварыць інтрыгу, а ў міталягічным характары разгляданага ім матэрыялу. Кніга Гэрбэра ўражвае Юрэвіча ня толькі этнаграфічнымі зьвесткамі пра беларусаў (якія пасяліліся камунай у ЗША ад 1911 г.), але й міжвольна засьведчаным маральна-этычным парадоксам: у канцы кнігі *„Russkoe celo“* яе аўтар апісвае канфлікт паміж першымі пасяленцамі-беларусамі й беларусамі-DP (*Displaced Persons*), якія трапілі на амэрыканскую зямлю пры канцы 1940-х гг.

Тут Юрэвіч выступае ня столькі як дасьледнік-архівіст і публікатар, колькі як публіцыст, які выкарыстоўвае гэрбэраўскую *„этнаграфію руска-амэрыканскай супольнасьці“*, каб зьвярнуць увагу сучасьнікаў на некаторыя аспэкты жыцьця, характэрныя ня толькі для беларусаў-эмігрантаў. Прапісваючы больш падрабязна, чым іншыя акалічнасьці, канфлікт паміж „старымі“ й „новымі“ беларусамі, аўтар завастрае тэму: *„На жаль, Гербер на гэтым сюжэт скончвае, а праз колькі старонак — і ўсю кнігу. У пошуках таямнічага і нязнанага ён прамінуў сапраўды істотнае: як эмігранты з Беларусі пачатку стагоддзя абжываліся сярод чужых ім народаў і як не прынялі сваіх землякоў — паваенную эміграцыю. Або: як чужыя зрабіліся сваімі, і як свае сталіся чужымі“*[3].

Несумненна, кніга Лявона Юрэвіча „Жанры“ моцна вылучаецца сярод сёньняшняй гістарычна-літаратурнай навуковай прадукцыі. Акрамя ўжо названых якасьцяў — антрапацэнтрычнасьці, увагі да мікрадэталяў — варта назваць і павагу да чужой думкі (што, праўда, не выключае й крытычнага да яе стаўленьня). Аўтар актыўна карыстаецца сучаснымі навуковымі ведамі, што даволі марудна трапляюць у тэксты беларускіх дасьледнікаў-гуманітарыяў, для якіх характэрная пэўная інэртнасьць, на жаль, ня толькі ў дачыненьні да матэрыялаў пра эмігрантаў.

Напэўна, некаму гэта можа здацца сьмешным і ня вартым асобнай адзнакі, але ўсё ж хочацца згадаць і такі момант: аўтар — ці ня першы

[3] Юрэвіч, Лявон. Жанры... С. 67.

навуковец, які цытуе тэксты знакамітай Юліі Крысьцевай па-ангельску. Здавалася б, дробязь, але дробязь, якая паказвае трохі іншы ўзровень падачы матэрыялу, чым прызвычаіліся на Беларусі.

Кніга „Жанры“ — унікальная магчымасьць параўнаць ня толькі тое, як па-рознаму складваюцца лёсы беларусаў на эміграцыі й на радзіме, але й шыкоўны спосаб адчуць, наколькі адрозьніваецца літаратуразнаўчая навука ў замежжы і ў Беларусі.

**_Вітаўт Кіпель_**
**_Натальля Гардзіенка_**
**_Яна Славіна_**

# КНІЖНЫ АГЛЯД

*Цягам апошніх гадоў эміграцыязнаўчыя публікацыі становяцца ўсё больш разнастайнымі. Зьяўляюцца новыя сюжэты, „адкрываюцца“ новыя краіны беларускай прысутнасьці, пашыраюцца біяграфічныя дасьледаваньні. Усё больш актыўна вяртаецца ў нацыянальны дыскурс багатая спадчына дзеячаў беларускага замежжа.*

*Сёлетні кніжны агляд сьведчыць пра тое, што ў папулярызацыю й дасьледаваньне гісторыі й сучаснасьці беларускага замежжа сёньня ўключаныя і мэтрапольныя навукоўцы-энтузіясты, і дзеячы-эмігранты, і прадстаўнікі афіцыйных беларускіх установаў. Дадае аптымізму і тое, што ў 2012 г. была абароненая цікавая і важная кандыдацкая дысэртацыя Андрэя Бучы „Беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі (1921—1938 гг.)“. Хочацца спадзявацца, што яе тэкст будзе апублікаваны ў выглядзе асобнай кнігі, і мы зьвернемся да яе зьместу ў адным з наступных аглядаў.*

*Увесь свет Мацея Канапацкага / Уступныя артыкулы, выбар і рэдакцыя тэкстаў Л. Глагоўскай. Беласток: Ніва, 2011. — 279 с.*

Беларускаму грамадзтву Нью-Ёрку, тым, што наведвалі месячныя зборкі-навуковыя чытаньні Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў гадох 1960-х, было вядомае прозьвішча й дзейнасьць Гасана Канапацкага — выбітнага беларускага вайсковага дзеяча першай чвэрці XX ст, аб якім досыць часта ўспамінаў у сваіх дакладах калішні калега-супрацоўнік Гасана генэрал Франц Кушаль.

Беларусістам замежжа, якія бывалі ў Менску ад пачатку 1990-х гг., быў таксама добра знаёмы як салідны дасьледнік, прафэсар навучальных установаў сталіцы, беларусавед Ібрагім Канапацкі. Пэўна ж быў ён выдатна знаёмы й шырокаму колу мянчанаў і „пазамянчанаў“ як аддадзены беларускі патрыёт.




А вось пра Мацея Канапацкага, беларусазнаўцу таго самага роду, што й вышэйназваныя Канапацкія з татарскіх каранёў, дык у далёкім замежжы было ведама мала, вельмі мала, толькі з прачытаных часам ягоных артыкулаў у беластоцкай „Ніве“.

Дык цяпер гэты прабел запоўнены. Дзякуючы доўгагадовай працы знанае беларускае дасьледніцы, гісторыка-літаратуразнаўцы Алены Глагоўскай, зьявілася кніга-зборнік інтэлектуальна-журналістычнае спадчыны Мацея Канапацкага. У аснове кнігі — збор артыкулаў з газэты „Ніва“, у якой Мацей Канапацкі супрацоўнічаў ад 1956 г. Аднак побач з чыста журналістычнымі зацемкамі-нарысамі ўлучана ў зборнік ці мала й артыкулаў акадэмічна-дасьледнага профілю, што маюць значэньне ў вывучэньні культурна-гістарычных працэсаў разьвіцьця нацыі. Неабходна таксама падкрэсьліць, што ў некаторых дзялянках беларусазнаўства, як, прыкладам, аналіз газэты „Наша Ніва“, купаліяна-коласаведа, вывучэньне дзейнасьці мастака Аляксандра Ахола-Вала й іншых постацяў беларускага культурнага разьвіцьця, гісторык-журналіст Мацей Канапацкі ёсьць сапраўдным піянэрам тэмаў, якія ў БССР альбо замоўчваліся, альбо вывучаліся „на свой капыл“.

Бясспрэчна, кніга — выдатны ўклад у беларусазнаўства, добрая крыніца матэрыялаў па вывучэньні Беласточчыны й культурных працэсаў краіны ды ўвод у дасьледаваньне беларускае дзейнасьці роду Канапацкіх.

*Вітаўт Кіпель*

*Сакович, Васіль. Белорусы в этнокультурном пространстве Молдовы. Минск—Кишинев, 2011. — 844 с. — (Наклад 500 ас.)*

Сучасныя беларускія дыяспары на постсавецкай прасторы мала калі становяцца аб’ектам адмысловага навуковага вывучэньня. Беларусы Малдовы, нягледзячы на адносную сваю малаколькаснасьць, складаюць станоўчае выключэньне. Ад пачатку XXI ст. гэтай маладой дыяспары надаецца істотная ўвага дасьледнікаў, праводзяцца навуковыя




канфэрэнцыі, выдаюцца зборнікі й манаграфіі. Магчыма, не ў апошнюю чаргу гэта зьвязана зь дзейнасьцю на пасадзе амбасадара Беларусі ў Малдове ў 1999—2009 гг. прафэсара Васіля Саковіча. Выдадзеная ў 2011 г., ягоная кніга — своеасаблівае падсумаваньне дзесяцігадовай працы, прычым ня толькі дыпляматычнай, але й навуковай.

Больш як васямсотстаронкавы фаліянт „Беларусы ў этнакультурнай прасторы Малдовы“ заснаваны ня толькі на афіцыйных дакумэнтах і матэрыялах канфэрэнцыяў, але й на архіўных дакумэнтах ды, што надзвычай рэдка ў айчынным эміграцыязнаўстве, на выніках палявых дасьледаваньняў. Грунтоўнасьць і маштабнасьць працы аўтара сапраўды ўражвае. Манаграфія напісаная з апорай на сур’ёзныя тэарэтычныя распрацоўкі ня толькі айчынных, але й заходніх спэцыялістаў.

Дзевяць разьдзелаў кнігі разьмеркаваныя па дзьвюх вялікіх частках. Першая мае назву „Беларусы Малдовы: гістарычныя этапы этнакультурнага ўзаемадзеяньня“. Тут аўтар пасьлядоўна разглядае найважнейшыя мэтадалягічныя, тэарэтычныя й практычныя аспэкты вывучэньня беларускіх дыяспараў наогул і ў Малдове ў прыватнасьці. Так, першы разьдзел „Беларуская дыяспара ў Малдове“ пачынаецца з пасьлядоўнай сыстэматызацыі інфармацыі адносна вызначэньня паняцьця „дыяспара“ й крытэраў яе вылучэньня. Пры гэтым аналізуюцца розныя наяўныя падыходы. Што праўда, аўтар не выводзіць адрозьненьня паняцьцяў „дыяспара“ й „замежжа“, і першае трактуецца даволі шырока, уключаючы ў сябе ня толькі арганізаваную прысутнасьць нацыянальнай групы ў пэўнай краіне, але й этнічную супольнасьць наогул. Далей аўтар пасьлядоўна спыняецца на разглядзе гісторыі фармаваньня сусьветнай беларускай дыяспары, разглядае разьвіцьцё беларуска-малдаўскіх дачыненьняў у розныя часы (ад XIV ст. да пачатку XXI ст.) і выводзіць адметнасьці дынамікі фармаваньня й сучасных тэндэнцыяў беларускай грамады ў Малдове.

Васіль Саковіч прыводзіць зьвесткі пра беларускую прысутнасьць у краіне ў розныя пэрыяды й сьведчыць, што найбольш імклівая яна

павялічвалася ў 1950-х—1980-х гг.: калі ў 1959 г. у выніку актыўных перасяленчых працэсаў паваеннага часу ў Малдове жыло каля 9 тыс. беларусаў, дык у 1989 г. іх было ўжо каля 20 тыс. чалавек. Аднак за апошняе дваццацігодзьдзе колькасьць суайчыньнікаў тут зьменшылася да 12-14 тыс.[1] Гэта зьвязана як з эканамічнымі праблемамі краіны, так і зь іншымі: ідэалягічнымі, культурнымі й г.д. Так, у якасьці асноўных сучасных тэндэнцыяў разьвіцьця мясцовай дыяспары аўтар вызначае скарачэньне яе колькасьці, а таксама асыміляцыйныя працэсы, асабліва ў другім і трэцім пакаленьні эмігрантаў. Пры гэтым на апошнія істотна ўплывае ня толькі ўнутраная палітыка Малдовы, але й стаўленьне Рэспублікі Беларусь да сваіх замежных суайчыньнікаў.

У працягу першага разьдзелу Васіль Саковіч асобна спыняецца на дзейнасьці беларускіх грамадаў і этнакультурных аб'яднаньняў у Малдове, падаючы дакладныя зьвесткі пра структуру, колькасны склад, формы дзейнасьці суполак. Трэба адзначыць, што пры значным уплыве беларускай амбасады беларуская дыяспара ў краіне ўяўляе сабой своеасаблівую іерархічную структуру з найвышэйшым калегіяльным органам беларускіх грамадаў — Каардынацыйнай радай кіраўнікоў беларускіх грамадаў Рэспублікі Малдова. У склад апошняй уваходзяць прадстаўнікі Таварыства беларускай культуры ў Ціраспалі, Беларуская грамада ў Малдове (Кішынёў), Таварыства беларускай культуры г. Бендэры, Бэлцьская беларуская грамада, Грыгарыёпальскае таварыства беларускай культуры, Рыбніцкае таварыства беларускай культуры, Беларуская грамада аўтаномна-тэрытарыяльнага ўтварэньня Гагаузія (г. Комрат), Асацыяцыя беларусаў муніцыпія Кішынёў — „Беларусь". У найбуйнейшых беларускіх таварыствах у Ціраспалі й Бендэрах у 2011 г. налічвалася адпаведна па 671 і 593 сябры, у найменшым — у Грыгарыёпалі — каля 35 чалавек[2]. Беларуская дыяспара ў Малдове ёсьць, бадай, адной з найлепш арганізаваных, структураваных і кансалідаваных, паводле высноваў Васіля Саковіча.

Аўтар падае ў кнізе інфармацыю са статутных дакумэнтаў беларускіх арганізацыяў, дзе фармулююцца іх мэты й задачы, асобна разглядае асаблівасьці дзейнасьці па захаваньні беларускіх традыцыяў, зьвяртаецца да канкрэтных значных падзеяў у жыцьці дыяспары,

[1] Сакович, Васіль. Белорусы в этнокультурном пространстве Молдовы. Минск—Кишинев, 2011. С. 96—97.

[2] Сакович, Васіль. Белорусы в этнокультурном пространстве Молдовы... С. 114—117.

прыкладам, Першага кангрэсу беларусаў Малдовы й Міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі „Беларусы ў Малдове“. Асаблівасьці дзейнасьці аўтара ў якасьці амбасадара перадумовілі й акрэсьленьне ў кнізе асноўных палажэньняў дзяржаўнай сыстэмы супрацоўніцтва Беларусі з суайчыньнікамі ў паўднёвай краіне.

Найбольшую цікавасьць уяўляюць другі, трэці й чацьверты разьдзелы кнігі, пабудаваныя на матэрыялах палявых дасьледаваньняў. Аўтарам з дапамогай калегі-гісторыка было праведзенае апытаньне ўдзельнікаў беларускай дыяспары ў Малдове, вынікі якога сыстэматызаваныя ў трох кірунках: „Міжкультурнае ўзаемадзеяньне й працэс адаптацыі беларусаў Малдовы“, „Асноўныя індыкатары этнічнай ідэнтычнасьці ў беларусаў Малдовы“ й „Акультурацыя як складовая частка працэсу адаптацыі“. Унікальнае для айчыннага эміграцыязнаўства дасьледаваньне дазволіла вызначыць сутнасныя характарыстыкі беларускай грамады як этнакультурнай супольнасьці.

Сярод цікавых высноваў, зробленых аўтарам на падставе зьвестак з інтэрвію, варта спыніцца на адным з ключавых аспэктаў шмат якіх постсавецкіх дыяспараў, які ілюструецца на прыкладзе беларусаў Малдовы. Тут, і гэта не выключны выпадак, беларусы ўваходзяць у склад „рускамоўнай меншасьці“ і пачуваюцца тым горш, чым больш актыўныя працэсы нацыянальнага адраджэньня ідуць у краіне іх сталага жыцьця. Стаўленьне да беларускай мовы ў беларусаў Малдовы тыповае для людзей з саветызаванай сьвядомасьцю (пра настальгію па Савецкім Саюзе тут Васіль Саковіч таксама згадвае) — яны бачаць мову своеасаблівым этнічным сымбалем, а ня сродкам камунікацыі. Народжаныя ў Малдове нашчадкі беларусаў не валодаць мовай, але й сярод эмігрантаў першага пакаленьня карыстаецца ёй нязначная колькасьць. Беларуская мова не ўспрымаецца й важнай аб’яднаўчай прыкметай этнічнай супольнасьці, ня ёсьць для беларусаў Малдовы неад’емнай часткай этнічнай ідэнтычнасьці. Васіль Саковіч рэзюмуе: *„Такім чынам, можна казаць пра даволі слабую выяўленасьць моўнага кампанэнту ў структуры этнічнай самасьвядомасьці беларусаў Малдовы, паколькі, як відаць з адказаў, рэспандэнты рэдка вызначаюць моўную прыкмету як аб’яднаўчы фактар. Больш за тое, для большасьці зь іх родная мова не выступае ў якасьці этнадыфэрэнцыявальнай прыкметы. Неактуалізаваная моўна прыкмета ў этнічнай самасьвядомасьці беларусаў Малдовы й даволі слаба выяўленая тэндэнцыя да карыстаньня ў галіне нацыянальнай духоўнай культуры ёсьць, відаць, вынікам страты функцыянальнай значнасьці роднай мовы. У*

*пакаленьня беларусаў, народжаных у Малдове, адначасова са стратай мовы даволі актыўна ідзе працэс асыміляцыі“*[3].

У кнізе закранаецца шмат важных аспэктаў, а таксама розныя варыянты ідэнтычнасьці беларусаў Малдовы акрамя этнічнай: рэлігійная, рэгіянальная, лякальная, грамадзянская. Аўтар зьвяртае ўвагу на вобраз „Радзімы“ ў сьвядомасьці суайчыньнікаў, іх разуменьне нацыянальнага характару й самаідэнтыфікацыю, этнічныя стэрэатыпы, стаўленьне да народных традыцыяў. Адмыслова разглядаюцца асаблівасьці стаўленьня да малдаўскай мовы й мясцовай культуры, спэцыфіка працэсаў акультурацыі ўдзельнікаў беларускай грамады, асабліва моладзі. Асобны разьдзел прысьвечаны адлюстраваньню этнічнай ідэнтычнасьці й працэсу адаптацыі ў паэзіі беларусаў Малдовы.

Другая вялікая частка працы Васіля Саковіча мае назву „Ўнёсак беларусаў у разьвіцьцё й абарону Малдовы. Сучасныя тэндэнцыі супрацоўніцтва“. Тут пасьлядоўна прадстаўленыя найперш біяграфічныя нарысы выхадцаў зь беларускіх земляў, што ўплывалі на тыя ці іншыя сфэры малдаўскага жыцьця. Так, асобна згрупаваныя тыя, хто меў уплыў у сацыяльна-эканамічнай галіне й дзяржаўным кіраваньні, асобна тыя, хто зрабіў унёсак у адукацыю й навуку, далей — у культуру й спорт. Асаблівае месца адведзенае таксама паэтам беларускай грамады Малдовы. Каля 40 старонак кнігі займаюць зьвесткі пра беларусаў, што ўдзельнічалі ў вызваленьні краіны, мелі званьне Героя Савецкага Саюзу або загінулі пры абароне рэспублікі.

Апошні разьдзел кнігі, адпаведна часу й адметнасьцям працы аўтара ў якасьці амбасадара, мае назву „Беларусь—Малдова: супрацоўніцтва на сучасным этапе“. Тут гаворыцца пра разнастайныя варыянты беларуска-малдаўскага супрацоўніцтва, ягоныя дасягненьні ў розных галінах.

Зробленае Васілём Саковічам дасьледаваньне дазваляе зрабіць важныя высновы адносна гісторыі й сучаснасьці беларускай дыяспары ў Малдове. Так, аўтар вылучае чатыры этапы разьвіцьця гэтай дыяспары: да сярэдзіны XX ст., калі выхадцы зь беларускіх земляў не стваралі значнай супольнасьці й хутка ўліваліся ў малдаўскую, расейскую ці польскую этнічныя групы; ад сярэдзіны XX ст. да распаду СССР, калі павялічвалася колькасьць перасяленцаў і пераважалі працэсы адаптацыі да новых умоваў; ад пачатку 1990-х да 2005 г., калі ішоў актыўны

[3] Сакович, Васіль. Белорусы в этнокультурном пространстве Молдовы... С. 299—300.

працэс рээміграцыі паралельна са стварэньнем этнічных арганізацыяў беларусаў і кансалідацыяй супольнасьці; ад 2005 г. да сучаснасьці, калі назіраецца аслабленьне кансалідацыі ўнутры беларускай грамады, зьмяншэньне рээміграцыі, але й узмацненьне асыміляцыйных працэсаў.

Варта зазначыць, што зроблены ў кнізе грунтоўны аналіз працэсаў адаптацыі й асыміляцыі ў беларускай грамадзе Малдовы на сёньня ня мае аналягаў у айчынным эміграцыязнаўстве. Ягоныя вынікі патрабуюць сур'ёзнага асэнсаваньня, але ўжо сёньня відавочна, што яны могуць выкарыстоўвацца і ў дасьледаваньні іншых постсавецкіх дыяспараў, таксама як і мэтадалягічныя прынцыпы працы.

Кніга „Беларусы ў этнакультурнай прасторы Малдовы“ ёсьць добрым прыкладам сумяшчэньня плённай дзейнасьці на дзяржаўнай пасадзе (а менавіта ў часе амбасадарства Васіля Саковіча дыпляматычная ўстанова істотна паўплывала на працэс арганізацыйнага афармленьня структураў беларускай дыяспары ў Малдове) з сур'ёзным навуковым дасьледаваньнем. Хочацца спадзявацца, што пад уплывам гэтага выданьня будуць зьяўляцца новыя аналітычныя працы, прысьвечаныя іншым беларускім дыяспарам.

*Натальля Гардзіенка*

*Survilla, Joanna. À huit ans, j'ai fait la guerre. New York—Ottawa—Toronto: Legas, 2011. — 57 p.*

У канадыйскай кніжнай сэрыі „Творчае пісьменства“ (*Creative Writing Series,* №16) выйшла кніга ўспамінаў васьмігадовае дзяўчынкі Івонкі, пазьнейшае старшыні Рады БНР спадарыні Івонкі Сурвілы, пра пэрыяд апошняга году Другое сусьветнае вайны. Назоў кнігі перакладаецца як *„У 8 гадоў я была на вайне“*, удакладняючы, аднак, што твор — гэта разважаньні, назіраньні, успаміны.

Кніга пачынаецца з сумнага разьвітаньня зь цёцяй Ганнай на станцыі ў Баранавічах — эпізоду, што, як выглядае, цьвёрда асеў у памяці дзіцяці, невыразнага пачуцьця страху ды павольнага адыходу цягніка ў няведамае (а цёця Ганна, плачучы, бяжыць за цягніком) у бежанства — уцёкі перад наступам Саветаў (праўдападобна, Баранавічы былі акупаваныя Чырвонай арміяй праз тры гадзіны па адыходзе цягніка). Затым дзяўчынка прыпамінае (трэба сказаць, што ўспаміны пісаліся ў 1966 г., аб чым аўтарка, як і пра стварэньне кнігі, дакладна апавядае) знаёмства з Ваўкавыскам, затрымку ў Беластоку, прыезд-побыт-знаёмства з Каралеўцам, праца ў немцаў, далейшае падарожжа, бежанскія




эшалёны, бамбёжкі, дзіцячае разуменьне паняцьцяў: сьмерць, „выжыць“, адчуваньне голаду, холад, нястача. Хоць успамін вядзе адна асоба, але яскрава ўяўляецца ўся сям’я: непадзельная, цёплая, блізкая-блізкая. Тата ўвесь час клапоціцца, каб нешта зарабіць, мама ўсё ведае і ўсімі апякуецца, паблізу ўвесь час брацік Лёнік ды маленькая, на руках, сястрычка Прадслава (яна пазьней памерла). Бясспрэчна, ёсьць нямала момантаў індывідуальнага-пэрсанальнага перажываньня. Прыкладам, калі немцы не пушчаюць дзіця-нянемца (Івонку) у нямецкую школу, ці калі адзін жаўнер (немец!) фактычна ратуе ненямецкую сям’ю Шыманцоў, дазваляючы ім сесьці на карабель, які адчальваў зь Вісьленскага порту.

Фармальны канец вайны для сям’і надышоў у Даніі, у Капэнгагене, аднак гэта не азначала заканчэньня ўцякацтва: Капэнгаген не прыняў уцекачоў настала — падарожжа сям’і Шыманцоў працягвалася далей. Эмацыйныя перажываньні, уцякацтва, разбурэньні.

Ілюстраваная шматлікімі фатаздымкамі зь сямейнага архіву кніга прысьвечаная бацькам аўтаркі Эвэліне і Ўладзімеру Шыманцам *„як сьведчаньне мае да іх любові й майго імі захапленьня“*.

На маю думку, гэтая публікацыя выдатна дапаўняе распачатую некалі Алесем Марговічам тэму „Шляхі беларускіх дзяцей у апошнюю вайну“.

*Вітаўт Кіпель*

*Карлюкевіч, Алесь. Далёкія і блізкія суродзічы: З дзённіка краязнаўцы. Мінск: Літаратура і мастацтва, 2012. — 192 с. — (Наклад 1100 ас.)*

Працэс вяртаньня беларускай гісторыі імёнаў дзеячаў, што праславіліся па-за межамі радзімы, павольна, але няўхільна ідзе ў айчыннай інтэлектуальнай прасторы. Новым прыкладам таго ёсьць кніга Алеся




Карлюкевіча „Далёкія і блізкія суродзічы“, выдадзеная выдавецтвам „Літаратура і мастацтва“.

Пад адной вокладкай тут сабраны шэраг аўтарскіх нарысаў, прысьвечаных дзеячам навукі й культуры, пераважная большасьць якіх, маючы беларускія карані, рэалізаваліся па-за межамі Беларусі. Так, Алесь Карлюкевіч распавядае пра астрабатаніка Гаўрылу Ціхава (1875—1960), расейскага й савецкага вайскоўца Мікалая Трыкоўскага (1864—1926), „бабулю расейскай рэвалюцыі“ Кацярыну Брэшка-Брэшкоўскую (1844—1934), украінскага й расейскага літаратуразнаўца Аляксандра Лейтэса (1899—1976) і многіх іншых.

Пераважна героі кнігі сталі вядомыя на прасторах гэтак званага „блізкага замежжа“, дзе ў часы Расейскай або савецкай імпэрыі паняцьце радзімы магло мець і даволі шырокі, дзяржаўніцкі сэнс. Што праўда, Алесь Карлюкевіч і сам даволі шырока трактуе разуменьне „суродзіча“, уключаючы ў яго і дзеячаў габрэйскага паходжаньня, прыкладам, рэвалюцыянэра Міхаіла Гольдмана (1880—1937) або жывапісца Мэера Аксельрода (1902—1970). Цікава было спаткаць сярод герояў кнігі расейскага пісьменьніка, знаўцу расейскай эміграцыі ў Парыжы Барыса Носіка (нар. 1931). Аказваецца, аўтар публікацыяў пра парыскіх сурoдзічаў, прыкладам, мастака Хаіма Суціна, мае продкаў з тых самых беларускіх Сьмілавічаў. Ёсьць сярод герояў і зусім не беларусы нават у аддаленым сваяцтве. Так, аўтар распавядае пра народнага пісьменьніка Туркменістана Каюма Тангрыкуліева або кітайскага перакладчыка Гао Мана, якіх аб’ядноўвае дзейнасьць па перакладзе й папулярызацыі беларускай літаратуры ў замежжы.

Кніга Алеся Карлюкевіча складаецца не з навуковых біяграфічных артыкулаў, а з тэкстаў публіцыстычных, газэтнага фармату. Галоўная іх мэта — папулярызацыя зьвестак пра вядомых у замежжы сурoдзічаў. Наклад выданьня гэтаму, безумоўна, спрыяе.

Аднак, нягледзячы на навукова-папулярны характар кнігі (дзе апошняя складовая гэтага азначэньня выразна пераважае ў зьмесьце),

зьмяшчэньне хоць нейкіх спасылак на крыніцы цытаванай аўтарам інфармацыі або бібліяграфічнага сьпісу пры канцы было б зусім ня лішнім. Магчыма, некалі зьявяцца на беларускіх паліцах і гэткія ж зборнікі тэкстаў, прысьвечаныя нашым славутым суродзічам з „далёкага замежжа“. Матэрыялаў пра іх таксама не бракуе.

*Натальля Гардзіенка*

*Кузьміч, Міхаіл, Сцепаненка, Мікола. Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы. Мінск: Літаратура і мастацтва, 2012. — 352 с. — (Наклад 1100 ас.)*




Яшчэ адзін біяграфічны даведнік, зьвязаны зь лёсамі беларусаў па-за межамі бацькаўшчыны, пабачыў сьвет у выдавецтве „Літаратура і мастацтва“ ў 2012 г. У адрозьненьне ад папярэдняй кнігі Алеся Карлюкевіча, праца Міхаіла Кузьміча й Мікалая Сьцепаненкі мае больш строгі характар і пазначаная як „даведачнае выданьне“. Аўтары паспрабавалі сабраць пад адной вокладкай інфармацыю пра нараджэнцаў Віцебшчыны (ад Францыска Скарыны й да сучасных дзеячаў), што з розных прычынаў апынуліся па-за межамі сучаснай тэрыторыі Беларусі. *„Там яны па-свойму прыжыліся, уладкавалі ўласнае жыццё, пусцілі глыбокія карані, старанна працавалі, удзельнічалі ў розных падзеях, пакінулі значны след у шматлікіх сферах жыцця, сказалі сваё слова ў навуцы, культуры, літаратуры, дзяржаўным будаўніцтве, мастацтве, медыцыне, археалогіі, палітыцы, ваеннай справе, лінгвістыцы, спорце, бізнесе і г.д., засталіся назаўсёды ў гісторыі“*[4], — зазначаецца ў прадмове.

4 Кузьміч, М., Сцепаненка, М. Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы. Мінск: Літаратура і мастацтва, 2012. С. 3.

Традыцыйную мэтадалягічную праблему даведнікаў, зьвязаную з прынцыпамі адбору й аб’ёму падаванай пра кожнага дзеяча інфармацыі, аўтары кнігі „Імёны, асобы, лёсы“ вырашылі даволі проста: *„Адбор персаналій для кніжкі ажыццяўляўся, з аднаго боку, з улікам іх значнасці, а з другога — наяўнасці фактычнага матэрыялу. Па гэтай прычыне біяграфіі некаторых знакамітасцей атрымаліся не поўнымі, не аднолькава раўназначнымі па аб’ёме“*[5].

Што праўда, крытэр „значнасьці асобы“ надзвычай няпэўны. І гэта дазволіла аб’яднаць у даведніку пэрсонаў з сусьветнымі імёнамі, як Марк Шагал, Жарэс Алфёраў і інш., а побач зь імі паставіць інфармацыю пра заслужаных будаўнікоў, перакладчыкаў, вайскоўцаў. Усіх іх аб’ядноўвае паходжаньне з сучаснай Віцебшчыны. Пры гэтым у даведніку прадстаўленыя і дзеячы часоў Рэчы Паспалітай, і нараджэнцы Расейскай імпэрыі, і жыхары СССР. Значная колькасьць прадстаўленых выхадцаў зь беларускіх земляў — не этнічныя беларусы. Вялікая частка асобаў у даведніку рэалізаваліся ў блізкім замежжы, найперш у Расеі. Тут можна згадаць і імёны славутага псыхоляга Льва Выгоцкага (1896—1934), актора Васіля Качалава (1875—1948), сацыёляга й правазнаўцы Льва Петражыцкага (1867—1931) і інш. У гэты ж шэраг можна паставіць і Ўладзімера Дубоўку (1900—1976), чый апошні пэрыяд жыцьця быў зьвязаны з Масквой.

Важна адзначыць, што ў даведніку прадстаўленыя і ўдзельнікі сучасных беларускіх дыяспараў, народжаныя на Віцебшчыне. Сярод апошніх найбольш вядомы іркуцкі беларус, заснавальнік Іркуцкага грамадзка-культурнага таварыства імя І. Чэрскага Алег Рудакоў, мастачка, старшыня Беларуска-эстонскага згуртаваньня Маргарыта Астравумава, паэтка, беларуская дзяячка ў Палтаве Іна Снарская й шмат іншых.

Да гонару складальнікаў даведніка, у ім знайшлі месца й народжаныя на Віцебшчыне прадстаўнікі паваеннай беларускай эміграцыі на Захадзе. Тут зьмешчаная інфармацыя пра грамадзкага дзеяча ў ЗША Сяргея Карніловіча (1929—1993), пісьменьніка, кіраўніка БІНіМу Янку Ліманоўскага (1996—1989), гісторыка Івана Любачку (1915—1977), мэдыка Язэпа Малецкага (1906—1982), мастака Пётру Мірановіча (1902—1990), рэлігійнага дзеяча Тамаша Падзяву (1906—1975), вучонага-этнографа Марыяна Пецюкевіча (1904—1983), грамадзкага дзеяча ў Францыі Лявона Рыдлеўскага (1903—1953), пісьменьніка Лявона Са-

[5] Кузьміч, М., Сцепаненка, М. Імёны, асобы, лёсы… С. 4.

вёнка (1897—1974), біскупа Часлава Сіповіча (1914—1981), журналіста й гісторыка Віктара Сянкевіча (1926—?).

Наяўнасьць згаданых імёнаў у даведніку адлюстроўвае сур'ёзны прагрэс у справе ўключэньня дзеячаў дыяспараў у нацыянальны дыскурс. Разам з тым, даволі сьціплыя й не заўсёды дакладныя біяграмы гэтых асобаў сьведчаць пра абмежаванасьць доступу складальнікаў даведніка да апошніх эміграцыязнаўчых публікацыяў. Так, а. Часлаў Сіповіч не мог быць адным з ініцыятараў стварэньня Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, бо прыехаў у гэтую краіну увесну 1947 г., ужо пасьля заснаваньня арганізацыі, устаноўчы зьезд якой адбыўся ў студзені 1947 г. І пра гэта ёсьць багата інфармацыі ў нашай кнізе „Беларусы ў Вялікабрытаніі" (Менск, 2010).

Псэўданімам Леанід Свэн Лявон Савёнак падпісаў сваю першую й адзіную выдадзеную пры жыцьці аўтара на бацькаўшчыне кнігу „Чароўная іголка". І ён не выкарыстоўваў гэты псэўданім для публікацыяў на старонках эміграцыйных газэтаў „Бацькаўшчына" й „Беларус". А ў дзейнасьці Лявона Савёнка ў ЗША варта адзначыць даволі актыўны пэрыяд сяброўства ў Радзе БНР у першай палове 1950-х гг. Трэба заўважыць, што сёньня вядомыя й дакладныя даты й месцы нараджэньня й сьмерці пісьменьніка (а ня толькі гады) — 26 чэрвеня 1897 г., в. Вялец (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 21 лютага 1974 г., Памон (Нью-Джэрзі, ЗША)[6].

Важнымі момантамі біяграфіі Лявона Рыдлеўскага былі не згаданы ў біяграме ўдзел у Слуцкім збройным чыне, а пасьля Другой сусьветнай вайны — дзейнасьць у беларускіх арганізацыях у Францыі, рэдагаваньне газэты „Беларускія навіны", кіраваньне Сусьветным аб'яднаньнем беларускай эміграцыі, прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у Міжнароднай арганізацыі па справах уцекачоў.

Рэлігійны дзеяч Тамаш Падзява, дакладная дата сьмерці якога — 2 кастрычніка 1975 г. — таксама не таямніца, у 1969 г. з Польшчы выехаў спачатку ў Рым, а адтуль перабраўся ў Лёндан, дзе, жывучы ў Марыян Хаўз, ня мог працаваць *„у беларускім аддзяленьні Ватыканскага радыё"*[7].

Вядомы беларускі дзеяч у Аўстраліі, аўтар цікавых успамінаў „Пад знакам „Пагоні", ня быў рэдактарам часопісу „Мэдычная думка" ў

---

[6] Юрэвіч, Лявон. Прадмова // Савёнак, Лявон. Творы. Мінск: Лімарыус, 2012. С. 5—20.

[7] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Менск: Медысонт, 2010. С. 553.

Нямеччыне, бо яго выдаваў іншы лекар, Вітаўт Тумаш. Не было ў Аўстраліі й месячніка „Новае жыцьцё ў Сыднэі“, а быў часопіс „Новае жыцьцё“, што выходзіў у сталіцы штату Новая Паўднёвая Валія. І друкаваў Язэп Малецкі на старонках эміграцыйных пэрыёдыкаў ня толькі „мэдычныя публіцыстычныя артыкулы“, але найбольш нататкі зь беларускага жыцьця ў Аўстраліі, якія падпісваў псэўданімам Я. Лаўрыновіч[8].

Вядомыя таксама й дакладная дата ды месца сьмерці Янкі Ліманоўскага — 30 траўня 1989 г., Рыхтан Парк (Ілінойс, ЗША), — у эміграцыйнай біяграфіі якога акрамя сяброўства ў Радзе БНР і кароткачасовага кіраваньня БІНіМам была яшчэ й праца ў Беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ ў Мюнхэне[9]. А вось пра колькіразовае наведваньне Янкам Ліманоўскім СССР і Менску інфармацыя новая, таму вельмі цікава было б даведацца пра яе крыніцы. Бо зьвестак пра жыцьцё Янкі Ліманоўскага пасьля таго, як ён перапыніў кантакты зь беларускімі эміграцыйнымі арганізацыямі, практычна няма.

Няроўнасьць прадстаўленай у даведніку інфармацыі пра дзеячаў паваеннай эміграцыі зь Віцебшчыны выявілася і ў адсутнасьці шэрагу знакавых асобаў. Так, прамінулі аўтары нараджэнца вёскі Верацеі Дзісенскага павету (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.), грамадзкага дзеяча й пісьменьніка Кастуся Акулу (1925—2008), як не згадалі й яшчэ двух літаратараў — Міколу Целеша (1900 — пасьля 1976) з сучаснай вёскі Заазер'е Лепельскага р-на Віцебскай вобл. ды самабытнага Янку Юхнаўца (1921—2004) зь вёскі Забродак (сёньня Докшыцкі р-н Віцебскае вобл.). Хіба што фармальнымі прычынамі знаходжаньня месца нараджэньня (мястэчка Веліж) на тэрыторыі сучаснай Расеі можна патлумачыць і тое, што няма ў даведніку імя знакамітага Юркі Віцьбіча (1905—1975), які праз усю сваю літаратурную дзейнасьць дэманстраваў цесную сувязь з роднай Віцебшчынай. Безумоўна, вартыя ўключэньня ў даведнік і эміграцыйны гісторык, супрацоўнік Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР, доктар гісторыі, аўтар дысэртацыі пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра, абароненай у 1954 г. у Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія), нараджэнец вёскі Закаліўе (сёньня Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) Паўла Урбан (1924—2011), і яго-

---

[8] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. С. 428—429.

[9] Юрэвіч, Лявон. На скрыжаваньні вятроў (Янка Ліманоўскі) // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 498—503.

ны сябра па „Дванаццатцы“, выпускнік факультэту паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту, супрацоўнік таго ж Мюнхэнскага інстытуту, а таксама журналіст Беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне“ ды газэты „Бацькаўшчына“, глыбаччанін Алесь Марговіч (1927—1967). Напэўна, мае права на ўключэньне ў даведнік і нараджэнец вёскі Балбекі Дзісенскага пав. (сёньня Шаркаўшчынскі р-н Віцебскае вобл.), актыўны грамадзкі дзеяч у ЗША, скарбнік Рады БНР Віталь Кажан (1916—2004), таксама як і вядомы беларускі эміграцыйны авантурнік, грамадзкі й рэлігійны дзеяч Уладыслаў Рыжы-Рыскі (1925—1978), што паходзіць зь вёскі Латыгаль (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.). Усе згаданыя асобы паводле сваёй значнасьці й наяўнасьці даступнай інфармацыі выдатна ўпісваюцца ў канцэпцыю даведніка, і хочацца верыць, што ў выпадку перавыданьня аўтары не забудуцца на іх, таксама як і на апошнія эміграцыязнаўчыя выданьні, дзе прысутнічае багата біяграфічнай інфармацыі.

Наогул жа, прыклад даведніка „Імёны, асобы, лёсы: Ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы“, безумоўна, варты перайманьня. Зьяўленьне аналягічных даведнікаў пра дзеячаў зь іншых рэгіёнаў Беларусі, што сталі вядомыя за яе межамі, канечне пойдзе на карысьць і ўмацаваньню нацыянальнай ідэнтычнасьці, і аб’яднаньню мэтрапольнай і замежнай частак беларускай нацыі.

*Натальля Гардзіенка*

*Павлов, В.П. Белорусы в движении Сопротивления Франции. Минск: Международный университет „МИТСО“, 2012. — 104 с. — (Наклад 150 ас.)*

На парыскіх могілках Пэр-Ляшэз усталяваныя асобныя помнікі ў гонар прадстаўнікоў розных нацыянальных групаў, што змагаліся за вызваленьне Францыі ў часе Першай і Другой сусьветных войнаў. Тут ёсьць манумэнт у гонар армянаў, палякаў, расейцаў, бэльгійцаў, чэхаславакаў і інш. Знаку па беларусах, што ўдзельнічалі ў змаганьні за француcкую свабоду няма, нібыта іх і не было.

Удзел беларусаў у эўрапейскім Рэзыстансе дасёньня застаецца маладомай старонкай нашай гісторыі, хоць прысьвечаныя гэтай праблеме публікацыі пачалі зьяўляцца яшчэ ў 1960-я гг. Тады, што праўда, гэта былі дасьледаваньні ролі людзей „савецкіх“ у руху Супраціву. Аднак узьнікала багата сюжэтаў, зьвязаных менавіта зь беларусамі. Адмысловая ж манаграфія „Беларусы ў руху Супраціву Францыі“ пабачы-




ла сьвет толькі ў 2012 г. Яе аўтар Уладзімер Паўлаў даволі даўно займаецца дасьледаваньнем згаданай тэмы, і ў выданьні паспрабаваў сыстэматызаваць сабраныя зьвесткі.

Ва ўводзінах слушна заўважана пра адсутнасьць сур'ёзнай навуковай цікавасьці да тэмы ў Беларусі. Праўда, аўтар, зазначаючы пра, бадай, адзіны прыклад навуковай публікацыі па тэме разьдзелу ў IV томе „Гісторыі Беларускай ССР“, не зьвярнуў увагі на значна больш сучаснае выданьне — акадэмічную калектыўную манаграфію „Гісторыя Беларусі“, у пятым томе якой ёсьць адмысловы разьдзел „У эўрапейскім антыфашысцкім руху і арміях саюзных дзяржаў“[10], дзе доктар гістарычных навук Аляксей Літвін зрабіў спробу сыстэматызацыі асноўных зьвестак пра беларускі ўдзел у руху Супраціву. Пры гэтым аўтар згаданага разьдзелу — яшчэ й рэцэнзэнт працы Ўладзімера Паўлава.

Агляд публікацыяў, на якія абапіраўся аўтар кнігі, выклікае заканамернае пытаньне: няўжо вывучэньнем руху Супраціву зусім не займаліся й не займаюцца францускія дасьледнікі? У рабоце згадваюцца францускія аўтары толькі ў рускамоўных публікацыях пераважна савецкага часу. Не працаваў дасьледнік і ў францускіх архівах, што выглядае абсалютна неабходным для сур'ёзнага вывучэньня тэмы. Асноўныя крыніцы зьвестак для Ўладзімера Паўлава — успаміны й інтэрвію былых удзельнікаў руху Супраціву, што ў паваенны час вярнуліся ў Беларусь.

Асноўная частка кнігі, што мае назву „У атрадах макі і франціраў“, уяўляе сабою адносна пасьлядоўны аповед пра лёсы канкрэтных удзельнікаў францускага Супраціву, што паходзілі зь Беларусі. Пераважна згаданых у кнізе можна падзяліць на дзьве катэгорыі: тыя, што апынуліся ў Францыі празь нямецкія працоўныя лягеры ці лягеры ваеннапалонных (іх перакідвалі для працы на францускіх ваенных прадпрыемствах ды ў вугальных капальнях), і беларусы зь міжваеннай эмі-

[10] Гл.: Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917—1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2007. С. 558—563.

грацыі з Заходняй Беларусі. Цікава, што й першыя, і другія паказаныя ў кнізе як прыхільнікі камуністычнай партыі, якая вызначальна ўплывала на стварэньне арганізацый „савецкіх патрыётаў“ у Рэзыстансе.

Наогул чытачу кнігі даводзіцца проста прадзірацца праз патасную рыторыку яшчэ савецкіх часоў, напэўна, абумоўленую асаблівасьцямі скарыстаных аўтарам крыніцаў. Тым ня менш, у працы можна знайсьці надзвычай цікавыя сюжэты, прыкладам, пра дзейнасьць жаночага атраду „Радзіма“, арганізаванага беларускамі Надзеяй Лісавец і Разаліяй Фрыдзон. Апошнія нават атрымалі пазьней афіцыйныя вайсковыя званьні францускіх афіцэраў[11]. Зьвяртае на сябе ўвагу й гісторыя мастачкі Надзеі Хадасевіч-Лежэ, якая для дапамогі ўцекачам зь нямецкага палону зладзіла дабрачынны аўкцыён з карцінаў вядомых мастакоў (у тым ліку й Пікаса), прыбытак ад якога (3 млн франкаў) пайшоў у... савецкую амбасаду[12].

Згадваецца ў кнізе каля дзясятка гісторыяў эмігрантаў з Заходняй Беларусі міжваеннага часу, што дапамагалі ці актыўна ўдзельнічалі ў партызанскім руху ў Францыі. Аднак аўтар дае прыклады толькі тых, хто (як згадана вышэй) пасьля вайны вярнуўся ў савецкую Беларусь. А відавочна, што былі й іншыя. У сьпісе 115 беларусаў, чый удзел у францускім Супраціве Уладзімеру Паўлаву ўдалося выявіць, ёсьць пазыцыя *„Рыдлевский Л.“* і ніякай іншай пазнакі ні пра месца нараджэньня (як пра іншых беларусаў), ні пра лёс. Магчыма, аўтар кнігі проста ня ведае пра тое, што Лявон Рыдлеўскі быў вядомай асобай у беларускай эміграцыі ня толькі ў Францыі, дзе жыў і да, і ў часе, і пасьля Другой сусьветнай вайны. А мо немагчыма было ў яго знайсьці дастатковага піетэту да савецкай краіны, супраць якой Рыдлеўскі змагаўся яшчэ ў шэрагах слуцкіх паўстанцаў, дый у паваенны час вызначаўся дзеяч выразным антыкамунізмам. Гэткай жа была пазыцыя й іншага, згаданага вылучна ў агульным сьпісе Кастуся Акулы. А за ім жа стаіць і цэлая плыня беларусаў, што трапілі ў шэрагі францускіх партызанаў праз уцёкі зь нямецкай арміі ў 1944 г. Гэты цікавы сюжэт наогул застаўся па-за ўвагай Уладзімера Паўлава, як і пэўны пласт эміграцыйных крыніцаў, яму прысьвечаных. Наогул існаваньне антыфашысцкага, але непракамуністычнага кола беларускіх удзельнікаў Супраціву, відавочна, не ўпісалася ў канцэпцыю кнігі.

---

[11] Павлов, В.П. Белорусы в движении Сопротивления Франции. Минск, 2012. С. 35.

[12] Павлов, В.П. Белорусы в движении Сопротивления Франции... С. 83—85.

У выніку, праведзенае аўтарам дасьледаваньне аказалася занадта ідэалягізаваным і фрагмэнтарным, засяроджаным на асобных гісторыях, але без сапраўднай сыстэматызацыі, без выразнай канцэпцыі, без агульнага бачаньня гэтай складанай і цікавай старонкі айчыннай гісторыі. Кніга толькі яшчэ раз даказвае, што вывучэньне гэтай тэмы ня можа быць поўным пры апоры выключна на айчынныя й савецкія публікацыі, без істотнага пашырэньня кола крыніц і вывучэньня францускіх дасьледаваньняў. Магчыма, больш глыбокае й сур'ёзнае дасьледаваньне дазволіць паставіць пытаньне пра неабходнасьць зьяўленьня памятнага знаку й па беларусах па парыскім могільніку Пэр-Ляшэз.

*Натальля Гардзіенка*

*Савёнак, Лявон. Творы / Уклад. Ц. Чарнякевіча і Л. Юрэвіча. Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с. — (Галасы Айчыны). — (Наклад 200 ас.)*




Вяртаньне на бацькаўшчыну творчай спадчыны беларускіх паваенных эмігрантаў паступова ператвараецца ў няспынны, няўхільны працэс, нягледзячы на не заўсёды спрыяльныя ўмовы. У сэрыі „Галасы Айчыны" менскага выдавецтва „Лімарыус" пабачыла сьвет новая кніга. Пад адной вокладкай сабраная літаратурная спадчына яшчэ аднаго аўтара, чый жыцьцёвы шлях скончыўся на эміграцыі — Лявона Савёнка (1897—1974).

Ён нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 г. у в. Вялец (сёньня Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.), вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. У 1920 г. прыехаў у Менск, дзе ажаніўся з настаўніцай Апалёніяй Раткевіч. У 1920-х гг. Савёнак працаваў у рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь". Гэты час быў асабліва плённы на сатырычныя нарысы й фэльетоны. У 1929 г. выйшаў адзіны літаратурны зборнік Савёнка на радзіме „Чароўная іголка", падпісаны псэўданімам Леанід

Свэн. Ня дзіва, што „кароль фэльетонаў“ быў звольнены з працы за беларускі нацыяналізм. А ў 1933 г. — арыштаваны на справе „Беларускага нацыянальнага цэнтру“ ды высланы на шэсьць гадоў у Сыбір, а пазьней у Комі АССР. Сям'я Савёнка перабралася ў Крычаў, куды ён сам змог вярнуцца толькі ў 1939 г. Падчас нямецкай акупацыі Лявон Савёнак працаваў у „Беларускай газэце“. Прыкладна ў гэты час ён напісаў сваю вядомую сатырычную аповесьць „Запіскі эмігранта (Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава)“, што дасьціпна адлюстроўвае жыцьцё шараговага беларуса пад акупацыяй.

Улетку 1944 г. сям'я Савёнкаў выехала на эміграцыю. У паваеннай Нямеччыне былы журналіст настаўнічаў, быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофэне, стаў адным з ініцыятараў аднаўленьня Рады БНР (пазьней пакінуў Раду праз канфлікт зь Міколам Абрамчыкам). У 1948 г. увайшоў у кансысторыю адноўленай БАПЦ. Менавіта Лявон Савёнак быў адным з ініцыятараў заснаваньня газэты „Бацькаўшчына“ ў Нямеччыне.

У 1950 г. Савёнак выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрзі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты „Беларус“. Памёр 21 лютага 1974 г.

Творчая дзейнасьць Лявона Савёнка прыпадае пераважна на міжваенны і ваенны час. На эміграцыі ён амаль не пісаў, за выключэньнем некалькіх тэкстаў канца 1940-х гадоў, ды невялікіх успамінаў.

У 1998 г. намаганьнямі БІНіМ пабачыў сьвет укладзены Лявонам Юрэвічам зборнік літаратурнай спадчыны Савёнка-Крывічаніна „Беларусізацыя пад №...“ Аднак гэтае выданьне наўрад ці было добра вядомае ў мэтраполіі. Новы менскі зборнік, укладзены сумесна Лявонам Юрэвічам і Ціханам Чарнякевічам, безумоўна, засноўваецца на папярэднім, аднак значна дапаўняе яго. Аснову яго склалі фэльетоны, нарысы, артыкулы й аповесьць, напісаныя ў 1920—1940-х гг. Тут зьмешчаны шэраг тэкстаў, якія раней публікаваліся толькі на старонках пэрыёдыкаў (прыкладам, у газэце „Савецкая Беларусь“ у канцы 1920-х гг.). Выданьне грунтоўна пракамэнтаванае, дапоўненае ўспамінамі жонкі Савёнка Апалёніі, якія ўтрымліваюць цікавыя згадкі пра культурнае жыцьцё ў Менску ў 1920-х гг., а таксама ўнікальнымі здымкамі зь сямейнага архіву.

Кніга пабачыла сьвет дзякуючы падтрымцы сям'і Кіпеляў (Зора Кіпель была дачкой Лявона Савёнка). Успаміны Вітаўта Кіпеля, прысьвечаныя Лявону Савёнку, зьмешчаныя ў прадмове да выданьня.

Новая кніга сэрыі „Галасы Айчыны“ — гэта самы поўны збор літаратурнай спадчыны Лявона Савёнка, чыё імя такім чынам вяртаецца ў літаратурную прастору мэтраполіі.

*Наталья Гардзіенка*

*Сямёнаў, Дзмітры. Дзённік. 1943—1947. Мінск: Медысонт, 2012. — 334 с. (Бібліятэка часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд“, 23). — (Наклад 200 ас.)*




Час вайны, жыцьцё пад акупацыяй, бежанства ня надта спрыяюць вядзеньню дзёньнікаў. Магчыма, таму так мала засталося штодзённых запісаў тых, хто проста жыў у складаны й няпэўны ваенны час, запісаў, якія пішуцца для сябе й дзе занатоўваюцца звычайныя чалавечыя пачуцьці, побытавыя праблемы, дзе ня трэба думаць, як сваю асобу ці іншых паказаць лепей, чым ёсьць.

Менавіта такі рэдкі, ці нават унікальны, дзёньнік пабачыў сьвет у сэрыі „Бібліятэка часопіса „Беларускі гістарычны Агляд“. Ягоны аўтар — звычайны беларускі хлопец Дзьмітры Сямёнаў, што нарадзіўся ў 1926 г. у Менску ў сям'і эканамістаў. У часе нямецкай акупацыі жыў у родным горадзе, вучыўся ў школе, падпрацоўваў у гістарычным музэі разам з Антонам Шукелойцем. У сваіх запісах ваеннага часу юнак занатоўваў штодзённыя справы, пачуцьці, клопаты. Ён перагледзеў увесь рэпэртуар Менскага тэатру, фіксаваў уражаньні ад кніг, кіно, асобаў. У нататках пішацца пра першае каханьне, здачу экзамэнаў, сьвяткаваньні ды іншыя падзеі насычанага юнацкага жыцьця.

У прыватным дзёньніку Дзьмітрыя Сямёнава можна знайсьці водгукі значных гістарычных падзеяў: выбуху ў Менскім гарадзкім тэатры, дзе загінуў сын Натальлі Арсеньневай Яраслаў, Другога Ўсебеларускага кангрэсу, выезду беларускай інтэлігенцыі на Захад улетку 1944 г. Тады,

разам з Кушалямі, Калубовічамі, Шчагловымі, Кіпелямі, Савёнкамі ды іншымі, без бацькоў, але пад апекаю Антона Шукелойця, зьехаў зь Беларусі й аўтар запісаў. Ён не перапыняў свае нататкі і ў часе бежанства, распавядаючы пра бамбаваньні Бэрліну, бадзяньні па лягерах у пошуках прытулку, паўгалоднае існаваньне й радасьць ад прыходу амэрыканцаў.

Дзёньнік Дзьмітрыя Сямёнава паказвае падзеі вайны й першых паваенных гадоў вачыма беларускага юнака, які радаваўся й сумаваў, кахаў і крыўдаваў, а найбольш — імкнуўся знайсьці сваё месца ў жыцьці. Ён апынуўся ў асяродзьдзі сьведамай беларускай інтэлігенцыі, таму ў штодзённых запісах можна знайсьці цікавыя нататкі пра вядомых нацыянальных дзеячаў: Антона Адамовіча, Натальлю Арсеньневу, Франца Кушаля, Леаніда Галяка, Аўгена Калубовіча, Міколу Шчаглова-Куліковіча ды іншых. Гэтыя асобы паўстаюць таксама ў іх штодзённым жыцьці, у змаганьні з побытавымі праблемамі, у асаблівасьцях міжасабовых і сямейных стасункаў. У выніку беларуская эміграцыя першых паваенных гадоў бачыцца як бы зусім зблізку.

Запісы дзёньніка, што займаў шэсьць сшыткаў, ахопліваюць час ад 1 студзеня 1943 г. да 16 верасьня 1947 г. Сканчаюцца яны на прыняцьці Дзьмітрыем Сямёнавым важнай жыцьцёвай пастановы — ажаніцца. Праз ўвесь згаданы час ён быў у своеасаблівым пошуку спадарожніцы жыцьця, якую нарэшце знайшоў у беларускім асяродку ў Нямеччыне. Падзеі вясельля з Аляксандрай Сямёнавай (Заруцкай) не ўвайшлі ў дзёньнік, як і пераезд у ЗША, навучаньне ў Ратгерскім унівэрсытэце, праца хімікам. У Амэрыцы Сямёнаў, што памёр у 1982 г., няшмат кантактаваў зь беларускай грамадой. Магчыма, таму пра ягоны дзёньнік так доўга нічога не было вядома. Для публікацыі яго перадала дачка Сямёнава Раіна, якая й фундавала выданьне. Архівіст Лявон Юрэвіч падрыхтаваў для друку тэкст, цікавыя камэнтары зрабіў таксама Вітаўт Кіпель, жменьку ўспамінаў пра аўтара напісаў ягоны знаёмы якраз з часоў, пра якія апавядае дзёньнік, Уладак Кушаль. У выніку атрымалася цікавае й якаснае выданьне, аздобленае здымкамі зь сямейнага архіву.

„Дзёньнік“ Дзьмітрыя Сямёнава — ня толькі каштоўная крыніца па беларускай гісторыі. Ён — яшчэ адно сьведчаньне таго, колькі цікавых, пакуль невядомых скарбаў захоўваецца ў эміgranцкіх архівах. Гэтыя скарбы толькі чакаюць свайго часу.

*Натальля Гардзіенка*

*Беларус: Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Нью-Ёрк: Выдавецтва „Беларус“, 2013. — 351 с.*




Распачаць выданьне новага пэрыёдыка заўсёды значна складаней, чым працягваць яго з году ў год. Выдавец Марат Клакоцкі чарговы раз пацьвердзіў трываласьць сваіх намераў і зацікаўленьняў, падараваўшы сёлета чытацкай аўдыторыі ўжо сёмы нумар альманаху „Беларус“. На старонках гэтага ўнікальнага выданьня можна знайсьці творы аўтараў з васьмі краінаў беларускай прысутнасьці розных жанраў і ўзроўняў. Тут традыцыйна ёсьць і ўжо вядомыя аўтары, і пачаткоўцы.

Адкрывае нумар уступны артыкул Віталя Воранава, часткай якога ёсьць рэфлексіі адносна Шостага Зьезду беларусаў сьвету й праблемы глябалізацыі зь яе выклікамі для беларусаў. І можна пагадзіцца з высновай, што альманах „Беларус“ *„ёсьць узорам праекту, зробленага сучаснай, адаптаванай да глябальных умоваў выжываньня суполькай беларускіх аўтараў, дабрадзеяў і Марата Клакоцкага...“*

Сярод публікацыяў сёлетняга „Беларуса“ зьвяртаюць на сябе ўвагу ўспаміны Валянціны Якімовіч „Імгненьні, вырваныя з жыцьця“, што распавядаюць пра падзеі канца 1980-х — 2000-х гг. у жыцьці прадстаўніцы постсавецкай хвалі эміграцыі. Гэты аповед важны й як погляд на падзеі мэтрапольнай гісторыі, і як адлюстраваньне самой сучаснай эміграцыі.

Хочацца спадзявацца, што альманах „Беларус“ будзе мець працяглую гісторыю й яшчэ дапаможа ў публікацыі сваіх твораў яшчэ шмат якім замежным суайчыньнікам.

*Натальля Гардзіенка*

*Гардзіенка, Наталля, Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 22). — (Наклад 300 ас.).*




Спэцыяльныя кнігі, прысьвечаныя Радзе БНР, зьяўляюцца нячаста. За апошнія дваццаць гадоў можна згадаць хіба „Архівы БНР“ Сяргея Шупы ды працу Дароты Міхалюк, прысьвечаную даваеннаму пэрыяду дзейнасьці Рады. Нядаўна ж у Менску пабачыла сьвет выданьне, асноўны акцэнт у якім упершыню зроблены на пасьляваеннай гісторыі Рады БНР.

Выхад кнігі Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча „Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“ зьвязаны зь сёлетнім 110-годзьдзем зь дня нараджэньня першага паваеннага Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка. Менавіта ягонай дзейнасьці на чале беларускага палітычнага прадстаўніцтва на Захадзе й прысьвечанае выданьне.

„Рада БНР (1947—1970)“ складаецца зь сямі разьдзелаў. У першым зьмешчаны нарыс дзейнасьці Рады часоў Міколы Абрамчыка: аднаўленьня, разбудовы структуры ў Нямеччыне, пераезду ў ЗША, асноўных кірункаў працы як унутры беларускіх грамадаў, гэтак і звонку. Важныя сюжэты тут зьвязаныя з актыўнасьцю Рады й яе Прэзыдэнта ў міжнародным антыкамуністычным Руху, заснаваньні беларускай рэдакцыі Радыё „Вызваленьне / Свабода“ ды беларускага аддзелу ў Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене.

Другі — найбольшы ў кнізе — разьдзел зьмяшчае пратаколы пасяджэньняў Рады і Ўраду БНР з адпаведнага пэрыяду. Аўтары кнігі на падставе збораў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане ды фонду Раісы Жук-Грышкевіч у Нацыянальным архіве Канады падрыхтавалі багатую падборку пратаколаў, якія пераважна ніколі не публікаваліся раней. Гэтыя матэрыялы даюць выдатную магчымасьць зразумець, чым жылі Рада й радныя ў 1940-х — 1960-х гг.: якія мэты ставіліся, якія ўмовы былі для працы,

якія захады рабіліся, якой была абстаноўка як унутры, гэтак і звонку палітычнага прадстаўніцтва. Усе пратаколы, дзе згадваецца вялікая колькасьць імёнаў дзеячаў ня толькі беларускай эміграцыі, але й прадстаўнікоў палітычных колаў на выгнаньні: летувісаў, латышоў, эстонцаў, расейцаў, украінцаў, казакоў, грузінаў і г.д., а таксама шмат амэрыканскіх палітыкаў — добра пракамэнтаваныя, што палегчыць чытачу ўспрыманьне тэкстаў гэтых дакумэнтаў. Працягам пратаколаў сталі зьмешчаныя ў трэцім разьдзеле кнігі — „Дакумэнты“ — іншыя матэрыялы да дзейнасьці Рады БНР. Тут можна знайсьці Дэкларацыю, Статут, інструкцыі радным, адозвы й інш., што ілюструе згаданыя ў нарысе ды пратаколах падзеі з жыцьця БНР на эміграцыі.

У чацьвертым разьдзеле кнігі пададзеная падборка ліставаньня Прэзыдэнта й радных. Найбольш тут зьмешчана лістоў самога Міколы Абрамчыка ды Аўгена Каханоўскага, які пэўны час выконваў функцыі старшыні Ўраду БНР. Зьместоўныя эпісталярыі адлюстроўваюць асноўныя падзеі ўнутранага й вонкавага жыцьця БНР на выгнаньні, падзеі й канфлікты, што адбываліся ў беларускім асяродзьдзі.

Асобным разьдзелам пададзеная бібліяграфія як выданьняў самой Рады БНР, гэтак і прысьвечаных ёй артыкулаў на старонках найважнейшых беларускіх газэтаў на эміграцыі „Бацькаўшчына“ й „Беларус“. Біяграфічныя нарысы, сабраныя ў шостай частцы, сьведчаць пра адметнасьці лёсаў некаторых з галоўных герояў кнігі. А завяршае зьместавую частку „Хроніка дзейнасьці Рады БНР“. У якасьці ілюстрацыяў у кнізе выкарыстаныя шматлікія фатаздымкі, копіі дакумэнтаў, лістоў, БНРаўскіх публікатак адпаведнага пэрыяду. Ёсьць тут і фатакопія знакамітага тэстамэнту Васіля Захаркі, зь якога, фактычна, і пачалася паваенная гісторыя Рады.

Усе зьмешчаныя ў кнізе матэрыялы маюць на мэце з розных бакоў паказаць дзейнасьць паваеннай Рады БНР і яе Прэзыдэнта. Важна адзначыць, што кніга зробленая не ўнутры самой сучаснай Рады БНР, а як бы звонку, палітычна незаангажаванымі аўтарамі, што дазволіла падаваць матэрыялы, пазьбягаючы вонкавай ці ўнутранай цэнзуры.

Кніга „Рады БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы“ выглядае своеасаблівым першым каменем у падмурак сур’ёзнага вывучэньня дзейнасьці паваеннай Рады БНР, у стварэньне агульнай сыстэматызаванай гісторыі беларускай незалежнай дзяржаўнасьці.

*Яна Славіна*

*Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Мінск: Лімарыус, 2013. — 388 с.: іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка). — (Наклад 300 ас.)*




Сярод удзельнікаў беларускай паваеннай эміграцыі былі людзі з унікальным жыцьцёвым досьведам, што пасьпелі стварыць сабе імя на радзіме, прайсьці праз колы пакутаў і захаваць сябе для таго, каб працягваць беларускую справу на чужыне. Успаміны гэтых сьведкаў вызначальных падзеяў у айчыннай гісторыі складаюць сапраўдны скарб нацыянальнай мэмуарыстыкі. У менскай сэрыі „Беларуская мэмуарная бібліятэка“ пабачыла сьвет яшчэ адно гэткае выданьне — кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля (1898—1969) „Эпізоды“.

Вядомы вайсковы й грамадзкі дзеяч, удзельнік працы Тэрміналягічнай камісіі Інбелкульту ў 1920-х гг. Яўхім Кіпель бачыў працэс беларусізацыі „знутры“, быў знаёмы са знакавымі асобамі нацыянальнага жыцьця: Янкам Купалам, Якубам Коласам, Яўхімам Карскім, Уладзімерам Жылкам, Зьмітром Жылуновічам і многімі іншымі. Ва ўспамінах Яўхіма Кіпеля прадстаўленыя найбольш важныя палітычныя й культурныя моманты жыцьця савецкай Беларусі ў міжваенны пэрыяд, адлюстраваныя настроі, што панавалі ў нацыянальным асяродзьдзі, нарастаньне бальшавізацыі й ціску з боку партыйных структураў на розныя сфэры грамадзкага жыцьця.

У „Эпізодах“ прадстаўленыя вядомыя й малавядомыя ўдзельнікі стварэньня нацыянальнай навукі й культуры, чые лёсы, як і лёс самога аўтара, цесна зьвязаныя з рэпрэсіямі 1930-х гг. У сваіх успамінах Яўхім Кіпель вельмі яскрава распавядае пра арышты нацыянальных дзеячаў, высылкі й час, праведзены ў лягерах. Двойчы рэпрэсаваны цягам 1930-х гг. аўтар выступае як сьведка дзейнасьці рэпрэсіўнай машыны, што зьнішчыла значную частку беларускай інтэлігенцыі. Дзякуючы самому Яўхіму Кіпелю й ягонай сям’і захаваўся для нацыянальнай гісторыі й культуры напісаны ў высылцы „Тэстамэнт“ Уладзімера Жылкі. Нягледзячы на сур’ёзную небясьпеку, гэты каштоўны дакумэнт

ужо ў часе Другой сусьветнай вайны разам зь Яўхімам Кіпелем вярнуўся ў Беларусь і быў апублікаваны.

Жыцьцё ў акупаваным Менску, дзейнасьць нацыянальных структураў, удзельнікам якіх быў Яўхім Кіпель, Другі Ўсебеларускі Кангрэс і далейшы выезд зь Беларусі — усё гэта асобныя „эпізоды“, што складалі адметнае й поўнае выпрабаваньняў жыцьцё дзеяча й ягонай сям'і. Аўтар згадвае беларускія арганізацыі ў ваенным Бэрліне й паваеннай Нямеччыне, эміграцыю ў ЗША. Яўхім Кіпель быў актыўным удзельнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, меў уласнае меркаваньне па розных грамадзка-палітычных праблемах, і гэта таксама знайшло адлюстраваньне ў тэксьце успамінаў, дзе нацыянальнае прадстаўленае значна больш, чым прыватнае, асабістае.

Упершыню „Эпізоды“ пабачылі сьвет у Нью-Ёрку ў 1998 г. Новае, ужо мэтрапольнае выданьне значна дапрацаванае. Дадалася прадмова Вітаўта Кіпеля „Аб бацьку, што прыпамінаецца...“, пасьлямова Ціхана Чарнякевіча, прысьвечаная асобе аўтара й ягоным мэмуарам. Акрамя таго, да тэксту былі зробленыя грунтоўныя камэнтары, што дазваляюць чытачу лепш арыентавацца ў вялікай колькасьці згаданых у „Эпізодах“ асобаў і падзеяў. Дапамогай зацікаўленым будзе й бібліяграфія Яўхіма Кіпеля.

Выданьне стала магчымым дзякуючы ініцыятыве й падтрымцы сям'і Кіпеляў. Зь яе дапамогай да тэксту таксама дадаліся ўнікальныя сямейныя здымкі.

„Эпізоды“ Яўхіма Кіпеля ўяўляюць сабой невялікі адбітак складанай беларускай гісторыі 1920-х—1950-х гг. Яны шмат дадаюць да разуменьня й працэсаў беларусізацыі, і часу рэпрэсіяў, і надзеяў нацыянальных дзеячаў у часы Другой сусьветнай вайны, і ўяўленьняў эмігрантаў пра сваю важную місію на чужыне.

*Натальля Гардзіенка*

*Петрушкевіч, Ала. Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі. Мінск: Кнігазбор, 2013. — 180 с. — (Наклад 100 ас.)*

Творчасьць эміграцыйных пісьменьнікаў вельмі павольна ўваходзіць у мэтрапольныя дасьледаваньні. Пасьля першага „адкрыцьця“ яе пачатку 1990-х быў відавочны спад цікавасьці, зьвязаны з напружаным стаўленьнем да ўсяго эміграцыйнага з боку ўладаў. І цяпер раз-пораз зьяўляюцца працы энтузіястаў-дасьледнікаў, што, нягледзячы на непапулярнасьць тэмы, усё ж зьвяртаюцца да асобаў літаратараў-эмігрантаў.




Кніга Алы Петрушкевіч зьяўляецца першым у Беларусі выданьнем, цалкам прысьвечаным вывучэньню жыцьцёвага й творчага шляху асобнага пісьменьніка з паваеннай эміграцыі. На галоўную гераіню працы — Натальлю Арсеньневу — у мэтрапольнай сьвядомасьці выразна экстрапалюецца стаўленьне да паваеннай эміграцыі наогул: цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў яе імя старанна выкрэсьліваецца з тэкстаў падручнікаў і іншых афіцыйных выданьняў. Тым ня менш, Ала Петрушкевіч робіць спробу вярнуць паэтку ў айчынны літаратуразнаўчы дыскурс, вызначыць яе месца ў беларускай літаратуры. І для гэтага выкарыстоўваецца шырокі комплекс публікацыяў як тэкстаў самой Натальлі Арсеньневай, так і прысьвечаных ёй артыкулаў.

Кніга Алы Петрушкевіч уяўляе сабой зборнік асобных тэкстаў, разьмеркаваных на два разьдзелы. Першы — „Наталля Арсеннева ў кантэксце часу і па-над ім“ — складаюць артыкулы, прысьвечаныя разгляду асобных бакоў творчай спадчыны паэткі. Аўтарка кнігі зьвяртае ўвагу на месца Натальлі Арсеньневай у эміграцыйнай літаратуры, песенны лад, біблейскія матывы ў паэзіі, катэгорыі прасторы й часу ў лірыцы, колеравую палітру, эпітэты ў творах і г.д. Ала Петрушкевіч робіць спробу заглыбіцца ў „патаемнае“ сваёй гераіні, вызначыць нейкую яе таямніцу. Традыцыйныя падыходы айчыннага літаратуразнаўства да аналізу творчасьці паэткі, шырокае цытаваньне вершаў, успамінаў — усё гэта ёсьць у тэкстах Алы Петрушкевіч і стварае ўяўленьне пра трывалую ўключанасьць Арсеньневай у нацыянальны літаратурны працэс.

Другі разьдзел — „Творчасць Наталлі Арсенневай у айчынным літаратурным кантэксце“ — рэпрэзэнтуе жыцьцёвыя й творчыя ўзаемасувязі паэткі зь іншымі беларускімі літаратарамі. Асобныя тэксты прысьвечаныя дачыненьням Арсеньневай з Ларысай Геніюш, Максімам Танкам, параўнаньню яе творчасьці з даробкам Максіма Багдановіча, ваеннай паэзіяй Аркадзя Куляшова. Асобным тэкстам падаецца

ацэнка спадчыны Арсеньневай Уладзімерам Калесьнікам. Усе згаданыя артыкулы сапраўды працуюць на тое, каб засьведчыць належнае месца эміграцыйнай паэткі ў нацыянальным літаратурным кантэксьце.

Варта адзначыць, што дасьледніца шчыльна зьвязвае аналіз творчасьці паэткі з вывучэньнем адметнасьцяў яе асабістага жыцьця, і гэткія сувязі выглядаюць у кнізе найбольш цікавымі. Да таго ж, выкарыстоўваюцца найноўшыя публікацыі. І пры гэтым аўтарка працы пазбаўленая афіцыйных ідэалягічных установак пры разглядзе асобы Натальлі Арсеньневай. У кнізе не гучаць абвінавачаньні паэткі ў калябарацыі, або супрацоўніцтве з НКВД.

Што праўда, ёсьць у тэкстах Алы Петрушкевіч і некаторыя недакладнасьці. Так, у кнізе пазначана, што Юрка Віцьбіч *„на эміграцыі выдаў толькі адну сваю кнігу — мастацкі нарыс „Цячэ з-пад Сьвятое Гары Нёман“*[13]. Аднак насамрэч акрамя гэтай на эміграцыі ў 1975 г. выйшла ягоная кніга „Мы дойдзем!“, а пазьней, ужо пасьля ягонай сьмерці, у 1995 г. у Нью-Ёрку пабачылі сьвет і ягоныя „Антыбальшавіцкія паўстаньні ў Беларусі“. Верш „Малітва“ Натальля Арсеньнева не магла напісаць на замову архіяпіскапа Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы Філарэта[14], бо ў 1942 г. такога архіяпіскапа ў БАПЦ не было. Магчыма, меўся на ўвазе архіяпіскап Філафей (Нарко), хоць пэўнасьці ў канкрэтнай асобе замоўцы ўсё ж няма. Таксама варта адзначыць, што Мікола Равенскі ня жыў у 1947 г. у Парыжы[15]. У той час ён знаходзіўся ў лягерах *DP* у Нямеччыне, разам з Натальляй Арсеньневай. А ў Парыжы Беларуская каталіцкая місія на чале з а. Лявом Гарошкам проста выдала друкам гімн „Магутны Божа“ з нотамі кампазытара.

Добрая задума Алы Петрушкевіч зьмясьціць у кнізе хроніку жыцьця й творчай дзейнасьці Натальлі Арсеньневай рэалізавалася, на жаль, толькі часткова. Апошнім у храналёгіі чамусьці стаў 1952 г., хоць у жыцьці паэткі багата падзеяў было й пазьней. Таксама не зусім зразумела, чаму сьпіс публікацыяў, прысьвечаных Натальлі Арсеньневай пачынаецца ад 1975 г., бо былі яны й раней.

Здаецца, пры натуральным разьвіцьці беларускага літаратуразнаўства кніга Алы Петрушкевіч мелася б зьявіцца мінімум гадоў 10 таму. Але з увагі на асаблівасьці айчыннай сучаснасьці, трэба сказаць, што ўжо сам выхад у сьвет гэткага выданьня сёньня — адметная падзея.

---

[13] Петрушкевіч, Ала. Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі. Мінск, 2013. С. 19.

[14] Петрушкевіч, Ала. Наталля Арсеннева... С. 27.

[15] Петрушкевіч, Ала. Наталля Арсеннева... С. 27.

Хацелася б, каб яна была ўспрынятая як пэўны сыгнал для сур'ёзнага дасьледаваньня й творчасьці іншых эміграцыйных аўтараў.

*Натальля Гардзіенка*

*Сурмач, Ганна. Беларусь бязь межаў. Мінск: Лімарыус, 2013. — 684 с.: іл. — (Наклад 300 ас.)*




Пры канцы 1980-х — у пачатку 1990-х гг. своеасаблівае „адкрыцьцё“ беларускай эміграцыі ў мэтраполіі пачыналася з публікацыяў інтэрвію з замежнымі суайчыньнікамі. Варта згадаць кнігі Таццяны Антонавай „У землякоў за акіянам“ (Мінск, 1992) ды Леаніда Пранчака „Беларуская Амерыка“ (Мінск, 1994), дзе праз прыватныя аповеды раскрывалася ўся шырыня й разнастайнасьць існаваньня таямнічага беларускага сьвету па-за межамі Беларусі. Дзякуючы гэтым інтэрвію мэтрапольныя суайчыньнікі знаёміліся з эміграцыйнымі дзеячамі, атрымлівалі ўяўленьне пра абставіны выезду з бацькаўшчыны й жыцьця на чужыне.

Надалей у друку пэрыядычна зьяўляліся публікацыі інтэрвію эмігрантаў, як аб'яднаных паводле геаграфічнай ці гендэрнай прыкметы[16], так і агульныя зборныя выданьні кшталту кнігі Аляксандра Адзінца „Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў“ (Мінск, 2007). Можна казаць пра наяўнасьць пэўнай калі не традыцыі, дык выразнага напрамку ў эміграцыязнаўчых публікацыях, зьвязанага з вуснымі сьведчань-

[16] Маюцца на ўвазе ўспаміны беларусаў Аргентыны ў кнігах Сяргея Шабельцава: „Беларусы ў Аргентыне: грамадзкая дзейнасьць і рээміграцыя ў СССР (1930—1960-я гг.): зборнік дакумэнтаў і ўспамінаў“ (Менск, 2009) і „Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев“ (Минск, 2011) або ўспаміны жанчын у нашай кнізе „Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары“ (Мінск, 2004).

нямі. І выдадзеная ў 2013 г. кніга Ганны Сурмач „Беларусь бязь межаў“ зьяўляецца відавочным новым крокам у згаданым кірунку.

Выданьне пабачыла сьвет у якасьці адзначэньня 20-годзьдзя Першага зьезду беларусаў сьвету й складаецца з публікацыяў тэкстаў радыёперадачы „Беларускае замежжа“, што выходзіла на Радыё Свабода ў 2000—2006 гг. З 270 праграмаў у зборнік увайшлі 130. Некаторыя зь іх Ганна Сурмач рабіла ў суаўтарстве зь Сержуком Сокалавым-Воюшам. Спэцыфіка радыёперадачаў палягала якраз у шырокім выкарыстаньні ў іх інтэрвію зь беларусамі замежжа, што дазваляе паставіць кнігу якраз у шэраг выданьняў вусных сьведчаньняў.

Усе тэксты „Беларусі бязь межаў“ падзяляюцца на тры разьдзелы з кароткімі назвамі: „Краіны“, „Асобы“, „Падзеі“. У першым зь іх сабраныя гутаркі, прысьвечаныя беларускай прысутнасьці ў розных краінах сьвету. Тут зьмешчаныя аповеды й пра далёкае, і пра блізкае замежжа: Аргентыну, Аўстралію, Армэнію, Вялікабрытанію, Нідэрлянды, Гішпанію, Грэцыю, Данію, ЗША, Канаду, Нямеччыну, Чэхію, Францыю й г.д. Пераважная большасьць інтэрвію запісаная з асобамі, што стала або часова жылі ў адпаведных краінах і маглі распавесьці ня так пра турыстычныя цікавосткі, як пра адметнасьці жыцьця, у тым ліку й менавіта беларускага. Сьведчаньні „старажылаў“ пераплеценыя з аповедамі новых эмігрантаў, багатая гісторыя арганізаванай прысутнасьці суайчыньнікаў у той ці іншай мясцовасьці дапаўняецца сучасным поглядам на яе.

Важна адзначыць, што побач з аповедамі пра краіны з адносна працяглай ужо гісторыяй беларускіх дыяспараў у кнізе багата інтэрвію з прадстаўнікамі дыяспараў новых, створаных на постсавецкай прасторы. Зьвернутая ўвага на розныя беларускія асяродкі ў Расеі, Украіне, краінах Балтыі. Што праўда, можна спаткаць сярод інтэрвію й прысьвечаныя надзвычай экзатычным для беларусаў краінам, такім як Новая Зэляндыя, Філіпіны, Кот д'Івуар, Эквадор. Сярод іх сустракаюцца аповеды менавіта пра падарожжы, а не пра сталае жыцьцё ў тых далёкіх месцах. Але яны таксама захапляюць ня толькі экзотыкай, але й усьведамленьнем таго, як далёка могуць забірацца суайчыньнікі ў сваіх вандроўках па сьвеце.

У другім разьдзеле кнігі сабраныя гутаркі, прысьвечаныя пэўным асобам, што ў той ці іншы час апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны. Тут можна знайсьці аповеды людзей, якія асабіста ведалі Прэзыдэнта БНР Міколу Абрамчыка, журналіста Пётру Сыча, навукоўца Аўгена Вярбіцкага. Багата тут і аўтабіяграфічных аповедаў. Можна парадавац-

ца, што аўтары перадачы яшчэ пасьпелі запісаць гутаркі з Раісай Жук-Грышкевіч, Барысам Рагулем, Язэпам Сажычам, Кастусём Акулам, Хведарам Кажаневічам ды іншымі дзеячамі беларускай эміграцыі на Захадзе, якія ўжо адышлі. У зьмешчаных у разьдзеле аповедах паўстаюць шчасьлівыя й трагічныя лёсы беларусаў, што з розных прычынаў рэалізаваліся менавіта ў замежжы. Яны даюць багата падставаў для вывучэньня таго, як уплывала эміграцыя на асобу, яе творчыя сілы, яе стаўленьне да сябе.

Трэці разьдзел кнігі абʼяднаў гутаркі, прысьвечаныя розным падзеям ці ўстановам на эміграцыі. Тут ёсьць інтэрвію, прысьвечаныя Беларускаму інстытуту навукі й мастацтва, Мюнхенскаму інстытуту вывучэньня СССР, лёнданскай Скарынаўцы. Ёсьць і сюжэты, абʼяднаныя агульнай праблемай: удзелам беларусаў у Другой сусьветнай вайне й бітве пры Монтэ-Касіна, лёсам суайчыньнікаў у сталінскіх лягерах, рэакцыі замежжа на Чарнобыльскую катастрофу. Адна з захапляльных гісторый — вываз эмігрантаў з кантынэнтальнай Францыі на Корсыку ў 1960 г. у часе візыту Мікіты Хрушчова. Ёсьць і больш сучасныя сюжэты, зьвязаныя з падзеямі 11 верасьня 2001 г. у Нью-Ёрку або з удзелам беларусаў у вайне з Іракам. Зьмешчаная тут гутарка і пра беларускія могілкі ў розных краінах сьвету. Безумоўна, разнастайнасьць сюжэтаў магла б быць і большаю, улічваючы, колькі яшчэ тэкстаў перадачаў засталося па-за выданьнем. Тым ня менш, і тое, што ёсьць, уражвае.

У прадмове да выданьня Вітаўт Кіпель зазначыў, што *„кніга сьведчыць ня толькі пра драмы й трагедыі мінуўшчыны, але й пра пэрспэктывы на бліжэйшую будучыню — пра значны эканамічны й інтэлектуальны патэнцыял эміграцыі, які пры спрыяльных умовах можа быць выкарыстаны на дабро Беларусі“*[17]. Аднак тут усё ж варта зрабіць пэўную заўвагу: кніга Ганны Сурмач — адбітак пэўнага часу. І аўтарка сама зазначае ў прадмове, што за час, які прайшоў ад запісу радыёпраграмаў да выданьня кнігі, у жыцьці рэспандэнтаў адбылося шмат зьменаў. Камэнтароў пра гэтыя зьмены й бракуе кнізе. Напэўна, калі б яна выйшла ў 2005—2006 гг., па гарачых сьлядах, то мела б большы эфэкт і была б больш праўдзівым зьлепкам з сучаснасьці. Сёньня тыя гутаркі адлюстроўваюць беларускае замежжа недзе дзесяцігадовай даўніны. У дыяспарах за гэты час адбыліся істотныя зьмены, багата адышло асобаў, зьявіліся новыя арганізацыі.

[17] Кіпель, Вітаўт. Бязьмежная Беларусь // Сурмач, Ганна. Беларусь бязь межаў. Мінск, 2013. С. 13.

Прыкладам, амаль ніхто з тых новых беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі, што выказваюцца ў кнізе, сёньня ня мае дачыненьня да беларускіх арганізацыяў, дый сама дыяспара ў гэтай краіне за апошняе дзесяцігодзьдзе амаль зьнікла. Няма сёньня й ранейшага беларускага Манчэстэру, які некалі выступаў як другі па велічыні беларускі асяродак у Вялікабрытаніі. Зьніклі з кола прыцягненьня беларускіх структураў і колішнія стваральнікі беларускіх радыёпраграмаў у Брадфардзе, сям'я Сазанаўцоў. Не выяўляюць актыўнасьці беларусы ў Гішпаніі, і гэты сьпіс можна працягваць далей. Усё ж выданьне гэткай кнігі менавіта цяпер, у 2013 г., мусіла б суправаджацца нейкімі адмысловымі заўвагамі што да актуальнасьці падаванай у гутарках інфармацыі. Як мінімум варта было пазначыць, хто з рэспандэнтаў ужо адышоў, што з тых плянаў, пра якія ішлі размовы, рэалізавалася. Тады б выдрукаваныя тыя ранейшыя інтэрвію набылі новую актуальнасьць і іншае гучаньне. Зробленыя ў дадатку да тэкстаў сьціплыя камэнтары, на жаль, не забясьпечваюць той важнай повязі гутарак з сучаснасьцю, якая выглядае зусім ня лішняй.

Безумоўна, прадстаўленыя ў кнізе інтэрвію маюць пэўную каштоўнасьць самі па сабе як сьведчаньне канкрэтных асобаў, адлюстраваньне часу. Яны паказваюць багацьце праблематыкі беларускай прысутнасьці ў сьвеце, спрабуюць злучыць беларусаў у розных краінах у сапраўды агульную нацыю — Беларусь бязь межаў. Працуюць на гэта й шматлікія фотаздымкі герояў перадачаў.

Кніга Ганны Сурмач атрымалася цікавым, часам унікальным чытвом, у якім кожны можа знайсьці нешта сваё: зьвесткі пра розныя краіны, пакручастыя лёсы, цікавыя месцы й падзеі. Адмыслоўцы могуць аналізаваць прыведзеныя інтэрвію як гістарычныя крыніцы. „Беларусь бязь межаў" выглядае на своеасаблівы групавы фотаздымак беларускага замежжа пачатку XXI стагодзьдзя, у якім сапраўды адчуваецца значная перадгісторыя й багаты патэнцыял і які мы можам ацэньваць з пэрспэктывы мінулых ад таго часу гадоў.

*Натальля Гардзіенка*

*Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948—2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p. — (Наклад 1000 ас.)*




Беларуская паваенная эміграцыя на Захадзе адрозьнівалася ад папярэдніх хваляў сярод іншага й тым, што мела ўсьведамленьне сваёй спэцыфічнай місіі — інфармаваньня сьвету пра Беларусь і беларусаў. Гэткая рэпрэзэнтацыйная дзейнасьць адбывалася ў розных формах: праз кантакты з заходнімі палітыкамі ды ўрадоўцамі, праз выданьне кніг і пэрыёдыкаў у розных мовах, праз наладжваньне адмысловых мерапрыемстваў: канцэртаў, выставаў, фэстываляў. Менавіта апошняму варыянту актыўнасьці суайчыньнікаў прысьвечаная новая кніга доктара Янкі Запрудніка.

Аўтар ня ставіў перад сабою звышзадачы раскрываць усю цікавую й разнастайную гісторыю фэстывальнай дзейнасьці беларусаў на Захадзе або нават у ЗША, сканцэнтраваўшыся на параўнальна невялікім рэгіёне — штаце Нью-Джэрзі. Што праўда, мясцовыя беларускія мерапрыемствы сапраўды былі ці не найбольш значныя ды масавыя й заслугоўваюць адмысловай увагі.

Кніга „Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі“ разьлічаная адначасова на дзьве катэгорыі чытачоў: на амэрыканскую аўдыторыю й на суродзічаў у Беларусі. Адпаведна, і зьмест кнігі складаецца зь дзьвюх неідэнтычных частак: англамоўнай і беларускамоўнай. Асноўныя сюжэты ў частках, зразумела, паўтараюцца, але ёсьць і некаторыя асаблівасьці. Прыкладам, з увагі на адметнасьці аўдыторыі, у англамоўнай частцы зроблены адмысловы агляд, прысьвечаны асаблівасьцям беларускага традыцыйнага мастацтва (распавядаць пра гэта беларусам выглядае залішнім), у той жа час у беларускай частцы падаецца інфармацыя пра штат Нью-Джэрзі, што выглядае занадта відавочным для амэрыканскіх чытачоў.

Нягледзячы на вызначаныя на вокладцы храналягічныя межы 1948—2011 гг., асноўны акцэнт аўтар зрабіў на падзеях 1970-х—1980-х гг. Тады й колькасная прысутнасьць беларусаў у Нью-Джэрзі была ці не найбольшая, і ўзрост большай часткі грамады быў адносна малады. Да таго ж гэты час можна назваць пэрыядам своеасаблівага росквіту амэрыканскай палітыкі па падтрымцы нацыянальных групаў. Менавіта ў Нью-Джэрзі ў 1976 г. упершыню была створаная Этнічная Рада пры губэрнатару, і кіраўніком яе стаў вядомы беларускі дзеяч Вітаўт Кіпель. Дзякуючы ягонай актыўнасьці й ініцыятыве сталі магчымыя найбольш значныя Беларускія фэстывалі ў Цэнтры мастацтваў у Нью-Джэрзі, што адбываліся ў 1976, 1977 і 1979 гг. Гэтыя падзеі знаходзяцца ў цэнтры разгляду і ў кнізе Янкі Запрудніка. Тут асьвятляецца падрыхтоўка мерапрыемстваў, на якія зьбіралася каля трох тысячаў беларусаў, ды разнастайная іх праграма, што ўключала й канцэрты, і выставы, і прэзэнтацыі розных відаў традыцыйнага мастацтва. Адмыслова зважаецца на розгалас у СМІ, бо гэта было адной з найважнейшых задачаў у арганізатараў фэстываляў — зрабіць іх, а разам зь імі й беларусаў, як мага больш заўважнымі ў амэрыканскім грамадзтве. І гэта ўдавалася. Прыкладам, губэрнатар Нью-Джэрзі Бэрн менавіта беларускі фэстываль адведаў першым з аналягічных этнічных мерапрыемстваў у штаце.

Акрамя арганізацыі ўласных фэстываляў беларусы актыўна ўдзельнічалі ў шматнацыянальных фэстывалях у Парку Свабоды ў Джэрзі-Сіці. Гэткія мерапрыемствы, ініцыяваныя той самай Этнічнай Радай, адбываліся рэгулярна ад 1978 г. і дазвалялі беларусам паказваць сябе побач з прадстаўнікамі іншых этнічных групаў. Акрамя таго, у невялікім нью-джэрзійскім Саўт-Рывэры, дзе дзейнічае царква Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, ад 1973 г. ня менш чым чвэрць стагодзьдзя ў сакавіку адбываліся выставы беларускага мастацтва, што сталі таксама значнай падзеяй у жыцьці амэрыканскіх суайчыньнікаў. Дзейнічалі ў Нью-Джэрзі й розныя беларускія творчыя калектывы: хоры, танцавальныя групы, што былі непасрэднымі ўдзельнікамі ўсіх мерапрыемстваў. Заўважныя былі нью-джэрзійскія беларусы і ў падзеях па-за штатам.

У правядзеньні фэстываляў, канцэртаў, выставаў было багата цікавостак, неспадзяванак. Прыкладам, трэці беларускі фэстываль адбываўся пад моцным дажджом, праз які давялося істотна скараціць праграму. На адным зь мерапрыемстваў узьніклі прэтэнзіі да беларусаў з боку летувісаў праз выкарыстаньне гербу „Пагоня“.

Спэцыяльна для фэстываляў і выставаў стваралася шмат беларускіх рэпрэзэнтацыйных матэрыялаў: друкаваліся ўлёткі, брашуры, выраблялiся сувэніры, шыліся касьцюмы. У кнізе можна знайсьці шмат імёнаў беларусаў, што былі задзейнічаныя ў фэстывальнай справе. Важным аспэктам тых мерапрыемстваў стала магчымасьць перадачы вопыту ў розных відах традыцыйнага мастацтва ад старэйшага пакаленьня да маладзейшага. Таму ня дзіва, што беларускія канцэрты й выставы ў Нью-Джэрзі ладзяцца дасёньня.

Кніга відавочна задумвалася хутчэй як альбом. І ў ёй сапраўды багата здымкаў, якія не паўтараюцца ў ангельскай і беларускай частках. Што праўда, для паўнавартаснага альбому здымкі ўсё ж выглядаюць часам занадта дробнымі. „Альбомнасьць“ выданьня, напэўна, абумовіла й тое, што тут няма менавіта дасьледнай часткі. Асноўныя сюжэты й аповеды пра мерапрыемствы выглядаюць своеасаблівым калейдаскопам, складзеным з асобных нататак, рэпартажаў з эміграцыйнай і амэрыканскай прэсы, успамінаў удзельнікаў. Здаецца, кнізе не хапае цэласнасьці й аналітычнасьці, каб фэстывальная актыўнасьць як асобны від рэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці паваенных беларусаў у Нью-Джэрзі была бачная ў яе пасьлядоўным гістарычным разьвіцьці, зьменлівасьці формаў і зьместу, а таксама ў кантэксьце агульнага жыцьця суродзічаў у штаце й ЗША наогул. З кнігі не зусім зразумела, чаму тых беларускіх фэстываляў у Нью-Джэрзі было толькі тры, як уплывала на правядзеньне мерапрыемстваў прыналежнасьць беларусаў да розных палітычных плыняў, якім чынам, урэшце, штатныя ўлады падтрымлівалі беларусаў. Напэўна, цікава было б мець больш сыстэматызаванай інфармацыі пра гісторыю канкрэтных сьпеўных і танцавальных калектываў, больш шырокі агляд матэрыяльнае спадчыны, што стваралі амэрыканскія беларусы (ці беларускія амэрыканцы) дзякуючы тым фэстывалям і выставам.

Зрэшты, відавочна, што кніга й не была задуманая ў якасьці менавіта такой дасьледнай працы. Яна мае выразную, як і ў саміх фэстываляў, рэпрэзэнтацыйную ролю: паказаць, засьведчыць, захаваць для гісторыі інфармацыю пра тыя знакавыя беларускія мерапрыемствы, дзякуючы якім Беларусь стала пазнавальнай у Амэрыцы.

*Натальля Гардзіенка*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЭМІГРАЦЫЙНАЯ ТЭМАТЫКА Ў НЕСПЭЦЫЯЛІЗАВАНЫХ ВЫДАНЬНЯХ (2011—2013)

Нягледзячы на пэўную ідэалягічную „ненадзейнасьць“ эміграцыйнай тэматыкі ў сучаснай мэтраполіі, розныя аспэкты гісторыі беларускай прысутнасьці ў тых ці іншых краінах або ў замежжы наогул даволі рэгулярна закранаюцца ў розных выданьнях агульнай тэматыкі. Гэта могуць быць асобныя разьдзелы ці даволі шырокія эміграцыязнаўчыя сюжэты ў дасьледаваньнях больш шырокай праблемы або асобныя артыкулы ў зборніках і пэрыёдыках. Тэматыка і ўзровень гэтых эміграцыйных згадак даволі розныя: ад грунтоўных дасьледаваньняў да звычайнай кампіляцыі.

Ніжэй мы прапануем невялікі агляд некаторых найбольш адметных прыкладаў прысутнасьці сюжэтаў, зьвязаных зь беларускім замежжам, у розных неспэцыялізаваных выданьнях.

Безумоўна, аўдыторыя кніг, наўпрост прысьвечаных эміграцыі, у Беларусі не асабліва шырокая. Адыгрывае ролю й згаданая вышэй ідэалягічная неадпаведнасьць тэмы, і пэўная абыякавасьць мэтрапольнага грамадзтва да праблемаў замежжа наогул. З увагі на тое, зьяўленьне эміграцыязнаўчых тэкстаў у выданьнях больш агульнай скіраванасьці, у зборніках ды пэрыёдыках значна пашырае кола патэнцыйных спажыўцоў інфармацыі пра замежжа. Тэматыка і якасьць падачы тых сюжэтаў наўпрост уплываюць на ўспрыманьне праблемаў дыяспары ў мэтраполіі.

Адной з, бадай, найлепш прадстаўленых у навуковым сэнсе тэмаў у неспэцыялізаваных выданьнях ёсьць эміграцыйнае кнігадрукаваньне. У 2011—2012 гг. выйшлі дзьве важныя кнігі: ***другі том „Гісторыі беларускай кнігі“***, што мае назву ***„Кніжнасць новай Бела-***

***русі (XIX—XXI стст.)“*** (Мінск, 2011), ды навучальны дапаможнік Ларысы Доўнар ***„Гісторыя беларускай кнігі“*** (Мінск, 2012), прызначаны для студэнтаў спэцыяльнасьці „Бібліятэказнаўства і бібліяграфія“. У абодвух выданьнях ёсьць разьдзел з аднолькавай назвай „Выдавецкая дзейнасьць беларускай эміграцыі“, напісаны ўжо згаданай аўтаркай. Пры гэтым і самі тэксты тут маюць няшмат адрозьненьняў: хіба што ў двухтамовіку асобнай часткай пададзеныя пытаньні тэрміналёгіі, гістарыяграфіі й крыніцаў, а таксама больш шырока прадстаўленыя асобныя гістарычныя пэрыяды ды прысутнічаюць табліцы колькасьці кніжнай прадукцыі эміграцыі ў пэўны час ці па пэўнай тэматыцы.

Храналёгія падачы гісторыі кнігадруку на эміграцыі ў згаданых выданьнях аднолькавая: пачынаючы ад міжваеннага часу (1920—1939), асобна вылучаны пэрыяд Другой сусьветнай вайны і далей паваенны час (у навучальным дапаможніку ён дадаткова падзелены на 1945—1991 гг. ды „Выдавецкую дзейнасьць на сучасным этапе“. Фактычныя зьвесткі й фармулёўкі ў тэкстах мала адрозьніваюцца. Часам у двухтамовай „Гісторыі беларускай кнігі“ тэкст аказваецца больш шырокім, чым у навучальным дапаможніку. У апошнім да таго ж адсутнічаюць спасылкі, што зьвязана з характарам выданьня.

У абодвух варыянтах эміграцыйны кнігадрук прысутнічае як асобны аспэкт агульнай беларускай гісторыі кнігадрукаваньня. Згадваюцца адметнасьці пэрыядаў, асноўныя асяродкі й выдавецтвы, тэматыка выданьняў ад 1920-х гадоў да сучаснасьці. Вызначаюцца пэўныя агульныя тэндэнцыі ў разьвіцьці эміграцыйнага друку. Пры гэтым апошні ўспрымаецца як абсалютна самастойны фэномэн, фактычна, без сувязі з кнігадрукаваньнем у самой мэтраполіі, што не заўсёды, асабліва ў даваенны й ваенны пэрыяды, справядліва. Тым ня менш, факталёгія ў тэкстах Ларысы Доўнар прадстаўленая дастаткова шырокая й дакладная, а выдавецкі працэс, як для гэткага агульнага агляду, пададзены адносна поўна. Што праўда, у міжваенны час выпалі з поля зроку дасьледніцы амэрыканскія беларускія выданьні, у паваенны час амаль ня згадваюцца канадыйскія. Аднак наогул навуковы ўзровень падачы эміграцыйных сюжэтаў даволі высокі.

У адрозьненьне ад папярэдніх выданьняў, эміграцыйныя сюжэты ў кнізе ***Максіма Кірчанава „Интеллектуальная история беларуского национализма: Краткий очерк“*** (Смоленск, 2011) менш абгрунтаваныя й горш сыстэматызаваныя, а часьцей нават выпадковыя. Аўтар паставіў сабе даволі амбіцыйную мэту: выявіць і пра-

аналізаваць *„асноўныя ідэі і канцэпцыі, якія зьяўляюцца інтэлектуальнымі (а таксама ідэалягічнымі) каардынатамі сучаснага нацыяналізму ў Беларусі і ў беларускай дыяспары“*[1]. Відавочна, каб вылучыць „асноўныя ідэі й канцэпцыі“, трэба прааналізаваць сур’ёзны пласт крыніцаў. Аднак у дачыненьні да эміграцыі гэта ў аўтара зрабіць не атрымалася. У кнізе сапраўды ёсьць асобная частка (адна з шасьці), якая мае назву „Нацыяналізм беларускай эміграцыі“. У першым разьдзеле гэтай часткі — „Сумна мне, Божа, на чужой старонцы: Выгнаньнікі“ — М. Кірчанаў спрабуе выявіць асноўныя ідэі й тэмы дыскурсу нацыяналізму на эміграцыі. Пры гэтым ён абмяжоўваецца выключна працамі Янкі Філістовіча, Вітаўта Тумаша, Паўла Урбана ды Аўгена Каханоўскага. У якасьці крыніцаў выступаюць публікацыі з францускага часопісу „Моладзь“, які наўрад ці можна лічыць цэнтральным эміграцыйным пэрыёдыкам. Відавочна, аўтар скарыстаўся з выдадзеных асобнай кнігай тэкстаў з часопісу „Моладзь“, хоць пазнакі пра гэта нідзе няма[2]. У якасьці іншых крыніцаў таксама выступаюць некалькі публікацыяў у альманаху „Запісы БІНіМ“ ды асобныя тэксты Вітаўта Тумаша і Аўгена Каханоўскага[3]. Пры гэтым даволі багатая эміграцыйная публіцыстыка, прысьвечаная нацыянальнай гісторыі, культуры, палітыцы, фактычна засталася па-за ўвагай аўтара кнігі. У той час як пэўныя „праграмныя“ артыкулы, дзе фармулявалася нацыянальная ідэя й заданьні эміграцыі, зьмяшчаліся на старонках найбольш уплывовых пэрыёдыкаў, як, прыкладам, газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“, ніводнай згадкі пра гэтыя выданьні ў тэксьце наогул няма. Акрамя працаў Вітаўта Тумаша, прысьвечаных Скарыну (пра якія ідзецца ў кнізе), у яго ёсьць і публікацыі зь яшчэ больш выразнай нацыянальнай ідэяй, прыкладам, „На Захад і Ўсход (Пра беларускую культурную экспансію)“[4] і інш. Дый аўтараў, што разважалі на тэму мінуўшчыны й сучас-

---

[1] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма: Краткий очерк / Под ред. А. Тараса. Смоленск, 2011. С. 8.

[2] Маецца на ўвазе кніга: Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопісу „Моладзь“ (1948—1954). Менск, 2004. — 444 с. М. Кірчанаў не спасылаецца на гэтае выданьне, але ніводнага тэксту з часопісу „Моладзь“, які б ня быў тут апублікаваны, у эміграцыйнай частцы „дасьледаваньня“ ня згадваецца.

[3] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма... С. 62—69.

[4] Брага, Сымон. На Захад і Ўсход (Пра беларускую культурную экспансію) // Запісы БІНіМ. №33. Нью-Ёрк—Менск, 2010. С. 372—412.

насьці беларусаў, на эміграцыі было значна болей, чым пададзена ў разьдзеле. У выніку па-за ўвагай М. Кірчанава застаўся важны аспэкт, які быў асновай нацыянальнага дыскурсу на эміграцыі — наяўнасьць незалежнай дзяржаўнасьці ў выглядзе Беларускай Народнай Рэспублікі, якая разглядалася ня толькі як магчымая, але як рэальная альтэрнатыва БССР. Уласна, менавіта таму традыцыі й ідэя БНР так актыўна зьберагаліся на эміграцыі й выступалі ў якасьці моцнага аб'ядноўчага фактару.

Крыху больш рэпрэзэнтацыйным выглядае другі разьдзел эміграцыйнай часткі, які мае назву „Для несьмяротнай Беларусі": Паэтычнае адлюстраваньне нацыянальнай ідэі". Тут прадстаўленыя імёны эміграцыйных пісьменьнікаў Пётры Сыча, Рыгора Крушыны, Уладзімера Дудзіцкага, Натальлі Арсеньневай, Яна Чыквіна (якога складана назваць эмігрантам), Алеся Салаўя. Аднак за вялікай колькасьцю паэтычных цытатаў (з даволі неахайнымі спасылкамі) не зусім зразумелай аказалася тая канцэптуальная нацыянальная ідэя, якую М. Кірчанаў спрабаваў выявіць у эміграцыйнай паэзіі: ці ў праявах настальгіі, ці ў вобразе чужога, ці ў захаваньні мовы, ці яшчэ ў нечым[5].

Трэці разьдзел тае ж часткі „Верыць у час, калі надыдзе воля": Інтэлектуальная спадчына эміграцыі" мае даволі эклектычны характар. Тут разглядаюцца дачыненьні заходняй дыяспары з мэтраполіяй ад пачатку 1990-х гг. Пры гэтым даводзіцца пра нібыта сур'ёзнае вывучэньне эміграцыйнай спадчыны, нейкае шырокае перавыданьне яе інтэлектуальных здабыткаў, згадваюцца найважнейшыя беларускія навукова-выдавецкія цэнтры на Захадзе: БІНіМ, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане й Англа-Беларускае таварыства. Выснова аўтара ці то да тэксту канкрэтнага разьдзелу, ці да часткі цалкам сьцьвярджае, што *„інтэлектуальная дзейнасьць беларускай эміграцыі наглядна дэманструе магчымасьць далучэньня беларусаў да заходняй культуры, што наўпрост кантрастуе з тымі працэсамі, якія адбываюцца ў сучаснай Беларусі"*[6]. Аднак падставы для гэткай высновы зусім невідавочныя з папярэдняга тэксту. Дый наогул, М. Кірчанаў апэруе выпадковымі прыкладамі й фактамі, бязь веданьня агульнай гісторыі беларускай эміграцыі, а таму сур'ёзна ўспрымаць зробленыя ім высновы немагчыма.

---

[5] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма... С. 69—76.

[6] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма... С. 82.

Акрамя згаданых разьдзелаў эміграцыйныя сюжэты прысутнічаюць і ў іншых частках кнігі. Так, пры разглядзе праблемы Вільні ў нацыянальнай памяці беларусаў згадваецца творчасьць паэта Міхася Кавыля[7]. Пры гэтым па-за ўвагай аўтара застаюцца важныя дыскусіі адносна прыналежнасьці й лёсу Вільні, якія вяліся на эміграцыі. Гэтаксама парадаксальна ў беларускі нацыянальны пантэон прапануецца зь дзеячаў эміграцыі ўвесьці „прэзыдэнтаў эміграцыйнага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі (афіцыйна — старшыні Рады БНР)“: Язэпа Лёсіка (цікава, чаму ён аднесены да дзеячаў эміграцыі), Пётру Крэчэўскага, Васіля Захарку, Міколу Абрамчыка, Вінцэнта Жук-Грышкевіча й Язэпа Сажыча[8]. Чаму менавіта гэтыя асобы маюць увайсьці ў нацыянальны пантэон як прадстаўнікі ад эміграцыі, аўтар не абгрунтоўвае.

Акрамя відавочнай фрагмэнтарнасьці ўяўленьняў М. Кірчанава пра інтэлектуальную спадчыну беларускай эміграцыі ў кнізе сустракаюцца й розныя фактычныя памылкі. Так, Янка Запруднік нарадзіўся ня ў 1929, а ў 1926 г.[9], Згуртаваньне беларусаў сьвету „Бацькаўшчына“ ніколі не выдавала газэты „Голас Радзімы“[10], часопіс „Беларускі сьвет“ у ЗША выдаваўся не ад 1971 г.[11], а ад 1963 г. (зь перапынкам у 1965—1977 гг.) і г. д.

Такім чынам, амбітная мэта, пастаўленая аўтарам „Інтэлектуальнай гісторыі беларускага нацыяналізму“ па выяўленьні асноўных ідэй і канцэпцый нацыянальнага дыскурсу на эміграцыі, не магла быць дасягнутая пры тым узроўні веданьня праблемы, які прадэманстраваў аўтар. Прадстаўленыя ў кнізе зьвесткі аказаліся фрагмэнтарнымі, не заўсёды рэпрэзэнтацыйнымі, а высновы — неабгрунтаванымі й павярхоўнымі. Відавочна, што ў аўтара ёсьць толькі вельмі прыблізныя ўяўленьні пра тое, чым ёсьць інтэлектуальная спадчына эміграцыі. Сама ж кніга М. Кірчанава, у яе эміграцыйным аспэкце, стварае зусім неадпаведную карціну ідэйнай асновы нацыяналізму, трансьлюе пэўныя стэрэатыпы й тым самым хутчэй шкодзіць фармаваньню адэкватнага ўспрыманьня замежных суродзічаў у мэтраполіі.

---

[7] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма… С. 91—92.

[8] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма… С. 102—103.

[9] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма… С. 4.

[10] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма… С. 78.

[11] Кирчанов, М. Интеллектуальная история беларуского национализма… С. 82.

У Маладзечне ў 2012 г. пабачыла сьвет кніга Рыгора Семашкевіча ***„Янка Купала і беларускае адраджэнне“***. Укладзеная краязнаўцам Міхасём Казлоўскім, яна ўяўляе сабою збор навуковай спадчыны навукоўца, празаіка, публіцыста, што паходзіў зь вёскі Дамашы Маладзечанскага раёну. Найбольш грунтоўная праца Рыгора Семашкевіча „Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.)“, у аснову якой пакладзеная кандыдацкая дысэртацыя навукоўца, упершыню была апублікаваная ў 1971 г., але сёньняшні перадрук яе выглядае апраўданым, бо іншага гэткага ж сыстэматызаванага дасьледаваньня згаданай тэматыкі дасюль не зьявілася.

Ці не найбольш распаўсюджаным відам эміграцыйных сюжэтаў у розных выданьнях зьяўляюцца біяграфічныя. Так, прыкладам, у кнізе мастацтвазнаўцы ***Сяргея Харэўскага „Сто твораў XX стагодзьдзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу“*** (Вільня, 2011) можна знайсьці аповеды пра Ільлю Рэпіна, Мсьціслава Дабужынскага, Марка Шагала, Хаіма Суціна, Уладыслава Стрэміньскага, Яна Булгака, Аляксандра Ахола-Вала ды іншых творцаў беларускага паходжаньня, што сталі вядомыя далёка за межамі радзімы. Аповеды пра мастакоў-суродзічаў арганічна ўпісаныя ў кантэкст разьвіцьця ўсяго беларускага мастацтва XX ст. і таму не глядзяцца як нешта асобнае, чужароднае.

Традыцыйна прысутнічаюць эміграцыйныя дзеячы і ў кнігах краязнаўцы ***Сяргея Чыгрына***. Чарговыя зь іх — ***„Такі іх лёс“*** (Мінск, 2012) ды ***„Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны“*** (Мінск, 2013) — уяўляюць сабою новыя зборнікі гістарычна-краязнаўчых і літаратуразнаўчых артыкулаў ды гутарак. Сярод герояў кніг можна знайсьці сьпевака Міхася Забэйду-Суміцкага, Прэзыдэнта Рады БНР Васіля Захарку, навукоўца Аляксандра Чыжэўскага, сьпявачку Яўгенію Чарняўскую-Орсу, сьвятара Яна Пятроўскага ды іншых. У тэкстах краязнаўчага характару можна знайсьці тыя ці іншыя дэталі біяграфіяў эмігрантаў, якіх няма ў іншых крыніцах. Разам з тым, фігуруюць тут і некаторыя спрэчныя моманты. Так, прыкладам, у кнізе „Такі іх лёс“ у жыцьцярысе сьвятара Анатоля Кунцэвіча (літ. псэўданім Анатоль Сумны) месцам яго нараджэньня падаецца Беласточчына, у той жа час у сваёй аўтабіяграфіі дзеяч пазначаў, што нарадзіўся 14 красавіка 1912 г.

у Пінску[12]. Уласнае сьведчаньне сьвятара, пададзенае да царкоўных уладаў у 1949 г., выглядае на дастаткова пераканаўчы дакумэнт.

Эміграцыйныя біяграфічныя матэрыялы прысутнічаюць і ў апошнім ***(пятым) выпуску альманаху „Асоба і час“*** (Мінск, 2013). Акрамя майго тэксту, прысьвечанага мастаку Аляксандру Раманоўскаму, што нарадзіўся ў Віцебску, а загінуў у Сыднэі, тут можна знайсьці два тэксты Лявона Юрэвіча, героямі якіх сталі гісторык Леў Акіншэвіч ды аўтар успамінаў пра часы рэпрэсіяў Пятро Палягошка. Ва ўсіх згаданых матэрыялах зьмешчаныя важныя эпісталярыі. Яны ж склалі аснову й публікацыі Сяргея Макарэвіча, які колькі гадоў ліставаўся зь беларускім пісьменьнікам з Канады Кастусём Акулам. Яшчэ адзін канадыйскі беларус — уладыка Мікалай (Мацукевіч) — стаў героем успамінаў Валянціны Трыгубовіч. Жанчына арганізоўвала прыезд герарха на пачатку 1990-х у Менск, апекавалася ўсёй дэлегацыяй БАПЦ ды пазьней сустракалася зь мітрапалітам у ЗША ды Канадзе. У якасьці дадатку да ўспамінаў у альманаху публікуюцца дзьве казані ўладыкі, а таксама некалькі здымкаў.

Багата розных матэрыялаў да жыцьця й дзейнасьці замежных суродзічаў у ***зборніку памяці Віталя Скалабана „Ісьці на сьвятло лабірынтамі даўніх падзей“*** (Мінск, 2013). Храналёгія эміграцыйных сюжэтаў тут значна больш шырокая. Так, Дзьмітры Матвейчык публікуе матэрыял пра стваральніка Польскага нацыянальнага музэю ў Рапэрсьвілі (Швайцарыя) графа Ўладыслава Плятара, тут жа зьмешчаныя лісты Ігната Дамейкі, яшчэ аднаго вядомага эмігранта. Адразу два аўтары (Лена Глагоўская ды Сяргей Крапівін) прысьвяцілі публікацыі асобе Язэпа (Юзюка) Фарботкі, фатографа, грамадзкага дзеяча, што апошні пэрыяд жыцьця правёў у Лодзі. Лісты паваенных эміграцыйных дзеячаў Міколы Абрамчыка ды Вітаўта Тумаша, дзе, сярод іншага, размова ідзе пра забойства Янкі Купалы, падаў у зборніку Лявон Юрэвіч. У адмысловым маім матэрыяле зьмешчаныя эпісталярыі Юліяны Вітан-Дубейкаўскай з апошняга дзесяцігодзьдзя яе жыцьця ў Нямеччыне. Варта адзначыць, што, насьледуючы Віталю Скалабану, усе прадстаўленыя ў зборніку тэксты падрыхтаваныя вельмі грунтоўна, на высокім навуковым узроўні.

[12] Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 105.

Каб скончыць агляд біяграфічных эміграцыйных сюжэтаў, трэба згадаць яшчэ публікацыі ў літаратурна-мастацкім часопісе ***„Верасень“ (№8 (1). 2013)***. Тут можна знайсьці тэкст Алы Петрушкевіч „Патаемнае“ Наталлі Арсенневай“, які ўвайшоў у адмысловы зборнік тае ж аўтаркі, прысьвечаны паэтцы, а таксама гутарку з канадыйскай беларускай Марыяй Ганько пра яе мужа, вядомага эміграцыйнага дзеяча Міколу Ганько.

Акрамя біяграфічнай тэматыкі ў разнастайных зборніках прысутнічаюць і некаторыя іншыя эміграцыйныя сюжэты. Так, у некалькіх тамах сэрыі ***„Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры“*** зьмяшчаюцца тэксты Лявона Юрэвіча „Збор эміграцыйных перыёдыкаў у Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы“ (Т. 1. Мінск, 2011) ды „Кнігарукапісы Міколы Панькова“ (Т. 2. Мінск, 2012. С. 145—151.).

Пяты Міжнародны кангрэс беларусістаў адбыўся ў 2010 г., аднак матэрыялы гэтага форуму пад назвай ***„Новае слова ў беларусістыцы“*** пабачылі сьвет толькі ў 2012 г. Сярод іх ёсьць і прысьвечаныя эміграцыі. Ларыса Доўнар супольна з Валерам Герасімавым падалі даклад „Кніга беларускага замежжа: вызначэнне асноўных тэндэнцый у кнігавыданні“, Юры Гарбінскі асобна разгледзеў „Рэлігійныя выданьні беларускай дыяспары на Захадзе (1945—2000)“, Сяргей Шабельцаў спыніўся на асаблівасьцях ідэнтычнасьці беларускіх імігрантаў міжваеннага часу ў Аргентыне, Алег Гардзіенка распавёў пра беларускі асяродак у Саўт-Рывэры, Аляксандар Баршчэўскі — пра творчасьць Уладзімера Сядуры-Глыбіннага, а мой тэкст быў прысьвечаны беларускім асяродкам у Аўстраліі й Вялікабрытаніі.

Розныя пэрыядычныя выданьні час ад часу таксама зьмяшчаюць матэрыялы эміграцыязнаўчай тэматыкі. На жаль, уключыць усё ў гэты агляд немагчыма. Адзначым толькі, што ў нумары ***„Беларускага Гістарычнага Агляду“ за сьнежань 2012 г.*** (Том 19. Сшыткі 1—2 (36—37)) апублікаваны зроблены Юрыем Грыбоўскім агляд пяці нумароў „Запісаў БІНіМ“ (№№30—34).

Падсумоўваючы аповед пра эміграцыйныя сюжэты, што зьяўляюцца на старонках неспэцыялізаваных выданьняў, варта заўважыць, што яны, нягледзячы на даволі розны іх узровень ды тэматычную скіраванасьць, тым ня меней, працуюць на паступовае ўключэньне праблема-

тыкі беларускага замежжа ў агульны кантэкст нацыянальнай гісторыі й культуры. І хоць пакуль гэты працэс ідзе даволі павольна, пэрспэктывы ў яго сёньня сапраўды ёсьць, а папулярызацыя розных аспэктаў эміграцыйнай мінуўшчыны й сучаснасьці ў згаданых выданьнях патэнцыйна пашырае кола зацікаўленых у адмысловых эміграцыязнаўчых дасьледаваньнях.

# ВЫСТАВЫ, ПРЫСЬВЕЧАНЫЯ ДУХОЎНАЙ І МАТЭРЫЯЛЬНАЙ СПАДЧЫНЕ ЭМІГРАЦЫІ, У МЕНСКУ

У ліпені 2013 г. у Менску мелі месца тры выставы, зьвязаныя зь беларускай эміграцыяй. Першая зь іх адчынілася 22 ліпеня ў ***Музэі Якуба Коласа*** і была ***прысьвечаная адлюстраваньню творчасьці песьняра ў эміграцыйным друку***. Падрыхтавала выставу ўнучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч. У экспазыцыі былі прадстаўленыя як эміграцыйныя выданьні твораў клясыка беларускай літаратуры, гэтак і пэрыёдыкі, на старонках якіх зьмяшчаліся матэрыялы, прысьвечаныя яму. Наведнікі маглі ўбачыць і прыклады ўспамінаў эміграцыйных дзеячаў пра знаёмства зь Якубам Коласам, некаторыя здымкі. Невялікая выстава стала першай такой за доўгі час ня толькі ў гэтым музэі, але й наогул у Беларусі. Яе адкрыцьцё было прымеркаванае да Шостага Зьезду беларусаў сьвету.

На самім Зьезьдзе 23—24 ліпеня 2013 г. была арганізаваная яшчэ адна выстава, што мела назву ***„У літарах і вобразах: спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе (1940-я — 1990-я гг.)“.*** Ідэя арганізацыі выставы належала дасьледніку зь Нью-Ёрку Лявону Юрэвічу. Экспазыцыя складалася з выяваў разнастайных прыкладаў матэрыяльнай і друкаванай спадчыны эміграцыі. Паштоўкі, маркі, візытоўкі, значкі, абвесткі й іншае, разьмеркаваныя па адпаведных пэрыядах, выдатна сьведчылі пра багацьце варыянтаў рэпрэзэнтацыі беларусаў і Беларусі на Захадзе. У адмыслова падрыхтаваным да выставы буклеце было зазначана:

*„Апынуўшыся на Захадзе ў сярэдзіне XX ст., эмігранты пакідалі ў краінах сталага жыцця вельмі розныя пазнакі па сабе: ад будынкаў цэркваў, сцягоў на галоўных плошчах гарадоў ды мястэчак у Дні беларускай незалежнасці да кветкоў на нацыянальныя імпрэзы, прынагодных паштовак, марак, значкаў... Гэтыя апошнія сталі натураль-*

*най часткай эміграцыйнага жыцця ў Брытаніі і Францыі, Канадзе і ЗША, Аргентыне і Аўстраліі. Пабытавыя дробязі, яны неслі ў сабе неад'емныя знакі беларускасці, у мове, сімвалах, змесце, самім духу і выконвалі важную рэпрэзентацыйную функцыю. Яны нібыта пазначалі прастору беларускай прысутнасці, паведамляючы і чужым, і сваім — тут ёсць беларусы.*

*Выявы рэчаў, якія Вы ўбачыце на гэтай перасоўнай выставе, для беларуса на эміграцыі былі часткай яго штодзённасці. Звычайна іх не збіралі, не захоўвалі. Яны мелі практычны сэнс для інфармавання, для адзначэння нейкіх падзеяў грамадскага ці асабістага жыцця, і пасля выкарыстання часта гублялі вартасць для спажыўца. Таму сабраныя і захаваныя ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) і Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны (Лондан) тыя былыя аднадзёнкі набылі значэнне гістарычных сведчанняў розных этапаў эміграцыйнага жыцця.*




Буклет выставы, ладжанай на Шостым Зьезьдзе беларусаў сьвету 23—24 ліпеня 2013 г.

*Прадстаўленыя на выставе вобразы рэчаў — часта зусім не выбітныя прыклады выяўленчага ці дэкаратыўнага мастацтва. Гэта частка звычайнага жыцця эмігрантаў, дзе кожная рэч мела найперш утылітарнае значэнне. Але пры гэтым яны на побытавым узроўні сведчылі пра наяўнасць нечага адмысловага беларускага і ўжо такім чынам замацоўвалі Беларусь ва ўяўленні заходняга грамадства...“*

25 ліпеня 2013 г. у ***Інстытуце культуры Беларусі*** адчынілася яшчэ адна эміграцыйная выстава, што мела назву ***„Беларусы ў***

***сьвеце“***. Яна складалася з экспанатаў, што некалі зьберагаліся ў цэнтры імя Ф. Скарыны, а цяпер захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музэі. На выставе можна было ўбачыць як кніжныя выданьні эмігрантаў і прысьвечаныя замежжу, гэтак і асобныя рэчы, нацыянальныя касьцюмы, карціны, фотаздымкі. Адмыслова для выставы суполка беларускіх мастакоў Балтыі „Маю гонар“ перадала частку карцінаў сваіх удзельнікаў. Выстава стала першым крокам на шляху аднаўленьня сталага музэю, прысьвечанага беларусам сьвету.

*Натальля Гардзіенка*

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Адной з найважнейшых мэтаў БІНіМу ёсьць праца па вывучэньні й папулярызацыі інтэлектуальнай спадчыны эміграцыі. Дзеля гэтага былі заснаваныя адмысловыя кніжныя сэрыі самога Інстытуту „Беларускія паэты й пісьменьнікі“, „Бібліяграфічная сэрыя“, „Гісторыя эміграцыі“. Цягам апошняга дзесяцігодзьдзя БІНіМ супрацоўнічае таксама з выдавецкімі сэрыямі „Бібліятэка часопісу „Беларускі Гістарычны Агляд“, „Бібліятэка Бацькаўшчыны“, „Галасы Айчыны“, „Беларуская мэмуарная бібліятэка“. Як вынік, ужо ў XXI стагодзьдза пабачылі сьвет больш за два дзясяткі кніг з удзелам Інстытуту, акрамя таго, штогод выдаецца альманах „Запісы БІНіМ“.

Уся гэтая праца вядзецца супольнымі намаганьнямі як прадстаўнікоў эміграцыі, так і навукоўцаў з мэтраполіі. І дзеля адзначэньня апошніх, што працуюць звычайна без ганарараў, на энтузіязьме, дзеля падтрымкі іх дзейнасьці па вывучэньні й папулярызацыі эміграцыйнай спадчыны ў 2013 г. Беларускі інстытут навукі й мастацтва ажыцьцявіў першы Акт Удзячнасьці. Ён скіраваны да прафэсійнага гісторыка, сумленнага дасьледніка, які грунтоўна й якасна падрыхтаваў да друку цягам апошніх гадоў тры вялікія тэксты ўспамінаў эміграцыйных дзеячаў Юрыя Сабалеўскага, Аляксандра Стагановіча й Барыса Данілюка (тэксты двух апошніх аўтараў пабачылі сьвет асобнымі кнігамі), а таксама дапамагаў у камэнтаваньні іншых тэкстаў для альманаху „Запісы БІНіМ“. Ён заўсёды робіць сваю працу сумленна, на высокім прафэсійным узроўні й бескарысьліва. Таму менавіта гісторыку Аляксандру Пашкевічу быў уручаны сёлета памятны знак з эмблемай Інстытуту й грашовая падзяка.

Выказваньне гэткім чынам Удзячнасьці БІНіМу мае стацца штогадовым і скіроўвацца на тых асобаў, што найбольш дапамагаюць Інстытуту ў справе вяртаньня ў мэтраполію інтэлектуальнай спадчыны эміграцыі.

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Сьвятлана Буель** (нар. 1982), архівіст. У 2004 г. скончыла гістарычны факультэт БДУ па спэцыяльнасьці „гісторык-архівіст“. Працавала ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў аддзеле навуковага апісаньня дакумэнтаў асабістага паходжаньня.

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка дзьвюх манаграфіяў і некалькіх дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Адказны рэдактар „Запісаў БІНіМ“.

**Валер Герасімаў** (нар. 1955), бібліятэкар-бібліёграф, публіцыст. Дасьледуе праблемы гісторыі нацыянальнай кнігі, беларускай вайсковай гісторыі, беларускага замежжа. Сярод публікацый — першыя беларускія бібліяграфічныя паказальнікі па дзейнасьці нефармальных суполак моладзі (1989) і літаратуры, перададзенай з спэцсховаў (1992). Суаўтар калектыўных прац „Забытая слава: Кароткі агляд вайсковай гісторыі Беларусі“ (1992, 1998), „150 пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі“ (2002). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў МГА ЗБС „Бацькаўшчына“, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.

**Тамаш Грыб** (1895—1938), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. Навучаўся ў Пецярбурскім псыханэўралягічным інстытуце. Дэлегат Першага Ўсебеларускага кангрэсу. Адзін з аўтараў Устаўных грамат БНР, сябра Рады БНР і яе Выканкаму ў 1918 г., займаў пасады міністра земляробства й міністра ўнутраных справаў. Уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. Адзін зь лідэраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Ад 1922 г. жыў у Чэхіі. Скончыў філязофскі факультэт Карлава ўнівэрсытэту (1928). Абараніў доктарскую дысэртацыю на тэму „Пытаньне народу і нацыі“. Стварыў у Празе Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны. Актыўна працаваў у суполцы Беларускага студэнцкага саюзу. Удзельнічаў у працы Беларускай Рады ў Празе. Ад 1930 г. працаваў у Славянскай бібліятэцы. У 1934—1938 гг. — загадчык беларускага замежнага архіву

ў Празе. Друкаваў артыкулы на тэмы гісторыі, грамадзкай думкі, нацыянальна-палітычнага жыцьця Беларусі ў часопісах „Студэнцкая думка“, „Золак“, „Iskry Skaryny“. Перакладаў публіцыстыку з рускай і чэскай моваў. Складаў бібліяграфію беларусазнаўства.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык. Доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-ўсходняй Эўропы. Аўтар трох манаграфіяў і больш як 130 навуковых артыкулаў у Польшчы, Беларусі, Нямеччыне, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіне.

**Кастусь Езавітаў** (1893—1946), вайсковы й грамадзка-палітычны дзеяч. У Першую сусьветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную й арганізацыйную работу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намесьнікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу ў сьнежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камэндант Менску. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі. У 1921—1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднаньне ў Рызе. У часе Другой сусьветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Ўсебеларускага кангрэсу быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзелу БЦР. Затрыманы СМЕРШ у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай вэрсіі, памёр падчас сьледзтва ад сухотаў і дыстрафіі, паводле іншых зьвестак, расстраляны.

**Эрык Екабсонс,** гісторык, прафэсар Латвійскага ўнівэрсытэту (Рыга). Займаецца вайскова-гістарычнай праблематыкай Латвіі й рэгіёну ў першай палове XX ст., а таксама гісторыяй нацыянальных меншасьцяў у Латвіі. Аўтар 17 манаграфіяў і 180 навуковых артыкулаў. Сябра Гістарычнай камісіі пры Прэзыдэнце Латвійскай Рэспублікі. Экспэрт Навуковай рады Латвіі й Навуковай рады дасьледаваньняў Румыніі. Адзначаны Залатым крыжам заслугаў Рэспублікі Польшча.

**Лявон Карповіч** (нар. 1944), былы настаўнік матэматыкі, публіцыст, краязнавец. Жыве ў мястэчку Луна Мастоўскага раёну. Сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту, сябра грамадзкага аб'яднаньня „Фонд імя Льва Сапегі“.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. — старшыня БІНІМу. Аўтар працы „Беларусы ў ЗША“ (1993 г.; ангельскамоўнае выданьне — 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліягра-

фічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацыяў, у т.л. артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Ганна Кісьліцына** (нар. 1967), крытык, літаратуразнаўца, кандыдат філялягічных навук. Скончыла БДУ. Старшы навуковы супрацоўнік аддзелу тэорыі й гісторыі літаратуры Інстытуту мовы й літаратуры імя Якуба Коласа й Янкі Купалы НАНБ. Вядзе калёнку ў газэце „Зьвязда“. Аўтар кніг „Алесь Разанаў: праблема мастацкай сьвядомасьці“ (1997), „Лірычная мініятура як жанр беларускай літаратуры“ (2000), *„Blonde attack“* (2003), „Новая літаратурная сытуацыя: зьмена культурнай парадыгмы“ (2006), „Чалавек постмадэрну ў сучаснай беларускай літаратуры“ (2010). Ляўрэат літаратурнай прэміі „Залатая літара“ (2004) за зборнік „12+1“ (разам з А. Івашчанкам, А. Хадановічам), прэміі Зоры Кіпель (2007) за дасьледаваньні ў галіне беларусістыкі.

**Людміла Краскоўская** (1904—1999), славацкі гісторык, археоляг, пэдагог, дачка беларускага дзеяча Івана Краскоўскага. На пачатку 1920-х гг. вучылася ў Віленскай і Дзьвінскай беларускіх гімназіях. Ад 1923 г. вучылася на філязофскім факультэце Карлава ўнівэрсытэту ў Празе. У 1931 г. абараніла дысэртацыю па тэме „Заходнія ўплывы ў архітэктуры X—XIII стагодзьдзяў ва ўсходніх славянаў“. Адначасова ў 1924—1927 гг. вучылася на гістарычна-літаратурным аддзяленьні Ўкраінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя Міхайлы Драгаманава ў Празе. Працавала ў археалягічным аддзеле Нацыянальнага музэю ў Празе (1929—1931). Ад 1931 г. — у Славацкім краязнаўчым музэі ў Браціславе (цяпер Славацкі нацыянальны музэй). Аўтарка кніг і каля 300 артыкулаў у галіне археалёгіі й нумізматыкі.

**Ігар Лабацэвіч** (нар. 1973), сьвятар, архівіст. У 1995 г. скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Ад 1996 г. студыяваў багаслоўе ў Лёндане, жывучы пры Беларускай каталіцкай місіі. Атрымаў пантыфікальную ступень бакаляўра багаслоўя Лёвэнскага каталіцкага ўнівэрсытэту (*STB, cum laude*). У 2006 г. рукапакладзены на сьвятара грэцкага абраду Каталіцкае царквы. Ад 2007 г. жыве й працуе ў г. Мінэапаліс (штат Мінэсота, ЗША). Працягвае вучыцца на бібліятэчным факультэце ўнівэрсытэту Сьв. Кацярыны ў г. Сэнт Пол (Мінэсота), спэцыялізуецца ў архіўнай справе.

**Яна Славіна** (нар. 1984), пэдагог. Завочна вучыцца ў Расейскім дзяржаўным гуманітарным унівэрсытэце на факультэце архіўнай справы. Цікавіцца праблемамі беларускай эміграцыі. Жыве ў Падмаскоўі.

**Мікола Трус** (нар. 1969), літаратуразнаўца, пэдагог. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, стажыраваўся ва Ўнівэрсытэце

Я. А. Коменскага ў Браціславе (Славакія). У 1996—2011 гг. працаваў у БДУ. У 1993—2000 гг. працаваў у Літаратурным музэі Максіма Багдановіча, у тым ліку на пасадзе дырэктара (1998—2000). У 2000 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю на тэму „Славенскі мадэрн“ і беларуская паэзія „нашаніўскага“ пэрыяду“. Ад 2011 г. — загадчык катэдры беларускай філялёгіі Беларускага дзяржаўнага тэхналягічнага ўнівэрсытэту. Займаецца параўнальным літаратуразнаўствам, дасьледуе гісторыю літаратураў і культураў славянскіх народаў, беларускую літаратуру ў агульнаславянскім кантэксьце. Аўтар кнігі „Янка Купала ў Славакіі“ (2012), навуковы рэдактар, складальнік (разам зь Я. Саламевічам), адзін з аўтараў энцыкляпэдыі „Максім Багдановіч“ (2011). Намесьнік старшыні Таварыства дружбы „Беларусь — Славакія“.

**Сяргей Харэўскі** (нар. 1967), мастак, літаратар, гісторык мастацтва, культуроляг, мастацтвазнаўца. Вучыўся ў Менскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава (1982—1987); у Інстытуце жывапісу, скульптуры й архітэктуры імя І. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР (1988—1992), асьпірантуры Беларускай акадэміі мастацтваў (1994—1997). У 1986—1991 гг. працаваў у Інстытуце „Белспэцпраектрэстаўрацыя“. У 1993—2000 гг. выкладаў у Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце. Выкладае ў Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце (Вільня). Аўтар кніг і артыкулаў па гісторыі мастацтва.

**Ціхан Чарнякевіч** (нар. 1986), літаратуразнаўца. Навучаўся на факультэце беларускай філялёгіі й культуры Белдзяржпэдунівэрсытэту, у магістратуры й асьпірантуры пры ім. Укладальнік і камэнтатар крытычна-архіўнага зборніка „Максім Багдановіч: вядомы і невядомы“ (2011), выбраных твораў Лявона Савёнка „Творы“ (2012, разам з Л. Юрэвічам). Жыве ў Радашкавічах.

**Макс Шчур** (нар. 1977), паэт, перакладнік, эсэіст. Вучыўся ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. Ад 1998 г. жыве ў Празе. Аўтар п’есы „Сьмерць тырана“ (Менск, 1997), зборнікаў вершаў „Амфітэатар“ (Прага—Гданьск, 1999), „Амальгама“ (Менск, 2010), зборніка апавяданьняў „Ліст, знойдзены на папялішчы“ (Познань, 2011), шэрагу літаратуразнаўчых эсэ. Ляўрэат прэміі Янкі Юхнаўца (2004), гішпаніст (Premio Iberoamericano, 2003). Перакладае з чэскай, гішпанскай, ангельскай моваў. Цікавіцца тэорыяй інтэрпрэтацыі, філязофіяй мастацтва, дачыненьнямі культуры й палітыкі.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі „Запісаў“.

# SUMMARY

**Natalla HARDZIYENKA. Belarusans abroad: the current situation, problems, and prospects** (page 9)

The text of the report presented at the Sixth Congress of the Belarusans of the World (July 2013) which centers its attention on the contemporary tendencies in the life of Belarusan diasporas in various countries, peculiarities of their relations with the mother country, and the condition of emigration studies in Belarus.

**Vitaut KIPIEL. Emigration / immigration studies as a part of the history of the Belarusan nation and state** (page 16)

Thoughts about the current situation and prospects of studying emigration / immigration in Belarus; the basic directions and tasks of this research.

### Topics of this issue: Belarusan studies collections

### Texts

**Natalla HARDZIYENKA. Material heritage of emigration: basic collections** (page 20)

A review of different kinds of collections of the material heritage of emigration: badges and medals, postcards, commemorative cards, envelopes, business cards, autographs, IDs, headed note-papers and seals, advertizing-informational and representational materials, pieces of art, things, etc. It is the first attempt of ordering the information about the basic categories of subjects of memorial culture of emigration and the prospects of its studying.

**Lavon KARPOVIČ. Belarusan postage stamps: from the sources to emigration** (page 85)

An illustrated story about the history of Belarusan postage stamps with an emphasis on those published outside Belarus, including the stamps issued by the emigrational community.

## Archives

**Lavon JUREVIČ. Collection of photographs by Louise Boyd at the University of Wisconsin** (page 132)

A description of the collection of about 300 photos made by American photographer Louise Boyd during her travel to Belarusan Polesia in the 1930s.The photos are kept at the University of Wisconsin.

**Mikoła TRUS. History of the Kraskouskis** (page 163)

A story about the family tree and features of the biography of Belarusan public figure Ivan Kraskouski (1880—1955).

**Mikoła TRUS. Pages of Ludmiła Kraskouskaja's life and her archives** (page 172)

The history of the life and activity of Belarusan researcher in Slovakia Ludmiła Kraskouskaja (1904—1999), the information on her archives, some of which happened to belong to the author of this text.

**Ludmiła KRASKOUSKAJA. From the earliest times (a fragment from her memoirs)** (page 181)

A Belarusan translation of the first part of Ludmiła Kraskouskaja's memoirs dedicated to her childhood in Vilnia [Vilnius]. A story about her parents and life before World War I.

**From Ludmiła Kraskouskaja's archives** (page 189)

A publication of letters of the late 1920s – early 1930s from Ludmiła Kraskouskaja's archive. Among them, there are letters of Uładzimier Żyłka, Michaś Kabierac, Lubou Viernikouskaja, Anton Łuckievič, and Źmicier Darašenka.

**Jerzy GRZYBOWSKI, Eric EKABSONS. Kastuś Jezavitau and his „Berlin" diary** (page 216)

The biography of well-known military and public figure Kastuś Jezavitau (1893—1946) with a description of a part of his archive found recently in the Hoover Institution (Stanford University, USA).

**Kastuś JEZAVITAU. Diary (1944—1945)** (page 234)

A publication of Kastuś Jezavitau's diary depicting the last months of his life in Germany, before Berlin was seized by SMERSH. The diary was found among Kastuś Jezavitau's papers in the Hoover Institution.

**Ihar ŁABACEVIČ. Belarusan archives in the State of Minnesota** (page 244)

A description of Belarusan collections of Bahdan Andrusišyn, Rajisa Žuk-Hryškievič, Vitaut Kipiel, Vasil Puntus, and Vańłau Panucevič, which are kept in the Emigration History Studies Center at the University of Minnesota.

**Natalla HARDZIYENKA. Belarusan materials in the Alexander Dallin Foundation in the Hoover archive** (page 272)

A story about Belarusan materials that are kept in the Alexander Dallin Foundation in the Hoover Institutionat Stanford University. Among them, there are interviews and memoirs of fugitives collected by the author during her work in the Hoover project studying interviews of fugitives.

**Śviatłana BUJEL. Dzmitry Kasmovič's archive (1909—1991)** (page280)

A description of a collection of documents of emigrational public and military figure Dzmitry Kasmovič, which are kept in the International Public Society „Belarusans' World Association «Baćkauščyna»" („Homeland").

**Stanisłau Stankievič's „internal" review** (page 293)

A publication of a review by Stanisłau Stankievič, editor-in-chief of the Munich-based newspaper „Baćkauščyna" („Homeland"), of Janka Limanouski's text „Janka Kupała. Life and creativity", which was written as a preface to the book of Janka Kupała's works.

## Future books

**Tamaš HRYB. Religious affairs in Belarus** (page 297)

A publication of an article by Tamaš Hryb, which is dedicated to Belarusans' religious problems. The article was published for the first time in the Prague-based magazine „Iskry Skaryny" („Sparks of Skaryna") in 1934.

## Editions

**„Na čužynie" („In a strange land")** (page 314)

A story about the magazine called „Na čužynie" („In a strange land"), the only one issue of which was published in March 1920 in Riga. There are texts from this edition, which are dedicated to the life of Belarusans in Latvia, Lithuania, Estonia, and Finland.

## Bibliographies

**Kastuś Jezavitau's bibliography** (page 334)

A list of publications by Kastuś Jezavitau: books, poems, articles, translations, etc., as well as texts dedicated to him.

## Publications

**Lavon JUREVIČ. A story about a „miastečka" [market town] by Jurka Vićbič** (page 354)

Aliterary analysis of JurkaVićbič's story „Lshono Gaboo Biyrushalaim"; an attempt to correlate it to Maksim Harecki's story „Two Souls".

**Lavon JUREVIČ. Perception of Uładzimir Karatkievič's creativity: Stanisłau Stankievič vs. Arnold McMillin** (page 368)

A comparison of the ways Uładzimir Karatkievič's creativity is perceived by emigrational critic Stanisłau Stankievič and British researcher Arnold McMillin.

**Lavon JUREVIČ. Obituary: the topic of belonging to Belarus and the Belarusan idea** (page 380)

The analysis of emigrants' obituaries from the point of view of how the topic of belonging to Belarus and the Belarusan idea is revealed in them. There are examples of obituaries from the newspapers „Baćkauščyna" and „Biełarus".

## Anniversaries

**Siarhiej CHAREUSKI. A dreamer from near Vołma (Chaïm Soutine)** (page 448)

The life and activity of Chaïm Soutine, artist from Belarus, a story dedicated to the anniversary of his birth.

**To the 110$^{th}$anniversary of Mikoła Abramčyk** (page 456)

Illustrative materials that have to do with the 110$^{th}$ anniversary of the birth of the President of the Belarusan People's Republic Mikoła Abramčyk (1903—1970).

**To the 110$^{th}$ anniversary of Lavon Rydleuski (from the archive of the Belarusan Institute of Arts and Sciences)** (page 458)

A publication of a letter of emigrational figure Lavon Rydleuski (1903—1953), chairperson of the World Association of Belarusan Emigration, d/d July 1950.

**To the 110th anniversary of Vincent Žuk-Hryškievič (from the archive of the Belarusan Institute of Arts and Sciences)** (page 462)

A publication of letters of Vincent Žuk-Hryškievič in 1969 to Vitaut Tumaš and other figures concerning the writing of a book dedicated to an anniversary of the Belarusan People's Republic.

**From the archives of Natalla Arsieńnieva (to the 100th anniversary of her birth)** (page 468)

A series of materials based on the archives of Natalla Arsieńnieva, which are kept in the archive of the Belarusan Institute of Arts and Sciences. Among them, there is correspondence with various figures abroad and in Belarus.

**Lavon JUREVIČ. „A man from Mahilou" (to the 100th anniversary of Masiej Siadniou)** (page 489)

A story about contacts of emigrational figures Masiej Siadniou, Vitaut Tumaš, and Jurka Vićbič, which is based on their letters.

## Bookshelf

**Natalla HARDZIYENKA. Emigration in the „History of Belarus"** (page 501)

The analysis of the information on Belarusan emigration presented in the academic publication „History of Belarus" in 6 volumes. / Editorial board: M. Kaściuk (editor-in-chief), etc. V-s 1—6. Minsk: Ekaperspektyva, 2000—2011.

**Natalla HARDZIYENKA. About the difficulty of studying Belarusan emigration during the interwar period** (page 521)

A review of the book: *Koval, V. Interrelation of Belarusan and Ukrainian diasporas during the interwar period. Minsk: National Institute for Higher Education, 2012. — 314 p.*

**Maks ŠČUR. Belarusanization: between the Belarusan People's Republic and Gulag** (page 533)

A review of the book: *Marková, Alena. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu. Iluze nebo realita? Praha: Nakladatelství Lidové noviny, 2012. — 261 s. (A. Marková. Soviet Belarusanization as a path to the nation. Illusion or reality?)*

**Maks ŠČUR. Belarusan field of experiments** (page 540)
A review of the book: *České vědomí Bělarusi / Czech comprehension of Belarus. Ed. Věra Lendělová, Jiří Marvan, Michal Vašíček. Praha: Karolinum, 2013. — 428 s.*

**Maks ŠČUR. In search of Belarus' economic identity** (page 543)
A review of the book: *Dudko, Volha. Economic Transformation in Belarus. Saarbrüken: Lambert Academic Publishing, 2013. — 190 p.*

**Cichan ČARNIAKIEVIČ. Letter to Lavon Jurevič** (page 552)
Reflections on Lavon Jurevič's book „Many-voiced epistolarium: History of people and ideas in emigration in letters“ (Minsk, 2012)

**Hanna KIŚLICYNA. Literary criticism as a journey** (page 555)
A review of the book: *Jurevič, L. Genres. Minsk: Knihazbor, 2013. — 528 p.*

**Vitaut KIPIEL, Natalla HARDZIYENKA, Jana SŁAVINA. Book Review** (page 561)
A review of books dedicated to the topic of emigration published in 2011—2013.

**Natalla HARDZIYENKA. The topic of emigration in non-specialized editions** (page 595)
A review of emigration studies materials published in non-specialized monographs, collections, and periodicals.

## Chronicle

**The exhibitions dedicated to the spiritual and material heritage of emigration in Minsk** (page 604)
The information on three exhibitions dedicated to the emigrational heritage that took place in Minsk in July 2013.

**Gratitude of the Belarusan Institute of Arts and Sciences** (page 607)

The words of gratitude of the Belarusan Institute of Arts and Sciences in 2013 to support Alaksandr Paškievič, the historian who helped to prepare and publish the memoirs of emigrational figures.

## The Book in „Zapisy“

**Kastuś JEZAVITAU. „Belarusans in Latvia and Lithuania“**

**Valer HIERASIMAU. Kastuś Jezavitau's two books**

The preface to the two reprinted works by Kastuś Jezavitau.

**Kastuś JEZAVITAU. Belarusans in Latvia**

A re-edition of the book „Belarusans in Latvia“ that was published for the first time in Riga in 1927 and can be considered one of the first Belarusan emigration studies materials.

**Kastuś JEZAVITAU. Belarusans in Lithuania**

A re-edition of the book „Belarusans in Lithuania“ that was published for the first time in Riga in 1932.

*Кніга ў „Запісах“*

*Кастусь Езавітаў*

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ Й ЛІТВЕ

**Нью-Ёрк—Менск**

**2013**

*На эміграцыі было створана багата тэкстаў, актуальных і вартых увагі сёньня, тых, што патрабуюць „вяртаньня“ ў сучасную інтэлектуальную прастору. Іх выданьне асобнымі кнігамі часта вымагае шмат матэрыяльных і арганізацыйных высілкаў, а таму робіцца малаверагодным. Каб хоць часткова вырашыць гэтую праблему, мы ўводзім у „Запісах БІНіМ“ новую рубрыку — „Кніга ў „Запісах“. Тут мы плянуем зьмяшчаць эміграцыйныя тэксты, якія з розных прычынаў сёньня ня могуць пабачыць сьвет як асобныя кнігі. Займаючы ў альманаху спэцыяльную частку, яны могуць быць выдрукаваныя і асобна ад астатніх тэкстаў, калі будзе патрэба. Такім чынам мы намагаемся інтэнсіфікаваць працэс вяртаньня ў Беларусь інтэлектуальнай спадчыны эміграцыі.*

*У якасьці першых публікацыяў у новай рубрыцы выбраныя дзьве працы Кастуся Езавітава „Беларусы ў Латвіі“ (Рыга 1927) і „Беларусы ў Літве“ (Рыга, 1932). Выбар аўтара абумоўлены найперш сёлетнім ягоным юбілеем, які, на жаль, не асабліва адзначаўся ў Беларусі. Пры гэтым найчасьцей у беларускай інтэлектуальнай прасторы Езавітаў выступае як дзеяч вайсковы або дыплямат. Аднак у міжваенны й ваенны пэрыяд у Латвіі ён выступаў і ў іншых, магчыма, больш важных для гісторыі й сучаснасьці іпастасях: ён быў актыўным выдаўцом і аўтарам фактычна першых беларускіх эміграцыязнаўчых прац. У выдадзеным ім яшчэ ў 1920 г. нумары часопісу „На чужыне“ ўпершыню ў беларускім друку асьвятляліся праблемы жыцьця беларусаў на чужыне ня толькі ў выглядзе хронікі, але й з пазыцыі фармуляваньня адметных задачаў для замежных суайчыньнікаў, вывучэньня асаблівасьцяў і патрэбаў нацыянальнай працы ў розных краінах. Абраныя для публікацыі ў сёлетняй новай рубрыцы працы Кастуся Езавітава можна лічыць першымі дасьледаваньнямі беларускага замежжа. У іх прыведзены ўнікальны фактычны матэрыял, а таксама вымалёўваецца пэўная канцэпцыя вывучэньня беларускіх асяродкаў. Пры гэтым самі кнігі зьяўляюцца бібліяграфічнай рэдкасьцю.*

*Пры публікацыі ў тэкстах захоўваліся некаторыя асаблівасьці мовы арыгіналаў, а таксама ўсе аўтарскія камэнтары. З тэхнічных прычынаў не ўдалося зьмясьціць усе багатыя ілюстрацыі з кнігі „Беларусы ў Латвіі“, што самі па сабе зьяўляюцца важнымі гістарычнымі крыніцамі. Зацікаўленых можна скіраваць да арыгінальнага выданьня, асобнікі якога можна знайсьці ў Прэзыдэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, у Дзяржаўнай навуковай бібліятэцы ды Нацыя-*

*нальным архіве Рэспублікі Беларусь (Фонд Кастуся Езавітава). У адрозьненьне ад традыцыйных публікацыяў у „Запісах“, тут не былі зробленыя камэнтары з пункту гледжаньня сучаснасьці. Гэтую працу мы пакідаем для адмыслоўцаў і асобнага кніжнага выданьня. Наша сёньняшняя задача — зрабіць „Беларусаў у Латвіі“ й „Беларусаў у Літве“ больш даступнымі для дасьледнікаў, а Кастуся Езавітава паказаць, магчыма, з крыху новага ракурсу.*

*Рэдакцыя*

***Валер Герасімаў***
*Менск*

# ДЗЬВЕ КНІГІ КАСТУСЯ ЕЗАВІТАВА

Зьмясьціць больш-менш аб'ёмную частку творчай спадчыны Кастуся Езавітава ў адным навуковым зборніку немагчыма. Выданьне збору ягоных прац, ёсьць спадзеў, адбудзецца ў найбліжэйшай будучыні. Пададзеныя ніжэй два ягоныя беларусазнаўчыя творы прысьвечаныя гісторыі беларусаў у Латвіі і Літве. Галоўная іх каштоўнасьць — у досьведзе таго своеасаблівага сацыяльнага экспэрымэнту, які паставіла рэчаіснасьць над даваеннымі беларускімі супольнасьцямі ў суседніх краінах, калі аўтахтонныя беларусы Латгаліі й Віленскага краю ды палітычная эміграцыя дзеячаў БНР у асобах Кастуся Езавітава, Вацлава Ластоўскага, Сяргея Сахарава, Яна Харлапа, Максіма Гарэцкага, Паўліны Мядзёлкі і шэрагу іншых іхных ідэёвых паплечнікаў злучыліся ў сваіх марах, памкненьнях і практычных дзеях нацыянальнага адраджэньня.

Вяртаньне ў сучаснасьць дзьвюх друкаваных цаглінак інтэлектуальнага скарбу беларусаў, кніг Кастуся Езавітава „Беларусы ў Латвіі“ й „Беларусы ў Літве“, — выдатная нагода паразважаць і пра аўтара, і пра ягоныя працы.

„Беларусы ў Латвіі“ (Рыга: Выданьне Беларускага выдавецтва ў Латвіі, 1927) — паліграфічна сьціплае выданьне. Патрыятычны, выразна нацыянальна скіраваны, насычаны інфармацыяй зьмест. Аўтар — першы вайсковы міністар БНР, лідэр беларускага супольніцтва ў міжваеннай Латвіі, палітык і грамадзкі дзеяч, дзяржаўнік, гісторык, беларусазнаўца, краязнаўца, паэт, публіцыст.

Ня мае сэнсу падрабязна пераказваць зьмест „Беларусаў у Латвіі“. Рэзюмуем толькі, што, на нашую думку, гэта сур'ёзная навуковая манаграфія, у якой адлюстраваная палітычная гісторыя Беларусі й Латвіі, колькасны склад і сацыяльны стан, культурна-асьветная праца й грамадзкае жыцьцё беларусаў у першай Латвійскай Рэспубліцы.

Кожная старонка — інфармацыя, эмоцыі, асацыяцыі. Штосьці агульназразумелае, да чагосьці можна дапяць толькі ў кантэксьце часу. А нешта так і застанецца назаўсёды таямніцай для нашчадкаў.

Абрываецца выданьне на палове слова на 116-й старонцы ва ўсіх вядомых нам асобніках. Чаму? Ды таму, што праблема фінансаваньня, як цяпер кажуць, выдавецкіх беларускіх праектаў актуальная й дасёньня.

Вось — тытульны аркуш. На ім сінім атрамантам ад рукі запіс *„Інв. №612“*. Загадкі няма: асобнік з калекцыі Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, куды ў 1946 г. пасьля гібелі Кастуся Езавітава ў засьценках менскай „амэрыканкі“ трапіла частка ягонага ўнікальнага кнігазбору. Нумар „спэцсхоўны“, гэта значыць, да пачатку 1990-х гг. кніга была схаваная ад чытацкага вока.

На адвароце тытульнага аркуша: *„склад выданьня ў „Беларускім выдавецтве ў Латвіі“, Рыга, Гертрудзенская вуліца 80, кватэра 4“*. Тут жа — *„друкавана ў тыпаграфіі Г. Іге, Латвія, Гертрудзенская 80“*. І кватэра, і выдавецтва, і кніжны склад, і друкарня — усё па адным адрасе. Таксама знаёмая й звыклая для беларускага друку й кніжнага распаўсюду карціна.

Кніга добра ілюстраваная мапамі, табліцамі й фотаздымкамі. „Картаграма“ расьсяленьня беларусаў *„у розных сучасных дзяржавах“* просьценькая графічна, але вельмі дакладна адлюстроўвае, што Беласточчына, Віленшчына й Смаленшчына зьяўляюцца этнаграфічнымі беларускімі тэрыторыямі. Табліцы нацыянальнага складу латгальскіх паветаў Латвіі ў перапісах насельніцтва 1920 і 1925 гг. асабліва каштоўныя, таму што не сакрэт: у міжваенны пэрыяд, калі дзяржавы Заходняй Эўропы адна за адной адыходзілі ад дэмакратыі ў бок дыктатуры, лёгіка дзяржаўнага выжываньня маленькіх балтыйскіх краінаў патрабавала ад іх урадаў узмацненьня працэсаў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі дзяржаватворчых этнасаў і, адпаведна, пэўнага ўціску іншых. У латвійскім выпадку гэта наўпрост адбівалася на выніках перапісаў і афіцыйнай колькасьці беларусаў у іх, пра што й сьведчыць Езавітаў.

На фатаздымках — партрэт Кастуся Езавітава на вядомым сфабрыкаваным тагачаснай латвійскай уладай Беларускім судовым працэсе 1925 г. (беларусам ставілася ў віну стварэньне *„злачыннай арганізацыі з мэтай далучэньня Латгаліі да Беларускай Рэспублікі“*), партрэт вядомага латыскага паэта й грамадзкага дзеяча Яна Райніса. Менавіта ён заўсёды абараняў беларусаў ад несправядлівых часам нападак з боку ўладаў і рэакцыйнай часткі латвійскага грамадзтва. Ёсьць і фатаздымак Яна Райніса сярод вучняў і настаўнікаў Дзьвінскай беларускай гімназіі.

Першыя курсы беларусазнаўства для настаўнікаў Дзьвінскага павету ўлетку 1921 г., першая беларуская тэатральная група ў Дзьвінску й першы беларускі драматычны гурток пры Краслаўскім аддзеле Культурна-асьветнага таварыства „Бацькаўшчына“, першы склад Беларускага аддзела пры Міністэрстве асьветы Латвіі, настаўнікі й курсанты Дзяржаўных беларускіх аднагадовых настаўніцкіх курсаў у 1921—1922 навучальным годзе, будынак беларускай гімназіі ў Дзьвінску — перад намі паўстае сапраўдны фоталетапіс беларускага жыцьця ў Латвіі. Калі лічыць, што за сто гадоў зьмяняюцца тры пакаленьні, дык на фатаздымках вучняў беларускіх школ у Латвіі сёньняшнія ўнукі і праўнукі могуць пабачыць адно сваіх дзядоў і прадзедаў. Гэта цяпер каштоўная інфармацыя для асабістых радаводаў, добрая мода на складаньне якіх заваёўвае ўсё новых прыхільнікаў.

Выданьне было разьлічанае на масавага чытача, што перадвызначыла папулярны стыль падачы матэрыялу. Але фактаграфія захоўвае сваё значэньне й сёньня. Узяць, да прыкладу, прыведзеную Езавітавым тагачасную лічбу колькасьці беларусаў у сьвеце — каля 12 млн чалавек. І сёньня, на жаль, нас болей ня стала: дзевяць мільёнаў — на Бацькаўшчыне, тры-чатыры — за мяжой. Некаторыя лічбы ўдакладніліся. Так, Езавітаў піша, што *„друкаваньне кніжок на Беларусі зьявілася ўжо ў 1525 годзе“*. Сёньня мы ведаем, што Скарына выдаў першую кнігу ў Вільні крыху раней — у 1522 г.

З увагі на зьмест „Беларусаў у Латвіі“, ня маюць асаблівай рацыі сьцьвярджэньні, што Езавітаў праз усё жыцьцё быў упартым антысаветчыкам. Выглядае, у любой складанай палітычнай сытуацыі ён імкнуўся знайсьці неабходны кампраміс, быў фігурай на беларускім палітычным і грамадзкім полі хутчэй аб’яднальнай, чым разьяднальнай. Езавітаў шчыра даводзіць, што *„па цэламу шэрагу прычын... першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі ня змог утрымаць уладу на Беларусі у сваіх руках і змушаны быў эміграваць за межы“*. І тут жа з аптымізмам: *„У сучасны момант ідэя беларускае дзяржаўнасьці ўжо зрабілася яснай для ўсіх. Беларусы, як асобны народ, маюць безумоўнае права мець сваю беларускую дзяржаву. І беларусы сёнека ўжо маюць гэту сваю беларускую дзяржаву ў форме Радавай Беларусі“*. Аднаго ня мог тады ў 1920-х гг. прадбачыць аўтар: што БССР апынецца хімэрай, якая з часам ня толькі завядзе ў тупік Беларусь і беларусаў, але й яго самога зьвядзе зь белага сьвету.

„Беларусы ў Літве“ (Рыга: Выданьне Беларускага выдавецтва ў Латвіі, 1932). Шаснаццаць старонак тэксту ў арыгінальнай вокладцы

зялёнага колеру. Разгляданы намі асобнік гэтага выданьня таксама з калекцыі Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь: на тытуле — спэцсхоўны нумар „674“ і наўскасяк, чырвоным алавіком, надпіс ад рукі: *„Пр[иказ ] Глав[лита] Латв[ийской] ССР № 120 от 9/XII-54 г.“*. Нічога звышардынарнага. Яшчэ адзін напамін пра чарговы праскрыпцыйны сьпіс савецкіх галоўлітаўскіх цэнзараў. Аўтар даведзены да сьмерці, а ягоны твор асуджаны на пажыцьцёвае зьняволеньне.

На адвароце тытульнага аркуша зьмешчаны сьпіс *„складоў выданьня“*, што значыць, месцаў распаўсюду беларускай літаратуры. Вядома, што Кастусь Езавітаў гэтаму аспэкту дзейнасьці надаваў вялікую ўвагу і вёў актыўнае ліставаньне зь беларускамі асяродкамі ў іншых краінах. Акрамя адрасоў у Рызе, Дзьвінску й Люцыне пазначаныя Беларуская кнігарня В. Манкевіча ў Вільні, Беларускі аддзел пры кнігарні С. Якавюка ў Коўне, Хаўрус студэнтаў-беларусаў у Нямеччыне, Беларускія нацыянальныя камітэты ў Празе й Чыкага.

Гэтая праца Езавітава носіць выразна публіцыстычны характар. Як і ў папярэдняй, тут уражваюць лічбы-маніпуляцыі з вынікамі перапісаў беларускага насельніцтва. 1897 г., на тэрыторыі пазьнейшай Літоўскай Рэспублікі, — 70 300 беларусаў, 1923 г. — 4 400. Розьніца ў дваццаць разоў, зразумела, выклікае сумненьні.

Аднак асноўны пасыл аўтара скіраваны на пераадоленьне спрэчак і рознагалосьсяў паміж рознымі беларускімі групоўкамі й аб'яднаньнямі (што, дарэчы, актуальна для нас і сёньня). Галоўную прычыну пэўнага заняпаду беларускага грамадзкага й культурніцкага жыцьця ў Літоўскай Рэспубліцы Кастусь Езавітаў бачыць у адрыве беларускай інтэлігенцыі ад „сялянска-работніцкай масы“. Тут ён робіць закіды ў бок Вацлава Ластоўскага і Клаўдзія Дуж-Душэўскага, якія, на думку аўтара, занадта засяродзіліся на выдавецкай справе, пакінуўшы ўбаку арганізацыйную працу ў асяродзьдзі беларускай нацыянальнай меншасьці. Справядліва? Відаць, і так, і не. Вядома, да прыкладу, што дванаццаць нумароў таго ж часопіса „Крывіч“ (Коўна, 1923—1927), які рэдагавалі якраз Ластоўскі й Дуж-Душэўскі, ды „Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі“ (Коўна, 1926) за аўтарствам Ластоўскага адыгралі значную ролю ў гартаваньні новай хвалі нацыянальных адраджэнцаў у Беларусі ў 1980-х гг. Аднак мае рацыю й Езавітаў: *„Жывое беларускае слова, беларускія тэатральныя пастаноўкі, беларуская песьня, кніга й школа, — зробяць сваю працу і павернуць і замацуюць за беларускім народам тых, каго ён пачаў ужо губляць у Літве“*, — цяжка не пагадзіцца з гэтым.

Абедзьве згаданыя кнігі Кастуся Езавітава маюць безумоўную цікавасьць ня толькі для сучасных дасьледнікаў, але й для палітычных і грамадзкіх дзеячаў, бо сьведчаць пра адметнасьці працы па фармаваньні й разьвіцьцы нацыянальнай ідэнтычнасьці. У гэтым іх асаблівая актуальнасьць для сёньняшняй Беларусі.

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ

## I.

## Некалькі слоў аб беларусах наагул

Беларусы паходзяць ад вядомага зь сівой старадаўнасьці славянскага племя, якое называла сябе крывічамі, што адзначае „крыўны“, „родны“, „свой па крыві“, „радзіміч“, „тутэйшы“ па мейсцу паходжаньня.

Каб ведаць зь якой мяйсцовасьці паходзіць той ці іншы крывіч, яны, апрача агульнага назову крывічоў, дужа часта называлі сябе яшчэ і па сваёй мяйсцовасьці. Гэтак, тыя, што жылі на рэчцы Полаце, звалі сябе палачанамі, тыя, што жылі ўздоўж рэчцы Віцьбы, зваліся віцяблянамі, тыя, што жылі ў дрыгвяных балотах сучаснай Віленшчыны і Меншчыны, звалі сябе дрыгвічамі, шмат было і іншых назоваў, якія часткай захаваліся да гэтага часу, а ў значнай большасьці загінулі тады, калі ўлада пачала разьбіваць беларускія землі на паветы і воласьці, надаючы гэтым паветам і валасьцём розныя свае, новыя, дужа часта зусім ненародныя найменьня. Цяперака беларусы, каб паказаць зь якой яны мяйсцовасьці паходзяць, называюць сябе па губэрні, павету і воласьці.

Усяго беларусаў на сьвеце каля 12 000 000 чалавек. Пераважная большасьць з гэтае лічбы жыве на сваей бацькаўшчыне, Беларусі, якая ахоплівае аграмадны прастор у 300 000 квадратовых кілёмэтраў[1]) і

---

[1] Калі параўнаць прастор Беларусі з прасторамі розных іншых дзяржаў Эўропы, дык убачым, што Беларусь можа быць дзяржавай не такой ужо маленькай, як мо’ каму здаецца. У Эўропе дзяржавы маюць гэткія абшары ў квадратовых кілёмэтрах: Францыя — 552 900 кв. км, Нямеччына — 469 000, Англія — 312 000, Італія — 311 000, Румынія (разам з захопленаю ёй Бесарабіяй) — 296 000, Югаславія — 246 000, Чэха-Славакія — 154 000, Баўгарыя:— 114 000, Партугалія — 92 000, Венгрыя — 88 000, Аўстрыя — 78 000, Латвія — 66 000, Літва — 50 000, Данія — 44 400, Эстонія — 44 000,⇨

складаецца з былых расійскіх губэрняў: Менскай, Магілёўскай, Гарадзенскай і частак губэрняў Віцебскай, Віленскай, Смаленскай, Чарнігаўскай і Пскоўскай (Апочка і Вялікія Лукі). Каля 600 000 чалавек з вышэй-паказанай лічбы беларусаў самахоць выселіліся да Усясьветнай вайны ў Амэрыку і Сібір, каб атрымаць тамака кавалак зямлі, або працу, а яшчэ больш беларусаў было прымусова выселена зь Беларусі царскай уладай у часе вайны. У 1915 г. блізка што каля 1 500 000 беларускіх сялян было сагнана са сваіх гаспадарак у Гарадзеншчыне, Меншчыне ды Віленшчыне і накіравана у Туркестан, у Сібір і на Мурман. Частка гэтых апошніх загінула ў новым, цяжкім для беларусаў клімаце, частка ўжо павярнулася дахаты, а каля траціны гэтых гарамыкаў асталося на новых сваіх сялібах.

Беларусы, як толькі памятае іх гісторыя, заўсёды мёлі сваю дзяржаўнасьць, хаця-ж не заўсёды ўсе часткі Беларусі былі аб'еднаны каля аднаго нацыянальна-дзяржаўнага цэнтру. У будове свайго нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця беларусам вельмі шкодзіла тое, што беларуская зямля ляжыць пасярэдзіне Эўропы на вялікіх водных шляхох: з паўдня на паўноч з Чорнага мора ў Балтыцкае (Дняпро—Дзьвіна), і з захаду на ўсход (Дзьвіна—Волга, Нёман—Прыпяць—Дняпро—Волга). На Беларусі-ж знаходзіцца і знамянітая „Аршанска-Віцебская Брама", праз якую ідзе сухі шлях з Захаду на Усход. Да мінулага стагодзьдзя ні праз шырокі Дняпро і ні праз мнагаводную Дзьвіну не было нідзе ніводнага масту, а таму, каб вялікаму натоўпу людзей (войску, перасяленцам) перайсьці з Усходняй Эўропы у Заходнюю, або наадварот, трэба было заўсёды ісьці празь Беларусь міма Воршы, дзе Дняпро і Дзьвіна падыходзяць адзін да аднаго і далей разыходзяцца на захад і поўдзень.

Дзякуючы гэтым водным і сухім шляхом Беларусь заўсёды была мейсцам вялікіх бояк паміж рознымі народамі. У шматлічных курганох, валатоўках і могільніках ляжаць на беларускай зямлі і варагі, і татары, і маскоўцы, і шведы, і немцы, і палякі, і французы, і шмат іншых народаў. Немаль усе старыя гарады беларускія аж некалькі разоў паліліся ворагамі. Напрыклад, Віцебск быў спалены дашчэнту каля 15 разоў, і кожны раз адбудовываўся нанова[2].

---

⇨ Швэйцарыя — 41 000, Галяндыя — 34 000, Бельгія —30 000, Альбанія — 26 000, а ёсьць дзяржавы і яшчэ меншыя.

[2] Апошні раз Віцебск быў спалены па загаду маскоўскага цара Пятра I. У часе гэтага пажару было спалена некалькі тысячаў прыватных будынкаў і 22 царквы.




**Картаграма 1-я. Разсяленьне беларусаў у рожных сучасных дзяржавах.**

Нягледзячы на неспакойныя і цяжкія варункі нацыянальна-дзяржаўнага жыцьця Беларусі, беларуская культура заўсёды стаяла на высокай ступені. Даволі сказаць, што друкаваньне кніжак на Беларусі зьявілася ўжо у 1525 г., г.ё. праз 85 гадоў пасьля таго, як Гутэнбэрг прыдумаў кнігадрук і выпусьціў каля 1440 г. сваю першую друкаваную кнігу. У Маскоўшчыне кнігадрук зьявіўся пазьней за Беларусь на паўстагодзьдзя, а таму маскоўцы, якія цяперака часта-густа ганьбяць беларусаў, самі чэрпалі культуру зь беларускіх крыніц і доўгі час выхоўваліся ў ей, атрымліваючы зь Беларусі кнігі. Наколькі высока стаяла беларуская культурнасьць відаць і з таго, што беларуская Біблія Ф. Скарыны паявілася трэцяя ў сьвеце (першая — нямецкая, другая — чэская), а беларускі Статут законаў і да гэтага часу лічыцца адным зь лепшых.

Два народы, палякі з заходу і маскоўцы з усходу, увесь час рабілі напады на Беларусь, дамагаючыся падпарадкаваць яе сваім уплывам. Маскоўцам пашанцавала больш, чым палякам, і яны гадоў 150 трымалі беларусаў у сваіх руках. Аднак ні прымусы, ні забарона беларускіх

кніжак, газэт, казаньняў у касьцёле і царкве, ні арышты, суды і ссылкі ў Сібір беларускіх дзеячоў і паэтаў ня здолелі зьнішчыць беларускага народу і не пагасілі ў ім імкненьня да сваёй нацыянальнай культуры і дзяржаўнасьці. Наадварот, уціскі і гвалт яшчэ больш зьядналі беларускі народ і выклікалі ў ім магутны нацыянальна-адраджэнчы рух.

Пры першай завірухе на Усходзе Эўропы, калі Маскоўшчына крыху аслабела, а Польшча яшчэ не ўзмацнілася, Беларусь склікала ў сьнежню 1917 г. свой устаноўчы сойм — Першы Ўсебеларускі Кангрэс — які абвесьціў Беларусь рэспублікай у фэдэрацыі з Масковіяй, Украінай і іншымі старонкамі былой Расеі, а затым 25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціла Беларусь незалежнай дзяржавай.

Гэтае абвешчаньне Беларусі незалежнай было раптоўнай неспадзяванкай для старых ворагаў Беларусі — польска-маскоўскіх шавіністых. Яны даводзілі, што беларуская дзяржаўнасьць ёсьць штучная зьява, зробленая толькі жменькай беларускае інтэлігэнцыі, і што беларускі народ не жадае мець сваёй нацыянальнай дзяржавы.

Аднак, жыцьцё паказала, што палякі і маскоўцы гавораць няпраўду. Калі, па цэламу шэрагу прычын, аб якіх тутака няма мейсца тлумачыць, першы Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі ня змог утрымаць уладу на Беларусі ў сваіх руках і змушаны быў эміграваць за-межы, дык беларускія сяляне і рабочыя 1 студзеня 1919 г. абвесьцілі новы урад, урад Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Гэты Ўрад таксама не адразу ўмацаваўся, і ў яго было шмат няўдачаў і зьменаў, але беларускія працоўныя массы прыйшлі яму на дапамогу і ўпартым змаганьнем здолелі ўтрымаць штандар Беларускае Рэспублікі.

Савецкая (Радавая) Беларусь яшчэ ня здолела аб'яднаць усіх беларускіх зямель — траціна Беларусі яшчэ захоплена палякамі і каля траціны ўваходзіць у склад РСФСР — але нацыянальна-культурныя і дзяржаўна-тэрытарыяльныя дасягненьні Радавай Беларусі за 8 апошніх гадоў аказаліся настолькі значнымі, што нават эміграцыйны Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі пастанавіў спыніць свае далейшае існаваньне і працу па-за-межамі Беларусі і ў канцы 1925 г. павярнуўся ў Менск.

У сучасны момант ідэя беларускае дзяржаўнасьці ўжо зрабілася яснай для усіх. Беларусы як асобны народ маюць безумоўнае права мець сваю беларускую дзяржаву. І беларусы сёнека ўжо маюць гэтую сваю дзяржаву ў форме Радавай Беларусі.

Усё менш ідзе спрэчак і аб беларускай мове. Пасьля таго, як у Радавай Беларусі адчынілася 4 вышэйшыя беларускія школы, некалькі дзясяткаў розных тэхнікумаў і больш 4 000 пачатковых школ зь беларус-

кай мовай выкладаньня, пасьля таго, як усе ўстановы пачалі карыстацца беларускай мовай у сваіх афіцыяльных паперах — спрачацца аб патрэбе беларускае мовы ўжо позна. Беларуская мова ўжо заваявала сабе права на дзяржаўную мову і зьяўляецца цяперака такой жа дзяржаўна-патрэбнай мовай, як і расійская, і польская, і нямецкая, і француская, і іншыя мовы.

Тое, што ў Заходняй Беларусі, часова акупаванай Польшчаю, пануе страшэнны ўціск усяго беларускага, тое, што польская буржуазія і ейныя папіхачы з абозу, так званае, „польскае дэмакратыі" шалёна змагаюцца зь беларускім нацыянальна-адраджэнчым рухам і спрабуюць перашкаджаць яму ўсякімі гвалтоўнымі ўчынкамі — ужо не спыніць беларускага адраджэньня на многапакутных абшарах Заходняй Беларусі. Як гэта ня дзіва, але ў аканчальным выніку польскія зьдзекі толькі дапамагаюць нацыянальнаму самаўсьведамленьню беларускіх масаў, і нават беларусаў-каталікоў, якія былі схілены раней да сяброўства з Польшчай, пераканалі цяперака ў тым, што Беларусі з панска-абшарніцкай Польшчай не па дарозе. А гэта, безумоўна, прывядзе да таго, што Польшча доўга ўтрымаць пад сваей уладай Заходняю Беларусь ня зможа.

## II.

## Агульныя ўвагі аб Латвіі

Беларусы і латышы — адвечныя суседзі. Дзень, калі яны ўпершыню спаткаліся і пазнаёміліся, хаваецца ў глыбіні сівых вякоў. З архэолёгічных данных і гістарычных дакумэнтаў вядома, што ўжо тысячу гадоў таму назад, у IX, X і далейшых стагодзьдзях, беларусы і латышы былі добра знаёмы адзін з адным і вялі паміж сабой ажыўлённы гандаль, карыстаючыся ракой Дзьвіной як натуральным і вельмі добрым шляхам зносін.

Полацкія, себежскія ды апочэцкія крывічы-беларусы былі першым славянскім народам, зь якім пазнаёміліся латыскія плямёны. Праз беларусаў і ў беларускіх гарадох пазнаёміліся потым латышы і з іншымі славянскімі плямёнамі Ўсходняе Эўропы. Цікава адзначыць, што, пад уплывам знаёмства і зносін зь беларусамі, латышы пачалі ўсіх усходніх славян называць па імені крывічоў-беларусаў „крэвамі" (krievi).




Картаграма 2-я. Адміністрацыйны падзел Латвійскае Рэспублікі.

У Рыскім мястовым архіве да гэтага часу ў значнай лічбе захаваліся старадаўнія граматы беларускіх князёў з Полацку, Віцебску і Смаленску, граматы Полацкага праваслаўнага біскупа, якому былі падпарадкаваны праваслаўныя парафіі ў Латвіі, а таксама і розныя гандлёвыя ўмовы паміж беларусамі і Рыгай. З гэтых грамат і ўмоў можам даволі выразна ўявіць сябе ўзаемаадносіны абодвух народаў, беларускага і латыскага. Як і заўсёды паміж блізкімі суседзямі, не абыходзілася справа бяз спрэчак і боек, але выразна адчуваецца, што абедзьве стараны імкнуліся да добрасуседзкага жыцьця ў добрым ладзе і ўмелі даходзіць да згоды і сяброўства, ідучы на спатканьне ўзаемным інтарэсам.

Узаемныя эканамічныя інтарэсы беларускага і латыскага народаў насоўвалі іх да самага цеснага зьбліжэньня. Дзьвіна, зусім натуральна злучаючы іх, была агульнай калыскай і маткай. Пры нармальным ходзе гістарычных падзей усе данныя былі за тое, каб моцна зьсябраваць гэтыя два народы на груньце дзяржаўным і культурным. Аднак, староньнія сілы, дзяржавы і народы (немцы, швэды, маскоўцы і палякі) перашкодзілі нармальнаму ходу гістарычных імкненьняў абодвух народаў і ўцягнулі іх на некалькі стагодзьдзяў у чуждыя латышам і беларусам палітычныя камбінацыі.

Сучасная незалежная Латвійская Дэмакратычная Рэспубліка, паўстаўшая пасьля Ўсясьветнае вайны 1914—1918 гг., ахоплівае тэрыторыю

ў 65 791,6 квадратовых кілёмэтраў, з насяленьнем, згодна самых апошніх данных, у 1 857 004 чалавек[3].

На поўнач Латвія мяжуецца з Эстоніяй, на паўночным-усходзе стыкаецца зь землямі пскавічоў, на ўсход і поўдзень ляжаць шырокія крывіцка-беларускія абшары, а на захадзе ідзе мяжа зь Літвой.

Тэрыторыя і жыхарства Латвіі падзелены паміж чатырмя складовымі яе часткамі, зь якіх каждая мае свой старадаўні краёва-плямённы назоў: Відзэме (Ліфляндыя), Курзэме (Курляндыя), Зэмгале (Зэмгалія) і Латгале (Латгалія). Сталіца Латвіі — Рыга — увабрала ў сябе нямаль адну пятую частку усяго жыхарства Рэспублікі, а таму выдзелена ў асобную акругу.

Дзякуючы таму, што ў гістарычных варунках мінулага, пералічаныя часткі Латвіі былі адарваны адна ад адной і вялі сваё асобнае жыцьцё, паміж імі ў сучаснасьці ёсьць даволі значная розьніца. Асабліва адрозьніваецца ад іншых частак Латвіі Латгальская краіна, жыхарства якой у пераважнай большасьці складаецца з каталікоў, у той час, як у трох іншых краінах большасьць належыць да пратэстантаў. Адрозьнівае Латгалію ад рэшты Латвіі і латгальская мова, а таксама і заканадаўства, і эканамічныя варункі жыцьця, і, нават, самы быт жыхарства яе, якое да гэтага часу ўсё яшчэ жыве вялікімі вёскамі, у той час, як уся рэшта Латвіі здаўна падзелена на хутары.

Падзел тэрыторыі і жыхарства Латвіі паміж рознымі яе краінамі, лічбу жыхарства на квадратовы кілёмэтр у кожнай краіне, а таксама і прырост жыхарства за апошнія гады — найлепш прасачыць па ніжэйдрукуемай табліцы.

Як відаць з табліцы, Латгалія зьяўляецца найбольш густа засялёнай часткай Латвіі. Тутака пануе войстры зямельны крызіс, шмат малазямельных і безьзямельных. Шпарка павялічваючыся, жыхарства Латгаліі не разсосваецца па гарадох, як гэта мы бачымо ў Ліфлядыі, Курляндыі і Зэмгаліі, бо латгальскае жыхарства ў падаўляючай большасьці — непісьменнае і ня ведае мовы латышоў-балтаў. Лішка жыхарства астаецца тутака-ж на мейсцы ў Латгаліі і толькі на вясну і лета адходзе на сэзонную чорнарабочую працу ў іншыя часткі Латвіі, наймаючыся ў батракі, пастухі, землякопы, дрэварубы і інш.

Латвія вельмі пацярпела ад вайсковых падзей і эвакуацыі, а таму сучасная лічба жыхарства ў ей ня толькі значна меншая за лічбу даваенную, але нават меншая за тую лічбу, якая была 30 год таму назад у

[3] Лічба ўзята на 1 студзеня 1926 г., згодна данных Латвійскага статыстычнага штогодніка за 1925 г. (Valsts statistiskā pārvalde. Latvijas statistiskā gada grāmata 1925. Sestais izdevums. Rigā, 1926).

| АКРУГІ | Абшар у квадратовых кілёмэтрах | Лічба жыхарства | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Згодна Ўселатвійскага перапісу | | На 1 студзеня 1926 г. | | | |
| | | 14 чэрвеня 1920 г. | 10 лютага 1925 г. | Мужчын | Жанчын | РАЗАМ | На 1 квадр. кілём. |
| м. Рыга | 204,6 | 188 662 | 337 699 | 150 805 | 187 619 | 338 424 | 1 654,1 |
| Ліфляндыя | 23 076,2 | 409 606 | 404 834 | 188 358 | 217 377 | 405 735 | 17,6 |
| Курляндыя | 13 209,7 | 272 360 | 286 650 | 133 393 | 154 979 | 288 372 | 21,4 |
| Зэмгалія | 13 621,3 | 228 153 | 275 940 | 130 180 | 147 457 | 277 637 | 20,3 |
| Латгалія | 15 679,6 | 497 350 | 539 682 | 263 147 | 283 689 | 546 836 | 34,9 |
| РАЗАМ | 65 791,6 | 1 596 131 | 1 844 805 | 865 883 | 991 121 | 1 857 004 | 28,2 |

Табліца 1. Насельніцтва Латвіі па асобных яе краінах

| АКРУГІ | Лічба жыхароў | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1897 г. | 1914 г. | 1920 г. | 1925 г. | На 1 студз. 1926 г. |
| Ліфляндыя разам з Рыгай | 753 730 | 1 107 600 | 594 017 | 742 533 | 744 159 |
| Курляндыя | 339 845 | 410 200 | 282 453 | 286 650 | 288 372 |
| Зэмгалія | 334 189 | 388 100 | 222 311 | 275 940 | 277 637 |
| Латгалія | 501 623 | 646 100 | 497 350 | 539 682 | 546 836 |
| РАЗАМ: | 1 929 387 | 2 552 000 | 1 596 131 | 1 844 805 | 1 857 004 |

Табліца 2. Параўнаўчая лічба насельніцтва Латвіі, згодна перапісаў

часе перапісу 1897 г. Страты ў лічбе жыхарства можам сабе ўявіць з гэткіх данных.

Да Усясьветнай вайны Латвія належала да краін зь вельмі разьвітой прамысловасьцю. У Рызе, Лібаве, Мітаве, Дзьвінску і ў шэрагу больш дробных гарадоў было многа фабрык і заводаў, на якіх знаходзілі сабе працу безьзямельныя элемэнты латвійскае вёскі, асабліваж з Латгаліі. У 1910 г. Латвія мела 782 прамысловыя прадпрыемствы з агульным лікам 93 343 працаўнікоў. Добрыя гавані ў Рызе, Віндаве і Лібаве прыцягвалі да сябе шмат грузаў з заходняэўрапейскіх дзяржаваў, а таксама зь Беларусі, Маскоўшчыны і Літвы. Гарады багацелі і шпарка расьлі.

У сучасны момант у прамысловасьці і гандлю пануе цяжкі застой. Даўнейшыя вялікія фабрыкі і заводы не працуюць — стварыліся новыя дробныя прадпрыемствы, але, як гэта відаць з табліцы 4, яны ахопліваюць толькі палову даваеннае лічбы працаўнікоў. Ажыўленьне ўносіцца, галоўным чынам, праз павялічэньне транзыту паміж Эўропай і СССР.

Аднак, нягледзячы на застой, гарады і мястэчкі Латвіі ўсё-ж-ткі перапоўнены, бо зямля ня можа заняць усіх працоўных рук. Па гарадох і мястэчках жыве больш траціны ўсяго жыхарства, а ў Ліфляндыі і Курляндыі — больш паловы. Выключэньнем зьяўляецца толькі Латгалія, насяленьне якой задыхаецца ад безьзямельля, але ня мае ходу ў горад, бо ня ведае мовы латышоў-балтаў, каб працаваць у прадпрыемствах Рыгі і іншых латыскіх гарадох, а ў гарадох Латгаліі фабрыкі і заводы не працуюць. Пустыя аграмадныя гмахі, у якіх калісь кіпела жыцьцё, цяперака гаспадары прадаюць на злом. У горадзе Дзьвінску, напрыклад, цэлы шэраг фабрык і вялікі цагляных будынкаў разабраны на цэглы і прададзены ў Рыгу. Гэты стан рэчаў добра ілюструюць ніжэй зьмяшчаемыя лічбы.

З табліцы 3 бачым, што Латгалія зьяўляецца нейкай вялізарнейшай вёскай. Народу ў гарадох жыве мала, а воласьці вельмі вялікія па абшару і па лічбе жыхарства.

Нацыянальны склад жыхарства Латвійскае Рэспублікі даволі пёстры. Асноўную массу складаюць латышы, але значная частка, каля чвэрці ўсяго насяленьня, складаецца з жыхарства іншых нацыянальнасьцяў, так званых нацыянальных меншасьцяў. Дзеля таго, што з трох перапісаў — 10 лютага 1897 г., 14 чэрвеня 1920 г. і 10 лютага 1925 г. — атрымаліся аб нацыянальным складзе жыхарства розныя данныя, мы тутака даём вынікі ўсіх трох перапісаў для параўнаньня.

| АКРУГІ | Лічба: | | Агульная лічба жыхароў у гарадох і мястэчках | Лічба валасьцей | Агульная лічба жыхароў у валасьцёх | Сярэдняя лічба жыхарства на 1 валасьць | Лічба: | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гарадоў | Мястэчак | | | | | Паліцэйскіх вучасткаў | Міравых судоў |
| Рыга.......... | 1 | - | 337 699 | - | - | - | 15 | 13 |
| Ліфляндыя... | 11 | 10 | 57 575 | 232 | 347 259 | 1 497 | 14 | 15 |
| Курляндыя... | 12 | 1 | 102 881 | 104 | 183 769 | 1 767 | 17 | 12 |
| Зэмгалія...... | 10 | 1 | 60 035 | 124 | 215 905 | 1 741 | 13 | 11 |
| Латгалія...... | 6 | 5 | 77 968 | 65 | 461 714 | 7 103 | 24 | 22 |
| Ува ўсей Латвіі | 40 | 17 | 636 158 | 525 | 1 208 647 | 2 302 | 83 | 73 |

Табліца 3. Лічбы гарадзкога, мястэчковага і вясковага насельніцтва ў Латвіі на 1 студзеня 1926 г.

| АКРУГІ | Лічба прадпрыемстваў | Лічба працаўнікоў | Агульная лічба жыхароў на 1.I.1926 | Працэнт працуючых у прамысловасьці |
|---|---|---|---|---|
| Рыга | 1 100 | 29 476 | 338 424 | 8,7 |
| Ліфляндыя | 727 | 6 248 | 405 735 | 1,5 |
| Курляндыя | 425 | 7 828 | 288 372 | 2,4 |
| Зэмгалія | 339 | 3 782 | 577 637 | 1,4 |
| Латгалія | 248 | 2 571 | 546 836 | 0,4 |
| РАЗАМ | 2 839 | 49 905 | 1 857 004 | 2,6 |

Табліца 4. Лічба прадпрыемстваў і працаўнікоу ў Jлатвіі на 1 студзеня 1926 г.

| Нацыянальнасьць: | Лічэбныя данныя згодна перапісаў: | | |
|---|---|---|---|
| | 10 лютага 1897 г. | 14 чэрвеня 1920 г. | 10 лютага 1925 г. |
| Латышы | 1 316 169 | 1 161 404 | 1 354 126 |
| Маскоўцы | 152 681 | 124 746 | 193 648 |
| Беларусы | 81 986 | 75 630 | 38 010 |
| Немцы | 136 552 | 58 113 | 70 964 |
| Жыды | 119 569 | 79 744 | 95 675 |
| Палякі | 62 700 | 54 567 | 51 143 |
| Літвіны | 25 315 | 25 588 | 23 192 |
| Эстонцы | 17 700 | 8 769 | 7 893 |
| Іншыя | 6 486 | 3 841 | 7 612 |
| Невядомае нацыянальнасьці... | 1 349 | 3 829 | 2 542 |
| РАЗАМ | 1 929 387 | 1 596 131 | 1 844 805 |

Табліца 5. Нацыянальны склад Латвіі, згодна трох перапісаў

Да лічбаў, паказаных у табліцы 5, трэба зрабіць дзе-якія вельмі важныя ўвагі, засьцярогі і зазначэньні, бо вочавістая супярэчнасьць у паказаньні, напрыклад, лічбы беларусаў павінна наводзіць нас на ўсялякія развагі, але аб гэтым больш падрабязна будзе гутарка далей.

## III.

## Лічба беларусаў у Латвіі

Беларусаў у Латвіі даволі многа. У адзнаку ад іншых нацыянальных меншасьцяў Латвіі — немцаў, жыдоў, маскоўцау і палякаў — беларусы ў Латвіі зьяўляюцца не староньнім элемэнтам, прыйшоўшым з чужых краёў, а сталым жыхарствам, адвеку жыўшым у краю, асабліва-ж у Латгаліі і ў Ілукштанскім павеце Зэмгальшчыны, дзе беларусы з давен-даўна шчыльна сядзяць на зямлі і займаюцца земляробствам. Некаторая частка беларусаў, астаўшыся ў Латвіі і Ілукшчыне на малых надзелах, або зусім безь зямлі, перабралася ў Рыгу і іншыя гарады Латвіі, дзе працуе на фабрыках і заводах. Шмат беларусаў служыць парабкамі на хутарох па ўсей Латвіі.

Як відаць з табліцы 5, лічба беларускага жыхарства ў Латвіі ў розныя перапісы была паказана па-рознаму.

Перапіс 1897 г. вызначае лічбу беларусаў у Латвіі ў 81 986 чалавек, але лічба гэтая дадзена без валасьцей Прыдруйскай і Пустынскай, якія належалі тады да Дрысенскага павету, а ў 1920 г. далучаны да Латвіі і ўвайшлі ў склад Дзьвінскага павету. Калі да паказанае лічбы дадаць лічбу беларусаў Пустынскае валасьцы (3 000 чалавек) і Прыдруйскае валасьцы (6 000 чалавек), дык лічбу беларускага жыхарства, згодна Ўсерасійскага перапісу 1897 г., трэба будзе паправіць на 9 000 чалавек. Такім чынам, можам лічыць, што ў 1897 г. на сучаснай дзяржаўнай тэрыторыі Латвіі жыло да 90 000 беларусаў.

Калі лічыцца з нармальным прыростам жыхарства, які ў беларусаў даходзе да 2% і ніколі не бывае ніжэй 1S%, дык за 30 год беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі, прыймаючы пад увагу і памянёныя вышэй дзьве валасьці, павінна была-б павялічыцца нямаль у два разы і налічваць у 1927 г. ня менш 170 000 чалавек.

Аднак абодвы Ўселатвійскія перапісы: 1920 і 1925 гг., далі для беларусаў значна меншыя лічбы, чым трэба было чакаць,

Перапіс 1920 г., вызначыў лічбу беларусаў у Латвіі ў 75 630 чалавек, што складала 4,74% усяго жыхарства Латвіі, або 13,96% насельніцтва Латгаліі ды 10,36% насельніцтва Ілукшчыны.

Прыймаючы пад увагу, што агульны лік жыхарства ў Латвіі зьменшыўся за час вайны на цэлы мільён (у 1914 г., як гэта відаць в табліцы 2, у Латвіі было 2 552 000 чалавек, а у 1920 г. знайшлося толькі 1 596 131), дык меншую ад чаканай лічбу беларусаў у 1920 г. магчыма было сабе растлумачыць гэтым надзвычайным адлівам жыхарства ў часы эвакуацыі і вайсковых падзей.

Другі Ўселатвійскі перапіс 10 лютага 1925 г., які адбыўся ў самы разгар падрыхтоўкі да знамянітага „Беларускага працэсу 1924—1925 гг.“, калі ў Латгаліі былі пушчаны чуткі, што ўсіх, хто запішацца беларусам, будуць арыштовываць і цягаць па турмах, як гэта было роблена з павадырамі беларускага руху — даў яшчэ большае паменшаньне лічбы беларускага насельніцтва. Але затое надзвычайна ўзрасла лічба жыхароў, якія, відаць для ўласнага спакою, запісалі сябе „рускімі“. Дапраўды-ж, па перапісу 1920 г. маскоўцаў было налічана ўсяго 124 746, а празь пяць гадоў у часе перапісу 1925 г. „рускімі“ зарэгістравалася ўжо аж 193 648 чалавек. Зусім ясна, што гэткае **раптоўнае павялічэньне маскоўцаў на вялізарную лічбу, блізка што ў 70 000 чалавек, было магчыма толькі таму, што не-**

**калькі дзясяткаў тысяч беларусаў, спалоханых рэпрэсыямі, запісалася „рускімі“.**

Вышэй ужо было зазначана, што беларуская нацыянальная меншасьць, у пераважнай сваей большасьці, жыве ў Латгаліі і Ілукштанскім павеце Зэмгаліі, дзе беларусы шчыльнай масай, а часам і ўперамешку з іншымі нацыянальнасьцямі, **стала** жывуць на зямлі і маюць сваю сельскую гаспадарку. Дзеля гэтага, гутаручы аб лічбе беларусаў у Латвіі, мы спачатку падрабязна спынімся на гэтых мяйсцовасьцях.

**Латгалія** ці — як палякі яе да гэтага часу называюць — **Інфлянты Польскія** да 1924 г. складалася з трох паветаў: Дзьвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага. Але ў зьвязку з тым, што да Люцынскага павету па міравой умове з Масквой былі далучаны значныя абшары Пыталаўскага раёну з Пскоўшчыны, ужо зь лета 1921 г. паўстала думка аб падзеле гэтага вельмі вялікага павету на дзьве часткі. Гэты падзел быў праведзены ў пачатку 1924 г., і аддзеленая ад Люцынскага павету паўночная ягоная частка разам з памянёным Пыталаўскім раёнам склала новы павет, які быў названы Новалатгальскім. Насельніцтва гэтых чатырох паветаў, дзякуючы гістарычнаму мінуламу Латгаліі, аказалася, з боку нацыянальнага, вельмі разнародным: большасьць складаюць латгальцы (старадаўняя латыгола), якія значна адрозьніваюцца ад латышоў-балтаў, як тым, што спавядаюць каталіцтва, гэтак і мовай і звычаямі, і гістарычным мінулым, і агульным сваім бытам; далей, у вельмі значным ліку жывуць у Латгаліі: беларусы, маскоўцы-велікарусы і жыды; ёсьць палякі, ліцьвіны і горстка немцаў.

Гэткае-ж разнароднае і разнавернае жыхарства насяляе і Ілукштанскі павет Зэмгаліі.

Такім чынам, Латгалія і Ілукшчына маюць шмат супольных рысак і могуць разглядацца разам, як адна краіна.

Каб даць агульнае ўражаньне аб гэтай краіне, складзенай зь пяці паветаў — Дзьвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага, Нова-Латгальскага і Ілукштанскага — мы ніжэй зьмяшчаем карту гэтых паветаў з паказаньнем сучаснага падзелу іх на воласьці і некалькі табліц, якія характарызуюць Латгалію і Ілукшчыну з боку велічыні абшару, агульнае лічбы насельніцтва і падзелу яго на нацыянальныя групы згодна данных розных перапісаў.

Як відаць з табліцы 6, Латгалія і Ілукшчына займаючы 27% агульналатвійскае тэрыторыі, маюць каля 600 000 чалавек жыхарства, што складае больш траціны (32%) усяго насельніцтва Латвіі.

Падзел краіны на паветы і воласьці можам сабе ўявіць з картаграмы 3, дзе межы паветаў азначаны жырнымі рыскамі, а межы валась-

| ПАВЕТЫ | Тэрыторыя ў квадратовых кілёмэтрах | Лічба валасьцей: | | **Лічба жыхарства:** | | | | Лічба жыхароў на 1 кв. кілёмэтр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | у 1920 г. | у 1926 г. | у **1897** г. | у **1920** г. | у **1925** г. | **На 1.I.1926 г.** | |
| Дзьвінскі | 4 790,0 | 18 | 22 | 237 023 | 185 921 | 203 780 | 205 998 | 43,0 |
| Рэжыцкі | 4 253,1 | 19 | 19 | 136 445 | 134 039 | 144 931 | 146 947 | 34,6 |
| Люцынскі | 2 344,1 | 20 | 12 | 128 155 | 85 156 | 90 130 | 91 493 | 39,0 |
| Н.-Латгальс. | 4 292,4 | - | 12 | - | 92 234 | 100 841 | 102 398 | 23,9 |
| Ілукштанскі | 2 242,7 | 16 | 19 | 66 461 | 45 426 | 51 706 | 52 544 | 23,1 |
| РАЗАМ | 17 922,7 | 73 | 84 | 568 084 | 542 776 | 591 388 | 599 380 | 32,4 |

Табліца 6. Агульныя данныя аб Латгаліі і Ілукшчыне




Картаграма 3-я. Адміністрацыйны падзел сучаснай Латгаліі і Ілукштаншчыны.

цей — сьвятлейшымі рыскамі. Усе воласьці ў каждым павеце пранумараваны асобна.

У часы расейскага панаваньня, а таксама і ў першыя гады існаваньня незалежнае Латвійскае Рэспублікі лік паветаў і валасьцей у краіне, як ужо вышэй зазначалася, быў меншы. У сучасны момант Латгалія і Ілукшчына падзелены на 84 воласьці. Новыя воласьці стварыліся шляхам выдзяленьня пэўнае лічбы вёсак з тэрыторыі суседніх вялікаабшарных і густазасялёных валасьцей. Гэтак, прыкладам, воласьць Граверская, азначаная на картаграме лічбай „3“ у Дзьвінскім павеце, стварылася з частак суседніх валасьцей: Капінскай (8), Ужвалдскай (5) і Ізабелінскай (18).

**У Дзьвінскім** павеце цяпер налічваецца 22 воласьці: 1 — Айвіксцкая, 2 — Асунская, 3 — Граверская (Аўлейская), 4 — Дагдзенская, 5 — Ужвалдзкая, 6 — Ясмуйжская, 7 — Колупская, 8 — Капінская, 9 — Крас-

лаўская, 10 — Крустпільская (Крыжборгская), 11 — Ліксненская, 12 — Ліванская (Лівенгофская), 13 — Наўенская (Малінаўская), 14 — Прыдруйская, 15 — Прэльская, 16 — Пустынская, 17 — Рудзяцкая, 18 — Скайсьценская (Ізабелінская), 19 — Унгурмуйжская, 20 — Варкоўская, 21 — Віпеская (Межмуйжская), і 22 — Вышкаўская.

**У Рэжыцкім** павеце, як і раней, 19 валасьцей: 1— Андрэпненская, 2 — Аташынская, 3 — Боркаўская, 4 — Букмуйжская (Вайводаўская), 5 — Дрыцэнская, 6 — Гайгалаўская (Быкоўская), 7 — Каўнатская, 8 — Лабваржаўская (Бірзыгальская), 9 — Макашанская, 10 — Малтаўская (Разэнтоўская), 11 — Озолмуйжская, 12 — Рэзнаўская (Розенмуйжская), 13 — Ружынская, 14 — Сакстыгальская, 15 — Салуёнская, 16 — Сьцернянская, 17 — Варклянская, 18 — Відсмуйжская (Галянская) і 19 — Вілёнская.

**У Люцынскім** зьменшаным павеце 12 валасьцей: 1 — Брыгаўская (Янавольская), 2 — Ціблаўская (Еверсмуйжская), 3 — Істрэнская (Стараслабодская), 4 — Корсаўская, 5 — Мердзенская (Міхалоўская), 6 — Наўтрэнская (Зальмуйжская), 7 — Нердзенская, 8 — Пасінская, 9 — Пылдзенская, 10 — Рунданская, 11 — Шкаўненская (Ляндскаронская) і 12 — Зьвірдзінская.

**У Нова-Латгальскім** новастворанам павеце 12 валасьцей: 1 — Аўгшпільская (Вышгародская), 2 — Балцінская, 3 — Балоўская, 4 — Берзпільская (Домопольская), 5 — Гаўраўская, 6 — Качаноўская, 7 — Лепненская, 8 — Ліноўская (Толкаўская), 9 — Пурвмалеўская (Толкаўская), 10 — Ругайская, 11 — Тылжоўская (Кокарэўская) і 12 — Вілякская (Мар’янгаўзенская).

**У Ілукштанскім** павеце цяперака 19 валасьцей: 1 — Акнісцкая, 2 — Асараўская, 3 — Бэбрэнская, 4 — Дземенская, 5 — Двентэнская, 6 — Гарзенская, 7 — Коплаўская (Борненская), 8 — Курцумская, 9 — Лашаўская, 10 — Лаўкеская (Калкунская), 11 — Пілскалнская, 12 — Продская, 13 — Раўданская (Стэлленская), 14 — Рубенская, 15 — Саланайская, 16 — Сіленская (Бароўская), 17 — Скрудалінская, 18 — Сусейская і 19 — Свэнтэнская.

Лічба жыхарства ў пералічаных валасьцёх неаднолькавая, але адразу кідаецца ў вочы тое, што ўсе воласьці гэтае краіны надзвычайна густа залюднены: ёсьць гміны (воласьці), якія маюць звыш 12 000 жыхараў (напрыклад Малінаўская і Капінская воласьці Дзьвінскага павету), воласьці-ж з 6 000 — 8 000 жыхараў лічуцца тутака нармальнымі.

Нідзе ўва ўсей Латвіі няма гэткіх перанасялённых гмін.

У Курляндыі ды ў Ліфляндыі на кожную воласьць у сярэднім прыпадае 1 500 чалавек, а ёсьць воласьці, у якіх няма і 500 жыхараў.

Дык ня дзіва, што Латгальска-Ілукштанскае сялянства дужа беднае, бо зямлі на кожную душу прыпадае надзвычайна мала, я ніякіх староннніх заробкаў тутака няма.

Безьзямельнае і малазямельнае сялянства Латгаліі ў часы даваенныя знаходзіла сабе заробак у Петраградзе, Маскве, Рызе і Лібаве — на фабрыках і заводах, або працавала і добра зарабляла на бэтонных і земляных работах пры адбудаваньні чыгунак і крэпасьцяў. Цяперака гэтых магчымасьцяў няма, а таму шукаючы кавалка хлеба, безьзямельныя беларусы і латгальцы цэлымі тысячамі разыходзяцца па ўсёй Латвіі, нанімаючыся за самую танную цану ў батракі (парабкі) на хутары заможных латыскіх сялян у Курляндыі, Ліфляндыі і Зэмгаліі. На цяжкую працу ў чужыну выпраўляюцца ня толькі дарослыя, але і дзеці, пачынаючы з 8-10 гадоў.

Сучасны нацыянальны склад гэтых пяці паветаў, згодна данных двух Уселатвійскіх перапісаў 1920 і 1925 гг., гэткі:

| Нацыянальнасьць | Згодна перапісу 1920 г.: | | Згодна перапісу 1925 г.: | |
|---|---|---|---|---|
| | Лічба жыхароў | Лічба ў працэнтах | Лічба жыхароў | Лічба ў працэнтах |
| Латышы | 282 884 | 52,12 | 329 858 | 55,77 |
| Маскоўцы | 107 006 | 19,71 | 153 599 | 25,97 |
| **Беларусы** | **71 428** | **13,15** | **34 671** | **5,86** |
| Жыды | 31 644 | 5,83 | 33 088 | 5,59 |
| Палякі | 40 462 | 7,45 | 32 363 | 5,48 |
| Немцы | 976 | 0,16 | 1 170 | 0,19 |
| Ліцьвіны | 4 685 | 1,04 | 4 751 | 0,80 |
| Эстонцы | 348 | 0,06 | 460 | 0,08 |
| Іншыя | 3 215 | 0,60 | 1 430 | 0,24 |
| РАЗАМ | 542 776 | 100 | 591 388 | 100 |

Табліца 7. Нацыянальны склад Латгаліі і Ілукшчыны

Дзеля большае нагляднасьці і лепшага ўяўленьня нацыянальнага складу Латгаліі і Ілукшчыны, а таксама, каб мець магчымасьць параўнаць вынікі 1-га і 2-га Ўселатвійскага перапісаў, ніжэй зьмяшчаюцца табліцы нацыянальнага складу кожнага павету з паказаньнем лічбы розных нацыянальнасьцяў у кожнай воласьці, згодна абодвух перапісаў.

| Гарады, мястэчкі і валасьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Люцын | 610 | 479 | **1 555** | 2 050 | 290 | 12 | 16 | 1 | 31 | 5 044 |
| Балцінова | 179 | 29 | **12** | 141 | 6 | | 2 | 7 | 3 | 379 |
| Балоўск | 327 | 14 | **21** | 383 | 3 | | 5 | 5 | | 758 |
| Корсаўка | 589 | 190 | **28** | 910 | 153 | 7 | 8 | | 30 | 1 915 |
| Мар'янгауз | 256 | 19 | **18** | 506 | 27 | 7 | | 2 | | 835 |
| Палішчына | 47 | | **324** | 106 | 7 | 1 | 1 | | | 486 |
| Розеноўка | 30 | 16 | **221** | 296 | 107 | | 1 | | 3 | 674 |
| Рунданы | 53 | | **25** | 5 | 1 | | | | | 84 |
| Стар. Слабада | 2 | 10 | **222** | 25 | | | | | 5 | 264 |
| Балціноўская вол. | 8 945 | 1 397 | **402** | 50 | 52 | 1 | 6 | 42 | 260 | 11 155 |
| Балоўская ” | 11 451 | 2 611 | **146** | 61 | 79 | 17 | 7 | 29 | 70 | 14 471 |
| Домапольская ” | 8 523 | 162 | **90** | 115 | 98 | 3 | | 1 | 46 | 9 038 |
| Эверсмуйжс. ” | 5 532 | 543 | **147** | 20 | 121 | 12 | 5 | 1 | 27 | 6 408 |
| Істрэнская ” | 188 | 68 | **5 096** | 21 | 82 | 3 | | | 303 | 5 761 |
| Янавольская ” | 1 124 | 303 | **2 008** | 9 | 23 | | 3 | 2 | 2 | 3 474 |
| Кокарэўская ” | 4 874 | 276 | **66** | 9 | 17 | 24 | 3 | 4 | 14 | 5 287 |
| Корсаўская ” | 7 179 | 1 141 | **182** | 60 | 183 | 2 | 8 | 3 | 8 | 8 766 |
| Ляндскаронск. ” | 3 694 | 150 | **1 440** | 12 | 242 | 4 | 5 | | 8 | 5 555 |
| Ліпнёўская ” | 3 005 | 57 | **126** | 1 | 12 | | | 97 | 12 | 3 310 |

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Мар'янгаўск. ” | 8 184 | 496 | **94** | | 179 | 62 | | 6 | 16 | 9 037 |
| Міхайлоўская ” | 7 637 | 756 | **2 138** | 13 | 77 | 6 | 5 | | 12 | 11 244 |
| Нерзенская ” | 4 232 | 625 | **244** | 55 | 88 | 7 | 2 | | 8 | 5 261 |
| Пасінская ” | 48 | 75 | **4 750** | 12 | 496 | 1 | 5 | | 30 | 5 412 |
| Пылдзенская ” | 4 420 | 864 | **1 407** | 27 | 429 | 5 | | 1 | 9 | 7 167 |
| Рунданская ” | 526 | 833 | **1 799** | 1 | 295 | | 4 | | | 3 458 |
| Зальмуйжская ” | 5 026 | 239 | | | 5 | 2 | | 1 | 266 | 5 538 |
| Зьвірдзенская ” | 4 779 | 211 | **146** | 90 | 183 | 3 | 1 | 3 | 64 | 5 485 |
| Усяго ў мястэчк. | 2 093 | 757 | **2 426** | 4 422 | 594 | 27 | 33 | 15 | 72 | 10 439 |
| “ “ валасьц. | 89 366 | 10 807 | **20 881** | 556 | 2 661 | 152 | 54 | 190 | 1 160 | 125 827 |
| РАЗАМ | 91 459 | 11 564 | **23 307** | 4 978 | 3 255 | 179 | 87 | 205 | 1 232 | 136 266 |

Табліца 10. Нацыянальны склад жыхарства Люцынскага павету, згодна перапісу 1920 г.

**Увага:** Табліца зложана бяз данных з 3 валасьцей Пскоўшчыны, далучаных да Латгаліі ўжо пасьля перапісу 1920 г.

| Гарады, мястэчкі і валасьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Люцын | 1 782 | 1 256 | **64** | 1 907 | 445 | 19 | 23 | 3 | 60 | 5 559 |
| Корсаўка | 576 | 326 | **2** | 907 | 125 | 1 | 14 | | 12 | 1 963 |
| Эверсмуйжс. вол | 5 787 | 580 | **3** | | 37 | 3 | 2 | | 16 | 6 428 |
| Істрэнская" | 1 260 | 1 475 | **3 411** | 47 | 114 | 7 | 1 | 1 | 4 | 6 320 |
| Янавольская" | 1 738 | 3 011 | **5** | 44 | 8 | | 5 | | 31 | 4 842 |
| Корсаўская" | 8 050 | 1 249 | | 66 | 109 | 5 | 10 | 2 | 27 | 9 518 |
| Ляндскаронск" | 4 926 | 488 | **939** | 124 | 103 | 9 | 8 | | 8 | 6 605 |
| Міхайлоўская" | 7 991 | 3 592 | **71** | 6 | 37 | 3 | 3 | 2 | 9 | 11 714 |
| Нерзенская" | 4 454 | 829 | **6** | 41 | 81 | 2 | 2 | | 7 | 5 422 |
| Пылдзенская" | 5 042 | 1 920 | **27** | 14 | 332 | 6 | 3 | 2 | | 7 346 |
| Пасінская" | 1 094 | 2 466 | **4 060** | 461 | 1 124 | 22 | 20 | | 6 | 9 253 |
| Рунданская" | 613 | 2 162 | **396** | 4 | 699 | 1 | | 1 | 26 | 3 812 |
| Зальмуйжская" | 5 694 | 134 | | 11 | 9 | 7 | 4 | | 12 | 5 871 |
| Зьвірдзенская" | 4 228 | 719 | **408** | 17 | 102 | | 2 | 1 | | 5 477 |
| РАЗАМ | 53 235 | 20 207 | **9 392** | 3 649 | 3 235 | 85 | 97 | 12 | 218 | 90 130 |

Табліца 11. Нацыянальны склад жыхарства Люцынскага павету, згодна перапісу 1925 г.

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Балцінаўская вол. | 9 079 | 1 909 | **1** | 221 | 63 | 1 | | 41 | 4 | 11 319 |
| Балоўская ” | 8 346 | 2 538 | **5** | 487 | 54 | 9 | 13 | 36 | 11 | 11 499 |
| Бокаўская ” | 361 | 4 220 | | | 20 | 5 | 5 | 2 | 7 | 4 620 |
| Домапольская ” | 7 461 | 46 | | 75 | 16 | 3 | 3 | 1 | 4 | 7 609 |
| Гаўраўская ” | 415 | 10 788 | **4** | 4 | 235 | 68 | 4 | | 19 | 11 537 |
| Качаноўская ” | 1 702 | 8 280 | **4** | 1 | 27 | 16 | 1 | 58 | 12 | 10 101 |
| Кокарэўская ” | 5 292 | 330 | | 18 | 34 | 31 | 5 | 2 | 3 | 5 715 |
| Ліпнёўская ” | 3 658 | 250 | | 7 | 58 | 16 | 9 | 167 | 3 | 4 168 |
| Ругайская ” | 4 881 | 897 | **1** | 44 | 3 | | 1 | 7 | 1 | 5 835 |
| Толкаўская ” | 214 | 6 545 | **1** | 4 | 52 | | 3 | 5 | | 6 824 |
| Вілякская ” | 10 282 | 284 | **1** | 96 | 206 | 61 | 13 | 13 | | 11 356 |
| Вышгародзкая ” | 333 | 9 820 | **7** | 14 | 40 | 1 | 9 | 29 | 5 | 10 258 |
| РАЗАМ | 52 024 | 45 907 | **24** | 1371 | 808 | 211 | 66 | 361 | 69 | 100 841 |

Табліца 12. Нацыянальны склад жыхарства Нова-Латгальскага павету, згодна перапісу 1925 г.

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Рэжыца | 1 924 | 2 469 | **126** | 4 148 | 1 231 | 38 | 30 | 5 | 26 | 9 997 |
| Варкляны | 436 | 25 | **6** | 1 403 | 39 | 8 | 1 | 1 | 1 | 1 920 |
| Вілёны | 476 | 104 | **113** | 344 | 34 | 2 | 7 | | 3 | 1 083 |
| Андрэпненская воласьць | 5 515 | 1 512 | **228** | 2 | 663 | 8 | 2 | 1 | 24 | 7 955 |
| Аташынская ” | 2 181 | 772 | **54** | | 6 | 1 | 1 | | | 3 015 |
| Берзгальская ” | 5 359 | 492 | **160** | 6 | 130 | 3 | | | 5 | 6 135 |
| Боркаўская ” | 5 091 | 8 | **91** | 32 | 16 | 3 | 1 | | 28 | 5 670 |
| Быкаўская ” | 3 553 | 70 | **6** | 1 | 12 | 10 | 4 | | 1 | 3 257 |
| Дрыцанская ” | 3 856 | 119 | **35** | 2 | 35 | 1 | | | | 4 048 |
| Галянская ” | 6 127 | 2 120 | **4** | | 19 | 6 | 9 | 5 | 8 | 8 298 |
| Каўнацкая ” | 6 040 | 603 | **1 135** | 44 | 443 | | 2 | | 188 | 8 455 |
| Макашанская ” | 4 864 | 942 | **1 541** | 2 | 258 | 21 | 2 | | 36 | 7 666 |
| Розенмуйжская ” | 4 309 | 2 624 | **1 599** | 11 | 621 | 27 | | 6 | 3 | 9 199 |
| Розентоўская ” | 4 731 | 1 430 | **495** | 177 | 944 | 18 | 2 | 2 | 10 | 7 809 |
| Рудзяцкая ” | 1 567 | 210 | **1** | | 31 | 3 | | | | 1 812 |
| Ружынская ” | 1 747 | 330 | **4 098** | 1 | 24 | 1 | | 1 | 13 | 6 215 |
| Сакстыгальская ” | 3 898 | 2 012 | **996** | 5 | 97 | 7 | 2 | | 3 | 7 020 |
| Салуёнская ” | 3 746 | 4 117 | **21** | 2 | 469 | | | 2 | 5 | 8 362 |

| Гарады, мястэчкі і валасьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Стэрнянская ” | 2 079 | 82 | **8** | | 6 | | 2 | | 1 | 2 178 |
| Узулмуйжская ” | 1 682 | 2 586 | **1** | | 170 | 11 | 9 | | 7 | 4 466 |
| Вайвадоўская ” | 3 078 | 426 | **1 884** | 4 | 628 | 15 | 1 | 3 | 2 | 6 041 |
| Варклянская ” | 7 017 | 758 | **238** | 6 | 55 | 17 | 9 | | 11 | 8 110 |
| Вілёнская ” | 3 625 | 1 769 | **485** | | 80 | 12 | 2 | 1 | 16 | 5 990 |
| РАЗАМ | 83 093 | 25 746 | **13 355** | 6 858 | 6 069 | 222 | 91 | 26 | 391 | 135 851 |

Табліца 13. Нацыянальны склад жыхарства Рэжыцкага павету, згодна перапісу 1920 г.

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Рэжыца | 4 348 | 3 034 | 38 | 3 911 | 1 112 | 32 | 94 | 9 | 42 | 12 620 |
| Варкляны | 576 | 49 | 1 | 1 356 | 10 | | 2 | | 11 | 2 005 |
| Віляны | 681 | 262 | 2 | 391 | 41 | 4 | 1 | | 16 | 1 398 |
| Андрэпненская воласьць | 5 900 | 2 285 | 141 | 28 | 775 | 17 | 1 | 3 | 11 | 9 161 |
| Аташынская ” | 2 471 | 588 | | 8 | 29 | | 3 | | 2 | 3 101 |
| Берзгальская ” | 5 977 | 574 | 24 | 11 | 94 | 7 | 1 | 1 | | 6 689 |
| Боркаўская ” | 3 529 | 121 | 25 | 16 | 7 | 4 | 2 | | 2 | 3 736 |
| Быкаўская ” | 5 071 | 103 | 3 | 60 | 19 | 1 | | | | 5 257 |
| Букмуйжская (Вайвад.)” | 3 644 | 999 | 1 186 | 6 | 370 | 11 | 2 | | 14 | 6 232 |
| Дрыцанская ” | 4 060 | 171 | 14 | 3 | 23 | 2 | | 1 | 9 | 4 283 |
| Каўнацкая ” | 6 631 | 2 062 | 67 | 98 | 472 | 2 | 4 | | 9 | 9 345 |
| Макашанская ” | 4 988 | 2 566 | 1 | 8 | 150 | 2 | | | 8 | 7 723 |
| Узулмуйжская ” | 1 862 | 2 984 | | 6 | 177 | 5 | | 1 | 1 | 5 036 |
| Розенмуйжская ” | 5 232 | 3 793 | 14 | 24 | 558 | 21 | 2 | 1 | 2 | 9 647 |
| Розентоўская ” | 5 196 | 2 194 | 11 | 349 | 824 | 10 | 5 | | 53 | 8 442 |
| Ружынская ” | 1 871 | 4 849 | 2 | 4 | 26 | | | | 17 | 6 769 |
| Сакстыгальская ” | 4 036 | 3 221 | 7 | 2 | 38 | 7 | 6 | 1 | 19 | 7 337 |

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Солуёнская ” | 3 945 | 4 560 | 46 | 360 | 391 | 6 | 2 | 3 | 1 | 9 314 |
| Стырненская ” | 2 151 | 66 | | 2 | 13 | 1 | 2 | 2 | | 2 237 |
| Варклянская ” | 7 685 | 855 | 2 | 8 | 35 | 8 | | 1 | 3 | 8 597 |
| Відсмуйжская (Галянская) ” | 6 207 | 2 141 | 1 | 3 | 18 | 5 | 12 | 3 | 17 | 8 407 |
| Вілёнская ” | 4 758 | 2 532 | 11 | 6 | 61 | 7 | 9 | 1 | 10 | 7 395 |
| РАЗАМ | 90 819 | 40 009 | 1 626 | 6 660 | 5 243 | 152 | 148 | 27 | 247 | 144 931 |

Табліца 14. Нацыянальны склад жыхарства Рэжыцкага павету, згодна перапісу 1925 г.

Як бачым з табліцаў 8 і 9, лік беларускага жыхарства ў Дзьвінскім павеце, згодна даннага перапісу 1925 г., паменшыўся на 9000 чалавек. Але на тую-ж лічбу павялічалася лічба „вялікаросаў“. Тое-ж самае можам убачыць і з разгляду данных абодвух перапісаў і ў Люцынскім і ў Рэжыцкім паветах.

Лічбаў аб нацыянальным складзе валасьцей Ілукшчыны, згодна Ўселатвійскаму перапісу 1920 г., мы правясьці не маем магчымасьці, бо ад апублікаваньня падрабязных данных Статыстычнае кіраўніцтва чамусьці ўстрымалася аж да гэтага часу. Дзеля гэтага абмяжоўваемся агульнымі даннымі аб нацыянальным складзе ўсяго Ілукштанскага павету ў часы розных перапісаў.

Перапіс 1919 г. быў зроблены польскімі акупацыйнымі ўладамі на тэрыторыі не ўсяго Ілукштанскага павету, а ўсяго 6 валасьцей Ілукшчыны (Борненскай, Бароўскай, Дземенскай, Калкунскай, Скрудалінскай і Саланайскай), занятых у той час польскім войскам. Перапіс праводзіўся польскімі вайскоўцамі, быў вельмі тэндэнцыйным і меў заданьнем давесьці, што гэтыя шэсьць валасьцей — *„чыста польскія“*. Дзякуючы гэтаму ў „палякі“ былі залічаны ня толькі **ўсе** каталікі, у тым ліку і каталікі-беларусы, і каталікі-ліцьвіны, і каталікі-латышы, але і больш 200 юдэяў, ды каля 250 старавераў. Зусім зразумела, што ніякага навукова-статыстычнага значаньня лічбы гэтага сфальшаванага перапісу ня маюць, аднак мы зьмяшчаем іх для гістарычнае спраўкі, бо польскія ўлады і публіцысты да гэтага часу часта-густа спасылаюцца на лічбы гэтага польскага вайсковага перапісу.

Лічба беларусаў у Ілукшчыне, дзе няма такіх апанаваных расейскімі ўплывамі гарадоў, як Люцын, Рэжыца і Дзьвінск, з 1920 да 1925 гг. ня толькі не паменшылася, але яшчэ і павялічылася на 360 чалавек, што можна лічыць нармальным прыростам за 5 гадоў.

Цікава яшчэ адзначыць тое, што ў Ілукшчыне сыстэматычнае беларускае культурна-асьветнае працы да гэтага часу яшчэ не вядзецца і тутака няма нават ніводнае беларускае пачатковае школы на ўсе 6407 чалавек беларускае люднасьці, зарэгістраваных у Ілукшчыне.

Калі перавясьці лічэбныя вынікі 1-га Ўселатвійскага перапісу на працэнты і ўлажыць карту разьсяленьня і гушчыні беларускае люднасьці на тэрыторыі Латгаліі і Ілукшчыны, дык зможам наглядна сабе ўявіць, **дзе** і ў **якой лічбе** былі афіцыяльна зарэгістраваны беларусы ў 1920 г. (Глядзі картаграму 4).

Зусім натуральна, што найбольш беларусаў аказалася ўва ўсходніх валасьцёх Латгаліі і Ілукшчыны, на мяжы з этнаграфічнай беларускай

| Перапісы | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | Беларусы | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| 10. II. 1897 г. | 18 955 | 10 121 | 11 478 | 6 351 | 11 380 | 6 986 | 1 082 | | 108 | 66 461 |
| Лістап. 1919 г. | 1 396 | 5 068 | 1 273 | 134 | 9 207 | 251 | | | 31 | 17 360 |
| 14. VI. 1920 г. і студз. 1921 г. | 16 983 | 8 721 | 4 447 | 1 341 | 10 149 | 3 500 | 196 | 6 | 83 | 45 426 |
| 10. II. 1925 г. | 22 567 | 11 073 | 6 047 | 1 328 | 6 799 | 3 574 | 175 | 10 | 133 | 51 706 |

Табліца 15. Нацыянальны склад жыхарства Ілукштанскага павету, згодна розных перапісаў

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Ілукст | 303 | 153 | **20** | 30 | 480 | 5 | 6 | | | 997 |
| Субат | 435 | 487 | **2** | 485 | 151 | 121 | 32 | | | 1 713 |
| Грыва | 187 | 1 463 | **50** | 163 | 669 | 98 | 14 | 4 | | 2 648 |
| Акністская воласьць | 1537 | 7 | | 200 | 11 | 408 | | | | 2 163 |
| Борненская ” | 426 | 214 | **1 229** | 30 | 346 | 56 | 17 | | 17 | 2 335 |
| Бароўская ” | 354 | 1 451 | **1 065** | 265 | 87 | 5 | 5 | | 32 | 3 264 |
| Дэменская ” | 294 | 582 | **984** | 14 | 443 | 167 | 3 | 1 | 14 | 2 502 |
| Калкунская ” | 580 | 2 286 | **351** | 32 | 1 230 | 882 | 15 | 3 | 31 | 5 410 |
| Курцумская ” | 240 | 590 | **294** | | 619 | 220 | 2 | | | 1 968 |
| Лашаўская ” | 1 715 | 395 | **11** | 31 | 472 | 307 | | 2 | 2 | 2 934 |
| Пільсканск. ” | 1 137 | 100 | **184** | 1 | 626 | 37 | 2 | | | 2 087 |
| Салонайская ” | 1 033 | 1 333 | **870** | 2 | 337 | 2 | 2 | | 11 | 3 590 |
| Скрудалінск. ” | 471 | 1 455 | **760** | 17 | 255 | 27 | 10 | | 9 | 3 004 |
| Сусейская ” | 1 030 | 7 | | 2 | 4 | 111 | 10 | | 2 | 1 166 |
| Стэлленская ” | 216 | 88 | **6** | | 130 | 253 | 6 | | 3 | 702 |
| Свэнтэнская ” | 1 391 | 228 | **216** | | 601 | 93 | 4 | | | 2 535 |
| Асарская ” | 960 | 38 | | 5 | 2 | 48 | 5 | | | 1 058 |

| Гарады, мястэчкі і воласьці | НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Вялікарусы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Бэбрэнская ” | 3 223 | 95 | **1** | 14 | 137 | 141 | 9 | | 1 | 3 621 |
| Двэнтэнская ” | 2 146 | 16 | | 1 | 88 | 6 | | | 4 | 2 261 |
| Гардзенская ” | 946 | 7 | **2** | 15 | 17 | 169 | 7 | 1 | | 1 164 |
| Продская ” | 1 650 | 70 | **1** | 14 | 50 | 386 | 26 | | 2 | 2 199 |
| Рубенская ” | 2 293 | 8 | **1** | 7 | 44 | 32 | | | | 2 385 |
| РАЗАМ | 22 567 | 11 073 | **6 407** | 1 328 | 6 799 | 3 574 | 175 | 10 | 133 | 51 706 |

Табліца 16. Нацыянальны склад жыхарства Ілукштанскага павету, згодна перапісу 1925 г.




Картаграма 4. Працэнт беларускае нацыянальнае меншасьці
ў Латгаліі і Ілукшчыне, згодна Ўселатвійскага перапісу 14 чэрвеня 1920 г.

тэрыторыяй, чым у цэнтральных і заходніх валасьцёх разглядаемай намі краіны, дзе лічэбная перавага пераходзе ўжо на бок латгальцаў. На мяжы з Заходняй Беларусьсю, акупаванай палякамі, ёсьць у Латгаліі і Ілукшчыне цэлы шэраг валасьцей, у якіх лічба беларусаў даходзе ад 50 да 90 працэнтаў. Гэтыя воласьці азначаны на картаграме чорнай фарбай. Чым далей на захад ад мяжы з Беларусьсю ўглыбіню Латгаліі і Ілукшчыны, тым беларусаў усё менш і менш, а на самым захадзе ёсьць воласьць, дзе зусім няма беларусаў.

Вынікі 2-га Ўселатвійскага перапісу 1925 г. графічна паказаны на картаграме 5. Тутака малюнак ужо зусім іншы. Процант беларусаў значна паменшыўся, асабліва ў Люцынскім, Нова-Латгальскім і Рэ-




Картаграма 5. Працэнт беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латгаліі і Ілукшчыне, згодна 2-га Ўселатвійскага перапісу 10 лютага 1925 г.

жыцкім паветох, г.ё. у тых паветах і якраз у тых паўночна-усходніх валасьцёх, дзе пераважна жывуць беларусы-праваслаўныя[4].

З самага павярхоўнага параўнаньня абедзьвюх перапісовых картаграм бачым як прыгнечваюча-балюча і цяжка адбіўся ў псыхіцы маласьвядомага і малапісьменнага беларускага сялянства Латгаліі той разгром, які быў учынен беларускай нацыянальнай меншасьці вышэй ужо ўспа-

[4] Пасьля перапісу 1920 г. беларусаў-каталікоў і беларусаў-праваслаўных у Латвіі налічвалася нямаль аднолькавая лічба. Пры гэтым высьветлілася, што беларусы-праваслаўныя пераважна жывуць у Люцынскім і Рэжыцкім паветах, а беларусы-каталікі — у паветах Дзьвінскім і Ілукштанскім. Дзеля гэтага, што шмат беларусаў-праваслаўных у часе перапісу 1925 г. запісалася „рускімі“, (зь беларусаў-каталікоў у „рускія“ запісалася толькі невялічкая горстка), цяперака, згодна афіцыяльнае статыстыкі, беларусаў-каталікоў у Латвіі ў тры з паловай разы больш за праваслаўных.

мінаным „Беларускім працэсам“. Вобыскі, арышты і дапросы (выпыты) страшэнна напалохалі беларускае сялянства. А тутака яшчэ група „дзяльцоў“ з расейскіх чорнасоценцаў, асеўшых у Латвіі, выкарыстала момант арышту беларускіх дзеячоў і распусьціла чуткі, асабліва ў Люцыншчыне і Рэжыцкім павеце сярод праваслаўнага беларускага жыхарства, што ўсіх, хто лічыць сябе беларусам і скажа аб гэтым пры перапісу — будуць арыштовываць і садзіць у турму. Выпушчаны быў нават спэцыяльны календар для праваслаўных, у якім расейцы лаялі беларусаў, пужалі іх усякімі бедамі і радзілі ўсім абавязкова запісывацца „рускімі“.

На вялікі жаль, улада зусім не зьвярнула ўвагі на гэтую ганебную, правакацыйную працу, а беларускае грамадзянства ўцягнутае ў „Беларускі працэс“, ня мела сілы абараніцца ад нападкаў і растлумачыць сялянству ўсю безпадстаўную ілжу чорцасоценцаў. І вось цэлыя дзясяткі тысячаў беларускіх сялян Люцыншчыны і Рэжычыны пачалі ў часе перапісу запісвацца „рускімі“, і такім чынам павялічылі лік велікаросаў у Латвіі з 124 746 чалавек аж да 193 648 чалавек.

На заканчэньне гэтага разьдзелу кнігі трэба сказаць дзе-колькі слоў аб лічбе беларусаў у латвійскіх гарадох. Згодна апошняга перапісу, нацыянальны склад буйнейшых гарадоў Латвіі і Латгаліі выглядае гэтак, як гэта паказана ў табліцы 17.

Як бачым, найбольшая з усіх латвійскіх гарадоў лічба беларусаў аказалася ў Рызе, дзе яшчэ зь мірных часоў жыве шмат беларускіх рабочых, працаваўшых калісьці тутака на вялікіх фабрыках і заводах, а цяперака жывучых з падзённае выпадковае працы.

У латгальскіх гарадох беларусаў зарэгістравана мала, бо тутака беларускія мяшчане-каталікі знаходзяцца пад польскімі ўплывамі, хвараюць на панства і лічуць сябе палякамі, бо згодна іхняму разуменьню, быць палякам лепш, чым быць „простым“ беларускім селянінам, або рабочым. Няма чаго і казаць аб тым, што думку гэтую беларусам штучна ўдаўбілі польскія памешчыкі і ксяндзы-палякі, каб павялічыць уплывы польшчыны на Латгалію. З другога боку, праваслаўная беларуская інтэлігэнцыя па гарадох і мястэчках, прайшоўшая ў свой час расейскую школу і пабываўшая і ў расейскім войску і ў расейскіх канцэлярыях, вельмі абмаскалілася. Гэтая частка беларускае інтэлігэнцыі, частагуста прызнаючы сябе за прыродных беларусаў-крывічоў, усё яшчэ па старой прывычцы цягне ў бок расейшчыны і вельмі раўнадушна ставіцца да ідэі беларускага нацыянальна-сацыяльнага адраджэньня. Ня маючы павадыроў і добрага прыкладу, частка несьвядомага беларускага праваслаўнага насельніцтва па гарадох да гэтага часу не разьбіраецца ў нацыянальнай сваёй прыналежнасьці і, чуючы ў царкве ка-

| Гарады | Лічба нацыянальнасьцяў згодна перапісу 1925 г. | | | | | | | | | РАЗАМ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Латышы | Велікаросы | **Беларусы** | Жыды | Палякі | Літоўцы | Немцы | Эстонцы | Іншыя | |
| Рыга | 198 739 | 27 648 | **1 587** | 39 459 | 15 119 | 7 773 | 43 793 | 2 332 | 3 278 | 337 699 |
| Лібава | 36 651 | 2 265 | **181** | 9 851 | 2 459 | 2 637 | 6 128 | 118 | 472 | 60 762 |
| Мітава | 21 180 | 324 | **238** | 1 998 | 332 | 635 | 2 760 | 37 | 688 | 28 321 |
| Якубштат | 3 747 | 936 | **525** | 896 | 122 | 21 | 65 | 1 | 35 | 5 655 |
| Дзьвінск | 11 048 | 6 943 | **1 039** | 12 567 | 7 824 | 309 | 542 | 32 | 507 | 40 640 |
| Рэжыца | 4 348 | 3 034 | **38** | 3 911 | 1 112 | 32 | 93 | 9 | 42 | 12 620 |
| Люцын | 1 782 | 1 256 | **64** | 1 907 | 345 | 19 | 23 | 3 | 60 | 55 559 |
| Краслаўка | 833 | 445 | **428** | 1 716 | 984 | 23 | 13 | 1 | 32 | 4 485 |
| Ілукшт | 303 | 153 | **92** | 39 | 480 | 5 | 6 | - | - | 997 |

Табліца 17-я. Нацыянальны склад буйнейшых гарадоў Латвіі і Латгаліі згодна апошняга перапісу 1925 году.

заньні і звароты *„мы праваслаўныя — рускія людзі“*, — мімавольна паўторывае гэты тэрмін і называе сябе „рускімі“[5].

Прыймаючы пад увагу гэтыя абставіны і адсутнасьць з боку беларускага грамадзтва належнае нацыянальна-ўсьвядомліваючае працы, трэба лічыць, што фактычная лічба беларусаў павінна быць значна большай, чым гэта паказана ў ніжэй друкуемай табліцы 17.

Што да іншых нацыянальнасьцяў, дык па гарадох Латгаліі на першым мейсцы ўсюль стаяць жыды, ёсьць у даволі значным ліку запраўдныя расейцы-маскалі, даволі многа лічучых сябе „палякамі“, ды патроху ёсьць немцаў, ліцьвіноў ды іншых. Латышоў-балтаў і латгальцаў па гарадох Латгаліі да вайны было мала. Пасьля далучэньня Латгаліі да Латвіі лічба латышоў па латгальскіх гарадох узьнялася, аднак усё-ж-ткі была, як для пануючае нацыі, вельмі нязначная. Каб павялічыць у статыстычных табліцах лічбу латышоў у латгальскіх гарадох, у часе апошняга перапісу да ліку жыхарства гэтых гарадоў былі аднесены і вайскоўцы латгальскіх гарнізонаў; дзеля таго-ж, што ў латгальскія гарнізоны пасылаюць навабранцаў з Курляндшчыны і Ліфляндшчыны, а латгальскіх навабранцаў у большасьці накіроўваюць у глыбіню Латвіі, дык мера гэтая дала вынікі, значна зьмяніўшыя на карысьць латышоў статыстыку латгальскіх гарадоў. Так, у Дзьвінску ў 1920 г. было латышоў 1 488 чалавек, а ў 1925 г. — 11 048 чалавек, немаль у восем разоў болей. (Глядзі табліцы 8, 9, 10, 11, 13 і 14).

Такім чынам, разглядаючы вышэйпаказаныя статыстычныя даныя аб лічбе беларусаў у Латвіі і прыймаючы пад увагу многавяковыя ўплывы на беларусаў-каталікоў з боку польскіх абшарнікаў і ксяндзоў-палякаў, а на беларусаў-праваслаўных з боку расейскае школы, адміністрацыі, войска і сьвяшчэньнікаў — мы павінны прыйсьці да пераканаўня, што лічбы беларусаў, паказаныя ў часе апошняга Ўселатвійскага перапісу 1925 г., не адпавядаюць праўдзіваму стану рэчаў і што запраўдная лічба беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі павінна быць значна большай.

---

[5] Назоў „рускі“ ня ёсьць назоў нацыянальны, а зьяўляецца назовам дзяржаўна-тэрытарыяльным. Ён, таксама як назовы „латвіяц“, „эўропеяц“, „азіят“, не азначае належнасьці да таго ці іншага народу, а адмячае толькі зь якой дзяржавы, або тэрыторыі паходзе даная адзінка. „Рускім“ мог называць сябе кожны, хто меў у кішэні пашпарт старой Расейскае імпэрыі, незалежна ад таго, ці быў ён масковец-велікарос, ці татарын, ці латыш. Паколькі зара няма дзяржавы, якая звалася-б „Расеяй“, павінна зусім адпасьці і ўжываньне тэрміну „русский“.

# IV.

## Сацыяльны стан беларускае меншасьці

Латвійскія беларусы ў падаўляючай сваёй большасьці займаюцца земляробствам і жывуць пераважна па вёсках. Цяга да зямлі і прывычка да земляробства ў беларусаў гэткія вялікія, што нават многія з тых беларусаў, што з давён-даўна жывуць па гарадох і мястэчках і прыпісаны да мястовага мяшчанства, не парывалі і не парываюць цеснае сувязі зь зямлёй, займаючыся абработкай заарандаваных па-за местам вучасткаў і гародніцтвам у самым месьце *„Зямля і земляробства гэта — адзіная запраўдная праца і верны кавалак хлеба, а рэшта ўсё — няпэўныя і нясталыя заняткі, зь якіх доўга не пражывеш!“*— так думала да самага апошняга часу большасьць беларускага сялянства ў Латвіі. Гады пасьляваеннае разрухі, спыненьне прамысловых прадпрыемстваў і агульнае імкненьне да зямлі — яшчэ больш умацовалі веру ў праўдловасьць гэтае думкі. Жаданьне „асесьці“ на зямлі і „замацавацца“ на ей зьяўляецца ўжо ня толькі ў шырокіх колах беларусаў-земляробаў, але моцна выяўляецца і сярод безпрацоўных беларускіх рабочых па гарадох і сярод беларускае працоўнае інтэлігэнцыі.

Зямельная рэформа і адабраньне зямлі ад абшарнікаў давала надзею на прырэзю зямлі малазямельным і на надзяленьне зямлёй безьзямельных батракоў. Асабліва многа надзей зьвязана было зь зямельнай рэформай у беларусаў. Становішча беларускага сялянства ў Латгаліі ўжо да Ўсясьветнае вайны было надзвычайна цяжкім. Вёскі і сямейкі беларускія многалюдныя, а зямлі дужа мала. Гаспадаркі — карлікавыя, па 2-3 дзесяціны зямлі, дужа вялікі лік зусім безьзямельных, якія мелі толькі хату. Да вайны безьзямельныя і малазямельныя сяляне знаходзілі сабе працу ў суседніх губэрніях і ў прамысловых цэнтрах Расеі і Польшчы, а зараз, калі магчымасьць атрымаць працу за межамі для латвійскіх падданых адпала, — уся гэтая армія безпрацоўных загрузіла вёску, чакаючы паратунку ад зямельнае рэформы.

Аднак надзеі на паратунак празь зямельную рэформу ня спраўдзіліся. Зямельная рэформа была праведзена так, што лепшыя кавалкі зямлі, цэнтры маёнткаў, млыны, сады і добрыя хутары — трапілі ў рукі людзей, якія ніколі земляробствам не займаліся: кадравым афіцэрам латыскае арміі, рознаму чынавенству, землямерам, аграномам, сябрам

земляўпарадкаваўчых камісій і іхнім сваякам, дэпутатам, міністрам і г. д. Сялянству асталіся аб'едкі панскага столу. Безьзямельнае беларускае сялянства зямлі немаль не атрымала. Дзе-каму далі на вёсках гэтак званыя „рамесьніцкія" надзелы па 1 гэктару, па 2 гэктары. Ды і тут не абыйшлося бяз крыўды для сялянства: цэлы шэраг маленечкіх надзелаў пазахапілі сабе прадстаўнікі чыноўнае „інтэлігэнцыі", каб пабудаваць сабе летнія дачы. На гэткіх „дачах", напрыклад, пад Дзьвінскам, чыноўнікі (часта-густа людзі дужа добра забясьпечаныя, з акладам пэнсыі ў 600—700 латаў штомесячна) будуюць сабе хату-дачу на дзьве палавіны: на аднэй „чыстай", яны самі жывуць улетку, а на другой „чорнай" жыве арандатар, безьзямельны беларускі селянін, які безграшова даглядае за дачай ды яшчэ плоціць такую арэнду, якая акупае ў 4-5 год пабудову дачы.

Мала лепшым аказалася становішча тых беларускіх сялян, што атрымалі гаспадаркі ў 10-12 гэктараў. Жадаючы хутчэй наладзіць сваю гаспадарку, гэтыя сяляне кінуліся шпарка будавацца на хутары, абзаводзіцца ўсякім гаспадарскім інвентаром. Беларускіх крэдытных таварыстваў у Латгаліі да 1927 г. яшчэ ня было, якім чынам атрымаць доўгатэрміновыя пазыкі зь Зямельнага банку няпісьменнае беларускае сялянства ня ведала, а тут па вёсках розныя прахадзімцы з валасных дзелаводаў ды спэкулянтаў-пунктавікоў[6] — узяліся арганізоўваць розныя пазычкова-ашчадныя таварыствы, зь якіх прапаноўвалі сялянам самы шырокі крэдыт, але на надзвычайна высокіх працэнтах. Не падлічыўшы сваіх магчымасьцяў, многія сяляне пазалязалі ў даўгі, зь якіх дагэтуль ня могуць выбрацца, тым больш, што панаехаўшыя на вёску „культуртрэгэры" з былых валасных пісароў, дарваўшыся да грашовых спраў, зараз-жа ўзяліся за розныя камбінацыі з падвойнымі вэксэлямі і гэтак далей. Значная частка сялянства разарылася; былі ўжо і такія, якіх прадалі з аукцыёну, а дзе-каго гэты лёс чакае ў бліжэйшай будучыне.

Зараз перад беларускай вёскай і беларускай меншасьцю ў Латвіі стаіць войстрае пытаньне: куды ж накіраваць „лішніх" людзей і лішнія рукі?

Выхадаў магло-б быць даволі: 1) павялічэньне прамысловасьці з накіраваньнем туды на працу безьзямельных; 2) перагляд зямельнае рэформы, з тым каб адабраць зямлю ад тых, хто неправідлова яе атры-

[6] „Пунктавікамі" ў Латгаліі завуць грамадзян, якія атрымоўвалі ад ураду права адчыняць на мяжы з СССР абменныя пункты і на гэтым нажылі вялікія грошы.

маў і на ёй не працуе; 3) падзел вялікіх сядзіб „шэрых баронаў“[7] у Курляндшчыне і Ліфляндшчыне, якія фактычна зьяўляюцца маёнткамі, бо гаспадарка вядзецца наёмнай сілай батракоў і батрачак, і 4) шырокія меліярацыйныя прадпрыемствы, якія дадуць новыя абшары для новых гаспадарак і для прырэзак да старых карлікавых надзелаў.

Аднак спадзявацца на тое, што ў бліжэйшыя гады магчыма будзе дасягнуць гэтых мерапрыемстваў, пакуль што няма магчымасьці, бо гэтаму перашкаджае ў першую чаргу палітычная групіроўка сіл у Латвійскай Рэспубліцы: ня толькі правыя партыі, але і латвійскія сацыялдэмакраты баяцца і ня хочуць радыкальных рэформ у зямельным пытаньні.

Пазыцыя правых арганізацый і так званага „сялянскага хаўрусу“, у які ўваходзяць „шэрыя бароны“ — зусім ясная: яны жадаюць захаваньня і надалей вялікіх сядзіб, бо ў гэтых сядзібах матэрыяльная база і сіла гэтых груповак. Што да позыцыі соцыял-дэмакратаў, дык яна дужа слізкая і невыразная; з аднаго боку — яны супроць падзелу сядзіб паміж безьзямельнымі і малазямельнымі Латгаліі, бо гэта *„разбурыць моцныя гаспадаркі, якія даюць хлеб на рынак і рабочым“*, а з другога боку яны супроць і таго, каб гэтыя сядзібы зрабіць яшчэ большымі гаспадаркамі, аб’яднаўшы іх у колектыўныя гаспадаркі-фабрыкі, з адначасным аграмаджаньнем іх. Аб апошняй, самай радыкальнай, рэформе яны баяцца нават заікнуцца, хаця-ж гэты выхад трэба лічыць адзіна правідловым і толькі ён можа выратаваць са стану безупыннага недаяданьня беззямельную Латгалію.

Як бачым, становішча беларускага сялянства ў Латгаліі дужа цяжкое, а для многіх малазямельных і безьзямельных нават зусім катастрофічнае. Цяжкасьць становішча павялічваецца тым, што да самага апошняга часу беларускае сялянства ня было аб’яднана і арганізавана ў свае сялянска-батрацкія арганізацыі. Ды і цяпер, калі заклалася першае ў Латвіі беларускае сельска-гаспадарчае т-ва „Араты“, становішча безьзямельных і малазямельных беларускіх сялян, відаць, не палепшыцца, бо па свайму характару гэтае сельска-гаспадарчае т-ва разьлічана больш на падтрымку і палепшаньне працы ў нармальных „крэпкіх“ гаспадарках, да якіх яно ідзе і з пракатнай машынай, і з племянным быдлам, і з птушнінай, і з меліорацыйнымі прадпрыемствамі,

[7] „Шэрымі баронамі“ ў Латвіі завуць сялян-земляўласьнікаў, якія маюць вялікія сядзібы на 150-200-300 дзесяцін зямлі, вядуць гаспадарку з дапамогай 3-5-8 батракоў і часта-густа самі зусім не працуюць на зямлі.

а беларусы-беззямельныя і малазямельныя астаюцца ў баку ад поля дзейнасьці гэтага таварыства.

Ня дзіва, што пакінутыя сам-на-сам свайму лёсу безьзямельныя і малазямельныя беларусы за ўсякую цану згодны працаваць на ўсякай працы, каб толькі атрымаць хаця-ж бы кавалак хлеба. Таму беларусаў мы і бачым на самых цяжкіх і танна аплачваемых работах па ўсёй Латвіі. Вясной з рыдлёўкамі пехатой беларусы разбрыдаюцца па вялікіх сядзібах: „шэрых баронаў“ Ліфляндыі і Курляндыі, капаюць канавы, асушваюць балоты і вазёры, узімку працуюць на лесазагатоўках па лясох. Працы беларус не баіцца, але яе не хапае для ўсіх і таму ў апошнія годы значная лічба беларусаў пачала эміграваць за межы Латвіі, ідучы на хлусьлівыя абяцанкі розных агэнтаў, якія набіраюць людзей на плянтацыі ў Аргэнтыну і Бразылію. Спыніць гэты рух пакуль-што не ўдалося, бо прэса латвійская з гэтага поваду трывогі ня бье, а беларуская прэса ледзь жыве ў Латвіі, ды і сялянства беларускае толькі на 25-30% зьяўляецца пісьменным, а таму перасьцярогі беларускае прэсы да большасьці кандыдатаў у эміграпты не даходзяць, асабліва, калі гэтыя кандыдаты ў эмігранты адарваны ад беларускіх валасьцей Латгаліі і эмігруюць з іншых мейсцаў Латвіі, дзе яны апынуліся ў шуканьні працы і хлеба.

Другая сацыяльная група беларускае меншасьці ў Латвіі складаецца зь беларусаў-рабочых па гарадох. Гэта група, значна меншая за групу сялянскую, але штогодня яна папаўняецца новымі выхадцамі зь вёскі і з разьвіцьцём прамысловасьці ў гарадох будзе расьці далей, прыцягваючы ў свае шэрагі безьзямельных вяскоўцаў.

„Цяга ў горад“ зьявілася ў беларускіх вёсках Латгаліі блізка з паўвеку назад. Але спачатку яна была слабой, і прыняла шырокія формы толькі незадоўга перад Усясьветнай вайной, калі, з аднаго боку, перагрузка вёскі жывою сілаю і безьзямельнымі дайшла да максімуму, а з другога боку, гэтаму імкненьню ў горад спрыяла разьвіцьцё прамысловасьці ў Рызе, Лібаве, Віндаве і Дзьвінску. Таму пераважная большасьць сучаснага пакаленьня рабочых-беларусаў радзілася і да 15-16 год узгадоўвалася па вёсках, затым перабралася ў горад, каб спачатку *„паглядзець, як будзе“*, а потым астацца ўжо і на сталую працу. Гэта пакаленьне захавала моцную сувязь са сваімі вёскамі, часта езьдзіла туды на пабыўку і, немаль як агульнае правіла, брала сабе жонак не з гарадзкіх дзяўчат-работніц, а зь ліку сваіх вясковых сябровак і адналетак.

Вясковы хлапец, прыехаўшы ад зямлі ў Рыгу, ня меў ніякае кваліфікацыі і мог атрымаць толькі чорнарабочую падзённую працу. Боль-

шасьць паступала на лесапілкі, у транспартнікі, фізычна-дужэйшыя ішлі ў порт на працу грузчыкаў, вельмі нязначная частка паступала ў майстэрні на вывучку і выбівалася потым у кваліфіцыраваныя рабочыя.

Дзеці першага пакаленьня беларускіх рабочых пачыналі працаваць рана, з 8-10 год, а іншы раз і з 7-8 год: бацькі ня мелі магчымасьці трымаць іх у хаце і аддавалі на вёску пасьціць на лета і да глыбокай восені. Дасягшы 16—17 год, гэта **другое пакаленьне** нашых рабочых беларусаў даставала нарэшце працу на фабрыцы і ўпрагалася на ўсё жыцьцё ў працу некваліфікаванага чорнарабочага, часта-густа не пасьпеўшы нават павучыцца ў школе граматы.

Толькі ў апошнія 5 год, калі ў Рызе і ў Дзьвінску зьявіліся беларускія нацыянальныя школы, якія паставілі сабе мэтай дапамагчы рабочым у навучаньні сваіх дзяцей і ў прабіваньні ім жыцьцёвага шляху, намеціліся для падрастаючага пакаленьня беларускіх рабочых новыя перспэктывы: частка моладзі пасьля сканчэньня аснаўной школы ідзе ў сярэднія школы, а затым на вучыцельскія і іншыя курсы, ствараючы такім чынам кадры новае працоўнае беларускае інтэлігэнцыі, а рэшта скончыўшых школы — шукае сабе дарогі да прафэсыянальнае асьветы. На вялікі жаль, да гэтага часу па экономічных і іншых варунках, а часта і па маласьвядомасьці бацькоў, вельмі значны працэнт, часам да 50-60% вучняў, не канчае поўнага курсу школы і, пачынаючы з 3-е клясы, ужо становіцца на працу (малалетнія няньکі, разносчыкі афішаў і г. д.)

Малапісьменны, а часта-густа і зусім непісьменны беларускі рабочы, ня ведаючы латыскае мовы, да самага апошняга часу аставаўся, а ў значнай меры і цяпер яшчэ астаецца па-за жыцьцём арганізаваных рабочых, не ўваходзячы ў агульналатвійскія прафэсыйныя хаўрусы і не ствараючы сваіх беларускіх рабочых аб'яднаньняў. Гэта дае самы шырокі грунт і лёгкую магчымасьць для безсаромлівае эксплёатацыі працы беларускіх рабочых з боку розных несалідных прадпрыемстваў і гэшэфтмахэраў.

Трэцяя сацыяльная група беларускае меншасьці — гэта „працоўная інтэлігэнцыя“. Група гэтая вельмі невялічкая. Большасьць сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі працуе ў якасьці настаўнікаў па беларускіх школах; дзе-хто мае іншыя пасады, але магчымасьцяў атрымаць іншую працу ў Латвіі дужа мала, а таму большасьць абітурыентаў беларускіх гімназій паступае на настаўніцкія курсы, падрыхтоўваючыся да настаўніцкае працы на вёсцы.

Матарыяльнае становішча беларускае працоўнае інтэлігенцыі ня можна назваць добрым і моцным. Аклады пэнсыі вясковых настаўнікаў

вельмі невялікія, а жыцьцё ў прыфрантовай паласе даволі каштоўнае; аклады ў Рызе значна большыя, але тутака жыцьцё і асабліва кватэры — дужа дарагія.

Сваей буржуазіі беларуская нацыянальная меншасьць у Латвіі ня мае. Няма сярод беларусаў ні банкіраў, ні прамыслоўцаў, ні буйных гандляроў. Таму ня будзе ні нацяжкай, ні памылкай, калі мы скажам, што беларуская меншасьць па сацыяльнаму свайму складу зьяўляецца самаю пралетарскаю народнасьцю ў Латвіі. На жаль, ня ўсе беларусы ўсьведамляюць сабе сваё сацыяльнае становішча, а таму часта-густа, у разрэз са сваімі сацыяльнымі патрэбамі, некаторыя беларусы падтрымоўваюць чужыя для іх сацыяльныя групы і ідеолёгіі.

# V.

# Нацыянальнае жыцьцё беларусаў у Латвіі

## Часы русіфікацыі і полёнізацыі

Маскоўская ўлада і польскія паны ў Латгаліі, пачынаючы з 1772 г., вялі заўзятае змаганьне за душу беларускага народу. Тутака ў каталіцкіх „Інфлянтах Польскіх“, асабліва заўзята змагаліся прадстаўнікі дзьвюх дзяржаўна-нацыяналістычных ідэй: ідэі „Вялікае Расеі“, якая павінна *„зьліць у рускім моры ўсе славянскія ручаі“*, і ідэі „Вялікае Польшчы“, якая павінна зноў зьвярнуць сабе незалежнасьць і стаць дзяржавай *„ад мора да мора“* (ад Балтыцкага мора да Чорнага мора, захапіўшы пад Польшчу Літву, Латвію, Беларусь і Украіну зь Бесарабіяй).

Па думцы маскалёў-вялікаросаў — беларусы павінны былі папоўніць сабой лічбу „расейцаў“ у гэтым краю і зусім зьліцца з імі, адкінуўшы ўсякія думкі аб сваім беларускім нацыянальным жыцьці і твары; па думцы польскіх шавіністаў — беларусы павінны былі зьліцца з палякамі і павялічыць лічбу польскага элемэнту ў Інфлянтах.

Каб перацягнуць беларусаў да сябе, кожны з гэтых двух адвечных ворагаў мабілізаваў усе сілы і сродкі, якія меў у сваім распараджэньні. Былі прыцягнуты ня толькі сілы зямныя, але і нябесныя.

На дапамогу расейскай русіфікатарскай школе і адміністрацыі была прыцягнута праваслаўная царква. Праваслаўнае духавенства ў сьляпым падчыненьні расейскаму прастолу, ад якога яно атрымоўвала

духоўныя чыны і сьвецкія ардзяны, на гвалт убівала ў галавы ўсіх праваслаўных, што ўсе праваслаўныя беларусы зьяўляюцца „рускімі“. Каб зацемніць у беларускіх масах разуменьне сваёй нацыянальнай прыналежнасьці, праваслаўнае духавенства зумысьля ўносіла недапушчальную і нячэсную блытаніну ў разуменьне нацыянальнасьці, зьвязваючы два розныя паняцьці, як „рускі“ і „праваслаўны“, у вадно непадзельнаагульнае паняцьце — „праваслаўны рускі народ“, „Руская царква“, „мы — праваслаўныя рускія людзі“ — вось формулы, зь якімі зьвярталіся праваслаўныя сьвяшчэньнікі да народу па царквах. Ня дзіва, што праваслаўныя беларусы прывыкалі да гэтага чужога ім нацыянальнага назову і нават — як ужо гаварылася вышэй — пачыналі часам самі ўжываць яго.

Каталіцкае духавенства, большасьць якога у Латгаліі зьяўлялася польскімі патрыётамі ваяўніча-шавіністычнага пашыбу, вяло працу ў процілеглым кірунку і пераконывала беларусаў у тым, што кожны каталік зьяўляецца палякам. З каталіцкім духавенствам шчыра і дужа актыўна супрацоўнічалі польскія паны-абшарнікі, зрабіўшыя свае двары цытадэлямі полёнізму і арганізоўваючы сеткі тайных польскіх школ.

Змаганьне гэтае безупынна вялося ў працягу паўтара стагодзьдзя і захоплівала ў сфэру сваіх інтэрасаў ня толькі беларусаў, але і бліжэйшых нашых суседзяў, латгальцаў і ліцьвіноў; аднак, найбольшыя высілкі абодзьвюх старон заўсёды былі накіраваны ў бок захапленьня пад свае ўплывы беларусаў з мэтай поўнае асіміляцыі[8] іх, і найбольш нацыянальна страцілі і пацярпелі ад гэтага змаганьня якраз беларусы.

## Паміж дзьвюма рэвалюцыямі і вайной

Рэвалюцыя 1905 г. ускалыхнула ўсе народы былой Расеі і выклікала ў іх новыя імкненьні і надзеі; разварушыла яна і беларусаў. Пасьля рэвалюцыйнай навалы, якая зрабіла вялікія шчэрбіны ў будынку расейскай „турмы народаў“ і дала прыгнечаным „інародцам“ шэраг вельмі важных здабыткаў, як напрыклад карыстаньне сваей мовай у прэсе, беларусы атрымалі права на друкаваньне газэт у сваей роднай мове, на выпуск кніжок, на пастаноўку п’ес і вечарынак.

[8] Асіміляцыей завецца поўнае перайманьне адным народам ад другога мовы і звычаяў, у выніку чаго асіміляваны народ поўнасьцю зьліваецца з асіміляваўшым яго дужэйшым народам.

Сьледам за Вільняй, Петраградам і Менскам пачынаюць варушыцца і беларусы ў Латгаліі. Заместа тайна пашыраных заграні́чных беларускіх друкаў і рукапісных твораў у Латгаліі паявіліся легальныя беларускія віленскія і петраградзкія выданьні: „Наша Доля“, „Наша Ніва“, „Маладая Беларусь“. У местах Люцыне і Дзьвінску паявіліся нацыянальна-сьвядомыя асобы і цэлыя сем'і, як Эпімах-Шыпілы — у Люцыне, Гаўронскія, Шакуны ды Езавітавы — у Дзьвінску, а пасьля пачалі арганізоўвацца патаемныя вучнёўскія гурткі, як, напрыклад, рэвалюцыйны вучнёўскі гурток пры 2-гім Дзьвінскім мястовым 6-ціклясовым вучылішчы, які выпускаў рукапісныя вучнёўскія часопісы, як „Пуга“, „Іскра“, „Бізун“, пісаныя напалову па-беларуску, напалову па-расейску з добрымі малюнкамі ў фарбах.

Але новая хваля пасьлярэвалюцыйнае рэакцыі, нахлынуўшая на Латвію і зрабіўшая Дзьвінск базай для розных карных экспэдыцый, ствapала тут такую атмасфэру, што кожная спроба нацыянальнага аб'яднаньня выклікала розныя падазрэньні, а часам і рэпрэсыі. Ссылка ў Сібір і арышты беларускіх дзеячоў і паэтаў у Менску і Вільні стварылі прыгнечаны настрой у сьвядомых беларусаў Латгальшчыны і ў тых беларускіх дзеячоў, што жылі ў Рызе[9]. Яны не спынялі выпіскі беларускіх газэт і часопісаў, не перарывалі зносінаў зь беларускімі нацыянальна-культурнымі цэнтрамі, не пайшлі на асіміляцыю і ўгадоўшчыну[10] з расейшчынай, але затое былі пазбаўлены магчымасьці актыўнае

[9] У Рызе нейкі час жылі Мікола Вяршынін, Цішка Гартны, Вацлаў Ластоўскі.

[10] „Угодай“ або „ўгадоўшчынай“ беларусы Заходняй Беларусі называюць імкненьне некаторых беларускіх дзеячоў за ўсякую цану не сварыцца з польскай уладаю, нягледзячы на тое, што гэтая ўлада ўвесь час ўціскае беларусаў і зьдзекуецца нават над самімі гэтымі беларускімі дзеячамі. Гэтае імкненьне да ўгоды з варожаю нам ўладаю — і ёсьць тое шкоднае зьявішча, якое завецца „ўгадоўшчынай“. Угадоўцы дужа шкодзяць беларускаму руху тым, што ў польскае ўлады складаецца ўражаньне, быццам беларусы сур'ёзна не ставяць сваіх вымаганьняў і што зь беларусамі заўсёды будзе яшчэ час пагадзіцца, што беларускі народ да рэвалюцыйных падзей ня дойдзе. „Угадоўцы“ ў час расейскага панаваньня не жадалі сварыцца з расейскаю ўладаю і былі супроць незалежнасьці і нават супроць аўтаноміі Беларусі, згаджаючыся дзякаваць расейскую ўладу нават за кожны дазвол на беларускую вечарыну, нібыта такі дазвол быў пабудаваны не на праве беларускага народу на сваю мову і культуру, а на вольнай ласцы расейскае адміністрацыі. Баяліся ўгадоўцы ў царскія часы дамагацца і беларускае нацыянальнае школы.

беларускае працы і ня мелі магчымасьці стварыць якое-колечы беларускае аб'яднаньне, або таварыства.

У такім стане было беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Латвіі перад пачаткам Усясьветнае вайны і 2-й расейскай рэвалюцыяй.

Агульны падойм і ажыўленьне грамадзкае працы, якія распачаліся з сакавіка 1917 г., прывялі да масавага беларускага руху і ў Латвіі. У жніўні гэтага году склікаецца вялікі беларускі мітынг у Рызе, у вялікім зале Рамесьніцкага таварыства. На гэтым мітынгу, ініцыятарамі якога былі гр. Язэп Мамонька і Макарэвіч, пакладзены быў пачатак арганізацыі беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага фронту. У верасьню таго ж году пры арганізацыйным удзеле аўтара гэтае кніжыцы падрыхтоўваецца, а затым і склікаецца Зьезд беларусаў-вайскоўцаў 5-е арміі і ствараецца Беларускі нацыянальны камітэт у Дзьвінску. У сьнежню месяцы некаторыя сучасныя латвійскія воласьці, як, напрыклад, Пустынская і Прыдруйская, населеныя немаль выключна беларусамі, выбіраюць і пасылаюць сваіх прадстаўнікоў на Першы Усебеларускі Кангрэс у Менску. Аднак, гэты ўздойм і пачатак арганізацыі беларусаў у Латвіі быў зьбіты і сьцёрты нямецкай акупацыяй і доўгімі бойкамі, што ператварылі прыгожы, багаты і шматлюдны Дзьвінск у сумныя і нямаль бязлюдныя руіны.

1918 год, які прынёс усім народам Латвіі магчымасьць нацыянальнага аб'яднаньня і даў права на ўдзел у дзяржаўным і гаспадарчым жыцьці Латвійскае Рэспублікі[11], — беларусам у Латгаліі нічога ня даў радаснага: беларусы апынуліся ўвонках жыцьця рэшты Латвіі, у раёне безупынных боек; над іхнімі вёскамі вурчэлі пропэлеры нямецкіх, польскіх, савецкіх аэраплянаў, грымелі пушкі, перасоўвалася войска розных дзяржаў, наводзячы на мірных жыхароў паніку і перашкаджаючы земляробскай працы.

Тое-ж самае можна сказаць і аб 1919 г., які быў яшчэ больш цяжэйшым, бо жыхарства непамерна цярпела ад жаўнерскіх пастояў, хурман-

[11] Нямецкая, жыдоўская і маскоўская (велікароская) нацыянальныя меншасьці, цэнтрам жыцьця якіх у Латвіі зьяўляецца Рыга, дзе яны маюць шмат сваіх арганізацый, — ужо ў 1918 г., зараз жа пасьля абвешчаньня незалежнаі працы былі ўзяты ад гэткага-ж т-ва, працаваўшага на Беларусі: у 1917—1918 гг. — у Менску, у 1918—1919 гг. — у Горадне і Беластоку, а затым перанёсшага сваю працу і за-межы Беларусі ў беларускія калёніі. Было адчынена таварыства „Бацькаўшчына“ ў 1919 г. і ў Рызе для рыскае беларускае калёніі, дзе яно разьвівала значную працу і нават мела свой вялікі клюб на Крэпасной вуліцы ў будынку №3/5.

ковае павіннасьці, пошасных хвароб, свавольства камэндантаў і розных акупацыйных начальнікаў.

1920 год не адразу даў спакой латгальскім беларусам. Толькі пасьля 11 жніўня, калі быў падпісаны латвійска-савецкі мірны дагавор, высьветліўся лёс беларусаў Латгаліі: у гэты дзень былі ўстаноўлены і зафіксаваны дзяржаўныя межы Латвіі на ўсходзе, з Савецкімі Рэспублікамі і выявілася існаванне ў Латвійскай Рэспубліцы беларускае нацыянальнае меншасьці. Аднак, беларуская меншасьць ня мела магчымасьці адразу прыступіць да самаарганізацыйнае працы, бо вялікі кавалак Латгаліі і ўся Ілукшчына знаходзіліся тады яшчэ ў руках польскае акупацыйнае арміі, якая варожа ставілася да беларускага нацыянальнага руху[12].

У гэткіх неспрыяючых абставінах, слабое па сваей нацыянальна-сацыяльнай сьвядомасьці беларускае грамадзтва ня здолела ў 1920 г. зрабіць належных крокаў для стварэньня сваіх меншасьцёвых арганізацый. Спробы беларускае эміграцыйнае інтэлігэнцыі, пражываўшай у значнай лічбе ў Рызе, дапамагчы латгальскім беларусам у іх арганізацыйна-меншасьцёвай працы не маглі даць патрэбных вынікаў, бо па закону меньшасьцёвыя арганізацыі могуць закладацца і кіравацца толькo латвійскімі грамадзянамі, ураджэнцамі Латвіі. Парадак атрыманьня латвійскага грамадзянства для многіх жыхароў Латгаліі — ня толькі беларусаў, але і іншых нацыянальнасьцяў — быў яшчэ малавядомы, а таму чыста фармальныя, пашпартныя прычыны зацягнулі яшчэ на некаторы час арганізацыю беларускае меншасьці.

---

[12] Акупаваўшы Латгалію, палякі спадзяваліся зрабіць зь яе адну з сваіх усходніх правінцый (гістарычныя Інфлянты Польскія), а таму адразу павялі ў Латгаліі шырокую арганізацыйную працу: правялі перапіс жыхарства ў Ілукшчыне, аб якім ужо ўспаміналася раней у гэтай кніжыцы, заклалі некалькі новых польскіх таварыстваў, грашова падтрымалі польскія таварыствы, што раней працавалі ў гэтай краіне, і, нарэшце, паступова імкнуліся падрыхтаваць у Латгальшчыне нейкае інсцэнаванае “народнае галасаваньне”, падобнае да тэй камэдыі, якую прарабіў Жэлігоўскі ў Віленшчыне, дзе было спачатку інсцэнавана вайсковае паўстаньне, у часе якога “непакорны гэнэрал” Жэлігоўскі, нібыта супраць волі Пілсудскага, захапіў Віленшчыну, а затым быў праведзены Віленскі Устаноўчы Сойм Сярэдняе Літвы, які далучыў Віленшчыну да Польшчы. Правесьці гэткую-ж камэдыю ў Латгаліі палякам не дазволіла Чырвоная армія, якая ў 1920 г. адкінула польскіх акупантаў з Латгаліі і Беларусі аж пад Варшаву.

## Пачатак арганізацыі беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі

У пачатку 1921 году група сьвядомых і актыўных беларускіх інтэлігэнтаў: Кастусь Езавітаў, Ян Харлап, Сяргей Сахараў, Мікола Хмялеўскі і некаторыя іншыя атрымалі нарэшце латвійскае грамадзянства. Гэта дало ім магчымасьць прыступіць да арганізацыі беларускае меншасьці і закласьці 15 красавіка 1921 г. у Дзьвінску першае меншасьцёвае беларускае культурна-асьветнае таварыства „Бацькаўшчына“[13].

Зь першых крокаў новастворанаму таварыству і яго кіруючай групе прышлося вытрымаць шалёны націск расейскае чорнае сотні і польскіх шавіністычна-абшарніцкіх колаў. У арганізацыі беларусаў і ў стварэньні беларускіх меншасьцёвых таварystваў, як расейскія манархісты, так і польскія шавіністы ўбачылі пагрозу сваім уплывам у Латгаліі, убачылі, што ў іхнюю векавечную барацьбу за душу беларускага народу ўступае новая сіла, сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя, якая будзе вясьці змаганьне за тое, каб беларусы не зрабіліся ні палякамі, ні расейцамі, а каб трымаліся свайго роднага беларускага. Гэта было модным ударам — у латвійскім, зразумела, маштабе — па ідэі *„адзінае недзялімае матушкі Расеі“*, а таксама ня меншым ударам і па польска-памешчыцкай ідэі *„Польшчы ад мора да мора“*. Ад адзінае „рускае“ меншасьці Латвіі адрываліся беларусы-праваслаўныя, якіх маскоўскія шавіністы ўжо даўно прызвычаіліся лічыць зусім сваімі, і цяпер гэты нечаканы адрыў кваліфікавалі як „здраду рускай справе“, як варожую для велікаросаў дэманстрацыю. Польскія памешчыкі, весь свой уплыў і вагу ў Латгаліі грунтаваўшыя на посьпехах паступовае полёнізацыі беларусаў-каталікоў, убачылі, што некалькі дзясяткаў тысяч беларусаў-каталікоў уходзяць з-пад іхніх уплываў і таксама разглядалі гэта як здраду „польскай справе“ у Інфлянтах Польскіх як нечыю інтрыгу супраць польскіх інтарэсаў.

Вось чаму з абодвух бакоў на беларусаў і іхніх павадыроў пасыпаліся ўсялякія абвінавачваньні. І палякі-шавіністы і велікаросы-„недзялімцы“ пастанавілі ўжыць усе спосабы, каб спыніць малады беларускі адраджэнчы рух у Латвіі. Паміж двумя адвечнымі ворагамі маскалямі

[13] Назоў, статут і традыцыі працы былі ўзяты ад гэткага-ж т-ва, працаваўшага на Беларусі: у 1917—1918 гг. — у Менску, у 1918—1919 гг. — у Горадне і Беластоку, а затым перанёсшага сваю працу і за-межы Беларусі ў беларускія калёніі. Было адчынена таварыства “Бацькаўшчына” ў 1919 г. і ў Рызе для рыскае беларускае калёніі, дзе яно разьвівала значную працу і нават мела свой вялікі клюб на Крэпасной вуліцы ў будынку №3/5.

і палякамі часова наступіла нібыта нейкае перамір'е і нават больш таго — наступацельны хаўрус супраць толькі што паўстаўшае беларускае меншасьці.

У выніку гэтага польска-маскальскага хаўрусу на беларусаў наагул, і на актыўных беларускіх дзеячоў у Латвіі асабліва — паліліся са шпальтаў польскае і велікароскае прэсы цэлыя бочкі памыяў, у дзяржаўныя латвійскія ўстановы пасыпаліся даносы аб палітычнай „нядобранадзейнасьці“ беларусаў, было справакавана некалькі вобыскаў па вёсках у сьвядомых беларускіх вучыцялёў і нават зроблены быў вобыск у самога старшыні Т-ва „Бацькаўшчына“ грамадзяніна Яна Харлапа, які настолькі быў гэтым усхваляваны і настрашаны, што хацеў быў адмовіцца ад старшынства і потым нават захварэў.

Кампанія безсаромнай ілжы, даносаў і пэрсанальнага запугіваньня паасобных працаўнікоў дужа перашкаджала беларускай арганізацыйнай працы, аднак не спыніла яе. Сьледам за Цэнтральнай арганізацыяй у Дзьвінску Т-ва „Бацькаўшчына“ закладае шэраг сваіх філіалаў: у Люцыне, у Краслаўцы і іншых мясцовасьцях. Гэтыя аддзелы вядуць арганізацыйна-грамадзкую і культурна-асьветную працу, ставячы сабе першаю мэтаю адкрыцьце беларускіх нацыянальных школ і падрыхтоўку для іх належнага кадру настаўнікаў.

Накіроўваючы ўсе свае высілкі на арганізацыю беларускіх школ і падрыхтоўку для іх настаўнікаў, беларускія дзеячы ня мелі часу аддаваць свае сілы палітычнай і эканамічнай арганізацыі беларускае меншасьці і адкладалі гэтыя вельмі важныя справы на далейшы час. Аднак у гутарках, прамовах і ў працэсе беларускае культурна-асьветнае працы ўжо патроху вызначаўся і намячаўся палітычны твар беларускае меншасьці.

Мы ўжо адзначалі, што па сацыяльнаму свайму складу беларуская меншасьць можа быць цалком аднесена да пралетарыяту. Да гэтага трэба дадаць, што актыўнейшыя і палітычна-падрыхтаваныя беларускія дзеячы належалі да розных сацыялістычных партый. Усё гэта, а таксама і тое, што нават малаактыўныя і палітычна несьвядомыя беларускія інтэлігенты толькі-толькі яшчэ ўваходзіўшыя нясьмелымі крокамі ў беларускі нацыянальна-адраджэнчы рух, ужо таксама арыентаваліся і несьвядома імкнуліся ў бок сацыялістычнага сэктару латвійскае грамадзкасьці, — стварала ў наглядальнікаў беларускага руху такое ўражаньне і нават пераконаньне, што беларуская нацыянальная меншасьць палітычна аформіцца пад знакам левасацыялістычнае партыі.

Гэты бязспрэчны факт „левізны“ беларускае меншасьці раней самых беларусаў заўважылі іхнія ворагі. І у гэтым была другая прычына напа-

дак на беларусаў з боку расейскіх чарнасоценных колаў і польскіх абшарнікаў. І для тых, і для другіх беларусы былі ня толькі нацыянальныя ворагі, разьбіваўшыя ў працэсе свайго самавызначэньня меншасьцёвыя групы „расейцаў“ і палякаў, але, апроч таго — і гэта было для памешчыкаў і манархістых куды важней — беларуская меншасьць станавілася ў шэрагі пралетарыяту Латвіі і тым самым рабілася сацыяльна-клясавым ворагам польскага пана і расейскага манархістага. З пункту гледжаньня гэтых дзьвюх груп, магчыма было-б яшчэ так-сяк калі не прымірыцца зусім з фактам беларускае нацыянальна-адраджэнчае працы, дык ува ўсякім разе хаця-ж бы цярпець яе, але з сацыяльнымі імкненьнямі беларусаў гэтыя групы прымірыцца не маглі ні ў якім разе.



Ян Васіпавіч Харлап — першы старшыня Цэнтральнага праўленьня Культурна-прасьветнага т-ва “Бацькаўшчына”. Памёр 18 сакавіка 1923 г. у Дзьвінску

Маладая беларуская грамадзкасьць у Латвіі ў пераважнай сваёй большасьці зусім не здавала сабе справаздачы ў запраўдных прычынах варожага адношаньня да беларускага руху з боку клясава-варожых беларусам маскальскіх і польскіх груповак, а таму зусім шчыра шукала магчымасьці паразуменьня з імі і старалася пераконываць гэтыя групоўкі ў праве беларусаў на нацыянальнае самавызначэньне[14]. Дзехто зь беларусаў меў нават наіўнасьць думаць, што велікаросы дапамо-

[14] Было-б памылкаю, каб беларусы ўсю велікароскую, або ўсю польскую меншасьць аднесьлі-б да ліку манархістаў, або да ліку польскіх шавіністаў, і на гэтым груньце лічылі-б кожнага велікароса і кожнага паляка сваім ворагам. Ёсьць сярод велікаросаў і палякаў групы, пралетарскія групы, якія могуць зразумець беларуса, але, на жаль, гэтыя групы ня маюць рашучага значаньня ў жыцьці і ў кіраўніцтве гэтымі меншасьцямі: велікароскі друк ў Латвіі, а таксама і падаўляючая большасьць уплывовых велікароскіх і польскіх меншасьцёвых арганізацый знаходзяцца ў руках, або пад моцнымі ўплывамі, клясава і нацыянальна варожых нам груповак.

гуць беларусам у справе адкрыцьця беларускіх школ і Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы, аднак на адпаведную просьбу беларусаў расейская фракцыя Латвійскага Установчага Сойму вельмі катэгарычна, у пісьменнай форме, паведаміла, што дапамагчы беларусам не жадае. Наступіў момант, калі беларусы павінны былі агледзіцца, ацаніць адношаньне да сябе розных груп у Латвіі і высьветліць: хто сябра і шчыры прыхільнік, а хто вораг; з кім трэба і магчыма ісьці разам, а каго трэба стараніцца і адмяжоўвацца.

Першае, што зрабілася зусім ясным для кіруючае групы ў Т-ве „Бацькаўшчына“, гэта тое, што ніводная меншасьцёвая група не падтрымае беларусаў у іхняй працы. Славутны *„адзіны фронт меншасьцяў“* быў не для беларусаў — беларусам у гэтым адзіным фронце не было мейсца; кіруючыя велікарускія і польскія групоўкі ставіліся да беларусаў ня толькі адмоўна, але і актыўна-варожа, немцам не падабалася тое, што беларусы цалком падтрымоўвалі адабраньне зямлі ад баронаў, а габрэйская меншасьць ня мела зь беларусамі ніякіх супольных інтарэсаў.

Тутака ў Латвіі паўторывалася ў мініатуры тое, што беларусы ўжо мелі магчымасьць назіраць у сваім агульнабеларускім адраджэнчым руху: вялікадзяржаўныя нацыі, меўшыя прэтэнзіі на поўную асіміляцыю беларусаў, не маглі быць сябрамі новаадроджанае беларускае меншасьці. Свой лёс у Латвіі беларусы маглі шчыра зьвязаць і даверыць толькі латыскай большасьці, якая ў сваей адраджэнчай гісторыі, працы і ідэолёгіі шмат мела супольнага зь беларусамі. Гэта было другое, што трэба было зразумець беларусам зь першых-жа крокаў іхняе працы.

Трэцяе, што праз некаторы час зразумелі беларусы, было тое, што ня ўсе групы латыскае большасьці будуць падтрымоўваць беларусаў: пасколькі левы, сацыялістычны сэктар латвійскае грамадзкасьці шчыра спачуваў пачынаньням беларускае меншасьці, бо безумоўна вызнаваў права кожнага народу на нацыянальнае самавызначэньне і нацыянальна-культурную аўтаномію, пастольку ў некаторых буржуазна-нацыяналістычных латвійскіх групоўках пачала лунаць шавіністычная думка аб тым, што беларусы яшчэ слабенькая нацыя, маласьвядомая свае нацыянальнасьці, а таму варта было-б заместа падтрымкі новапаўстаўшае беларускае меншасьці заняцца пляновым аблатышваньнем беларусаў з дапамогаю адпаведна пастаўленых латыскіх школ у валасьцёх з малапісьменным беларускім жыхарствам. Думка гэтая выказвалася ў 1921 г. нясьмела, няўпэўнена, спадцішка, але яна ўжо захапіла некаторых паасобных правых дзеячаў і чыноўнікаў і, як убачым ніжэй, праз два-тры гады думку гэтую ўжо пачалі праводзіць у жыцьцё.

У выніку гэтых назіраньняў, а таксама і папярэдніх перагавораў, ведзеных з рознымі групамі, Беларускае культурна-прасьветнае т-ва „Бацькаўшчына“ пераканалася, што найбольшае разуменьне і падтрымку беларусы змогуць знайсьці ў сацыяльна-блізкіх беларусам групах левага сэктару латвійскае грамадзкасьці. Таму, пакінуўшы далейшыя гутаркі зь меншасьцямі, Цэнтральнае праўленьне памянёнага Таварыства зьвярнулася зь пісьменнай просьбай да сябра сацыял-дэмакратычнае фракцыі Установчага Сойму Латвіі, вядомага латыскага паэты і прыхільніка беларусаў грамадзяніна Яна Райніса, каб ён, за адсутнасцю ў Сойме беларускага дэпутата, узяў на сябе абарону беларускіх нацыянальна-культурных інтарэсаў. Ян Райніс, які дужа цікавіўся ходам беларускае адраджэнчае працы і старанна вывучаў беларускую літаратуру[15], зь вялікаю спагадаю і энэргіяй адгукнуўся на просьбу беларусаў, узяў іх, у поўным сэньсе слова, пад сваю палітычную апеку і шмат дапамог, як у справе адчыненьня Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы, гэтак і ў абароне беларусаў з соймавае трыбуны. Дзякуючы Я. Райнісу, беларусы справіліся з цэлым шэрагам наскокаў, інтрыг ды безпадстаўных закідаў і аканчальна замацавалі сваё юрыдычнае становішча, як раўнапраўнае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі.

Няможна тутака не ўспомніць і той маральнай падтрымкі, якую беларусам зрабілі двое разумнейшых латвійскіх палітыкаў, цяпер ужо, на жаль, нябожчыкаў, гэта: былы прэзыдэнт Латвійскае Рэспублікі гр. Ян Чакстэ, і міністар замежных спраў гр. Зігфрыд Мэйеровіц, якія ободва вельмі добра ўлічвалі вялікае значаньне для Латвіі беларускага нацыянальнага адраджэньня ў міжнародным маштабе, бачылі ў беларусах і Беларусі шчырых прыхільнікаў і натуральных хаўрусьнікаў Латвіі, а таму са свайго боку стараліся дапамагчы бе-

[15] Паэт Ян Райніс здаўна ведаў беларусаў, бо нарадзіўся ў паўднёва-ўсходнім кутку Ілукшчыны, дзе з маленства чуў беларускую мову і беларускую песьню, якая — як сам ён успамінае ў сваёй аўтабіаграфіі — пакінула на яго моцнае ўражаньне. У 1920 г., па звароце сваім у Латвію, ён пазнаёміўся ў Рызе з прадстаўнікамі беларускае інтэлігэнцыі і захапіўся вывучэньнем беларускае літаратуры. Асабліва падабаліся яму творы Максіма Багдановіча і некалькі разоў ён выказваў думку аб патрэбе перакласьці творы гэтага пісьменніка на латыскую мову. Аўтар гэтае кніжыцы падараваў Яну Райнісу невялічкую беларускую бібліятэчку і часта змушаны быў тлумачыць яму незразумелыя беларускія словы, а ў кніжыцы Максіма Багдановіча „Вянок“ прыйшлося нават, па просьбе Я. Райніса, зрабіць надстрочны пераклад на расейскую мову ўсіх вершаў гэтага зборніку.



Ян Райніс, вядомы латыскі паэт і грамадзкі дзеяч

ларускаму руху ў межах Латвійскае дзяржаўнасьці.

Што тычыцца шырокіх колаў латвійскае інтэлігэнцыі і латвійскага чынавенства — як ў Рызе, гэтак і на мяйсцох у Латгальскай провінцыі і Ілукшчыне — дык нямożна сказаць, каб у іх было яснае разуменьне аб тэй пазыцыі, якую ім трэба заняць у адношаньні да беларускага руху. Большасьць латвійскае інтэлігэнцыі, у тым ліку і дэпутаты Сойму, выхаваліся ў расейскай школе, якая вучыла, што беларусы ёсьць малодшыя браты велікаросаў, што ніякае свае культуры ў беларусаў няма, што беларуская мова гэта — *„нарэчые“* расейскае мовы, што беларускае літаратуры не існуе і г.д. Калі распачалася арганізацыя беларускае меншасьці, а разам з тым і расейска-польская саюзная кампанія супраць беларусаў, дык дужа многія з гэтых латыскіх інтэлігэнтаў, чытаючы расейскія газэты і падпадаючы пад пэрсанальную антыбеларускую агітацыю многалічных велікарускіх і польскіх дзеячоў, пачыналі ставіцца да беларусаў з падазроннасьцю, як да новага і незразумелага для іх зьявішча. Беларускі рух здаваўся ім штучнай зьявай, якая выклікана не натуральным і зусім праўным імкненьнем беларусаў да нацыянальнага самавызначэньня, а нечымі таемнымі інтрыгамі, шкоднымі для Латвіі. Дык ня дзіва, што ў адказ на разасланую Т-вам „Бацькаўшчына“ паперу-дэкляраціцыю ў справе адчыненьня беларускіх школ, якая была накіравана да інспэктароў аснаўных школ і старшынь павятовых школьных управ Дзьвінскага, Люцынскага, Рэжыцкага і Ілукштанскага паветаў, — прыйшлі з розных мейсц адказы самага процілежлага характару: адны віталі адчыненьне беларускіх школ і абяцалі ім падтрымку (Дзьвінская і Люцынская павятовыя школьныя ўправы), другія ставіліся дужа стрымана (Ілукшчына і Рэжыца), а трэціі адразу занялі выразна-непрыхільную і нават варожую пазыцыю, як, напрыклад, інспэктар аснаўных школ Люцынскага павету гр. Свэнэ, які зьвярнуў дэкляраціцыю назад у Цэнтральнае праўленьне з размашыстай рэзалю-

цыяй: *„Беларусы добра разумеюць расейскую мову, а таму адчыненьне асобных беларускіх школ лічу непатрэбным“*[16].

Само Міністэрства асьветы ня ведала спачатку якую пазыцыю яму трэба заняць адносна беларускай меншасьці, і на першыя захады Т-ва „Бацькаўшчына“ аб адкрыцьці Беларускага аддзелу, зробленыя яшчэ ў траўню месяцы 1921 г., рэагавала толькі кароткай паперай ад 8.VI.1921 за №1561, у якой прасіла Т-ва „Бацькаўшчыну“ даць падрабязныя весткі *„аб культурным стане беларусаў у Латвіі, аб лічбе беларускае інтэлігэнцыі і аб ліку беларускіх школ“*.

Як бачым, ужо з самых першых крокаў арганізацыі беларускае меншасьці ў Латвіі, яна апынулася ў дужа складаных і цяжкіх абставінах штодзённага змаганьня з варожымі групамі іншых меншасьцяў, спаткалася зь неразуменьнем і падазронасьцю правінцыяльнага латвійскага чынавенства, нарэшце павінна была перамагчы ўласную нацыянальна-сацыяльную інэртнасьць і маласьвядомасьць. Усё гэта патрабавала вялікіх высілкаў і такту ў працы, патрабавала ўзаемнага разуменьня, волі да перамогі і гатоўнасьці на ахвяры.

# VI.

# Культурна-асьветная праца беларускае меншасьці

### Першы 1921—1922 навучальны год

Беларускае культурнаа-асьветнае т-ва „Бацькаўшчына“, распачынаючы сваю працу ў Латгаліі, паклапацілася ў першую чаргу аб тым,

[16] Інспэктар Свэнэ да самага апошняга часу працуе ў Люцыншчыне і нямала шкодзіў беларускім школам. Дзе-хто адмоўную яго пазыцыю да беларускіх школ тлумачыў тым, што інспэктар Свэнэ пісаў і выдаваў кніжкі на расейскай мове для расейскіх школ, а таму не жадаў стварэньня школ беларускіх, каб гэта не адбівалася на пашырэньні ягоных выданьняў. У 1923—1924 навучальным годзе гэты інспэктар быў адным з пачынальнікаўператварэньня беларускіх школ на латыскія школы, і ў гэтай сваёй „патрыётычнай“ працы меў моцную падтрымку ў некаторых колах Міністэрства асьветы. Гэта-ж „зь лёгкай рукі“ таго-ж інспэктара Свэнэ пачалі дзе-каторыя „знаўцы“ Латгаліі даводзіць, што тутака ніякіх беларусаў няма, а тыя грамадзяне Усходняй Латгаліі, што лічаць сябе беларусамі, ёсьць быўшыя латышы!

каб падрыхтаваць настаўніцкія кадры для будучых беларускіх нацыянальных школ, адкрыцьце якіх намячалася ўжо з восені 1921 г. у Дзьвіншчыне. Дзеля таго, што ў Дзьвінскім, Ілукштанскім і Люцынскім паветах была даволі значная колькасьць настаўнікаў беларускае нацыянальнасьці, якія працавалі ў расейскіх і іншых школах, а часам і зусім сядзелі без пасады, дык справа стварэньня першых настаўніцкіх кадраў для беларускіх школ значна палягчалася. Заместа таго, каб рыхтаваць і ўзгадоўваць новых маладых настаунікаў, што патрабуе некалькі год працы, магчыма было скарыстаць для беларускіх школ ужо гатовыя кадры настаўнікаў, даўшы ім належныя веды зь гісторыі і геаграфіі Беларусі, зь беларускае літаратуры і мовы. Такія веды настаўнікі-беларусы маглі здабыць на асобных курсах беларусазнаўства падчас летніх вакацый.

Каб скарыстаць вольны летні час для перападрыхтоўкі настаўнікаў, Цэнтральнае праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ зьвярнулася да Міністэрства асьветы з просьбай аб дазволе адкрыць улетку 1921 г. у Дзьвінску курсы беларусазнаўства для настаўнікаў-беларусаў. Міністэрства асьветы пайшло на спатканьне просьбе Таварыства і дала дазвол адкрыць курсы беларусазнаўства ў Дзьвінску пры курсах латыскае мовы, якімі кіраваў інспэктар аснаўных школ Дзьвінскага павету гр. Л. Я. Азолінь. Лектарамі на курсах былі зацьверджаны гр. гр. Ігнат Дзарчанін і Кастусь Езавітаў. На аплату лектароў была адпушчана Міністэрствам з сум Агульнага дэпартамэнту невялічкая дапамога.

Гэтыя першыя курсы беларусазнаўства для настаўнікаў праслухала ў працягу 6 тыдняў 43 асобы, зь ліку якіх 20-ці настаўнікам былі выдадзены пасьведчаньні на права выкладаньня ў беларускіх аснаўных школах у Латвіі. Агульна-асьветная падрыхтоўка некаторых настаўнікаў была слабаватая, трохі замала было і 6-цітыднёвае працы на курсах беларусазнаўства, але-ж усе-ж-ткі гэтых 20 настаўнікаў можна ўжо было скарыстаць для пачатку працы ў школах. Немаль усе яны і былі прызначаны на працу ў тых першых 16 беларускіх аснаўных школах, якія адкрыліся з восені 1921 г. у Прыдруйскай і Пустынскай валасьцёх Дзьвінскага павету.

Другім заданьнем, якое паставіла сабе ўлетку 1921 г. Т-ва „Бацькаўшчына“, гэта арганізацыя гэткіх-жа курсаў беларусазнаўства для настаўнікаў-беларусаў, якія працавалі ў Люцыншчыне і ўлетку павінны былі слухаць курс латыскае мовы ў Люцыне. Аднак, зьдзейсьніць гэтага жаданьня Т-ву, па незалежных ад яго прычынах, не давялося і прышлося абмежавацца толькі двумя-трымя лекцыямі-гутаркамі з



Першыя курсы беларусазнаўства для вучыцялёў Дзьвінскага павету ўлетку 1921 г. У сярэдзіне сядзяць: школьны інспэктар Дзьвінскага павету Л. Азолінь і лектары курсаў: К. Езавітаў і І. Дварчанін

гэтымі настаўнікамі. Гэта было вельмі шкодна для Люцыншчыны, бо і тутака ўвосень і ўзімку 1921—1922 навучальнага году была намечана арганізацыя беларускіх школ, а настаўнікі-беларусы зусім не былі падрыхтаваны да працы з боку беларусазнаўства. Гэтая непадрыхтаванасьць настаўнікаў потым, у працягу некалькіх год, давала сябе адчуваць у беларускіх школах Люцыншчыны, ствараючы шмат перашкод у працы.

Трэцім заданьнем улетку 1921 г. было пастаўлена стварэньне ў Дзьвінску беларускае трупы, якая абслугоўвала-б гэтае места і, па магчымасьці, выяжджала бы ў бліжэйшыя беларускія воласьці. З дапамогаю лектара курсаў беларусазнаўства гр. І. Дварчаніна і пры шчырым супрацоўніцтве найбольш здольных курсантаў-настаўнікаў, а таксама і беларускае моладзі места Дзьвінску, трупа была скалочана і паставіла некалькі ўдалых пастановак. Рэжысорам у трупе быў гр. Сьцяпан Заліўскі, здольны артыста, які зараз, на жаль, адышоў ад сцэны і зрабіўся сьвяшчэньнікам. Трупа не абмяжоўвалася пастаноўкамі ў Дзьвінску, але выяжджала ў Рэжыцу, Краслаўку і Бароўку. Недахоп сродкаў спыніў працу гэтае першае трупы.



Першая беларуская трупа ў Дзьвінску пры Т-ве „Бацькаўшчына“ ўлетку 1921 г. У цэнтры другога раду сядзяць: рэжысёр С. Заліўскі і намесьнік старшыні „Бацькаўшчыны“ К. Езавітаў

Увосень 1921 г. у Прыдруйскай і Пустынскай валасьцёх Дзьвінскага павету адкрыліся нарэшце першыя ў Латвіі 16 беларускіх 4-хклясовых школ. Зараз-жа па адчыненьні гэтых школ Цэнтральнае праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ зноў зьвярнулася празь міністра асьветы гр. Даўге ў Раду Міністраў з просьбаю аб арганізацыі для кіраваньня памянёнымі школамі Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы. Гэтая просьба Т-ва была аднак адкінута па чыста фармальных прычынах: згодна Закону аб арганізацыі меншасьцёвых аддзелаў пры Міністэрстве асьветы, трэба было, каб просьбу ад імя меншасьці падаваў у Раду Міністраў дэпутат Устаноўчага Сойму — прадстаўнік памянёнае меншасьці.

Вось тутака на дапамогу беларусам і на абарону іхніх меншасьцёвых правоў і прыйшоў са ўсёю шчырасьцю і рашучасьцю паэт-дэпутат Ян Райніс. Была пададзена трэцяя просьба, падпісаная ўжо і Я. Райнісам. Міністр асьветы гр. Даўге і яго намесьніца вядомая латгальская дзяячка Валерыя Сэйль, пабываўшыя ўвосені ў Дзьвінску і паглядзеўшыя беларускую трупу і працу, таксама падтрымалі перад Радай Міністраў просьбу беларусаў аб адкрыцьці Аддзелу. На гэты раз пасьля некаторай дадатковай перапіскі і прадстаўленьня розных неабходных матарыялаў, просьба

беларусаў была задаволена і з 1 кастрычніка таго ж году пры Міністэрстве асьветы быў асnованы асобны Беларускі аддзел.

Кіраўнікам Беларускага аддзелу быў на моцы прадстаўленьня Т-ва „Бацькаўшчына“ зацьверджаны г-нін Сяргей Пятровіч Сахараў, былы дырэктар гімназіі ў Люцыну. У якасьці канцэлярскага памочніка яму быў дадзены стары інспэктар народных школ Ян Антонавіч Шчорс, якога ўрад зацьвердзіў дзелаводам Беларускаго аддзелу. Гэтымі дзьвума сіламі пакуль-што і была абмежавана новастворaная беларуская ўстанова.

Буджэт Беларускага аддзелу пры яго адкрыцьці быў зацьверджаны ўсяго ў суме 168 793 латвійскіх рублёў тэрмінам на 6 месяцаў: з 1 кастрычніка 1921 г. і да канца дзяржаўна-буджэтнага году, г.ё. да 1 красавіка 1922 г. Сумма гэтая зусім не адпавядала вялікім арганізацыйным патрэбам, якія стаялі перад Аддзелам: не была прадугледжана ні дапамога беларускаму тэатру, ні Т-ву „Бацькаўшчына“, ні сумы на ўтрыманьне інспэктара беларускіх школ, ні грошаў на выдавецтва або на закупку падручнікаў і бібліятэк для школ. У буджэце прадугледжывалася толькі пэнсыя двум вышэй памянёным працаўнікам Аддзелу ды невялічкая сумма на арганізацыю дзяржаўных беларускіх настаўніцкіх аднагадовых курсаў. Пэнсыя для чыноўнікаў Аддзелу была вызначана вельмі маленечкая, а для кіраўніка дзяржаўных настаўніцкіх беларускіх курсаў пэнсыя была вызначана зусім жабрацкая —1000 рублёў у месяц.

Працы перад Беларускім аддзелам стаяла шмат. Апрача абслугоўваньня 16 беларускіх школ, адкрытых у Дзьвінскім павеце, Аддзел меў цэлы шэраг заяў і просьбаў аб патрэбе адкрыцьця беларускіх школ у Люцынскім, Рэжыцкім і Ілукштанскім паветах, а таксама ў гарадох Дзьвінску, Люцыну і Рызе. Патрэбны былі выезды на мейсца, абсьледаваньні, анкеты і ўзмоцненая перапіска, аднак двое працаўнікоў Беларускага аддзелу ня мелі фізычнае магчымасьці справіцца з усею гэтаю арганізацыйнаю працаю і таму патрэбна было ў першую чаргу дамагацца павелічэньня буджэту Аддзелу і лічбы яго супрацоўнікаў, а да таго часу вельмі энэргійна дапамагала Аддзелу сваей працай у Дзьвінску Цэнтральнае праўленьне Т-ва „Бацькаушчына“, намесьнік старшыні якога гр. Кастусь Езавітаў быў прызначаны арганізатарам-кіраўніком дзяржаўных беларускіх настаўніцкіх аднагадовых курсаў у Дзьвінску.

З 1 сьнежня 1921 г. у Дзьвінску на Вітабскай вуліцы ў доме №16 у памешканьні 2-й мястовай аснаўной школы прыступілі да праводкі электрыкі на другі паверх будынку і да іншае падрыхтоўчае працы, каб прыстасаваць памешканьне для вячэрніх заняткаў на аднагадовых на-

стаўніцкіх курсах. Адначасна прыймаліся заявы ад грамадзян-беларусаў, жадаўшых праслухаць курсы і атрымаць права выкладаньня ў беларускіх школах. Слухачоў набралася каля 40 чалавек, сярод якіх каля паловы ўжо мелі закончаную сэмінарскую ці гімназіяльную асьвету і дыплём вучыцеля, а значная частка мела ўжо і пасады настаунікаў у дзьвінскіх мястовых велікарускіх і польскіх школах; другая палова курсантаў ня мела закончанае сярэдняе асьветы, але была прынята ўмоўна з тым, каб па сканчэньні пэдагагічных курсаў і атрыманьня пасады настаўніка потым на асобных летніх агульнаасьветных курсах у працягу некалькіх год падвысіла-б сваю веду і здала-б дадатковыя іспыты за курс сярэдняе школы. Заняткі на курсах адразу наладзіліся добра і нямаль зь першых дзён намецілася ядро курсантаў, якія ня толькі з посьпехам слухалі курс, але аддалі сябе і беларускай нацыянальна-грамадзкай працы: ладзілі вечарыны з дэклямацыяй і сьпевамі, ставілі беларускія спэктаклі, прыймалі ўдзел у працы Т-ва „Бацькаўшчына“.

З падборам лектароў на курсы было значна цяжэй, бо на мейсцу ў Дзьвінску сьвядомых беларускіх сіл з належнай пэдагагічнай кваліфікацыяй немаль не было і лектароў прыйшлося выпісываць з-за мяжы, што патрабавала і часу на перапіску, і даўгіх захадаў перад урадам аб дазволе.

З 1 студзеня 1922 г. Рада Міністраў згадзілася нарэшце павялічыць штат Беларускага аддзелу з двух да чатырох супрацоўнікаў і адпусьціла ў распараджаньне Аддзелу дадатковы буджэт, у якім прадугледжываліся сродкі на службовыя камандзіроўкі чыноў аддзелу і на дапамогу беларускім аснаўным школам падручнікамі. Новы штат Беларускага аддзелу складаўся з гэткіх чатырох урадовых чыноўнікаў: кіраўнік Аддзелу, інспэктар аснаўных беларускіх школ, дзелавод і машыністка-карэспандэнтка. На вольную пасаду інспэктара беларускіх школ Т-ва „Бацькаўшчына“ выставіла кандыдатуру гр. Канстантына Барысавіча Езавітава, які і быў зацьверджаны Міністэрствам асьветы. На пасаду машыністкі-карэспандэнткі, якая павінна была добра ўладаць латыскаю моваю, была спачатку высунута кандыдатура ўнучкі латыскага дзеяча Крыш'яна Барона, якая і прапрацавала ў Аддзеле некаторы час, а затым, калі яна пакінула працу, на гэтую пасаду была запрошана гр. Ніна Уладзіміраўна Пінская[17].

[17] З 1 красавіка 1922 г. да штату Беларускага аддзелу быў дададзены яшчэ адзін супрацоўнік — бухгалтэр. На гэтую пасаду быў запрошаны чыноўнік-латыш гр. А. Кронбэрг.



Першы склад Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы ў Латвіі. Сядзяць зьлева направа: кіраўнік Аддзелу С. Сахараў, інспэктар пачатковых беларускіх школ К. Езавітаў і машыністка-карэспандэнтка Н. Пінская. Стаяць: дзелавод Аддзелу Ян Шчорс і бугальтар А. Кронбэрг

Павелічэньне ліку працаўнікоў Беларускага аддзелу адразу значна ажывіла і палепшыла яго працу. Дзелавод і машыністка вялі канцэлярскую працу, інспэктар абаснаваўся ў Дзьвінску, бліжэй да павятовых беларускіх школ, школьных упраў і правінцыяльнага беларускага грамадзтва, кіраўнік Аддзелу меў час і на працу ў Рызе, і на аб'езд школ. У выніку гэтае працы цэлы шэраг расейскіх школ у Люцыншчыне, якія адведваліся беларускімі вучнямі, быў перададзены пад загад Беларускага аддзелу, было адчынена некалькі новых беларускіх школ, прыступлена было да падрыхтоўкі адкрыцьця беларускіх гімназій у Дзьвінску і ў Люцыне ды беларускае сельска-гаспадарчае ніжэйшае школы ў Дзьвінску. Агульная лічба беларускіх школ пад канец 1921—1922 навучальнага году дасягла 46 аснаўных школ пры 3 000 вучняў.

Пашырэньне працы патрабавала новых пэдагагічных сіл, асабліва для гімназій і настаўніцкіх курсаў. У працягу студзеня і пачатку лютага былі зроблены прапазыцыі прыехаць у Латвію на сталую працу цэламу шэрагу выдатных беларускіх пэдагогаў і дзеячаў, як праф. Браніславу Тарашкевічу, Сымону Раку-Міхайлоўскаму, інжынэру Клаўдзіюшу Дуж-Душэўскаму, гр. Міколе Вяршыніну, гр. Язэпу Варонцы і інжынэру Алесю Галавінскаму — але ад усіх вышэйпералічаных асоб адка-

зы прыйшлі адмоўныя, бо ўсе яны былі заняты на іншай беларускай працы, кінуць якую не было на каго. Ня мелі вынікаў і спробы затрымаць у Латвіі на працы лектара першых летніх курсаў беларусазнаўства гр. Ігната Дварчаніна, які выехаў у Прагу, каб папоўніць сваю адукацыю і атрымаць годнасьць дохтара.

Першым адгукнуўся на заклік і зараз-жа прыехаў у Дзьвінск гр. Эдвард Будзька, які і быў прызначаны кіраўніком дзяржаўных аднагадовых настаўніцкіх курсаў замест гр. К. Езавітава, прызначанага на пасаду інспэктара аснаўных школ. Сьледам за гр. Э. Будзькай прыехаў у Дзьвінск гр. Іван Ігнатавіч Краскоўскі, які быў прызначаны лектарам на настаўніцкія курсы і яму-ж даручана было арганізаваць Дзьвінскую дзяржаўную беларускую гімназію. Немаль адначасна з І. І. Краскоўскім прыехалі ў Дзьвінск яшчэ двое добрых пэдагогаў: гр.гр. Андрэй Паўлавіч Якубецкі, на якога была ўскладзена арганізацыя Дзьвінскае беларускае аснаўное школы, і вядомы беларускі пісьменнік і аўтар „Гісторыі беларускае літаратуры“ Максім Гарэцкі, які ўзяў на сябе беларускую мову і літаратуру на настаўніцкіх курсах. З прыездам трох апошніх грамадзян праца на настаўніцкіх курсах пайшла зусім добра і дала ў канцы навучальнага году дужа памысныя вынікі.

Зразумела, ня ўсе 40 курсантаў, што запісаліся былі на курсы ў сьнежні 1921 г., змаглі іх скончыць: значны працэнт выступіў з курсаў па розных прычынах яшчэ ў сакавіку—красавіку месяцах, некаторая частка ня справілася з выпускнымі іспытамі і толькі 25 чалавек атрымалі дыплём на права выкладаньня ў беларускіх школах. Але затое зь ліку гэтых 25-ці маладых настаўнікаў выйшлі лепшыя нашы настаўніцкія сілы, якія выявілі і вялікую нацыянальную сьвядомасьць, і належную пэдагагічную падрыхтоўку для працы ў школах. Каб цалкам ацаніць значаньне для беларускае меншасьці гэтага першага выпуску аднагадовых беларускіх настаўніцкіх курсаў, даволі адзначыць тое, што немаль увесь сучасны беларускі малады грамадзкі актыў зьяўляецца выхаванцамі першага выпуску гэтых курсаў: грамадзянкі — Ніна Пінская, Люцыя Клагіш, Клара Багінская, Люцыя Габран, настаўнікі — Мікола Талерка, Данат Казлоўскі, Язэп Камаржынскі, Алесь Махноўскі, Кастусь Александровіч, Васіль Руднікаў, Вільгэльм Мірановіч, некаторыя студэнты Праскага ўнівэрсытэту, як Клагіш, — усё гэта гадунцы першага выпуску.

Улетку 1922 г. Беларускі аддзел арганізаваў другія курсы беларусазнаўства для настаўнікаў Дзьвінскага павету — у Дзьвінску, і першыя курсы беларусазнаўства ў г. Люцыне для настаўнікаў Люцыншчыны.

На дзьвінскіх курсах працавалі вышэй успамінаныя лектары дзяржаўных настаўніцкіх аднагадовых курсаў, а для працы ў Люцыну была выпісана гр. Паўліна Вікеньцьеўна Мядзёлка-Грыб, якая зь вялікім падоймам і посьпехам адпрацавала некалькі тыдняў у Люцыне, а потым пераехала ў Дзьвінск, дзе пачала працаваць на дзяржаўных настаўніцкіх курсах, заместа выехаўшых з Латвіі гр.гр. Э. Будзькі і М. Гарэцкага. З восені П. Мядзёлка-Грыб прыступіла да працы ў новаарганізаванай Дзьвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі, для якой зрабіла дужа многа і як вучыцелька беларускае літаратуры і сьпеваў, і як грамадзкая працаўніца, высока ўзьняўшая нацыянальна-сацыяльную сьвядомасьць вучняў гімназіі і дзьвінскай беларускай моладзі.

Арганізацыя Дзьвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі сталася магчымай, калі нарэшце прайшоў у дзяржаўным буджэце Латвіі на 1922—1923 буджэтны год новы буджэт Беларускага аддзелу[18], у якім былі прадугледжаны сумы на арганізацыю дзяржаўнае беларускае гімназіі ў Дзьвінску і прыватнае беларускае гімназіі Т-ва „Бацькаўшчына“ ў Люцыну.

Буджэт 1922—1923 г. яшчэ ня быў разьлічаны, на моцы закону, прапарцыянальна лічбе беларускае меншасьці ў Латвіі, тады беларусы атрымалі-б 4½ працэнты з агульналатвійскага буджэту на ўтрыманьне сярэдніх школ ды яшчэ некаторыя дапамогі на аснаўныя школы, усё гэта складала-б даволі значную суму, аднак і тое, што было атрымана (1 845 160 латвійскіх рублёў), было сумаю, зь якою ўжо магчыма было вясьці асьветную працу[19].

---

[18] Буджэтны год у Латвійскай Рэспубліцы пачынаедца з 1 красавіка і не супадае з календарным годам, такім чынам, першыя тры месяцы 1922 г.: студзень, люты і красавік, Беларускі аддзел працаваў па буджэту 1921—1922 г., а з 1 красавіка 1922 г. да 1 красавіка 1923 г. павінен быў працаваць ужо па новаму буджэту — 1922—1923 г.

[19] Цікава тут параўняць буджэт Беларускага аддзелу з буджэтамі іншых меншасьцёвых аддзелаў за першыя два гады працы. У 1921—1922 навучальным годзе атрымалі: нямецкі аддзел — 2 457 639 рублёў 68 капеяк, велікароскі — 3 002 224 рублі, жыдоўскі — 2 238 388 рублёў, польскі — 951 226 рубл. 75 кап. і беларускі — 554 942 рублі 60 кап. На 1922—1923 навучальны год ужо было асыгнавана: нямецкаму аддзелу — 2 958 620 рубл., велікароскаму — 4 229 040 р., жыдоўскаму — 4 144 800 рубл., польскаму — 2 078 400 рубл., беларускаму — 1 845 160 рубл. У наступным 1923—1924 буджэтным годзе буджэт Беларускага аддзелу значна павялічыўся і дайшоў ужо да сумы ў 4 736 600 рублёў (або 94 732 латы).

Дырэктарам-арганізатарам гімназіі быў з 1 красавіка 1922 г. зацьверджаны, па хадатайству таго-ж Т-ва „Бацькаўшчына“, І. І. Красkоўскі, які, працуючы лектарам на настаўніцкіх курсах, адначасна з гэтым распачаў патрэбную арганізацыйную працу. У дапамогу яму Беларускі аддзел вылучыў інспэктара беларускіх аснаўных школ К. Езавітава, які быў прызначаны сябрам Камісіі па рамонту будынку, ды яшчэ да гэтае справы былі прыцягнуты: гр. Якаў Федаравіч Кастылюк, як адзін з старых дзьвінскіх настаўнікаў, далучыўшыхся да беларускае меншасьцёвае працы, ды Ніна Васільеўна Фэльдман, першая вучыцелька нямецкае мовы і кіраўніца інтэрнату пры гімназіі.

Няма патрэбы асабліва падрабязна спыняцца на ходзе арганізацыі і на працы Дзьвінскае дзяржаўнае беларускае гімназіі, бо адначасна з гэтаю кніжкаю выходзе асобная кніжыца аб працы гэтае гімназіі[20]. Зазначым толькі, што гімназія беларуская зьмясцілася ў лепшым будынку на Новым Страеньні ў Дзьвінску і што якраз у гэтым самым будынку да Ўсясьветнае вайны працавала ўжо ўспамінанае ў нас 2-е гарадзкое вучылішча, сярод вучняў якога існаваў нелегальны беларускі гурток[21].

Цэнтральнае праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ ўжо ў першы год сваёй працы не абмінула яшчэ адну дужа важную для беларускае меншасьці галіну асьветы, гэта асьвету сельска-гаспадарчую. Каб задаволіць імкненьне некаторых вясковых і мястовых хлапцоў да сельскагаспадарчае веды, у Дзьвінску была закладзена прыватная Беларуская сельскагаспадарчая двухгадовая школа Т-ва „Бацькаўшчына“, для якой

[20] Глядзі кніжку С. П. Сахарава „Гістарычны нарыс пяцігоддзя Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі за 1922—27 год“ (Выданьне Дзьвінскае дзяржаўнае беларускае гімназіі. Дзьвінск, 1927). Кніжыца гэта мае 48 балонак, на якіх зьмешчана 29 клішэ і дадзены багаты інфармацыйны матарыял у гэткіх XI разьдзелах: 1. Арганізацыйная праца па стварэньню беларускае гімназіі ў Дзьвінску. 2. Склад гімназіі. 3. Будынак гімназіі. 4. Тып гімназіі, праграмма, пэдагагічны склад і выхаваньне. 5. Майстэрня пры гімназіі. 6. Інтэрнат. 7. Школьная Рада. 8. Утрыманьне гімназіі. 9. Навучальныя дапамогі. 10. Выпускі матурыстаў гімназіі. 11. Надзвычайныя выпадкі з жыцьця гімназіі.

[21] У гэтым-жа Дзьвінскім 2-ім гарадзкім вучылішчы працаваў адзін час сьвядомы вучыцель-беларус Міхаіл Фёдаравіч Шакун, які любіў гутарыць з вучнямі аб Беларусі і беларусах, дэклямаваў беларускія вершы і нават выступаў на школьных вечарынах у беларускай нацыянальнай вопратцы, дэклямуючы паэму „Тарас на Парнасе“, „Панскае ігрышча“ і інш.

захадамі Цэнтральнага праўленьня ўдалося дастаць ад Міністэрства зямляробства належную грашовую дапамогу. Арганізацыя гэтае школы была даручана аграному-беларусу Васілю Ластаўкіну, які з надзвычайнаю энэргіяй і захопленьнем узяўся за справу і зь вялікім посьпехам выканаў пастаўленае яму заданьне. Беларуская сельскагаспадарчая школа была першаю меншасьцёваю сельскагаспадарчаю школаю ў Латвіі. Яна зьмясьцілася ў будынку Мельнікава на Шашэйнай вуліцы. Пры школе быў арганізаваны дужа добры інтэрнат для вясковых вучняў, а таксама кватэры для пэдагагічнага складу школы.

Першы год працы беларускае меншасьці заканчваўся пад знакам шырокага разгортваньня сеткі беларускіх аснаўных школ і стварэньня кадраў сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі. Прыняцьце Соймам буджэту Беларускага аддзелу падводзіла пад усю арганізацыйную працу моцную матэрыяльную базу і забясьпечвала далейшы посьпех беларускае культурна-асьветнае працы.

У зьвязку з гэткімі вынікамі першага году працы і зь відавочным умацаваньнем беларускае меншасьці, варожыя нападкі на беларусаў з боку шавіністычных велікароскіх і польскіх груповак ня толькі не спыніліся, але нават пад вясну і ўлетку 1922 г. успыхнулі з новаю сілай. Асабліва незадаволены былі велікаросы тым, што шэраг былых „іхніх“ школ, у якіх аднак вучні былі па нацыянальнасьці беларусы, перайшоў пад загад Беларускага аддзелу. Змаганьне зь *„беларускаю небясьпекаю“* была паведзена ня толькі ў прэсе, але і ў Соймавых камісіях, і ў павятовых, валасных і мястовых управах. Вынікі гэтага змаганьня хутка далі сябе ведаць.

Беларускі аддзел, сустракаючы поўнае разуменьне і спагаднасьць у цэнтры, раптам пачаў атрымліваць трывожныя весткі ад вучыцялёў зь мейсц аб тым, што ў некаторых валасьцёх мяйсцовыя прадстаўнікі ўлады па невядомых прычынах і ўплывах забараняюць пастаноўку спэктакляў на беларускай мове, дазваляючы ў той-жа час і тым-жа самым асобам спэктаклі на мовах расейскай або польскай; у іншых валасьцёх беларускім вучыцялём, якія адзначаліся найбольшай нацыянальнай сьвядомасьцю, раптам прад'яўлялі розныя абвінавачаньні палітычнага характару, рабілі допыты ў іх на мяйсцох, гразілі карай за беларускую нацыянальную працу і выклікалі на допыты ў Дзьвінскі палітычны аддзел. Рэвізіі гэтыя і допыты не давалі ніякіх шкодлівых вынікаў для пацярпеўшых, але затое рабілі вялікі эфэкт на несьвядомыя беларускія масы, прыдаючы беларускаму нацыянальнаму руху ў Латвіі характар забароненага і шкоднага, падаючы повады і грунт для

пашырэньня розных злоўмысных слухаў аб беларускіх грамадзкіх працаўнікох і, што самае важнае, гэтыя рэвізіі застрашвалі шырокія кругі беларускага сялянства і мяшчан і трымалі іх у сфэры чужых, небеларускіх уплываў і розных варожных нашэптаў.

Клопаты, просьбы і інфармацыі ў справах абвінавачаных вучыцялёў часта адрывалі працаўнікоў Аддзелу ад бягучай школьна-адміністратыўнай працы і стваралі ў ёй непрадугледжаныя і лішнія труднасьці. Толькі пасьля поўных інфармацый у цэнтры, пачалі зьнікаць гэтыя дзіўныя зьявішчы на мяйсцох.

Адначасна з вышэйсказанымі незразумелымі адміністрацыйнымі мерамі, Беларускі аддзел пачаў сустракаць перашкоды ў сваей працы і з боку тых самаўрадавых органаў Латгаліі, якія знаходзяцца пад найбольшым польскім або расейскім уплывам, асабліва трэба гэта сказаць аб мястовых управах местаў Люцыну і Дзьвінску. У гэтых местах, незважаючы на шматлічныя просьбы беларускага жыхарства, аб'яднанага каля сваіх культурна-прасьветных арганізацый, мястовыя самаўрады ўпарта, пачынаючы са студня месяца 1922 г., адмаўлялі ў адкрыцьці мястовых беларускіх аснаўных школ; калі-ж беларускія таварыствы за свой кошт адкрылі ў Дзьвінску і Люцыну аснаўныя беларускія школы, дык гэтыя два месты ўсю другую палову 1921—1922 школьнага году і некалькі месяцаў 1922—1923 школьнага году адмаўляліся прыняць фактычна ўжо існаваўшыя пры 150—160 вучнях беларускія школы ў сетку аснаўных школ места.

Барацьба зь беларускім нацыянальным адраджэньнем дайшла ў 1922 г. да найбольшага напружаньня ў месяцы ліпені, калі ў Устаноўчым Сойме разглядаліся буджэты ўсіх аддзелаў нацыянальных меншасьцяў. Велікароская фракцыя дэпутата Прэсьнякова, парушаючы ўсе прынцыпы *„адзінага меншасьцёвага фронту“*, зь сьляпой нянавісьцю адкрыта выступіла супроць інтарэсаў беларускае меншасьці і пачала дамагацца, каб Устаноўчы Сойм адкінуў буджэт Беларускага аддзелу. Гэтым шляхам велікарускія дэпутаты групы Прэсьнякова думалі адным ударам зьнішчыць ўсю беларускую меншасьцёвую працу[22]. Дамаганьні велікаросаў былі падтрыманы палякамі і новым, зусім нечаканым для беларусаў ворагам — двумя невялічкім групамі — кэмпаўцамі

[22] Да гонару і розуму велікароскае нацыі трэба аднесьці той факт, што з 4-х велікароскіх дэпутатаў усё-ж-ткі знайшоўся адзін дэпутат, адвакат Бачагоў, які не згадзіўся падтрымаць прапазыцыю Прэсьнякова аб выкрэсьленьні буджэту Беларусскага аддзелу і галасаваў за беларускі буджэт.

і трасуноўцамі[23]. Аднак, на абарону беларусаў выступіў Ян Райніс, і падаўляючая большасьць Устаноўчага Сойму адкінула гэтую ганебную прапазыцыю велікарускае групы: буджэт Беларускага аддзелу быў прыняты.

Робячы агульную ацэнку беларускай меншасьцёвай працы ў першым 1921—1922 навучальным годзе, можна з задаваленьнем канстатаваць, што гэта быў год вялікіх посьпехаў; год перамогі беларусаў над рознымі вонкавымі перашкодамі і інтрыгамі, якія ставіліся ворагамі беларускага адраджэньня на шляху беларускае нацыянальнае меншасьці. Перамогі гэтыя былі здабыты энэргійнай працай Т-ва „Бацькаўшчына“, якое згуртавала каля сябе ўсе актыўныя беларускія сілы, і дзейным падтрыманьнем гэтае працы з боку Беларускаго аддзелу, які сам паўстаў праз захады Т-ва „Бацькаўшчына“, працаваў у поўным кантакце з гэтым таварыствам, падтрымоўваў усе пачынаньні яго і сам абапіраўся на грамадзкую падтрымку Т-ва „Бацькаўшчына“. Беларуская грамадзкасьць і Беларускі аддзел працавалі ў поўнай і шчырай згодзе. Далейшыя посьпехі, перамогі і разьвіцьцё беларускай меншасьцёвай працы залежалі ўжо не ад вонкавых прычын, а толькі ад саміх беларусаў, ад іх уменьня працаваць і самакіравацца, ад іх здольнасьці

[23] Дэпутат Кэмп даводзіў, што беларусаў у Латгаліі няма і што тыя жахары Латгаліі, якія лічаць сябе за беларусаў, зьяўляюцца фактычна не беларусамі, а *„быўшымі латгальцамі“*. Таму ня трэба, па думцы Кэмпа, даваць беларусам грошы на асьвету, а трэба паклапаціцца, каб гэтых *„быўшых латгальцаў“* зноў *„вярнуць да свае нацыі“* (гэта знача — трэба распачаць латгалізацыю беларусаў). Дэпутат Трасун-малодшы проста ганебна зьдзекаваўся над беларусамі і казаў аб тым, што ў яго мясцовасьці, у Вайвадоўскай воласьці Рэжыцкага павету, беларусаў завуць не беларусамі, а *„белахвосьцікамі“*. Зь якога поваду завуць беларусаў *„белахвосьцікамі“* ён не растлумачыў (мы думаем, што за белую беларускую даўгаполую сьвітку), але таксама дамагаўся адхіленьня беларускага буджэту. Гэтыя дзьве латгальскія групоўкі не зьмянілі сваіх варожых беларусам пазыцый і ў наступныя годы. Асабліва ганебна сябе трымаў Ф. Кэмп, які не спыняўся нават перад дэфэнзыўнымі артыкуламі супроць беларусаў у латыскай прэсе, за што быў прыцягнуты К. Езавітавым да адказнасьці і атрымаў за брахню ў прэсе два тыдні турэмнага арышту. Варожая пазыцыя гэтых груп тлумачыцца не прынцыповымі якімі-колечы ўстаноўкамі, а толькі чыста пэрсанальнымі інтэрасамі лідэраў, якія баяліся і баяцца, што арганізаваная на нацыянальна-сацыяльнай базе беларуская меншасьць ня дасьць гэтым групам у будучыні сваіх галасоў і, праз гэта, удзельная вага гэтых груповак і лічба іхніх дэпутатаў у Сойме паменшыцца.

выкарыстаць з такімі высілкамі здабытыя правы нацыянальна-культурнае аўтаноміі.

## Склад беларускіх школ у першы год працы

Каб даць уяўленьне аб лічбе беларускіх школ і іхнім нацыянальным складзе, ніжэй мы зьмяшчаем табліцы і сьпісы, даныя якіх узяты з афіцыйных дакумэнтаў і з справаздач, якія пераховываюцца ў справах Беларускага аддзелу і Інспэктара беларускіх аснаўных школ у Латвіі. Пры кождым сьпісе або табліцы паказваецца, зь якога дакумэнта даныя ўзяты. Для лепшага разуменьня табліц трэба ведаць, што школа ў Латвіі зьяўляецца адзінай і складаецца з гэткіх ступеняў навучаньня:

1. **Першапачатковая школа**, куды прымаюцца зусім непісьменныя дзеці, якія праз год-два, у залежнасьці ад здольнасьцяў, вывучваюцца чытаць і могуць ужо быць прыняты у I клясу аснаўной школы. Першапачатковая школа дужа рэдка існуе як самастойная асобная школа, а ў большасьці зьяўляецца дашкольным, або падгатоўчым клясам пры аснаўной школе.

2) **Аснаўная школа першае ступені** мае чатырохгадовы курс навучаньня і, у адпаведнасьці з гэтым, мае 4 клясы: I, II, III і IV. Большасьць беларускіх вясковых школ зьяўляюцца школамі гэтага тыпу. Да гэтага трэба дадаць, што беларускія сяляне ў большасьці пасылаюць дзяцей вучыцца толькі да II-й ці да III-яе клясы, а затым ставяць дзяцей у працу і навучаньне лічаць скончаным.

3) **Аснаўная школа другое ступені** мае двухгадовы курс навучаньня і складаецца зь дзьвюх клясаў: V і VI. Прыймо ў V-ю клясу адбываецца без іспытаў па пасьведчаньні аб сканчэньні IV клясы аснаўной школы. Даволі часта аснаўная школа другой ступені існуе пры сярэдніх школах, як падгатоўчыя клясы данае сярэдняе школы.

4) **Сярэдняя школа** мае чатырох гадовы курс навучаньня і складаецца з чатырох клясаў: I (VII), II (VIII), III (IX) і IV (X). У сярэднюю школу прымаюць без іспытаў па сканчэньні поўнага курсу аснаўной школы другой ступені.

| №№ па парадку | **Назоў школы** | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| | **I. Прыдруйская воласьць** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | 1-я Прыдруйская 6-кл. | 4 | 43 | 30 | 37 | 23 | - | - | - | 13 3 | 13 1 | 1 | 1 | 133 | - | - | - | - | - | - |
| 2 | 2-я Прыдруйская 4-кл. | 2 | 23 | 19 | 22 | 7 | - | - | - | 71 | 70 | 1 | - | 71 | - | - | - | - | - | - |
| 3 | Зялёншчынская 4-кл. | 1 | - | 22 | 9 | 9 | - | - | - | 40 | 40 | - | - | 40 | 40 | - | - | 40 | - | - |
| 4 | Шнёкаўская 4-кл. | 2 | 14 | 21 | 18 | 14 | - | - | - | 67 | 57 | - | 10 | 67 | - | - | - | - | - | - |
| 5 | Блукаўшчынская 4-кл. | 1 | - | 26 | 7 | - | - | - | - | 33 | 33 | - | - | 33 | 33 | - | - | 33 | - | - |
| 6 | Вайцюлеўская 4-кл. | 1 | 16 | 13 | 10 | 7 | - | - | - | 46 | 46 | - | - | 46 | 42 | 4 | - | 46 | 27 | 19 |
| 7 | Лупандаўская 4-кл. | 2 | 56 | 26 | 7 | - | - | - | - | 89 | 85 | - | 4 | 89 | 85 | - | 4 | 89 | 89 | - |
| 8 | Зарэцкая 4-кл. | 2 | 18 | 33 | 14 | - | - | - | - | 65 | 65 | - | - | 65 | 53 | 12 | - | 41 | 41 | 24 |

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| 9 | Талоеўская 4-кл. | 2 | - | 43 | 22 | 4 | - | - | - | 69 | 68 | 1 | - | 69 | 63 | 5 | - | 40 | 40 | 29 |
| | **II. Пустынская воласьць** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 10 | Пустынская 4-кл. | 2 | 22 | 19 | 10 | 12 | 8 | - | - | 71 | 70 | 1 | - | 71 | 68 | 2 | 1 | 71 | 46 | 25 |
| 11 | Максімаўская 4-кл. | 1 | 25 | 14 | 12 | - | - | - | - | 51 | 41 | 5 | 5 | 51 | 47 | 3 | 1 | 51 | 32 | 19 |
| 12 | Юхнявецкая 4-кл. | 1 | 20 | - | - | - | - | - | - | 20 | 20 | - | - | 20 | 20 | - | - | 20 | 16 | 4 |
| 13 | Плейкаўская 4-кл. | 1 | 19 | 10 | 3 | - | - | - | - | 22 | 32 | - | - | 22 | 32 | - | - | 32 | 19 | 13 |
| 14 | Аўсюкішская 4-кл. | 1 | 16 | 7 | - | - | - | - | - | 23 | 19 | - | 4 | 23 | 19 | 4 | - | 23 | 13 | 10 |
| | **III. Капінская воласьць** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 15 | Рогальская 4-кл. | 1 | 36 | 14 | 9 | 2 | - | - | - | 61 | 20 | 3 | 3 8 | 61 | 29 | - | 32 | 61 | 38 | 23 |
| 16 | Сянкевічская 4-кл. | 1 | - | 32 | 5 | - | - | - | - | 37 | 37 | - | - | 37 | 29 | - | 8 | 37 | 16 | 21 |

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| | **IV. Ужвалдская валасьць** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 17 | Дудэльская 4-кл. | 1 | 16 | 19 | 10 | - | - | - | - | 45 | 36 | - | 9 | 45 | 37 | 8 | - | 45 | 32 | 13 |
| | **V. Ізабелінская валасьць** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 18 | Кокінская 4-кл. | 2 | 34 | 22 | 11 | 5 | - | - | - | 72 | 39 | 29 | 4 | 72 | 72 | - | - | - | 48 | 24 |
| | **VI. места Дзьвінск** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 19 | Дзьвінская 6-кл. | 3 | 68 | 42 | 16 | 34 | 8 | - | - | 16 0 | 15 3 | - | 7 | 16 0 | - | - | - | - | - | - |
| | РАЗАМ | 33 | 436 | 425 | 231 | 123 | 8 | - | | **1223** | **1100** | 41 | 82 | **1223** | | | | | | |

Табліца 18. Склад беларускіх школ Дзьвіншчыны ў 1921—1922 нав. г.

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| | **I. Янавольская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | Борхаўская 4-кл. | 2 | 29 | 10 | 4 | 3 | - | - | - | 46 | 39 | - | 7 | 46 | - | 40 | 6 | 46 | 27 | 19 |
| 2 | Брыгаўская 4-кл. | 3 | 32 | 39 | 36 | 10 | - | - | - | 117 | 108 | 3 | 6 | 117 | 9 | 107 | 1 | 117 | 71 | 46 |
| 3 | Нова-Слабодск. 4-кл. | 2 | - | 38 | 12 | 6 | - | - | - | 56 | 30 | - | 26 | 56 | 26 | 30 | - | 56 | 35 | 21 |
| 4 | Нямецка-Горск. 4-кл. | 2 | - | 63 | 18 | 12 | - | - | - | 93 | 93 | - | - | 93 | - | 93 | - | 93 | 57 | 36 |
| 5 | Рэйкаўская 4-кл. | 2 | 15 | 36 | 18 | - | - | - | - | 69 | 69 | - | - | 69 | - | 69 | - | 69 | 31 | 38 |
| | **II. Істраўская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 6 | Цуцурская 4-кл. | 2 | 21 | 17 | 23 | 11 | 5 | - | - | 77 | 74 | - | 3 | 77 | 17 | 60 | - | 77 | 46 | 31 |
| 7 | Цуцуркоўская 4-кл. | 2 | 56 | 12 | - | - | - | - | - | 68 | 41 | 23 | 1 | 68 | 24 | 36 | 8 | 68 | 35 | 33 |
| 8 | Стараслабодск. 4-кл. | 4 | 41 | 15 | 27 | 20 | 6 | 13 | - | 122 | 113 | - | 9 | 122 | 5 | 109 | 8 | 122 | 75 | 47 |
| 9 | Канецпольская 4-кл. | 1 | 12 | 26 | 27 | 6 | - | - | - | 68 | 66 | - | 2 | 68 | 15 | 51 | 2 | 68 | 48 | 20 |
| 10 | Ляўдэрская 6-кл. | 4 | 31 | 18 | 34 | 8 | 15 | - | - | 109 | 104 | - | 5 | 109 | 5 | 100 | 4 | 109 | 60 | 49 |

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| 11 | Пітэрская 4-кл. | 2 | 32 | 23 | 8 | - | - | - | - | 63 | 58 | - | 5 | 63 | 5 | 57 | - | 63 | 28 | 35 |
| 12 | Руднінская 4-кл. | 2 | - | 9 | 14 | 7 | - | - | - | 30 | 30 | - | - | 30 | 7 | 20 | 3 | 30 | 21 | 9 |
| | **III. Ландскаронская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 13 | Палішчынская 4-кл. | 2 | - | 34 | 13 | 10 | 10 | - | - | 67 | 41 | - | 26 | 67 | 47 | 2 | 18 | 67 | 36 | 31 |
| 14 | Шэшкаўская 4-кл. | 2 | - | 24 | 8 | 2 | - | - | - | 34 | 31 | 3 | - | 34 | 3 | 31 | - | 34 | 20 | 14 |
| 15 | Шушкаўская 4-кл. | 2 | 50 | 12 | 11 | 5 | 3 | - | - | 81 | 67 | - | 14 | 81 | 77 | 4 | - | 81 | 56 | 25 |
| | **IV. Міхалоўская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 16 | Дзеглеўская 4-кл. | 1 | 18 | 16 | 21 | 9 | - | - | - | 64 | 61 | - | 3 | 64 | 3 | 59 | 2 | 64 | 36 | 28 |
| 17 | Пуданоўская 4-кл. | 2 | 55 | - | 14 | - | - | - | - | 69 | 69 | - | - | 69 | - | 69 | - | 69 | 38 | 31 |
| | **V. Пасінская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 18 | Беляеўская 4-кл. | 3 | 34 | 34 | 15 | 10 | - | - | - | 93 | 93 | - | - | 93 | 61 | 32 | - | 93 | 56 | 37 |
| 19 | Лунёўская 4-кл. | | 7 | 18 | 13 | 6 | - | - | - | 44 | 44 | - | - | 44 | 5 | 39 | - | 44 | 22 | 22 |

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| 20 | Пасіньская 6-кл. | 3 | - | 19 | 18 | 5 | 10 | - | - | 52 | 46 | - | 6 | 52 | 32 | 11 | 9 | 52 | 35 | 17 |
| 21 | Розеноўская 6-кл. | 6 | 51 | 42 | 84 | 45 | 18 | - | - | 240 | 179 | 6 | 55 | 240 | 85 | 99 | 56 | 240 | 139 | 101 |
| 22 | Залеская 4-кл. | 2 | 45 | 27 | - | - | - | - | - | 72 | 91 | - | 1 | 72 | 59 | 13 | - | 72 | 49 | 23 |
| 23 | Шылаўская 4-кл. | 2 | 16 | 68 | 13 | - | - | - | - | 97 | 94 | - | 3 | 97 | 13 | 78 | 6 | 97 | 53 | 44 |
| 24 | Чаўчышская 4-кл. | 2 | 27 | 27 | 16 | 6 | - | - | - | 76 | 74 | - | 2 | 76 | 23 | 48 | - | 76 | 55 | 21 |
| | **VI. Пылдзенская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 25 | Рэстмуйжская 4-кл. | 2 | 25 | 20 | 9 | 8 | - | - | - | 62 | 50 | 8 | 4 | 62 | 13 | 35 | 14 | 62 | 32 | 30 |
| 26 | Рогайжская 4-кл. | 2 | 8 | 9 | 16 | 9 | 8 | - | - | 50 | 23 | - | 27 | 50 | 23 | 23 | 4 | 50 | 31 | 19 |
| | **VII. Рунданская в.** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 27 | Бліжнёўская 4-кл. | 2 | 19 | 14 | 14 | 6 | 3 | - | - | 56 | 55 | - | 1 | 56 | 11 | 3 | 42 | 56 | 47 | 9 |
| 28 | Рублёўская 4-кл. | 2 | 17 | 17 | 22 | 10 | 3 | - | - | 69 | 55 | - | 14 | 69 | 34 | 18 | 17 | 69 | 34 | 35 |

| №№ па парадку | Назоў школы | Лічба настаўнікаў | Падзел вучняў у кожнай школе | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Клясы | | | | | | | | Нацыянальн. | | | | Веравызнаньне | | | | Пол | |
| | | | Дашкольная | I | II | III | IV | V | VI | Разам | Беларусаў | Палякаў | Іншых | Разам | Каталікоў | Праваслаўн. | Іншых | Разам | Хлопцаў | Дзяўчат |
| 29 | Рунданская 4-кл. | 3 | 19 | 20 | 20 | 12 | 1 | - | - | 72 | 72 | - | - | 72 | 46 | 15 | 11 | 72 | 45 | 27 |
| 30 | Вертулаўская 4-кл. | 2 | - | 32 | 14 | 13 | 9 | - | - | 68 | 35 | 16 | 17 | 68 | 27 | 39 | 2 | 68 | 44 | 24 |
| | **VIII. м. Люцын** | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 31 | Люцынская 4-кл. | 2 | 28 | 29 | 20 | 18 | 11 | - | - | 106 | - | - | - | 106 | - | - | - | 106 | - | - |
| РАЗАМ | | 72 | 588 | 768 | 562 | 257 | 109 | 13 | - | 2290 | 1993 | 60 | 237 | 2290 | 680 | 1397 | 213 | 2290 | 1368 | 922 |

Табліца 19. Склад беларускіх школ Люцыншчыны ў 1921—1922 нав. г.

**Сьпіс настаўнікаў беларускіх школ**
**Люцыншчыны ў 1921—1922 н.г.**
(па даных Люцынскае павятовае Школьнае ўправы)

1. Борхаўская 4-хклясавая школа: кіраўнік — Шварцбах Павал (латыш), вучыцелька — Шварцбарх Гэлена (велікароска). 2. Брыгаўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Літошка Ўладзімер (беларус), вучыцелька Маркоўская Апрасіньня (беларуска); вучыцелька Блюм Аўгіньня (латышка). 3. Нова-Слабодская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Чарнявіна Марыя (беларуска), вучыцелька Падмашэнская Вероніка (велікароска); вучыцелька Пузул Анна (латышка). 4. Нямецка-Горская, 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Елянеўкая Фядосься (беларуска), вучыцелька Фрэйдэнфэльдт Агрыкола (латышка), 5. Рэйкоўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Казлоўская Марыя (беларуска), вучыцель-практыкант Лікстыньш Альфрэд (латыш). 6. Цуцурская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Воркуль Цімафей (беларус), вучыцелька-практыкантка Грошун Эльза (латышка). 7. Цуцуркоўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы Дабравольская Настасья (велікароска), вучыцелька Маштакова Аляксандра (велікароска); 8. Стара-Слабодская 6-ціклясавая школа: кіраўнік школы Біручынскі Ян (велікарос), вучыцелька Нікіфароўская Гэлена (беларуска), вучыцелька Рутбард Вера (латышка), вучыцель Эйгем Мікола (велікарос), вучыцелька Ляховіч Саламея (полька). 9. Канецпольская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы вучыцель Нікіфароўскі Васіль (беларус), вучыцелька Рэдман Эльза (беларуска). 10. Ляўдэрская 6-ціклясавая школа: кіраўнік школы — Хруцкі Астап (беларус), вучыцелька Крастынь Зэльма (латышка), вучыцелька Чэркоўская Клаўдзія (беларуска), вучыцелька Нікіфароўская Марыя (беларуска) 11. Пітэрская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Нікіфароўскі Кастусь (беларус), вучыцелька Радзіёнкава Браніслава (латгалка). 12. Руднінская 4-хклясавая школа: (пры канцы году ў школе адкрылася вольная вакансія) 13. Палішчынская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Занегіна Лізавета (беларуска), вучыцелька Рачко Фэлікса (беларуска). 14. Шушкоўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы Зэйгліш Аляксей (беларус), вучыцелька Максімава (велікароска). 15. Шэшкоўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Герасімава Тацьцяна (велікароска). 16. Дзеглеўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Цімашэнка Лука (беларус). 17. Пуданоўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Войніч Анна (беларуска), вучыцелька Гэнцэльт Александра (велікароска). 18. Беляеўская 4-хкля-

савая школа: кіраўнік школы — Сьцяпанаў Аляксандр (беларус), вучыцелька Сьцяпанава Марыя (беларуска). 19. Лунёўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Падмашэнская Анна (велікароска), вучыцелька Зыбіна Эльза (латышка). 20. Пасінская 6-ціклясавая школа: кіраўнік школы — Маціеўскі Сямён (беларус), вуч. Маціеўская Кацярына (беларуска). 21. Розеноўская (Зілупская) 6-ціклясавая школа: кіраўнік школы — Еўдакімаў Александр (велікарос), вуч. Еўдакімова Марыя (велікароска), вуч. Гравіт Доротэя (полька), вучыцелька Кудраўцава Марыя (беларуска), вуч. Пудоўская Марыя (велікароска), вуч. Вэльп Ірма (латышка). 22. Залеская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Крэсьцьянцаў Аўдакім (беларус), вуч. Крэсьцьянцава Домна (беларуска), вуч. Зіле Артур (латыш). 23. Шылаўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы Захарава Марыя (велікароска), вуч. Котава Анна (беларуска), вуч. Даліба Антаніна (латышка). 24. Чыўчышская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Жукоўскі Пётра (беларус), вуч. Лазаронак Васіль (беларус). 25. Рэстмуйжская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Успенская Алексадра (велікароска), вуч. Гур’ева Зінаіда (велікароска). 26. Рогайжская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Собалева Анна (беларуска), вуч. Цэльмінь Зэльма (латышка). 27. Бродайжская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы Страмкоўскі Мікола (беларус). 28. Рулёўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Брыц Сільвія (латгалка) вуч. Атлеўнікаў Лявон (беларус). 29. Рунданская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Клявінь Пётра (латыш), вуч. Клявінь Марыя (беларуска), вуч. Страмкоўскі Міхал (беларус). 30. Вертулоўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Шэршнёва Надзея (беларуска), вуч. Лельмеж Александра (латышка). 31. Ляўзінская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Сухарэўскі Браніслаў (беларус). 32. Люцынская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Плыгаўка Грыгор (беларус), вуч. Іваноў Міхал (беларус), вуч. Жданка Раіса (беларуска).

**Сьпіс настаўнікаў беларускіх школ**
**Дзьвіншчыны ў 1921—1922 н. г.**

(па запісах у кніжцы „рэвізыйных зацемак“ інспэктара беларускіх школ К. Езавітава)

1. Першая Прыдруйская 6-ціклясавая школа: кіраўнік школы — Высокіх Уладзімер (велікарос), вуч. Чыжэвіч Марыя (полька), вуч. Арон Вільма (латышка). 2. Другая Прыдруйская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Мураўёў Антон (велікарос), вуч. Мураўёва Зінаіда

(велікароска). 3. Зялёншчынская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — вуч. Цімашкевіч. 4. Шнёкаўская (Бальбіноўская) 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Вараноўскі (русіфікованы паляк), вуч. Клейнбэрг (латышка). 5. Блукаўшчынская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — вуч. Садоўская Марыя (беларуска). 6. Вайцюлеўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы: аграном Глоккэ (лічыць сябе беларусам). 7. Лупандаўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Дварэцкі Аўгуст (беларус), вуч. Астроўскі Фэлікс (беларус). 8. Зарэцкая 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Сьцяпан Заліўскі (беларус), вуч. Заліўская Марыя (латышка). 9. Талоеўская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — вуч. Цімаховіч (памёр ад сухотаў). 10. Пустынская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Аўген Красьневіч (беларус), вуч. Сухаржэўскі (паляк). 11. Максімаўская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — вуч. Станкевіч (полька). 12. Юхнявецкая 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — Дзяргач Віктар (беларус). 13. Плейкаўская 4-х клясавая школа: кіраўнік школы — вуч. Каляда (беларус). 14. Аўсюкішская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Сушынская Гэлена (беларуска). 15. Станкевічская 4-хклясавая школа: кіраўніца школы — Дзямідава Гэлена. 16. Дудэльская 4-хклясавая школа: кіраўнік школы — вуч. Махноўскі. 17. Дзьвінская 4-хклясавая мястовая школа: кіраўнік школы — Якубецкі Андрэй.

### Другі год працы, 1922—1923 навучальны год

У спадчыну ад першага году працы асталіся ня толькі перамогі і посьпехі, ня толькі далейшае разьвіцьце і ўмацаваньне ўсяго дасягнутага, але і выпраўленьне дзе-якіх недахопаў і заганаў, абмінуць якія ў першым 1921—1922 навучальным годзе было немагчыма па аб'ектыўных варунках працы. Паўсталі і зусім новыя пытаньні і патрэбы.

Жнівень 1922—1923 навучальнага году прайшоў у апошніх арганізацыйных высілках: заканчваліся рамонтныя працы ў будынку Дзьвінскае беларускае гімназіі і прыймо просьбаў аб прыняцьці вучняў; пасьпешна і самым прымітыўным чынам рабілася абсталяваньне клясаў для Дзьвінскае беларускае аснаўное школы ў ніжнім паверху будынку гімназіі, бо Дзьвінская школьная ўправа ўсё яшчэ адмаўлялася даць школе дапамогу; абарудавалася Дзьвінская прыватная беларуская сельска-гаспадарчая школа Т-ва „Бацькаўшчына“; у Люцыну ішло далейшае змаганьне за аснаўную беларускую школу, якая ўжо паўгода адпрацавала, але ўсё яшчэ ўсякімі спосабамі ўшчамлялася мястоваю Люцынскаю школьнаю ўправаю; у тым-жа Люцыну приступлена да

арганізацыі двух першых клясаў прыватнае Люцынскае беларускае гімназіі Т-ва „Бацькаўшчына“ і праца гэтая з посьпехам праводзіцца кіраўніком Люцынскае аснаўное школы — гр. Грыгорам Сямёнавічам Плыгаўкаю, якому дапамагае наездамі кіраўнік Беларускага аддзелу С. П. Сахараў. На дапамогу ўжо працуючым грамадзянам, выпісываюцца дзьве новыя сьвядомыя беларускія настаўніцкія сілы: Уладзімер Васільевіч Пігулеўскі — у якасьці настаўніка для Дзьвінскае беларускае гімназіі, і Сяргей Канстантынавіч Казэка — як настаўнік прадметаў беларусазнаўства ў Люцынскай беларускай гімназіі і ў Люцынскай аснаўной школе; ды вучоны аграном Абэле запрашаецца на пасаду кіраўніка ў арганізаваную гр. Ул. Ластаўкіным Беларускую сельскагаспадарчую школу.

З сярэдзіны верасьня ва ўсіх гэтых мястовых школах і гімназіях заняткі ўжо ідуць поўным ходам. Здавалася-б, наступае некаторая арганізацыйная перадышка, але гэтае перадышкі няма: і ў Люцыне, і ў Дзьвінску прыходзіцца вясьці штодзённую барацьбу за прыймо школ горадам[24]; набліжаецца час пачатку заняткаў у вясковых школах, дзе патрэбна зрабіць цэлы шэраг зьмен у складзе настаўнікаў і ў самай пастаноўцы навучаньня ў гэтых школах; Ілукшчына і Рэжычына чакаюць арганізацыі беларускіх школ; усе школы чакаюць і патрабуюць беларускіх падручнікаў, а тут насоўваецца на беларускіх культурна-асьветных дзеячаў новая дужа пільная справа.

У самы разгар арганізацыйнае працы і падрыхтоўкі да пачатку заняткаў у 1922—1923 навучальным годзе падыйшлі выбары ў Латвійскі Сойм. Выбары былі прызначаны на 7 і 8 кастрычніка. Часу аставалася дужа мала. Ніводнае палітычнае беларускае арганізацыі, якая магла-б заняцца вядзеньнем гэтае справы, у Латвіі яшчэ не існавала. Беларускія асьветнікі з латвійскіх грамадзян былі зусім непадрыхтаваны да палітычнае акцыі. Прыезжыя настаўнікі-беларусы ня мелі права прымаць удзелу ў выбарах, як іншаземцы, а таму ад усякага ўдзелу ў перадвыбарчай працы ўхіліліся.

Насьпех створаны Беларускі выбарчы камітэт ня меў ні сродкаў, ні практыкі, ні добрага зьвязку зь вёскамі, ні прэсы. Пры гэткіх варунках

[24] І ў Дзьвінску, і ў Люцыну на сходах Школьных управ, а часам і ў Думе адбываліся запраўдныя „беларускія дні“, запраўдныя аратарскія бойкі, на якіх супроць беларусаў „аб’яднаным фронтам“ выступалі палякі і велікаросы, а падтрымоўвалі беларусаў часам толькі жыды, ды і то дужа нерашуча і асьцярожна. Большасьць гэтых бояк прыходзілася прымаць і вытрымліваць інспэктару беларускіх школ.

цяжка было спадзявацца на посьпех, аднак ухвалена было выступіць са сваім беларускім сьпіскам, які і быў зарэгістраваны пад №21. На сьпіску былі выстаўлены 14 грамадзян: Канстантын Езавітаў, Сяргей Сахараў, Астап Хруцкі, Дамінік Мяжэцкі, Чаркоўскі, Віталі Платач, Мікола Стэймакоў, Міхал Сотчэнка, Ян Паўловіч, Блажэвіч, Уладзімер Ціханенка, Клімент Харчэнкаў, Павал Крупенкаў і Ф. Крупенкаў.

Праграма, зь якой выступіў беларускі сьпісак, складалася з 6 параграфаў, у якіх прадугледжвалася: перагляд зямельнае рэформы, незалежнасьць спавяданьняў ад дзяржавы, права карыстаньня роднай мовай у школе і ў дзяржаўных установах, адмена падушнага налогу і замена яго падаходнай сыстэмай, перагляд школьных праграм з тым, каб больш прыстасаваць школы да жыцьця. Гэта была тая беларуская праграма-мінімум, супроць якой ніхто зь беларусаў, не пакрывіўшы душой, выступаць ня мог, але праграма гэтая, надрукаваная ў ліку 9 000 экзэмпляраў, не пасьпела ўжо патрапіць у кожную вёску, а таму на выбарах беларусы не сабралі патрэбнага ліку галасоў і ніводнага свайго дэпутата не правялі.

У пройгрышы выбарчае кампаніі 1922 г. вінны як самі беларусы, мала паклаўшыя на гэту справу высілкаў і энэргіі[25], гэтак і „славянскія браты“ беларусаў з польскага і велікароскага табару, якія бязь лішніх братніх сантымэнтаў не спыняліся ні перад чым, каб абаламуціць беларускае сялянства і захапіць частку ягоных галасоў. Каб паказаць, да якіх агідных спосабаў даходзілі нашы ворагі ў змаганьні зь беларускім сьпіскам, мы ніжэй зьмяшчаем клішэ з абвесткі, выпушчанай за некалькі дзён да выбараў польскім сьпіскам №14. Тут і пляткарства, і бязглуздыя выдумкі, і нячэсная дэмагогія і безсаромнейшая брахня, — усе гэта лічылася дапушчальным у змаганьні зь беларусамі.

Наагул-жа аб соймавых выбарах 1922 г. трэба сказаць, што яны прайшлі неяк міма беларусаў, не ўскалыхнуўшы жыцьця беларускае меншасьці: на вёсках дужа значны працэнт сялянства зусім не прымаў удзелу ў галасаваньні[26], сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя больш аддавала сіл і часу школьна-асьветнай працы, а на справу правядзеньня свайго дэпутата ў Сойм не зьвярнула патрэбнае ўвагі.

---

[25] Апрача выпуску абвесткі-адозвы са сьпісам кандыдатаў і з праграмай Выбарчага камітэту, ніякіх іншых крокаў, каб папулярызаваць беларускі сьпісак, немаль не было зроблена. Беларускіх перадвыбарчых мітынгаў не было аніводнага.

[26] Трэба тутака адзначыць, што ў валасьцёх Латгальшчыны, дзе налічваецца ад 6 000 да 12 000 жыхароў на воласьць, дужа мала робіцца пунктаў, у якіх⇨

ПИСЬМО

СПИСКА № 14 КЪ НАШИМЪ

братьямъ бѣлоруссамъ.

Наши ходаки принесли намъ вѣсти, что самый близкій для Васъ, это нашъ СПИСОКЪ № 14, потому что мы, какъ и Вы, добиваемся польскихъ школъ; Вы какъ и мы молитесь по польски — и что Ваши интересы и земельныя нужды одинаковы съ нашими.

И такъ братья бѣлоруссы подадимъ другъ другу руки, сплотимся въ одну громаду и будетъ насъ сила.

Не будемъ слушать нашихъ враговъ наускивающихъ и травящихъ насъ другъ на друга. Довольно ихъ сказокъ.

Итакъ, братья бѣлоруссы, пойдемъ вмѣстѣ, слушайте сами себя и насъ, а не вожаковъ изъ № 21, кои вашими голосами хотятъ получить теплые мѣста, стать Вашими панами, вговорить Вамъ православіе и погнать Вашихъ дѣтей въ русскія-кацапскія школы.

Дѣло рѣшено—будемъ голосовать ВСѢ за

СПИСОКЪ № 14.

Клішэ з польскае перадвыбарчае абвесткі 1922 г. Прыклад безсаромнейшай правакацыі нашых нацыянальна-сацыяльных ворагаў

Гэткая няўважлівасьць да справы соймавых выбараў была вялікай памылкай беларускае меншасьці, памылкай ня толькі палітычнай, але і вялікай памылкай на фроньце культурна-асьветным; бо проігрыш

⇨ ставяць урны і можна падаць голас. Таму ў васеньскую непагоду, каб дайсьці па грязных латгальскіх дарогах за 12—15 кілёмэтраў галасаваць, трэба мець вялікую ахвоту да выкананьня свайго грамадзкага абавязку і вялікую нацыянальна-грамадзкую сьвядомасьць. У іншых частках Латвіі, дзе воласьці меншыя, а дарогі куды лепшыя, урнаў ставіцца больш і галасаваць латвей.

выбарчае кампаніі быў моцным ударам па школьна-асьветнай беларускай справе. Адсутнасьць беларускага дэпутата ў Сойме ўзмацоўвала пазыцыі нашых ворагаў, падбухторывала іх на новыя варожыя выступленьні супроць беларусаў. І калі пасьля прайгранае выбарчае кампаніі, беларускія асьветнікі зноў узяліся за свае школьныя справы, яны адразу-ж адчулі, што правясьці ўсе тыя заданьні, якія стаялі перад беларускаю меншасьцю і школай на 1922—1923 год, — ніякім чынам ня ўдасцца.

Галоўнейшыя заганы, якія патрабавалі зьмены і выпраўленьня ў працы вясковых аснаўных школ, вынікалі з гэткіх момантаў:

1) Толькі першых 16 беларускіх аснаўных школ, адкрытых з восені 1921 г. у Дзьвінскім павеце, былі адразу пасьля адкрыцьця наіменаваны беларускімі школамі і да паступленьня пад загад Беларускага аддзелу ніякаму іншаму меншасьцёваму аддзелу падпарадкаваны ня былі. Усе іншыя беларускія школы, у ліку 30 школ, існаваўшыя ўжо з 1919—1920 навучальнага году, першыя гады сваёй працы да стварэньня Беларускага аддзелу працавалі пад загадам Вялікароскага аддзелу і насілі назоў „рускіх“ школ. Пасьля арганізацыі Беларускага аддзелу школы гэтыя, па праву і на моцы пастановы агульных сходаў бацькоў, паступова ў працягу 1921—1922 навучальнага году перайшлі пад загад Беларускага аддзелу, прычым праграма школ і склад настаўнікаў былі да канца памянёнага навучальнага году пакінуты без перамены, каб не рабіць ломкі сярод навучальнага году[27]. Зусім зразумела, што на далейшы час пакінуць гэтыя школы без рашучых зьмен было немагчыма.

2) Беларускіх вучыцялёў, падгатаваных ўлетку 1921 г. на першых летніх курсах беларусазнаўства, хапіла толькі на беларускія школы ў Дзьвіншчыне, а таму ў Люцынскім павеце Беларускі аддзел змушаны быў пакінуць у перашоўшых да яго школах ўсіх настаўнікаў, нават вялікаросаў, якія ня толькі ня ведалі беларускае мовы, але і самым варожым чынам спаткалі самы пераход школ пад Беларускі аддзел. Ад гэткіх настаўнікаў беларускія школы павінны былі быць пазбаўлены ў першую чаргу. Першы выпуск Дзяржаўных аднагадовых настаўніцкіх курсаў стварыў новыя невялічкія кадры сьвядомых настаўнікаў, якія і магчыма было ўжо скарыстаць, каб зрабіць замену хаця-ж бы часткі неадпаведных настаўнікаў.

[27] Гэта дало некаторым асобам грунт, каб вінаваціць Беларускі аддзел у тым, што ён нібыта зьяўляецца філіялам Вялікароскага аддзелу і што беларуская школа нічым не адрозьніваецца ад школы вялікароскай. Аднак, як мы бачым, аб'ектыўныя варункі працы абмяжоўвалі ініцыятыву і жаданьні вузкімі межамі магчымага.

3) Адсутнасьць беларускага выдавецтва і беларускае кнігарні на тэрыторыі Латвіі войстра давала сябе адчуваць: не было ні падручнікаў на беларускай мове, ні беларускіх бібліятэчак. Усё гэта патрэбна было выпісываць для беларускіх школ зь Віленшчыны, што было зьвязана зь вялікімі выдаткамі, а грошы не было ні ў зруйнаваных вайной беларускіх сялян, ні ў Т-ва „Бацькаўшчына“[28].

Найпільнейшай і неадкладнейшай патрэбай была патрэба пільнае зьмены шэрагу настаўнікаў у Люцыншчыне, але тутака Беларускі аддзел стаў перад фактам ня толькі адсутнасьці патрэбнага ліку новых беларускіх настаўнікаў[29], але і перад чыста фармальнымі перашкодамі. Утрымацелямі вясковых школ зьяўляюцца павятовыя школьныя ўправы, а згодна закону, выбар настаўнікаў для школы залежыць ад утрымацеля, таму замена настаўнікаў у беларускіх школах залежала не ад Беларускага аддзелу і інспэктара, а толькі ад той ці іншай пастановы павятовых школьных управаў. Вось чаму аб зьняцьці з працы кожнага настаўніка прыходзілася асобна і падоўгу вясьці перамовы з павятовымі школьнымі управамі, каб знайсьці юрыдычныя падставы для звальненьня з пасады, або для пераводу ў іншую школу шкоднага для беларускае школы настаўніка. Адзінае, што было ў магчымасьці Беларускага аддзелу, гэта дамагацца, каб у будучыні ў беларускія школы прызначаліся толькі тыя настаўнікі, якія будуць мець ад Беларускага аддзелу права на выкладаньне ў беларускіх школах. Такім чынам замена цэлага шэрагу настаўнікаў-велікаросаў, або *„беларусаў 2-й катэгорыі“*[30], не змагла адбыцца перад пачаткам другога 1922—1923 навучаль-

---

[28] Для першых 16 школ маленькія бібліятэчкі былі набыты яшчэ ўвосені 1921 г. за асабісты кошт аўтара гэтае кніжкі, а затым каля 50 бібліятэчак і значны лік падручнікаў былі набыты у студзені 1922 г. з урадовых сродкаў па буджэту Беларускага аддзелу. Аднак усё набытае не задавальняла патрэб беларускіх школ і на 25 працэнтаў.

[29] Немаль усе новавыпушчаныя з гадавых курсаў маладыя настаўнікі былі прызначаны на вольныя вакансыі ў Дзьвіншчыну і толькі В. Руднікаў трапіў у Люцыншчыну.

[30] Тэрмін *„беларус 2-й катэгорыі“* прыдумаў вучыцель-аграном Садоўскі ў Дзьвінску, які спачатку абвесьціў сябе беларусам і працаваў у Т-ве „Бацькаўшчына“ і на беларускіх аднагадовых дзяржаўных настаўніцкіх курсах, а потым, калі ў беларусаў пачаліся рашучыя сутычкі зь велікаросамі, ён абвесьціў сябе *„беларусам расейскае культуры“* і перабег на бок тых, хто змагаўся супроць адкрыцьця ў Дзьвінску беларускае аснаўное школы. Асабліва ганебна трымаў сябе гэты грамадзянін на адным сходзе Дзьвінскае⇨

нага году, і іх прыйшлося пакінуць у школах яшчэ на год, як спадчыну мінулага.

Другой неадкладнай патрэбай і адным з важнейшых заданьняў беларускае асьветнае працы на 1922—1923 нав. год была арганізацыя беларускіх школ у Рэжыччыне і Ілукшчыне. У гэтых паветах за першы год працы не было адкрыта ніводнае беларускае школы і беларускія дзеці ўсё яшчэ змушаны былі — або сядзець без навучаньня ў хаце, або ісьці ў школу чужой нацыянальнасьці. Статыстыка цэлага шэрагу „рускіх“ школ Ілукшчыны і Рэжыччыны, працаваўшых у воласьцёх зь беларускім жыхарствам, ясна даводзіла, што большасьць вучняў у іх зьяўляюцца беларусамі, што школы гэтыя толькі па нейкаму непаразуменьню да гэтага часу знаходзяцца яшчэ пад загадам Велікароскага аддзелу і што зусім справядліва было-б зараз-жа перадаць гэтыя школы ў Беларускі аддзел.

Такіх бяспрэчна беларускіх па свайму складу школ было ў Рэжыцкім павеце, згодна даных самога Велікароскага аддзелу: — 2 школы[31], а ў Ілукштанскім павеце — 5 школ[32].

Справа перадачы школ пад кіраўніцтва Беларускага аддзелу залежала ад утрымацеляў, г.ё. ад пастаноў Рэжыцкае і Ілукштанскае павятовых школьных упраў.

⇨ школьнае ўправы ў жніўню месяцы, на якім прысутны былі кіраўнікі ўсіх дзьвінскіх школ і абгаварывалася справа аб зацьверджаньні кіраўніком беларускае школы гр. А. Якубецкага і аб прыйме на ўтрыманьне гораду яшчэ двух настаўнікаў беларускае школы. Тут гэты грамадзянін, як гласны Дзьвінскае Думы, выступаў супроць вымаганьняў інспэктара беларускіх школ аб прыйме Дзьвінскае беларускае школы на ўтрыманьне гораду, і калі яго прыперлі да сьцяны ўказаньнем на антымаральнасьць ягонага трыманьня, як былога лектара беларускіх настаўніцкіх курсаў, дык ён адказаў, што *„зьяўляецца беларусам другой катэгорыі“* і што для яго беларуская школа непатрэбная.

[31] Панаўская 4-хклясавая аснаўная школа Вайвадоўскае воласьці (на мяжы з Радавай Беларусьсю) мела ў 1921—1922 навуч. годзе — 51 вучня-беларуса, а Крукоўская 4-хклясавая школа — 54 вучні-беларусы. Былі яшчэ вучні-беларусы ў Андрупінскай, Зыркоўскай і некаторых іншых школах Рэжыччыны.

[32] Пристанская 4-хклясавая школа — 74 вучні-беларусы; Дзірванішская 4-х клясавая школа — 48 вучняў-беларусаў; Эллернская 4-хклясавая школа — 60 вучняў-беларусаў; Фабіянаўская 4-хклясавая школа — 42 вучня-беларуса; Бароўская 4-хклясавая школа — 24 вучня-беларуса. Значны лік вучняўбеларусаў вучыўся яшчэ ў школах Віктароўскай і Чэрвонскай.

Беларускі аддзел і інспэктар беларускіх школ зьвярнуліся з належнымі захадамі да памянёных школьных упраў і да інспэктараў аснаўных школ адпаведных раёнаў, прадставіўшы статыстычныя даныя. Аднак, захады гэтыя ня мелі посьпеху: абедзьве школьныя управы ўстрымоўваліся ад перадачы школ на падставе адных статыстычных даных, а тым часам на мяйсцох праз сваіх настаўнікаў велікароскія колы павялі супроць перадачы школ у Беларускі аддзел войструю агітацыю.

Пасьля некалькіх паўторных захадаў у Рэжыцкай школьнай управе ўдалося дабіцца пастановы аб скліканьні агульных сходаў бацькоў дзьвюх школ Вайвадоўскае гміны і аб пасылцы туды на сходы асобнае камісіі, у якой быў бы і інспэктар беларускіх школ. Камісія зрабіла коньмі з Рэжыцы 70 вёрст у Панаўскую школу, але аказался, што вучыцель Юркевіч (сам беларус, паходзе зь вёскі Лупанды Прыдруйскае вольсьці) агульнага сходу бацькоў не склікаў, а сабраў толькі школьную раду школы, якая складалася з двух-трох чалавек „бывалых“ людзей, арыентаваўшыхся ў „расейскі“ бок, а таму перадача школы ў Беларускі аддзел была вызнана пастановай гэтых грамадзян непажаданай. У другой школе камісія не знайшла ні агульнага сходу, ні школьнае рады, ні нават самога кіраўніка школы. З гэтае паездкі была ясна, што спадзявацца на дапамогу школьных упраў немагчыма, што справа перадачы школ у Беларускі аддзел і справа арганізацыі новых беларускіх школ у Рэжыччыне павінна быць паведзена не згары, а зьнізу, захадамі самога беларускага жыхарства.

У Ілукштанскім павеце справа стаяла яшчэ горш. Там Школьная ўправа не пажадала нават выслаць камісію ў вышэйпаказаныя 5 школ, і такім чынам Беларускі аддзел ня меў да гэтых школ нават часовага доступу. Адзінае, чаго дасягнула тутака беларуская інспэктура, гэта прызначэньня аднаго з маладых беларускіх настаўнікаў першага выпуску аднагадовых дзяржаўных настаўніцкіх курсаў гр. Шарапаева на вольную вакансыю ў Варновічскую школу.

Далейшае змаганьне за беларускую школу ў Ілукшчыне, як і ў Рэжыччыне, павінна было вясьці, як і ў 1921 г., беларускае грамадзтва і культурна-асьветныя арганізацыі. У гэтым напрамку і паведзена была праца: у Рэжыцы і ў Бароўцы пачалася падрыхтоўчая праца да адчыненьня аддзелаў Т-ва „Бацькаушчына“, якія павінны былі ўжо парупіцца аб згуртаваньні бацькоў на змаганьне за беларускія школы. Практыка аналёгічнага змаганьня за беларускія мястовыя школы ў Дзьвінску, у Люцыну і ў Краслаўцы даводзіла справядлівасьць і добрую

пасьпяховасьць гэткага падыходу зьнізу, бо гэта быў не чыноўніцкі, а грамадзкі падыход да грамадзкае справы.

Такім чынам намеціўся падзел працы паміж Беларускім аддзелам і беларускім грамадзтвам у справах школы: Беларускі аддзел павінен быў кіраваць існуючымі ўжо беларускімі школамі і клапаціцца аб іх умацаваньні і палепшаньні, а беларускае грамадзтва аб адчыненьні новых беларускіх школ у беларускіх раёнах.

Трэцяе чарговае заданьне на 1922—1923 г. было забясьпечаньне школ падручнікамі. Ужо адзначалася, што падручнікі і кнігі для школьных бібліятэчак выпісываліся зь Вільні але, паміма вялікае каштоўнасьці, надзвычайнае клапатлівасьці і труднасьці гэткага спосабу, была яшчэ адна нязручнасьць у карыстаньні гэтымі падручнікамі — яны мала падыходзілі да праграмы аснаўных школ у Латвіі. Паўставала патрэба ў надрукаваньні зусім новых падручнікаў, прыстасаваных да латвійскіх умоў.

Першаю кніжкаю, якую выпусьціў Беларускі аддзел, быў лемантар „Зорка“, нанова перагледжаны і прарэдагаваны гр. А. Смоліч для гэтага выданьня. Перад тым, як выпускаць далейшыя выданьні, трэба было адшукаць на гэта сродкі і аканчальна распрацаваць праграму беларускіх школ. Апошняя праца была даручана некалькім настаўнікам-практыкам, якія, кожны па-асобку, распрацавалі праграму аднаго якога колечы прадмету, а затым праграмы павінны былі быць разгледжаны на настаўніцкіх канфэрэнцыях і зацьверджаны Міністэрствам асьветы. Усё гэта патрабавала значнага часу, а таму праграмы былі закончаны толькі ў канцы 1922—1923 навучальнага году. Выдрукаваць жа іх і прыступіць да выпуску беларускіх падручнікаў у Латвіі давялося, па незалежных ад беларусаў прычынах, аб якіх будзе гаворана ніжэй, толькі значна пазьней — ужо ў 1925—1926 нав. годзе, пасьля вядомага „Беларускага працэсу“.

Тры вышэйуспомненыя заданьні былі самымі неадкладнымі для разьвіцьця беларускае школьнае працы, якая павінна была ахапіць беларускае жыхарства школьнага веку. Але, апрача дзяцей і моладзі, трэба было даць духовую страву і даросламу беларускаму жыхарству, трэба было арганізаваць і пазашкольную асьвету. Гэта было чацьвертым заданьнем для беларускага асьветніка.

Пазашкольная асьветная праца была і ёсьць да гэтага часу ня менш важнай для беларускае меншасьці, чым праца школьная. Малая нацыянальна сацыяльная сьвядомасьць беларускага сялянства, адсутнасьць па беларускіх валасьцёх народных дамоў і хат-чытальняў, агромны

працэнт непісьменных сярод дарослага беларускага жыхарства, усё гэта вымагала і вымагае вялікае і ўпартае многагодняе працы. Патрэбна было ладзіць агульнадаступныя лекцыі, арганізоўваць беларускія агульнаасьветныя курсы, школы для дарослых, узяцца за пляновае правядзеньне ліквідацыі непісьменнасьці шляхам стварэньня асобных вячэрніх гурткоў. На ўсё гэта патрэбны былі значныя сродкі, якіх беларусы ня мелі. Т-ва „Бацькаўшчына“ распрацавала падрабязны буджэт і зьвярнулася да Культурнага фонду з просьбай аб дапамозе. Аднак дамаганьні Т-ва задаволены не былі і „Бацькаўшчына“ атрымала толькі невялічкую дапамогу ў суме 1000 латаў. Па буджэту Беларускага аддзелу таксама не было прадугледжана сум на пазашкольную асьвету, а таму гэтая дужа важная галіна асьветнае працы, ад якой залежала умацаваньне беларускае сьвядомасьці, асталася зусім нават незачэпленай.

Адно, што высілкамі беларускае сьвядомае інтэлігэнцыі зроблена было ў кірунку пазашкольнае асьветы, гэта шэраг беларускіх вечарын і спэктакляў па вёсках і ў латгальскіх гарадох, ладжаных сіламі беларускага настаўніцтва і аддзелаў Т-ва „Бацькаўшчына“.

Каб выявіць стан асьветы беларускае меншасьці ў лічбах, а таксама, каб уявіць сабе, у якой ступені беларуская нацыянальная меншасьць адстала ў галіне асьветы ад іншых народаў Латвіі, ніжэй зьмяшчаем дзьве параўнаўчых табліцы, узятыя з брашуры таго-ж аўтара, выпушчанай яшчэ у 1923 г. за час бытнасьці аўтара інспэктарам беларускіх школ[33]. З таго часу і да нашых дзён стан асьветы ў беларусаў мала палепшыўся.

Як бачым з табліцы, беларуская меншасьць зьяўлялася ў 1922—1923 навучальным годзе самаю адсталаю і непісьменнаю меншасьцю ў Латвіі. З тых-жа табліц бачым, што лічба беларускіх аснаўных і сярэдніх школ павінна была-б бліжэйшыя гады, — каб дайсьці да прапарцыянальнае роўні з іншымі нацыянальнасьцямі, — павялічыцца ў два разы.

Што да вышэйшае асьветы, дык у першыя два гады яна была зусім недаступна беларусам у Латвіі, бо ніводзін латгальскі беларус ня ведаў

[33] Глядзі брашуру К. Езавітава „Становішча беларускае школы ў Латвіі“ (Вільня, 1923). Даволі ўжо рэдкая цяпер брашура гэта мае 28 балонак з гэткім зьместам у 7 разьдзелах: I. Кароткі ўступ. II. Лічба беларусаў у Латвіі. III. Нацыянальнае жыцьцё беларусаў у Латвіі. IV. Прычына спазьненьня арганізацыі беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі. V. Становішча беларускае школы ў Латвіі ў 1921—1922 школьным годзе. VI. Становішча беларускае школы на 1 студзеня 1923 году. VII. Агульныя вывады.

| Нацыянальнасьць | Працэнт пісьменнасьці | | Агульная колькасьць нацыянальнасьці | Лічба аснаўных школ | На якую лічбу жыхароў прыходзіцца 1 аснаўная школа |
|---|---|---|---|---|---|
| | мужчын | жанчын | | | |
| Латышы | 74 | 74 | 1 119 396 | 1 317 | 850 |
| Велікаросы | 43 | 28 | 91 477 | 198 | 462 |
| Немцы | 83 | 87 | 58 097 | 73 | 796 |
| **Беларусы** | **39** | **27** | **76 194** | **50** | **1 522** |

Табліца 20. Пачатковая асьвета ў беларусаў у параўнаньні да іншых нацыянальнасьцяў Латвіі

| Нацыянальнасьць | Колькасьць нацыянальнасьці | Лічба сярэдніх школ | На якую лічбу жыхароў прыпадае 1 сярэдняя школа |
|---|---|---|---|
| Латышы | 1 119.396 | 60 | 18 656 |
| Вялікаросы | 91 477 | 25 | 3 659 |
| Жыды | 89 368 | 9 | 8 818 |
| **Беларусы** | **76 194** | **2** | **38 097** |
| Немцы | 58 097 | 10 | 5 809 |
| Палякі | 52 244 | 3 | 17 414 |

Табліца 21. Сярэдняя асьвета ў беларусаў у параўнаньні да іншых нацыянальнасьцяў Латвіі

латыскае мовы, а таму ня меў магчымасьці трапіць у Латвійскі дзяржаўны ўнівэрсытэт у Рызе. Каб даць выхад беларускай моладзі да вышэйшае асьветы, Цэнтральнае праўленьне Т-ва „Бацькаўшчына“ пры дапамозе Беларускае Нацыянальнае Рады ў Празе накіравала ў 1921 і 1922 гг. па некалькі беларускіх матурыстаў у Прагу ў Чэскі дзяржаўны ўнівэрсытэт на стыпэндыі, якія даў беларусам Чэха-славацкі ўрад. Хаця-ж пасылка моладзі на доўгі час у замежжа дужа адрывае яе ад роднага караня і ад варункаў жыцьця ў сваім краю, адначасна аслабляючы інтэлектуальны склад беларускае меншасьці ў Латвіі, але іншага спосабу здабыць вышэйшую асьвету латвійскія беларусы тады яшчэ ня мелі.

На заканчэньне гэтага разьдзелу трэба адзначыць, што ў сьнежні 1922 г. Беларускі аддзел арганізаваў у Дзьвінску першую Канфэрэнцыю беларускага настаўніцтва ў Латвіі.

На Канфэрэнцыі былі заслуханы даклады кіраўніка Беларускага аддзелу і інспэктара беларускіх школ, а таксама даклады кіраўнікоў гімназіі і аснаўных школ. Гэтыя даклады былі дужа карыснымі для агульнае ацэнкі стану беларускае асьветы, а таксама і для ўзаемнае інфармацыі працаўнікоў беларускае школы.

Не абмінула Канфэрэнцыя і агульнаграмадзкіх пытаньняў. У першую чаргу абгаворана была справа беларускае прэсы у Латвіі, але Канфэрэнцыя змушана была вызнаць, што арганізацыя выхаду беларускае газэты пакуль-што яшчэ не па сілах матэрыяльна слабой беларускай меншасьці.

### Пляновы паход супроць беларускае школы ў Латвіі

Вышэй ужо адзначалася, што зь першых дзён нацыянальна-меншасьцёвай беларускай працы ў Латвіі, у некаторых латыскіх колах зьявілася думка аб тым, што — пры малой нацыянальнай сьвядомасьці і страшэннай беднасьці беларускага жыхарства ў Латгаліі — яго можна будзе паступова аблатышыць. Дзеля гэтае мэты, па думцы гэтых латыскіх шавіністаў, трэба было ўзяцца за беларускіх дзяцей у Латгаліі і накіраваць іх не ў беларускія, а ў латыскія школы. Аднак, зачыніць толькі што адкрытыя беларускія нацыянальныя школы і адкрыць на мейсцы іх школы латыскія было няёмка: гэта магло-б выклікаць пратэсты беларусаў і розныя непажаданыя непрыемнасьці і скаргі. Пайсьці афіцыйна на такі шлях Міністэрства асьветы і яго кіруючыя колы ня мелі магчымасьці. Таму „дзеля пробы“ і ў абход існуючага закону аб

меншасьцёвай школьнай аўтаноміі нейкая „патрыётычная“ галава прыдумала іншы больш разумны спосаб, па прыкладу знакамітага нямецкага *„Drang nach osten“*[34] і паведаміла аб гэтым „каго трэба“ на мяйсцох.

І вось мы бачым, што ў 1922—1923 навучальным годзе латвійская інспэктура старанна сочыць за беларуска-велікароскімі і беларуска-польскімі сваркамі з-за паасобных беларускіх школ і спрытна выкарыстоўвае гэтыя спрэчкі ў сваіх мэтах: даволі пану інспэктару, або школьнай управе атрымаць заяву бацькоў з раёну якой-колечы беларускай школы аб тым, што яны жадаюць школу расейскую, або польскую, як зараз у гэтую школу накіровываецца камісія, якая знаходзе школу *спрэчнай* і яе з-пад кіраваньня Беларускага аддзелу перадае ў Агульны школьны дэпартамант.

Такім чынам цэлы шэраг беларускіх школ быў адабраны ад Беларускага аддзелу і апынуўся ў руках Агульнага школьнага дэпартаманту, які кіруе латыскімі школамі. Беларускіх вучыцялеў з такіх школ зараз-жа перакідалі ў іншыя школы, а ў адабраную школу назначалі настаўнікаў-латышоў, зусім ня ведаўшых беларускае мовы.

Каб надаць усей гэтай акцыі выгляд неабходнасьці і праўнасьці, у некаторых школах былі скліканы сходы бацькоў і запрошаны быў у камісію нават інспэктар беларускіх школ. Аднак права прысутных на сходзе грамадзян вырашаць справу школы не правяралася, часам галасавалі грамадзяне, якія дзяцей у данай школе не вучылі і на агульным сходзе бацькоў удзельнічаць зусім ня мелі права. Дзякуючы гэтаму, становішча беларускага інспэктара ў камісіі было дужа цяжкім, яму прыходзілася па некалькі разоў выступаць з прамовамі перад несьвядомым сялянствам, каб высьветліць яму задачы беларускае школы і прычыны змаганьня супроць беларускае школы з боку паноў і расейскіх чарнасоценцаў.

---

[34] Немцы ў Познані праз нямецкую школу анямечвалі палякаў, у Прымор’і — кашубаў, а ў Мемельшчыне — ліцьвіноў. Каб замацаваць за Нямеччынай гэтыя правінцыі, нямецкія ўлады і грамадзтва, апрача нямецкіх школ, арганізавалі яшчэ плянавае скупліваньне зямлі ад польскіх, мазурскіх і літоўскіх земляўласьнікаў. Каб правадзіць гэтую працу быў выкінуты лозунг і створана асобнае Т-ва *„Drang nach Osten“* (*„Пасоўвайся на Усход“*). Калі мы прымем пад увагу захопленьне нашых школ ды ўспомнім, што і ў нас у Латгаліі і Ілукшчыне ў прыгранічным поясе зямлю, у першую чаргу, могуць купляць латышы і латгальцы, а не беларусы, дык трэба будзе прызнаць, што і ў нас праводзіцца прынцып *„Drang nach Osten“*.

Тутака-ж на сходзе беларускаму інспэктару прыходзілася выкрываць ганебную ролю некаторых настаўнікаў, варожых беларускай школе, і дамагацца іх звальненьня, або пераводу.

Члены камісіі незаўсёды з належнаю ўстрыманасьцьцю ставіліся да высілкаў беларускага інспэктара і часам сьпяшаліся *„хутчэй скончыць справу“*, але ўсе-ж-ткі тыя дзьве школы, у якія камісія выяжджала разам зь беларускім інспэктарам: Пустынская школа і 1-я Прыдруйская — не былі канчаткова згублены беларусамі: абедзьве школы былі перададзены, праўда, у Агульны дэпартамант, але ў іх асталося выкладаньне беларускае мовы, асталіся вучыцелі-беларусы, а варожыя нам вучыцелі-расейцы і палякі былі пераведзены ў іншыя школы (вуч. Сухаржэўскі, Бараноўскі, Высокіх).

Пратэсты інспэктара беларускіх школ гр. К. Езавітава хаця-ж і не маглі спыніць справу паходу на беларускія школы, але былі вельмі непрыемны для ініцыятараў адабраньня беларускіх школ, а таму, каб пазбавіцца гэтых пратэстаў, Міністэрства асьветы не спынілася нават перад тым, каб скасаваць самую пасаду інспэктара беларускіх школ, і з 1 красавіка 1923 г. К. Езавітаў быў пазбаўлены пасады інспэктара і прызначаны арганізатарам беларускае дзяржаўнае гімназіі ў Люцыну.

Далейшае адабраньне школ ад Беларускага аддзелу пайшло ўжо бязь лішняга шуму, нямаль што простым канцэлярскім парадкам. Інспэктура намячала для чарговага захопу пэўную школу, а з раёну гэтае школы „нехта“ арганізовываў прысылку просьбы аб перадачы беларускае школы ў іншы меншасьцёвы аддзел (у каталіцкім раёне — у польскі, а ў праваслаўным — у расейскі). Зразумела, што ў іншы меншасьцёвы аддзел школа не перадавалася, а трапляла ў Агульны дэпартамант. Нямаль як правіла, такімі спрэчнымі школамі ў падаўляючай большасьці выпадкаў аказваліся самыя вялікшыя беларускія школы ў цэнтральных раёнах і прытым нямаль усе 6-ціклясавыя школы, як, напрыклад, Стара-Слабодская 6-ціклясавая беларуская школа, Пасіньская 6-ціклясавая беларуская школа, Індроўская (Бальбіноўска-Шнёкаўская) беларуская школа ды іншыя.

Адбіраючы ад беларусаў шасьціклясавыя аснаўныя школы, Міністэрсгва асьветы ня толькі захоплівала лепшыя беларускія аснаўныя школы, але адначасна з гэтым наносіла моцны ўдар і беларускім гімназіям, пазбаўляючы іх новых кадраў гімназістаў з правінцыі, якія прыходзілі ў беларускія гімназіі якраз з гэтых адабраных ад беларусаў 6-ціклясавых аснаўных школ.

Каб супакоіць і залагодзіць беларускіх бацькоў, гэтыя захопленыя беларускія школы атрымоўвалі асобныя сродкі на розныя дапамогі

вучням: гарачыя фрыштыкі, боты, падручнікі (зразумела ў латыскай мове) і інш. Каб пазбавіць гэтыя школы ад кантролю валасных упраў, некаторыя з гэтых школ былі зроблены ўрадовымі аснаўнымі школамі і падпарадкаваны безпасрэдна Міністэрству асьветы. Для такіх школ потым пачалі будаваць асобныя вялізарныя будынкі з інтэрнатамі, каб прыцягнуць да іх вучняў і з раёнаў бліжэйшых беларускіх школ, што асталіся яшчэ пад кіраваньнем Беларускага аддзелу.

Гэтыя мерапрыемствы Міністэрства асьветы дужа аслабілі беларускую асьветную працу і паднялі ваяўнічы дух у старых ворагаў беларускае меншасьці, расейскіх чарнасоценцаў-абрусіцеляў, польскіх паноў-абшарнікаў ды дробных шляхцюкоў-падпанкаў.

Па істоце справы ні велікаросы, ні палякі нічога не выігрывалі з таго, што беларускія школы пераходзілі ў Агульны дэпартамант, наадварот — гэткае захапленьне беларускіх школ стварала і падрыхтоўвала на будучыну магчымасьць захапіць тым-жа парадкам і некаторыя велікароскія і польскія школы. Аднак у сваім сьляпым змаганьні зь беларушчынай, ні велікароскія абрусіцелі, ні паны колёнізатары Латгаліі ня думалі аб будучыні, для іх ужо вялікім посьпехам здавалася часовая хаўрусаваньне з латыскімі шавіністамі ў сучасным, страта некалькіх беларускіх школ і спыненьне далейшага разьвіцьця беларускае школьнае сеткі.

## Трэці год працы, 1923—1924 навучальны год

Зусім зразумела, што паход, узьняты супроць беларускіх школ некаторымі ўплывовымі ўрадоўцамі Міністэрства асьветы, павінен быў змусіць беларускую меншасьць і яе кіруючыя колы задумацца над стварыўшайся сітуацыяй і шукаць зь яе выхаду. Трэба было ацаніць склаўшыяся абставіны, выпрацаваць плян далейшае працы і дружнымі высілкамі праводзіць яго ў жыцьцё. На жаль, пры ацэнцы абставін працы 1923 г. і пры абгаворваньні тактыкі будучае працы, думкі павадыроў беларускага руху ў Латвіі дужа разыйшліся.

Група пачынальнікаў беларускае меншасьцёвае працы ў Латвіі з грамадзянамі К. Езавітавым і Сахаравым на чале ясна бачыла, што спыніць паход супроць беларусаў магчыма будзе толькі зьнізу, толькі тады, калі хваля беларускае сьвядомасьці дакоціцца да беларускае вёскі, калі ў шэрагі змагальнікаў за беларускую школу стануць ня толькі сьвядомыя беларускія інтэлігэнты, свабодна ўладаючыя беларускаю моваю, але і беларускія сяляне па вёсках, і беларускія рабочыя па гара-

дах і тыя беларускія інтэлігэнты, у якіх гавора шчырая беларуская душа, хаця-ж яны і мала яшчэ ўладаюць літаратурнай беларускай мовай, бо скончылі школу расейскую. Па думцы гэтых грамадзян, трэба было прыцягваць да беларускае працы кажнага этнаграфічнага беларуса, даючы яму час на паступовае нацыянальна-сацыяльнае ўсьведамленьне і вывучэньне літаратурнае мовы і гістарычнага мінулага беларусаў. Такім паступовым усьведамленьнем можна было згуртаваць каля беларускіх арганізацый усю беларускую меншасьць, і ўжо зьнізу праз аддзелы таварыства „Бацькаўшчына“ і праз школьныя рады паявтовых беларускіх школ дамагацца замацаваньня беларускіх школ пад кіраўніцтвам Беларускага аддзелу. Такім чынам гэтая група дзеячаў стаяла за далейшае пашырэньне працы, прыцягваньне новых сіл і паступовае ўсьвядомліваньне іх.

Другая група дзеячоў, арганічна з Латвіяй не зьвязаная, з латвійскімі ўмовамі мала знаёмая і прыехаўшая сюды ўжо пасьля таго, як першыя і самыя важныя дасягненьні былі беларусамі здабыты (як 50 беларускіх аснаўных школ, Беларускі аддзел, беларускія настаўніцкія курсы і буджэт для 2-х беларускіх гімназій) выяўляла вялікую нецярплівасьць, была незадаволена ступенью нацыянальнае сьвядомасьці маладога беларускага грамадзтва і настаўніцтва, не жадала лічыцца з ім і дамагалася тэрміновых зьмен. Гэтая група на чале якой станулі гр.гр. І. Краскоўскі і Ўл. Пігулеўскі, была супроць далейшага пашырэньня працы, супроць цярплівае паступовасьці і прыцягваньня новых сіл, яна дамагалася пільнае „чысткі“ беларускага грамадзтва, прынцыпова адкідала ўсіх тых, хто не ўладае мовай, і пакладала вялікія надзеі на тое, што паход супроць беларускіх школ можна будзе спыніць згары шляхам захадаў перад Міністэрствам і разнымі латвійскімі палітычнымі групамі[35].

Беларускае прэссы ў Латвіі ў 1923 г. не было, беларускія-ж дзеячы тэрытарыяльна былі расьцярушаны паміж Рыгай, Люцынам, Дзьвінскам і правінцыяй, а таму арганізаваць спакойную дыскусію, або проста сяброўскі абмен думак не было фізычнае магчымасьці. Гарачыя-ж спрэчкі ў часе кароткіх нэрвовых спатканьняў мала дапамагалі

[35] Надзея на дапамогу паасобных палітычных груп згары была тым больш памылковай, што палітычныя групы ў Латвіі згодны дапамагаць толькі тым, хто сам на мяйсцох мае сваю арганізаваную сілу. Звароты-ж да Міністэрства і да груп с просьбамі аб арганізацыйнай дапамозе беларусам якраз маглі толькі гаварыць аб слабасьці беларускае меншасьці і аб тым, што зь ёй можна не лічыцца.

высьвятленьню справы, тым больш, што манера гутарак гр. Краскоўскага выклікала паміж грамадзянамі войстрыя, часта-густа зусім безпадстаўныя і непатрэбныя пэрсанальныя непаразуменьні.

Беларуская грамадзкасьць у Латвіі склалася ў 1921—1922 гг. з двухтрох сьвядомых беларускіх асьветнікаў, якія ўжо раней прымалі актыўны ўдзел у беларускім руху, ды з даволі значнай і стойкай групы настаўнікаў-беларусаў, якія хаця-ж да гэтага і ня бралі ўдзелу ў беларускай адраджэнчай працы, аднак па першым закліку шчыра ўсім сэрцам адгукнуліся і прынялі дужа чынны і актыўны ўдзел як у стварэньні Т-ва „Бацькаўшчына“ гэтак і ў працы яго[36]. Добра адчуваючы, што яны вельмі адсталі ад агульнага беларускага адраджэнчага руху, яны ўсімі сіламі стараліся яго дагнаць, — хадзілі на арганізаваныя ўлетку 1921 г. курсы беларусазнаўства, вывучалі беларускую гісторыю і літаратуру, запісаліся нават на гадовыя дзяржаўныя настаўніцкія курсы, падтрымоўвалі ўсе пачынаньні Т-ва, прыцягвалі ў Т-ва новых сябраў, вялі змаганьне з толькі-толькі выступаўшым тады на сцэну гр. Садоўскім і наагул вытрымалі на сваіх плячох працу праз увесь 1921 г. ды першыя месяцы 1922 г., пакуль не зрабілася магчымым выпісаць з-за мяжы новыя беларускія нацыянальна-кваліфікаваныя асьветныя сілы.

З прыездам у Дзьвінск гр. Э. Будзькі і І. Краскоўскага, яны абодва былі кааптаваны ў склад Цэнтральнага праўленьня Т-ва „Бацькаўшчына“, а затым улетку 1922 г. гр. І. Краскоўскі быў нават абраны старшынёй гэтага Т-ва, бо Праўленьне высока цаніла кожную сьвядомую беларускую сілу. Гр Э. Будзька адразу-ж зьліўся зь беларусамі Дзьвінску, моцна зьсябраваўся з імі і заахвочваў да далейшае працы, бо меў талент простага і шчырага падыходу да людзей. З гр. І. Краскоўскім справа стаяла інакш. Прыехаўшы зь віленскае беларускае глебы, дзе беларус-

[36] На першым ініцыятыўным сходзе 25 сакавіка 1921 г. дзеля стварэньня ў Дзьвінску Т-ва „Бацькаўшчына“ былі прысутныя: 1) Старшыня Рыскага Т-ва „Бацькаўшчына“ Канстантын Бар. Езавітаў, 2) Ян Восіпавіч Харлап, 3) Ян Максімавіч Белікаў, 4) Мікола Мітрафанавіч Хмялеўскі, 5) Вольга Аляксандраўна Васільева, 6) Пётра Пятровіч Дзяменьцьеў, 7) Аўгіньня Фёдараўна Чапля, 8) Марыя Ільышна Сасноўская і 9) Якаў Фёдаравіч Кастылюк. Гэта і быў першы беларускі меншасьцёвы гурток у Дзьвінску. 30 сакавіка шасьцёра першых і дзявяты зь пералічаных грамадзян падпісалі ў нотара, а 6 красавіка здалі ў Латгальскі акруговы суд, статут Т-ва „Бацькаўшчына ў Латгаліі. Да гэтых, усім у Дзьвінску добра вядомых грамадзян, далучыліся потым іншыя беларускія сілы і працаўнікі, як у г. Дзьвінску гэтак і ў правінцыі.

кая нацыянальная сьвядомасьць стаіць дужа высока, а беларускае грамадзтва мае больш, чым чвэрцьвяковую практыку адраджэнчае барацьбы, ён дужа нізка ацэньваў посьпехі беларускае працы ў Латвіі, разглядаў беларускае грамадзтва ў Латгальшчыне нeяк згары, схільны быў ганьбіць яго за адсталасьць ад Вільні, недацэніваў яго шчырае працы і ўдзельнае вагі ў мясцовым жыцьці, а таму ўжо ўвосені 1922 г. ён пасьпеў перасварыцца немаль з усімі пачынальнікамі беларускага адраджэнчага руху ў Латвіі і заняў нейкае неапраўдальна варожае становішча да ўсяго беларускага грамадзтва, ізаляваўшыся ў мурох гімназіі, як на нейкай выспе[37]. Гэта пазыцыя была дужа шкоднай, бо цэлы шэраг уплывовых дзьвінскіх беларускіх сіл быў адкінуты ад новае пляцоўкі беларускага руху ў Дзьвінску, ад Дзьвінскае беларускае гімназіі, шмат хто пачуў сябе абражаным у лепшых сваіх пачуцьцях, дзе-хто быў нават расчараваны і адышоў ад працы. З Т-ва „Бацькаўшчына“ змушаны былі выйсьці шчырыя і карысныя для справы грамадзяне, уся віна якіх была ў тым, што яны ў сваім часе прайшлі расейскую русіфікатарскую школу і зараз не маглі так шпарка загутарыць на сходах па-беларуску, як гэта хацелася новаму нецярпліваму старшыне Т-ва.

У такіх цяжкіх абставінах пляновага паходу на беларускую школу з боку Міністэрства асьветы, пры варожым велікароска-польскім абкружэньні і хвараблівых зьявах унутрашняе нязгоды, павінны былі латвійскія беларусы вырашаць і праўдзіць у жыцьцё заданьні, што асталіся яшчэ нявырашанымі зь мінулых двух год працы,

Найважнейшых заданьняў, як ужо казана вышэй, было чатыры, а з іх самымі балючымі былі два: агульны ўздым нацыянальна-сацыяльнае сьвядомасьці беларускае меншасьці і пытаньне аб настаўніцкіх кадрах для беларускіх школ. Апошняе пытаньне складалася з трох момантаў: падрыхтоўка новых маладых настаўнікаў, уздойм агульна-асьветнае, пэдагагічнае і нацыянальна-грамадзкае кваліфікацыі ўжо працуючых па школах настаўнікаў-беларусаў і выдаленьне зь беларускіх школ тых настаўнікаў, якія змагаліся зь беларускім адраджэнчым рухам.

Справа падрыхтоўкі новых настаўнікаў была даволі добра наладжана ўжо з самага пачатку праз стварэньне Дзяржаўных настаўніцкіх кур-

[37] Спробы некаторых настаўнікаў гімназіі спыніць гэтае самаізаляваньне ня мелі вынікаў: так вучыцельцы П. В. Мядзёлка-Грыб было забаронена дырэктарам гімназіі арганізаваньне ў Дзьвінску гуртка беларускае моладзі, бо дырэктар гімназіі баяўся кепскіх уплываў мястовае моладзі на беларускіх гімназістаў.

саў, якія ўлетку 1923 г. зрабілі ўжо другі выпуск сьвядомых маладых вучыцялёў.

Трэба было толькі паклапаціцца аб тым, каб паступова ператварыць гэтыя курсы з аднагадовых у двухгадовыя, а таксама і аб тым, каб узьняць агульна-асьветны цэнз для той моладзі, што рыхтуецца да паступленьня на курсы. Апрача таго, улетку 1923 г. як першая спроба былі арганізаваны двухмесячныя пэдагогічныя курсы для першага выпуску матурыстаў Дзьвінскае гімназіі, і некаторым добра праслухаўшым гэтыя курсы былі выдадзены пасьведчаньні на права выкладаньня ў беларускіх школах у Латвіі (М. Касьпяровіч, А. Махноўскаму, В. Салаўевай ды іншым). Такім чынам кадр новых маладых беларускіх вучыцялёў быў для беларускіх школ забясьпечаны.

Каб узьняць кваліфікацыю старых настаўнікаў, трэба было ладзіць агульна-асьветныя, пэдагагічныя і беларусазнаўчыя цыклавыя курсы, каб праз шэраг год кожны настаўнік мог паступова падрыхтавацца па асобных прадмэтах у патрэбным аб'ёме і здаць адзін-за-адным адпаведныя іспыты. Асабліва пільна трэба было правесьці курсы беларусазнаўства для настаўнікаў Люцыншчыны, бо яны ў гэтым сэньсе былі найбольш адсталымі[38].

Па чыста тэхнічных прычынах наладзіць курсы беларусазнаўства асобна для Люцыну ўлетку 1923 г. не ўдалося, а таму Беларускім аддзелам былі арганізаваны агульныя для дзьвінскага і люцынскага настаўніцтва курсы беларусазнаўства ў Дзьвінску[39], куды запрапанавана было прыехаць усім настаўнікам. Усе праслухаўшыя курсы павінны былі здаць належныя іспыты і атрымаць права на выкладаньне прадметаў беларусазнаўства ў беларускіх школах.

Справа выдаленьня зь беларускіх школ варожых беларускаму руху настаўнікаў была, як мы ўжо ведаем, больш складанай. Праўда, другі выпуск дзяржаўных беларускіх настаўніцкіх курсаў, а таксама і першы

---

[38] У 1921 г. курсы беларусазнаўства (гісторыя і геаграфія Беларусі, беларуская мова і гісторыя беларускае літаратуры) былі праведзены толькі для настаўніцтва Дзьвіншчыны, а настаўніцкі Люцыншчыны праслухаць такіх курсаў ня мелі магчымасьці. Улетку 1922 г. у Дзьвінску паўторна былі арганізаваны курсы беларусазнаўства з больш шырокай праграмай, а ў Люцыну тымжа летам былі праведзены толькі першыя кароткатэрміновыя курсы.

[39] У Дзьвінску жылі ўсе лектары курса, якія выкладалі ў Дзьвінскай беларускай гімназіі, у Дзьвінску было добрае памешканьне для інтэрнату і аўдыторыі курсаў у будынку гімназіі, ды, нарэшце, у Дзьвінску былі агульныя для ўсей Латгаліі курсы латыскае мовы для меншасьцёвых настаўнікаў.

выпуск матурыстаў Дзьвінскае беларускае дзяржаўнае гімназіі, праслухаўшых летнія кароткатэрміновыя пэдагагічныя курсы, даваў ужо патрэбныя кадры для замены варожых нам настаўнікаў новымі сьвядомымі сіламі, але юрыдычны бок справы не палепшыўся, бо нямаль усе настаўнікі Люцыншчыны, якія змагаліся ў 1921—1922 і ў 1922—1923 навуч. гг. з запраўднай беларусізацыяй нашае школы, зажадалі ўлетку 1923 г. прыехаць на курсы беларусазнаўства ў Дзьвінск, каб праслухаць іх і набыць патрэбную кваліфікацыю. Такім чынам, адзіная юрыдычная падстава для выдаленьня ці пераводу такіх настаўнікаў — адсутнасьць у іх патрэбнае для беларускіх школ кваліфікацыі — адпадала. З другога боку, пасьля праслуханьня курсаў беларусазнаўства, дзе-хто з гэтых вучыцялёў мог зусім шчыра зьмяніць свае адносіны да беларускае адраджэнчае справы на лепшае і ў далейшым зусім лёяльна працаваць у беларускіх школах.

Усё гэта зрабіла курсы беларусазнаўства ў Дзьвінску ўлетку 1923 г. надзвычайна важнымі па сваіх выніках, яны павінны былі даць тон для ўсяго далейшага беларускага асьветна-школьнага жыцьця, яны павінны былі ўмацаваць і ўгрунтаваць сьвядомасьць тых настаўнікаў, што ўжо шчыра імкнуліся да Беларускае адраджэнчае працы, а таксама зьмяніць і палепшыць адношаньне да Беларускага руху ў тых, хто да гэтага часу ня меў аб ім правідловае веды, разам з тым на гэтых-жа курсах павінна было канчаткова высьветліцца хто з настаўнікаў Беларускіх школ зьяўляецца настолькі прынцыповым ворагам Беларускага руху, што далейшая праца яго ў беларускай школе павінна быць зараз-жа спынена. Кіраўніцтва гэтымі курсамі было даручана групе гр. І. Краскоўскага і гр. Ул. Пігулеўскага.

Трэба вызнаць, што пэдагагічная рада і паасобныя лектары курсаў шмат працавалі і запраўды дамагаліся, каб прыехаўшыя на курсы настаўнікі атрымалі грунтоўныя веды зь беларусазнаўства, аднак разам з тым, ня можна бяз жалю і суму не адзначыць, што агульная атмасфэра на курсах утварылася дужа хвараблівая. За выключэньнем гр. Паўліны Вікенцьеўны Мядзёлка-Грыб ніхто зь лектароў ня змог бліжэй падысьці да сваіх калег-слухачоў. Заместа грамадзка-сяброўскіх уплываў і гутарак дзе-хто зь лектароў проста ўжываў пагрозы. Слухачы-настаўнікі нават зь ліку шчырых прыхільнікаў беларускага руху былі знэрваваны і зазлаваны рознымі прыцэпкамі. Паміж слухачамі і лектарамі адбываліся непрыемныя і непатрэбныя спрэчкі. Таму, калі прыйшоў час здаваць іспыты, дык нават настаўнікі, меўшыя відавочныя посьпехі, былі настолькі ўсхваляваны і тэрарызаваны, што баяліся ісьці на іспыты.

Скліканая 10 жніўня 1923 г. у гэткай нэрвовай атмасфэры 2-я Канфэрэнцыя беларускіх вучыцялёў Латвіі прайшла дужа напружана і ня толькі не дала карысьці, а наадварот — яшчэ больш узварушыла ўсё настаўніцтва, бо ні гр. Ул. Пігулеўскі, ні І. Краскоўскі не знайшлі патрэбным выступіць на Канфэрэнцыі з належнымі грамадзкімі тлумачэньнямі[40], каб заспакоіць настаўніцтва і ў змаганьні з ворагамі беларушчыны абаперціся на ўжо сьвядомыя элемэнты. Спробы старшыні Канфэрэнцыі гр. К. Езавітава супакоіць настаўніцтва, якое дамагалася адмены іспытаў, мала ўдаваліся: пры галасаваньні пытаньня аб тым, ці пажадана зрабіць іспыты слухачам курсу беларусазнаўства — большасьць настаўнікаў галасавала супроць іспытаў; сярод галасаваўшых супроць іспытаў былі і сьвядомыя беларускія настаўнікі, якім іспыты нічым не пагражалі і якім нават непатрэбна было-б ужо іх трымаць.

Зразумела, Беларускі аддзел меў права загадаць, каб іспыты усё-ж-ткі адбыліся, а Пэдагагічная рада іспыты правяла-б незалежна ад панічнае пастановы Канфэрэнцыі, аднак кіраўнік Беларускага аддзелу С. П. Сахараў не адважыўся даць гэткага загаду.

Такім чынам, справа замены некаторых неадпаведных настаўнікаў была сарвана, на гэты раз ужо па віне саміх беларусаў: няўмелым кіраўніцтвам дужа важных курсаў была створана атмасфэра панікі, варожасьці і развалу, а Беларускі аддзел ня выявіў ні патрэбнага ўменьня, каб начасе ўмяшацца і выправіць справу, ні патрэбнае цьвёрдасьці, каб усё-ж-ткі зрабіць іспыты абавязковымі.

У выніку гэтае няўдалае кампаніі, заменена было ня 10—12 настаўнікаў, як намячалася, а толькі 3—4 настаўнікі, якія зусім адмовіліся зьявіцца на курсы і былі пераведзены ў расейскія школы.

Падрахоўваючы вынікі працы ў 1923 г., трэба сказаць, што, нягледзячы на паход супроць беларусаў, распачаты зь Міністэрства асьветы падвясну 1923 г., які дужа балюча ўдарыў па беларускай асьветнай працы, аднак разам з тым у гэтым годзе можна было назіраць і некаторае павялічэньне беларускае грамадзкае актыўнасьці. Беларускі аддзел дамагаецца ўзнаўленьня пасады беларускага інспэктара, а да часу аднаўленьня гэтае пасады перадае інструктаваньне беларускіх школ Люцыншчыны новаму дырэктару Люцынскае беларускае дзяржаўнае гімназіі гр. К. Езавітаву, а інструктаваньне школ Дзьвінскага павету ўскладаецца на пэдагагічны пэрсанал Дзьвінскае беларускае гімназіі.

[40] І. Краскоўскі ў дзень Канфэрэнцыі нават дэманстратыўна выехаў зь Дзьвінску на ст. Вышкі — „на дачу“.

Ідзе падрыхтоўка да пляновага правядзеньня пазашкольнае асьветы і арганізацыі сталых лекцый з чароўным ліхтаром па беларускіх вёсках; з гэтай мэтай падбіраюцца і апрацоўваюцца матэрыялы, заказваюцца дыяпазытывы, галоўным чынам з гісторыі і геаграфіі Беларусі. Абедзьве гімназіі паміма сваіх простых абавязкаў у справе выхаваньня сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі вядуць яшчэ значную працу культурна-асьветную, ладзячы для мястовае люднасьці публічныя вечарыны-спэктаклі і вучнёўскія рэфэраты. Люцынская гімназія выпускае на шапірографе вучнёўскую часопісь „Ластаўка“, якая рэгулярна выходзе штомесяц і абслугоўвае ня толькі вучняў Люцынскае гімназіі, але высылаецца па падпісцы немаль ва ўсе беларускія школы ў Латвіі. Тая-ж Люцынская гімназія выпускае першы ў Латвіі друкаваны тыпографскім спосабам зборнік лепшых твораў сваіх вучняў, таксама пад назовам „Ластаўка“. Каб падняць сьвядомасьць беларускае вёскі, Люцынская гімназія арганізуе спробы культурных паходаў сьвядомае моладзі на вёску, і ўвясну 1923 г. робіцца першы такі трохдзённы паход у Зілупе і Залесьсе. У гэтым вялікім паходзе ўдзельнічаюць: драматычная дружына гімназіі, хор, скаўты, гайды і настаўнікі гімназіі; драматычная дружына гімназіі ставіць п’есу Янкі Купалы „Паўлінка“ ў Зілупе ў пажарным дэпо, а потым на другі дзень — у Залескай беларускай школе; хор выступае ў залях і на вольным паветры; скаўты і гайды паказваюць гімнастычныя практыкаваньні і арганізуюць дзень гульні з вучнямі беларускіх школ. Гэткія паходы запальвалі беларускую вучнёўскую моладзь і заахвочвалі яе ў часе канікул самастойна арганізоўваць беларускія вечарыны і спэктаклі і тым пасільна дапамагаць беларускаму адраджэнчаму руху і асьветнай працы.

Значную грамадзкую актыўнасьць выявілі ў 1923—1924 навучальным годзе і некаторыя беларускія настаўнікі, асабліва ў Дзьвіншчыне. Тутака многа працавалі гр.гр.: Мікола Талерка, Язэп Камаржынскі, Даніла Казлоўскі ды іншыя; яны ставілі дзіцячыя спэктаклі і для дарослых, часамі арганізоўвалі чытаньне рэфэратаў сіламі настаўнікаў Дзьвінскае беларускае гімназіі. Вялікае ажыўленьне па вёсках Люцыншчыны было выклікана паходным кіно, зь якім раз’яжджаў пачынаючы беларускі паэта Пятро Сакол (Масальскі).

Аднэй з найцікавейшых праяў беларускае актыўнасьці ў справах асьветных у 1923 г. зьяўляецца спроба ўтварэньня ў вёсцы Доўгія Кушняры Эвэрэсмуйжскае воласьці Люцынскага павету першае прыватнае беларускае аснаўное школы. Арганізацыя гэтае школы была распачата ўвосені 1923 г. з ініцыятывы гр. К. Езавітава і гр. Ул. Ціхамірава, якія

пайшлі на спатканьне пажаданьням кушняроўскіх беларусаў. Папярэдняя рэгістрацыя, праведзеная гр. Ул. Ціхаміравым, дала для школы 60 вучняў. Каб ня траціць дарма часу, было зьнята памешканьне, пабудаваны мяйсцовымі сіламі прымітыўныя сталы-парты і гр. Ул. Ціхаміраў прыступіў да працы. Адначасна была паслана Беларускаму аддзелу просьба аб грашовай дапамозе і аб зацьверджаньні статута прыватнае школы, бо спадзявацца на хуткае прыймо гэтае школы ў сетку павятовых школ Люцыншчыны пры стварыўшайся сітуацыі ўшчамленьня беларусаў, не прыходзілася. На жаль, трэба адзначыць, што Беларускі аддзел ня выявіў належнага разуменьня справы і патрэбнай энэргіі, каб падтрымаць гэтую дужа важную спробу: на школу ня толькі ня было атрымана ніякае грашовае дапамогі, але ініцыятары не атрымалі ад Беларускага аддзелу нават і зацьверджанага статуту. Апошняе было прычынаю таго, што ў Доўгія Кушняры сьпешна выехаў інспэктар Люцынскага павету вядомы ўжо нам гр. Свэнэ і зачыніў школу, як працуючую без зацьверджанага статуту, а знача як „нелегальную“.

Як адну з праяў актывізацыі беларускае асьветнае працы ўлетку і ўвосені 1923 г. трэба разглядаць адкрыцьце з восені 1923—1924 навучальнага году першае беларускае аснаўное школы ў Рызе на Маскоўскім фарштаце. Захадамі Беларускага аддзелу праз Рыскую школьную ўправу і Думу быў праведзены буджэт на адкрыцьце беларускае школы ў Рызе, а самую арганізацыю гэтае школы зь нечаканым посьпехам правеў настаўнік Мікола Янавіч Дзямідаў. Беларускае жыхарства Маскоўскага фарштату дружна падтрымала новае пачынаньне і ў школу адразу запісалася каля 150 вучняў у розныя клясы.

Адкрыцьце 1-е беларускае школы ў Рызе стварыла патрэбнасьць і магчымасьць арганізацыі на Маскоўскім фарштаце якога-колечы меншасьцёва-беларускага культурна-асьветнага таварыства, якое абслугоўвала б і аб’еднывала-б беларускую меншасьць у Рызе. Аднавіць працу Рыскага Т-ва „Бацькаўшчына“, працаваўшага ў 1919 і 1920 гг. на Крэпасной вуліцы №3/5 у Рызе, было немагчыма, бо гэта Т-ва, па свайму статуту, было створана для беларусаў-інастранцаў, меўшых грамадзянства і пашпарты Беларускае Народнае Рэспублікі. Закласьці ў Рызе аддзел Дзьвінскага Т-ва „Бацькаўшчына“ таксама было няможна, бо статут гэтага Т-ва прадугледжваў працу толькі на тэрыторыі Латгаліі. Таму ў Рызе са сьнежня месяца 1923 г. пачалася падрыхтоўка да стварэньня зусім новага беларускага культурна-асьветнага т-ва.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што 1923 год вызначыўся яшчэ і тым, што беларусы зрабілі спробу больш-менш пазнаёміць са сваей адра-

джэнчай працай і гісторыяй латыскае грамадзтва праз латыскі друк. У штомесячніку Міністэрства асьветы „*Izglītibas Ministrijas Mēnešraksts*“ зьяўляюцца час-ад-часу інфармацыйныя зацемкі аб жыцьці беларускага настаўніцтва і школы ў Латвіі, агляд беларускіх падручнікаў ды інш, а таксама выходзе першая брашура на латыскай мове аб беларусах і вялікаросах у Латвіі, напісаная аўтарам гэтае кнігі (*Ź. Jezovitovs. Par baltkrieviem un lielkrieviem Latvijā*[41]).

### Беларускі судовы працэс у Латвіі

Траўля беларускае нацыянальнае меншасьці, як ужо вышэй адзначалася, распачата была пэўнымі коламі яшчэ ў 1921 г., з самых першых дзён працы „Бацькаўшчыны“ ў Дзьвінску. Паступова з году ў год разьвіваючыся і атрымаўшы ў 1923 г. падтрымку з боку некаторых груп латыскіх шавіністых, траўля гэтая прыняла вясной 1924 г. да звальненьня з пасады дырэктара Люцынскае беларускае гімназіі К. Езавітава[42], і

[41] К. Езавітаў. Пра беларусаў і вялікаросаў у Латвіі. Рыга 1923. Брашура мае ўсяго 16 балонак невялікага фармату, але яна была заўважана латвійскім грамадзтвам і выклікала зацікаўленьне нашых прыхільнікаў ды, зусім зразумела, войстрыя нападкі нашых варагаў. Зьмест брашуры гэткі: Кароткі ўступ. Крыніцы для дасьледваньня беларусаў. Ці існуюць беларусы і ці ёсьць беларуская мова? Прычыны ўціску беларусаў і беларускае мовы ў старой Расеі. Ці ёсьць беларусы ў Латвіі? Чаму велікаросы і палякі змагаюцца супроць беларусаў? Вывады.

[42] Гісторыя звальненьня К. Езавітава з пасады дырэктара Люцынскае гімназіі надта цікавая. Улетку 1923 г. адбылося ператварэньне гэтае гімназіі з прыватнае на дзяржаўную гімназію. У прыватнай гімназіі, з дазволу міністра асьветы, працавала два вучыцеля-беларуса з польскіх падданых гр. Г. Плыгаўка і С. Казэка. Калі гімназія ператварылася ў дзяржаўную, дык дазвол на далейшую працу залежаў ужо не ад міністра асьветы, а ад Кабінэту міністраў. Абодва настаўнікі падалі належныя просьбы, а да часу адказу з Кабінэту міністраў дырэктар гімназіі, паведаміўшы Беларускі аддзел, дапусьціў гэтых вучыцялёў да далейшага выкладаньня ўжо ў дзяржаўнай гімназіі. Празь месяцы два прыйшла папера, што вучыцялём гэтым (абодва яны ўжо былі падаўшы просьбы аб прыйме ў латвійскае грамадзянства) працаваць у дзяржаўнай гімназіі недазволена. У сярэдзіне году знайсьці новых вучыцялёў было немагчыма. Таму, спасылаючыся на хуткае атрыманьне латвійскага падданства (зараз гэтыя вучыцялі ўжо Латвійскія падданыя), вучыцялі і гімназія паўторна зьвярнуліся з просьбаю аб дазволе ім далей працаваць у гімназіі. Гэта просьба таксама ўважана не была, а ⇨

да стварэньня вядомага Беларускага судовага працэсу ў Латвіі. Абставіны гэтага працэсу былі гэткія.

У сакавіку месяцы 1924 г. інспэктар аснаўных школ Дзьвінскага павету Лука Якаўлевіч Азолінь, чалавек даволі блізкі да польскае грамадзкасьці і польскага консула ў Дзьвінску, аб'яжджаючы беларускія павятовыя школы, знайшоў у Дудэльскай беларускай аснаўной школе на сьцяне клясовага пакою этнаграфічную карту беларускага народу, на якой было адзначана, дзе жывуць беларусы. Карта была віленскага выданьня 1919 г. і ўжывалася ва ўсіх беларускіх школах у Латвіі. Праўда, на тых картах, што рассылаліся па школах праз канцылярыю Беларускага аддзелу, была чырвоным атрамантам паказана дзяржаўная мяжа Латвіі, на карце-ж Дудэльскае школы гэткае мяжы не было, бо карта закуплена была вучыцялем Сцяпанам Махноўскім з тэй партыі карт, якая яшчэ не была дапоўнена нанясеньнем межаў. І гэтую карту інспэктар забраў са школы і пераслаў у Агульны дэпартамант пры асобнай паперы, у якой зазначаў, што лічыць такую карту недапушчальнай у школах Латвіі. Агульны дэпартамант накіраваў карту да міністра асьветы, а той запатрабаваў тлумачэньняў ад Беларускага аддзелу.

Уся справа насіла чыста канцалярскі характар, павінна была высьветліцца шляхам перапіскі і разгляду карты ў Міністэрстве асьветы і магла б скончыцца, у нармальных варунках, найбольш — вымоваю інспэктару беларускіх школ за недагляд, бо такая недапоўненая карта была толькі ў аднэй школе, дый па істоце справы нічога злачыннага ў гэтай навуковай карце не было. Аднак нехта з ворагаў беларускае меншасьці даў у прэсу сэнсацыйнае паведамленьне аб тым, што ў беларускіх школах ужываюцца мапы, згодна якіх да Беларусі далучаюцца латвійскія паветы: Дзьвінскі, Рэжыцкі, Люцынскі ды Ілукштанскі.

Нэрвуюча-правакацыйная вестка гэтая абляцела ўсе латыскія і расейскія газэты ў Латвіі з markednymi камэнтарыямі і дадаткамі. Палітычная паліцыя кінулася ў павятовыя беларускія школы Дзьвінскага павету і ў Дзьвінскую беларускую дзяржаўную гімназію, шукаючы ўсюль „злачынную“ карту, а потым і падручніка „Геаграфія Беларусі“ Аркадзя

⇨ дырэктар гімназіі за дапушчанае ім перавышэньне сваей улады, быў звольнены з пасады. Цікава тутака адзначыць, што калі дэпутацыя ад Школьнае рады зьявілася да міністра асьветы Штраўбэрга прасіць аб астаўленьні дырэктара К. Езавітава на пасадзе, дык міністр ужо тады зазначыў, што *„для гімназіі лепш будзе, калі К. Езавітаў ня будзе дырэктарам, бо насьпяваюць нейкія здарэньні“*. Гэта дае повад думаць, што ўжо ў студзені-лютым міністр ведаў, што нешта супроць беларусаў падрыхтоўваецца.

Смоліча. У кожнай школе была этнаграфічная карта беларусаў, але з дадаткам дзяржаўнае мяжы Латвіі. Больш разумнейшыя агенты гэткае карты не адбіралі, але былі і такія „старанныя“, што забіралі нават і дапоўненыя мапы, хаця-ж потым некаторыя з іх прыйшлося павярнуць назад у школы. Падручніка геаграфіі А. Смоліча ў вучняў не было.

Здавалася, што ўлады ўжо супакоіліся, спалох прайшоў і справа закончылася. Але ў гэты момант пачалі дзейнічаць „прыяцелі“ беларусаў з Люцыншчыны. Вучыцель расейскае школы ў Люцыну вядомы вораг беларусаў А. Селунскі, пабачыўшы неяк у аднаго з вучняў Люцынскае беларускае гімназіі паштовую пісульку з картай Беларускай Народнай Рэспублікі, надрукаваную менскім Т-вам „Бацькаўшчына“ зараз-жа пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. у Менску, адабраў гэтую паштоўку ад вучня і паказаў, а затым і перадаў яе вучыцелю-латышу П. Мурнэку, які хаця-ж і выкладаў латыскую мову ў беларускай гімназіі, але шукаў усялякіх прыцэпак да кіраўнікоў беларускага руху. Гэты вучыцель, здаецца, празь вядомага ворага нацыянальных меншасьцяў Латвіі віцэ-дырэктара Агульнага школьнага дэпартаманту П. Заліта пераслаў паштоўку ў Міністэрства асьветы, а стуль яна трапіла ўжо да пракурора. На паштоўцы гэтай, надрукаванай яшчэ да абвешчаньня незалежнасьці Латвіі, якое адбылося толькі 18 лістапада 1918 г., і да ўстанаўленьня латыскае мяжы на ўсходзе, г. Дзьвінск быў паказаны ў межах Беларусі.

Зноў пачалася газэтная кампанія. Рыскі пракурор запатрабаваў рэвізыі нават у справах Беларускага аддзелу. Міністр асьветы прызначыў рэвізыю і даручыў яе таварышу міністра асьветы Яўдзему і ўспамінанаму ўжо віцэ-дырэктару Агульнага школьнага дэпартамэнта П. Заліту.

Латвійскае грамадзтва і соймавыя групы, малазнаёмыя зь беларускім рухам і з беларускаю меньшасьцю, напалохаліся і забілі трывогу. Ворагі беларусаў гэтую трывогу старанна раздувалі, а гэта аказалася зрабіць тым лягчэй, што якраз адначасна з усімі гэтымі здарэньнямі на ўсходняй мяжы Латвіі ў Савецкай Беларускай Рэспубліцы адбываліся дужа важныя падзеі, якія надзвычайна ўмацавалі беларускі рух: Беларуская Савецкая Рэспубліка атрымала ад Р.С.Ф.С.Р. цэлы шэраг сваіх паветаў і зрабілася дзяржавай у тры разы большай за Латвію[43].

---

[43] Беларуская Савецкая Рэспубліка ў працягу пяцёх год пасьля свайго абвешчаньня з 1.1.1919 і да сакавіка месяца 1924 г., больш была падобна да фікцыі дзяржавы, чым на запраўдную рэспубліку, бо пад беларускім савецкім ⇨

Насколькі нэрвова адчувалі сябе некаторыя дэпутаты відаць з таго, што ў буджэтнай камісіі Сойму дэпутат сялянскае партыі Гольдман запрапанаваў нават выкрэсьліць буджэт Беларускага аддзелу з буджэту Міністэрства асьветы. Прапанова гэтая аднак не прайшла, бо міністр асьветы паведаміў, што ён загадаў зрабіць рэвізыю спраў Аддзелу, а большасьць камісіі стала на тым, што знаход успомненай мапы ў Дудэльскай беларускай школе яшчэ ня ёсьць грунт на збаўленьне ўсяе меншасьці належачага ёй па праву буджэтнага асыгнаваньня.

У зьвязку з соймавымі гутаркамі аб беларускім буджэце, а таксама з рэвізыяй у Беларускім аддзеле і вобыскамі ў беларускіх школах Дзьвінскага павету, газетная шуміха наўкол беларусаў не сьціхала, а наадварот павялічвалася ўсе больш і больш. Некаторыя з зарваўшыхся газэтных пісакаў, асабліва ў расейскай газэце „Рижскій Курьеръ“, не спыняліся перад самай ашуканскай брахней. Беларускія дзеячы пачалі бараніцца, накіроўваючы ў прэсу свае артыкулы, аднак большая частка іх так і не была надрукавана.

Пад уплывамі беларускіх пратэстаў у некаторых кіруючых латыскіх газэтах пасьля ўсякіх сэнсацыйных чутак зьявіліся, нарэшце, і вялікія артыкулы, прысьвячоныя разгляду беларускага пытаньня. У гэтых артыкулах аўтары, з аднаго боку, нібыта вызнаюць безумоўнае права беларускае меншасьці на нацыянальна-культурную аўтаномію і падкрэсьліваюць, што не жадаюць, каб беларусы адчувалі сябе ў Латвіі пакрыўджанымі, як гэта было ў старай царскай Расеі, або як ёсьць у сучаснай Польшчы, але, з другога боку, усе аўтары выказывалі палахлівую думку аб магчымасьці „чырвоных“ уплываў на беларускую меншасьць з-за ўсходняе мяжы з умацаваўшайся Савецкай Беларусі, а таму радзяць уладам у Латгаліі пільна сачыць за настроямі беларускае меншасьці і прымаць у выпадку патрэбы рашучыя крокі. Нямаль кожная такая стацьця абавязкова заканчвалася сумаваньнем аб тым, што на

⇨ урадам была пакінута толькі адна Меншчына, у складзе 5-ці паветаў і з 1 500 000 жыхароў. Пад націскам беларускае грамадзкасьці і ўзраставшае самасьвядомасьці беларускага народу, савецкая ўлада ў 1924 г. перадала Савецкай Беларусі яшчэ частку беларускіх этнаграфічных зямель на ўсходзе, якія да гэтага часу ўключаны былі ў склад РСФСР (Вітабшчына, Полаччына, Магілеўшчына і частка Смаленшчыны). Такім чынам Савецкая Беларусь зрабілася ўжо дзяржавай з 4 200 000 жыхарства і стала важным палітычным фактарам і запраўдным асяродкам беларускага нацыянальна-сацыяльнага адраджэньня. У 1926 г. да Савецкае Беларусі далучана Гомельшчына, і такім чынам зараз БССР налічвае 5 000 000 жыхараў.

ўсходзе Латгаліі ёсьць яшчэ воласьці дзе толькі па аднэй латыскай школе, а ўсе іншыя школы — беларускія. Аўтары знаходзілі гэта ненармальным і дамагаліся, каб лічба латыскіх школ у гэтых беларускіх валасьцёх была павялічана.

Ня дзіва, што падбодраная гэткімі аўтарытэтнымі разважаньнямі палітычная паліцыя, дажываўшая свае апошнія дні як незалежная ўстанова, рабіла вобыск за вобыскам, ператросшы Дзьвіншчыну, узялася за Люцыншчыну. Нічога яўна злачыннага падчас вобыскаў у беларускіх дзеячоў знойдзена не было, аднак перакруціўшы значаньне і сэнс некаторых лістоў ды адозваў, Дзьвінскі аддзел палітычнае паліцыі, кіраваны ў той час нейкім Гэрбэртам Эйнбэргам[44], прыступіў да арыштаў выдатнейшых беларускіх дзеячоў, высунуўшы супроць іх абвінавачваньне ў дзяржаўнай здрадзе і падрыхтоўцы аружнага адабраньня Латгаліі ад Латвіі з мэтай далучэньня яе да Беларускае Рэспублікі. Арыштаваны былі: Канстантын Барысавіч Езавітаў, Ян Ігнатавіч Краскоўскі, Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка-Грыб, Уладзімер Васільевіч Пігулеўскі, Уладзімер Аляксандравіч Корці, Андрэй Паўлавіч Якубецкі, Мікола Талерка ды іншыя беларускія настаўнікі.

Беларускае грамадзтва ў Латвіі было, як громам аглушана гэтымі арыштамі. Ніхто не спадзяваўся, што палітычная паліцыя дойдзе да гэткіх надзвычайных рэпрэсыўных крокаў. Абязглаўленае Т-ва „Бацькаўшчына“, усё Цэнтральнае праўленьне якога было арыштавана, — маўчала. Новазакладзенае ў Рызе культурна-прасьветнае Т-ва „Рунь“, зарэгістраванае толькі 19 сакавіка 1924 г., якраз адначасна зь першымі ўплескамі газэтнае падрыхтоўкі да стварэньня беларускага працэсу, таксама не падавала голасу пратэсту, хаця ж супроць сябраў яго ў Рызе арыштаў ужыта не было і ўсе яны былі на волe[45].

Празь некалькі дзён сам сьледчы па важных справах гр. Саўкумс пабачыў, відаць, што занадта перахваціў у *„мерах прэсячэньня“* і запрапанаваў звольніць арыштаваных пад залог. Для ўсіх арыштаваных былі вызначаны невялікія залогі ад 160 латаў да 300 латаў і толькі для К. Езавітава быў вызначаны залог спачатку ў 500 латаў, а потым нават у 5000 латаў. Па ўнясеньні залогаў усе арыштаваныя былі адпушчаны

[44] Гэты Эйнбэрг даўно ўжо скампрамэнтаваны быў у Дзьвінску шырокім жыцьцём не па сродках і, відаць, шукаў спосабу выслужыцца, стварыўшы „вялікую справу“. Праз год-два ён усё-ж-ткі быў пазбаўлены пасады і прыгавораны Латгальскім Акруговым судом на 4 месяцы ў турму за хабары.

[45] Культурна-прасьветнае Т-ва „Рунь“ закладзена было ў Рызе з ініцыятывы гр.гр. Я. Шчорса, Н. Пінскай, П. Шпакоўскага, С. Сахарава і А. Родзько.

і толькі К. Езавітаў, які ня меў магчымасьці ўнясьці гэткі вялікі залог, да самага суда аж 11 месяцаў прасядзеў у турме (спачатку ў Дзьвінскай, затым быў пераведзены ў Рыскую цэнтральную турму і, нарэшце, зноў зьвернуты ў Дзьвінскі турэмны замак).

Пратэсты беларускіх арганізацый з Прагі, Коўны і Бэрліну, дамагаўшыхся спыненьня відавочна-беспадстаўнага сьледства, посьпеху ня мелі. Затое на сьледчага і пракуратуру рабілі вялікае ўражаньне ўсялякія фальшывыя чуткі і дакумэнты, якія фабрыкаваліся за мяжой і прадаваліся латвійскім пасольствам. Адзін з такіх дакумэнтаў гаворыць аб тым, што ў Латгаліі ідзе падрыхтоўка дапамогі К. Езавітаву, каб ён змог уцячы з турмы. Таму К. Езавітава трымалі ў самай строгай ізаляцыі: у асобнай камеры з маленечкім вакенцам і падвойнымі кратамі, дзе звычайна трымаюць „сьмертнікаў“ (засуджаных на кару сьмерцьцю) і забойцаў.

Чыноўнік палітычнае паліцыі Фрыц Петрыньш, які разам з Г. Эйнбэргам распачаў справу, сьледчы па важных справах Саўкумс, які вёў сьледства па справе, і пракурор Латгальскага Акруговага суда Карл Скадул, з сваім памочнікам Аўгустам Лукіным, якія складалі акт абвінавачваньня, разьвярнулі справу дужа шырока і мелі на мэце пасадзіць на лаву падсудных аж 25 беларускіх настаўнікаў на чале з кіраўніком Беларускага аддзелу. Аднак Акруговы суд вызнаў магчымым падтрымаць абвінавачваньне толькі супроць 16 чалавек, а Судовая палата скараціла лічбу падсудных яшчэ напалову. Такім чынам, на лаву падсудных урэшце рэшт селі 8 чалавек: К. Езавітаў, Ул. Пігулеўскі, І. Краскоўскі, А. Якубэцкі, П. Мядзёлка-Грыб, П. Жордзі і М. Іваноў.

Праз год пасьля першых арыштаў 2, 3 і 4 красавіка 1925 г. у працягу трох дзён адбываўся ў Дзьвінску разгляд справы. Акт абвінавачаньня быў пабудаваны на розных плётках, абгаворах ды чутках, распушчаных у Дзьвінску расейскімі чарнасоценцамі ды польскімі панамі[46], а таксама і на „глыбокадумных“ здагадках палітычнае паліцыі ды сьледчага Саўкумса, які, вядучы сьледства, клапаціўся не аб тым, каб запраўды высьветліць справу, а паставіў сабе наперад зусім іншую задачу (а мо атрымаў яе ад пэўных колаў?) — зрабіць усё магчымае, каб давясьці, што беларусы мелі злачынную арганізацыю, якая ставіла сабе мэтай далучыць Латгалію да Беларускае Рэспублікі. (Да якой рэспублікі: ці да Савецкае Беларусі, ці да Беларускае Народнае Рэспублікі, якая ўжо ня

46 Апошнія ўжылі хітры спосаб нашоптаў і ў сьведкі абвінавачваньня афіцыйна ня трапілі. Затое сярод сьведкаў абвінавачваньня шмат было расейцаў.

існуе, — гэта пытаньне ў акце абвінавачваньня так і асталося нявысьвятленым.) На судзе сьведкі абвінавачваньня з расейцаў, даючы паказаньні публічна і пад прысягаю, не адважыліся паўторываць тых нагавораў, якія з радасьцю давалі ў габінэце сьледчага, думаючы, што аб іх нагаворах падсудныя не даведаюцца і запярэчыць ім ня змогуць. Адзін з галоўных сьведкаў абвінавачваньня расеец А. Храбтоў, які многа паказваў у сьледчага аб плянах К. Езавітава на адабраньне Латгаліі ад Латвіі, як высьветлілася на судзе, з К. Езавітавым ня быў нават знаёмы, ніколі з ім не размаўляў і аб плянах яго нічога ня ведае. На пытаньне Старшыні суда аб прычынах такога разыходжаньня паказаньняў сьведкі ў сьледчага і на судзе, А. Храбтоў адказаў, што цяперака ён дае паказаньні пад прысягаю і таму ўзважвае кожнае слова, каб не нясьці адказнасьці за неправідловыя паказаньні[47]. Патугі сьледчага на глыбокадумныя здагадкі і спробы ягоныя вывясьці доказы віны падсудных з знойдзенае ў іх перапісцы — таксама аказаліся зусім неабгрунтаванымі і штучна пабудаванымі. Пасьля трохдзённага разгляду справы з заслуханьнем 120 сьведак (74 сьведкі абвінавачваньня і 46 сьведак абароны), Латгальскі Акруговы суд змушаны быў вызнаць, што абвінавачваньне беларусаў у здрадзе і жаданьні адарваць Латгалію зьяўляецца беспадстаўным, а таму ўсіх падсудных апраўдаў. Акт абвінавачаньня, паказаньні сьведкаў, ход працэсу і поўны тэкст апраўдальнае пастановы суда надрукаваны ў асобнай кнізе „Беларускі працэс у Латвіі“, дзеля гэтага на далейшых падрабязнасьцях самога працэсу мы спыняцца не будзем.

## Разгром беларускае школы ў Латвіі

Беларускі працэс зь яго вобыскамі, сьледчымі допытамі і арыштамі найбольш энэргічных і адказных беларускіх культурнікаў, дэзарганізаваў школьнае жыцьцё беларускае меншасьці, бо нават і вучні выклікаліся да сьледчага і чыноўнікаў палітычнае паліцыі на доўгія дапросы. Настрой прыгнечанасьці і вялікае крыўды ў беларусаў асабліва павялічыўся, калі падчас сьледства пастановаю Габінэта міністраў была прыпынена праца Беларускага аддзелу і кіраўнік аддзелу С. Сахараў быў звольнены з пасады. Гэты крок Ураду беларусы ўспрынялі як лёг-

[47] Глядзі кнігу „Беларускі працэс у Латвіі“ (Бібліятэка беларуса-выбаршчыка. №11. Рыга, 1926. Выданьне „Т-ва белярусаў-выбаршчыкаў у Дзяржаўны Сойм, павятовыя, гарадзкія і валасныя самаўрады ў Латвіі“). Кошт 1 лат. Кніга мае 80 балонак тэксту.

ічнае завяршэньне пляновага паходу супроць беларускае школы і ўсяе беларускае меншасьці, тым больш што, сьледам за звальненьнем кі-[48].

[48] Усе даступныя асобнікі выданьня заканчваюцца на гэтым слове. Магчыма, у кнізе мелася быць яшчэ 16 старонак (адзін друкарскі сшытак), аднак зь фінансавых ці іншых прычынаў ён ня быў надрукаваны. — ***Рэд.***

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ

## I. Лічба беларусаў у сучаснай Літве

Згодна першага Усерасейскага перапісу 1897 г., у межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі пражывала 70 300 беларусаў. Аднак, першы Літоўскі дзяржаўны перапіс жыхарства, зроблены ў 1923 г., паказаў для беларусаў вельмі малую лічбу — усяго 4 400 чалавек. Такім чынам лічба беларускага жыхарства ў Літве за час вайны і рэвалюцыі зьменшылася, нібыта, аж у 20 разоў. Калі прыглядзіцца да ніжэй друкуемай табліцы этнаграфічнага складу Літвы, дык мы ўбачымо, што агульнае зьменшаньне жыхарства і паасобных нацыянальнасьцяў зусім не такое катастрафічнае, як гэта выявілася для беларусаў, а гэта азначае, што ў справе падлічэньня лічбы беларусаў падчас перапісу 1923 г. адбыліся нейкія недарэчнасьці. Лічба беларусаў у сучаснай Літве павінна быць у добры дзясятак разоў большаю. Калі параўнаць вынікі перапісу 1897 г. з вынікамі перапісу 1923 г., дык атрымаемо гэткую табліцу 1:

| Нацыянальнасьць | Згодна перапісу 1897 г. | | Згодна перапісу 1923 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Лічба жыхарства | % % | Лічба жыхарства | % % |
| Літоўцы | 1 385 600 | 66,7 | 1 701 900 | 83,9 |
| Жыды | 261 200 | 12,2 | 153 700 | 7,6 |
| Палякі | 176 800 | 8,8 | 65 600 | 3,2 |
| Расейцы | 91 900 | 4,5 | 50 500 | 2,5 |
| **Беларусы** | **70 300** | **3,4** | **4 400** | **0,2** |
| Немцы | 47 000 | 2,3 | 29 200 | 1,4 |
| Латышы | 35 200 | 1,7 | 14 900 | 0,7 |
| Іншыя | 2 200 | 0,1 | 1 600 | 0,1 |
| Чужаземцы | 6 600 | 0,3 | 7 200 | 0,4 |
| Разам | 2 076 800 | 100,0 | 2 029 000 | 100,0 |

Разгледзіўшы ўважліва гэтую табліцу (узята намі з „Географіі Літвы“ — А. І. Тымінскага, Kaunas, 1931 г., старонка 11-я), мы павінны

прыйсьці да перакананьня, што значная частка беларусаў па вераспаведальнаму прынцыпу была аднесена да расейцаў (праваслаўныя) і да палякаў (частка каталікоў-беларусаў). Такое аднясеньне зусім магчыма, бо ступень нацыянальнае сьвядомасьці сярод вясковага беларускага жыхарства была дужа малая, а па гарадох і мястэчках Літоўскай Рэспублікі ў той час не існавала ніякіх беларускіх меншасьцёвых арганізацый. Расейцы-ж і палякі, якія зь першых дзён існаваньня Літоўскае дзяржавы заклалі свае меншасьцёвыя арганізацыі і школы, здолелі захапіць уплыў на беларускую масу і трымаюць большасьць яе пад сваімі ўплывамі аж да гэтага часу.

Што лічба беларусаў у Літоўскай Рэспубліцы павінна быць большай, мы адразу пераконваемся, калі заглянем у данныя перапісу 1923 г. па веравызнаньням. Каталікоў у Літве — 80,5%, лютэранаў — 8,8%, рэфарматараў — 0,7%, праваслаўных — 1,1%, старавераў — 1,4%, іншых хрысьціянаў — 0,1%, юдэяў — 7,3%, розных нехрысьціянскіх веравызнаньняў — 0,1%. Запраўднымі этнаграфічнымі расейцамі-маскалямі ў Літве мы можамо лічыць толькі стараавераў, якія сапраўды перасяліліся ў Літву з Маскоўшчыны, але іх усяго — 1,4%, ці ў пераводзе на лічбы — 28 400 чалавек. Знача з агульнае лічбы расейцаў у 50 500 чалавек, адзначаных перапісам 1923 г., значная частка зьяўляецца праваслаўнымі, а іменна: 1,1% ці 22 100 чалавек. З гэтае лічбы праваслаўных толькі мо' якіх 1000 ці 2000 чалавек зьяўляюцца выхадцамі з Маскоўшчыны, а рэшта — усе: гарадзенцы, віленчукі, менчукі, віцебчукі, магілёўцы, гомельцы, палачане ды тутэйшыя нова-аляксандраўцы і траччане, а знача — безумоўныя этнографічныя беларусы. З гэтага відаць, што ў графу „расейцаў" аднесена ня менш 20 000 — 18 000 беларусаў-праваслаўных. Трэба думаць, што гэткая-ж, калі ня большая, лічба беларусаў-каталікоў трапіла па перапісу ў „палякі". Гэта азначае, што зара' ў Літве знаходзіцца ня менш 45 000 — 40 000 беларусаў. Аднак, уся гэтая маса зусім неарганізавана на нацыянальна-беларускім грунце і нямаль цалком знаходзіцца пад расейска-польскім кіраўніцтвам.

Такім чынам — у межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі адбываецца і далей векавечны працэс апалячываньня і абмаскаліваньня крывіцка-беларускага жыхарства, і сама Рэспубліка, быццам, дапамагае гэтаму шкоднаму працэсу, бо яна субсыдзіруе польскія і расейскія школы, у якіх гэты працэс адбываецца, а беларусам не дае асьветы ў іх роднай мове. Адсутнасьць у Літве беларускае школы і культарна-асьветнае працы сярод беларускага жыхарства прыводзе ў выніку да таго, што ў сучаснай Літоўскай Рэспубліцы за кошт беларускае людласьці павялі-

чваецца лічба польскае і расейскае меншасьці, а гэта адчыняе дарогу да палітычных уплываў, гістарычна варожых ня толькі ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня, але і самому існаваньню незалежнае Літоўскае дзяржавы.

## II. Палітычна-праўны стан беларусаў у Літве

Хто вінны ў стварыўшымся зара' стане рэчаў?

Хто вінны ў тым, што пры наяўнасьці 40 000 беларускага жыхарства ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі, гэтыя беларусы да гэтага часу не былі арганізаваны, як нацыянальная меншасьць і не карысталі сваіх бязумоўных правоў на школу і асьвету ў роднай мове?

— Бязумоўна, больш за ўсіх вінны самі беларусы і тыя беларускія ўстановы, якія стала працавалі, або толькі гасьцявалі ў Коўне, але значная доля віны ляжыць і на тэй частцы палітычных кіраўнікоў Літвы, якія праглядзелі існаваньне беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі і аддалі гэтую меншасьць на расправу ў расейскія і польскія рукі.

Літоўская вялікая палітыка ў свой час больш цікавілася беларусамі ў Заходняй Беларусі, у Віленшчыне і Гарадзеншчыне, ды ўстанаўленьнем кантакту зь Беларускім эміграцыйным урадам Б.Н.Р., чым лёсам беларускае меншасьці, якая апынулася ў сучасных межах Рэспублікі. Тое-ж самае трэба сказаць і аб беларускіх арганізацыях, якія да 1927 г. працавалі ў Коўне: яны таксама не заўважылі, што ў Нова-Аляксандраўшчыне, у Троччыне і іншых прымежных раёнах жыве значная беларуская маса, якой трэба даць і школу, і кнігу, і тэатр у беларускай мове.

Беларуская меншасьць у Літве не заўважалася кіруючымі літоўскімі і беларускімі палітыкамі таму, што абедзьве стараны недаацэнівалі таго, якое вялікае значаньне для абодвух народаў можа мець самы факт існаваньня беларускае меншасьці ў Літве, а таксама і магчымасьць празь яе ўстанавіць запраўды моцныя, шчырыя і прыязныя літоўска-беларускія адносіны. Між тым існаваньне і паважная культурна-асьветная праца беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літвы ў значнай меры прадвызначае лёс Літвы будучае і далейшае разьвіцьцё ідэі беларуска-літоўскага супрацоўніцтва. Справа ў тым, што беларускае грамадзтва і шырокія колы працоўнага беларускага народу ўжо дайшлі да тае ступені палітычнае і нацыянальнае сьвядомасьці калі ня вераць голым словам і абяцанкам, хаця-б яны былі самымі прыгожымі і на ўсе 100 процантаў шчырымі — беларускае грамадзтва у ацэнцы тых ці іншых

падзей ўжо можа лічыцца толькі з фактамі, якія яно можа назіраць у штодзенным жыцьці.

Паважная і сур'ёзная пастаноўка беларускае меншасьцёвае справы ў Літве зараз-жа адазваліся бы і далёка па-за межамі яе, выклікаючы зьявы і чыннікі, якія зараз немагчыма нават у поўнай меры прадугледзіць, але якія бязумоўна ўмацоўвалі бы як стан Літоўскае Рэспублікі і прыязнь да яе ў Заходняй Беларусі, так і далейшае разьвіцьцё беларускага адраджэнчага руху ў розных краёх.

## III. Асьвета беларусаў у Літве у сучасны момант

У працягу некалькіх год, пачынаючы з 1925 г., мы ня раз зьвярталі ўвагу — і праз газэту „Голас Беларуса" і ў іншых выданьнях — на канечную патрэбу самаарганізацыі беларускае меншасьці ў Літве, у першую чаргу на грунце культурна-асьветным, каб спыніць далейшую русіфікацыю і палянізацыю беларускага жыхарства праз школы гэтых варожых нашаму адраджэньню меншасьцяў. Аднак час ішоў, патрэбнай ініцыятыўнай групы сярод беларускае меншасьці ў Літве не складалася і працэс уцягваньня беларускае школьнае моладзі ў расейскія і польскія школы ўсё больш павялічваўся. У 1929 г., праз 10 год існаваньня незалежнае Літоўскае Рэспублікі, школьная справа ў Літве стаяла гэтак, як паказана ў табліцы 2.

Як бачым, на ўсю Літоўскую Рэспубліку у 1929 г. існуе ўсяго адна беларуская пачатковая школа. Няма ні вучыцельскае сэмінарыі, ні гімназіі, ні якіх-колечы курсаў. Да і тая адзіная беларуская школа падлягае апякаваньню Бюро расейскіх пачатковых школ, якое аб'ядновае працу расейскіх настаўнікаў Літвы і рупіцца аб умацаваньні расейскае школы і асьветы ў межах Літоўскае Рэспублікі. І гэта ў той час, як Літва рыхтуецца да атрыманьня ўлады над усею Віленшчынаю і добрым кавалкам Гарадзеншчыны! Хто-ж будзе выкладаць у беларускіх школах Заходняе Беларусі? І хто будзе імі кіраваць? Ці ня тое-ж самае Бюро расейскіх школ? А мо' Бюро польскіх школ? Ці думае хто колечы аб кадрах настаўніцтва для беларускіх школ у будучыні?

Характэрна тое, што расейцы добра ведаюць, што яны ў Літве захапілі чужое (як ведаюць гэта і палякі), а таму і ў сваіх бюро, і ў сваіх выданьнях, і ў статыстыхных аглядах, яны старанна зьмешваюць весткі аб беларускіх і расейскіх школах у адну кучу, каб ня кідалася ў вочы жудаснае становішча беларускае школы. Гэтак у той-жа „Географіі Літвы" А. Тымінскага на старонцы 26-й знаходзімо цікавую табліцу,

Табліца 2

| Тыпы школ | Літоўскія | Жыдоўскія | Польскія | Нямецкія | Латыскія | Расейскія | Беларускія | Мяшаныя | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **I. Пачатковыя школы** | **1 997** | **135** | **91** | **22** | **10** | **91** | **1** | **29** | **2 306** |
| клясовых камплект.у іх | 2 738 | 246 | 126 | 36 | 13 | 26 | 1 | 38 | 3 224 |
| Утрымоўваюцца: за кошт Міністэрства асьветы | 206 | 6 | - | - | - | - | 1 | 7 | 220 |
| самаўрадамі | 2 513 | 213 | 40 | 27 | 13 | 20 | - | 31 | 2 857 |
| прыватн. арганізац. з дапамогай Ураду | 17 | 14 | 2 | - | - | 5 | - | - | 38 |
| без падтрымкі за прыватныя сродкі | 2 | 13 | 84 | 9 | - | 1 | - | - | 109 |
| **II. Вучыцельскія сэмінарыі** | **9** | **1** | **-** | **-** | **-** | **-** | **-** | **-** | **10** |
| з іх дзяржаўных | 5 | - | - | - | - | - | - | - | 5 |
| прыватных з дапамогаю Ураду | 4 | 1 | - | - | - | - | - | - | 5 |
| **III. Сярэднія школы, прагімназіі і курсы**.... | **64** | **17** | **1** | **2** | **1** | **1** | **-** | **-** | **86** |
| з іх дзяржаўных | 48 | - | - | - | - | - | - | - | 48 |
| з дапамог. ад Ураду | 13 | 4 | - | - | 1 | - | - | - | 18 |
| прыватных | 3 | 13 | 1 | 2 | - | 1 | - | - | 20 |
| **IV. Гімназіі і спэцыяльныя школы** | **36** | **11** | **3** | **1** | **-** | **1** | **-** | **-** | **52** |
| урадовых з іх | 18 | - | - | - | - | - | - | - | 18 |
| з дапамог. ад Ураду | 16 | 8 | 1 | 1 | - | 1 | - | - | 26 |
| прыватных | 3 | 3 | 2 | - | - | - | - | - | 8 |

якая гавора сама за сябе і ў якой выяўлены буйны ўзрост расейскае школы за кошт беларусаў. Табліца гэтая мае загаловак — „Свѣдѣнія о русскихъ и бѣлорусскихъ школахъ за время 1920—1929 гг.“ — і выглядае гэтак: гл. табліцу 3.

Зьвярніце ўвагу на тры рэчы: па-першае, у табліцы нідзе не адзначана асобна колькі ёсьць расейскіх і беларускіх школ[49]; па-другое, чым больш павялічваецца лічба школ, тым меншаю аказваецца лічба вучняў у беларускіх школах; нарэшце трэцяе, самае галоўнае — у 1921 г. лічба вучняў-беларусаў была нямаль аднальковая з лічбай вучняў у расейскіх школах (разам у беларусаў і расейцаў 274 вучня, а з іх у беларусаў — 105 вучняў), а зараз лічба беларускіх вучняў зышла зусім на нет. Якая лічба вучняў-беларусаў была ў 1920 г. — зусім не паказана. Ці ня была яна большаю за лічбу вучняў-расейцаў?

Чаму так памяншаўся з году ў год лік вучняў-беларусаў?

Мы лічым, што ў гэтым вінны той настаўнік-расеец, які ў гэтай школе працаваў і які лічыў сваім „патрыётычным“ абавязкам перарабіць беларускую школу на расейскую.

Пры разглядзе ўсіх гэтых табліц, паўстае пытаньне:

А як-жа зара’, у 1932 г., стаіць справа беларускае школы ў Літве? Ці няма якога-колечы палепшаньня?

— Нічога падобнага! — Зара’ ў Літве ўжо няма ніводнае беларускае школы!

## IV. Ці вялася ў Літве да 1932 г. беларуская грамадзкая праца?

Так стаіць справа на груньце асьветным. Што да галіны эканамічнай і палітычна-грамадзкай, дык тутака беларуская меншасьцёвая справа ў Літве стаіць таксама кепска: ніякіх арганізацый беларускіх, якія займаліся бы гэтымі справамі, у Літве зусім няма. Была ў 1925 г. зроблена спроба арганізаваць у Коўне Беларускі нацыянальны камітэт і аб’яднаць каля яго беларускае грамадзтва, аднак праца гэтая не атрымала патрэбнага разьвіцця. Камітэт быў створаны, але, дзякуючы негатыўнаму адношаньню да яго з боку некаторых уплывовых літоўскіх урадоўцаў і з боку супрацоўнічаўшых зь літоўскім міністэрствам міжнарадовых спраў гр. гр. В. Ластоўскага і К. Душэўскага, Беларускі нацы-

[49] Па прыватных зьвестках, якія да нас дайшлі, у Літве было тры беларускія школы.

Табліца 3

| На 1-е студзеня | Лічба расейскіх і беларускіх школ | Камплектаў клясавых у іх | Вучыцялёў у іх | Вучняў у школах | | | %% да агульнае лічб. вучняў у Літве | Лічба вучняў у беларускіх школах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | хлапцоў | дзяўчат | разам | | |
| 1920 | 3 | 3 | 3 | 79 | 81 | 160 | 0,20 | - |
| 1921 | 4 | 5 | 3 | 139 | 135 | 274 | 0,25 | 105 |
| 1922 | 6 | 7 | 8 | 309 | 258 | 567 | 0,47 | 115 |
| 1923 | 11 | 15 | 15 | 390 | 304 | 694 | 0,59 | 58 |
| 1924 | 12 | 16 | 16 | 412 | 349 | 761 | 0,65 | 36 |
| 1925 | 12 | 17 | 17 | 416 | 356 | 772 | 0,63 | 34 |
| 1926 | 12 | 17 | 17 | 450 | 350 | 800 | 0,68 | - |
| 1927 | 17 | 23 | 23 | 506 | 349 | 855 | 0,70 | 32 |
| 1928 | 18 | 23 | 23 | - | - | 860 | - | 32 |
| 1929 | 22 | 27 | 27 | - | - | 950 | - | - |

янальны камітэт у Літве не зрабіўся беларускай грамадзкай меншасьцёвай арганізацыяй для абслугоўваньня тых беларусаў, што маюць літоўскае грамадзянства, а ператварыўся ў беларускую эмігранцкую арганізацыю. Зусім зразумела, што заданьнем эмігранцкае арганізацыі не зьяўлялася, і не магла зьяўляцца праца над аб'яднаньнем і культурна-асьветным абслугоўваньнем беларускае меншасьці ў Літве, а таму Беларускі нацыянальны камітэт нічога і не зрабіў для нацыянальнага ўсьведамленьня і арганізацыі гэтае беларускае меншасьці[50]. Ня дзіва, што цэлы шэраг нават нацыянальна-сьвядомых беларусаў-праваслаўных быў уцягнены расейцамі (з браку беларускіх арганізацый) у арганізацыі расейскія, як эканамічныя, так і палітычныя, і дабрачынныя, і нават культурна-асьветныя. З гэтай-жа прычыны шмат беларусаў-каталікоў апынулася ў арганізацыях польскіх. Гэта надзвычайна ненармальна ўмацоўвала стан расейцаў і палякаў у Літве, біла па беларускай меншасьці і перашкаджала яе арганізацыі.

Беларускае сялянства па валасьцёх і беларускае жыхарства па гарадох, ня маючы сваіх беларускіх арганізацый, хочучы-няхочучы, павінна было зьвяртацца да грамадзкіх арганізацый іншых славянскіх нацыянальнасьцяў і, такім чынам, трапляла ў асяродак чужых і варожых беларускаму нацыянальна-сацыяльнаму адраджэньню ўплываў. І чым больш складаным і цяжкім у апошнія гады рабілася жыцьцё беларускага селяніна і ня маючага сталага заробку беларускага інтэлігента ды гарадзкога працаўніка — тым часьцей яны павінны былі зьвяртацца за парадамі ў чужыя арганізацыі і тым больш псыхолёгічна адрываліся ад роднага караня і аддаляліся ад думкі аб патрэбе ўласнае беларускае самаарганізацыі.

Адзінае, што здолелі зрабіць беларусы ў Літве, гэта — выпусьціць некалькі добрых кніжак. Але гэта справа была праароблена не беларускім грамадзтвам у Літве, не беларускаю меншасьцю, а паасобнымі пэрсонамі, нямаль выключна адным гр. Вацлавам Ластоўскім ды ягоным супрацоўнікам К. Дуж-Душэўскім. Гэтая выдавецкая справа, пры ўсёй яе безумоўнай і вялікай вартасьці, аднак зьяўлялася працаю аднабаковаю і ні ў якой меры не дапамагала самаарганізацыі беларускае грамадзкасьці і беларускае меншасьці ў Літве[51]. У апошнія-ж чатыры-

[50] На працы Беларускага Нацыянальнага Камітэту мы ў данным нарысе не спыняемося, бо праца яго была ўвонках жыцьця беларускае меншасьці.

[51] Цікава, дарэчы, тутака адзначыць, што беларуская выдавецкая справа ў Літве была зьвязана, чамусьці, не зь Міністэрствам асьветы, што было-б⇨

пяць год, з ад’ездам з Коўны гр. В. Ластоўскага, і гэтая выдавецкая справа зусім спынілася.

Такім чынам, мы можам канстатаваць, што беларускай грамадзкай працы сярод беларускае нацыянальнае меншасьці ў Літве да гэтага часу не вялося.

Ня можна тутака не адзначыць яшчэ аднэй дужа характэрнай рысы, добра вымалёўваючай з боку псыхолёгічнага настроі значнай лічбы беларускіх інтэлігентаў у Літве, а таксама і настроі некаторай часткі літоўскага грамадзтва, прыхільнага да беларусаў. — Гэтыя грамадзяне, вось ужо ў працягу амаль дзесяцігодзьдзя, ніяк не могуць пазбавіцца ад зачараваньня тае пары „вялікіх плянаў“ і „вялікіх пачынаньняў“, якія намячаліся ў эпоху цеснага беларуска-літоўскага дзяржаўнага супрацоўніцтва, у чатырохлецьце — 1919, 1920, 1921 і 1922 гадоў[52]. Тады ніхто не затрымоўваўся на „малых“ справах, тады ніхто не цікавіўся „малаю рольлю“. Пляны і маштабы былі надзвычай вялікія, адкрываліся шырокія пэрспэктывы і для працы, і для асобных адзінак. На фоне гэтых пэрспэктыў пытаньне аб арганізацыі беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літвы здавалася настолькі дробным, што аб ім ня варта і гутарыць — большасьць грамадзян, як мы ўжо казалі вышэй, проста гэтага пытаньня не заўважала. Зара’ сытуацыя ўжо зусім ня тая — яна даўно ўжо і рашуча зьмянілася, але „пляны“ і „надзеі“ на нейкую зьмену, на зварот старой сытуацыі і старых магчымасьцей усё яшчэ жывуць у некаторых сэрцох і ўсё яшчэ перашкаджаюць некаторым грамадзянам спусьціцца да роўні „малых“, штодзённых спраў і інтарэсаў малога маштабу.

## V. Першыя крокі на шляху да аб’яднаньня беларускае меншасьці ў Літве

За апошні год у жыцьці беларускае меншасьці ў Літве наступіў некаторы пералом. Пад напорам беларускае грамадзкасьці беларускія дзеячы ў Літве, пачынаючы з лета 1931 г., заварушыліся і ўзяліся за арганізацыйную працу над аб’яднаньнем беларускае меншасьці. Пас-

⇨ зусім нармальна для гэткае паважнае культурнае справы, а зь Міністэрствам міжнарадовых спраў, што надавала ўжо справе характар нейкае палітычнае акцыі. Трэба спадзявацца, што культурна-асьветная праца беларускае меншасьці ў Літве ў далейшым ня будзе пад апекаю Міністэрства замежных спраў, а будзе мець зьвязкі зь Міністэрствам асьветы і самаўрадамі.

[52] Глядзі наш нарыс „Да гісторыі беларуска-літоўскага дзяржаўнага сапрацоўніцтва ў 1918—1922 гадох“.

ля шэрагу нарад увосені мінулага году стварылася ініцыятыўная група, з гр. гр.: Сымонам Якавюком, Каралінай Плескачэўскай і Васілём Барысовічам на чале, якая апрацавала статут „Беларускага культурна-асьветнага таварыства ў Літве“ і падала яго на зацьверджаньне.

Нямаль усю зіму 1931—1932 гг. цягнулася справа разгляду і зацьверджаньня статуту адпаведнымі літоўскімі ўладамі, і толькі 28 лютага 1932 г. адбыўся, нарэшце, першы агульны ўстаноўчы сход новастворанага беларускага таварыства.

На сходзе гэтым прысутнічала 37 асоб, якія абралі першае Праўленьне Т-ва ў складзе: старшыні — С. Якавюка, намесьніка старшыні — А. Матача, скарбніка — К. Плескачэўскай, сакратара — С. Дзядзевіча, сябры праўленьня — Г. Радзюка і кандыдатаў — Я. Ясінскага і В. Барысовіча. Часовае бюро Т-ва адчынілася ў Коўне на Лайсвейс алее №26.

Сваім першачарговым заданьнем новастворанае Таварыства лічыць, як гэта можна ўгледзіць з §6 статуту Т-ва, — арганізацыю беларускае меншасьці і працу над узаемным беларуска-літоўскім культурным еднаньнем. Памянёны параграф статуту Т-ва кажа аб гэтым так:

*„Мэты Т-ва: а) злучыць усю меншасьць беларускае нацыянальнасьці — як места Коўна, так і ўсёй Літоўскай Рэспублікі — на падставах здаровай культурна-нацыянальнай працы; б) рупіцца аб таварыскім зьбліжэньні зь літоўскімі грамадзкімі дзеячамі, каб узгадаваць маладое беларускае пакаленьне ў духу літоўскае дзяржаўнасьці і закаханьня да літоўскае культуры; в) пашыраць сярод беларусаў нацыянальную культуру; г) выховываць культурна-грамадзкіх дзеячоў; д) рупіцца аб фізычным выхаванні беларускае моладзі“*.

Маладое Т-ва было шчыра прывітана ўсім беларускім грамадзтвам, як у Літве, гэтак і ў Заходняй Беларусі, і ў Латвіі, і за межамі, бо ўсе бачылі ў ім пачатак самаарганізацыі беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літоўскае Рэспублікі. У сваіх прывітаньнях шмат хто з адказных беларускіх дзеячоў выразна падкрэсьліў гэтую ролю Беларускага культурна-асьветнага таварыства ў Літве і выказаў надзею, што Т-ва сьвядома абмяжуецца ў сваёй працы чыста меншасьцёвымі культурна-асьветнымі заданьнямі, бо якраз у гэтым кірунку зараз ляжыць цэнтр вагі беларускае працы ў Літве.

За кароткі час свайго існаваньня Беларускае культурна-асьветнае таварыства ў Літве ўжо здолела адчыніць у Коўне свой невялічкі клюб пад назовам „Беларуская хатка“, які зьмяшчаецца на вуліцы Крашэўскага №34, у будынку старшыні Т-ва гр. С. Якавюка. Клюб мае залю і сцэну для тэатральных пастановак, якія ўжо і ладзяцца Драматычнаю дружынаю Т-ва, пад рэжысураю гр. К. Плескачэўскай. Першая паста-

ноўка адбылася ў дзень адкрыцьця клюбу — 1 траўня 1932 г. Ставілася п'еса-жарт А. Радзевіча „Зьбянтэжаны Саўка".

Зара' Т-ва прыступіла да закладаньня сваіх аддзелаў у правінцыі. Першы правінцыйны аддзел — у месце Мерачы — адчынены 24 красавіка. На ўстаноўчым сходзе ў Мерачы прысутнічала 30 асоб, якія абралі праўленьне Мерачскага аддзелу ў складзе: старшыні — М. Ёзайціса, сакратара — Я. Казуна, скарбніка — М. Гардзейчыка і кандыдата ў праўленьне — А. Белавусава.

Другі правінцыйны аддзел Т-ва адчыніўся ў Бразэлі Мусьнінскае воласьці Вілкамірскага павету. Старшынёй Бразэльскага аддзелу абраны гр. Антон Матач, намесьнікам старшыні — Клім Герасімчык, а сакратаром — Сьцяпан Матач. Зара' ідзе падрыхтоўка да закладзінаў трэцяга аддзелу Т-ва ў горадзе Зарасаю (Нова-Аляксандраўск).

Пасьля стварэньня шэрагу аддзелаў, Т-ва мае на мэце склікаць канфэрэнцыю беларускае меншасьці ў Літве і дамагацца адчыненьня беларускіх школ, вучыцельскае сэмінарыі і водпуску зь дзяржаўнае і самаўрадовых бюджэтаў дапамогі на беларускую нацыянальна-асьветную працу ў Літве.

Тым часам Ковенскае цэнтральнае праўленьне не пакідае і бягучае працы сярод беларускага жыхарства ў Коўне: так 11 чэрвеня ў зале Ратушы адбыўся канцэрт-баль, на якім зь беларускімі сьпевамі выступала гр. А. Латонас; 12 чэрвеня Драматычнаю дружынаю Т-ва пастаўлены быў у сваім клюбе „Беларуская хатка" 2-гі спэктакль у гэтым сэзоне, шла пьеса Ф. Аляхновіча „Чорт і Баба"; 16 ліпеня ў зале клюбу Т-ва адбыўся 3-ці спэктакль, на якім ставілася камэдыя Крапіўніцкага „Пашыліся ў дурні"; 6 жніўня Драматычная дружына Т-ва выяжджала на аўтабусе зь першаю пастаноўкаю ў правінцыю, быў зладжаны першы спэктакль у Бразэльскім аддзеле Т-ва, ставілася камэдыя А. Радзевіча „Зьбянтэжаны Саўка", і ўпершыню выступаў вясковы Беларускі хор, закладзены пры Бразэльскім аддзеле грамадзянінам А. Матачом.

Такім чынам, трэба канстатаваць, што праца маладога Беларускага культурна-асьветнага таварыства ў Літве разьвіваецца зусім памысна і ўжо мае дзе-якія вынікі і посьпехі.

## VI. Трэба усьцерагчыся ад паўтораньня памылак мінулага

Мы, са свайго боку, са шчырай радасьцяй вітаемо гэтае абуджэньне беларускае меншасьці ў Літве, бачым у ім пачатак рэальнае культурна-асьветнае працы і жадаемо яму поўнага посьпеху.

Аднак, вітаючы стварэньне беларускага меншасьцёвага Культурна-асьветнага т-ва, мы хочам перасьцярэч беларускую грамадзкасьць ад паўтораньня шкодных памылак, зробленых у 1925 г. пры закладзінах Беларускага нацыянальнага камітэту ў Літве. У той час ня ўсе сьвядомыя беларускія дзеячы зразумелі ўсю важнасьць стварэньня беларускае грамадзкае арганізацыі ў Коўне. Дзе-хто, асабліва гр. Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі, які звыш меры завалены быў тады выдавецкай працай і зьвязанымі зь ёй клопатамі, палічыў стварэньне Нацыянальнага камітэту за лішняе, за непатрэбнае і нават некарыснае пачынаньне. Седзячы за лістамі карэктуры і рукапісамі, ня змог ён у належнай меры ацаніць тагачасную сытуацыю, а будучы стомлены выдавецкай працай і баючыся, што Камітэт, будзе перашкаджаючым тормазам наладжанаму ім выдавецтву, заняў супроць Нацыянальнага камітэту і яго арганізатараў варожую пазыцыю. Гэтая безгрунтоўная і неразумная варожасьць выклікала вострыя спрэчкі паміж гр. В. Ластоўскім і беларускім грамадзтвам, аб'яднаўшымся каля Камітэту, разьбіла беларускія сілы ў Літве на два варожыя лягеры, ускладніла і аслабіла працу Нацыянальнага камітэту ды, урэшце, ударыла і па самому В. Ластоўскаму і ягоных выдавецкіх пачынаньнях, якія хутка былі спынены.

Горш за ўсё, што гэтыя ганебныя спрэчкі не былі зьліквідаваны ў нэтрах самой беларускай грамадзкасьці ў Літве, а былі вынесены за межы яе. Абедзьве стараны, асабліва гр. В. Ластоўскі, выступалі ў літоўскай прэсе і такім спосабам ўцягнулі зьдзіўленае літоўскае грамадзтва ў ролю сьведкі і судзьдзі беларускіх унутрашніх непаразуменьняў. Змушана было ў гэтай спрэчцы выказацца і беларускае грамадзтва ў Заходняй Беларусі, у Латвіі і ў эміграцыі, бо ўсюль беларусы былі ўсхвалявана наяўнай бязглуздасьцяй і шкоднасьцяй гэтае барацьбы[53].

Літоўскае грамадзтва ў гэтай спрэчцы выявіла сябе па-рознаму: прыхільнікі беларусаў стараліся ўразуміць гр. В. Ластоўскага, спыніць далейшае паглыбленьне барацьбы і давясьці беларускае грамадзтва да паразуменьня; ворагі беларускага адраджэньня, лятуцеўшыя за кошт беларусаў нешта здабыць для Літвы, — наадварот, падтрымлівалі В. Ластоўскага, і, кіруючыся лёзунгам „Падзяляй і ўладарствуй!“, пад-

[53] Глядзі газэты: „Голас Беларуса“. Рыга, 1925. №№4, 5, 6, 8, 10, 16; „Жыцьцё Беларуса“. Вільня, 1925. №№1, 3, 10; „Bielaruskaja Krynica“. Wilnia, 1925. №35; „Грамадзкі Голас“. Вільня, 1925. №31 (85) ды іншыя. Больш падрабязна справа гэтая разглядаецца намі ў кніжыцы „Беларускае адраджэньне і літоўская палітыка“, якая зара' падрыхтоўваецца да друку.

бухторывалі яго на новыя выпады супроць Беларускага нацыянальнага камітэту, каб паглыбіць унутрашняе змаганьне сярод беларусаў; рэшта ліцьвіноў ставілася да гэтае спрэчкі індыфэрэнтна, назіраючы яе як вясёлы фарс, што, зусім зразумела, мала гонару рабіла для беларускае справы.

Было-б дужа прыкра, проста злачынна, калі-б і зара', хаця-ж бы ў самай аддалёнай меры, з чыёй бы то ні было віны, магла бы паўтарыцца гэтая бязглуздасьць. І мы маемо надзею, што беларускае грамадзтва і паасобныя беларускія працаўнікі добра гэта разумеюць і ніколі не дадуць сябе справакаваць на ўнутрашняе, зусім зараз непатрэбнае марнаваньне сіл у такі адказны момант, як закладзіны падвалінаў пад гмах беларускае меншасьцёвае працы ў Літве.

Яшчэ адна дужа важная заўвага: беларуская меншасьць зможа моцна арганізавацца і прадукцыйна працаваць над сваёй асьветай і школай, калі пачынальнікі беларускага меншасьцёвага руху ў Літве самым найцясьнейшым чынам зьвяжуць сябе і сваю працу з працоўным людам, бо беларускае інтэлігэнцыі ў Літве зара' нямнога, ды і наагул — калі ствараць меншасьцёвы рух толькі дзеля таго, каб абмяжавацца арганізацыяй беларускае інтэлігэнцыі і зусім прайсьці міма рабочых і сялян, дык тады няварта нічога і пачынаць, бо сіла беларускае меншасьці будзе не ў інтэлігэнцыі, а ў сялянска-работніцкай масе і ў ступені яе сьвядомасьці. Калі блюза беларускага рабочага і работніцы ды сярмяга селяніна будуць толькі выпадковымі і другаразраднымі гасьцямі на беларускіх вечарынах і сходах — дык рух беларускі ў Літве ніколі не набудзе моцы і шырыні. Калі-ж блюза і сярмяга будуць адчуваць сябе гаспадарамі ў „Беларускай хаце", калі яны будуць дзейнымі сябрамі арганізацыі і калі сучасныя кіраўнікі беларускае меншасьці стануць на шлях еднаньня з працоўнымі, дык беларусы ў Літве будуць мець усё, што ім па праву, як кожнай нацыянальнай меншасьці, належа.

Праца папярэдніх беларускіх арганізацый і ўстаноў у Коўне тым і была слабая, што яна ня выходзіла са сьцен канцылярый і габінэтаў і нямаль зусім ня мела ніякага стыку зь беларускім працоўным людам, што жыў і жыве ў Коўне. Гэта было найбольшай памылкай папярэдніх працаўнікоў, ня кажучы ўжо аб тым, што некаторыя паасобныя адзінкі з іх, вызначаючы ў тэорыі *„каханьне да роднага народу"*, у практыцы з мала схаванаю пагардаю ставіліся да простага працоўнага люду і баяліся, ды і ня ўмелі, падыйсьці да яго бліжэй і шчыра працягнуць яму руку. І хоць такіх адзінак было нямнога і хоць яны не займалі каманду-

ючага становішча ў беларускай працы, аднак іх настроі стваралі недапушчальную атмасфэру наўкола беларускіх устаноў і ізалявалі гэтыя ўстановы ад беларускіх мас.

Зара' беларуская праца павінна абапірацца ня толькі на высокакваліфікаваныя адзінкі, якая бы не была велічыня іхняе індывідуальнае вартасьці, але, галоўным чынам, на шырокія працоўныя масы. Для працоўных мас і разам з імі павінны працаваць беларускія адраджэнцы.

## VII. Пэрспэктывы на будучыню

Ці ёсьць патрэбныя абставіны і ўмовы для пасьпяховае беларускае адраджэнчае працы ў межах сучаснае Літвы? Ці ёсьць самая патрэба ў беларускай культурна-асьветнай працы на Літве? І ці варта рабіць высілкі для ўсьведамленьня і арганізацыі беларускае меншасьці ў Літоўскай Рэспубліцы ў сучасны момант?

На ўсе гэтыя пытаньні мы адказваем рашуча і катэгарычна — так, ёсьць і патрэбна!

Існаваньне беларускага жыхарства ў межах сучаснае Літвы ёсьць факт, якога ніхто не адкідае. Пытаньне аб дакладнай лічбе беларусаў хай астаецца пакуль што яшчэ спрэчным, але бяспрэчна тое, што якою бы ні была лічба беларускае меншасьці — яна мае свае нацыянальна-культурныя правы і патрэбы, якія павінны быць задавальнёны. Канстытуцыя Эстонскай Рэспублікі, напрыклад, прадугледжывае, што наяўнасьць у Эстыі якой-колечы народнасьці ў лічбе хаця-ж-бы аднае тысячы чалавек ўжо дае ёй правы на нацыянальна-культурную аўтаномію, на стварэньне сваіх асьветных устаноў і арганізацыю меншасьцёвага прадстаўніцтва. Некалькі тысячаў беларускага жыхарства ў Літве не павінны быць пакінуты на далейшае русіфікаваньне і палёнізацыю — яны павінны быць далучаны да агульнага беларускага адраджэнчага руху. Знача, тым самым, перад беларускімі арганізацыямі і нацыянальна-сьвядомымі адзінкамі ўжо паўстае зусім рэальная ідэёвая мэта, і ня трэба шкадаваць сіл і працы для яе пасьпяховага зьдзяйсьненьня.

Жывое беларускае слова, беларускія тэатральныя пастаноўкі, беларуская песьня, кніга і школа — зробяць сваю працу і павернуць і замацуюць за беларускім народам тых, каго ён пачаў ужо губляць у Літве. З гэтага пункту гледжаньня кірунак працы, узяты Беларускім культурна-асьветным т-вам у Літве — зусім правідловы. Патрэбна толькі, з адна-

го боку, каб тэмпы ягонае працы былі ведзены з належная энэргіяй і напружанасьцяю, а з другога боку, каб Літоўская дзяржава прыйшла Т-ву на дапамогу.

Тут зь вялікаю прыемнасьцю, адмячаемо мы той факт, што сярод літоўскага грамадзтва таксама заўважаецца ўжо, быццам, нейкае жаданьне пайсьці беларусам на спатканьне і дапамогу. Так: у часопісу *„Musu Vilnius“* зьявіўся ўжо шэраг зацемак аб жыцьцю беларусаў у Віленшчыне, а таксама і больш шырокія стацьці гр. Выгандаса, якія атрымалі ўжо спрыяючы водгук і ў беларускай прэсе, як у Латвіі так і замежамі[54]; вядомы літоўскі вучоны і палітычны дзеяч праф. Мікола Біржышка ў сваіх лекцыях заклікае да актыўнае дапамогі беларусам Заходняе Беларусі і кажа, што безь беларусаў канчаткова вырашыць пытанне аб Вільні літвіны ня змогуць; публіцыста Д. Пусгудзіс толькі ў супрацаўніцтве зь беларусамі і ўкраінцамі бачыць магчымасьць даць адпор захватніцкім імкненьням Польшчы. Усё гэта даводзіць аб нейкім зруху ў бок беларусаў сярод ідэёвых павадыроў літоўскае грамадзкасьці. Самае-ж галоўнае зара’ — гэта тое, што ўжо і шырокія інтэлігэнцкія і народныя літоўскія масы пачынаюць разумець патрэбу шчыльнага літоўска-беларускага супрацоўніцтва, пачынаюць разумець, што беларусы, нягледзячы на іх сучасную нібыта слабасьць і расьцярушанасьць, зьяўляюцца надзвычайна важнай сілай і адзіным, сапраўды надзейным хаўрусьнікам у агульным змаганьні з польскім імпэрыялізмам. Гарачае прыймо, якое бачылі беларусы падчас экскурсыі ў Зарасай, зьяўляецца найлепшым доказам таго, што ідэя беларуска-літоўскага сяброўства пачынае патроху прывівацца і ў масах.

Як бачым, літоўская грамадзкая думка, калі гавора аб беларуска-літоўскім супрацоўніцтве, дык разумее яго ва ўсёй шырыне і адразу выносіць яго за межы сучаснае Літоўскае дзяржавы. Гэта зусім зразумела. І хаця сёнека зь беларускага боку ідзе гутарка толькі аб арганізацыі беларускае меншасьці ў межах сучаснае Літвы і ў гэтым напрамку сканцэнтраваны зара’ высілкі і праца беларускага грамадзтва, што аб’едныываецца патроху каля Беларускага культурна-асьветнага т-ва ў

[54] Глядзі: 1) газэту „Думка Беларуса“. Дзьвінск, 15.VII.1932. №3 — „Што кажуць і пішуць аб беларусох?“; 2) газэту „Беларуская Трыбуна“. Чыкаго, 14.X.1931. №9 — „Літовец к беларусам“ і №10, 15.III.1932. — „Беларус к літоўцам“; 3) штомесячнік „Беларуская школа ў Латвіі“. Рыга, 1932. №№1 (11), 2 (12) і 3 (13) — „Беларусы ў Літве“ і №4 (14) — „Да беларуска-літоўскіх адносін“; 4) газэту „Беларускі звон“. Вільня, 23.VII.1922. №21 (46) — „Беларусы ў Літве. Беларускае школьніцтва“.

Літве, аднак мы лічым карысным і патрэбным сказаць дзе-колькі слоў і аб больш шырокім маштабе беларуска-літоўскага супрацоўніцтва. Пры гэтым трэба, зразумела, зазначыць, што гэтае больш шырокае супрацоўніцтва не зьяўляецца ўжо кампэтэнцыяй памянёнага Беларускага культурна-асьветнага т-ва, а для яго правядзеньня ў жыццё трэба будзе шукаць іншых шляхаў і арганізацый.

Адкуль ідуць гэтыя гутаркі аб больш шырокім літоўска-беларуска-ўкраінскім супрацоўніцтве? Дзе іх прычына і крыніца? — Справа ў тым, што калі Польшча ў 1919—1921 гадох захапіла беларускія і ўкраінскія абшары ды частку зямель, заселеных літвінамі, дык дзе-хто спадзяваўся, што з Польшчай *„магчыма будзе дагутарыцца“*, што ўсё *„разьвяжацца само-сабой“*, а не — дык за беларусаў, украінцаў і літвіноў заступяцца вялікія дзяржавы. Аднак, ішоў год за годам. Сучасная Польшча выявіла свой твар, і пачаліся расправы і надужыцьця над акупаванымі народамі, а ніхто і не падумаў за іх заступіцца. І вось надзеі на тое, што хтосьці збоку, Ліга Нацый ці Гаагскі міжнарадовы трыбунал, у парадку міжнароднага права і справядлівасьці, аддасьць беларусам уладу ў Заходняй Беларусі, украінцам у Галічыне і Валыні, і літвіном кавалак Віленшчыны — разьвеяліся без астачы ў самых аптымістычных і ідэялістычных галовах. Для ўсіх трох народаў зусім ясна стала, што толькі шляхам нацыянальна-культурнае працы і сацыяльна-грамадзкага змаганьня ў гэтых краінах змогуць беларусы, літвіны і ўкраінцы перамагчы акупанцкую навалу. Зара’ беларусы, як і ўкраінцы, упарта змагаюцца. Аднак, для пасьпяховага змаганьня патрэбны забясьпечаны тыл, які даваў бы магчымасьць адпачынку і падрыхтоўкі да новае барацьбы, інакш паасобныя адзінкі гінуць у бязупынным змаганьні, бо змушаны здавацца на міласьць пераможцаў. І беларусы шукаюць гэтага забясьпечанага тылу ўсюль, дзе толькі магчыма.

Калі-б у межах сучаснае Літвы беларусы знайшлі надзейны прытулак ад рэпрэсій акупанцкае ўлады, калі-б беларуская моладзь мела магчымасьць празь Літву здабываць сабе асьвету і папаўняць кадры сьвядомае беларускае інтэлігэнцыі, калі б у Коўне ці Зарасаю стварыўся новы беларускі культурна-асьветны і выдавецкі цэнтр, ды калі-б Заходняя Беларусь наагул больш рэальна адчула зацікаўленасьць і клопаты аб ёй зь літоўскага боку, — гэта дало-б літвіном ня толькі прыхільнасьць і прыязьнь зь беларускага боку, але і стварыла бы запраўдны грунт для больш шырокага і пляновага беларуска-літоўскага супрацаўніцтва.

Вяртаючыся да беларускае меншасьцёвае справы ў Літве, трэба вызнаць, што яна мае перад сабой добрыя пэрспэктывы, што асновы яе

самаарганізацыі ўжо закладзены і закладзены добра і што літоўскае грамадзтва пачынае ўжо нанова выяўляць да беларусаў сваю зацікаўленасьць і прыхільнасьць. Калі і надалей нішто не сапсуе распачатае справы, дык беларусы хутка змогуць пабачыць у Літве беларускую нацыянальна-культурную аўтаномію зьдзейсьненым фактам.

Мы шчыра жадаем, каб гэта адбылося як мага хутчэй.

*Рыга. 10 жніўня 1932 г.*

## У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва выйшлі наступныя кнігі:

*у „Бібліяграфічнай сэрыі“:*

1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе.** Нью Ёрк, 1985. — 350 с.
2. **Byelorussian Statehood.** New York. 1988. — 398 p.
3. **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны.** Нью Ёрк, 1989. — XXVIII+283 с.
4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.** Том I. Кн. 1—2. Вільня—Нью Ёрк—Менск—Прага, 1998. — 1721 с.
5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі.** Нью Ёрк—Менск, 2002. — XXXIII+570 с.
6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью Ёрк—Менск, 2003. — XXII+582 с.
7. **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography — Periodicals = **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Бібліяграфія — Часапісы, газэты. New York, 2004. —XX+152 с.
8. *Vitaut Kipel, Zora Kipel.* **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

**у сэрыі „Гісторыя эміграцыі“:**

1. *Ян Максімюк.* **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950).** Нью Ёрк—Беласток, 1994. — 196 с.
2. *Янка Запруднік.* **Дванаццатка:** Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.
3. *Лявон Юрэвіч.* **Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў „Бацькаўшчына“ й „Беларус“ (1947—**

**2000)**. Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 8).

4. *Барыс Рагуля.* **Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае.** Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 188 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 10).

5. *Алег Гардзіенка.* **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА).** Смаленск, 2009. — 428 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 16).

6. *Юры Гарбінскі.* **Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005.** Нью Ёрк—Варшава, 2009. — 884 с. + CD.

7. *Лявон Юрэвіч.* **Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні.** Мінск: Кнігазбор, 2012. — 660 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 20).

8. *Дзмітры Сямёнаў.* **Дзённік. 1943—1947.** Мінск: Медысонт, 2012. — 334 с. (Бібліятэка часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд“, 23).

9. *Лявон Юрэвіч.* **Жанры.** Мінск: Кнігазбор, 2013. — 528 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны, кн. 21).

10. *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч.* **Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы.** Мінск: Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 22).

11. *Jan Zaprudnik.* **Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948—2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011).** New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

*у сэрыі „Беларускія паэты й пісьменьнікі“:*

1. *Натальля Арсеньнева.* **Між берагамі:** Выбар паэзіі. Нью Ёрк—Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

2. *Алесь Салавей.* **Нятускная краса:** Збор твораў. Нью Ёрк—Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

3. *Аляксандра Саковіч.* **У пошуках праўды:** Апавяданьні й аповесьці. Нью Ёрк—Кліўлэнд, 1986. — 254 с.

4. *Міхась Кавыль.* **Міжагнёўе:** Выбраныя творы. Нью Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

5. *Уладзімер Дудзіцкі.* **Напярэймы жаданьням:** Збор твораў. Нью Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

6. *Мікола Цэлеш*. **Хмары над Бацькаўшчынай:** Апавяданьні. Нью Ёрк, 1995. — XXXV+299 с.

7. *Юрка Віцьбіч*. **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.** Нью Ёрк, 1996. — XVI+397 с.

8. **Архіўная кніга /** Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч*. Нью Ёрк, 1997. — 446 с.

9. *Лявон Крывічанін*. **Беларусізацыя пад №...** Нью Ёрк, 1998. — 164 с.

10. *Лявон Юрэвіч*. **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** Нью Ёрк, 1999. — 360 с.

11. *Антон Адамовіч*. **Творы.** Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

12. **Урачыстасьць у садзе:** Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укладаньне і прадмова *Ванкарэма Нікіфаровіча*. Менск: Медысонт, 2007. — 536 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 14).

13. *Уладзімер Дудзіцкі*. **Творы.** Мінск: Лімарыус, 2010. — 400 с. — (Галасы Айчыны).

14. *Юрка Віцьбіч*. **Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза.** Мінск: Кнігазбор, 2011. — 232 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 19).

15. *Янка Юхнавец*. **Паэзія.** Мінск: Лімарыус, 2012. — 620 с. — (Галасы Айчыны).

16. *Лявон Савёнак*. **Творы**. Мінск: Лімарыус, 2012. — 352 с. — (Галасы Айчыны).

